НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры
Філіял «Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа
і Янкі Купалы»

# МОВА
# СЕННЕНШЧЫНЫ

*Дыялектны слоўнік*

У двух тамах

## Том 1

***А – О***

Мінск
«Беларуская навука»
2015

УДК 811.161.3'282'374(476.5)(038)
ББК 81.2Беи-4
М61

Укладальнікі:

Н. М. Бунько, В. М. Курцова, Ю. В. Маліцкі,
Н. В. Сівіцкая, Т. М. Трухан

Навуковыя рэдактары:

В. М. Курцова, Л. П. Кунцэвіч

Рэцэнзенты:

доктар філалагічных навук В. Д. Старычонак,
кандыдат філалагічных навук В. П. Трайкоўская

**Мова** Сенненшчыны : дыялектны слоўнік. У 2 т. Т. 1. А–О / Нац.
М61 акад. навук Беларусі, Цэнтр даслед. беларус. культуры, мовы і літ., Філ. «Ін-т мовы і літ. імя Якуба Коласа і Янкі Купалы» ; уклад.: Н. М. Бунько [і інш.] ; навук. рэд. В. М. Курцова, Л. П. Кунцэвіч. – Мінск : Беларуская навука, 2015. – 424 с.
ISBN 978-985-08-1873-7.

Слоўнік уключае рэгіянальную лексіку, сабраную пераважна на тэрыторыі Сенненскага раёна ў 80-я гады XX ст. Мясцовая гаворка жыхароў гэтай часткі Беларусі характарызуецца шэрагам адметных моўных асаблівасцей, якія вылучаюць тэрыторыю Сенненшчыны ў складзе гаворак паўночна-ўсходняга дыялекту беларускай мовы.

Разлічаны на даследчыкаў, выкладчыкаў усходнеславянскіх моў, славістаў, а таксама на фальклярыстаў, этнографаў, аматараў роднай мовы.

**УДК 811.161.3'282'374(476.5)(038)**
**ББК 81.2Беи-4**

**ISBN 978-985-08-1873-7 (т. 1)**
**ISBN 978-985-08-1861-4**

# ПРАДМОВА

Слоўнік «Мова Сенненшчыны» – гэта рэгіянальны лексікаграфічны даведнік, складзены на аснове архіўных матэрыялаў, якія захоўваліся ў аддзеле дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі Інстытута мовы і літаратуры НАН Беларусі. Гэты лексічны словазбор мае адметны навуковы статус у параўнанні з іншымі аналагічнымі лексікаграфічнамі працамі. Выбар прасторава лакалізаванай групы гаворак у складзе гаворак паўночна-ўсходняга дыялекту беларускай мовы быў прадвызначаны вынікамі іх навуковага даследавання і наступнай інтэрпрэтацыяй звестак пра іх. Здзейсненыя навукоўцамі-дыялектолагамі лінгвагеаграфічная дыферэнцыяцыя і групоўка гаворак беларускай мовы паводле рознаструктурных моўных асаблівасцей, адлюстраваных у «Дыялекталагічным атласе беларускай мовы» (ДАБМ), сведчылі, што шэраг рознаўзроўневых лінгвістычных рыс, характэрных для мясцовых гаворак, аб'ядноўваецца ў асобныя пучкі ізаглос. Гэтым самым рэгіён Сенненшчыны вылучаецца сярод гаворак, прылеглых да яго, утвараючы асобны кампактны моўны арэал[1]. Устаноўленая адметнасць стала галоўным аргументам у спецыяльным навуковым даследаванні дадзеных гаворак. Навуковы інтарэс да сенненскіх гаворак тлумачыцца таксама іншымі прычынамі. Нягледзячы на спецыяльна прынятую ў 50-я гады мінулага стагоддзя праграму па вывучэнні лексічных набыткаў гаворак Беларусі[2], адным з пунктаў якой з'яўлялася складанне «Слоўніка полацкіх і віцебскіх гаворак»[3], такі слоўнік не быў створаны. Таму зараз, дзякуючы укладанню рэгіянальнага слоўніка гаворак Сенненшчыны, будзе выканана даўняя задума беларускіх мовазнаўцаў па рэалізацыі буйнога лексікаграфічнага праекта, ідэя і канцэпцыя якога былі распрацаваны ў аддзеле дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі ў сярэдзіне мінулага стагоддзя. Тагачасны

---

[1] Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак / пад рэд. Р. І. Аванесава, К. К. Атраховіча, Ю. Ф. Мацкевіч. Мінск: Навука і тэхніка, 1968. 320 с.; Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Карты / пад рэд. Р. І. Аванесава, К. К. Атраховіча, Ю. Ф. Мацкевіч. Мінск: Навука і тэхніка, 1969; Нарысы па беларускай дыялекталогіі / пад рэд. Р. І. Аванесава. Мінск: Навука і тэхніка, 1968. 415 с.

[2] Бірыла М. В. Да пытання аб тыпе і прынцыпах укладання беларускіх абласных слоўнікаў // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мінск, 1958. Вып. V. С. 116–144.

[3] Там жа. С. 126.

план даследаваць лексічную сістэму гаворак полацка-віцебскага рэгіёна сёння ажыццёўлены часткова, паколькі навукова мэтазгодным з'яўлялася найперш вывучэнне лакальнай моўнай прасторы полацка-віцебскага рэгіёна – тэрыторыі Сенненскага раёна. Засяродзіцца на збіранні лексічнага матэрыялу з Сенненшчыны падштурхоўвалі і іншыя акалічнасці. Адзіным даведнікам, які даваў звесткі пра лексічныя адметнасці гаворак Віцебшчыны, амаль на працягу стагоддзя з'яўляўся «Віцебскі краёвы слоўнік» (1927), складзены М. І. Каспяровічам. Слоўнік М. І. Каспяровіча, хоць і ўключаў у свой склад асобныя агульнаўжывальныя ў беларускай мове словы, пераважна адлюстроўваў мясцовыя абазначальныя сродкі. Абраны, дыферэнцыяльны па сваёй сутнасці, спосаб падачы лексікі адпавядаў прынятым у 20-я гады XX ст. прынцыпам укладання краёвых слоўнікаў. Абагульненым лексікаграфічным выданнем па дэманстрацыі лексічных набыткаў усяго Падзвіння з'яўляецца «Рэгіянальны слоўнік Віцебшчыны», падрыхтаваны на кафедры беларускага мовазнаўства Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта і надрукаваны ў дзвюх частках (ч. 1 – у 2012 г., ч. 2 – у 2014 г.). Аднак гэты віцебскі словазбор па прынцыпах укладання мала адрозніваецца ад папярэдняй лексікаграфічнай працы М. І. Каспяровіча.

Лексічнай базай слоўніка «Мова Сенненшчыны» з'яўляюцца матэрыялы, сабраныя ў час дыялекталагічных экспедыцый, якія праводзіліся ў 80-я гады мінулага стагоддзя. Планавае штогадовае збіранне лексікі гаворак Сенненскага раёна супрацоўнікамі аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі тагачаснага Інстытута мовазнаўства распачалося ў 1987 г. і працягвалася да 1990 г. У 1986 г. ладзілася спецыяльная паездка навукоўцаў у Лепельскі, Чашніцкі, Бешанковіцкі і Сенненскі раёны з мэтай удакладнення моўнай прасторы абследавання. Дзякуючы знаёмству з гаворкамі памежных суседніх раёнаў Віцебшчыны апорнай тэрыторыяй даследавання сталі гаворкі Сенненскага раёна.

Пад непасрэдным кіраўніцтвам тагачаснага загадчыка аддзела П. А. Міхайлава ў Сенненскі раён было арганізавана і праведзена 8 дыялекталагічных экспедыцый. Навуковыя экспедыцыі ладзіліся двойчы на год, вясной у сакавіку і летам у ліпені. Ажыццявіць поўнае вывучэнне лексічнай сістэмы сенненскіх гаворак не атрымалася. Па шматлікіх сацыяльна-эканамічных прычынах, якія мелі месца ў нашай краіне ў 80-я гады, палявыя выезды былі спынены. Не праводзіліся і спецыяльныя дыялекталагічныя экспедыцыі з мэтай праверкі наяўнай картатэкі слоўніка ці яе папаўнення новым слоўным матэрыялам.

Пастаяннымі і актыўнымі ўдзельнікамі ўсіх палявых даследаванняў былі тагачасныя супрацоўнікі аддзела П. А. Міхайлаў, Н. У. Быкава, Ф. Д. Клімчук, А. А. Крывіцкі, С. Г. Лобач, Т. М. Трухан, А. І. Чабярук, І. Я. Яшкін. У некаторых выездах удзельнічалі В. М. Курцова і М. А. Ісачанкава. Гэтым экспедыцыйным атрадам былі ажыццёўлены запісы маў-

лення мясцовых жыхароў у многіх вёсках Сенненскага раёна, а таксама ў трох вёсках Чашніцкага раёна, прылеглых да Сенненшчыны (гл. ніжэйпададзены спіс). На аснове дыялектных запісаў была сфарміравана лексічная картатэка назапашанага словазбору. Яна стала адзінай крыніцай матэрыялаў для складання слоўніка мясцовых гаворак.

Рэгіянальны лексікаграфічны даведнік «Мова Сенненшчыны» – гэта слоўнік, які характарызуецца не толькі адметным выбарам тэрыторыі даследавання беларускіх гаворак. Дадзены лексічны збор мае і іншыя асаблівасці. Пры збіранні лексікі вялікая ўвага надавалася назапашванню інфармацыі пра традыцыйную духоўную культуру мясцовага насельніцтва: запісваліся разнастайныя малыя жанры мясцовай моватворчасці – прыказкі і іншыя адметныя выслоўі, прыкметы і павер'і з каляндарных і сямейных абрадаў, прыгаворкі, жарты, дзіцячыя лічылкі, тэксты песень і інш. Рэгістрацыя пералічанай часткі лексічных набыткаў праводзілася або ў форме словаўжыванняў, г. зн. пры рэалізацыі пэўных лексічных адзінак ці сінтаксічных канструкцый у сказах, або як асобных моўных адзінак народнай моватворчасці. Выяўленне даследчыкамі пласта мясцовых слоўных багаццяў этналінгвістычнага, этнакультурнага зместу было невыпадковым: яно вымагалася недастатковай рэпрэзентатыўнасцю матэрыялаў, адлюстраваных у «Лексічным атласе беларускіх народных гаворак». Спроба запоўніць нацыянальныя лакуны па адлюстраванні ў складзе лексічнай сістэмы гаворак слоў са сферы духоўнай культуры зроблена на прыкладзе гаворак Сенненшчыны. Гэтым падрыхтаваны словазбор істотна адрозніваецца ад наяўных лексікаграфічных прац, створаных паводле матэрыялаў з Віцебшчыны. Аднак назапашванне звестак этнакультурнага характару пры ажыццяўленні збіральніцкай працы не з'яўлялася спецыяльнай мэтай даследавання, таму праводзілася непаслядоўна. Увогуле ілюстрацыйная база падрыхтаванага ўдзельнікамі дыялекталагічных экспедыцый слоўнага каталога характарызуецца рознай напоўненасцю. У лексічным спісе, які стаў рэестрам лексікаграфічнай працы «Мова Сенненшчыны», сустракаюцца словы як з надзвычай багатай колькасцю ілюстрацый, так і без суправаджальнага моўнага кантэксту, а таксама якія маюць адзінкавыя словаўжыванні. Словы з адзінкавым словаўжываннем пры ўключэнні матэрыялаў у даведнік часам выклікалі цяжкасці не толькі ў выяўленні значэння лексемы, але і ва ўстанаўленні граматычных асаблівасцей. Іншым разам аб'ём семантыкі рэестравай адзінкі немагчыма было вызначыць дакладна з-за невыразнасці сказа, у якім выступала слова, невысокай інфарматыўнасці кантэксту. Аднак і адзінкавыя фіксацыі не былі выключаны з рэестра рэгіянальнага сенненскага лексікону, бо з улікам тых сацыяльна-моўных працэсаў, што зараз адбываюцца ў сельскім камунікатыўным асяроддзі, яны, магчыма, наогул не будуць ніколі пачуты і зафіксаваны.

Лексічны архіў слоўніка «Мова Сенненшчыны» як крыніца матэрыялаў для складання даведніка вызначаўся пэўнымі цяжкасцямі. Так, некаторыя звесткі, якія ў адпаведнасці з лексікаграфічнай практыкай змяшчаюцца ў слоўнікавым артыкуле, у картатэчным варыянце падаваліся абмежавана і непаслядоўна. Прынамсі, на кожнай картачцы-цытаце ў рэестравым слове быў пазначаны націскны склад і паслядоўна, за неістотным выключэннем, падавалася суправаджальная ілюстрацыя (ілюстрацыі). Іншая лінгвістычная інфармацыя, найперш значэнне слова, яго граматычныя характарыстыкі, а таксама функцыянальна-стылёвыя асаблівасці (пры іх наяўнасці) у базавым (картатэчным) варыянце, за выняткам некаторых матэрыялаў, падрыхтаваных асобнымі аўтарамі-збіральнікамі, звычайна не змяшчалася. У адрозненне ад недастатковай змястоўнай моўнай інфармацыі пашпартызацыя звестак была вытрымана паслядоўна. У кожнай слоўнай фіксацыі адзначалася, у якім населеным пункце, у які час, ад каго і кім было запісана слова. Нягледзячы на розную ступень верыфікацыйнасці картатэчных матэрыялаў, яны давалі агульнае ўяўленне пра характар упарадкавання слоўніка.

Паводле рэестравага складу лексікаграфічнае даследаванне «Мова Сенненшчыны» задумвалася як поўны збор мясцовай лексікі. У гэтым зборы планавалася адлюстраваць усе абазначальныя лексічныя сродкі, якімі карысталіся мясцовыя жыхары ў сваім маўленні ў 80-я гады мінулага стагоддзя. У рэестр слоўніка таксама ўваходзілі сінтаксічна звязаныя адзінкі рознага тыпу. Значная частка іх – гэта фразеалагізмы, пэўную групу ўстойлівых словазлучэнняў складаюць састаўныя тэрміны, якія маюць семантычныя варыянты агульнаўжывальных слоў.

У матэрыялах слоўніка досыць шырока прадстаўлена спецыяльная лексіка, звязаная з традыцыйнымі вытворчымі заняткамі мясцовага насельніцтва: рыбалоўствам, ткацтвам, цяслярствам, пчалярствам і інш. Але на інвентары падобных абазначальных лексічных сродкаў збіральнікі матэрыялаў спецыяльна не засяроджваліся, таму картатэка кожнага асобнага слоўнічка тэрміналагічнага характару розная па ступені яго рэпрэзентатыўнасці. Пэўную частку картатэкі склалі і лексемы, якія з’яўляюцца ў мясцовых гаворках сучаснымі запазычаннямі з рускай мовы, што адаптаваліся да фанетычнай сістэмы гаворак. У слоўнікавы рэестр былі ўключаны таксама мясцовыя воклічы і выгукі, якімі звычайна падзываюць ці адганяюць свойскіх жывёл, птушак і інш. Нарэшце, як адметныя рэестравыя словы ці словы, якія маюць асобнае лексічнае значэнне ў складзе мнагазначных слоў, змяшчаюцца ў сенненскім зборы зафіксаваныя найменні мясцовага ландшафту, ці мікратапонімы. Семантыка такіх слоў адлюстроўваецца звычайна наступным чынам:

**КАВЯРКО́Т** *м.* Назва мясціны. *Къвяркóт –назы́вішча былó* [месца]. Нямойта.

**МАЖА́ЕВА** *н.* Назва лугу. *Мъжа́ева – лух такі.* Серкуці.

Такім чынам, слоўнік «Мова Сенненшчыны» – гэта рэгіянальны слова-збор, у якім абагульняюцца і сістэматызуюцца рэальныя камунікатыўныя абазначальныя сродкі, ужывальныя ў маўленчай практыцы мясцовага насельніцтва ў канцы мінулага стагоддзя, але яго асноўны лексічны фонд складаюць традыцыйныя намінатыўныя набыткі, характэрныя для мясцовых гаворак.

Вельмі важным пытаннем, выкліканым аглядам лексічнага складу архіўнай картатэкі сенненскага словазбору, было пытанне пра форму адлюстравання загалоўнага слова. Фіксацыя на картцы-цытаце лексічнай адзінкі як складніка рэестра падказвала, што збіральнікі лексічных матэрыялаў першапачаткова меркавалі падаваць загалоўнае слова ў абагульненым, арфаграфічна адаптаваным да літаратурнай мовы выглядзе. Тым самым фанетычныя асаблівасці мясцовых гаворак, перадусім такія з'явы рэгулярнага характару, як пазіцыйнае чаргаванне зычных па звонкасці/глухасці, мяккае вымаўленне некаторых пярэднеязычных зычных перад наступным мяккім кансанантам, дысімілятыўнае аканне і некаторыя іншыя, у рэестравай адзінцы не адлюстроўваліся, яны захоўваліся ў прыкладах. Уніфікаваны правапісны падыход пашыраўся і на ілюстрацыйную базу. Прынамсі, такая моўная рыса, як пазіцыйная асіміляцыйная мяккасць свісцячых і некаторых іншых зычных, якая выступае ў якасці агульнабеларускай тыповай і дыферэнцыяльнай лінгвальнай адметнасці, у прыкладах, якія раскрываюць семантыку загалоўнага слова, не перадавалася. Праўда, спарадычна ў запісах мяккасць зычных захоўвалася. Так, непаслядоўна абазначаецца рэалізацыя мяккіх свісцячых ***з***, ***с*** у становішчы перад заднеязычнымі ***г***, ***к***, ***х***: *ські́дъваіць*, *ські́нуў* або ***н*** перад наступным мяккім свісцячым: *ба́ньцік*. Нягледзячы на тое, што падобнымі ўжываннямі парушаецца прынцып аднастайнасці ў падачы матэрыялу ў слоўніку, зафіксаваныя напісанні не мяняліся.

Спосаб адлюстравання слоўнікавай рэестравай адзінкі ў графічна-арфаграфічных сродках літаратурнай мовы спрашчае, як вядома, карыстанне слоўнікам шырокаму колу чытачоў і дазваляе выданню функцыянаваць як даведніку. Абраны прынцып увасаблення загалоўнага слова складальнікамі базавай картатэкі вытрымліваўся непаслядоўна. Пэўная непаслядоўнасць выяўлялася галоўным чынам пры перадачы ў рэестравых лексемах сінтагматычнай лабіялізацыі ненаціскных галосных гукаў. У пачатковым картатэчным варыянце ў якасці загалоўных слоў як найбольш частотныя былі зафіксаваны формы тыпу *гарава́ць* і *гурува́ць*, *гарува́ць*; *гублюва́ць* і *габлява́ць*; *калту́н* і *култу́н*. У такіх выпадках было складана зразумець, які з варыянтаў прэтэндаваў на статус рэестравай адзінкі. Цяжкасці ў выбары формы загалоўнага слова мелі месца пры фіксацыі слоў з наяўнасцю прыставак з арфаграфічным ***д*** у іх складзе тыпу *адве́дкі* і *атве́дкі*; пры

падачы слоў са спалучэннем зычных ***шн*** і ***чн***, як *даўгаве́чны* і *даўгаве́шны*, *мало́чнік* і *мало́шнік*; пры адлюстраванні лексем з трансфармаванай марфемнай структурай накшталт *бурго́містр* і *бурмі́стр*, *бува́ла* і *ба́ла*; рускамоўных запазычанняў.

Улічваючы адзначаныя праблемы, а таксама ступень рэпрэзентацыйнасці зыходнага лексічнага матэрыялу, складальнікі слоўніка «Мова Сенненшчыны» выпрацавалі наступныя падыходы па адлюстраванні яго рэестравага складу.

У якасці рэестравых адзінак у слоўнікавым артыкуле адлюстроўваюцца зарэгістраваныя ў рэальным гукавым абліччы формы слоў, аднак дысімілятыўнае аканне, асімілятыўная мяккасць зычных і спарадычна зафіксаванае мяккае вымаўленне няпарных цвёрдых зычных у загалоўным слове не перадаецца. Пры гэтым, калі існавала некалькі фанетычных варыянтаў з аднолькавай семантыкай, адзін з якіх адпавядае літаратурнаму эквіваленту, на першым месцы як загалоўнае слова ў рэестравым радзе выступае нарматыўны варыянт.

**КО́ФТА**, **КО́ХТА** *ж.* Кофта. *Былі́ ко́фты з ру́шыкам у забо́р, з або́рычкъмі.* Нямойта. *Ко́хты шы́лі, ку́рту, ю́пку пашы́іш.* Турава.

**ЯКРА́З**, **АКРА́З**, **ІКРА́З**, **ЯКРА́С**, **КРАС** *прысл.* Якраз. *У мае́ дачкі́ якра́з на е́тай е́лкі вялі́сі.* Нямойта. *Акра́з то было́ по́слі Раждж͡ыства́.* Каралевічы. *Паўго́да ікра́з ні было́.* Малы Азярэцк. *А гэ́та было́ крас пірат Но́вым го́дам, нъ Каляду́, на́да ш і пол мыць, і ўçё дзе́лаць.* Заазер'е.

Загалоўнае слова ў літаратурнай форме падаецца і ў тых выпадках, калі ў слове звонкія зычныя знаходзяцца ў слабай фанетычнай пазіцыі, а ў моцнай яны выступаюць у вытворнай (памяншальнай) форме.

**ГРУ́БКА**, **ГРУ́ПКА** *ж.* Грубка. *Ра́ньшы зва́лі гру́пка.* Заазер'е. *Гру́пку на́да перадзе́лываць.* Неўгадава. *Цёпла, калі́ гру́б$^{п}$ку пратаплю́.* Закур'е. ГРУ́БАЧКА *памянш. Гру́бачка – е́та шчэ да вайны́ былі́, во стая́лі каля пе́чы.* Багданава.

Вытрымаць паслядоўна прынцып размяшчэння на першым месцы зафіксаванай літаратурнай формы пры суіснаванні яе з паралельнымі тыпова дыялектнымі аказалася, натуральна, немагчымым. Таму, калі ў радзе аднакаранёвых слоў і сустракаецца літаратурны варыянт, але большасць прыкладаў з'яўляецца словаформамі з выразнымі асаблівасцямі мясцовай фанетыкі, то загалоўным словам выступае мясцовы абазначальны сродак.

**КВАСО́ЛЬ**, **ФАСО́ЛЬ** *м.* Фасоля (расліна). *Боп с ква́солем бъльша́я ра́зніца. Квасо́ль бе́ленькі стъра́ецца садзі́ць.* Гарадзец. *Фасо́ль садзі́ла, бурачкі́ і боп.* Запруддзе.

**КВАСО́ЛЬНІК** *м.* Суп з фасолі. *Квасо́льнік с квасо́лі.* Савінічы.

**КВАСО́ЛЯ**, **ФАСО́ЛЯ** *ж.* Фасоля (расліна). *Квасо́ля на лясе́ расце́ць.* Жохава. *Фасо́лі пасадзі́ла, памідо́раў ле́шку.* Партызаны.

Пры адзінкавай фіксацыі слова захоўвае зарэгістраваны маўленчы выгляд.

**АБНО́ШКА** *ж.* Пылок з кветак, які пчала прыносіць на задніх ножках; абножка. *З абно́шкай ідўць* [пчолы], *на ла́пачках жо́ўцінькае нясўць.* Закур'е.

**ГАРАЦКІ́** *прым.* Гарадскі. *Там ква́рта, а ў нас крўшка. Так нас гарацкі́мі зва́лі.* Заазер'е.

**ҐРУК** *м.* Крумкач, груган. *Ґрўкі – у іх дзю́пкі бе́лыя, а са́мі чо́рныя, наліця́ць на кукурўзу.* Запруддзе.

У слоўнікавых артыкулах, у якіх загалоўнае слова мае некалькі варыянтаў, але ніводзін з іх не адпавядае нарматыўнаму, на першым месцы выступае, як правіла, лексема з найбольш характэрнымі для гаворкі асаблівасцямі.

**БУЦЯ́Н, БУЦЬЯ́Н, БАЦЬЯ́Н** *м.* Бусел, бацян. *На Благаве́шчане буця́н прыліта́іць.* Дольдзева. *Дзе буцья́н жыве́ць, то пярўн ні ўда́рыць.* Дуброўкі. *У тэй дом, дзе бацья́н жыве́ць, не уда́рыць мала́нка.* Гарадзец, Дуброўкі.

Калі былі занатаваны абазначальныя сродкі, якія вызначаюцца як словы з нерэгулярнымі лексікалізаванымі, інакш фармальнымі, фанетычнымі асаблівасцямі рознага тыпу, то ў слоўнікавым артыкуле яны займаюць месца пасля кадыфікаванага варыянта (пры наяўнасці). Словаформы з асаблівасцямі рэгулярнага ці іншага характару ў артыкулах такога тыпу размяшчаюцца за імі.

**ГЭ́ТАКІ, ГЭ́ДАКІ, Е́ТАКІ, ГЭ́ТКІ, ГЕ́ТКІ, ГЕ́ТКІЙ, Е́ТКІ, Э́ТКІ** *займ.* 1. Такі, гэтакі. *Ну во гэ́такі нідалўжнік.* Запруддзе. *А йна ў нас гэ́дъкъя.* Запруддзе. *Ра́ньшы гла́дзілі, былі́ къча́лкі, е́такая з рўпчыкамі, кача́лі.* Запруддзе. *Гэ́ткая ба́сня была́.* Багданава. *Пра ге́ткія грыбы́ ня чўла, німа́ ге́ткіх.* Рудніца. *І скажы́ ге́ткій ма́лый!* Чуцькі. *Дзе ёсь е́ткъя засто́йная въда́.* Партызаны. *Ніко́лі э́ткая ні була́ бўльба.* Неўгадава.

Такім чынам, неаднастайнасць перадачы фанетычнага аблічча загалоўнага слова ці асаблівасці размяшчэння зафіксаваных слоў у рэестравым радзе былі накіраваны на тое, каб адлюстраваць усю складанасць тых моўных працэсаў, якія маюць месца ў сучасным вясковым маўленні.

### Будова слоўніка

Лексікаграфічнае даследаванне «Мова Сенненшчыны» – гэта звычайны алфавітны словазбор. Па традыцыі, усталяванай у айчыннай лексікаграфіі, у рэестравы склад слоўніка ўключаны самастойныя і службовыя часціны мовы. Усе яны падаюцца ў асобных слоўнікавых артыкулах. Як самастойныя рэестравыя адзінкі, за выключэннем памяншальных формаў і абазначальных сродкаў тыпу *круць*, выступаюць вытворныя і невытворныя словы. Вытворныя ад загалоўнага памяншальныя формы слоў ці выклічнікавыя змяшчаюцца ў адным слоўнікавым артыкуле.

**НАДЗЕ́Л** *м.* Мера зямельнай плошчы; надзел. *Надзе́л – э́та чаты́ры дзісяці́ны.* Фасаўшчына. НАДЗЕ́ЛЬЧЫК *памянш. Дзвіна́ццаць дзяцёнкаў бы́ла, і адзін надзе́льчык зямлі́.* Дуброўкі.

Калі слова зафіксавана толькі ў ацэначнай, памяншальнай, форме, то яно афармляецца ў асобны артыкул.

**АПЎШАЧКА** *ж. памянш.* Апуха. *Тáпкі купíла з апўшачкай.* Нямойта.

**СІВАЛЁЗЕНЬКІ** *прым. ласк.* Сівенькі. *Сівалёзенькія галубкі ёсць, а бéлых мáла-мáла, дзéці ўсе пўні пазлáзюць, а злóвяць-такí бéлага галубá.* Запруддзе.

Размяшчэнне ў рэестры слоў тыпу *круць, глядзь* фармальна супадае з падачай памяншальных словаформаў. Такія лексічныя сродкі падаюцца ў адным слоўнікавым артыкуле, з якім вытворнае слова звязана ўтваральнай асновай, калі гэтыя адносіны падмацоўваюцца словаўжываннем. Пры іх адлюстроўваецца значэнне. Калі зафіксавана толькі вытворнае слова, яно афармляецца ў асобны слоўнікавы артыкул.

**ДЗВÍНАЦЬ** *зак.* Рушыць. *Нéмцы дзвíнълі нъ нас* [партызан]. Латыгаль. ДЗВІГ. Хуценька рушыць. *Вужáчнічак быў – лазá такáя, грáзка там, – букí дзвіг і тудьí.* Баравікі.

**КУЛЬДЫ́К-КУЛЬДЫ́К** *выкл.* Вагацца. *Кульдьíк-кульдьíк бляха, а крыса блясь з бляхі. Смаллянкі бляху кульдьíк-кульдьíк – і брэсь.* Парэчча.

У рэестр уключаны словы, якія выступаюць у складзе фразеалагізмаў, а таксама зрэдку прыказак. У асобны слоўнікавы артыкул словы-кампаненты ўстойлівых словазлучэнняў і парэмій вылучаюцца пераважна ў тым выпадку, калі яны ўжо не функцыянуюць ці не зарэгістраваны як самастойныя лексічныя адзінкі. Словы, якія ў якасці кампанентаў уваходзяць у склад сінтаксічна звязаных канструкцый як загалоўныя, звычайна захоўваюць свой кантэкстуальны выгляд. У асобных выпадках іх пачатковая форма ўзнаўляецца па фармальных прыкметах.

**ДЫБЫ́** *мн.* ◊ НА ДЫБЫ́. На заднія ногі (стаць, падняцца і да т. п.). *На дыбьí конь стаў.* Мянюцева.

**АХÓТА, ВАХÓТА** *ж.* ◊ ПРЫЙСЦІ Ў АХÓТУ (У ВАХÓТУ). Бегаць; знаходзіцца ў стане цечкі (пра карову). *Карóва прыйшлá ў ахóту, нáда спускáць быкá. Карóва прыйшлá ў вахóту.* Нямойта, Парэчча. ◊ У ВАХÓЦЕ. Тое ж. *Карóва ў вахóце – трэ́буець букóў.* Гарадзец.

Уключаныя ў склад рэестра словы з прыказак з'яўляюцца эквівалентамі апорнага слова-кампанента ў зафіксаванай афарыстычнай форме.

**МАРТÓК** *м.* Сакавік. □ *Мартóк – не скідáй партóк.* Багданава.

Сенненскі словазбор характарызуецца адсутнасцю адсылак пры словах з тоесным і блізкім значэннем, пры варыянтах слова. Таму загалоўныя словы, якія маюць аднолькавае значэнне, але адрозніваюцца складам сваіх асобных марфем, у рэестры размяшчаюцца па-рознаму. Калі семантычна аднолькавыя словы ў алфавітным парадку ідуць адно за адным, то ў першай па алфавіце лексеме ўказваецца яе значэнне. У наступным слове, семантычным адпаведніку папярэдняй лексічнай адзінкі, ужываецца запіс «тое ж». У выпадку, калі ўнутрыалфавітны парадак істотна адрозніваецца

ў параўнанні з першай па размяшчэнні аднакаранёвай рэестравай лексемай (аддалены ад яе), значэнне слова паўтараецца.

**АБО́РКІ** *мн.* Вяроўкі з пянькі ці канапель; аборы. *Дра́ліся лыкі ў лясу́, пад ніз – суко́нку, або́ркамі ўкру́цюць.* Леснікова.

**АБО́РЫ** *мн.* Тое ж. *Або́ры вілі с пянькі́, кано́плі.* Леснікова.

**КО́ПАНКА** *ж.* Сажалка. *У ко́пъньцы лён мачы́лі.* Гарадок.

**КО́ПАНЫ, КАПА́НЫ** *дзеепрым.* Выкапаны. *У ко́пъньй са́жълцы мачы́лі лён.* Гарадок. *Тут къпа́ныя рэ́чка.* Рэчкі.

**КО́ПАНЬ** *ж.* Сажалка. *Ко́пъні такія къпа́лі, дзе мачы́лі лён.* Савінічы. *Йдзе въда́ стаі́ць, там ко́пънь.* Самсоны.

Усе аманімічныя формы слоў выступаюць як самастойныя слоўнікавыя артыкулы, яны не забяспечваюцца надрадковымі ці каляслоўнымі лічбамі або спецыяльна прынятымі сімваламі і размяшчаюцца адна за адной.

**БАЛВА́Н** *м.* Курган. *Балваны́ там, ка́жуць францу́зы пъхъва́ны.* Вялікі Азярэцк.

**БАЛВА́Н** *м. экспр.* Балван, дурань. *Балва́н – дурны́ чалаве́к.* Запруддзе.

**КАЗЕ́ЛЕЦ** *м.* Дробная плотка. *Казе́лец – са́ма мале́нькъя пло́тъчка, яна́ пяць гадо́ў бу́дзіць расці́ і во́тъчкая. Яна́ ма́ліцькъя ўжо с ыкро́й.* Багданава.

**КАЗЕ́ЛЕЦ** *м.* Казялец (расліна). *Казе́лец го́ркі, каро́вы ні яду́ць.* Каралевічы.

### Будова слоўнікавага артыкула

Слоўнікавы артыкул мае наступную будову: загалоўнае слова, граматычная характарыстыка, стылістычныя і функцыянальныя паметы, сэнсавая характарыстыка, ілюстрацыі (з геаграфічнай пашпартызацыяй), састаўныя тэрміны, фразеалагічныя адзінкі, прыказкі і іншыя народныя выслоўі. Гэта максімальна поўны тып артыкула. Найбольш частыя ў слоўніку артыкулы, якія не маюць у сваім складзе сінтаксічна звязаных канструкцый рознага тыпу ці афарыстычных адзінак.

Загалоўнае слова ў адпаведнасці з усталяванай у нацыянальным мовазнаўстве лексікаграфічнай традыцыяй у слоўнікавым артыкуле падаецца ў пачатковай форме з вылучэннем націскнога складу. Націск адлюстроўваецца таксама ў сказах-ілюстрацыях да яго, але ў некаторых выпадках акцэнталагічная характарыстыка знамянальных слоў адсутнічае, бо націск не быў адзначаны на картцы-фіксацыі. Прыметнікі і іншыя часціны мовы, якія выступаюць як рэестравыя адзінкі, маюць форму назоўнага склону мужчынскага роду. Аднак тыя прыметнікі, якія функцыянуюць у маўленчай практыцы толькі ў форме жаночага роду, што абумоўлена іх абазначэннем прыроднай дзетароднай функцыі азначальнага назоўніка, захоўваюць форму жаночага роду.

**НЯКО́ЗНАЯ** *прым.* Някотная. *Ле́тась не каці́лася къза́, была́ някo̍зная.* Багданава.

Месца субстантываваных прыметнікаў як рэестравых адзінак вызначаецца іх характарам. Калі яны зарэгістраваны як самастойныя адзінкі з уласцівым ім значэннем, то афармляюцца ў асобны слоўнікавы артыкул з адлюстраваннем іх роду як адпаведных назоўнікаў. Калі суіснуюць прыметнік (і іншыя тоесныя па ўжыванні словы) і ўтвораны ад яго субстантываваны прыметнік, апошні ўключаецца ў склад слоўнікавага артыкула, загалоўным словам якога з'яўляюцца прыметнік, дзеепрыметнік, займеннік.

**АСІМІНА́ТАРСКАЯ** *ж.* Злучны пункт, памяшканне, дзе праходзіць штучнае асемяненне жывёлы. *Да каце́льнай тут была́ асімінáтърскъя.* Мянюцева.

**ДАРМАВЫ́, ДАРМАВО́Й** *прым.* 1. Бясплатны. *Лес тады́ дармавы́ быў.* Нямойта. 2. *н.* Бясплатнае, дармавое. *Яны́ сагласяцца на дармаво́е.* Міцюкова.

Слоўнікавы артыкул можа складацца як з аднаго загалоўнага слова, так і з некалькіх. У адзін рэестравы рад аб'ядноўваюцца словы, якія характарызуюцца адметнымі нерэгулярнымі чаргаваннямі зычных і галосных (ці з'явамі лексікалізаванага характару рознага тыпу), маюць змененую гукавую або марфемную структуру (ускладненую, спрошчаную, рэдукаваную, інакш кажучы, трансфармаваную ў параўнанні з агульнавядомай формай такога слова), перадаюць розныя варыянты адаптацыі чужамоўных слоў і інш. Уключаюцца сюды і лексемы з рэгулярнымі фанетычнымі чаргаваннямі. Загалоўным словам у такіх артыкулах выступае нарматыўны абазначальны сродак пры яго наяўнасці, пры адсутнасці – найбольш характэрны для гаворак варыянт.

**КСЦІЦЬ, ХСЦІЦЬ** *незак.* Хрысціць. *У нас ксці́лі дзяце́й, вазі́лі к папу́.* Міцюкова. *А іны́ ня хсці́лі дзяце́й, баялiся.* Буй.

**КУНІ́ЦА, АКУНІ́ЦА** *ж.* Куніца. *Куні́ца то́жа ма́ленькая, тако́га цве́та, як вавёрка, шэ́рая. Акуні́ца ў ле́сі во́дзіцца.* Багданава.

**ФРАНТО́Н, ФРАЙТО́Н, ФРАНТО́Р, ФАРТО́Н** *м.* Франтон. *Франто́ны – е́та ў канцы́ до́ма, даска́мі зашыва́юць.* Нямойта. *Стрыжы́ на фрайто́не гнядзо́ зле́пяць.* Вялікі Азярэцк. *Франто́ры рабі́лі ў ха́тах.* Алексінічы. *У ха́це канёк, фарто́н, атлі́ў.* Запруддзе.

**ЁСЦЕКА, ЁСЕЦЬКА, ЁСІТКА, ЁСІКА** *незак.* Ёсць, маецца. *Ско́лькі пры́казак ёсьцека.* Ульянавічы. *Насі́ць ёсецька: до́чкі до́руць* [сваё адзенне]. Неўгадава. *Такія грыбы́ ёсітка, мы йіх завём мышакі́.* Вялікі Азярэцк. *Калі́ ёсіка пастро́йка, вазі́лі, у ёўні вазі́лі лён.* Карпавічы.

У адным слоўнікавым артыкуле абагульняюцца і акцэнталагічныя варыянты слоў:

**БАЛАЦІ́НА, БАЛО́ЦІНА** *ж.* Балота, лагчына. *Патапе́нскі мох – балаці́на така́я.* Гарадзец. *Дзе бало́ціны, то лі́пы во такі́я.* Леснікова.

Граматычная характарыстыка слова ў слоўніку ўключае яго прыналежнасць да той ці іншай часціны мовы, якая адзначаецца адпаведнай паметай. Выкарыстаныя паметы не маюць адрознення ад агульнапрынятых у сучасных лексікаграфічных працах (гл. спіс скарачэнняў).

Калі словы, уключаныя ў рэестр, належаць да адной і той жа часціны мовы, маюць аднолькавы марфемны склад, аднолькавую семантыку, але адрозніваюцца родавай прыналежнасцю, яны падаюцца ў асобных слоўнікавых артыкулах.

**КА́ДУЎБ** *м.* Драўляная бочка. *Ка́дуўб і даўбёка – адно́.* Фасаўшчына.

**КА́ДУЎБА, КА́ДАЎБА** *ж.* 1. Драўляная бочка. *Ка́дуўба.* Вялікі Азярэцк. КА́ДАЎБАЧКА *памянш. У ка́даўбачку вы́сыпіш муку́.* Багданава. 2. Глыбокая яма з вадой, у якую ўстаўлялася драўляная бочка. *Пан вы́къпаў ка́дъўбу, і бо́чку ўста́віў, дзе крыні́ца.* Вялікі Азярэцк.

**ЛО́ПУХ** *м.* Лопух (расліна). *Ло́пух, ён вясно́й пе́рва на двара́ жо́ўтым цвіці́ць.* Фасаўшчына.

**ЛО́ПУХА, ЛАПУХА́, ЛАПУ́ХА** *ж.* Тое ж. *Са́май ра́нняй вясно́й ло́пуха зацвіта́іць на бало́ці.* Запруддзе.

У самастойныя слоўнікавыя артыкулы афармляюцца таксама рэестравыя адзінкі з аднолькавым родам, складам марфем і семантыкай, але адрозныя па прыналежнасці да тыпу скланення.

**ІНЕЙ, ІНЬ** *ж.* Напасць, насланнё. *Інеи така́ бальша́я – на скот быва́ець падзёж. Інь бальша́я ў а́ўгусце – цяжка людзям, падзёж ската́.* Каралевічы.

**ІНЕЯ** *ж.* Тое ж. *Інея – ці да Мікольі – цяжасць людзя́м.* Каралевічы.

Пры адлюстраванні ліку назоўнікаў маюць месца некаторыя асаблівасці. Так, зрэдку ў рэестравы рад побач з формай адзіночнага ліку ўключаюцца назоўнікі ў форме множнага ліку. Такія лексемы падаюцца ў тых выпадках, калі пры ўтварэнні формы множнага ліку засведчаны некаторыя адрозненні ад формы адзіночнага ліку.

**ПІСКЛЁНАК** *м.*, **ПІСКЛІНЯ́ТЫ** *мн.* Кураня, кураняты. *І пісклёнка, і гусёнка дзёржым, і ко́жнаму дай.* Вялікі Азярэцк. *Сын са Шкло́ва пісклінят прывёс.* Серкуці.

**КАЛЯСО́** *н.*, **КАЛЯСЫ́** *мн.* 1. Кола. *Запа́люць калясо́, по́йдуць у жы́та, вясёла было́.* Алексінічы. *Калясы́ тра́ктара палілі на Купа́ла.* Багданава.

Як рэестравыя словы ў форме множнага ліку падаюцца пераважна назоўнікі, якія абазначаюць парныя прадметы.

**РУКАВІ́ЦЫ** *мн.* Рукавіцы. *Рукаві́цы звяза́ла красі́выя.* Заазер'е.

**СЕ́РГІ** *мн.* Вушкі пад шыяй у свіней. *Се́ргі пат барадо́й у свіне́й вісяць – э́та харо́шая паро́да.* Багданава.

Аднак калі назоўнікі, якія абазначаюць парныя прадметы, маюць нейкія граматычныя асаблівасці ці адметныя выпадкі фанетычнай рэалізацыі, то ў рэестравы рад уключаецца і запісаная форма адзіночнага ліку.

**КАСТЫЛІ́** *мн.*, **КАКТЫ́ЛЬ** *м.* 1. Апора для чалавека пры хадзьбе; мыліца. *На кастылях ідзе́ць, атнялі нагу́.* Гарадзец. *У той ха́ці і цяпе́р стаі́ць какты́ль.* Закур'е.

Часам форма адзіночнага ліку назоўнікаў прыводзіцца, калі найменне, якое ў літаратурнай мове ўжываецца ў множным ліку, у мясцовай гаворцы мае паралельную форму адзіночнага ліку.

**ГРЫМО́ТЫ** *мн.*, **ГРЫМО́ТА** *ж.* Грымоты, гром. *Як грымо́ты, хто кіда́іць ка́ліва купа́льный траве́ ў печ, у жар.* Мянюцева. *Узняла́ся грымо́та, спаліла дзве ха́ты.* Запруддзе.

Таксама захоўваюць форму множнага ліку загалоўныя словы, якія часцей выступаюць у ёй у традыцыйным дыялектным маўленні. Гэта пераважна назвы дробных прадметаў.

**КАСЦЯ́НКІ** *мн.* Касцяніцы (ягады). *У нас ё чарніцы, суніцы, брусніцы, маліны, късця́нкі, журавіны, дурніцы, жавіны.* Кавалі, Заазер'е, Сяргейкі.

Словы, зафіксаваныя ў ілюстрацыях толькі ў множным ліку, звычайна не пераўвасабляюцца ў форму адзіночнага ліку.

**БАНДЗЁЖКІ** *мн.* Від абрадавага печыва. *Нъ Съракі бандзёжкі пяклі.* Партызаны.

**САСУ́ТКІ** *мн.* Ледзяшы. *Дзе́ці рвуць сасу́ткі.* Багданава.

Множналікавыя назоўнікі з мэтай адрознення іх ад традыцыйна ўжывальных слоў у форме множнага ліку суправаджаюцца паметай *толькі.*

**ВЯЧО́РКІ** *толькі мн.* Вячоркі. *Вячо́ркі сабіра́юцца скака́ць, а супра́ткі – пра́сці.* Партызаны.

Стылёвыя паметы ў слоўніку ўжываюцца абмежавана. Яны падаюцца толькі ў тых выпадках, калі тлумачэнне слова не дазваляе падкрэсліць яго спецыфікі. Выбар паметы, як правіла, вызначаецца аўтарам. Аднак для намінатыўных адзінак тыпу *торба, карова, цяльпук, сарока* і да т. п., якія з'яўляюцца характарыстычнымі назвамі асобы, выкарыстоўваецца запіс *эмац.-ацэн.* Гэта памета мае абагульняльнае, уніфікаванае значэнне, яна, зразумела, не перадае ўсіх тонкіх адценняў, уласцівых словам падобнага тыпу, але дазваляе пазбегнуць суб'ектыўнага падыходу пры ўжыванні такіх традыцыйных адсылачных запісаў, як *абразл.* (абразлівае), *зневаж.* (зневажальнае) і інш.

У слоўнікавых артыкулах адлюстроўваюцца ўсе зафіксаваныя значэнні адназначных і мнагазначных слоў. Размеркаванне значэнняў мнагазначных слоў мае пераважна ўмоўны характар, але спачатку падаюцца асноўныя, першасныя значэнні, а потым іншыя (пераносныя, метафарычныя, экспрэсіўныя, эмацыяльна-ацэначныя і інш.). Кожнае значэнне мнагазначнага слова вылучаецца арабскімі лічбамі і ілюструецца тэкставымі прыкладамі. Семантыка значнай часткі слоў раскрываецца праз адпаведныя эквіваленты літаратурнай мовы. Пры гэтым выкарыстоўваецца адзін ці некалькі сінонімаў.

**ВЯТВІСТЫ**, **ВЯЦІСТЫ** *прым.* Галінасты, бухматы. *Вятвісты авёс, сцянóй стаіць.* Сянно. *Вяцістае прóса, як мяцёлачка.* Міцюкова.

**ДАБРАТÁ** *ж.* Дабрыня, ласка, пяшчота. *Ад мáткі дабраты́ ня відзеў і ў калóнію пупáў.* Багданава.

Значэнне слова, якое патрабуе ўдакладнення, канкрэтызуецца ў круглых дужках.

**ПАБÉГАЦЦА** *зак.* Пабегаць, пакрыцца (пра карову, казу). *Злучáла кóзачку, а янá не пабéгалася.* Багданава

**РАГАЦЮ́ЛЬКІ** *мн.* Махры, адросткі (пра расліну). *У свірэ́піцы рагацю́лькі, як у рады́скі.* Запруддзе.

Рэестравыя словы, значэнне якіх не цалкам супадае са словамі з літаратурнай мовы, а таксама словы, якія не маюць літаратурных адпаведнікаў, падаюцца апісальна.

**ГÓПІКІ**, **ÓПІКІ** *мн.* 1. Перамёрзлая, перазімаваная бульба. *Збірáлі па пóлі* [пасля вайны] *бу́льбінкі, звáлі гóпікі, яны́ буйны́я, алé засталіся на пóлі, мёрзлыя.* Ракаў Засценак. 2. Страва (аладка, блін), прыгатаваная з перамёрзлай бульбы. *Гóпікі пяклі з мёрзлай бу́льбы.* Дуброўкі. *Траву́ рвáлі абыя́ку́ю, таўклі бу́льбу гнілу́ю – óпікі называліся.* Рэчкі.

Словы, якія абазначаюць рэаліі са сферы традыцыйных вытворчых заняткаў ці промыслаў, звязаны з фактамі этнаграфічнага ці іншага характару, побыту, пры передачы іх семантыкі нарматыўным лексічным эквівалентам забяспечваюцца ў некаторых выпадках суправаджальным кантэкстам. Гэта ўласна значэнне літаратурнамоўнай адзінкі. Інакш кажучы, пры такіх абазначальных сродках мае месца як бы дубліраванне семантыкі. Зроблена гэта, каб пазбегнуць цяжкасцей пры карыстанні даведнікам рознымі групамі чытачоў, а таксама з улікам сучаснага стану і характару сацыяльна-эканамічнага гаспадарання, у якім многія вясковыя традыцыйныя заняткі цяпер занядбаны ці ўжо перасталі існаваць. Напрыклад:

**Ю́ШКА**, **ЛЮ́ШКА** *ж.* Металічны кружок, якім закрываюць адтуліну ў коміне, каб не выходзіла цёплае паветра; юшка. *Ю́шку закладáй, шчэ жар не згарэ́ў.* Каралі. *Лю́шку ў кóміні разбíла.* Неўгадава.

Тлумачэнне асобных слоў такога тыпу часам з'яўляецца непераканаўчым і недастатковым з-за адсутнасці адпаведных звестак ці нізкай інфарматыўнасці кантэксту.

**ЗАВУ́ЖАВАЦЬ** *незак.* Ставіць вузейшыя васковыя пласціны. *Мóжна заву́жаваць сóты, яны́* [пчолы] *атця́гаюць сóты і налівáюць мёт.* Вялікі Азярэцк.

**ШАСЦІРÁДКА**, **ШАСЦІРÁТКА** *ж.* Сорт ячменю, у якім зярняты ў коласе размяшчаюцца ў шэсць радоў. *Шасцірáдка крэ́пка кладзéцца, а двухрáтка стаіць, што струнá, глядзéць лю́ба. Шасцірáтка ламáіцца – галóвы уніз, ня мóжна вязьмá здзéлаць.* Ракаў Засценак.

У тых выпадках, калі рэестравай адзінкай выступаюць словы, якія з'яўляюцца назвамі розных традыцыйных свят і прысвяткаў народнага календара, у якасці літаратурнамоўных адпаведнікаў звычайна падаюцца назвы, зафіксаваныя ў энцыклапедыі «Этнаграфія Беларусі» (1989). Гэта датычыцца пераважна найменняў, якія дагэтуль не ўключаліся ў найбольш вядомыя тлумачальныя слоўнікі беларускай мовы. У сувязі з тым, што многія назвы традыцыйных народных свят адначасова з'яўляюцца і назвамі свят царкоўнага календара, пры адлюстраванні значэння падобных слоў уся інфармацыя, што датычыцца семантыкі народнага і царкоўнага кампанентаў назвы свята, звычайна не ўказвалася. Да звестак гэтай крыніцы ўкладальнікі слоўніка звярталіся таксама тады, калі ілюстрацыі былі адзінкавыя, іх змест невыразным ці ўтрымліваў розначытанні.

Значэнне дзеепрыслоўяў па граматычнай форме ўстанаўліваецца на аснове кантэксту.

**АСТА́ЎШЫСЯ, АСТА́ЎШЫСІ** *дзеепрысл.* Астацца, быць. *Каро́ў сем аста́ўшысі у на́шъй дзярэ́ўні.* Каралевічы. *Былі ле́там аста́ўшыся пчо́лы.* Гарадзец.

Згодна з матэрыялам ілюстрацый размяжоўваецца семантыка аманімічных формаў дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў, характэрных для мясцовых гаворак. Аднак устанаўленне граматычнай прыналежнасці, дыферэнцыяцыя гэтых дзеяслоўных формаў не заўсёды бясспрэчная з-за невыразнасці прыкладаў.

**ЗАКІПЕ́ЎШЫ** *дзеепрым.* Які закіпеў, кіпіць. *Варго́лы – э́та кіпято́к, закіпе́ўшы кіпято́к варго́лы называ́лісі.* Марозаўка.

**НАПА́ЎШЫ** *дзеепрысл.* Напасці, раптоўна з'явіцца. *Рак напа́ўшы, памёрла старшына́.* Нямойта.

Словы і іх значэнні забяспечваюцца адным або некалькімі прыкладамі іх ужывання. Парадак размяшчэння прыкладаў пераважна адвольны, ён не суадносіцца з месцам слова ў рэестравым радзе. Першымі ставіліся, як правіла, тыя ілюстрацыі, якія найбольш поўна раскрываюць сэнс слова.

Пры наяўнасці вялікай колькасці прыкладаў на адно і тое ж значэнне слова ажыццяўляўся адбор ілюстрацыйнага матэрыялу. Але ілюстрацыі, якія мелі інфармацыйна-пазнаваўчы характар, а таксама з'яўляліся запісамі маркіраванага тыпу (прыказкі, прыкметы, прыгаворкі і інш.), звычайна падаваліся ў слоўнікавым артыкуле. Прыналежнасць ілюстрацыі пэўнаму народна-літаратурнаму моўнаму жанру – праклён, пагаворка, прыкмета і інш. – абазначаецца адпаведнай жанру адсылачнай паметай. Яна бярэцца ў круглыя дужкі (). Аднак такія паметы вылучаюцца пераважна ў тых выпадках, калі зафіксаваны асобна і не з'яўляюцца істотнай часткай прыкладу. Іх дыферэнцыяцыя мае ўмоўны характар. Пры выкарыстанні ў якасці ілюстрацыі да рэестравага слова песеннага тэксту ці прыпеўкі радкі ў вялікіх па памеры песнях-прыкладах аддзяляюцца адзін ад аднаго з дапамогай сімвала /.

*А ў тых катла́х піва ва́рыцца. / Піва ва́рыцца к тром пра́знічкам, / К тром пра́знічкам – тром гадаві́нкам* (з песні). Баравікі.

Калі змест ілюстрацыі меў тоесны ці мала адрознівальны ад выбранага прыкладу характар, а тым самым ілюстрацыі сваім лексічным складам амаль паўтаралі ўжо выкарыстаны запіс, яны не ўжываліся, каб пазбегнуць аднастайнасці і збыткоўнасці матэрыялу. У такіх выпадках адзначаліся назвы населеных пунктаў, дзе слова было зафіксавана. Пры пераліку назваў населеных пунктаў на першае месца пасля прыкладу ставілася назва вёскі, запіс з якой выкарыстоўваўся як ілюстрацыйны. Усе іншыя вёскі, дзе была запісана такая ж лексема, звычайна пералічваліся ў алфавітным парадку. Пры падачы прыкладаў з двух раёнаў пасля вёсак Сенненскага раёна ці назвы раённага цэнтра ўказваюцца населеныя пункты Чашніцкага раёна.

Як рэестравая адзінка ў слоўнік уключаюцца, пра што паведамлялася вышэй, словы, якія не маюць суправаджальных ілюстрацый з-за адсутнасці адпаведнага словаўжывання ў архіўных матэрыялах. Устанавіць дакладна іх значэнне атрымлівалася не заўсёды. Таму семантыка, якая надаецца такім абазначальным сродкам, мае меркавальны характар. Меркавальнасць значэння падобных лексем адзначаецца з дапамогай пытальніка, змешчанага ў круглыя дужкі (?). Прынятае сімвалічнае абазначэнне ставіцца пасля слова.

**ҐВА́ЛТАНЬКІ** *прысл.* Роспачна (?). Ульянавічы.

Пытальнік, заключаны ў круглыя дужкі, выкарыстоўваецца таксама пры існаванні незразумелага ці інфармацыйна недастатковага ілюстрацыйнага запісу.

**НАУГО́ЛЬНІК** *м.* Вугольнік; лінейка ў форме трохвугольніка (?). *А гэ́та науго́льнік.* Марозаўка.

У слоўніку часам сустракаецца адна і тая ж ілюстрацыя. Паўтараюцца звычайна ілюстрацыі, калі ў тэксце ўжытага прыкладу было выяўлена новае слова, не зафіксаванае ў картатэцы як рэестравае, а на адсылачную лексічную адзінку меўся толькі адзін прыклад.

У многія слоўнікавыя артыкулы ўключаюцца ўстойлівыя сінтаксічныя адзінкі, якія маюць у сваім складзе ў якасці апорнага кампанента слова, адпаведнае загалоўнаму слову артыкула. Ва ўсіх устойлівых выразах падаецца іх значэнне, адлюстраванае ў пашпартызаванай ілюстрацыі. У слоўніку да ліку сінтаксічна звязаных адзінак адносяцца састаўныя тэрміны, фразеалагізмы. Аднясенне састаўных тэрмінаў да адпаведнай рэестравай адзінкі вызначаецца галоўным чынам анамасіялагічна і залежыць ад характару вылучальнай матывацыйнай прыкметы, якая абумовіла з’яўленне самой моўнай адзінкі. Аднак дасягнуць аднастайнасці ў падачы такіх абазначальных сродкаў аказалася цяжка, таму іх размяшчэнне ў межах слоўнікавага артыкула часам з’яўляецца спрэчным. Як і іншыя сінтаксічна звязаныя канструкцыі, якія выкарыстоўваюцца ў якасці ілюстрацыйных

прыкладаў, тэрміны падаюцца пад спецыяльным адсылачным знакам ○. Пад гэтым знакам незалежна ад ступені лексіка-семантычнай самастойнасці слоў, якія іх складаюць, аб’ядноўваюцца ўсе вылучаныя ў якасці асобных абазначальных адзінак састаўныя тэрміны.

**РАЧНЫ́** *прым.* ○ РАЧНЫ́ БЫК. Птушка бугай. *Рачны́ бык, у яго́ дзю́ба длі́нныя і пу вадзе́ тырр... гу-гу-гу* [такі атрымліваецца гук]. Сянно.

**МЫШЫ́НЫ** *прым.* Такі, як у мышы. *І з мышы́нае во́ка гары́ць ля́мпачка, капцё́лачка.* Багданава. ○ МЫШЫ́НЫЯ ШАМПІЁНЫ. Неядомыя грыбы, падобныя на шампіньёны. Дуброўкі.

Альтэрнатыўныя варыянты з тоесным засведчанаму састаўному тэрміну значэннем бяруцца ў круглыя дужкі.

○ АШЛАПНО́Е БЯРНО́ (ШЛАПНО́Е БРАЎНО́). Апошняе суцэльнае бервяно ў зрубе.

Фразеалагізмы, якія ўжываюцца ў слоўніку, маюць адсылачны знак ◊. Гэты сімвал часта выкарыстоўваецца ў беларускай лінгвістыцы. Для захавання ўсталяванай традыцыі ён быў прыняты ў даведніку. Пры фразеалагізмах з валентна абмежаваным значэннем, якія маюць абавязковыя суправаджальныя словы, прыводзяцца словы-суправаджальнікі. Яны пішуцца малымі літарамі, падаюцца перад фразеалагізмам ці пасля яго.

◊ расці ЯК ГРЫ́БЫ <АТ ЦЁПЛАГА ДО́ЖДЖУ>. Расці хутка, непрыкметна (пра дзяцей). *Расту́ць твае́ дзе́ткі як грыбы́ ат цёплага до́жджу.* Вялікі Азярэцк. Структурна пранікальныя кампаненты фразеалагізма афармляюцца з дапамогай дужак наступнага віду < >. Ужытыя ў словазборы фраземы абагульняюцца ў індэкс, які змяшчаецца ў другім томе выдання. Іх пошук у слоўніку ажыццяўляецца па дамінантным кампаненце ўстойлівага словазлучэння, які суадносіцца з рэестравым словам.

Да сінтаксічна звязаных канструкцый у слоўніку не адносяцца словазлучэнні тыпу *даць веры, даць штрафу, даць наганяйла.* Канструкцыі такога тыпу належаць, як вядома, да ліку праблемных моўных адзінак і па-рознаму падаюцца ў лексікаграфічных дыялектных крыніцах. Вылучэнне іх як сінтаксічна непадзельных адзінак абумоўліваецца тым, што гэтым аналітычным канструкцыям адпавядаюць аднаслоўныя абазначальныя сродкі, накшталт *даць веры / паверыць, даць штрафу / аштрафаваць.* Наяўнасць у канструкцыях такога тыпу аднаслоўных семантычна тоесных адпаведнікаў дазваляе прыраўноўваць іх да фразеалагізмаў. Але падобны паралелізм існавання, з аднаго боку, сінтаксічных канструкцый, з другога, эквівалентных ім аднаслоўных лексічных адзінак, адлюстроўвае ўзаемадзеянне тэндэнцый аналітызму і сінтэтызму, у якіх увасабляецца спецыфіка словаўтваральных адносін, характэрная для мовы. Прынамсі, у адзначаных словазлучэннях дзеяслова і назоўніка корань назоўніка з’яўляецца базавым намінатыўным кампанентам пры ўтварэнні адпаведнага дзеяслова: *даць штрафу / аштрафаваць.* Таму ў дадзеным выпадку, як і ў падобных да

адзначанага, актуальнасць набываюць словаўтваральныя праблемы. Апошняе не з'яўляецца прадметам аналізу і апісання ў лексікаграфіі, таму разглядаць згаданыя канструкцыі як фразеалагізмы ў складзе слоўнікавага артыкула падстаў не існуе, аднак асаблівасці сінтаксічнай дыстрыбуцыі тут маюць месца. Адносіць выразы тыпу *даць штрафу* да фразеалагічных адзінак не дазваляе і тое, што кожнае слова ў іх складзе захоўвае сваю семантыку і граматычныя паказчыкі.

У слоўнікавым артыкуле падобныя апісальныя дзеяслоўна-іменныя звароты падаюцца ў межах рэестравай адзінкі ў адпаведнасці са ступенню градацыі значэнняў загалоўнай лексемы, займаючы ў артыкуле адно з апошніх месцаў.

**ДАЦЬ** *зак.* ... 11. Шчоўкнуць. *Шчаўчóк як дась, ажнó ў галавé зазвініць.* Ульянавічы.

Як своеасаблівыя ілюстрацыі да загалоўнага слова ў слоўніку выкарыстоўваюцца выслоўі – прыказкі, прымаўкі і інш. У даследчай працы прыказкі, прымаўкі як асобныя афарыстычныя адзінкі не адрозніваюцца. Яны аб'ядноўваюцца пад агульным паняццем «прыказка». Пры аб'яднанні розных, як пакуль яшчэ прынята ў традыцыйнай навучальнай літаратуры, афарыстычных адзінак, якімі з'яўляюцца прыказкі і прымаўкі, мы кіраваліся поглядам І. Я. Лепешава. Даследчык заўважаў: «...каб пазбегнуць тэрміналагічнай блытаніны, уяўляецца найбольш лагічным, апраўданым скасаваць тэрмін "прымаўка" як аналаг фразеалагізма і выкарыстоўваць адзіны тэрмін "прыказка" для абазначэння народных фразеалагізмаў, якія валодаюць інтанацыйнай і сэнсавай закончанасцю»[4].

Ужыванне прыказак, іншых адметных выслоўяў у якасці ілюстрацый у тлумачальных слоўніках грунтуецца на пэўных прынцыпах. Аднак пры іх выкарыстанні ў такой ролі існуе, як адзначаюць даследчыкі дадзенай галіны мовазнаўства, шэраг хібаў і недакладнасцей. Абумоўлена гэта тым, што істотная колькасць прыказак выступае ў пераносным значэнні ці мае алегарычны сэнс. У выніку словы-кампаненты ў складзе такіх афарыстычных выслоўяў страцілі сваю першасную семантыку і, адпаведна, не могуць служыць як ілюстрацыі пры перадачы прамога значэння рэестравага слова ў слоўніку тлумачальнага тыпу. Выйсце з гэтай сітуацыі беларускім даследчыкам парэміялогіі бачыцца ў стварэнні тлумачальных слоўнікаў прыказак як асобных спецыялізаваных слоўнікавых выданняў. Такі шлях па раскрыцці і апісанні спецыфікі парэміялагічных адзінак, безумоўна, правільны. Разам з тым цяжка згадзіцца, што ён адзіны і што выкарыстанне прыказак у якасці прыкладаў на ўжыванне загалоўнага слова ў тлумачальных слоўніках прыводзіць да значных складанасцей

[4] Прадмова // Слоўнік беларускіх прыказак / І. Я. Лепешаў, М. А. Якалцэвіч. Мінск: Беларуская навука, 2002. С. 7–8.

ці суправаджаецца сур'ёзнымі памылкамі пры ўстанаўленні семантыкі рэестравай лексемы. Думаецца, што ў тлумачальных лексічных даведніках абагульненне ў адным слоўнікавым артыкуле матэрыялаў з рознай ступенню сінтаксічнай сувязі слоў, а таксама з адлюстраваннем іх ужывання ў прамым ці пераносным або алегарычна-вобразным значэнні – гэта натуральны і запатрабаваны спосаб падачы лексічнай інфармацыі, каштоўны для лексікаграфічных выданняў.

Пры складанні слоўніка «Мова Сенненшчыны» аўтары таксама выкарыстоўвалі народныя афарызмы як ілюстрацыйны матэрыял па тлумачэнні загалоўнага слова. Народныя афарызмы падаюцца згодна з прынцыпам вылучэння апорнага лексічнага кампанента ў складзе прыказкі ці іншага выслоўя. Спроба складання парэміялагічнага даведніка, угрунтаванага на прынцыпе вылучэння апорнага кампанента ў складзе адметных народных выслоўяў, у беларускім мовазнаўстве была рэалізавана ў выданні «Слоўнік беларускіх прыказак» І. Я. Лепешава і М. А. Якалцэвіч. Акрамя таго, яго аўтары выявілі, што «прыкладна 90 %» прыказак ад іх агульнай колькасці ў названай працы «маюць у сваім складзе кампанент-назоўнік», а таксама «апрадмечаны прыметнік, лічэбнік, займеннік, агульны для многіх прыказак»[5]. Стварэнне слоўніка прыказак згодна з прынцыпам вылучэння апорнай лексічнай адзінкі ў складзе народнага афарызма засведчыла, што выкарыстанне шматлікіх выслоўяў як прыкладаў па адлюстраванні значэння рэестравага слова не можа быць абсалютна адвольным. З улікам сказанага пры ўжыванні прыказак у якасці ілюстрацыі ўкладальнікі слоўніка «Мова Сенненшчыны» падавалі іх у тых слоўнікавых артыкулах, апорны кампанент якіх адпавядаў рэестраваму слову. Але выкарыстанне выслоўяў згодна з прынцыпам вылучэння апорнага кампанента ў іх складзе прывяло да нераўнамернага размеркавання народных афарызмаў у слоўнікавых артыкулах сенненскага словазбору. Улічваючы гэта, а найперш тое, што парэміі – гэта адметныя па сваёй семантыцы моўныя адзінкі, афарыстычныя народныя выслоўі ў межах слоўнікавага артыкула вылучаюцца як асобныя ілюстрацыі. Іх статус адлюстроўваецца адсылачным знакам □. Дадзены сімвал быў выбраны адвольна і прыняты ў якасці адзінага агульнага знака, які аб'ядноўвае прыказкі і прымаўкі. Пры такіх выслоўях значэнне звычайна не тлумачыцца, за выключэннем некаторых выпадкаў, у якіх раскрываецца семантыка апорнай лексічнай адзінкі парэміі. Зафіксаваныя ў слоўніку прыказкі і прымаўкі ў якасці дадатку змяшчаюцца ў другім томе ў індэксе выслоўяў. У спісе яны падаюцца на аснове апорнай лексічнай адзінкі, тоеснай рэестраваму ці загалоўнаму слову ў рэестравым радзе слоўнікавага артыкула.

---

[5] Прадмова // Слоўнік беларускіх прыказак / І. Я. Лепешаў, М. А. Якалцэвіч. С. 33.

**ГАД, ГАТ** *м.* 1. Гадзюка, вуж. Каралевічы. 2. *лаянк.* Пра небяспечнага, шкоднага чалавека. *А ён, гат, стаў крычэ́ць, то не́мцы пачу́лі.* Закур'е. *Як заспо́рыш, дык і гаво́раць: су́шчы гад.* Заазер'е.

□ *Ка́жны (уся́кі) гад на чужо́е рад.* Вялікі Азярэцк. □ *Ко́жны гад на свой лад.* Каралевічы.

Пры перадачы фанетычнага аблічча загалоўных слоў і ілюстрацыйных прыкладаў былі выкарыстаны сродкі беларускага пісьма. Для адлюстравання асаблівасцей мясцовага вымаўлення ў сістэме зычных і галосных ужыты асобныя сімвалы. Г выбухное перадаецца сімваламі **Ґ**, ґ, рэдукаваны гук абазначаецца сімвалам **ъ**.

Калі ў ілюстрацыях збіральнікаў змяшчаецца дадатковая, неабходная для разумення тэксту інфармацыя або звесткі этнаграфічнага характару, пры іх падачы ўжываюцца квадратныя дужкі []. Напрыклад:

**ГАРЭ́ЦЬ** *незак.* 2. Смылець ад укусаў, апёкаў. *Я яе́ рука́мі го́лымі рву* [крапіву], *пстрыка́іцца, ру́кі гара́ць.* Заазер'е.

Наяўнасць або адсутнасць прыстаўных галосных у большасці выпадкаў перадаецца запісам двух варыянтаў слоў, хоць з'ява адпадзення пачатковага галоснага характэрна найперш для маўлення і мае пераважна пазіцыйна абумоўлены характар. У тэкставых прыкладах адсутнасць пачатковых ***а*** ці ***і*** спецыяльным сімвалам не паказваецца.

**АЛЁШНІК, ЛЁШНІК** *м. Распусці́ўся алёшнік – год мо́кры* (з назіраннях). Каралевічы. *Лёшнік пъвысіка́лі.* Баравікі.

Дыялектны слоўнік «Мова Сенненшчыны» складаецца з двух тамоў. Слоўнікавыя артыкулы да першага тома распрацавалі: літары *А*, *Б* – Н. М. Бунько і Ю. В. Маліцкі, літара *В* – Н. М. Бунько, літары *Г*, *Д* – В. М. Курцова, літары *Е*, *Ё*, *Ж*, *З*, *Н*, *О* (у пачатковай версіі былі распрацаваны Н. В. Сівіцкай, праца над літарамі ў выглядзе, пададзеным у слоўніку, была выканана навуковымі рэдактарамі тома Л. П. Кунцэвіч і В. М. Курцовай), літары *І*, *К*, *Л*, *М* – Т. М. Трухан. Уся работа, звязаная з аб'яднаннем у адзін слоўнікавы артыкул варыянтаў слоў з лексікалізаванымі і іншымі фанетычнымі з'явамі, зроблена В. М. Курцовай.

*В. М. Курцова*

## Спіс абследаваных населеных пунктаў

| | Населены пункт | Сельскі савет | Год абследавання | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | **Сенненскі раён** | | | | |
| 1 | Алексінічы | Студзёнкаўскі | 1987 | | | |
| 2 | Апечкі | Беліцкі | | | | 1990 |
| 3 | Багданава* | Багданаўскі | 1987 | 1988 | 1989 | 1990 |
| 4 | Багданава[1] | Нямойтаўскі | | | 1989 | |
| 5 | Баравікі | Нямойтаўскі | | 1988 | | |
| 6 | Буй | Нямойтаўскі | | | | 1990 |
| 7 | Вялікі Азярэцк | Багданаўскі | | | | 1990 |
| 8 | Галашчакіна | Беліцкі | 1987 | | | |
| 9 | Гарадзец | Багданаўскі | 1987 | | | 1990 |
| 10 | Гарадок | (страчаная назва) | 1987 | | | |
| 11 | Дольдзева | Багданаўскі | | 1988 | | |
| 12 | Жохава | Какоўчынскі | | 1988 | | |
| 13 | Заазер'е | Багданаўскі | | | 1989 | 1990 |
| 14 | Забор'е | Нямойтаўскі | 1987 | | | |
| 15 | Замошша | Багданаўскі | 1987 | | | |
| 16 | Запруддзе | (страчаная назва) | 1987 | 1988 | 1989 | 1990 |
| 17 | Івоні | Студзёнкаўскі | | | | 1990 |
| 18 | Кавалі | Студзёнкаўскі | 1987 | | | |
| 19 | Каменшчына | Ульянаўскі | | | 1989 | |
| 20 | Канева | Багданаўскі | 1987 | | | |
| 21 | Каралевічы | Багданаўскі | | | | 1990 |
| 22 | Каралі | Беліцкі | 1987 | | | |
| 23 | Карпавічы | Ходцаўскі | | 1988 | | |
| 24 | Кішуроўшчына | Багданаўскі | | | 1989 | |
| 25 | Кляпчэва | Студзёнкаўскі | | | 1989 | |
| 26 | Латыгаль | Беліцкі | | 1988 | | |
| 27 | Леснікі | Багданаўскі | | 1988 | | |
| 28 | Леснікова | Студзёнкаўскі | | 1988 | | |
| 29 | Малы Азярэцк | Багданаўскі | | | 1989 | |
| 30 | Манголія | Беліцкі | 1987 | | | 1990 |
| 31 | Марозаўка | Нямойтаўскі | | | 1989 | |
| 32 | Машчоны | Ходцаўскі | | | | |
| 33 | Міцюкова | Какоўчынскі | | 1988 | | |

* Для адрознення назвы вёскі Багданава Нямойтаўскага сельскага савета ад аналагічнай назвы вёскі Багданавіцкага сельскага савета выкарыстоўваецца надрадковы сімвал. Спасылка на вёску Багданава Нямойтаўскага сельскага савета мае выгляд Багданава[1].

| | Населены пункт | Сельскі савет | Год абследавання | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 34 | Міхнава | Какоўчынскі | | 1988 | | |
| 35 | Мянюцева | Беліцкі | | | | 1990 |
| 36 | Нямойта | Нямойтаўскі | 1987 | 1988 | 1989 | |
| 37 | Падворыца | Ходцаўскі | | | | |
| 38 | Партызаны (Торбінка) | Багданаўскі | | 1988 | | 1990 |
| 39 | Парэчча | Нямойтаўскі | | | | 1990 |
| 40 | Пожанькі | Багданаўскі | | 1988 | | |
| 41 | Пустынкі | Студзёнкаўскі | | | | 1990 |
| 42 | Ракаў Засценак | Нямойтаўскі | | 1988 | | |
| 43 | Рассвет (Чартоўшчына) | Студзёнкаўскі | | | 1989 | |
| 44 | Розмыслава | Нямойтаўскі | 1987 | | | |
| 45 | Рубежніца | Ходцаўскі | | 1988 | | |
| 46 | Рудніца | Багданаўскі | | 1988 | | |
| 47 | Рулёўшчына | Беліцкі | 1987 | | | |
| 48 | Рэчкі | Багушэўскі | | | | 1990 |
| 49 | Савінічы | Студзёнкаўскі | | | 1989 | |
| 50 | Самсоны | Ходцаўскі | | | 1989 | |
| 51 | Свечы | Багданаўскі | 1987 | | | |
| 52 | Серкуці | Нямойтаўскі | | | 1989 | |
| 53 | Станюкі | Беліцкі | | | | 1990 |
| 54 | Старая Беліца | Беліцкі | | | | |
| 55 | Сукрэмна | Нямойтаўскі | 1987 | | | |
| 56 | Сянно | | 1987 | 1988 | 1989 | 1990 |
| 57 | Сяргейкі | Багданаўскі | | 1988 | 1989 | |
| 58 | Турава | Багданаўскі | | | | 1990 |
| 59 | Ульянавічы | Багданаўскі | 1987 | | 1989 | 1990 |
| 60 | Фасаўшчына | Ульянаўскі | 1987 | | | |
| 61 | Хамінічы | Нямойтаўскі | | 1988 | | |
| 62 | Чуцькі | Нямойтаўскі | | | 1989 | |
| 63 | Цясішча | Нямойтаўскі | | | 1989 | 1990 |
| 64 | Яхімаўшчына | Студзёнкаўскі | 1987 | | | |
| | | **Чашніцкі раён** | | | | |
| 65 | Дуброўкі | Альшанскі | 1986 | | | |
| 66 | Закур’е | Альшанскі | 1986 | | | |
| 67 | Неўгадава | Пачаевіцкі | 1986 | | | |

Спіс населеных пунктаў быў складзены Н. В. Сівіцкай, праверany паводле даведніка «Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Віцебская вобласць»[6] В. М. Курцовай. Назвы некаторых населеных пунктаў, якія былі перайменаваны, прыводзяцца ў дужках. Тыя населеныя пункты, якія перасталі існаваць, суправаджаюцца запісам *страчаная назва*.

[6] Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Віцебская вобласць: нармат. давед. / У. М. Генкін [і інш.]; пад рэд. В. П. Лемцюговай. Мінск: Тэхналогія, 2009.

## Спецыяльныя паметы

адгадка
велікодная гульня
выслоўе
вясельнае пажаданне
дражнілка
жарт
з анекдота
з дзіцячага вершыка
з дзіцячай калыханкі
з дзіцячай лічылкі
з дзіцячай песенькі
з замовы
з казкі
з малітвы
з назіранняў
з падання
з песні
з прыпеўкі
забаўлянка
загадка
звычай
зычэнне
лаянка
павер'е
праклён
прыгавор
прыгаворка
прыкмета
прыпеўка
урочышча

## Прынятыя скарачэнні

*абразл.* – абразлівае
*агульн.* – агульны (назоўнік агульнага роду)
*адкуль-н.* – адкуль-небудзь
*выкл.* – выклічнік
*г. д.* – гэтак далей
*груб.* – грубае
*да т. п.* – да таго падобнае
*дзе-н.* – дзе-небудзь
*дзеепрым.* – дзеепрыметнік
*дзеепрысл.* – дзеепрыслоўе
*дзіц.* – дзіцячае
*ж.* – жаночы род
*займ.* – займеннік
*зак.* – закончанае трыванне
*зб.* – зборны назоўнік
*злучн.* – злучнік
*зневаж.* – зневажальнае
*інш.* – іншае
*іран.* – іранічнае
*куды-н.* – куды-небудзь
*ласк.* – ласкальная форма
*лаянк.* – лаянкавае
*ліч.* – лічэбнік
*м.* – мужчынскі род
*метаф.* – метафарычнае
*мн.* – множны лік
*н.* – ніякі род
*неадабр.* – неадабральнае
*незак.* – незакончанае трыванне
*нескл.* – нескланяльнае
*пад.* – падобнае
*па н. ст.* – па новым стылі
*памянш.* – памяншальная форма
*памянш.-ласк.* – памяншальна-ласкальная форма
*перан.* – пераноснае значэнне
*прым.* – прыметнік
*прыназ.* – прыназоўнік
*прысл.* – прыслоўе
*спец.* – спецыяльнае
*устар.* – устарэлае
*хто-н.* – хто-небудзь і іншыя ўскосныя склонавыя формы займенніка *хто*
*часц.* – часціца
*чый-н.* – чый-небудзь і іншыя ўскосныя склонавыя формы займенніка *чый*
*што-н.* – што-небудзь і іншыя ўскосныя склонавыя формы займенніка *што*
*экспр.* – экспрэсіўнае
*эмац.-ацэн.* – эмацыянальна-ацэначнае
*які-н.* – які-небудзь і іншыя ўскосныя і родавыя формы займенніка *які*
*якія-н.* – якія-небудзь і іншыя ўскосныя склонавыя формы займенніка *якія*
*як-н.* – як-небудзь

## Асобныя сімвалы і знакі

() – заключаюцца словы, якія ўдакладняюць значэнне загалоўнага слова, а таксама варыянты слоў у сінтаксічна і камунікатыўна звязаных адзінках і словы-суправаджальнікі ў фразеалагізмах

○ – абазначэнне састаўнога тэрміна

◊ – абазначэнне фразеалагізма

□ – абазначэнне прыказкі і іншых адметных выслоўяў

<> – пры расшырэнні кантэксту фразеалагізмаў, адметных выслоўяў і іншых афарыстычных адзінак

[] – пры перадачы ўдакладняльнай інфармацыі ці этнаграфічных звестак

(?) – пры меркавальнасці значэння або няўпэўненасці ў ім

/ – пры размежаванні радкоў песні

**А** *злучн.* А. *Смарикі ш шапъчкуй, і он расцець цвярдзейшый і як гармошычка нъ вярху, а страчкі вышый.* Латыгаль.

**А** *часц.* А. *А ўперат кміну ўсыпіш і добра.* Манголія. *А там абычна клець, амбар, зярно, калбасы вешалі.* Нямойта. *А як адчаяцца, мамка мая любая!* Савінічы.

**АБ, АП** *прыназ.* 1. Аб, пра (пра прадмет гаворкі). *Не, аб етъм нічога не було чуваць.* Вялікі Азярэцк. *Міліцыянер спрашываў аб аднаго старыка.* Рэчкі. *Аб чэм прышоў? – Аб хаці.* Рассвет. *Ты ні знаіш, ап што мы гаворым.* Чуцькі. 2. За (пра час). *Бандаш шылі аб адным дні.* Серкуці. 3. На, пад, перад, у час. *Аб Новым годзе адна жэншчына памерла.* Карпавічы. 4. На (указвае на прадмет харчавання). *Месіц аб аднэй вадзе жыла.* Заазер'е.

**АБА́БАК** *м.* Снапы, састаўленыя ў кучку для абмалоту або прасушкі; бабка. *Складаюць у ток нескалькі абабкаў у адну кучу.* Вялікі Азярэцк.

**АБА́БАК** *м.* Абабак, падбярозавік. *Абапкі пад бярозамі яны, у іх жоўценькая ношка.* Чуцькі.

**АБАБРА́ЦЦА** *зак.* Сабрацца, сустрэцца. *Абабраліся чатыры – і пашлі на гару.* Самсоны.

**АБАБРА́ЦЬ** *зак.* Абабраць, аграбіць. *Знашлі, абабралі яго і забілі.* Савінічы, Лeснікова.

**АБАБРА́ЦЬ** *зак.* Абабраць, сабраць. *Чарніцы абабралі, а тады дурніцы будуць браць.* Кляпчэва.

**АБАГНА́ЦЬ** *зак.* Абысці (па крузе). *Раньша па днэй чаркі абгонюць і ўсё.* Серкуці.

**АБАГРЭ́Ў** *м.* Абаграванне. *Шчыт – бальшынство для абагрэва хаты.* Фасаўшчына.

**АБАГУ́Л** *м.* Абагульванне. *Усё пашло ў абагул, усё уместа.* Савінічы.

**АБАГУ́ЛІВАЦЬ** *незак.* Абагульваць. *Сохі сабіралі, бароны – што ў каго – кароў абагулівалі, коней, усё опшчэм.* Заазер'е, Запруддзе, Нямойта, Рулёўшчына.

**АБАГУ́ЛІЦЬ** *зак.* Абагуліць. *Абагулілі скот увесь у камуну.* Баравікі. *Хто сваю палоску сжаў, хто аддаў – усё абагулілі.* Савінічы. *Аднаго къня пърдавайця, а то абагуляць.* Рулёўшчына.

**АБАЗЛЁНЫ** *дзеепрым.* Узлаваны, злы. *Якія сталі абазлёныя людзі: бойся к каму зайці.* Багданава.

**АБАЗЛІ́ЦЦА** *зак.* Пасварыцца, сапсаваць адносіны. *Гарбачоў са ўсімі абазліўся, цяпер адчуваюцца ўсе: і Літва, і Латвія.* Буй.

**АБАЗЛЯ́ЦЦА** *незак.* Сварыцца, псаваць адносіны. *Не хачу абазляцца з працсідаўцелям.* Партызаны.

**АБАЗНА́ЦЦА** *зак.* Абазнацца. *Ці я абызнаўлъся, ці не.* Сянно.

**АБАЗНАЧА́ЦЬ** *незак.* Значыць. *А я й не знаю, што ён абазначаіць – Іван-гълаварэз.* Самсоны.

**АБА́ПАЛ** *прысл.* Абапал. *Абапал былі два пъграбы, а мой пъсярэдзіні.* Міцюкова.

**АБАПЕ́РЦІСЯ** *зак.* Абаперціся. *На мяне абапрэцца і ідзець па хаці.* Розмыслава. *Прыдзець Дашка, абапрэцца аб гарод і Малахавіча з языка не спускаець.* Міцюкова.

**АБАРА́НАК, БАРА́НАК** *м.* Абаранак. *На Съракі пяклі бъра́нкі.* Запруддзе.

**АБАРВА́ЦЬ** *зак.* Нарваць, апухнуць і нагнаіцца. *Па́лец абарва́ў – къласкі палі́чуць і прыкладаю́ць, а ско́лькі іх, чорт ве́даіць.* Ракаў Засценак.

**АБАРО́НА** *ж.* Абарона. *Ты мъя́ зашчы́та і абаро́на!* Сянно.

**АБАРО́Т** *м.* Канец загона, баразны. *Ці вы́капаў абаро́т?* Багданава.

**АБАСЛАЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* Благаслаўляць. *Радзіцелі абъслъўля́юць сы́на, дачку́: бяру́ць йіко́ну, хлеб бяру́ць і соль нъ тарэ́льчку.* Запруддзе.

**АБАСТРЫ́ЦЦА** *зак.* Пачаць балець (з-за абвастрэння). *Не́шта пад грудзьмі́ абастры́лася.* Ґарадзец.

**АББЕ́ГЧЫ** *зак.* Аббегчы. *Аббяжы́ круго́м ха́ты тры разы́.* Партызаны.

**АББІВА́ЦЦА** *незак.* Зношвацца, драцца (пра адзенне, тканіну). *І не рабо́таю, а рукавы́ аббіва́юцца.* Ульянавічы.

**АББІВА́ЦЬ** *незак.* Вымалочваць зерне (пра лён). *На таку́ аббіва́лі лён.* Рэчкі. *Да вайны́ бо́лі лён аббіва́лі.* Фасаўшчына, Нямойта.

**АББРЫ́НДАЦЦА** *зак.* Знасіцца, падрацца (пра адзенне, тканіну). *Аббры́ндалася ю́бка.* Нямойта.

**АББЯЛІ́ЦЬ** *зак.* Аблупіць, зняць скуру. *Каро́ву, аве́чку зарэ́заў, а тады́ аббялі́ў.* Гарадзец.

**АБВАЗГРЫ́ЦЦА** *зак.* Абсаплівіцца. *Абвазгры́лася ты!* Нямойта.

**АБВАЛА́КАЦЬ** *незак.* Пакрывацца ахоўнай абалонкай. *Абвъла́къіць дупло́ ў лі́пе і апя́ць жыве́, а друго́е дрэ́ва ўсыха́іць.* Кляпчэва.

**АБВАЛІ́ЦЦА** *зак.* ◊ АБВАЛІ́ЦЦА Ў ВО́БМАРАК. Страціць прытомнасць. *У во́бмарак абвалі́ся: яна́ змы́ла дзе́ньгі.* Дольдзева.

**АБВА́РАНЫ** *дзеепрым.* ◊ пабе́гчы ЯК АБВА́РАНЫ. Вельмі хутка, імкліва. *Пабе́х як абва́ръны.* Серкуці.

**АБВАРЗО́ПАЦЦА** *зак.* Запэцкацца. *Абварзо́паўся ты ўвесь ужо́.* Нямойта.

**АБВАРЫ́ЦЬ** *зак.* Абварыць, заліць варам. *Пі́рямыць грыбы́; абвары́ць і вары́ць.* Карпавічы.

**АБВІНЦІ́ЦЬ** *зак.* Абгарнуць, абкруціць. *Бяро́стай абві́нціць гърла́ч.* Нямойта.

**АБВІ́ЦЦА** *зак.* 1. Абвіцца. *Вуш абаўе́цца кълы́ нагі́ каро́вы, ссець.* Алексінічы. 2. Вырасці абапал, аплесці. *Дзе лес вы́рубюць, там дзіля́нка, а къля карчо́ў абаўюцца суні́цы.* Манголія.

**АБВЫ́КНУЦЬ** *зак.* Звыкнуцца, прызвычаіцца. *Конь абвы́кніць, ня бу́дзіць бъя́цца, ня ўпу́дзіцца.* Самсоны.

**АБВЯ́ГНУЦЬ** *зак.* Абвянуць. *Карто́шка абвя́гла была́ ад жары́.* Багданава.

**АБВЯ́ЦЬ** *зак.* Часткова страціць жыццядзейнасць. *У цябе́ лёхкія абвя́лі, як тръва́.* Заазер'е.

**АБГАВАРЫ́ЦЬ** *зак.* 1. Абмеркаваць, параіцца. *Абгавары́лі, што тут зъ хляво́м ня бу́дзім* [будавацца]: *ні́ска.* Гарадок. *З іх ста́ршы сабра́ння право́дзіць, і тады́ абгаво́руць, каго́ сасла́ць. Напі́шуць, патпі́шуць; прые́дуць, забяру́ць. Пашлю́ць, і ўсё – ня ве́рніцца ён. Ніхто́ не вярну́ўся.* Буй. 2. Абгаварыць, зняславіць. *Абгъвъры́лі з гълавы́ да ног.* Запруддзе.

**АБГАВО́РАМ** *прысл.* Абгаворваючы, нядобразычліва выказваючыся пра каго-н. *Не абгаво́рам: дзе́ўка была́ знасі́лена.* Запруддзе.

**АБГА́ІВАЦЦА** *незак.* Загойвацца. *Хай мале́нькага парсючка́ скастры́руюць: бы́стра абга́іваюцца.* Партызаны.

**АБГАЛЕ́ЦЬ** *зак.* Збяднець. *Абгалеў саўсем, аблянеў, абанкроціўся.* Нямойта.

**АБГАЛІ́ЦЦА** *зак.* Агаліцца. *Абгаліўся провад – як траханула яе!* Багданава.

**АБГАЛІ́ЦЬ** *зак.* ◊ АБГАЛІЦЬ НА ГОЛУЮ БЕЛКУ. Абрабаваць, забраць усё. *Нас абгалілі на голую белку, зладзеі, усё абчысцілі.* Запруддзе.

**АБГАРАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Абгарадзіць. *Хаты згарэлі, абваліліся, а печы асталіся. Абгарадзілі мушчыны* [печы], *хлеп пяклі.* Багданава.

**АБГАРО́ДА** *ж.* Агароджа. *Зъраслó кладбішча: ні абгароды німá, нічога.* Чуцькі. *Кругом хаты – абгарода.* Закур'е.

**АБГАРО́ДЖАНЫ** *дзеепрым.* Абгароджаны, абнесены агароджай. *У нас было абгароджыныя стойла.* Гарадок. *Дрэвам абгароджаны.* Закур'е.

**АБГАРО́ДКА** *ж.* Спецыяльнае прыстасаванне, якое прыстаўлялася да жорнаў, каб не рассыпалася мука; абгародка. *У жорнах – абгародка, кап мука ні сыпълъся.* Марозаўка.

**АБГАРЭ́ТЫ** *дзеепрым.* Абгарэлы. *Абпаліў пярун: абгарэтая столь, сцінá.* Апечкі.

**АБГАРЭ́ЦЬ** *зак.* Абгарэць. *Пярун ударыў – хата абгарэла.* Апечкі.

**АБГІБА́ЦЦА** *незак.* Прагінацца. *Аж лёд абгібаўся.* Закур'е.

**АБГІНА́ЦЬ, АБГІБА́ЦЬ** *незак.* 1. Падварочваючы краі, загінаць. *Бярэш жалеза, абгінаеш на клін, кусок жалеза ложыш і уварыіш у гарнé, каб жыткае, як вадá.* Жохава. 2. Рабіць, надаючы выгнутую форму. *На чатыры капылы дзелалі сані і абгібалі.* Марозаўка.

**АБГЛЕ́ДЗЕЦЬ** *зак.* Агледзець, абшукаць. *Я усюдых абглёдзела: нідзé рыбы німá.* Серкуці.

**АБГРЫ́ЗАК** *м.* Недагрызак. *Сядзім есь, то абгрызкаў бульбы нъкладзеш, а тады пірабіраіш, дъідаіш.* Цясішча.

**АБДА́ЦЬ** *зак.* Абмыць, абліць. *Бярозавым лісцем цéла абдаваць харашó.* Цясішча. *А патом – кіпятком абдасі.* Манголія.

**АБДЗЕ́ЛЬВАЦЬ** *незак.* Абдзяляць. *Як абдзельвала янá мяне.* Нямойта.

**АБДЗІ́Р** *м.* Адходы пры трапанні лёну. *Абдзір – пакулля, кастра падалі.* Апечкі.

**АБДЗІРА́ЦЦА** *незак.* Абдзірацца, драпацца. *Ручкі аслабадзіць* [дзіця], *то абдзіраіцца.* Міцюкова.

**АБДЗІРА́ЦЬ** *незак.* Ачышчаць (зерне) ад абалонкі перад тым, як малоць або пускаць на крупы; шатраваць. *Пшаніцу ні абдзіралі, мякінька малолі.* Багданава.

**АБДРЫ́ПАНЫ** *прым.* Задрыпаны, неакуратны, неахайны. *Абдрыпаная жэншчына, неакуратная.* Нямойта.

**АБДУВА́ЦЬ** *незак.* Раздзімаць. *Абдуваіць карову, нáда віцінарка вызываць.* Гарадзец.

**АБДУ́МАЦЦА** *зак.* 1. Перадумаць, прыйсці да іншага рашэння. *Абдумаліся, і гэтыя тръктърá ніхто ні бярэць, а дай трактар маламошны.* Фасаўшчына. *Усё върючаецца: абдумаліся, алé позна.* Заазер'е, Багданава, Вялікі Азярэцк, Івоні, Каралевічы. 2. Падумаць, успомніць. *Абдумаўся манáх, што ў яго ў гълавах.* Каралевічы.

**АБДУРЫ́ЦЬ** *зак.* Абдурыць, падмануць, ашукаць. *Абдурыў дзяўчонку, а шчэ шкурай абзываіш.* Гарадзец.

**АБДУ́ЦЦЕ, АБДУ́ЦІЕ** *н.* Уздуцце. *Абдуцце каровы – гъняюць яé, пакуль панóсам прахвоціць.* Нямойта. *Абдуціе у каровы: разапрэць яé.* Парэчча.

**АБЕ́Д** *м.* Абед. *Тушо́нкі на абе́д пъста́віла, бо́лей ні вары́ла нічо́га.* Міцюкова. *У абе́дзе і пъсля рабо́ты пъмъга́ў.* Баравікі.

**АБЕ́ДАШНІ, АБЕ́ДЗЕШНІ** *прым.* Абедзенны, абедні. *Абе́дашняе пъдаіла.* Багданава. *Вячэ́рышнія мълако́ с абе́дышнім змішаюць, то яно́ адра́зу і атся́дзіцца.* Турава, Сянно. *Абе́дзішняе мълако́ мо́жа ў каго́ ёсь, мо́жа хто прълда́сь.* Баравікі.

**АБЕ́ДНЯ** *ж.* 1. Набажэнства ў хрысціян, якое адбываецца раніцай або ў першай палове дня; абедня. *Абе́дня е́та ко́нчыцца, тады́ іду́ць па дзіръўня́х і танцу́юць.* Запруддзе. 2. У абедзенны час. *Прыяжджа́іць на абе́дні до́чка.* Фасаўшчына.

**АБЕ́Е, АБЕ́І** *ліч.* Абедзве. *Мае́ дзяўча́ты пайшлі́ с калхо́за абе́е.* Баравікі. *Абе́і хо́дзяць у дзівя́ты клас.* Вялікі Азярэцк, Івоні, Розмыслава.

**АБ'Е́ДДЗЕ** *н. зб.* Аб'едкі. *Во́ўчына аб'е́ддзе ляжы́ць.* Фасаўшчына.

**АБ'Е́ЖДЖАНЫ** *дзеепрым.* Аб'езджаны (пра каня). *Ко́ні былі́ яшчо́ ні аб'е́жджыныя, спужа́ліся і пане́слі яго́.* Фасаўшчына.

**АБ'Е́ЗДЗІЦЬ** *зак.* Аб'ездзіць. *Быва́ла, уве́сь свет аб'е́здзіць, або́йдзіць.* Савінічы.

**АБЕРАГА́ЦЦА** *незак.* Аберагацца, сцерагчыся. *Ніхто́ ня ро́біў у пра́знічны дзень: абірага́лісі.* Савінічы.

**АБ'Е́ХАЦЬ** *зак.* Аб'ехаць. *Аб'е́дуць, а ніко́лі здаро́ў ні ка́жуць.* Савінічы.

**АБЖА́ЛАВАЦЬ** *зак.* Абскардзіць. *Пато́м я абжа́ласаў, і мне далі́ апя́ць фтару́ю гру́пу.* Фасаўшчына.

**АБЖЫВА́ЦЦА** *зак.* Прызвычайвацца да жыцця на новым месцы. *Ён то́лькі што абжыва́ецца, то́лькі ха́ту паста́віў.* Багданава.

**АБЖЫНА́ЦЬ** *незак.* Жаць навокал ці пражаць праход; абжынаць. *Кала мяжэ́ абжына́й ячме́нь.* Багданава. *Ма́ма ка́жыць: «Абажні́ хоць мяжу́».* Рэчкі, Нямойта.

**АБЗА́** *ж.* Апошні знадворны слой дрэва. *Абзу́ на́да зняць, дзе кърá астае́цца. Падло́гу масці́ць ці дзве́ры ста́віць, абза́ здыма́ецца.* Нямойта.

**АБЗЫВА́ЦЬ** *незак.* Абзываць. *Цяпе́р ніхто́ ні абзыва́іць пло́хім сло́вам.* Рэчкі.

**АБІВА́ЦЬ** *незак.* Абіваць, вымалочваць зерне (пра лён). *Такія дзе́ці хадзі́лі лён абіва́ць.* Закур'е.

**АБІ́ДА** *ж.* Крыўда. *Ат жа́лі, ат абі́ды я яму́ уступі́ла.* Мянюцева. *Абі́да ш на яе́: ты ж зна́ла, што э́та дзірaве́нскія, сваёй дзярэ́ўні.* Багданава.

**АБІ́ДЖАНЫ** *дзеепрым.* Пакрыўджаны. *Сі́льна абі́джаны го́рам чалаве́к.* Фасаўшчына.

**АБІ́ДНА** *прысл.* Крыўдна. *Абі́дна, што пе́нсія невялі́кая. А як я рабо́тала!* Партызаны.

**АБІ́ДНЫ** *прым.* Крыўдны. *Абі́днае палажэ́нне – пе́рвая судзьба́ не са мно́й.* Каралевічы.

**АБІЖА́ЦЦА, БІЖА́ЦЦА** *незак.* Крыўдзіцца. *Абіжа́йсі цяпе́р, но ты э́та скъза́ла, пусьці́ла брахню́.* Каралевічы. *Ні на́да біжа́цца.* Вялікі Азярэцк.

**АБІРА́ЦЬ** *незак.* Есці, пажыраць. *Дура́к не́йкі піса́ў, што ву́ткі абіра́юць жуко́ў.* Сянно.

**АБ'ІСНЯ́ЦЬ** *незак.* Тлумачыць, гаварыць. *Аб'іcня́лі па ра́дзіву.* Самсоны.

**АБІЧА́ЙКА** *ж.* 1. Драўляная аснова (вобад) у рэшаце. *Абіча́йка – як рэ́шата дзе́лалі.* Нямойта. 2. Вялікае верацяно з пражай; пачынак. *Я цэ́лу абіча́йку напра́ла – е́та вірцяно́.* Галашчакіна.

**АБІЧА́ЙНЫ** *мн.* Зубцы ў грэбені. *Хто абіча́йны паро́біць красі́выя у грэ́бні.* Серкуці.

**АБІШЧА́ЦЦА** *незак.* Абяцаць. *Абішча́ліся, што прые́дзем по́сле Тро́йцы.* Буй. *Абішча́ўся усё прые́хаць, а не прыяжджа́е.* Івоні.

**АБКАРЫ́ЦЬ** *зак.* Абкарыць, ачысціць ад кары. *Жардзі́ну любу́ю на́да абкары́ць, а то тру́хнуць бу́дзець пат каро́й.* Нямойта.

**АБКАРЭ́ЦЬ** *зак.* Пакрыцца коркай. *Бу́льбу абалюць се́мям ляны́м, яна́ абкарэ́іць, і – сма́чна.* Партызаны.

**АБКАСІ́ЦЬ** *зак.* Абкасіць. *Загада́лі берагі́ кана́вы абкасі́ць.* Гарадзец.

**АБКАЎЗНУ́ЦЦА** *зак.* Паслізнуцца. *Уну́чка ягóная абкаўзну́лася і ру́чку пабі́ла.* Розмыслава.

**АБКАЦІ́ЦЬ** *зак.* Абліць сценкі пасудзіны тлушчам. *Чыгуно́к абко́ціш, тады́ скары́нка сма́шнъя.* Кішуроўшчына.

**АБКЕ́ШКАЦЦА** *зак.* Запэцкацца. *Абке́шкаўся ўвесь.* Нямойта.

**АБКЛА́ДЗЕНЫ** *дзеепрым.* ◊ АБКЛА́ДЗЕНЫ ПА-ЦВЁРДАМУ. Пра заможнага, багатага чалавека. *Па-цвёрдаму абкла́дзены – то зна́чыць бага́ты.* Серкуці.

**АБКРА́СЦІ** *зак.* Абакрасці. *Ніко́га не абкра́лі, ні забі́лі.* Запруддзе.

**АБКУ́САЦЬ** *незак.* Абкусваць. *Да го́ду но́гці ні стрыгу́ць, абку́сыюць зуба́мі.* Нямойта.

**АБЛАБЗА́ЦЬ** *зак.* Пацалаваць. *Адзі́н яго́* [Хрыста] *зна́ў і прада́ў. Ка́жыць: «Я яго́ аблабза́ю, апшчаплю́». Ну й апшчапі́лі яго́ й ўзялі́ с Та́йнае вячэ́ры.* Буй.

**АБЛАВІ́ЦЬ** *зак.* Злавіць, пералавіць (пра ўсіх, многіх). *Аўча́ркі былі́ асталі́сі, паку́ль йіх ні аблаві́лі.* Закур'е.

**АБЛАВУ́ХІ** *прым. лаянк.* Дурнаваты, неразумны. *Ах ты аблаву́хая – гаво́раць, калі́ ругня́.* Нямойта. *Дура́к ты аблаву́хі, я цябе́, дурака́, любі́ць ня бу́ду.* Дольдзева.

**АБЛА́САВАЦЦА** *зак.* Паласавацца, наесціся. *Ваўкі́ абла́съвъліся чълаве́чънуй у вайну́.* Пожанькі.

**АБЛІВА́ХА** *ж.* Абліваха, галалёд. *Абліва́ха, мъкрата́, раста́нець, а тут – маро́зец.* Нямойта.

**АБЛІЗА́ЦЦА** *зак. перан.* Ачуняць, паправіцца (пасля хваробы). *Аблізаўся пасля бале́зні і – у парці́за́ны.* Нямойта.

**АБЛІЗА́ЦЬ** *зак.* Аблізаць. *Пудпусці́ла, хай яна́* [сабака] *іх аблі́жыць.* Запруддзе.

**АБЛІНА́ЦЬ** *зак.* Паліняць, аблезці. *У мяне́ абліна́ў фа́ртух.* Каралі.

**АБЛІ́ЦЬ** *зак.* Абліць. *Пе́чка пыла́іць, гары́ць, пі́рат по́лынню патпячэ́ць мухамо́р, смі́та́най абалье́ць, на акно́ пало́жыць, яны́* [мухі] *й до́хнуць.* Запруддзе. *Крапявы́ насячэ́ш, бу́льбы абалье́ш і сьвіннёнку дае́ш.* Партызаны, Манголія.

**АБЛО́ГА** *ж.* Даўно не воранае поле, зарослае травой; аблога. *Былі́ абло́гі сяро́д ле́су, пашцы́ чы́стыя, там мъладзёж на Купа́лле гуля́ла.* Рэчкі. *Дзе яка́я абло́га – узры́ць.* Каралі.

**АБЛО́ЖНЫ** *прым.* ○ АБЛО́ЖНЫ ДОЖДЖ. Заложны дождж. *Абло́жны дождж: пузуры́ ускáкуюць на во́зеры.* Багданава.

**АБЛУПІ́ЦЬ** *зак.* Зняць скуру. *Усё са́ла аблу́пюць наскро́зь.* Галашчакіна. *Мы удвайі́х аблупі́лі дзе́сіць штук аве́ц і пувязлі́ ў Сянно́.* Міцюкова.

**АБЛУ́ПЛІВАЦЦА** *незак.* Аблуплівацца, абдзірацца; страчваць афарбоўку. *Бе́лім шчыт і́звісцю – аблу́пліваецца.* Каралі.

**АБЛЮБАВА́ЦЬ** *зак.* Аблюбаваць, выбраць. *Стаўкі́ ста́віліся для прыма́нкі пчол. І рой мо́жыць аблюбъва́ць.* Марозаўка.

**АБЛЮДНЕ́ЦЬ** *зак.* Стаць прыгажэйшым. *Аблюдне́ў тро́ху, як вы́рас, які́ ма́лец стаў!* Партызаны.

**АБЛЯНЕ́ЦЬ** *зак.* Стаць лянівым, разленавацца. *Аблянеў: ляніцца работаць.* Нямойта. *Маладзёш цяпер аблянелі.* Рэчкі.

**АБЛЯПІ́ЦЬ** *зак.* Абляпіць, заляпіць. *Быў убіты гвозд, яны* [ластаўкі] *аблянілі яго і кала вакна дзелаюць гнёзды.* Фасаўшчына.

**АБЛЯПЛЯ́ЦЬ** *незак.* Аблепліваць. *Брусочак, як мыла, ім замазвалі; яго трошку пагрэіш, тады аблепліш вокна.* Багданава.

**АБЛЯСЦІ́ЦЦА** *зак.* Узлавацца, раззлавацца. *Глядзіш – аблясціцца, а нам тут жыць.* Цясішча.

**АБМА́ЗАЦЬ** *зак.* Намазаць, пакрыць слоем чаго-н. *Крухмалам хлеб абмажэш, ён блісціць, жоўценькі такі.* Каралі.

**АБМА́ЗВАЦЬ** *незак.* Абмазваць, замазваць. *Мел і аліфу мяшаюць і абмазваюць вокны.* Багданава.

**АБМАЛА́ЧЫВАЦЬ** *незак.* Абмалочваць. *Гумнішча, дзе ставяць пастройкі, хлеб там абмалачывалі.* Нямойта.

**АБМАЛО́ТКІ** *толькі мн.* Святкаванне з выпадку заканчэння малацьбы. *Кончылі усё, дъмълацілі – пашлі на абмалоткі.* Запруддзе.

**АБМА́Н** *м.* Падман, ашуканства. *Конь сніцца – абман.* Ракаў Засценак.

**АБМАНІ́ЦЬ, АММАНІ́ЦЬ** *зак.* Падмануць, ашукаць. *Глядзі, а то і цябе так абмоняць.* Савінічы. *Ён амманіў маю дачку.* Нямойта.

**АБМА́ННЫ, АБМА́ННЫЙ** *прым.* ○ АБМА́ННАЯ АПЕ́НКА. Несапраўдная апенька. *Абманную апенку ніхто ні бярэць.* Сукрэмна. ○ АБМА́ННЫЙ БАРАВІ́К. Несапраўдны баравік. *Абманный баравік, іх бываіт многа вырышшы.* Карпавічы.

**АБМАХНУ́ЦЦА** *зак.* Памыліцца. *Абмахнуўся чалавек.* Нямойта.

**АБМА́ШКА** *ж.* Памылка. *Абмашка вышла, абмылка.* Нямойта.

**АБМЕ́РЗЦІ, АБМЁРЗЦІ** *зак.* Замерзнуць, памерзнуць. *Былі ногі абмерзлі.* Кляпчэва. *Тут, пад вакном, клубніка расла – абмёрзла.* Івоні.

**АБМЫ́ЛКА** *ж.* Памылка. *Абмашка вышла, абмылка.* Нямойта.

**АБМЯ́КНУЦЬ** *зак.* Намокнуць. *Зъклапацілася я, ці абмяклі вы, ці абмёрзлі.* Нямойта.

**АБМЯРЦВЕ́ЦЬ** *зак.* Замерці, абамлець (ад страху). *Абмярцвела, стаю, хай абаіх з дзяўчынай стръляюць.* Неўгадава.

**АБНІМА́ЦЬ** *незак.* Наступаць (пра ноч). *Едзім – поля, едзім – другоя, на трэцціяе абнімаець цёмная ноч: «Тут нам, купчу, нучуваці, агонь раскладаці, вячэру гутуваці».* Буй.

**АБНІХА́ІЦЬ** *зак.* Рэзка запярэчыць каму-н., пераканаць. *Абніхаілі мяне: ні пысылай рыззё, самі купляць будуць.* Чуцькі. *Абніхаілі, абніхаілі... Так і ні с'ездзілі у бальніцу.* Нямойта.

**АБНО́ДЫЦЬ** *зак.* Аблаяць, зняславіць. *Работала, работала, згніла на фермі, а іны апсміялі, абнодылі.* Дольдзева.

**АБНО́ШКА** *ж.* Пылок з кветак, які пчала прыносіць на задніх ножках; абножка. *З абношкай ідуць* [пчолы], *на лапачках жоўцінькае нясуць.* Закур'е. *На лапках жоўценькае нясець – абношка.* Вялікі Азярэцк, Запруддзе.

**АБНЮ́ХАЦЬ** *зак. эмац.-ацэн.* Выявіць, знайсці. *Пшаніцы азімкі пасеіла, як абнюхъли вароны, то адбіцца нільзя!* Сукрэмна.

**АБО́Д, АБО́Т** *м.* Вобад. *Абод дзірвянны, ступіца ў калясе, шына на абод надзявалася.* Гарадзец. *На абот надзяваіцца шына, аковываіцца ў кузні.* Гарадок. *Абот гнулі ў парне.* Вялікі Азярэцк, Нямойта.

**АБО́ДЗІШЧА** *н.* Майстэрня па вырабе начыння для калёс, саней. *Або́дзішча – там пълазы́ гну́лі, ду́гі, пыърня́ была́.* Турава.

**АБО́З** *м.* Група фурманак, падвод з людзьмі або грузам. *Ба́цька мой е́здзіў у або́з за тува́рамі.* Вялікі Азярэцк.

**АБО́Й** *м.* Шпалеры. *Або́й прыкле́йваць трэ́ба.* Манголія.

**АБО́ЙНЫ** *прым.* ○ АБО́ЙНАЯ МУКА́. Шатраваная мука. *Або́йная* [мука], *ды прасты́ памо́л.* Серкуці.

**АБО́РА** *ж.* Хлеў. *У або́ры скаці́на стъя́ла.* Рулёўшчына. *Мъя́ ма́тка стъражы́ла каню́шню, або́ру, дзе скот стаі́ць.* Галашчакіна, Багданава, Вялікі Азярэцк, Каралі, Міцюкова, Партызаны, Пожанькі.

**АБО́РВАЦЬ** *незак.* Абрываць. *Я або́рвала або́і.* Розмыслава.

**АБО́РКІ** *мн.* Вяроўкі з пянькі ці канапель; аборы. *Дра́ліся лы́кі ў лясу́, пад ніз – суко́нку, або́ркамі ўкру́цюць.* Леснікова.

**АБО́РЫ** *мн.* Тое ж. *Або́ры віле с пянькі́, кано́плі.* Леснікова. *Або́ры зацягнеш у дзі́рачкі – і абува́лі ла́пці.* Каралі, Алексінічы, Багданава, Леснікі, Мянюцева, Нямойта.

**АБО́ЧЫНА** *ж.* Абочына. *Аста́віць тра́ктар на даро́зе, на або́чыне.* Буй.

**АБРА́ДАВАННЕ** *н.* Радасць, радасная падзея. *Як ле́вы глаз че́шыцца, абяза́цельна бу́дзець яко́е абра́даванне* (прыкмета). Вялікі Азярэцк.

**АБРА́ДЗІЦЬ** *зак.* Вырашыць у выніку абмеркавання. *Абра́дзілі, што нядзе́ля – пра́знік бу́дзіць: е́хаць яму́ на Украі́ну у пра́знік ні на́да, у другі́й дзень паедзіць.* Леснікова.

**АБРАБА́ТЫВАЦЬ** *незак.* Абслугоўваць. *Са́мі сябе́ тро́ху абраба́тываем.* Нямойта.

**АБРАБА́ТЫВАЦЬ** *незак.* Апрацоўваць (зямлю). *На́да ро́біць, на́да агаро́д абраба́тываць.* Багданава, Самсоны. *Са́мі абраба́тываюць зямлю́.* Закур'е.

**АБРА́З** *м.* Абраз. *Абра́з зва́лі ці іко́на.* Рэчкі.

**АБРАЗО́ЎВАЦЬ** *незак.* Выхоўваць, вучыць. *Даку́ль я цябе́, ба́ба, бу́ду абразо́ўваць.* Ульянавічы.

**АБРА́Т** *м.* Малако, ад якога сепаратарам адагнана, аддзелена смятанка; адгон. *Абра́т прыво́зілі.* Станюкі.

**АБРАЦІ́НА** *ж.* Аброць, вуздэчка. *Да шасці́ лет ні тро́гълі къня́, ні рабо́тълі на ём, штоп абраці́ны на ём ні було́.* Сянно.

**АБРА́ЦЬ** *зак.* Выбраць. *Ха́ту ліш бы бо́льшую абяро́м.* Галашчакіна.

**АБРАШО́ТКА** *ж.* Дошкі, жэрдкі і пад., якія кладуцца ўпоперак крокваў; латы. *Пато́м ста́вяцца страпі́лы, дзе́лаіцца абрашо́тка пат шы́фер, ця́нецца рабэро́ідам.* Нямойта.

**АБРАШЧА́ЦЦА** *незак.* Абыходзіцца, завіхацца, дагледаючы каго-н. *Я ду́жа кала іх* [авечак] *ні абрашча́юся.* Багданава.

**АБРО́ЦЬ, БРОЦЬ** *ж.*, **АБРАЦІ́** *мн.* Аброць, вуздэчка. *Раме́ннъя ці віраўча́нъя абро́ць ёсь.* Гарадзец. *Я сам дзе́лаў абръці́, раме́нныя ці вераўча́ныя.* Гарадзец. *Къня́ пръдае́ш са браце́й.* Міцюкова.

**АБРУ́Б** *м.* Участак зямлі, сенажаці. *Зямлю́ пабі́лі на абру́бы.* Гарадок.

**АБРУГА́ЦЦА** *зак.* Перасварыцца. *Абруга́лася са ўсі́мі сусе́дзямі.* Міцюкова.

**АБРУГА́ЦЬ** *зак.* Аблаяць, абгаварыць. *Чъла́ве́ка абруга́ць, абгъвары́ць – грэх.* Багданава.

**АБРУ́Ч** *м.* Вузкі драўляны або металічны вобад, які набіваецца на бочку, кадушку і пад. для змацавання клёпак; абруч. *Дзе абру́ч сядзіць, у клёпкі здзе́лъіць дзірьчку, нацэ́дзіць гарэ́лкі, а тады́ абру́ч падго́ніць на ме́ста.* Алексінічы. *Абру́ч у жо́рнах дзе́лълі з арэ́хавіны.* Міцюкова, Багданава, Гарадзец, Дуброўкі. АБРУ́ЧЫК *памянш. У рэ́шаце ёсь бiча́йка, палатно́, абру́чык.* Заазер'е.

**АБРУ́ЧЫКІ** *мн.* Рубцы (кольцы) на рагах каровы. *На рага́х у каро́вы ёсь такія бе́лыя пало́сачкі, і тые абру́чыкі на́да считаць, каб узна́ць, ко́лькі гадо́ў каро́ве.* Парэчча.

**АБРЫ́ДКІ** *прым.* Брыдкі, непрыемны. *Абры́дкі чалаве́к, то́ўсты.* Нямойта.

**АБРЫКО́СА** *ж.* Абрыкос. *Абрыко́са ўзышла́: з юга прывёз сімя́н.* Апечкі.

**АБРЫ́ЦЦА** *зак.* Абурыцца, абваліцца. *Абры́лъся ве́рхнія часць йстру́ба.* Гарадок.

**АБСА́ДА, АПСА́ДА** *ж.* 1. Замацаванне дзвярных і аконных вушакоў. *Абса́да гато́ва – ушакі і ша́пкі ў дзвіра́х і ў во́кных.* Запруддзе. *Абса́да – уве́рсе акна́.* Гарадзец, Багданава, Нямойта, Чуцькі. 2. Агароджа (на магіле). *Апса́да была́ круго́м магі́лы.* Вялікі Азярэцк.

**АБСАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Замацаваць дзвярныя і аконныя вушакі. *Абсадзі́ць во́кны.* Нямойта.

**АБСЕ́СЦІ** *зак.* Асесці, страціць сілу, паслабець. *Прыціснулі зы гарэ́лкай* [у чарзе], *абсе́ла, бо́гу ду́шу аддала́.* Запруддзе.

**АБСКУБА́ЦЬ** *незак.* Абскубаць (пер'е). *У курэ́й абскуба́лі пе́р'е, рабі́лі паду́шкі, пяры́ны.* Багданава.

**АБСМАЛІ́ЦЬ, АПСМАЛІ́ЦЬ** *зак.* Абсмаліць. *Абсма́ліць ку́рыцу і ва́рыць тады́.* Буй. *Во́зьміць агло́блі, апсма́ліць і е́здзіць на пагарэ́ла про́сіць.* Марозаўка, Гарадок, Запруддзе.

**АБСО́ДЖАНЫ** *дзеепрым.* Абсаджаны. *Усё лі́памі абсо́джана.* Баравікі.

**АБСТРАКА́ЦЦА** *зак.* Апячыся (крапівой). *Абстрака́лася крапіво́й.* Нямойта. *Абстрака́іш ру́кі крапіво́й.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Івоні, Чуцькі.

**АБСУ́Д** *м.* Абгаворы, ганьбаванне. *Ні абсу́дам, ні абгаво́рам: дзе́ўка была́ ў бібліяце́кі, зло́дзей хадзі́ў з ёй.* Багданава.

**АБСУ́ДА** *ж.* Тое ж. *Я ні бу́ду ні абсу́ды, ні абгаво́ра гавары́ць.* Запруддзе.

**АБСУ́НУЦЦА** *зак.* Асунуцца, занядужаць. *Я ж ужо́ абсу́нулася, мае́ ж во́чачкі ні ві́дзяць.* Дольдзева.

**АБСЫПА́ЦЬ, АПСЫПА́ЦЬ** *незак.* Абкладаць чым-н. (для ўцяплення і інш.). *Во́кны абсыпа́лі на зіму́.* Серкуці. *Ці сало́май хто апклада́іць і апсыпа́іць – то зава́ліна.* Гарадзец.

**АБСЯЧЫ́** *зак.* Абарваць. *Яму́* [трутню] *кры́лля абсяку́ць і вы́кінуць.* Сукрэмна.

**АБУВА́ННЕ, АБУВА́ННЯ** *н.* Абутак. *Ніякага абува́ння ні ў ко́га ні было́.* Гарадзец. *Е́слі паціра́ў абува́нне, сямейная жысць раскле́іцца* (прыкмета). Каралевічы. *Абнару́жылі абува́ння ў магазі́не, яны́ капера́тарам яго́ блюлі́.* Нямойта, Багданава, Манголія, Ракаў Засценак, Дуброўкі, Закур'е, Неўгадава.

**АБУВА́ЦЬ** *незак.* ◊ АБУВА́ЦЬ У ЛА́ПЦІ. Падманваць. *До табе́ мяне́ ў ла́пці абува́ць.* Запруддзе.

**АБУВЕ́** *н.* Абутак. *Нямо́жна абуве́ падабра́ць.* Нямойта.

**АБУДЗІ́ЦЦА** *зак.* Прачнуцца. *Абудзі́лася: со́нца. Ай-ёй, праспа́ла!* Каралевічы.

**АБХІНУ́ЦЦА** *зак.* Абаперціся. *На гра́блі абхіне́цца, адсто́іць.* Нямойта.

**АБЦЕРАБІ́ЦЬ** *зак.* Абчысціць, абабраць. *Абцярэ́бім шалуху́ з цыбу́лі, на Па́сху кра́сім я́йкі.* Міцюкова.

**АБЦУГІ́** *толькі мн.* Абцугі. *Гво́здзі тъска́ць – абцуга́мы.* Сукрэмна. АБЦУЖКІ́ *памянш. Абцужкі браў не́дзе.* Кавалі.

**АБЧЫ́СЦІЦЬ** *зак. эмац.-ацэн.* Абакрасці. *Чаты́ры ха́ты абчы́сціў курэ́й.* Партызаны.

**АБШАРА́ШЫЦЬ** *зак.* Шарахнуць, моцна парэзаць. *Сцікля́нкуй пяту́ абшъра́шыла.* Багданава.

**АБШАРА́ШЫЦЬ** *зак.* Падмануць, ашукаць. *Не́хта абшара́шыў мяне́.* Нямойта.

**АБШНЫ́ПРЫЦЬ** *зак.* Абшнарыць. *Ён усё там абшны́прыў, пъ кърма́нах ла́зіць.* Вялікі Азярэцк.

**АБШЧАПІ́ЦЦА, АПШЧАПІ́ЦЦА** *зак.* Абшчапіцца, абняцца. *Як дзяўчо́нка, абшчапілася за мяне́. Паздаро́ваецца, абшчэ́піцца: «Падру́жка, падру́жка!».* Нямойта. *Дзе́ці абшча́пілісі зъ мяне́.* Каралі. *Ай, апшчапілася іна́, ра́да нам.* Багданава, Каралевічы, Партызаны, Ульянавічы.

**АБШЧАПІ́ЦЬ** *зак.* 1. Абшчапіць. *Абшчэ́піць мяне́ і ў шчаку́ цалу́іць.* Каралевічы. *Яна́ пры́дзець, на кале́ні ся́дзець і абшчэ́піць.* Буй. *Абшчэ́піць за шы́ю і ні пуска́іць.* Партызаны. 2. Спутаць, звязаць. *Но́гі пу́там абшчэ́піш і да гнізда́ дабярэ́шся.* Ульянавічы.

**АБШЧЫЖЫ́ЦІЯ** *ж.* Інтэрнат. *Далі́ абшчыжы́цію сяме́йную.* Запруддзе.

**АБШЫ́ЎКА, АПШЫ́ЎКА** *ж.* 1. Шалёўка. *Апшы́ўка – шылі́ва́ць дом.* Мянюцева. *На апшы́ўку пі́лілі до́ску.* Марозаўка. 2. Тынкоўка. *Абшы́ўка суха́я – шчыкату́рка ў ха́це.* Мянюцева.

**АБШЫ́ЦЬ** *зак.* Абвязаць, абкруціць. *Ку́ры гра́ды дзяру́ць, дык абшы́юць тра́пкъй ла́пкі.* Вялікі Азярэцк.

**АБШЭ́ШКАЦЦА** *зак.* Выпацкацца, вымазацца. *Абшэ́шкаўся ўвесь.* Нямойта.

**АБЫ́** *злучн.* 1. Калі. *Абы́ расы́ ні було́, йшлі жаць.* Каралі. 2. Як толькі. *Абы́ на ву́ліцу вы́йду, пчыла́ укусіла.* Кішуроўшчына. 3. Хоць, ці, або. *Абы́ цялёнка, абы́ мълако́ сдува́й на се́на.* Гарадок.

**АБЫ́** *часц.* Абы, толькі б. *Абы́ дажджу́ ні было́.* Міцюкова. *Саро́ка абы́ абню́хъла, то я́йцы ў дзю́пку вы́нісіць і з'есць.* Сукрэмна.

**АБЫДЗЁНА** *прысл.* Штодзень. *Тут абыдзёна слу́жба ідзе́ць.* Партызаны.

**АБЫЙ-ДЗЕ́** *прысл.* Абы-дзе. *Іна́ абый-дзе́ ні расце́ць.* Савінічы. *Я ся́ду абыйдзе́, садзі́цеся вы.* Ульянавічы.

**АБЫЙСЦІ́** *зак.* 1. Прайсці кругом вакол каго- ці чаго-н. *Бяру́ць йко́ну й ве́рбіны абэ́йдуць круго́м ста́ды. Тады́ йко́ну пъстано́вюць на ме́ста, а ве́рбіны на жы́та то́ркуюць* [так робяць пры першым выгане жывёлы на пашу]. Партызаны. 2. Абагнаць, выперадзіць. *Мы жнём, то ў сем рас за яе́ абы́йдзім.* Баравікі. 3. Прайсці бокам. *Бура́н абыйшо́ў нас.* Ракаў Засценак. 4. *перан.* Абмінуць, не закрануць каго-н. *Пъмъга́й бох ска́жыць, так ня бо́йдзіць.* Каралі.

**АБЫЙСЦІ́СЯ** *зак.* 1. Прайсці без ускладнення. *Абыйшло́ся* [не ампутавалі нагу пасля траўмы], *прасціў мальчо́нку.* Нямойта. 2. Прывыкнуць, прызвычаіцца. *Абыйшліся ко́ні, ні бъя́цца тра́ктъра.* Самсоны.

**АБЫ́Ч** *м.* Звычай, традыцыя. *У нас абы́ч такі: нъ кладбі́шча ідзём й пумянём радзі́цілюў.* Дуброўкі.

**АБЫ́ЧАЙ, АБЫЧА́Й** *м.* Тое ж. *Такі́ ў нас абы́чай.* Леснікі. *Дзе які́ абыча́й, так і гаво́руць.* Багданава.

**АБЫ́ЧНА** *прысл.* Звычайна. *Абы́чна – з дубо́въга дзе́рава.* Гарадзец.

**АБЫ-ШТО́** *займ.* Пра што-н. дрэннае, адмоўнае. *Абы-што́ дзе́лаюць, абы-што́ тва́раць.* Запруддзе. *Абы-што́ е́лі дзе́ці: не́късму было́ за і́мі глядзе́ць.* Нямойта, Фасаўшчына.

**АБЫ-Я́К, АБЫ́-ЯК** *прысл.* Абы-як. *Не абы-я́к, на́да дъражы́ць тако́га чъла-ве́ка.* Партызаны. *Мы жы́лі абы́-як: та́та ра́на паме́р.* Сянно, Баравікі, Заазер'е, Запруддзе, Серкуці.

**АБЯРНУ́ЦЦА** *зак.* Абярнуцца, перакуліцца. *Візла́ се́на, абярну́лъся, пабі́лъся.* Чуцькі. *Абе́рнуцца са́ні – ста́ніць, ня е́дзіць дамо́й* [пра каня]. Запруддзе, Багданава, Буй, Гарадзец, Дольдзева, Міцюкова, Фасаўшчына.

**АБЯССІ́ЛІЦЬ** *зак.* Абясплодніць. *Зямлю́ перары́лі, це́хнікай, зямлю́ абяссі́лілі.* Нямойта.

**АБЯСЦІ́ЦЬ** *зак.* Паабяцаць. *Абясці́ў аднаму́ касцю́м, но Пе́ця нічо́га не здзе́-лаў.* Розмыслава. *Ім абясці́лі тут ко́лькі бу́льбы.* Леснікі. *Ён абясці́ў, што бу́дуць даро́гі.* Кляпчэва, Латыгаль, Партызаны, Парэчча, Неўгадава.

**АВА́Д, ВАД, ВАТ** *м.* Авадзень. *Авада́ ці што пакуса́лі.* Апечкі. *Як жы́та кра-су́ецца, тады́ такі́ ват, не мо́жна ско́ту выхо́дзіць. Вад куса́іць каро́ў.* Кішуроў-шчына. 2. Час, у які многа аваднёў. *Ват такі́: ваднёў мно́га, куса́юць.* Кішуроў-шчына.

**АВАДЗЕ́НЬ, ВАДЗЕ́НЬ** *м.*, **ВАДНІ́** *мн.* Авадзень. *Кама́рны год, і аваднёй мно́га – мало́чны год.* Партызаны. *Як жы́та красу́ецца, ваднёў мно́га.* Кішуроў-шчына, Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Жохава, Запруддзе, Партызаны, Рулёўшчына.

**АВЕ́ЧЫ** *прым.* Такі, як у авечкі. *Аве́чъя пахо́дка – кале́ні у ку́чу, а сту́пні – уро́зь.* Сянно.

**АВЕ́ЧЫНА** *ж.* Авечае мяса. *Аве́чына – як аве́чку зарэ́жуць.* Вялікі Азярэцк.

**АВЁС, АЎЁС** *м.* Авёс. *Мъладу́ха е́дзіць да мълада́га, вязе́ць канхве́т, бъра́нкаў і авёс.* Ракаў Засценак. *Аўёс прасява́лі на рэ́шата.* Манголія. *Аўёс, жы́та на́ зіму се́ялі.* Закур'е.

**АВІ́Н** *м.* Ёўня. *Аві́н як ха́та, у ём то́піш і вы́сушыш снапы́.* Ульянавічы.

**АГА́ЙВАЦЦА** *незак.* Загойвацца. *Ра́ны са́мі па сабе́ далжны́ ага́йвацца.* Пар-тызаны.

**АГАЛІ́ЦЬ** *зак.* Зрабіць пустым, вынесці ўсё. *Ха́ту сын агалі́ў: дзіва́ны паад-дава́лі.* Баравікі.

**АГА́Р** *м.* Прадукт акіслення, які ўтвараецца на паверхні сталі і некаторых інш. сплаваў; акаліна. *Ага́ру німа́, як чы́стыя жале́за.* Запруддзе.

**АГА́РАК** *м.* Агарак. *Ага́ркі выкіда́юць з ку́зні.* Запруддзе. *Ага́рак, як атва́ліцца, у цэ́бар кіда́лі.* Нямойта.

**АГАРНУ́ЦЬ** *зак.* Ахапіць. *Яе́ агарну́ла го́ра.* Багданава. *Сон агарну́ў салда́ціка.* Неўгадава, Леснікова.

**АГІ́БА** *ж.* Абход. *Ве́чная агі́ба была́: бало́ты ніпрахадзі́мыя.* Багданава.

**АГІ́НАЦЬ** *зак.* Агарнуць, ахапіць. *Як агі́нъла го́ра: дзе́вачка во́сім гадо́ў па-ме́рла.* Багданава.

**АГЛО́БЛІ, АГЛАБЛІ́, ГЛО́БЛІ** *мн.* Аглоблі. *І цяпе́р заву́ць аглабля́, адзі́н конь – зна́чыць, дзве аглаблі́, за агло́блі чапля́юцца ато́сы.* Гарадзец. *Пе́тлі пры-крэпля́юцца к пълазу́, а крук – к аглъбле́.* Міцюкова. *Глъбля́, съ глаблі́ на вось ато́сы* [ідуць]. Запруддзе. *Гло́блі ўбяру́ць у цвяты́.* Багданава.

**АГЛЕ́ДЗІЦЬ** *зак.* 1. Знарок адшукаць. *Дзе́ці агле́дзілі мяшо́к пат ха́тай.* Апечкі. 2. Абследаваць, вызначыць стан здароўя арганізма. *Ну й агле́дзілі й нашлі хваро́бу на глаза́х.* Заазер'е. *Агле́дзілі, што ў сы́на я́зва.* Латыгаль, Багданава, Запруддзе, Леснікова.

**АГЛІДА́ЦЬ** *незак.* Сцерагчы. *Сто́ръш пъста́ўлін агліда́ць бу́льбу.* Запруддзе.

**АГЛЫ́БІЦЬ** *зак.* Паглыбіць, зрабіць глыбейшым. *Аглы́біць на́да тро́шку, як таганок дзе́лалі.* Запруддзе.

**АГНІВО́** *н.* Кавалак сталі для высякання агню з крэменю; крэсіва. *Высіка́лі аго́нь: аб ска́лкуй агніво́м – жах!* Вялікі Азярэцк. *Агніво́ дзе́лаюць у ку́зні.* Дольдзева.

**АГО́НЬ** *м.* Агонь, вогнішча. *Як бяре́менная, на аго́нь нільзя́ паглядзе́ць: ліцо́ кра́снае бу́дзіць* (прыкмета). Цясішча. *Аго́нь ръскладалі, а мъладыя* [цяпер] *ска́жуць касцёр.* Запруддзе. ◊ АГО́НЬ ЯГО́ ВЕ́ДАЕЦЬ (ЗНА́ЕЦЬ). Невядома. *Аго́нь яго́ ве́даіць, хто цялёнка пувязе́ць у Мугулёў.* Міцюкова. *Ні зна́ю, дзе ён, аго́нь яго́ зна́іць.* Заазер'е.

**АГО́ЎТАЦЦА** *зак.* Агледзецца, апамятацца. *Агле́дзюцца ба́бы, аго́ўтаюцца: ды́му по́ўна.* Партызаны.

**АГРАБА́ЦЬ** *незак.* Аграбаць рой у раёўню з таго месца, дзе ён звіўся. *Аграба́ю рой: саўю́цца пчо́лы на са́мым ві́льчыку, пад адну́ падпо́ру прывяжу́ раёўню – сучко́ў малін туды́ налажу́, – падста́ўлю пад рой, а друге́й падпо́рай трахану́; ма́тка папаўзе́ць – і ўсе яны́.* Вялікі Азярэцк. *Аграба́юць рой у раёўку.* Запруддзе, Марозаўка.

**АГРАБА́ЦЬ** *незак.* Зграбаць. *У жо́рнах наме́леш зярно́, аграба́еш у кастру́лю.* Вялікі Азярэцк.

**АГРАБЛЯ́ЦЬ** *незак.* Рабаваць. *Гэ́та ні парціза́ны, гэ́та былі сваé, яны́ аграбля́лі, бра́лі.* Рэчкі. *Сказа́лі: «Мы ня по́йдзім у парціза́ны, а што – ідзі́ людзе́й аграбля́ць».* Партызаны.

**АГРО́Б** *м.* ◊ АГРО́БУ НІМА́. Вельмі многа. *Бы́ва́ла ў мяне́ бу́льба – агро́бу німа́.* Чуцькі.

**АГРЭ́СТ**, **АГРЭ́С** *м.* Агрэст. *Ві́шні, агрэ́с ёсь у гаро́дзі.* Вялікі Азярэцк. *Агрэ́сту було́ мно́га кусто́ў.* Пожанькі. *Адзі́н бок у агрэ́сту апсыпаўшысь, пачарне́ўшы.* Запруддзе, Гарадок, Леснікова.

**АГУ́ЛАМ** *прысл.* Разам. *Агу́лам усё паелі, папілі.* Міцюкова.

**АГЫ́ЛЯ** *выкл.* Выгук, якім падзываюць гусей. *«Агыля!» – на гусе́й.* Жохава.

**АД, АТ** *прыназ.* 1. Ад (указвае на зыходны пункт чаго-н.). *Ат нас якра́с два кіламе́тры.* Гарадок. 2. Указанне на супрацьдзеянне. *Су́чкі ў гаро́дзі расту́ць, ці яны́ ат ламо́таў ці хто яго́ зна́іць.* Ракаў Засценак. *Ма́ці-ма́чаха – шыро́кая ла́па, ат ка́шлю е, е́слі но́гі баля́ць – па́руць.* Каралі. 3. Указанне на непасрэдную сувязь з чым-н. *Служы́ць у найм́ітк і хадзілі дзе́ўкі т сям'і.* Запруддзе. 4. З. *Ад сямі́ лет пъшла́ рабо́таць.* Рэчкі, Леснікова. *Учо́ра ат ра́ння пъка́звълъся ня ду́жа, а пато́м паго́да была́ і лю́дзі се́на сушы́лі.* Багданава. 5. З-за. *Каро́ва лу́нула ад удабрэ́ння.* Міцюкова. *Чо́рныя каласы́ ў пшані́цы ад мо́лніі.* Розмыслава. *Рука́ забале́ла ў сы́на, ад рукі́ паме́р.* Рэчкі. *Ат мо́ланні чо́рныя арэ́хі.* Станюкі. *Ат ма́ку ду́жа спаць хо́чацца.* Багданава. 6. Для. *Валяр'я́нка – ад се́рца.* Заазер'е.

**АДАЛЕ́ЦЬ** *зак.* Адолець, перамагчы. *Зімля́ адале́ла людзе́й: ле́сым зъръсло́.* Заазер'е.

**АДАЛЖЫ́ЦЬ** *зак.* Пазычыць. *Адалжы́ш пут мукі́ – і дзень жа́лі за гэ́та.* Фасаўшчына.

**АДБА́ВІЦЬ** *зак.* Узяць, забраць; паменшыць колькасць чаго-н. *Каб жукоў адбавілі!* Каралі. *Адбавіць рада была бы таўшчыні.* Нямойта. ◊ ХОЦЬ АДБА́ЎЦЕ. Пра вялікую колькасць чаго-н. *Тхароў ёсь, чарцей гэтых, хоць адбаўце.* Марозаўка.

**АДБАЛЕ́ЦЬ** *зак.* Перастаць балець. *Балела вуха, не вылечылься й адбалела, цяпер ні чую.* Закур'е.

**АДБАРАНІ́ЦЦА** *зак.* Адбараніцца, адбіцца. *Вароны нъпалі на піскліняткъ, ніяк не можна было адбараніцца.* Кішуроўшчына.

**АДБІВА́ЦЦА** *незак.* 1. Аддаляць ад сябе пры дапамозе ўдараў рукамі ці нагамі. *Коні саб'юцца ў кучу, жарабёнка – у сярэдзіну, і нагамі адбіваюцца.* Партызаны. 2. Перастаць любіць што-н. *Так адбільсь ад бульбы: тъкая няўкуснья бульба!* Нямойта. 3. *перан.* Пазбавіцца ад каго-н. ці чаго-н. *Ён як увойдзіць, так ні адбіцца ад яго.* Заазер'е.

**АДБІВА́ЦЬ** *незак.* 1. Вастрыць лязо касы, б'ючы малатком. *Як мълатком адбіваіш – вузенькі клёп.* Нямойта. 2. Праводзіць лінію ўдарам вяроўкі або шнура. *Доскі адбівалі шнуром.* Фасаўшчына.

**АДБІРА́ЦЬ** *незак.* Адбіраць, забіраць. *Адбіраіць лялькі: ня умеіць гуляць з дзіцямі.* Запруддзе.

**АДБІРА́ЦЬ** *незак.* Выстругаць адборнікам фігурную паверхню чаго-н. *Чысціць доскі, адбіраіць рамкі пьт сцякло.* Нямойта, Жохава.

**АДБІ́ЦЦА** *зак.* ◊ АДБІЦЦА АД РУК. Перастаць слухацца, падпарадкоўвацца. *Ад рук адбіўся малец.* Фасаўшчына.

**АДБІ́ЦЬ** *зак.* 1. Пабіць, набіць. *Сын адбіў яе крэпка.* Запруддзе. 2. Пашкодзіць пасевы і інш. *Зразу град быў, адбіў гуркі.* Чуцькі. 3. Ударам пашкодзіць што-н., зрабіць балючым. *Яму нагу адбіла, месіц біз лячэння быў.* Фасаўшчына.

**АДБО́РНІК** *м.* Гэблік з вузкім лязом для выстругвання адборнай паверхні чаго-н.; адборнік. *Адборнік – шпары адбіраіць пьт сцякло.* Жохава.

**АДБЫ́ЦЬ** *зак.* Адбыць, адслужыць. *Армію адбыў – жаніся!* Партызаны.

**АДВАЗІ́ЦЬ** *зак.* Ударыць, пабіць. *Я аднэй па плячох кійком адвазіла: ідзець, як у свой гарод, усё рвець.* Нямойта.

**АДВЕ́ДКІ**, **АТВЕ́ДКІ** *толькі мн.* Наведванне жанчыны-парадзіхі; адведкі. *А тады ідзём у адведкі, хто надумаіцца.* Міцюкова. *У атведкі ладак напікла.* Запруддзе.

**АДВЯРНУ́ЦЦА** *зак.* Парваць сувязі, адносіны з кім-, чым-н. *Многа людзі адвярнуліся ад цэрквы.* Каралевічы.

**АДВЯРНУ́ЦЬ** *зак.* 1. Адвярнуць, адкінуць. *Адвярнулі зялёзіну і бульбы набралі.* Леснікова. 2. Зламаць. *Карова рогам – у зямлю, бегла Міля і рог адвярнула.* Запруддзе.

**АДГАЛАСАВА́ЦЬ** *зак.* Прагаласаваць. *Хай Манька за мяне адгаласуе.* Нямойта. *Адгаласуйце за мяне.* Каралевічы.

**АДГАНЯ́ЦЬ**, **АТГАНЯ́ЦЬ** *незак.* 1. Адганяць, праганяць. *Дажа ваўка атгъняла з дзевачкай на руках.* Галашчакіна. 2. *перан.* Ратаваць. *Въда і ад смерці адгъняіць.* Сукрэмна.

**АДГАРНУ́ЦЬ** *зак.* 1. Адгарнуць, адгрэбці. *Печку топіш, натапляіш – адгарні ўглі набок!* Міцюкова. 2. Адляпіць. *Месіць, каб яго* [цеста] *адгарнуць ад дзежкі.* Карпавічы.

**АДГЛЕ́ДЗЕЦЦА, АТГЛЕ́ДЗЕЦЦА** *зак.* Заглядзецца, залюбавацца. *Ёсь грыбы́ што адгле́дзецца нъ кръсату́: шля́пъчка – цёмная, кары́чневая, як ба́рхат.* Пожанькі. *Дъста́ў таку́ю вешч – атгле́дзецца!* Сянно.

**АДГЭ́ТУЛЬ, АДГЕ́ТУЛЬ** *прысл.* Адгэтуль, адсюль. *А то яе́ німа́ – пагна́лі. Адгэ́туль пагна́лі па дзярэ́ўні людзе́й.* Леснікова. *Адге́туль вяду́ць даро́гу. Адге́тульваду́ вазі́лі.* Манголія.

**АДДА́ЦЬ** *зак.* Аддаць. *Адна́ аддала́ клець, здзе́лалі з яе́ зімля́нку.* Мянюцева. ◊ АДДА́ЦЬ БО́ГУ ДУШУ́. Памерці. *Напі́ўся і адда́ў бо́гу душу́.* Гарадзец.

**АДДЗЕ́ЛЬНА** *прысл.* Асобна. *Іна́ аддзе́льна піта́лася.* Леснікова. *Ха́та у мяне́ ёсць, жыву́ аддзе́льна.* Нямойта, Алексінічы.

**АДДЗІЛЯ́ЦЦА** *незак.* Адрозніваццa. *Начо́ўкі ат кары́та аддзіля́юцца.* Каралевічы.

**АДДО́ХНУЦЬ** *зак.* Здохнуць (пра жывёлу). *Вясно́й аддо́хла усё: цялу́шка, аве́чкі і съба́ка.* Закур'е.

**АДДУ́ХА, АДДЫ́ХА** *ж.* Кароткі перапынак для адпачынку; аддуха. *Дъя́ркі насі́лі нъ каро́міслі зъ пяць кіло́мітруў мълако́, а атту́ль піраго́н біз адду́хі.* Дуброўкі. *Адды́хі ні было́.* Багданава.

**АДДЫХНУ́ЦЬ** *зак.* Даць адпачыць каму-н. *Як каро́ву аддыхну́ць перад цёлевам, ні зна́ю.* Партызаны.

**АД'Е́СЦІ** *зак.* Ад'есці, адгрызці. *У ку́рыцы тхор гълаву́ ад'е́ў.* Партызаны.

**АДЖЫВА́ЦЬ** *незак.* Вяртацца да жыцця. *А ўсе птушкі аджыва́юць: вісна́!* Вялікі Азярэцк.

**АДЖЫВА́ЦЬ** *незак.* Паміраць, заканчваць існаванне, жыццё. *Дзярэ́ўня аджыва́ець, таму́ што стары́я то́лькі астаюцца.* Буй.

**АДЖЫ́ЛЫ** *прым.* Пажылы. *Дзед ужо́ аджы́лы.* Багданава. *У нас усе́ аджы́лыя.* Чуцькі, Фасаўшчына.

**АДЖЫ́ТЫ** *прым.* Стары, старажытны, які рэдка ўжываецца. *Гэ́та старада́ўнія, аджы́тыя пе́сні.* Марозаўка.

**АДЖЫ́ЦЬ** *зак.* Ажываць, зноў станавіцца жывым. *А на Па́сху ён* [Хрыстос] *у двіна́ццаць часо́ў но́чы аджы́ў, у събо́ту, наўпро́ць нядзе́лі.* Буй. *Аджы́ць мо́жа чълаве́к, як гром заб'е́ць.* Ульянавічы.

**АДЗАЛЕ́ЦЬ** *зак.* Памерзнуць. *Днём як ста́ў град – адзале́лі гуркі.* Каралевічы. *Гуркі́ адзале́лі, я узіла́ і къбачко́ў пъсадзі́ла.* Партызаны.

**АДЗВА́ЦЦА** *зак.* Адазвацца. *Іду́, прыслу́хаюся, а тады́ адзаву́ся.* Івоні.

**АДЗЫ́ЎКІ** *мн.* Рэха, водгулле. *Дзянёчък пяяла, дзе і пе́сні бра́лісі, адзы́ўкі ішлі́ далёка.* Неўгадава.

**АДЗЫ́ЎЧЫВЫ** *прым.* Чулы, спагадлівы. *Ён сільна адзы́ўчывы: слу́хае і пъмага́іць.* Фасаўшчына.

**АДЗЕ́ЖА, АДЗЁЖА** *ж.* Адзенне. *Былі ку́блы. Ку́бел с клёпак, къла дна шырэ́й, дзве ру́чкі, кры́шка, зярно́ ссыпа́лі і адзе́жу. Адзе́жу, тру́пкі ў той ку́біл кла́лі.* Багданава. *Ку́біл то́жа адзе́жу складáлі, а са́ла ў я́шчык.* Нямойта. *Ня дзёжы ні было́, нічо́га пасля вайны́ ні было́.* Заазер'е. *Ку́блы былі дзірывя́нные, большэ́я, для тру́бак, скла́двалі адзёжу.* Каралі. *Ку́блы – э́та для адзёжы.* Дольдзева.

**АДЗЕРВЯНЕ́ЦЬ** *зак.* Адзеравянець, здранцвець, страціць адчувальнасць. *Як вы́шла з бало́та, так мае́ но́гі адзервяне́лі.* Баравікі.

**АДЗЕ́РЖАЦЬ** *зак.* Затрымаць, запыніць. *А ў Лук'я́наві паліца́яў адзе́ржалі і каро́ў атнялі́.* Запруддзе.

**АДЗЕ́РЖЫЦЦА** *зак.* Затрымацца. *Адзе́ржыцца вясна́ да канца́ апрэ́ля.* Алексінічы.

**АДЗЕ́РЖЫЦЬ** *зак.* 1. Спыніць. *У лясу́ адзе́ржылі мя́не: «Куды́ ідзе́ш?».* Сукрэмна. *Паліца́й адзе́ржыў каня́ і ка́жыць мне: «Дава́й гарэ́лку!».* Запруддзе, Алексінічы. 2. Перапыніць, затрымаць. *Міліцыя дъгна́ла і адзе́ржыла машы́ну ужо́ къла О́ршы.* Сянно. *У Лук'янах іх адзе́ржылі, паліца́еў, і каро́ў пазабіра́лі.* Алексінічы, Пожанькі.

**АДЗІ́Н** *ліч.* 1. Колькасць, якая абазначаецца лічбай 1. *Ёсь адзі́н парасёнък, каро́вы нет.* Карпавічы. *Па адны́м чалаве́ку жыве́ць.* Вялікі Азярэцк, Алексінічы, Запруддзе, Міцюкова, Партызаны, Фасаўшчына. 2. *прым.* Аднолькавы, падобны. *Страчкі́ аднэ́й фо́рмы съ смаршка́мі, то́лькі вышэ́й.* Серкуці. *Мы аднаго́ ба́цькі дзе́ці.* Міцюкова. 3. Асобна, без іншых, у адзіноце. *Ня муш, ня дзе́ці – адна́ на све́ці.* Каралевічы. *Жыву́ адна́ – ні лю́дна.* Міцюкова. 4. Тое, што ёсць, без наяўнасці чаго-н. другога. *Там сасо́ннік адзі́н.* Запруддзе. ◊ АДЗІ́Н АДНЫ́М. Зусім адзін (пра чалавека). *Брато́ў пабілі, адна́ адны́м жыву́.* Вялікі Азярэцк. ◊ АДЗІ́Н РО́ДАМ. Толькі адзін. *Адзін ро́дам быў баравічо́к, къля бярэ́зіны рос.* Партызаны.

□ *Адно́ ле́чыць, а другóя кале́чыць.* Нямойта.

**АДЗІЧЭ́ЦЬ** *зак. перан.* Астынуць. *Пратаплю́ печ, а то адзічэ́ла ха́та.* Багданава.

**АДЗІЯ́ЛА** *н.* Коўдра. *Адзія́ламі абкру́чваліся.* Закур'е.

**АДЗЯВА́ННЕ** *н.* Адзенне, вопратка. *І абува́нне, і адзява́нне купіла.* Запруддзе.

**АДЗЯЛІ́ЦЬ** *зак.* Затлуміць. *Адзялілі галаву́ дзе́ці.* Каралевічы.

**АДКАЗА́ЦЬ** *зак.* Адпісаць, перадаць у спадчыну па завяшчанні. *Ты мне хоць што пірад сме́рцю адкажы́.* Рэчкі.

**АДКАЗА́ЦЬ, АТКАЗА́ЦЬ** *зак.* 1. Адмовіць. *І ка́ждаму на́да даць: ні адкажу́.* Савінічы. *Нядзе́лі дзве на та́нцы ня пу́сцяць, як атка́жаж.* Партызаны. 2. Страчваць здольнасць да разумовай дзейнасці. *Ужо́ у ба́бы гълва́ атка́зыіць.* Багданава.

**АДКІ́ДЫВАЦЬ** *незак.* Адкідваць. *Бу́дзем снапы́ адкі́дываць – адграбе́м е́ту траву́.* Каралевічы.

**АДКІ́НУЦЬ** *зак.* Пакінуць частку чаго-н. *Адкі́нь це́ста нъ сачэ́нь.* Заазер'е.

**АДКЛЮ́ЧВАЦЦА** *незак.* Паводзіць сябе неадэкватна. *Як п'я́ны, адклю́чваецца, дурны́.* Запруддзе.

**АДКО́СЫ** *толькі мн.* Рама з трох жэрдак, якая кладзецца на сані для большай умяшчальнасці; развалы. *Адко́сы здзвіга́лі – гадзю́к по́ўна.* Апечкі.

**АДКРАІ́ЦЬ** *зак.* Адрэзаць. *Адкро́й харашэ́нька хле́ба.* Леснікова.

**АДКРАСАВА́ЦЦА** *зак.* Адкрасавацъ, адцвісці. *Як адкрасу́ецца, тады́ налі-ва́ецца зе́рне.* Гарадзец.

**АДКРЭ́ІЦЬ** *зак.* Акрыяць, паправіцца пасля хваробы. *Ён адкрэ́іў, во і жыве́ць.* Багданава.

**АДЛАМІ́ЦЬ** *зак.* Адламаць, аддзяліць без нажа кавалак чаго-н. *Адламі́ла цёплага хле́ба.* Партызаны, Багданава, Міцюкова.

**АДЛЕ́ГА, АТЛЕ́ГА** *ж.* Адліга. *Калі́ маро́зы бальшэ́я, а калі́ адле́га.* Вялікі Азярэцк. *Атле́га – с стрэх пъцякло́.* Багданава, Гарадок, Нямойта, Партызаны.

**АДНАГО́ДАК** *м.* Аднагодак, равеснік. *Мікі́та і Е́ва бу́дуць аднаго́ткі.* Кавалі.

**АДНАГО́ТКІ** *мн.* Наготкі, календула. *А гэ́та аднаго́ткі ў нас заву́ць, жо́ўценькія.* Багданава.

**АДНАМА́СТЫ** *прым.* Аднамасны. *Аднама́сты конь, сівы́, як мы́шына.* Розмыслава.

**АДНЕ́КУЛЬ** *прысл.* Аднекуль. *Адне́куль узялісі такія крысы.* Ульянавічы, Гарадзец.

**АДНО́** *часц.* Толькі. *У бу́льбі атхо́дзяць адно́ стрэ́лачкі не́йкія.* Запруддзе, Нямойта, Ульянавічы.

**АДНЯ́ЦЬ** *зак.* 1. Адняць, пазбавіць здольнасці гаварыць, рухацца і пад. *У дзе́да па́міць адняло́.* Багданава. *Мо́ву мне адняло́.* Каралевічы, Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Мянюцева, Нямойта, Серкуці, Неўгадава. 2. Адлучыць, адняць дзіця ад грудзей. *Як адня́лі дзе́ўчыну, нам аддалі гъдъва́ць.* Рэчкі, Заазер'е.

**АДО́ЛІЦЬ** *зак.* Адолець, перамагчы. *Хваро́ба мяне́ адо́ліла.* Гарадок.

**АДПРА́ВА, АТПРА́ВА** *ж.* Адправа (у царкве), набажэнства. *Была́ ра́ньшэ цэ́рква, адпра́ва, Фядо́сія – адпра́ва свя́та была́.* Кляпчэва, Нямойта, Савінічы. *На ўсено́шну хадзілі – адпра́ва была́ ў цэ́ркві.* Цясішча. *Пра́знік бальшэ́й, атпра́ва бу́дзіць у цэ́ркві.* Савінічы. *Крышчэ́нне, ідзе́ць ба́цюшка і атпра́ву на во́зеры атпраўля́ець.* Каралевічы. *Была́ ра́ньшэ цэ́рква, была́ атпра́ва.* Кляпчэва, Мянюцева, Нямойта, Цясішча.

**АДПЯЧЫ́СЯ** *зак.* Адпячыся. *Хлеб адпёкся, скары́нка атста́ла.* Багданава.

**АДРА́ЗУ** *прысл.* Адразу. *Вячэ́рышнія мълако́ с абе́дышнім зміша́юць, то яно́ адра́зу і атся́дзіцца.* Турава.

**АДРО́ЗНІВАЦЦА** *незак.* Адрозніваццa. *Хрысці́ны ў йіх адро́зніваюцца ад на́шага.* Карпавічы.

**АДРУТУВА́ЦЬ** *зак.* Адгуляць. *Адрутува́лі сваё.* Запруддзе.

**АДРУ́ЗЛЫ** *прым.* Адрузлы. *Адру́злы чалаве́к – гідкі.* Нямойта, Вялікі Азярэцк.

**АДСА́ДЖЫВАЦЬ, АТСА́ДЖВАЦЬ, АТСА́ДЖЫВАЦЬ** *незак.* 1. Адсаджваць, саджаць нанава. *Хто бурука́мі адса́джываў.* Запруддзе. *Вы́пусціў съба́ку, ён скъпа́ў усе́ гуркі, я атса́жывала.* Нямойта, Каралі, Цясішча. 2. Засаджваць асобныя лапіны. *Лю́дзі атса́джвалі бурука́мі бу́льбу.* Запруддзе. *Бу́льба вы́мікла, прышло́ся атса́джваць.* Багданава.

**АДСАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Адбіць, пакалечыць. *Адсадзілі яму́ ўсё ў сярэ́дзіне.* Сянно.

**АДСАДЗІ́ЦЬ** *зак. перан.* Добра станцаваць. *Ма́льцы адса́дзяць дык адса́дзяць «Ба́рыню», спаць ні захо́чаш.* Партызаны.

**АДСА́ЛІВАННІК** *м.* Грыб, які засольваецца. Партызаны.

**АДСА́ЛІНІВІК** *м.* Тое ж. *Набра́ў адса́лінівікуў гла́дка вядро́.* Дольдзева.

**АДСАЛІ́ЦЬ** *зак.* Засаліць. *Пъдале́шкі, дзе ле́шнік расту́ць, жо́ўцінькія, іх атва́руць і адсо́люць.* Гарадок.

**АДСА́ЛЬНІК** *м.* Грыб, які засольваецца. *Адса́льнікі – сьвінні, грузды́ – сырэ́я со́люць.* Сяргейкі, Партызаны, Фасаўшчына.

**АДСЕ́ДАВА, АТСЕ́ДАВА** *прысл.* Адсюль. *Ён жыве́ць кіло́метраў пяць адсе́дава.* Багданава. *Атсе́дава ён ро́дам.* Станюкі.

**АДСЕ́ЛЬ** *прысл.* Тое ж. *Адсе́ль ужо́ гліну во́зяць.* Кляпчэва.

**АДСМАРГНУ́ЦЬ** *зак.* Адвязаць. *Адсмаргні супо́ню.* Гарадок.

**АДСО́ЧЫЦЬ** *зак.* Спусціць смалу. *Смалы́ жывічнай з сасны́ вясно́й адсо́ч.* Вялікі Азярэцк.

**АДСТУ́П** *м.* Прамежак паміж сцяной і печчу. *За пе́ччу адсту́п дзе́лълі, прыма́шчвълі до́шкі, пясо́к сы́палі.* Неўгадава.

**АДСЯЧЫ́** *зак.* Адсячы, адрэзаць. *Хто но́жам, хто тъпаро́м гълаву́ адсячэ́ць* [курыцы]. Вялікі Азярэцк. ◊ ХОЦЬ <ТЫ> ГАЛАВУ́ АДСЯЧЫ́. Выказванне безна-

дзейнасці, немагчымасці зрабіць што-н. *Хоць ты галаву ёй адсячы – ні хочыць у бальніцу.* Запруддзе.

**АДТРЫБУ́ШЫЦЬ** *зак. эмац.-ацэн.* Пабіць. *Хлопца з другей дзярэўні адтрыбушаць, як пойдзіць з дзеўкай ні сваёй дзярэўні.* Партызаны.

**АДТУ́ЛЬ, АТТУ́ЛЯ** *прысл.* Адтуль. *Адыдзіся аттуля.* Станюкі. ◊ НІ АДТУ́ЛЬ НІ АДСЮ́ЛЬ. Узяцца невядома адкуль. *Ні адтуль ні адсюль – і воблака.* Цясішча.

**АДУВА́Н** *м.* Адуванчык, дзьмухавец (расліна). *Адуван папасеяўся.* Запруддзе.

**АДУВА́НЕЦ** *м.* Тое ж. *С адуванца варэнне варуць.* Запруддзе.

**АДУВА́НЧЫК, ДУВА́НЧЫК** *м.* Тое ж. *Адуванчыкі, як зацвіцяць, аж жоўта, як адцвіцяць, тады – пуховачкі.* Леснікова, Багданава, Каралі, Леснікі, Чуцькі. *Дуванчыкі паацвіталі.* Сукрэмна.

**АДУРНЕ́ЦЬ** *зак.* Адчуць сябе дрэнна. *Крэпкъя курыва, ад яго адурнеіш.* Жохава, Кішуроўшчына, Міцюкова, Нямойта.

**АДУРНЕ́ЦЬ** *зак.* Зрабіць глупства, незразумелы ўчынак. *Адурнеў – і сам пайшоў з імі.* Гарадзец, Нямойта, Рэчкі, Сянно.

**АДУРНІ́ЦЬ, АДУРЫ́ЦЬ** *зак.* ◊ АДУРНІЦЬ (АДУРЫЦЬ) ГАЛАВУ́. Надакучыць, назаліць чым-н. *Мне сваё адурнілі галаву дзеці.* Запруддзе. *Дождж адурыў ужо гълаву.* Буй, Гарадзец.

**АДХАВА́ЦЬ** *зак.* Схаваць. *Адхъваў ат яе пурусінавый мъцір'ял і забыўся.* Нямойта.

**АДЧА́ЯЦЦА** *незак.* Адчайвацца. *А як адчаяцца – мамка мая любая!* Савінічы.

**АДЧЫНІ́ЦЬ, АТЧЫНІ́ЦЬ** *зак.* Адчыніць. *Адчыніць вокны, грамафон іграіць.* Алексінічы. *Пастукалі – пашла мама атчыніць.* Серкуці, Багданава, Нямойта.

**АДШАРА́ШЫЦЬ** *зак. эмац.-ацэн.* Адрэзаць. *Як смърганула сцяклом, так пяту адшарашыла.* Багданава.

**АДШЧАПІ́ЦЬ** *зак. перан.* Знайсці. *Каго дзе адшчаплю, каб падлогу памыў.* Нямойта.

**АДШЫВА́ЦЬ** *незак.* Пазбаўляцца каго-н. *У яе былі хлопцы, но яна адшывала іх.* Багданава, Партызаны.

**АДЫСЦІ́СЯ** *зак.* Адысці. *Адыдзіся!* Багданава.

**А-Е́** *выкл.* Вокліч для перадачы здзіўлення; авой. *А-е, ні хачу есці!* Нямойта, Багданава, Розмыслава.

**А-ЁЙ** *выкл.* Тое ж. Ульянавічы.

**АЖ** *часц.* Ажно. *Што больш ляжыць, то аж блішчыць.* Закур'е.

**АЖАВІ́НЫ** *мн.* Ажыны. *Было многа малін, чарніц, дурніц, брусніц, ёсь ажавіны.* Закур'е, Багданава, Гарадзец.

**АЖАВІ́НЫ** *мн.* Жамерыны. *Як збёрыш дзягно, астанецца цёмноё, ажавіны цёмныя, крупкъмі, іх – вон.* Дольдзева.

**АЖАРАБІ́ЦЦА** *зак.* Ажарабіцца. *Ажърабілася жаробка.* Нямойта.

**АЖО́ГА** *ж.* Апёк. *Ад ажогі вудыр ускочыў.* Нямойта.

**АЖЫ́ЦЦА** *зак.* Абжыцца. *Ажылісь мы там і жылі, пънъсадзілі ўсяго.* Ракаў Засценак, Цясішча.

**АЗАЛАЦЕ́ЦЬ** *зак. перан.* Азалаціцца, разбагацець. *Каб яны чыста жалі канбайнам, азалацелі б ад дабра.* Сукрэмна.

**АЗВЯРЭ́ЦЬ** *зак.* Азвярэць. *Азвярэлі людзі за грошы.* Партызаны.

**АЗІ́МКА** *ж.* Азімка, азімая пшаніца. *Азімкі пасеіла, то ат варон адбіцца нільзя.* Сукрэмна, Запруддзе, Каралевічы.

**АЗНО́БА** *ж.* Дрыжыкі. *Азно́ба бярэ́ць, трасе́ць.* Багданава.

**АЗЯЛІ́ЦЬ** *зак.* ◊ АЗЯЛІ́ЦЬ ГАЛАВУ́. Надакучыць, назаліць чым-н. *Азялілі гълаву́ дзе́ці.* Запруддзе, Вялікі Азярэцк.

**АІ́Р**, **АГІ́Р** *м.* Аер. *Аір кала са́жалкі расце́ць.* Каралі, Багданава, Гарадзец, Заазер'е, Кавалі, Леснікі, Сукрэмна, Дуброўкі, Закур'е. *Як пяклі хлеб, агір, а не капу́сны ліст сла́лі.* Гарадзец. *Агір расце́ць у вадзе́.* Дольдзева, Алексінічы, Вялікі Азярэцк, Заазер'е, Запруддзе, Нямойта. ○ ДЗІ́КІ АІ́Р. Аер дзікі. *Аір дзікі цвіціць палавіна сінім, палавіна – жо́ўтым.* Каралі.

**АКАЗА́ЦЦА** *зак.* Адазвацца. *«Буро́на мая!» – я загаварыла, яна́ аказала́ся.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Жохава, Запруддзе, Міцюкова.

**АКАЗІ́ЦЦА** *зак.* Акаціцца (пра казу). *Каза́ то́лькі ўчо́ра аказілася.* Запруддзе, Багданава.

**АКАЛЕ́ЦЬ** *зак. перан.* Астыць. *Паку́ль крупе́ня ні акале́ла, ем.* Міцюкова, Леснікова, Турава.

**АКАЛО́Т** *м.* Абабітае са снапа зерне разам з каласкамі. *Акало́т – аббітае ўжэ ат снапо́ў.* Нямойта.

**АКАРЫ́ЦЬ** *зак.* Зняць кару, абчасаць. *Акары́ць жардзіну – здараве́й бу́дзіць, а то бу́дзіць тру́хнуць пат каро́й.* Нямойта.

**АКА́СНЫ** *прым.* Непаседлівы. *Ака́сны ма́ліц, ле́зіць усюды.* Алексінічы.

**АКАЦІ́ЦЦА** *зак.* Акаціцца (пра авечку). *Аве́чка акаці́лъся, дзве аве́чычкі прывіла́.* Міцюкова.

**АКНО́**, **ВАКНО́** *н.* Акно. *Абса́да – уве́рсе акна́.* Гарадзец. *Быў убіты гвозд, яны* [ластаўкі] *абляпілі яго́ і кала вакна́ дзе́лаюць гнёзды.* Фасаўшчына. *Прыцемна дзе́лаіцца – сяжу́ ў вакна́.* Багданава, Дольдзева, Заазер'е, Міцюкова, Рэчкі. *Даъкары́ла старшыні рой даць: мушчы́ны распіса́лі і столь, і ха́ту да вако́н разабра́лі.* Партызаны. АКО́НЦА, ВАКО́ШАЧКА *памянш. Ако́нцы ў ку́рнай ха́ці затыка́лі кацюхо́м; кусо́к дзе́ръва атрэ́жуць – і такі́ кацю́х.* Гарадзец. *Ма́ленькае вако́шачка ў ёўні прарэ́зана.* Нямойта, Леснікова. 2. Бездань; глыбокае, небяспечнае месца на балоце. *Во́кны былі нъ бало́ці, мо́жна ўваліцца.* Гарадзец, Заазер'е, Запруддзе.

**АКО́ЎВАЦЦА** *незак.* Акоўваць. *Ра́ньшы былі на дзіръвя́нным ходу́ калёсы, ако́ўваліся жалёзъм.* Гарадзец.

**АКО́П** *м.* Акоп. 1. *У ле́сі выкапалі ако́п такі.* Партызаны. *І сістра́ ўцікла́ з ако́паў.* Алексінічы. 2. Невялікі вал, насып. *Во такі ако́п, а тут кънава.* Партызаны.

**АКРА́ЕЦ** *м.* Акраец. *Акра́ец атрэ́залі ат бу́лкі.* Багданава. АКРА́ЙЧЫК, АКРАЮ́ШАЧКА *ж. памянш. Акра́йчык атрэ́жыш хле́ба.* Гарадзец. *Акраю́шачку хле́ба прывя́жэць к лу́пке, тады́ ідзе́ць се́яць.* Каралевічы.

□ *На́да з'е́сці акра́йчык, бу́дзе сын Мікала́йчык.* Багданава.

**АКРА́Й** *м.* Тое ж. *Сама́ акра́й хле́ба з'ясі, а ўсё раздасі.* Фасаўшчына, Гарадзец.

**АКРАМЯ́**, **АКРО́МЕ** *прыназ.* Акрамя, апроч. *Ко́мін нізакры́ты, печ тапіла свякро́ўка. А тады́ пашчыкату́рылі* [печ], *і ні ста́ла ніку́ды ды́му ісці, акрамя ў ко́мін.* Багданава. *Акро́ме курэ́й, нічо́га не дзяржы́ць.* Ульянавічы.

**АКРЫ́ЦЬ** *зак.* Акрыць, накрыць. *Хлеп рушніко́м акры́юць.* Рулёўшчына.

**АКРЭ́ПНУЦЬ** *зак.* Акрэпнуць, набрацца сіл. *На́да падаждаць, паку́ль акрэ́пнеш.* Фасаўшчына.

**АКУНУ́ЦЬ** *зак.* Акунуць. *Зато́рнець ву́шы і ў ваду́ яго́ акуне́ць.* Карпавічы.

**АКУ́НЬ, О́КУНЬ** *м.* Акунь. *Пяць акунёў выцягнуў. Ёрш, як о́кунь, ён са́ма ўку́сныя ры́ба.* Багданава. *О́кунь, яго́ чысціць пло́ха.* Алексінічы, Багданава, Заазер'е, Сянно, Фасаўшчына. АКУНЁК *памянш. Шчу́ка да́йжа акунькі з'есць.* Багданава.

**АКУРА́ТНЫ** *прым.* Акуратны. *Акура́тны чълаве́к.* Багданава, Гарадзец.

**АКУ́РУВАЦЬ** *незак.* Абкурваць, абдаваць дымам. *Тъба́кі нъсадзі́ў, аку́рувуў ёй пчол, і кліша́ нім́а.* Сянно.

**АКУ́ТЫ** *дзеепрым.* Акаваны. *Пълазы́ аку́тыя.* Серкуці.

**АКУ́ЧНІК, АКУ́ШНІК** *м.* Плуг для акучвання бульбы ці агародных раслін; акучнік. *Аку́чнік – карто́шку аку́чываць.* Парэчча. *Цяпе́р аку́чнікам бу́льбу ганя́юць.* Запруддзе. *Ды́шла і во́рчык – у аку́чніку э́та.* Нямойта, Манголія, Мянюцева, Савінічы, Сукрэмна. *Браць спарне́й аку́шнікам: ву́жай, шы́рай мо́жна.* Нямойта. *Аку́шнікам падме́шываць бу́льбу.* Алексінічы, Мянюцева.

**АКУ́ЧЫВАЦЬ** *незак.* Акучваць. *Бу́льбу аку́чывалі сахо́й.* Манголія, Дуброўкі.

**АКЫ́Ш, АКЫ́ША** *выкл.* Выгукі, якімі адганяюць свойскіх птушак. *Акыш-акы́ш, во хале́ра!* Станюкі. *Акы́ша у свой камы́ш!* Партызаны, Апечкі, Жохава, Міцюкова, Ульянавічы.

**АЛЕ́, АЛІ́** *злучн.* Але. *Старэ́й за мінé, алé ён раска́жыць пра жысь. Гаво́рыць, алé за зуба́мі, ні ўсё по́йміш.* Серкуці. *Любо́ў то любо́ў, алé і дру́жба на́да.* Ульянавічы. *Е́лі жыва́я прышла́, алі́ купіла каро́ву.* Гарадзец, Алексінічы, Вялікі Азярэцк, Гарадок, Латыгаль, Міцюкова.

**АЛЕ́, АЛІ́** *часц.* 1. Зусім. *Ні хацёў вучы́цца алі́ нічо́га.* Заазер'е. 2. Так. *Алé атушы́лі пъжа́р.* Дуброўкі.

**АЛЕ́Й** *м.* Алей. *Нацíснулі але́ю.* Нямойта, Неўгадава.

**АЛЕ́НЬ** *м.* Алень. *Але́нь ёсь і лось.* Марозаўка.

**АЛЕ́ШНІК, ЛЕ́ШНІК** *м.* 1. Алешнік, альховы лес. *Распусці́ўся але́шнік – год мо́кры* (з назіранняў). Каралевічы. *Жо́ўтыя капы́ты па але́шніку растýць.* Партызаны. *Але́шнік гэ́ты вы́къpчвалі.* Баравікі. *Ва́рам пъзъвары́лі ніб́ыта францу́заў, але́шнік на тых кургъна́х расце́ць.* Чуцькі, Нямойта, Сукрэмна. *Ле́шнік пъвысіка́лі.* Баравікі. 2. *зб.* Галінкі алешыны. *Назбіра́еш але́шніку і зва́рыш, ю́шка нацягніць чо́рная і кра́сілі.* Сукрэмна.

**АЛЕ́ШЫНА** *ж.* Алешына, вольха. *Але́шына адна́ зъ бало́тым стаі́ць.* Нямойта. *Але́шына, бяро́зіна, калі́ ёлка дзе.* Багданава, Каралевічы, Кляпчэва, Міцюкова.

**АЛЁС** *м.* Нізкая, забалочаная мясцовасць. *Алёс – пра́ма тако́я нізкае ме́ста з траво́й, але́шнікам.* Гарадок. *У алёс паедзем у але́шнік. Алёс – там бабо́ўнік, бало́та.* Багданава. *Алёс – э́та сплашны́ лес, ме́сца мо́крае, як ува́лісся, то па вíлкі.* Запруддзе.

**АЛІ́ФА** *ж.* Аліфа. *Мел і алі́фу міша́юць і абма́зуюць во́кны.* Багданава.

**АЛЬВЭ́С** *м.* Альяс, алоэ. *Альвэ́с з мёдам наста́івала, як жыво́т забалі́ць.* Нямойта.

**АЛЬХА́** *ж.* 1. Алешына, вольха. *Была́ альха́ къла ре́чкі.* Нямойта. *Альха́ ту́тацькі куста́рнікі ёсць.* Міцюкова. *У асно́ўным у ле́сі альха́ і асíна.* Запруддзе, Дуброўкі. 2. Альховыя дровы. *Альхí нарэ́жаш, то́піш пе́чку.* Дуброўкі.

**АЛЬХО́ЎНІК** *м.* Алешнік. *Альхо́ўнік ту́тацькі ёсь.* Міцюкова.

**АЛЬША́НІК** *м.* Тое ж. *Узгор'е паро́сшы альша́нікам.* Вялікі Азярэцк.

**АЛЯБА́СТ** *м.* Алебастр. *Аляба́ст з муко́й зміша́юць і ста́вяць, каб смаля́нак патраві́ць.* Буй.

**АМБА́Р, АНБА́Р** *м.* Клець, свіран. *Як сціна́, так і пъталóк рубі́ўся ў амба́рах.* Гарадзец. *Амба́р был, за́сікі надзе́лылі.* Фасаўшчына. *Амба́р сушчэству́іць па́нскі, ні адна́ со́тня лет яму́, хаце́лі разваліць.* Вялікі Азярэцк, Буй, Заазер'е, Каралевічы, Нямойта. *У анба́ры былі за́секі.* Каралі, Леснікова, Станюкі.

**АМІЯ́ЧАК** *м.* Аміяк. *Ні аднаго́ чарвячка́ ні астане́цца, як аміячку́ ўнясе́ш.* Дуброўкі.

**АМША́РА** *ж.* Імшара. *На амша́ры клю́ква расла́.* Багданава, Гарадок.

**АМЯ́ГНУЦЬ** *зак.* Страціць прытомнасць. *Як сту́кнуў яго́ аграбілнам, той і амя́г.* Нямойта.

**АНГІ́НА** *ж.* Ангіна. *Ангіна – го́рла ста́ніць кра́снае.* Баравікі.

**АНДАРА́К, АНДРА́К** *м.* Андарак. *Андара́к – с сукна́ ў забо́рачкі.* Партызаны, Буй, Нямойта, Рэчкі. *Дры́ліх і андъра́к – то́е са́мъе.* Ракаў Засценак, Багданава, Запруддзе, Леснікі, Турава, Ульянавічы, Неўгадава. *Андракі суко́мныя насілі.* Каралі.

**АНЖЫНЕ́Р** *м.* Інжынер. *Анжыне́рам – на цвятны́м заво́дзе, дзе цілівізары цвятны́я.* Запруддзе.

**АНІЯ́КІ** *прым.* Аніякі, дрэнны, нічога не варты. *А до́ма ён аніякі.* Партызаны.

**АНТО́НАЎКА** *ж.* Антонаўка (сорт яблыні). *У мяне́ ёсь антóнаўка бе́лая, тры я́блыны.* Гарадок, Пожанькі.

**АНУ́ЧА** *ж.* Ануча. *Ану́чамі ўве́рціш но́гі і хо́дзіш.* Алексінічы, Ульянавічы.

**АНУ́ЧКА** *ж.* Тое ж. *Ану́чкі каля бо́ку ў пе́чы сушы́лісі.* Неўгадава.

**АНЦІРЭ́СНА** *прысл.* Цікава. *Анцірэ́сна, што ўсё пішыця?* Партызаны.

**АПА́ДКІ** *толькі мн.* Ападкі. *Гэ́ты ме́сіц бу́дзіць менш апа́дък.* Мянюцева.

**АПАЗНА́ЦЦА** *зак.* Памыліцца, не распазнаць. *Ты апазна́лася, я не Наза́р!* Нямойта.

**АПАЗО́РЫЦЦА** *зак.* Абняславіцца, аганьбаваць сябе. *Апазо́рылася та́я варо́шка, усё шапта́лася з дачко́й, не́шта замышля́ла, а я яе́ – на маро́з.* Нямойта.

**АПАЗО́РЫЦЬ** *зак.* Зганьбіць. *Апазо́рыў дзяце́й, што сдзе́лыў!* Рулёўшчына, Нямойта.

**АПАЛІ́ЦЬ** *зак.* Абпаліць. *Дзве ба́бы пайшлі ў ве́нікі, найшла́ граза́, адну́ забі́ла, а другу́ю апалі́ла.* Багданава.

**АПА́ЛЫВАЦЬ** *незак.* Аполваць, палоць. *Апа́лывалі, рука́мі пало́лі.* Запруддзе.

**АПАНАВА́ЦЬ, АПУНУВА́ЦЬ** *зак.* Апанаваць, напасці ў вялікай колькасці. *Бло́хі ката́ апанава́лі. Каня́ апанава́лі пчо́лы, ён у ваду́.* Закур'е. *Як апунува́лі нас вадні, век і мух такіх не было!* Запруддзе.

**АПАНТА́НЫ** *прым.* Сварлівы. *Свякро́ў така́я апанта́ная: усіх абзаве́ць, абругаіць.* Багданава, Нямойта.

**АПАРАЖНІ́ЦЬ** *зак.* Апаражніць. *Тро́шку апаражні́ла, тро́ху трэ́ба аткінуць.* Міцюкова.

**АПАРАСІ́ЦЦА** *зак.* Апарасіцца. *Свіння́ апарасі́лася: шэсь парася́так нарадзі́ла.* Багданава, Алексінічы, Каралевічы.

**АПА́РЫЦЬ** *зак.* Апарыць, абліць кіпнем. *Пляцёнкі кладу́ць у начо́ўкі і апа́рыюць вадо́й.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Запруддзе.

**АПАСА́ЦЦА** *незак.* Апасацца, сцерагчыся. *Як ко́ні пасе́ш на начле́г, апаса́йся ваўко́ў.* Партызаны.

**АПАСТЫЛЯ́ЦЦА** *незак.* Апастыляцца, сварыцца. *С сасе́дзямі не хо́чыцца апастыля́цца.* Багданава.

**АПАХА́ЦЬ** *незак.* Апухаць. *Ру́кі апаха́юць, баля́ць.* Багданава.

**АПЕ́КУН** *м.* Прыёмнае дзіця. *Ён пубра́ў сабе́ апекунуў гудува́ць, яны́ вырыстуць і папо́йдуць хто куда́.* Запруддзе.

**АПЕ́НКА, АПЁНКА** *ж.* Апенька (грыб). *Грыбо́ў по́уна – апе́нак.* Дуброўкі. *Апе́нак бо́чку насалі́ў.* Багданава. *Апе́нкі, яны́ куста́мі, ні па аднэ́й у рат.* Багданава. *Адзін год сто́лькі апе́нак было́, мішка́мі насілі, вазілі.* Латыгаль, Алексінічы, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Ракаў Засценак. *Апёнкі кала пнёў растýць.* Вялікі Азярэцк. *Апёнкі насалілі бо́чку.* Багданава, Латыгаль, Турава.

**АПЕ́ЧКІ** *мн.* Драўляны падмурак печы; апечак. *З бярве́нняў рубілі апе́чкі, у няме́цкі вýгал рубілі, пад ніс, пат пе́ччу – патпе́чча.* Гарадзец. *Ра́ньшы дзе́лалі апе́чкі пат печ, з бярве́ння рубілі, як каló́дзіш, у няме́цкі ýгал, акура́тнѐнькія.* Гарадзец. *Пе́чка е́та на апе́чках, яны́ дзірвя́нныя.* Дольдзева, Апечкі, Багданава, Рэчкі.

**АПІ́ЛКІ** *толькі мн.* Апілкі, пілавінне. *Апілкі пъдмяцí, не прайсцí.* Вялікі Азярэцк, Багданава.

**АПІНА́ЦЬ** *незак.* Апінаць, абцягваць. *Гэ́та се́тка для курэ́й: мы апіна́ем, кап кýры ў гаро́т ня ле́злі.* Багданава.

**АПІРА́ЦЫЯ, ПІРА́ЦЫЯ** *ж.* Аперацыя. *У яго́ быў катара́к, яму́ дзе́лалі апіра́цыю.* Багданава. *У мяне ныъ назе́ была́ дзі́чка, піра́цыю здзе́лалі.* Сукрэмна.

**АПІХА́ЦЬ** *незак.* 1. Малаціць, абіваць каласы. *Кýчу нало́жаць дабра́, апіха́юць* [вусце адбіваюць]. Розмыслава. *Апіха́ць на́да цъпа́мі ýсы ў ячме́ня.* Заазер'е. 2. Ачышчаць. *Апіха́лі зярно́ ат вýсцяў.* Фасаўшчына, Розмыслава.

**АПІЦІНДЗІЦІ́Т** *м.* Апендыцыт. *Забале́ў жыво́т – апіціндзіціт.* Запруддзе.

**АПІЦІ́Т** *м.* Апетыт. *Апіціт до́бры ат крапівы.* Багданава. *Німа́ апіціту на яду́.* Заазер'е.

**АПКАЛЯСІ́ЦЬ** *зак.* Абысці, аб'ехаць, пабываць у многіх месцах. *У вайну́ апкълясіў усё!* Сянно.

**АПКА́ПЫВАЦЬ** *незак.* Абкопваць. *І наво́зу вазіў, і апка́пываў капе́ц, кап ня змёрзла бýльба.* Фасаўшчына.

**АПКАРМІ́ЦЬ** *зак.* Накарміць празмерна. *Ці ні апкарміла, што здох.* Турава.

**АПКІ́ДВАЦЬ, АПКІ́ДЫВАЦЬ** *незак.* Абкідваць ніткамі берагі тканіны. *Як дырка – пад ніз бальшы́ ла́пік прышы́юць, а тады́ апкі́дывалі кругóм.* Фасаўшчына. *Нітъчкамі апкі́двалі пе́тлі.* Турава, Буй.

**АПКЛАДА́ЦЬ** *незак.* Абкладваць. *Аськá на по́тсіль і апклъда́ць капе́ц бýльбы.* Гарадок. *Ці сало́май хто апклада́іць і апсыпа́іць – то зава́ліна.* Гарадзец.

**АПКРЫ́ЦЬ** *зак.* 1. Акрыць, завязаць. *Апкры́й плато́к: ве́цер. Касы́начку апкры́ла, табле́тку вы́піла.* Багданава. 2. Пакрыць. *На дзе́рава ся́дуць, апкры́юць* [вароны], *ка́ркаюць, асо́ба пірад дождж.* Вялікі Азярэцк.

**А́ПЛІК** *м.* Кручок для зашпільвання адзення; аплік. *А́плік – е́та кручо́к.* Нямойта.

**АПЛІТА́ЦЬ** *незак.* Прагна, са смакам есці. *Аплітá́іць крупе́ню.* Самсоны.

**АПЛІ́ЧКА** *ж.* Пяцелька для кручка ў адзенні. *Аплі́чка – у спаднікі прышыва́лі. Аплічо́к і кручо́к – па́ра іх.* Гарадзец.

**АПО́Й** *м.* Хвароба каня. *Апо́й бываіць у кьня́, як по́тныга апо́іш.* Самсоны.

**АПО́ЛАК** *м.* Аполак. *Апо́лак – кра́йняя ча́стка до́шкі, або́чына.* Гарадзец, Вялікі Азярэцк, Нямойта.

**АПО́МНІЦЦА** *зак.* Апомніцца. *Я тро́ху апо́мнілася.* Гарадзец, Багданава.

**АПО́РКІ** *мн.* Апоркі, абрэзаныя валёнкі. *Апо́ркі насіла з ва́лінак абрэ́заныя.* Нямойта.

**АПО́РТАЎКА** *ж.* Апорт (сорт яблыкаў). *Апо́ртаўка – бальшо́я я́блыка.* Пожанькі.

**АППЯ́ЦЬ** *зак.* Напяць, нацягнуць прымацаваўшы. *Се́ткай аппя́ць.* Багданава.

**АППЯЧЫ́СЯ** *зак.* Спячыся. *Аппёкся хлеб.* Вялікі Азярэцк.

**АПРАЦІ́ВЕЦЬ** *зак.* Апрацівець. *Не́як апраціве́ла, ні магу́ е́сці бу́льбы.* Нямойта.

**АПРЭ́ЛЬ** *м.* Красавік. *У нача́ле апраля́ бу́ду се́іць.* Партызаны.

**АПСІ́К** *выкл.* Выгук, якім адганяюць ката. *Апсі́к, като́к, на таржо́к, прынясі Міко́лку піражо́к!* (з дзіцячай лічылкі). Багданава.

**АПСУ́ДЖАНЫ** *дзеепрым.* Асуджаны. *Яны́ былі апсу́джаныя ў тры́ццаць фтаро́м гаду́.* Станюкі.

**АПСЫ́ПКА** *ж.* Што-н. сыпучае, якім абсыпаюць каго-, што-н. *Мука́ – апсы́пка, каро́ве пасы́паць.* Вялікі Азярэцк.

**АПСЯВА́ЦЬ** *незак.* Абсыпаць. *Як вываз́ілі мъладу́ху і мъладзяна́ на ву́ліцу, то апсява́лі аўсо́м.* Запруддзе.

**АПУ́ХНУЦЬ, АПО́ХНУЦЬ** *зак.* Апухнуць. *У ку́зню цігаўся рабо́тацЬ, рука́ апу́хла.* Каралі. *Апо́хла рука́, як бірвяно́.* Партызаны. *Апо́хлі но́жанькі, хадзі́ць ця́шка.* Партызаны. *Глаза́ кра́сныя, апо́хлі, баля́ць. Гарэ́лкі вы́піў і да ве́чъра апо́х.* Багданава, Гарадзец, Запруддзе, Розмыслава, Цясішча.

**АПУ́ШАЧКА** *ж. памянш.* Апуха. *Та́пкі купі́ла з апу́шачкай.* Нямойта.

**АПУШЧА́ЦЦА** *незак.* Прызямляцца. *Самалёт апушча́ўся ў вайну́.* Вялікі Азярэцк.

**АПЦЕ́КА** *ж.* Аптэка. *Дзірыза́ ў ле́сі расьце́ць, яе́ ў апце́ку здува́лі.* Сянно.

**АПЦЁПКАЦЦА** *незак.* Абмачыцца. *Апцёпкалася ты!* Вялікі Азярэцк.

**АПЦІ́ШЫЦЦА** *зак.* Сціхнуць, супакоіцца, стаць лепшым (пра надвор'е). *Як надво́р'е апці́шыцца, я нарма́льна хаджу́.* Ракаў Засценак.

**АПЦЯРУШЫ́ЦЬ** *зак.* Абчысціць, абабраць. *Цубу́льную шалуху́ апцяру́шым і ёй я́йкі кра́сім.* Міцюкова.

**АПШЛІФО́ВАНЫ** *дзеепрым.* Адшліфаваны. *Бы́лі дра́чкі: дасо́чка, набі́та гваздзе́й, апшліфо́ваны харашо́ і апчо́сываіш лён.* Дольдзева.

**АПШУЛЮВА́ЦЬ** *зак.* Абшаляваць. *Апшулюва́ў ха́ту.* Запруддзе.

**АПШУ́РХВАЦЬ** *незак.* Абтрасаць, вытрасаць. *Саро́чкі паздзіва́лі і апшу́рхвалі клапо́ў.* Закур'е.

**АПШЧЫКАТУ́РЫЦЬ** *зак.* Абтынкаваць. *Ба́ньку апшчыкату́рыла.* Латыгаль.

**АПШЫВА́ЦЬ** *незак.* Абшываць. *Къла рукаво́ў апшыва́лі.* Буй.

**АРАЛЁВЫ, РАЛЁВЫ** *прым.* Прызначаны для арання (пра хамут). *Пастро́мкі – у аралёвым хамуту́.* Гарадзец, Заазер'е. *Ралёвы хаму́т для сахі́, для плу́га, для бараны́. У ралёвы хаму́т – вяро́вашныя гужы́.* Гарадзец.

**АРА́ТЫ, РА́ТЫЙ** *дзеепрым.* Араны, узараны. *Ара́тая зімля́ на по́лі – ралля́.* Фасаўшчына. *Абло́га – ні ра́тый лух.* Гарадок.

**АРА́ЦЬ** *незак.* Араць. *Тръва́ ў міне́ ў са́дзе ніякъя, даўно́ ъра́лі.* Запруддзе. *Ары́це, ко́нікі, са́мі, я ўжэ ўвесь.* Нямойта. *Німа́ сі́лы каму́ ара́ць.* Івоні. *На сабе́ ара́лі, касі́лі, мужчы́н ні было́ ні аднаго́.* Рэчкі. *Лацве́й бы́кам ара́ць.* Гарадзец. *Кап дош пашо́ў, дзе́ўкі ръздзіва́ліся, го́лыя даро́гу ара́лі на крыжаву́хі, тры-чаты́ры плух ця́гнуць.* Нямойта.

**АРА́ЦЬ** *незак.* Крычаць. *Іна́ арэ́ць на яго́, крычы́ць.* Багданава. *Той арэ́ць на ўсю дзярэ́ўню.* Манголія.

**АРЖАНЫ́, РЖАНЫ́** *прым.* Жытні, аржаны. *З аржанóй мукі саладýху вары́лі. Нáда, каб аржанáя мукá з вадóй съладжáлася – мёду ўкінеш.* Багданава. *Аржанóе жы́та даўгóе.* Гарадзец. *Кры́лі салóмай аржанэ́й хлеў, трасні́кóм.* Дольдзева, Запруддзе, Самсоны. *Ржанáя мукá, вары́лі кулéш. Ржынáя мукá, на цёплінькай вадзíчкі раскалóціш рэ́дзінька і тады́ пасярóт пéчы пастáвіш, сáхар сы́піш.* Багданава. *Як кулáга рóбіцца: ржанáя мукá, размéшаная, саладжáіць на загнéцці.* Міцюкова.

**АРМЯ́К** *м. устар.* Верхняя вопратка з даматканага сукна; армяк. *Быў армя́к, нъ ягó ля́жыш і спіш, як цэп.* Алексінічы. *Армякí, кужухí пъўшýпкі – éта вéрхняя адзéжа.* Гарадзец. *Армякі насíлі, длíнныя, як асéнніяя пóльта.* Алексінічы, Багданава, Баравікі, Вялікі Азярэцк, Каралі, Самсоны, Фасаўшчына, Дуброўкі.

**АРМЯНІ́Н** *м.*, **АРМЯНІ́НЫ** *мн.* Армянін. *У нас і грузíны, і армянíны бы́лі.* Фасаўшчына.

**АРНЭ́ТКА** *ж.* Ранет (сорт яблыкаў). *Арнэ́так прынéсла цётка.* Каралевічы.

**АРУ́ДАВАЦЬ** *незак.* Арудаваць, гаспадарыць. *Умірлá* [жонка], *я адзíн арýдую.* Сукрэмна.

**АРУ́ДЗІЯ** *ж.* Зброя. Вялікі Азярэцк.

**АРУЖО́НЫ** *прым.* Узброены. *Шлі лю́дзі аружóныя.* Цясішча. *Мы ні знáім, вы аружóны, хто вы ёсціка.* Нямойта. *У халáтах бéлых аружóныя.* Савінічы, Баравікі.

**АРУЖА́ЦЦА** *незак.* Узбройвацца. *Аружáюцца і бéгаюць туды́.* Чуцькі.

**АРУЖЫ́ЦЦА** *зак.* Узброіцца. *Мáльцы йшлі к нéмцъм, штоб аружы́цца.* Закур'е.

**АРУ́ЖЫЯ** *ж.* Зброя. *Усю арýжыю парцізáны вы́неслі.* Вялікі Азярэцк.

**А́РФА, ВА́РФА** *ж.* Арфа, веялка. *На áрфе чы́сцілі дабрó. У áрфі сíты.* Каралі. *Вáрфа – машы́на былá, чы́сцілі дабрó.* Рэчкі, Багданава, Нямойта.

**АРФАВА́ЦЬ** *незак.* Арфаваць, ачышчаць арфай зерне ад мякіны і смецця. *Сéмя арфýем.* Алексінічы.

**АРХІ́Л** *м.* Архіў. *У архíлъх нашóў вы́пісь мятры́чыскую.* Дольдзева.

**АРШЫ́Н** *м.* Адзінка меры, вымярэння. *Гýпка ат сцяны́ да сцяны́, шэсь аршы́н* [у сярэднім]. Вялікі Азярэцк. *Аршы́н – э́та сéмдзісят адná сóтая мéтра.* Фасаўшчына. *Аршы́н – мéтар атмéраны.* Сукрэмна, Багданава, Дольдзева.

**АРШЫ́ННЫ** *прым.* Памерам з аршын. *Складáлі аршы́нным размéрам, склáдзікамі палатнó.* Нямойта.

**АРЭ́ЛІ, РЭ́ЛІ** *толькі мн.* Арэлі. *Калыхáліся на арэ́лях, пéсні спявáлі.* Багданава. *А Мáсленка – арэ́лі чапáлі, калыхáліся, пéлі.* Манголія, Міцюкова, Нямойта, Партызаны. *Дзень кóўзаешся* [робіш розную працу па пільных патрэбах], *што на рэ́лях.* Станюкі.

**АРЭ́НДА** *ж.* Арэнда. *Зямлю нéкаму ў арэ́нду брáць.* Буй.

**АРЭ́Х** *м.* Арэх. *Арэ́хі трох сартóў бы́лі: рáннія, срэ́днія, вóсіньскія.* Пожанькі, Багданава. *Арэ́хі, катóры палýшчуцца, лазгуны́.* Каралевічы. АРАШО́К *памянш.* *Сóнца, сóнца с тарэ́лачку, зъкацíся за éлачку, сóнца, сóнца з арашóк, зъкацíся за лясóк* (прыгаворка). Нямойта.

**АРЭ́ХВА** *ж.* Матэрыял з арэшыны (ляшчыны). *Абрýч з арэ́хвы здзéланы.* Міцюкова.

**АРЭ́ШНІК** *м.* 1. Арэшнік, ляшчыннік. *У на́шым ле́се бальшынство́ – арэ́шнік і е́льнік.* Вялікі Азярэцк, Запруддзе. 2. *зб.* Лясныя арэхі. *Арэ́шніку там було́ мно́га, то нашчы́пім, а тады́ зімо́й дзе́лім дзяцём.* Партызаны.

**АСА́, АСВА́** *ж.*, **ВО́СВЫ, О́СВЫ, О́СЫ** *мн.* 1. Аса. *О́сы клубо́к звіва́юць.* Вялікі Азярэцк. *Асва́ адна́, а во́свы гняздо́ звілі́.* Запруддзе. *Асва́ куса́йіцца, шчас шчъка́ по́хніць.* Сукрэмна. *Асва́ здзе́лъла гняздо́, пузы́р такі́.* Кішуроўшчына. *О́свы ду́жа куслі́выя, па ліса́х, у малі́нніку.* Каралі, Партызаны. 2. Шэршань [паводле настойлівага тлумачэння інфарманта]. *Асвы́ яны́ кру́пныя.* Багданава. ◊ ЯК АСВА́ лёзіць. Неадчэпна, дакучліва. *Ле́зіць як асва́ ў во́чы.* Партызаны, Кішуроўшчына.

**АСА́ДА** *ж.* Асада, шуфляда. *Аса́жваюць о́кна, дзве́ры: ста́вюць аса́ду, дзе́лаюць ра́мы.* Нямойта.

**АСА́ДЖВАЦЬ** *незак.* Садзіць (пра рой). *У яго́ раі́ і раі́, на́да ш аса́джваць.* Івоні. *Рой лаві́ць ста́вілі ста́ўку, по́тым у до́мік аса́джваюць.* Міцюкова, Вялікі Азярэцк.

**АСА́ДЖВАЦЬ** *незак.* Асаджваць, ставіць асаду ў вокны, дзверы. *Во́кна, дзве́ры сам аса́джваў, ніко́га ні нані́маў.* Мянюцева. *Аса́жъваюць о́кна, дзве́ры, ста́вюць аса́ду, дзе́лаюць ра́мы.* Запруддзе, Нямойта, Партызаны, Фасаўшчына.

**АСАКА́, САКА́** *ж.* Асака (расліна). *У бало́тах асака́.* Багданава, Фасаўшчына. *Асака́ – раза́чка, ду́жа рэ́зкая, па́льцы паразрэ́жаш.* Запруддзе. *Асаку́ сушы́лі, таўклі́ і хлеб пяклі́.* Рэчкі. *Асаку́ наъкасі́, чым карто́шку прыкры́ць.* Каралевічы, Самсоны. *Ту́ю асаку́ е́лі, па ёй такея́ шы́шачкі.* Дуброўкі. *Саб'е́ць ву́тку – зва́ліцца ў саку́, ні падо́йдзіш* [пра паляванне]. Заазер'е.

**АСАЛАВЕ́ЦЬ** *зак.* Асалавець. *Мъладзён наш асалаве́ў.* Багданава.

**АСАТКА́** *ж.* Асесці (пра хлеб, пірагі). *Спячэ́ш ба́пку, дражджэ́й туды́, бялкі́, муку́, жаўткі́ – не, яны́ аса́тку дзе́лаюць.* Манголія.

**АСАЧЫ́ЦЬ** *зак.* Асачыць, знайсці, высачыць. *Мы асачы́лі ку́рыцу: я ўзяла́ пяць яе́ц.* Вялікі Азярэцк.

**АСВІТА́ЦЬ** *зак.* Світаць. *Начына́іць асвіта́ць.* Вялікі Азярэцк.

**АСВЯ́НЫ** *прым.* Асінавы. *Вун пузы́р асьвя́ны.* Багданава.

**АСЕ́ВАЧКА** *ж.* Прасеяная (пытляваная) мука. *На рэ́шата муку́ асе́іш – мука́ вы́сеіцца – асе́вачка.* Запруддзе.

**АСЕ́ЛІЦА** *ж.* Участак пожні, сенакос. *Асе́ліца у канцы́ гаро́да, дзе по́жня.* Чуцькі.

**АСЕ́ННІ** *прым.* Восеньскі. *Асе́нні бруне́т ёсь і асе́ннія анто́нуўка.* Пожанькі.

**АСЕ́СЦІ** *зак.* Асесці, апусціцца. *По́піл на нно ася́дзіць.* Нямойта. *Ву́гъл асе́ў, яго́ пъдня́ць ваго́й, на́да пъдня́ць сцяну́.* Неўгадава.

**АСЕ́ЎКІ** *мн.* Жамерыны. *Пыл, асе́ўкі атміта́юць, кру́пкі астаю́цца.* Кляпчэва.

**АСІ́ЛІЦЬ** *зак.* Пабольшаць, павялічыцца. *Калхо́зныя ста́да асі́ліла* [сена трэба многа]. Забор'е.

**АСІМІНА́ТАРСКАЯ** *ж.* Злучны пункт, памяшканне, дзе праходзіць штучнае асемяненне жывёлы. *Да каце́льнай тут была́ асіміна́търскъя.* Мянюцева.

**АСІ́НА** *ж.* Асіна. *Асі́ну ня лю́бляць пчо́лы – го́ркая.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Каралевічы. ◊ ЯК АСІ́НА дрыжы́ць, трасе́цца. Вельмі моцна (калоціцца). *Дрыжы́ць як асі́на.* Серкуці. *Трасе́цца ўве́сь як асі́на.* Багданава, Нямойта, Дольдзева.

**АСІ́НАВЫ, АСІНО́ВЫ** *прым.* Асінавы. *Асі́навы зруб у каlо́дзіш пъста́вілі.* Кляпчэва, Ульянавічы. *Падасі́навік у асіно́вай ро́шчы.* Нямойта.

**АСІННІК** *м.* Асіннік, хмызняк. *За хатамі асіннік.* Партызаны, Багданава, Гарадок, Закур'е.

**АСІНУЎКА** *ж.* Сорт яблыкаў. *Асінуўка – атплюваццa нямóжна: у рóце – іл, а пóслі – слáдкія.* Пожанькі.

**АСІПНУЦЬ** *зак.* Асіпнуць. *Асіпла, ні магў пець.* Кішуроўшчына.

**АСКÓЛАК** *м.* Асколак, аскепак. *С аскóлку памёр.* Гарадзец, Каралі.

**АСКРАБЦІ** *зак.* Аскрэбці. *Нáда бýльбу аскрабці мъладýю, а стáрую – абръзáць.* Гарадзец.

**АСКЯЛЁБУК** *м.* Аскалёпак, аскабалак, кавалак дрэва. *Біў дрóвы, каб адзін аскялёбук.* Сянно.

**АСЛАБАДЗІЦЦА** *зак.* Вызваліцца. *Як нáша дзярэўня аслабадзілася, парашыла дамóў éхаць.* Неўгадава.

**АСЛАБАДЗІЦЬ** *зак.* Вызваліць. *Бáцька завёз мех пшаніцы, бърънá і купіў дзéсіць літруў съмагóнкі, і нéмцы мяне аслъбадзілі* [з палону]. Заазер'е, Багданава, Неўгадава.

**АСЛАБÉЦЬ** *зак.* Аслабець. *Саўсім інá былá аслабéла.* Багданава, Самсоны.

**АСЛÁБНУЦЬ** *зак.* Аслабнуць. *Сёліта за гот я так аслáбла.* Багданава. *Я аслáбла, чуць хаджý на нагáх.* Самсоны.

**АСЛАЖНÉННЕ** *н.* Ускладненне. *Аслажнéнне пáла на сэрца, і – памёрла.* Багданава.

**АСЛІЗНУЦЬ** *зак.* Аслізнуць, пакрыцца сліззю. *Ён асьлізніць у вас у мяшкý* [цыбуля], *саслізьніць.* Запруддзе.

**ÁСМА** *ж.* Задышка, астма. *У мяне áсма, як цяшка дыхаць.* Вялікі Азярэцк. *Áсма ў ягó, я звялáся, што і хадзіць не маъглá.* Дуброўкі.

**АСМАКУВÁЦЦА** *зак.* Асмакавацца. *Ваўкі асмъкувáлісі чълвечым мясым.* Пожанькі.

**АСНАВÁТЫ** *дзеепрым.* Аснаваны, зроблены як аснова тканіны. *Аснъвáтыя крóсны былі.* Запруддзе.

**АСНАВÁЦЬ** *зак.* Зрабіць аснову тканіны. *Партóм аснýюць і шэрсцю натыкáюць.* Багданава. *Хóдзюць, аснуюць.* Дольдзева.

**АСНÓВАНЫ** *дзеепрым.* Аснаваны, зроблены як аснова тканіны. *Дзéткі мае, аснóвъны, але ні выткъна.* Рэчкі.

**АСÓБА** *прысл.* Асабліва, вельмі. *Дзірэўня ні асóба бъльшáя.* Жохава, Запруддзе.

**АСÓБІННА** *прысл.* Асобна. *Жэншчыны асóбінна касілі, мушчыны – асóбінна.* Леснікова, Нямойта, Запруддзе, Марозаўка, Рубежніца.

**АСÓБІННА** *прысл.* Асабліва. *Пéрхаць, луска ў галаве, асóбінна як мáлінькі рóдзіцца, пéрхаці мнóга.* Заазер'е.

**АСÓБІСТЫ** *прым.* Асаблівы, своеасаблівы. *Такі чалавéк, асóбісты, вáжны.* Заазер'е.

**АСÓТ** *м.* Асот. *Асóт свінням рвуць.* Багданава. *Асóт – с'ядóмая* [трава], *свінням даюць.* Багданава. *Асóт калючы такі.* Жохава, Каралі.

**АСТАВÁЦЦА** *незак.* Заставацца. *Аставáйцеся жывы-здарóвы!* Багданава. *Астáўся біз бáцькі з сямі лет, нáда была самамý усё дзéлаць.* Кляпчэва. *Усé астáлісі, тóлька аднагó выслалі.* Каралевічы. *Калóсся асталóся, усé мехáмі насілі.* Сукрэмна, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Запруддзе, Івоні, Міцюкова, Нямойта, Турава, Фасаўшчына, Неўгадава.

**АСТАЛЮВА́ЦЦА** *зак.* Асталявацца. *Астулюва́ліся нучува́ць у яго́ ў кварці́ры.* Дольдзева.

**АСТАРЭ́ЦЬ** *зак.* Састарыцца. *Астарэ́ла я, ніку́ды ні хаджу́.* Дольдзева.

**АСТА́ЎШЫСЯ, АСТА́ЎШЫСІ** *дзеепрысл.* Астацца, быць. *Каро́ў сем аста́ўшысі у на́шъй дзярэ́ўні.* Каралевічы. *Былі ле́там аста́ўшыся пчо́лы.* Гарадзец.

**АСТМЕ́ЦІК** *м.* Астматык. *Астме́цікам выпісваюць бясплáтна лякáрства.* Гарадзец.

**АСТРО́ЎКІ** *толькі мн.* Прыстасаванне са слупоў і жэрдак для дасушвання збажыны, травы і пад.; пярэплат, азярод. *Се́на сушы́ць – астро́ўкі дзе́лъў у канцы́* [агарода]. *Гаро́х касілі, наб'юць гэ́тых астро́вак і су́шуць. У нас гаро́х у астро́ўках склъда́лі.* Гарадзец, Багданава, Запруддзе, Сукрэмна.

**АСТЫ́КАЛ** *м. экспр.* Вялікі кавалак. *Такі астыка́л кълбасы́ да́ла смаля́нкам.* Партызаны.

**АСУ́НУЦЦА** *зак.* Асунуцца, асесці. *Кало́дэсь асу́нуўся весь.* Цясішча.

**АСУРО́ЧЫЦЬ** *зак.* Сурочыць. *Міну́та дрэ́нная наско́чыць і асуро́чыць.* Запруддзе. *У нас гаво́раць: асуро́чыў, вот на гэ́ту міну́ту сказа́ў і асуро́чыў.* Запруддзе. *Ска́жыць пат тэй мамéнт – асуро́чыць.* Багданава. *Асуро́чыў не́хта маю сястру́, прыхажу́ – ляжы́ць.* Самсоны, Нямойта.

**АСЦІЎЁ** *н. зб.* Асцё. *Асціўё з зірна́ – і з ячме́ня, і з аўса́.* Заазер'е, Дольдзева.

**АСЦЮ́К** *м.* Асцюк. *У ку́чу змяту́ць асцюкі і ве́юць.* Чуцькі. **АСЦЮ́ЛЬКА** *ж. памянш. У жо́рны – зярно́, зме́лім, прасе́ім на сіта, дзе-ніву́дзь пападзе́цца асцю́лька.* Леснікова.

**АСЦЯВУ́ЛІНА** *ж.* Парушынка. *У во́ка асцяву́ліна пъпа́ла, ба́ба языко́м даста́ла.* Багданава.

**АСЦЯРО́Б** *м.* Месца, дзе расцерабілі лес, кусты; расцяроб. *Асцяро́бы але́шнікам зараслі.* Рассвет.

**АСЫ́ПАЦЦА** *зак.* Асыпацца. *Чы́стымі звёздамі асы́паліся.* Каралевічы.

**АСЫ́ПКА** *ж.* Высыпка. *Як асы́пка – закіпяця́ць су́чкі і дзяце́й купа́юць.* Каралі, Цясішча.

**АСЬМІ́НА** *ж.* Мера, роўная двум пудам з паловай [відаць, памылкова]. *Асьміна – два пуды́ с пълаві́най.* Вялікі Азярэцк.

**АСЬМУ́ШКА** *ж.* Мера, роўная пяцідзесяці грамам. *Асьму́шка таба́ку – е́та пяцьдзеся́т грам.* Фасаўшчына.

**АТАБРА́ЦЦА** *зак.* Абабрацца. *Не атабра́цца ат жуко́ў е́тых.* Багданава. *Жуко́ў – атабра́цца нямо́жна.* Ракаў Засценак.

**АТАБРА́ЦЬ** *зак.* Забраць. *Атабра́лі ўсё ў яго́.* Закур'е.

**АТА́ВА** *ж.* Атава. *Ста́ніць ата́ва – касі́ць на́да.* Партызаны. *Ата́ва бу́дзіць у нача́ле а́ўгуста.* Партызаны. *Ата́ва – пасле́дні ўкос.* Розмыслава. *Ата́ва – э́та другі ўкос.* Кляпчэва. *Трэ́ці ўкос – ата́ва.* Запруддзе, Багданава, Гарадзец, Дольдзева, Міцюкова.

**АТАГРАВА́ЦЦА** *незак.* Адагравацца. *Зямля́ атаграва́лася і со́нца ні бая́лася.* Партызаны.

**АТАЗВА́ЦЦА** *зак.* Адгукнуцца. *Іду́ прыслу́хаюся, а тады́ атзаву́ся.* Івоні. *Атызва́лісі вару́шкі, мы ж то́жа стару́шкі.* Вялікі Азярэцк.

**АТА́РА** *ж.* Вялікая колькасць людзей. *Яны́ там ата́рай сгавары́ліся.* Запруддзе.

**АТАРВА́ЦЦА** *зак.* Сарвацца. *На абры́ці мо́жыць атърва́цца конь.* Гарадзец.

**АТАРВА́ЦЬ** *зак.* 1. Адарваць, нарваць. *Я тру́сікам атарву́ травы́.* Партызаны. 2. Адарваць, нашчыпаць. *Я магу́ атарва́ць цыбу́лі.* Багданава. 3. *перан.* Выдзеліць (пра час). *Мо́жа атарве́ць які час се́на пакасі́ць.* Партызаны.

**АТАТКА́ЦЬ** *зак.* Выткаць. *Яшчэ́ яна́ сваёй залбу́цы ататка́ла дзве пакрыва́лы.* Заазер'е, Карпавічы.

**АТВАДЗІ́ЦЬ** *незак.* Адводзіць, адмяраць. *По́стаць лёну ра́ньшы атвадзі́лі, со́так дзе́сіць, пітна́ццаць – як атвядзе́ш сам сабе́.* Заазер'е.

**АТВАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Павадзіць некаторы час. *Іх ку́рыца прыняла́, ътвадзіла і кінъла.* Запруддзе.

**АТВАЛІ́ЦЦА** *зак.* Адваліцца, адпасці. *Гары́ць лучы́нка, яе́ у́то́ркніш, як у чыпялу́, і начо́ўкі паста́віш, яна́ туды́ атва́ліцца, кусо́к, і дым – на ха́ту.* Багданава, Партызаны.

**АТВА́ЛЬЧЫК** *м. памянш.* Здымная спінка ў санках. *Атва́льчык надзяю на са́нкі.* Кляпчэва.

**АТВЕ́ДЫВАЦЬ** *незак.* Адведваць, хадзіць у адведкі. *Хо́дзюць, атве́дываюць, пада́ркі няслі́.* Карпавічы.

**АТВЕ́С** *м.* Адвес, грунтвага. *Атве́с на вяро́вачку чапа́ецца.* Дольдзева.

**АТВЕ́СЦІ** *зак.* Адвесці, правесці. *Дра́чкай ро́ўненька атвядзе́м па дашчэ́.* Нямойта, Вялікі Азярэцк.

**АТВЕ́ТНАСЦЬ** *ж.* Адказнасць. *Бу́дуць убіва́ць друг дру́га, нія́кай атве́тнасці.* Вялікі Азярэцк.

**АТВЕ́ЧАРАК** *м.* Надвячорак. *У атве́чырку, со́нца зъхадзіла, пашо́ў за ко́німі.* Міцюкова.

**АТВЕ́ЧАРКАМ** *прысл.* Адвячоркам. *Атве́чаркам, як спра́ўлюся, сяджу́ ля ку́рачак.* Партызаны. *Прыхо́дзь атве́чаркам.* Каралевічы.

**АТВЕ́ЧАРКУ** *прысл.* Тое ж. *Атве́чарку нас бамбі́лі не́мцы.* Багданава.

**АТВЕ́ЧАР'Я, АТВЕЧАР'Я́** *прысл.* Тое ж. *З сы́нам насі́ла атве́чар'я брыке́т.* Багданава. *Атвечар'я́ ска́чуць.* Багданава.

**АТВІЧА́ЦЬ** *незак.* Адказваць. *Лю́дзі як жнуць, то гаво́раць: памага́й бох. А ён атвіча́іць: спасі́ба.* Запруддзе.

**АТВЯЧЭ́Р'Е** *н.* З вечара, адвячоркам. *Ат атвячэ́р'я перабіра́лі чабо́р, дзед прывёз.* Міцюкова.

**АТГЕ́ТУЛЬВА** *прысл.* Адгэтуль, з гэтага месца. *Машы́на атге́тульва пъшла́.* Ульянавічы.

**АТ'Е́ЗДЗІНЫ** *толькі мн.* Абрад провадаў сватоў. *На ат'е́здзіны сватоў пе́лі пе́сні.* Баравікі.

**АТ'Е́ТУЛЯ** *прысл.* Адсюль. *Ат'е́туля не́мцаў атагна́лі, і мы зямля́начку зрабі́лі.* Алексінічы.

**АТЖА́РЫЦЬ** *зак.* Адлупцаваць, моцна пабіць. *Атжа́рыла яго́ вяро́ўкай.* Заазер'е.

**АТКАЗА́ЦЬ** *зак.* 1. Адмовіць. *Нядзе́лі дзве на та́нцы ня пу́сцяць, як атка́жаш.* Партызаны. 2. Перадаць у спадчыну, завяшчаць. *Ты мне хоць што перад сме́рцю атважы́!* Рэчкі.

**АТКА́ЗЫВАЦЬ** *незак.* Паўтараць яшчэ раз (?). *Атка́зывай наза́т.* Машчоны.

**АТКАЛАЦІ́ЦЬ** *зак.* Атрэсці. *Дошч пашо́ў, а то ма́ліц аткълаці́ў бы вам ране́так.* Кляпчэва.

**АТКАЛО́ЦЬ** *зак.* Уратаваць, вылечыць уколамі. *Цяпе́р урачы́ атко́люць, рэ́тка хто ўміра́е.* Багданава.

**АТКАЛЫХА́ЦЬ** *зак.* Ажывіць, вярнуць да жыцця. *Мужыка́ ні аткалыха́лі: памёр у ба́ні, угарэ́ў.* Нямойта.

**АТКАСІ́ЦЬ** *зак.* Накасіць. *По́йдзець ра́на, атко́сіць се́на і – на рабо́ту.* Міцюкова. *Там цяпе́ра се́на нъ казу́ ні атко́сіш.* Гарадзец, Багданава, Серкуці, Цясішча.

**АТКАЧА́ЦЦА** *зак.* Адхварэць, лежачы ў ложку. *Сем нядзе́ль аткача́лася.* Неўгадава.

**АТКА́ШАВАЦЬ** *незак.* Адкошваць, адпрацоўваць на касьбе за што-н. *Рас браў, на́да атка́шъвъць.* Багданава.

**АТКІ́НУЦЦА** *зак. перан.* Перастаць цікавіцца, аддаліцца. *Расхваліў, расцаніў, у яго́ сад бальшы́, і я аткінулася ат то́га і за ётага пашла́.* Розмыслава.

**АТКЛА́ДКА** *ж.* Адкладанне. *У мяне́ бъляць но́гі, аткла́дка сале́й.* Заазер'е. *Аткла́дка сале́й у мяне́ ці бох яго́ зна́іць што.* Запруддзе.

**АТКЛЯ́ЎШЫЦЬ** *зак.* Пагрозліва памахаць кулаком. *Ну во кулако́м кля́ўшыць, аткля́ўшыў.* Багданава.

**АТКО́РМАЧНІК** *м.* Адкормнік, адкормачнік. Багданава.

**АТКО́РМНІК** *м.* Тое ж. *А ты́я свінні, што атко́рмнікі, ты́я стыя́ць.* Заазер'е.

**АТКО́СКІ** *толькі мн.* Рама з трох жэрдак, якая кладзецца на сані для большай умяшчальнасці; развалы. *Атко́скі, што на са́нкі ло́жуцца, і́лі заву́ць разва́лы.* Гарадзец.

**АТКРЫ́ЦЬ** *незак.* Раскрыць (капец). *Тады́ аткры́лі капе́ц і бу́льбу се́ілі.* Самсоны.

**АТКРЭ́ЯЦЬ** *зак.* Акрыяць. *То́лькі аткрэ́яў, а быў зъбале́ў.* Ульянавічы, Багданава.

**АТКУ́ЛЬ** *прысл.* Адкуль. *Атку́ль узя́ўся гэ́ты пусты́рнік?* Гарадзец.

**АТКУПІ́ЦЦА** *зак.* Адкупіцца. *Як ко́нчуць жы́та жаць, сплятуць вянкі, цвято́ў даба́вяць, надзе́нуць, жэ́ншчыны далжны́ аткупі́цца.* Міцюкова. *Аткупі́лісь тро́ху ат бургамі́стра. Мы пайшлі́ аткупі́ліся* [ад паліцыі]. Нямойта.

**АТКУПІ́ЦЬ** *зак.* Адкупіць. *Тры хъзя́іны хаце́лі аткупі́ць для дзяце́й ту́ю зямлю́.* Рэчкі. *Яны́ аткупі́лі гэ́тую капліч́ку.* Мянюцева. *Я дом аткупі́ла.* Неўгадава.

**АТЛА́МВАЦЦА** *незак. перан.* Моцна балець. *Нага́ у міне́ атла́мваецца.* Латыгаль, Савінічы.

**АТЛАПА́ЦІЦЬ** *зак.* Налупцаваць, моцна пабіць. *Ён яму́ атлапа́ціў.* Закур'е.

**АТЛА́С** *м.* Атла́с (гатунак тканіны). *Ко́фта с атла́су ружо́вая.* Багданава.

**АТЛЕ́ЖАЦЬ** *зак.* Адляжаць, хварэючы, пэўны час правесці ў бальніцы (у пасцелі). *Тры ме́сяцы атле́жала ў бальні́цы.* Каралі, Запруддзе, Каралевічы, Ракаў Засценак.

**АТЛЕ́ЎНІК** *м.* Гліняны гаршчок невялікага памеру; адлеўнік. *Атле́ўнік – е́та гліня́ны гаршчо́чак.* Нямойта.

**АТЛІ́Ў** *м.* Умацаванне на даху для сцёку вады; адліў. *Атлі́вы – до́шкі пъ бъка́х, на кры́шы.* Багданава, Запруддзе, Мянюцева.

**АТЛІ́Ў** *м.* Адвал, паліца ў плузе. *Атлі́ў зямлю́ атва́львае.* Гарадок.

**АТЛУЧА́ЦЬ** *незак.* Адсаджваць цяля ад каровы. *Атлуча́ць цілёнка пъра́.* Нямойта, Запруддзе.

**АТЛЯГНУ́ЦЬ** *зак.* Адлегчы, адчуць палёгку, супакой. *Вы́піў і атлягну́ла мне пад грудзя́мі.* Сянно, Леснікова.

**АТМЕ́Л** *м.* Водмель. *Атме́л ад бе́ръга, а да́лі глы́бшы.* Гарадок.

**АТМЕ́ЛЬ** *ж.* Тое ж. *Купа́юцца, загара́юць – атме́ль там.* Машчоны, Вялікі Азярэцк.

**АТМІРА́ЦЬ** *незак. перан.* Адміраць, знікаць. *Атміра́е е́та дзярэ́ўня.* Сукрэмна, Багданава, Буй, Гарадзец, Леснікова.

**АТМУЛІВА́НЫ** *дзеепрым.* Расфарбаваны. *Плъшчані́ца – іко́на така́я ътмуліва́ная.* Буй.

**АТМЯ́КНУЦЬ** *зак.* Вымакнуць. *Дождж – уся́ бу́льба атмя́кніць.* Чуцькі, Алексінічы, Багданава, Фасаўшчына.

**АТМЯНІ́ЦЬ** *зак.* Падмяніць. *Я цябе́, ма́ма, атмяню́, прыбягу́ к каро́вам.* Партызаны.

**АТМЯНІ́ЦЬ** *зак.* Абмяніць сваё на нешта іншае. *Атмяні́ця мне свайго́ хле́ба.* Заазер'е.

**АТНІМА́ЦЬ** *незак.* Вымаць. *Сёліта я і во́кна не атніма́ла падво́йныя.* Заазер'е.

**АТНІМА́ЦЬ** *незак.* Адразаць, ампутаваць. *На́да атніма́ць вам па́ліц, а то – заражэ́нне крыві́.* Леснікова.

**АТО́** *злучн.* Бо. *На́да ш напіраме́нку е́сці, ато́ зану́дзіць.* Баравікі.

**АТО́ПКІ** *мн.* Зношаны, стаптаны абутак; атопкі. *Ато́пкі якія надзе́ну.* Закур'е, Запруддзе, Ракаў Засценак.

**АТО́РВАЦЬ** *незак.* Пераворваць. *Зернавы́я ато́рвалі і пірасіва́лі ўсё.* Ульянавічы, Багданава.

**АТО́СЫ** *мн.* Драцяныя або з жалезных прутоў, рэменю і інш. цяжы ў возе; атосы. *Ато́сы с пянькі́ вілі.* Міцюкова, Гарадзец.

**АТПАТНЕ́ЦЬ** *зак.* Запацець, запатнець. *Атпатне́лі во́кны.* Багданава.

**АТПІ́САНЫ** *дзеепрым.* Выпісаны, выключаны са складу жыхароў населенага пункта. *Былі́ прыпі́саны к Гарадцу́, а тады́ атпі́саны.* Свечы.

**АТПІ́СВАЦЬ** *незак.* Адпісваць; адказваць на пісьмо. *Пісьмо́ шва́герцы атпі́сваю.* Багданава.

**АТПІХНУ́ЦЦА** *зак. перан.* Пазбавіцца чаго-н. *Мужчы́нам як зако́н – дай вы́піць, вось я і атпіхну́лася, шчыта́й, зрабі́ла ве́чар, як сын з а́рміі прыйшо́ў.* Партызаны.

**АТПЛА́КАЦЬ** *зак.* Адплакаць. *А нягошка, атпла́кала я пе́рвы гот.* Малы Азярэцк. *Хто пяе́ць дзе́ўкаю, той атпла́чэць.* Кляпчэва. *Ні атпла́чаш зъ стало́м, дак атпла́чаш за ўглом* [пра маладую на вяселлі]. Каралевічы.

**АТПРА́ВІЦЬ** *зак.* ◊ АТПРА́ВІЦЬ СТОЛ. Аднесці на службу ў царкву памінальную ежу. *Атпра́вілі стол і паве́злі хава́ць.* Фасаўшчына, Нямойта, Партызаны, Закур'е.

**АТПРА́ЎКІ** *толькі мн.* Провады, развітальны вечар. *Калі́ атпра́ўкі атпраўля́еш у а́рмію, пяе́ш.* Дуброўкі.

**АТПРАЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* Адпраўляць, служыць набажэнства. *На куце́ чо́рны хрэст стано́віцца, поп чыта́іць кні́гу, атпраўля́іць.* Фасаўшчына. *Ба́цюшка хадзі́ў па по́лю і атпраўля́ў, кап дошч пашо́ў.* Нямойта, Гарадзец, Дольдзева, Запруддзе.

**АТПРУГА́ЦЬ** *незак.* Адхвастаць, набіць. *А я тады́ кыня́ атпруга́ю.* Галашчакіна.

**АТПРЭ́ГЧЫСЯ** *незак.* Адпрэгчыся. *Конь атпро́гсі – малады́ туды́ кульнуўсі, а яна́ туды́, дык ско́ра ён і паме́р.* Багданава.

**АТПУСКА́ЦЬ** *незак.* Апускаць. *Падыма́юць і атпуска́юць ка́мні* [у жорнах]. Марозаўка.

**АТПУСЦІ́ЦЬ** *зак.* Паслабіць, зрабіць менш нацягнутым. *На́да табе́ тужэ́й – заці́снеш наво́й, на́да – атпу́сціш.* Алексінічы.

**АТПУШЧА́ЦЬ** *незак.* Адпускаць, змяншацца, сціхаць (пра боль, пачуцці і да т. п.). *Галава́ атпушча́е, як вы́п'ю табле́тку.* Марозаўка, Алексінічы, Неўгадава.

**АТПЯВА́ЦЬ** *незак.* Адпяваць. □ *Як пяю́ць, так і атпява́юць.* Багданава.

**АТПЯРЫ́ЦЬ** *зак.* Абліць пер'е варам, кіпенем, каб абскубці. *Я ку́рыцу атпяры́ла.* Каралевічы.

**АТРА́ВА** *ж.* Атрута. *Атра́вы панаста́віла на мы́шък.* Нямойта.

**АТРАВІ́ЦЦА** *зак.* Атруціцца. *Гэ́та махамо́р – атра́віссі.* Запруддзе, Неўгадава.

**АТРАВІ́ЦЬ** *зак.* Атруціць. *Ка́жуць, што яна́ яго́ атравіла.* Запруддзе.

**АТРАЗА́ЦЬ** *незак.* Зрэзваць, касіць. *А тады́ атръза́юць куркуру́зу і дзе́лаюць сіна́ж.* Запруддзе.

**АТРАКЧЫ́СЯ** *зак.* Адрачыся, пакінуць. *Яна́ атракла́ся і ні е́хала к яму́ ме́сяц.* Запруддзе.

**АТРА́НКІ** *прысл.* Зранку. *Во атра́нкі сабіра́лі.* Манголія.

**АТРАЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* Атручваць. *А чым іх* [тараканаў] *атраўля́лі, я ні зна́ю.* Багданава.

**АТРАЧА́ЦЦА** *незак.* Цалкам аддавацца справе. *По́рыцца, по́рыцца, і ўся атрача́іцца, а затраве́ла ўсё у гаро́дзі.* Багданава.

**АТРО́Б'Я** *н. зб.* Вантробы. *Кап атро́б'я з цябе́ павы́шла!* (праклён). Запруддзе.

**АТРО́ДДЗЯ** *н. эмац.-ацэн.* Нашчадкі. *Атро́ддзя ёсь йшчэ.* Вялікі Азярэцк.

**АТРО́ПКІ** *мн.* Ніткі, спрадзеныя з горшых гатункаў лёну. *Тка́лі атро́пкамі і накрыва́ліся.* Запруддзе.

**АТРО́СТАК, АТУРО́СТАК** *м.* 1. Адростак, парастак. *Яблы́ні павы́мерзлі, та́ды атро́сткі пусці́лі.* Багданава. *Рэ́дзька атро́сткі папуска́ла на вы́садкі.* Нямойта. *Быў атро́стък і вы́ръсла дро́бныя лясо́ўка.* Рулёўшчына. *Зімляна́я кры́са атуро́сткі маладэ́я з'е́ла.* Нямойта. АТРО́СТАЧАК *памянш.* *Усе́ атро́стачкі з'е́ла кры́са і зямлю́ перары́ла.* Нямойта. 2. Прыток. *На́ша рэ́чка – атро́стък Абъля́нкі.* Нямойта. *Рака́ гэ́та – атуро́стак.* Нямойта.

□ *Які́ пень, такі́ і атро́стак.* Багданава, Нямойта.

**АТРО́СЦЕ** *н. зб.* Адросткі. *Атро́сце тако́е пусці́лься ў малі́ні.* Мянюцева.

**АТРУ́БАК** *м.* Адрэз, кавалак тканіны. *Быва́ла ні дары́лі на хрэ́сьбіны, то́лькі атру́бка палатна́ ба́бка прынясе́ць.* Запруддзе.

**АТРУ́ТА** *ж.* Атрута. *Хто гэ́тую атру́ту насы́паў?* Марозаўка, Багданава.

**АТРУХНУ́ЦЬ** *зак.* Адштурхнуць. *Атрухну́ ло́кцем, і ён паваліўся.* Запруддзе.

**АТРЫГА́ЦЦА** *незак. перан.* Прыгадвацца. *Хай яно́ ні атрыга́іцца то́е, што было́.* Ульянавічы.

**АТРЭ́ЗАЦЬ** *зак.* ◊ ЯК АТРЭ́ЗАЎ. Катэгарычна (сказаць), рашуча прыпыніць якое-н. дзеянне. *Сказа́ў як атрэ́заў.* Вялікі Азярэцк, Багданава.

**АТСАСА́ЦЦА** *зак.* Адсмактаць, адассаць. *Цялёнак атсасе́цца дванаццаць дней і рэ́жуць.* Дольдзева.

**АТСЕ́ДЗЕЦЬ** *зак.* Адседзець, адбыць, праседзець пэўны час. *Дзень атсе́дзяла пад замко́м у кладо́ўцы.* Нямойта.

**АТСЕ́КЧЫ** *зак.* Адсекчы, аддзяліць, ударыўшы з размаху. *Пашо́ў на рабо́ту – атарва́лася не́шта на заво́дзе, па́льца атсе́кла.* Запруддзе, Кляпчэва.

**АТСЕ́СЦІСЯ** *зак.* Адсесці, аддзяліцца, адстаць (пра малако, хлеб і да т. п.). *Купіла малако́, яно́ атсе́лася.* Сянно.

**АТСКАЧЫ́ЦЬ** *зак.* Адскочыць, адарвацца, адляцець. *Крэ́пка пірагрэ́іш, жале́за атско́чыць.* Жохава.

**АТСО́ХНУЦЬ** *зак. перан.* Адсохнуць. *Каб табе́ мазгі́ атсо́хлі!* (праклён). Буй, Запруддзе, Чуцькі.

**АТССА́ЦЬ** *зак.* Закончыць ссаць (пра цяля). *Цялёнак ужо атссаіць* [адсасе]. Заазер'е.

**АТСТАЯ́ЦЬ** *зак.* 1. Адстаяць, прастаяць нейкі час. *На́да атстая́ць во́чарадзь.* Чуцькі. 2. Прастаяць пэўны час і аддзяліцца (пра малако). *Пле́ўка – на малацэ́, як атсто́іш, тапіць яго́ на́да.* Заазер'е, Розмыслава, Ульянавічы, Неўгадава.

**АТСТРАПАЛІ́ЧЫЦЬ** *зак. экспр.* Адбудаваць за кароткі час. *Мъладэ́я атстръпалі́чылі ха́ту на ўсі сто.* Вялікі Азярэцк.

**АТСТУПА́ЦЬ** *незак.* Адступаць, адыходзіць. *Пу́ні пъпалілі не́мцы, тады́ атступа́ць ста́лі.* Запруддзе, Нямойта.

**АТСУВА́ЦЬ** *незак.* Адсоўваць. *На́да было́ халадзільнік атсува́ць.* Багданава.

**АТСЫ́ПАЦЬ** *зак.* Аддзяліць раі пчол. *Па тры раі́ атсы́палі пчол.* Партызаны, Сянно, Цясішча.

**АТСЫ́ПАЦЦА** *зак.* Аддзяліцца (пра рой пчол). *Чатэ́ры раі́ атсы́паліся, я пчо́лы ім аддала́.* Алексінічы, Запруддзе, Кішуроўшчына, Кляпчэва.

**АТТА́НУЦЬ** *зак.* Адтаяць. *Як атта́ніць зімля́, тады́ яму́ лёхка вы́късапаць.* Багданава, Гарадзец, Карпавічы.

**АТТА́НУЦЬ** *зак.* Аддзяліцца. *Скары́нка атта́нець ат хле́ба.* Багданава.

**АТТАПІ́ЦЦА** *зак.* Аддзяліцца, стварожыцца. *Атто́піцца малако́, і тады́ – сы́рватка і твbooро́х.* Жохава, Каралевічы.

**АТТА́ПЛЕНЫ** *дзеепрым.* Адтоплены (пра малако). *Атта́пленае мълако́ – э́та сыраква́ша.* Каралевічы, Партызаны.

**АТТА́ПЛІВАЦЬ** *незак.* Заварваць. *Атта́пліваю зверыбо́й, тады́ п'ю.* Апечкі.

**АТУГА́** *выкл.* Выгук, якім адганяюць ваўка. *На ваўка́ крыча́ць «атуга́!».* Вялікі Азярэцк.

**АТУСЮ́ЛЬ** *прысл.* Адусюль. *Атусю́ль пынъвязу́ць усяго́ на кірма́ш.* Вялікі Азярэцк, Гарадзец.

**АТУ́ХНУЦЬ** *незак.* Атухнуць, патухнуць. *Вуглі, по́пел вы́гарнуць, як ату́хнуць.* Фасаўшчына.

**АТУШЫ́ЦЬ** *зак.* Патушыць, затушыць. *Лю́дзі набе́глі, ха́ту атушы́лі.* Каралевічы. *Пъка́ яго́ атушы́лі, на во́сімдзісят працэ́нтаў згарэ́ў і памёр.* Ракаў Засценак.

**АТХАДЗІ́ЦЬ** *незак.* Мінаць, праходзіць. *Цяпе́р гэ́та ўсё атхо́дзіць.* Ульянавічы, Буй, Запруддзе, Леснікі, Міцюкова, Дуброўкі.

**АТХА́ІЦЦА** *зак.* Ачуняць. *У Віцебску ў бальніцы ліжа́ла, цяпе́р атха́ілъся тро́хі.* Ульянавічы, Баравікі.

**АТХВАСТА́ЦЬ** *зак.* Налупцаваць, нахвастаць. *Калі́ атхво́шчыць* [бацька], *то больш ня йдзець к бацька́м.* Розмыслава.

**АДХІНА́ЦЬ** *незак.* Адхіляць, адсланяць. *Атхіна́й пілёрыначку, далжна́ цітра́дзь ліжа́ць.* Міцюкова.

**АТХІ́НУЦЦА** *зак. перан.* Адступіцца, адмовіцца. *Усе́ атхі́нуліся ад яе́.* Запруддзе.

**АТХІНУ́ЦЦА** *зак.* Адкінуцца, адхіліцца назад. *На дзіва́не атхіну́цца мо́жна.* Нямойта.

**АТХО́Д** *м.* Адходы, рэшткі пасля якой-н. вытворчасці. *Як пераснуе́ш, то атхо́т ідзе́ць, як ччэш кро́сны, яго́ мата́еш на клубо́к.* Вялікі Азярэцк.

**АТХО́ДЗІЦЬ** *зак.* Належаць. *Кашу́ яму́ то, што яму́ атхо́дзіла.* Неўгадава.

**АТХО́ДЗІЦЬ** *незак.* Адходзіць, ісці, адпраўляцца куды-н. *Ма́тка атхо́дзіць нъ рабо́ту, ска́жыць дзіця́м: «Ты стаўчы́ круп, ты бу́льбы пачы́сці».* Нямойта, Гарадзец.

**АТХО́ДНІК** *м.* Адыходнік. *Атхо́днікі ў нас былі.* Багданава.

**АТХО́НАВАСТЫ** *прым.* Адхоністы. *У во́зеры ё бе́ріх круты́ і атхо́нъвъсты.* Гарадок.

**АТЦАПНО́Е** *н.* ◊ ДЗЕЛЯ АТЦАПНО́ГА. Зрабіць для прыліку. *Дзеля атцапно́га на хлеб кінуць.* Міцюкова.

**АТЦВІЦЕ́ЦЬ** *зак.* Адцвісці. *Чарэ́мшына то́лькі атцвіце́ла.* Мянюцева.

**АТЦЭ́ДЖВАЦЬ** *незак.* Адцэджваць. *Бу́ду бу́льбу атцэ́джваць.* Вялікі Азярэцк.

**АТЦЯГА́ЦЦА** *незак.* Кляпаць касу. *На во́йстрай ба́пцы лу́ччай клёп атцяга́іцца.* Нямойта.

**АТЦЯГА́ЦЬ** *незак. перан.* Вылечваць, выцягваць. *Муку́ ржану́ю ссала́чываюць, прасна́к здзе́лаюць, прыкладаю́ць, і атцяга́е ро́жу.* Нямойта.

**АТЦЯ́ЖКА** *ж.* Хваравітае адчуванне, задышка. *Як у грудзёх атця́жка, на́да чабаро́к піць.* Каралевічы.

**АТЧАРАВА́ЦЬ** *зак.* Зняць чары, варажбу. *Зало́мы былі́ па жы́ту – шука́лі такіх дзядо́ў, хто мох атчърьва́ць.* Дольдзева.

**АТЧЫ́НЕТЫ** *дзеепрым.* Адчынены. *Ко́міна ні было́, дзве́ры атчы́неты, усё чо́рнае: і столь, і печ, і сцэ́ны. І́скры ляця́ць.* Багданава. *Атчы́неты во́кны, грамафо́н іграі́ць.* Алексінічы.

**АТЧЫНЯ́ЦЬ** *незак.* Адкрываць. *Во́кны атчыня́юць.* Багданава. *Жа́рка, аччыня́й ба́ню.* Нямойта.

**АТШУЛІВА́ЦЬ** *незак.* Абшаляваць. *Труху́* [старую хату] *атшуліва́лі ды і сядзі́м.* Багданава.

**АТШЧАПІ́ЦЦА** *зак. перан.* Адчапіцца, пазбавіцца. *Ён ле́зіць – не атшчапі́цца.* Гарадзец, Нямойта.

**АТШЧЫКНУ́ЦЬ** *зак.* Адшчыкнуць, адарваць шчыпаючы. *Атшчыкну́ў лісто́к ясеня.* Запруддзе. *Атшчыкну́ў лісто́к і кі́нуў.* Партызаны, Вялікі Азярэцк, Нямойта, Ракаў Засценак.

**АТШЧЫ́ПНУЦЬ** *зак.* Тое ж. *Мо атшчы́пнеце я́блыка – сало́ткае.* Запруддзе.

**АТШЧЫТА́ЦЬ** *зак.* Адлічыць. *Не́скулькі атшчъта́юць.* Багданава.

**АТШЧЫ́ТКА** *ж.* Пералік. *Хай бы нас пенсіяне́раў яку́ю атсчы́тку дзе́лалі, а аўто́бус пусці́лі.* Вялікі Азярэцк.

**АТЫМА́ЦЬ** *незак.* Адлучаць, адымаць цяля ад каровы. *Атыма́еш* [цяля] *і по́іш яго́.* Багданава.

**АТЫСЦІ́** *зак.* Адысці, перастаць адчуваць недамаганне. *Паліжа́ла тро́шку і атышла́ маладзі́ца.* Багданава, Гарадзец, Каралевічы.

**АЎДАКЕ́Я, ЕЎДАКЕ́Я** *ж.* Аўдакея; прысвятак у народна-царкоўным календары. *Чатырна́ццатага ма́рта – Аўдакеі, свя́та.* Гарадзец, Запруддзе. *Еўдаке́я – вясно́ўскіе пра́знікі.* Партызаны.

**АЎСЯ́НІК** *м.* Блін з аўсянай мукі. *Аўся́нікі ўку́сныя цёплыя, а як закаляне́юць – кро́хкія.* Багданава.

**АЎСЯ́НКА** *ж.* 1. Крупы з аўса. *Крупа́ з аўса́ – аўся́нка.* Багданава, Мянюцева. 2. Каша з аўса. *Аўся́нку ва́раць.* Багданава. 3. Сорт грушы. *Аўся́нкі – гру́шы, яны́ расту́ць, як дзі́чкі, кру́глінькія.* Пожанькі.

**АЎСЯ́ННЕ, УСЯ́ННЕ** *н.* Поле пасля ўборкі аўса; аўсянішча. *Па аўсяннюю картошка лепша.* Галашчакіна. *Кароўвы нъ ўсянні хо́дзюць.* Жохава.

**АЎСЯ́НЫ** *прым.* Аўсяны. *Аўсяная салома – сама лучшая для ската.* Жохава, Гарадзец, Каралі, Міцюкова, Серкуці.

**АЎТО́БУС, АНТО́БАС** *м.* Аўтобус. Баравікі. *Антобасы пашлі хадзіць.* Запруддзе, Неўгадава.

**АЎТО́БУСНІК** *м.* Кіроўца аўтобуса. *То аўто́бусніка німа́, то аўто́бус спо́рчаны – ня е́дзіць аўто́бус.* Баравікі.

**АЎТО́РАК** *м.* Аўторак. Каралі.

**АЎЦА́** *ж.* Авечка. *Пасвіў пастух авец.* Міцюкова, Неўгадава.

□ *Маладзе́ц срадзі аве́ц, а срадзі малайца́ – і сам аўца́.* Каралевічы.

**АЎЧА́Р** *м.* Аўчар, авечы пастух. *Быў аўча́р, як што, дык вып'е.* Міцюкова.

**АЎЧА́РНІК** *м.* Аўчарня. *А дзе авечкі – аўча́рнікі, гэ́та аддзе́льна для ве́чак.* Заазер'е. *Аўча́рнік для аве́ц.* Нямойта.

**АЎЧЫ́НА** *ж.* Аўчына. *Кажух з аўчы́ны быў.* Гарадзец, Буй, Жохава.

**АЎЧЫ́НКА** *ж.* Тое ж. *Аўчы́нкі чарня́ць кра́скуй.* Неўгадава, Алексінічы, Буй, Гарадзец.

**АЎЧЫ́ННІК** *м.* Аўчыннік, гарбар. *Аўчы́ннік аўчы́ны вырыба́тваў.* Сукрэмна, Парэчча.

**АФА́РМЛІВАЦЬ** *незак.* Афармляць. *Я пашо́ў дакуме́нты афа́рмлівъць.* Багданава, Запруддзе.

**АХ** *выкл.* Вокліч для перадачы радасці, захаплення; ах. *Ах, бе́сінька мой!* Карпавічы.

**АХАЛАДЖА́ЦЬ** *незак.* Ахалоджваць. *Мълако́ ахълъджа́лі ле́тъм.* Нямойта.

**АХА́ПАК, ХА́ПАК** *м.* 1. Ахапак, абярэмак. *Аха́пак се́на занёс і даў каро́ве.* Багданава. *Нъ Күля́ды гада́юць: дро́вы ў ха́ту нясу́ць аха́пък, шчыта́юць.* Гарадзец, Каралевічы, Нямойта, Серкуці. *Аха́пкам схо́піць хлеп.* Партызаны. *Нарва́ла ха́пък свінтыя́нкі.* Заазер'е. 2. У вялікай колькасці. *Тая бу́льба бо́льша, і цвяты́ аха́пкам.* Вялікі Азярэцк.

**АХВАТНЕ́Й** *прысл.* Ахвотней. *Усё ахватне́й рабі́ць.* Фасаўшчына.

**АХВІРАВА́ННЕ** *н.* Ахвяраванне. *Ахвірава́нне – ахвяру́еш не́шта, на́да ў цэ́ркву не́сці.* Міцюкова, Каралевічы.

**АХВО́ТА** *ж.* Ахвота. *Ду́жа ахво́ту на ўсё іме́ла.* Нямойта, Багданава. *Са хво́ты з'еў бы і валу́й.* Дольдзева.

**АХВЯ́РА** *ж.* Ахвяра. *Ён ахвя́ра яе́ – тэй ба́бы, што яго́ аблапо́шыла.* Сянно, Нямойта.

**АХЛАДЗІ́ЦЦА** *зак.* Астынуць. *Ахладзі́цца со́лад е́ты.* Дольдзева.

**АХЛО́ПАК** *м.* Невялікая колькасць чаго-н. *Аста́уся ма́ленькі ахло́пак, на́да дапра́сці, каб на пра́зніку не астава́ўся.* Багданава.

**АХЛЯ́ПШЫ** *прым.* Перахлябісты, з упалымі бакамі (пра карову). *Каро́ва то́шчая, ідзе́ с по́ля – ахля́пшыя бакі́, не пад'е́ўшая.* Рассвет. *Ахля́пшыя бакі́ ў каро́вы.* Фасаўшчына.

**А́ХНУЦЬ** *зак. эмац.-ацэн.* Выпіць. *А́хнула віна́ – сі́льнае даўле́нне пъдняло́ся.* Жохава.

**АХО́ТА** *ж.* Паляванне. *Быва́ла, пан прыхадзіў к майму́ ба́цьку, зваў на хо́ту хадзі́ць.* Заазер'е, Сянно, Дуброўкі.

**АХО́ТА, ВАХО́ТА** *ж.* ◊ ПРЫЙСЦІ́ Ў АХО́ТУ (У ВАХО́ТУ). Бегаць; знаходзіцца ў стане цечкі (пра карову). *Каро́ва прыйшла́ ў ахо́ту, на́да спуска́ць быка́. Каро́ва прыйшла́ ў вахо́ту.* Нямойта, Парэчча. ◊ У ВАХО́ЦЕ. Тое ж. *Каро́ва ў вахо́це – трэ́буець буко́ў.* Гарадзец.

**АХО́ТНА** *прысл.* З ахвотай. *Ахо́тна шлі це лю́дзі, у като́рых ма́ла было́ зямлі́* [у калгас]. Нямойта.

**АХО́ТНІСКІ** *прым.* Паляўнічы. *Было́ ружжо́ ахо́тніскае, ён і стрэ́ліў.* Багданава.

**АХО́ХМЫ** *мн.* Здаровыя мужчыны. *Нашлі́ся ахо́хмы, во́зьмуць за ру́кі, за но́гі і швырну́ць ма́льца.* Нямойта.

**АХУ́ТАЦЬ** *зак.* Ахутаць. *Аху́тала смуго́й.* Фасаўшчына.

**АЦЕ́СЛІВА** *прысл.* Пра вялікую гразь, вязка. *Мно́га мъкраты́ было́, аце́сліва.* Каралевічы.

**АЦЕ́СЛІВЫ** *прым.* Не пульхны, глёўкі, з закальцам (пра хлеб). *Аце́слівы хлеп прысе́ў к скары́нцы. Аце́слівы хлеп – недаква́шаны.* Міцюкова. *А калі́ й ні ўдава́ўся хлеб, аце́слівы, то ні пячэ́цца, то ўспы́хніць, то гары́ць.* Серкуці, Багданава, Гарадзец, Каралевічы, Сукрэмна, Фасаўшчына, Дуброўкі, Неўгадава.

**АЦЁК** *м.* Ацёк, пухліна. *Ацёкі ў мяне́ нъ наъга́х.* Нямойта.

**АЦЁЧКА** *ж.* Тое ж. *Ацёчка ў свінні́ была́ – здо́хла.* Багданава.

**АЦІ́СНУЦЬ** *зак.* Заглушыць. *Цімафе́яўку аці́снула трава́ – макры́ца.* Савінічы.

**АЦІ́ХНУЦЬ** *зак.* Заціхнуць. *Дней пяць шука́лі къня́, як аці́хла, ён павёў кра́дзінъга къня́.* Самсоны, Міцюкова.

**АЦІ́ШЫЦЦА** *зак.* Сцішыцца, спыніцца. *Дам папі́ць малі́нніку зъпа́ранага – ка́шъль аці́шыцца.* Запруддзе.

**АЦЦВЯЦІ́ЦЬ** *зак.* Абясколерыць (?). *Ішла́ бу́льба зялёная, харо́шая, прайшо́ў дошч, аццвяці́ў усю́ бу́льбу, уся́ збяле́ла.* Запруддзе.

**АЦЯЛІ́ЦЦА** *зак.* Ацяліцца. *Ацялі́лася і цялёнка не прыма́іць.* Жохава.

**АЦЯПЛІ́ЦЬ** *зак.* Уцяпліць. *Каля до́му на́да здзе́лъць зъва́ліну, ацяплі́ць на зі́му ха́ту.* Вялікі Азярэцк.

**АЧАРНІ́ЦЬ** *зак.* Ачарніць, пафарбаваць у чорны колер. *Вы́тку палатна́, ачарню́ і пашы́ю сак.* Буй, Цясішча.

**АЧА́ХНУЦЬ** *зак.* Ачахнуць. *Кіпято́к ача́хніць.* Фасаўшчына.

**АЧКІ́** *толькі мн.* Акуляры. *Ачко́ў табе́ ні на́да.* Багданава, Міцюкова.

**АЧМУ́РА** *ж.* Атрута. *Не́йкай ачму́ры да́ла, і ён памёр.* Запруддзе.

**АЧУНЕ́ЦЬ** *зак.* Ачуняць, паздаравець. *Дзя́куй бо́гу, ачуне́ла тро́ху.* Багданава, Каралевічы, Фасаўшчына.

**АЧУРА́ЦЦА** *зак.* Адцурацца, адмовіцца. *Ачура́йся ат ха́ты, а дом куды́?* Івоні. *Ачура́лісі ад гарэ́лкі, не го́нюць.* Запруддзе.

**АЧУ́РЫЦЦА** *зак.* 1. Ачуняць, паздаравець. *Ачу́рылася, тро́ха адыйшла́.* Нямойта, Вялікі Азярэцк. 2. Ачомацца, ачухацца. *Паліжа́ў, паліжа́ў, ачу́рыўся: на́да іці́.* Вялікі Азярэцк.

**АЧУ́ХАЦЦА** *зак.* Ачомацца, ачухацца. *Ачу́халася, аддыхну́ла – сы́ну пісьмо́ напіса́ла.* Партызаны.

**АЧУЧУ́РЫЦЦА** *зак.* Тое ж. *Сядзе́ў ш час, паку́ль ачучу́рыўся.* Серкуці.

**АЧХНУ́ЦЦА** *зак.* Адумацца. *Ачхну́цца, як ні заро́дзіць.* Закур'е.

**АЧЫ́СЦІЦЬ** *зак.* Ачысціць. *Мой съра́й ачы́сцілі ат наво́за.* Фасаўшчына.

**АЧЫ́ШЧАНЫ** *дзеепрым.* Ачышчаны. *Спірт быў ачышчаны.* Міцюкова.

**АЧЭ́П** *м.* Жалезная пятля ў дзвярах. *На ачэп замо́к адзе́ла.* Запруддзе.

**АШАКІ́** *мн.* Адходы пры веянні; высеўкі. *Пала́шачкі бы́лі, трасе́ць на кале́на, ашакі выска́кваюць.* Манголія.

**АШАЛАПУ́ЦІЦЬ** *зак.* Падмануць. *Яго́ ашалапу́цілі – ён сашо́ўся з ёй зноў.* Розмыслава, Баравікі.

**АШАЛЕ́ЦЬ** *зак.* Ашалець. *Га́ля, ты што ашале́ла, што ты ро́біш?* Запруддзе, Буй, Партызаны.

**АШАРА́ШЧЫЦЬ** *зак.* Сцебануць, моцна ўдарыць. *Бізуно́м разы́ чаты́ры ста́расту ашара́шчыў.* Баравікі.

**АШКЫ́Р** *выкл.* Выгук, якім падганяюць ці адганяюць авечак. *Ашкы́р дамо́й, аве́чкі!* Алексінічы. *Ашкы́р у по́ля!* Фасаўшчына, Жохава.

**АШЛАПНЫ́, ШЛАПНЫ́** *прым.* ○ АШЛАПНЫ́ ВЯНЕ́Ц. Ачэп; апошні вянок зруба. *Пасле́дні вяне́ц – ашлапны́ вяне́ц. Бэ́лькі рубі́ліся, а тады́ ашлапны́ вяне́ц, по́слі бэ́ляк пасле́дні.* Гарадзец. ○ АШЛАПНО́Е БЯРНО́ (ШЛАПНО́Е БРАЎНО́). 1. Апошняе суцэльнае бервяно ў зрубе. *Пасле́днія бёрны – ашлапны́я бёрны.* Міцюкова, Гарадзец, Нямойта. 2. Суцэльнае бервяно пад вокнамі. *Шлапно́я браўно́ пад во́кнамі.* Багданава.

**АШПА́РАНЫ** *дзеепрым.* ◊ ЯК АШПА́РАНЫ. Вельмі рэзка, імкліва. *Падска́куеш ты як ашпа́раны.* Вялікі Азярэцк.

**АШПА́РЫЦЦА** *зак.* Апарыцца. *Ашпа́рацца вадо́й яшчэ́ чаго́ до́брага.* Нямойта.

**АШЧАПІ́ЦЦА** *зак.* Абшчапіць, абняць. *Ашчапі́лася за каро́ву, а яны́* [немцы] *пабі́лі, ру́ку рассе́клі.* Мянюцева, Гарадзец.

**АШЧУ́ПАЦЬ** *зак. перан.* Знайсці, выявіць. *Пае́дуць, ашчу́паюць тако́е ме́ста і купля́юць самаго́нку.* Запруддзе.

**АШЧЭ́ПКАМ** *прысл.* Моцна абдымаючы. *Як мяне́ ста́лі паліца́і забіра́ць, дзе́ці за мяне́ ашчэ́пкам.* Нямойта.

**АШЫБІ́ЦЦА** *зак.* Памыліцца. *Мінёръм рас ашыбне́сся.* Багданава. *Нъ грібу́ ні ашыбу́ся.* Пожанькі, Сянно.

**АШЫ́ПКА** *ж.* Памылка, хіба. □ *Ашы́пка хо́дзіць шы́пка.* Партызаны.

**АШЭ́ІНА** *ж.* Невялікі луг. *Ашэ́іны такія, лушкі ніба́льшыя, ву́зкія.* Баравікі.

**АЮ́С** *выкл.* Выгук, якім падганяюць свінней. *Аю́с – е́слі го́ніць парсюка́.* Фасаўшчына. *Аю́с – на свінне́й.* Жохава.

**Б, БА** *часц.* Б, бы. *Во, мо́жа б Са́шка памо́х пілі́ць?* Гарадок. *Е́слі го́ръм блі́жы быў, то сбыў ба я́блыкі.* Алексінічы. *Ён і ня спаў ба, у ка́рты гуля́ў ба.* Ульянавічы.

**БА́БА** *ж.* 1. Жанчына. *Тады́ баб мно́га было́, не́як з вайны́ мушчы́н ма́ла было́.* Багданава. *На ба́бі свет стаі́ць.* Канева, Кішуроўшчына, Закур'е. 2. Бабка, павітуха. *Ба́ба пуп атраза́ла – ба́ба зако́нная яго́ бу́дзіць.* Партызаны. 3. *эмац.-ацэн.* Пра бязвольнага, нерашучага мужчыну. *Распусці́ўся, як стъра́я ба́ба!* Багданава.

□ *Што бало́та, то съка́, а што ба́ба, то с... .* Запруддзе. □ *А ты, ба́ба, таўчы́ і маўчы́.* Заазер'е.

**БА́БА** *ж.* 1. Тоўстая калода ці бочка, на якую намотваецца вяроўка ў час падводнай зімовай лоўлі рыбы. 2. Вяроўка, якая выкарыстоўваецца пры падводнай

зімовай лоўлі рыбы. Канец такой вяроўкі намотваецца на тоўстую калоду ці бочку. Бочка ўмарожваецца ў лёд. Робіцца пролубка, у пролубку апускаюць сетку пад лёд, круцяць вяроўку на бабу і выцягваюць сетку з рыбай. Багданава.

**БА́БАЧКА** *ж.* Ababak (грыб). *Грыбы такіе я сабра́ў: лісянкі, сураеўжкі, ба́бачка дзе-нідзе́ пръкіда́іцца. Ба́бачкі – грыпкі ў нас заву́ць.* Партызаны. *Ба́бачкі па ле́су расту́ць.* Каралі, Багданава, Нямойта.

**БА́БАЧКА** *ж.* Кутні зуб. *Ку́тнікі за́днія – ба́бачкі.* Нямойта.

**БА́БАЧКА** *ж.* Снапы, састаўленыя ў кучку для прасушкі і накрытыя двума распасцёртымі снапамі; бабка. *У ба́бачкі стаўля́лі снапо́чкі лёну.* Багданава, Розмыслава. *Лён у ба́бачках со́хніць.* Закур'е.

**БА́БАЧКА** *ж.* ◊ ЗАВЯ́ЗВАЦЬ БА́БАЧКАЙ. Завязваць хусту банцікам на лбе. *Ба́бъчкъй зъвязвалі ху́стку, нъза́т, пъд бъраду́.* Баравікі.

**БАБЁР** *м.* Бабёр. *Бабёр, кудла́ты, бальшы́, ду́жа пішчэ́у.* Багданава.

**БАБІ́НА** *ж. зб.* Боб. *Я і бабі́ну саджу́ у гаро́дзе.* Запруддзе.

**БА́БІЦЬ** *незак.* Бабіць, прымаць роды. *Ге́та жанчы́на маі́х дзяцёй ба́біла.* Нямойта. *Я сама́ ба́біла мальчо́нка тут.* Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Ракаў Засценак, Фасаўшчына. *Чэ́мер-чэмяры́ца, цібе́ маць ні радзіла, мату́ся ні крысціла, ба́бка ні ба́біла* (з замовы). Багданава.

**БА́БКА** *ж.* Бабка, павітуха. *Ба́бка купа́ла, спавіва́ла, на за́хат со́нца ваду́ ліла, пуп атраза́ла.* Багданава. *К ба́бцы, като́рая гэ́тых павіва́ла, пъшла́ я.* Галашчакіна, Баравікі.

**БА́БКА, БА́ПКА** *ж.* Сталёвае кавадлачка для кляпання кос; бабка. *Ба́бку уваб'е́ш, касу́ пало́жыш і кле́піш.* Багданава. *Кляпа́ць касу́ на́да на ба́бцы.* Сукрэмна, Гарадзец, Запруддзе, Леснікова, Міцюкова, Фасаўшчына. *Ба́пка заве́цца така́я кру́глінькая, на ёй касу́ кле́плюць малатко́м ма́лінькім.* Ракаў Засценак.

**БА́БКА, БА́ПКА** *ж.* 1. Страва, прыгатаваная з дранай бульбы. *Ва́руць у нас і ба́бку з дзёртай бу́льбы.* Гарадок. *Ба́бку дзёртую запра́віш са́лам, у чугуно́к на под пъста́віш.* Міцюкова, Леснікі, Леснікова, Серкуці. 2. Від пірага. *Спячэ́ш ба́пку: дражджэ́й туды́, бялкі́, муку́, са́хару, маргары́ну – а тады́ ме́сіцца.* Манголія. *Здо́бнъя це́ста лу́ччы – таке́я пірагі ба́пкі зва́лі.* Серкуці.

**БАБО́ВІШЧА** *н.* Поле пасля ўборкі бобу; бабовішча. *Боп сажнёш у снапы́, а бабо́вішча узарэ́ш.* Розмыслава. *Па бабо́вішчу се́ялі.* Неўгадава.

**БАБО́ВЫ** *прым.* Бабовы. *Бабо́вые бліны́ былі: яны́ сма́шныя, бе́лінькія.* Каралевічы.

**БАБО́ЎНІК** *м.* Бабоўнік (расліна). *Бабо́ўнік, як боб, бе́лым ръзава́тым цве́там цвіціць.* Каралі. *Бабо́ўнік быў – свіне́й карміць, сало́ткі, уку́сны, расце́ць на бало́тах с вадо́й.* Багданава, Гарадзец, Леснікова, Закур'е.

**БАБРЫ́ХА** *ж.* Бабрыха. *Бабры́ха пла́ваіць па во́зеры.* Багданава.

**БА́БСКІ** *прым.* Жаночы. *Ба́бскъя дрэ́ннъя жысь, хоць жыва́я у гроб лажы́сь.* Каралевічы.

**БАБУ́ЛЯ** *ж.* 1. Маці бацькі або маці. *Бабу́ля, мъя́ галу́пка!* Міцюкова. *Бабу́ля, кап дзяду́ля быў жыва́, была́ п і каро́ва.* Багданава, Мянюцева. БАБУ́ЛЬКА *памянш.-ласк. Во, бабу́лька, я да вас прые́хала.* Партызаны. 2. Бабка, павітуха. *Рас прыма́ла ро́ды – бабу́ля.* Міцюкова.

**БАБУ́Х** *выкл.* Бабухнуцца, упасці. *Дым пайшо́ў с трубы́ – я і гато́ва, нъга́ зъмярцве́ла, я – бабу́х без па́мяці.* Нямойта.

**БА́БУШКА** *ж.* Бабка, павітуха. *Хрэ́сьбіны спраўля́юць, ба́бушак у начо́ўках во́зяць.* Міцюкова. *Ба́бушка прынімáла ро́ды.* Заазер'е.

**БАБЫ́ЛЬ** *м.* 1. Чалавек, які не мае ніякай гаспадаркі. *Жыве́ць бабылём: у яго́ нічо́га німá – ні каро́вы, ні курэ́й.* Манголія. 2. Селянін, які не мае каня. *Калі́ хъзя́ін ня іме́іць къня́, гэ́та ужо́ бабы́ль.* Ульянавічы. 3. Чалавек, які мае невялікую гаспадарку. *Аста́лісь бабыля́мі: нічо́га не іме́ем, то́лькі кот, саба́ка, ку́ры.* Ульянавічы, Багданава.

**БАБЫ́ЛЬСТВА** *н.* Жабрацтва. *Прыюту ні было́, кап я лу́ччы пашла́ ў бабы́льства.* Багданава.

**БАВЭ́ЛНА** *ж. зб.* Баваўняныя ніткі. *Бавэ́лна – ніткі такія былі.* Фасаўшчына.

**БАГАМАЛЕ́ННЫ** *прым.* Набожны. *Там і січа́с багамале́нныя жыву́ць.* Каралевічы.

**БАГА́ТА** *прысл.* 1. Шмат, многа. *Ле́су было́ бъга́та.* Гарадзец. 2. Багата, заможна. *Цяпе́р лю́дзі жыву́ць бага́та, з грашмі́.* Багданава. *Жылі бе́дна, а было́ ве́села; а ціпе́р жывём бъга́та, ды ску́шна.* Кавалі. ◊ БАГА́ТА Ў ХА́ТУ! Пажаданне дабрабыту на ўваходзінах. Гарадок.

**БАГА́ТЫ** *прым.* 1. Багаты, заможны. *Бага́ты жані́х быў, і бацькі былі про́ці, каб браў бе́дную.* Заазер'е. *Бе́дны пасле́днім падзе́ліцца, а бага́ты ні дась і прагоніць.* Багданава. 2. Багаты, ураджайны. *У За́мъчку лясы́ ня ду́жа бага́ты нъ грыбы́.* Партызаны, Жохава, Запруддзе, Леснікова, Нямойта, Пожанькі, Серкуці.

**БАГАТЫ́Р** *м.* Багатыр, багач. *То́лькі бъгътыры́ се́ілі муку́ на сі́та.* Заазер'е. *У каго́ вало́ка была́, зва́ўся багаты́р.* Нямойта, Самсоны.

**БАГАТЫ́РСКІ** *прым.* Які належыць багатаму чалавеку. *Ко́жаныя ла́пці – гэ́та ужо́ бъгаты́рскія.* Баравікі.

**БАГА́ЦТВА**, **БАГА́СТВА** *н.* Багацце, маёмасць. *До́ждж на бага́цтва ідзе́ць, як сва́дзьба* (прыкмета). Партызаны. *Ку́біл старада́ўні быў, усе́ бага́ства ў ім.* Марозаўка.

**БАГА́ЦЦЕ** *н.* Тое ж. *Бага́цце тако́е – як бу́дзем мы здаро́вы, так і бага́цце бу́дзіць.* Цясішча. *А ў таго́ па́на ніякага бага́цця ні было́.* Самсоны, Запруддзе, Леснікова.

**БАГА́Ч** *м.* Багач; старадаўняе земляробчае свята, якое спраўлялі пасля заканчэння жніва. □ *Прыйшо́ў Бага́ч – бяры́ рага́ч, бяры́ се́йку – сей пamaléньку.* Жохава.

**БАГА́Ш** *м.* Багаж; запакаваныя для перавозкі рэчы. *Я прыяжджа́ю, а бага́ш усле́д за мной прыйшо́ў.* Заазер'е.

**БА́ГНА** *ж.* Багна, топкае месца. *Уско́чыла ў ваду́, а там ба́гна.* Закур'е. *На бало́це ба́гна была́.* Вялікі Азярэцк.

**БАГО́Р** *м.* Бугор, узгорак. *Нъ багрэ́ стано́вюць стох.* Леснікова, Багданава.

**БАГО́Р** *м.* Доўгі шэст з металічным вастрыём і крукам на канцы; багор. *Мушчы́ны прыбе́глі з бъгра́мі, ръзълъма́лі, ръзърва́лі паве́ці.* Міцюкова.

**БАГО́ЎКА** *ж.* ○ КАРО́ЎКА-БАГО́ЎКА *ж.* Божая кароўка. *Каро́ўка-баго́ўка, ці бу́дзе за́ўтра паго́тка? Калі бу́дзіць – ляці́, а не бу́дзіць – за пе́чкай сядзі́* (прыгаворка). Багданава. *Каро́ўка-баго́ўка, як паго́да – ляці́, а як дошч – сядзі́* (прыгаворка). Вялікі Азярэцк. *Каро́ўка-баго́ўка, ляці на не́ба, там тває́ дзе́ткі, ідзя́ць канхве́ткі: «Усе́м па адно́й, а табе́ ні адно́й»* (прыгаворка). Сукрэмна.

**БАГУ́ЛЬНІК** *м.* Багун. *Уво́сень карні капа́юць багу́льніку.* Партызаны.

**БАГУ́Н, БАГА́Н, БА́ГАН** *м.* Тое ж. *Багу́н ат праступ́ды, чай зава́рывала. Рво́ты былі ад дурніц ці ад ба́гану, дык у̌ кано́плі кла́лісі.* Багданава. *Бага́н расцэ́ць, і там дурніцы.* Кляпчэва. *Бага́н па бало́тах расцэ́, смярдзю́чы ду́жа.* Каралі. *Бага́н у лясу̌ ваніць: нанюхаешся, то, як п'я́ны.* Каралевічы, Вялікі Азярэцк, Багданава, Запруддзе, Каралі, Нямойта, Партызаны.

**БАДА́Й** *часц.* Бадай, няхай. *А бада́й яго́, забы́лася, як зваць!* Багданава. *А бъда́й ты, хай ба памылі́уся!* Алексінічы, Турава.

**БАДА́ЦЦА** *незак.* Бадацца. *Казёл бада́ецца.* Цясішча. *Во хале́ра, бъда́іцца!* Запруддзе.

**БАДЗЯ́ЦЦА** *незак.* Бадзяцца, валачыцца. *Бадзя́іцца, хо́дзіць біс то́лку.* Савінічы.

**БАЁЎШЫСЯ** *дзеепрысл.* Баючыся. *А на гні зва́рым е́сці днём ужо́, ні баёу̌шыся днём.* Леснікова.

**БАЖЫ́ЦЦА** *незак.* Бажыцца, клясціся. *Бажы́лісі, Бо́гам кля́лісі.* Нямойта.

**БАЗА́Р** *м.* Базар, кірмаш. *Ба́цька запро́х къня́ і паёхуў нъ бъза́р.* Гарадок. *База́р пачына́ецца у чаты́ры часы́.* Багданава. БАЗА́РЧЫК *памянш. На база́рчыку дарагі́я агурцы́.* Манголія. ◊ ПО́ЛАЦКІ БАЗА́Р. Беспарадак, вэрхал. *Як заста́у̌лю стол пасу́дай – по́лацкі база́р настая́шчы.* Вялікі Азярэцк.

**БАЗА́РНІК** *м.* Зборшчык платы за гандлёвае месца на базары. *Бъза́рнік вясы́ дае́ць.* Сянно.

**БА́ЙДАЛА** *агульн. эмац.-ацэн.* Неахайны чалавек (жанчына). *Ой, ба́йдала пашла́, непрыго́жая.* Савінічы.

**БА́ЙНЯ, БА́НЯ** *ж.* Лазня. *Ба́йню здзе́луў, што мы́цца.* Неўгадава. *У ба́ню хаджу́ чэраз нядзе́лю.* Партызаны. *Ён ба́ню тапі́ў разы́ тры на нядзе́лі.* Багданава, Запруддзе, Нямойта, Закур'е. БА́НЬКА *памянш. Ёсь і ба́нька, а тапіць цяпе́р ні таплю́.* Латыгаль. *Ба́ньку паста́віла і сама́ ашчакату́рыла.* Багданава, Буй, Закур'е.

**БАКАВЫ́** *прым.* Бакавы. *У пчалы́ пяць вачэ́й: цантра́льныя і бакавы́я.* Міцюкова.

**БАКЦЕ́РЫЯ** *ж.* Бактэрыя. *Хто бале́іць біркулёзам, наста́івыюць мухамо́ры, п'юць – бакце́рыі гібнуць.* Рассвет.

**БАЛАБО́Н** *м.* Балаболка, бразготка, званок. *Балабо́н каро́ві на шы́ю падве́шваюць.* Баравікі.

**БАЛАГО́ЛІЦЬ** *незак.* Балабоніць, балбатаць. *Як ён балаго́ліць, балбату́н называ́лі.* Марозаўка.

**БАЛАГО́ЛКА** *ж.* Балаболка, балбатуха. *Яна́ пры́йдзіць, натарара́хаіць – балаго́лка.* Заазер'е.

**БАЛАЗНЯ́** *ж. зб.* Найгоршае сена. *Пад стог кла́лі са́ма ху́жжья се́на, уся́кыю бълазню́.* Леснікова.

**БАЛАКНО́Т** *м.* Блакнот. *Балакно́т уве́сь спі́шуць.* Манголія.

**БАЛАМУ́ЦІЦЬ** *незак.* Выклікаць неспакой сярод каго-н., выклікаць разлад, неразбярыху. *Баламу́ціць усё бълъму́т е́ты.* Чуцькі.

**БАЛАНДА́** *ж.* Рэдкая поліўка; баланда. *Што ты навары́у̌ баланды́?* Жохава.

**БАЛАЎНЫ́** *прым.* Балаўны, распешчаны. *Ні бълау̌ны́ ма́ліц, усё нагліда́ла.* Партызаны.

**БА́ЛАЎСТВА, БА́ЛАСТВА** *н.* Разбэшчанасць, празмерная свабода. *Да́лі ба́лау̌ства, цяпе́р двана́ццаць дзяце́й – рэ́дкасць.* Карпавічы. *Ба́ластва цяпе́р у малады́х!* Цясішча.

**БАЛАЦІНА, БАЛОЦІНА** *ж.* Балота, лагчына. *Патапенскі мох – балаціна такая.* Гарадзец. *Дзе балоціны, то ліпы во такія.* Леснікова. БАЛАЦІНКА *памянш. Бълацінка тъкая ё на полі.* Гарадзец.

**БАЛАЦЦА** *незак.* Балавацца, сваволіць. *Шалун ён, во які разбалаваны шалун, так балаіцца!* Міцюкова. *Дзеці, ні балуйцеся!* Буй, Самсоны, Сянно.

**БАЛАЦЯВІНА, БАЛАТАВІНА** *ж.* Балота, лагчына. *Там балацявіна адна, што трэба разуваццa.* Закур'е. *Балатавіны такія, што коні ідуць і трасуцца.* Гарадзец. БАЛАЦЯВІНКА *памянш. Там крыніца была, пясок і балацявінка.* Каралі.

**БАЛАЦЯСТЫ** *прым.* Балоцісты. *Скрыпачы каля бъльцястых мест растуць.* Сянно.

**БАЛБАТАЦЬ** *незак.* Балбатаць (пра цецерукоў). *У бару цецярук балбочыць.* Мянюцева. *А ў бару ціцярок балбочыць, / Ён з бору вылятаць ня хочыць* (з песні). Багданава.

**БАЛБАТУН** *м.* Кулік. *Балбатуны на балоце балбочуць вясной.* Вялікі Азярэцк.

**БАЛБАТУН** *м.* Балбатун, балбатлівы чалавек. *Як ён балбочыць, балбатун называлі.* Марозаўка.

**БАЛВАН** *м.* Курган. *Балваны там, кажуць французы пъхъваны.* Вялікі Азярэцк.

**БАЛВАН** *м. экспр.* Балван, дурань. *Балван – дурны чалавек.* Запруддзе.

**БАЛДАЎНЯ** *ж. эмац.-ацэн.* Што-н. недарэчна вялікае. *Каб табе нос з балдаўню здзелаўся!* Запруддзе.

**БАЛЕЗНЯ, БАЛЕЗЬ, БАЛЕСЬ** *ж.* 1. Хвароба. *Дзівасіл ат дзвінаццыці балезняў.* Кішуроўшчына. *Балесь якая – трудна вылячыць.* Вялікі Азярэцк. 2. Эпілепсія. *Дзеўку балезь б'ець.* Чуцькі.

**БАЛЕЦЬ** *незак.* 1. Хварэць. *Жывець плоха, балеіць, нібарака, нагамі балеіць.* Савінічы. *Пасці не балеў, толькі жаліўся сэрцам.* Багданава, Ракаў Засценак. 2. Балець. *Рукі і ногі баляць – усё баліць.* Ракаў Засценак, Багданава, Каралевічы, Леснікова. 3. *перан.* Перажываць, хвалявацца. *Я так балела за етым, каб чыста жалі.* Сукрэмна.

**БАЛОНКА** *ж.* Клятчасты ўзор на тканні. *У балонкі паснуеш, тады выччыш.* Гарадзец. БАЛОНАЧКА *памянш. Андъракі у балоначкі выткуць і ў палосачкі.* Ракаў Засценак.

**БАЛОНКА** *ж.* Шыба. *Разбіў шыбу ці балонку скажуць.* Багданава.

**БАЛОТА** *н.* Балота. *Я і села ў балота: сяжу у вадзе.* Леснікова. *Дурніцы ў балоце бралі.* Запруддзе, Апечкі, Жохава, Партызаны, Неўгадава. БАЛОТЦА *памянш. Там балотца такое, калодзесь есь.* Вялікі Азярэцк. ◊ З АДНАГО БАЛОТА ЧЭРЦІ. Пра каго-, што-н. падобнае, аднолькавае. *Усё раўна з аднаго балота чэрці.* Партызаны.

**БАЛОТНІ** *прым.* Балотны. *Тамацькі ягъды балотнія.* Запруддзе. *Балотняя въда там у калодзісі.* Мянюцева, Гарадзец.

**БАЛОТНІК** *м.* Чалавек, які жыве сярод балота, на нізкай мясцовасці. *Яны балотнікі, жывуць сярод балота.* Пожанькі.

**БАЛТУН** *м.* Балбатун. *Балтун балтаіць языком.* Вялікі Азярэцк.

**БАЛЬЗАМІНКА** *ж.* Бальзаміна (кветка). *Більзамінка сярэневым цвіцець.* Кляпчэва.

**БАЛЬНІЦА, БОЛЬНІЦА** *ж.* Бальніца. *Бальніцы я ні знала: усіх дома ражала.* Заазер'е. *Другі раз павязлі ў бальніцу, а німа мястоў.* Запруддзе. *Пабудзіць*

*нядзе́льку ў дварэ́, і ў бальні́цу.* Турава. *Ні дъва́лі ў дварэ́ радзі́ць, на́да ў бальні́цы.* Галашчакіна. *Я ў бо́льніцу век не хажу́.* Закур'е.

**БАЛЬНЫ́** *прым.* 1. Хворы (чалавек). *Вы́слухалі до́ктара ў Масквé, што па ціліві́зару вы́лічыць, увéсь свет хай бярэ́ць, усé бальны́я.* Нямойта. 2. Балючы, пашкоджаны хваробай. *Рука́ ж бальна́я: я ні магла́ ні́чо́га узя́ць у ру́ку.* Леснікова.

**БАЛЬША́К** *м.* Бальшак, шаша. *Зь Ле́пля – бъльша́к на Мі́нск.* Багданава. *Па ге́таму бальшаку́ машы́ны гаго́чуць.* Закур'е.

**БАЛЬШУ́ШЧЫ** *прым.* Вельмі вялікі. *Сляды́ мядзве́дзя бальшу́шчыя, сама́ ві́дзіла іх.* Партызаны. *Ка́мень бальшу́шчы ляжы́ць, каб мне на гэ́ты ка́мень не павалі́цца.* Савінічы.

**БАЛЬШЫ́, БАЛЬШЭ́Й** *прым.* 1. Вялікі, значны па велічыні, памерах. *Бальшы́ расцэ́ць хвошч, як ёлка.* Кішуроўшчына. *Ха́ты бальшы́я – бо́лей стано́віцца па́р на кадры́лю.* Марозаўка, Багданава, Запруддзе, Міцюкова, Пожанькі. *Анто́нуўкі былі́ ні бальшэ́я сёліта.* Леснікова. *Ра́ньша тка́лі бальшэ́я су́кны.* Запруддзе, Алексінічы, Нямойта, Сянно, Фасаўшчына. БАЛЬШЭ́НЬКІ *памянш.* *Бальшэ́нька ні была́ дзярэ́ўня.* Фасаўшчына. 2. Большы, старэйшы па ўзросце. *Бъльша́я – дъў-гано́сая і білаку́ръя дзе́ўка.* Гарадзец. 3. Дарослы. *Хъзя́йкі нет, а дзе́ці бальшы́і у сына.* Карпавічы. 4. Доўгі. *Но́чы зімо́й бальшы́я.* Міцюкова.

**БАЛЬШЫНСТВО́** *н.* Большасць. *Дзе́люць маёмъсць: ёй* [жонцы] *бъльшын-ство́ астае́цца, а ён* [мужык] *– і пашо́ў.* Запруддзе.

**БАЛЬШЭ́ЗНЫ** *прым.* Вельмі поўны, празмерна мажны. *Кі́шкі вы́скучуць, як хто на спі́ну бальшэ́зны ста́ніць.* Вялікі Азярэцк.

**БАЛЬШЭ́ННЫ** *прым.* Вельмі вялікі. *Была́ бальшэ́нная каро́ва, змянілі на ма́-лінькую.* Фасаўшчына.

**БАЛЮ́ЧЫ** *прым.* 1. Балючы, пашкоджаны хваробай. *Ду́жа тру́днінька: но́-жачкі балю́чыя.* Нямойта. *Но́гі балю́чыя, глуха́я – па бале́зні ўво́лілі, бес пары́.* Ульянавічы, Гарадзец. 2. Хваравіты. *Іка́я была́ балю́чъя дзе́ўка! А пъшла́ за́муж і ста́ла здаро́ва.* Нямойта.

**БАЛЯ́ЎКА** *ж.* Балячка, болька. *Як не́йкія баля́ўкі, то купа́юць у ні́цавай вадзé дзяце́й.* Міцюкова. БАЛЯ́ВАЧКА *памянш.* *Як баля́вачка на шчацэ́ – пама́заць чыстаце́лам.* Парэчча.

**БАЛЯ́ЧКА** *ж.* Тое ж. *Гаспо́дзь высо́кі! Дзве баля́чкі на ўсю нагу́!* Партызаны.

**БАНБІ́ЦЬ** *незак.* Бамбіць. *Банбі́лі нас самалётам.* Партызаны.

**БА́НДА** *ж.* Кампанія свавольнай моладзі, дзяцей. *Мо́гуць згаро́ду злама́ць, на Іва́на, сядзі́ ноч, пілну́й ба́нду.* Вялікі Азярэцк.

**БАНДЗЁЖКІ** *мн.* Від абрадавага печыва. *Нъ Съракі́ бандзёжкі пяклі́.* Партызаны.

**БАНДУ́РА** *ж.* Вялікі груваcткі прадмет. *Жале́зная банду́ра стаі́ць.* Запруддзе.

**БА́НКА** *ж.* Слоік. *Ра́ньша мълако́ цадзі́ць гарла́чыкі бы́лі, а ціпе́р ба́нкі.* Каралі.

**БАНКА́РТ, БАНКА́РД** *м.* Байструк. *Банка́рт і́лі крапі́ўнік ска́жуць, е́слі біз ба́цькі.* Леснікі. *Банка́рд то жа, што і крапі́ўнік, – дзіця́ без ба́цькі.* Дольдзева. БАНКА́РЦІК *памянш.-ласк.* *Бънка́рцік заву́ць, е́слі дзе́ўкай ро́дзіць.* Фасаўшчына.

**БА́НЬКА** *ж.* Шырокае металічнае кольца для прымацавання касы да кассяя; банька. *У касé ба́нька жале́зная.* Фасаўшчына. *Ба́нька – дзе касу́ набіва́юць, жале́зная, кру́глінькая.* Міцюкова.

**БА́ПКА** *ж.* Пятнаццаць снапоў, састаўленых у кучку для прасушкі і на-крытых двума распасцёртымі снапамі; бабка. *Ба́пка – е́та пітна́ццаць снапо́ў:*

*трынáццаць станавíлася, два – пакрывáюць.* Дольдзева. *І ячмéнь, і авёс – усё у бáпкі ставíлі.* Каралі, Гарадзец, Леснікова, Сукрэмна.

**БА́ПКА** *ж.* Абабак, падбярозавік (грыб). *У нас ё суравéшкі, лісíчкі, бáпкі, бъравíчкі.* Запруддзе. *Бáпкі – ані салóдзінькія, у сырым мéсце растýць.* Вялікі Азярэцк, Багданава.

**БАРАБА́ЙКА** *ж.* Балаболка, бразготка, званок. *Як збрадлíвый скот, каб чуць было́, то чыпáлі бъръбáйкі – далёка чуць.* Запруддзе.

**БАРАБА́Н** *м.* Паўкруглае скляпенне печы і падпечак. *Бърабáн дзéлаіцца у пéчы: дóску абцéшуць, паўкрýгла, закладáюць да загнéту.* Багданава.

**БАРАВІ́К, БІРАВІ́К, БАРВІ́К** *м.* Баравік (грыб). *Баравікóў матóк насушыла.* Багданава. *Набóк, грыбóк, бъравíк éдзіць.* Ульянавічы, Вялікі Азярэцк, Дуброўкі. *У нас рóдзюць апéнкі, варýшкі, біравíкі.* Сукрэмна. *Жáрыный пъдасíнувік смáшный дýжа, ну й барвíк нічóга.* Партызаны. БАРАВІЧО́К *памянш.-ласк. Мъшóк падыміш, а там бързвічóк.* Алексінічы. ○ ПАЛЯВЭ́Й БАРАВІ́К. Несапраўдны баравік. *Пълявэ́й бъравíк éсці нільзя́.* Кавалі.

**БАРАВЫ́** *прым.* Баравы. *Баравáя зязюлька, нямнóшка табé кукувáць.* Фасаўшчына.

**БАРАДА́** *ж.* 1. Барада (у пеўня). *Бърадá у пітухá.* Алексінічы. 2. Нязжатая паласа жыта ці пучок каласоў, якія спецыяльна пакідалі, калі пачыналі жаць. *Бóгу нъ бърадý пакідáлі, як пачынáлі жаць.* Гарадзец. 3. Жменя звязаных каласоў, якія спецыяльна пакідаюць на полі пасля заканчэння жніва. *Як жыта дажынáюць, Бóгу бърадý дзéлаюць – закрýтку такýю.* Багданава. *Бърадý закруціць – шэснáццаць къласóў, хлеп палóжуць, разгóрнуць гэ́тыя къласкí.* Гарадзец, Запруддзе. ◊ БАРАДУ́ БІЦЬ. Плявузгаць, гаварыць абы-што. *Барадý б'éць нéйкую.* Багданава.

**БАРАЗНА́** *ж.* Баразна, разора. *Лéхі. Паміж імі – бързнá.* Гарадзец. *Абмякла бýльба: вьдá у бърóзнах стаíць.* Чуцькі. *На кíйку апéршыся, бъразны чатыры выкапала.* Нямойта, Гарадзец, Латыгаль, Міцюкова.

**БАРА́Н** *м.* Баран (пра свойскую жывёліну). *Авéчка бъранóў хóча.* Парэчча. *Бъранá укрáлі у нас.* Савінічы, Гарадзец. БАРА́НЧЫК, БАРА́НІЧКА *памянш.-ласк. Бара́нчыка дась прадсядáцель да спраўляем дажынкі.* Багданава. *Мы барáнічку стрыч бýдзім.* Чуцькі.

**БАРА́Н** *м.* Бакас; балотная з доўгай дзюбай птушка, якая ваганнем пер'я ўтварае гукі, падобныя на бляянне баранчыка. *Бърáн у вадзé жывéць, бéлінькі такí, у ягó рóгі мáлінькія, закрýчастыя з пéрышку, крычыць «ме-е-ме-е».* Сукрэмна. *Бърáн гавóрыць усё «бэ-э, бэ-э», у балóці вóдзіцца.* Багданава, Ракаў Засценак. БАРАНО́К *памянш.-ласк. Баранóк – у балóце, каля вады, дзе лахчына.* Дуброўкі. БАРА́НЬКА *памянш.-ласк. Барáнькі былí: як вéчар, так бу-бу-бу.* Дуброўкі.

**БАРА́Н** *м.* Рубанак з дзвюма ручкамі; баран. *Барáн двухрýчны, ім гъблівáлі дóскі.* Гарадзец. *Барáн з двумя́ рýчкамі.* Манголія. *Бърáн – дóскі чысціць. Удваíх рабóтаеш: на аднóй старанé і на другéй – у чатыры рукí.* Запруддзе, Багданава, Жохава, Кляпчэва, Леснікова, Марозаўка, Міцюкова, Савінічы.

**БАРА́ШКАВЫ** *прым.* Каракулевы; зроблены з воўны барана. *Шáпкі барáшкавыя сівыя нóсюць.* Каралі.

**БАРБАРЫ́С, БАРБАРЫ́Т** *м.* Барбарыс, ягады барбарысу. *Дзéці прыбягýць, нарвýць барбарыса.* Апечкі. *Ну хай пашчыпліць я́гаткі, гэ́та барбарыт.* Заазер'е.

**БАРДО́ВЫ** *прым.* Бардовы. *Вулуí высóчінькія, бурдóвыя, іх чэ́рві ні ядýць.* Партызаны.

**БАРЖДЖЭ́Й** *прысл.* Хутчэй. *Барждже́й атарве́ш крапіву́.* Цясішча.

**БАРКА́Н** *м.* Паркан. *Як стаяў къла бърка́ну, так цап за барка́ніну – і за ім.* Пожанькі.

**БАРКА́НІНА** *ж.* Адна штыкеціна з паркану. Пожанькі.

**БАРСУ́К** *м.* Барсук. *Барсу́к, ён жо́ўты, но́ры бальшэ́я дзе́лъіт.* Багданава. БАРСУЧО́ЧАК *памянш.-ласк. Бърсучы́ха і бърсучо́чак у нарэ́ сядзе́лі.* Багданава.

**БАРСУ́ЧЫ** *прым.* Барсучыны. *Ат прасту́ды бърсу́чьім са́лам націра́цца на́да.* Багданава.

**БАРСУЧЫ́ХА** *ж.* Барсучыха. *Бърсучы́ха і бърсучо́чак у нарэ́ сядзе́лі.* Багданава.

**БА́РЫНЯ** *ж.* Барыня (танец). *Ба́рыню пашлі танцава́ць.* Багданава. *Ба́рыню гуля́лі, другія та́нцы, ску́шно ніко́лі не було́.* Партызаны, Каралевічы, Самсоны.

**БАРЫ́С** *м.* Дзень у народным календары. *Сей боб, як Бары́с* (прыкмета). Багданава, Вялікі Азярэцк.

□ *Прыйшо́ў Бары́с – за сяу́бу́ бяры́сь.* Вялікі Азярэцк. □ *Святы́ Бары́с – за сяу́бу́ бяры́сь.* Каралевічы.

**БАРЫ́С І ГЛЕБ**. Дзень у народным календары. □ *Бары́с і Глеб се́юць хлеп.* Вялікі Азярэцк.

**БА́РЫШНЯ** *ж.* Партнёрка ў танцы. *Э́та кавале́р, а е́та – ба́рышня.* Багданава.

**БАС** *м.* Самы нізкі мужчынскі голас; бас. *Я ба́сам, я маціў так вы́весці не магу́.* Каралевічы.

**БАСІКА́** *прысл.* Басанож. *Хо́дзіш басіка́, уніма́ння ні абрашча́іш на вужа́к.* Партызаны. *Да вічары́нкі ідзе́ш бъсіка́, а там абува́іш баці́нкі.* Запруддзе, Багданава.

**БА́СНЯ** *ж.* ◊ БА́СНІ БА́ЯЦЬ. Займацца пустымі размовамі. *Сасе́дка жыве́ць, хо́дзіць, ба́сні ба́ець з ба́бамі.* Нямойта. ◊ ДАЛЁКАЯ БА́СНЯ. Доўгае апавяданне. *Далёкая ба́сня пра го́ра раска́звацъ.* Гарадзец.

**БАСЦЯ́ЦЦА** *незак.* Бадзяцца, валачыцца. *Басця́іцца, як валацу́га.* Міцюкова.

**БАСЬ-БАСЬ-БАСЬ** *выкл.* Выгукі, якімі падзываюць авечак. *Бась-бась-бась – падзыва́юць аве́чак.* Вялікі Азярэцк.

**БАСЯКО́М** *прысл.* Басанож. *На вечары́нцы басяко́м танцава́лі.* Цясішча. *Бъсяко́м у Сянно́ ішлі.* Ульянавічы, Алексінічы, Нямойта.

**БАТВА́** *ж. зб.* Бацвінне. *Батву́ ко́сіш, звозіш з гаро́да ў кусты́.* Партызаны. *То́лькі піръглідаіцца батва́, так другі рас абганя́юць бу́льбу.* Міцюкова, Ракаў Засценак.

**БАТО́ЎЕ** *н. зб.* 1. Бацвінне. *Бато́ўе бальшо́е: ра́кам паўзла́.* Ульянавічы. 2. Страва, прыгатаваная з бурачных сцёблаў і лісця. *Бато́ўе вары́ла: бурачко́ў нарва́ла.* Запруддзе. *Бато́ўе вары́ла, смета́най закісля́ла.* Запруддзе.

**БАЎТА́ЦЦА** *незак.* Хістацца. *Дзень як парабо́таіш, дык ідзе́ш і баўта́ешся.* Міцюкова.

**БАЎТУ́Н, БУЎТУ́Н** *м.* Наседжанае без зародка яйка. *Яйцо́ махаіць, а баўту́н пяля́шчыцца.* Вялікі Азярэцк. *Быва́іць і буўту́н.* Станюкі.

**БАХІ́ЛЫ** *мн.* Самаробныя глыбокія гумавыя галёшы; бахілы. *Бахі́лы з разі́ны насі́лі пасля вайны́.* Багданава.

**БА́ХНУЦЬ** *зак.* Бахнуць, моцна ўдарыць. *Як ба́хніць цэ́пъм у лоб!* Запруддзе. БАХ. Нечакана грукнуць. *Бах снъра́т, і яму́ нагу́ перабі́ла.* Кляпчэва.

**БАЦЁК** *м.* Ласкавы зварот да чалавека. *Бацёк мой!* Закур'е.

**БАЦІ́НКІ** *мн.* Бацінкі. *Нъ Къліду́ баці́нкі церас замёт кіда́лі, куды́ но́сам ляжы́ць, у ту́ю сто́рану за́мъж зо́йдзіш.* Гарадзец, Неўгадава.

**БАЦІСТАВЫ** *прым.* Батыставы. *Купіла платóк шэрсны, кóфту баціставую.* Нямойта.

**БÁЦЬКА** *м.* Бацька. *Я мáлья астъля́ся, бáцькі ні знáла свайгó.* Буй. *Бáцька мой быў абыёжджыкам.* Багданава, Гарадок, Заазер'е. ◊ ПА БÁЦЬКУ. Быць падобным на бацьку, нагадваць бацьку. *Інá уся́ па бáцьку.* Серкуці.

□ *Як мáтка памрэ́ць, так бáцька аслéпніць.* Багданава. □ *Які сук, такі клін, які бáцька, такі сын.* Багданава.

**БАЦЬКІ** *толькі мн.* Бацькі. *Я сéмдзісят рублéй астáвіў бъцькáм.* Кляпчэва. *Дáжа ў пóлі пáсціла і зямлю бацькам купляла.* Дольдзева.

**БÁЦЬКУЎШЧЫНА** *ж.* Бацькаўшчына, спадчынная маёмасць. *Бáцькуўшчына астáлься яму́ пу патóмству.* Міцюкова. *Я стъля́ся нъ бáцькуўшчыне жыць.* Запруддзе, Серкуці.

**БÁЦЮШКА** *м.* Поп, святар. *Ніўдáча, як бáцюшку устрэ́ціш, як поп дарóгу пірóйдзіць.* Ракаў Засценак. *Я як памру́, кап і мяне́ з бáцюшкам хавáлі.* Партызаны, Заазер'е.

**БАЧÓК** *м. памянш.* Невялікі бак. *Зяць кáжную вясну́ нанóсіць бачкі два сóку.* Багданава.

**БÁЧЫЦЬ** *незак.* Бачыць. *Каб маé вóчы цябé ні бáчылі, ву́шы – ні чу́лі!* Нямойта. *Лéвым вóкам бáчу.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Закур'е.

**БАЧЭ́НАК** *м.* Невялікая бочка. *Бачэ́нак такі, з вядрó змішчáлься.* Кляпчэва. *Бачэ́нак – э́та ісключыцельна дубóвая клёпка.* Дольдзева. БАЧЭ́НАЧАК *памянш.* Кляпчэва.

**БАШКАВІТЫ** *прым.* Разумны, кемлівы. *Янá башкавітая бáба, дóбра вучы́лася.* Дольдзева, Багданава, Заазер'е.

**БАЯВЫ́** *прым.* Баявы (пра чалавека актыўных паводзін). *Ажны́ інá баівáя тъкáя дзéўка.* Запруддзе, Багданава, Заазер'е, Дуброўкі.

**БАЯ́ЦЦА** *незак.* Баяцца. *Ці бая́цца цяпéр грэ́ху?* Заазер'е, Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадок, Жохава, Запруддзе, Каралевічы, Каралі, Леснікі, Леснікова, Рэчкі, Самсоны, Сянно, Неўгадава.

**БÁЯЦЬ** *незак.* Баяць, апавядаць. *Нам бáілі, што русáлкі ж жы́та выскáкыюць.* Багданава.

**БÉГАЦЬ** *незак.* Бегаць. *Малады́я авéчкі бéгаюць абы́-куды́.* Гарадзец, Багданава, Баравікі, Запруддзе, Каралевічы, Леснікова, Самсоны, Закур'е.

**БЕГУНÓК** *м.* Дробны пясок. *Пясóк вазіў з Вялікага Сялá, бегунóк, пясóк.* Міцюкова.

**БЕДАВÁЦЬ** *незак.* Сумаваць, гараваць. *Ні бяду́й, бáба, прыéдуць уну́кі.* Багданава. *Éслі гóра, то чалавéк бяду́іць.* Заазер'е, Нямойта, Розмыслава, Савінічы, Фасаўшчына, Цясішча, Чуцькі.

**БÉДНАСЦЬ** *ж.* Беднасць, нястача. *Хадзіла па бéднъсці бáба.* Запруддзе.

**БЕДНАТÁ** *ж.* Тое ж. *Беднатá былá: ганя́ліся за рабóтай, бая́ліся прапусціць.* Багданава, Заазер'е, Ракаў Засценак.

**БÉДНЫ** *прым.* Бедны. *Бéдны с паслéднім падзéліцца, а багáты – не, не дась, а прагóніць.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Нямойта, Рубежніца, Ульянавічы.

**БÉДСТВІЕ** *н.* Беднасць, галеча. *З вайны́ такóе ўсю́дых былó бéдствіе.* Партызаны.

**БÉЖАНЦЫ** *мн.* ◊ быць У БÉЖАНЦАХ. Часова пакідаць месца жыхарства з-за вайны. *У вайну́ былá у бéжанцах.* Чуцькі, Баравікі.

**БЕЗ**, **БІЗ**, **БІС** *прыназ.* Без. *Раньшы печы без комінаў былі.* Гарадзец. *Яму нагу адбіла, месіц біз лячэння быў.* Фасаўшчына. *Хата біс нікога.* Міцюкова, Буй.

**БЕЗАПАСКА** *ж.* Бяспечная брытва. *Зразаў балячкі безапаскай.* Партызаны.

**БЕЗАХВОТНА** *прысл.* Неахвотна, праз сілу. *Безахвотна есць.* Нямойта.

**БЕЗУБОЛЯШЧЭЭ** *н.* Абязбольваючы сродак. *Можа, безуболяшчэе прыкладу – ногі баляць, што не вытрымаць.* Нямойта.

**БЕЛАРУС** *м.* Беларус. *Відаць, што вы беларусы.* Латыгаль, Буй.

**БЕЛАРУСКІ** *прым.* Беларускі. *Беларускі язык, гэты, наш язык, нешта хацелі зусім закінуць.* Нямойта, Гарадзец, Запруддзе.

**БЕЛА-СЛАДКІ** *прым.* ○ БЕЛА-СЛАДКАЯ ЯБЛЫНЯ. Белы наліў. *У мяне ёсь адна бела-сладкъя яблына.* Гарадок.

**БЕЛЕНЫ** *дзеепрым.* 1. Белены, запраўлены малаком ці смятанай. *Беленаё ядзім, суп белены.* Багданава. 2. *н.* Страва, у якую дабаўляюць малако, смятану. *Беленаё ядзім.* Багданава.

**БЕЛЕНЬ** *ж.* Белы, незагарэлы. *Ні загарэтыя дзеці, белень.* Гарадзец.

**БЕЛКА** *ж.* Вавёрка. *Белка жоўцінькая, хвасток пушысты.* Багданава. *Белкі дзятла выганяюць з дупла.* Леснікова. ◊ круціцца ЯК БЕЛКА Ў КАЛЯСЕ. Быць вельмі занятым, заклапочаным. *Як белка у калясе: вярціся, круціся.* Савінічы.

**БЕЛЫ** *прым.* 1. Белы, светлы. *Зайцы зімой белыя.* Багданава, Дольдзева, Запруддзе, Кляпчэва, Савінічы, Сянно. БЕЛЕНЬКІ *ласк. Квасоль беленькі стърается садзіць.* Гарадзец. БЕЛІНЬКІ *ласк.* Светлавалосы. *Белінькі маліц, у каго удаўся?* Багданава, Запруддзе. 2. Надта светлы, святлей, чым звычайна бывае прадмет, які абазначаецца гэтым словам. *На белым наліве ёсць яблык німнога.* Запруддзе, Гарадок. *Радоўкі ёсь двух сартоў: белая радоўка і сінія радоўка.* Міцюкова. ○ БЕЛАЯ БАЛЕЗНЬ. Эпілепсія. *Белая балезь вымучыла: ідзець, паваліцца і кідаецца, пераб'ець неяк, атойдзіць.* Гарадзец. ○ БЕЛАЯ ГАРАЧКА. Белая гарачка. *У яго была белая гарачка.* Запруддзе. ○ БЕЛЫ ХРУШЧ. Грузд светлага колеру. *Белы хрушч, ён горкі, іх – перамыць, нъціскаць і доўга саліць.* Міцюкова. ◊ БЕЛЫ СВЕТ. Свет, сусвет. *Што на белым свеце, усё перарабіла.* ◊ БЯЛО ТАБЕ. Пажаданне на добрае мыццё. *Бяло табе – як бяллё мыіш кажуць.* Нямойта.

**БЕЛЬ** *ж.* ◊ БЕЛЬ БЕЛЛЮ. Пра ярка-белы колер. *Сады цвілі – бель беллю.* Вялікі Азярэцк.

**БЕРАГ** *м.* Узлесак, край. *На берагу лесу растуць ванючыя грыбы.* Жохава, Заазер'е, Івоні, Леснікова, Міцюкова. БЕРАЖОК *памянш. Беражок у вуўнянцы лупіцца.* Вялікі Азярэцк.

**БЕРАСТОЎКА** *ж.* Запячатванне запоўненых мёдам сотаў. *Берастоўка мёду.* Кляпчэва.

**БЕРАСЦЕНЬ** *м.* Від гарлача, які абкручвалі бяростай. *Берасцень – гърлач такі: бяростай абвінцяць, як бінтам рану, настолькі шчытна, больш век жыве, як цэла.* Нямойта.

**БЕРГАМОТА** *ж.* Бергамот (сорт сакавітых салодкіх груш). *Грушы былі: спасуўка, бъргамота, крупныя, дзічкі.* Мянюцева, Пожанькі.

**БЕРКА** *ж.* Бярозавы сок. □ *Берка есць – хлеба нет, хлеб ёсь – беркі няма.* Савінічы.

**БЕС** *м.* Нячысцік, чорт, д'ябал. *Бес у нас раншы аднаго старыка пъдлавіў.* Багданава, Каралевічы. ◊ І Ў ЛЕС І Ў БЕС. Не знаходзіць сабе месца. *Конь у яго пасля абеду – і ў лес і ў бес.* Міцюкова, Савінічы, Самсоны.

**БЁРДА, БЕ́РДА** *ж.* Бёрда. *Уцягваеш па па́ры ніты ў бёрда.* Рэчкі, Апечкі, Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Дольдзева, Запруддзе, Карпавічы, Дуброўкі.

**БЗДЗЮЛЬ** *м.* Лясны клоп. *Бздзюль – жук такі, сільна ваню́чы такóй, такі смярдзю́чы, такі смярдзю́чы! Чарапа́шка заву́ць тóжа.* Запруддзе. *Зялёны бздзю́ль ваню́чый!* Сукрэмна.

**БІЗАБРА́ЗІЯ** *ж.* Свавольства, бясчынства. *Бізабра́зію дзéлаюць.* Цясішча.

**БІЗЗЯМЕ́ЛЬНЫЙ** *прым.* Беззямельны. *Біззямéльный батра́к быў рабóчым у панóў.* Запруддзе.

**БІЗЛА́ДДЗЕ** *н.* Бязладдзе, непаразуменне. *Бізла́ддзе у сям'і у іх.* Багданава.

**БІЗУ́Н** *м.* Бізун. *Бізу́н – ру́чка нібальшая́, пугаўё віруўча́нае.* Гарадзец.

**БІ́ЛА** *н.* Ударная частка цэпа; біч. *Цэп, там ёсь біла.* Багданава, Фасаўшчына.

**БІЛІЗІ́Н, АБІЛІЗІ́Н** *м.* Бензін. *Білізіну прынясі нéмцы, а мы галóсім: кънча́іцца на́ша жызьнь.* Манголія. *Пілка «Дру́жба» абілізіным рабóтыіць.* Рулёўшчына.

**БІ́ЛЦЫ** *мн.* Верхнія і ніжнія планкі ў бёрдзе, якія ўтрымліваюць трасціны. *У бёрцы білцы трось сыдзіржа́юць.* Заазер'е, Вялікі Азярэцк.

**БІЛЬВА́РКА** *ж.* Бак для (кіпячэння) бялізны. *Більва́рку паста́віш у прымыльніку.* Марозаўка.

**БІРВЯНО́** *н.* Бервяно. *Два бірвяны́ зрэ́залі – два дрэ́вы.* Партызаны, Гарадзец, Запруддзе, Леснікова.

**БІРДА́НКА** *ж.* Буйнакаліберная вінтоўка. *Мужука́м ръзда́лі бірда́нкі.* Гарадок.

**БІ́РКА** *ж.* Драўляны гузік. *Біркі бы́лі – штаны́ зашпіля́лі.* Леснікова.

**БІРКУЛЁЗ** *м.* Сухоты, туберкулёз. *Біркулёз быў, ні памёр.* Багданава.

**БІРУ́БАЧКА** *ж. памянш.* Невялікі драўляны гузік. *Выдзéлывалі біру́бачкі з дрэ́ва і зашпільвалі.* Каралі, Гарадзец.

**БІРУ́Ч** *м.* Драўляны гузік. *Біру́ч мужчы́нам у штаны́ ўшывалі.* Турава. БІРУЧО́К *памянш.* Турава.

**БІСКАРО́ЎНЫ** *м.* Той, хто не трымае карову. *Біскарóўным ста́лі дава́ць цёлачку.* Савінічы.

**БІСПРАРЫ́ЎНА** *прысл.* Бесперапынна. *Біспрарыўна éхалі яны́ і éхалі.* Серкуці.

**БІСЧЫСЛЁНА** *прым.* Вельмі многа, безліч. *Яны́ руга́юцца бісчыслёна.* Запруддзе.

**БІТКІ́** *мн.* ◊ У БІТКІ́ гуля́ць. Разбіваць адным яйкам другое (велікодная гульня). *У біткі гуля́лі, така́я гульня́ была́: чыё крапчэ́йшое яйцó.* Вялікі Азярэцк.

**БІТКО́М** *прысл.* ◊ БІТКО́М НАБІ́ТА. Вельмі поўна, у вялікай колькасці. *Біткóм набіта ха́та была́.* Багданава.

**БІ́ТЫ** *дзеепрым.* Біты, пабіты. *Як ва сне ба́чыш яічкі бітыя – убы́ткі.* Каралевічы, Ульянавічы.

**БІЦУВА́ЦЦА** *незак.* Шмат працаваць. *Я біцува́лъся крэ́пка: во, ру́кі бъля́ць.* Багданава.

**БІЦУ́К** *м.* Ударная частка цэпа; біч. *Біцу́к у цэ́пі.* Запруддзе.

**БІ́ЦЦА** *незак.* 1. Біцца. *Іду́, ба́чу: б'юцца пітухі, налята́юць адзін на аднагó.* Нямойта, Заазер'е, Запруддзе, Каралевічы. 2. Ваяваць, змагацца. *Ста́лі біцца, парціза́ны атступілі.* Нямойта. 3. Калоцца (пра дровы). *Зъсталіся крутэ́я дрóвы: яны́ не б'юцца.* Рулёўшчына. ◊ БІ́ЦЦА (КІДА́ЦЦА) ЯК РЫ́БА АБ ЛЁД. Без выніку і плёну намагацца, старацца, шукаючы выйсце з бядоты. *Б'юся як ры́ба аб лёд.* Вялікі Азярэцк. *Друга́я ба́ба білася як ры́ба аб лёд, а пéнсія усім рóўная.* Вялікі Азярэцк, Серкуці. *Кіда́юся, кіда́юся як ры́ба аб лёт.* Багданава.

**БІЦЬ** *незак.* 1. Біць, прычыняць фізічны боль. *Бі свой свайго́, каб чужы́я бъялісь.* Багданава, Буй. 2. Забіваць, калоць. *Маладзічко́м на́да біць свінню́, а по́ўным, ка́жуць, біць нільзя́.* Запруддзе, Лесцікі, Леснікова, Каралевічы. 3. Прыбіваць, замацоўваць. *На сцяну́ б'юць ко́лічкі.* Дольдзева. 4. Разбіваць цэлае на часткі. *Раскъла́чвалі муку́ – яйцо́ білі.* Дольдзева, Заазер'е. 5. Спецыяльнай прыладай або лыжкай збіваць масла. *Ма́сла з кано́плі білі.* Жохава, Закур'е. 6. Перыць. *Як паго́да, білі пра́ннікам лён, на по́жнях сла́лі.* Карпавічы. *Кро́сны біць на́да ўме́ць.* Нямойта, Кляпчэва. 7. Малаціць. *Білі жы́та, і кулі трасці і кры́лі ха́ту.* Леснікова. 8. Удараць (пра гром, маланку). *Граза́ бо́лі б'ець у сухо́е дрэ́ва.* Чуцькі, Багданава. 9. *перан.* Псаваць пры актыўным карыстанні. *Матацы́кл жале́іць біць.* Партызаны. 10. Праяўляцца ў розных сімптомах (пра хваробу). *У яе́ бале́знь б'ець.* Запруддзе. 11. Цячы (пра крыніцу). *Крыні́ца б'е.* Дольдзева. 12. Страляць. *Па нас б'юць, мы па́даім, а фі́наў ня відна.* Івоні. ◊ БІЦЬ У ГО́ЛАВУ. Раптоўна, выпадкова з'яўляцца ў свядомасці. *Дасю́да мне ў го́лаву не біла, што тут парціза́ны пахаро́нены.* Апечкі.

**БІЧ** *м.* Ударная частка цэпа; біч. *Жы́та біча́м білі.* Запруддзе.

**БІЧАВІ́К** *м.* Скрыня для зерня, мукі. *Збіва́юць бічаві́к з дасо́к, куды́ ссыпа́іцца мука́ з жаро́н.* Запруддзе.

**БІЧА́Й** *м.* Адтуліна ў жорнах, куды сыплюць зерне. *У біча́й сы́пім зярно́, у жарна́х.* Багданава, Багданава[1].

**БЛА́ГА** *прысл.* Дрэнна. *Ста́ла бла́га ў галаве́.* Каралевічы.

**БЛАГАВЕ́ШЧАННЕ** *н.* Дабравешчанне, Благавешчанне. *На Благаве́шчанне буцяны́ прыліта́юць, вужа́кі вупуўза́юць. На Благаве́шчанне на́да шчэ́пак назбіра́ць у по́дал, тры разы́ аббе́гчы круго́м ха́ты бо́саму, го́ламу, бу́дзеш гнёзды знахо́дзіць, яічкі.* Багданава. *На Благаве́шчанне буця́н прыляці́ць.* Багданава[1], Буй, Жохава, Запруддзе, Самсоны, Чуцькі. *Які́ дзень на Благаве́шчанне, такі́ на Па́ску.* Гарадзец, Ракаў Засценак. *На Благаве́шчанне Ісу́с Хрысто́с уваскрэ́с.* Самсоны.

**БЛАГАРО́ДНЫ** *прым.* Высакародны, добразычлівы. *Мы ш лю́дзі благаро́дныя, Ло́рачкі цёта́чкі усе́ ро́дныя.* Чуцькі.

**БЛАГАСЛАВЕ́ННЕ** *н.* Бласлаўленне. *Іду́ць ра́на на блаславе́нне, тады́ прыязджа́юць, за стол са́дзяць.* Закур'е.

**БЛАГАСЛАВЕ́НСТВА** *н.* Тое ж. *Ад ба́бушкі благаславе́нства.* Каралевічы.

**БЛАГАСЛАВІ́ЦЬ** *зак.* Блаславіць. *Ма́тка з ба́цькам блъслъўля́лі малады́х.* Ракаў Засценак. *Блъслъўля́ю хле́бам-со́ллю і до́брым здаро́ўім!* (вясельнае пажаданне). Міцюкова. *Благаславі́, Хрысто́с, калі́ так прышло́сь.* Партызаны.

**БЛАГАТА́** *ж.* Гора, нядоля. *Благата́ як цяпе́р, то і тады́ – благата́.* Ульянавічы.

**БЛАГІ́** *прым.* 1. Дрэнны, кепскі. *Які́ ты благі́ хлапе́ц!* Савінічы. 2. *н.* Нешта дрэннае, кепскае. *На благо́е не на́да до́ўга вучы́цца.* Ульянавічы. *Ні пачу́ла зло́га, благо́га.* Нямойта. *Скупы́ благо́му глядзі́ць у во́чы па-прасто́му.* Партызаны. *На благо́е не на́да до́ўга вучы́цца.* Ульянавічы, Нямойта, Савінічы.

**БЛАСЛАВЕ́ННЕ** *н.* Блаславенне. *Іду́ць ра́на на блаславе́нне, тады́ прыязжа́юць, за стол садзя́ць.* Закур'е.

**БЛАТНЫ́** *прым.* Распусны (?). *Дзе́ўкі не́йкіе блатнэ́я, мы – хо́ду ад іх.* Запруддзе.

**БЛАТНЯ́К** *м.* Пра распусную, разбэшчаную жанчыну. *Рабо́таць ня хо́чыць, цяга́іцца па дыма́х, блатня́к* [стала] *ба́ба, блы́таіцца.* Багданава.

**БЛАХА́** *ж.* Блыха. *Спу́сціш но́гі, а бло́хі скок-скок, так і жылі ў блъха́х.* Фасаўшчына. *Пале́с дъста́ць съвіня́т, а ў йіх бло́хі зялёныя* [як напалі, аж зваліўся]. Сянно. *Як блох на лучыне – са́мая весяле́йшая сва́цця.* Дуброўкі.

**БЛА́ЦЦЕ** *н.* Блат, знаёмства, сувязі. *Ты з і́мі бла́цце завяла́.* Партызаны.

**БЛЕ́ДНА-ЗЯЛЁНЫ** *прым.* Светлавата-зялёны. *Мацер'ял не́йкі бле́дна-зялёны.* Запруддзе.

**БЛЕТНЯ́** *ж.* Блешня, бляснa; прынада для рыбы. *Блетня́ на ры́бу на́да, да, у ту лу́нку.* Багданава.

**БЛІЖА́ЮШЧЫ** *прым.* Бліжэйшы, самы блізкі. *Зъгъда́ў е́хыць дъ ма́тык пу бліжа́юшчых дзірыўня́х.* Гарадок.

**БЛІЖЭ́Й, БЛІ́ЖАЙ, БЛІ́ЖЭЙ, БЛІ́ЖЫ** *прысл.* Бліжэй. *У До́льдзіва бліжэ́й, а ў Уллянъвічы дзе́сяць кіло́метраў.* Малы Азярэцк. *Як даро́гу но́вую сдзе́лылі, так іна́ быць блі́жай ста́ла.* Дольдзева. *Блі́жай паха́ць, убіра́ць.* Нямойта. *Блі́жэй садзі́цеся к сто́лу.* Запруддзе. *У каго́ блі́жы сраство́, туды́ й пае́хылі.* Гарадок.

**БЛІ́ЖНІ** *прым.* Блізкі. *Мясце́чка Сянно́ – во са́мае блі́жняе к нам.* Самсоны.

**БЛІЗАРУ́КІ** *м.* Блізарукі. *Блізару́кі акуляры но́сіць.* Багданава, Гарадзец.

**БЛІ́ЗКА** *прысл.* Блізка. *Украду́ць, а блі́зка ні ста́вюць каро́ву.* Гарадок.

**БЛІЗНЕЦЫ́** *мн.* Блізняты. *Блізнецы́ радзі́лісі, а адзі́н памёр.* Багданава.

**БЛІ́ЗУ** *прысл.* ◊ КАЛА БЛІ́ЗУ. Паблізу, побач. *Я б жыла́ й пе́сні пе́ла, каб яны́ былі́ къла блі́зу.* Багданава. *Кала блі́зу тут німа́ тако́й дзярэ́ўні.* Чуцькі. *Німа́ кала блі́зу малі́н.* Запруддзе. *Хадзі́ла к прадсяда́целю, каб да́лі кала блі́зу травы́.* Партызаны, Баравікі, Манголія.

**БЛІН** *м.* Блін. *Бліны́ то́лькі ў нядзе́лю: чаты́ры скъвъро́ды.* Багданава, Гарадзец, Дуброўкі. ◊ ЗА ЦЁПЛЫ БЛІН АДДА́Ў ДО́ЧКУ. Пра вельмі нявыгадны шлюб. Вялікі Азярэцк.

□ *Пе́рвы блін ко́мам.* Вялікі Азярэцк.

**БЛІНО́К** *м.* Выступ на сякеры збоку ад тапарышча. *Бліно́к у тапары́ ё, каб ні з'іжджа́ла, каб дзіржа́ла лу́ччы.* Запруддзе.

**БЛІНО́ЎНІЦА** *ж.* Патэльня для бліноў. *Бліно́ўніца – для бліно́ў.* Жохава.

**БЛІНЫ́** *мн.* Мясістыя чырвоныя скураныя вырасты пад дзюбай у пеўня. *У пятуха́ бліны́ віся́ць кра́сныя.* Малы Азярэцк. БЛІ́НЧЫКІ *памянш.* *У петуха́ ў ве́рху грэ́бень, уні́зе – блі́нчыкі.* Вялікі Азярэцк. *У ку́рыцы ўвярху́ грэ́бінь, унізу́ – блі́нчыкі.* Запруддзе, Багданава.

**БЛІНЫ́** *мн.* Кабылкі (грыбы). *Бліны́, ці капы́цікі, ра́ньшы бра́лі, цяпе́р не бяру́ць.* Вялікі Азярэцк.

**БЛІСКАВІ́ЦА** *ж.* Бліскавіца, маланка. *Бліскаві́ца ў вакно́ бі́ла, гаспады́ню разбудзі́ла.* Леснікова.

**БЛІСКАТА́** *ж.* Прыгажосць, хараство. *Бу́дзіць тут въдаём – бліскъта́!* Мянюцева.

**БЛІСНЯ́, БЛІШНЯ́** *ж.* Блешня, бляснa; прынада для рыбы. *На блі́сні лаві́лі ры́бу.* Багданава.

**БЛІСЦЕ́ЦЬ** *незак.* Ззяць, блішчэць. *Аганёк блісці́ць.* Багданава, Гарадзец, Нямойта.

**БЛІША́НЫ** *прым.* Бляшаны. *Бліша́ная капце́лька, карасі́ны налле́ш, кно́цік уця́гнеш.* Багданава.

**БЛО́КАЦЬ** *незак.* Балбатаць, пляткарыць. *Ба́бы наъча́лі бло́каць.* Партызаны.

**БЛУД** *м.* ◊ ІСЦІ Ў БЛУД. Паводзіць сябе непрыстойна. *Ні адзін сын не пайшоў у блуд.* Запруддзе, Багданава, Нямойта.

**БЛУДЗІЦЬ** *незак.* Блукаць. *Як прысніш, што ў кустах ходзіш, блудзіш, – труднасці печальныя.* Багданава, Каралевічы, Ракаў Засценак.

**БЛУДЗЯК** *м.* Валацуга. *Блудзякі жывуць, нідзе ім месца німа.* Латыгаль.

**БЛУКУНЯЦЦА** *незак.* Бадзяцца, туляцца. *Гультай блукуняўся так проста* [не працаваў, як руплівы гаспадар]. Сянно.

**БЛУНДА** *ж.* Баланда, вельмі вадкая страва. *Блунда – адна въда.* Сянно.

**БЛЫТАНЫ** *прым.* Змешаны (пра мову). *У нас блытаны язык.* Станюкі, Багданава.

**БЛЫТАЦЦА** *незак.* Бадзяцца, цягацца. *Блытаўся чорт яго знаіць дзе.* Савінічы, Багданава.

**БЛЫТАЦЬ** *незак.* Блытаць, збіваць з панталыку. *Ай, Мішка, ня блытай ты!* Фасаўшчына.

**БЛЫШЫЦЬ** *незак.* Лаяцца. *Блышыць, пъгъняіць.* Савінічы.

**БЛЭНДА** *агульн.* 1. Валацуга, лайдак. *Блэнда быў малец.* Запруддзе. 2. Распусны, амаральны мужчына. *Блэнда быў: к тэй пойдзіць, к тэй пойдзіць.* Запруддзе. 3. Пра шкадлівых кароў. *Ой, ні каровы, а блэнды якіе праціўные.* Заазер'е.

**БЛЭНДАЦЬ, БЛЫНДАЦЬ** *незак.* 1. Бадзяцца, цягацца. *Блэндаіць, ходзіць ліш бы дзе.* Фасаўшчына. *Ня блэндый ты!* Чуцькі. *Сам блындаіць, а хто яму касіць будзіць?* Чуцькі. 2. Крыху рухацца, хадзіць. *Другая зіма ўжо, як я балею, троху блындыю.* Чуцькі.

**БЛЮДА** *н.* Страва. *Астальныя блюды ладзюць пъ възможнасці.* Гарадзец.

**БЛЮДКА** *н.* Сподак. *Мъхамор бяруць ад мух і ложаць у блюдка.* Дольдзева.

**БЛЮЗНА, БЛІЗНА** *ж.* Блюзна, памылка ў ткацтве. *Блюзна – як нітка парвецца.* Вялікі Азярэцк. *Блізна, калі парвецца нітка, глядзём у бёрдзі, дзе яна парвалася.* Леснікова. *Ты блізну здзелаеш, ні садзіся за кросны.* Буй. *Блізна ідзець, калі нітка парвецца.* Рэчкі, Багданава, Дуброўкі.

**БЛЮСЦІ** *незак.* Берагчы. *Блюдзеш бульбу, як лікарства, на семя.* Дольдзева. *Зіму вісіць* [мяса], *к лету ш нада блюсці ёты самы кіндзюк.* Багданава. *У лес сходзюць і нарвуць арэх і да Калят блюдуць, а тады ўжо ў Каляды арэхі гэтыя елі і гулялі.* Буй, Вялікі Азярэцк, Жохава, Запруддзе, Заазер'е, Каралевічы, Кляпчэва, Леснікова, Марозаўка, Нямойта, Фасаўшчына.

**БЛЯХА** *ж.* 1. Тонкае ліставое жалеза; ліст такога жалеза. *Бляхай крылі крышу.* Нямойта, Багданава, Парэчча. 2. Ліст жалеза з загнутымі краямі для выпечкі. *На бляху, і сунь у печ.* Запруддзе, Каралі, Савінічы.

**БЛЯХЕР** *м.* Майстар па пакрыцці даху, страхі; бляхар. *Бляхер паехаў, жасцяннік.* Манголія.

**БЛЯШЫНА** *ж. эмац.-ацэн.* Узнагарода. *Надавалі бляшын, штук дзесяць, ордэн далі і медалі.* Марозаўка.

**БЛЯЯЦЬ** *незак.* Бляяць. *Бляюць авечкі.* Гарадзец, Закур'е.

**БО** *часц.* Вось. *Бо і відзіш, бапка харошая.* Заазер'е. *Бо як прыдумалі, каб на белуй бумазі немцы бегълі.* Закур'е.

**БОБ, БОП** *м.* Боб (зерне). *Ляху пасеіць бобу, паніціцца, паваліцца і ні расцець.* Вялікі Азярэцк. *Боп буйнейшы за квасоль, чорный.* Гарадзец. *Боб параны ядзім.* Міцюкова, Багданава, Запруддзе, Каралевічы, Нямойта, Ракаў Засценак. *Наеўся як дурны бобу* (выслоўе). Малы Азярэцк, Неўгадава.

**БОГ**, **БОХ** *м.* 1. Бог. *Памо́жа Бог, калі сам не зьдзе́лаіш.* Каралевічы. 2. Абраз, ікона. *У мяне́ й бох вісіць у ха́це.* Ракаў Засценак, Багданава. ◊ БОГ ДАЕ́ЦЬ. Так атрымліваецца, складваецца. *Бох так дае́ць.* Міцюкова. ◊ ІСЦІННЫЙ БОХ. Так, праўда. *Прыхо́дзім, у ле́сі на тым ме́сці, ісцінный бох, як стол* [доўгая], *ляжы́ць вужа́ка.* Міцюкова. ◊ ЯК У БО́ГА ЗА ДЗВЯРМІ́. Без клопатаў, заможна, у поўнай бяспецы (жыць). *Жыла́ за мно́ю як у бо́га за дзвярмі́.* Ульянавічы. ◊ ЯК У БО́ГА ЗА ДЗВЯРМІ́ пажы́ць. Вельмі дрэнна, з цяжкасцямі. *Пажыла́ ты, ба́ба, за э́тым алкаго́лікам, як у Бо́га за дзвярмі́.* Ульянавічы. ◊ З БО́ГАМ ЖЫЦЬ. Жыць у суладдзі, у згодзе з сумленнем. *Я з Бо́гам жыу́.* Рэчкі, Міцюкова. ◊ БАРАНІ́ (БАРО́НЬ) БО́ЖА (БОГ), БРАНІ́ (БРАНЬ) БОХ. Засцярога ад чаго-н., забарона рабіць што-н. небяспечнае. *Бърані бо́жа ад уся́кага нішча́сця.* Нямойта. *Ціха ста́ніць у цэ́ркві, баро́нь бох гъвары́ць нільзя́, а то вон вы́ганюць.* Сукрэмна. *Брані бох, каб ні кот, кры́сы зае́лі б нас!* Ульянавічы. *А брань бог кашляну́ў бы – не́мцы і схвацілі бы.* Запруддзе. *Барані бог, по́йдзіць туды́.* Запруддзе. ◊ ХАЙ БОХ КРЫ́ЕЦЬ. Выраз перасцярогі, папярэджання не рабіць чаго-н. *Хай бох кры́ець, кап чълаве́ка вы́гнаў с ха́ты.* Рэчкі. ◊ ДАЙ БО́ЖА (БО́ЖАЧКА) ЗДАРО́ЎЯ. Пры пажаданні здароўя. *Кап табе́ бо́жа даў здаро́ўя. Кап табе́ бо́жачка даў здаро́ўя.* Нямойта. ◊ БО́ЖА, БО́ЖА МОЙ, БО́ЖАЧКА МОЙ. Выгук пры хваляванні. *Бо́жа мой, бо́жа, а што ж бу́дзіць!* Рубежніца, Нямойта, Партызаны, Неўгадава. ◊ ГАСПО́ДЗЬ БО́ЖАЧКА. Тое ж. *Пла́чу: Гаспо́дзь Бо́жачка, яку́ю Бог даў ка́ру?* Леснікі. ◊ БО́ЖА МОЙ ВЫСО́ЧАНЬКІ. Бажба. *Затрасліся мае́ но́гі: бо́жа мой высо́чанькі, пъмагі радо́ўку адпа́сціць.* Партызаны.

□ *Як яка́я трыво́га, тады́ – да Бо́га.* Нямойта. □ *Дзіцёнък упадзе́ць – Бох паду́шку падсціла́іць, а стары́ па́даіць – бърану́ паткіда́іць.* Каралевічы. □ *Нъ каго́ Бох, нъ таго́ й лю́дзі.* Ульянавічы. □ *Хто ра́на ўстае́, таму Бох дае́.* Вялікі Азярэцк. □ *Ні гані Бо́га с ха́ты, калі ён уле́с у ха́ту.* Багданава, Забор'е, Рэчкі, Сянно. □ *Што Бог су́дзіць, то́е і бу́дзіць.* Каралевічы. □ *Не віна́ват Бох, а хто плох.* Каралевічы. □ *Го́рдага* (*гънары́стъга*) *Бог із не́ба ські́дваіць.* Каралевічы. □ *На табе́, бо́жа, калі мне няго́жа.* Ульянавічы. □ *І Бо́гу грэ́шна і людзя́м сме́шна.* Нямойта. □ *Бы́стры сам нъбяжы́ць, а на ціхъга Бох нанісе́ць.* Ульянавічы. □ *Бог сіро́т лю́біць, але́ до́лі ні дае́.* Багданава. □ *Баро́нь бох свінні́ ро́гі – не састу́піць даро́гі.* □ *Даў Бох шча́сця, ды ня ўме́йеш шунува́ць.* Івоні. □ *Дай бох усё уме́ць, а ня ўсё дзе́лъць.* Івоні.

**БО́ЖЫ**, **БО́ЖЖЫ** *прым.* ○ БО́ЖАЯ РАСА́. Невядомая расліна. *Бо́жжа ръса́ – на ёй расі́чка стаіць.* Багданава. ○ БО́ЖАЯ КАРО́ЎКА. Божая кароўка. *Бо́жая каро́ўка – кра́снінькая і ў кро́пачкі.* Рэчкі. ○ БО́ЖЖЫЯ КАНАПЕ́ЛЬКІ. Від травы. *Бо́жжыя канапе́лькі – е́та тра́ва суха́я.* Жохава.

**БОК** *м.* 1. Прастора злева і справа. *У нас быў гаро́т на два бакі́.* Серкуці. *На адны́м баку́ ракі не́мцы, на другі́м – ру́скія.* Кляпчэва. *Той бок ніжэ́й, нізі́на.* Партызаны, Галашчакіна, Неўгадава. 2. Бок у прадметах. *Кълъ бако́ў у істру́п устуўля́лысі до́шчъчкі.* Гарадок. 3. Бок, правая ці левая частка тулава. *У бок уда́рыла, алі вы́нялі аско́лкі.* Каралі. *Ні було́ ні пат бок, ні пат го́лувы* [што-н. пакласці]. Дуброўкі. ◊ ПАД БО́КАМ. Зусім блізка, недалёка. *Ха́та пад бо́кам, я дамо́й пайду́.* Леснікова. ◊ У БО́КІ. На пояс. *І во, у бо́кі во́зьмісся і вы́скачыш танцава́ць.* Багданава.

**БО́КАМ** *прысл.* 1. Бокам, павярнуўшыся, сагнуўшыся. *Крыва́я така́я: бо́кам – ра́кам устае́ш.* Марозаўка. 2. Няроўна, пад нахілам. *Мая́ дзе́ўчына падло́гу па-кла́ла і вакно́ бо́кам* [у зямлянцы]. Партызаны.

**БОКС** *м.* Бокс (від спорту). *Бо́ксаў не люблю.* Нямойта.

**БО́ЛЕЙ, БО́ЛЕ, БО́ЛІ, БО́ЛІЙ** *прысл.* Болей, больш. *А бо́лей к ба́пкам хадзілі: ат пу́ду, ат зълатніка́, ат віху.* Запруддзе. *Кап іх бо́ле было́ тады́.* Багданава. *Бо́лі за міне́ ён ні зна́іць. Бо́лі ў нас ле́су нет.* Машчоны. *Грыбы́ сушы́лі бо́лі.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадок, Заазер'е, Кавалі, Канева, Міцюкова, Нямойта, Серкуці, Пожанькі. *Аве́цы на́ зіму пудо́ў тры́цццъць на́да се́на, а пад но́гі й бо́лі вы́цігніць.* Неўгадава. *Пачына́іш кручко́м с сярэ́дзіны, а да́лі бо́лій ганя́іш.* Партызаны, Забор'е.

**БОЛЬ** *м.* Боль. *Лячы́ў гаълаўны́ боль.* Кляпчэва. *Боль ду́жа бальшэ́й.* Нямойта. *Паду́маю – у гаълаву боль уда́раць, так тру́дна было́ жыць.* Цясішча.

**БОЛЬ** *ж.* Тое ж. *Як ня мо́жна трыма́ць, така́я боль.* Серкуці.

**БО́НДАР** *м.* Пра тоўстае дзіця. *Я іх прызва́ла бо́ндары, таўстэ́я такія.* Запруддзе.

**БОР** *м.* Бор. *Бор назъва́іцца, сасо́ньнік быў бальшы́. Ў нас каля ху́тара бор быў.* Багданава. *Бор – е́та лес: е́лкі, сасо́ннік. У бару́ съсна́ бо́льшы часць, ёсь і асі́на.* Запруддзе, Вялікі Азярэцк, Мянюцева. *Па бъра́х расце́ць лячэ́бны хвош.* Кішуроўшчына.

**БО́РНІК** *м.* Інструмент для выбаркі пазоў. *Бо́рнік шпары́ выбіра́ць.* Леснікі.

**БО́СЫ** *прым.* Босы, не абуты. *Бо́сая на рабо́ту ідзе́ш, свякро́ў къза́ла: абува́йся, не хадзі́ так.* Нямойта, Ульянавічы.

**БО́ЧКА** *ж.* Бочка. *Дзе́шка ілі бо́чка, тады́ дзірвя́нныя дзе́шкі былі, с клёпачак здзе́ланы, абручы́ наго́ніш.* Каралі. *Дзёгъць, што калёсы ма́заць, быў, у бо́чцы вазілі.* Нямойта. *Кмін сы́пем, соль, таўкачо́м капу́сту складзём у бо́чку.* Вялікі Азярэцк. БО́ЧАЧКА *памянш. І для гурко́ў была́ бо́чачка.* Каралі.

**БО́ШКАЦЬ** *незак.* Божкаць; гаварыць: ой, божа мой. *Стаю я, бо́шкаю: га́лкі кукуру́зу павы́цяглі.* Запруддзе

**БРА́ГА** *ж.* Брага. *Мая́ ба́ба рас каро́ву бра́гай напаіла, і малако́ па́хла бра́гай.* Міцюкова, Дольдзева.

**БРАДЗЯ́ГА** *агульн.* Валацуга. *Ах ты бръдзя́га!* Савінічы.

**БРАДЗЯ́ЖНЫ** *прым.* Збродлівы. *Бръдзя́жная каро́ва.* Савінічы.

**БРАДЗЯ́ЖЫЦЬ** *незак.* Бадзяцца, хадзіць без справы. *Бро́цька бръдзя́жыць абы-дзе́.* Савінічы.

**БРАДЗЯ́ЧЫ** *прым.* Пераезджы. *Брадзя́чыя лю́дзі пънае́халі і дзе́лаюць абы-што́.* Ульянавічы.

**БРА́ДЖАНЫ, БРА́ДЗІНЫ** *дзеепрым.* Забраны, узяты. *Хъзя́ін бра́джаны ў со́рак пе́ршым, а ў со́рак чацьвёртым пагіп.* Буй. *Я з атту́да бра́джана.* Самсоны. *Яны́ ніда́ўна бра́дзіныя.* Дольдзева

**БРА́ЖЫЦЬ** *незак.* 1. Закісаць (пра малако і пад. прадукты). *Бра́жыць малако́, пато́м яго́ свіня́м даю́ць.* Партызаны. *Варе́н'я бра́жаіць, са́хару німа́.* Івоні. 2. Брадзіць, пыхкаць. *Бра́га бра́жыць, хо́дзіць, пухціць.* Дольдзева.

**БРА́ЗГУЎКІ** *мн.* Званочкі, якія чапляліся на конскую збрую; бразготкі, бомы. *Бра́згуўкі ду́жа звіне́лі, пра́ма ў като́рых такія ме́лкія.* Самсоны.

**БРА́ЗНУЦЬ** *зак.* Бразнуць, раптоўна ўпасці. *Бра́знула жале́зіна – ды на нагу́.* Буй.

**БРАК** *м.* Ганьба, грэблівае стаўленне. *Ра́ньшы, як дзе́ўка бяз мужыка́ ро́дзіць, – ёй брак.* Розмыслава.

**БРАКАВА́ЦЬ** *незак.* Лічыць дрэнным, няякасным. *Чаго́ ты, ба́ба, браку́іця гэ́ты грып?* Запруддзе.

**БРАКО́ВАННЫ** *прым.* Бракованы, той, які мае недахопы. *Брако́ванных прадаю́ць парасёнкаў, мо́гуць гудува́цца, а мо́гуць не.* Багданава.

**БРА́ЛКА** *ж.* Механічная прылада для выбірання лёну. *Лён выбіра́ць – бра́лкі.* Запруддзе. *Бра́лкамі ні бра́лі, ру́чна бра́лі* [лён]. Чуцькі.

**БРАНЕ́Ц, БРУНЕ́Ц** *м.* Ягады бузіны. *Бране́ц – як брусні́цы, то́лькі брусні́цы кра́сныя, а бране́ц, бруне́ц – чо́рныя. Бране́ц – я́гады со́чныя, яны́ драбне́йшыя за дурні́цы. У бранцу́ ко́стачкі німа́. Бране́ц – ядо́мыя я́гады, ве́ткамі расце́ць. Ве́тка тъка́я цішка́я, ве́тку сасмаргне́ш – у руку́ ня ўле́зіць.* Кішуроўшчына.

**БРАНІ́ЦЦА** *незак.* Сварыцца на каго-н. *Нашто́ на вас брані́цца?* Партызаны.

**БРАТ** *м.* Брат. Кішуроўшчына, Запруддзе. ◊ У ТРЭ́ЦІМ БРАТ. Траюрадны брат. *Мне Пе́цька ў трэ́цім быў брат.* Жохава.

□ *Брат лю́біць сястру́ бага́таю, а мужы́к – жо́нку здаро́ваю.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Гарадок, Карпавічы.

**БРАТ-І-СІСТРА́, БРАТ-СІСТРА́.** Падбел (расліна). *Брат-і-сістра́ – сі́ні і жо́ўты на адны́м цвятку́.* Буй. *Брат-і-сістра́ па ржэ́ўніку расту́ць, дзяце́й ат залату́хі купа́юць.* Запруддзе, Багданава, Заазер’е, Леснікі, Леснікова, Самсоны. *На Купа́ла травы́ абіза́цільна трэ́ба нърва́ць і даць каро́ві – брат-сястры́.* Нямойта, Заазер’е.

**БРАТКІ́** *толькі мн.* Браткі і падобныя да іх кветкі. *Сабіра́юцца, іду́ць у жы́та, ірву́ць браткі́ з дзвюх цвято́ў, в’юць вянкі́, кіда́юць у ваду́* [на Купалле]. Нямойта.

**БРА́ТНІ** *прым.* Братаў. *Бра́тні пляме́ннік.* Неўгадава. *Бра́тні дзіцёнък быў.* Манголія.

**БРАЎНО́** *н.* Бервяно. *Ста́вюцца казлы́, браўно́ ло́жыцца і тако́й прадо́льнай піло́й рэ́жыцца.* Нямойта, Заазер’е, Міцюкова, Партызаны, Станюкі. БРУ́ЎНУШКА *памянш. Пан е́хаў, а вужа́ка чераз даро́гу ў во́зера, як бру́ўнушко, у ваду́ ўско́чыла.* Каралевічы.

**БРАХАНУ́ЦЬ** *зак.* 1. Гаўкнуць. *Гэ́ты саба́ка калі́ брахане́ць.* Леснікова. 2. *перан.* Пасварыцца, палаяцца. *Гэ́ткі сын калі́ брахане́ць на мяне́.* Леснікова.

**БРАХА́ЦЦА** *незак. перан.* Сварыцца, лаяцца. *Брэ́шуцца яны́, руга́юцца, ла́ду німа́.* Партызаны, Багданава, Заазер’е, Запруддзе, Кляпчэва, Нямойта, Рассвет.

**БРАХА́ЦЬ** *незак.* 1. Гаўкаць. *Саба́ка бе́гыіць круго́м ку́сціка і брэ́шыць.* Алексінічы, Багданава, Вялікі Азярэцк, Галашчакіна. Марозаўка. 2. *перан.* Сварыцца, лаяцца. *Браха́ць, брашы́ што хо́чаш, а каб рука́ твая́ на мне не ляжа́ла.* Дольдзева, Вялікі Азярэцк, Заазер’е, Міцюкова, Савінічы, Фасаўшчына.

**БРАХЛІ́ВЫ** *прым.* 1. Балбатлівы. *Дзе́ці руга́юцца, брахлі́выя такі́я.* Запруддзе. 2. Лаянкавы, абразлівы. *Мно́га пъгаво́рак ёсь, і руга́цельскіх, брахлі́вых.* Каралевічы, Забор’е.

**БРАЦЕ́ННІК** *м.* Браценік, стрыечны брат. *Яна́ ўзяла́ майго́ браце́нніка.* Багданава.

**БРАЦЬ** *незак.* 1. Браць. *Бра́лі ту́ю ваду́ і пілі́.* Багданава. *Бяры́, то́лькі ні хачу́.* Галашчакіна. *Поп браў усё, пъняс́еш к Па́схі, яе́ц кладу́ць мно́га, ён і шэсь во́зьміць.* Багданава. 2. Ірваць (лён, каноплі). *Бра́лі ўручну́ю і сла́лі лён.* Буй. *Цяпе́р жа рука́мі ні бяру́ць.* Гарадзец. *Лён цві́це сі́ненькім, як жо́ўценькім ста́не, так і браць мо́жна.* Вялікі Азярэцк, Запруддзе. 3. Збіраць (грыбы, ягады). *Лю́дзі беру́ць грыбы́ і яду́ць.* Закур’е. *Бяру́ малі́ну, што ў дварі́, і до мне.* Серкуці, Заазер’е, Карпавічы. 4. Запрашаць. *Падру́х бра́лі як за свідзе́целяў.* Запруддзе. 5. Красці. *Ра́ньшы астаўля́лі, ніхто́ ніч́ога ні браў, ні краў – лю́дзі былі́ надзе́йныя.* Запруддзе. 6. Жаніцца

(выходзіць замуж). *Ні бярэць нікóга дóчка, жывéць адна́.* Фасаўшчына, Багданава. 7. Запісваць. *Лéтам прыéдуць нъ магнітафóн браць.* Заазер'е. 8. Есці. *Больш нічóга ні брáлі пъръсяты.* Вялікі Азярэцк. 9. Набываць, купляць. *Ё дзéньгі, бяру́ць і бяру́ць, нáда янó ці не нáда.* Каралевічы. 10. Перавозіць. *Гэ́та прывязлі дом з Багушэ́ва, у Мінск бу́дуць браць.* Заазер'е. 11. Разбіраць, апаноўваць. *Дзéці наéўшыся, сон ні бярэ́ць.* Запруддзе. ◊ НЕ БРАЦЬ ДА ГАЛАВЫ́. Не думаць пра што-н., не звяртаць увагі. *Нічóга ні брáла да галавы́.* Дуброўкі. *Ні бяры́ ты дъ гълавы́.* Ульянавічы. ◊ БРАЦЬ У ДОЎГ. Пазычаць. *Я ў цябé нікагда́ ні брáла ў доўг.* Багданава. ◊ ЯК НІ БЯРЫ́. Безумоўна, бясспрэчна. *Як ні бяры́, дзярэ́ўня аджываíць.* Буй.

**БРО́ВЫ** *мн.* Бровы. Багданава.

**БРО́ЛЕР** *м.*, **БО́ЛЕРЫ** *мн.* Бройлер; свойская птушка, якая гадуецца спецыяльным спосабам. *Брóлер – гу́сі і кáчкі.* Буй. *Бóлеры дзéржым.* Закур'е.

**БРО́СІЦЬ** *зак.* 1. Пакінуць. *Дзéвачку свекрыві брóсіла.* Багданава. 2. Перастаць. *Ці галавá брóсіла балéць?* Міцюкова. *Цяпéр нéшта ўсё брóсіла радзіць, нъграшылі лю́дзі пірад Бóгам.* Вялікі Азярэцк, Нямойта.

**БРОТ** *м.* Брод. *У брот пераéхъў вóзера.* Гарадок.

**БРО́ЦЬКА** *агульн.* Валацуга. *Брóцька бръдзя́жыць абы-дзé.* Савінічы.

**БРО́ШКА** *ж.* Ашыйнік. *Кала шы́і ў сабáкі брóшка, ашэ́йнік.* Партызаны.

**БРУЖМЕ́ЛЬ** *м.* Бружмель. *Бружмéль – дрэ́ва дрóбненькае, нявысóкае, упрóд былó, як куст скарэ́й, цяпéр усё пасушылі, павы́дралі.* Багданава. *Бружмéль нападóбіе вóўча лы́ка.* Каралевічы.

**БРУЗЕ́НТ** *м.* Брызент. *Шы́лі óбуй з брузéнту.* Алексінічы.

**БРУК** *м.* Брук. *Брук – éта кáмінная дарóга.* Багданава.

**БРУКАВА́ЦЬ** *незак.* Варкаваць (пра галубоў). *Бруку́юць галубы́, лёта́юць па садáх.* Мянюцева.

**БРУ́КВІНА** *ж.* Бручка. *У вайну́ бру́квіну на тры чáсці рэ́залі, згрызём – і спаць клáліся.* Партызаны.

**БРУ́КІ** *толькі мн.* Штаны. *Рас прыéхаў, што такóя, бру́кі ў мяду́.* Сянно.

**БРУСНЕ́ЦЬ** *незак.* Цвярдзець (пра вымя). *Як віма бруснéіць, тады́ стралóй глáдзюць.* Закур'е.

**БРУСНІ́ЦЫ** *мн.*, **БРУСНІ́КА** *ж.* Брусніцы. *У тым бару́ брусніцы, чарніцы, маліны.* Мянюцева, Леснікова, Каралевічы, Парэчча, Цясішча. *Бруснíка былá ў лясу́, клюква.* Цясішча, Парэчча. *Бруснíка ёсь, малін пóўна.* Дуброўкі.

**БРУСНІ́ШНІК, БРУШНІ́ЧНІК, БРУШНІ́ШНІК** *м.* Бруснічнік. *Там бруснішнік расцéць.* Запруддзе, Алексінічы, Каралі, Партызаны. *І брушнíчнік, і суніцы ёсь.* Буй. *Брушнíшнік ад ламóты касці́.* Каралевічы. *Брушнíшнік, чарнíшнік тóпім і п'ем.* Каралі. *Брушнíшнік ат пóчак.* Партызаны, Буй, Каралевічы.

**БРУСО́К** *м.* Тачыльны камень прадаўгаватай формы; мянташка, брусок. *Брусќамі нажы́ тóчуць.* Гарадзец. *Брусќом тóчуць касу́.* Манголія, Гарадзец, Жохава, Запруддзе.

**БРУСО́К** *м.* Частка грабель, куды ўстаўляюцца зубы; стаўпец. *У брусóк устаўля́ліся зу́б'я, а патóм грабі́лна.* Жохава, Гарадзец.

**БРУ́ХА** *н.* 1. Чэрава, бруха. *Бру́ха ў карóвы.* Парэчча, Вялікі Азярэцк. 2. Пра ніжнюю частку пілы. *Бру́ха ў пілы́ вы́пукнутае.* Вялікі Азярэцк.

□ *Слу́хай ву́хам, а не бру́хам.* Каралевічы.

**БРУХА́ТЫ** *прым.* З вялікім жыватом, трыбухаты. *Бруха́тая каро́ва ідзе́ць.* Парэчча.

**БРУ́ЧКА** *ж.* Бручка. *Бру́чку вары́лі, дра́лі, праснакі́ пяклі́.* Алексінічы.

**БРУ́ШКА** *н.* Брушка (у насякомых). *Бру́шка ў пшчалы́.* Закур'е.

**БРУШТЫ́НАВЫ, БРУШТЫНО́ВЫ** *прым.* Бурштынавы. *Брушты́навыя бу́сы кра́сна-бура́чныя.* Каралевічы. *Бруштыно́выя бу́сы, як купа́ю рабёнка, палажу́ ў нага́х, у ху́стачку завярну́ – ад згла́зу.* Запруддзе.

**БРУ́ШЫНА** *ж.* 1. Жывот, скура жывата. *Уся́ бруши́на была́ сіне́ла.* Івоні. 2. Сала з падчарэўя. Вялікі Азярэцк.

**БРЫВІНА́** *ж.* Брыво. *Уда́рыла каро́ва ў брывіну́.* Цясішча.

**БРЫГА́ДА** *ж.* Брыгада. *Адна́ ў нас брага́да.* Гарадзец.

**БРЫГАДЗІ́Р** *м.* Брыгадзір. *Ён шчытаво́дам рабо́таў, брыгадзі́рам і ў ку́зніцы быў.* Заазер'е, Каралі.

**БРЫГАДЗІ́РКА** *ж.* Кіраўніца брыгады. *Была́ ў нас брыгадзі́рка.* Мянюцева.

**БРЫГНУ́ЦЬ** *зак.* Успыхнуць. *Як брыгну́ў аго́нь – гръза́ была́.* Кішуроўшчына.

**БРЫДА́** *ж.* Брыда. *Кату́ гэ́ту брыду́ аддалі́.* Багданава.

**БРЫ́ДКІ** *прым.* Непрыемны. *Такі́м бры́дкім наці́раннем наці́рала.* Нямойта.

**БРЫЖ, БРЫШ** *м.*, **БРЫЖЫ́** *мн.* 1. Край дошкі. *Брыш у до́шцы.* Вялікі Азярэцк. 2. Бакавое рабро ў ложку. *Бакі́ ў ло́жку у нас называ́лі брыжы́.* Марозаўка. 3. Прымурак, выступ зверху ўздоўж печы. *Брыш у ка́ждай пе́чы – спі́чкі кла́сці.* Фасаўшчына.

**БРЫЖДЖЭ́ЦЬ** *незак.* Звінець. *Сва́дзьбу ла́дную здзе́лалі, на ко́нях ша́рыкі брыжджа́ць, пасці́лачкі пъсла́лі.* Багданава.

**БРЫ́ЖЫКІ** *мн.* Брыжы; вузкая палоска тканіны, сабраная ў зборкі. *Чапе́ц надзе́ніць з бры́жыкамі.* Закур'е.

**БРЫ́ЗГІ** *мн.* Пырскі. *Бры́згі б'юць, аж атліта́юць.* Баравікі.

**БРЫЗГЛЁНЫ** *прым.* Буйны, ліўневы. *К ве́чару даў дошч, брызглёны, буйны́.* Баравікі.

**БРЫК** *выкл.* Брыкнуцца, раптоўна ўпасці. *А я брык са сту́ла, мяне́ ўзялі́ абтраслі́, аткалацілі.* Запруддзе. *А тады́ – брык са ўсі́х чатыро́х і ляжы́ць.* Вялікі Азярэцк.

**БРЫКЕ́Т** *м.* Брыкет. *З брыке́ту по́пел сы́пала на гаро́т.* Ракаў Засценак. *Была́ запіса́ўшыся на брыке́т.* Багданава.

**БРЫЛЬ** *м.* 1. Капялюш, брыль. *Брылі́ насі́лі Лі́дзіны Іва́нішкі.* Партызаны. *Два брылі́ гро́шай ахвірава́ў.* Каралевічы, Гарадзец. 2. Мянушка жыхароў вёскі Кішуроўшчына. *Да вайны́ мы хлеп і гаро́х до́бра палуча́лі, а тады́ з гэ́тымі брыля́мі далучы́лі, і горш ста́ла.* Партызаны.

**БРЫ́НДЫ** *мн.* Брыжы; вузкая палоска тканіны, сабраная ў зборкі. *Бры́нды прышыва́лі* [на спадніцу]. Турава.

**БРЫ́ТВА** *ж.* Брытва. *Бры́тва апа́сная была́, як но́жык, тэй бры́твай бры́ліся.* Багданава.

□ *Як то́пішся, дык* (*то*) *і за бры́тву ўхо́пішся* (*хо́пісся*). Серкуці, Леснікова.

**БРЫ́ТКА** *прысл.* Брыдка, непрыемна. *Бры́тка яму́ сматрэ́ць.* Савінічы, Жохава.

**БРЭ́ДЗІНЬ, БРАДЗЕ́НЬ** *м.* Спецыяльная сетка для лоўлі рыбы; браднік. *Спляцём брэ́дзінь, ідуць на ры́бу.* Кляпчэва, Нямойта. *Брадзе́нь заву́ць, браднём ры́бу ло́вюць.* Фасаўшчына. *Вяза́лі брэ́дні – се́ткі.* Баравікі.

**БРЭДНІ́К** *м.* Тое ж. *З брэднікóм у рэчку схóдзіць, злóвіць шчýчак, плóтак, язькóў.* Самсоны.

**БРЭ́КАЦЬ** *незак.* Грэбаваць. *Не зóйдуць на парóг, мнóю брэ́каюць.* Міцюкова.

**БРЭСЦЯ́НІЦ** *м.* Брэстаўчанін, жыхар Брэстчыны. *А ён брэсця́ніц, па-свóйму гавóрыць.* Запруддзе.

**БРЭСЬ** *выкл.* Бразнуцца, раптоўна ўпасці. *Брэсь – і ляжы́ць.* Парэчча.

**БУБЕ́НЧЫК** *м.* Званочак. *На дузé бубéнчыкі звóняць. На шы́ю каню́ вéшалі бубéнчыкі.* Міцюкова.

**БУБЁН** *м.* Бубен. *Бубён быў, цымбáлы, скры́пачка.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Самсоны, Закур'е.

**БУ́БКА** *ж.* Кветка, суквецце. *У піжмы бýбкі жóўтыя.* Каралі.

**БУ́БНІЦЬ** *незак.* Іграць у бубен. *Чаты́ры часы́, а ён бýбніць пъд вакнóм.* Алексінічы, Багданава.

**БУБЫ́** *мн.* ◊ НА БУБА́Х. У адзіноце і нястачы. *Цяпéр астъля́ся на бубáх, самá жывý.* Кішуроўшчына.

**БУБЫ́ШКА**, **БУ́БЫШКА** *ж.*, **БУБУ́ШКІ** *мн.* Бутон. *Лáдная бубы́шка ў свірэ́піцы, адарвём і ядзём, гаркáвая.* Запруддзе, Багданава, Каралі, Партызаны. *Мáльва ў бýбышках.* Багданава. *Бубýшкі пачарнéлі.* Запруддзе. БУБЫ́ШАЧКА *памянш.* *Мя́та сыбáччыя, на ёй во бубы́шачкі растýць, як цвіціць.* Заазер'е.

**БУВА́ЛАШНІ**, **БУВА́ЛАШНЫ**, **БУВА́ЛУШНЫ** *прым.* 1. Даўні. *Яны́ ціпéрашнія ня ўмéюць бувáлашніх пéсінь.* Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Нямойта, Партызаны, Сукрэмна, Фасаўшчына, Закур'е. *Бувáлашнія лю́дзі ткáлі накладáныя рушнікі.* Багданава, Нямойта, Серкуці, Чуцькі. *Ні дай бох бувáлушнюю жысь.* Галашчакіна. *Бувáлышныя ўсё пішуць.* Чуцькі. 2. *н.* Даўняе, мінулае. *Бувáлашняе памінáць ні хачý.* Ульянавічы. *Бувáлашніга нільзя́ забывáць, нільзя́ закінуць.* Запруддзе, Вялікі Азярэцк, Гарадок, Партызаны, Чуцькі.

**БУГАРО́К** *м.* Бугарок (на целе). *У жáбы бугаркі па цéлу, янá ўся рабáя, яны́ бальшэ́і вóдзюцца.* Вялікі Азярэцк.

**БУГЛАЁЎКА** *ж.* Сорт ігруш. *Буглаёўкі растýць бальшэ́я, аднý з'ясі і до.* Самсоны.

**БУГРА́К** *м.* Узгорак, бугор. *На буграку́ лі Мышканéй курга́н быў.* Алексінічы. БУГРАЧО́К *памянш.* *На буграчкý касілі цімахвеéўку.* Алексінічы.

**БУГРА́Н** *м.* Курган, узгорак. *Магільнік тут у лéсі, тут былі тýркі, памёрзлі, іх зъкъпáлі ў бугрáны.* Рассвет.

**БУГРЫ́СТЫ** *прым.* Бугрысты, няроўны, хвалісты. *Страчкі бугры́стыя такéя.* Вялікі Азярэцк.

**БУ́ДА** *ж.* Дом, хата. *А прыéць, брáцец, у маю́ бýду, / А хоць жъбъравáць бýду, / Цябé частувáць бýду* (з песні). Рассвет.

**БУ́ДЗЕН**, **БУ́ДЗІН** *прым.* ○ БУ́ДЗІН ДЗЕНЬ. Рабочы дзень, невыхадны. *У бýдзен дзень – лáпці, а ў святы́ дзень – панчóхі і чъравікі.* Буй. *У бýдзін дзень прáлі, ткáлі.* Багданава, Ульянавічы.

**БУДЗІ́ЦЬ** *незак.* Будзіць. *Бýдзіць пятýх, каб ні пръспáла.* Буй, Гарадзец.

**БУ́ДКА**, **БУ́ТКА** *ж.* 1. *экспр.* Невялікая непрыглядная хатка. *Я самá гэ́ту бýтку стрóіла.* Нямойта. 2. Сабачая будка. *Бýдка сыбáччъя, для събáк.* Запруддзе.

**БУДУВА́ЦЬ** *незак.* Будаваць. *Хáту будувáў сам.* Леснікова, Запруддзе, Нямойта.

**БУДЫ́НАК** *м.* Дом, будынак. *Я й зáмуш прышлá ў гэ́ты будынак.* Гарадок.

**БУЗА́** *ж.* 1. Смецце. *Бо́лей нядзе́лі ні міла́, буза́ ў хаці.* Леснікі. 2. Гразкае, багністае месца. *Уе́хала ў бузу́ ў кана́ве па кале́на.* Заазер'е, Ульянавічы. 3. Глей. *У во́зіры грась жы́ткая – буза́.* Гарадок.

**БУЗІ́ЦЬ** *незак.* Бузіць. *Ні бузі́це, жыві́це харашо́. Я бузі́ць ня бу́ду, зна́ю зако́ну.* Цясішча, Багданава.

**БУЗЯ́НЫ** *прым.* Гразкі, багністы, топкі. *Бірагбу́ нет, бузя́нае тако́я во́зера, то́пкае, вя́скае.* Турава, Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Пожанькі, Турава.

**БУ́ЙНА** *прысл.* Буйна, моцна. *Гэ́ты наш пулямёт дро́бна, а няме́цкі бу́йна сако́чыць.* Леснікова.

**БУЙНЫ́** *прым.* Буйны. *Чарні́ка буйна́я така́я, харо́шая.* Апечкі, Вялікі Азярэцк, Дольдзева, Запруддзе, Марозаўка, Нямойта.

**БУК** *м.* Бук. *Дзе́рава бук.* Кляпчэва.

**БУ́КАВІЦА** *ж.* Буквіца (лекавая расліна). *А е́та мы завём бу́кавіца, а па кні́ге – васілёк лугавы́, от ламаты́ касцэ́й.* Серкуці. *Бу́кавіца высо́кая, ро́завым цвіці́ць, лісці́кі прыкладае́ш, як парэ́жаш, як пары́вы. Па лугах, кала даро́гі і дзе по́жні ёсь, расцэ́ць.* Каралі, Каралевічы, Марозаўка, Сукрэмна.

**БУКЕ́Т** *м.* Кветка, суквецце. *Гэ́та стуле́тнік, а гэ́та гарсе́нзія, як цвіці́ць – буке́ты бальшы́я.* Міцюкова.

**БУКЕ́ЦІНА** *ж.* Тое ж. *Ды паглядзі́, усю́ буке́ціну сарва́лі.* Запруддзе.

**БУКЛА́ШКА** *ж.* Металічная біклага, фляга. *Бukла́шкі бы́лі от сълда́т.* Запруддзе.

**БУКСУВА́ЦЬ** *незак.* Буксаваць. *Тра́ктары буксува́лі.* Нямойта.

**БУЛА́НЫ** *прым.* Буланы. *Була́ны – ні жо́ўты, ні бе́лы конь.* Нямойта. *Конь була́ны – гэ́та пат ры́жава.* Вялікі Азярэцк, Сянно.

**БУЛА́ЎКА** *ж.* Булаўка. *На́да насі́ць була́ўку на грудзя́х, у пъдалу́* [ад сурокаў]. Каралевічы.

**БУЛА́Ш** *м.* Булка, вялікая булачка. *Нъ Съракі́ булашы́ пяклі́ до́ўжызныя.* Партызаны.

**БУЛДА́** *ж.* ◊ ПАД БУЛДО́Й. У стане ап'янення. *Быў пъд булдо́й, зъяві́ў, што ў жо́нкі сок я́блышны стаі́ць. Прыйшла́ мі́ліцыя і штра́пу да́лі.* Сянно.

**БУЛДО́ЎКА** *ж.* Лілея. *Булдо́ўкі бе́лыя і жо́ўтыя.* Багданава.

**БУЛЁН** *м.* Бульбяны суп; булён. *Булён – е́та бу́льба і въда́, сма́шны.* Гарадзец, Багданава. *З баравіка́мі і булён смяе́цца.* Рассвет. *Вару́шак куст нашла́ і булёну навары́ла.* Неўгадава. БУЛЛЁНЧЫК *ласк.* *Буллёнчык – карто́шачка адна́, а як пярло́ўка, то суп.* Багданава.

**БУ́ЛКА** *ж.* Бохан, булка. *Пяклі́ па сем і пъ чаты́ры бу́лкі, як іка́я сім'я́.* Цясішча, Заазер'е, Чуцькі. *Прыне́сла бу́лку хле́ба з магазі́на.* Багданава, Вялікі Азярэцк.

**БУЛЬ-БУЛЬ-БУЛЬ** *выкл.* Выгукі, якімі падзываюць качак. Станюкі.

**БУ́ЛЬБА** *ж.* Бульба. *Бу́льбу ва́руць, / Бу́льбу па́руць, / Бу́льбу яду́ць, / Бу́льбу хва́люць. / Із бу́льбы суп, / Із бу́льбы ка́ша, / Прападзі́ ты, до́ля на́ша* (з песні). Каралевічы *З Іллі́ бу́льбу пачына́юць къпа́ць, ніхто́ ні къпа́ў да Ллі.* Малы Азярэцк. *Лю́дзі атса́джвалі бурука́мі бу́льбу.* Запруддзе. *У пяску́ бу́льба пачына́е пе́чыся.* Партызаны. *Бу́льбу як сы́плюць, кладу́ць тры камяны́кі ў по́грър, і ста́рая о́буў, які́я та́пкі, гало́шы ста́рыя, абува́ныя кладу́ць, кап мы́шы ня е́лі.* Ракаў Засценак. *Гніе́ць бу́льбу – до́жджу не было́.* Гарадзец, Буй, Алексінічы, Чуцькі, Неўгадава.

**БУЛЬБЕ́ШНІК** *м. зб.* Бульбоўнік, бацвінне бульбы. *Бульбе́шнік адкі́нь.* Закур'е.

**БУ́ЛЬБІНА** *ж.* Бульба. *Бу́льбіна свая́ то́лькі, а што ў дзярэ́ўні?* Багданава. *У па́на то́лькі астаў бу́льбіну, така́я па́лка была́ – дасць.* Алексінічы. БУЛЬБІ́НКА *памянш.-ласк. Ско́лькі хо́чаш, бульбінак укрышыце.* Багданава.

**БУЛЬБО́ЎНІК** *м. зб.* Бульбоўнік, бацвінне бульбы. *Бульбо́ўніку зжа́ла, раз-ве́сіла сушыць.* Міцюкова, Баравікі, Запруддзе, Кляпчэва, Розмыслава.

**БУЛЬБЯ́НІШЧА** *н.* Поле, дзе расла бульба; бульбянішча. *Нь бульбя́нішчы пшані́цу се́ілі.* Гарадок. *Нь бульбя́нішчэ пасе́яла ці на картапля́нішчэ.* Міцюкова.

**БУЛЬБЯ́НКА** *ж.* Сорт ігруш. *Былі ў нас бульбя́нкі* [грушы, якія выспяваюць у канцы жніўня]. Пожанькі.

**БУЛЬБЯНЫ́** *прым.* Бульбяны, прыгатаваны з бульбы. *Клёцкі хто надзярэ́ць з бу́льбы – бульбянэ́я, а хто мучанэ́я.* Нямойта.

**БУМА́ГА** *ж.* Папера. *Э́та то́ка нь слава́х і на бума́зі ўважа́юць, а ў са́мам дзе́лі, ніхто́ ня спро́сіць, ці табе́ по́мачы на́да ці не.* Леснікова.

**БУНТАНІ́НА** *ж.* Блытаніна. *Бунтаніна была́ тька́я.* Фасаўшчына.

**БУНТО́ЎКА** *ж.* Сварлівая жанчына. Запруддзе.

**БУ́РА** *ж.* Бура, моцны вецер. *У нас на Пітра́ абычна бу́ры быва́юць.* Малы Азярэцк. *Як бу́ра ікая во́зьміцца на вясе́ллі, як бура́н, то ска́жуць* [што] *жызьня бу́дзіць дрэ́ннья.* Ракаў Засценак, Багданава, Каралі. ○ МАГНІ́ТНАЯ БУ́РА. Змяненне магнітнага поля Зямлі, звязанае з утварэннем на Сонцы цёмных плям. *А дзе ш та́я бу́ра магні́тная?* Нямойта.

**БУРА́К** *м.* Бурак. *Буракі со́дзім, гуркі со́дзім на ляха́х.* Гарадзец. *Со́так во́сім бурука́мі засе́іла.* Баравікі, Вялікі Азярэцк, Леснікі, Леснікова, Цясішча. БУРАЧО́К, БУРУЧО́К *памянш. Ле́хі ро́бім: і лук, і мо́ркву, і бурачкі, і капу́сту со́дзім.* Каралі. *Буручка́ парэ́жу, бу́льбіны.* Багданава.

**БУРА́К** *м.* Невялікая жалезная печка (буржуйка?). *Бура́к – пе́чка залёзная, яе́ купля́юць, прыдае́цца.* Нямойта.

**БУРАКЛІ́ВЫ** *прым.* Бурачковы, бардовы (колер). *Бураклі́выя кве́ткі на пла́ц-ці.* Запруддзе.

**БУРА́Н** *м.* Буран, моцны вецер. *Бура́н быў скі́нуў гняздо́, сабра́ліся мужыкі і ўсцягну́лі наве́рх.* Запруддзе, Цясішча.

**БУРА́ЧНІК, БУРА́ШНІК** *м. зб.* Бурачнік, бацвінне буракоў. *Лі́сце мо́рквы – марко́ўнік, бурако́ў – бура́чнік, капу́сты – капу́снік.* Гарадзец. *Ад бурако́ў – бура́ч-нік.* Кішуроўшчына. *Бура́шнік ско́ту дае́м.* Самсоны.

**БУРА́ЧНЫ** *прым.* Бурачковы, бардовы (колер). *Бурштыно́выя бу́сы карыч-левыя, кра́сныя, бура́чныя – уся́кія ме́ла.* Каралевічы.

**БУРБУВА́ЦЬ** *незак.* Весці барацьбу. *Бурбува́лі* [вялі барацьбу] *врач і ён на выбарах.* Партызаны.

**БУРГО́МІСТР, БУРГО́МІСЦІР, БУРМІ́СТР** *м.* Бургамістр. *Бурго́містрам ён быў, дзялі́ў зямлю.* Леснікова. *Быў адзін ста́руста, бурго́містр быў ва Улля́навічах.* Партызаны. *Сістра́ пае́хала к бурмі́стру ў Улля́навічы.* Фасаўшчына.

**БУРДА́** *ж. экспр.* Пра нясмачнае малако. *Як бурда́ мьлако́.* Заазер'е.

**БУРДЗЮЧО́К** *м. эмац.-ацэн.* Мажны, сыты чалавек. *Яе́ па́па бурдзючо́к ла́дны, то́ўсценькі такі.* Партызаны.

**БУРДО́ВЫ** *прым.* Бардовы (колер). *Бурдо́вымі цвіця́ць гваздзікі.* Багданава.

**БУРКУЛЁЗНЫ** *прым.* Хворы на сухоты (туберкулёз). *Усё хрыпі́ць каро́ва, ду́малі, што буркулёзная.* Запруддзе.

**БУРЛА́ТЫ** *мн.* Апошнія бярвёны ў зрубе, да якіх мацуюцца кроквы. *На бэ́льку ло́жуцца бурла́ты. Па бурла́тах страпілы ло́жаць.* Марозаўка. *Ло́жуцца на сцяну́ бурла́ты, ста́вюць на бурла́ты кро́квы.* Сукрэмна. *Кры́ша стаіць на бурла́тах.* Міцюкова. *Када́ паслéдні вянéц ло́жыцца, ло́жуцца бурла́ты.* Нямойта, Алексінічы, Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Дольдзева, Запруддзе, Леснікова.

**БУРНО́С** *м.* Вопратка з даматканага сукна. *Цяпéр гаво́раць по́льты, а ра́ньшы быў бурно́с.* Партызаны.

**БУРСА́** *ж.* Сварка. *Каб ні было́ бурсы́ ў ха́ці, я яго́ адпра́віла.* Каралевічы.

**БУРТ** *м.* Вялікі капец бульбы, буракоў; бурт. *Бу́льба ў бурт кладзéцца на по́лі, до́ма – капéц.* Партызаны, Гарадзец, Неўгадава.

**БУРТУВА́ЦЬ** *незак.* Буртаваць. *Ку́чу буртува́лі.* Савінічы.

**БУРУЗДЗІ́ЦЬ** *незак. эмац.-ацэн.* Плявузгаць, гаварыць абы-што. *Бурyздзіць абы-што́.* Дольдзева.

**БУРУНУВА́ТЫ** *прым.* Бураваты (колер). *Я́гады, чарніцы, такія бурунува́тыя, бу́рыя такія, яшчэ́ не чо́рныя.* Ракаў Засценак.

**БУРЧА́ЦЬ** *незак.* 1. Бурліць. *Бурчы́ць вада́ ў бало́ці.* Багданава. *У драгбé не скрозь, а міста́мі во́кны. Бурчы́ць вада́ там.* Запруддзе. 2. Сярдзіта, незадаволена мармытаць, выказваць незадавальненне. *Бурчы́ш ты, як стара́я ба́ба.* Вялікі Азярэцк.

**БУРЧУ́Н** *м.* Буркун, мармытун. *Бурчу́н éты бурчы́ць і бурчы́ць.* Гарадзец.

**БУРЫ́ЦЦА** *незак.* Разбурацца, развальвацца. *Кало́дзеш ужо́ бу́рыцца.* Кішуроўшчына, Івоні, Леснікова, Нямойта, Сукрэмна, Фасаўшчына.

**БУРЭ́НЯ** *ж.* Карова бурай масці; клічка такой каровы. Міцюкова.

**БУРЭ́Ц** *м.* Буркун, мармытун. *Бурэ́ц бурчы́ць і бурчы́ць.* Багданава.

**БУРЭ́ЦЬ** *незак.* Спець (пра злакавыя расліны). *Ужо́ бурэ́іць жы́та.* Ульянавічы.

**БУ́СЕЛ** *м.* Бусел. *Када́ бу́сел яйцо́ выкідываіць – лéта мачліваая, а када́ рабёнка – гало́дная лéта* (прыкмета). Запруддзе.

**БУСЛІ́ННЫ** *прым.* Бусліны. *Буслíннае гняздо́ про́шлы год на ба́шні было́.* Багданава.

**БУ́ТЭЛЬ** *ж.* Буталь. *Вады́ бу́тэль з сабо́й.* Багданава.

**БУЎТА́ЦЦА, БУТА́ЦЦА** *незак.* Хістацца, дрэнна трымацца на нагах. *Як вéцер той, буўта́ецца.* Міцюкова. *Гълъва́, што п'я́нья, аш бута́юся.* Кішуроўшчына, Каралевічы.

**БУХНУ́ЦЬ** *зак.* Ударыць. *Ні ра́зу мужы́к ні бухну́ў, пражыла́ з ім пядзеся́т тры гады́.* Самсоны, Міцюкова.

**БУХТО́РЫЦЦА** *незак.* Многа працаваць. *Я заніма́лася з гаро́дам гэ́тым, цэ́лаю нядзéлю бухто́рылася.* Багданава.

**БУЦЯ́Н, БУЦЬЯ́Н, БАЦЬЯ́Н** *м.* Бусел, бацян. *На Благавéшчане буця́н прылітаіць.* Дольдзева. *Грэх бу́дзіць, як гняздо́ буцяна́ разбу́рыш.* Самсоны, Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Леснікова, Міцюкова, Нямойта, Партызаны, Ракаў Засценак, Розмыслава, Серкуці, Сукрэмна, Ульянавічы, Чуцькі, Закур'е. *Дзе буцья́н жывéць, то пяру́н ні ўда́рыць.* Дуброўкі. *У тэй дом, дзе бацья́н жывéць, не уда́рыць мала́нка.* Гарадзец, Дуброўкі. БУЦЯНО́К, БУЦЯНЁНАК *памянш.-ласк. Буцяно́к сядзіць і ўсё дзю́пкъй – тар-тар-тар.* Нямойта, Сянно. *Éслі буцянёнка ськівіць, то на го́лът, а éсьлі яйцо́ – нъ ўръжа́й* (прыкмета). Серкуці, Сянно.

**БУЦЯНІ́ХА** *ж.* Бусліха. *Буця́н прыляцёў з буцяні́хуй* [з выраю], *ажані́ўся.* Сянно.

**БУЦЯНО́ВЫ** *прым.* Бусліны. *Гняздо́ буцяно́вае ве́цер раскалашла́ціў.* Нямойта, Багданава. ○ БУЦЯНО́ВА ЯЙЦО́. Порхаўка (неядомы грыб). *Буцяно́вы я́йцы ў нас пъ лагу́ расту́ць.* Партызаны.

**БУЧ** *м.* Рыбалоўная снасць, зробленая з лазы, ніцяной сеткі і абручоў. *Буча́мі ра́куў лаві́ў.* Рассвет.

**БУШУВА́ЦЬ** *незак.* Дурэць, буяніць. *Прыду́ць у дзяр́эўню і дава́й бушува́ць: што ўзду́маюць, той дзе́лаюць.* Запруддзе.

**БУЯ́Н** *м.* Баян. *Ціпе́ра іграю́ць на буя́н адзі́н маціў.* Кавалі.

**БЫВА́ЛА, БУВА́ЛА, БА́ЛА** *часц.* Бывала. *Быва́ла, уве́сь свет аб'е́здзіць, абойдзіць.* Савінічы. *Ма́тка, бува́ла, пае́дзіць і ка́жыць: купіла рыбёнка.* Буй, Заазер'е, Нямойта. *Ба́ла туды́ е́здзілі гліну къпа́ць.* Багданава.

**БЫВА́ЦЬ** *незак.* 1. Быць, здарацца. *Быва́ець су́мна, настрае́нія ніякага.* Запруддзе, Багданава, Міцюкова, Самсоны. 2. Форма развітання. *Бывайце.* Нямойта.

**БЫК** *м.* Бык (жывёліна). *Дзве до́йных каро́вы дзіржа́ла і бы́ка.* Баравікі, Запруддзе, Марозаўка, Міцюкова, Чуцькі. БЫЧАНО́К *памянш.-ласк. На́да бычънка́ гэ́тага нъкарміць.* Марозаўка.

**БЫК** *м.* Памылка пры снаванні, ткацтве. *Нарабіла быко́ў, калі́ снъва́лі, яго́ разабра́ць было́ тру́дна быка́.* Дуброўкі.

**БЫ́ЛЛЕ** *н. зб.* Дудкі бульбоўніку. *Была́ бу́льба, астало́ся адно́ бы́лле, тако́е ду́дзейка астало́ся, усё жукі з'е́лі.* Апечкі.

**БЫ́ЛЬНІК** *м.* Чарнобыль (расліна). *Бы́льнік высо́кі, у рост чалаве́ка выра́сцець.* Запруддзе, Багданава, Дольдзева, Заазер'е, Каралі.

**БЫ́СТРА** *прысл.* Хутка, шпарка. *У хо́лат ко́жды мо́лад, бы́стра бяжы́ць.* Гарадзец.

**БЫ́СТРЫ** *прым.* Хуткі, жвавы. *Ма́льчык харо́шы – тут ёсць, тут німа́ – бы́стры.* Фасаўшчына, Запруддзе.

**БЫТ** *м.* ◊ СТАРЫ́ БЫТ. Старая закалка. *Дажыва́юць да глыбо́кай ста́расці старо́га бы́ту лю́дзі.* Чуцькі.

**БЫ́ТНАСЦЬ** *ж.* Жыццё, бытнасць. *Усё пірмянілася на маёй бы́тнасці.* Нямойта, Марозаўка.

**БЫ́ТТО** *часц.* Нібы, быццам. *Бу́льба бы́тто здаро́ва, а йна по́рчана.* Неўгадава, Дуброўкі, Цясішча.

**БЫЦЦЁ** *н.* Жыццё, існаванне. *Пры маі́м быцці ні хадзіў пасту́х.* Багданава.

**БЫЦЬ** *ж.* Тое ж. *На маёй бы́ці* [так]*: дзень раблю́, а ве́чарам іду́ гуля́ць.* Нямойта.

**БЫЦЬ** *незак.* Быць, жыць. *Вот быў, быў, бале́ла нъга́, пато́м атня́лі нагу́.* Серкуці.

**БЫЧЫ́ЦЦА** *незак.* Бегаць; пра перыяд палавой актыўнасці ў кароў. *Бычы́цца каро́ва, быко́ў на́да ве́сці.* Нямойта.

**БЭЗ** *м.* Бэз. *Бэз сірэ́невы і бе́лы.* Буй, Багданава.

**БЭ́ЛЕЧНЫ** *прым.* Бэлечны, які мае адносіны да бэлек. *Бува́ла, былі́ бэ́лечныя гвазды́.* Вялікі Азярэцк.

**БЭ́ЛЬКА** *ж.* Драўляны брус, на які насцілаюць столь; бэлька. *Бэ́лькі кла́лі на зру́б'е.* Леснікова. *У або́ры бэ́лькі ло́жацца на патпо́ры.* Гарадзец, Багданава, Міцюкова.

**БЭНЦ** *выкл.* Бухнуцца, кінуцца. *Памыюся перад ноччу – бэнц і лягу.* Закур'е.

**БЭ́РЫ** *мн.* Сорт ігруш. *Бэ́ры – старынны сорт, плітъмі раслі на адно́й галінцы, ма́ленькуй ве́тъчкі – стрэ́сці цяшка.* Пожанькі.

**БЭХ** *выкл.* Бухнуцца, паваліцца, упасці. *Я бэх тудь́і, увалілься ў яму.* Партызаны, Вялікі Азярэцк, Каралевічы.

**БЭ́ЦА** *ж.* Гразкае, топкае месца. *Такая бэ́ца была́, гразь, торф, пра́ма ко́ні то́пяцца, гра́зна ду́жа, то́пка, ду́жа вя́ска.* Буй.

**БЮЛЮЦЕ́НЬ** *м.* Бальнічны ліст, бюлетэнь. *Прыехалі с абе́да, бюлютні прыве́злі.* Партызаны.

**БЯГУ́Н** *м.* Карова, якая ідзе на чале статка. Міцюкова.

**БЯГУ́ЧЫ** *прым.* ○ БЯГУ́ЧАЯ ВАДА́. Праточная вада. *На бягу́чай вадзе́ пуска́лі вянкі.* Дуброўкі, Закур'е.

**БЯДА́** *ж.* Двухколка-саматужка. *Бяду́ цігалі нъ сабе́ по́слі вайны́.* Закур'е.

**БЯДА́, БІДА́** *ж.* Бяда, гора, няшчасце. *Калі ку́рыца пяе́ць, то на бяду́* (прыкмета). Гарадзец, Сукрэмна. *У яе́ палучы́лася біда́ с пе́ршым ма́льчыкам.* Міцюкова. ◊ НІ БІДА́. Ну дык што ж. *То́га, ні біда́, прывязу́ць на не́калькі часо́ў.* Запруддзе, Гарадзец. ◊ БІДА́ ПА БЯДЗЕ́. Пасля аднаго няшчасця здараецца другое. *Біда́ па бядзе́ – купілі парасёнка, вы́несла малінэ́з, скры́нку, ён вы́піў і здох.* Леснікова. ◊ А БІДА́ ЯГО́ ВЕ́ДАІЦЬ (ЗНА́ІЦЬ). Невядома. *А біда́ яго́ ве́даіць, як называ́ецца.* Рулёўшчына, Рэчкі. *А біда́ яго́ зна́іць.* Запруддзе.

□ *Бяду́ на кані не аб'е́дзеш, вадо́й не пераплыве́ш.* Запруддзе. □ *Біду́ вадо́й не пераплыве́ш.* Запруддзе, Гарадзец. □ *Дзе вада́, там і біда́.* Гарадзец. □ *Адна́ біда́ ні хо́дзіць.* Каралевічы, Запруддзе. □ *І біда́ ідзе́ і другу́ю вядзе́.* □ *Нъ бяду́ паспе́іш і нъ валу́.* Каралевічы. □ *Адна́ біда́ – ні біда́.* □ *Ні хава́йся ад біды́, біда́ съма́ на́йдзіць.* □ *Біда́ пъ лясу́ ні хо́дзіць, а па людзя́х хо́дзіць.* □ *Ні сме́йся чужо́й бядзе́, свъя́ нъ градзе́!* Каралевічы. □ *Хто бяду́ пірабу́дзіць, съба́към бу́дзіць.* Каралевічы. □ *Німа́ го́ршай бяды́, як ні хле́ба, ні лібяды́.* Вялікі Азярэцк.

**БЯДАВА́ЦЬ** *незак.* Бедаваць, трывожыцца. *Не́шта ад дачкі пісьма́ даўно́ німа́: бяду́ю, каб што ні здзе́лалася.* Багданава.

**БЯДРО́** *н.* Бядро. *У бядрэ́ нага́ так балі́ць.* Буй. *Бядро́ уда́рыў.* Гарадзец.

**БЯЗБО́ЖНА** *прысл.* Безліч, шмат. *Піў бязбо́жна.* Каралевічы.

**БЯЗДЗЕ́ТНЫ** *прым.* Бяздзетны. *Гэ́тая з дзе́цьмі, а ста́ршая бяздзе́тная.* Багданава.

**БЯЗДО́ЛЛЕ** *н.* Цяжкае, гаротнае жыццё. *Бяздо́лле маё, праклінацi бу́ду.* Партызаны.

**БЯЗДЭ́НЧА** *н.* Бяздонне. *Бяздэ́нча, дзе крыні́ца.* Заазер'е.

**БЯЗМЕ́Н** *м.* Бязмен, ручныя вагі. *У бязме́на пабі́тыя то́чкі – значкі такі́я.* Вялікі Азярэцк. *Бязме́н быў, і ва́жылі на бязме́не.* Гарадзец. *Бязме́н таке́й з гълаво́й.* Сукрэмна, Нямойта. ◊ ЯК БЯЗМЕ́Н. Пра неразумнага, бесталковага чалавека. *Я ўжо як бязме́н ста́ла, дурна́я.* Заазер'е, Сукрэмна.

**БЯЛІ́ЛА** *н.* Бяльмо. *Бялі́ла на во́ку – зацягну́ла бе́лым і ня ві́дзіць.* Багданава.

**БЯЛІ́ЦЬ** *незак.* 1. Бяліць (пра палатно). *Бе́люць палатно́ і сце́люць на по́жнях.* Карпавічы, Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадок, Каралі, Фасаўшчына, Неўгадава. 2. Дадаваць малако. *Заці́рка – дзе́лаіш з мукі́, а тады́ мълако́м бе́ліш, залі́ваіш.* Заазер'е.

**БЯЛЛЁ** *н.* Бялізна. *Бяллё папасціра́ю і папала́шчу.* Ульянавічы, Багданава, Буй, Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Каралі, Партызаны.

**БЯЛЬМО́** *н.* Бяльмо. *Бяльмо́ – на глазу́: во́ка жыво́е.* Вялікі Азярэцк, Баравікі, Сукрэмна.

**БЯЛЯ́Ш** *м.* Светлавалосае дзіця. *Бяляш ты!* Апечкі.

**БЯНТЭ́ЖЫЦЦА** *незак.* Бянтэжыцца. *І ду́маць ні на́да, і бянтэ́жыцца.* Багданава.

**БЯРНО́** *н.* Бервяно. *Сту́па – вы́дзяўбуць бярно́ – кру́пы таўклі́.* Партызаны, Запруддзе, Гарадзец, Манголія, Серкуці. *Но́гі там, што бёрны былі!* Запруддзе.

**БЯРО́ЗА** *ж.* Бяроза. *Бяро́зу у нас то́лькі пъдпушча́юць. Пракру́цяць дзі́рачкі і сало́мку уто́ркнуць.* Багданава. БЯРО́ЗАНЬКА, БЯРО́ЗКА *памянш.-ласк.* Багданава, Буй, Гарадзец, Партызаны. ◊ АД БЕ́ЛАЙ БЯРО́ЗЫ ДА ЧО́РНАГА ДУ́БА. Ад краю да краю. *Цяпе́ра за ра́ння тра́ктарам узлу́пюць ад бе́лай бяро́зы да чо́рнага ду́ба.* Цясішчы.

**БЯРО́ЗАВІК** *м.* Бярозавы сок. *Бяро́завік – з бяро́зы сок.* Жохава, Багданава.

**БЯРО́ЗАВЫ** *прым.* Бярозавы. *Бяро́завыя – са́мыя лу́ччыя дро́вы.* Заазер'е. *Бяро́завая мало́жа.* Гарадок, Ракаў Засценак. ○ БЯРО́ЗАВЫ ГРЫБ. Чага, гу́ба. Серкуці.

**БЯРО́ЗКА, БЯРО́СКА** *ж.* Бярозка (расліна). *Бяро́ска – като́рая уе́цца па бу́льбі, па ўсём.* Гарадзец. *Бяро́зка кала карто́шкі расце́ць, спляце́цца, длі́нная, ро́завым цве́там цвіці́ць.* Каралі.

**БЯРО́СТА** *ж.* Бярозавая кара; бяроста. *Ён драў бяро́сту і кару́ с со́сніку драў, закрыва́ў, кап ні гнілі́ до́скі і ву́ллі.* Кішуроўшчына. *На́да схадзі́ць бяро́сты нъдра́ць.* Запруддзе. *У нас с курука́мі плату́ць ла́пці, а ў іх з бяро́сты.* Фасаўшчына.

**БЯРУ́ЧЫ** *прым.* Учэпісты; які вельмі чапляецца, бярэцца. *Сіве́ц – тръва́ бяру́чъя, за яко́е ду́жа бярэ́цца.* Леснікова.

**БЯРЭ́ЗІНА** *ж.* 1. Бяроза. *Руса́лкі ко́сы распуска́юць, калы́шъцца на бярэ́зіне.* Ракаў Засценак. 2. *толькі адз.* Будаўнічы матэрыял з бярозы. *Тапары́шча мо́жна з бярэ́зіны, кляні́ны дзе́лаць.* Жохава, Нямойта.

**БЯРЭ́ЗІНКА** *ж.* Бярозка. *Кала ха́ты бярэ́зінка была́, зязю́ліна на ёй кукува́ла.* Нямойта, Заазер'е, Міцюкова, Закур'е.

**БЯРЭ́ЗНІК** *м.* 1. Бярэзнік, беразняк. *У бярэ́зніку срэ́заў бярэ́зіну.* Нямойта, Серкуці. 2. *зб.* Бярозавыя галінкі. *Каза́ е́ла малі́ннік, бярэ́знік, лазу́.* Багданава, Міцюкова, Партызаны. 3. Бярозавы сок. *Не сало́дкі бярэ́знік – падзо́лістая зімля́.* Партызаны, Багданава.

**БЯРЭ́МІННАЯ** *ж.* Цяжарная. *Жэ́ншчыне бярэ́меннай нільзя́ сядзе́ць на паро́зе, чэраз вяро́ўкі хадзі́ць, нільзя́ като́ў, саба́к біць, абы́ на што плíва́ць.* Цясішча. *Бярэ́менная я была́ мальчы́шкай.* Галашчакіна.

**БЯСЕ́ДА** *ж.* Збор гасцей з пачастункам. *Як бясе́да йка́я, гавары́лі: про́сім за стол!* Міцюкова, Багданава, Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Каралевічы, Леснікова, Нямойта, Партызаны, Ракаў Засценак, Ульянавічы, Неўгадава.

**БЯССМЕ́РТНІК, БЕССМЕ́РТНІК** *м.* Агаткі (расліна). *Кала кла́дбішча бяссме́ртнік расце́ць.* Багданава. *Бессме́ртнік лю́біць пішча́ныя лясы́.* Міцюкова.

**БЯСХІ́ТРЫ** *прым.* Прастадушны, адкрыты. *Дачка́ така́я бясхі́трая, яна́ з усі́мі ўсё падзе́ліць.* Нямойта.

**БЯСХЛЕ́БІЦА** *ж.* Бясхлебіца. *Ай-яй, бясхле́біца была́ ў тры́ццаць васьмы́м го́дзе, нацярпе́ліся.* Савінічы, Чуцькі.

**БЯШКО́М** *прысл.* Бягом, подбегам. *Бяшко́м, бяшко́м – і ў кана́ву.* Фасаўшчына.

**ВА́БІЦЬ** *незак.* Вабіць, заманьваць. *Ва́білі ваўко́ў, за́йцуў, а лісі́ца – хі́трыя.* Нямойта.

**ВАБРАЖЫ́ЦЕЛЬНЫ** *прым.* Уражлівы. *Ён ма́ліц стро́йны, харо́шы, але́ вабражы́цельны.* Багданава.

**ВАВЁРКА** *ж.* Вавёрка. *Бе́лка пушы́стыя така́я, а вавёрка жо́ўцінькая, то́лькі ме́ншая.* Багданава, Нямойта.

**ВАГА́** *ж.* Вагі. *Вага́ – той жа бязьме́н, кантаро́к ве́шаіш на пут і ва́жыш.* Фасаўшчына, Івоні, Нямойта.

**ВАГА́ЦЦА** *незак.* Гайдацца, зыбацца. *Вага́лася бало́та.* Парэчча.

**ВАДА́** *ж.* Вада. *Пе́рвы раз як дзяцёнка купа́лі, ваду́ пат печ лілі́.* Мянюцева. *Паўрадзі́ў гурка́м дож, за́лівень такі́ быў, што у баразна́х вада́ стая́ла.* Ракаў Засценак, Багданава, Вялікі Азярэцк, Нямойта, Цясішча, Закур'е, Неўгадава. ◊ ПЯ́ТАЯ ВАДА́ НА КІСЯЛІ́. Пра далёкае сваяцтва. *Яны́ пятая въда́ на кісялі́.* Чуцькі.

□ *Абажгла́ся на малацэ́, бу́дзіш студзі́ць і на ваду́.* Запруддзе, Вялікі Азярэцк. □ *Бяло́ ні бяло́, абы́ ў вадзе́ пабыло́.* Нямойта, Савінічы, Сянно. □ *Пъд ліжа́чый ка́мінь і въда́ ні патхо́дзіць.* Нямойта.

**ВАДДАЛЁННАСЦЬ** *ж.* Аддаленасць. *У выддалённасці стъя́ў ток, у гэ́тым таку́ быў наш конь.* Міцюкова.

**ВА́ДЗІСТЫ** *прым.* Вадкі. *Це́ста ва́дзістае на пірагі́ ня йдзёт.* Заазер'е.

**ВАДЗІ́ЦЦА** *незак.* Пладзіцца, размнажацца (пра жывёлу, птушак). *У ха́ці во́дзяцца ла́стаўкі.* Фасаўшчына, Багданава, Заазер'е, Нямойта, Закур'е.

**ВАДЗІ́ЦЬ** *незак.* 1. Вадзіць. *Каро́ў краў і вадзі́ў прудува́ць.* Заазер'е, Багданава, Запруддзе. 2. Разводзіць. *Усё ўрэ́мя ваджу́ клубні́ку.* Гарадзец, Івоні. *Пчол вадзі́ць бу́ду.* Вялікі Азярэцк, Закур'е. ◊ ВАДЗІ́ЦЬ РУСА́ЛКУ. Выконваць абрад праводзін русалкі з вёскі ў жыта. *На Купа́лле руса́лку вадзі́лі.* Вялікі Азярэцк.

**ВАДЗЯНІ́СТЫ** *прым.* Вадзяны, які расце ў вадзе. *Дзе́дзвіль вадзяні́сты, шыро́кае лі́сце, як разно́е, у бало́це* [расце], *сві́нні яду́ць.* Мянюцева.

**ВАДЗЯ́НКА** *ж.* 1. Пухіры на вадзе. *Вадзя́нкі, як па вадзе́ па све́жай пахо́дзіш.* Гарадзец. 2. Пухір. *Вадзя́нка цячэ́ць, як разарва́ць.* Гарадзец, Самсоны. 3. Пасудзіна для вады. *Въдзя́нка нъ чаты́рі-пяць вядзёр вады́.* Нямойта.

**ВАДЖА́Й** *м.* Правадыр. *Той ваджа́й і́хны, гла́ўны і́хны, гляжу́ – ідзе́ць.* Багданава.

**ВА́ЖНЫ** *прым.* Важны, карысны. *Ніва́жна, кім бы ня быў, абы́ ні пръвъля́ў, хоць глі́ну ляпі́, уся́къя рабо́та ва́жнья.* Каралевічы.

**ВА́ЖЫЦЬ** *незак.* Важыць, узважваць. *Пазыча́лі хлеп, а тады́ ва́жылі нъ тапары́шча – нъ тапары́шчы насе́чка была́ на ко́нчыку і ва́жылі тъпаро́м.* Нямойта, Багданава, Гарадзец, Заазер'е, Каралевічы.

**ВАЗАВЫ́** *прым.* Прызначаны для воза (пра хамут). *Вазавы́ хаму́т – хаму́т запрага́ць каня́ ў воз.* Гарадзец, Дольдзева.

**ВАЗГРЫ́ВЫ** *прым.* Саплівы. *Во які́ дзяцёнык гра́зны і саплі́вы, то е́та вазгры́вы.* Алексінічы.

**ВАЗІ́ЦЦА** *незак.* Займацца. *Я пчол баю́ся і ні хачу́ з і́мі вазі́цца.* Івоні, Марозаўка, Нямойта.

**ВАЗІ́ЦЬ** *незак.* Вазіць. *Кръснапёрку въза́мі вазі́лі.* Пожанькі, Багданава, Гарадзец, Самсоны.

**ВАЗО́К** *м.* Выязныя сані. *Вазо́к – праязны́, на ім груз вазі́ць ня бу́дзіш.* Міцюкова, Гарадок, Нямойта, Серкуці.

**ВАЗО́ЎНЯ** *ж.* Памяшканне для вазоў і вупражы; вазоўня. *Вазо́ўню здзе́лъюць, дзе вазо́к, са́нкі, хаму́т там ста́вюць, кап ні заміна́ла, ні гніло́.* Нямойта.

**ВАЗРО́СЛЫ** *прым.* Дарослы, старэйшы. *Вазро́слы сын – у го́радзе.* Жохава, Багданава.

**ВАЙЛУ́ШАЧКА** *ж. памянш.-ласк.* Ваўнянка. *Дзет з Кішу́раўшчыны зваў вуў́нянкі вайлу́шычкі.* Партызаны.

**ВАЙНА́** *ж.* Вайна. *Бо́лей як со́рак лет вайне́.* Кавалі, Самсоны, Ульянавічы, Чуцькі, Цясішча, Дуброўкі, Неўгадава.

**ВАЙСТРАКО́М** *прысл.* Вострым краем уверх. *Ка́мінь стаі́ць вайстрако́м.* Гарадзец.

**ВАЙСТРЫ́ЦЬ, ВАСТРЫ́ЦЬ** *незак.* Вастрыць. *Вайстры́ць бруско́м касу́.* Міцюкова, Розмыслава. *Вастры́ць касу́.* Міцюкова.

**ВАЙЦЯ́ЦЬ** *незак.* Гаварыць незразумела. *Хто што гаво́рыць не па-іхняму, то вайця́іць.* Нямойта.

**ВАКЕ́ННІЦА** *ж.* Падаконнік. *Пъста́ў нъ ваке́нніцу вазо́на!* Нямойта.

**ВАКО́ЛІЦА** *ж.* Ваколіца, наваколле. *Вако́ліца ўся гъво́рыць пръ яе́.* Нямойта.

**ВАЛ** *м.* Валок сена. *Пракóс се́на разбіва́еш, варо́чаеш, су́шыш, у вал зграба́еш.* Гарадзец, Багданава, Нямойта.

**ВАЛАВО́ДЗІЦЬ** *незак.* Валаводзіць, марудна рабіць. *Што ты валаво́дзіш? Дзе́лъіш і ня дзе́лъіш!* Нямойта.

**ВАЛАВЯ́ННЫ** *прым.* Алавяны. *По́слі вайны́ ло́жкі былі́ і міскі вълъвя́нныя.* Нямойта.

**ВАЛАКІ́ДЗІЦЬ** *незак.* Валакіціць, марудна рабіць. *Дзе́лъць ня хо́чыць, а то́лькі вълакі́дзіць!* Нямойта.

**ВАЛАКІ́ТА** *ж.* Валакіта, цяганіна. *Ой, з гэ́тым се́нъм то́лькі валакі́та!* Нямойта.

**ВАЛАКІ́ЦІЦЦА** *незак.* Працаваць. *Ско́лькі тут пажы́ць асталóся, а тут валакі́ціцца на́да.* Вялікі Азярэцк.

**ВАЛАКНО́** *н.* Валакно (з канапель). *Кано́плі сушы́лі, дзе́лалі валакно́, вяро́ўкі самну́ць.* Гарадзец.

**ВАЛАКУ́ША** *ж.* Прылада для сцягвання сена і пад.; валакуша. *Дзве жэ́рдкі, на які́я кла́лі се́на і ціга́лі да сто́га. Валаку́шъмі ціга́лі се́на к сто́гу, на іх кла́лі па дзве, тры, чаты́ры вълъцэ́нькі.* Нямойта.

**ВАЛА́Н** *м.* Валан. *З вълáнъм пла́цце шы́лі.* Фасаўшчына.

**ВАЛАСА́ТЫ** *прым.* Валасаты, аброслы валасамі. *Вылъса́тыя мо́рды – во-о!* [пра маладых эстрадных выканаўцаў]. Дольдзева.

□ *Валаса́ты да валаса́тага, наса́ты да наса́тага.* Ульянавічы.

**ВАЛАСЕ́НЬ** *м.* Хвароба костачак пальцаў; валасень. *Въласе́нь на па́льцы быва́іць, як уко́ліш ці што.* Нямойта. *У па́льцы валасе́нь, па́лец рвець.* Багданава. *Въласе́нь – стуле́тнік прыклада́юць, заᵇгаᵇва́рваюць.* Ракаў Засценак, Апечкі, Леснікі.

**ВАЛАСІ́НА** *ж.* Валасіна. *Валасі́на дзе застра́ніць – не магу́, ірве́ць.* Міцюкова.

**ВАЛАСІ́ННЕ** *н. зб.* Мяккае цягучае начынне цукеркі. *Быва́е валасі́нне дліннае ў канхве́тах, сцёклачкі.* Парэчча.

**ВАЛАСЫ́** *мн.* Валасы. *Бяро́завым ве́ннікам* [вадой з веніка] *мы́лі валасы́.* Цясішча. *Распусці́ла въласы́, як руса́лка, дліныя такі́я, шэ́рыя ў яе́.* Гарадзец. ◊ ВАЛАСЫ́ СТА́ЛІ ДУ́БАМ (ДУ́БАРАМ). Пра пачуццё жаху, вялікага страху, зведанага кім-н. *Ста́лі въласы́ ду́бъм, я па́лъчкуй уда́рыў, і ён* [фосфарны чалавек]

*рассыпуўся.* Ракаў Засценак. *Дўбърам въласы́ ста́лі* [так перапалохаўся]. Ракаў Засценак.

**ВАЛАСЯ́НКА** *ж.* Валасянка (птушка). *Вълься́нка сівінькая, вядзе́цца ў кустáх, гняздó ўеець з валасóў грывы, хвыстá* [коней]. Багданава.

**ВАЛАТО́ЎКА** *ж.* Курган. *Валатóўкі ў нас з вайны́ 1812 гóда. Валатóўка клáдбішчэ ёсь, рýскія салдáты захарóнены.* Дуброўкі, Закур'е.

**ВАЛАЦНЯ́** *ж.* Капа сена. *Склáлі сéна ў валацню.* ВАЛАЦЕ́НЬКА *памянш.* *Вълацéнька сéна – дзéсіць ці дванáццаць пудóў.* Нямойта.

**ВАЛАЦУ́ГА** *агульн.* Валацуга, абібок. *Хóдзіш, як валацýга, рабóтъць ня хóчъш!* Нямойта, Запруддзе.

**ВАЛАЧО́БНІК, ВАЛАЧЭ́БНІК** *м.* Валачобнік. *Валачóбнікі хадзілі па хáтах.* Алексінічы. *На Вялікóдня хадзілі валачóбнікі.* Запруддзе, Гарадзец, Дольдзева, Леснікова, Мянюцева, Нямойта, Фасаўшчына, Чуцькі, Неўгадава. *Валачэ́бнікі на Пáску хóдзюць.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Самсоны.

**ВАЛАЧО́БНЫ** *м.* Тое ж. *Валачóбные – лю́дзі дóбрые.* Чуцькі.

**ВАЛАЧЫ́ЦЦА** *незак.* Валачыцца, ісці павольна. *Валачэ́бнічкі валачы́лісі, / Валачы́лысі, памачы́лісі, / Перайшлí мурóўку – найшлí карóўку, / Перайшлí другýю – пацярáлі тýю* (з песні). Багданава, Нямойта, Партызаны, Фасаўшчына, Чуцькі.

**ВАЛАЧЫ́ЦЬ** *незак.* Валачы, несці. *Дамóў крáдзенае вълачэ́ць і вълачэ́ць.* Нямойта, Багданава, Леснікова, Чуцькі.

**ВАЛЕР'Я́НАЎКА** *ж.* 1. Валяр'ян (расліна). *Як лох, ідзéш на Катóва, там валер'я́наўка былá.* Апечкі. 2. Настойка валяр'яну. *Валер'я́наўку купля́еш і п'еш ат сэ́рца.* Партызаны, Апечкі.

**ВАЛЁК** *м.* Кругляк, частка палена. *Адрэ́заў валёк на дрóвы.* Нямойта.

**ВАЛЁНКІ, ВА́ЛЕНКІ, ВА́ЛЕНЦЫ** *мн.* Валёнкі. *З вóўны валілі вáлінкі, і валёнкі гавóраць.* Міцюкова. *Вáлінкі с воўны, са вéчък кътáюць.* Нямойта. *Вóўну куплялі і вáленкі валілі.* Закур'е. *Як стáлі разжывáцца, стáлі вáленцы дзéлыць.* Цясішча, Вялікі Азярэцк.

**ВА́ЛІК** *м.* Мялка, церніца. *Вáлікі такія з зубáмі: два ўнізý, два навярхý – мялка кругавáя э́та.* Фасаўшчына.

**ВАЛІСІПЕ́Д, ВАЛІСІПЕ́Т** *м.* Веласіпед. *Валісіпéт мне далí, на валісіпéдзі éздзіў.* Багданава.

**ВАЛІ́ЦЦА** *незак.* 1. Падаць, не трымацца на нагах. *Ідý і валю́ся, спужáлася.* Запруддзе, Дольдзева, Нямойта, Сукрэмна. 2. Ападаць. *Ліст жаўцéіць і вáліцца. Падня́ў ліст, ён зноў вáліцца.* Буй, Фасаўшчына.

**ВАЛІ́ЦЬ** *незак.* Валіць валёнкі. *З вóўны валілі вáлінкі.* Міцюкова, Багданава, Самсоны, Фасаўшчына.

**ВАЛІ́ЦЬ** *незак.* 1. Валіць, спілоўваць (лес). *Éты лес валілі, выразáлі, распáхвалі зямлю́.* Буй, Запруддзе, Нямойта. 2. Паднімацца, густа дыміць. *Тóлькі дым вáліць трубóй.* Цясішча.

**ВА́ЛКА** *ж.* Сукнавальня, валюшня. *Рáншы ў вáлку сукнó ні пръняcéш бяз грóшы.* Запруддзе, Каралі, Неўгадава.

**ВАЛКАВА́ТЫ** *прым.* Сыраваты, сыры (пра сена). *Вълкавáтоё, сырóё сéна.* Заазер'е. *Валкавáта сéна, не склáдвай ягó.* Нямойта. *Валкавáтая сéна на ноч трэ́ба клáсці ў капéшку, кап ні сагрэ́лася.* Леснікова.

**ВАЛКА́ВЫ** *прым.* Тое ж. *Вълкáвыя сéна – дасушы́!* Запруддзе.

**ВАЛЛЁ, ВАЛЛЕ́, ВАЛЁ, ВАЛЕ́** *н.* 1. Валлё. *Валё – дзе ядá знахóдзіцца.* Буй. *Кýрыца набíла валё.* Нямойта. *Валé наéла кýрыца. Валлé ў яé, у кýрыцы.* Буй. ВАЛЮ́ШКА, ВАЛЮ́ШАЧКА *памянш. Валю́шка ў кýрыцы вісíць.* Сукрэмна, Багданава. *Снігіры́ ось,* [у іх] *крáсніцькъя валю́шычка.* Сянно. 2. Пра вялікі жывот. *Валлё наéў* [на тоўстага мужчыну]. Розмыслава.

**ВАЛО́К** *м.* Валок сена. *Валкí пераварáчвалі.* Багданава, Сукрэмна.

**ВАЛО́КА** *ж.* Мера плошчы зямлі. *Валóка былá, чаты́ры надзéлы былó ў валóцы.* Нямойта, Сукрэмна.

**ВАЛУ́Й** *м.* Валуй (ядомы грыб). *Валýй, у ягó шáпка път сябé, тóўсты кóрань.* Сянно, Нямойта.

**ВАЛЧЫ́НЫ** *прым.* ○ ВАЛЧЫ́НЫЯ ГРЫБЫ́. Неядомыя грыбы. *Шампіньёны назывáлі валчы́ныя грыбы́.* Дуброўкі.

**ВАЛЧЫ́ЦЦА** *незак. перан.* Сварыцца, лаяцца. *Янá з ім валчы́цца, ругáіцца.* Нямойта.

**ВАЛЫ́НДЗІЦЦА** *незак.* Валэндзіцца, цягацца, валачыцца. *Валы́ндзіцца пъ лясý.* Нямойта.

**ВАЛЫ́НКА** *ж.* Пра клапатлівую справу, важданіну. *Паклáсці грóшы на кнíшку – бýдзе тóлькі валы́нка зняць іх.* Нямойта.

**ВАЛЬСЫ́** *мн.* Вальцовы млын або машына, абсталяваная вальцамі; вальцы. *Сéмя малóлі вальсмí.* Кляпчэва.

**ВА́ЛЬШЧЫК** *м.* Той, хто валіць валёнкі; валюшнік. *Вáльшчык вáліць вáлінкі.* Запруддзе. *Вáльшчыкі валíлі вáлінкі, хадзíлі пъ дзіраўнях.* Нямойта, Вялікі Азярэцк.

**ВАЛЯР'Я́Н, ВІЛІР'Я́Н** *м.* Валяр'ян (расліна). *Валяр'я́н ат сэ́рца, кóрань капáюць.* Партызаны. *Залóўцы пасылáла дáйжа на Украíну вілір'я́н.* Алексінічы.

**ВАЛЯР'Я́НКА, ВАЛЕР'Я́НКА, ВІР'Я́НКА** *ж.* Тое ж. *Валяр'я́нка на балóтах расцéць.* Каралі. *Валер'я́нка па балóтах расцéць, карэ́нне нáда къпáць, сушы́ць.* Каралі. *Вір'я́нку рвáлі, карэ́нне здавáлі ў апцéку.* Багданава, Гарадзец.

**ВАЛЯ́ЦЦА** *незак.* Валяцца, ляжаць без патрэбы. *Цяпéр дýжа дóбрае ў дарóзі ні валя́ецца.* Ульянавічы, Багданава, Серкуці.

**ВАМЛЕ́ЦЬ** *зак.* Самлець, страціць прытомнасць. *Вамлéла, калí хлапýшкай лóпнулі пад нóгі.* Запруддзе.

**ВАНДРАВА́ЦЬ** *незак.* Валачыцца, цягацца. *Вандрýе – хто нéдзе хóдзіць, туля́іцца.* Фасаўшчына, Багданава, Манголія, Сукрэмна.

**ВАНІТАВА́ЦЬ** *незак.* Ванітаваць. *Ванітýіць ягó, ірвéць.* Вялікі Азярэцк.

**ВАНТРО́Б'Е** *н. зб.* Унутраныя органы, унутранасць. Вялікі Азярэцк.

**ВАНТРО́БНАСЦЬ** *ж. зб.* Тое ж. *Усю вантрóбнасць звáрым – і пад кáмень.* Марозаўка.

**ВАНТРО́БЫ** *толькі мн.* Тое ж. *Як б'еш пърасёнка, то ўсё ўнýтръныя называ́іцца вантрóбы.* Нямойта, Вялікі Азярэцк, Запруддзе.

**ВАНЮ́ЧЫ** *прым.* Ванючы, смярдзючы. *Цыбýля гнілáя да ваню́чая, чуць на сéмя вы́брала.* Багданава, Жохава, Запруддзе. ○ ВАНЮ́ЧЫ ГРЫБ. Вясёлка (неядомы грыб). *Ваню́чы грып брáлі на лікáрства.* Серкуці, Міцюкова.

**ВАПЕ́ННІЦА** *ж.* Печ для абпальвання вапны. *Вапéнніца – у гарэ́ тэй, налóжуць кáмнюў, пáлюць, палучáіцца вáпна.* Нямойта.

**ВАПЕ́ННЫ** *прым.* Вапнавы, які мае адносіны да вапны. *У нас булó камéння на пóлі вáпеннъга мнóга.* Міцюкова.

**ВА́ПНІЦЬ** *незак.* Бяліць вапнай. *Ва́пніць пе́чку ва́пнъй.* Нямойта.

**ВАР** *м.* Кіпень. *Вада́ кіпі́ць – е́та вар.* Вялікі Азярэцк. *Аблі́ць ку́рыцу ва́рам, каб сышлі́ пе́р'е.* Буй. *У вар кіда́лі клёцкі.* Нямойта, Дольдзева, Міцюкова, Рэчкі, Серкуці.

**ВАРАЖБА́** *ж.* Варажба, гаданне. *Я век жыла́ і ў варажбу́ ні ве́рыла.* Вялікі Азярэцк, Манголія, Нямойта.

**ВАРАЖБЁНЫ** *прым.* Гадальны; час, у які можна варажыць. *На Каля́ды – е́та варажбёны дзень.* Нямойта.

**ВАРАЖБІ́Т** *м.* Чараўнік. *Въражбі́ты былі́ і въражы́лі.* Запруддзе, Нямойта, Чуцькі.

**ВАРАЖБІ́ТКА** *ж.* Чараўніца. *Яе́ свякро́ва была́ варажбі́тка.* Нямойта, Запруддзе, Міцюкова, Неўгадава.

**ВАРАЖЫ́ЦЬ** *незак.* Варажыць, гадаць. *На Купа́лу пе́сні пе́лі, въражы́лі.* Парэчча, Багданава, Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Чуцькі.

**ВАРАННЁ** *н. зб.* Вараннё. *На кла́дбішчы варъннё, гнёзды там і́хнія.* Баравікі, Апечкі.

**ВАРАНЫ́** *прым.* Чорны (масць каня). *Вараны́ конь – чо́рны, аж блі́шчыць.* Сянно, Буй, Вялікі Азярэцк, Міцюкова, Нямойта, Ульянавічы.

**ВАРВА́РЫ** *мн.* Варвара; прысвятак у народна-царкоўным календары, дзень хрысціянскай пакутніцы, які лічыўся ў народзе жаночым святам.

□ *Върва́ры пълаві́на ночы́ атырва́лі.* Вялікі Азярэцк. □ *Прышлі́ Варва́ры, палаві́на (кусо́к) но́чы (ночы́) ўварва́лі.* Запруддзе, Буй, Вялікі Азярэцк, Жохава, Леснікова, Міцюкова, Партызаны, Ракаў Засценак.

**ВАРГО́ЛЫ** *мн.* Кіпень. *Варго́лы – э́та кіпято́к, закіпе́ўшы кіпято́к варго́лы называ́лісі.* Марозаўка.

**ВАРО́НА** *ж.* Варона. *Варо́н по́ўна, пціц ма́ла. І ле́тъсь ту́та на Сінаі хадзі́ў тэй во́рън, у яко́га варо́ну забі́лі с руж'я́.* Сянно, Баравікі, Гарадзец, Манголія, Нямойта, Розмыслава, Самсоны, Сукрэмна.

□ *Пъпа́ла ў въраны́, ка́ркъй, як яны́.* Партызаны, Фасаўшчына. □ *Мъкаро́ну – абы́ ні варо́ну.* Чуцькі.

**ВАРО́ННІ**, **ВАРА́ННІ** *прым.* Варонін. *Зале́зуць дзе́ці на е́лку, варо́нніх яе́ц набяру́ць, пажа́раць* [у вайну]. Баравікі. *Вара́ннія гнёзды шука́ць пайдзём.* Ульянавічы. ○ ВАРО́ННІ СЫР. Няспелая пухоўка; грыб дажджавік. Рассвет.

**ВАРО́ТЦЫ** *толькі мн.* Рашотка, якой закрываюць падпечча. *Варо́тца – кап ку́ры с-пат пе́чкі ні вылі́за́лі.* Кляпчэва.

**ВАРО́ТЫ**, **ВАРО́ЦІ** *толькі мн.* Вароты. *Варо́ты ў мяне́ зачыня́юцца на двор.* Вялікі Азярэцк, Алексінічы, Нямойта, Партызаны, Пожанькі. *Наво́з ляжа́ў у варо́цях, звязу́, каб варо́ты адчыні́ць.* Вялікі Азярэцк. ВАРО́ТЦЫ *памянш. Варо́тцы атчыні́ць трэ́ба.* Фасаўшчына. ВАРО́ЦЕЙКА *н. памянш. Пасту́калася ў варо́цейка.* Фасаўшчына, Дуброўкі.

**ВАРО́ЧАЦЦА**, **ВАРАЧА́ЦЦА** *незак.* Вяртацца. *Цяпе́р варо́чаюцца да ве́ры.* Каралевічы, Запруддзе, Нямойта. *Усё върьча́ецца ста́ръя, абду́маліся, але́ по́зна.* Заазер'е.

**ВАРО́ЧАЦЬ** *незак.* Варочаць, пераварочваць. *Дзе варо́чаў се́на, чабарку́, звераб́о́ю нарва́ў.* Івоні, Баравікі, Міцюкова, Нямойта, Розмыслава.

**ВА́РТА** *прысл.* 1. Варта, трэба. *За е́та така́я пла́та, сто́йіць, ва́рта.* Нямойта. 2. Па заслугах, так і трэба. *Слі́ба што здзе́луў, ва́рта яму́, хай пло́ціць.* Нямойта.

**ВАРТУВА́ЦЬ** *незак.* Вартаваць, ахоўваць. *Вътувáлі нóччы, кап ні загарэ́ўся хто, кап што.* Нямойта.

**ВА́РТЫ** *прым.* Годны. *Йнá вáрта свайгó чълавéка: ён рабóтнік, і йінá ня мéні.* Нямойта.

**ВАРУ́ШКА** *ж.* Вясенняя апенька (грыб). *Варýшкі – грыбы́, как апéнкі, цвет не такí.* Дуброўкі. *Варýшкі сярóд лéта растýць на пнях.* Цясішчы, Апечкі, Доль-дзева, Каралі, Міцюкова, Нямойта, Неўгадава. ВАРУ́ШАЧКА *памянш.-ласк. Дзве варýшачкі нашóў.* Партызаны. *Варýшачак стóлькі хоць касý закладáй.* Баравікі.

**ВАРУШЫ́ЦЦА** *незак.* Як заклік больш актыўна дзейнічаць. *Дувáйця варушы́цца,*[трэба] *іці нъ рабóту, рабóтъць.* Нямойта.

**ВАРУШЫ́ЦЬ** *незак.* Варочаць. *Стáлі варушы́ць сырóя сéна.* Нямойта.

**ВАРЦА́ЦЬ** *незак.* Ванітаваць, ірваць. *Мáлый рабёнък варцáіць.* Нямойта.

**ВА́РЫВА** *н.* Страва, звараная з бацвіння. *Рáншы бурáшнік лумáлі і вары́лі вáрыва.* Нямойта.

**ВАРЫЎНЯ́** *ж.* Памяшканне для захоўвання гародніны, іншых прадуктаў; істопка, варыўня. *Вырыўня́ – éта я́блакі, картóшку хранíлі.* Марозаўка.

**ВАРЫ́ЦЬ** *незак.* Варыць, гатаваць (страву). *Суп мóжна вары́ць, борщ, капýсту.* Буй. *Дзягнó вары́лі с канóпляў. Ягó стаўчэ́ш, сéілі, шълýпачкі астаюцца, у пéчы вáрыш, як смітáна, сáхър калí ёсь* [дадасі], *і блíны макáць.* Каралі, Багданава[1], Заазер'е, Запруддзе, Леснікова, Марозаўка, Пожанькі, Сукрэмна.

**ВАРЭ́ННЕ** *н.* Варэнне. *Мнóга варэ́ння вары́лі з вíшань, с парэ́чак, з агрэ́сту.* Каралевічы, Нямойта.

**ВАСІЛЁК** *м.* Валошка (расліна). *Васілёк сíненькім цвіцéць у жы́ці.* Багданава. *Васілёк, як залатýха на глáзы, на галóўку, ірвýць і кіпяця́ць.* Каралі, Алексінічы, Партызаны. ○ ДАМА́ШНІ ВАСІЛЁК. Акультураны від васілька (?). Серкуці.

**ВА́СІЛЬКА** *м.*, **ВА́СІЛЬКІ** *мн.* Тое ж. *Вáсілька ў жы́ці ёсь.* Ракаў Засценак, Нямойта, Партызаны. *Прыкáзълі ня йдзіця вáсількі рваць, а то русáлкі там.* Багданава[1].

**ВАСКАВЕ́НЬ** *м.* Мяшок для воску. *Васкавéнь – мяшóк, што давíлі воск.* Вялікі Азярэцк.

**ВАСКАТО́ПКА** *ж.* Прыстасаванне дляператопкі воску; васкатопка. *Чóрную вашчы́ну ператапля́юць і дабывáюць воск – васкатóпка.* Запруддзе.

**ВАСПАЛЯ́ЦЦА** *незак.* Запаляцца. *Въспаля́юцца глáзы – зъкáпаюць сталéтнікам.* Нямойта.

**ВАСЦЯРАГА́ЦЦА** *незак.* Засцерагацца. *Васцярагáцца пазычáць бярэ́мянныя жэ́ншчыны.* Багданава.

**ВАСЬМІНІТО́ВЫ** *прым.* Тканы ў восем нітоў. *Рушнікі васьмінітóвыя, выкладáлі бірягí.* Дуброўкі.

**ВАСЬМІНІТО́ЎКА** *ж.* Абрус, тканы ў восем нітоў. *Васьмінітóўкі ў вóсім нітóў ткáлі.* Нямойта.

**ВАСЬМІРУ́ЧКА** *ж.* Від касы. *Васьмірýчка касá дóбра кóсіць.* Нямойта.

**ВАТО́ЎКА** *ж.* Ватоўка, фуфайка. *Ватóўка былá, а цяпéрака кухвáйка.* Нямойта.

**ВАЎНАЧО́СКА, ВАЎНАЧЭ́СКА** *ж.* Машына для часання воўны; ваўначоска. *Ваўначóску здзéлаў, вóўну часáлі, разбуры́лі патóм.* Леснікова. *Меў ваўначэ́ску – вóўну часáць.* Каралевічы.

**ВАЎНЯ́НКА, ВАЎНЕ́НКА** *ж.* Ваўнянка (ядомы грыб). *Ваўня́нкі бяру́ць некато́рыя.* Багданава, Каралі. *Ваўне́нкі късма́цінькыя, мълако́* [у іх], *чарве́й у іх німа́.* Алексінічы, Латыгаль.

**ВАЎЧА́ТЫ** *мн.* Ваўчаняты. *У тым імху́ знайшлі ма́лых ваўча́т.* Багданава.

**ВАЎЧО́ВЫ** *прым.* ○ ВАЎЧО́ВЫЯ Я́ГАДЫ. Крушына. *Я́гады ваўчо́вы – крушына, як чо́рна смаро́дзіна.* Багданава.

**ВАЎЧЫ́НЫ** *прым.* ○ ВАЎЧЫ́НЫЯ ШАМПІЁНЫ. Неядомыя грыбы, падобныя на шампіньёны. Дуброўкі.

**ВАЎЧЫ́ХА** *ж.* Ваўчыха. *Ваўчы́ху з ваўчаня́тамі ў ле́се сустрэ́лі.* Багданава.

**ВАЎЧЫ́ЦА** *ж.* Тое ж. *Ваўчы́ца з вуўчанёнкам бежа́ла.* Багданава.

**ВАШЧЫ́НА** *ж.* Вашчына, пчаліныя соты. *Вашчы́на чэраз два-тры гады́ пастаіць, на́да абнаўля́ць.* Запруддзе, Вялікі Азярэцк, Каралевічы, Нямойта, Закур'е.

**ВАШЧЫ́ЦЬ** *незак.* Націраць, насычаць воскам. *Смало́й нітку вашча́ць.* Нямойта, Турава.

**ВАЯВА́ЦЬ** *незак. перан.* Супакойваць. *Ваява́ла ноч з ма́льчыкъмі е́тымі.* Ульянавічы, Вялікі Азярэцк.

**ВЕ́ДАЦЬ** *незак.* Ведаць. *Па пе́снях ужо́ ве́далі, што жы́та дажну́ць.* Багданава, Каралі, Мянюцева, Партызаны, Рассвет.

**ВЕ́ДАШНЫ** *прым.* Вядомы. *Ён ве́дашны, зна́тны чълаве́к.* Багданава.

**ВЕК** *м.* 1. Жыццё, перыяд існавання. *На наш век до́ля вы́пъла о́чань плъха́я.* Гарадзец. 2. *прысл.* Ніразу, ніколі. *Се́на ў мяне́ век ні астае́цца.* Жохава, Запруддзе, Кішуроўшчына, Цясішча. *Я век ні ў́дарыла дзяцёнка.* Каралі. ◊ ВЕК ВЯКО́М. Заўсёды, спрадвеку. *Век вяко́м так было́.* Каралевічы.

□ *На вяку́ не паспіш на баку́.* Дуброўкі. □ *Век жыць – не мех шыць.* Дуброўкі. □ *Век жыві – век учы́ся, а дурако́м памрэ́ш.* Запруддзе, Буй, Вялікі Азярэцк, Каралевічы, Леснікова, Міцюкова, Нямойта, Самсоны, Ульянавічы, Чуцькі, Неўгадава.

**ВЕ́КА** *ж.* Века, накрыўка (у дзежцы). *Е́та ве́ка ілі кры́шка.* Фасаўшчына. *Дзяжу́, што хлеп рашчыня́ць, ве́кам закрыва́лі.* Вялікі Азярэцк. *Ве́ка ў дзе́шцы.* Дольдзева, Багданава, Гарадзец, Нямойта.

**ВЕКАВА́ЦЬ** *незак.* Векаваць, жыць. *Удаве́ц, калі старэ́й, то і так вяку́іць.* Чуцькі.

**ВЕЛІКО́ДНЫ, ВЕЛЬКО́ДНЫ, ВЯЛІКО́ДНЫ** *прым.* Велікодны. *Веліко́дныя пе́сні пяём.* Партызаны. *Як пост, дык паставы́я пе́сні пе́лі, як Вялі́кдзень – вяліко́дныя.* Партызаны, Дольдзева, Карпавічы, Чуцькі. ○ ВЯЛІКО́ДНАЯ (ВЕЛЬКО́ДНАЯ) СУБО́ТА. Субота перад Вялікаднем. *У Вяліко́дную субо́ту свяцілі хлеп.* Запруддзе. *Вяліко́дная субо́та перат Па́скай. У Ве́лькодную субо́ту кап гра́знъя у Вяліко́дную субо́ту да́ ні атста́лася.* Карпавічы. ○ ВЯЛІКО́ДНАЯ НЯДЗЕ́ЛЯ. Велікодны тыдзень. *Вяліко́дная нядзе́ля дзі́лася ат нядзе́лі і да аўто́рніка.* Багданава.

**ВЕ́ЛЬМІ** *прысл.* Вельмі, надта. *Бяры́це мёт з гурка́мі, ве́льмі сма́шна.* Фасаўшчына.

**ВЕЛЬЧА́ЛЬНЫ** *прым.* Вянчальны. *Кальцо́ вельча́льнае.* Дуброўкі. *Вельча́льнае пла́цце.* Неўгадава.

**ВЕ́НА** *ж.* Крывяносны сасуд. *Ве́на ў мяне́ на па́льцу.* Нямойта, Запруддзе.

**ВЕНГЕ́РКА** *ж.* Венгерка (танец). *Ра́ньшы гуля́лі кадры́лю і лаво́ніху, і венге́рку.* Цясішча. *У нядзе́лю гуля́лі кадрэ́лю, вінге́рку і каке́тку.* Кавалі, Вялікі Азярэцк.

**ВЕ́НІК** *м.* Венік. *Ве́нікуў візáлі ть двáццаць пар.* Багданава. *Ве́нікі, што мяце́ш, так у печ спалíць, то дош бýдзіць* (павер'е). Гарадзец, Баравікі, Запруддзе, Каралі, Нямойта, Сяргейкі.

**ВЕ́РА** *ж.* Вера. *Табе́ ніхтó ні дась ве́ры, што ты бальнáя.* Каралевічы.

**ВЕРАБЕ́Й, ВАРАБЕ́Й** *м.* Верабей. *Кап вераб'і ня е́лі ячме́нь, нáда ў Къля́ды, на пе́рвый дзень Къля́д, вы́тапіць печ, кап яны́ ды́му ні пачýлі, кап ышчэ́ спáлі.* Ракаў Засценак. *Вераб'і лю́бюць канóплі.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Партызаны. *Вараб'і, як жыды́ якія, ад іх адбíцца ні мóжна.* Партызаны.

□ *Увóсень і ў вераб'я́ пíва.* Вялікі Азярэцк.

**ВЕРАПЛА́Н** *м.* Самалёт. *Стары́я ўсё късзáлі вераплáн, а ні съмалёт.* Багданава.

**ВЕ́РАС, ВЕ́РУС** *м.* Верас (расліна). *Ве́рас расце́ць у лясý.* Буй. *Ве́рус па ле́су расце́ць, сірэ́неvум цве́там цвіцíць, як е́льнічак, карóвы ядýць.* Каралі, Багданава, Запруддзе, Каралевічы, Партызаны.

**ВЕРАЦЕ́ННІЦА** *ж.* Вераценніца, гадзюка. *Вераце́нніцу не відзела.* Вялікі Азярэцк.

**ВЕРАЦЯНО́, ВЕРЦЯНО́, ВІРАЦЯНО́, ВІРЦЯНО́** *н.* 1. Вераціяно. *Верьцянó накручý, пад нóгі кíну. Прáлі ў нас нъ прáлкъх, а старýхі нъ віраце́нъх.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Заазер'е, Карпавічы, Марозаўка, Савінічы, Закур'е. 2. Вертыкальны шпень у жорнах, на які насаджваецца верхні камень. *Вірцянó, штóбы ве́рхні кáмінь ні саскóчыў.* Вялікі Азярэцк. *Верцянó у жóрнах, пáрпліца.* Марозаўка.

**ВЕРБАЛО́ЗІНА, ВЕРБАЛО́СІНА** *ж.* Вярба. *Вун ля вóзера вербалóзіна къръвáтъя стаíць.* Багданава. *Курáшкі бóлі зь вірбалóсіны мой хъзя́ін браў.* Кішуроўшчына.

**ВЕРБАЛО́С** *м.* Від вярбы. *Вербалóс нейкій е́сь.* Гарадок. Багданава, Кішуроўшчына

**ВЕ́РБНІЦА** *ж.* Вербніца; нядзеля перад Вялікаднем. *Ве́рбніца перат Пáскай.* Багданава. *За Саракóм – Ве́рбніца і Пáсха. На Ве́рбніцу ве́рбу све́цяць. Ве́рбу нясýць у цэ́ркву і све́цюць, патóм у жы́та тóркаюць, каб жы́та радзíла.* Міцюкова, Каралевічы, Ракаў Засценак, Самсоны, Цясішча.

**ВЕРЛУ́Н** *м.* Чалавек, які ўмее дагадзіць. *Зяць тóжа верлýн, так абыйшóўся ласкáва.* Парэчча.

**ВЕ́РНА** *прысл.* 1. На самай справе, абавязкова. *Нáда ш ве́рна ў бальнíцу іцí.* Заазер'е. 2. Відаць, магчыма. *Дзет на ры́бі ве́рна.* Багданава. *Бог з не́ба ве́рна скідáець такíх людзе́й* [гутарка пра экстрасэнса]. Партызаны, Буй, Гарадзец, Каралевічы, Нямойта.

**ВЕРТАВА́ЦЬ** *незак.* Заляцацца. *Вертýіць з мужыкóм.* Ракаў Засценак.

**ВЕРХ** *м.* 1. Верхняя частка чаго-н. *Даўне́й пе́чы бы́лі бяз ве́рху.* Нямойта, Вялікі Азярэцк, Міцюкова, Партызаны. 2. Верхняе адзенне. *Усё ручнóе: і ніз, і верх, ні булó лáвашнага.* Багданава.

**ВЕРХАВО́ДКА** *ж.* Сялява (рыба). *Верхавóдка мо ўскóчыць у калóдзісь.* Вялікі Азярэцк, Чуцькі.

**ВЕ́РХАМ, ВЯРХО́М** *прысл.* Вярхом. *На канí е́здзіў ве́рхам.* Нямойта, Баравікі, Цясішча. *Е́дзіць вярхóм за нáмі не́хта.* Фасаўшчына.

**ВЕ́РХНІ** *прым.* Які знаходзіцца ўверсе. *Ніжні кáмень у жóрнах, ве́рхні.* Міцюкова.

**ВЕ́РЫЦЬ** *незак.* Верыць. *Нарóд табе́ ня ве́рыць.* Леснікова, Багданава, Міцюкова.

**ВЕ́СІЛА, ВЯСЁЛА** *прысл.* Весела. *У мяне́ цяпе́р ве́сіла – пóўная хáта людзе́й.* Багданава. *Бядне́й былó, а былó дýжа вясёла.* Запруддзе, Алексінічы, Багданава, Гарадзец, Заазер'е.

**ВЕ́СЦІ** *незак.* Весці, заводзіць. *Даўне́й каро́ва це́ліцца, яе́ ў ха́ту вяду́ць.* Багданава, Запруддзе, Нямойта, Фасаўшчына. ◊ ВЕ́СЦІ ЛАТ. Рабіць належным чынам. *На́да й мълаці́ць, у тры цапы́ мълаці́лі, лат вялі́.* Заазер'е.

**ВЕ́СЦІСЯ** *незак.* 1. Пладзіцца, разводзіцца. *Къра́сі вяду́цца мно́га.* Запруддзе, Багданава, Вялікі Азярэцк, Дольдзева, Міцюкова. 2. Радзіць, не зводзіцца. *Вот яна́ шчэ вядзе́цца, бу́льба «сне́шка», да́ўнішняя.* Запруддзе.

□ *Як вядзе́цца, то і на шчэ́пку прадзе́цца, а як звядзе́цца, на веръцяно́ не прадзе́цца.* Багданава.

**ВЕСЯЛІ́ЦЦА** *незак.* Весяліцца. *Каб не весялі́ўся, даўно́ б засі́ліўся.* Каралевічы.

**ВЕСЯЛО́СЦЬ, ВЯСЁЛАСЦЬ** *ж.* Весялосць. *Весяло́сць на дзень, а ця́жэсць на век.* Каралевічы. *Вып'іш дзеля вясёласці.* Багданава.

**ВЕ́ТАХ, ВЯТО́Х** *м.* 1. Месяц у апошняй квадры, на зыходзе. *Сход ве́таха – не на́да во́ласы падраза́ць, а маладзіко́м – расці бу́дуць.* Багданава, Цясішча. 2. Месяц у першай фазе. *Узышо́ў вято́х, сярпо́к ужо́.* Багданава. ВЕТАШО́К *памянш. Веташо́к ма́ленькі, а тады́ бо́льшы.* Багданава.

**ВЕ́ТКА** *ж.* Галінка. *Пъмяло́ з ве́так сасно́вых.* Карпавічы, Ульянавічы.

**ВЕ́ТРАНКА** *ж.* Дошка, якая замацоўвае дах. *Ве́транкі ў ха́ці прыбі́, кап шыхвер ні пъдъма́ла.* Мянюцева.

**ВЕТРА́НКА** *ж.* Вятранка, ветраная воспа. *Ветра́нка апсы́пала дзіцёнка.* Нямойта.

**ВЕ́ТРАЦЬ** *незак.* Ветрыць, ачышчаць на ветры (пра збожжа). *Ве́траюць – і чы́стае зярно́ астае́цца, пасе́йкі адлята́юць.* Міцюкова. *Тады́ зярно́ ве́траіш, бярэ́ш лу́пку і ве́траіш.* Дольдзева, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Гарадок, Нямойта, Розмыслава.

**ВЕ́ХАЦЬ** *ж.* Пучок травы, якім мылі посуд; вехаць. *Іс травы́ ве́хъць.* Савінічы.

**ВЕ́ЦЕР** *м.* Вецер. *С ве́тру, с сквазняка́ прахво́ціць глаз – і ячме́нь.* Нямойта. *Как ве́цер хва́ціць, пыл сталбо́м.* Дуброўкі, Гарадзец, Запруддзе. ВЕЦЯРО́К *памянш.-ласк. Як вецяро́к дуне́ць, дык такі́ за́пах.* Запруддзе.

**ВЕ́ЦЦЕ** *н. зб.* Вецце, галінкі. *З ду́ба ве́цце хі́ба ўсё збе́рыць?* (з песні). Дуброўкі. ◊ САБІРА́ЦЬ З ДУ́БА ВЕ́ЦЦЕ. Гаварыць абы-што. *Сабіра́ць бу́дзіць з ду́ба ве́цце.* Чуцькі.

**ВЕ́ЧАР** *м.* Вечар. *Со́нца ні́ска – ве́чар блі́ска.* Запруддзе. *Ко́жды ве́чър і ко́жды дзень купа́юцца.* Каралевічы. *Вечаро́м узяла́ сало́му і ў печ пасла́ла.* Партызаны, Багданава, Вялікі Азярэцк, Ульянавічы. ◊ ДАЖДА́ЦЬ ВЕ́ЧАРА. Бажба. *Каб я ве́чара дажда́ла – усё у сваі́м дзе́ці шко́лу канча́лі.* Цясішча.

**ВЕЧАРУ́ШКІ, ВІЧАРУ́ШКІ** *толькі мн.* Вячоркі. *Вічару́шкі тыя са́мыя, што су́праткі, то́лькі ве́чарам.* Партызаны. *На вечару́шкі збе́руцца.* Закур'е, Дольдзева, Леснікі.

**ВЕЧАРЫ́НКА** *ж.* Вечарынка, гулянка з музыкай і танцамі. *Іду́ць ма́льцы і дзе́ўкі на вечары́нку.* Марозаўка, Леснікі, Нямойта, Партызаны.

**ВЕ́ЧНА** *прысл.* Заўсёды. *Ве́чна ў мяне́ ў калідо́ры вядро́ з вадо́ю.* Рэчкі. ◊ ВЕ́ЧНА ВЯКО́М. Спрадвеку. *Ве́чна вяко́м як лі́па зацвіта́ець – хо́лад.* Рэчкі.

**ВЕ́ШАЛА** *н.* Прыстасаванне для сушкі бобу, гароху і інш. *Ве́шала – боп сушы́ць.* Запруддзе, Дольдзева.

**ВЕ́ШАЦЬ** *незак.* ◊ ХОЦЬ ТАПО́Р ВЕ́ШАЙ. Дзе няма чым дыхаць. *Накуры́лі, хоць ты тапо́р ве́шай.* Серкуці. ◊ ХОЦЬ НА КІЙ ВЕ́ШАЙ. Вельмі многа. *Ай, тут баб хоць на кій ве́шай, а мужыко́ў німа́, пуўміра́лі.* Запруддзе.

**ВÉШКА** *ж.* Гронка. *Вéшкамі нáда рваць парэ́чкі.* Рэчкі, Запруддзе.

**ВÉЯЛКА** *ж.* Драўляны шуфлік для ручнога веяння збожжа пасля малацьбы; веялка. *Дабрá кýчу налóжуць і вéелкай кідáюць далёка.* Розмыслава, Гарадзец, Фасаўшчына.

**ВÉЯЦЬ** *незак.* Веяць. *Вéілі жы́та, лýччъе дабрó дáльшы ляцéла.* Каралі, Вялікі Азярэцк, Нямойта.

**ВЁРТКІ** *прым.* Вёрткі. *Вёрткі такí, бы́стры.* Багданава.

**ВÍГА** *ж.* Гнілая бульба. *Віга – гэ́та ж ні гнілáя бýльба, усё ікáя мучы́на, малóлі і éлі.* Чуцькі.

**ВІД** *м.* 1. Знешні выгляд, твар, аблічча. *Вíдам нічóга, алé неапрáтная.* Дольдзева. 2. Від, разнавіднасць. *Тры віды: пъркáн, згарóда і пляцéнь.* Фасаўшчына. *Усякага віду зверабóй.* Серкуці, Нямойта.

**ВІДАВÓЧНА** *прысл.* Яўна, відавочна. *Янó ж відавóчна, што ў другýю рэспýбліку збывáюць.* Ульянавічы.

**ВÍДЗЕЦЬ** *незак.* Бачыць. *Ня вíдзелі дзéці гóра.* Багданава, Гарадзец, Запруддзе, Каралевічы, Розмыслава, Рэчкі, Ульянавічы, Закур'е, Неўгадава.

**ВÍДНА** *прысл.* Відно, светла. *Мы праспáлі, ужó вíдна.* Серкуці. ◊ ДА ВÍДНА. Да світанку. *Да віднá з вéчара сядзéў у саткý.* Ульянавічы, Серкуці.

**ВІДНÉЦЦА** *незак.* Світаць. *Ужó віднéіцца.* Гарадзец.

**ВІДНÉЦЬ** *незак.* Тое ж. *Якáя там вяснóй ноч! – ужó залачáіць, віднéіць.* Гарадзец, Івоні.

**ВІДЭ́ЛЕЦ** *м.* Відэлец. *Вíльчкі відэ́льцъмі звáлісі. Відэ́льцы іх завýць.* Каралі. *Відэ́льцы былí, алé іх мáла пóльзъвалі.* Буй.

**ВІЖЖÁЦЬ** *незак.* Зумкаць, гудзець. *Пчалá éта віжжы́ць інáкшай.* Вялікі Азярэцк.

**ВІЗÁЛЬШЧЫЦА** *ж.* Тая, хто вяжа што-н. *Ай, вя́жыць інá, візáльшчыца харóшъя.* Багданава.

**ВІЗÁНКА** *ж.* Вязка, звязак аднародных прадметаў. *Ідзéш у лес, ламáіш красівыя вéтачкі і нясéш цэ́лую візáнку.* Карпавічы.

**ВÍКА, ВÍГА, ВÍҐА, ВІХÁ** *ж.* Віка. *Пасéіна і віка, і гарóх, усё бýдуць касíць. Яны́ рáзам пасéіны.* Фасаўшчына. *Вíгу сéілі для кармá, малацілі і éлі.* Чуцькі. *Лéтась кълa нас былá вíґа.* Гарадзец, Багданава, Жохава, Запруддзе, Каралевічы, Каралі, Сукрэмна, Фасаўшчына. *Віха – карóвам урэ́дна, як з'есць карóва, падыхáіць.* Багданава[1], Багданава.

**ВÍЛАЧКІ** *толькі мн.* 1. Вілкападобная дэталь калаўрота. *Вíлачкі – ўсе гэ́та кълa шпýлькі.* Каралі. *Нітка ідзéць у прáлцы па вілачках. У прáлцы верх – вілачкі.* Вялікі Азярэцк. 2. Раздвоены канец у нізе грабільна. *Распіліў грабíльна, здзéлуў вíльчкі.* Леснікова.

**ВÍЛАЧНІК, ВÍЛАШНІК** *м.* Ручка (дзяржанне) у вілках, вілах; вілачнік. *Вілкі паламáюцца ці вілачнік – усé рабíла.* Баравікі. *Вíльшнік у вíлках.* Рэчкі, Багданава, Сукрэмна. *Бабá вíльшнік зъклъдáла, калí пáлкі німá, каб ні атхадзíў бальшы́ навóй.* Закур'е.

**ВІЛЁК** *м.* Пранік. *Запáрваеш* [кудзелю], *паб'éш вількóм, высахнець, навівáеш на ставы́.* Апечкі.

**ВІЛІЗÍНКА, ВІЛІЗГÍНКА** *ж.* Танец. *Вілізінку танцавáлі тóлькі ўдваíх. Вілізгíнку умéла.* Самсоны.

**ВІЛІР'ЯНАВЫ**, **АВЯР'Я́НАВЫ** *прым.* 1. Які мае адносіны да валяр'яну. *Цвіця́ць вілір'янавыя ко́рні.* Алексінічы. 2. Прыгатаваны з валяр'яну. *Авяр'янавых ка́пель і тых ня́ма́.* Гарадзец.

**ВІ́ЛКА** *ж.* Развілка ў калодзежным жураўлі. Гарадок.

**ВІ́ЛКІ** *толькі мн.* 1. Вілы (сельскагаспадарчая прылада). *Чълаве́к пъдае́ць се́на вілкъмі на стох.* Леснікова. *Той гной трэ́ба ня вілкамі, а рука́мі растрэ́сці.* Багданава. *Вілкі былі капа́ць, растраса́ць, на два зубкі. Вілкі, што гной разбіва́ць.* Гарадзец, Марозаўка. 2. Прылада, з дапамогай якой ставяць у печ і вымаюць з яе гаршкі, чыгуны і пад. *Вілкамі бяру́ чугу́н.* Закур'е. 3. Развіліна, развілка. *Стоўп зь вілкъмі.* Кляпчэва.

**ВІ́ЛЫ** *толькі мн.* Вілы (сельскагаспадарчая прылада). *На вілы пъкладу́ каро́ві се́на.* Гарадок.

**ВІ́ЛЬЧЫК** *м.* Верхні стык страхі. *Вільчык са́ма, дзе саедзіняецца з аднэ́й стараны́ крыша і з другéй.* Запруддзе, Багданава, Гарадзец.

**ВІЛЯ́ЦЬ** *незак.* Махаць, біць. *Ба́цька віляець цапо́м, а я нічо́га ні ўме́ю.* Баравікі.

**ВІНАВА́ЦЬ** *незак.* Абвінавачваць. *Віну́юць Гарбачо́ва като́рые, а я ні даю́.* Заазер'е.

**ВІНАГРА́Т** *м.* Вінаград. *Вінъгра́т тро́ху накрыва́лі, ужо́ зацвіў.* Апечкі.

**ВІНАГРЭ́Д** *м.* Вінегрэт. *Здзе́лую вінагрэ́ду й пае́м.* Дольдзева.

**ВІНАКУ́РНЯ** *ж.* Бровар, вінакурны завод. *Дарма́ што бліска была́ вінаку́рня.* Закур'е.

**ВІ́НДА** *ж.* Жэрдка ў калодзежным жураўлі. *Вінда, што ў кало́дзісь па́лка, дъ яе́ вядро́ чапля́лі.* Алексінічы, Каралевічы, Фасаўшчына.

**ВІ́ННЫ** *прым.* З рэзкім смакам. *Тады́ саладу́ха ў хле́бніцы пастаіць дзень і ста́ніць така́я вінная, рэ́ская.* Багданава.

**ВІНУВА́ТЫ** *прым.* Вінаваты. *Што лю́дзі вінува́ты?* Фасаўшчына. *Я вінува́т, ка́жыць.* Багданава. *Ба́ба душо́й была́ ні вінува́та, а ён яе́ трах і забіў.* Жохава.

**ВІНЧА́ЛЬНЫ**, **ВЕЛЬЧА́ЛЬНЫ** *прым.* Вянчальны. *Сунду́к вінча́льны стаіць, за́муж ішла́ з сундуко́м.* Марозаўка, Нямойта. *Кальцо́ вельча́льнае.* Дуброўкі, Неўгадава.

**ВІР** *м.* Вір. *У віры́ бяллё мы́ла.* Запруддзе, Буй, Вялікі Азярэцк, Гарадок, Парэчча, Ульянавічы.

**ВІРАЎЧА́НЫ** *прым.* Вераўчаны, зроблены з вяроўкі. *Супо́ні былі віръўча́ныя.* Гарадзец.

**ВІРЛАВО́КІ** *прым.* Лупаты, зіркаты (пра чалавека). *Вірлаво́кія во́чы ў яе́.* Гарадзец, Багданава, Вялікі Азярэцк.

**ВІРЛУ́П** *м.* Тое ж. *Як бальшы́я во́чы – вірлу́п.* Нямойта.

**ВІРЛЫ́** *мн.* Пра нешта вялікае, пукатае (звычайна вочы). *У яе́ во́чы як вірлы́.* Вялікі Азярэцк.

**ВІРО́К**, **ВІЛЁК**, **ВІЮРО́К** *м.* 1. Прыстасаванне для звівання нітак; юрок. *Віро́к, по́тым на матавіла, прасыха́лі ніткі – з матавіла на клубо́к.* Дуброўкі. *Снава́лі вілько́м ніткі.* Апечкі. 2. Прылада для падплятання лапцей; спіца. *Ла́пці падпліта́ць віюро́к быў з ко́сці.* Буй.

**ВІРТАНУ́ЦЦА** *зак.* Вярнуцца. *Віртану́лася наза́д адна́ ад я́блані.* Нямойта.

**ВІРХА́МІ** *прысл.* Вярхом. *На ко́нях пад'іжджа́лі вірха́мі.* Нямойта.

**ВІСЕ́ЦЬ** *незак*. Вісець. *Віс́ока вісіць дзіця́ ў лю́льцы.* Каралі.

**ВІСКІ́** *мн*. Скроні. *Ко́ліць у віскі́.* Сянно.

**ВІ́СНУЦЬ** *зак*. Віскнуць, крыкнуць. *Кап хто пі́снуў, кап хто ві́снуў: усе́ паняме́лі.* Самсоны.

**ВІСО́КА** *прысл*. Высока. *Дзе віс́ока, там не ўсхо́дзіць.* Гарадзец. *Саўе́цца рой на гру́шы віс́ока.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Запруддзе, Партызаны.

**ВІСУ́ШЧЫ** *прым*. Вісячы. *А по́слі ла́нпы вісу́шчыя пъявілісі.* Фасаўшчына.

**ВІСЯЛЕ́Й** *прысл*. Весялей. *Ра́ньшы было́ вісяле́й жыць у дзярэ́ўні, хоць гало́дныя, хоць хало́дны, ну я́к-то уста́ласць ні бра́ла.* Фасаўшчына.

**ВІСЯЛУ́ХА** *ж*. Вясёлае гулянне. *Ну, вісялу́ха бу́дзіць!* Нямойта.

**ВІ́ТКА** *ж*. Скручаны лазовы ці бярозавы дубец, якім перавіваюць плот і інш. *Ві́ткі бра́лі і пляце́нь рабі́лі, піравіва́лі ві́ткамі.* Алексінічы, Леснікова, Нямойта.

**ВІТКАВА́НЫ** *прым*. Перавіты віткай. *Іна́ ш ні віткъва́нъя гэ́тъя згаро́да, іна́ ш прыбі́та.* Партызаны.

**ВІТРА́К** *м*. Вятрак. *Вітра́к быў на пъго́рку.* Багданава, Гарадок.

**ВІХ** *м*. 1. Вывіх. *Ат ві́ху, ат ро́жы, ат вужа́кі – э́тъ зъгъва́рыюць.* Запруддзе. 2. Міфічная істота. *Е́хаў віх па берага́х, па ляса́х, па зялёных луга́х – паху́хаеш і плю́неш* (з замовы). Запруддзе, Серкуці.

**ВІХА́** *ж*. Вяха, знак (указанне мяжы). *Віха́ ста́іць, каро́ў ні гані́, нільзя́.* Леснікова.

**ВІХО́Р, ВІХА́Р** *м*. Віхор, моцны вецер. *Віхо́р ча́ста хо́дзіць, пясо́к закру́ціць. Віхо́р да́йжа дрэ́ва зло́міць.* Багданава, Гарадзец, Запруддзе. *Калі́ віхо́р, ні на́да стънаві́цца ліцо́м к яму́, стънаві́ся за́дам і плюнь на яго́ ў бок.* Ракаў Засценак. *А кап твае́ ко́сці віхо́р насі́ў!* (праклён). Партызаны. *З ві́храм случа́й быў.* Міцюкова.

**ВІХО́Р** *м*. Узнятая ўверх пасма валасоў. *У каго́ два віхры́, то шчаслі́вы чълаве́к.* Нямойта.

**ВІЦІНА́Р, ЛІЦІНА́Р** *м*. Ветэрынар. *У мяне́ сын віціна́ръм.* Гарадок, Багданава, Вялікі Азярэцк. *Я ду́мала ліціна́р прые́хаў.* Чуцькі.

**ВІЦІРА́Н, ІЦІРА́Н** *м*. Ветэран. *Віціра́н ён, адзі́н ту́тацькі.* Вялікі Азярэцк. *Гэ́тым іціра́нам усё цяпе́р.* Нямойта.

**ВІЦЬ** *незак*. Віць, плесці. *У жы́та іду́ць, вянкі́ ўюць.* Алексінічы, Багданава, Буй, Дольдзева, Кавалі.

**ВІЧАРЭ́ЦЬ** *незак*. Вечарэць. *Вързза́лі лес, а тут вічарэ́іць.* Міцюкова.

**ВІШНЁВЫ** *прым*. Вішнёвы. *Вішнёвы цвет гаво́руць.* Запруддзе.

**ВІ́ШНІНА** *ж*. Вішня, асобнае дрэва вішні. *За ві́шніну, за слі́віну плаці́лі.* Фасаўшчына.

**ВІ́ШНЯ** *ж*. Вішня (дрэва). *Ві́шынь ра́зных сарто́ў было́.* Пожанькі.

**ВІ́ШЫНА** *ж*. Вішня, асобнае дрэва вішні. *Ві́шына цві́ціць, ужо́ ста́рая.* Латыгаль.

**ВО** *часц*. Вось. *Бур'я́н во, зърръста́юць бура́кі.* Запруддзе. *У Ада́муві, во йдзе вужа́к.* Міцюкова, Багданава, Гарадзец, Нямойта, Партызаны.

**ВО́БАЎ, О́БУЙ** *м*. Абутак. *І во́бъва ні было́, ла́пці пля́лі.* Багданава. *Шы́лі о́буй з брузе́нту.* Алексінічы, Замошша.

**ВО́БЖЫ** *мн*. Аглоблі ў баране, сасе. *Во́бжы – дзве жардзі́ны ў сахе́, запръга́ць къня́.* Гарадзец, Фасаўшчына.

**ВО́БЛАК** *м*. Воблака. Партызаны.

**ВО́БЛАКА** *н*. Тое ж. *Во́блака нахо́дзіць – дош бу́дзіць.* Багданава. *Е́слі во́блакі вясно́й прадаўгува́тые, зна́чыць зярно́ бу́дзіць. А е́слі кру́глые, зна́чыць картаф-*

*ляны год.* Партызаны. Запруддзе. ВО́БЛАЧКА *ж. памянш. Ма́ленькъя во́блъчка с таго́ бо́ку нъйшла́.* Ракаў Засценак.

**ВО́БМАЛЬ** *прысл.* Мала. *Цяпе́р дождже́й не даста́ць, цяпе́р во́бмаль гэ́тага ста́ла.* Партызаны, Нямойта.

**ВО́БМАРАК** *м.* Стан непрытомнасці. *Біз па́мяці была́, у во́бмарак упа́ла.* Запруддзе, Вялікі Азярэцк, Дольдзева.

**ВО́ГНІК** *м.* Хвароба, якая выклікае высыпку на губах, барадзе. *Во́гнік свярбі́ць, уся́ бъръда́, гу́бы ўсы́паны.* Запруддзе, Багданава, Міцюкова, Ракаў Засценак.

**ВО́ГНІШЧА** *н.* Месца, дзе гарэў касцёр. *Во́гнішча – дзе спалі́лі што, дзе ку́чы па́люць.* Запруддзе, Нямойта.

**ВО́ДДАЛЬ, ВО́ДАЛЬ** *прысл.* Воддаль, на пэўнай адлегласці. *Усе́т чы́рыс мяжу́ ко́сіць, не, не чы́рыс мяжу́, а так, во́ддыль.* Галашчакіна. *Сядзі́ во́ддыль но́ччы і ўві́дзіш тады́* [як нехта падыдзе]. Міцюкова. *Во́даль дзярэ́ўня Смало́ўка.* Вялікі Азярэцк. *У мяне́ во́дъль, сяро́т гаро́даў по́грап.* Нямойта, Апечкі, Багданава, Міцюкова, Партызаны, Неўгадава.

**ВО́ДКА** *ж.* Гарэлка. *То́лькі адно́: пі́ва, во́дка, а тады́ дурна́я гълъва́,* [бо] *дурна́я гло́тка.* Каралевічы.

**ВО́ЖКІ, ВО́ШКІ** *мн.* 1. Лейцы. *Запражэ́ш каня́, во́жкі ў ру́кі і паеха́ў.* Багданава, Каралевічы, Чуцькі. 2. Лейцы для паўсядзённага карыстання. *Выязны́я – так ле́йцы называ́юцца, а не выязны́я – то во́шкі.* Гарадзец, Манголія.

**ВО́ЖЫК, ЁЖЫК** *м.* Вожык. *Во́жык мышэ́й ло́віць і есь.* Гарадзец, Запруддзе. *Наду́ўся ты, як ёжык.* Вялікі Азярэцк.

**ВОЗ** *м.* Воз. *Воз мяхо́ў нало́жана.* Дуброўкі. ВАЗЁНАК *памянш. Два вазёнкі сало́мы прывёс.* Марозаўка, Нямойта.

□ *На чыі́м вазу́ (кані́) е́дзіш, таму́ і пе́сні пей.* Ульянавічы.

**ВО́ЗДУХ** *м.* Паветра. *Па́хніць, во́здух харо́шы.* Рэчкі, Запруддзе, Дольдзева.

**ВО́ЗЕРА, АЗЯРО́** *н.* Возера. *Во́зера ў канцы́ дзярэ́ўні канча́ецца.* Багданава, Запруддзе, Нямойта, Пожанькі, Турава. *Ці́ну ў во́зіры ду́жа гу́сі ядуць.* Закур'е, Неўгадава. *Там – азяро́, уні́з дзярэ́ўню спалі́лі.* Дуброўкі, Кляпчэва. АЗЯРКО́ *памянш.-ласк. На то́е азярко́ пайшо́ў.* Марозаўка, Турава.

**ВО́ЙКАЦЬ** *незак.* Войкаць, енчыць. *Во́йкала, камбіко́рм не́зашта купі́ць.* Нямойта.

**ВО́ЙЛАК** *м.* Лямец. *Во́йлък ва́люць з во́ўны.* Гарадзец.

**ВО́ЙСТРА** *прысл.* Хутка, рэзка. *Лягу́шкі ска́чуць во́йстра.* Запруддзе.

**ВО́ЙСТРЫ** *прым.* Востры. *Нош такі́ во́йстры.* Багданава, Ульянавічы, Фасаўшчына.

**ВОЛ** *м.* Вол. *Вало́ў я ні запрагу́.* Сукрэмна. ◊ ЯК <ЧОРНЫ> ВОЛ рабо́таць. З крайнім напружаннем. *Рабо́талі, як чо́рныя валы́.* Ульянавічы.

**ВО́ЛАВА** *н.* Волава. *Во́лава цяшко́е, ло́шкі вылі́ва́лі з яго́.* Запруддзе.

**ВО́ЛАС** *м.* Лёска, звітая з валасін конскага хваста; валасня. *Ву́да у шэсь въласо́ў.* Багданава.

**ВО́ЛЯ** *ж.* 1. Воля. Каралевічы. 2. Магчымасць. *Кап далі́ во́лю, мо́жа б і не разбіра́лі усё.* Ульянавічы.

□ *Дай кі́шцэ во́лю – праясі́ шча́сце і до́лю.* Вялікі Азярэцк. □ *Во́льнаму – во́ля, а дурны́м – по́ле.* Каралевічы, Вялікі Азярэцк, Запруддзе.

**ВОНЬ, ВЭНЬ** *ж.* Смурод, непрыемны пах. *Тхор як дась во́ні, ва́ніць крэ́пка.* Багданава, Нямойта. *Вэнь така́я, ды́хаць не́чым.* Ульянавічы.

**ВО́ПРАТКА** *ж.* Верхняе адзенне. *Во́прътка – ве́рхнія адзіва́ння.* Запруддзе.

**ВО́ПУХА** *ж.* Пухліна. *Ат во́пухі п'ю табле́ткі.* Запруддзе.

**ВО́ПУХАЛЬ, О́ПУХАЛЬ** *ж.* Тое ж. *О́пухаль і ста́лі бале́ць ру́кі – засту́джанне.* Партызаны.

**ВОР** *м.* Злодзей. *Варо́ў у нас не́ту, о́чань спако́йна.* Запруддзе.

□ *Не паймаў за руку́ – ні кажы́, што вор.* Ульянавічы.

**ВО́РАН** *м.* Воран. Нямойта. ◊ ЧО́РАН ВО́РАН. Аўтамашына для перавозкі рэпрэсаваных. *Чо́ран во́ран пъхапа́ець мушчы́н. Яны́ ш і ні пъваро́чваліся* [не вярнуліся дадому]. Станюкі.

□ *Во́ран во́рану во́ка не вы́дзяўбаіць.* Вялікі Азярэцк.

**ВО́РАШНА** *прысл.* Страшна. *Пярун як трэ́сне, аш во́рашна ста́ла.* Вялікі Азярэцк, Сянно.

**ВО́РКА** *ж.* Аранне. *Пае́халі на во́рку бу́льбы.* Парэчча.

**ВО́РСА** *ж.* Поўсць. *У аве́чак во́рса харо́шыя была́.* Запруддзе.

**ВО́РЧЫК** *м.* Ворчык. *У пастро́мках, што к плу́гу – каро́місел, а некато́рыя заву́ць во́рчык.* Гарадзец. *Во́рчык, зъ като́ры пастро́мкі чапля́юць.* Манголія, Алексінічы.

**ВО́РЫВА** *н.* Ворыва, узараная зямля. *Во́рыва ўзара́тъя.* Запруддзе.

**ВО́СЕМ, ВО́СІМ** *ліч.* Восем. *Збунтува́ліся і не зна́ем, калі́ міса́ет: прас дзэ́вяць, шэсць, сем, во́сем нядзе́ль.* Багданава. *У нас ёсь гару́шъчка сем-во́сім ме́труў, на ёй нічо́га ні расцу́ць, а ка́мінь на ёй ра́зный, уся́кіх сарто́ў: кра́сный, бе́лый, на зо́лъта пахо́ж.* Самсоны.

**ВО́СЕНЬ** *ж.* Восень. *Лі́павы мёд цэ́нны, пад во́сень па ве́русу бяру́ць – не такі́.* Вялікі Азярэцк.

□ *Во́сень на ра́бам (се́рым) каню́ е́здзіць.* Гарадзец, Багданава, Жохава, Запруддзе, Чуцькі, Неўгадава.

**ВО́СЕНЬСКІ** *прым.* Восеньскі. *Гуркі́ бува́юць во́сеньскія, срэ́днія, ра́ннія.* Запруддзе, Апечкі, Заазер'е.

**ВОСК** *м.* Воск. *Вашчы́ну палуча́ем, купля́ем то́лькі на воск.* Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Жохава. ◊ ЯК ВО́СКАМ САЛЛІ́ЦЬ. Зрабіць акуратна. *Ёмка тка́ла Сямёніха – як во́скам салле́ць.* Багданава.

**ВО́СПА, ОСПА** *ж.* 1. Інфекцыйнае захворванне; воспа. *Во́спа, кор – ду́жа ча́ста дзе́ці бале́лі.* Леснікі, Гарадзец, Леснікова. 2. Мазолісты нарост на скуры на нагах у каня. *Во ўсіх ко́ней ёсь о́спа.* Сянно, Замошша.

**ВО́СТРАЎ** *м.* Востраў. *Во́страў срэдзі́ во́зіра ў Багда́наві.* Запруддзе.

**ВО́СЦІ** *толькі мн.* Прылада з вострымі жалезнымі прутамі для лоўлі рыбы. *Во́сцямі шчук б'юць.* Багданава.

**ВОСЬ** *ж.* Вось. *Ра́ньшы бы́лі дзірав́яныя во́сі.* Гарадзец, Жохава.

**ВО́СЬМЕРА, ВО́СЬМІРА** *ліч.* Васьмёра. *Іх было́ во́сьмера, шэсць брато́ў.* Мянюцева. *Во́сьміра было́ ўсіх дзяце́й.* Цясішча, Гарадок, Заазер'е, Дуброўкі.

**ВОТ** *часц.* Вось. *Ка́аць* [кажуць], *вот вы́кінылісі ра́ншы мыхамо́ры, мно́га, то і грыбы́ бу́дуць.* Алексінічы.

**ВОТАЧЭ́НЬКІ, ВО́ТАЧАНЬКІ** *прым.* Вось такі маленькі, такенечкі. *Бу́льбачку се́ялі вотачэ́нькую.* Партызаны. *Бу́льба ма́лінькая, во́тачънькъя сядзі́ць.* Ракаў Засценак.

**ВО́ТРАНА, ВО́ТРЫНА** *ж.* 1. Амецце, адходы (звычайна буйныя) пры малацьбе збожжа. *Во́трына – асцяўё ад зярна́. У адхо́дах во́трана і мякі́на.* Гарадзец. *Апі-*

*халі зярно́ ат ву́сцяў, ве́траеш, во́трана астае́цца.* Розмыслава. *Во́трына крупне́йшъя, каро́вам аддава́лі, а мякі́ну бра́лі свінням.* Каралі. *Ра́ньшы запа́рвалі во́трыну у ушату.* Дольдзева, Каралевічы, Нямойта, Неўгадава. 2. Адходы пры веянні збожжа. *Як ве́траеш зярно́, во́трана астае́цца.* Розмыслава. 3. Корм для скаціны, які ўтрымлівае мякіну ці салому. *Во́трына – зъпа́руць каро́ві мякі́ну ў цэ́бар.* Каралевічы. *Во́трана, як парэ́жаш сало́му, змішаеш, дае́ш.* Дольдзева.

**ВО́ТРАНІЦА** *ж.* Месца за ёўняй, дзе ссыпалі адходы пры малацьбе збожжа. *За ёўняй быў кату́х, во́траніца, у во́траніцу мякі́ну* [клалі]. Карпавічы.

**ВО́ТЧЫМ** *м.* Айчым. *З во́тчымам узяла́ і злюбілася дачка́.* Запруддзе.

**ВОЎК, ВОЛК** *м.* Воўк. *Ко́ні събярэ́ць у ку́чу і вуўка́ ні патпу́сціць тэй конь: ён, як свісніць у но́здры, то воўк спужа́іцца.* Міцюкова, Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Запруддзе, Каралевічы, Ульянавічы, Ракаў Засценак, Сукрэмна. *Во́лкі людзе́й е́лі.* Багданава.

□ *Воўк у сваім ста́дзе аве́чак ні бярэ́ць.* Мянюцева. □ *Ваўка́ но́гі ко́рмюць.* Вялікі Азярэцк, Гарадзец.

**ВО́ЎНА** *ж.* Воўна. *Во́ўна с аве́чык. Сукно́ ткалі з во́ўны. У нас была́ бе́лая* [авечка], *то во́ўна была́, як ку́жаль.* Багданава. *Аддава́лі валіць во́ўну шупува́лам.* Вялікі Азярэцк. *Пра́сці на́да – прадзём. Во́ўну пра́ла няве́стке.* Леснікова. *Во́йлак ва́ліцца з во́ўны.* Гарадзец, Каралевічы, Каралі, Міцюкова, Сукрэмна, Самсоны, Закур'е.

**ВО́ЎЧЫ** *прым.* Воўчы. *Па грыбы́ пайшлі, а там ло́гавы во́ўчыя – касце́й по́ўненька.* Багданава. ○ ВО́ЎЧАЕ ЛЫ́КА. Дзікарослая расліна з ядавітымі пладамі. *Во́ўча лы́ка – дрэ́ва нібальшо́я.* Каралевічы. *Во́ўчае лыка красівым цвіціць.* Багданава, Дуброўкі. ○ ВО́ЎЧЫ АГІ́Р. Тое ж. *Во́ўчы агір жоўтым цве́там цвіціць.* Запруддзе. ○ ВО́ЎЧЫЯ Я́ГАДЫ. Тое ж. *Во́ўчыя я́гъды кусто́м расту́ць, я́гъды кра́сныя, дро́бныя.* Міцюкова, Багданава. ○ ВО́ЎЧЫЯ ГРЫБЫ́. Неядомыя грыбы. *Ёсь з'ядо́мыя грыбы́ і во́ўчыя грыбы́.* Рассвет.

**ВО́ЦЦІПІЛЬ, О́ТЦІПІЛЬ** *ж.* Адліга. *Чуць во́цціпіль, вылізаюць тады́ ціціру́кі са сне́гу.* Нямойта. *Со́нца со́нцам, а о́тціпілі ні віда́ць.* Багданава.

**ВО́ЧАП, О́ЧЭП** *м.* Калодзежны журавель. *Хто гаво́рыць журавель, хто – во́чъп.* Кляпчэва, Гарадзец, Міцюкова. *За о́чэпам патчэ́пішся – і паляціш.* Нямойта.

**ВО́ЧАРАДЗЬ** *ж.* 1. Чарга. *Пашла́ ў во́чарадзь ста́ла.* Кляпчэва, Багданава, Вялікі Азярэцк, Нямойта, Серкуці, Неўгадава. 2. Чарга пасвіць жывёлу. *Па во́чарадзі пасём каро́ў.* Сукрэмна, Партызаны. 3. Кулямётная чарга. *Не́мцы во́чарадзь пусці́лі – ма́тка з дзяцёнкам і павалі́ліся.* Вялікі Азярэцк.

**ВО́ЧКІ** *мн.* Вочкі на клубнях бульбы. *Во́чкі ў бу́льбы абраза́лі і садзілі ў вайну́.* Сукрэмна, Нямойта.

**ВО́ЧЫ** *мн.* 1. Вочы. *Вочмі хо́чацца ўсё зрабіць, а сіл німа́.* Партызаны, Багданава, Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Нямойта, Рэчкі, Закур'е. 2. Позірк. *Ёсь во́ка тако́е – каро́ву ня мо́жна падаіць.* Каралевічы. ◊ НІ ЗВЕ́СЦІ ВО́КА. Не заснуць. *Учъра́шнюю ноч во́ка ні звіла́.* Гарадзец. ◊ ГЛЯ́НУЦЬ АДНЫ́М ВО́КАМ. Паглядзець. *Да́йце хоць гля́нуць адны́м во́кам.* Запруддзе. ◊ ВО́ЧЫ НА ЛОБ ПАВЫЛА́ЗІЛІ. Пра вялікае здзіўленне. *Ажно́ во́чы на лоб павыла́зілі.* Розмыслава. ◊ ВО́ЧЫ НЕ ПРАСЫХА́ЮЦЬ. Злоўжываць спіртным. *П'е́ць і п'е́ць – не прасыха́юць во́чы.* Кляпчэва. ◊ САДЗІ́ЦЦА НА ВО́ЧЫ. Слепнуць. *Ко́ні ат нату́гі садзілісі на во́чы, сле́плі.* Сянно. ◊ СЛА́БЫ НА ВО́ЧЫ. Слепавокі. *Ста́ла сла́бъя на во́чы.* Баравікі. ◊ быць НА ВАЧА́Х. Побач, пад прыглядам. *Яна́ на маі́х вача́х была́.* Багданава.

**ВОШ** *ж.* Вош. *Каб табе́ во́шы жаніліся за ка́ркам!* (праклён). Запруддзе, Багданава, Міцюкова.

**ВО́ШТА** *займ.* Што. *Пра во́шта гэ́та?* Міцюкова.

**ВО́ШТА-НІБУ́ДЗЬ** *займ.* Што-небудзь. *Ён такі́ жа́дны на во́шта-нібу́дзь.* Запруддзе.

**ВО́ШЫНА** *ж.* Вош. *Цяпе́р во́шыны ні знойдзіш.* Міцюкова.

**ВРЭ́МЕМ** *прысл.* Часам. *Врэ́мем псіхане́ць.* Каралевічы.

**ВУ́ГАЛ, УГО́Л, У́ГАЛ** *м.* 1. Вугал, кут. *Тут ру́бяць, каб уго́л быў ро́ўны.* Дольдзева. *Чэ́рас уго́л тхор ла́зіў у сара́й.* Міцюкова, Багданава, Латыгаль. 2. Край. *На вугле́ жы́лі.* Нямойта, Закур'е. *Мі́сачка стаі́ць на угле́* [стала]. Міцюкова. 3. Прыстанак, месца, дзе можна жыць. *Ду́маець, што яму́ уго́л даста́нецца.* Міцюкова. ○ НЯМЕ́ЦКІ ВУ́ГАЛ. Гладкі, без выступаў вугал. *Рубі́лі ха́ты у няме́цкі ву́гал.* Міцюкова. *Дом нъ няме́цкі у́гол паста́вілі.* ○ ЧЫ́СТЫ ВУ́ГАЛ *м.* Тое ж. *Няме́цкі ву́гал ці чы́сты ву́гал – гла́ткі дзе́лаіцца.* Міцюкова. ○ ПРАСТЫ́ (ПРАСТЭ́Й) ВУ́ГАЛ. Спосаб складання зруба. *У прасты́ ву́гал зру́блены дом.* Мянюцева. *На прастэ́й ву́гал склада́лі ха́ту.* Марозаўка. *У прасты́ ву́гал дом зру́блены.* Мянюцева.

**ВУГА́ЛЛЕ, УГА́ЛЛЕ** *н. зб.* Вуголле. *Вуга́лле даюць свінням, як пол грызу́ць.* Леснікова, Міцюкова, Фасаўшчына. *То́ка да вайны́ палі́лі уга́лле.* Леснікова. *Свінням уга́лле кіда́юць, кап ні грызлі кары́та.* Міцюкова, Запруддзе.

**ВУ́ГАЛЬ, ВУГА́ЛЬ** *м.* Вугаль. *Ву́галь сасно́вы палі́лі ў го́рне.* Міцюкова, Вялікі Азярэцк. *На́да ўзяць вуга́ль.* Каралевічы. ○ ДРАВЕ́СНЫ ВУ́ГАЛЬ. Драўляны вугаль для кузні. *Ву́галь палі́лі ў ку́зні сасно́вы, драве́сны.* Міцюкова.

**ВУ́ДА** *ж.* Вуда. *Ву́дъмі ло́вюць ры́бу.* Серкуці, Багданава, Запруддзе.

**ВУДАЎЁ** *н.* Ручка (дзяржанне) у вудзе; вудзільна. *Вудаўё ў ву́дзе.* Дольдзева, Багданава, Запруддзе.

**ВУ́ДЗГАЦЬ** *незак.* Есці хутка, з апетытам. *Нъкла́ў ка́шы і ву́дзгъй ло́жкуй!* Заазер'е, Запруддзе, Самсоны.

**ВУ́ДЗІЦЬ** *незак.* Лавіць рыбу вудай. *Мой пашо́ў ву́дзіць ры́бку.* Запруддзе.

**ВУДЫ́Р** *м.* Пухір. *Вудыры́ ат крапівы быва́юць.* Вялікі Азярэцк, Нямойта, Чуцькі.

**ВУЖ, ВУШ** *м.* Вуж. *Ад вужо́ў, ад звіху і я ўме́ю дъва́ць, ад зубо́ў уме́ю.* Запруддзе. *Вуж ні куса́іцца, а вужа́ка куса́іцца.* Буй. *Вуш як паўзе́ць, на галаве́ такі́ жо́ўцінькі вяно́чак.* Багданава, Алексінічы, Гарадок, Жохава, Заазер'е, Запруддзе, Леснікова, Нямойта, Самсоны.

**ВУЖА́КА, УЖА́КА** *ж.* 1. Самка вужа. *Хто вужа́ку заб'е́ць, трэ́цяя часць грэ́ху прашча́ецца.* Самсоны. *Як укусі́ла вужа́ка бы паро́сная, лаппа́сы сінія, яд дайшо́ў да се́рца, ат трына́ццаці чалаве́к во́ду бра́лі для яго́.* Багданава, Гарадзец, Дольдзева, Запруддзе, Каралевічы, Леснікова, Нямойта, Партызаны, Ракаў Засценак, Рулёўшчына. 2. Гадзюка. *Узі́ла кърчаргу́ і пор у яе́, ду́мъла вужа́ка.* Багданава. *Ужа́ка шупі́ць, і яе́ біць на́да, шумі́ць крэ́пка.* Запруддзе. ВУЖА́ЧКА *памянш.* Міцюкова.

**ВУЖАЧО́НАК** *м.* Вужаня. *У вужа́кі трына́ццаць вужачо́нкъў было́.* Багданава.

**ВУЖО́ЎНІК** *м.* Куча, загрувашчаны сметнік. *Дзе што-не́будзь до́ўга ляжы́ць у ку́чы, то ка́жуць вужо́ўнік.* Запруддзе.

**ВУ́ЗА** *ж.* Вашчына. *Яшчэ́ ву́за ляжы́ць у ву́ллі ста́ръя.* Кішуроўшчына, Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Каралевічы, Манголія, Сянно, Фасаўшчына.

**ВУ́ЗГАЛУЎЯ** *н.* Пярэдняя частка воза. *У калёсъх ву́згалуўя за́днія і пярэ́днія ё.* Запруддзе, Гарадзец.

**ВУ́ЗКІ** *прым.* Вузкі. *Тут ву́зкъя ме́ста, ні прайці́.* Запруддзе. ВУ́ЗЕНЬКІ *памянш. У адну́ руку́ се́іць – ву́зенькая сцё́жачка бу́дзе.* Багданава, Неўгадава.

**ВУ́ЛАЧКА** *ж.* Завулак. *Пашо́ў у е́ту ву́лачку.* Запруддзе.

**ВУ́ЛЕЙ, У́ЛЕЙ, УЛЬ** *м.* Вулей. *У ву́лей се́лі пчо́лы.* Кішуроўшчына, Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Закур'е. *Гэ́та пусты́ у́лей.* Кішуроўшчына. *Э́та уль, рабо́чы уль.* Нямойта.

**ВУ́ЛІЦА** *ж.* Вуліца. *Пятро́к Давы́давіч на тэй ву́ліцы жыве́ць, то ён вам усяго́ раска́жыць.* Міцюкова, Запруддзе.

**ВУ́ЛКА** *ж.* Маленькая вузкая вуліца. *Па ву́лкі пашлі́ піскляня́ты.* Каралевічы, Запруддзе.

**ВУЛЬ-ВУЛЬ** *выкл.* Выгукі, якімі падзываюць качак, галубоў. *Вуль-вуль-вуль – так ву́тьчък заву́ць, са́ма так і гулубо́ў.* Запруддзе.

**ВУЛЬГА́РСТВА** *ж.* Непрыстойная лаянка, брыдкаслоўе. *Адна́ вульга́рства чу́іцца.* Нямойта.

**ВУМУВА́ЦЬ** *незак.* Вымываць, прыбіраць. *Перат Па́схай усё вумува́лі.* Карпавічы, Багданава.

**ВУ́НАЦЬКІ, ВУ́НАЦЬКА, ВУ́НУЦЬКА, У́НУЦЬКА, У́НІЦЬКА** *часц.* Вунь, вунь там, вось, во. *Пусты́рнік ву́ньцькі кълъ нізі́ны расце́ць.* Алексінічы. *Ву́ньцька й там і ў нас ё тако́я ж сло́ва.* Запруддзе. *Ву́нуцька ў мяне расце́ць.* Багданава. *У́нуцька пан жыу́.* Неўгадава, Манголія. *У́ніцька гніе́ць капе́ц.* Неўгадава.

**ВУНЬ, ВУН, ВУ́НА** *часц.* Тое ж. *Дубо́к бе́лым цвіці́ць, вунь у ха́це* [хрызантэмы]. Малы Азярэцк. *Вун там Ма́р'я.* Запруддзе, Заазер'е, Нямойта. *Ідзе́ць ву́на кума́.* Чуцькі, Марозаўка.

**ВУ́ПЫР** *м.* Упарты чалавек. *Ву́пыр – чълаве́к насты́рный, што ву́пыр.* Запруддзе. *Такі́ ву́пыр, што маўчы́ць, упра́мы.* Заазер'е.

**ВУ́ПЫРНЫ** *прым.* Упарты. *Ву́пырный чълаве́к, насты́рный!* Запруддзе.

**ВУ́РЗАЦЬ** *незак.* Есці энергічна, з апетытам. *Ву́рзыйіць крупе́ню біз замі́нкі.* Самсоны. *Сеу́, ой, ву́рзыйіць.* Запруддзе.

**ВУ́РНУЦЬ** *зак.* 1. Піхнуць, штурхнуць. *Як ву́рну яго́ руко́й.* Міцюкова. 2. Шпурнуць. *Як ву́рныла ны гаро́д і пабі́ла яйцо́.* Запруддзе.

**ВУ́РСТА** *ж.* Крываяная правяленая каўбаса. *Ка́шу ва́раную з дро́бных круп заміша́юць з кро́ўю і ў кішкі таўстэ́я наллю́ць, павісіць, прычарствеі́ць – ву́рста. Кусо́к – на скаваро́ду і яду́ць.* Гарадзец.

**ВУ́РУЧЫЦЬ** *незак.* Моцна балець. *Ску́лы ву́ручыла, но́ччу ня сплю.* Алексінічы.

**ВУРЧА́ЦЬ** *незак.* 1. Муркаць, мурлыкаць. *Вурчы́ць ко́шка.* Дольдзева. *Ста́ніць вурчэ́ць* [кот], *а я кры́кну, і ён маўчы́ць.* Рулёўшчына, Багданава, Жохава. 2. Варкаваць, буркаваць. *Гулубы́ сідзя́ць і вурча́ць нъ ха́ці.* Запруддзе.

**ВУСА́ТЫ** *прым.* Асцюкаваты. *Вуса́ты ячме́нь расце́.* Апечкі, Заазер'е.

**ВУ́СЕНЬ** *м.* Вусень. *Ба́бачкі атклада́юць лічы́нкі, тады́ ву́сені выво́дзяцца.* Партызаны.

**ВУ́СНА** *прысл.* Вусна. *Ву́сна мне піріда́лі, што так і так.* Запруддзе.

**ВУ́СНІНА** *ж.* Губа (чалавека). *Так распо́хла ву́сніна – зуб балі́ць.* Запруддзе, Кішуроўшчына.

**ВУ́СНЫ** *толькі мн.* Вусны. *У мяне́, як ё вудуры́, і во́чы, і ву́сны распё́рла.* Чуцькі, Запруддзе, Кішуроўшчына.

**ВУСЫ́** *мн.* 1. Вусы. *У варажбіткі вусы́ былі, як у мушчы́ны.* Міцюкова, Запруддзе. 2. Асцюкі. *У ячме́ню вусы́ даўгія.* Апечкі, Запруддзе. ВУ́СІКІ *памянш. Ву́сікі ячменя́, як высыпа́іць і налівáіць.* Партызаны.

**ВУ́ТКА** *ж.* Качка. *Разво́дзюць ву́так, гусе́й.* Багданава. *Ву́тка зне́сла яйцо́ няпе́ўнае.* Каралевічы, Багданава, Буй, Запруддзе, Кішуроўшчына, Манголія, Нямойта, Ульянавічы, Дуброўкі, Закур'е. *Куля́ецца, як ву́тка таўстáя, і на бок ідзе́ць.* Міцюкова. ВУ́ТАЧКА *памянш.-ласк. Ву́тачку забíла.* Неўгадава. ◊ ЯК У ВУ́ТКІ згарэ́ць. З'есці без наступстваў. *Гэ́та ба́ба і цыга́нкі е́сь, у яе́ як у ву́ткі згары́ць.* Сянно.

**ВУЎКУЎНЯ́** *ж.* Месца, дзе водзяцца ваўкі. *Вуўкуўня́ ў ле́сі, дзе ваўкí вяду́цца.* Багданава.

**ВУ́ХА** *н.*, **ВУ́ШЫ** *мн.* 1. Вуха. *Ня слы́шу на э́та ву́ха нічаво́, як па́лка, ву́ха.* Івоні. *Глухо́е ву́ха саўсе́м было́.* Нямойта, Гарадзец, Запруддзе, Каралевічы, Серкуці. *Ву́шы закладáе к ста́расці.* Закур'е. *За ву́шы цягну́лі, каб рос ма́лец.* Партызаны. *Ву́шы кало́лі і се́ргі ве́шълі, каб зълату́ха пръйшла́.* Нямойта. 2. Чубкі каля вушэй у птушак. *У ку́рыцы ву́шы, къра́лі, дзю́бка.* Буй. 3. Дзяржанне; прыстасаванне ў розных прадметах для больш зручнага карыстання. *У мяне́ цэ́бър з вуша́мі е́сь шчэ.* Нямойта. *Ку́біл сдзе́лаюць высо́кі, во такія ву́хі два.* Буй. ◊ УНЕ́СЦІ Ў ВУ́ШЫ. Расказаць, давесці да ведама. *Яму́ ў ву́шы ўнясу́ць, што ён прыёмны сын.* Чуцькі. ◊ БРА́ЦЦА ЗА ВУ́ШЫ. Здзіўляцца. *За ву́шы бярэ́цца: такáя любо́ў.* Міцюкова. ◊ ВУ́ШЫ ВЯ́НУЦЬ. Прыкра, непрыемна слухаць што-н. *Як ста́ніць раска́зваць – аш ву́шы вя́нуць.* Партызаны. ◊ ВУ́ШЫ НЯ СХВО́ЦІШ. Не ўсё пачуеш з таго, што нагаворана. *Нъгаво́руць плётък, што й ву́шы ня схво́ціш.* Запруддзе. ◊ ПРАПУСЦІ́ЦЬ СКРОЗЬ ВУ́ШЫ. Не звярнуць увагі. *Скрозь ву́шы самá прапусціла.* Баравікі. ◊ ХОЦЬ У ВУ́ХА ЎЛЕ́ЗЦІ. Пра нешта мяккае. *Хоць у ву́ха ўла́зяць тыя сапо́шкі – мя́кенькія.* Жохава. ◊ увідзіць ЯК СВАЕ́ ВУ́ШЫ. Ні пры якіх абставінах не (убачыць каго-, што-н.). *Увідзіш ты як сваe ву́шы.* Серкуці. ◊ пашаптáць НА ВУ́ШКА. Пад сакрэтам, ціха, каб ніхто не чуў. *Дай пашапчу́ на ву́шка.* Запруддзе.

**ВУ́ХНУЦЬ** *зак.* 1. Ударыць (пра гром). *Такі пяру́н ву́хнуў, аш сцэ́ны зъдрыжэ́лі.* Міцюкова. 2. Бухнуць, ударыць. *Бо́нба як ву́хніць, дык уся́ дзярэ́ўня грыме́ла.* Фасаўшчына. 3. Крыкнуць. *А інá і ні ву́хнула, і ні пачу́ў ніхто́.* Савінічы.

**ВУЦЁНАК, ВУЦЯНЁНАК** *м.* Качаня. *І піскляне́нка хо́чъцца дзіржáць, і вуцёнка.* Малы Азярэцк. *У аднэ́й ту́тацька быў вуцянёнак, дык саро́ка забíла.* Серкуці, Запруддзе. ВУЦЯНЁНАЧАК *памянш.-ласк. Вуцянёнъчък вы́йшуў адзíн, а ты́я замо́ркі.* Запруддзе.

**ВУЦІ́НЫ, ВУЦІ́ННЫ** *прым.* Качыны. *Вуці́ныя я́йцы крапчэ́йшыя, чым куры́ныя.* Запруддзе, Багданава, Ракаў Засценак. *Вуці́ннае са́ла ад ву́так.* Багданава.

**ВУЦЯ́К** *м.* Качар. *Вуця́к бо́льшы, а ву́тъчка ме́ншъя.* Запруддзе, Багданава, Манголія.

**ВУЦЯ́ЦІНА** *ж.* Мяса качкі. Вялікі Азярэцк.

**ВУ́ЧАНЫ** *прым.* Адукаваны, граматны. *Э́тые дзе́ці дзе́ці ўсе ву́чаные.* Запруддзе. *Дзяўчо́нка высо́кая, гра́матная, ву́чаная.* Запруддзе, Багданава.

**ВУЧЫ́ЦЕЛЬ** *м.* Настаўнік. *Вучацялí яго́ хва́ляць.* Вялікі Азярэцк.

**ВУША́К, УША́К** *м.* Вертыкальная частка дзвярной або аконнай каробкі; вушак. *Вушакí ў дзвяра́х.* Гарадзец. *Пашо́ў аса́джъваць уша́к у ха́ці.* Запруддзе.

**ВУ́ШЛЫ, У́ШЛЫ** *прым.* Кемлівы, вельмі хітры. *Ма́льцы былí ву́шлыя, то ні зіва́й, а то абчы́сцюць.* Каралевічы. *Ма́ліц-то у́шлы такí.* Серкуці, Каралевічы.

**ВЫ́БАЛЕЦЬ** *зак.* Выпасці. *Як зълату́шны, то вы́бъліць вало́сся нъ гълаве́.* Нямойта.

**ВЫБАЧА́ЦЬ** *незак.* Прасіць прабачэння. *Выбъча́йця, я ні зна́ла, по́слі е́та ня бу́дзіць.* Запруддзе.

**ВЫ́БЕГАЦЬ** *зак.* Абабегчы, бегаючы, пабыць у многіх месцах. *Дзе́ці вы́бегаюць зімо́ю бо́лей.* Міцюкова.

**ВЫБЕ́ЛІВАЦЬ** *незак.* Выбельваць. *На́да выбе́лівъць су́равесь с пълътна́.* Запруддзе, Багданава.

**ВЫ́БЕРЫ** *толькі мн.* Выбары. *Ікра́с пірат вы́берамі.* Малы Азярэцк.

**ВЫБІВА́ЦЦА** *незак.* Высякацца. *Къмя́га з дзе́ръва, то́ўстая і выбіва́еццa такéй сякéрай загну́тай.* Запруддзе.

**ВЫБІВА́ЦЬ** *незак.* Выстукваць. *Нага́мі выбіва́іць, рука́мі выдзе́лыіць* [у танцы]. Багданава, Нямойта.

**ВЫБІРА́ЦЦА** *незак.* Заканчвацца. *Вада́ ні выбіра́еццa з каля́дзеся – по́ўны і по́ўны.* Партызаны, Малы Азярэцк.

**ВЫБІРА́ЦЬ** *незак.* ◊ ВЫБІРА́ЦЬ СЦЕНЬ. Выганяць хваробу з дапамогай замовы і магічных дзеянняў. *Выбіра́йця з На́сці сцень з галавы́, з касце́й* (з замовы). Каралевічы.

**ВЫБІРА́ЦЬ** *незак.* Выбіраць. *Выбіра́ць мо́жна бу́льбу, мо́ркву, жъніха́, дзе́ўку.* Запруддзе, Багданава, Заазер'е, Леснікова, Манголія, Фасаўшчына.

**ВЫ́БІТЫ** *дзеепрым.* Забіты. *Курпа́ткі быліі вы́біты, а дзе крупа́тъчкі гікта́р з'яда́юць жуко́ў.* Сянно.

**ВЫ́БІТЫ** *дзеепрым.* Утрамбаваны, выбіты. *Пры ста́рым урэ́міні пол глінай вы́біты быў.* Багданава, Серкуці.

**ВЫ́БІТЫ** *дзеепрым.* Спрацаваны. *Я чалаве́к вы́рабатаны, вы́біты.* Вялікі Азярэцк, Партызаны.

**ВЫ́БІЦЦА** *зак.* Выйсці, выбрацца з цяжкасцямі. *Паўлітра мъліны нъбра́ла і чуць з ле́су вы́білася.* Серкуці. ◊ ВЫ́БІЦЦА З ГО́РА. Зажыць у дастатку. *Я ду́мала, век з го́ра ня вы́б'юся.* Багданава, Запруддзе. ◊ ВЫ́БІЦЦА ІЗ СІЛ. Вельмі стаміцца, аслабець, знемагчы. *З малады́х гадо́х вы́білася із сіл.* Багданава, Запруддзе, Партызаны.

**ВЫ́БІЦЬ** *зак.* Выбіць. *Нъ та́нцах гъпъка́ як даў і вы́біў мне ко́стку на назе́.* Нямойта, Запруддзе.

**ВЫ́БЛЯСНУЦЬ** *зак.* Выбліснуць. *Вы́блясніць со́нца, тады́ павя́жэм снапкі.* Чуцькі.

**ВЫБО́Р** *м.*, **ВЫБО́РЫ** *мн.* Выбар, перабіранне. ◊ НА ВЫБО́Р. З правам выбару. *Якія хо́чъця, на выбо́р.* Каралевічы.

□ *З бальшы́х выбо́раў нет ні ла́пцяў, ні або́раў.* Каралевічы.

**ВЫБРАКО́ВАЧНЫ** *прым.* Выбракаваны. *Выбрако́вачных свінне́й пръдаюць.* Багданава.

**ВЫ́БРАЦЦА** *зак.* Выбрацца. *Чуць вы́бралася, пло́ха ўбра́лі дзіля́нку, но́гі зло́міш.* Серкуці.

**ВЫ́ВАДАК** *м.* Вывадак. *Там нільзя́ высіка́ць але́шнік, там ля во́зіра пту́шкі, штоп вы́вътки вадзілісі.* Багданава, Вялікі Азярэцк.

**ВЫВАДЗІ́ЦЬ** *незак.* Выводзіць (пра птушак). *Дзве ла́стаўкі, і двое вы́вялі.* Фасаўшчына.

**ВЫ́ВАЛАЧЫ** *зак.* Выцягнуць, вывесці. *Мацi вывалакла дзяцей, немцы хату спалiлi.* Алексiнiчы.

**ВЫ́ВАЛIЦЦА** *зак.* Выпасцi. *Зуб вываліцца – з радні нехта ўмроць.* Каралевiчы, Багданава, Вялiкi Азярэцк.

**ВЫ́ВАРАЦЕНЬ** *м.* Вываранень. *Вываранень – бурай абярнула с каранём дзерава.* Багданава, Гарадок, Запруддзе.

**ВЫ́ВЕЗЦI** *зак.* Вывезцi. *Раньшы навос вывязеш i дайжа вуліцу пъдмяцеш – i ўсё на поля.* Фасаўшчына.

**ВЫ́ВЕРНУЦЦА, ВЫ́ВIРНУЦЦА** *зак.* 1. Выпасцi, вырвацца з коранем. *Дрэва вывiрнулъся, яго нi бяруць у дом, як строюцца.* Запруддзе, Мiцюкова. 2. Спрытна абмiнуць перашкоду. *Яны вывернулiся – i як далi ў пляча.* Запруддзе.

**ВЫ́ВЕСЦI, ВУ́ВЕСЦI, ВЫ́ВIСЦI** *зак.* 1. Завесцi. *Вывiлi нъ гумно, зъ гумном хадзiлi конi.* Мiцюкова, Нямойта. 2. Выседзець з яйка (пра птушак). *Пасадзiў курыцу на яйца, цiплят вувела.* Жохава, Леснiкова, Неўгадава. 3. Праспяваць, выцягнуць голасам. *Я мацiў так вывесцi не магу.* Каралевiчы.

**ВЫ́ВIСКА** *ж.* Раўнавага шаляў. *Здзелъйця вывiску правiльную.* Запруддзе.

**ВЫ́ВУДЗIЦЬ** *зак. перан.* Выпрасiць, выманiць. *Усё вывудзiць у яе: сала цi капейчыну.* Мiцюкова.

**ВЫВЯ́ЗВАЦЬ** *незак.* Вывязваць. *Вывязвала так, у вайну пабралi.* Баравiкi.

**ВЫ́ГАБЛЯВАЦЬ** *зак.* Выгабляваць. *Трэба выгъбляваць габлюшком гладзiнька.* Запруддзе.

**ВЫ́ГАДА** *ж.* 1. Карысць. *Цяпер усе выгаду шукаюць.* Сукрэмна, Запруддзе, Дольдзева. 2. Вельмi добра. *Цяпер выгада жыць.* Дуброўкi, Багданава, Фасаўшчына, Чуцькi.

**ВЫ́ГАДАВАЦЬ** *зак.* 1. Выгадаваць, выхаваць. *Я сумею бяз бою дзяцей выгадаваць.* Запруддзе, Цясiшча. *Птушкi пяюць, пъка дзяцей выгъдаюць.* Гарадзец. 2. Выкармiць, вырасцiць. *Выгъдъйiць свiннёнка, i сала ё.* Цясiшча.

**ВЫ́ГАДНА** *прысл.* Выгадна. *Выгадна там жыць.* Запруддзе.

**ВЫ́ГАН** *м.* Выган. *На выган выгнала карову.* Запруддзе, Багданава, Гарадок.

**ВЫ́ГАНЬ** *ж.* Тое ж. *Па тэй выганi коровы iдуць.* Багданава.

**ВЫГАНЯ́ЦЬ** *незак.* 1. Выганяць (пра жывёлу). *Выгъняць кароў у поля.* Запруддзе, Савiнiчы, Цясiшча. 2. Праганяць. *Каб прыйшла якая разумная, нi выгъняў бы, а так нi хачу* [пра жанiцьбу]. Рэчкi, Багданава, Запруддзе, Савiнiчы, Закур’е.

**ВЫ́ГАРАДЖАНЫ** *дзеепрым.* Агароджаны. *Пад акном у каго бываiць выгараджаны палiсаднiк.* Заазер’е, Багданава.

**ВЫ́ГАРАДЗIЦЬ** *зак.* Абгарадзiць, загарадзiць. *Стойла для цiлят выгърьдзiлi, а дажджы, то грась пъ калена, яны ня хочуць туды iцiць.* Баравiкi, Запруддзе.

**ВЫ́ГАРАДЗЬ** *ж.* Загароджанае месца каля кароўнiка, канюшнi. Самсоны.

**ВЫ́ГАРАДКА** *ж.* Агароджанае месца для дзённай дойкi кароў. *Былi выгараткi здзелалi* [каб днём даiць кароў], *а цяпер нiчога* [няма]. Вялiкi Азярэцк.

**ВЫГАРА́ЦЬ** *незак.* Выгараць, гiнуць ад спёкi. *Выгъраiць на глiнi пасеў.* Запруддзе, Леснiкова, Марозаўка, Партызаны.

**ВЫ́ГАРКА** *ж.* 1. Выгаралае месца. *Выгарка – дзе выгъръць зiмля, торх.* Гарадок. *Дзе якая выгарка, ляцiш, каб слаць лён.* Запруддзе. *Пасля, як вымачуць пражу, на выгарку нясуць.* Вялiкi Азярэцк. 2. Яма, запоўненая вадой; балотца. *Выгарка – такая калдобiна ў зямлi, вада стаiць.* Партызаны. *Выгарка – iдзе*

*лўжа замёршая, мы ў школу як ідзём, разгонімся і коўзаліся.* Дольдзева. *Скуты вымачъвълі па выгъркъх і спалі.* Савінічы. *Ідзём каля выгаркі – вутка ляціць.* Ульянавічы, Нямойта. 3. Копанка, сажалка. *Тая выгарка* [ля хаты] *высыхла, німа вады.* Запруддзе.

**ВЫ́ГАРНАЦЬ** *зак.* Выграбці. *Жар выгарніш, аірам пасцэліш і засодзіш хлеп.* Неўгадава, Запруддзе, Фасаўшчына.

**ВЫГА́РТАЦЬ** *незак.* Выграбаць. *Выгартаеш чапялой жар наперад, каб запякаўся хлеп.* Міцюкова.

**ВЫ́ГАФТАВАЦЬ** *зак.* Вышыць. *Я выгафтую табе, а ты вяжы.* Савінічы.

**ВЫГІНА́ЦЬ** *незак.* Загінаць, рабіць, надаючы выгнутую форму. *Выгіналі доскі, дзелалі лоткі зімой.* Дольдзева, Леснікова.

**ВЫГЛЯДА́ЦЬ** *незак.* Выглядаць, мець выгляд. *Дзед слабей выглядае за бабу.* Манголія.

**ВЫ́ГЛЯДЗЕЦЬ** *зак.* Разгледзець. *Ачкі надзела, выглядзела яго харашо.* Міцюкова, Запруддзе.

**ВЫ́ГЛЯДЫ** *толькі мн.* 1. Агледзіны. *Бацька ў выгляды прыіжджаў, такі пъляк!* Рэчкі. 2. Падгледзіны. *Выгляды – як мъладую выглядваюць.* Нямойта, Запруддзе, Рэчкі. ◊ У ВЫГЛЯ́ДЫ хадзіць. Прыходзіць, каб паглядзець на немаўля. *Хадзілі ў выгляды. Хлопцавы бацькі і маладухіны прыхадзілі. Бацькі хадзілі ў выгляды глядзець.* Леснікі.

**ВЫГО́ННАЕ** *н.* Пачастунак для пастуха. *Пастуху выгоннъга дъвалі.* Чуцькі.

**ВЫГО́ННАЯ** *ж.* Тое ж. *На Юр'я выгонную пастуху выносілі.* Гарадзец.

**ВЫГРАБА́ЦЬ** *незак.* Выграбаць. *Выграбаіш попіл і – на агарот.* Багданава, Запруддзе.

**ВЫ́ГРЫЗЦІ** *зак.* Выгрызці, з'есці ўсё. *Выгрызуць цяляты ўсё да зямлі.* Цясішча.

**ВЫ́ГУДУЦЦА** *зак.* Выгадавацца, вырасці разам. *А эта мае сябры, я з імі рос, выгудуўся.* Серкуці.

**ВЫДА́ТАК** *м.* Частка, пэўная колькасць чаго-н. *Іна мне выдатък выдзіліла пумідор.* Запруддзе.

**ВЫДА́ТНЫ** *прым.* Выдатны, цудоўны. *Выдатны мой сын, пумъгаіць.* Запруддзе.

**ВЫ́ДЗЕЛАЦЬ** *зак.* Выпацкаць. *Карова ўсю мяне выдзелала ў грязь.* Запруддзе.

**ВЫ́ДЗЕЛАЦЬ, ВЫ́ДЗІЛАЦЬ** *зак.* Вырабіць. *Выдзелъюць авеччую скуру.* Нямойта. *Лошкі самі выдзілъюць, як ляльку.* Неўгадава.

**ВЫ́ДЗЕРЖКА** *ж.* Вытрымка. *Выдзержку бальшую дзяржыць.* Нямойта.

**ВЫДЗІРА́ЦЬ** *незак.* 1. Выдзіраць. *Ласка ходзіць, шэрсць выдзіраіць у каровы.* Багданава, Жохава, Запруддзе. 2. Даставаць (мёд з калоды). *Выдзіраюць мёт – аткрываюць і выдзіраюць.* Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Леснікова.

**ВЫ́ДЗІРЖАЦЬ** *зак.* Вытрымаць. *На маёй жысці ніхто п ні выдзіржаў.* Нямойта, Цясішча, Закур'е.

**ВЫДЗЯ́ЎБЫВАЦЬ** *незак.* Выдзёўбваць. *Каромысел выдзяўбываюць.* Каралевічы.

**ВЫ́ДРА** *ж.* 1. Выдра. *Выдра водзіцца ў вадзе.* Багданава. 2. *лаянк.* Пра злую, сварлівую жанчыну. *Калі жанчына злая, яе выдрай клічуць ці ведзьмай.* Багданава.

**ВЫ́ДРАІЦЬ** *зак.* Вымыць. *Мост вымаіш, выдраіш, паложыш аіру ў ёлачку, красіва.* Карпавічы.

**ВЫ́ДРАЦЦА** *зак.* Вылезці. *Уваліцца ў тую яму, а аттуль не выдзерыцца.* Вялікі Азярэцк.

**ВЫ́ДРАЦЬ** *зак.* Вырваць. *Кап ёй во́чы каршу́н так вы́драў!* (праклён). Багданава, Рэчкі, Сянно.

**ВЫ́ДУМКА** *ж.* Выдумка. *Гэ́та вы́думка стары́х баб.* Партызаны.

**ВЫДЫМА́ЦЬ** *незак.* Выдзімаць. *Ста́ла выдыма́ць ве́тръм пыл, дзе ні́ва, усю зямлю ве́тръм вы́нісла.* Запруддзе.

**ВЫ́ЕХАЦЬ, ВЫ́ІХАЦЬ** *зак.* Выехаць, з'ехаць. *Тут была́ не́йкая мітрэ́нга, і яны́ вы́ехалі ў Сібі́р, а там радзі́лі і Гарбачо́ва.* Фасаўшчына. *Ён за ноч вы́іхаў, уцёк.* Заазер'е, Кляпчэва.

**ВЫ́ЖАЎЦІЦЬ** *зак.* Зрабіць жоўтым. *Вы́жаўціла дом кра́скуй жо́ўтуй.* Запруддзе.

**ВЫЖЫГА́ЦЬ** *незак.* Выпальваць. *Урэ́скі намо́чыш у по́пілі і на по́жню бялі́ць, со́нца выжыга́іць.* Закур'е.

**ВЫ́ЖЫЦЬ** *зак.* Выжыць, застацца жыць. *Яе́ бі́лі, а іна́ вы́жыла.* Запруддзе.

**ВЫ́ЖЫЦЬ** *зак.* Зжаць. *Вы́жыла хара́шо́, мно́га жы́та жжа́ла.* Запруддзе, Багданава.

**ВЫ́ЗВАЛІЦЬ** *зак.* 1. Вызваліць. *Там і вы́звалілі нас у тым ла́геры.* Ульянавічы. 2. Дапамагчы. *Вы́зваліць мяне́ хо́ча чълаве́к, пазы́чуў.* Запруддзе.

**ВЫ́ЗНАЧЫЦЬ** *зак.* Выдзеліць. *Вы́значылі мне каро́ву, а я ш се́на не накасі́ла.* Вялікі Азярэцк.

**ВЫ́ЗРАЦЬ** *зак.* Выспець (пра нарыў і да т. п.). *Сам вы́зраў па́лец і ло́пнуў.* Неўгадава.

**ВЫЗЫВА́ЦЬ, ВЫЗАВА́ЦЬ** *незак.* 1. Выклікаць. *Ле́тась вызыва́лі, ні ўзя́лі сы́на ў а́рмію.* Багданава. 2. Клікаць. *Мой та́та вызава́ў ваўка́ ў трубу́.* Багданава.

**ВЫ́ІСЦІ** *зак.* Выесці. *Мы́шы вы́ілі дзі́рку і ла́зілі ў ха́ту.* Запруддзе.

**ВЫ́ЙГРАЦЬ** *зак.* Выйграць. *Як вы́йгралі гро́шы, сра́зу стаў стро́іцца.* Рэчкі.

**ВЫ́ЙЦІ** *зак.* 1. Выйсці. *Вы́йці на ву́ліцу ні было́ ў чым.* Запруддзе, Гарадзец. 2. Пакінуць месца знаходжання. *Вы́йдзіць з цюрмы́ і зноў у цюрму́.* Рубежніца. 3. Стаць жонкай каго-н. *Мая́ сястра́ вы́йшла за́муж за папо́вага сы́на.* Багданава, Нямойта. 4. Споўніцца (пра пэўную колькасць гадоў). *Год вы́йшаў дзіцёнку, і жо́нка пайшла́ рабо́таць.* Запруддзе. 5. Атрымацца. *Не вы́йшла мне, а я хаце́ла купі́ць.* Запруддзе.

**ВЫКАБЕ́ЛІВАЦЦА** *незак. экспр.* Дурачыцца, паводзіць сябе непрыстойна. *Выкабе́ліваліся, а што было́ дзе́лаць.* Чуцькі.

**ВЫ́КАЗАЦЬ** *зак.* Паведаміць, данесці (аб чым-н.), выдаць (каго-н.). *Яўрэ́і ўзя́лі і вы́казалі, чаго́ ён дабіва́ецца.* Самсоны, Запруддзе.

**ВЫ́КАНЬКАЦЬ** *зак.* Выпрасіць. *У ма́ткі гро́шы вы́канькала.* Запруддзе.

**ВЫ́КАПАЦЦА** *зак.* Набыць прыстойны выгляд. *Вы́капаўся, аблюдне́ў той, што въласа́ты бы́ў.* Партызаны.

**ВЫ́КАПАЦЬ** *зак.* Выкапаць. *Кало́дзіш вы́кънъў пъд вакно́м, кап далёка ваду́ ні насі́ць.* Неўгадава, Каралі, Леснікова, Турава.

**ВЫ́КАРМІЦЬ** *зак.* Выкарміць. *Біз мукі́ ня вы́карміш къбъна́.* Буй, Фасаўшчына.

**ВЫ́КАРЧАВАНЫ** *дзеепрым.* Выкарчаваны. Буй.

**ВЫ́КАРЧАВАЦЬ** *зак.* Выкарчаваць. *Вы́карчъвалі сат, ён цвіці́ць вы́карчаваны.* Буй.

**ВЫ́КАТАЦЬ** *зак.* Выбраць (пра мёд). *Ле́там мёд вы́каталі і прадава́лі.* Латыгаль, Нямойта.

**ВЫ́КАЦІЦЦА** *зак.* Выкаціцца. *Вы́каціўся клубо́к.* Багданава.

**ВЫ́КАЧАЦЬ** *зак.* Выкачаць, разгладзіць. *Вы́качаеш палатно́, аш гла́дзенькая.* Багданава.

**ВЫКА́ШВАЦЬ** *незак.* Выкошваць. *Да поўвасьмо́га выка́швала ніўку.* Партызаны.

**ВЫ́КАШЛЯЦЬ** *зак.* Адкашляць. *Бра́лі са́хар, палёны, лілі шкіпіда́р на са́хар, лілі керасін, паку́ль сваё ня вы́кашляіць – як ко́хлік у дзяцёнка.* Гарадзец.

**ВЫКІДА́ЦЦА** *незак.* З’яўляцца, вырастаць (пра грыбы). *Вару́шкі выкіда́юцца сяро́т ле́та.* Неўгадава, Багданава, Баравікі, Дольдзева, Рудніца.

**ВЫКІДА́ЦЬ, ВЫКІ́ДАЦЬ** *незак.* Выкідаць. *Ні выкіда́йці пра́лку!* Неўгадава, Багданава, Гарадзец, Гарадок, Заазер’е, Нямойта, Партызаны. ◊ ВЫКІ́ДАЦЬ НА ВЕ́ЦІР. Дарэмныя выдаткі. *Купля́ла абрыко́сы пъ два рублі́ – рублі́ на ве́цір выкі́дыіш.* Рулёўшчына.

**ВЫКІ́ПЛІВАЦЬ** *зак.* Выкіпаць. *Выкіпліваіць варэ́нне.* Дуброўкі.

**ВЫ́КЛАСЦІ** *зак.* Кастрыраваць. *Як вы́кладуць, так конь.* Рассвет.

**ВЫ́КЛЕІЦЬ** *зак.* Паклеіць. *Пусці ў ха́ту, мы табе́ столь па́мыім, сцэ́ны вы́клеім.* Партызаны.

**ВЫКЛІНА́ЦЬ** *незак.* Клясці. *Ма́тка вы́шла, ста́ла выкліна́ць: нашто́ ты лама́еш, каб цябе́ злама́ла.* Запруддзе.

**ВЫ́КРУЦІЦЬ** *зак.* Станцаваць з выкрутасамі. *Любіла по́льку вы́круціць.* Багданава.

**ВЫКРУ́ЧВАЦЦА** *незак. перан.* Знаходзіць выйсце. *Выкру́чваіцца, е́здзіць да Размысло́ва.* Нямойта.

**ВЫКРУ́ЧВАЦЬ** *незак.* Моцна балець. *Су́дырга як во́зьміць, так выкру́чваіць.* Нямойта.

**ВЫ́КРЫШЫЦЦА** *зак.* Выкрышыцца. *Якра́з вы́крышыўся зуб.* Нямойта.

**ВЫКУІ́РАВАНЫ** *дзеепрым.* Эвакуіраваны. *Іна́ ў нас жыла́, гэ́та ма́тушка, іна́ была́ выкуі́раваная.* Буй.

**ВЫКУЛІ́РАВАЦЬ** *незак.* Эвакуіраваць. *А нас выкулі́равалі тады́.* Буй.

**ВЫ́КУП** *м.* Выкуп. *Вы́куп прынялі.* Сянно.

**ВЫ́КУРАЦЦА** *зак.* Выкурыць увесь тытунь. *Вы́куралася ўсё.* Міцюкова.

**ВЫ́ЛАГЧЫЦЬ** *зак.* Выжлукціць, выпіць. *Вы́лагчыць стака́н – п’ець так.* Баравікі.

**ВЫЛА́ЗІЦЬ, ВЫЛЯЗА́ЦЬ** *незак.* 1. Вылазіць. *Стральба́ абра́тна нъчъла́ся, выла́зюць гені́ралы с на́шай стъраны́.* Івоні, Гарадзец, Кішуроўшчына, Леснікова. 2. *перан.* Паднімацца, выступаць адкуль-н. *Хлеп з дзяжы́ вылязаіць.* Каралі. ◊ ВЫЛА́ЗІЦЬ ДУХ. Адчуваць сябе вельмі стомлена. *Валачу́ я е́та се́на, дух выла́зіць.* Чуцькі. ◊ ВЫЛА́ЗІЦЬ З КО́ЖЫ. Старацца з усіх сіл. *А вы с ко́жы выла́зіце, ну вы́лізьце, а рабо́таць на́да.* Каралевічы.

**ВЫ́ЛАМАЦЬ** *зак.* Выламаць. *Дзве́ры вы́ламалі і гэ́тыя сту́лы забра́лі.* Леснікова, Алексінічы.

**ВЫ́ЛЕЖАЦЦА** *зак.* Вылежацца, улежацца (пра лён і пад.). *Вы́лежыцца лён, а тады́ на ёўню со́дзюць, мнуць у мя́лку.* Багданава. *Сыро́е ле́та – бы́стра вы́лежыцца лён.* Каралі, Закур’е.

**ВЫ́ЛЕЗЦІ, ВЫ́ЛІЗЦІ** *зак.* 1. Вылезці. *Кап табе́ во́чы вы́лезлі!* (праклён). Вялікі Азярэцк, Багданава. 2. Выпасці, застацца без вока. *Як ні дасі ко́ка, вы́лізіць табе́ во́ка* (з песні). Дольдзева. ◊ ВЫ́ЛЕЗЦІ БО́КАМ. Кепска кончыцца для каго-н., не прайсці бясследна. *Вы́лезець табе́ е́та бо́кам.* Запруддзе.

**ВЫ́ЛІВАК** *м.* Вылівак. *Ку́рыца вы́лівак знéсла, зажырэ́ла.* Запруддзе.

**ВЫЛІВА́ЦЬ** *незак.* Выліваць. *Въдá сóрък дней стаíць, а тады́ вылівáюць нъ зáхъд сóнца.* Закур'е, Багданава.

**ВЫЛІТА́ЦЬ** *незак.* ◊ ВЫЛІТА́ЦЬ З ГАЛАВЫ́. Забываць. *Усё вылітáіць з гълавы́.* Кішуроўшчына.

**ВЫ́ЛІЧЫЦЦА** *зак.* Вылечыцца. *Вы́лічысся ім, гры́бам, як сарóка на кóліку нася́дзіць.* Серкуці.

**ВЫ́ЛУПІЦЬ** *зак. перан.* Узяць. *Што ты з ягó вы́лупіш калі-штó.* Багданава.

**ВЫЛУ́ПЛІВАЦЬ** *незак.* Выдзіраць. *Дрэ́вы вылу́пліваюць з каранём віхры́.* Запруддзе.

**ВЫ́ЛУЧЫЦЦА** *зак.* Выбрацца ў госці. *Я вот ніяк ні вы́лучусь.* Леснікі.

**ВЫ́ЛЯНАВАЦЬ** *зак.* Выліняць (пра птушак, жывёлу). *Ку́рыца не вы́лянавала.* Багданава.

**ВЫМАГА́ЦЬ** *незак.* Старацца рабіць што-н. *Ты с паслéдняга вымагáй, а давáй.* Багданава.

**ВЫ́МАКНУЦЬ** *зак.* Вымакнуць. *Вы́мак як ку́рыца.* Вялікі Азярэцк.

**ВЫ́МАЛІЦЦА** *зак.* Намаліцца. *Вы́мъліцца, а тады́ красць пóйдзіць.* Запруддзе.

**ВЫ́МАНІЦЬ** *зак.* Выманіць, выпрасіць хітрыкамі, падманам. *Дъвáй пъгъдáю гавóрыць. Кінула мне на кáрты. І ўсё прóсіць: то сáла, то рушнік. Вы́маніла мнóга чагó.* Заазер'е.

**ВЫ́МАРЫЦЦА** *зак.* Стаміцца. *Вы́мърыўся за дзень і захрóп.* Сянно.

**ВЫ́МАТАЦЬ** *зак.* Змучыць. *Ой, ты мянé вы́мътаў сваёй прáцъй.* Запруддзе.

**ВЫМА́ЦЬ** *незак.* Кастрыраваць. *Кънъвáл вымáіць я́дры ў къбънá.* Заазер'е.

**ВЫ́МАЦЮКАЦЬ** *зак.* Аблаяць. *Ён мянé вы́мъцюкаў.* Савінічы.

**ВЫМА́ЧВАЦЬ** *незак.* Вымочваць. *Свінні* [грыбы] *трэ́ба вымáчваць два разы́.* Вялікі Азярэцк, Алексінічы.

**ВЫНА́ШУВАЦЬ** *незак.* Выносіць. *Інá мнóга вынáшувала грыбóў з лéсу.* Вялікі Азярэцк.

**ВЫ́МЕРАЦЬ** *зак.* Вымераць. *Плялі лупкі с салóмы, вы́мераць іх, і тады́ імі пóльзъваліся, мéрылі.* Фасаўшчына.

**ВЫ́МЕРЗНУЦЬ** *зак.* Вымерзнуць. *У фінскую вайну́ вы́мерзлі я́блыны.* Івоні.

**ВЫ́МЕШАЦЬ** *зак.* Вымешаць. *Дрáлі картóшку, атцэ́жывалі, вы́месіш, вы́месіш і пакачáіш клёцкі.* Багданава.

**ВЫМІРА́ЦЬ** *зак.* Выміраць, адміраць. *Вымірáіць Буй гэ́ты – людзéй німá.* Буй, Баравікі.

**ВЫМІТА́ЦЬ** *незак.* Вымятаць. *Пъмялó з вéтак саснóвых, вымітáіш печ.* Карпавічы.

**ВЫ́МЯ**, **ВІ́МА** *н.* Вымя. *Вы́мя, што дóіцца.* Гарадзец, Гарадок. *У карóвы вы́мя.* Запруддзе. *Віма апу́хнець і крóўю дóіцца карóва.* Ракаў Засценак, Багданава, Гарадзец, Каралевічы, Партызаны. ВІ́МЦА *памянш.-ласк.* Чуцькі.

**ВЫ́МЯКНУЦЬ** *зак.* Вымакнуць, згнісці. *Вы́мякла ўся бу́льба.* Багданава, Манголія, Самсоны.

**ВЫНАСІ́ЦЦА** *незак.* Вымятацца, выбірацца прэч. *Вынасíцеся с хáты – пятнáццаць міну́т срóку.* Партызаны.

**ВЫ́НЕСЦІ** *зак.* Вынесці. *Вы́качаіш, вы́несіш палатнó, павéсіш, янó вы́сахніць.* Багданава.

**ВЫНІМА́ЦЬ** *незак.* Вымаць, даставаць. *Стаў сваё вынімáць с чумудáна.* Запруддзе, Апечкі, Неўгадава.

**ВЫ́НУШАНЫ** *дзеепрым.* Вымушаны. *Я вы́нушан скъзáць табé тóя.* Запруддзе.

**ВЫ́НЮХАЦЬ** *зак. перан.* Пазнаёміцца. *Уну́чка шчэ не вы́нюхала нікóга.* Нямойта.

**ВЫ́ПАЛАШЧАЦЬ** *зак.* Выпаласкаць. *Нáда ж вы́палашчаць палатнó, як цёпла.* Чуцькі.

**ВЫ́ПАЛІЦЬ** *зак.* Выпаліць, спаліць. *Іх усіх вы́палілі, яны́ падзéлалі сабé зімля́нкі.* Нямойта.

**ВЫ́ПАЛІЦЬ** *зак.* Выпалаць. *Буракі бальшэ́я былі, вы́паліла.* Сукрэмна, Сянно.

**ВЫ́ПАНДЗІЦЬ** *зак.* Моцна пабіць, адлупцаваць. *Ён яé вы́пандзіў за тóе, што гуля́ла.* Розмыслава.

**ВЫ́ПАСЦІ** *зак.* Выпасці. *Калі вы́падзіць зуб звéрху, то кідáй пат печ.* Нямойта.

**ВЫ́ПАСЦІ** *зак.* З'явіцца, вырасці. *Во цяпéр мóгуць вы́пасць апéнкі, жы́тнікі.* Запруддзе.

**ВЫПАЎЗА́ЦЬ** *незак.* Выпаўзаць, выходзіць. *Ня мóжна іці нъ Благавéшчыння ў лес – вужы́ выпаўзáюць, а на Узвíжання – хувáюцца.* Вялікі Азярэцк.

**ВЫ́ПАЎЗІНЬ** *м.* Скінутая скура гадзюкі; выпоўзіны. *Вы́паўзінь з гадзю́кі вазьміця ў трáпъчку і дувáць, як цéліцца карóва, то дувáць у хлеб, штоб вы́шла паслéдства.* Заазер'е.

**ВЫ́ПЕРЫЦЬ** *зак.* Выперыць. *Як ужó вы́белюцца скуты́, нáда іх запáрыць, у вóзера нéсці і іх вы́перыць.* Багданава, Вялікі Азярэцк.

**ВЫ́ПЕЧКА** *ж.* Печаныя вырабы. *Вы́печкі дзéлалі, салóткія, рассыпáюцца.* Фасаўшчына.

**ВЫ́ПЕЧЫСЯ** *зак.* Выгараць, выліняць. *Вы́гарыла, вы́пеклася адзія́ла.* Леснікова.

**ВЫПІКА́ЦЬ** *незак.* Выпальваць, выбельваць. *Залу́ брáлі, мачы́лі лён, на сóнцы выпікáлі.* Нямойта.

**ВЫПІКА́ЦЬ** *незак.* Выпякаць, пячы. *Так жа ні выпікáлі рáньшы.* Гарадзец.

**ВЫПІНА́ЦЦА** *незак. перан.* Высільвацца, намагацца. *Крычы́ць, выпінáецца.* Дольдзева, Манголія.

**ВЫ́ПІЎКА** *ж.* Выпіўка. *Ёсь у мянé вы́піўка, то даю́.* Міцюкова.

**ВЫ́ПІЦЬ** *зак.* Напіцца гарэлкі. *Ні да чóга яму́ дзéла нет – тóлькі вы́піць.* Вялікі Азярэцк.

**ВЫ́ПЛАКАЦЬ** *зак.* Выплакаць. *Што янá вы́плакала, ён уз'éхаў на éту бáбу, ягó асудзілі.* Запруддзе.

**ВЫПРА́МІСТЫ** *прым.* Больш прамы, роўны. *Смарчóк гэ́ты бóлі такі выпрáмісты, тóнінькі.* Баравікі.

**ВЫПРА́СТВАЦЬ** *незак.* Выпроствацъ, выпрамляць. *Ты старáйся нагу́ выпрáстваць.* Каралі.

**ВЫ́ПРАСТАЦЬ** *зак.* Перацягнуць, ударыць. *Як вы́прастъў пáлкъй па плічáх.* Чуцькі.

**ВЫ́ПРЫГНУЦЬ** *зак. перан.* Вываліцца. *Тáя сцінá, інá скóра вы́прыгніць туды́ ў дом.* Баравікі.

**ВЫ́ПУКНУТЫ** *прым.* Выпуклы. *Вы́пукнутае бру́ха ў пілы́.* Вялікі Азярэцк.

**ВЫПУСКА́ЦЬ** *незак.* 1. Выпускаць. *Трэ́ба курэ́й выпускáць.* Багданава. 2. Адкладваць лічынкі. *Бéлінькія мя́тлухі выпускáюць чарвéй нъ капу́сту.* Сукрэмна. 3. Даставаць насенне. *Выпускáю сімінá з памідóра, пірабірáю і блюду́.* Леснікова.

**ВЫПЫ́РХВАЦЬ** *незак.* Выскакваць. *Ма́льцы ста́лі выпы́рхваць з аўто́буса.* Кляпчэва.

**ВЫ́РАБАТАНЫ** *дзеепрым.* Выпрацаваны. *І цяпе́р вы́рабатаная нату́ра: чаты́ры часы́ – не сплю.* Апечкі.

**ВЫ́РАБАТАЦЦА** *зак.* Напрацавацца, спрацавацца. *Цяпе́р вы́рабъталіся як на́да, век рабо́таўшы.* Буй.

**ВЫ́РАБАТАЦЬ** *зак.* Апрацаваць. *Хто вы́рбътъіць до́бра сваё по́ля, то яно́ і заро́дзіць.* Цясішча.

**ВЫРАБА́ТВАЦЬ** *незак.* Выпрацоўваць. *З гърнастя́я вырабя́тваюць ко́жычкі.* Багданава.

**ВЫ́РАДАК, У́РАДАК** *м.* Вырадак. *Род біз вы́ратку ні быва́іць.* Багданава. *У́ръткі былі рэ́тка, тут у кругу́ ні было́. Такіх у́ръдкаў у нас ні було́.* Вялікі Азярэцк.

**ВЫ́РАДЗІЦЬ** *зак.* Нарадзіць. *Дзяцёй то́лькі тры вы́радзіла.* Заазер'е, Каралевічы.

**ВЫРАЗА́ЦЬ** *незак.* Выразаць. *Во́кна по́слі выраза́юць, як пастро́юць.* Фасаўшчына, Заазер'е.

**ВЫ́РАЙ, ВЫ́РЭЙ** *м.* 1. Чарада пералётных птушак. *Со́рак вы́раяў прылята́еиць, со́рак клёцак дзе́лаюць, заве́цца свя́та Саракі.* Розмыслава, Буй, Азярэцк, Запруддзе, Міцюкова, Мянюцева, Парэчча. 2. Цёплы край. *Вясно́ўскія пту́шкі прылята́юць з вы́рэю.* Нямойта.

**ВЫ́РАСЦІ** *зак.* Вырасці. *Вы́расціць баравік за су́ткі.* Багданава, Гарадок, Запруддзе, Карпавічы, Латыгаль.

**ВЫ́РАТАВАЦЬ** *зак.* Выратаваць. *Іна́ вы́ръгъвала, жо́нка яго́.* Заазер'е.

**ВЫ́РАЎНАВАЦЬ** *зак.* Выраўняць. *Хаце́лі вы́раўнаваць нагу́ пад нарко́зам – не дала́.* Апечкі, Цясішча.

**ВЫ́РВАЦЦА** *зак.* Адарвацца. *Вы́рвъўся гу́зік у саро́цы.* Гарадок.

**ВЫ́РВАЦЬ** *зак.* ◊ ВЫ́РВАЦЬ НЕ́РВЫ. Знерваваць. *Ён усе́ мае́ не́рвы вы́рваў.* Розмыслава. ◊ ВЫ́РВІ ДЫ ПАДА́Й. Пра нецярплівага чалавека. *Зяць такі: вы́рві ды пада́й.* Жохава.

**ВЫ́РУБІЦЬ** *зак.* Вырубіць, высекчы. *Дзе лес вы́рубюць – дзяля́нка, карчы́ там.* Манголія.

**ВЫ́РУГАЦЬ** *зак.* Аблаяць. *Ніво́днай ба́цька не вы́ругаў.* Мянюцева.

**ВЫ́РУСУВАЦЬ** *зак.* Намаляваць. *Вы́русуюць узо́р карандашо́м како́рые і вышыва́юць.* Запруддзе.

**ВЫ́РУЧЫЦЬ** *зак.* Выручыць. *Хоць памры́, а вы́руч.* Серкуці, Багданава.

**ВЫРЫВА́ЦЬ** *незак.* Вырываць. *Макры́цу, ліба́ду́, асо́т палю, вырыва́ю, свіро́пку, ко́нскі шчаве́ль, крапіву.* Вялікі Азярэцк.

**ВЫ́САДЗІЦЦА** *зак.* Высадзіцца, выйсці. *Нас – у Пітразаво́цк, прые́халі, у Пітразаво́цку вы́садзілісь.* Івоні.

**ВЫСА́ДЖАВАЦЬ** *незак.* Выкладаць, высцілаць. *На хунда́мінт под выса́джъваюць у пе́чы.* Неўгадава.

**ВЫ́САДКІ, ВЫ́САТКІ** *мн.* 1. Высадкі, насеннікі. *Мо́ркву, буракі, рэ́цьку со́дзюць на вы́саткі, тады́ се́мяні ёсь.* Гарадзец. *Ду́мае: на вы́садкі на́да ўзяць рэ́дзькі.* Нямойта. 2. Насенне. *Семена́ ці буракі, вы́саткі, палажы́ць у прыскры́нак ці што.* Гарадзец.

**ВЫСАКАМЕ́РШЧЫЦА** *ж.* Высакамерная асоба. *Хара́кцер, кап яго́ ў бе́лым све́ці. Такая высакаме́ршчыца.* Івоні.

**ВЫ́САЛАПІЦЬ** *зак.* Высалапіць, высунуць. *Бяжыць, аж язык высалапіць.* Запруддзе.

**ВЫ́САЛІЦЦА** *зак.* Прасаліцца. *Пічанёўка вісіць, іна высаліцца.* Дольдзева.

**ВЫ́САХНУЦЬ** *зак.* 1. Высахнуць. *Дровы высахнуць, а на зіму у драўнік* [складваем]. Серкуці, Багданава, Каралі. 2. Схуднець. *П'е гарэлку штодзень, дык во высах.* Заазер'е, Каралевічы.

**ВЫСАЧЭ́Й** *прысл.* Вышэй. *Выбіраюць места для хаты, каб высачэй.* Запруддзе.

**ВЫ́СВАТАЦЬ** *зак.* Сасватаць. *Скарэй дзеўку замуж высватаць, як цябе на песню ўгаварыць.* Баравікі, Гарадзец, Кішуроўшчына, Леснікі, Розмыслава.

**ВЫСВЯШЧА́ЦЬ** *незак.* Асвячаць. *На Ллю высвяшчалі цэркву.* Каралевічы.

**ВЫ́СЕКЧЫ** *зак.* Высекчы. *Цяпер лес высеклі.* Манголія, Нямойта.

**ВЫ́СЕЛКА** *ж.* Прымусовае высяленне. *Чорная даска была – пупаў на яе і на выселку пашоў* [у гады калектывізацыі]. Нямойта.

**ВЫСІДА́ЦЬ** *незак.* Вырастаць (пра грыбы). *Еслі дажджоў німа, то падбярозавікі высідаюць.* Партызаны, Багданава.

**ВЫСКА́КВАЦЬ** *незак.* Выскакваць. *Выскакваець с хаты мужык.* Нямойта, Гарадзец, Міцюкова, Розмыслава. ◊ ВЫСКА́КВАЦЬ (ВЫПІНА́ЦЦА) З (С) КО́ЖЫ. Вельмі старацца. *А ты с кожы выскакваеш, нашто?* Каралевічы. *Мы выпіналіся з кожы засеяць гарод.* Дольдзева.

**ВЫ́СКВАРКА** *ж.* Выскварка. *Нутраноя сала жаруць, выйдзіць тук, а астануцца выскваркі.* Заазер'е.

**ВЫСКРАБА́ЦЬ** *незак.* Выскрабаць, вычышчаць. *І прама дзешку тую выскраблі ўсю!* Багданава.

**ВЫ́СЛУХАЦЬ** *зак.* Пачуць. *Я выслухъла па радзіво, што пенсіі будзіць болі.* Каралевічы.

**ВЫСО́КІ, ВІСО́КІ** *прым.* Высокі. *Суніцы пъ барах, па высокіх містах, сунічнік там.* Запруддзе, Багданава, Фасаўшчына. *Высокі, як жэрдзіна.* Вялікі Азярэцк, Запруддзе. *Сын харошы, высокі.* Жохава. *Вісокае жыта вырсла.* Гарадзец, Запруддзе, Нямойта. ВЫСО́ЧАНЬКІ *ласк.* *Высочанькая жэншчына ідзець, худзенькая.* Савінічы, Каралевічы, Ракаў Засценак.

**ВЫ́СПАВІДАЦЦА** *зак.* Выспаведацца, паспавядацца. *Паехала ў Бешанковічы і выспавідълъся.* Багданава.

**ВЫ́СПЕЦЬ, ВЫ́СПІЦЬ** *зак.* Выспець. *Мак цвітушчы быў, думалі, што ён выспеў.* Запруддзе. *Гарбузы выспілі – цвёрдыя.* Неўгадава, Запруддзе.

**ВЫ́ССАЦЬ** *зак.* Высмактаць. *Я ўсё пажву, пажву і дам дзецям сусла, пакуль выссіць.* Міцюкова, Заазер'е.

**ВЫ́СТАРАЦЦА** *зак.* Выстарацца, здабыць намаганнямі. *Хлеба калі выстараішся, тры разы хлібанеш, рас укусіш.* Савінічы.

**ВЫ́СТАЯЦЦА** *зак.* Выспець (пра нарыў і пад.). *Выстаіцца скула – лопаіцца.* Гарадзец.

**ВЫ́СТРЫГАЦЬ** *зак.* Выстругаць, абстругаць. *Яны палачку выстрыгаюць, на муравіны пакладуць, а тады ссуць.* Багданава.

**ВЫ́СТУП** *м.* Выступ. *У бальках – выступ, уверсе на ашлапным браўне дзелаіш чашкі і яго наверх закрываіш.* Нямойта.

**ВЫ́СТУПІЦЬ** *зак.* З'явіцца (пра больку і пад.). *Як выступіла балячка, не мог хадзіць.* Партызаны.

**ВЫ́СУДЗІЦЬ** *зак.* Адсудзіць. *Што мы высудзім?* Міцюкова.

**ВЫ́СУШЫЦЬ** *зак.* Высушыць. *Вы́сушыць ячме́нь і тады́ – у сту́пку.* Гарадзец, Багданава, Запруддзе.

**ВЫСЫЛА́ЦЬ** *незак.* Высылаць. *Тады́, як высыла́лі, яго́ ба́цьку ў тры́ццаць сядзьмы́м.* Буй.

**ВЫ́СЫЛКА** *ж.* Ссылка. *Сы́на Ігна́та і старыко́ў на вы́сылку пъвязлі́.* Баравікі.

**ВЫСЫПА́ЦЦА** *незак.* Высыпацца, з'яўляцца ў вялікай колькасці. *Калось́ высыпа́юцца і красу́юцца.* Гарадзец, Партызаны.

**ВЫ́СЫПАЦЬ** *зак.* Вырасці ў вялікай колькасці. *Апе́нкі ў нас жы́тнікі заву́ць. Во цяпе́р мо́гуць вы́сыпаць.* Запруддзе.

**ВЫ́СЫПАЦЬ** *зак.* Засы́паць. *Нам хоць бы ву́ліцу вы́сыпалі пяско́м.* Буй.

**ВЫ́СЫПКА** *ж.* Сып, высыпка. *Вы́сыпка ў яго́ ста́ла.* Івоні.

**ВЫСЫХА́ЦЬ** *незак.* ◊ ПА́МІЦЬ ВЫСЫХА́ІЦЬ. Забываць што-н. *Ужэ́ па́міць высыха́іць пат ста́рась.* Багданава.

**ВЫСЯКА́ЦЬ** *незак.* Высякаць. *Зімо́й дзяля́нкі высяка́лі ў ле́сі.* Нямойта, Алексінічы.

**ВЫ́ТАНКАВАЦЬ** *зак.* Атынкаваць. *Хто ка́жыць шчукату́рыць, а хто ка́жыць вы́танкую, ро́зніцы німа́.* Фасаўшчына.

**ВЫ́ТАПІЦЬ** *зак.* Выпаліць (пра печ і пад.). *Вы́тапіць печ.* Заазер'е, Багданава, Дольдзева, Нямойта, Закур'е.

**ВЫ́ТАРКНУЦЦА** *зак.* Вытыркнуцца, выглянуць. *Не́мцы с кусто́ў вы́таркнуцца.* Манголія.

**ВЫ́ТКАЦЬ** *зак.* Выткаць. *Аснуём, і я вам вы́тку.* Карпавічы, Баравікі.

**ВЫ́ТРАПАЦЬ** *зак.* Вытрапаць. *Вы́траплю лён, ён як шоўк.* Карпавічы, Самсоны.

**ВЫ́ТРАСЦІ** *зак.* Вытрусіць. *Бува́ла вы́трасіш куль, ён як ко́лік стаі́ць.* Цясішча.

**ВЫ́ТРЫВАЦЬ** *зак.* Пераждаць, перанесці. *Як я вы́трывала, паку́ль з'е́дзілі к таму дзе́ду, ні зна́ю.* Запруддзе.

**ВЫ́ТРЫМАЦЬ** *зак.* 1. Утрымаць, не даць упасці. *Я́блыны ня вы́трымаюць я́блык, ай-ё.* Кляпчэва. 2. Выцерпець. *Іна́ мълъдя́я й ня вы́тръмъла б таке́я рабо́ты, як мы.* Вялікі Азярэцк.

**ВЫ́ТУРНУЦЬ** *зак.* Вытурыць, выгнаць (?). *Жані́х вы́турнець із кле́ці няве́сту.* Партызаны.

**ВЫ́ТУРЫЦЬ** *зак.* Тое ж. *Вы́турыў с ха́ты вон: лі́шнія.* Запруддзе.

**ВЫТЫКА́ЦЬ** *незак.* Выдаваць. *Чаты́ры хазя́іны зна́лі, што ба́ба забі́ла не́мца, але́ ні вытыка́лі.* Закур'е. .

**ВЫТЫКА́ЦЬ** *незак.* Вытыкаць, ткаць. *Узо́ры вытыка́лі ўся́кія.* Багданава, Заазер'е.

**ВЫТЫРКА́ЦЦА** *незак.* Выглядаць. *Га́лкі атту́ль з камяно́ў вытырка́юцца, вяду́цца там.* Сукрэмна.

**ВЫ́ХАДЗІЦЬ** *зак.* Дагледзець. *Я аднаго́ падабра́ла, дык і вы́хадзіла яго́.* Станюкі.

**ВЫХА́ЖАВАЦЬ** *незак.* Выходзіць. *Дым праз дзве́ры выха́жъваў у чо́рнай ба́ні.* Нямойта.

**ВЫХАДНЭ́Й** *прым.* 1. Не для працы, святочны. *Выхаднэ́я танцо́рскія штаны́ на рамушку́.* Багданава. 2. Нерабочы (пра дзень). *За́ўтра выхаднэ́й дзень.* Багданава.

**ВЫ́ХАРТАЦЦА** *зак.* Выгаладацца. *Ой, вы́хъртаўся, дай есь!* Запруддзе.

**ВЫ́ХВАСТАЦЬ** *зак.* Выхвастаць, моцна пабіць. *Я цябе́ дры́нам вы́хвашчу, то ты ў мяне́ пішчэ́ць бу́дзіш.* Запруддзе.

**ВЫ́ХЛАДЗІЦЬ** *зак.* Моцна пабіць, адлупцаваць. *Набрашу́, атлуплю́, вяро́ўкай вы́хладжу, кап ня су́нуўся ў са́жалку.* Запруддзе.

**ВЫХО́ДЗІЦЬ, ВЫХАДЗІ́ЦЬ** *незак.* 1. Прыходзіць (пра працу). *Па се́мдзісіт чаты́ры ба́бы выхадзілі нъ рабо́ту.* Цясішча. 2. Звязацца, наладзіць сувязь з кім-н. *Мы выхадзілі на пръдсіда́целя калхо́за.* Івоні. 3. Прыходзіцца, выпадаць. *Свято́шнае далжно́ быць у адно́ чысло́ ка́жны гот, а ні выхо́дзіць.* Запруддзе. 4. (у спалучэнні са словам *замуж*). Стаць жонкай каго-н. *У дзівітна́ццаць лет за́муш вы́шла.* Запруддзе.

**ВЫЦІКА́ЦЬ** *незак.* Выцякаць. *Рэ́чка выціка́іць с крынічкі.* Вялікі Азярэцк, Каралевічы.

**ВЫЦЬ** *незак.* Выць. *Гляжу́: бальшы́ воўк вы́ець.* Багданава, Ракаў Засценак. ◊ ВЫЦЬ У ГО́РЛА. Выць, падняўшы галаву. *Мо́жыць і сыба́ка скуго́ліць і вы́ець: калі ўверх – то пъжа́р, як у го́рла вы́ець, а як уніс – хто́-та памрэ́ць* (прыкмета). Багданава.

**ВЫ́ЦЯГНУЦЬ, ВЫ́ЦІГНУЦЬ, ВЫ́ЦЯГНАЦЬ** *зак.* Дастаць, выняць. *Я ра́на вы́цягнула во́сімдзісят карзін бу́льбы.* Забор'е, Алексінічы, Багданава, Вялікі Азярэцк, Каралі. *Адну́ то́ню вы́цігнулі рыбакі.* Гарадок, Запруддзе. *С-пад забо́ра вы́цягналі тра́ктар.* Вялікі Азярэцк.

**ВЫ́ЦЯРЦІ** *зак.* Выцерці. *На, во но́сік вы́цяр!* Леснікі.

**ВЫ́ЧАРПАЦЬ** *зак.* Вылавіць. *Усю ры́бу вы́чърпаіць у не́раст.* Турава.

**ВЫ́ЧЫПАЦЦА** *зак.* Выздаравець. *Вы́чыпалася дачка́, а то бале́ла.* Вялікі Азярэцк.

**ВЫ́ЧЫСЦІЦЬ** *зак.* Вычысціць. *Вы́чысціў кало́дзісь.* Чуцькі, Жохава.

**ВЫ́ШНІ** *прым.* Верхні. *У дада́нах лётка ніжняя, лётка вы́шняя.* Вялікі Азярэцк.

**ВЫ́ШЧЫГНУЦЦА** *зак.* Выслізнуць. *Іна́ схо́піць руко́й, ён вы́шчыгніцца, ён слізкі.* Заазер'е.

**ВЫ́ШЧЫКНУЦЬ** *зак.* Выціснуць. *Вы́шчыкнуць сказа́лі гузачо́к на грудзя́х.* Нямойта.

**ВЫ́ШЧЫТАЦЬ** *зак.* Вылічыць. *Рубе́ль заро́біш, а два вы́шчытуюць.* Буй.

**ВЫ́ШЫ** *прысл.* Вышэй. *Бяро́ш кіёк вы́шы сябе́ і ідзе́ш.* Багданава, Партызаны.

**ВЫШЫВА́ЦЬ** *незак.* Вышываць. *Я ні вышыва́ла, ткаць – тка́ла.* Гарадзец, Карпавічы.

**ВЫЯЗДЖА́ЦЬ** *незак.* Выязджаць. *Я бале́ю з-за таго́, што на зіму ў го́рат выяжджа́ю.* Рэчкі, Закур'е.

**ВЫЯЗДНЫ́** *прым.* Выязны, прызначаны для выезду. *Выяздна́я абро́ць с крэ́сцікам якім напе́радзе.* Гарадзец. *Выяздны́я – так ле́йцы называ́юць.* Гарадзец.

**ВЭ́ДЛАМ, ВЭ́ГЛАМ** *прысл.* Абсалютна дакладна. *Вэ́длам усё прынёс.* Каралевічы. *Вэ́глам я зна́ю, што ён быў тут.* Каралевічы.

**ВЭ́РХАЛ** *м.* Вэрхал, шум, крык. *Шум бальшы́, крык паднялі – вэ́рхал ска́жуць.* Дольдзева. *Ругня́ ў ха́ці, вэ́рхъл, сва́рка.* Нямойта, Гарадзец, Манголія, Сукрэмна. *Во, дурніна, учу́піўся, б'ю́цца – вэ́рхал паднялі.* Запруддзе.

**ВЭ́ТКІ** *прым.* Вялікі, вось такі. *Вэ́ткая дзе́жка шэ́рай капу́сты стаіць.* Запруддзе.

**ВЯДРО́** *н.* Вядро. *Вядро́ на шэ́ю пачэ́піш – і вот табе́ і сіва́лка.* Серкуці. *Ба́ба с пусты́мі вёдрымі калі ўстрэ́цціца, то бу́дзіць ніўда́ча* (павер'е). Ракаў Засценак, Заазер'е, Фасаўшчына, Дуброўкі. ◊ ліць (ліўну́ць) ЯК З ВЯДРА́. Вельмі моцным струменем, суцэльным патокам (аб праліўным дажджы). *Дош ліў як з відра́, руч'і ляцэ́лі па даро́зе.* Запруддзе. *Тако́й заліўно́й дож ліўну́ў як з вядра́.* Цясішча.

**ВЯЗ** *м.* 1. Вяз (дрэва). *Вяз – з яго́ лу́пюць кару́ для кош.* Алексінічы. 2. *мн. вязы́.* Драўляныя перакладзіны ў санях, зробленыя з вязу, дубу і пад. *Вязы́ ў саня́х – капылы́ на́да звяза́ць.* Міцюкова, Гарадзец, Каралевічы, Кляпчэва.

**ВЯЗА́ЦЦА** *незак.* Чапляцца. *А дзе́ўкі са́мі вя́жуцца* [да хлопцаў] *і ўсё.* Заазер'е.

**ВЯЗА́ЦЬ**, **ВІЗА́ЦЬ** *незак.* 1. Вязаць, звязваць (некалькі прадметаў у адно цэлае). *Ве́нікі віза́ў пар дзе́сіць.* Міцюкова, Багданава, Вялікі Азярэцк, Савінічы. *І на стано́к віза́лі, і на до́ску ніты́ віза́лі.* Багданава. 2. Састаўляць. *Ра́мы – гэ́та сто́лір вя́жыць.* Сукрэмна. *Страпі́лы вя́жуць с пъясо́м.* Гарадзец. 3. Вязаць (пруткамі, кручком). *Хто прадзе́ць, хто вя́жыць.* Запруддзе, Турава. *Дзе́ўкі з ні́так кручко́м вя́жуць.* Фасаўшчына.

**ВЯЗЕ́ННЕ** *н.* Возка. *До́ма і пале́нне, і вязе́нне – усю рабо́ту дзе́лаюць.* Замошша.

**ВЯ́ЗЗЕ**, **ВЯ́ЗЗЯ** *н. зб.* Драўляныя перакладзіны ў санях, зробленыя з вязу, дубу і інш.; вяззе. *Вя́ззе дубо́вая ако́ўвалі ў ку́зні жале́зам.* Леснікова, Чуцькі. *Вя́ззя гну́лі з ісяні́ны, іна́ цягбі́тъя.* Гарадзец.

**ВЯ́ЗНІК** *м.* Кусок недатканага палатна з махрамі, які выкарыстоўвалі для нашэння ежы ў поле. *Тро́ху быў вы́піўшы, схваці́ла вя́знік, трапка́ч, і па пляча́х. З мужука́мі на́да так.* Дольдзева.

**ВЯ́ЗНУЦЬ** *незак.* Грузнуць. *Ду́жа гра́зна было́, трактары́ пра́ма вя́злі.* Самсоны, Нямойта, Фасаўшчына.

**ВЯЗЬМО́** *н.* Саламяны жгут для звязвання снапоў, кулёў; перавясла. *Здзе́лаіш вязьмо́, жы́та вя́жаш.* Закур'е. *Рож атрэ́жэш, скру́ціш – і вязьмо́.* Розмыслава. *Скру́ціш вязьмо́ і сноп вя́жаш.* Багданава, Гарадзец, Запруддзе, Нямойта, Партызаны, Ракаў Засценак, Рэчкі, Савінічы, Самсоны, Закур'е.

**ВЯ́КАЦЬ** *незак.* Гаварыць пустое, не вартае ўвагі. *Вя́каіць і вя́каіць абы-што́.* Нямойта.

**ВЯЛІ́КАДНЯ** *н.* Вялікдзень. *На Вялі́кадня хо́дзюць валачо́бнікі.* Запруддзе, Багданава, Неўгадава.

**ВЯЛІ́КДЗЕНЬ** *м.* Тое ж. *Хто ска́жыць Вялі́къдня, а хто Вялі́кдзень.*Дольдзева.

**ВЯЛІ́КІ** *прым.* 1. Вялікі, значны па памеры. *Там была́ вялі́къя гъра́, яе́ на даро́гу зры́лі.* Манголія. *Вялі́каё калясо́.* Гарадзец. 2. Доўгі (пра лён). *На трэ́ці дзень пъсля Хрышчэ́ння кап вялікі быў лён, то хадзілі пъ дзярэ́ўні й пе́лі ба́бы.* Закур'е. ○ ВЯЛІ́КАЯ СУБО́ТА. Субота перад Вялікаднем. *Калі хто ў Вялі́кую субо́ту гуркі со́дзіць?* Чуцькі.

**ВЯЛІ́ЧКА** *м.* Вялікдзень. *Благаве́шчаня бу́дзіць, а тады́ і Вялі́чка.* Заазер'е. *Йдзець Вялі́чка, / Не́чага надзе́ць: / Ні саро́чкі, ні намёткі* (з песні). *Якра́з на Вялі́чка прыхо́дзіў.* Фасаўшчына, Партызаны.

**ВЯ́ЛЫ**, **ВЯ́ЛЫЙ** *прым.* 1. Сыраваты. *Вя́лъя се́на ні гадзі́цца лажы́ць у стох: яно́ сагрэ́ецца.* Леснікова. 2. Слабы, стомлены, хворы. *Бально́й ён, вя́лый.* Багданава.

**ВЯНЕ́Ц** *м.* Рад бярвёнаў у зрубе; вянец. *Тры браўна́ называ́іцца вяне́ц. Дом мо́жыць быць у сярэ́днім чатырна́ццаць вянцо́ў.* Нямойта. *Чаты́ры браўна́ –*

*ужэ́ вянéц.* Марозаўка. *Ніжні вянéц у хáце і вéрхні вянéц.* Фасаўшчына. *На трэ́ці вянéц клáлі грóшы, сірабрó клáлі, на трэ́цім вянцы́, ні а якім углу́, тóлькі на куцé.* Леснікова. *Палóжыць трэ́ці вянéц, палóжыць хлéба, сóлі і грóшы, тóлькі не бумáжныя.* Каралевічы, Вялікі Азярэцк, Гарадзец. ◊ пайсці ПАД ВЯНÉЦ. Вянчацца. *Пад вянéц пóйдзіць стáршая.* Міцюкова, Заазер'е.

**ВЯНÓК** *м.* 1. Вянок. *Вянóк гарóхавы плятýць, калі мáлец год гуляіць з дзéўкаю, а патóм не вазьмéць.* Дуброўкі. *На Івáна Купáлу кідáюць вянкі – мой дáлі вянóк паплы́ў, далёка зáмуш зайду́.* Кішуроўшчына. *Хъ*[ы]*зяін плóціць за вянóк, катóры ніжáдны, ён дажы́нкі спраўляіць.* Рассвет. *Дажы́нкі былі, вянкі плялі, а па іх къчáлісі.* Багданава, Буй, Запруддзе, Нямойта, Каралевічы, Міцюкова, Сукрэмна, Цясішча. 2. Вязка, нізка. *Цыбу́лю ў вянкі візáлі.* Дольдзева. 3. Круг. *Събяру́цца калéкі гэ́тыя у вянóк і кру́цюцца* [як нераст у іх]. Багданава. 4. Спосаб трымання галавы жывёлай (выгнуўшы шыю, пакласці галаву на плячо). *Рысáк нату́рлівый, вянкóм гълаву́ – і панёс.* Сянно.

**ВЯНÓЧАК** *м.* Круг жоўтага колеру на галаве ў вужа. *Вуж як паўзéць, на галавé такі жóўценькі вянóчък.* Багданава, Алексінічы, Леснікова.

**ВЯПРУ́К** *м.* Вяпрук. *Віпрукá забіла нъ сáла.* Нямойта.

**ВЯРБÁ, ВÉРБА** *ж.* Галінкі вярбы, якія свяцілі на Вербніцу ў царкве. *Вярбóю на Юр'я выганялі ў пóля.* Цясішча. *Карóў гнáлі вéрбай у пóле. Вéрбу свяцілі на Юр'я.* Самсоны. *Вéрбу лóжуць за ікóну.* Каралевічы, Гарадзец, Запруддзе. ВЯРБІ́НКА, ВÉРБІНКА *памянш.-ласк. Пат кры́шу тóркалі вярбінку пасвянцóную, каб вéцер кры́шу ні ўзрывáў.* Савінічы. *Вéрбінка.* Чуцькі.

**ВЯРБÓЎКА** *ж.* Вярбоўка. *Вярбóўкі былі, вірбувáлі на тóрфы рабóтаць.* Партызаны.

**ВЯРЗЦІ́** *незак.* Гаварыць недарэчнасці, бязглуздзіцу. *Вярзлá, хвасту́нья былá і асталáся ў дзéўках.* Алексінічы.

**ВЯ́РКНУЦЬ** *зак.* Прагаварыцца. *Як вяркніш каму́, то й канéц.* Запруддзе.

**ВЯРНУ́ЦЦА** *зак.* Вярнуцца. *Ніхтó там ні астáўся, нікóга ні забілі, усé вярну́ліся дамóй.* Леснікова, Вялікі Азярэцк, Ракаў Засценак.

**ВЯРÓВАШНЫ** *прым.* Вяровачны. *З вярóвак, з палатнá бéлага пашы́еш вярóвашныя тáпкі.* Цясішча, Гарадзец.

**ВЯРÓЎКА** *ж.* Вяроўка. Цясішча. □ *Скóлькі вярóўкі* [не віцца], *ну канéц бу́дзіць.* Каралевічы, Дольдзева, Леснікова.

**ВЯРСТÁ** *ж.* Вярста, мера даўжынёй 1,06 м. *Куды́ я пайду́ за вярсту́?* Закур'е. □ *Сем вёрст да нябёс ды ўсё лéсам.* Дуброўкі.

**ВЯРСТÁК** *м.* Варштат, станок; спецыяльна абсталяваны стол для ручной сталярнай, слясарнай і пад. работы. *І верстáк свой быў.* Чуцькі. *Вярстáк – станóк такі, лóжыш і сжымáіш вінтóм.* Жохава, Вялікі Азярэцк, Нямойта, Марозаўка.

**ВЯРТУ́ННЯ** *ж.* Гарэзлівая, вяртлявая дзяўчына. *Гэ́та ўну́чка – вярту́ння, рыжавáценька.* Карпавічы.

**ВЯРХНЯ́К** *м.* 1. Верхні камень у жорнах. *Вярхня́к – вéрхні камéнь у жóрнах.* Багданава[1], Фасаўшчына. *У жóрнах вярхня́к і спóдні кáмень.* Вялікі Азярэцк, Дольдзева, Міцюкова. 2. Верхні чыгун у самагонным апараце. *Вярхня́к – éта самагóнку гнáлі.* Міцюкова.

**ВЯРХÓЎЕ** *н. зб.* Ачоскі. *Ку́жаль астаéцца на грэ́бяні, а вярхóўе пáдаець.* Карпавічы, Дуброўкі.

**ВЯРХУ́ШКІ** *толькі мн.* Дрэнны гатунак валакна. *Вярху́шкі нъ вяро́въчкі вілі плёсці ла́пці.* Неўгадава.

**ВЯРЦЕ́ЦЦА** *незак.* Круціцца. *Гулува́ ў змяі́ разбі́тъя, а іна́ ўсі раўно́ ве́рцiцца.* Алексінічы.

**ВЯРШО́К** *м.* Вяршкі. *З мълъка́ вяршо́к сап'е́ць, два я́йцы вып'іць і пашо́ў.* Гарадзец, Вялікі Азярэцк, Марозаўка, Чуцькі.

**ВЯРШО́К** *м.* Мера даўжыні. *Канёк быў, як ля́лька, аршы́н і со́рак два вяршкі́ – тако́га нібальшо́га ро́сту.* Самсоны.

**ВЯРШЫ́ННЯ** *н. зб.* Ачоскі. *Накру́ціш* [лён] *на дру́чку, вяршы́ння па́дае, а на дру́чцы – ле́пшае.* Багданава.

**ВЯРШЫ́ЦЬ** *незак.* Вяршыць (пра стог). *Вяршы́лі стох, каб не замъка́ла, кладу́ць вузе́й, уго́нюць.* Гарадзец.

**ВЯСЕ́ЛЛЕ**, **ВЯСЕ́ЛЛЯ** *н.* Вяселле. *О-о! Вясе́лле е́дзіць. У нас: вясе́лле едзіць, а ні сва́дзьба.* Ракаў Засценак *Мы вясе́лля гуля́лі.* Кішуроўшчына. *Пры́дуць, у паро́зе ста́нуць: «Прыхо́дзьце на вясе́лле».* Багданава, Леснікі, Нямойта, Дуброўкі. ВЯСЕ́ЛЛЕЙКА *ласк. На вясе́ллейку нет ро́днага та́ткі.* Каралевічы.

**ВЯСЁЛКА** *ж.* Вясёлка. *Вясёлка – ра́дуга, ў нас біз ра́зніцы.* Кішуроўшчына.

**ВЯ́СКА** *ж.* Вязка, ахапак. *Вя́ска пы́шная, харо́шая льну.* Багданава. *Вя́ска се́на, як у вяро́ўках звя́жуць.* Фасаўшчына.

**ВЯСНА́**, **ВІСНА́** *ж.* Вясна. *Зяць ка́жную вясну́ нано́сіць бачкі́ два со́ку.* Багданава. *Вісна́ харо́шая была́.* Вялікі Азярэцк.

□ *Вясна́ во́чы крадзе́ць.* Багданава, Гарадзец, Жохава, Запруддзе, Каралі, Партызаны. □ *Вісна́ красна́ кве́ткамі, а во́сень пірага́мі.* Запруддзе. □ *Вісна́ хоць няўе́жная, дак уле́жна.* Вялікі Азярэцк.

**ВЯСНО́ЎСКІ** *прым.* Вясенні. *Ве́рбніца – вясно́ўскае свя́та.* Багданава. *Вясно́ўскія птушкі на Саракі́ прылята́юць.* Нямойта, Вялікі Азярэцк, Партызаны, Ракаў Засценак, Самсоны.

**ВЯСНУ́ШКІ** *мн.* Рабацінне. Гарадзец. ВЯСНУ́ШАЧКІ *памянш. метаф.* Кропелькі. *Мъхамо́р ё кра́сны, вясну́шъчкімі бе́лымі паве́рху.* Цясішча.

**ВЯТВІ́СТЫ**, **ВЯЦІ́СТЫ** *прым.* Галінасты, бухматы. *Вятві́сты авёс, сцяно́й стаі́ць.* Сянно. *Вяці́стае про́са, як мяцёлачка.* Міцюкова.

**ВЯЧО́РКІ** *толькі мн.* Вячоркі. *Вячо́ркі сабіра́юцца скака́ць, а супра́ткі – пра́сці.* Партызаны, Рассвет, Цясішча.

**ВЯЧЭ́РАШНІ** *прым.* Вячэрні (пра надой малака). *Ці́рас дзень вячэ́ръшніга дасць мълъка́ ба́нъчку.* Неўгадава, Сянно.

**ГАБЁЛАК** *м.* Гэбель, рубанак. *Габёлкам габлю́юць до́скі, адзі́н рабо́таець, сніма́ець ве́рхні слой.* Запруддзе.

**ГАБЛЮ́Х**, **ГУБЛЮ́К** *м.* Тое ж. *Ба́цька уме́ў сталя́рнічаць, былі́ гублюкі́ і бальшэ́я, і ма́лыя. Габлю́хі бальшэ́я і ма́лыя былі́, цэ́бры дзе́лаў, дзе́жкі.* Гарадзец. ГАБЛЮШО́К, ГУБЛЮШО́К *памянш. Габлюшо́к пагублюва́ць до́шкі.* Вялікі Азярэцк. *Гублюшо́к быў скаме́йку пачы́сціць.* Манголія. *Гублюшо́к, бара́н бальшэ́я чы́сціць до́шкі.* Леснікі.

**ГАБЛЯВА́ЦЬ**, **ГУБЛЮВА́ЦЬ**, **ГАБЛІВА́ЦЬ** *незак.* Габляваць. *Бъра́н з двумя́ ру́чкамі, ўдваі́х габлю́іш.* Манголія. *Гублюва́ць – е́та чы́сціць* [дошку] *бъра́нчыкам.*

Сукрэмна. *Гублюваў – ета як гарацкія, а мы стругаў, стругуваў.* Запруддзе. *Гъблівалі доскі.* Гарадзец.

**ГАВАРКІ** *прым.* Гаварлівы, гаваркі. *Хвядора – баба гаваркая.* Багданава.

**ГАВАРУ́Н** *м.* Гаварун, гаварлівы. *А вы ўжо гъ^а^варуны.* Багданава. *Во, дзействіцельна гаварун.* Дольдзева.

**ГАВАРЫЦЦА** *незак.* Гаварыць дарэмна, нагаворваць. *Я ж ні буду гаварыцца, што мае дзеці пашлі ў банды.* Запруддзе.

**ГАВАРЫЦЬ** *незак.* 1. Гаварыць, размаўляць, расказваць. *На гетум свеці хай людзі с табой гаворуць, ты з людзьмі.* Каралевічы. *Я гавару, як было, што помню, што знаю.* Багданава, Запруддзе, Івоні, Міцюкова. *Гаворуць праўду.* Неўгадава. *Яны гавараць, што ў іх работы німа.* Івоні, Міцюкова. 2. Загаворваць (хваробу). *Гаворуць, каторыя знаюць ат рожы, гаворуць.* Запруддзе. 3. Прамаўляць, чытаць малітву. *А я перакшчуся, а так нічога ні умею гаварыць.* Міцюкова.

**ГАВОРКА** *ж.* 1. Размова, разгавор. *Як выйдзіць, так і гаворыць, у яе гаворак многа.* Гарадзец. *Я ня чула такіх гаворак.* Багданава. 2. Маўленне. *Жыла ў Выбаргу ў дачкі, а хто-небудзь прыедзіць з Беларусі, я ўжо чую гаворку сваю, свой разгавор.* Рэчкі. *Ён жа па гаворцы мяне спъзнаў.* Каралевічы.

**ГАВЭНДАЦЬ** *незак.* Гаварыць, размаўляць. *Гавэндаюць яны што пупала.* Фасаўшчына.

**ГАГАТАЦЬ** *незак. перан.* 1. Крычаць. *Шумяць бабы, пяюць, Кляпчэва гагочыць.* Кляпчэва. *Ноч гъгатала дзяўчонка.* Багданава. 2. Шумець, тарахцець. *На шляху гагочуць машыны.* Закур'е.

**ҐАҐАЦЬ** *незак.* Гагатаць. *Гусі ґаґаюць.* Вялікі Азярэцк.

**ҐАҐОШНІК** *м.* Балотная расліна. *Ґаґошнік – лісця такое шырокае, у бълътах расьцець, свіней кармілі, мішкамі цігалі. Як зварыш, ён такі мяккі, салоткі, цвіцець такім нейкім, пук жоўты такі.* Багданава.

**ГАД, ГАТ** *м.* 1. Гадзюка, вуж. Каралевічы. 2. *лаянк.* Пра небяспечнага, шкоднага чалавека. *А ён, гат, стаў крычэць, то немцы пачулі.* Закур'е. *Як заспорыш, дык і гавораць: сушчы гад.* Заазер'е.

□ *Кажны* (*усякі*) *гад на чужое рад.* Вялікі Азярэцк. □ *Кожны гад на свой лад.* Каралевічы.

**ГАДАВАЦЦА, ГУДУВАЦЦА, ГАДУВАЦЦА** *незак.* 1. Выхоўвац (дзяцей), гадаваць. *У мяне з Воршы унук гадаваўся. Добра гудуваўся.* Нямойта. *Гадувалісі здарова. Як гудуваліся дзеткі, нічога не відзела.* Цясішча, Ульянавічы. *У дзяцькі гадавалася змалку.* Неўгадава. 2. Даглядаць, разводзіць. *Бролліры гудувалісі ў яе. Восінь мяса елі, як рэпу.* Нямойта. ◊ ПА САСНЯКУ ГАДАВАЦЦА. Расці без увагі і нагляду бацькоў. *Дзеці па сасняку гадаваліся.* Ульянавічы.

**ГАДАВАЦЬ, ГУДУВАЦЬ, ГАДУВАЦЬ** *незак.* 1. Выхоўваць (дзяцей), гадаваць. *Я такую сям'ю гудувала, нада ж было троху і надзець. Гудувала дзевіць дзяцёнкыў.* Багданава, Буй, Вялікі Азярэцк, Дольдзева, Міцюкова, Нямойта, Серкуці, Турава. *І дзень і ноч робіла, нада ж було дзяцей гадаваць.* Дуброўкі. 2. Даглядаць, разводзіць. *Людзі любяць скот гъдъваць, хто два къбаны здаець за гот, хто цялёнка выгадуець. Калхознікі стъраюцца гадуваць скот.* Гарадзец. *Да восіні гудувалі, гудувалі, а іх і пъкралі.* Савінічы. *Нутры етыя ёсь у нас, йіх гадуюць самі.* Багданава. *Васіль здась, ня буду гудуваць* [цяля]. Дольдзева. *Ні бацька гъдъваў, ня сын едзіць, калі мучаіць чужога каня.* Ульянавічы. 3. Вырошчваць. *Там поля Шпалеры, дзе пан мыладэй сад гудуваў.* Баравікі.

**ГАДАВІ́К** *м.* 1. Жывёла ва ўзросце аднаго года. *Гъдавік – бычо́к, які перазімава́ў.* Гарадзец. *Цялёнык, а гадавік – гот тады́.* Багданава. 2. Наёмны рабочы, які працаваў цэлы год. *Гадавіко́ў не́ была, нанімалі сязо́нных рабо́чых.* Рэчкі.

**ГАДАВІ́НКІ** *толькі мн.* Гадавое свята. *А ў тых катлах піва ва́рыцца, / Піва ва́рыцца к тром пра́знічкам, / К тром пра́знічкам – тром гадавінкам* (з песні). Баравікі.

**ГАДАВЫ́** *прым.* 1. Гадавік; той, якога гадавалі на працягу года. *Гадаво́га кабанёнка дзе́ці забра́лі.* Дольдзева. 2. Які бывае адзін раз на год. *На гадавы́ пра́знік заъгада́й: на Узві́жанне, Крышчэ́нне.* Каралевічы.

**ГА́ДАНЬ** *ж. эмац.-ацэн.* Дрэнь, нягоднік, шкодная асоба. *Сусве́тная га́дань, дзе́лаіць другі́м, што лю́дзі хварэ́юць. Бяру́ць с трох магілак пясо́к і абсыпа́юць ха́ту.* Запруддзе.

**ГАДАЎШЧЫ́НЫ** *толькі мн.* Памінкі праз год пасля смерці чалавека. *Былі́ гадаўшчы́ны па Андрэ́йку.* Каралевічы. *Ся́нні шасці́ны, шэсь нядзе́ль, а чэраз гот – гадаўшчы́ны, го́ткі.* Міцюкова.

**ГАДА́ЛКА** *ж.* Варажбітка. *А мне хаце́лася знаць, што гъда́лка сказа́ла.* Нямойта.

**ГАДА́ЦЬ** *незак.* Варажыць. *За́йдзець пад вакно́, паглядзі́ць, а Да́шка сядзі́ць на пе́чы гада́іць.* Міцюкова. *На Па́ску не гада́юць: Ісу́с Хрысто́с васкрэ́с.* Каралевічы. *Пайшлі гъда́ць, гъда́лка сказа́ла, найду́цца скуты́.* Нямойта. *Цяпе́р во ні гыда́юць.* Гарадзец.

**ГА́ДЗІНА** *агульн. эмац.-ацэн.* Пра бесхарактарнага, бязвольнага чалавека. *Гавары́, га́дзіна, не́шта ты вы́піў, штоп ты апо́х!* Партызаны.

**ГАДЗІ́ЦЦА** *незак.* 1. Быць прыдатным. *Цяпе́р э́та ужо́ ні гадзі́цца.* Савінічы. 2. Добра. – *Зло́віця вуу́чъня́т – літр даю́. – Гадзі́цца!* Пожанькі.

**ГАДЗІ́ЦЬ** *незак.* Дагаджаць. *Я б жыла́, я б і гадзіла ім, каб яны́ былі́ къля блі́зу.* Багданава. *Я ні зна́ю, як гадзі́ць мужука́м.* Кляпчэва. *На́да гадзі́ць лю́дзям.* Запруддзе. *Як замру́, ба́цька дачке́ так гадзі́ць ня бу́дзя.* Станюкі.

**ГАДЗЮ́К** *м. эмац.-ацэн.* Пра небяспечнага, шкоднага чалавека. *Іна́, ві́дна, зна́ла, што ён зна́іць, гадзю́к.* Заазер'е.

**ГАДЗЮ́КА** *ж.* Гадзюка. *Гадзю́кі злэ́я, калі уку́сіць, то абяза́цельна у бальні́цу пападзе́ш, распуха́ець.* Алексінічы. *Гадзю́ка і змія́ адзіна́къвыя.* Гарадок. *Зме́і е́тыя, гадзю́кі, ядаві́тыя.* Жохава. *Ці буцяны́ іх прыно́сяць, гадзю́к, дзецём ці зва́львающа дало́ў яны́.* Вялікі Азярэцк. *Хвост паўзе́ць у гадзю́кі.* Апечкі.

**ГАДО́ВАНАЕ** *н.* Выгадаванае, вырашчанае. *Гадо́ванае усё здае́ш, уво́сінь бо́льшы зава́жыць.* Заазер'е.

**ГАДО́К** *м.* Аднагодак, равеснік. *На́дзя – мой гадо́к, з со́рак дзівя́тага го́да.* Багданава. *Наш гадо́к ма́ла по́мніць.* Кляпчэва.

**ГАДО́ЎЛЯ** *ж.* Вырошчванне, догляд. *Ой, гэ́та конь на́шай гадо́ўлі!* Самсоны.

**ГАДРО́Н** *м.* Штучная нітка. *Ні́тка шэ́рсці, а ні́тка гадро́ну яко́га – і вяжу́.* Партызаны.

**ГАЗ** *м.* Газ. *Ра́ньшы газо́ў ні было́.* Нямойта.

**ҐА́ЗА** *ж.* Газа, карасіна. *Къра́сін, ґа́за къза́лі.* Фасаўшчына.

**ГАЗЕ́ТА, ГАЗЭ́ТА** *ж.* Газета. *Па́пу дай газе́ты но́выя чыта́ць.* Фасаўшчына. *Глядзі́м ціліві́зар, газэ́ты чыта́ем.* Буй.

**ГАЗЕ́ЦІНА, ГАЗЭ́ЦІНА** *ж.* Тое ж. *Я вам газе́ціну паляджу́.* Багданава, Неўгадава.

**ГАЗЮ́ЛЕЧКА**, **ҐАЗЮ́ЛЕЧКА** *ж. памянш.* Самаробная лямпа без шкла; газоўка, газнічка. *Газю́лечку запа́ліш, і так дзе́ці вучы́ліся. Ґазю́лечка была́.* Ульянавічы.

**ГАІ́ЦЦА** *незак.* Загойвацца. *Па́лец стаў гаі́цца, перастаў балець.* Багданава. *Тады́ ш ні залі́ць чым, кап па́ліц гаі́ўся.* Леснікова. *Як мяса го́лае ста́ла, нага́ ста́ла гаі́цца. Гаі́цеся ра́ны.* Партызаны.

**ГАІ́ЦЬ** *незак.* Загойваць, гаіць. *Як бу́дзіць гаі́ць* [мазь], *так ма́шча.* Запруддзе.

**ГАЙ** *м.* 1. Густое драбналессе па нізкіх мясцінах. *Гай – гэ́та дзе кусты́, дзе малі́ны расту́ць, невялі́кі гай.* Запруддзе. 2. Невялікі лісцевы лясок. *Гай мале́нькі, гай бяро́завы.* Рэчкі. *Вунь у нас кла́дбішча, дзе гай, гаёк.* Самсоны. 3. Мясціна ў лесе або лес з роўнымі, гонкімі дрэвамі. *Гай – ро́ўны лес, любы́ лес, абы го́нкі.* Закур'е. ГАЁК *памянш. Гайка́мі лес, ні такі́ бальшы́.* Баравікі.

**ГА́ЙДАР** *м.* Гармідар. *Здзе́лаюць га́йдар у ха́ці.* Запруддзе.

**ГАК** *м.* ◊ З (С) ГА́КАМ. З невялікім перавышэннем, з лішкам. *Як тро́шкі бо́лій, так з га́към.* Фасаўшчына. *С га́кам – э́та куда́ бо́льшы за кілагра́м, чуць-чуць.* Запруддзе.

**ГА́КАЦЬ** *незак.* 1. Моцна біць, стукаць (пра снапы). *Га́каем дзень снапы́, на таку́ іх білі.* Буй. 2. *перан.* Высільвацца, надрывацца. *Так, дзе́ткі мае́, і га́каю.* Цясішча.

**ГА́КНУЦЬ** *зак.* Ударыць з вялікай сілай. *Як га́кну табе́, так ты і зава́лісся.* Фасаўшчына. *Як га́кніш гэ́ты мыша́к наго́й, аж гук ідзе́ць.* Пожанькі.

**ГАЛАВА́**, **ГАЛО́ВА**, **ГУЛУВА́** *ж.* 1. Галава. *Яна́ з галаво́ю, даўле́нне ду́жа высо́кае.* Запруддзе. *Скланіла гълаву́ на ка́мень – / Іі Бо́гу душу́ аддала́* (з песні). Каралевічы. *Я маць-ма́чыху бліску́чым бо́към прыкладаю, як балі́ць гулува́.* Ракаў Засценак. *Схапіла не́шта ў гълаве́.* Закур'е. *Шчу́ка нъ гълаву́ сла́бая, аку́нь ду́жа крэ́пкі нъ гълаву́.* Багданава. ГАЛАВЁНКА, ГАЛО́ВАЧКА *ласк. Як біс ша́пкі, уся́ гълавёнка курча́вая.* Партызаны. *Цяпе́рка на гало́вачку усё уда́рыла: бу́ду іці́ і валю́ся.* Дольдзева. 2. Верхняя частка ў прыладзе, прадметах побыту; у грыбах і інш. *Ту́тацька гълава́ была́ ў ліжака́х, адзі́н ге́ты бок вышэ́й.* Вялікі Азярэцк. *Абду́маўся мъна́х, што ў яго́ ў гълава́х.* Каралевічы. *Е́та гулува́ бе́лыя ба́пкі.* Міцюкова. *У цыбу́ліны гало́вы нет, то́лькі пе́р'е.* Нямойта. 3. Адзінка жывёлы (пры пераліку). *Підзіся́т гало́ў аве́ц убілі гразо́й.* Міцюкова. 4. Асоба мужчынскага полу, гаспадар. *У нас па дзе́віць дзесяці́н на мушску́ю гълаву́.* Марозаўка. ○ ІВА́Н-ГАЛАВА́. Званочкі (кветкі). *Іва́н-галава́ – сі́няя ж жо́ўтым.* Багданава. ○ ІВА́НАВА ГАЛАВА́ (ГАЛО́ЎКА). Тое ж. *Іва́нава гълъва́ сі́нім цве́там цвіла́, цвет такі́ бальшы́, такія бо́цікі па ей, па паго́рках ёсь, ліст такі́ пръдъў́гъва́ценькі, іна́ віс́окъя, цвяты́ ку́пінкай, гнязд́ом на ёй.* Мянюцева. *Іва́нава галава́ таўста́я, сі́няя, як галава́ ўсяраўно́.* Багданава. *Іва́нава гало́ўка галу́бінькім цве́там цвіце́.* Неўгадава. ◊ крычэ́ць НА ЎСЮ ГАЛАВУ́. Моцна, нема (крычаць). *А ён жа крычэ́ў на ўсю гълаву́.* Партызаны. ◊ ГАЛАВА́ НІ ВА́РЫЦЬ. Не дадумвацца, не прыходзіць да якога-н. вываду. *Ду́маіш, а гълъва́ ні ва́рыць.* Івоні. ◊ НА СВАЮ́ ГАЛАВУ́. Сабе на шкоду. *Брашы́, брашы́ на сваю́ галаву́.* Вялікі Азярэцк. ◊ НЯ Ў ГО́ЛАВЕ. Не з'яўляцца прадметам чыіх-н. клопатаў, думак. *Мне ня ў го́лаве.* Нямойта.

**ГАЛАВАРЭ́З** *м.* Традыцыйны восеньскі прысвятак у народна-царкоўным календары; вядомы і як царкоўнае свята адсячэння галавы Іаана Хрысціцеля. *Сёмага Галаварэ́з, як у я́гады ў журавіны хо́дзяць, калі каму́ час ёсьці.* Багданава.

○ ІВА́Н-ГАЛАВАРЭ́З. Тое ж. *А я й ні знáю, што ён абазначáіць Івáн-гълаварэ́з.* Самсоны.

**ГАЛАВА́СТЫ** *прым.* З вялікай галавой. *Галавáсты, гълавá як кьчáн.* Багданава.

**ГАЛАВЕ́НЬ** *м.* Галавень (рыба). *Гълавéнь, ён, як язь, быў. Іх прывазілі, запускáлі. Гълавéнь быў, ён вадзíўся тады́* [пакуль возера не перакрылі і не меліярыравалі]. *Гълавéнь ракóй сышóў.* Багданава.

**ГАЛАВЕ́ШКА** *ж.* Галавешка, недагарэлая палка, палена. *Нáда, штоб гълавéшък ні былó ў пéчы.* Дольдзева. *Свіння́м гълавéшкі даюць, як пол грызýць.* Міцюкова.

**ГАЛАДАВА́ЦЬ, ГУЛУДАВА́ЦЬ** *незак.* Галадаць. *Галадавáла я ў вайнý, а дзéці мáлыя.* Дуброўкі. *Прáлкі дзéлалі, прадавáлі, век ні гулудавáлі.* Марозаўка.

**ГАЛАДО́ЎКА** *ж.* Галодны час. *У гъладóўку вылуі вары́лі крэ́пка* [варылі некалькі разоў, зліваючы ваду]. Сукрэмна. *Там былá гъладóўка.* Апечкі. *Туўкачóм мякíну таўклі ны^а пры^аснакі ў гъладóўку.* Заазер'е.

**ГАЛАДРА́НЕЦ** *м.* Бядняк, абшарпанец. *У ягó дзед быў гъльдрáнец, і ўнук такéй: ідзéць так пъ крыві.* Сянно.

**ГАЛАЛЕ́ДЗІЦА** *ж.* Галалёд, галалёдзіца. *Як галалéдзіца, ідзéш і слізгаісся.* Запруддзе.

**ГАЛА́Н** *м.* Пра крыклівага, задзірыстага, галасістага чалавека. *Як пятýх во гълáн: га-га-га, во і ён так загóчыць* [пра мужчыну]. *Гълáн як пятýх.* Запруддзе.

**ГАЛАМА́ЧЧА** *н.* Беспарадак (?). *Надзéлаіць галамáчча.* Запруддзе.

**ГАЛАСАВА́ЦЬ** *незак.* Галасіць. *Мáтка галасýець, шукáець дзéвачку.* Фасаўшчына.

**ГАЛАСІ́СТА** *прысл.* Галасіста. *Вы́юць га^ъласíста вóўкі за Ба^ъравікáмі.* Ракаў Засценак.

**ГАЛАСІ́ЦЬ** *незак.* 1. Плакаць моцна, галасіць. *Гъласíла, як нéмцы забрáлі карóву.* Мянюцева. *Гъласíла ноч.* Вялікі Азярэцк. *Галашý на ўсю хáту.* Запруддзе. *Хоць ты гъласí нъ станóўцы.* Галашчакіна. 2. *перан.* Спяваць, падаваць голас (пра птушак). *Птýшачкі галóсюць, і ты с птýшачкамі галóсіш.* Кішуроўшчына.

□ *Га^ъласí ні га^ъласí, рáды ні дасí.* Нямойта.

**ГАЛАТА́** *ж.* Беднасць, галеча. *Пóслі вайны́ гълъ́тá, есь хóчыцца, дык з гóпікаў пы́шкі рабілі.* Заазер'е. *Галатá былá.* Апечкі. *Кáжуць, там галатá!* Буй. *У вайнý тькáя гълътá былá!* Чуцькі, Станюкі.

**ГАЛАЎНЯ́** *ж.* Хвароба злакавых раслін; галаўня, спарынння. *Гълъўня́ – зýбы чóрныя і ў пшаніцы, і ў жы́ці. Галъўня́ у жы́ці, яé атрýчваюць.* Запруддзе. *Гéта зýбы бывáюць чóрныя такія. У пшаніцы бывáіць гълаўня́, чóрныя, патрэ́ш, як пух.* Гарадзец, Багданава.

**ГАЛДАЯ́ЧЫЦЬ, ҐУЛДУЯ́ЧЫЦЬ** *незак.* 1. Невыразна прамаўляць гукі (пра немаўля). *Пяць мéсіцуў, дык ён ужó ґулдуя́чыць сабé.* Міцюкова. 2. Крычаць, гаманіць. *Дзéці там у аўтóбусі сабрáлісь, бýдуць галдая́чыць там.* Партызаны.

**ГАЛЕ́НЬ** *м.*, **ГАЛЬНІ́** *мн.* Стары венік без лісця; гален, дзяркач. *Галéнь звáлі змéцены вéнік.* Багданава. *Галéнь – вéнік змёўся увéсь, асталóся хварóсьце аннó.* Багданава, Заазер'е, Кляпчэва. *Галéнь, як прахóдзюць Кьля́ды, трэ́ба пасéч, расьсéч упéрак вярóвачкі, кап рассы́паўся. Нáда рассéч, вярóвачкі гэ́тыя і ўкíнуць у печ, кап згарэ́ў. Гэ́та на разражэ́нне.* Ракаў Засценак. *Галéнь, што мяцéш на сход Каля́д, да сóнца ръссячэ́ш нъ парóзі тъпарóм на тры чáсьці, і тады́ гэ́тыя*

*хваро́сьці ў пе́чы спалі́ць, тады́ ўсё ла́дна бу́дзіць.* Партызаны. *Ле́там на́да гальні́ палі́ць, кап дошч ішо́ў.* Гарадзец. *Гальні́ і лапа́ту хле́бную выно́сяць на ву́ліцу, штоб дошч пірастá́ў.* Карпавічы. *Перавяза́ць руку́ ні́тачкай ат гальня́, і расцяжэ́ння про́йдзя.* Фасаўшчына. *Соль табе́ ў во́чы, гале́нь памі́ж кале́нь* (з замовы). Вялікі Азярэцк. ГАЛЕ́НЧЫК *памянш. Як сход Каля́д, тады́ гале́нчык на тры разы́ рассячы́ на паро́зі і ў печ. Дзеля скаці́ны усё хараш́о бу́дзіць.* Партызаны. ГАЛЬНІШО́К *памянш.* Рэчкі.

**ГАЛЕ́ЧА** *ж. зб.* Бедныя, малазабяспечаныя людзі. *У нас тут усе́ бе́дныя, адна́ гале́ча жыве́ць.* Запруддзе.

**ГАЛЁНКА** *ж.* Частка нагі ад ступні да калена. *У назе́ галёнка.* Гарадзец. *Не́йкая баля́чка на галёнцы сядзе́ла.* Міцюкова.

**ГАЛЁНЫ** *прым.* ◊ НА ЯЗЫ́К ГАЛЁНЫ. Языкаты, языкасты. *Вы́піўшы, няве́стка на язы́к галёная – ерундава́тая.* Нямойта.

**ГАЛІПА́** *прысл.* ◊ З ГАЛІПА́. Галопам, вельмі хутка. *Яны́ з галіпа́ пруць, гало́пам.* Каралевічы.

**ГА́ЛІЦЦА** *незак.* 1. Прыкладваць намаганні, імкнуцца да нечага, некуды. *Біднатá была́, га́ліліся за рабо́тай, як бы ні прапусці́ць, а ціпе́р ду́маіш, што і прапусці́ць мо́жна дзень-два.* Ракаў Засценак, Гарадзец. *Маладзёж у го́рад га́ліцца: ску́ка ў дзярэ́ўні.* Розмыслава. *Ужо́ туды́ га́ліцца.* Дуброўкі. 2. Хацець нечага. *Кап сказа́ў, што га́люцца зъ мълако́м, так ні га́люцца.* Партызаны. *На́ша каро́ва ду́жа не га́ліцца, але́ з'есць ме́ста, як не дагле́дзіш.* Гарадзец. 3. Любавацца, захапляцца. *Усе́ на гэ́тае во́зера га́люцца.* Багданава.

**ГА́ЛІЦЬ** *незак.* Агаліць, давесці да стану галечы. *Так мяне́ въйна́ га́ліла.* Баравікі.

**ГА́ЛКА** *ж.* Галка (птушка). *Калі́ ра́нніцуй га́лкі га́ркъюць і на пръвады́ съдзя́цца, то бу́дзіць грыбны́, даждж авы́ гот* (прыкмета). Сукрэмна, Закур'е.

**ГА́ЛКА** *ж.* Пра карову, цяля чорнай масці і адпаведную клічку. *Га́лка чо́рная, э́та цёлачка.* Станюкі.

**ГАЛО́ДНЫ** *прым.* Галодны. *Быва́ла гало́дные пяю́ць лю́дзі, ажно́ по́ле раве́.* Чуцькі. *Хлеб, соль трэ́цца – і го́сці гало́дные.* Каралевічы. *Када́ бу́сел яйцо́ выкі́дываець – ле́та мачлі́вае, а када́ рабёнка – гало́дная ле́та* (прыкмета). Запруддзе.

**ГАЛО́ПАМ, ГАЛЁПАМ** *прысл.* 1. Галопам, наўскач. *Бы́стра ляці́ць конь галёпам, наўскапыта́.* Фасаўшчына. 2. Вельмі хутка. *Ба́чу, апа́здываю, то гало́пъм пашо́ў.* Сянно.

**ГАЛО́ЎКА** *ж.* 1. Галоўка (цыбулі, часнаку). *У чъснаку́ гало́ўкі бальшэ́я і зубы́ бе́лыя.* Лееснікова. 2. Закруглены канец у прадметах, рэчах, прыладах. *Гало́ўка ў віръцяне́, а во само́ вірцяно́.* Закур'е. *Гало́ўку ат машы́ны* [швейнай], *ка́ець, за́ўтра прывязу́.* Нямойта.

□ *Гало́ўка хіне́цца – душа́ ні гарне́цца.* Мянюцева.

**ГАЛО́ЎКІ** *толькі мн.* Загнутыя канцы палазоў у санях. *Накла́ў се́на ў гало́ўкі. Што вы́шэ – гало́ўкі, садзі́сь на гало́ўкі.* Гарадзец, Заазер'е.

**ГАЛО́ШЫ** *мн.* Галёшы. *У гало́шах хаджу́, нагу́ не́як абу́ць у што друго́е.* Запруддзе.

**ГАЛО́ШЫНА** *ж.* Галёш. *Гало́шыну на разе́тку нача́пліваім, калі́ пяру́н.* Запруддзе.

**ГА́ЛСТУК** *м.* Гальштук. *Га́лстук мъладзёж насі́лі, пры га́лстуку къза́лі.* Нямойта.

**ГАЛЎБАЎКА** *ж.* Блакітная або сіняя фарба. Неўгадава.

**ГАЛУБІННЫ** *прым.* Галубіны. *Галубінны памёт кідáлі і самагóнку гнáлі – во які ят.* Жохава.

**ГАЛЎБКА** *ж.* Ласкавы зварот да жанчыны, дзяўчыны. *Галўбка мъя!* Запруддзе.

**ГАЛУБЫ́** *прым.* Блакітны, сіні. *У сарóкі я́йцы галубэ́я і чóрныя мéткі, крóпкі* [па іх]. Сянно. *Галубы́я вóчы слабы́я, чóрныя вóчы крапчэ́й.* Вялікі Азярэцк. ГАЛЎБІНЬКІ *ласк.* Неўгадава.

**ГАЛЎЗАВАЦЬ** *незак.* Гарэзнічаць, свавольнічаць, дурэць. *На начлéгу з вéчъра галўзъіш, за дзень замóрысся, ля́жыш і спіш, як цэп.* Алексінічы.

**ГАЛЎШКА** *ж.* Клёцка, пампушка. *Надзярэ́ш картóшкі, вы́ціснеш вадў, наъкаъчáіш у сéмя. Галўшак такíх нарóбіш, у печ паъстáвіш, у лляное сéмя наъкаъчáем.* Багданава. *Сóрак галўшак, сóрак пампўшак, сóрак лáдак – бўдзе ў хáце парáдак* (прыгаворка). Нямойта.

**ГАЛЫ́ШНІК, ГАЛЫ́СНІК** *м.* Бядняк, галадранец. *Тут бéдна жылí, былí галы́снікі, галы́шнікі, і назвáлі Галашчáкіна.* Галашчакіна.

**ГАЛЫШÓМ** *прысл.* Вялікі мароз пры незаснежанай зямлі. *Галышóм смалíла, быў марóс.* Запруддзе.

**ГАЛЬНÓ** *н.* Частка нагі ад ступні да калена. *Гальнó рассéк, хадзíць цяшка.* Фасаўшчына.

**ГАЛЬЦÓМ** *прысл.* Вялікі мароз пры незаснежанай зямлі. *Марóз гальцóм смалíў, снéгу ні былó.* Партызаны.

**ГАЛЮ́ШКА** *ж.* Галінка. *Галю́шкі паб'ядáў воўк.* Фасаўшчына.

**ГÁЛЯ** *ж.* Паўночнік палявы, раннік (?; расліна). *Бáньцікі рвáлі і вілí. Звáлі йіх і гáля. Гáлю рвáлі і вянкі плялí.* Манголія.

**ГАМАНІ́ЦЬ** *незак.* Размаўляць, гаварыць, расказваць. *Я ні хаджў, ні чўю, як гамóнюць. Сідзя́ць тўтацька, гамóнюць.* Вялікі Азярэцк.

**ГÁМАЦЬ** *незак.* Есці (пра дзіця). *Гáмай, гáмай* [на дзіця]. Нямойта.

**ГАМЗІ́ЦЬ, ГАМСІ́ЦЬ** *незак.* Гамзаць, гугнявіць. *Трóхі гамзíць Ігнáт.* Каралевічы. *У нос гавóрыць Кóля – гамсíць.* Каралевічы.

**ГАМÓН, ГАМЭ́Н** *м.* Канец. *Каб ні ты, мне б гамóн быў.* Каралевічы. *Кап чуць-чуць, дык гамóн ямў.* Парэчча. *Пагóда плъхáя, зъмя́кніць стох на пяць тон і гамэ́н* [яму]. Леснікова.

**ГАМÓНКА** *ж.* Гамонка, размова. *Гамóнкі німá, дзе мне тóе сéна вóзьмім.* Буй.

**ГАМЭ́РНЯ** *ж.* 1. Гамарня; крык, бязладдзе. *У іх хáці гамэ́рня бальшáя.* Дуброўкі. 2. Вялікае памяшканне (хата). *У іх гамэ́рня бальшáя – вясéлле там спраўля́лі.* Дуброўкі.

**ГÁНАК, ҐÁНАК** *м.* 1. Ганак. *Ґáнак высóкі такí.* Кляпчэва, Дольдзева, Заазер'е, Леснікова, Міцюкова, Нямойта. 2. Ступенькі. *Гáнак прóста ступéні такíя.* Нямойта. *Цымянтóвы гáнак – схóдцы.* Ульянавічы. *Ґáнкі – як на крыльцó ступáеш.* Кляпчэва.

**ГАНАРЫ́СТЫ** *прым.* Ганарысты, фанабэрысты. Каралевічы.

**ГАНДЛЯВÁЦЬ** *незак.* Гандляваць. *Катóры дахóт мáіць, той і жывéць, гандлю́іць.* Запруддзе.

**ГАНДЛЯ́Р** *м.* Гандляр. *Гъндляры́ гандлю́юць, нагундлювáў кáжуць. Кóнямі гандлю́юць.* Багданава, Гарадзец.

**ГÁНІЦЬ** *незак.* Ганіць, нагаворваць. *Ні гань! Ні гань ягó! Харóшы хлеп, ні нáда гáніць, дай бог, да вéку.* Ульянавічы. *Я б ягó ні гáніў, мъладзéц.* Рэчкі.

# Г

**ГАНКІ́** *мн.* Плыты. *На ганках лес ганялі у Рыгу.* Партызаны. *Ганкі гналі па Абалянцы – рэчцы.* Розмыслава.

**ҐАНЦІ́НА** *ж.* Адна штука гонту. *Дзелаіцца танейшая ґанціна.* Багданава, Нямойта.

**ГАНЧА́Р** *м.* Ганчар. *Гънчар з гліны зробіць і чърапкі, і такея кружачкі.* Буй. *Гънчары вазілі гърлачы, міскі, латушкі, гаршкі.* Нямойта. *Гънчары дзелаюць гаршкі, гарлачы.* Кляпчэва, Апечкі, Леснікова.

**ГАНЧА́РНЯ** *ж.* Ганчарскі горан. *Так трошку водаль у яго гънчарня была.* Апечкі.

**ГАНЧЭ́Й** *прысл.* Хутчэй. *Ліда, ты ганчэй сходзіш. У чатыры цапы – ганчэй ці цішэй малаці.* Запруддзе. *Поезд ганчэй прыйшоў.* Каралевічы.

**ГАНША́К** *м.* Конь, які хутка бегае. *Гъншак – конь, шыпка бегъіць, як гоншы.* Нямойта.

**ГАНЯ́ТЫ** *дзеепрым.* Акучаны, разагнаны. *Наша бульба ні ганята.* Запруддзе.

**ГАНЯ́ЦЦА** *незак.* Ганяцца, выяўляць вялікае жаданне. *Ні ганяюцца дзеці за мълаком, цяпер патвыкшы* [ад малака]. Турава.

**ГАНЯ́ЦЬ** *незак.* 1. Ганяць, гнаць (жывёлу). *Ні ганяюць на ранкі кароў.* Гарадзец. *Раньшэ па тэй вуліцы гънялі свіней пасціць у поля.* Нямойта. 2. Абворваць, акучваць (бульбу). *Была съха, гънялі бульбу.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Чуцькі. 3. Хутка перамяшчацца па кругу. *Лапці з лёну на кручок пляцеш, кругом гъняеш.* Апечкі. 4. Танцаваць, аддаючы перавагу чаму-н. *Кадрыль, польку, вальс, а бальшынство лінцяя ганялі.* Багданава. ◊ ГАНЯ́ЦЬ РУСА́ЛКУ. Праводзіць абрадавыя дзеянні па выгнанні русалкі з вёскі ў жыта. *Купала гъняюць, а русалку ў жыта гъняюць.* Дольдзева. *У жніво русалку ганяюць.* Заазер'е. *Мы рас с табой русалку гънялі.* Запруддзе.

**ГАР-ГАР-ГАР** *выкл.* Гукі, якімі перадаюць крык качкі. *Вуткі карзінку макрыцы з'ядуць – праз гадзіну: гар-гар-гар.* Каралі.

**ГА́РА** *ж. экспр.* Гарэлка. *І гедак жа ёсць: не дасі гары* [бутэлькі], *не пераарэць.* Запруддзе.

**ГАРА́** *ж.* 1. Узвышша, пагорак, высокае месца. *Тут гор многа пат Сянно.* Апечкі, Гарадок, Дольдзева, Розмыслава, Рэчкі. *Кап цябе гарой здзелала!* (праклён). Вялікі Азярэцк. 2. Гарышча. *Карыта на гарэ.* Закур'е.

**ГАРАВА́ЦЬ, ГУРУВА́ЦЬ** *незак.* 1. Гараваць, бедаваць, турбавацца. *Хъзяін сядзіць, глядзіць, што хъзяйка гаруіць.* Заазер'е. *Я ў вайну жыла, гурувала. У таку жылі, у таках жалі, гурувалі, ні дай бох.* Багданава. *Мука, гора, ён так гуруваў.* Запруддзе. *Я сёліта гарую па бульбачцы: не разварваецца.* Вялікі Азярэцк. *Матка, як ні гурувала, ні скончыла іна інстытут.* Алексінічы, Нямойта. *Матка гаруіць цяпер.* Неўгадава. 2. Шчыра працаваць. *Усю жызню гарую: гэткі агарод быў.* Розмыслава.

**ГАРАВЫ́** *прым.* Які мае адносіны да гары. *Дашка гъравая, што на горке жывець.* Міцюкова.

**ГАРАДЗІ́ЦЬ** *незак.* Гарадзіць, абгароджваць. *Гърадзілі чыстаколъм.* Гарадзец. *После Паскі да праводнага васкръсенья нільзя гарадзіць, а то ні будзя дажджоў.* Карпавічы, Вялікі Азярэцк, Нямойта. *Послі Вялікъдня нъ русальніцу нічога нільзя гърадзіць.* Чуцькі.

**ГАРА́Ж** *м.* Гараж. *Гаража пастроілі.* Багданава.

**ГАРАНО́К** *м.* Ачаг у хаце, агмень. *Гаранóк у хáці зрабі́лі.* Дуброўкі.

**ГАРА́ТНІЦА** *ж.* Гаротніца. *Мы абéі гарáтніцы з éтай бáбай.* Баравікі.

**ГАРА́ТНЫ** *прым.* Гаротны, няшчасны. *Гарáтныя бáбы, дзéці далёка.* Міцюкова. *З мáткаю гарáтные дзéці ні бýдуць.* Каралевічы. *Калі дарóгу пярóйдзіць абі́жаны, гърáтны с пусты́мі вёдрымі, то бýдзіць усё дóбра* (прыкмета). Ракаў Засценак. *Біларусы́ – гэ́та сáмы гарáтны нарóт.* Алексінічы, Запруддзе, Івоні, Міцюкова, Нямойта, Ульянавічы.

**ҐА́РАЦ** *м.* Старая мера сыпкіх і вадкіх рэчываў; гарнец. Жохава, Пожанькі.

**ГАРАЦКІ́** *прым.* Гарадскі. *Там квáрта, а ў нас крýшка. Так нас гарацкі́мі звáлі. Ой, нáша Натáлля Івáнаўна гърацкáя стáла, ні баіцца нічóга, ўсё харашó.* Заазер'е.

**ГАРА́ЧА** *прысл.* Горача. *Вам ні гърáча?* Ульянавічы.

**ГАРА́ЧКА** *ж.* Гарачка. *Кап на цябé гаъ́рáчка наъпáла!* (праклён). Вялікі Азярэцк. *Мóжа я ўжо ніжывáя, с гарáчкі ўскóчыла, янá так дýмала.* Леснікова.

**ГАРА́ЧЫ** *прым.* 1. Моцна нагрэты. *Нільзя́ гарáчыю травý давáць карóвам, бóжа спасі!* Чуцькі. 2. З высокай цеплааддачай. *Альхóвыя дрóвы, бярóза – гаърáчыя дрóвы.* Партызаны. *Бярóзавыя дрóвы сáма лýччы, гарáчыя.* Станюкі.

**ГАРАЧЫНЯ́** *ж.* Гарачыня, цяпло. *Гърачыня́ па ўсей руцэ́ разышлáся ат укóла.* Фасаўшчына.

**ГАРБАНО́СЫ** *прым.* Гарбаносы. *Дóўгі нос – гарбанóсы.* Запруддзе, Міцюкова.

**ГАРБА́Р** *м.* Землякоп. *Гарбáр – хто къпáў кънáвы.* Гарадзец.

**ГАРБА́ТЫ** *прым.* Гарбаты. *Гарбáты пляме́ннік такі́, бáба мáленькага ўпусці́ла, і ён гарбáценькі хóдзіць.* Гарадзец, Багданава. ГАРБА́ЦЕНЬКІ *эмац.-ацэн.* Гарадзец.

**ГАРБЕ́ЦЬ** *незак.* Гарбець, карпець на працы. *Ні нáда гарбéць, пасці́лкі тыя ткаць, мóжна купі́ць.* Баравікі.

**ГАРБУ́З** *м.* 1. Гарбуз. *Гърбузý нáда сéяць, як цяплéй. Гарбузы́ сéяць у начáле іюня, хóладу баяцца.* Партызаны. *Пóлнае сéмячка – знаць гарбýз паспéлы.* Розмыслава, Багданава, Гарадзец. 2. Страва з гарбуза. *Гурбузá вары́ла. Пъкалóціш гурбузá і смáшны.* Гарадзец.

**ГАРБУЗО́ВЫ** *прым.* Гарбузовы. *Гарбузóвае сéмечка парэ́зала з атрáвай, перамяшáла. Кры́са на аднý ноч з'éла, на другýю, а на трэ́цюю не трóгала.* Нямойта.

**ГАРЗІРО́ЎКА** *ж.* Газаваная вада. *Калі гързірóўкі прыпрэ́ць, пі!* Чуцькі.

**ГАРКА́ВЫ** *прым.* Гаркаваты. *Чóрныя грузды́ гаркáвыя.* Запруддзе. *Валуйі растýць, як чáшкі, яны́ гъркáвыя.* Партызаны. *Яны́ гъркáвыя, вуўня́нкі.* Каралі. *Плóтка – бізуўкýсная ры́біна, гъркáва ў голуві.* Сянно. *Мі́дуніца расцéць, бéлым цвіцéць, янá цвёрдая і гаркáвая.* Марозаўка, Вялікі Азярэцк. ГАРКА́ВІНЬКІ *ласк.* *Валýй гъркáвінькі, ні прыхадзі́лъся салі́ць.* Дольдзева, Марозаўка.

**ГАРКАТА́** *ж.* Горыч, гарката. *За шчакý тъбáкі і ссець тýю гъркатý.* Багданава.

**ГАРКА́ЦЬ** *ж.* Тое ж. *Крáсныя сыраéшка аддаéць, у яé гъркáці* [болей]. Пожанькі. *Раскладзём капýсту, з яé вы́йдзіць гъркáць, гъркаці́ німá.* Вялікі Азярэцк, Чуцькі. *У плóткі гъркáць ёсь.* Сянно.

**ГА́РКАЦЬ** *незак.* Гагатаць. *Гýсі гáркаюць.* Багданава.

**ГАРКА́Ч** *м.* Горыч, гарката. *Капýста гарэ́ніць, пакýль гаркáч вы́йдзе з яé.* Вялікі Азярэцк.

**ГА́РКНУЦЬ** *зак.* Гаркнуць, злосна гаўкнуць. *Сабáка гáркнула – я забалéла.* Міцюкова.

**ГАРКУ́ША** *ж.* Гаркуша (грыб). Сянно.

**ГАРКУ́ШКА** *ж.* Тое ж. *Гаркýшкі мы бярóм.* Сянно.

**ГАРЛАВІ́НА** *ж.* 1. Горла. *Гарлавіна у карóвы, гóр'е.* Парэчча. 2. Трубка ў горне (у кузні). *Ат мéху ідзéць гърлавіна с кірпічá* [з каптура] *на выхът, дзе сыпліцца вугóлля.* Запруддзе.

**ГАРЛА́Ч** *м.* Гарлач, збанок для малака. *Гарлачы з гліны рáньшэ былі.* Буй. *Гарлáч біз рýчкі.* Леснікова. *Гарлачы бывáюць з рýчкай, бывáюць бяз рýчкі.* Кляпчэва, Багданава. *У нас гырлачы чóмбырым пáруць.* Дольдзева. *Карóву падóіш, працэ́дзіш мъ$^{ы}$лакó ў гарлáч, ськісьнець, верх éты сьнімеш сьмітáну, мáсла саб'éш.* Запруддзе. *Гарлáч – э́та малакó рáньшэ лілі.* Марозаўка, Леснікова, Нямойта. *Гарлачы з гліны, выпаляць іх, малакó цадзілі.* Закур'е. ГАРЛА́ЧЫК *памянш. У мянé есць гърлáчък для мълакá.* Вялікі Азярэцк. *Га$^{ъ}$рлáчык ат кіслага ма$^{ъ}$лакá.* Закур'е, Неўгадава.

**ГАРЛА́ЧЫК** *м.* Званочак (кветка). *Гарлáчыкаў нарвáла, такія во каляныя, кармяныя.* Міцюкова.

**ГАРЛЯ́НКА** *ж.* 1. Гарлянка (расліна). *Гарлянка, як у гóрле баліць, стóпіш, пап'éш і прахóдзіць.* Каралевічы. *Гърлянкі нáда нарвáць, папáрыць. Гърлянка, як у гóрлі баліць, бувáла тапілі да пілі.* Багданава, Алексінічы. *Тръвá гърлянка. Пáраць яé, нът пáрай сідзяць.* Вялікі Азярэцк. *Сёліта гърлянкі ні назбéрыла.* Дуброўкі. 2. Хвароба горла. *Гърлянка – як у гóрлі балéць стáніць.* Каралевічы. *Гърлянка – глóтка баліць.* Манголія. *Гърлянка – як забаліць у гóрле.* Багданава, Вялікі Азярэцк.

**ГАРЛЯ́ЦЬ** *незак.* Гарлапаніць, гарланіць. *Гарляем аднý пéсню. Гърляем пéсні да рáння.* Чуцькі.

**ГАРМАНІ́СТ** *м.* Гарманіст. *Мáльцы гърманіста давáлі, дзéўкі – хáту.* Партызаны.

**ГАРМО́НІК** *м.* Гармонік, гармонь. *Гармóнік зайіграіць – с усіх дзіравéнь сабірáюцца. Бувáе й музыка іграець на гармóнік.* Вялікі Азярэцк. *Гармóнік быў да мнóгіх лет.* Каралевічы. *Ніхтó дáйжа й гармóніка ня чуў: кап хто піснуў, кап хто віснуў.* Самсоны. *Мýзыка былá, гармóнікі ігрáлі.* Гарадзец, Запруддзе.

**ГАРМО́НІЧКІ** *мн.* Пра спосаб складвання чаго-н. мяккага. *У гармóнічкі складзéш ягó, скут.* Турава.

**ГАРМО́ННЫ** *прым.* Звязаны з гармонікам (гармонню). *Павёз я сваю гармóнь нъ гармóнны рынък у Óршу.* Сянно.

**ГАРМО́ШКА** *ж.* Гармонік, гармонь. *Іграў харашó дзед на гармóшку.* Цясішча.

**ГАРНАСТА́Й** *м.* Гарнастай. *Гарнастáі глáдка бéлыя. Гърнастáй – ён бéлай. З іх вырабáтваюць кóжычкі, яны цэ́нныя.* Багданава. *Гърнастáйі бéлыя, паўбілі йіх.* Запруддзе.

**ҐАРНІ́З** *м.* Карніз. *Пірасялéнцы тут, сáмі ґарнізы павéсілі.* Багданава.

**ГА́РНІЦ, ҐА́РНІЦ** *м.* 1. Старая мера сыпкіх і вадкіх рэчываў; гарнец. *Ґáрніц – э́та мéрка былá такáя. Дзень атрабóтаіш – ґáрніц зірнá дась. Скóка гáрнцъў? Ґáрніц – мéрка былá, бес крышкі.* Кляпчэва, Рулёўшчына. *Ґáрніц плялі с салóмы, мукý браць. Ґáрніц жыта быў і тры фýнты, і дзéсяць. Лýпкі, ґáрніц быў і пяць фýнтаў і сем фýнтаў. Ґáрніц гарэ́лкі тóжа быў* [тры літры]. Вялікі Азярэцк. *Ґáрніц мéншы, як лýпка.* Дольдзева, Пожанькі. *Ґáрніц – бутылкі такія, літры тры.* Заазер'е. *Ґáрніц літраў і калі пяці, і дзісяці, і па тры літры. Ґáрніц – э́та кілагрáм дзéсяць, навéрна. Былі гáрнцы, чыцьвярык, лýпкі.* Марозаўка. 2. Саламяная ці драўляная пасудзіна такой меры. *Гáрцы плялі з салóмы. Поўвідрá улéзіць у ягó.*

Багданава. *А ета ґарніц дзірвянны.* Фасаўшчына, Савінічы. ГА́РНІЧАК *памянш. Гарнічкі плялі с салóмы мукý браць свінням.* Вялікі Азярэцк.

**ГАРНО́** *н.* Горан. *Гарнó ў кýзні зáпръста дзéлъць.* Запруддзе.

**ГАРНУ́ШАК** *м.* Гаршчок з шырокім рылам, пузаты. *Гарнýшък – у пéчку стáвілі сьмітáну.* Савінічы.

**ГА́РНЭК** *м.* Тое ж. *Сéстра прышлá с гáрнэкам ка мне.* Ульянавічы.

**ГАРО́ВАНЫ, ГУРУВА́НЫ** *дзеепрым.* Гаротны, няшчасны. *Бáба гарóваная, удавóй засталáся. А зяць харóшы, сам гурувáны.* Багданава. *Дзед не гарóваны, нáйдзе што з'есць.* Парэчча.

**ГАРО́Д, ГАРО́Т** *м.* Агарод. *Лес быў чуць ні да гарóду. Гарóду есь, тóлькі пашы́, бáба.* Нямойта. *Пáйкі даюць на карóву, сéна хватáіць, на гарóдзі сéілі. Гарóт вы́мяк.* Фасаўшчына. *Прыéхалі дзéці, гарóд трóхі засéялі. Маймý гарóду дажджы́ нáда – высóкі. У гарóдзі пъсадзíла куркурýзу, а нам дáлі ў пóлі.* Алексінічы. *Увéсь гарóд ні паллéш, а тóлькі грáдкі. Гарóт я пасéіла ў Тóрбінцы.* Партызаны, Багданава, Вялікі Азярэцк, Каралевічы, Серкуці, Чуцькі. *Дый два гарóды у сястры́.* Неўгадава.

**ГАРО́ДНІНА** *ж.* Агародніна. *Ня дýжа ураджáй на гарóдніну.* Вялікі Азярэцк. *Гарóдніну падры́лі краты́.* Серкуці. *Гарóдніна ў гэ́тым гóдзе бýдзіць.* Партызаны.

**ГАРО́ДЧЫК** *м.* Агародчык, кветнік. *Сярэ́нь рáсла ў гарóдчыку і я́бланька.* Нямойта.

**ГАРО́Х** *м.* 1. Гарох (расліна). *Гарóх пасéялі з гарчы́цай, ён пляцéцца і стаіць, апóра ямý.* Партызаны. *Гарóх лю́біць глíнку* [гліністую глебу]. Пожанькі. *Гарóх събярэ́ш граблямí ў кýчкі, малаціілі цапамí.* Неўгадава. 2. Насенне расліны. *Гарóх жоўцінькі[й] быў.* Каралі. *У Каля́ды боб ясі, гарóх – дзічы́ за тóе вы́скачаць* (прыкмета). Багданава.

**ГАРО́ХАВЫ** *прым.* Гарохавы, прыгатаваны з гароху. *Гарóхъвъя бліны́ пяклí, жóўцінькіе. Гарóхъвъя бліны́ к Кълядъм пяклí.* Каралевічы.

**ГАРО́ХВІНА** *ж.* Сцябло гароху. *Гарóхвіны ні ядýць карóвы.* Заазер'е. *Гарóхвіны ня есць скот. Гарóхвіны – сцéбель, як змалóціць.* Міцюкова.

**ГАРО́ХВІШЧА** *н.* Поле, дзе рос гарох; гарохавішча. Міцюкова.

**ГАРО́ШЫНА** *ж.* 1. Гарошына, гарохавае зерне. *Гарóшыну ўкíнем у гóрла куры́нае – дзéці бáвяцца.* Буй. 2. Жаўлак, гузак у форме гарошыны. *Віцебскія мéдзікі кълáлі бýльбу, абнарýжылі на грудзí ў мянé, як гарóшыну.* Нямойта.

**ГАРСЕ́НЗІЯ** *ж.* Гартэнзія (кветка). *Гэ́та гарсéнзія, як цвіціць, букéты бальшы́я.* Міцюкова.

**ГАРСО́ЎКА, ГАРЦО́ЎКА** *ж.* Бутля (гарэлкі) ёмістасцю тры літры. *Бáцька двáццаць пудóў насíў: закладáліся па гарсóўцы. Закладáліся на гарцóўцы: чаты́ры чалавéкі нёс на сабé.* Міцюкова.

**ГАРУ́ШКА** *ж.* Горка, невялікі ўзгорак, узвышша. *У нас тýтыцька гарýшка, а рáдъм балóта.* Алексінічы. *Гарýшка бýдзіць нíбальшэ́нькая.* Партызаны. *З гарýшкі éхаў і бах – зваліўся. Як ідý пыд гарý, мне лýччы, а як з гарýшкі, мне хужэ́й.* Запруддзе, Кішуроўшчына, Самсоны. *Тут гарýшка, як трáктару хадзіць? З гарýшкі дзéці катáюцца.* Закур'е. *Мая́ бáцькъўшчына былá на гарýшцы.* Неўгадава. *Кълá вóзіра Слідзя́цкъя ёсь гарýшка.* Дуброўкі. ГАРУ́ШАЧКА *памянш. У нас пóля – ўсё гарýшъчкі.* Самсоны. *Тут за гарýшъчкай вóзіра.* Малы Азярэцк, Заазер'е, Кішуроўшчына, Самсоны.

**ГАРЦАВА́ЦЬ** *незак.* Бегаць, насіцца. *Ла́ска дзярэ́ць каро́ву, а каро́ва гарцу́йіць* [па хляве]. Чуцькі.

**ҐА́РЧЫК** *м.* Старая мера сыпкіх і вадкіх рэчываў; гарнец. *Я ґа́рчык вы́нісла жы́та.* Вялікі Азярэцк.

**ГАРЧЫ́ЦА** *ж.* Свірэпа. *Гарчы́цу – у сіло́с з гаро́хам.* Партызаны.

**ГАРЧЭ́ЙШЫ** *прым.* Больш горкі. *Мо́жа гуркі і гарчэ́йшые.* Вялікі Азярэцк.

**ГАРШО́К** *м.* Гаршчок. *Гънча́р дзе́лаў гърлачы́ і гаршкі́.* Апечкі, Леснікова. *Гаршкі́ з гліны ў пе́чку ста́вілі.* Заазер'е. *Гаршко́м гро́шы ме́рылі – зво́нкую мане́ту.* Каралевічы. *Гаршкі́ чо́рныя купля́лі, з глі́ны.* Буй. ГАРШЧО́ЧАК, ГАРШЧЭ́ЧАК *памянш. Гаршчо́чкі былі́, гърлачы́, гаршкі́, ло́шкі дзірвя́нные.* Гарадзец. *У гаршчэ́чак збіра́юць сміта́ну, у пе́чку, аттопіцца, сальёш і кало́ціш. Сміта́ну ў гаршчэ́чык збіра́ла ма́тка.* Турава.

**ГАРЫ́СТЫ** *прым.* Гарысты. *Я е́хуў з дзе́дъм, там гары́стыя ме́ста, і конь папу́дзіўся.* Самсоны.

**ГА́РЫЦЦА** *незак.* Імкнуцца. *У го́рад га́руцца усе́ маладыя.* Розмыслава.

**ГАРЭ́ЛАШНЫ** *прым.* Прызначаны для гарэлкі. *Здъла́ гарэ́лышныя бутэ́лкі, то йдзі, ба́ба, зъ гарэ́лкъй.* Фасаўшчына.

**ГАРЭ́ЛКА** *ж.* Гарэлка. *А яны́ гарэ́лкі паста́вюць, даду́ць бутэ́льку.* Запруддзе. *А гарэ́лка с хле́ба, / І яе́ піць трэ́ба, / А хто гарэ́лкі ня п'ець, / Ніха́й таму́ запрэ́ць* (з песні). Каралевічы. *То́лькі гарэ́лка я́зву вы́лечыла.* Баравікі. *Прыці́снулі зъ гарэ́лкъй і лу́нула.* Запруддзе. *Мъхамо́ры кра́сныйі нъ гарэ́лцы нъста́йівъюць.* Цясішча. *З дурніц брат гарэ́лку гнаў.* Кішуроўшчына, Багданава, Фасаўшчына. *Гарэ́лкуй ру́кі абмы́ла, пчо́лы гарэ́лку лю́бюць.* Неўгадава. ГАРЭ́ЛАЧКА *памянш. Як да гарэ́лачкі, – / Я ж сама́, / А як рабо́таць, / Так німа́* (прыпеўка). Вялікі Азярэцк.

**ГАРЭ́ЛЛЯ** *н.* Пагарэлішча. *Дзе згарэ́лы дом, лажы́сся на гарэ́лля.* Міцюкова.

**ГАРЭ́НІЦЦА** *незак.* Гарэць. *У нас ха́ты ні гарэ́нілісі, нічо́га.* Неўгадава.

**ГАРЭ́НІЦЬ, ГАРЭ́ЙНІЦЬ** *незак.* Гарэніць, мець горкі прысмак. *Падгро́бы гарэ́нiют, йіх атва́рыют.* Карпавічы. *Капу́ста гарэ́йніць, паку́ль гаркач вы́йдзе з ніе́.* Вялікі Азярэцк.

**ГАРЭ́ЦЬ** *незак.* 1. Гарэць. *А тады́ пъдыйшо́ў і скъзаў: «Брат, гары́м!»* Міцюкова. *Тады́ лучы́нка гарэ́ла, я тро́хі по́мню.* Запруддзе. 2. Смылець ад укусаў, апёкаў. *Я яе́ рука́мі го́лымі рву* [крапіву], *пстрыка́іцца, ру́кі гара́ць.* Заазер'е. 3. Пячы, балець. *Пясо́к, дык гара́ць падо́швы.* Багданава. ◊ ГАРЫ́ ТЫ (ЯНО́) ГА́РАМ! (праклён). 1. Пра пільную неабходнасць, безвыходнасць. *Гары́ ты га́рам, пае́дзім у Віцебска.* Запруддзе. *Гары́ яно́, цяпе́р по́зна зу́бы станаві́ць.* Ракаў Засценак. 2. Нізашто, ні ў якім выпадку. *Гары́ яно́ га́рам – абазля́цца з працсіда́целям.* Партызаны.

**ГАРЭ́ЦЬ** *незак.* Цвісці (пра агуркі). *Гарэ́лі яны́, гэ́тыя агуркі́.* Партызаны.

**ГАСІ́ЦЬ** *незак.* Выключаць. *У́трачкам пакупа́ю дзяцёнка, спаў́ю, а цяпла́ гасі́ць не́калі – пятна́ццаць дзянькоў ні гасі́ла.* Цясішча.

**ГАСПАДА́Р** *м.* Гаспадар. □ *Як жы́та красу́е, дак гаспада́р галасу́е.* Багданава.

**ГАСПО́ДЗЬ** *м.* ◊ ГАСПО́ДЗЬ НА СВЕ́ЦІ. Выгук пры незвычайным здзіўленні. *Гаспо́дзь на све́ці! – так руга́юцца – уціка́й.* Запруддзе. ◊ ГАСПО́ДЗЬ МОЙ БОГ. Тое ж. *Што там было́, гаспо́дзь мой бог!* Ульянавічы. ◊ ГАСПО́ДЗЬ ВІСО́КІ. Тое ж. *Людзе́й – гаспо́дзь віс́окі! Брэ́шуць так, гаспо́дзь віс́окі, як брэ́шуць.* Партызаны.

**ГАСУДА́РЫНЯ** *ж.* Жонка, гаспадыня. *Каб мъя́ гусуда́рыня жыла́, то б нъ рука́х насі́ў.* Закур'е.

**ГАСЦІ́НЕЦ** *м.* Гасцінец, пачастунак. *Прывязу́ць гасці́нец.* Леснікі.

**ГАСЦІ́НЕЦ** *м.* Гасцініца, гатэль. *Но́вы гасці́ніц пастро́ін, харашо́ там.* Багданава.

**ГАСЦІ́ЦЬ** *незак.* Гасцяваць, частавацца. *У пе́рвую о́чырыдзь е́халі к мыладзё-ну маладу́хіны бацькі́, і там ужо́ гасці́лі.* Серкуці. *Іна́ усю́дых гасці́ць.* Багданава.

**ГАСЦЯВА́ЦЬ** *незак.* Частаваць. *Го́сці прые́дуць – няма́ чым гасцява́ць.* Міцюкова.

**ГАТАВА́ЦЦА** *незак.* Гатаваць, варыць страву. *Пе́рвая гату́еццa по́ліўка.* Фасаўшчына.

**ГАТАВА́ЦЬ, ГАТУВА́ЦЬ** *незак.* 1. Гатаваць, рыхтаваць. *Як гату́юць на стол мёртвых, так і тады́ гътува́лі.* Нямойта. 2. Нарыхтоўваць, квасіць. *У бо́чках капу́сту гату́ем.* Вялікі Азярэцк.

**ГА́ТАРШЧЫК** *м.* Рабочы лесапільні, які тачыў пілы. *Рабо́таў га́тършчыкам на пілъра́ме. Пі́лы стая́ць, і туды́ бра́ўно́ патсо́ўваюць, ён наво́дзіў гэ́тыя пі́лы.* Баравікі.

**ГАТО́ВАЕ** *н.* Несаматужна зробленае, тавар фабрычнай вытворчасці. *Цяпе́р вы́гада жыць: усё гато́вае.* Дуброўкі.

**ГАТО́ЎНАСЦЬ** *ж.* Гатовы, звараны, падрыхтаваны. *Куцця́ – чы́ста выбіра́юць пшані́цу, кіпіця́ць яе́, ні да гато́ўнасці, із мёдам разво́дзюць.* Карпавічы.

**ГАТУ́-ГАТУ́** *выкл.* Выгукі, якімі адганяюць ваўкоў. *«Гату́-гату́, ваўкі́!» – кры-ча́лі ба́бы. А ён пасле́днію згаро́ду піралёз і пашо́ў у лес.* Міцюкова.

**ГА́ЎКАЦЬ** *незак.* Гаўкаць, брахаць. *Саба́ка га́ўкаіць і брэ́шыць.* Дольдзева.

**ГАФТ, ҐАФТ** *м.* Ажурная тканіна. *Ґафт тако́я, як кру́жава.* Багданава. *Ґа́фту кусо́чак быў, га́фтам абшы́ла.* Нямойта. *Гафт прышыва́лі.* Самсоны.

**ГАФТАВА́ЦЬ, ҐАФТАВА́ЦЬ, ҐУХТУВА́ЦЬ** *незак.* 1. Рабіць гафт. *Ґафтава́ць сама́ ґафтава́ла.* Кляпчэва. *А я ґухтува́ць уме́ла усе́ ге́та.* Савінічы. 2. Упрыгожваць, абшываць гафтам. *Гафтава́ла камбіна́цыю.* Кляпчэва.

**ҐА́ХАР** *м.* Кавалер, хлопец, які заляцаецца да дзяўчыны. *Мо які́ ґа́хар хадзі́ў на́нъчкі?* Дольдзева. *А іна́ с э́тым га́храм сваі́м е́здзіць на машы́не, а ён ну́дзіцца.* Вялікі Азярэцк.

**ГАЦА́К** *м.* Блін з перамёрзлай бульбы. *Бу́льбу збіра́лі, як перамёрзніць, астае́цца то́лькі кръхма́л, і тады́ укапа́ем, збіра́ім і таўчо́м, і такія пяклі́ бліны́, гацакі́, а хто ташно́цікі зваў.* Серкуці.

**ГАЦІ́ЦЬ** *незак.* ◊ ХОЦЬ ГАЦЬ ГАЦІ́. Вельмі многа, вялікая колькасць чаго-н. *Хоць ты гаць гаці́ – сто́лькі дроў загато́віць.* Дольдзева.

**ГАЦЬ** *ж.* Насып, насціл цераз балота. *У ге́тай га́ці чуць праехалі.* Партызаны.

**ГА́ЧЫК** *м.* Матыка. *Ска́пваць га́чык, ён без зубцо́ў.* Закур'е.

**ГБА́ЛА, ҐБА́ЛА** *н.* Прылада, пры дапамозе якой гнулі палазы, дугі і інш. *Гба́ла – э́та гнуць дугу́ з па́лкі, като́рая ня ло́паіцца.* Кляпчэва. *Гба́ла к сцяне́, і на ге́та гба́ла гну́лі ду́гі.* Запруддзе. *І па́руць і гнуць на гба́ла пало́ззя.* Міцюкова. *Гба́ла – гну́лі пълазы́ на са́ні, з дзе́рва талсто́га. Ґба́ла з то́ўстъга дзе́рава высіка́лъся.* Турава. *І гба́ла пакажу́, як пълазы́* [гнуць]. Марозаўка.

**ГБАЦЬ** *незак.* Гнуць. *Гба́лі ду́гі.* Запруддзе.

**ГВАЗДАДЗЁР** *м.* Прылада для выцягвання цвікоў. *Гваздадзёрам гвазды́ вы́-цягваюць, жале́зны, з двух ко́нчыкаў, падсо́дзіш яснеи́ гвозд і вы́дзернеш.* Вялікі Азярэцк. *Як палы́ перасціла́юць, кру́пныя гво́здзя выта́скваюць гваздадзёрам.*

Запруддзе. *Гво́здзя выма́ць быў гвъздадзёр. Гвъздадзёр у відзі ло́ма, а другі во, як мълато́к. Лом-гваздадзёр і мълато́к-гваздадзёр.* Жохава. *Гвъздадзёр быў – раздво́енаё зяле́за.* Манголія.

**ГВАЗДЗІ́К** *м.* Гваздзік (кветка). *Гваздзікі цвіця́ць пад вакно́м.* Багданава.

**ГВАЛТ, ҐВАЛТ** *м.* 1. Крык, шум, лямант. *Гвалт то́жа, як крыча́ць.* Манголія. *Ці ма́ла было́ тады́ ґва́лту, кры́ку, ръзарэ́ння.* Гарадзец. *Як спра́вілі ґвалт, як спра́вілі крык.* Міцюкова. *Гвалт пъдняла́, але́ я зна́ю, яе́ рука́ пъхадзіла.* Нямойта. 2. Прымяненне фізічнай сілы. *Во гвалту́юць. Ка́жа* [бацька]*: кладзі зат, то гвалт!* Багданава.

**ҐВА́ЛТАВАЦЬ** *незак.* Біць, прымяняць фізічную сілу. Багданава.

**ҐВА́ЛТАНЬКІ** *прысл.* Роспачна (?). Ульянавічы.

**ГВОЗД** *м.* Цвік. *На сцяне́ гвозд.* Запруддзе. *Уну́ка папрасіў гвозд убіць.* Багданава. *Гвазда́ бальша́я і ма́лые.* Вялікі Азярэцк, Запруддзе.

**ГВО́ЗДЗЯ** *н. зб.* Цвікі. *Гво́здзя набіва́еш.* Апечкі.

**ГЕ́БЛІК** *м.* Невялікі гэбель, рубанак. *Быў ге́блік апчышча́ць, штоп быстрэ́й як мо́жна накры́ць.* Сукрэмна.

**ГЕКТА́Р, ГЕ́КТАР, ГАКТА́Р** *м.* Гектар. *Дава́лі, каму́ маласяме́йным, пуўтура́ гекта́ры, у каго́ бо́льшы сям'я́ – два гекта́ры, шчэ бо́льшая – тры гекта́ры дава́лі зямлі.* Леснікова. *Ге́ктар бураку́ў далі вы́палаць. Къла ге́ктъра зямлі та́я увало́ка.* Нямойта. *Лёну вы́бяры два ге́ктары.* Кляпчэва. *Ра́ньшы надзе́л, як цяпе́р ге́ктары. Чаты́ры ге́ктары у тым надзе́ле.* Самсоны. *Ні́ва бува́іць шэсь гакта́р.* Гарадок.

**ГЕРМА́НЕЦ** *м.* Немец. *Герма́нцы тут і пілі і гуля́лі.* Запруддзе.

**ГЕСТА́ПАВЕЦ, ІТА́ПАВЕЦ** *м.* Гестапавец. *Геста́паўцы тут ці былі, ня по́мню, не́мцы у нас былі. Іта́паўцы нъда мной стъя́лі.* Нямойта.

**ҐЕ́СТКА** *ж.* Верхняя, адразная да грудзей частка блузкі, сукенкі, сарочкі, да якой прышываецца астатняя частка і рукавы; какетка. *С ґе́сткамі ко́фты, ку́рткі шы́лі.* Багданава. *З ґе́сткамі ко́фту пашы́йця мне.* Нямойта. ГЕ́СТАЧКА, ҐЕ́СТАЧКА *памянш. Вот так вот ґе́стъчка была́, дзяцём пла́цінкі шы́лі, быва́ла ні хвата́іць, то дзе́лълі.* Гарадзец. *У ко́фтачцы то́лькі была́ ге́стъчка.* Запруддзе.

**ГІ́БЕЛЬ** *ж.* Вельмі многа. *Чарве́й гібель у сырка́х.* Запруддзе. *Бума́гі гібель ёсць цяпе́р у пе́чку паттапі́ць.* Станюкі. ◊ ДА ГІ́БЕЛІ. Тое ж. *Жукі на бу́льбу усе́лі, лічы́нак да гібелі.* Партызаны.

**ГІ́БКІ** *прым.* Гнуткі. *Яе́ стругалі, штоп была́ больш гібкъя.* Дольдзева.

**ҐІБНО́С, ҐІМНО́З** *м.* Гіпноз. *У таго́ зло́дзіга ґімно́з ёсь. Ай-ё.* Леснікова. ҐІБНО́С. Манголія.

**ГІ́БНУЦЬ** *незак.* Гінуць, знікаць, прападаць. *Ско́лькі іх гібніць, шахцёраў.* Малы Азярэцк. *А лю́дзі гіблі ў лясу́.* Ульянавічы.

**ГІБУ́ШЧЫ** *прым.* Вельмі гнуткі. *Сдзе́лаіць па́лку гібу́шчую, іна́ згіна́іцца.* Фасаўшчына.

**ГІ́ДКІ** *прым.* Агідны, брыдкі. *Такія гідкія смаля́нкі.* Буй.

**ГІ́КАЦЦА** *незак.* Гізаваць. *Вадні, сляпні, му́хі куса́юць – каро́ва гікаецца. Каро́ва гікаецца, як куса́юць вадні, сляпні. Каро́вы гікаюцца, на́да дамо́ў гнаць.* Гарадзец.

**ҐІМО́РНІЧАЦЬ** *незак.* 1. Капрызіць. *Гімо́рнічаюць* [нібы плачуць] *дзе́ўкі, адна́ за друго́й насіць ні хо́чыць.* Вялікі Азярэцк. 2. Выпрошваць. *Тры ў мяне́ дачкі, а ґімо́рнічаюць: ко́ждуй пашы́й пальто́.* Нямойта.

**ҐІПНА́СТА** *агульн.* Гіпнатызёр. *Гіпна́ста іх, цъга́н, выхо́дзіць, як свёжы чалавёк увóйдзіць.* Нямойта.

**ГІПЮ́РАВЫ** *прым.* Гіпюравы. *У каро́ткай суке́начцы гіпю́равай – свідзе́цельніцы.* Міцюкова.

**ҐІРҐІТА́ЦЬ** *незак.* Гергетаць, гаварыць незразумела. *Уле́с не́міц на машы́ну, як стаў ґіргіта́ць.* Нямойта.

**ГІСТО́РЫЯ** *ж.* Гісторыя (прадмет навучання). *Гісто́рыю прападае́ць у сямігóтцы.* Ульянавічы.

**ҐІШЭ́ФТ** *м.* ◊ ІМЕ́ЦЬ ҐІШЭ́ФТ. Быць у адносінах. *Я з і́мі* [цыганамі] *ґішэ́фта ні́якага ні іме́ю.* Самсоны.

**ГЛА́ДАМ** *прысл.* Цалкам, поўнасцю. *Про́шлы гот гла́дъм пръпа́ў гаро́т.* Серкуці.

**ГЛАДАМЫ́РА** *агульн.* Вельмі пераборлівы, далікатны ў ядзе чалавек. *Ён ду́жа пірабо́рлівы ў ядзе́, гладамы́ра такі́.* Міцюкова.

**ГЛАДЗЕ́Й** *прысл.* Больш роўны, устойлівы. *Як мале́нькая наці́на была́, гладзе́й была́, аку́чвала, а так па́дала.* Багданава.

**ГЛАДЗІВО́ЛУС** *м.* Гладыёлус. *Пазламі́лі гладзіво́лусы.* Багданава.

**ГЛАДЗІ́ЛКА** *ж.* Від малатка. *Гладзі́лка – як во́сі дзе́лаць у калёсы, настаўля́іш і зве́рху мо́латам аптыка́іш. Гладзі́лка была́, е́слі во́сі дзе́лыць у калёсы.* Жохава.

**ГЛА́ДЗІЦЬ** *незак.* Гладзіць, прасаваць. *Былі́ уцюгі́ дыхавы́я, туды́ накладзе́ш жа́ру, ён нагрэ́іцца і гла́дзіш.* Станюкі.

**ГЛАДЗЬ** *ж.* Від ручной вышыўкі. *Гла́ддзю, храсто́м вышыва́лі.* Розмыслава.

**ГЛА́ДКА, ГЛА́ТКА** *прысл.* 1. Зусім, поўнасцю, цалкам. *Гла́дка ababра́лі паліца́і, астала́ся у адно́й руба́хі.* Баравікі. *Ён дурны́ гла́дка.* Буй. *Ён у міне́ глухі́ гла́дка.* Станюкі. *Гърнъста́і гла́тка бе́лыя.* Багданава. *Цыбу́ля гла́тка чо́рная. Гла́тка дурны́я, като́рыя сілю́цца.* Запруддзе. *Ніко́га ш гла́тка німа́.* Кішуроўшчына. *Ска́ту ніку́ды німа́, і вы́мякла карто́шка, уся́ прыпа́ла гла́тка.* Леснікова. 2. Надзвычай добра. *Гла́дка есь адно́ мало́шныя* [пры хваробе печані]. 3. Вельмі, надта. *Гла́дка скупы́ хадзя́ін, гла́дка.* Ульянавічы. 4. Пуста, гола, галодна. *Гла́дка, німа́ чаго́ е́сці.* Кляпчэва. 5. *часц.* Толькі, адно. *І кунпякі́, і кілба́сы забра́лі, астала́ся гла́дка з дзе́цьмі.* Цясішча.

**ГЛА́ДКІ, ГЛА́ДКІЙ, ГЛА́ТКІ, ГЛА́ТКІЙ** *прым.* 1. Поўны, тоўсты, укормлены. *І ў нас ёсць гла́дкія ба́бы.* Буй, Вялікі Азярэцк. *Як лін, гла́дкі.* Запруддзе. *Гла́ткія, як пірагі́.* Каралевічы. *Штоб ко́ні былі́ гла́дкія, трэ́ба йім аве́с.* Самсоны. *Гла́ткій, як къба́н. Гла́ткій, як ня трэ́сніць са́ла.* Сянно. 2. Гладкі, роўны. *Чэ́рці яго́ на гла́ткі ка́мень ўзвялі́, раздзе́лі, пълажы́лі спаць да пітухо́ў.* Багданава. 3. *часц.* Толькі. *Асталі́ся гла́дкія старыкі́.* Савінічы.

**ГЛА́ЗЫ** *мн.*, **ГЛАЗ** *м.* Вочы. *У мяне́ ат цяжо́лых рабо́т гла́зы забале́лі.* Багданава. *Ужо́ і гла́зы ні ві́дзяць, яка́я тут каро́ва.* Буй. *Гла́зы мае́ не дазваля́юць віза́ць.* Цясішча. *У яе́ гла́зы такі́я некрасі́выя ста́лі.* Запруддзе. *Яка́я ты стра́шная, гла́зы жо́ўтыя.* Міцюкова. *Но́гі да гла́зы – са́мае аснаўно́е ў чалаве́ка.* Ульянавічы. *Ма́ткіны гла́зы крэ́пкія.* Фасаўшчына. *Уся́кія гла́зы быва́юць: быў дзяцёнак разгаво́рчаты – стаў пла́каць.* Парэчча. *З гла́зу пъга́нъя была́* [паглядзіць і сурочыць]. Нямойта. ◊ У ГЛА́ЗЫ сказа́ць. Адкрыта, прама, нічога не хаваючы. *Я яму́ усё сказа́ў у гла́зы.* Жохава. ◊ ГЛА́ЗЫ РАЗБЯГА́ЮЦЦА. Пра немагчымасць засяродзіцца на нечым з-за мноства тавараў, прадметаў. *Цяпе́р гла́зы разбяга́юцца, як увóйдзіш* [у магазін]. Леснікова.

**ГЛАУКО́МА** *ж. спец.* Хвароба вачэй; глаўкома. *У глазнэ́й прызна́лі мне глауко́му.* Міцюкова.

**ГЛАЎКО́М** *м. спец.* Тое ж. *Глаўко́м яшчэ́ хужэ́й.* Вялікі Азярэцк.

**ГЛЕ́ДЗЮЧЫ** *дзеепрысл.* Гледзячы. *Адзі́н на аднаго́ гле́дзючы, так і еду́ць.* Міцюкова.

**ГЛЕЙ** *м.* Глей, вапністая, глiністая глеба. *Глей сі́вый і ле́піцца.* Самсоны.

**ГЛЕ́ЙНІНА, ҐЛЕ́ЙНІНА** *ж.* 1. Прамежак у столі паміж дзвюма бэлькамі. *Зъсталі́ў гле́йніну ў ха́ці, йіх бува́йіць тры, чаты́ры.* Алексінічы, Каралевічы. 2. Частка растворчатых варот. *На Йва́на Купа́ла мальчуга́ны зня́лі адну́ ґле́йніну і бро́сілі ў къна́ву.* Алексінічы.

**ГЛЕ́ЙНЯ, ҐЛЕ́ЙНЯ** *ж.* 1. Прамежак у столі паміж дзвюма бэлькамі. *Ґле́йня – прымі́жу́так памі́ш ба́лкамі на сто́лі.* Серкуцi. *Ґле́йня – рад до́сък у сто́лі да бэ́лькі.* Гарадзец. *Ґле́йня – е́та до́шкі памі́ж ба́лькъмі.* Запруддзе. *Памі́ж ба́лкамі ґле́йня* [на столі]. Фасаўшчына. 2. Частка растворчатых варот. *Дзе́лаюць на адну́ гле́йню въpата́, э́та прыме́рна, часць варо́т, гле́йня адна́, а мо́жна на дзве гле́йні.* Нямойта.

**ГЛЕ́ЧЫК** *м.* Збанок, гарлачык. *У гле́чку нясу́ць мълако́.* Багданава.

**ГЛІКО́ЗЫ, ЛІКО́ЗЫ** *мн.* Глюкоза. *Яна́ на гліко́зах жыла́.* Вялікі Азярэцк. *На ліко́зах дзіржа́лі, а так бы паме́р.* Міцюкова.

**ГЛІ́НА** *ж.* 1. Гліна. *Бяру́ць гліну, абыкнаве́нную гліну, насцілáлі сло́ем, а пато́м гліну трамбува́лі.* Нямойта. *Глі́ны прыкладáець, як ві́ма апо́хніць, кро́ую і гно́ем до́іцца каро́ва.* Ракаў Засценак. *Глі́ну во сне ві́дзіш – смерць у ро́дных* (прыкмета). Каралевічы. 2. Гліністая глеба. *Ёсь у нас глі́ністыя міста́, на глі́ні сла́ба расце́ць, сла́бы уръджа́й.* Міцюкова. *У нас ёсь търфя́нікі на бало́нні, глі́на кра́снъя, і пішча́нъя зімля́.* Фасаўшчына.

**ГЛІ́НІСТЫ** *прым.* Гліністы. *Глі́ністая зімля́, у Бу́бліве сключы́цільна глі́на.* Жохава.

**ГЛІНЯ́НЫ, ГЛІ́НЯНЫ** *прым.* 1. Гліняны. *Лату́шка зва́лі глiня́ную мі́ску, са́ла кладу́ць, глыбо́кія.* Фасаўшчына. *Глі́нянъе гаршкі́, лъха́нкі, гърлачы́, глячкі́, свісткі́, жуле́йкі.* Кляпчэва. 2. Гліністы. *Там гліня́на ме́ста, туды́ е́здзілі глі́ну капа́ць.* Багданава.

**ГЛІСТ** *м.* Гліст. *Глісты́ ад сла́дасці.* Баравікі.

**ГЛО́ТКА** *ж.* Горла, глотка. *Е́слі гло́тка сціснець, ма́мка бу́льбу спа́рыць, дух к сабе́ цігáіш і цігáіш і про́йдзіць.* Запруддзе. *Гло́тка балі́ць, не магу́ лыкну́ць.* Нямойта. *Гло́тку хаце́лі вы́разаць.* Дольдзева. *Каб табе́ гло́тка вы́сахла, каб ты ні гавары́ў!* (праклён). Запруддзе.

□ *Сам с сіні́цу, а гло́тка с святлі́цу.* Партызаны. □ *У каго́ гло́тка, у таго́ і сі́ла.* Нямойта.

**ГЛУМІ́ЦЬ** *незак.* Здзекавацца. *Нашто́ ма́лае глумі́ць?* Вялікі Азярэцк.

**ГЛУ́МНА** *прысл.* Шумна, цесна. *Ле́там глу́мна, як нъсабіра́ецца сто ўну́каў. Ле́там по́ўна людзе́й, глу́мна.* Машчоны.

**ГЛУ́ПАСЦЬ** *ж.* Неістотнае, нецікавае. *А, гэ́та глу́пасць, гэ́та ня сто́іць піса́ць.* Леснікова.

**ГЛУПУ́ЧЫ** *прым.* Вельмі неразумны, някемны. *Яго́ ухажо́рка глупу́чыя была́.* Вялікі Азярэцк.

**ГЛУПУ́ША** *ж.* Тое ж. *Йіна́ была́ така́я глупу́ша.* Вялікі Азярэцк.

**ГЛУ́ХА** *прысл.* Ціха, маўкліва. *Цяпе́р саўсе́м глу́ха. Ніхто́ ня пяе́ць, па валачо́бніках не хо́дзіць.* Міцюкова.

**ГЛУХАНЯМЭ́Й** *прым.* Глуханямы. *Я ду́маў, што ён глуханямэ́й, аш не.* Пожанькі. *Гэ́та ба́ба прытвары́лася глуханямэ́й.* Сянно.

**ГЛУХІ́, ГЛУХЕ́Й, ГЛУХО́Й** *прым.* 1. Глухі, які недачувае. *Стары́ воўк ду́жа глухі́, ка́жуць.* Багданава. *Глухі́* [чалавек], *як дурны́. І глуха́я, і дурна́я ста́ла, як аве́чка.* Нямойта. *Мае́ ву́шы глухіе.* Мянюцева. *А ма́ліц быў глухе́й, ні разбіра́йіць* [што гаворыць дзяўчына]. Сянно. 2. Пра зусім глухога, які не чуе. *Глухі́ як пень.* Багданава. *Глухі́ як бот.* Багданава. *Глухі́ як сціна́.* Багданава. *Глухі́ як цяце́ра.* Сянно. 3. Непаслухмяны, абыякавы. *Чаго́ глухе́я дзе́ці ста́лі? Ня чу́юць, ня слу́хаюцца.* Серкуці. ○ ГЛУХІ́ АҐІ́Р. Чарот. *Глухі́ аґір скрось заро́с, въда́ і въда́.* Алексінічы. ○ ГЛУХО́Й БАРАВІ́К. Жоўцевы грыб. *Глухо́й бъраві́к го́ркай, йіх мно́га вы́рышшы. Глухо́й бъраві́к гарэ́нійіт, бу́дзіць го́ркай* [пры варцы]. Карпавічы. ○ ГЛУХА́Я КРАПІ́ВА. Пустырнік. *Мы заве́м глуха́я крапі́ва і ні зна́йім дліі чаго́. Глуха́я крапі́ва па гаро́дах, на по́лі.* Багданава. *Глуха́я крапі́ва сі́венькая, ад даўле́ння то́пяць.* Мянюцева. ◊ ГЛУХІ́ ПЕНЬ. Зусім глухі. *Глухі́ пень, ста́іць і маўчы́ць.* Багданава.

**ГЛУХУВА́ТЫ** *прым.* Глухаваты, той, хто недачувае. *Глухува́ты, на́да гавары́ць крэ́пка.* Міцюкова. *Я глухува́тая тро́шкі.* Нямойта.

**ГЛУШ** *ж.* 1. Гусцяж, глуш. *Глу́шшу зараста́юць лясы́. Лясы́ запусці́лі, глу́шую зараста́юць.* Цясішча. 2. Пустазелле, быльнёг. *Пашла́ глуш расці́, ніччо́га ні ста́ла.* Пожанькі.

**ГЛУШНЯ́** *ж.* Вельмі глухі чалавек. *Глушня́ ты.* Багданава. *Зь е́туй глушнёй ні дъ^ы^гаво́рісся.* Пожанькі.

**ГЛЫ́БІ** *прысл.* Глыбей. *Дъва́й глы́бі къпа́ць.* Кляпчэва.

**ГЛЫБО́КА, ГЛУБО́КА** *прысл.* Глыбока. *Вады́ мно́га, бірагі́ глыбо́ка.* Багданава. *Глыбо́ка вы́капаў* [калодзеж]. *Глубо́ка ду́жа вы́капаў.* Дольдзева. ГЛЫБО́ЧЫНЬКА *памянш.-ласк. Глыбо́чынька дзяцёнък ляжы́ць у тыгане́.* Мянюцева.

**ГЛЫБО́КІ, ГЛУБО́КІ** *прым.* 1. Глыбокі, позні. *У глыбо́кую во́сінь къня́ нъ гумно́ пу́сціш, а сам по́йдзіш мълаці́ць.* Міцюкова. 2. Які дасягнуў найвышэйшай ступені, мяжы. *Гэ́та ж ні гла́тка глыбо́кая ста́ръсь. Мужукі́ мруць і глыбо́къй ста́ръсці ні дажыва́юць у нас, дажыва́юць ста́ръга бы́ту лю́дзі.* Чуцькі. *Ні дай бох ста́ръсці глубо́кай ждаць.* Гарадзец.

**ГЛЫ́БШЫ** *прысл.* Глыбей. *Атме́л ад бе́ръга, а да́лі глы́бшы.* Гарадок.

**ГЛЫК** *выкл.* Хуценька праглынуць. *Ён гато́вага – глык, і ўсё.* Дольдзева.

**ГЛЫ́МАЦЬ** *незак.* Хапаць зубамі, губамі; глэмаць. *Конь глы́мъя, і зы́куўкіна гні́да пупъда́йіць у рот.* Сянно.

**ГЛЫНУ́ЦЬ** *зак.* Глынуць. *Я глыну́ тро́хі вады́.* Каралевічы. *Ні магу́ глыну́ць, захліпа́юся.* Неўгадава.

**ГЛЫТА́ЦЬ** *незак.* Глытаць. *Я саўсі́м ні магла́ глыта́ць.* Нямойта.

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ, ГЛЕ́ДЗІЦЬ, ҐЛЯДЗЕ́ЦЬ** *незак.* 1. Глядзець, бачыць. *Гляджу́: аш там свет гары́ць.* Міцюкова. *Ня ду́жа хо́чуць глядзе́ць гла́зы.* Багданава. *Ґляжу́, аж удзіві́лася.* Дуброўкі. ГЛЯДЗЬ. Глянуць вокамгненна. *Прыняслі́ грыбо́ў. Я глядзь: а ма́льчыкі, ня е́шча грыбо́ў, – гэ́та ш мъшакі́.* Гарадок. 2. Выхоўваць, наглядаць. *Свякро́ў ужо́ у мяне́ была́, два́ццаць пяць гадо́ў са мной жыла́, іна́ ужо́ дзяце́й глядзе́ла. Цяпе́р і ні раджа́юць крэ́пка, што ця́шка глядзе́ць* [дзяцей]. Гарадзец. *Бу́ду тлумі́цца з і́мі, глядзі́ця са́мі сваі́х дзяце́й. Я сваі́х дзяце́й гле́дзіла, вы сваі́х гле́дзьце!* Запруддзе. 3. Клапаціцца. *Сістра́ глядзі́ць яго́* [брата], *жо́нка*

*памёрла во гот.* Заазер'е. *Усé самí за сабóй глядзéлі ў палáці.* Нямойта. 4. Глядзець (скаціну). *Якрáз русáльная нядзéля, а мы з бабáй Мáр'яй глядзéлі ў калхóзі цілят.* Запруддзе. *Ён цілят глядзéў, а янá карóў даíла.* Латыгаль. *Цілят сем гадóў глядзéла.* Серкуці. *Жóнка кóні глядзéла усё урэ́мя.* Багданава. 5. Сачыць, трымаць у парадку, дысцыпліне. *Нáда рукъвадзíцель харóшы, кап глядзéў за ўсім.* Гарадзец. ◊ НЕ (НІ) ГЛЯДЗЕ́ЦЬ НІ ЛБА НІ ВО́КА. Быць неахайным, абыякавым. *Ніякі ён: ні глядзíць ні лба ні вóка.* Ульянавічы, Запруддзе.

**ГЛЯК** *м.* Гліняная пасудзіна з вузкім горлам; збан. *Гляк шырóкі такí, увéрху тóненькі. Самагóнку лілí, карасíн.* Фасаўшчына. *Гляк, глячóк пяць-шэсь лíтраў, на піцьдзесят чълавéк.* Леснікі. ГЛЯЧО́К, ГАЛЯЧО́К *памянш.* *Э́та глячóк для съмагóнкі.* Кляпчэва. *На* [вазьмі] *галячóк табé гарэ́лкі.* Нямойта.

**ГЛЯ́НУЦЬ, ГЛЯ́НАЦЬ** *зак.* Глянуць, кінуць позірк. *Гляніць – і ўсё, сурóчуў.* Партызаны. *Як гляніць, дык уцікáйіць.* Пожанькі. *Каб вы там глянáлі!* Розмыслава.

**ГМУ́ЗДАЦЬ, ГМУЗДА́ЦЬ** *незак.* Закілзоўваць. *Як рáньшы жырапцы́ былí, то на муштукí ягó гмýздáлі, штоп лéхчы былó удзéржыць.* Сукрэмна.

**ГНАІ́ЦЦА** *незак.* Гнаіцца, загнойвацца. *Гнаíлася вýха у éйнага мужыкá.* Ракаў Засценак. *Зълатýха нъ глáзы пáла, гнайíцца стáлі.* Нямойта.

**ГНА́ТЫ** *дзеепрым.* Выгнаны (спосабам перагонкі). *Гнáтая гарэ́лка стаяла на стаълáх і куплёная.* Каралевічы.

**ГНА́ЦЦА** *незак.* 1. Бегчы, гнацца. *Мáтка, дувáй éсці, за мной гóнюцца.* Рубежніца. *Яны́ ўчатырóх за мной гнáлісі.* Нямойта. 2. Любіць, жадаць. *А як яны́* [дзеці] *гнáліся за мной, я іх любíла.* Багданава. 3. Хацець мець, набыць. *Гнáліся за зямлёй.* Марозаўка. *Цяпéр усé гóнюцца зъ чымпіёнъмі* [шампіньёнамі]. Нямойта. 4. Хацець мець, жадаць. *Бáцька гóніцца, каб мáльчыка, а ўсе дзéўкі.* Ульянавічы.

**ГНАЦЬ** *незак.* 1. Гнаць, накіроўваць прымусова. *Нáдъ гнаць у пóля. Гóнюць нас нарóднікі, а дзéці бігáць* [за намі]. Багданава. 2. Весці ў пэўным напрамку. *Гóнюць к дзярэ́ўні канáву.* Баравікі. 3. Атрымоўваць перагонкай. *Гарэ́лку гнáлі ў сарáі сычáс.* Нямойта. *У нас ні гóнюць бáбы гарэ́лку.* Рэчкі. 4. Закідваць убок. *Бувáйіць нъ дарóзі, што сáні ўбок гóніць.* Гарадок. 5. Хутка расці. *Ой, як трáвы гóніць.* Запруддзе. 6. Абходзіць. *Тады́ ш* [раней] *аднэ́й чáрътчкъй гóнюць усíх.* Багданава. 7. Злавацца, выяўляць непрыязь. *На нéмцаў я дýжа зла ні гнаў: паліцáі усю дзярэ́ўню арыставáлі.* Фасаўшчына. ◊ ГНАЦЬ ГРЭ́НКУ. Злавацца, крыўдаваць. *Ні нáда, мáма, нъ мянé гнаць грэ́нку.* Каралевічы. ◊ ГНАЦЬ КУПА́ЛА. Праводзіць абрадавыя дзеянні па выгнанні купалы. *Гóнюць купáла, у гэ́ты бок гóнюць, дзе жы́та. Гóнюць купáла, пръвъжáюць ягó ў бор. Сяннí купáла гънялі.* Запруддзе. *Купáла гóняць у пъпáр, дзе карóвы пасýцца, а русáлку – у жы́та.* Дольдзева.

**ГНАЯВІКІ́** *толькі мн.* Калёсы (для вывазу гною ці для іншых гаспадарчых патрэб). *Гнъявікí – калёсы, навóс вазíлі і ў Сяннó éздзілі. У гнъйівікáх рýчкі прывíнчаны к рýчкъм.* Гарадзец. *Гнаявікí – што вóзюць гной і на бъзáр éздзілі.* Вялікі Азярэцк. *Гнъявікí там, у путпъ́веццы стаяць.* Багданава.

**ГНАЯ́ЎКІ** *толькі мн.* Тое ж. *Гнаяўкі – э́та калёсы гной вазíць. Калёсы – э́та гнаяўкі, а мáжы – э́та фургóн сéна, салóму вазíць.* Нямойта.

**ГНАЯЎНЫ́** *прым.* Які звязаны з гноем. Марозаўка.

**ГНЕ́ДА-ЗАЛАЦІ́СТЫ** *прым.* Масць каня. *Гнéда-зълацíсты конь, йіх у нас вывіла въйнá.* Сянно.

**ГНЕ́ДЫ, ГНЯДЭ́Я, ГНЯДЭ́І** *прым.* Гняды (масць каня). *Ёсь такáя мась гнéды конь.* Сянно. *Бывáіць гнéды конь, ры́жы, сéры.* Запруддзе. *Конь гнеды́, хвост чóрны,*

*а шэрсць кръснавáта, пат рыжава.* Вялікі Азярэцк. *Гнéды конь аж зълацістыя па ём* [валасінкі, шарсцінкі]. Нямойта. *Гнядэ́я кóні. Гнядэ́і кóні ўсе былí ў калхóзі.* Розмыслава.

**ГНЁТ** *м.* Гнёт, стос. *Гнёт такí, кнíшкі піралістáлі, ягó ні нашлí.* Леснікова.

**ГНÍДЫ** *мн.* Гніды, лічынкі вошы. *Шукáіць гніды жывэ́я, гніды паб'éць. Былó іх з вайны́. Гóра былó.* Багданава.

**ГНІЛАВÓЗ** *м.* Шампіньён. Закур'е.

**ГНІЛÍНА** *ж.* Дуплаватае гнілое дрэва. *Дрэ́ва такóе выбірáць – гнілíну на улéй. Вы́б'іць гнілíну на ýлей.* Манголія.

**ГНІЛЛЁ** *н. зб.* 1. Падгнілыя прадметы, пабудовы, старызна. *Янá ўжо гніллё, скóра забýрыцца* [хата]. *Гніллё éта ўсё узляпíлі на яé* [аддалі ўсё дрэннае]. Дольдзева. *Гніллё э́та, ужó янó старóя.* Нямойта. 2. Ляжалыя грушы. *Пчóлы лю́бяць гніллё* [грушы, як паляжаць]. Кішуроўшчына.

**ГНІЛÝШКА** *ж.* 1. Гнілушка (гнілая палка, пень, кавалак дрэва, нешта гнілое). *Гнілýшкі з ліп, грып з дýба і арэ́шніка кладýць у дымáр зямцы́.* Сянно. *Нашлí гнілýшку, купíлі* [хату]. Апечкі. 2. Перамёрзлая на полі бульба. *Гнілýшкі і тэй ні былó.* 3. Страва, прыгатаваная з гнілой бульбы. *Гнілýшак напякý, дзéці ў шкóлу брáлі. Гнілýшкі ў вайнý вары́лі, нарасхвáт* [былі]. *Гнілýшку éлі, крáскі, шчавéль – уся́ паддзéржка.* Цясішча.

**ГНІЛЫ́** *прым.* 1. Гнілы, трухлявы. *Янó* [сучча] *ш ужó гнілóя, так янó і трэ́цца.* Заазер'е. *Салóмы гнілэ́й дадýць, сéна німá.* Пожанькі. *Тапí-тапí гнілы́мі дрывáмі – усё рóўна хóладна у хáце.* Дуброўкі. 2. Бясснежны. *Гнілы́ год – снéгу німá.* Дольдзева.

**ГНІЛЬ** *ж.* ◊ ГНІЛЬ ЯГÓ ЗНÁІЦЬ. Пра поўную пагарду ці абурэнне адносна некага ці нечага. *А гніль ягó знáіць.* Запруддзе.

**ГНІЦЬ** *незак.* Гнісці. *Стаў верх зрýба гніць і валíцца* [у калодзежы]. Кляпчэва. *Хáта пагнілá, гніéць ужó. У нізíні бýльба гніéць.* Гарадзец. *Урадзíла бýльба да гніéць.* Гарадзец. *Гніéць бýльба гніéць ў капцáх.* Неўгадава.

**ГНОЙ** *м.* 1. Гной, угнаенне. *Вот у мянé гнóю у хлéве мнóга.* Багданава. *Гной нáда вазíць да растрасáць.* Буй. *Сястрá гнóем гуркі закрывáла.* Запруддзе. *На сабé вазíлі гной у начóўках.* Фасаўшчына. *Карóва на гнаí стаíць.* Неўгадава. *Йíх* [гнаявікоў] *ёсь, яны́ нъ гнайí* [растуць], *а йíх ні бярýць.* Міцюкова. 2. Гной у балячцы, пры нарывах, заражэнні. *Гной спускáлі, пералівáння крóві здзéлалі* [як скулы былі]. Жохава. *Лéтні дошч – на карóву гной* (прыкмета). Гарадзец.

**ГНЎЦІКІ** *толькі мн.* Сані з гнутымі палазамі. *Здзéлуў гнýцікі.* Гарадзец.

**ГНЎЦЦА** *незак.* Згінацца. *Пáльцы не гнýцца.* Буй. *Пакá рýкі гнýцца, бýду тут жыць.* Цясішча.

**ГНУЦЬ** *незак.* Гнуць, згінаць. *Пъкажý, як гнуць пълазы́.* Марозаўка. *Ясінь глáдзінькій ръспáрюць і гнýлі дýгі.* Запруддзе. *Абады́ гнýлі.* Рэчкі. *У тых, хто гнець палазы́, ґбáла ёсць.* Парэчча.

**ГНЯЗДЗЁНА** *н.* Гняздо. *Гняздзёнаў напавíлі варóны.* Баравікі.

**ГНЯЗДÓ** *н.* 1. Гняздо. *Прóці хáты гняздó буцянá.* Нямойта. *Пъпадзёш на гняздó, а там мъшаня́ты.* Багданава. *Бурáн быў скíнуў гняздó, сабрáліся мужыкí і ўсцягнýлі навéрх.* Запруддзе. *У зáръснікъх нъ лазé гняздó* [сарокі]. Сянно. *Шэ́ркі – э́та вяснýшкі. Хто гнёзды разарáіць, у тагó шэ́ркі бýдуць* (прыкмета). Фасаўшчына. *Нáда назбірáць у пóдак шчэ́пак. Гóлы, бóсы тры разы́ аббéгці кругóм хáты – бýдзеш нахóдзіць птушы́ныя гнёзды* (павер'е). Багданава. 2. Лунка, ямачка. *У гняздзé,*

*дзе бу́льба заво́дзіцца, карні́ жукі́ аб'яда́юць.* Партызаны. 3. Месца ў кассі, дзе ўстаўляецца кальцо касы. *Нъ кассі́ выбіва́йіш гняздо́ з задзе́ршкай, штоп къса́ ні твярну́лъся.* Леснікова. 4. Усё сямейства, родныя, сваякі. *Яны́ сваі́м гняздо́м, дваю́радныя і ро́дныя, рабо́таюць.* Партызаны.

**ГО-ГО-ГО** *выкл.* Перадача гукаў гудзення, зумкання пчалы. *Стара́я ма́тка – го-го-го гудзі́ць.* Вялікі Азярэцк.

**ГОД, ГОТ** *м.* 1. Год. *Паўтара́ гада́ атслужы́ў ма́лец.* Запруддзе. *У вайну́ памёр паўтара́ гада́ ма́льчык.* Багданава. *Пражыла́ дзівяно́ста чаты́ры го́ды.* Свечы. *Распуска́юцца ране́й бяро́зы – год бу́дзець сухі́, але́шнік – год мо́кры* (з назіранняў). Каралевічы. ГАДО́ЧАК *ласк. Адзі́н разо́чак – у гадо́чак.* Баравікі. 2. Угодкі; памінкі праз год пасля смерці чалавека. *Траццíны зва́ліся, а тады́ шасці́ны, а тады́ дзівяці́ны, а тады́ гот.* Нямойта. ◊ АДЗІ́Н ГОД. У нейкі мінулы год. *Адзі́н год усю ціма́феёўку краты́ стачы́лі, усю зямлю і ціма́фе́еўку.* Запруддзе. ◊ пайсці СВАІ́М ГО́ДАМ. З аднагодкамі, равеснікамі. *Ні сваі́м го́дам пайшо́ў у а́рмію.* Карпавічы. ◊ ПА ГАДА́Х. Па старасці, па ўзросце. *Мой па гада́х памёр.* Цясішча. ◊ ГАДЫ́ Ў РАДЫ́. Вельмі рэдка. *Гады́ ў рады́ гэ́та быва́іць.* Багданава. *Гады́ ў ра́ды пяём.* Чуцькі. ◊ ТЫ́Я (ТЭ́Я) ГАДЫ́. Раней, у мінулым. *Ты́я гады́ ку́ры ня е́ла.* Серкуці. *Тэ́я гады́ бра́лі пъдальхо́вікі, а цяпе́р скъза́лі ні браць.* Вялікі Азярэцк. ◊ НЕ ГАДЫ́. Узрост. *Не гады́? – Паду́майце, се́мдзесят шэсць гадо́ў.* Багданава. *Не гады́ яе́ тако́ю быць.* Партызаны. ◊ МАЕ́ ГАДЫ́. Тое ж. *Ці мае́ гады́ хадзі́ць?* Цясішча. ◊ ПАД ГАДЫ́. Ва ўзросце. *Ужо́ ні мълъда́я, то́жа ж пъд гады́ была́.* Гарадок. *Цяпе́р ужо́ пад гады́, не хаджу́ на Па́ску ў валачо́бнікі.* Багданава. ◊ ЯК ПАТ ГОД. 1. Пры спрыяльным годзе. *Як пат год, то грыбо́ў дзіва́ць німа́ куды́.* Баравікі. 2. У залежнасці ад года. *Як пат гот грыбы́ расту́ць.* Міцюкова.

**ГО́ДНЫ** *прым.* Годны. *К вайне́ го́дныя.* Неўгадава.

**ГО́КНУЦЬ** *зак.* Стукнуць, моцна ўдарыць. *Кулі́ трэ́слі, натрасе́ш, звя́жыш, аб ток го́кніш і гато́ў.* Багданава. *Бо́нбу як го́кніць, дык уся́ дзярэ́ўня грыме́ла.* Фасаўшчына. ГОК. Раптоўна, нечакана ўпасці. *Самалёт ляці́ць – гок.* Запруддзе.

**ГО́ЛАД, ГО́ЛАТ** *м.* 1. Голад. *Лю́дзі з го́лъду распу́хлі.* Заазер'е. *А го́лат гла́ўно быў.* Партызаны. *Тут быў го́лът, і збе́гла йна пат Кру́пку.* Багданава. 2. Галадоўка. *Аб'яўля́ю го́лат, яду́ не бяру́.* Жохава.

□ *Го́лад ня цётка.* Вялікі Азярэцк.

**ГО́ЛАС** *м.* 1. Голас. *Кап пачу́ў го́лас чъляве́ку, тады́ ён ідзе́ць.* Багданава. *І я гуля́ла, як была́ ма́лъя, у го́лас крыча́ла: дъва́й.* Буй. *Я ўжо го́лъсу ня і́мею.* Нямойта. ГАЛАСО́К *памянш. Стъя́ла Ле́нъчка пад ляско́м, / Гука́ла та́тъчку гъласко́м* (з песні). Каралевічы. 2. Мелодыя, тон. *Каб яны́ ў адзі́н го́лас дзіржа́лі.* Ульянавічы. 3. Галашэнне. *До́ма – у го́лас, у крык.* Ульянавічы. ◊ ГО́ЛАСАМ ГАЛАСІ́ЦЬ. Гучна, з енкам плакаць, прычытаць. *Го́ласам гало́сіць та́я ма́тка. На гаълаву́ ру́кі скла́ла і гало́сіць го́ласам – прычы́тваіць.* Запруддзе.

**ГО́ЛУБ** *м.* Голуб. *Галубы́, вераб'і́, саро́кі ў нас во́дзюцца.* Багданава. *Гулубо́ў по́ўна тут, пъ ха́тъх вядзе́цца, яго́ мя́са ядуць.* Сукрэмна.

**ГО́ЛЫ** *прым.* 1. Голы, нічым не пакрыты. *Калі́ на го́лы лес гром грымі́ць – неўража́й бу́дзіць* (прыкмета). Дольдзева. *Е́слі гром на го́лы лес – год бу́дзіць ніхаро́шы, адзе́ўся лес – хаърашо́* (прыкмета). Запруддзе. *На го́лы лес закукува́ла зязю́лька – э́та ні хърашо́* (прыкмета). Партызаны. *Е́слі мужчы́на го́лы ле́зіць* [так сасніш] *– бале́знь* (павер'е). 2. Бедны, нішчы. *Го́лая ба́ба, па́льца абвярну́ць*

*німá чым*. Запруддзе. ◊ ГОЛ ЯК САКÓЛ. Дужа бедны, нічога не мае. Багданава. ◊ РАБÓТАЦЬ ЗА ГÓЛЫ ТРУДАДЗÉНЬ. Праца без аплаты ці з невялікай аплатай. *Рабóталі за гóлы трудадзéнь. На э́ты трудадзéнь палучáлі ні бóлій пяць капéік у канцы́ гóда і грам дзвéсця-дзвéсці пíдзісят хлéба*. Фасаўшчына. ◊ НА ГÓЛЫ ЖЫВÓТ. Нашча. *На гóлы жывóт вы́піла*. Міцюкова. ◊ прыйсці НА ГÓЛЫ КÁМЕНЬ. Там, дзе пуста, нічога няма. *Спалілі ўсю дзярэ́ўню – прышлі на гóлы кáмень жыць*. Багданава.

**ГОЛЬ** *ж*. ◊ ГОЛЬ ПЕРАКÁТНАЯ. Галеча; спрадвечны бядняк. *Былі голь пірыкáтнъя ат вéку. Гэ́та голь перъкáтнъя – бéднъя тъкáя*. Запруддзе.

**ГÓМАН** *м*. Гоман, шумная размова. *Нéйкі гóман у кватэ́ры. У кваціры гóман*. Дольдзева. *Чýю: усё гóман там*. Неўгадава.

**ГОН** *м*. Зямельны надзел, які арэцца. *Узялі каня́, прынясли́, на гон пастáвілі*. Міцюкова.

**ГÓНІ** *мн*. Старая мера ворнай зямлі; гоні. *Тры гóні атсадзíла*. Чуцькі.

**ГÓНКА** *прысл*. Хутка, шпарка. *Вол жа гóнка ні бяжы́ць*. Каралевічы. *Гóнка пашлá машы́на*. Багданава. *Гóнка ідзéць*. Вялікі Азярэцк.

**ГÓНКІ** *прым*. 1. Выносісты, высокі. *Сасóнка, інá гóнка былá*. Багданава. 2. Хуткі, быстры, рухавы. *Янá гóнкая, я не саганю́ся за ей. Йна гóнкъя бáба, йна здарóвъя, што біч* [палка]. Запруддзе. 3. Хуткасны. *«Я́ва» дýжа гóнкая*. Багданава. 4. Тонкі, худы. *Янá гóнкая, ідзé – ад вéтру шатáецца*. Багданава.

**ҐОНТ** *м*. Гонта, дранка. *Дзéлалі ґонт с асіны крыць кры́шу, ґонт нáда драць. Во цяпéр ужó ґóнтаю хáты* [крыюць]. Багданава. *Ґóнтам кры́лі, шы́фірам, шчапóй, дрáнкай, бляхай кры́лі*. Запруддзе. *Ґóнтам, дрáнкай кры́лі*. Леснікі. *Ну, ґонт, дрáнка называíцца. Ґонт стругáюць станкóм такíм, шчапáк называíцца*. Нямойта. *Ґонт – чуў, у нас жыў за ракóю, у ягó ґóнтам* [накрыта]. Манголія.

**ҐÓНТА** *ж*. Тое ж. Багданава.

**ГÓНЧЫ** *м*. Ганчак, гончы сабака. *Гóнчы* [сабака] *пасéць карóў*. Баравікі.

**ГОП** *выкл*. Хутка, імгненна скочыць. *Кот – гоп у вакнó*. Самсоны. *Я – гоп на зямлю, ай, вóчачка выкáчваецца*. Партызаны.

**ГÓПІКІ, ÓПІКІ** *мн*. 1. Перамёрзлая, перазімаваная бульба. *Хóдзім па пóлі, збірáем гэ́тыя гóпікі – бýльбу лéташнюю*. Кішуроўшчына. *Збірáлі па пóлі* [пасля вайны] *бýльбінкі, звáлі гóпікі, яны́ буйны́я, алé засталіся на пóлі, мёрзлыя*. Ракаў Засценак. *Пóслі вайны́ гълатá, есь хóчыцца, дык з гóпікаў пы́шкі рабілі*. Заазер'е. 2. Страва (аладка, блін), прыгатаваная з перамёрзлай бульбы. *Гóпікаў пад'ясі – панóс стáніць у людзéй*. Ракаў Засценак. *Гóпікі пяклі з мёрзлай бýльбы*. Дуброўкі. *Травý рвáлі абы-якýю, таўклі бýльбу гнілýю – óпікі называ́ліся*. Рэчкі.

**ГÓРА** *н*. 1. Гора, бяда, няшчасце. *Не аднó гóра, дык другóе: пáльцы адрэ́заў. Скóлька тут той жы́зні астаéцца пажы́ць, а ўсё гóра і гóра. Гóра застáвіць, усямý навýчыць. Гóра бывáіць ні аднó, дык другóе*. Апечкі, Багданава. ГÓРАЧКА *памянш.-ласк. А-яй-яй, пасле вайны́ такóе ж былó гóрачка!* Запруддзе. 2. Клопат, турбота, цяжкасці. *Травá спары́ш дýжа караністая, вы́палаць яé дык гóра*. Гардзец. ◊ ГÓРА ПА ГÓРУ. Пра бяду, што не пакідае чалавека. *Гóра ёй па гóру: муж прапáў, унýк напíўся ў шкóле, біўся. Éтай жанчы́не гóра па гóру*. Запруддзе.

□ *Ад гóра ні ў мóра – въдá халóдная*. Каралевічы. □ *Гóра з бядóю у абды́мку хóдзяць*. Запруддзе.

**ГÓРАД, ГÓРАТ** *м*. Горад. *Тóлькі пъ гаръдáх асталіся цэ́рквы*. Заазер'е. *Ну, я пайшлá на гóрът*. Нямойта.

**ГО́РАН** *м.* Горан (у кузні). *Бярэш жалеза, абгінаіш на клін, кусок жалеза ложыш і уварыіш у гарне, кап* [было] *жыткае, як вада.* Жохава. *Мех быў у кузні, горан.* Міцюкова. *Каля горна заллюся потам.* Ульянавічы.

**ГО́РАСЦЬ** *ж.* Клопаты, турбота. *У каждага свае горасці.* Жохава.

**ГО́РАЧКА** *ж.* Горка, невялікі ўзгорак, узвышша. *Там горъчка тъкая, лясок.* Вялікі Азярэцк, Каралевічы.

**ГОРБ** *м.* Пагорак. *Коззі – там горб*[n] *сярот балота.* Багданава.

**ГО́РДАЦЬ** *незак.* Грэбаваць, пагарджаць. *Раз так гордуюць – на парог не зойдуць. Ня гордайця, ежце малако. Ня гордайця, супу нада была пачэрпаць.* Міцюкова. *Толькі ня гордайця.* Нямойта.

**ГО́РДЫ** *прым.* Ганарысты, пагардлівы, фанабэрысты. Жохава.

**ГО́Р'Е** *н.* Горла. *Гарлавіна у каровы, гор'е.* Парэчча.

**ГО́РКІ** *прым.* Горкі. *Пъдалешнікі жоўтыя, горкія.* Алексінічы. *Казлы былі, жоўцінькім цвіціць, высокія такія, горкія-горкія, настаівалі і аблівалі* [ад клапоў]. *Горкі, як палын.* Багданава. *А, гэта горкая трава падбел.* Заазер'е. *Жугушка горкъя, яе мені ўкладзі* [у вар] *й хърашо піць* [ад нерваў]. Чуцькі. *А лісткі красівые з медуніцы, але горкія.* Серкуці. ГО́РЧЫНЬКІ *ласк. Піўко горчынькъя, а болі нічога.* Чуцькі.

**ГО́РЛА** *н.* Горла. *Цвёрдае горла ў курыцы, паложыш гароху ў горлышка, і яно барабаніць. Горла курынае пасушыш, паложыш дзве-тры гарошыны, кальцо зробіш, як баранак, дзелалі дзіцям.* Буй. ГО́РЛЫШКА *памянш.-ласк.* Буй.

**ГО́РЛІК** *м.* Лясны голуб. *На горліка ахоцілісь.* Сянно.

**ГО́РНІЦА** *ж.* Збудаваны цалкам (пад ключ) дом. *Я сама гэту будку строіла, а цяпер даюць горніцу. На табе ключы – усё гатова.* Нямойта.

**ГО́РНІЦА** *ж.* Дарога. Закур'е.

**ГО́РТАЧКА** *ж.* Мера лёну, роўная дваццаці жменям. *Лён на таку засцілалі, па дваццаць жмень звязвалі. Тады гетыя гортачкі кладзеш, на гортачкі даску.* Багданава.

**ГО́СПІТАЛЬ** *м.* Шпіталь. *Паеду ў госпіталь у Віцебска.* Нямойта.

**ГОСЦЬ, ГОСЬ** *м.* Госць. *Ён госць у яго. Бывала ў госці ездзілі, госці зваліся.* Запруддзе. *Садзіцеся, дърагея госці.* Міцюкова. *Гасцю ўсігда пачотнъе места. К вам гось яшчэ прыехаў?* Партызаны. *Па гасцях хадзілі.* Неўгадава. ◊ НА ГО́СЦІ. У госці. *Так, на госці прыедуць у выхадные.* Партызаны. *Вы на госці прыехалі?* Ульянавічы. ◊ ПАБЫВА́ЦЬ У ГАСЦЁХ. Быць за госця. *Можа яшчэ дзе ў гасцёх пабываеце.* Каралевічы.

□ *Які гось, такая і чэсь.* Багданава. □ *Насі бох гасцей – і я каля іх часцей* [часцей як пажаданне]. Ульянавічы. □ *Дай бох гасцей часцей – будзе сям'і лягчэй.* Дуброўкі, Каралевічы.

**ГО́ТКІ** *мн.* Аднагодкі, равеснікі. *У сельсавеці работаіць, дужа здаровая. Мълъдая, с Тамарай маёй готкі.* Багданава.

**ГО́ТКІ** *толькі мн.* Угодкі; памінкі праз год пасля смерці чалавека. *Сянні шасціны, шэсь нядзель, а чэрас гот – гадаўшчыны, готкі.* Міцюкова.

**ГО́ХКАЦЬ** *незак.* Таўчы да знясільвання (крупы, зерне). *Гохкаеш крупу, пакуль рука не аблезіць.* Міцюкова.

**ГО́ЦАЦЬ** *незак.* Гоцаць, падскокваць, прыкладваючы намаганні. *У лес паедзіць, завісніць дзерава – на другое павісне, ён гоцае, пакуль ні зваліць.* Жохава.

**ГРАБАНУ́ЦЬ** *зак.* Крыху пагрэбці. *Сядзе́ла з дзіця́мі, калі́ се́на грабану́ тро́хі.* Чуцькі. *Се́на ў гаро́дзі грабану́, ля́ху вы́палю.* Чуцькі.

**ГРАБА́Р, ҐРАБА́Р, ГРА́БАР** *м.* Землякоп, грабар. *Граба́р ён быў і спецыяльна къна́вы капа́ў.* Парэчча. *Ґраба́р кало́дзезь капа́ў. Глубо́ка ду́жа вы́капаў. Граба́р пайшо́ў абе́даць. Нагна́ла агіру і асакі, нямо́жна было́ зліць: глыбо́ка вы́капаў* [калодзеж]. Дольдзева. *Грабары́ зва́лі, кана́вы яны́ капа́лі.* Гарадзец. *Грабары́ былі́, къпа́лі раку́, і ба́цька мой хадзі́ў, гръбаро́м зва́лі.* Манголія, Сукрэмна. *Нані́ма́лі людзе́й къна́вы капа́лі, гра́бары называ́ліся.* Турава.

**ГРА́БАЦЬ** *незак.* Працаваць, корпацца. *Рабо́тай, паку́ль ру́кі гра́баюць.* Запруддзе.

**ГРАБЁНКА** *ж.* Грабянец, грэбень (для расчэсвання валасоў). *Грабёнку кала куста́ пацяра́ла.* Фасаўшчына.

**ГРАБЁШКА** *ж.* Тое ж. *А воўк дзе́ўчыню – хапы́ль і панёс ў лес, нашлі́ касы́нку, грабёшку.* Партызаны.

**ГРАБІ́ЛКА** *ж.* Сельскагаспадарчая машына для зграбання сена; грабілка. *Грабілкай саграба́лі, на тра́ктар се́на кла́лі, пад Ка́нева на́ша се́на.* Партызаны.

**ГРАБІ́ЛЬНА, ГРАБІЛНО́, АГРАБІ́ЛЬНА, ГРАБІ́ЛНА, АГРАБІ́ЛНА** *н.* Ручка (дзяржанне) у граблях; грабільна. *У гръблях грабільна, брусо́к, зу́б'я ёсь.* Леснікова. *Грабільна і брусо́к з зу́б'ямі ў грабля́х.* Розмыслава, Дольдзева. *Грабілна злама́ў. У мужыка́ грабілна у рука́х.* Нямойта. *У гръблях грабілно́, брусо́к, зу́б'я.* Баравікі. *Аграбільна ў грабля́х лама́іцца.* Гарадзец. *Ён стук аграбілнам аб пол.* Нямойта.

**ГРА́БІЦЬ** *незак.* Рабаваць. *Яны́* [паліцаі] *бра́лі, гра́білі ў людзе́й.* Багданава.

**ГРА́БЛІ, АГРА́БЛІ, АГРАБЛІ́** *толькі мн.* Граблі. *Зу́б'я з ду́ба ў гра́блі дзе́лълі.* Заазер'е. *У грабля́х аграбілна, брусо́к, зу́бы.* Гарадзец. *Во́зьмеш агра́блі, сор уве́сь адсу́неш.* Дольдзева. *Што ты аграблямі дзе́лаіш.* Вялікі Азярэцк.

**ГРАБЯНЕ́Ц** *м.* Грабянец, грэбень (для расчэсвання валасоў). *Грабяне́ц – адзін бок ча́сты, другі – рэ́ткі.* Багданава. *Гръбянцы́ алюмінівые дзе́лалі.* Серкуці. *Грабінца́ ў галаву́ німа́.* Вялікі Азярэцк.

**ГРАБЯНЁК** *м.* Грабеньчык (у птушак). *Курупа́ткі зва́ліся, іх ло́вюць, грабянёк такі́, гало́ўка кра́сненькая, жо́ўценькая.* Цясішча.

**ҐРА́ҐАЦЬ** *незак.* Каркаць. *Варо́ны ґра́ґаюць. Ка́чкі ґра́ґаюць.* Розмыслава.

**ГРАД, ГРАТ** *м.* Град. *Каб гра́ду ні было́, і пъмяло́ бра́лі, і лъпа́ту переве́рчвалі тым бо́кам, дзе хлеб бра́лі, як пяклі́, каб усе́ перавярну́ліся* (прыкмета). Чуцькі. *Не на маёй па́мяці град^т вы́біў зярно́.* Нямойта. *Як грат ле́там – лапа́ту вы́брасіш* (прыкмета). *Стары́нная э́та пры́хамаць, цяпе́р э́та ні на́да.* Савінічы. *Як дош мо́цны йдзець, кі́дай лъпа́ту вон* [з хаты], *штоп грат ні пабі́ў* (прыкмета). Партызаны.

**ГРАДА́** *ж.* 1. Штабель дроў. *Гра́ды былі́ пат сцяно́й, для дроў былі́ драўнікі.* Вялікі Азярэцк. *Града́ дроў была́, сама́ сцягну́ла у хлеў.* Багданава. *Гра́ды дроў ляжа́ць, альхо́выя.* Партызаны. *Грыда́ дроў. Мо́жна кру́гла склада́ць, мо́жна так.* Савінічы. *Пайду́ дро́вы склада́ць у граду́. Я іх* [дровы] *рэ́зала, кало́ла й скла́дывала ў граду́.* Заазер'е, Серкуці, Станюкі, Ульянавічы. 2. Дрывотня; месца, дзе складваюць дровы. *Града́ завём мы е́та, дзе дро́вы скла́дыюць.* Фасаўшчына. 3. Стос, пак (газет, папер). *Цэ́ла града́ газе́т.* Вялікі Азярэцк.

**ГРАДАБІ́ДНЫ** *прым.* ○ ГРАДАБІ́ДНАЯ СЕРАДА́ (СІРІДА́ ГРЫНАБІ́ТНАЯ). Градавая серада; дзень (серада) пасля Вялікадня. *На градабі́дную сераду́ нільзя́ пя́рыць бяллё пра́ннікам.* Багданава. *Сіріда́ грінабі́тная быва́іць ле́там, е́та грат быва́іць.* Самсоны.

**ГРА́ДКА** *ж.* 1. Градка (для вырошчвання раслін). *Ду́жа гра́дкі ні пало́ла на руса́льную нядзе́лю.* Вялікі Азярэцк. 2. Штабель дроў. *У гра́дку скла́дзены дро́вы.* Леснікова. *Скла́двалі дро́вы у гра́дку.* Станюкі, Рэчкі, Чуцькі.

**ГРАЗА́** *ж.* Навальніца. *Граза́ – е́та такі́ клубо́к, ні дай бох гразы́. Нъйшла́ така́я граза́, цёмна. Нъйшла́ граза́, адну́ ба́бу забі́ла, а дру́гую асма́ліла.* Багданава. *По́слі Прачы́стай граза́ ужэ́ канча́ецца.* Нямойта. *Я відзі́ў, як у вабе́д ста́ла нъхадзі́ць гръза́ – све́тлъя хма́ра.* Міцюкова. *Ву́трачкам уста́неш, ідзе́ш у лес, ра́зные цвяты́ рвеш, а тады́ ў цэ́ркву свяці́ць нясе́ш, а тады́ усе́ ве́шалі ў ха́ці, у хле́ві – ад гразы́.* Цясішча.

**ГРАЗІ́ШЧА** *н.* Вялікая грязь. *У нас тады́ гразі́шча было́.* Буй.

**ГРА́ЗНА** *прысл.* Гразна, гразка. *Ду́жа гра́зна было́ увясну́ і ўво́сень.* Самсоны.

**ГРАЗНЕ́Й** *прысл.* Больш гразны, гразкі. *Што гразне́й, то здараве́й.* Запруддзе.

**ГРА́ЗНЫ** *прым.* Гразны, гразкі. *Гра́зныя ру́кі, павыма́зъліся: у пяску́ кача́юцца.* Багданава. *Ду́жа ву́ліца гра́зная была́.* Самсоны.

**ГРАЗЬ, ГРАСЬ** *ж.* Гразь, бруд. *Пълажы́лі ў куле́ю, у гразь, перат шафёрам.* Багданава. *І гразь е́лі, і ў гразі́ жылі́, а здаро́выя былі́, як мядзве́дзі.* Ульянавічы. *Ле́пюць гняздо́* [ластаўкі] *з гра́зі і бы́стра, і дні за тры.* Фасаўшчына. *Здзе́лала А́лю на гразь, на мазь.* Парэчча. *Хто по́йдзіць у гэ́ту гразь.* Закур'е. *Грась на рука́х.* Вялікі Азярэцк, Заазер'е. *Грась на ву́ліцы.* Заазер'е. *І с пе́снямі жылі́, а цяпе́р заняло́.* Азярэцк. ◊ ЯК ГРАЗІ́. Вельмі многа. *Ле́тысь я́блык як гразі́ было́ насы́пана.* Ульянавічы. *Жуко́ў як гра́зі на бу́льбі.* Серкуці.

**ГРАЗЮ́ГА** *ж.* Вялікая гразь. *Гразю́га тъка́я на той хе́рмі!* Пожанькі.

**ГРАК** *м.* Грак. *Гракі́ ў чаты́ры часы́ начына́юць крыча́ць.* Баравікі. *Ні былі́ ж ты́я гърацкі́я, а з дзярэ́ўні гледзя́ць, як гракі́!* Савінічы.

**ГРА́КНУЦЦА** *зак.* Грукнуцца, упасці з моцным шумам, грукатам. *Гэ́дакімі мазга́мі сваі́мі гра́кнуўся аб дзе́жку.* Дольдзева.

**ГРА́КНУЦЬ** *зак.* Грукнуць, грымнуць, з сілай ударыць. *Як гра́кнула кача́лкай аб стол – вон з ха́ты.* Дольдзева.

**ГРАМ** *м.* Малая колькасць чаго-н., трохі, няшмат. *Каб гра́ма што пъмаглі́, а пяру́н жа абпалі́ў ха́ту.* Апечкі. ◊ ДА ГРА́МА. Цалкам, поўнасцю. *Пагнілі́ ўсі да гра́ма я́блыкі.* Запруддзе. ◊ НІ ГРА́МА. Нікольki. *Ні хачу́ жыць ні гра́ма.* Самсоны. ◊ НІ ГРА́МАЧКІ. Тое ж. *Ні гра́мъчкі ні засну́: так балі́ць по́чка.* Нямойта.

**ГРА́МАТА** *ж.* Пісьменнасць, адукацыя. *Раз-два-тры-чаты́ры – / Мяне́ гра́маце ні ўчы́лі, / Ні піса́ць, ні чыта́ць, / То́лькі ў па́лачкі гуля́ць. / Я ў па́лачкі гуля́ла, / Сабе́ но́жаньку зляма́ла* (з дзіцячай лічылкі). Запруддзе. *А гра́маце нас ні навучы́лі.* Неўгадава.

**ГРАМАТВО́Т** *м.* Громаадвод. *Ста́лі граматво́ты ста́віць.* Багданава.

**ГРАМАТНЕ́ЙШЫ** *прым.* Больш пісьменны, адукаваны. *До́чка і́хная граматне́йшая.* Міцюкова.

**ГРА́МАТНЫ** *прым.* 1. Пісьменны, адукаваны. *Ба́цька гра́мътны быў, а брат быў грамътне́йшы.* Чуцькі. *Іна́ тро́ху гра́матнъя была́.* Багданава. 2. Пра здольнасць выяўляць адзнакі розуму. *Пяту́х сі́льна гра́мътны: мо́ніць піскляня́т, кап збіга́лі з даро́гі. У мяне́ каро́вы гра́мътныя: мы клу́нкі на пле́чы – ў лес, і яны́ у лес, а там зно́йдуць нас.* Каралевічы.

**ГРА́МАЦЬ** *ж.* Пісьменнасць, адукацыя. Запруддзе.

**ГРАМІ́ЛА** *м. агульн.* Пра высакарослага, вельмі мажнага, грузнага чалавека. *Во грамі́ла, здаро́вы, бальшы́ чълаве́к. Грамі́ла ка́жуць, хто здаро́вы.* Багданава.

**ГРА́МІНА** *ж.* Малая колькасць, трошкі, няшмат. *Я во ге́ткае гра́міны ні ўзяла́ ў рот.* Багданава.

**ГРАМІ́ЦЬ** *незак.* Знішчаць, разбураць. *Мо́жа граміў ён царкву́?* Буй.

**ГРАМНІ́ЦЫ** *толькі мн.* Грамніцы, Стрэчанне; зімовы прысвятак у народна-царкоўным календары (пэўны дзень у лютым месяцы, калі, паводле традыцыйных уяўленняў, зіма сустракаецца з вясной). *Пітна́ццатага фіўраля Грамніцы.* Гарадзец. *Грамніцы былі зімо́й, у феврале́, све́чы свяцілі, атпра́ва была́.* Савінічы. *На Грамніцы ба́цюшка све́чы све́ціць. Све́чка ге́та ад грымо́ту, ад перуна́.* Каралевічы. *У нас жа заву́цца Грамніцы, а ў Ленінгра́дзе – Встрэ́чанне.* Нямойта. *По́сле Грамніц се́на на́да скату́ траціна, а хле́ба палавіна.* Запруддзе. *На Грамніцы каб вол напіўся, то вісна́ бу́дзіць ра́нняя* (прыкмета). Гарадзец. *Калі на Грамніцы въда́, тады́ жы́та пасьпе́іць да Льлі* (прыкмета). Ракаў Засценак. *Свячо́й, што на Грамніцы прынясу́ць, дзе́цям въласы́ пътпа́львалі.* Гарадзец.

□ *Грамніцы – палавіна зіміцы, скіда́й рукавіцы.* Буй, Каралевічы, Чуцькі. □ *На Грамніцы – здзіва́й (скіда́й) рукавіцы.* Запруддзе, Жохава. □ *Да Грамніц не скіда́й рукавіц.* Міцюкова. □ *Дъжда́ў Грамніц – пълавіна зіміцы, хле́ба траціна, а ко́рму пълавіна.* Дольдзева, Вялікі Азярэцк, Партызаны. □ *На Грамніцы <пад вугло́м> нап'е́цца пяту́х вадзіцы.* Запруддзе, Вялікі Азярэцк, Міцюкова, Леснікова. ГРАМНІ́ЧКІ *ласк.* □ *Грамні́чкі – пълавіна зямічкі.* Ракаў Засценак.

**ГРАМУ́ЛЬКА** *ж.* Малая колькасць, трошкі, няшмат. *Граму́лькі се́на німа́. У само́га се́на ні граму́лькі німа́.* Буй.

**ГРАНІ́СТЫ** *прым.* Пакрыты кучавымі (белымі) воблакамі. *Не́ба гранiстъя –* [гэта] *не́ба ў гра́нкъх, па не́бу кургуна́мі во́блъкі хо́дзюць.* Запруддзе. *Як бу́льбу се́юць, не́ба гранiстае – бу́льба до́брая бу́дзе* (прыкмета). *Сё́ння не́ба гранiстае – бу́дзе бу́льба ўраджа́йная* (прыкмета). Багданава.

**ГРА́НКА** *ж.* Баразна, радок, градка. *Бу́льба атмя́кла, гра́нкі шчэ паганя́ў. Гра́нкъмі пъганя́й і дава́й буракі садзіць.* Багданава. *Гра́нка цыбу́лі.* Розмыслава. *Варо́на з'е́ла гра́нку квасо́лі: зъ ціцівіну і ця́гніць.* Сукрэмна. *Нъга́ баліць хадзіць пъ гра́нках.* Вялікі Азярэцк.

**ГРА́НКІ** *мн.* Кучавыя (белыя) воблакі. *Гра́нкі, не́ба гранiстае.* Багданава. *Не́ба ў гра́нках.* Запруддзе.

**ГРАНО́К** *м.* Край (печы), акраек. *На гранку́ мы́ла ляжы́ць.* Рэчкі.

**ГРАНЯ́ЦЬ** *незак.* Абворваць, акучваць. *Бу́льбу граня́юць аку́шнікам.* Мянюцева.

**ГРА́СКІ** *прым.* Гразкі, брудны. *Гра́ская ко́фта.* Серкуці.

**ГРА́ТКА** *ж.* Хваля, складка на паверхні чаго-н. *Страчкі, смарчкі ні рызьліча́ю: гра́ткімі такімі яны́.* Вялікі Азярэцк.

**ГРА́ТКІ** *незак.* Гуляць (пра дзяцей). *Дзе́ці пайшлі гра́ткі, я тут адна́. Дзе́ці ўцяклі гра́ткі, ні пумуга́юць.* Партызаны.

**ГРА́ЎЦЫ** *мн.* Жыхары вёскі Граўшчына. Пожанькі.

**ГРАЦЬ** *незак.* 1. Іграць. *Як гра́іць му́зыка, як по́йдуць друтува́ць, як ха́та ні разва́ліцца.* Вялікі Азярэцк. 2. Блішчаць, пераліvaцца рознымі колерамі. *На Іва́на ра́на со́нца гра́ець, то пады́мецца, то апу́сціцца, разбіга́іцца ро́знымі цвіта́мі – сінімі, кра́снымі, жо́ўтымі.* Запруддзе.

**ГРАЧА́НЫ, ГРЭЧА́НЫ** *прым.* Грэцкі. *Кру́пы былі грача́ныя, свае́, з свае́ грэ́чкі. Грэча́ныя кру́пы былі.* Партызаны.

**ГРАЧНЁВЫ** *прым.* Грачнёвы, грачаны. *Гръчнёвая садо́ма з грэ́чкі. Гръчнёвая садо́ма длі ската́.* Жохава. *Грачнёвае звару́ ка́шы, яна́ скарэ́й ва́рыцца,*

*яé ні перавáраць.* Вялікі Азярэцк. *Грачнёвы мёд сáма лýчша. Грачнёвы мёд мне нісмáшны.* Міцюкова.

**ГРАЧЫ́ХА** *ж.* Грэчка. *Грачы́ха лю́біць пішчáную пóчву. Грачы́ха цвіцéць – с пыльцóй пчалá ідзéць.* Нямойта. *Грачы́ха у нас рóдзіць харóшая.* Жохава.

**ГРАЧЭ́ЎНІК** *м.* Поле, дзе расла грэчка; грачанішча. Міцюкова.

**ГРОБ, ГРОП** *м.* Труна. *Ля грóба дáйжэ ні стъя́ла* [пра жонку]. Багданава. *І гроп здзéлалі тамý рабёнку.* Алексінічы. *У нас адзін памёр ат гарэ́лкі, дык пълажы́лі ў гроп буты́лку. Некатóрым кладýць газéту, кні́шку. Партніха былá, то пълажы́лі кусóчък мацерыя́лу і нітак. С прáвъга бóку кладýць.* Ракаў Засценак.

**ГРО́ЗНА** *прысл.* Баяцца, выклікаць боязь. *Мне ня грóзна* [не баялася] *былá рабóта.* Дуброўкі.

**ГРОМ** *м.* 1. Гром. *Гром як даў у късчарэ́жнік і ў бярóзъвае чъпялі́шча, разбі́ў гэ́та чъпялі́шча і, як шáрык, пъкацíўся.* Ракаў Засценак. *Калі пéршы гром загрыміць – кулялісі чэраз гълувý.* Багданава. *Пачýў гром, стаў і перакулíўся тры разы́, каб ні бая́ўся грóму.* Партызаны. *Лéтась на гóлы лес гром грымéў – бýльба во пагнілá.* Гарадзец. *Грыміць пéрвы гром у срэ́ду ці ў пятніцу і на гóлы лес – ніўръжáй на бýльбу* (прыкмета). *Калі грыміць пéршы гром, а лес хоць пýчыцца, то бýдзе ўръджáй на бýльбу* (прыкмета). *Пéрвы гром грыміць на гóлы лес нóччы – ця́жэсьць лю́дзям* (прыкмета). *Пéрвы гром грыміць у сірадý і ў пятніцу – балéзьні на скот* (прыкмета). *Éслі гром загрымéў на адзéты лес, то бýдзіць багáты год* (прыкмета). *Éслі гром загрымéў на гóлы лес, то бýдзіць гóлы год* (прыкмета). Запруддзе. 2. *перан.* Шум, крык, лаянка. *І на дзéда з грóмам і на сы́на з вайнóй.* Дольдзева.

□ *З бальшóга грóму мáлы дошч.* Партызаны.

**ГРОМ** *м.* Іван-чай (?; расліна). *Гром крáсным цвіцé, рáілі пáрыць, кіпяціць.* Гарадзец.

**ГРО́МКА** *прысл.* Громка, чутна. *Грóмка гóласа не прізнасілі.* Жохава.

**ГРО́МНІК** *м.* Міфічная істота (?), расліна (?). *Грóмнік невысóкі, махнáты, каб пярýн ня быў.* Каралевічы.

**ГРО́ШЫ** *толькі мн.* Грошы. *Скóлькі грóшай яны́ ръсхóдъвалі. Ш чагó гэ́тыя грóшы ўзяць?* Буй. *Грóшы даю́ць і назáд дзярýць.* Багданава. *Ці мáла грош табé.* Баравікі. *Грóшы ні палучáлі. Атхóдаў, што чы́сцюць, даю́ць у канцы́ гóда, óсенню.* Заазер'е. *Па грашáх аж трасéцца.* Нямойта. *Грóшы кладýць у два вуглы́, каб быў чалавéк багáты* (прыкмета). Запруддзе. *У мáткі грóшай, што камéння, свінні ні ядýць* (жарт). Каралевічы. *Грóшы як въдá. Што яны́, гуля́ючы, грóшы зарабля́юць?* Закур'е. *Як ёсь трóхі грóшай, то й плачý.* Неўгадава. *Як грóшы сня́цца – мідзякі, дык дрэ́нна, бýдуць слёзы. А як бумáжкі, то клъпаты́ бальшэ́я* (прыкмета). Ракаў Засценак. *Пéрвую зязю́лю каб пачýў з грашмы́, кóжны год бýдуць грóшы* (прыкмета). Буй.

□ *У кагó грóшы, той і харóшы.* Запруддзе. □ *Грóшы лю́бюць лік, а бáба лю́біць цвік.* Запруддзе. □ *Грóшы – гэ́та навóс, сённі німá, а зáўтра вос.* Сянно.

**ГРУ́БА** *прысл.* Нізкім тонам (пра голас). *Бас звáлі. Ці ён грýба гаварыў?* Заазер'е.

**ГРУБÉЙ** *прысл.* Таўсцей, грубей. *Грубéй прáлі мы́чкі.* Вялікі Азярэцк.

**ГРУБÉЙШЫ** *прым.* Больш шурпаты на дотык, тоўсты. *Э́та бóлі грубéйшы* [ліст]. Серкуці.

**ГРУ́БКА, ГРУ́ПКА** *ж.* Грубка. *Рáньшы звáлі грýпка.* Заазер'е. *Мы грýпку зътапілі, іх павы́сушылі.* Кішуроўшчына. *Грýпку нáда перадзéлываць. Грýпку*

*таплю сянні.* Неўгадава. *Цёпла, калі груб*[т]*ку пратаплю.* Закур'е. ГРУ́БАЧКА *памяншг. Гру́бачка – ета шчэ да вайны былі, во стаялі каля печы.* Багданава.

**ГРУ́БЫ, ГРУБЫ́** *прым.* 1. Тоўсты. *У каровы грубая кожа.* Серкуці. 2. Нізкі, непрыемны на слых (пра голас). *Абеі нашы грубэя га*[ъ]*ласа.* Кляпчэва. 3. Каляны, шурпаты (пра тканіну). *Сваёга палатна юбкі грубэя ткалі.* Цясішча. 4. Нявετлівы, некультурны. *Мужык прышоў, грубы такі* [не паздароваўся]. Нямойта. 5. *н.* Тлустая страва. *Яна грубое ня есць.* Закур'е.

**ГРУ-ГРУ** *выкл.* Перадача гукаў удару грому. *Гру-гру – гром грыміць.* Каралевічы.

**ГРУД, ГРУТ** *м.* 1. Груда, куча. *Скідуюць у грут* [навоз], *ён перапрэіць, растрасаюць, заворуць і тады сеюць.* Станюкі. *У грут скінуў сучча і запаліў.* Заазер'е. *У груд*[т] *наскідалі ламачча.* Багданава. 2. Вогнішча. *А раньшы* [на Купалле] *груды* [рабілі]. *Дровы нацягаюць, груд гарыць, пяюць.* Заазер'е. 3. *прысл.* Вялікая колькасць, шмат. *Грут намыйїш плацця.* Каралі.

**ГРУ́ДА** *ж.* Груда, вялікая куча. *Ляжаць груды яблык, як стог сена.* Неўгадава. *Грудамі ляжаць яблыкі у гародзі.* Вялікі Азярэцк.

**ГРУ́ДЗІ** *толькі мн.* 1. Грудзі. *Як спужалася, дала грудзі мальцу – і ўсё. К адной бабі знасіла – нічога, у Віцебска сказалі везці.* Багданава. 2. Грудная клетка. *У грудзёх цяжка: малака папіла халоднага.* Каралевічы. *Каб табе кашаль грудзі біў!* (праклён). Запруддзе. ◊ ПАД ГРУДЗЯ́МІ (ГРУДЗЬМІ́). Пад дыхавіцай, у сонечным сплящэнні. *Пад грудзямі, пад костачкай баліць.* Багданава. *Галава замучыла, пад грудзьмі часта баліць.* Багданава. *З дзядоўніку шышкі, корънь тапіла і піла, як балела пад грудзямі.* Чуцькі. ◊ ЗА ГРУ́ДЗІ ўзяцца, схапіцца. Узяцца (схапіцца) за адзенне. *Ён за грудзі – дай грошы.* Каралевічы.

**ГРУДЗІ́НКА** *ж.* Грудзіна, грудная косць. *Грудзінку высякаюць. Грудзінку абразаюць срадзі ног* [у свіней]. Багданава. *Грудзінка ў свінні.* Гарадзец.

**ГРУЗД, ҐРУЗД** *м.*, **ГРУЗДЫ́, ГРУ́ЗДЗЯ** *мн.* Грузд, грузды (грыбы). *Грузд белы сядзіць, здаровы. Ну, яны ўкусные грыбы.* Багданава. *Во такія тоўстыя грузды былі.* Запруддзе. *Белых груздоў німа, аж на Лепіль ездзім бёрыць.* Закур'е, Апечкі, Карпавічы. *Чорныя грузды па ельніку і дзе бярозы.* Дуброўкі. *Ґрузды чорныя. Груздзя харошыя грыбы, жырныя, іх варуць і халодныя ядуць.* Вялікі Азярэцк, Дуброўкі.

**ГРУ́ЗНЫ** *прым.* Мажны, тоўсты. *Тъкая грузная баба была, мо сто гадоў, а грузнъя.* Запруддзе.

**ГРУЗУВЫ́** *прым.* Грузавы (пра машыну). *Грузувая машына мяне ні ўзіла.* Падворыца.

**ГРУ́ЗЧЫК** *м.* Грузчык. *Рысі ёсь, з дрэва на грузчыкуў прыгъла.* Вялікі Азярэцк.

**ҐРУК** *м.* Крумкач, груган. *Ґрукі – у іх дзюпкі белыя, а самі чорныя, наліцяць на кукурузу. Каб табе ґрукі вочы павыдзіралі!* (праклён). Запруддзе.

**ГРУК-ГРУК, ГРУК-СТУК** *выкл.* Перадача гукаў руху пацука. *Грук-грук – скачыць смалянка.* Нямойта. *Грук-стук – крыса усё аблазіла.* Нямойта.

**ГРУ́КАТ** *м.* Грукат. *Грукат гэты – пулямёты стръляюць, сталі бамбіць.* Серкуці.

**ГРУ́КАЦЦА** *незак.* Грукацца, з сілай стукацца. *Грукаюцца ў дзверы, міліцыянер.* Багданава.

**ГРУ́КАЦЬ** *незак.* Грукаць, моцна, з сілай стукаць. *Грукаюць ноччы, а ў мяне дзеці бальнэя. А мы дыгъварыліся, ён і грукаіць у акно.* Багданава. *Дъвай камнямі*

*грýкаць*. Гарадзец. *Чагó ты грýкаеш, каб табé ў гълавé грýкала*. Вялікі Азярэцк. ГРУК-ГРУК. Адрывіста стукаць. *Сéрца грук-грук, а тады́ німá чълавéка*. Запруддзе. *Грук-грук у дзвéры*. Багданава.

**ГРУНТ, ҐРУНТ** *м*. Цвёрды пласт зямлі. *Грунт цвёрды*. Гарадзец. *Ґрунт – катóрая цвірдáя* [зямля], *як ґрунт*. Нямойта.

**ГРУ́ЦА, ҐРУ́ЦА** *ж*. 1. Суп з ячменных круп і бобу. *Грýца – суп такí, э́та з бóбу, круп пярлóвых усы́пюць*. Кляпчэва. *Ґрýца – із бóбам суп густы́*. Ульянавічы. 2. Страва з ячменных круп з грыбамі. *Грýца з грыбáмі*. Дольдзева.

**ГРУ́ШШЫ** *прым*. Адрузлы. *Грýшшы ліцó былó, грýшшы*. Запруддзе.

**ГРУ́ШЫНА** *ж*. Груша (дрэва). *Адзін рой звіўся на грýшыне*. Вялікі Азярэцк. *Грýшына там стаіць, слáткая, вóсіньская*. Заазер'е. *Тры грýшыны былí, і я нічóга ні прыладзіла*. Леснікова.

**ГРЫБ, ГРЫП** *м*. Грыб (расліна). *Пад éлкай, пад дýбам бýдзе грыб*. Парэчча. *Сáмі пашлí ў лéсі па грыбáх, малóдзенькіе варýшачкі, як капéечкі*. Міцюкова. *Грыбы́ патравілі ў лясý*. Цясішча. *Рóдзюцца грыбы́, як карóў пáсцілі ў лясý*. Партызаны. *Пайдзём у лес у грыбы́*. Дольдзева. *Éслі мнóга зóрак на пéрвую калядý, то мнóга грыбóў бýдзіць* (прыкмета). Ракаў Засценак. *Грып éты бярýшчы*. Багданава. ○ ГЛУХÉЯ ГРЫБЫ́. Неядомыя грыбы. *Ніз'ядóмыя грыбы́ мы завём глухéя грыбы́*. Пожанькі. ○ ГРЫБ С-ПАД СНÉГУ. Смаржок ці страчок. *Грып с-пат снéгу*. Серкуці. ◊ расці ЯК ГРЫ́БЫ <АТ ЦЁПЛАГА ДÓЖДЖУ>. Расці хутка, непрыкметна (пра дзяцей). *Растýць твае́ дзéткі як грыбы́ ат цёплага дóжджу*. Вялікі Азярэцк.

**ГРЫБ, ГРЫП** *м*. Грыбок-паразіт. *З'еў грыб хáту*. Савінічы. *Грып хáту есь-есь і з'йеў, з'есь усё*. Алексінічы. *Грыб*[п] *у хáці завёўся*. Сянно.

**ГРЫБ** *м*. Грып (захворванне). *Я зъбалéла гры́бам*. Нямойта.

**ГРЫБАСÉЙ** *м*. Цёплы дробны дождж, які спрыяе росту грыбоў; грыбасей. *Грыбасéй, як імжáчка, такí дош, грыбы́ растýць*. Ракаў Засценак.

**ГРЫБІРÓІТ** *м*. Руберойд. *Хáта прыцікáла, то купíў грыбірóйіту і пакры́ў, а ў хáці шпалéрымі паклéйіў*. Міцюкова.

**ГРЫ́БНА** *прысл*. Многа грыбоў. *Тáма гры́бна!* Сянно.

**ГРЫБНІ́К** *м*. Грыбнік. *Грыбнікí цяпéр абы-якéя грыбы́ рэ́жуць*. Вялікі Азярэцк. *Марцінóвіч – бальшóй грыбнíк*. Сянно.

**ГРЫБНЫ́** *прым*. Які мае адносіны да грыбоў. *Цар грыбны́ – баръвíк – задýмуў вуювáць*. Вялікі Азярэцк.

**ГРЫБÓК** *м*. Грыбок-паразіт. *Нéйкі грыбóк бывáіць, што валасы́ вылізáюць*. Багданава.

**ГРЫБÓК** *м*. Ніжняя частка верацяна. *У вірцянé грыбóк там*. Заазер'е.

**ГРЫБÓК** *м*. 1. Абабак (грыб). *Грыбóк – гэ́та бáбачка. Грыпкí – прáвільная назвáнія*. Кавалі. *Сáма грыпкí па мху растýць*. Рудніца. 2. Абабак чорны (грыб). *Грыпкí – чóрнінькіе галóўкі, цвёрдыя, як звáруцца*. Чуцькі.

**ГРЫБЫ́** *мн*. 1. *эмац.-ацэн*. Вусны. *Як я дам табé пъ грыбáх і ръзаб'ю табé к чóрту!* Запруддзе. 2. *м*. Ніжняя губа ў жывёлы (авечкі). *У авéчкі грып атарвáў* [воўк]. *Грып у авéчкі éта*. Галашчакіна.

**ГРЫ́ВА** *ж*. 1. Касмык травы на пракосе. *Гры́ву астáвіў, так няўмéла кóсіш*. Сукрэмна. *Як шырóка зъймáюць касóй, то гры́вы астаюцца, грэ́сці дрэ́нна*. Гарадзец. *Гры́ву пакíнуў*. Розмыслава. 2. Палоска сенажаці. *Астаéцца гры́ва – палóска*,

*як чо́лачка.* Нямойта. *Во късáр, што грыва стайіць пъ калéна.* Леснікова. *О, накасіў, за грыву мóжна прывізáць.* Міцюкова.

**ГРЫВІСТЫ, ГРЭВІСТЫ** *прым.* Нахілены. *Каласóк грывісты на адну стóрану звішшы. Грэвісты авёс на адну стóрану звішшы.* Міцюкова.

**ГРЫЖА** *ж.* Грыжа. *Грыжа булá ў лéвум баку.* Багданава. *Грыжу загавáрваюць, загръзáюць.* Партызаны. ○ ПУПАВÁЯ ГРЫЖА. Від грыжы. *Пупавýю грыжу загавóрваць нáда.* Жохава. *Пупавáя грыжа, пуп чуць ні развізáўся.* Кляпчэва.

**ГРЫЖЫНКА** *ж.* Бручка. *Грыжынка завýць, што грызýць яé. Нъ ляхе ръслá жóўтъя, слáткъя. Стушыць, кýръчкі кусóк туды, аб'ясíся.* Сянно.

**ГРЫЗЦІ** *незак.* Грызці. *Ваўкóў былó штук пяць, яны вылі і грызлі лясіну.* Багданава.

**ГРЫЗЬ, ГРЫСЬ** *ж.* Жыравік, нараст на целе, пухліна. *Іна́ грызь загрыжывала, сукі глядзíць* [на сценцы], *ля сукóў зъгавáрывала.* Заазер'е. *Грызь етá, я загрызла і зъгаварыла, інá стáла ўпраўля́цца, на мéсца ўстаўля́цца. Знасіла да Тóдаса самá Вáсю, грысь загразáў у жываце́.* Багданава.

**ГРЫМЕ́ЦЬ** *незак.* Грымець (пра гром). *Калі грыміць ні на гóлы лес, тады харóшы ўраджáй* (прыкмета). *Пéрвы гром грыміць на гóлы лес нóччы – цяжысь лю́дзям, у срэ́ду, пятніцу – балéзнь на скот, а ў аўтóрак – цяжысь лю́дзям* (прыкмета). Каралевічы. *Як грыміць, то выкідъвалі лъпáту.* Нямойта.

**ГРЫМÓТЫ** *мн.*, **ГРЫМÓТА** *ж.* Грымоты, гром. *Як грымóты, хто кідáіць кáліва купáльный травы ў печ, у жар.* Мянюцева. *Сёлета грымóты ні былó. Узнялáся грымóта, спаліла дзве хáты.* Запруддзе.

**ГРЫФЕЛЬНЫ** *прым.* Грыфельны. *Дóскі былі грыфельныя.* Ульянавічы.

**ГРЭ́БАВАЦЬ** *незак.* Грэбаваць. *Éслі вы не грэ́баеце, кýшайце.* Мянюцева. *Ня грэ́байце, як сумéю, бýду карміць. Ня грэ́байце чагó папіць.* Багданава.

**ГРЭ́БЕНЬ, ГРЭ́БІНЬ** *м.* 1. Шчотка, грэбень для апрацоўкі лёну. *На грэ́бень часáлі.* Апечкі, Буй. *Грэ́бінь такі здзéланы, гвóздзяў набíта мнóга, і часáлі, зрэ́бніна сабé, кýжаль сабé.* Марозаўка. *У грэ́бень гваздзёў набíта.* Карпавічы. *У грэ́бні гвóздзі набíты.* Чуцькі, Буй. *Грэ́бнім мáла хто часáў лён.* Закур'е. 2. Грэбень (у некаторых птушак). *Грэ́бень крáсьненькі ў кýрыцы.* Буй. *Грэ́бінь ілі чуп у курéй.* Вялікі Азярэцк. *Грэ́бень пъбялéў у пéўня.* Партызаны. 3. Востры верхні край, грэбень страхі; канёк. *Грэ́бінь – éта канёк з дасóк ілі з жэ́сці.* Гарадзец, Буй.

**ГРЭ́СЦІ, ГРЭСЦЬ** *незак.* 1. Грэбці (пра сена). *Як пóйдзім сéна грэ́сці, пяём.* Буй, Багданава. *Варóчаць, пóтым грэ́сці сéна бýдзем.* Вялікі Азярэцк. *Пашлі грэ́сці сéна.* Леснікова, Баравікі, Розмыслава. *Сéна грэсьць нáда і жаць нáда.* Серкуці. 2. Аграбаць рой. *Не аднэ́й рабóты – грэ́сці пчол.* Вялікі Азярэцк.

**ГРЭХ** *м.* 1. Грэх. *Лю́дзі былі набóжныя, грэ́ху баяліся.* Запруддзе. *Забі змяю́ – грахóў мнóга скідáецца.* Вялікі Азярэцк. *Як саграшыш – у Каля́ды рабóтаіш – éта грэх.* Фасаўшчына. *Ніхтó ні сціражэ́ць і ні вóзьміш нічóга, нéйкі грэх быў.* Гарадзец. *Ці баяцца цяпéр грэ́ху?* Заазер'е. *Грэх спýтъіць.* Нямойта. *Крáлі, грэ́ху дýжа ні бъялісі.* Цясішча. 2. *прысл.* Грэшна. *Цяпéр, дзéткі, дóбра жывýць, грэх слóва сказáць.* Цясішча. ◊ ЯК НА ГРЭХ. Як на зло, на няшчасце. *Раёў не злавіла як на грэх.* Вялікі Азярэцк. *Як на грэх ніхтó ні станóвіцца* [у чаргу за некім]. Сянно.

□ *Рáда б душá у рай папáсь, а грахі ні пускáюць.* Багданава.

**ГРЭ́ЦКІ** *прым.* Грачаны. *Грэ́цку кáшу éлі з маълакóм.* Дуброўкі.

**ГРЭЦЬ** *незак.* Грэць. *Зімóй сóнца свéціць, ды не грэ́е.* Гарадзец.

**ГРЭ́ЧКА** *ж.* Грэчка (расліна). *Бала́ грэ́чка, про́са ня се́ялі.* Міцюкова.

**ГРЭ́ШНА** *прысл.* Грэшна, дрэнна, шкодна. Багданава.

**ГРЭ́ШНЫ** *прым.* Грэшны. *Ня мо́жна, ён грэ́шны.* Багданава. *Чым грэ́шны, такі́ і скі́неш, як заб'е́ш зьмяю́.* Запруддзе. *Грэ́шны чъланве́к пръўрашчо́н у буцяна́.* Гарадзец.

**ГУБА́** *ж.* Грыб у форме капыта, які паразітуе на дрэвах; гу́ба, чага. *Мъладэ́й грыб нъ бяро́зі – ча́га, а як пъстарэ́йіць, тагда́ губа́.* Пожанькі. *На дзе́раве грып такі́ губа́, е́та да кръса́ла, прыку́рваеш з губы́. Губа́ на бяро́зе, зраза́ць ад ра́ка на лека́рства. Губа́ была́, се́клі яе́, у ле́се кала пнёў шука́лі.* Багданава. *Губу́ вы́мачыць, вы́сушыць, ска́ла – ка́мешкі панахо́дзяць, у ку́зьніцы здзе́лаіць агніво́ – трэць і загара́іцца.* Дольдзева. *Губу́ вары́лі, ат пня грып гэ́ты ва́рыш, тады́ мълатко́м ме́сіш, ён дзе́лаіцца як ва́та.* Жохава. *Губу́ вары́лі – з на́раслі бярэ́зіны – сушы́лі. Губа́ мя́ккая.* Каралі. *Губа́ расце́ць аддзе́льна, як ко́нскі капы́т. Губу́ вары́лі на крэ́сіва.* Серкуці.

**ГУ́БІНА** *ж.* Губа, вусны. *Я усё е́ту гу́біну куса́ла, як ем, так і укушу́.* Нямойта. *Гу́біна распо́хла так.* Запруддзе.

**ГУБІ́ЦЬ** *незак.* Губіць, знішчаць. *Жыво́га губі́ць нільзя́, пусць жыве́ць.* Серкуці.

**ГУ́БКА, ГУ́ПКА** *ж.* 1. Мера напрадзеных нітак (кудзелі), мера асновы ў кроснах. *Гу́бкі тры-чатыры-дване́ццаць, як напраду́ць.* Карпавічы. *На́да усе́ двана́ццаць гу́бак перапра́сць.* Запруддзе. *А гу́пка во: гэ́та бальша́я ха́та, так чэрас усю́ ха́ту – гэ́та гу́пка. У ка́ждай тру́пкі па тры гу́бкі, па тры сцяны́.* Багданава. *Ко́лышка ад ко́лышка – счыта́лася гу́бка.* Буй. *Гу́пка ад е́тага канца́ да таго́* [на памер сцяны]. Леснікі. *Дзве, тры гу́бкі снува́лі, а больш дзвіна́ццаці не.* Леснікова. *Гу́пкі снъва́ць ня у́мейіць.* Закур'е. 2. Мера вытканага палатна. *Гу́пка – двана́ццаць, сем ме́траў пълатна́.* Сукрэмна. *Сътка́ла адну́ гу́пку пълатна́.* Вялікі Азярэцк.

**ГУБЛЯ́ЦЦА** *незак.* Губляцца. *А яно́* [малако] *на ніве губля́іцца.* Фасаўшчына.

**ГУ́ҐАЛЬ** *м.* Хвошч (расліна). *Гу́ґаль у нас зва́лі, нападо́біі як гаро́х чо́рнінькі, для ско́ту.* Фасаўшчына.

**ГУ-ГУ** *выкл.* 1. Выгукі пры гуканні ў лесе. *Наро́ду у лясу́, то́лькі – гу-гу.* Апечкі. 2. Перадача гукаў, якія выдае кот у час марцавання. *Гудзе́ў, гудзе́ў гу-гу* [кот] *і бо́льшы ні прышо́ў.* Рулёўшчына.

**ГУДЗЕ́ЦЬ, ҐУДЗЕ́ЦЬ** *незак.* 1. Гудзець, гусці. *Перад дажджо́м гудзя́ць пчо́лы, ляціць у свой до́мік ка́ждая. У са́дзе пчо́лы ле́там гудзя́ць.* Вялікі Азярэцк. *Гудзі́ць рой.* Запруддзе. *Гудзя́ць і гудзя́ць но́ччу жукі́ ма́йскіе. Адку́ль жуко́ў – гудзя́ць, гудзя́ць, мо́жа, ў карма́нах закра́ўшыся.* Нямойта. *Як хъладне́й, крапчэ́й гудзя́ць* [пчолы], *ну бо́лі кърма́ упътръбля́юць.* Фасаўшчына. *Аш гудзя́ць, сто́лькі іх было́* [лазавікоў]. Дольдзева. 2. Утвараць гул з-за трэску, шуму (пры пажары). *Пъса́тка лі даро́гі гарэ́ла, стра́шна гудзі́ць, а я вы́шла і гляджу́.* Чуцькі. 3. Гаварыць самому сабе. *Палю́ ляху́ ды сама́ сабе́ гуджу́ і пла́чу: дзе яка́я ліха́я дзе́ўка твая́.* Дольдзева.

**ГУДЗЕ́ЦЬ** *незак.* 1. Узрушвацца (у перыяд цечкі). *Свіння́ гудзі́ць, е́сці ня во́зьміць, ні піць, ні е́сці.* Гарадзец. 2. Марцаваць (пра катоў). Рулёўшчына.

**ГУДЗЕ́ЧНІЦА** *ж.* Тоўстая доўгая кішка. *Гудзе́чніца – таўста́я дллі́нная кішка́* [у свінні]. Парэчча.

**ГУ́ЖАМ** *прысл.* Гужам, чарадой, адзін за адным. *Ма́льцы бу́дуць хадзі́ць гу́жъм.* Каралевічы.

**ГУЖЫ́** *мн.*, **ГУШ** *м.* Гужы. *Гужы́ ў хамуцé,* [імі] *запръгáюць кън́я. У клéшчы зъця́гвъліся гужы́ з вяро́ўкі.* Гарадзец.

□ *Узя́ўся за гуш, ні гувары́, што ня душ.* Запруддзе.

**ГУЗА́К, ГУЗЛА́К, ҐУЗА́К** *м.* 1. Гуз, нараст, пухліна. *Гузáк вы́йдзіць с кулáк.* Багданава. *Тут у яé гузлáк зрабі́ў: так ён адбі́ў яé. Пад грудзьмí быў гузлáк цвярды́.* Запруддзе. ГУЗЛАЧО́К *памянш. На нагé быў гузлачóк, за чаты́ры сія́нсы разышо́ўся, і шэ́я пірастáла скрыпéць.* Багданава. *Гузлачóк на руцэ́.* Нямойта. 2. Камяк гразі, бруду. *Такія ґузакі натóпчуць грáзі па падлóгі.* Гарадзец.

**ГУ́ЗІК, ҐУ́ЗІК** *м.* Гузік. *Даўнéй бяз гу́зікаў рубáшкі шы́лі.* Каралі. *Ґу́зік драўля́ны быў, кручкі́ былí.* Нямойта. *Ідзéш, нáйдзеш гу́зік з дзі́ркамі – аткі́нь у стóрану, бо дрэ́нна бу́дзіць* (прыкмета). *Ушы́ў гу́зік* [на крывыя вечары], *пърасі́лься свіння́ – у аднъгó пърасёнка бальшы́-бальшы́ глас.* Ракаў Засценак.

**ГУЗО́ЧЫК** *м.* Вузельчык з пятлёй. *Гузóчык зъвя́зъвайіцца на крóснъх, і заву́ць гу́пка.* Закур'е.

**ГУКА́ЦЬ** *незак.* Аклікаць, зваць. *Клі́каць – гэ́та гукáць, дзе далёка у лéсі, клі́кай.* Багданава. *Гукáіць, кап ні зблудзі́цца, і ідзéць на гóлас.* Галашчакіна. *Ну й крычáць, гукáюць мянé, я адгукну́лася.* Леснікова. *Стáлі гукáць ягó ў лясу́ – ні тъзвáўся.* Запруддзе, Серкуці. *Ой, стъя́ла Лéнъчка пъд лясксóм, / Гукáла пáпъчку гъласкóм* (з песні). Каралевічы.

**ГУКНУ́ЦЬ** *зак.* Пазваць, паклікаць. *Я ягó гукну́ла, ён пашо́ў і паглядзéў.* Запруддзе. *Събáку гукну́лі ў хáту.* Міцюкова. *Там гукні́ ягó.* Нямойта.

**ГУЛДАЯ́ЧЫЦЬ, ГУЛЬДЫЯ́ЧЫЦЬ** *незак.* Невыразна гаварыць. *Далá тру́бку, бáба – гу, нéшта гулдая́ча.* Запруддзе. *Там мáльцы бу́дуць гульдыя́чыць.* Партызаны.

**ГУ́ЛІ** *толькі мн.* Гулянка, вечарынка. *Як гу́лі, пяю́ць.* Марозаўка. *Бу́дуць нядзéлю хадзі́ць, як якія гу́лі.* Багданава. *Нéйкія гу́лі былí, і тáя і другáя гуля́ла.* Запруддзе. *Двóе гу́ляў там гуля́ла, абвя́звалі мацер'я́лам на хрэ́сьбінах.* Нямойта. ГУЛЮ́ШКІ *ласк. Я былá на гулю́шках, мъльдáя былá.* Апечкі.

**ГУ́ЛІНЫ** *толькі мн.* Тое ж. *Былí гу́ліны, я й гуля́ла, я й пéла.* Вялікі Азярэцк.

**ГУЛУБІ́КА** *ж.* Буякі, дурніцы. *Гулубі́ка бувáіць, сі́нія я́гады.* Нямойта.

**ГУЛУСУВА́ЦЬ** *незак.* Галасаваць. *Я раз гулусувáла.* Каралевічы.

**ГУЛЬНЯ́** *ж.* 1. Гулянка, вечарынка. *Нéйкая ў іх гульня́ былá, пéлі і скъкáлі.* Запруддзе. *Дзя́куй тóму кавалю́, / Што надзéлаў нам гульню́* (з песні). *Як жы́та убяру́ць, гульня́ былá.* Запруддзе. 2. Гульні, забава. *Вянкі́ вілí, пéлі, на Купáла пéсні ўсю ноч, гульня́.* Баравікі.

**ГУЛЬТА́Й** *м.* Абібок, лайдак. *Гультáй працавáць ні лю́біць.* Буй. *О, ужó і гультáй, ня хóчыць дзéлаць.* Дольдзева. *Гультáй, рабóтъць ня хóчыць, кап пъ хáтъх сядзéць.* Нямойта. *Ну, éта тóлька гультáй, катóры пръгуля́іць лéта.* Заазер'е. *Тáмыцькі мъхъвікі, рэш касóй! Сáма гультáй грыбóў набярэ́ць.* Сянно, Міцюкова. *Гультáй такí, што і пáльцам не паъшавéліць.* Дуброўкі.

**ГУЛЬТУЯВА́ТЫ** *прым.* Гультаяваты. *Гэ́тая нявéстка гультуявáтая.* Нямойта.

**ГУЛЯВЫ́** *прым.* Свабодны, нічым не заняты. *Кáждый дзень мы гулявы́я ціпéр. Кóжны дзень мы гулявэ́я, то тóе, то тóе, рабóты німá.* Багданава.

**ГУЛЯ́ННЕ** *н.* Гулянне, бяседа. *Вълá зарэ́зълі, пърасёнка ўця́гну́ў у хлеў і гуля́нне справі́лі.* Міцюкова.

**ГУЛЯ́ЦЕЛЬ** *м.* Гулец. *Я́ры гуля́цель у кáрты.* Ульянавічы.

**ГУЛЯ́ЦЬ** *незак.* 1. Гуляць, нічога не рабіць. *Зімóй гуля́й і бувáй, а лéтам лепш і гнілýю калóду гры́сці.* Дольдзева. 2. Гуляць, бавіць час у гульнях, на вечарынках. *Я бувáла любíла пець і гуля́ць на вечары́нках.* Галашчакіна. *Я гуля́ла дзéўкъю, папрыдзім на йгрыщчы.* Запруддзе. *Рáзам гуля́лі нъ тáнцах.* Леснікова. *Былí гуля́лі, у фáнты гуля́лі, пацалýі і тады́.* Заазер'е. *Гуля́ць к Рымáну у хáту ў Вялíкім Сялé ўсё хадзíлі. Яны́ хадзíлі там, а мы сáмі гуля́лі.* Міцюкова. 3. Танцаваць, скакаць. *А як кадры́лю гуля́лі.* Галашчакіна. *Éта не гуля́лі кадры́ль, за кадры́ляю пóлька пайшлá.* Багданава, Кавалі. *Мы пы тáнцах хадзíлі, там кадры́лю гуля́лі.* Партызаны. *Гуля́лі ў чатыры пáры ці ў шэсць, во гуля́лі.* Закур'е. 4. Спраўляць вяселле, радзіны, провады і інш. *Адзін рас свáдзьбу гуля́лі.* Галашчакіна. *У трэ́цюю субóту маладэ́я ўжо бацькí прыглашáюць, перазóўкі тóжа гуля́юць.* Запруддзе. *Як радзíны гуля́лі, то бáбу ў начóўкъх цігáлі, а лі калóдзіша вадóй абаллю́ць, смяю́цца, вéсіла былó.* Партызаны. 5. Быць у адпачынку па доглядзе дзіцяці. *Цяпéр вы́гада, бох знáіць, радзíць і год-два гуля́іць.* Галашчакіна. 6. Пераліваца, зіхацець (пра сонца). *Сóнца гуля́іць на пéрвый дзень Пáскі, у Чыcты чэ́цьвірг і на Благавéшчанне.* Дуброўкі. 7. Любіцца, кахацца. *Гуля́йіць сабé дзéўка, ні нърáвіцца ён, сабé хлóпца другóга нáйдзіць.* Цясішча. 8. Веснаваць (пра свойскіх птушак). *Пятýх, гусáк, індзю́к абы́чна гуля́іць, і тóпчуць яны́.* Вялікі Азярэцк. ◊ ГУЛЯ́ЦЬ ЛІНЦЯ́Я. Нічога не рабіць, гультайнічаць. *Я бýду лінця́я гуля́ць.* Партызаны.

**ГУЛЯ́ШЧЫ** *прым.* Разбэшчаны, распусны. *Янá гуля́шчая, круцíлася з усíмі.* Запруддзе.

**ГУМЕ́ННІК** *м.* Цяля пэўнага ўзросту, якое гадуецца на выпасе на сенажаці. – *Які цялёнак? – Гумéннік, па гумнý хóдзюць. Во цялёнак бальшы́ – гумéннік, навя́зваюць вóдзюць.* Нямойта. *Цялёнак ёсь гумéннік, на гумнé прывя́зуюць.* Хамічы. ГУМЕ́ННІЧАК *памянш.-ласк. Гумéннічък – як тóлькі нъвя́зываюць, ён нікýды ня хóдзіць.* Леснікова.

**ГУМНІ́ШЧА** *н.* Частка двара з гаспадарчымі пабудовамі. *Гумнíшча – дзе стáвяць пастрóйкі, хлеп там абмалáчывалі.* Нямойта.

**ГУМНО́** *н.* 1. Комплекс сельскагаспадарчых будынкаў разам з месцам для малацьбы. *Ток, пýня, ёўня – усé рáзам звáлася гумнó. Гумнó назывáлі, стаялі там пýня і ток. Да вайны́ éта былó. Ціпéр амбáры іли ток у калхóзі. Пýня і ток нъзывáліся гумнó.* Гарадзец. *У кáждага сваё гумнó, свая пýня і ток там.* Самсоны. *Гумнó – мéста нъзъвáлася, дзе ток, дзе склъдáлі дабрó, а пýня для сéна і мéста ля тóку прусушы́ць сéна, снапы́. Гумнó – дзе пýня стаяла, ток, ёўня.* Алексінічы. 2. Пляц, дзе размяшчаліся сельскагаспадарчыя будынкі і плошча вакол яго. *Гумнó – там пóжня, сърáй стаíць, ток.* Галашчакіна. *Сéна растрасáлі, сушы́лі, там пýня стаяла і ток, і гумнó назывáлася.* Леснікова. *Гумнó – мéста кала пýні, дзе склъдáлься сéна.* Гарадок. *За гýмнам сёліта бýдзіць жыта расьці.* Серкуці. *Гумнó – éта óбшча, тут і пýня, ток, і ёўня, і кусóк сінакóса.* Дольдзева. *Гумнó былó вы́гъръджъна. Там быў ток, пýня.* Міцюкова. *Рáньшы былí гýмны – кала тóку вы́гараджана мéста, гумнó кала такóў.* Нямойта. 3. Сенажаць. *Гумнó касíлься, вóсінню авéчку туды́ запрýць, къня́ пýсьціш.* Серкуці. *Цялёнка ў гумнó вы́віў* [каб пасвіўся]. Манголія. 4. Месца, дзе стаяла гумно; гумнішча. *Былó гумнó, мéсца – дзе былó гумнó.* Гарадзец.

**ГУ́НЬКА** *ж.* Посцілка накрываць каня; гунька. *Гýнька – éта къня́ накрывáлі, як свáдзьба у кагó ці што.* Алексінічы. *Гýнькі, дзярýгі ткáлі. Гýнькай къня́ накрывáлі.* Манголія. *На кóнях шáрыкі брыжджáць, пасцíлачкі, гýнькі пъслáлі.* Багданава.

**ГУРО́К** *м.* Агурок. *Ко́памі пръдава́лі гуркі.* Вялікі Азярэцк, Гарадзец. *У маладзіку́ ста́вюць ве́нік на ляху, штоб раслі гуркі* (прыкмета). *Гуркі со́дзяць на Пахо́ма.* Вялікі Азярэцк. *Гуркі со́дзяць у субо́ту, як у ба́ні мушчы́ны мы́юцца, у панядзе́лак – каб пе́рвы цвет быў.* Чуцькі. *Дай пайду́ выбіра́ць гуркі.* Запруддзе. *Гуркі ў се́нцах стая́ць акале́ўшы, сма́ку няма́ цяпе́р на іх.* Закур'е. ГУРО́ЧАК *памянш. На крапіве́, як гуро́чкі жо́ўтыя, ураджа́й на гуркі бу́дзіць* (прыкмета). Партызаны.

**ГУРО́ШНІК** *м. зб.* Агурочнік. *Гуро́шнік убра́ла.* Міцюкова.

**ГУ́РТАМ** *прысл.* Гуртам, сумесна, разам. *Вы гу́ртам выступа́йце.* Закур'е.

**ГУРТУВА́ЦЬ** *незак.* Гартаваць (жалеза). *Гуртува́ць – е́та ў ку́зніцы, е́та нажы́ бу́дзіць во́йстрыць, загарто́ваіць.* Сукрэмна. *Жале́за гуртува́лі, згуртува́ў.* Манголія.

**ГУРЧЭ́ЦЬ** *незак.* Гурчаць. *Мы дзе́лаем, кап пра́чка ні гурчэ́ла.* Заазер'е.

**ГУСА́К** *м.* 1. Гусак. *Усе́ гусакі у мяне́.* Манголія. 2. Бутля на тры або пяць літраў з вузкім горлам. *Гуса́к нъ пяць літръ́ў.* Дольдзева. *Трохлітро́вы гуса́к.* Савінічы. *Мы бу́тлі называ́лі гусакі.* Фасаўшчына.

**ГУ́СЕНІЦА** *ж.* Вусень. *Гу́сініцы капу́сту яду́ць.* Турава.

**ГУ́СІ** *мн.* Гарлачыкі (кветкі). *Гу́сі бе́лыя, жо́ўтыя на азярэ́.* Самсоны.

**ГУ́СІНА, ГУ́СІНЯ** *ж.* Гусь, гуска. *Адна́ ў цябе́ гу́сіна, ля́жыць распласта́лася.* Каралевічы, Манголія. *Ку́рыца, гу́сіня й індзю́к ро́ўныя, а мя́са цэ́ніцца па-ро́знъму.* Фасаўшчына.

**ГУСІ́НЫ, ГУСІ́ННЫ** *прым.* Гусіны. *Е́та гусі́ны жыр.* Дольдзева. *Гусі́ннае са́ла з гуся́.* Багданава. ○ ГУСІ́НЫЯ ЛА́ПКІ. Гусялапка (?; расліна). *Спары́ш і ла́пкі гусі́ныя о́чань яду́ць хърашо́ свінні.* Серкуці.

**ГУ́СТА** *прысл.* Густа. *Наза́ўтра кало́ціш, падліва́іш вады́, як гу́ста, ва́рыш разы́ два-тры, каб закіпе́ла. Гу́ста се́іш, а рэ́дка ўсхо́дзіць.* Багданава.

**ГУСТАТА́** *ж.* Густата. *Да густаты́ дзе́лалі.* Багданава.

**ГУСТЫ́** *прым.* 1. Часты, густа пасаджаны. *Густы́ сат, садзілі здае́цца рэ́тка.* Кляпчэва. 2. Не вадкі. *Густы́ суп чараз ло́жку.* Багданава. ГУСЦЕ́НЬКІ *ласк. У дзягно́ – цыбу́лі, часначы́ну, яно́ тады́ гусце́нькае.* Багданава.

**ГУСУДА́РСТВА** *н.* Дзяржава, краіна. *І для гусуда́рства нядрэ́нна было́ п, і для калхо́за.* Гарадзец.

**ГУСЦЕ́ЧА** *ж.* Гушчар, гушчыня. *Гусце́ча – як густэ́й лес ці тръва́. Гусце́ча тъка́я – не мо́жна прале́сці.* Кішуроўшчына.

**ГУСЦЕ́ЙШЫ** *прым.* Больш густы, не пульхны (пра хлеб з крутога цеста). *Гусце́йшы хлеб бо́лей сядзіць.* Чуцькі.

**ГУСЦЕ́Ш** *м.* Адтопленае малако. *А там ужо́ ўсё: і сы́рватка, і гусце́ш.* Багданава.

**ГУСЦЮВА́ННЕ** *н.* Гасцяванне, пачостка. *Гасцілі ў яе́, было́ харо́шыя гусцюва́ння.* Запруддзе.

**ГУСЦЯРА́, УСЦІРА́, ГУСЦІРА́** *ж.* Гусцяра; рыба, знешне падобная на ляшча. *У во́зеры во́дзяцца шчу́кі, акуні, гусцяра́. Усцірá – сухаллё тако́я, суха́я, худа́я, шыршэ́й пло́ткі. Усцірá – кра́снінькая пё́рушка.* Багданава. *Гусцірá – худа́я пло́тка, такі сорт. Късткля́вая, шырэ́й пло́ткі і худзе́й. Падо́бна нъ лішча́, бізуку́снъя ры́ба, пасле́дні сорт ры́бы.* Сянно.

**ГУСЯ́ТНІК** *м.* 1. Гусялапка, драсён птушыны (расліна). *Гуся́тнік – дро́бненькі, дліnna цягне́цца.* Гарадзец. *Па́рыць гуся́тнік і піць ра́йіла ба́ба.* Сянно.

*Гусятніку мнóга на лясé, палю, аш пáльцы баляць.* Сукрэмна. *Гусятнік ядуць свінні.* Запруддзе. 2. Пырнік (расліна). *Гусятнік караністы, даўгóе карэнне, сянні парвеш, а заўтра ізноў вырасла.* Багданава. *Гусятнік карнясты, нібальшэнькі.* Каралі.

**ГУСЯЦІНА** *ж.* Гусяціна. *Гусяціна былá, гусі былі.* Вялікі Азярэцк.

**ГУТАТÁ-ГУТАТÁ** *выкл.* Гукі, якімі суправаджаюць гушканне на арэлях. *Калыхніце высóка-высóка, / Каб увідзець далёка-далёка – / Гутатá-гутатá* (з песні) [на Масленіцу гушкаюцца і пяюць]. Міцюкова.

**ГУТАЦЦА** *незак.* Гушкацца. *На Мáслянку гутаімся дзень на вярóўках у пуні. Гутаімся у пуні, пяём.* Міцюкова. *І тады мы гутатá-гутатá – калышымся, калышымся* [на арэлях]. Самсоны.

**ГУЦІЦЬ** *незак.* Спецыяльна скарыстоўваць салому для гною. *Салóмы былó, то ён і гуціў салóму у гной, пътсцілáў.* Баравікі.

**ГУШКÁЦЬ** *незак.* Гушкаць. *Я дýмала маю пляменніцу заб'іцё – гушкáіце, гушкáіце. Гушкáлі, гушкáлі так вісóка.* Партызаны.

**ГУШЧЭР** *м.* Гушчар, гушчыня. *Гушчэр, грыбóў німá, ягад німá.* Баравікі.

**ГЫРКАЦЬ** *незак.* Груба размаўляць, пакрыкваць. *Янá, халéра, усё гыр-гыр з людзьмі, усё гыркала.* Запруддзе. ГЫР-ГЫР. Гаварыць адрывіста, пагрозліва, падобна на гырканне сабакі. Запруддзе.

**ГЭЙ** *выкл.* Гэй. *Гэй, гэй, Вáська, дзе ты дзеўся? Цяпéр грáматныя пяюць – гэй-гэй.* Ракаў Засценак.

**ГЭЙКНУЦЬ** *зак.* Падаць голас (пра чалавека). *Гэйкнуў – гóлас падáў.* Нямойта.

**ГЭНЫ, ГÉНЫ** *займ.* Гэты, гэны. *У гэным вóзеры купáцца нéяк. Гэны асіннік у пéчы згарыць.* Закур'е. *Як бы гéныя жылі, то былó п лéпій, алé пръдалі хáту, паехалі.* Кішуроўшчына. *Гéнай вады холóнной хачý. І гéну хáту збірáўсі шчакатýркуй* [абабіць]. Неўгадава.

**ГЭСТЫ, ЁСТЫ, ГЁСТЫ, ЭСТЫ** *займ.* Гэты. *З гэстага бóку не прóйдзеш, з тагó – прóйдзеш.* Закур'е. *Жывéш з магазіна із гёстага. Варэнне дýжа ўкýснае з гёстых адувáнчыкаў.* Багданава. *Церас парóг гёсты не падніму нóгі.* Жохава. *З гёстых лясóў апéнак пацягáлі – з Макáўя, Тукаўцá, Чапéліна.* Нямойта. *Сыйшлáся з ёстым і стáла жыць у чужóй сям'і, у дурнэй.* Алексінічы. *З ёстых нітак з магазінных вязáлі падзóрнікі.* Запруддзе, Каралі, Карпавічы, Кляпчэва, Латыгаль, Леснікова, Нямойта, Розмыслава, Сукрэмна, Ульянавічы. *Ён прышóў іс эстага іс нашлéгу.* Нямойта.

**ГЭТА, ЁТА, ГЭТТА, ГЁТА, ЭТА** *часц.* Гэта. *Гэта саўсім мышáк.* Гарадзец, Вялікі Азярэцк. *Дык гэта гэдак: нáда грóшы даць.* Гарадзец. *Гэтта нямá хат, паўмірáлі, лáпікі адныé.* Закур'е. *Кáліўе – гёта цяціўе ў бýльбе.* Кішуроўшчына. *Тóўчынъя бýльба – гёта кáша бульбянъя. Кáша бульбінáя тóўчънъя і кáша дрáнъя з бýльбы.* Кішуроўшчына. *Ну, клапаціцца – ёта забóціцца.* Багданава. *Ёта ш кéліх, чáрка на нóшках і біз нóжак.* Алексінічы. *Ці ёта чалавéк, што ідзéць с кійкóм, сагнýўшысі?* Самсоны. *Угóл – эта вілкі, качаргá стаялі, качарэжнік звáлі.* Станюкі. *Кірмáш – эта як ярмалка ікáя, там усé людзі бýдуць са ўсей акрýгі збірáцца, тургувáлі, скот прывазілі ... і пéлі, і скакáлі.* Серкуці.

**ГЭТАК, ГЭДАК, ГЁДАК, ЁДАК, ЁТАКА** *прысл.* Гэтак, так. *Клóпат такі: ёсці што на гáзі зварý. Такі клóпат і гэтак дзякуй.* Запруддзе. *Ну што дзéлаць, як жа жыць гэдак: давáй стрóіць зімлянкі.* Леснікова. *На русáльніцу дзéлалі гэдак.*

Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Міцюкова. *Гэ́дак і жыву́ адна́. Во гэ́дак цыбу́лю пляцём.* Закур'е. *Так, гэ́дак прыму́дрыцца сесць.* Дуброўкі. *І ў абе́д ге́дак дзялілі хлеб па скі́бцы.* Запруддзе. *І ге́дак прышлі дамо́ў удваі́х. Ге́дък ця́шка мы прърабо́тълі.* Гарадзец. *Што я бу́ду е́дак давадзі́ць: я прывы́кла блін-дзяро́нік і са́ла. Блін-дзяро́ннік сма́шны с са́лам.* Вялікі Азярэцк. *У нас прысіга́юць чырыз йіко́ны, дай ты руку́ і я руку́, ты з е́тыя сто́рыны, а я з е́тыя сто́рыны – у нас е́дък.* Багданава, Дольдзева, Запруддзе, Турава. *А дзе была́? І е́така гаво́раць.* Багданава.

**ГЭ́ТАКІ, ГЭ́ДАКІ, Е́ТАКІ, ГЭ́ТКІ, ГЕ́ТКІ, ГЕ́ТКІЙ, Е́ТКІ, Э́ТКІ** *займ.* 1. Такі, гэтакі. *Ну во гэ́такі ніда́лу́жнік.* Запруддзе. *А йна ў нас гэ́дъкъя.* Латыгаль, Запруддзе. *Ра́ньшы гла́дзілі, былі́ къча́лкі, е́такая з ру́пчыкамі, кача́лі.* Запруддзе. *У мяне́ гэ́ткая гълъва́!* Дольдзева. *Гэ́ткая ба́сня была́.* Багданава. *Яны́ і цяпе́р гэ́ткія.* Міцюкова. *Гэ́ткія былі лю́дзі. Стаў худы́, жо́ўты, а чаго́ ты гэ́ткі.* Неўгадава. *Пра ге́ткія грыбы́ ня чу́ла, німа́ ге́ткіх.* Рудніца. *І скажы́ ге́ткій ма́лый!* Чуцькі. *Дзе ёсь е́ткъя засто́йная въда́.* Партызаны, Закур'е. *Ніко́лі э́ткая ні була́ бу́льба.* Неўгадава. *У яе́ рука́ была́ во э́ткая, гузла́к.* Запруддзе. *Біў у галаву́, і яна́ э́ткая здзе́лалася.* Закур'е. 2. *н.* Гэтакае, такое. *Е́ткае не дзе́лалі, як цяпе́р.* Багданава. 3. *прысл.* Так, гэтак. *Я гэ́ткі ні дзе́лъла.* Запруддзе.

**ГЭ́ТАШКІ** *займ.* Такі, вось такі. *Гэ́ташкія кілі́шкі былі́.* Закур'е.

**ГЭ-ТУЙ-ГА** *выкл.* Выгукі, якімі адганяюць ваўка. *Гэ-туй-га – на ваўка́.* Вялікі Азярэцк.

**ГЭ́ТЫ, Е́ТЫ, ГЕ́ТЫ** *займ.* Гэты. *Ты ня с тэй пе́сні гэ́тэ сло́во ўзяла́. Сало́ма ге́та ляжа́ла на скры́ні.* Партызаны. *У гэ́туй сусе́дкі бальша́я бу́льба.* Неўгадава. *На ге́тай вайне́ быў.* Багданава, Гарадзец. *Памёрла ў ге́тай ха́це.* Закур'е. *Тады́ кулі́ е́тыя вы́трасім ві́лкамі дзірвя́нными, бы́стра высыпа́ласё. Траслі́ кулі́, ёўню насо́дзім, а тады́ цъпа́мі.* Каралі. *До яму́ й е́та* [хопіць яму і гэтага]. Вялікі Азярэцк, Багданава, Карпавічы, Ульянавічы.

**ДА** *прыназ.* 1. Да (указанне на час). *То́пюць у Чы́сты чэ́цверх. Памы́цца да дня на́да.* Багданава. *Да со́нца гэ́та на́да гавары́ць так: ра́нняя зары́ца, усяму́ све́ту памашні́ца, мъя́ дъчка́, ваш сын, – і ў калы́ску на́да класць і калыха́ць.* Заазер'е. *Чугу́н стаі́ць да ве́чыра ў пе́чы, а ўве́чыры дъста́ніш.* Сяргейкі. *Да Ллі ме́сіцы два бу́дзіць.* Запруддзе. *Сядзе́ць бу́ду да са́мага цёмнага, да ве́чара.* Леснікова. 2. Указанне на ступень стану. *Забі́лась да сме́рці.* Гарадзец. 3. Указанне на прадмет зацікаўленасці. *Дъ наву́кі страмі́ліся, ні то, што цяпе́р.* Фасаўшчына. 4. Указанне на накіраванасць дзеяння, руху. *Я хаце́ла йці дъ вас.* Закур'е. 5. Да, перад. *Дъ тые́ вайны́ мы ту́тыцькі пыъсялі́ліся.* Турава.

**ДАБАЎЛЯ́ЦЬ, ДУБУЎЛЯ́ЦЬ, ДУБАЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* 1. Дадаваць. *Да́жа мак дъбъу́ля́лі* [у гарэлку]. Дольдзева. *Сне́гу дъбаўля́лі, як жа́ркая вада́.* Вялікі Азярэцк. *Бу́льбы ні ўсігда́ дубуўля́лі у хлеб.* Гарадок. 2. Прыбаўляць. *Ту́ю зямлю́ дзялі́лі, дъбъу́ля́лі.* Самсоны. *Каро́ва дъбъу́ля́йіць мълако́ дъ чатыро́х ціля́т.* Неўгадава.

**ДАБІРА́ЦЬ** *незак.* Заканчваць уборку лёну. *Як дажына́ем, вяно́к дзе́лаім* [з жыта], *а як лён дабіра́ем – із лёну.* Нямойта.

**ДАБІРА́ЦЬ** *незак.* Вырошчваць, даглядаць (лён і інш. культуры) у адпаведнасці з патрабаваннямі. *Дабіра́лі рост, дабіра́лі сорт лёну, така́я была́ му́ка.* Кляпчэва.

# Д

**ДАБІ́РКІ, ДАБО́РКІ** *толькі мн.* 1. Дадатковы абмалот. *Дабі́ркі ільна́ былі́, дъмало́ткі с пусты́х снапо́ў, біз гало́вък.* Запруддзе. 2. Заканчэнне ўборкі лёну. *Дабі́ркі – як лён вы́бралі. Дабі́ркі гуля́юць, спраўля́юць ве́чар, да́жэ калхо́з атпуска́ў гро́шы на гэ́ту гульню́, са́мі ла́ткі пяклі́. Нъ дабі́ркі пъска́чуць і пупяю́ць.* Партызаны. *Як дабі́ркі льна, то съ льна ро́бім вяно́к і прызра́вім брыгадзі́ра. Во ге́ткі вяно́к плятý́ць, нясу́ць прадсяда́целю і дабо́ркі гуля́юць.* Запруддзе. *Як дабо́ркі лёну, вяно́к вілі звенявому і працяда́целю. Дабо́ркі ужо́ гуля́юць.* Марозаўка, Чуцькі.

**ДАБІ́ЦЦА** *зак.* 1. Дабрацца, патрапіць. *Ду́май, як з Нямо́йты да Буя́ дабі́цца.* Буй. *Ну дабі́ся ты туды́, у Смалля́ны, ста́ры чалаве́к.* Леснікі. *Да фе́рмы дабі́цца ніяк не магу́.* Закур'е. 2. Дамагчыся. *Не дабі́цца здаць я́блык.* Івоні. *На́да дабі́цца пъглядзе́ць мъладу́ху.* Ракаў Засценак. *А хат у Міцюко́ві дабі́ліся.* Міцюкова. *Дабі́лься ба́бка да ніч́ога.* Багданава. *Ніч́ога не дабі́лася у тым го́радзе і наза́д прые́хала.* Дуброўкі.

**ДАБІ́ЦЬ** *зак.* 1. Замацаваць вы́тканае пэўнай колькасцю ўдараў (набіліцамі). *Кро́сны як ні даб'еш, то ніткі мша́цца, а як пераб'е́ш, то ніткі рву́цца.* Вялікі Азярэцк. 2. *перан.* Дажыць, дабыць як-н. *І дабі́ла век тро́ху іна́.* Багданава. *Мне на́да ста́рась дабі́ць сваю́.* Чуцькі.

**ДАБЛЮСЦІ́** *зак.* Захаваць, прытрымаць. *Даблюла́ вам калбасы́.* Багданава.

**ДАБРАДУ́ШНЫ** *прым.* Добры, з чулай душой, добразычлівы. *Хазя́ін быў дабраду́шны: як не было́, дык не было́, а так – ніч́ога не жале́ў.* Багданава.

**ДАБРА́НАЧ** *выкл.* Дабранач. *Як атхо́дзюць увéчыъры, то ка́жуць дабра́наъч.* Запруддзе.

**ДАБРАТА́** *ж.* Дабрыня, ласка, пяшчота. *Ад ма́ткі дабраты́ ня віздзеў і ў калóнію пупа́ў.* Багданава. *Хо́чаш ты, кап дъбръта́ была́.* Запруддзе. *Іна́ ні з дабраты́, а з го́ра купля́іць.* Кішуроўшчына.

**ДАБРА́ЦЬ** *зак.* 1. Закончыць уборку (пра лён, бульбу і інш.). *Пайду́ сваю́ по́стаць дъбра́ць, свой лён.* Партызаны. *Увéчары дъбяро́м* [бульбу], *на по́лі събяру́цца і пяю́ць.* Гарадзец. 2. Падабраць, выбраць. *Ні мо́жна яды́ сабе́ дабра́ць.* Партызаны. *Старо́му дъбра́ць да сябе́ тру́дна.* Кішуроўшчына.

**ДАБРО́** *н. зб.* 1. Агульная назва злакавых раслін. *Жы́та, ячме́нь, пшані́ца – е́та ўсё дабро́.* Багданава. *Усё дабро́ рука́мі жа́лі.* Гарадзец, Каралі. *Там дабро́ ро́дзіць, а бу́льба не.* Кішуроўшчына. *Гот дабро́ се́іцца, гот бу́льба.* Савінічы. *Сёліта і дабро́ харо́шъя, усё зъра́дзіла.* Закур'е. 2. Збожжа. *Склада́лі дабро́, снапы́ вазі́лі на ток.* Рэчкі, Багданава, Баравікі, Запруддзе, Нямойта. *Лу́пкі плялі́ с сало́мы, дабро́ се́ілі. Вясы́ былі́, як што бальшо́е – се́на ці дабро́* [на іх важылі], *а так – бязме́н.* Гарадзец. *Дабро́* [жыта, ячмень і інш.] *сні́цца – хъраш́о* (прыкмета). *Мъладу́ха е́дзіць да мълад́ога, вязе́ць канхве́т, бъра́нкаў і авёс. Абіза́цільна дабро́. Рассы́піць усё па двару́ і у ха́ці усё пъапсы́піць.* Ракаў Засценак. *Дабро́ дава́лі за лён, гро́шай не дава́лі.* Закур'е. ДАБЕ́РЦА *ласк. Дабе́рца высъхніць на по́лі.* Міцюкова.

**ДАБРО́** *н.* Добрая справа, адносіны. *Я дзе́лала, каб людзя́м дабро́ было́.* Каралевічы. *Каб табе́ дабра́ не было́!* (праклён). Запруддзе.

□ *Не быва́іць ху́да без дабра́, а дабра́ без ху́да.* Сянно.

**ДАБЫ́ЦЬ** *зак.* Прыдбаць, займець. *Каб ру́баль дзе дабы́ць, кап хле́ба купі́ць.* Фасаўшчына.

**ДАБЭ́РА** *ж.* Сорт бульбы. *Дабэ́ра была́ цвёрдая бу́льба.* Баравікі.

**ДАВАДЗІЦЬ** *незак.* 1. Дагаджаць, патрапляць. *Ньдаела моды ім* [жанчынам] *дъвадзіць. Стаў шыць толькі мушчынскае.* Леснікова. 2. Рыхтаваць адзенне і іншыя рэчы да смерці. *Хаўтуль звізала: ці сын будзіць мяне давадзіць?* Леснікова. 3. Падабраць, выбраць неабходнае. *Нада самому сабе яду давадзіць.* Самсоны.

**ДАВАЛІЦЦА** *зак.* Дажыцца, дайсці. *Да чаго ж даваліўся? Дружыць ніхто не хочыць.* Вялікі Азярэцк.

**ДАВАЦЦА** *незак.* 1. Атрымліваць як аплату. *Вот выкъпаеш дзесяць карзінак бульбы – пяць дъвалъся сабе.* Фасаўшчына. *У дзвірах ні даецца, ціры*ъ*с парох нільзя* [даваць] (прыкмета). Запруддзе. 2. Спраўляцца, умець карыстацца. *А каса сколька давалася: я ш і касіла. Па шэсць, па сем скашывала, як мушчына.* Леснікова.

**ДАВАЦЬ** *незак.* 1. Даваць. *На Паску валачобнікам яйцы давалі.* Дольдзева. *Як на ўроду, тады больш давалі* [збожжа на працадзень]. Каралі. *Ну, але раду находзяць, ёсць такія, што ваду даюць, вылечываюць.* Запруддзе. *Бох смерці ні даець.* Дуброўкі, Івоні. 2. Прадаваць. *Даець канхветы* [прадавец] *пъръзъйшоўшы* [расплаўленыя, якія страцілі таварны выгляд]. Партызаны. 3. Забяспечваць чым-н. *Дзярэўня хлеб пашэць, гораду даець, а цъна большъя.* Гарадзец. 4. Турбаваць, не даваць пакою. *Тая* [унучка малая] *тады ні дась ні паляжаць, ні пасядзець.* Вялікі Азярэцк. 5. Замаўляць. *Ад вужакі, ад звіху і я ўмею дъваць, ад зубоў умею.* Запруддзе. 6. Рабіць уколы. *Серца, даўленне. Ліжала, люкозу давалі.* Вялікі Азярэцк. 7. Штрафаваць. *Штрафу ходзіць пъжарнік даець, хто сена нъ чърдъках ложыць.* Марозаўка. 8. Дзякаваць. *Матка і бацька дъвалі мне благадарства.* Партызаны. 9. Устанаўліваць, уводзіць абмежаваную колькасць водпуску тавараў. *Сянно перадавала, што норму даюць нъ мъкароны.* Вялікі Азярэцк. ◊ ДАВАЦЬ (ДАЦЬ) У ДОЎГ. Пазычаць, пазычыць. *Пан даваў дабро ў доўг.* Неўгадава. *Ідзі, у доўг дасць.* Серкуці. ◊ НІ ДАВАЦЬ ХОДУ. Не дазваляць нешта рабіць. *Ні даваў ходу мне гуляць. Хлопцы так былі ў мяне, а ён жыў радам і бацькоў упрасіў, кап аддалі за яго.* Заазер'е.

**ДАВЕР** *м.* Давер, давер'е. *Яму даверу нет!* Сянно.

**ДАВЕРАННАСЦЬ** *ж.* Тое ж. *Хто любіць выпіць, салгаць – у сям'і даверанасці нет.* Каралевічы.

**ДАВЕСЦІ** *зак.* 1. Давесці да ладу, прыгатаваць. *Нъсъбірайіш грыбоў і трэба давесці йіх.* Пожанькі. *Хлеб нада давесці, то не укіснець, то абжарыць.* Самсоны. 2. Падрыхтаваць, зрабіць дасканалым. *Папа дъвядзець касу, йіна хърашо косіць.* Дуброўкі. 3. Дайсці да пэўнага стану. *Ідзі ат сіла да сіла – цябе жысь давіла.* Чуцькі. ◊ ДАВЁЎ ДА НІ МАГУ. Пра стан (сітуацыю), калі нельга вытрываць. Івоні.

**ДАВІДНА** *прысл.* Давідна, да світанку. *Давідна сядзеў, пілнаваў згароду.* Ульянавічы.

**ДАВІЦЬ** *незак.* Давіць, душыць. *Крысы бываюць сівыя, бываюць чорныя. Мае каты іх давюць.* Кляпчэва.

**ДАВОДА** *ж.* Наедак. *Ні бальшыя даводы ат капусты.* Міцюкова.

**ДАВОДЗІЦЬ** *незак.* Даводзіць да гатоўнасці, кандыцыі. *Сарціравалі лён, даводзілі усё і здавалі.* Заазар'е.

**ДАВОЛЬНЫ** *прым.* Задаволены. *Даволін сын.* Неўгадава.

**ДАВУЧАВАЦЬ** *незак.* Вучыць, давучваць. *Мала яна разбіраецца, нада давучаваць яе.* Нямойта.

**ДАВЯРА́ЦЦА** *незак.* Давяраць, аказваць давер. *Мне яны́ дъвяра́лісь.* Івоні.

**ДАГАВА́РВАЦЬ** *незак.* Дамаўляць. *У дзярэ́ўні ра́ньшы дъгава́рвалі* [пастухоў], *кармі́лі, па радо́ўкі яны́ хадзі́лі.* Заазер'е.

**ДАГАВАРЫ́ЦЦА** *зак.* Дагаварыцца, дамовіцца. *Ён служы́ў у па́на, і яны́ з дзе́ўкуй дъгъвары́лісі, і ён яе́ дамо́ў прывёў, пъля́к быў.* Заазер'е. *Як яны́ дъгъвары́ліся?* Дольдзева.

**ДАГАВАРЫ́ЦЬ** *зак.* Тое ж. *Гаво́руць, гаво́руць, а што яны́ дъгаво́руць, ці ўсё ці нічо́га.* Партызаны.

**ДАГАВО́Р** *м.* Дагавор, дамоўленасць. *У нас быў дъгаво́р, а дъгаво́р даро́жы дзе́ніг.* Запруддзе.

**ДАГАДА́ЦЦА** *зак.* Здагадацца, зразумець. *А свякро́ў ужэ́ дъ*$^{ы}$*гъ*$^{ы}$*да́лася.* Заазер'е.

**ДАГАЛА́, ДА́ГАЛА** *прысл.* Дагала. *Дагала́, да́гала раздзе́ніцца, го́лінькая, чу́дная жэ́ншчына была́.* Багданава.

**ДАГАРЫ́** *прысл.* Дагары, на спіне. *От храпі́ць крэ́пка, асо́бенна, як дагары́ ляжы́ць.* ◊ ДАГАРЫ́ НАГА́МІ. Пра парушэнне звычайнага парадку. *Свет да*$^{ъ}$*гары́ нъга́мі перавярну́ўся.* Партызаны.

**ДАГЛЕ́ДЗЕЦЬ, ДАГЛЯДЗЕ́ЦЬ, ДАГЛЕ́ДЗІЦЬ** *зак.* 1. Дагледзець, накарміць свойскую жывёлу. *На́да каро́ву, цялу́шку, къбъна́ дагле́дзіць. На́да дагле́дзіць курэ́й.* Гарадзец. *Іна́ вы́даіць і дагле́дзіць каро́ў.* Запруддзе. *На́да ш і сьві́ней, і каро́ў дагле́дзіць.* Станюкі. 2. Прыгледзець. *У нас каро́ва цялі́лься, на́да было́ дагле́дзіць.* Нямойта. *І ён яшчэ́ дагле́дзеў пчо́лы.* Нямойта. 3. Упільнаваць. *А во ні дагле́дзь, праспі́, усё палама́юць.* Самсоны. *Я ста́ръя, ні дагле́дзіла памідо́ры.* Каралевічы. 4. Дагледзець (хворага). *Ты бальна́я мяне́ даглядзе́ла.* Дольдзева.

**ДАГЛЕ́ДЖАНЫ** *дзеепрым.* Дагледжаны, упарадкаваны. *У іх дом харо́шы, дагле́джъны, абшалю́ваны.* Нямойта.

**ДАГЛЯ́Д** *м.* Догляд. *За йімі* [пчоламі] *дъглят на́да, ухо́т.* Фасаўшчына. ДАГЛЯ́ДЗІК *памянш. А, знаць, са́дзіку – па дагля́дзіку, / Што не́каму даглядаць, / Стая́ць я́блыні непадпёртыя – / Не́каму падпіра́ці* (з песні). Каралевічы.

**ДАГЛЯДА́ЦЬ** *незак.* 1. Даглядаць, карміць свойскую жывёлу. *Хто ш мне бу́дзіць яе́* [карову] *даглядаць: сын ме́сяц пабы́ў і ня мо́жыць.* Леснікова. 2. Клапаціцца, дбаць. *Астава́ліся дзе́ці, і дзе́ці бацько́ў дагліда́лі.* Марозаўка. *Дагліда́ць не́каму было́ яе́. Дагліда́ць, купа́ць, пілі́на́ць на́да дзіця́.* Нямойта.

**ДАГНА́ЦЬ** *зак.* 1. Нагнаць. *Зладзе́юў дъгна́лі, пълажы́лі дъгары́, на йіх пълажы́лі варо́ты і ка́мнімі бі́лі пу варо́тъх: цераз варо́ты ні заб'е́ш.* Заазер'е. 2. Дакаціць (кола). *Тъка́я гульня́ была́: рэ́хвы кача́лі па дзярэ́ўні. Пяць чълаве́к у гэ́ту сто́рану, пяць – у гэ́ту. Хто дъ къна́ дзярэ́ўні даго́ніць, той пъбядзі́ць.* Фасаўшчына.

**ДАГРУ́КАЦЦА** *зак. перан.* Дайсці да нейкага стану, упадобіцца. *Да чаго́ ты, Фе́дзя, дагру́каўся, бо́жа-бо́жа.* Нямойта.

**ДАГЭ́ТУЛЬ, ДАЕ́ТУЛЬ, ДАГЕ́ТУЛЬ** *прысл.* Дагэтуль, да гэтага часу. *Дагэ́туль жылі́ на́шы дзяды́ і пра́дзеды.* Серкуці. *Дзе ш ты дагэ́туль была́?* Чуцькі. *Дагэ́туль каро́вы кармі́лі.* Неўгадава. *Дае́туль, да сёлішняга было́, ішлі́ на та́нцы, гро́шы ні плаці́лі.* Нямойта. *Іна́ даге́туль жыла́ тут.* Заазер'е.

**ДАДА́Н** *м.* Спецыяльны пчаліны домік. *Ёсць до́мікі – дада́ны, у іх дванаццаць ра́мак для распло́ду і двана́ццаць – магазі́ны упо́перак. У дада́нах лётка ні́жняя, лётка вы́шняя. У дада́нах квадра́ты і ра́мкі ста́вяцца, магазі́н навярху́.* Вялікі Азярэцк.

**ДАДЗЕРЖА́ЦЦА** *зак.* Датрымацца. *Да ве́чара дадзержа́лася, во́чачка рвець.* Партызаны.

**ДАДО́МУ** *прысл.* Дадому. *Хадзі́, мой та́тачка, дадо́му: / Німа́ пара́тку ні ў чо́му* (з песні). Каралевічы. *Прышлі мы дадо́му.* Партызаны.

**ДАЁНКА** *ж.* Даёнка. *Даёнка дзірвя́нная, із ру́чкай, і ры́льца там такоя.* Каралі. *Даёнка з ру́чкай.* Баравікі. *Даёнку рабіў з дрэ́ва.* Буй. ДАЁНАЧКА *памянш. А даёнъчкі дзірвя́нныя былі́.* Багданава.

**ДАЖА́ЦЬ** *зак.* Дажаць. *Як даждзёму жы́та, як яно́ паспе́іць, і тады́ дажнём.* Багданава.

**ДАЖДА́ЦЬ** *зак.* Дачакацца. *Пра́знічкаў дъжда́лі.* Багданава. *Мы мо́жа ні дажджо́м но́въга зако́на.* Гарадзец. *Каб ты не дажда́ў таго́ дня!* (праклён). Запруддзе. *Як дажду́ць, тады́ вяно́к сплятуць.* Рулёўшчына. *Дажда́ла я жы́зні.* Станюкі.

**ДАЖДЖАВЫ́** *прым.* Які з'явіўся пасля дажджу. *Дъжджавэ́я сыраешкі то́нінькія.* Вялікі Азярэцк.

**ДАЖЫВА́ЦЬ** *незак.* Дажываць. *Ра́ньшы стары́я дажыва́лі ў сям'і.* Буй. *Я ні дажыву́, ты дажыве́ш.* Нямойта.

**ДАЖЫДА́ЦЬ** *незак.* 1. Чакаць. *А по́слі Вялікадня ўжо во Тро́іцу дажыда́ім.* Запруддзе. *Яшчэ́ уну́ка дажыда́ю, сы́нне.* Дуброўкі. 2. Прыждаць. *Каб таго́ ні дажыда́ць, што было́.* Баравікі.

**ДАЖЫНА́ЦЬ** *незак.* Дажынаць, заканчваць жніво. *Жніво́ пе́лі, дъжына́юць і пяю́ць.* Багданава. *Як дажына́ем, вяно́к дзе́лаім, а як лён дабіра́ем – із лёну.* Нямойта. *Як дажына́юць жы́та, завязвалі узяло́к, хле́ба тро́шачку укладу́ць, укру́чваюць кручёлачкай і куля́юцца прас е́та.* Розмыслава.

**ДАЖЫ́НКІ** *толькі мн.* 1. Дзень заканчэння жніва. *Дажы́нкі ка́жуць, як ко́нчуць жаць.* Міцюкова. *Дако́пкі былі́, дажы́нкі, як зярно́ сажну́ць. Як дажына́юць, то заву́цца дажы́нкі. Як дажы́нкі, астаўля́юць на по́лі дзе́вяць жыці́н, хле́ба кро́шачку.* Запруддзе. 2. Святкаванне ў дзень заканчэння жніва. *Дажы́нкі усе́ врэ́мя гуля́лі.* Запруддзе. *На дажы́нкі гуля́лі, пе́лі.* Марозаўка. *Спраўля́лі дажы́нкі, ве́села было́.* Чуцькі. *Гра́ў дажы́нкі.* Каралевічы, Гарадзец, Заазер'е, Кавалі, Нямойта. *А цяпе́р ніяківх дажы́нак німа́, ніч́ога.* Самсоны, Багданава.

**ДАЖЫ́ЦЦА** *зак.* Дайсці да пэўнага стану. *Быў пан Хваро́шча і дъ тако́га дажы́ўся, што прапі́ўся, але́ баб ні любі́ў.* Рэчкі.

**ДАЖЫ́ЦЬ** *зак.* 1. Пражыць, пабыць. *Быва́ла стары́к прыхо́дзіць: «Як ты с хле́бушкам, ці дажыве́ш?»* Вялікі Азярэцк. *Ко́лькі тут той жы́зні астае́цца дажы́ць, а ўсё го́ра і го́ра.* Запруддзе. 2. Дачакацца. *Дажылі́ жы́зні мы* [пра добрае жыццё цяпер]. Ульянавічы.

**ДАЗНА́ЦЦА** *зак.* Дазнацца, даведацца. *Дазна́ўся, хто е́та быў, і зво́ліў з рабо́ты.* Галашчакіна.

**ДАЗНА́ЦЬ** *зак.* Распазнаць (?). *Мо́жа я ні дазна́ю, лу́ччы змо́ўчу.* Запруддзе.

**ДАІЖДЖА́ЦЬ** *незак.* 1. Даязджаць, дабірацца да месца. *То́лькі ста́лі дъійжджа́ць да ле́су, а яны́ ста́лі біць ш чаго́-та бальшо́га.* Гарадок. 2. Прыязджаць, наведваць. *А ско́лькі ж наро́ду дъійжджа́іць* [да шаптухі]. Чуцькі.

**ДАІ́ЦЦА** *незак.* Даіцца. *Ну, ту́га до́іцца каро́ва, і сла́бая мълако́ ёсь.* Багданава.

**ДАІ́ЦЬ** *незак.* Даіць. *Стая́лі каро́вы тут у сасе́да, я хадзі́ла даі́ць.* Леснікова. *У каро́вы кроў з вы́мя. Хто, ка́жаць, уда́раў* [вымя], *а хто, як до́іш на по́лі, ла́стаўка падляці́ць пад жыво́т.* Запруддзе.

**ДА́ЙЖА, ДА́ЙЖЭ, ДА́ЖА** *часц.* 1. Нават. *Дайжа даўнéй лучыну палілі і свяцілі.* Алексінічы. *Грызéць дáйжа лазіну къзá.* Багданава. *І ня кýрыць дáйжа. Дáйжа у рот ні бярэ́ць!* Заазер'е, Вялікі Азярэцк, Каралі, Нямойта. *У нас дáйжэ съмалёт сéіць удабрэ́ння.* Багданава. *Дáйжэ буракі адзін раз палóла. Дáйжэ і цяпéр лапáта ёсь.* Сукрэмна. *Дáжа былі кýрныя хáты.* Дольдзева. 2. Аж, ажно. *С тэй стóраны* [немцы] *спалілі пяць дáйжа хат.* Жохава.

**ДАЙСЦІ́, ДАЙЦІ́** *зак.* 1. Дайсці, прыйсці. *Ат сáмъга Віцепска дайшóў пяшкóм да Масквы́.* Івоні. *Я ўжо стáръя, ды ўжо ні дайдý у Бъгдáнава.* Чуцькі. *Ні магý дайці, німá сілы.* Забор'е. 2. Дазнацца, даведацца. *Ну, а людзі ш* [расказалі] *людзя́м, і пашлó, і да мянé дайшлó.* Леснікова. *Німá прáўды, нідзé нічóга і дайці ня мóжна.* Станюкі.

**ДАКАЗА́ЦЬ** *зак.* 1. Даказаць, расказаць да канца. *Къзáла вам і ні дъкъзáла.* Чуцькі. 2. Данесці, нагаварыць. *А нéхта дакáжыць нéмцам, і ўсё, забярýць.* Серкуці.

**ДАКАЛЫХА́ЦЬ** *зак.* Дажыць як-н., дацягнуць. *Як-нібýць дажывём, дъкалы́шым.* Серкуці.

**ДАКАРЫ́ЦЬ** *зак.* 1. Дапячы, даняць. *Даъкары́ла старшыню́ сільсавéта.* Партызаны. 2. Паабяцаць. *Даъкары́ла старшыні рой даць: мушчы́ны распісáлі і столь, і хáту да вакóн разабрáлі.*

**ДАКАРЭ́ЦЬ** *зак.* Дажыць як-н., дацягнуць. *Нам мáла асталóся жыць – дъкарэ́ім.* Марозаўка.

**ДАКІ́НУЦЬ** *зак.* Падкінуць, пакласці. *Пайдý сухіх дроў дакíну.* Вялікі Азярэцк.

**ДАКО́ПКІ** *толькі мн.* Заканчэнне копкі бульбы. *Дакóпкі, як кънчáлі къпáць бýльбу.* Гарадзец. *У йіх ужó дакóпкі, усю бýльбу скъпáлі. Дакóпкі ні атмічáюць.* Запруддзе. *І дакóпкі бувáюць.* Нямойта.

**ДАКО́СКІ** *толькі мн.* Заканчэнне касьбы. *Дакóскі – як дакóшваюць трáвы. Дакóскі – як дакóнчуць, а бóлей ні пóйдуць касíць.* Запруддзе. *У нас дакóскі. – Спасíба, мáльцы!* Леснікова, Міцюкова.

**ДАКТО́РКА** *ж.* Жанчына-ўрач. *К дактóркі с пляме́нніцай хадзíла.* Рулёўшчына. *Напраўле́нне ўзялі ў дактóркі – мéсяц паліжáў і кóнчыўся.* Нямойта.

**ДАКТО́РКІН** *прым.* Які належыць доктару-жанчыне. *Старшыні сын і дактóркін сын так дзéлаюць.* Нямойта.

**ДАКТО́РША** *ж.* Жанчына-ўрач. *Пъразышлісі ўсе, аннá дактóрша.* Каралі.

**ДАКУ́ЛЬ** *прысл.* 1. Дакуль, да якога часу. *Ну, дакýль жа бýдзеш жыць.* Ракаў Засценак. *Дакýль ты бýдзіш къбънá дзіржáць.* Малы Азярэцк. 2. Да якога месца, мяжы. *Ужó знáлі, дакýль ягóная зімля́.* Самсоны.

**ДАКУМЕ́НТ** *м.* Асаблівасць, адзнака. *Карóвы ў нас з дукумéнтъм: грамы́чкі лугавэ́я, травы́, ні ядýць, дувáй клéвір, кунюшы́ну!* Баравікова.

**ДАКУПІ́ЦЦА** *зак.* Купіць, набыць. *Цяпéр свіннéй не дакýпісся.* Багданава. *Цяпéр ні дакýпісся гэ́тых страіцяля́ў.* Серкуці.

**ДАКУЧА́ЦЬ** *незак.* Надакучаць. *Сляпні і людзя́м дакучáюць.* Вялікі Азярэцк.

**ДАЛАЦІ́ЦЬ** *незак.* Даймаць, дапякаць. *Мáтка ямý далаціла: «Калі ты мне Ніну прывядзéш?»* Багданава.

**ДАЛАЧЫ́ЦЬ** *незак.* Гаварыць абы-што. *Я вам далачý* [гавару абы-што]. Вялікі Азярэцк.

**ДАЛДАЎНІ́К** *м.* Чарадзей, калдун. *Ёсь дълдъўнікі. Карóву бýдзіш мецъ, а мълъкá ня бýдзіш éсці.* Нямойта.

**ДАЛЕ́Й**, **ДА́ЛЕЙ**, **ДА́ЛІЙ**, **ДА́ЛЕЕ** *прысл.* 1. У пэўным аддаленні. *Ігна́т, лажы́ся далё́й.* Каралевічы. *Са́ма харо́шаё зярно́ адліта́іць да́лій.* Дольдзева. 2. У вызначаным кірунку. *Піракру́цісся ды пайшо́ў да́лій.* Багданава. 3. Потым. *У Юсты́на быў сат, а да́лей было́ ў трох хъзя́йінуў. Ма́ла було́ садо́ў.* Гарадок. 4. Глыбей. *А по́тым кіёчак да́лее ута́рківает.* Багданава. 5. *прыназ.* За. *Да́лей Ле́пля ні была́.* Партызаны. ◊ ДА́ЛІ-ПАДА́ЛІ. Чым далей. *А да́лі-пъда́лі хужэ́й ста́лі.* Чуцькі.

**ДАЛЕКУВА́ТА**, **ДУЛЮКУВА́ТА**, **ДАЛІКУВА́ТА** *прысл.* Далекавата, даволі далёка. *Далекува́та ў Запру́ддзе. Далекува́та ў мъгазі́н хадзі́ць, ні церас даро́гу.* Свечы. *Тро́ху дулюкува́та, слубува́тая я.* Міцюкова. *Далікува́та то́лькі туды́ е́хаць.* Запруддзе. *Дълікува́та ат нас.* Нямойта.

**ДАЛЁКА** *прысл.* Далёка. *А е́хаць жа – то гразь, то далёко.* Заазер'е. *На́да далёка іці́.* Серкуці.

**ДАЛЁКІ** *прым.* 1. Аддалены. *З далёкіх краёў прые́дзіць, а мёртвы не пры́дзе.* Рэчкі. 2. Які знаходзіцца далёка ад каго-, чаго-н. *Далёкі сын часцё́й быва́іць.* Ульянавічы. 3. Даўні, мінулы. *Далёкая ба́сня пра го́ра раска́зываець.* Гарадзец. 4. *н.* Аддаленае месца. *З далёкага прые́дуць, а з глубо́кага ня пры́дзіць.* Рэчкі.

**ДАЛЖНО́** *прысл.* Павінен. *Далжно́ прые́хаць з дзе́въчкай сюды́.* Багданава.

**ДАЛІКА́ТНЕЙ** *прысл.* 1. Больш далікатны (пра смакавыя якасці і знешнія асаблівасці). *Ле́тнія апе́нка – йна далікатне́й, святле́й, няжне́й, йна тане́й таке́я.* Пожанькі. 2. Не па-мясцоваму, з выкарыстаннем сродкаў літаратурнай мовы. *Ця-пе́р ужо́ даліка́тней* [гавораць]. Вялікі Азярэцк.

**ДАЛІКА́ТНЫ**, **ДЗІЛІКА́ТНЫ** *прым.* 1. Уражлівы, спакойны. *У са́дзіку так шу́мна, а іна́ даліка́тная така́я.* Багданава. 2. Тактоўны. *Дзіліка́тны па разгаво́рах.* Савінічы. 3. Які патрабуе догляду. *Памідо́ры – даліка́тнае расце́ніе. Даліка́тные агурцы́. Што паўрадзі́ла, ня зна́ю.* Івоні. 4. Пераборлівы. *Сві́нні былі́ не такі́я даліка́тныя* [у ядзе], *як цяпе́р.* Багданава.

**ДАЛІ́НА** *ж.* Даліна, раўніна, на якой знаходзіцца луг. *Брыгадзі́р каза́ў, што далі́ну вы́касілі.* Гарадок.

**ДАЛО́Ў**, **ДАЛО́Й** *прысл.* 1. Прэч. *Як то́ка сьнех дало́ў, так яны́ у ле́сі ёсь, тэ́я прале́скі.* Гарадок. *Як то́ка снех дало́й, так мы бо́сыя і да са́мае зімы́ бо́сыя.* Буй. 2. Далоў, на падлогу. *Паду́шку дало́ў скі́нула.* Ракаў Засценак. ◊ І С КАПЫ́ЛЛЯ ДАЛО́Ў. Памерці. *І с капы́лля дало́ў ба́ба.* Запруддзе. *Мы ат удабрэ́нія ўжо і с ка-пы́лля дало́ў.* Мянюцева.

**ДА́ЛЬШЫ** *прысл.* Даўней, раней. *Адзі́н сат быў да́льшы, цяпе́р пънасадзі́лі.* Каралі.

**ДАЛЯВЫ́** *прым.* Прадольны. *Атсе́клі лазі́ны але́шын, звіза́лі чаты́ры маку́шкі – дълявую і пъсяро́т* [папярочную]. Леснікова. ○ ДАЛІВА́Я ПІЛА́ (ПІ́ЛКА). Прадольная піла для пілавання дошак. *Пі́ла дъліва́я – до́скі пілі́ць.* Алексінічы. *У яго́ была́ пі́лка дъліва́я, ні пъпярэ́чнъя.* Рудніца.

**ДАМАВІ́К** *м.* Дамавік; у народных павер'ях злы або добры дух, які жыве ў хаце. *А раска́зывалі дъмаві́к быў. Дъмаві́к – е́та, як ля́жым спаць, ко́йку пады-ма́іць і бу́дзіць ля́паць, і въда́ піралі́ва́іцца.* Багданава.

**ДАМАВІ́Н** *м.* Дамавіна, труна. *Памёр, на́да дъмаві́н дзе́лаъць.* Багданава.

**ДАМАВІ́НА** *ж.* Тое ж. *Ляжы́ць у дъмаві́не прыбра́нъя.* Кішуроўшчына.

**ДАМАВЫ́** *прым.* Звязаны з домам, падворкам. *Дамава́я кры́са хадзі́ла, се́рая.* Нямойта.

**ДАМАГА́ЦЦА** *незак.* Намагацца, імкнуцца. *Ні дъмагаіцца яго пазваць.* Партызаны.

**ДАМАЛО́ТКІ** *толькі мн.* 1. Дадатковы абмалот. *Дъмалоткі ільна былі, с пустых снапоў, біз галовак.* Запруддзе. 2. Заканчэнне ўборкі лёну. *Як дамалоткі льна, то вянок спляцём з лёну і нясём у кантору.* Запруддзе. *Дамалоткі, а дабыць гърачай нейдзе.* Нямойта.

**ДАМАРО́ДНЫ** *прым.* Свойскі, спакойны. *Вужы такея дъмародныя, свае, йіх во бяры, ня ўкусіць.* Алексінічы.

**ДАМАТКА́НЫ** *прым.* Зроблены з даматканай тканіны. *Усё дыъмыъткáныя у лух, пыъляжыць і станіць белым.* Запруддзе.

**ДАМАХАЗЯ́ЙКА** *ж.* Невылётная нерабочая пчала. *Пчолы, што сідзяць дома, – гэта даъмаъхазяйкі.* Вялікі Азярэцк.

**ДАМА́ШНІ** *прым.* Хатні. *Тут работы свае, дамашняе.* Малы Азярэцк.

**ДАМО́Ў** *прысл.* 1. Дадому, дамоў. *Бацька тута ў кыня атамкнуў і верхъм нъ кані паехуў дамоў.* Гарадок. *Дзевер прышоў дамоў.* Партызаны. *Ня гоніць карову дамоў.* Цясішча. *Нада сьпішацца ісці дамоў.* Запруддзе, Багданава, Заазер'е, Кішуроўшчына. 2. Пра месца вечнага спачыну. *Старыкі хто жывець, хто дамоў паехъў.* Гарадзец. *Паспеем яшчэ дамоў* [памерці]. Кішуроўшчына. *Яй-богу, ужо пъра дамоў* [старым]. Баравікова.

**ДАНКРА́Т, БАНКРА́Т** *м.* Дамкрат. *На данкратах паъднялі хату, падрубілі і асадзілі хату на новыя два вянкі.* Савінічы. *Банкрат – ім падымалі сцяну.* Багданава.

**ДА ПАБАЧЭ́ННЯ** *выкл.* Да пабачэння. Нямойта.

**ДАПАЗНА́** *прысл.* Дапазна. *Дапазна хадзілі на лён, да часу.* Чуцькі.

**ДАПАМАГА́ЦЬ** *незак.* Дапамагаць. *Мне ніхто не дъпъмъгаў, я расціла сваіх* [дзяцей]. Гарадзец.

**ДАПА́ШКІ** *толькі мн.* Заканчэнне сяўбы (арання глебы). *Дапашкі звалі і дасеўкі.* Гарадзец.

**ДАПЕ́ВАК** *м.* Прыпеў (да песні). *І яшчэ такі дапевак.* Каралевічы.

**ДАПІ́ЦЬ** *зак.* Дапіць, выпіць цалкам. *А ты ні дапіла сваё.* Івоні.

**ДАПЫТА́ЦЦА** *зак.* Дапытацца. *Хто вас ведаіць, у вас дапытацца няможна.* Манголія.

**ДАПЯРЫ́ЦЬ** *зак. перан.* Дапячы, вывесці з цярпення. *Дапярыла старшыну сільсавета.* Партызаны.

**ДАРАГІ́, ДАРАГЕ́Я** *прым.* Дарагі, высокага кошту. *Ні свае дърагея гуркі. Авечкі цяпера даърагея.* Партызаны.

**ДАРАГУ́ША** *ж.* Любая, дарагая. *Ён на мяне: «Дарагуша, красотка», а калі і матам краянёт.* Каралевічы.

**ДАРАЖЭ́НЬКІ** *прым.* Ласкавы зварот да чалавека (да асобы мужчынскага полу). *Дъражэнькі мой.* Міцюкова. *Вот, мой даражэнькі.* Забор'е.

**ДАРАЖЭ́НЬКІЯ** *прым.* Ласкавы зварот да групы людзей. *Дрэнна, даражэнькія.* Забор'е.

**ДАРМА́** *прысл.* 1. Дарма, бясплатна. *Што табе дърма аддаць ці што?* Заазер'е. *Ён табе так дарма ні паможыць.* Запруддзе. *Граблі ёсць, дарма далі.* Каралевічы. *Посьлі вайны работалі у калхозі дърма.* Кішуроўшчына. *Тады прасі людзей, ніхто дарма ня дзелаіць.* Самсоны, Багданава, Буй, Міцюкова, Цясішча.

2. Дарэмна. *Дърма́ ў Бо́га хле́ба не бу́дзеш ні се́яць, ні е́сьці.* Каралевічы. *Цяпе́р жыві і хо́чацца. Свіну́рка дарма́ гро́шы палуча́іць: іна́ крант аткро́іць і ко́рміць.* Нямойта.

**ДАРМАВЫ́, ДАРМАВО́Й** *прым.* 1. Бясплатны. *Лес тады́ дармавы́ быў.* Нямойта. *Есць дармавы́я бу́лкі.* Міцюкова. *Праезд цяпе́р дармаво́й для віціра́наў.* Дольдзева. 2. *н.* Бясплатнае, дармавое. *Яны́ сагласяцца на дармаво́е.* Міцюкова.

**ДАРМАЕ́Д, ДАРМАЕ́Т** *м.* Дармаед. *Як ні ста́ніць такі́х дърмае́даў, як дзед і ба́ба, тады́ бу́дзіць усё.* Ульянавічы.

□ *Дзяку́й за абе́т, што пад'е́ў дармае́т.* Сянно.

**ДАРО́БКА, ДАРО́ПКА** *ж.* Састарэлая пасудзіна, рэч. *Даро́бка ёсь у мяне́, мо́жа ку́рыцу пъсаджу́. Во ікая даро́пка дрэ́нная – як ёсь ікая дзе́шка дрэ́ная.* Кішуроўшчына.

**ДАРО́ГА** *ж.* 1. Дарога. *Даро́га называ́лась Кълаўвъръць, і хрэст у канцы́ ты́я даро́гі стая́ў.* Багданава. *Пастро́ілі дамы́ на даро́гі на тэй.* Мянюцева. 2. Паласа, зыб на воднай паверхні. *Па во́зеру даро́гі – дош бу́дзіць* (прыкмета). Багданава. *Кля дзярэ́ўні Пъдга́йі ёсь во́зіра Слідзя́цкъя, і як бу́ра, то ві́дна там даро́га, бе́лая пълъса́. А само́ во́зіра сі́нія.* Дуброўкі.

**ДАРО́ЖНІК** *м.* Трыпутнік, падарожнік (расліна). *Даро́жнік – трыпу́тнік.* Міцюкова.

**ДАРЫ́НА** *ж.* Адарваная пласціна кары дрэва; дор. *Дары́ну аддзіра́лі ат сасны́.* Жохава.

**ДАРЫ́ЦЬ** *незак.* 1. Адорваць, дарыць. *Дары́лі пълатно́ ку́пленае.* Багданава. *На хрэ́сьбінах не до́руць. Дару́ мех буракоў, каб ня быў муж дураком* (вясельнае пажаданне). *У нас дык так да́раць: жала́ю гро́шы машну́ і сы́на на вясну́* (вясельнае пажаданне). Каралевічы. 2. Падаваць міласціну. *Я б ні́шчъга нікъгда́ сам ні дары́ў, але́ баюся сам ні пайсці ні́шчым.* Каралевічы. 3. Аддаваць. *Насі́ць ёсецька: до́чкі до́руць* [сваё адзенне]. Неўгадава.

**ДАСА́ДА** *ж.* Прыкрасць, непрыемнасць. *Даса́да, што ня́ма са́да.* Нямойта. *У мяне́ гэ́ткая гълъва́ і даса́да тъка́я.* Дольдзева.

**ДАСЕ́ЎКІ** *толькі мн.* Заканчэнне сяўбы. *Дапа́шкі зва́лі і дасе́ўкі.* Гарадзец. *Дасе́ўкі атміча́юць.* Запруддзе.

**ДАСКАКА́ЦЦА** *зак.* Даскакаць, даскакацца. *Ска́чуць дзе́ўкі. Даска́чуцца да таго́ Каплуна́.* Багданава.

**ДАСЛО́ЎНА** *прысл.* Даслоўна, слова ў слова. *Яны́ раска́жуць усё дасло́ўна.* Вялікі Азярэцк.

**ДАСРО́ЧНА** *прысл.* Датэрмінова. *Яе́ дасро́чна пусці́лі.* Нямойта.

**ДАСТА́ТКІ** *мн.* Дастатак, матэрыяльныя сродкі. *Як у каго́ дъста́ткі які́я, тъда́ ўжо ўла́зіны дзе́лаюць, а як нідаста́ткі, так і ла́нна, уле́зуць і жыву́ць.* Заазер'е. *Бува́ла, такі́х даста́ткаў ні было́.* Гарадок. *У мяне́ такі́х даста́ткаў ні было́.* Нямойта.

**ДАСТАЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* Прыносіць, прывозіць. *Бу́ду дъстаўля́ць сваймў ма́льцу, што пало́жана.* Партызаны.

**ДАСТА́ЦЬ** *зак.* 1. Дастаць, дацягнуцца да нечага. *Я ні магу́ даста́ць* [гняздо], *яны́ ш, кап су́ха было́, хо́чуць.* Фасаўшчына. *Съба́ка тут, алі ні дъста́ў мяне́.* Багданава. 2. Узяць што-н., што знаходзіцца ў аддаленні. *Даста́нь, Пятро́к, я ні магу́.* Гарадок. 3. Набыць, расстарацца. *Дъста́ла сястра́ і прывязла́ кра́ску.* Неўгадава.

*А хто мне што дастáнець?* Закур'е. *Мóжа дзе збóку дастáць? Я не магý нічóга купíць.* Запруддзе.

**ДАСТÓІЦЦА** *зак.* Дастаяцца, дачакацца. *Стъяла, ні дастóілася.* Леснікова.

**ДАСТЎРАЧКА** *ж.* Дошчачка. *Пъстáвіў* [да вулея] *дастýрачку шырóкую.* Запруддзе.

**ДАСЎЖЫ** *прым.* Цікаўны. *Дасýжы дзяцёнак усюдых далéзіць, нічóга не палажыць.* Запруддзе. *Мой сын, як бáцька, дасýжы. I я дасýш быў.* Жохава. *А-ёй, янá дасýжая бáба.* Марозаўка. *Дасýжа ўсюды былá, а па вадзé ні магý: кружэнне. Я нікагдá не сéла на лóд*$^{m}$*ку.* Нямойта.

**ДАСЎШАЦЬ** *незак.* Дасушваць. *А нъзáўтрага прыхóдзіш, капéшкі ръскíдъйіш рас, два і дасýшыйіш.* Леснікова.

**ДÁСЫ** *мн.* Узор на тканні. *У дáсы рушнікі ткáлі і скáцерці на стол.* Рэчкі.

**ДАСЫТА, ДАСЫТÁ** *прысл.* 1. Дасыта, уволю. *Пад'éў дасытá, і скацíна сытая.* Жохава. 2. Вельмі многа. *Бýльбы ў нас дасыта.* Ульянавічы.

**ДАСЮДА** *прысл.* Дагэтуль, да гэтага часу. *Дасюда ў гóлаву ня біла, даўлéння не былó.* Апечкі.

**ДАТЎДА** *прысл.* Датуль, да таго месца. *Э́та ішчó ні дашлó датýда.* Нямойта.

**ДАТЎЛЬ** *прысл.* Датуль, да таго часу. *Датýль дзіцёнак, пакýль ніжъняты.* Запруддзе.

**ДАТЫКÁЦЦА** *незак.* Дакранацца, датыкацца. *Лажýся так, каб пяты не датыкáліся да пасцéлі.* Партызаны.

**ДАЎБÉШКА, ДАЛБÉШКА** *ж.* 1. Дуплістае дрэва, прыдатнае для дзяўбання. *Таўстóя дзéрава брáлі, раскáлывалі, даўбíлі,* [яно] *далбéшка звáлася.* Дольдзева. 2. Даўбешка, доўбня (прылада). *Як цяпéр мóлат, а рáньшы даўбéшкай білі. I свінéй білі даўбéшкай.* Жохава. *Даўбéшку ўзяў – і бух па тапарышчы.* Гарадзец. *Даўбéшкай біюць.* Дольдзева. 3. *эмац.-ацэн.* Пра някемлівага, дурнаватага чалавека. *Во даўбéшка, нічóга ні панімáіць. Во паразíтка, во даўбéшка.* Карпавічы.

**ДАЎБЁКА** *ж.* Драўляная бочка. *Кáдуўб і даўбёка – аднó.* Фасаўшчына.

**ДАЎБІЦЬ** *незак.* Дзяўбці. *Таўстóя дзéрава брáлі, раскáлывалі, даўбíлі,* [яно] *далбéшка звáлася.* Дольдзева.

**ДАЎБНЁВЫ** *прым.* Выдзеўбаны. *Жóлап называўся даўбнёвы.* Багданава.

**ДАЎГАВÉЧНЫ, ДУЎГАВÉШНЫ** *прым.* Даўгавечны, доўгажыхар. *Скóлькі іх ё, гэтых даўгавéчных, старых баб.* Чуцькі. *Як змóжыць дзяцёнак развязáць пуп, грáматны бýдзіць, даўгавéчны пуць у ягó бýдзіць* (прыкмета). Партызаны. *Ні даўгавéчны твой сын.* Неўгадава. *Йíхныя патóмства ні дуўгавéшныя былí.* Нямойта.

**ДАЎГАЛІКІ** *прым.* 1. Прадаўгаваты (пра твар). *Бáцька ягóйны даўгалíкае ліцó мáець.* Запруддзе. 2. Даўгаваты. *Даўгалíкая картóшка ўрадзíла.* Запруддзе.

**ДАЎГАНÉЦ** *м.* Даўгунец (сорт лёну). *Даўганéц – сорт лёну.* Буй.

**ДАЎГАНÓГІ** *прым.* Даўганогі. *Мълады, даўганóгі.* Багданава.

**ДАЎГАНÓСЫ** *прым.* Даўганосы. *Бъльшáя, дъўганóсъя і білакýръя дзéўка.* Гарадзец. *Даўганóсы мáлец.* Багданава.

**ДАЎГІ, ДАЎГÉЙ** *прым.* 1. Доўгі. *З даўгíм нóсам, лупáты шчэ.* Нямойта. *Ці даўгýю, ці карóценькую любіць кáзку слýхаць.* Ульянавічы. *Дóшычкі даўгéя, кап сíм'я лíглá. Даўгéя абóры былí.* Багданава. *Даўгéя нóгі, як у буцянá.* Вялікі Азярэцк. *Рáдзі, бóжа, лён даўгéй, лён даўгéй / Чужэм мáльцъм нъ штаны, нъ штанэй* (з песні) [яе пяюць, гушкаючыся на арэлях, на Масленіцу]. Партызаны. *Даўгія*

*барóзны, па кіламéтру.* Запруддзе. 2. Высокі. *Даўгія стагі не кладýць.* Гарадзец. 3. Далёкі. *У даўгéй дарóгі ўсё унýк.* Каралі.

**ДАЎЖÁ** *ж.* 1. Прадаўгаватая дошка (брусок), якой закрываюць адтуліну ў вулеі. *Дъўжá – дóстачка перад лёткай, ёю засóўваюць.* Вялікі Азярэцк. 2. Уваход, адтуліна ў пчалінай калодзе. Вялікі Азярэцк.

**ДАЎЖЫ́ЦЦА** *незак.* Затрымлівацца. *Ай, Калядачкі, бліны́-лáдачкі, / Не даўжы́цеся, прыбліжы́цеся, / У кілбáсачкі паніжы́цеся* (з песні). Дольдзева.

**ДАЎЖЭ́Й** *прысл.* Даўжэй, больш доўга. *У кагó той бярóзавік і даўжэ́й стаіць.* Багданава.

**ДАЎЖЭ́ЙШЫ** *прым.* Больш доўгі, высокі. *Блізніцы́ былі́, адзін даўжэ́йшы, ярынькі.* Багданава.

**ДАЎЛЕ́ННЯ** *н.* Ціск. *Даўлéння бальшóе падымáецца – і з галавóй плóха.* Запруддзе.

**ДАЎЛЯНУ́ЦЬ** *зак.* Цiскануць, налегчы націскаючы. *Мушчы́ны як даўлянýць* [у чарзе]. Заазер'е.

**ДАЎМІ́ЦЬ** *зак.* Даўмецца, дадумацца. *Мяне́ ніяк ні даўміла, што курапáткі каларáцкіх жукóў ядýць.* Сянно.

**ДА́ЎНАСЦЬ** *ж.* Даўнасць, старадаўнасць. *Як у дáўнасць, то тóжэ плóха.* Партызаны. *Дáўнъсць зашлá, даўнó éта былó.* Вялікі Азярэцк.

**ДА́ЎНІШНІ** *прым.* 1. Даўнішні, даўнейшы. *Дáўнішніх мнóга пéсен знáем.* Партызаны. *Дáўнішнія бярóзы яны карувáтыя* [пакрытыя тоўстай карой]. Чуцькі. *Дáўнішні-дáўнішні уцю́х.* Ульянавічы. 2. *н.* Дауняе, мінулае. *Я вам раскажý пра дáўнішняе.* Марозаўка. *Éта ўсё дáўнішняе, як мы жылі.* Багданава.

**ДАЎНО́** *прысл.* Даўно. *Даўнó лю́дзі стáрыя кáжуць: даю́ць – бяры́, б'ю́ць – уцекáй.* Гарадзец. *Як бáцькі даўнó німá, то дачкý па мáткі завýць* [напрыклад] *Вéрышка Кáця.* Нямойта. ◊ ДАЎНЫ́М-ДАЎНО́ (ДАЎНО́-ДАЎНЫ́М). Вельмі даўно. *Даўны́м-даўнó éта дзярэ́ўня.* Буй. *Даўны́м-даўнó памéр.* Закур'е. *Ля гéтае крыні́чкі даўнó-даўны́м стъяла цэ́ркъўка.* Мянюцева. ◊ ДАЎНО́-ЗДАЎНЫ́Х. Тое ж. *Даўнó-здáўных жывéць.* Марозаўка. ◊ ДАЎНО́-ПРАДАЎНО́ (ПРЫДАЎНЭ́). Тое ж. *Éта даўнó-прадаўнó былó.* Багданава. *Штóры вісяць даўнó-прыдаўнэ́.* Цясішча.

**ДАЎНЕ́Й** *прысл.* Даўней, раней. *Мáтка памёрла даўнéй.* Нямойта.

**ДА́ЎНЫ** *прым.* 1. Даўні, стары. *Дáўнае усё: дзівáн, зéркала.* Запруддзе, Вялікі Азярэцк. *У дáўнай жыў дзет хáці.* Неўгадава. *Дáўныя лю́дзі.* Багданава, Баравікі. *Там жылі паны́ дáўныя. Дáўныя лю́дзі рабóталі.* Неўгадава. 2. *н.* Мінулае, даўніна. *Кап ні забывáлі дáўнае. Цяпéр мъладёш дáўнага ні знáюць.* Самсоны. *Рáньшы ж больш былó такóга дáўнага.* Нямойта. ◊ З ДА́ЎНІХ ДАВЁН. Здаўна. *З дáўніх давён гóрніца* [дарога] *завéцца.* Закур'е. ◊ ДА́ЎНЫ-ДА́ЎНЫ, ДА́ЎНЫ-ДА́ЎНЫ-ПРЭДА́ЎНЫ. Вельмі даўні, старадаўні. *Дáўныя-дáўныя пéсні знáла.* Каралевічы. *Тут такóя дáўнае-дáўнае-прэдáўнае клáдбішча былó.* Самсоны.

**ДАЎЧЫ́ЦЦА** *зак.* Давучыцца. *На лéта янá і дáўчыцца.* Партызаны.

**ДАХ** *м.* Дах. *Накры́лі дах, а то цяклó.* Рулёўшчына. *Тóлька нáда дах зрабíць.* Буй.

**ДА́ХА** *ж.* Якая дае. □ *Якáя бýдзіш дáха, такáя бýдзіш і ўзяха.* Партызаны.

**ДАХАДЗІ́ЦЬ** *зак.* 1. Разведаць, даведацца. *Дъхадзíлі ў яé прáўдачкі.* Чуцькі. *Поп даъхадзíў, хто ямý намáзаў бýлку сáлам.* Ульянавічы. 2. Дамагчыся. *Дахадзíлі, што далí чатырохкóмнатную.* Запруддзе, Нямойта.

**ДАХАДЗІ́ЦЬ, ДАХО́ДЗІЦЬ** *незак.* 1. Падыходзіць, адпавядаць. *Вíдзела след мядзвéдзя, пад Кáневам здох. Ня мóжыць тут жыць, што ямý тут не дахóдзіць.*

Партызаны. 2. Дапамагаць, клапаціцца. *Хто мне бýдзе дахадзíць, я ні магý ужó.* Апечкі.

**ДАХАДЗЯ́** *дзеепрысл.* Даходзячы. *Ні дахадзя́ Асінуýкі, рáншы грыбóў былó пóўна.* Неўгадава.

**ДАХÓД, ДАХÓТ** *м.* Даход, прыбытак. *Катóры дахóт мáіць, той і жывéць, гандлю́іць. А ў нас дахóды...* Запруддзе.

**ДАХÓДНЫ** *прым.* Актыўны, хто можа быць падбухторшчыкам. *Дýжа баб дахóдных німá, кап у валачóбнікі хадзілі.* Багданава.

**ДАХТАРЫ́ЦА** *ж.* Жанчына-ўрач. *Дъхтары́цу вы́звалі с Сяннó.* Нямойта.

**ДÁЦЦА** *зак.* Стаць аб'ектам асаблівай цікавасці. *О, далáся я ім!* Партызаны.

**ДАЦЬ** *зак.* 1. Даць. *Карóва ні дась мълькá – дош бýдзіць* (прыкмета). Чуцькі. 2. Накарміць. *Дáлі карóве[i] сéна.* Гарадок. 3. Падарыць. *Сыну дълá карóву і як нáда быць пасóбіла.* Неўгадава. 4. Пазычыць. *А мóжа хто сóлі дась?* Фасаўшчына. 5. Вылучыць для карыстання. *Гéктар агарóду ні дадýць.* Ульянавічы. 6. Узнагародзіць чым-н., прысвоіць званне. *Бáбі пóслі вайны́ далí мідáль, што нéмца забíла.* Закур'е. *Далí сіржáнта ямý.* Заазер'е. 7. Ударыць. *Сабáка як даў у грýдзі, збіў мяне́.* Апечкі. 8. Асудзіць, прыгаварыць да зняволення. *Ямý дáлі тры гады́, а прытсідáцілю пяць гадóў.* Заазер'е. *Нікіпър Тъмашóнък быў і былá тькáя бáба* [лекарка], *то бáбі два гады́ за гэ́та дáлі.* Міцюкова. 9. Паваліць (пра снег), выпасці раптоўна. *Як даў снех, усё заваліла снéгам.* Запруддзе. 10. Лінуць, абрынуцца (пра дождж). *Як даў лівінь.* Чуцькі. 11. Шчоўкнуць. *Шчаўчóк як дась, ажнó ў галавé зазвініць.* Ульянавічы. 12. Уратаваць, дапамагчы. *Свінні равýць. Ай! Дай ратýнку!* Вялікі Азярэцк. ◊ ДАЦЬ РУКУ́. Павітацца або развітацца. *Рукý даў: спасíба за óддых.* Вялікі Азярэцк. ◊ ДАЦЬ ДАРÓГУ. Пажадаць добрага шляху. *Нáдзя дълá дарóгу сыну, нъпісáла запіску, а съмá нъ шпігáцінку й зъсілілъся.* Нямойта. ◊ ДАЦЬ ДЫ́ХТУ. Моцна насварыцца, аблаяць. *Жáна дасць дыхту, як п'яны.* Марозаўка. ◊ ДАЦЬ ДРАЗДÁ. Насварыцца, дакарыць за нешта. *Ён старшынý сельсавéта даў драздá, дык я схажý, паспасíбкаю.* Вялікі Азярэцк. ◊ ДАЦЬ У КАРШЭ́НЬ. Ударыць. *Як дам у каршэ́нь.* Багданава. ◊ ДАЦЬ ЗНАЦЬ. Паведаміць пра што-н. *Дáлі знаць, кап прыéхалі зарáнні.* Неўгадава. ◊ ДАЦЬ ЧÓСУ. Пусціцца наўцёкі, уцячы. *Паціху шáгам éдзіць, а аттýль як дасць чóсу – аш конь упацéў.* Нямойта. ◊ ДАЦЬ ДЗЁРУ. Тое ж. *Хацéў сябé застрэ́ліць, а патóм дзёру даў.* Партызаны. ◊ ДАЦЬ ДРÁЛА. Тое ж. *А мы далí дрáла ў балóта.* Партызаны. ◊ ДАЦЬ ДÝБА. Памерці. *А стары́ ўжо памёр, дýба даў.* Багданава.

**ДАЧКÁ, ДÓЧКА, ДАШКÁ** *ж.* Дачка. *Зяць бýдзець пытáць: ці мнóга у цябé дачóк? Дачкá тóлькі с сынам жывéць.* Багданава. *К дачкáм паéхалі.* Жохава. *Дачкá стáла крычáць ратýнку.* Каралевічы. *Дóчкі бліжэ́й к мáткі. Два сыны́ і дзве дóчкі – усé дзéці маé.* Фасаўшчына. *У вас сын, а ў мяне́ дъчкá.* Заазер'е. *Дашкá былá прыéхаўшы.* Леснікова. ДАЧÝШКА *памянш.-ласк.* *Дачýшка мъя́, павéшыюць нас нéмцы.* Дуброўкі.

□ *Дачýшка – шэ́рая зязю́лька.* Партызаны.

**ДАЧКÍН** *прым.* Даччын. *Дачкіны́ ўнýчкі прыяжджáюць.* Вялікі Азярэцк. *Дачкін мáліц у нас.* Гарадзец. *Дачкінá адзéжына былá.* Нямойта. *Дачкінá ўнýка ўзялá к сабé.* Партызаны.

**ДАШЧÁНЫ** *прым.* Дашчаны, дашчаты. *У кагó дъшчáны двор апшы́ты. Там дъшчáныя бальшэ́я дзвéры.* Кляпчэва. *Лóткі дъшчáныя.* Каралевічы.

**ДВА** *ліч.* Два. *То́лькі два чалаве́кі асталóся з майгó гóду.* Фасаўшчына.

**ДВАЙНІ́К** *м.* Рубанак з дзвюма ручкамі. *Хто бара́н, а хто двайні́к называ́іць.* Нямойта, Жохава.

**ДВАЙНЫ́** *прым.* Двайны, падвойны; які складаецца з дзвюх частак. *Двайны́я во́кны не вымáлі.* Мянюцева.

**ДВАЙНЯКІ́** *толькі мн.* Двайняты, блізняты. *Пятро́ мой з двайнякóў выжыў. У дачкі́ двóе двайнякóў.* Міцюкова. *О́лька з двайнякóў. Дзéўкі прыяжджáлі двайнякí.* Запруддзе.

**ДВАЙНЯ́ТЫ, ДВАЙНЯ́ТА** *толькі мн.* 1. Двайняты, блізняты. *Ён з двайня́т, Петракý было́ паўгóда, як памёр, а Па́вел жывы́.* Міцюкова, Розмыслава. *Двайня́та радзі́ліся на тóе гóра.* Партызаны. 2. Два аднолькавыя, звязаныя ў адно гаршкі і інш. прадметы; спарышы. *Э́тыя гаршкі двайня́ты нъзъва́ліся.* Кляпчэва. ДВАЙНЯ́ТКІ *памянш. Двъйня́ткі – два ўмéсці склéеныя гърлáчыкі.* Кляпчэва.

**ДВАЙНЯШЫ́, ДВАЙНІШЫ́, ДВАЙНЮШЫ́, ДВУЙНЮШЫ́** *толькі мн.* Двайняты, блізняты. *Два сы́на двайняшóў нарадзíла.* Багданава. *Двайняшóў радзíла, два мáльчыка. Двайняшы́ ад пéрвага, а ад двух мужукóў не было́ дзяцéй.* Запруддзе. *Мы былí двайнішы́.* Кляпчэва. *Маé ўнýкі двыйнішы́.* Самсоны. *Чорт яé вéдаіць, як там янá спраўля́еццa з двайнюшáмі.* Багданава. *Э́та двайнюшы́, два мáльцы ў мянé былó.* Савінічы. *Двуйнюшы́ у дныé дачкí, а адзíн у другéя.* Запруддзе. ДВАЙНЯШКІ́, ДВАЙНЯ́ЧКІ *ласк. З двайняшкóў памёр. Дзве дзéвачкі-двайня́чкі.* Багданава.

**ДВАРА́З** *прысл.* Двойчы, два разы. *Тут двара́з два́цъцъ пяць.* Малы Азярэцк.

**ДВАРЫ́ШЧА** *н.* Панадворак, сядзіба. *Тут было́ дварышча, павéці.* Буй.

**ДВАЦЦА́ТНІК** *м.*, **ДВАЦЦАТНІКІ́** *мн.* Манета вартасцю дваццаць капеек. *Ляжы́ць два двъццътнікі нýмърам увéрх. Бяры́ сóрък гадóў прыжывéш.* Ракаў Засценак. ДВАЦЦА́ТНІЧАК *эмац.-ацэн. Ляжы́ць дзве капéйкі дваццáтнічкі, па два́ццаць капéек.* Ракаў Засценак.

**ДВАЦЦАЦЬПЯ́ТНАЯ** *ж.* Купюра вартасцю дваццаць пяць рублёў. *Дваццаць-пятную дзяржы́ць у рукáх.* Нямойта.

**ДВАЮРО́ДНЫ, ДВУЮРО́ДНЫЙ** *прым.* Дваюрадны, стрыечны. *Дваюрóдная сістрá былá ў мянé ў Прывéтку.* Фасаўшчына. *Мой брат двуюрóдный там касíў.* Дуброўкі.

**ДВАЯ́КІ, ДВУЯ́КІ** *прым.* 1. Разнаполы. *Двая́кія у яé былí дзéці* [сын і дачка]. Запруддзе. 2. Ад розных бацькаў. *У яé двъя́кія дзéці ад двух мужукóў.* Запруддзе. 3. Двух відаў. *Дубрóўка двъ[ы]якъя бывáіць.* Рэчкі. *Двъякія пякý блíны́: ёй блíны́, а сы́ну дръчáнікі. Ён прóсіць.* Чуцькі. *Двуя́кія кýры.* Закур'е. 4. Паасобку, раздзельна. *А тáнцы былí двъякія: асóбянна дарóслыя, асóбянна дзéці.* Галашчакіна.

**ДВО́Е, ДВО́Я** *ліч.* Двое. *Як шчэ тóя сéрца там дзяржы́цца: і бáцька памёр, і мáтка памёрла, і двóе дзяцéй.* Багданава. *У мянé тóлькі двóя* [дзяцей], *а трэ́цяя нежывóе бы́ла.* Заазер'е, Міцюкова. *Сем дзяцéй і іх дваíх.* Неўгадава, Гарадзец, Івоні.

**ДВО́ЙКА** *ж.* Два. *Нáда былó двóйку парасёнкаў узя́ць, хай бы качáліся. Нáда былó двóйка узя́ць свінёнкаў.* Запруддзе.

**ДВО́ЙНІ** *толькі мн.* Чатырохзубыя вілы. *Двóйні – длíные вíлкі на чаты́ры зубы́.* Гарадзец. *Вíлкі звáліся двóйні, усё рóўна чаты́ры рагí. Ці вíлкі ці двóйні – аднó і тóе ш.* Нямойта. *Двóйні сéна накладáць, гной накáпвалі.* Буй.

**ДВО́ЙНЯ** *ж.* Двухзубыя вілы. *Сýчку нéхта прабíў во двóйняй, кíшкі вы́лезлі.* Багданава.

**ДВОР** *м.* 1. Панадворак, сядзіба. *Двор – хъзяйства: хлеў, хата.* Кляпчэва. *У мяне быў анбар на дварэ.* Леснікова. *Ідзём, пяём к прѣдседаceлю ва двор.* Багданава. *Па двару ходзіць.* Гарадзец. *Куды ты ідзеш? Штоп ты ні знайшла двору.* Савінічы. *Пастроілі ўвесь двор.* Цясішча. *Як захаджуся жукоў збіраць, тады мне ні да двору, ні да чога.* Вялікі Азярэцк. *Дзяцёнкі тры каъла двору.* Баравікі, Алексінічы, Міцюкова. 2. Дом, сям'я. *Ён ні гадуецца ў дварэ.* Серкуці. *Я не была ў дварэ, паліцаі тут стъялі.* Нямойта. 3. Панскі маёнтак. *За прыгонъм яны жылі ва дворы.* Вялікі Азярэцк. ◊ У ДВАРЭ, У ДВАРЫ. На вуліцы, не ў хаце. *Хто быў у дварэ, забралі на работу* [немцы]. Леснікова. *Я у дварыі тады ні была.* Дольдзева.

**ДВОРНІЦА** *ж.* Дворнічыха. *Дворніца была, так мы здароваліся з ей.* Нямойта.

**ДВУХКЛАСНЫ** *прым.* Двухкласны; з двума гадамі навучання. *Двухкласная школа была.* Ульянавічы.

**ДВУХРАДКА** *ж.* Сорт ячменю, у якім зярняты ў коласе размяшчаюцца ў два рады. *Ячмень – двухрадка, стаіць, як струна.* Ракаў Засценак.

**ДВУХРУШНІК** *м.* Рубанак з дзвюма ручкамі. *Двухрушнік* [дзве ручкі]. Леснікова.

**ДЖВЫХ** *выкл.* Рэзка крутнуцца. *Старык джвых і пабег з хаты.* Дольдзева.

**ДЖУПЛА** *ж.* Біццё, лупцоўка. *Джупла мне была за лапці, білі.* Ульянавічы.

**ДЖУПЛО** *н.* Тое ж. *Джупло было, джуплоўка была ат бацькі.* Ульянавічы.

**ДЖУПЛОЎКА** *ж.* Тое ж. *Джуплоўка мне была, білі, што лапці стыптаў.* Ульянавічы.

**ДЖЫГНУЦЬ, ДЖАҐНУЦЬ, ДЖЫҐНУЦЬ** *зак.* 1. Джгануць, уджаліць. *Глядзі, джыгніць пчала.* Нямойта. *Пчыла жыгалъм як джаґнула! Зразу похніць.* Сукрэмна. 2. Ударыць, сакануць. *Джыґні кыня, джыґні кнуцікам, і пойдзіць.* Фасаўшчына.

**ДЖЫ-ДЖЫ** *выкл.* Перадача гукаў шоргату па паверхні. *Венік вазьму, па абою – джы-джы.* Багданава.

**ДЗВЕ** *ліч.* Дзве. *Дзвюх събака ўкусіў.* Рулёўшчына. *На дзвюх работ* [працавала]. Запруддзе. *Я ўжо за дзвюх аджыла.* Закур'е.

**ДЗВЕРЦЫ** *толькі мн.* 1. Створка або створкі, якімі зачыняюць што-н. *У шкапчыку дзверцы. Дзверцы ў судніку.* Рэчкі. 2. Калітка ў агароджы. Буй.

**ДЗВЕРЫ** *толькі мн.* Дзверы. *Як дзельшйіш дзверы, то заганяеш ігліцу.* Фасаўшчына. *Шапка над дзвярмі.* Гарадзец. *Закрывай дзверы: твой жа бацька не злодзей быў. Чый бацька злодзей, той дзверы ні зачыняў.* Запруддзе.

**ДЗВЁРКА** *ж.* Дзверцы. *Дзвёрка ў халадзільніку атламалася, падпіралі.* Нямойта. *Я кінула, дзвёрку гэту зачыніла й пашла.* Леснікова.

**ДЗВІГ-ДЗВІГ** *выкл.* Рухацца, танцаваць (пра сучасныя танцы). *Раней і польку, і кадрылю, і раскамарскага, а цяпер толькі дзвіг-дзвіг.* Самсоны.

**ДЗВІГІЛЬ** *выкл.* Усунуць. *На лапату – і ў печ дзвігіль хлеб.* Чуцькі.

**ДЗВІЖЫМЫ** *прым.* Той, хто рухаецца, ходзіць. *Была б я дзвіжымая, усё было б па-другому.* Ульянавічы. *Троху дзвіжымая, кап было каму ўхаджваць.* Жохава.

**ДЗВІНАЦЦАЦЬ** *ліч.* Дванаццаць. *У мамы было дзвінаццаць дзіцёнкаў.* Гарадзец.

**ДЗВІНАЦЬ** *зак.* Рушыць. *Немцы дзвінълі нъ нас* [партызан]. Латыгаль. ДЗВІГ. Хуценька рушыць. *Вужачнічак быў – лаза такая, гразка там, – букі дзвіг і туды.* Баравікі.

**ДЗЕ, ІДЗЕ** 1. *прысл.* Дзе. *Дзе яно дзяецца?* Ульянавічы. *Ідзе ўсё дзелася?* Вялікі Азярэцк. 2. *злучн.* Дзе. *Быў куток, дзе большъя крошка, там называлъся Ръсцяробы. Лугі былі такія крошкі.* Мянюцева. *Быран* [птушка] *не пыкажыць, дзе*

*жывéць.* Сукрэмна, Багданава. *Тóлькі знáйіш, ідзé ляжыць* [памерлы]. Цясішча. *Абóра, ідзé скот стаіць.* Галашчакіна.

**ДЗЕБЯЛІ́ЦЦА** *незак.* Імкнуцца быць дужым, дзябёлым. *Нáда крапіцца, дзебяліцца.* Баравікі.

**ДЗÉВА** *ж.* Незамужняя дзяўчына. *Янá нізамýжняя – дзéва.* Серкуці. ◊ СТАРÁЯ ДЗÉВА. Пра немаладую дзяўчыну, якая не была замужам. *Тýтацька ў фальвáрку жылá панéнка, дзéва старáя, Неслухóўская.* Нямойта.

**ДЗÉВАЧКА, ДЗÉВАЦЬКА** *ж.* Дзяўчынка. *Тóлькі дзéвъчка, памёрла дзéвъчка васьмыім гóдам.* Партызаны. *Дзéвацька хóдзіць у трэ́цці клас.* Івоні, Запруддзе.

**ДЗÉВЕР, ДЗÉВІР, ДЗÉВЯР** *м.* Мужаў брат; дзевер. *Дзéвер мой настáўнікам быў, жывéць там, у Гóмлі.* Заазер'е. *Дзéвер мой у парцізáнах быў і памёр там.* Партызаны, Баравікі, Леснікова, Леснікі, Міцюкова, Цясішча. *Дзéвер быў за дóктара.* Закур'е. *Мой дзéвір – мужукóў брат.* Партызаны, Каралевічы. *Маймý дзéвяру стáла загавóрваць плячó.* Міцюкова.

**ДЗЕВЯНÓСТА, ДЗІВЯНÓСТА** *ліч.* Дзевяноста. *Ёй ужэ́ на дзевянóста гадóў тры гады́.* Чуцькі. *Мой бáцька дзівянóста сем гадóў пражыў і ні аднагó рáзу ня быў у бальніцы.* Цясішча.

**ДЗЕВЯ́ТНІК** *м.* Прысвятак у народна-царкоўным календары; на дзявяты чацвер пасля Вялікадня. *Нéйкі буваіць дзевятнік* [свята пад восень]. Вялікі Азярэцк.

**ДЗЕВЯ́ЦЕРА, ДЗІВЯ́ЦІРА** *ліч.* Дзявяцера. *Дзевяцера дзяцéй вырасцілі, хоць і як іх стрóілі.* Міцюкова. *У мáмы былí дзівяціра.* Дольдзева. *Я дзівяцера радзíла, кала мянé ўрачá ні былó.* Мянюцева.

**ДЗÉВЯЦЬ** *ліч.* Дзевяць. *Дзевяці гадóў пашлá служыць к пáну.* Самсоны. *Як дажынкі, астаўляюць на пóлі дзéвяць жыцін, хлéба крóшачку.* Запруддзе.

**ДЗЕД, ДЗЕТ** *м.* 1. Дзед, стары мужчына, бацька маці ці бацькі. *Дзед пóльскую прайшóў, фінскаю прайшóў.* Багданава, Фасаўшчына. *Бáба скáчыць, а дзет плáчыць.* Вялікі Азярэцк. 2. Муж. *А што ты бýдзіш дзéлаць бяз дзéда?* Запруддзе.

**ДЗЕД** *м.* Апорны слуп у гаспадарчым будынку; шула. *Дзяды – паппóры такія ў хлéві. Сталбы такія, у хлéві што стáвюць, паппóры, назывáюць дзядáмі.* Запруддзе.

**ДЗЕД** *м.* Чартапалох (расліна). *Дзед – што кóліцца, а шапытнік расцéць аддзéльна.* Сукрэмна.

**ДЗÉДАЎ** *прым.* Дзедаў. *Быў бязмéн яшчэ́ дзéдаў.* Нямойта. *Там сат дзéдаў быў такі, пýні.* Багданава.

**ДЗÉДЗВЕЛЬ, ДЗÉДЗІЛЬ, ДЗÉДЗВІЛЬ, ДЗÉДЗВЕЛ** *м.* Асот балотны (расліна). *Дзéдзвель рос па балóтах. Дзéдзвіль на балóтах.* Каралі. *Дзéдзвел у лéсе расцéць, жóўтым цвіціць, шырóкае лісце.* Мянюцева. *Дзéдзіль – шырóкае лісця на ім, высóкі, лапушáны.* Багданава. *Дзéдзіль – беражкі калючкувáты, свінням даюць.* Запруддзе. *Дзéдзіль, алé ні знáю для чагó, свінéй кóрмяць, лáпы* [у яго] – *лісты бальшэ́я.* Леснікі.

**ДЗÉДУЎШЧЫНА** *ж.* Дзедаўшчына, спадчына пасля дзеда. *Тут дзед жыў, маёмысць дзéдава – éта мыя дзéдуўшчына.* Запруддзе. *Дзéдуўшчына астáлыся унýкым пу прырóдзі.* Мацюкова.

**ДЗÉЖКА, ДЗÉШКА** *ж.* Дзежка, дзяжа. *Як спякýць хлеб, пастáвяць дзéжку на пáры, нож утóркнуць* [у перавернутую дзежку], *пóтым цыбýліну, сóлі, кміну. Выцераш па бакáх дзéжку, і дóбра* [так «лечаць» дзежку]. Запруддзе. *У дзéшках гуркі*

*засо́львалі.* Гарадзец. *Дзе́шка път капу́сту ве́дзер кала трыцаці.* Жохава. *Кабъна́ заб'е́м, то ко́сці у дзе́жку пало́жым. Цыбу́ляй с со́ллю дзе́жку націрáлі.* Багданава, Баравікі, Рулёўшчына, Чуцькі. *Нано́сяць халóднай вады́ ў дзе́шку і туды́ яго́, дзяцёнка, з галаво́й.* Карпавічы. *Дзве дзе́ж[ш]кі сялёд[т]кі завязём ў ёўню і ўсё з'ядзім.* Закур'е. ДЗЁЖАЧКА *памянш. Дзе́жачка дубо́вая, хле́бная, із трох клёпак.* Жохава. *Дзе́жачка была́ для хле́ба.* Нямойта, Гарадзец.

**ДЗЕ́ЙКІ** *мн.* Чуткі, пагалоскі. *Не́йкіе дзе́йкі іду́ць. Дзе́йкі іду́ць, што ў рэстара́нах даю́ць не па сто.* Міцюкова.

**ДЗЕ́ЙСТВАВАЦЬ** *незак.* Рабіць, рухаць. *Я гэ́тай ня дзе́йствую руко́й і во чуць хаджу́.* Фасаўшчына.

**ДЗЕ́ЛА** *н.* Справа. *А́бы пры дзе́лі былі лю́дзі. Жызьнь пражы́ць – ду́жа бальшо́е дзе́ла.* Ульянавічы. *Якóя табе́ дзе́ла да майго́ це́ла.* Запруддзе, Партызаны.

**ДЗЕ́ЛАЦЦА** *незак.* Арганізоўвацца, ствараццa. *Стаў калхо́з дзе́лацца.* Неўгадава.

**ДЗЕ́ЛАЦЬ** *незак.* 1. Рабіць. *Я са́ні магу́ дзе́лаць, калёсы, хаму́т.* Марозаўка. *У яго́ быў катара́к, яму́ дзе́лалі апіра́цыю.* Багданава. *Дзьвяна́ццатага ю́ля Пятро́ бу́дзе, ня мо́жна дзе́лаць.* Вялікі Азярэцк, Гарадзец. 2. Губляць здольнасць думаць. *Ужо́ й гълъва́ абы-што́ дзе́лаіць.* Кішуроўшчына.

**ДЗЕ́ЛЯ**, **ДЗЕ́ЛІ** *прыназ.* 1. Дзеля. *Дзіржа́ць дзеля літра мълъка́.* Леснікова. *Я́йца кра́сюць у цыбу́лі, а ра́каў ва́раць у крапіве дзеля кръсаты́. Яны́ тады́ кра́сненькіе.* Нямойта, Запруддзе, Карпавічы, Цясішча. *То́лькі ш дзелі калхо́за каро́ва, я тры ты́сячы мълъка́ ле́тась здъла́.* Малы Азярэцк. *Кано́плі дзелі пянькі се́йілі.* Каралі. 2. Для. *Ён дзеля сябе́ вы́карміць.* Серкуці. 3. З-за. *Дзелі гро́му ў ха́ці куры́лі май.* Ракаў Засценак.

**ДЗЕ-НЕ́БУДЗЬ, ДЗЕ-НІБУ́ДЗЬ** *прысл.* Дзе-ні́дзе. *Дзівасі́л да́йжа лякарства. Дзівасі́л у гаро́дзі дзе-не́будзь.* Багданава. *Дзе-нібу́дзь суні́цы тро́ху ёсь у бару́.* Вялікі Азярэцк.

**ДЗЕ-НІЙДЗЕ́, ДЗЕ-НЕЙДЗЕ́, ДЗЕ-НЯДЗЕ́, ДЗЕ-НЯЙДЗЕ́** *прысл.* 1. Дзе-нідзе, сям-там. *Дзе-нійдзе́ сыраéжынка, лісі́чкі, ваўня́нкі.* Баравікі. *Слі́вы пашці не цвіце́лі, ві́шні дзе-нейдзе́.* Вялікі Азярэцк. *Саўсі́м атмя́кла бу́льба, дзе-нядзе́ паўсхо́дзіла.* Багданава. 2. Крыху, няшмат. *Сне́гу было́ дзе-няйдзе́, а выда́ пыдыйшла́ ў по́гры[а]б.* Чуцькі.

**ДЗЕНЬ** *м.* 1. Дзень. *Дзень па́ліць, а ноч сма́ліць* (загадка, адгадка – мароз). Партызаны, Дольдзева, Нямойта. ДЗЯНЁК *ласк. Іна́ ў міне́ шэсь дзянько́ў паліжа́ла.* Дольдзева. *Ужо́ дзянёк быў.* Фасаўшчына. *Ко́ждый дзянёк п'я́ный.* Чуцькі. 2. Працадзень. *Піціcóт дней было́ ў мяне́.* Дуброўкі. ○ РАСТО́ЎСКІ ДЗЕНЬ. Калядны дзень, у які сячэцца што-н., каб засцерагчыся ад пошасці на жывёлу з-за парушэння забароны на працу вечарам на працягу двух калядных тыдняў. *У Кыля́ды дзе́лыць нільзя́ вічыра́мі дзве нядзе́лі. Дзе́лыйіш жа. Тады́ длі скыта́, кап нічо́га ні случы́лыся, у тэй дзень, як пачына́лісі Кыля́ды, во́зьміш і пысячэ́ш што. Е́та і ёсь расто́ўскі дзень.* Сукрэмна. ◊ ДЗЕНЬ ПРЫ ДНІ. Штодзень, кожны дзень. *Дзень пры дні рабо́та, усігда́ рабо́таіць, яму́ рабо́ты хвата́іць.* Каралі. ◊ ДЗЕНЬ У ДЗЕНЬ. Тое ж. *Дзень у дзень хадзі́ла і дзяце́й гудува́ла.* Заазер'е.

□ *Вясе́нні дзень год ко́рміць.* Багданава. □ *Ні хвалі́ся у тры́ дні, а хвалі́ся у тры гады́.* Івоні.

**ДЗЕ́НЬГІ** *толькі мн.* Грошы. *Дзе́ньгі, рублёў тры́ста браў, ні хува́лі нікуды́.* Вялікі Азярэцк.

**ДЗЕ́РАВА, ДЗЕ́РВА** *н.* Дрэва. *Дзéраваў каля дваццаці, ў кáжнага сады. У сусéткі дзéраў дванáццаць.* Нямойта, Кляпчэва. *Дзе пáмітнік, там апсадзілі дзéрвымі.* Алексінічы. *Варýшкі растýць на гнілым дзéрыві.* Неўгадава.

**ДЗЕРАВЕ́НЕЦ, ДЗІРАВЕ́НЕЦ** *м.* Вясковец, жыхар вёскі. *Дзеравéнцы кáжуць: які ён спакóйны.* Багданава. *Атсыпаліся с васьмóга клáса ўсе дзеравéнцы.* Кляпчэва. *Паéхылі ўсі дзіравéнцы ў лес.* Гарадок, Нямойта.

**ДЗЕРАВЕ́НШЧЫНА** *ж.* Вясковыя былі, прыгоды. *Дзеравéншчына ўсё гéта, пра што раскáзваем.* Мянюцева.

**ДЗЕРАВУ́ШКА** *ж.* Вёсачка. *Дзеравýшка такáя хýдзенькая.* Алексінічы.

**ДЗЕРАВЯ́ШКІ, ДЗЕРВЯ́ШКІ** *мн.* Абутак на драўлянай падэшве са скураным верхам. *Дзеравяшкі – звéрху кóжа, а там дзеравяннaя.* Багданава. *Дзеравяшкі дзéлалі, кóжай абівáлі, ніз дзервянны.* Нямойта. *У лупцях хадзіла, тады дзеравяшкі злáдзіў хадзяін. У дзервяшках дзервянные падóшвы.* Цясішча.

**ДЗЕРАЗА́, ДЗІРАЗА́** *ж.* Дзераза, павітуха (расліна). *Дзеразá ў лéсе, па гаъpáх, паспéіць, страсáюць пылóк,* [ён] *як мучыца, рáны засыпáюць.* Багданава. *Дзеразá ў лéсу цягнецца.* Каралі. *Дзіразá ўéцца, як сукóнненькая, на Трóйцу нарвýць, вянкі наплятýць.* Запруддзе, Сянно.

**ДЗЕРВЯ́НЫ, ДЗІРАВЯ́ННЫ, ДЗІРВЯ́НЫ** *прым.* Драўляны. *Льтачóк дзервяны сдзéлалі.* Багданава. *Быў дзірвяны зруп у калóдзізі.* Мянюцева. *Ёсць яшчэ дзірвяныя жóрны. Пень зрэжыш, шырóкі, пóтым наб'éш чарэп'я, чърапкóў, і ніз, і верх такі, чугýнных чърапкóў, кап рóўнінька быль.* Вялікі Азярэцк. *Дзірвяныя былі казлы, а во цяпéр спъяў, кап ні ръзваліліся.* Нямойта. *Дзірвяныі вёдры пыцігáла – і зраніла дзіця.* Багданава. *Свыя бырынá дзірвянныя, а кляцы жалéзныя. Сам зьдзéлуў.* Міцюкова, Гарадзец, Марозаўка.

**ДЗЕСІНФЕ́КЦЫЯ** *ж.* Дэзынфекцыя. *Узялá залы, закіпяціла, карасіна, самá сваю дзесінфéкцыю здзéлала.* Партызаны.

**ДЗЕ́СІЦЬ** *ліч.* Дзесяць. *Мы удвайіх аблупілі дзéсіць штук авéц і пувязлі ў Сяннó.* Міцюкова, Цясішча. *Разóў дзéсіць прыдзéць.* Дуброўкі, Неўгадава.

**ДЗЕСЯ́ТАК** *м.* Дзясятак. *Пад дзесятак ёсць.* Нямойта.

**ДЗЕСЯЦІГО́ТКА** *ж.* Школа з дзесяцігадовым тэрмінам навучання. *У Нямóйце школа дзесяцігóтка.* Баравікі, Ульянавічы.

**ДЗЕСЯЦІ́НА, ДЗІСЯЦІ́НА** *ж. устар.* Дзесяціна (мера зямлі). *Па стáрай мéры дзісяціна шчытáлася дзве тысячы чатырыста квадрáтных сажанéй. У нас па дзéвіць дзісяцін на мушскýю гълавý.* Марозаўка. *Рáньшы называліся дзісяціна, валóка, паўвалóка.* Дольдзева. *Дзесяціна – éта мéні гектáра, сóтак сем.* Фасаўшчына.

**ДЗЕСЯЦІТЫ́СЯЧНІК** *м.* Падбел (расліна). *Дзесяцітысячнік рóзавенькі – жэньскі, бéлы – мужчынам.* Запруддзе.

**ДЗЕ́ТКА** *н.* Ласкавы зварот да асобы. *Ай, дзéтка маé.* Партызаны. *Дзéтка, йна зóлытым ні ўладзéіць.* Нямойта.

**ДЗЕ́ТКА** *ж. зб.* Лічынкі пчол, чарва. *Мáтка пчаліная начынáіць ухáжываць за дзéткай, карміць гэту дзéтку.* Кляпчэва.

**ДЗЕ́ТКІ** *мн.* Дзеткі, дзеці. *Растýць тваé дзéткі як грыбы ат цёплага дóжджу.* Вялікі Азярэцк, Фасаўшчына.

□ *Мáлыя дзéткі – мáлые бéткі, бальшыя дзéткі – бальшыя бéткі.* Розмыслава.
□ *Бýдуць дзéткі – бýдуць бéткі.* Каралевічы.

**ДЗЕ́ТКІ** *мн.* Ласкавы зварот да людзей, чалавека. *А, дзе́ткі мае́, і усяк было́: і хо́ладна і го́ладна.* Цясішча.

**ДЗЕ́ЎКА** *ж.* Дзяўчына. *Якая яна́ ё дзе́ўка, ні на́да смяяцца над дзе́ўкамі.* Запруддзе. *Тро́е дзяце́й і ўсе дзяўкі́.* Ульянавічы. *Дзе́ўцы кап красі́вы ма́лец, ніва́жна, што бе́дны. Дагавары́лася з бе́дным да красі́вым, укра́ў яе́.* Вялікі Азярэцк. *Дзе́ўку бу́дзіш браць ці не?* Закур'е. ◊ радзіць У ДЗЕ́ЎКАХ, У ДЗЯЎКО́Х. (Нарадзіць дзіця) да замужжа. *Ма́тка яе́ ў дзе́ўках радзі́ла.* Багданава, Сянно. *Уну́чка мъя́ ў дзяўко́х радзі́ла.* Дольдзева. ◊ У ДЗЯЎКО́Х. 1. У дзявоцтве, да замужжа. *У дзяўко́х з Матру́най гуля́лі.* Сянно. 2. Заставацца (застацца) незамужняй. *Пасле́дні год ёй быць у дзе́ўках: ма́лец з а́рміі пры́йдзіць і вясе́лле згуля́юць.* Нямойта. *Астала́ся ў дзяўко́х і усё кляне́ць.* Алексінічы.

□ *Аўгустоўская му́ха, як дзе́ўка-сяду́ха.* Алексінічы. □ *Журавы́ пры́ляце́лі – дзе́ўкі за́муш захаце́лі.* Каралевічы, Багданава.

**ДЗЕЎЧЫНЯ́** *ж.* Дзяўчынка. *Ма́лец і дзеўчыня́ паме́рлі.* Партызаны.

**ДЗЕ́ЦКІ** *прым.* ○ ДЗЕ́ЦКАЯ БАЛЕ́СЦЬ. Дзіцячыя канвульсіі. *Дзе́цкая бале́сьць па́ла на сэ́рца – храп і ўсё.* Багданава.

**ДЗЕ́ЦЦА** *зак.* 1. Дзецца, знайсці прытулак. *Як дзярэ́ўню спалі́лі, нам жа дзе́цца не́йдзе было́. Што дзе́лаць, дзе дзе́цца з е́стай ямы, і усе́ паразбе́гліся.* Леснікова. *Паслу́хаў, усі́х растраля́лі, дзе́цца не́дзе.* Фасаўшчына. 2. Прапасці, знікнуць. *Дзе́й-та рыдлёўка мъя́ дзе́лься?* Запруддзе. *Сама́ ні зна́ю, дзе дзе́ўся гале́нь.* Кляпчэва. *Дзе ён дзе́ўся?* Нямойта, Багданава, Ульянавічы. *Я ш і касі́ла, дык во дзе сі́ла дзе́лась.* Леснікова. *Снех вы́пьдзіць, а тады́ няве́дыма дзе дзе́ніцца.* Кішуроўшчына.

**ДЗЕ́ШАВА** *прысл.* Танна, нядорага. *Тро́шку дзе́шава праъдала́ казу́.* Запруддзе. *Дзе́шава аддаў.* Заазер'е. *Карандашы́ дзе́шава у то ўрэ́мя сто́ілі, паку́па́лі й пі́са́лі.* Парэчча.

**ДЗЕШАВЫ́** *прым.* Танны, недарагі. *Была́ ж дзешава́я гарэ́лка, на Мікольшчыну гуля́лі.* Чуцькі, Запруддзе.

**ДЗЁГАЦЬ** *м.* Дзёгаць. *Дзёхцім збру́ю ма́зълі, бо́ты ма́зълі, юхто́выя бо́ты.* Гарадзец. *Дзёгъць, што калёсы ма́заць, быў, у бо́чцы вазі́лі.* Нямойта.

**ДЗЁРАН** *м.* 1. Верхні ўдзервянелы пласт глебы. *А я ўжо дзёран ні атрыза́ла, а так вот разрэ́зала.* Леснікова. 2. Выразаны пласт дзёрну. *Дзірна́мі зъла́жывалі яго́, то́е по́ля, а яно́ спаўза́іць.* Запруддзе. *Калі́ зямля́ хужэ́йшая, то дзёран кладу́ць. Лён дзёрнамі націска́лі, як мачы́лі.* Закур'е.

**ДЗЁРЗКІ** *прым.* Няўступчывы, рашучы, смелы. *Дзёрзкая така́я, не ўсту́піць.* Савінічы.

**ДЗЁРКА** *ж.* Цёрка, тарка. *Дра́лі на дзёрку бу́льбу, дабаўля́лі мя́са, са́ла, ла́дкі пяклі́.* Ракаў Засценак.

**ДЗЁРТЫ** *прым.* Здробнены на тарцы. *Ка́ша з дзёртай бу́льбы: дро́бнымі кусо́чкамі са́ла пакры́шыш, валлёш – ду́жа любі́ла е́сці.* Леснікі.

**ДЗЁЎБАЦЬ** *незак.* Дзяўбці, дзяўбаць. *Дзя́ціл і ўдот – е́та адзіна́кавыя, яны́ дзёўбаюць.* Вялікі Азярэцк.

**ДЗІБАНУ́ЦЬ** *зак.* Дзеўбануць. *Сагну́лася дава́ць ме́шанку у сара́і, а ку́рыца мне як дзібану́ла ў зе́нка.* Леснікова.

**ДЗІБЯЛЕ́ЙШЫ** *прым.* Паздаравелы, падужэлы. *А с По́лацка ён прые́хаў дзібяле́йшы* [пасля бальніцы]. Буй.

**ДЗІ́ВА** *н.* Дзіва, незвычайнасць. *Е́та дзі́ва, што калі́ ма́тка застане́цца адна́.* Запруддзе. *А мне пра́ма так дзі́ва.* Нямойта.

**ДЗІВАБРА́Т** *м.* Дзівасіл (расліна). *Дзівабра́т ат прасту́ды, жо́ўтым цве́там цвіці́ць къла ле́су.* Самсоны.

**ДЗІВАСІ́Л** *м.* Тое ж. *Дзівасі́л кала рэ́чкі расце́ць. Кра́сные, як кара́лькі, пучо́чкі вcaptainся́ць.* Буй. *Дзівасі́л, як патсо́лнечнік, бальшэ́я ша́пкі* [у яго], *ат я́звы яно́, ат уся́кіх хваро́б.* Запруддзе, Алексінічы, Чуцькі. *Дзівасі́л жо́ўтым цвіце́ць. Ко́рань капа́юць і су́шуць яго́, настаўля́юць.* Каралі. *Дзівасі́л прыклада́юць, як ра́ны ні зажыва́юць.* Леснікова, Леснікі. *Наста́івала дзівасі́л у гарэ́лцы да пілá – паляхчэ́ла. Як ёсць каро́ста, у вайну́ была́, дзяру́ць ко́рань дзівасі́лу на цёрку. То́лу разлама́еш, раста́плюеш са́ла аве́чча, сме́шваеш, ма́жаш. Як парцiза́ны былі́, сма́звалі.* Партызаны.

**ДЗІВА́ЦЬ** *незак.* Дзяваць, выкарыстаць. *Кусо́к палатна́, нікуды́ яго́ ні дзіва́лі.* Гарадзец.

**ДЗІВІТНА́ЦАЦЬ** *ліч.* Дзевятнаццаць. *Дзівітна́цаць ку́рак у мяне́, яду́ць я́йцы: ім мінера́лы на́да.* Вялікі Азярэцк.

**ДЗІВІ́ЦЦА** *незак.* Глядзець, углядацца. *Як дзіві́ліся ўсе чы́ста на дзе́да.* Кляпчэва.

**ДЗІВІ́ЦЬ** *незак.* Здзіўляцца. *Я не дзіві́ла: яна́* [нявестка] *са скам'і́ то́лькі, ніч́ога ня ўме́ла.* Розмыслава.

**ДЗІВЯ́ТКА** *ж.* Від касы для касьбы. *Былі́ ко́сы сямёркі, васьмёркі, дзівя́ткі.* Леснікова.

**ДЗІВЯТНА́ДЦАТЫ** *ліч.* Дзевятнаццаты. *Дзівятна́дцаты год выхадзі́ла за́муж.* Самсоны.

**ДЗІВЯ́ТНІК** *м.* Невядомая расліна. *Дзівя́тнік ад галавы́.* Самсоны.

**ДЗІВЯ́ТЫ** *ліч.* Дзявяты. *Ны дзівя́тым гаду́ то́лькі я́блычкімі ста́ніць жырабёнык.* Сянно.

**ДЗІВЯЦІ́НЫ** *толькі мн.* Памінкі на дзявяты дзень пасля смерці чалавека. *Трацці́ны зва́ліся, а тады́ шасці́ны, а тады́ дзівяці́ны, а тады́ гот.* Нямойта. *Дзівяці́ны сабіра́юць, шасці́ны, сарачы́ны – шэсць нядзе́ль, э́та ужо́ на́да сваі́х усі́х* [на памінкі]. Вялікі Азярэцк. *Дзівяці́ны, шасці́ны пасля пахаро́н.* Леснікі, Багданава, Баравікі.

**ДЗІЁТ** *м.* Дыета. *На дзіё́т пасадзі́лі куму́.* Нямойта.

**ДЗІЁ́ТА** *ж.* Тое ж. *Суп куры́ны ем: дзіё́ту назна́чылі.* Буй.

**ДЗІКАЛО́Н** *м.* Адэкалон. *Дзікало́н стаі́ць, вы́лейце вон.* Івоні. *Ад дзікало́на пра́ма кало́ціць, як зу́бы вазьму́ паъласка́ць. Ма́льцам бры́цца тэй дзікало́н ла́дна бу́дзіць.* Нямойта.

**ДЗІКАМЕ́НТЫ** *мн.* Медыкаменты. *Ён пулучы́ў дзікаме́нты* [таблеткі] *і ўбі́ўся.* Чуцькі.

**ДЗІ́КІ** *прым.* Дзікі, пужлівы. *Про́ста дзі́кая ку́рыца, дзіч, а ге́тыя спако́йныя, з рук бу́дуць дзіўба́ць.* Вялікі Азярэцк. ○ ДЗІ́КАЕ МЯ́СА. Нарасць, пухліна. *Як дзі́кае мя́са выпіра́іць збо́ку.* Багданава. *Дзі́кае мя́са нараъсло́.* Гарадзец. ○ ДЗІ́КІ КЛЕ́ВЕР. Дзяцеліна. *Дзі́кі кле́вер паху́чы, небальшэ́нечкі.* Багданава. ○ ДЗІ́КІЯ ПЧО́ЛЫ. Непрыручаныя пчолы, якія жывуць на волі. *Дзі́кія пчо́лы – гэ́ты ёсць жа такі́я пчо́лы, на клевярны́м по́лі.* Закур'е.

**ДЗІКЛІ́ВЫ** *прым.* Палахлівы, асцярожны. *Ко́шка была́ дзіклі́выя, яе́ ня зло́віш.* Багданава.

**ДЗІЛЯ́НКА** *ж.* Высечаны ўчастак лесу, пасека. *Дзяля́нкі высяка́лі ў ле́се.* Нямойта. *Дзіля́нка, дзе лес вы́рубюць.* Манголія. *У нас тут дзіля́нка, суні́цы расту́ць.* Серкуці. *Дзіля́нку убяру́ць чы́сьцінька, пъд гра́блі.* Серкуці.

**ДЗІРА́ВЫ** *прым.* Дзіравы. *Таз быў дзіра́вы, зяць забра́ў.* Нямойта.

**ДЗІРАВЯ́ШКІ, ДЗІРВЯ́ШКІ** *мн.* Абутак на драўлянай падэшве са скураным верхам. *Дзірывя́шкі былі́.* Баравікі. *А хто пры́дзіць у дзірвя́шках: зве́рху сапо́х, які́ парва́ўся, а зні́зу дзе́рыва.* Алексінічы.

**ДЗІРБА́К, ДЗЯБРА́К** *м.* Прылада з загнутымі зубамі для рыхлення глебы; драпач. *Дзірба́к зяле́зны, дзірба́чыць зямлю́. Дзябрако́м падзярба́чуць бу́льбу.* Сукрэмна.

**ДЗІРБА́ЧЫЦЬ** *незак.* Рыхліць, матычыць. *Дзірба́чыць гаро́ды загну́ты дзірба́к.* Сукрэмна.

**ДЗІРВЯ́НКІ** *мн.* Абутак на драўлянай падэшве са скураным верхам. *Дзірвя́нкі насі́лі: дрэ́ва вы́сякуць і абіва́юць ко́жай.* Нямойта.

**ДЗІРҐАҐА́Н** *м.* Хапуга. *Дзірґаґа́ны былі́* [атрымалі плату за рамонт тэлевізара і зніклі адразу]. Неўгадава.

**ДЗІРҐАНУ́ЦЬ, ДЗЫРҐАНУ́ЦЬ** *зак.* Лінуць, пайсці (пра дождж). *До́джык, до́джык, дзіргані́, ба́бъў с по́ля пръгані́* (з дзіцячай песенькі). Нямойта. *Дош, дош, дзырґані́, ма́тку с по́ля прыгані́* (з дзіцячай песенькі). Партызаны.

**ДЗІРЖА́ЎШЫ** *дзеепрысл.* Трымаючы, гадуючы. *Ні дзіржа́ўшы ніко́га, есць німа́ чаго́.* Станюкі.

**ДЗІРЖА́ЦЦА** *незак.* 1. Трымацца. *Ад бяро́зы до́ўга жар дзяржы́цца.* Партызаны. *Засо́хніць кіт і дзяржы́цца гада́мі.* Багданава. *У міня́ рука́ пра́вая ні дзе́ржыцца.* Запруддзе. *Усё за ей, усё хазя́йства за ей дзяржы́цца.* Партызаны. 2. Прытрымлівацца традыцый. *Усё дзіржа́цца свайго́* [прытрымліваюцца старых звычаяў, традыцый]. Запруддзе. 3. Трымацца пэўнага кірунку. *Паву́к, паву́к, калі́ нъ харо́шая, дзяржы́ся ўверх, а нъ плахо́я – кладзі́ся ўні́с* (прыгаворка) [гаворыцца, як павук спускаецца на павуціне]. Сукрэмна.

**ДЗІРЖА́ЦЬ** *незак.* 1. Гадаваць, вырошчваць. *Гусе́й ра́ньшы дзіржа́ла. Дзіржа́ць – ніко́га ні дзяржу́.* Багданава. *Не́къторыя ёсь у нас па дзве каро́вы дзіржа́ць. Каня́ усе́ дзіржа́лі: паха́лі ко́нямі.* Гарадзец, Багданава, Каралі, Нямойта, Серкуці. *Мы так чаты́ры каты́ дзяржы́м. Дзе кот, там мы́шы ня бу́дуць.* Каралі, Заазер'е, Рулёўшчына. 2. Трымаць. *Беднячо́к дзіржа́ў хле́ба кулачо́к, а бъга́ты саўсе́м друго́я меў.* Станюкі. 3. Трымаць на сваіх харчах. *Во інвалі́т, ён сапо́жнічаў, а пъха́ць ні мох, дзіржа́ў рабо́тніка, яго́ за гэ́та вы́слалі.* Івоні. 4. Памятаць. *Дзе ш у галаве́ усё дзіржа́ць.* Чуцькі. 5. Валодаць. *У со́рак трэ́цюм ужо́ стъя́лі пъ дзіраўня́м. Бяго́мяль і Хало́пенечы дзіржа́лі парці́за́ны.* Фасаўшчына. 6. Біцца. *За іх, піскля́т, бой дзіржа́ла.* Запруддзе. 7. Галадаць. *Ба́бушка, вы здаро́вая, галадо́ўку бу́дзіця дзіржа́ць і усе ро́ўна ні памрэ́це.* Нямойта.

**ДЗІ́РКА** *ж.* Дзіра, дзірка. *На́да ж вы́йісьці таку́ю дзі́рку* [пра мышэй]. Запруддзе. *У ка́мні дзі́рка ёсь.* Марозаўка. *Дзі́ркі зашыва́лі.* Турава. ДЗІ́РАЧКА *памянш. Пракру́цяць дзі́рачкі і сало́мку уто́ркнуць.* Багданава. ◊ ДЗІ́РКА АД АБАРА́НКА. Нічога, пустое месца. *Заста́лася то́лькі дзі́рка ат абара́нка.* Міцюкова.

**ДЗІСА́НТ** *м.* Дэсантнік. *Я сем дзіса́нтаў спасла́. Даку́мент быў.* Партызаны.

**ДЗІСК** *м.* Дыск (пра пазванкі). *Ба́бушка дзі́скі ўста́віла ў пазвано́чніку сы́на.* Розмыслава.

**ДЗІСЯНЦІ́Р** *м.* Дэзерцір. *Нас пашчытаюць дзісянцірамі.* Вялікі Азярэцк.

**ДЗІСЯ́ТНІК** *м.* 1. Манета вартасцю дзесяць капеек. *Адзін тут дзісятнік забыў, пірашчытаў і назат прыйшоў.* Партызаны. *Ныъбрала дзісятнікаў ныъ ўлазіны.* Запруддзе. 2. Кіраўнік рабочай групы. *Ён дзісятнікам быў.* Розмыслава.

**ДЗІСЯ́ТЫ** *прым.* Дзясяты (клас сярэдняй школы). *Ці дзісятую кончыў сёліта ці будзіць канчаць, алі дома.* Ракаў Засценак.

**ДЗІТВАРА́** *н. зб.* Дзеці, дзетвара. *Там дзітвара, тожа гандлююць.* Запруддзе. *Збярэцца дзітвъра і паелі бандзёшкі тэя ны Сыракі.* Партызаны, Гарадзец.

**ДЗІЎБАНУ́ЦЬ** *зак.* Дзяўбнуць. *Пятух зразу дзіўбанецъ, а тады крыламі б'ець.* Мянюцева. *Дзе дзіўбануць што шпакі.* Чуцькі.

**ДЗІЎБА́НЫ** *дзеепрым.* Выдзеўбаны. *Каромысла с плечкамі дзіўбанае, с калодзізя ваду носюць.* Каралевічы.

**ДЗІЎБА́ЦЦА** *незак.* Дзяўбаць, дзяўбці. *Яна пойдзіць яйцы збіраць, а пятух – дзіўбацца.* Нямойта.

**ДЗІЎЧАНЁШКА** *ж.* Дзяўчынка. *Была дзіўчанёшкуй, то зрэб'е прала.* Неўгадава.

**ДЗІФЦЕРЫ́Й, ДЗІФЦЕРЫ́Т** *м.* Дыфтэрыя. *Дзіфцерый – у сабе воздуху ўзяць не можыць дъчка. Затапіла я шчыт, масла разагрэла цёпла-цёпла, мёду і дала выпіць.* Нямойта. *Дзіфцерыт у яе быў.* Гарадзец.

**ДЗІЦЯ́** *н.*, **ДЗЕ́ЦІ** *мн.* 1. Дзіця. *Хай вам бог дасць, каб вашы дзеці так асталіся!* Запруддзе. *Маім дзяцём трыпкача ні пупыдала, я ня біла.* Каралі. *Дзіцям – дзецкі падход.* Каралевічы. *Дзяцём трэба дорага плаціць за хату. Ат пуду загъварвала дзіцём* [дзецям]. *Дзяцём там* [на тым свеце] *ні даюць яблык. Арэшніку там було многа, то нашчыпім, а тады зімой дзелім дзяцём.* Партызаны. *Глядзіце, вы ня йдзіце к дзіцям.* Вялікі Азярэцк. *Матка яе на пенсіі па дзіцях.* Розмыслава, Чуцькі, Закур'е, Неўгадава. 2. Птушаня. *Граза як ударыла, елку зламала, дзяцей буцяноў пабіла.* Нямойта.

□ *Малый дзіця спаць не даець, ад бальшога сам не заснеш.* Забор'е. □ *Малыя дзеці – малыя гора.* Нямойта. □ *Што хата без дзяцей, што ногі без лапцей.* Каралевічы. □ *Дзяцей гадуй – торбу гатуй.* Марозаўка. □ *Ні радзіў – ні дзіця, ні гудуваў – ні слуга!* Багданава. □ *Дзе многа нянек, дзіця бяз носа.* Буй, Нямойта. □ *Якая матка, такая дзіцятка.* Гарадзец.

**ДЗІЦЯНЁ** *н.*, **ДЗІЦІНЯ́ТЫ** *мн.* 1. Дзіця. *А воўк ззаду дзіцянё схапіў.* Партызаны. 2. Птушаня. *Дзіцінаты буцяна пабілісі* [бурай заваліла елку з гняздом]. Нямойта.

**ДЗІЦЯ́ТАЧКА** *н.* Ласкавы зварот да асобы. *Яны, дзіцятъчка, ня хочуць кароў дзіржаць. Було, дзіцятъчка, грыбоў многа летысь.* Чуцькі.

**ДЗІЦЯ́ТУХНА** *ж.* Ласкавы зварот да дзіцяці. *А мъя ты дзіцятухна.* Міцюкова.

**ДЗІЧ** *ж.* Бародаўка, нарасць. *Дзіч на руцэ вырасла. Дзіч, дзічка – эта адно і тожа.* Запруддзе. *Дзічы на руках бываюць.* Гарадзец. *Дайжа па руках дзічы былі, пасадзіць кап цвыркуна, каб дзіч выеў. Калі дзічы на руках, адуванчыкі выціскаюць.* Багданава. *Дзічы на руках некаторыя вывязывалі.* Нямойта. *Трава была нападобіе як укроп, малако ідзець, ім змазвалі дзічы.* Нямойта, Ракаў Засценак.

**ДЗІЧ** *ж. зб.* Дзічына, дзікія звяры. *Дзічы ёсь троху: алень, къбан, козы ёсь.* Марозаўка.

**ДЗІЧ** *ж.* Дзікі, пужлівы. *Проста дзікая курыца, дзіч, а гетыя спакойныя, з рук будуць дзіўбаць.* Вялікі Азярэцк.

**ДЗІ́ЧКА** *ж.* Бародаўка, нарасць. *Дзіч, дзічка – эта адно і тожа.* Запруддзе. *Калі дзічкі на насу – дзікая мяса, то матка шыла у Калядьі* (павер'е). *Чыстацел* [каб] *дзічкі вывóдзіць ім.* Вялікі Азярэцк, Фасаўшчына. *Чыстацел можна ад усягó, мáшся этым сóкам кадá дзічкі* [на руках]. Заазер'е, Сукрэмна. *Дзічкі выкусъ^ў^валі цыркуны.* Серкуці.

**ДЗІ́ЧКА** *ж.* Дзікая груша. *Дзічка пасóджана нъ гарóдзі.* Вялікі Азярэцк.

**ДЗІЧЫ́НА, ДЗІ́ЧЫНА** *ж. зб.* Дзічына, дзікія звяры. *Ўсякая дзічына у пушчы булá. Дзічыны ў лесі мнóга булó.* Багданава.

**ДЗІШАВЫ́** *прым.* Танны, недарагі. *Дзішъвáя гарэлка былá любáя.* Запруддзе.

**ДЗУГ-ДЗУГ-ДЗУГ** *выкл.* Выразна, ціха стукнуць. *Дзуг-дзуг-дзуг – у вакнó.* Савінічы.

**ДЗЫН-ДЗЫН** *выкл.* Перадача гукаў удару званочкаў. *Калакóльчыкі – дзын-дзын.* Ульянавічы.

**ДЗЮ-ДЗЮ-ДЗЮ** *выкл.* 1. Выгукі, якімі падзываюць свіней. *Свінню клічуць: дзю-дзю-дзю.* Вялікі Азярэцк, Фасаўшчына. 2. Выгукі, якімі падганяюць свіней. *Éслі гóніш парсюкá, гавóрыш дзю-дзю-дзю.*

**ДЗЮ́БА** *ж. зневаж.* Нос. *Так піў, што дзюба ссінéіць.* Міцюкова.

**ДЗЮ́БКА, ДЗЮ́ПКА** *ж.* 1. Дзюба. *Дзюбкай курыца дзяўбéцца. Курыца дзюпкай дзяўбéць, па-руску клёў.* Буй. *Дзюб^п^ка у курыі. Дзюпка – дзяўбéць птушка.* Багданава. *Дзюб^п^кай клюéць зярнó пятух.* Розмыслава. *Сарóка ў дзюпку яйцó – і пы^ъ^ніслá.* Сянно, Вялікі Азярэцк, Серкуці. 2. Рот. *Вадьі ў дзюпку улілá гусíне.* Каралевічы.

**ДЗЮХ-ДЗЮХ** *выкл.* Выразна, ціха стукнуць. *Чуéм у вакнó: дзюх-дзюх ктó-то.* Савінічы.

**ДЗЮ́ШКА-ДЗЮ́ШКА** *выкл.* Выгукі, якімі падзываюць свінню (парася). *Як уцячэць свіння, заву да сябé: дзюшка-дзюшка.* Розмыслава.

**ДЗЯБЁЛЫ, ДЗЮБА́ЛЫ** *прым.* 1. Крэпкі, дужы. *Дзет быў дзюбáлы, крэпкій, сам рубіў, сам імшыў.* Міцюкова. *Дзет быў такі дзюбáлы, харóшы.* Кішуроўшчына. 2. Дужы, агрэсіўны. *Стóіць усéрдзіць – янá дзéўка дзябёлая, дасць.* Ульянавічы.

**ДЗЯВО́СТВА** *н.* Дзявоцтва. *А гéта шчэ дзявóства, як дзяўчынай былá.* Нямойта.

**ДЗЯВО́ЦКІ, ДЗЯВО́ЧЧЫ** *прым.* Дзявочы. *Хай будзіць дзявóцкая фамілія.* Баравікі. *Дзявóччае фамілі я ні знáла.* Багданава.

**ДЗЯВО́ШЧЫНА** *ж.* Дзявоцтва. *У маéй дзявóшчыне éта былó.* Гарадзец.

**ДЗЯ́ГА** *ж.* Рэмень, папруга. *Дзягъю табé як дам.* Багданава. *Дзет, я ні найду твaé дзягі.* Фасаўшчына.

**ДЗЯГНО́** *н.* 1. Страва, прыгатаваная з канапель. *Патаўчэш, расцярэш вадóй жмыхі тые, звáрыш, цыбуліну, трóшкі пасаліць, і дзягнó.* Ракаў Засценак. *Дзягнó с ка^ъ^напéль, пераме́люць, мукá ёсць, замéшваюць.* Розмыслава, Запруддзе, Кляпчэва, Рэчкі, Чуцькі. 2. Страва з варанага канаплянага малачка. *Дзягнó варылі с кънапéль, малачкó такóё бéленькаё.* Багданава. *Дзягнó – смітáна такáя, таўклі, варылі канóплі, збірáлі пéну перад пóлымем, дужа смáшная.* Марозаўка. *Дзягнó варылі: таўклі канóплі, злівáлі мълакó, з мълъкá варылі дзягнó. Пъстáвіць варыцца, стáніць ускіпáць, збірáіць звéрху, зноў вáруць і збірáюць. Янó пахучае, бліны мъкáлі. Дзягнó дзéлълі с кънапéль, таўклі канóплі, змувáлі мълакó, з гэтъга мълъкá варылі дзягнó.* Кішуроўшчына, Буй, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Дольдзева, Каралі, Партызаны, Рэчкі.

**ДЗЯ́ДЗІНА** *ж.* Жонка дзядзькі. *Дзя́дзьку схаранілі і дзя́дзіну за ім у нъга́х.* Баравікі, Закур'е.

**ДЗЯ́ДЗЬКА** *м.* 1. Дзядзька. *Мы на по́лі ў дзя́дзькі былі.* Алексінічы. *У сва́ты бра́лі сва́та, дзя́дзьку за сва́та, со́дзюць іх на ку́це.* Леснікі. 2. Любы́ мужчына. *Гэ́та прышо́ў тэй дзя́дзька, што ле́тъм прыхо́дзіў, ся́нні прышлі.* Міцюкова.

**ДЗЯДО́К** *м.* Калок (для кіравання крыгай). *Дзядо́к у канцы́ кры́гі пыддзіржа́йіць.* Багданава.

**ДЗЯДО́ЎНІК** *м.* Лопух (расліна). *Дзядо́ўнік калю́чы расце́ць, бурачко́вым цве́там цвіціць, яго́ по́ўна.* Каралі. *Дзядо́ўнік ко́лкі, як іго́лкай уко́ліць, як дато́ркнішся.* Запруддзе, Вялікі Азярэцк, Нямойта, Рулёўшчына, Фасаўшчына. *Дзядо́ўнік ве́шалі у хляве́ перад Купа́ллем, ссячэ́ш тапаро́м, ве́шаеш у хле́ве.* Цясішча. *Дзядо́ўнікам – карэ́ннем – мы́юць гълаву́.* Мянюцева. *Дзядо́ўнік сабіра́юць, па ба́бках хо́дзюць, ваду́ бяру́ць – ад пу́ду. Дзядо́ўнік сабіра́юць, тады́ вадзі́чкай дзяцёнка скупа́юць і піць даю́ць.* Цясішча. *Дзядо́ўнік, як атлажэ́нне сале́й, к нага́м прыклада́юць.* Гарадзец, Алексінічы, Марозаўка, Рулёўшчына.

**ДЗЯДО́ЎНІНА** *ж.* Тое ж. *А кълю́чая тъка́я тръва́ дзядо́ўніна. Во зъ яе́ не́ік узя́цца. Іна́ бъльша́я расце́ць, бъльша́я.* Запруддзе, Цясішча.

**ДЗЯДУ́ЛЯ** *м.* Дзядуля, дзед. *Дзяду́ля, пакажы́ця, якія грыбы́ вы бірыцё.* Сукрэмна.

**ДЗЯДЫ́** *толькі мн.* 1. Дзень памінання памерлых. *Іх тро́я Дзядо́ў бува́юць. Быва́юць Дзяды́ уво́сінь.* Запруддзе. *Дзяды́ бываюць адны́ перат Акця́брскімі, адны́ нъ Ма́слінку і нъ Ра́даніцу Дзяды́ і Ду́ха – чэ́цьвіра Дзядо́ў быва́іць.* Нямойта. *Дзяды́ перат но́вым го́дам, перат Тро́йцай быва́юць Дзяды́.* Вялікі Азярэцк. *Трэ́ція Дзяды́ быва́юць ат Пакро́ва да за́гвін, пасярэ́дзіне. Чацвёртыя Дзяды́ – як Ма́слінка, перад Ма́слінкай.* Каралевічы. 2. Рытуальная вячэра ў памяць памерлых. *На Дзяды́ абіза́цільна по́ліўка, ка́ша, клёцкі, мя́са, астально́е па вазмо́жнасьці.* Гарадзец. ○ ДУХАЎСКІ́Я ДЗЯДЫ́. Дзень памінання памерлых, які выпадае на свята Духа (Сёмуху або Тройцу). *Духаўскія Дзяды́ – е́та Ду́ха, Тро́іца, е́та ле́там.* ○ МІСАЁДНЫЯ ДЗЯДЫ́. Дзень памінання памерлых, які выпадае на мясаед, – тыдзень, што папярэднічае Масленіцы і на працягу якога дазвалялася есці мяса. *Місаёдныя Дзяды́ – е́та во зімо́й.* Запруддзе, Гарадзец. ○ ДЗМІ́ТРАЎСКІЯ ДЗЯДЫ́. Дзень памінання памерлых, які выпадае на Дзмітраўскую суботу. Гарадзец. ○ ПАКРО́ЎСКІЯ ДЗЯДЫ́. Дзень памінання памерлых, які выпадае на Пакровы, – старажытнае земляробчае свята. Гарадзец. ○ РА́ДАНСКІЯ ДЗЯ́ДЫ. Дзень памінання памерлых, які выпадае на Радаўніцу. *Ра́дънскія Дзяды́ пасля Па́скі ўва́ ўто́рнік.* Багданава. ○ РА́ДАЎНІЦКІЯ ДЗЯДЫ́. Тое ж. *Дзяды́ бу́дуць Ра́даўніцкія по́слі Па́скі. Дзяды́ быва́юць у мя́савіт, мясаёдныя, і на Тро́іцу.* Багданава.

**ДЗЯЖА́** *ж.* Дзяжа. *У дзяжы́ рашчы́на нахо́дзіцца. На рэ́шата прасе́іш муку́, карто́шкі здзярэ́ш, разме́сіш, со́лі сы́піш, вы́месіш, каъчарго́й жар выга́ртваеш, пъмяло́м вы́мецііш, на лапа́ту дзервя́нную – і ў печ. Так хлеб пяклі.* Міцюкова, Вялікі Азярэцк.

**ДЗЯ́ЖКА, ДЗЯ́ШКА** *ж.* Рэмень, папруга. *Дзя́шкай падпера́зваецца.* Каралі. *Хуць плач, ні плач, Со́нечка, / Павязу́ць цябе́, / Там пла́кацi не даду́ць. / Уні́муць сэ́рданька ла́скаю, / Уватру́ць слёзачкі дзя́жкаю* (з песні). Вялікі Азярэцк.

**ДЗЯЙСЦВІ́ЦЕЛЬНЫ** *прым.* ○ ДЗЯЙСЦВІ́ЦЕЛЬНАЯ (служба). Тэрміновая вайсковая служба. *Атслужы́ў два гады́ дзяйсцві́цельнай* [службы]. Карпавічы.

**ДЗЯК** *м.* Дзяк. *Прыяжджа́лі поп і дзяк, глядзе́лі цэ́ркву.* Буй.

**ДЗЯ́КАВАЦЬ** *незак.* Дзякаваць, выказваць падзяку. *Я дзя́каваў до́ктару.* Запруддзе. *Дзя́куй вам, што пазы́чылі.* Нямойта, Запруддзе, Міцюкова, Ульянавічы.

**ДЗЯКО́Ў** *прым.* Дзякаў. *У дзяко́вым до́мі жыў тэй сырыкаты́сішнік.* Алексінічы.

**ДЗЯ́КУЙ, ДЗЯ́КУЙЦЯ** 1. *выкл.* Выяўленне ўдзячнасці. *Пъмыга́й бох! – Дзяку́й!* Каралі. 2. *м.* (?). Падзяка. *Ай, Са́шачка, кажу́ дзя́куй табе́.* Вялікі Азярэцк. *Калі што бярэ́ш у каго́, то гаво́рыш дзя́куйця.* Нямойта.

**ДЗЯЛЕ́ННЕ** *н.* Метка, пазнака на чым-н. *На ды́шле дзяле́нні кап глы́бей, ме́льчы* [пахаць], *для глубіны́ ўспа́шкі.* Нямойта.

**ДЗЯЛІ́ЦЦА** *незак.* 1. Дзяліцца, рабіць падзел гаспадаркі. *Ну й жылі́, жылі́ ра́зам, а тады́ заду́малі дзялі́цца.* Самсоны. 2. Аддаваць. *Хто се́рца ймеў, той с пасле́днім дзялі́ўся.* Марозаўка.

**ДЗЯЛІ́ЦЬ** *незак.* Дзяліць, размяркоўваць. *Дзялі́лі е́ту зямлю́, што была́.* Марозаўка. *У Юсты́на была́ гру́шына лі мяжы́, то дзялі́лі с cусе́дам яе́ папъла́м.* Гарадок. *Пъсля вайны́ было́ пя́ціра. Адно́ яйцо́ нъ дваі́х дзялі́ла.* Манголія. *Як што было́ ў каго́ дзялі́ць, так дзялі́лі.* Самсоны. *А тут Бох дзе́ліць по́раўну: і бага́тага і бе́днага – усі́х бярэ́ць к сабе́, на той свет ўсі́х бярэ́ць к сабе́: і харо́шага, і дрэ́ннага, і сляпо́га, і крыво́га.* Запруддзе.

**ДЗЯРАВЕ́НСКІ** *прым.* Вясковы. *Кап тут дзяраве́нскаму так е́сці дава́лі.* Вялікі Азярэцк.

**ДЗЯРНЕ́ЎЯ** *н. зб.* Дзёран. *Зімо́й як ста́нуць кънпа́ць дзярне́ўя, як харо́нюць. Дзярне́ўя кіда́юць на дъмаві́ну.* Багданава.

**ДЗЯРНУ́ЦЬ** *зак.* Моцна пацерці, церануць. *Як дзярне́ш мача́лкай, як крапі́вай абдзе́рнесся, апстрыкне́сся.* Багданава.

**ДЗЯРО́НІКІ, ДЗЯРО́ННІКІ** *мн.* Дранікі; аладкі, бліны з дранай бульбы. *Дзяро́нікі пяклі́, дзе́рлі на та́рцы.* Гарадзец. *Дзяро́нікі з дзяро́най бу́льбы.* Фасаўшчына. *Бліны́ былі́ дзяро́нікі, мъка́лі ў дзягно́.* Кішуроўшчына. *Дзяро́нікі надзяро́м, атцэ́дзім, ці ла́дачкамі паджа́рым, ці ў які́ тук – і ў чугуно́к.* Леснікова. *Дзяро́ннікі дзе́лалі, уку́сна.* Багданава, Запруддзе, Леснікі, Рэчкі. ДЗЯРО́ННІЧКІ *памянш.* *Бліно́ў-дзяро́нннічкаў напячэ́ць.* Багданава.

**ДЗЯРО́НКА** *ж. зб.* Тое ж. Рэчкі.

**ДЗЯРУ́ГА** *ж.* 1. Посцілка, вытканая з парванага на стужкі старога адзення, тканіны; дзяруга. *Тка́лі дзяру́гі тра́пачныя, накрыва́ліся і́мі.* Запруддзе. *Дзяру́га – з тра́пак тка́лі, накрыва́лісі, ка́па ціпе́р заву́ць.* Партызаны. 2. Посцілка або коўдра з палатна. *З пълатна́ – е́та дзяру́гі зва́лі, накрыва́ліся і́мі. Дзяру́га ў дзве рэ́дзі, паснуе́ш і вы́тчэш. Як спа́лі, накрыва́ліся дзяру́гай, о́бшчая на ўсі́х, усярэ́дзіну нало́жуць кудзе́лі.* Гарадзец.

**ДЗЯРЭ́ЎНЯ, ДЗЯРО́ЎНЯ** *ж.* Вёска. *У дзярэ́ўні тры такі́х чълаве́кі.* Багданава. *Дзярэ́ўня хлеб пашэ́ць, го́раду дае́ць, а цъна́ бо́льшъя.* Гарадзец, Каралевічы. *Воўк знёс ма́льчыка і яшчэ́ тры душы́ ў на́шай дзяро́ўні.* Вялікі Азярэцк. *Там была́ дзярэ́ўня бальша́я, ха́та на ха́це.* Закур'е, Дуброўкі, Неўгадава.

**ДЗЯ́СНА** *ж.* Дзясна. *Дзя́снамі што-не́будзь атці́сну.* Партызаны.

**ДЗЯТВА́, ДЗІТВА́** *ж. зб.* 1. Дзеці, дзетвара. *Дзятве́ па́сціла́юць гаро́хвіны спаць.* Неўгадава. 2. Лічынкі пчол, чарва. *Дзітва́ – чарвячкі́, з іх пчо́лы выво́дзяцца.* Вялікі Азярэцк. *Дзітва́ ў пчол ёсь.* Сянно. *Ва ўрэ́мя міда́збо́ра* [трутні] *саграва́юць дзятву́, но́сяць ваду́.* Нямойта.

**ДЗЯ́ТЛІНА**, **ДЗЯ́ЦІЛІНА** *ж.* Дзя́целіна, канюшына (расліна). *А гэ́та клёвір дзікі, дзя́тліна, дзя́ціліна.* Заазер'е. *Кунюшы́на ёта, а хто дзя́тліна ска́жыць.* Алексінічы. *Дзя́тліну нако́сіш на по́жні.* Самсоны. *Зь дзя́тліны пчо́лы бяру́ць.* Кляпчэва. ДЗЯ́ТЛІНКА *памянш. Бе́лая дзя́тлінка драбне́й, а кра́сная бо́льшая.* Кавалі.

**ДЗЯЎБА́ЦЬ**, **ДЗІЎБА́ЦЬ** *незак.* 1. Дзяўбаць, дзяўбці. *Дзя́цел у ле́сі дрэ́ва дзяўбе́ць.* Каралевічы. *Бу́льба згніла́, і пту́шкі німа́ чаго́ дзіўба́ць.* Міцюкова. *Ку́ры дзяўбу́ць усё, і ёршыкуў. Про́ста дзі́кая ку́рыца, дзіч, а ге́тыя спако́йные, з рук бу́дуць дзіўба́ць.* Вялікі Азярэцк. 2. Выдзёубаць чым-н. *Ву́ллі былі́ із дзе́рава, дзіўба́лі стаме́скай.* Багданава. 3. Стукаць чым-н. *Што ты там дзяўбе́ш мълатко́м ці тъпаро́м?* Нямойта. 4. Есці патроху. *Ідзе́ш і дзяўбе́ш гэ́ту бу́лку.* Запруддзе.

**ДЗЯЎЧО́НКА** *ж.* Дзяўчынка. *Ма́лая дзяўчо́нка была́ ў мяне́, дзяцёнык.* Багданава. *Я прые́хала сюды́ яшчэ́ дзяўчо́нкай.* Міцюкова. *Яна́ б мне і палы́ падцёрла, дзяўчо́нка.* Дольдзева, Самсоны. ДЗЯЎЧО́НАЧКА *ласк. Тъма́ра с дзяўчо́нъчкай пъшла́.* Багданава.

**ДЗЯЎЧУ́РЫЧКА** *ж.* Ласкавы зварот да дзяўчыны. *Схадзі́, дзяўчу́рычка, вады́.* Запруддзе.

**ДЗЯЎЧЫ́НА**, **ДЗЕ́ЎЧЫНА** *ж.* Дзяўчына. *Дзяўчы́на бъльша́я ўжо.* Партызаны, Марозаўка. *Я ў вако́п з дзяўчы́нъй пабе́гла.* Неўгадава. *Се́ннінская дзе́ўчына, чаму́ ш ні зна́іш.* Партызаны, Вялікі Азярэцк. *Ма́ма захварэ́ла, паме́рла, астало́ся пяць дзяўчы́н.* Закур'е.

□ *Гаду́й дзяўчы́ну, рыхту́й пяры́ну.* Запруддзе.

**ДЗЯ́ЦЕЛ**, **ДЗЯ́ЦІЛ** *м.* Дзяцел. *Дзяце́л астае́цца на зіму́, ён у дупле́.* Лесніково. *Шэ́ры дзя́ціл сту́каіць у дзе́рава.* Багданава. *Дзя́ціл ёсь і цяпе́р.* Буй.

**ДЗЯЦЁНАК**, **ДЗІЦЁНАК** *м.* Дзіця. *Со́дзюць дзяцёнка на кажу́х лахма́ты, каб быў бага́ты. Ло́жуць хлеб і гро́шы, і бума́гу, і карандашы́. Што во́зьмець, тады́ ужо́ то́е і бу́дзіць.* Запруддзе. *Век ні дась дзяцёнку.* Кішуроўшчына. *І нъ дзяцёнка ска́жуць: та́тъчка мой ро́днінькій і нъ ба́цьку.* Міцюкова. *Дзіцёнък ні къцянёнък. Дзе б атдыхну́ў дзіцёнак, дак усе́ к стары́м е́дуць на по́мач.* Запруддзе, Заазер'е, Самсоны, Фасаўшчына, Ульянавічы. *На хутара́х жылі́, дзяцёнкаў двана́ццаць.* Дуброўкі. *Як спужа́йіцца дзіцёнък, то та́мыцька ба́бы вады́ бяру́ць.* Закур'е. ДЗІЦЯНЁНАК *памянш.-ласк. Сяджу́ адна́ з тым дзіцянёнкам.* Запруддзе.

**ДЗЯЦЁНЫШ**, **ДЗЯЦЁНУШ** *м.* Маладая істота звера або птушкі. *Вавёрчын дзяцёнуш на ве́тку скок.* Багданава. *У буцяна́ па́ры, то́лькі па́ры. Е́слі бу́дзіць пяць яе́ц, то ён ці яйцо́ скі́ніць, ці дзяцёныша свайго́.* Нямойта.

**ДЗЯЦІ́НЫ**, **ДЗЯЦІ́ННЫ** *прым.* 1. Дзіцячы; які мае адносіны да дзяцей, належыць дзецям. *Мо́жа сы́йдуцца, памі́ръцца, дзяці́нны ба́цька бу́дзе.* Багданава. *Гэ́та дзяці́нъя ко́йка.* Рэчкі. *Дзе дом дзяці́ны, там і прыстарэ́лыя.* Серкуці. 2. Які мае адносіны да дзятвы, чарвы. *Буць тру́тні, буць ча<sup>ъ</sup>рва́ дзяці́нная, ма́тка* [пчаліная] *ад дзяце́й ні́ку́ды не по́йдзіць.* Вялікі Азярэцк. ◊ ХАЙ ТАБЕ́ ДЗЯЦІ́ННЫ РО́ЗУМ. Прадраканне не развівацца разумова. *Свякро́ўка мая́ гаво́рыць: «Калі́ цябе́ руга́юць, ты то́лькі скажы́: хай табе́ дзяці́нны ро́зум».* Багданава.

**ДЗЯЦЮ́К** *м.* Дарослы хлапчук, хлопец. *Ты ўжо дзяцю́к.* Запруддзе.

**ДЗЯ́ЧЫЦЬ** *незак.* Раіць, казаць. *Свякро́ва мне дзя́чыла, што ні бяры́ся ні ра́зу за це́ла, а то знак бу́дзіць у дзяцёнка.* Чуцькі.

**ДЗЯШЭ́ВЕЙ, ДЗЯШЭ́ВІЙ, ДЗЯШЭ́ЎЛІ** *прысл.* Дзешавей, танней. *У гарадáх прадýкты дзяшэ́вей, чым у дзярэ́ўні.* Гарадзец. *Як не выйдзіць, дзяшэ́віій куплялі.* Дольдзева. *Дзяшэ́ўлі прадáлі свінéй.* Дуброўкі.

**ДЛІННÁ** *ж.* Даўжыня. *У длінну́ складáлі.* Турава.

**ДЛІННАНÓГІ, ДЛІНАНÓГІ** *прым.* Даўганогі. *Длінаннóгі éты мáлец. Дліна-нóгі пашóў éты.* Гарадзец.

**ДЛІННАНÓСЫ** *прым.* Даўганосы. *Худы́, длінаннóсы такí.* Каралевічы.

**ДЛІННУВÁТЫ** *прым.* Даўгаваты. *Нос трóху длінувáты.* Багданава.

**ДЛÍННЫ** *прым.* Высокі, доўгі. *Длíнны, як жэ́рдзіна.* Розмыслава.

**ДЛЯ, ДЛІ** *прыназ.* Для. *Былá камóрка для сáла.* Нямойта. *Для пóмачы ўзялí тры чълавéкі.* Марозаўка. *Свінню сем гадóў дзіржáлі, длі пърсят харóшъя былá.* Рулёўшчына.

**ДМУХАВÉЦ** *м.* 1. Дзьмухавец, адуванчык (расліна). *Къла дарóх расьцéць дмухавéц.* Кляпчэва. *Дмухавéц завýць, як усё пóля цвіціць.* Леснікова. 2. Казелец, кураслеп (?; расліна). *Дмухавéц – éта люціk, ат ягó мóгуць пчóлы пагібáць.* Кляпчэва.

**ДНЎШКА** *ж.* Дашчэчка. *Кіндзюк с сáла, мя́са, нáда трóшачкі падвары́ць і ў мáрлю палажу́, звяжу́ і днýшкай націскáю і пат кáмень.* Жохава.

**ДНЯ́МІ** *прысл.* 1. У бліжэйшы час. *Карóва далжнá цяліцца дня́мі.* Запруддзе. 2. Нядаўна. *Дня́мі ка мне захадзіла.* Нямойта.

**ДО, ДОСЬ, ДОСТ** *прысл.* Досыць, дастаткова, хопіць. *Тры кънáвы кóсім, так нам сéна і до.* Багданава. *Ціпéр зямлí до усíм.* Самсоны. *Абжóра, ясí ні пакýль до, а пакýль усё* [не з'ясі]. Нямойта. *У нас ны брыгáдзі буракí – па сем кілагрáмуў бурáк! Два буракí і до несьць.* Баравікі. *Мне днэй грып і до.* Сукрэмна. *Усягó до былó на маíм жыццí.* Партызаны, Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадок, Запруддзе, Леснікова, Нямойта, Чуцькі. *У дзярэ́ўні прáцы дось.* Манголія. *Дось ужó наъкалыхáла.* Дуброўкі. *Ёй дост, рабóты мнóга.* Каралі.

**ДÓБРА** *прысл.* 1. Добра. *Маўчы́ць ён, ці худóе ці дóбрае, ці ямý дóбра ці хýда.* Вялікі Азярэцк. *Дóбра, што калóдзісь вы́късалі.* Міцюкова. 2. Шмат, многа. *Дóбра плацілі, пъ чаты́ры пíдзісят плацілі зъ жывэ́й вес авéчкі.* Неўгадава.

**ДÓБРЫ** *прым.* 1. Шчыры, сардэчны. *Алé былá дýжа дóбрая* [суседка]. Леснікова. 2. Умелы, гаспадарлівы. *У дóбръга хъдзяíна усю́дых дóбра.* Каралевічы. 3. *н.* Добрае, тое, што ставарае злагоду, камфорт. *Калí прышлá за дóбрым, прыхадзí, а зы плахíм – за дзвéры* [так сустракала жанчыну шаптуха ў в. Свечы]. Заазер'е. *Што я вíдзела дóброе? – Нічóга.* Заазер'е. ◊ ДÓБРАГА ВЎТРА. Вітанне раніцай. Міцюкова. ◊ ДÓБРЫ ДЗЕНЬ. Вітанне днём. *Дóбры дзень у хáту.* Багданава, Міцюкова, Нямойта. ◊ ДÓБРЫ ВÉЧАР. Вітанне вечарам. Нямойта. ◊ У ДÓБРЫ ЧАС. Пажаданне поспеху. *Ну, у дóбры час – на ўлучшэ́нне.* Заазер'е.

**ДОЖДЖ, ДОШЧ, ДОШ** *м.* Дождж. *Дажджý не былó, а цяпéр ллець і ллець. Дош ішóў нъ Івáна – пяць дней бýдзіць пóслі ісцí* (прыкмета). Вялікі Азярэцк. *Без дажджý і травá ні расцéць.* Дольдзева. *Прóсіш ты каня́, як дóжджу.* Буй. *Перадавáлі: дóжджу ня бýдзіць, а ўсё крýціць, лóміць.* Нямойта. *Цімахвéйіўка дóжджу ні баíцца.* Гарадок. *Як дажджý німá, тады́ пыл на дарóзі. Нáда узя́ць мáку і усы́паць у калóдзесь, тады́ дош пóйдзіць* (павер'е). Багданава, Мянюцева, Ракаў Засценак, Чуцькі. *Мак сы́палі ў калóдзесь. Вéнікі, што мяцéш, так у печ спаліць, то дош бýдзіць. Так я лéтась кідáла. Як хъвáць вязýць і дош ідзéць, то къзáлі: ён спрыя́ець тамý, у тýю сям'ю, дзе ён жыў* (павер'е). Гарадзец. *Éслі пітухí*

*паюць у дошч, бýдзіць пагóда* (прыкмета). Розмыслава. *Птýшкі ніска лётаюць – дош бýдзіць* (прыкмета). Каралевічы. *Пітухі пяюць на дош.* Серкуці. *Дош бýдзіць, калі на шчыкéт лéзуць кýры. Дош ідзéць, як вясéлле, скáжуць: мъладýха лізáла къпатóўку.* Дольдзева. *Скажýць, къпатóўкі лізáлі і пéнкі éлі, затым дош ідзéць нъ вясéллі. Як дош ідзéць на вясéллі, скáжуць, што шчаслівъя пáра, дóбра, калі дош. Сніцца: дош ідзéць – слёзы бальшэ́я* (павер'е). Ракаў Засценак. *Штоп дош пашóў, то ўсягó дзéлалі. Німá дóжджу, то мак у калóдзіш сыпалі.* Сукрэмна, Фасаўшчына. *Кап дош пашóў, цікýн – мак – сыпалі ў калóдзеш, кап ніхтó ня відзіў. Мак каб лéта пірабыў, кап прашлагóдні. Кап дош пашóў, дзéўкі ръздзівáліся, гóлыя дарóгу арáлі на крыжавýхі, тры-чатыры плух цягнуць.* Нямойта. *Дош бóкам пашóў – нéхта на святэ́й нядзéлі гърадзіў – дош зъгърадзіў* (павер'е). Нямойта. ◊ СЛЯПЫ́ ДОЖ (ДОШ). Дождж пры сонцы. *Сьляпы́ дож – як сóнца і дош, на тым свéці пакóйнікъм рай.* Кішуроўшчына. *Сьляпы́ дош – калі сóнца і йдзець дош.* Ракаў Засценак.

□ *Ні тады́ дош ллець, як прóсіш, а тады́, як кóсіш.* Дольдзева, Чуцькі.

**ДÓЙКА** *ж.* 1. Даярка. *Нявéстка дóйкай рабóтаіць.* Гарадзец. 2. Даільны апарат. *Дóйка дóіць, а калі не дóіць, то карóў нáда рукáмі падаіць.* Запруддзе.

**ДÓЙНЫ** *прым.* Дойны, які дае малако. *Тры карóвы дóйных – і вядрó ні надóіць.* Багданава.

**ДÓКТАР** *м.* Доктар, лекар. *Дóктара не даждáла, памéрла.* Багданава.

**ДÓЛАТА, ДАЛАТÓ** *н.* Цяслярскі і сталярскі інструмент; долата. *Дóлата дзіркі даўбáць, рáмы дзéлаюць, тóўстае.* Запруддзе. *Даълатó былó, прабівáлі дзіркі.* Гарадзец. *Дълатó бувáла былó.* Вялікі Азярэцк. *Выдáўбалі даълатóм дуплó з дрэ́ва.* Закур'е. *Дзюбка у буцінá што дълатó.* Серкуці.

**ДÓЛЯ** *ж.* Доля. *Мая́ дóля дýжа дрэ́ннъя.* Кішуроўшчына. *Такáя ягó дóля катóва: на пéчцы ляжáць.* Фасаўшчына. *Як у мъладóга нóгці цвітýць, то кáжуць: дóля красýіцца* (павер'е). Нямойта. ДÓЛЕЧКА *ласк.* *Каб ты сваю дóлечку ня відзіў!* (праклён). Запруддзе.

□ *Рóдзіцца дóня (дóнька), то бýдзя ямý й дóля (дóлька).* Каралевічы. □ *Рóдзіцца дóнька, дасьць Бох дóльку.* Каралевічы.

**ДОМ** *м.* Дом, хата. *На ўсе Нóвэ Сялó дом стаіць.* Вялікі Азярэцк. *Нóвы дом сніцца – да смéрці* (павер'е). Ракаў Засценак. *Ні пайдý, дачýшка, ні пайдý. / Ё ў цябé мамýлька у дамý. / Хай дасць пърáдък усямý* (з песні). Каралевічы. *У Чáшнікъх ёсь сім'я́ – дзісяціра дзяцéй, то йім дом пастрóілі су ўсёй выгъдуй.* Закур'е. *Пашóў на рабóту дамы́ стрóіць.* Неўгадава.

**ДÓМА** *прысл.* 1. Дома, у хаце. *Прыхаджý я й кажý дóма: забярýць нéмцы.* Леснікова. 2. Побач, недалёка ад сядзібы. *Ягыды дóма, грыбы́ тýта. Во вышаў і бяры́.* Сянно.

**ДÓМІК** *м.* Вулей. *Стáўка на сукáх, вярóўкай тáмацька прывя́жыцць к сукý, мы яé ў дóмік, аткрыем з аднэ́й стараны́, дыму дадзім, пчóлы ў лётку, як карóвы с пóля.* Вялікі Азярэцк.

**ДÓМІКАМ** *прысл.* Складванне сена (саломы) у выглядзе дома. *Стох дóмікам, дліінны – гэ́та скірдá.* Фасаўшчына.

**ДОР** *м.* Тонкія дошчачкі метровай даўжыні; драніца, дранка. *Дор дзярýць адзін метр длінóй, шаранá усякая. Дор драў, мятрóвыя дóсачкі.* Ульянавічы.

**ДÓСВІТА, ДÓСВІТ, ДАСВІ́ТА** *прысл.* Да світання, на досвітку. *Устáніць дóсвіта, хлéба памóчыць, укýсіць.* Нямойта. *Мы устувáлі дóсвіта, мя́лі лён, бáбы*

*тръпáлі.* Чуцькі. *Устáнем дóсвіта і лён трэ́плем.* Запруддзе, Багданава, Гарадок, Розмыслава, Ульянавічы. *Дóсвіт малаціць нáда жыта, ячмéнь цъпáмі.* Гарадзец. *Картóшкі дасвіта зварыла.* Ульянавічы.

**ДОТ** *м.* Дот. *Там быў дот нямéцкі, гдзе царквá стаяла.* Алексінічы. *Мы набрáлі падýшкі – і ў дот за гумнóм, акрáз і засталіся.* Партызаны.

**ДОЎГ** *м.* Доўг, пазыка. *Ніяк з дóўгу не выб'юся.* Партызаны. *Ці атдалá ты мáткі доўг?* Нямойта, Сянно.

**ДÓЎГА** *прысл.* Доўга. *Дóўга дóма былá.* Нямойта.

**ДÓЎЖАНЬКІ** *прым.* Даўгаваты, даўжэй зададзенага памеру. *Абрýч такí дóўжанькі.* Вялікі Азярэцк.

**ДÓХНУЦЬ** *незак.* 1. Дохнуць, здыхаць (пра жывёлу, птушак, насякомых). *Патпячэ́ць мухамóр, смітáнай абальéць, на aкнó палóжыць, яны й дóхнуць, й дóхнуць* [мухі]. Запруддзе. *Карóвы дóхлі трóху.* Запруддзе. *Унóсяць удабрэ́нне, папыляць дабрó, птýшкі і тыя дóхнуць. Ні лісіц, ні зайцóў ня стáла.* Дуброўкі. 2. *экспр.* Паміраць. *Мне дóхнуць нáда, а хто бýдзе усé насіць.* Вялікі Азярэцк.

**ДÓШКА, ДÓСКА, ДАСКÁ** *ж.* Дошка. *Дóшкі нъ падлóгу.* Гарадзец. *Дóшчак прывязём, а пол кладзі самá.* Вялікі Азярэцк. *Паёк, як бóчка, і з дасóк.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Нямойта. *Даскáмі прыбіў плёнку к сцянé.* Партызаны. ◊ ЧÓРНАЯ ДАСКÁ. Спіс людзей, якія падлягалі рэпрэсіям. *Чóрная даскá былá: пупáў на яé і на выселку пашóў* [у гады калектывізацыі]. Нямойта.

**ДÓШЧАЧКА, ДÓСТАЧКА** *ж.* 1. Дошчачка, вузкая драўляная палоска, кароткі адрэзак дошкі. *Люлька с такіх дóстачак.* Гарадзец. *Дъўжá – дóстачка перад лёткай, ёю засóўваюць.* Вялікі Азярэцк. 2. Матэрыял для пакрыцця даху; дранка. *Хáта былá крыта дóшчъчкамі ў тры слайі.* Міцюкова. *Пат гéтым шыферам дóшчъчка. Дóшчъчкай пакрыта.* Мянюцева. 3. Вузкая пласцінка, праз якую праходзяць вяровачкі ад панажоў у кроснах. *Дóшчъчкі ззáдзі нітóў. Яны вот гэ́ты зеў* [робяць], *як пóныш нажмéш* [нагой]. Заазер'е. 4. Вузкія драўляныя дошчачкі ў кроснах, з дапамогай якіх утвараўся зеў асновы; чыны. *Дóшчачкі звáлісі, што пірасóўвалі за нітáмі на крóснъх.* Закур'е. *Дóстачкі ў нíткі аснóвы укладáюцца. Дóшчачкі, ніцікі – усё аднó і тóе ш.* Леснікова. 5. Драўляная палоска з дзіркамі, прызначаная для снавання пражы з двух клубкоў. *Дóстачка сдзéлана і дзве дзірачкі, іс двух клубкóў снуéш.* Леснікова.

**ДРÁБАЦЬ** *незак.* Рыхліць, матычыць. *Зямлю дрáбалі.* Баравікі.

**ДРАБÍНКА** *ж.* Крыху, невялікая колькасць чаго-н. сыпучага. *Драбінку сóлі усып.* Вялікі Азярэцк.

**ДРАБÍНЫ** *толькі мн.* 1. Калёсы, воз. *Драбíны – э́та калёсы рáньшы назывáлі.* Багданава. 2. Кармушка для жывёлы, прымацаваная да сцяны; яслі. *У драбíнах вéрхнія і ніжнія жóртка, а пасярэ́дзіне пáльчкі, спéрадзі тóлькі ъдна жóрдъчка. Драбíны нáмертва прыкрэпляюцца.* Гарадзец.

**ДРАБÍЦЬ** *незак.* Драбніць. *Срáзу драбяць травý – вітамíнная мукá.* Партызаны.

**ДРАБНÉЙ** *прысл.* Больш дробна. *Ду-ду-ду – нямéцкі пулямёт, а наш драбнéй сакóчыць.* Леснікова.

**ДРÁБНУЦЬ** *зак.* Драпнуць, зашкрэбці. *Як цяпéр мышы тóлькі дрáбнуць, я не сплю.* Нямойта.

**ДРАБÓЧАК** *м.* Крыху, невялікая колькасць чаго-н. сыпучага. *Укíну драбóчак сáхару ў чай.* Вялікі Азярэцк.

**ДРА́БУШ** *м.* Стары венік без лісця; дзяркач, галень. *Ве́нік змяце́цца – е́та дра́буш.* Гарадзец.

**ДРАВАСЕ́К** *м.* Месца, дзе сякуць дровы; дрывотня. *Дравасе́к – дзе дро́вы сяку́ць.* Вялікі Азярэцк.

**ДРАГБУ́ЧЫ** *прым.* Дрыгвяністы, зыбкі. *Драгба́ – драгбу́чая ме́ста.* Фасаўшчына.

**ДРАЖНІ́ЦЦА** *незак.* Дражніцца, цвяліцца. *Узле́зім на трысце́н і дражні́ліся.* Буй.

**ДРАМАЧЫ́ЦЬ** *незак.* Драць, дзерці (пра горла). *Што́-та го́рла драмачы́ць-драмачы́ць, / Трэ́ба го́рла прамачы́ць-прамачы́ць* (з песні). Нямойта.

**ДРАНІ́ЦА** *ж.* Тонкія дошчачкі для пакрыцця даху; дранка. *Ране́й крылі ха́ту сало́май, драні́цай крылі, сало́май крылі.* Нямойта.

**ДРА́НКА** *ж.* Тое ж. *Дра́нку дра́лі і кры́лі ха́ту.* Багданава. *Шчапо́ю кры́лі, шчэ называ́юць дра́нка.* Гарадзец. *Ну ґонт, дра́нка называ́іцца.* Нямойта. *Стаў драць дра́нку, накры́ў дра́нкай.* Сукрэмна.

**ДРА́НІКІ** *мн.* Дранікі; аладкі, бліны з дранай бульбы. *З бу́льбы дра́нікі, ці драчёны. Дра́нікі дзярэ́ш і ка́шу дра́ную.* Вялікі Азярэцк. *Дра́нікі на та́рку дзяро́м. Дра́нікі ў смета́ну наъмаъка́лі.* Багданава. *Дра́нікі з бу́льбы.* Кляпчэва.

**ДРА́НЫ** *прым.* Драны, здробнены на тарцы. Вялікі Азярэцк. ○ ДРА́НАЯ (ДРА́ННАЯ) КА́ША. Бабка; бульбяная каша з дранай бульбы. *Дра́ная ка́ша – з бу́льбы, тры яйцы́.* Парэчча. *Ка́ша дра́нная: натру́ць бу́льбы, сцэ́дзюць, са́ла кусо́чкамі ма́ламі.* Багданава. *Бу́льбу надзяру́ць, жы́ру пакладу́ць – і ў печ. Яна́ ўту́шыцца, упа́рыцца, і ка́ша дра́ная.* Гарадзец. ○ ДРА́НЫЯ КЛЁЦКІ. Клёцкі з дранай бульбы. *Здзярэ́ш бу́льбы, на тра́пку, на палытня́ную атра́пку, атціска́еш, пасо́ліш, зме́сіш і кашае́ш, і дра́ныя клёцкі.* Вялікі Азярэцк.

**ДРАНЬ** *ж.* 1. Дрэнны, кепскі (пра чалавека). *Я з дра́нню гавары́ць ні ста́ну.* Парэчча. 2. Нешта нядобрае, кепскае. *Тады́ ка́жуць: дрань дзе́ла.* Каралі.

**ДРА́ПКА** *ж.* Вазок, выязныя калёсы. *Дра́пка – е́та калёсы з ра́мачкай, е́та праязны́я калёсы. Дра́пкі са спі́нкай запрагу́, перапрага́ю ў прасты́я са́нкі.* Нямойта. *Дра́пка нъзъва́лъся, калёсы такія выязны́я.* Серкуці. *Дра́пка прастэ́я* [калёсы], *Бо́гу малі́цца на Ма́слянку е́здзілі.* Леснікова.

**ДРАПЧА́К** *м.* Тое ж. *Драпча́к – е́здзіць па гасця́х. У драпчака́х зяле́зны ход.* Дуброўкі.

**ДРАТАВА́ЦЬ, ДРУТУВА́ЦЬ** *незак.* 1. Сноўдацца, шныпарыць (у пошуках гарэлкі). *Дзень драту́юць, к ве́чару бі́цца завяду́цца: панап'ю́цца.* Багданава. 2. Скакаць, вытанцоўваць. *Як по́йдуць друтува́ць, як ха́та ні ръзва́ліцца.* Вялікі Азярэцк.

**ДРА́ТВА** *ж.* Прамасленая або навошчаная нітка; дратва. *Дра́твай шы́лі, дра́цьвіна была́.* Турава. *Ва́лінак дра́твай патшыва́юць.* Нямойта.

**ДРАЎНІ́К** *м.* Хлеў або павець для дроў; дрывотня. *Гра́ды былі́ пат сцяно́й, для дроў былі́ драўні́кі.* Вялікі Азярэцк. *Драўні́к бы́ў, дро́вы склада́лі. Цяпе́р драўні́кі на ву́ліцы, дык нікрасі́ва.* Станюкі. *Дро́вы прынасі́лі з драўніка́. Дро́ва пераваз́ілі з драўніка́.* Ульянавічы. *Сухі́я дро́вы з гра́ды ў драўні́к складу́.* Серкуці, Гарадзец.

**ДРАХ** *выкл.* Ухапіцца, узяцца за ручку намацваючы. *На Купа́ла запру́ць у ха́це, драх – запёрта, у вакно́ вы́лезла.* Чуцькі.

**ДРА́ЦВІНА** *ж.* Прамасленая або навошчаная нітка; дратва. Турава.

**ДРА́ЦЦА** *незак.* 1. Дзерці (лазу, пер'е і да т. п.). *Дра́ліся лы́кі ў лясу́, пад ніз суко́нку, або́ркамі укру́цюць.* Леснікова. 2. Разрастацца, распаўзацца (па зямлі).

*Макрыца ніская такая, дзярэцца па зямлі.* Жохава. 3. *эмац.-ацэн.* Узбірацца, падымацца. *Дзярэсся на горкі, а пасля скатываесся* [пра жыццё]. Ульянавічы.

**ДРА́ЦЦА** *незак.* Біцца. □ *З сынам біся-дзярыся і на печ дзярыся, а з зяцем біся-дзярыся і за парог дзярыся.* Партызаны.

**ДРАЦЬ**, **ДЗЕ́РЦІ** *незак.* 1. Дзерці (лазу, лыка, пер'е і да т. п.). *Буду ездзіць у лес лазу драць –араблю сабе на гармонь.* Каралевічы. *Дралі лазу із ліпніку і на капыл плялі з вяровачак. Лазу дралі і лазой красілі.* Дольдзева. *Лыкі дралі і лапці насілі.* Жохава. *Падушкі сама сабе драла.* Багданава. *У нас зырання ны вяроўкі дзерлі лыкі.* Леснікова, Кішуроўшчына, Ульянавічы. 2. Ірваць, здымаць мох. *Мы ў соснічку мох дралі.* 3. Абдзіраць крупы. *І крупы дралі, і жыта малолі.* Нямойта. 4. Церці, драць (бульбу і інш.). *Дралі бульбу на тарцы.* Дольдзева. *Дралі картошку, атцэжывалі, вымесіш, вымесіш і пакачаіш клёцкі.* Багданава, Станюкі. 5. Разграбаць (грады і да т. п.). *Куры грады дзяруць, дык апшыюць трапкай лапкі.* Вялікі Азярэцк. 6. Ірваць, забіваць. *Пасля Пітра зізюля курэй дзярэць.* Гарадзец. 7. *перан.* Браць празмерна высокую плату. *Яны ш цяпер дзяруць за мёт.* Івоні. ◊ ДРАЦЬ КАЗЛЫ́. Крычаць, лаяцца. *Хазяіну худа, а жонка казлы дзярэць на яго.* Партызаны.

**ДРАЦЯНЫ́**, **ДРАЦЯ́НЫ** *прым.* Зроблены з дроту. *Былі дръцяныя і плеціныя з лык палотны ў рэшыты.* Заазер'е. *Адзін ляснік зыъбраў тры вуўчанёнкі ў дрыъцяныя скрыні.* Пожанькі.

**ДРАЧ** *м.* Дзяркач (птушка). *Драч, ён крычыць «кар-кар».* Сянно.

**ДРАЧАНЫ́** *мн.* Дранікі; аладкі, бліны з дранай бульбы. *Сын любіць дръчаны, я яму пяку.* Чуцькі.

**ДРА́ЧКА** *ж.* 1. Цяслярская прылада, якой адзначаюць лінію выбаркі паза. *Драчка – дзе нада роўненька атвесці на дашчэ ці бярну.* Вялікі Азярэцк. *Драчкуй прыдзярэш, а тады высічыш шпар.* Фасаўшчына. *Прадзярэць драчкай жалезнай* [бервяно]. Дольдзева. *Драчкай, кап плотна прышлося, с адной стъраны драчкай і з другой выдзіраіш.* Манголія. 2. Жалезны грэбень для часання лёну. *Былі драчкі: досочка, набіта гваздзей, апшліфованы харашо і апчосываіш лён, пасканню, і называлася кудзеля. Былі такія драчкі з гвозьдзя.* Дольдзева. *Драчка такая: гвоздзі набітыя, зрэб'я снімаецца, а куделя астаецца.* Фасаўшчына. *Часалі на драчках, аптрэпіш на трапушкі, спушчалі на драчках.* Вялікі Азярэцк, Леснікі, Рэчкі. *Драчка – доска тъкая, нъ яе набіта гвозьдзя часьцінька.* Закур'е. 3. Цёрка, тарка. *Дзёрці нада бульбу на драчцы.* Леснікова. *Драчка – што бульбу дзяруць.* Нямойта. *Карэння коньскага шчаўлюка дзяруць на драчцы.* Баравікі, Леснікі. ДРА́ЧАЧКА *памянш. Бурачкі сцярыце на драчачку, выцісніце сок – і давайце піць.* Розмыслава. ◊ дзелаць У ДРА́ЧКУ. Спосаб укладкі бярвёнаў (пры пабудове рубленых засекаў). *Рубленыя засекі ў клеці ў драчку дзелалі. Браўно к браўну падганялі плотна, жалабком такім дзелалі.* Гарадзец.

**ДРАЧО́ННІКІ**, **ДРАЧА́НІКІ** *мн.* Дранікі; аладкі, бліны з дранай бульбы. *Драчоннікі пяклі: бульбу надзярэш, троху аціснеш і пячэш.* Міцюкова. *Ідзіця, мама, чысціця бульбу, дзярыця бульбу і пячыця дръчанікі.* Чуцькі.

**ДРО́БНА** *прысл.* Дробна. *Гэты* [наш] *пулямёт дробна, а наш буйна сакочыць.* Леснікова. ДРО́БНЕНЬКА *памянш. Сала дробненька пакрышыць, бліны раскалаціць – і сала ў бліны.* Гарадзец.

**ДРО́БНЫ** *прым.* 1. Дробны, небуйны. *У нас клубніка дробная, як суніца.* Запруддзе. *Бульба дробная будзіць.* Вялікі Азярэцк. 2. Малаunion, шчуплы. *У нас*

*дробны нарóд.* Закур'е. ДРÓБНЕНЬКІ, ДРÓБНІНЬКІ *памянш. Сыны па мне – дрóбненькія.* Ракаў Засценак. *Бранец – ягады дрóбненькія.* Кішуроўшчына. *Чарніцы дрóбненькія.* Партызаны. *Дрóбнінькія такія стручкі ў віті.* Гарадзец. *Цяпер дрóбнінькая клюква.* Свечы. ○ ДРÓБНЕНЬКАЯ КРАПІВА. Жыгучка, пякучая крапіва з дробным лісцем. *Дрóбненькая крапіва завецца па-другóму жыгучка.* Заазер'е.

**ДРÓВЫ** *толькі мн.* Дровы. *Сасна паліцца – дрóвы гаърачые.* Партызаны. *Цвыркуна прынесла ў хату з драўмі.* Багданава. *Нъ КълядЫ гадаюць: дрóвы ў хату нясуць ахапък, шчытаюць. Калі пара, то замуш пóйдзіш, а калі лішка, то не.* Гарадзец. *Бес паджóгі дрóвы не гараць.* Каралевічы. *Дрóвы нада сеч.* Чуцькі, Гарадок, Забор'е, Міцюкова. *Дрóвамі тóпімся.* Неўгадава. *Гнілымі дрывамі цяпер таплю.* Дуброўкі.

**ДРÓЖДЖЫ** *толькі мн.* Дрожджы. *Дражджамі мълакó пахла.* Міцюкова.

**ДРОЗД** *м.* Дрозд (птушка). *У драздóў гнёзды, як чугуны крэпкія, яечкі шэранькія, як курачкі, крычалі.* Баравікі. *Дрозд$^{т}$ ё, салавей.* Багданава.

**ДРОСТ**, **ДРОЗД** *м.* Гарчак (расліна). *Дрост ніхтó ня есць, ён гóркі. Дрост па дварэ расцець, дужа гóркі, як перац, як лізнеш.* Запруддзе. *Дрост па бульбі расцець, гóркі, вісóкі.* Багданава. *Дрост гóркі, пóўна ягó.* Гарадзец. *Дрост абы-дзе расцець, гóркі.* Каралевічы, Алексінічы, Каралі, Сукрэмна. *Дрозд – тръва тъкая, яе дужа карóвы ні ядуць.* Кляпчэва.

**ДРОТ** *м.* Дрот. *Прычэпіць драты такія і нясець ваду* [на каромысле]. Каралевічы. ДРАЦІНКА *памянш. Па вярóвачцы, па драцінцы смаллянка далазіць да вóкарака. Смалянкі па драцінке на óкарак і аб'ядуць.* Парэчча.

**ДРУГ** *м.* Сябар. □ *Ня мей сто рублей, а сто друзей.* Запруддзе, Жохава.

**ДРУГАК** *м.* Другі ў залежнасці ад паслядоўнасці выхаду пчаліны рой. *Другак – другі рой – буваіць лучччы, чым першак, у другім мъладая матка, другей лучччы.* Вялікі Азярэцк. *Другак – другі рой, слабейшы, у эціх раях мóжа быць няплóдная матка.* Запруддзе. *На дзівятым дні мóжыць быць другак.* Кляпчэва. *Другак – другі рой.* Закур'е.

**ДРУГІ** *ліч.* 1. Другі. *Меншая дзевачка хадзіла ў другі клас.* Баравікі. *Прыехаў другую нядзелю.* Запруддзе. *Баню таплю чэраз нядзелю на другей. Маей сястры другей дзеці.* Партызаны. 2. *прым.* Іншы. *Буду другея, длінныя, штаны насіць.* Нямойта. *Ці ў нас, ці ў другей дзярэўні былі швейкі.* Партызаны. *Цяпер людзі другея.* Ульянавічы. *У Лепілі дóжджу ні былó, а ў нас дож, як другі край.* Запруддзе. 3. *н.* Іншае, адрознае ад мінулага. *Засаўкі былі ў дзвірах, а цяпер сусім другóя.* Багданава.

**ДРУГІННЫ** *прым.* Іншы, другі. *У другінны дзень сóнца таксама гуляіць.* Багданава.

**ДРУЖАЛЮБНЫ** *прым.* Дружалюбны, таварыскі. *І мы такея дружалюбныя былі.* Дуброўкі.

**ДРУЖАЦКІ** *прым.* Тое ж. *Мыскалі – дружацкія людзі.* Закур'е.

**ДРУЖБА** *ж.* Дружба, сяброўства. *Любóў то любóў, але і дружба нада.* Ульянавічы.

**ДРУЖНА** *прысл.* Дружна, у згодзе. *Пажаніліся і так дружна жылі.* Леснікова. *Кап ня сóрылісі, ні ругаліся, каб адзін аднагó уважалі, дружна жылі* (вясельнае пажаданне). Запруддзе.

**ДРУ́ЖНЫ** *прым.* ○ ДРУ́ЖНАЯ СЯМЕ́ЙКА. Пакаёвая кветка. *Цвет дру́жная сяме́йка, ссо́хніць, по́тым адуро́стачкі. Дру́жная сяме́йка – такі ў мяне́ вазо́н. Дру́жная сяме́йка* [вазон], *на зіму́ усе́ зва́люцца, а вясно́ю ра́зам усхо́дзюць.* Нямойта.

**ДРУЗГА́** *ж.* Дрыгвяністае месца (у возеры). *Бува́іць о́зіра, там гразі́шча, ста́ніш і мо́жыш утану́ць, е́та друзга́.* Сукрэмна.

**ДРУ́ЗЛЫ**, **ДРУ́СЛЫ** *прым.* Мяккі, рыхлы. *Ба́бка дру́злъя, пъдбяро́зъвік цвёрды, ба́бка чарне́йіць.* Пожанькі. *Здзе́лаіцца дру́слая капу́ста, нія́кая.* Запруддзе.

**ДРУЗЛЯ́К** *м.* Хілы, слабы. *Друзля́к ты.* Вялікі Азярэцк.

**ДРУНДУЧЫ́ХА** *ж.* Пустазвон, брахлівец. *Як друндучы́ха брэ́шыць.* Нямойта.

**ДРУ́ЧКА** *ж.* 1. Жалезны грэбень для часання лёну. *Така́я дру́чка была́ з гво́здзей, ну і так часа́лі ўжо, спушча́лі.* Заазер'е. *Дру́чка – гво́здзі набі́ты і дзяр́эш, накру́ціш на дру́чку, вяршы́ння па́дае, а на дру́чцы – ле́пшае.* Багданава. 2. Пабудова для часання лёну. *Дру́чка была́, дзе часа́лі лён.* Багданава.

**ДРЫ́БАЦЬ** *незак.* Дыбаць. *Яго́ но́гі во так дры́баюць, плахія.* Буй.

**ДРЫГБА́**, **ДРАГБА́**, **ДРАГВА́** *ж.* Дрыгвяністае, зыбкае месца; дрыгва. *Былі́ бало́ты, дрыгба́ ве́чнъя. Дрыгба́ – то́пкае ме́сца. Дръгба́ така́я, а йдзеш, ба́ішся, каб не праваліцца.* Багданава. *Дрыгба́ дзе то́пка, ня мо́жна хадзіць. Драгба́ – дзе вя́знеш, не мо́жна вы́лезці.* Кішуроўшчына. *Тут дрыгба́ была́, во́кны былі́, тапі́лісі.* Запруддзе, Фасаўшчына. *Драгва́ така́я тут была́!* Гарадок.

**ДРЫГВЯ́НІСТЫ** *прым.* Дрыгвяністы, багністы. *Дрыгвя́ністъя тако́я ме́ста.* Кляпчэва.

**ДРЫВО́ТНІК** *м.* Дрывотня, дрывотнік. *Дзе дрыво́тнік, гадзю́ка чо́рная, стра́шная паўзе́ць.* Вялікі Азярэцк.

**ДРЫЖА́ЦЬ** *незак.* Дрыжаць, калаціцца. *Ру́кі дрыжа́ць, як у зло́дзея.* Вялікі Азярэцк.

**ДРЫЖЭ́ННЕ** *н.* Дрыжанне. *Ад дрыжэ́ння ло́пнуў мъчавы́ пузы́р.* Нямойта.

**ДРЫ́ЛІХ** *м.* Даматканая палатняная спадніца. *Дры́ліх і андъра́к – то́е са́мъе, дры́ліх прасты́, ілляны́, а андъра́к суко́нны. Са́мі вытыка́лі андъра́кі суко́нныя ў бало́нкі, дры́ліхі ілляны́я.* Ракаў Засценак.

**ДРЫЛІ́ШКІ** *толькі мн.* Даматканая клятчастая тканіна (вытканая пераважна ў чырвоныя з чорным клеткі). *Дрылі́шкі ў кле́тку, з ро́знай пра́жы. Ні́ткі напраду́ць, накра́сюць і вы́йдзіць тако́я палатно́, дрылі́шкі, чо́рнае с кра́сным.* Гарадзец.

**ДРЫМЧЭ́ЦЬ**, **ДРЫНЧА́ЦЬ**, **ДРЫНДЫЧА́ЦЬ** *незак.* 1. Дрынкаць, дрыжаць. *Рэ́жуць дзе́ръва, пі́ла́ дрымчы́ць, на́да ръзваро́т здзе́лаць.* Кляпчэва. 2. Драць, дзерці (пра горла). *Не́шта дрынчы́ць у го́рлі. Дрымчы́ць, на́да ж прамачы́ць.* Міцюкова. *Не́шта го́рла дрындычы́ць, / Трэ́ба го́рла прамачы́ць* (з песні). Дуброўкі.

**ДРЫН** *м.* Кій, палка. *Я цябе́ дры́нам вы́хвашчу.* Запруддзе.

**ДРЫ́СНІЦЬ** *незак.* Паносіць. *Як дры́сніць* [пра кураня], *ні бяры́ця яго́.* Фасаўшчына.

**ДРЭ́ВА** *н.* Дрэва. *Бабры́ пірапі́люць яко́я хо́чыш дрэ́ва. У аднаго́ сы́на трына́ццаць дрэ́ваў са́ду.* Нямойта. *Уся́кія дрэ́вы ёсь. На кусты́, на дрэ́ва нало́х ныкладаўся.* Каралі. *Ло́жны*[и] *на́рысцінь нъ бяро́зі* [чага] *кала дрэ́ва, як ко́нскі капы́т.* Вялікі Азярэцк. *На астро́ўкі дрэ́ва сячэ́ш з рыга́тыя е́лкі.* Сукрэмна, Кішуроўшчына, Партызаны. *Ку́ркі расту́ць на гні́лым дрэ́ві.* Закур'е. ДРЭ́ЎЦА *памянш. І дрэ́ўцы пъсадзі́ў там.* Чуцькі.

**ДРЭЛЬ** *ж.* Прылада для накручвання дзірак; дрэль. *Дрэль дзіркі вярну́ць, да́жа і ў жале́зі.* Запруддзе.

**ДРЭНА́Ж** *м.* Дрэнаж, асушэнне глебы. *Дрэна́ж палажы́лі – ёлкі павы́сахлі.* Кляпчэва. *Дрэна́ж быў, кусты́ павыразálі.* Савінічы. *Ту́та не́чага асуша́ць, па го́рах е́здзюць, дрэнажы́ ло́жуць.* Ракаў Засценак.

**ДРЭ́ННА** *прысл.* Дрэнна, кепска. *Дрэ́нна, дрэ́нна ў го́радзі, а ўсё ро́ўна пруць у го́рат.* Галашчакіна, Ульянавічы, Фасаўшчына, Цясішча. *Як ба́чыш у сне бырывікі́ – хърашо́, як гнілэ́я грыбы́, то дрэ́нна* (прыкмета). Запруддзе. *Нош ны даро́зі ўба́чыш, то ні браць: дрэ́нна бу́дзіць* (прыкмета). Ракаў Засценак. ДРЭ́ННЕНЬКА *эмац.-ацэн. Дрэ́нненька адзе́та была́ дзе́ўка: ніхто́ не браў.* Запруддзе.

**ДРЭ́ННЫ** *прым.* 1. Мулкі, нязручны. *Дрэ́нный хаму́т, зму́люў каню́ пле́чы.* Гарадзец. 2. Тупы, зрэзаны ад карыстання. *Пакле́пюць касу́, як дрэ́нная каса́.* Дольдзева. 3. Кепскі, непрыемны для другіх. *Пъ^ы^га́ная, дрэ́нная іна́, во ціпе́р слу́хай.* Вялікі Азярэцк. 4. Пераборлівы на яду (пра жывёлу). *Які́ дрэ́нны саба́ка з ядо́й.* Кляпчэва. 5. *н.* Нешта небяспечнае, наркатычнае. *Пра мак гаво́руць, яко́ё гэ́то дрэ́нноё.* Гарадзец. ДРЭ́ННЕНЬКІ, ДРЭ́ННІНЬКІ *эмац.-ацэн. Ха́тка дрэ́нненькая была́.* Латыгаль. *А е́та во мая́ ха́та дрэ́ннінькая.* Вялікі Азярэцк. ○ ДРЭ́ННЫ ГРЫБ. Агульная назва неядомых грыбоў. Міцюкова, Партызаны, Сукрэмна.

**ДУБ, ДУП** *м.* Дуб. *З е́лі, сасны́, ду́бу, клёну не бяру́ць карчу́шкі, а з лі́пы – дым з лі́пы харо́шы.* Запруддзе. *Цвёрды, як дуп.* Серкуці, Каралевічы.

**ДУБАВЕ́ЦЦЕ** *н. зб.* Розная драбяза, хлуд. *Збіра́юць дубаве́цце ро́знае.* Ракаў Засценак. *Тро́ху сабра́лі дубаве́ццяʼ?* Чуцькі.

**ДУ́БАЦЬ** *незак.* Дыбаць, хадзіць. *Адна́ во ду́баіць яшчэ́.* Міцюкова.

**ДУБЕ́Ц** *м.* Дубец. *Дубе́ц атлъма́ў.* Дольдзева. *Як радо́ўку пасу́ць, то с дупцо́м, а пасту́х с пу́хай.* Гарадзец.

**ДУБІ́НА** *ж.* Дубовае палена, калода. *На дубі́нах ста́вюць ха́ту, як не́ была ка́мня.* Запруддзе.

**ДУ́БКІ, ДУПКІ́** *мн. перан.* ◊ У ДУ́БКІ. Быць катэгарычна нязгодным, супраць. *А ён у ду́бкі, як ста́ла ба́ба гавары́ць дакто́рцы, што яе́ сын кіда́ець у ваду́ малы́х.* Нямойта. *Ста́ла гавары́ць ма́цці, а ён, брат, у дупкі́.* Нямойта, Партызаны.

**ДУБНІ́К** *м.* Дубняк, малады дубовы лес. *Дубні́к тут у нас ё.* Кавалі, Латыгаль. *Дубніку́ насе́йіла ляснічы́ства, пыса́тку дзе́лылі мачо́м.* Сянно.

**ДУБО́ВЫ** *прым.* Дубовы. *Дубо́вую кару́, як пано́с, і ско́ту то́пяць. Тады́ дубо́ваю кару́ і смаро́днік кі́даюць туды́, і сок такі́ уку́сный.* Багданава.

**ДУБО́К** *м.* Хрызантэма (кветка). *Дубо́к бе́лым цвіці́ць, вунь у ха́це* [хрызантэмы]. Малы Азярэцк.

**ДУБО́ЎКА** *ж.* Сорт яблыкаў. *Дубо́ўка – я́блыка кра́сныя, падо́бна, як ды́ня, кра́сныя.* Пожанькі.

**ДУБРО́ЎКА** *ж.* Дуброўка (расліна). *Дубро́ўка жо́ўцінькім цвіці́ць, здава́ла ў апце́ку.* Багданава. *Дубро́ўка на ліка́рства. Ко́рні то́ўстыя, як бу́льба, ме́ншыя, больш цвёрдыя, цвято́чкі ме́лінькіе.* Гарадзец.

**ДУДА́Р** *м.* Дудар, музыка. *Сядзі́ць дуда́р на палі́цы, шы́йіць бо́ты, рукаві́цы* (з дзіцячай лічылкі). Сянно.

**ДУ́ДЗЕЙКА** *н. зб. памянш.* Дудкі, пустыя сцябліны. *Ду́дзейка стъя́ла го́лае, так зье́лі бу́льбу жукі́.* Апечкі, Вялікі Азярэцк.

**ДУДЗЕ́ЦЬ** *незак. перан.* Надаедліва паўтараць адно і тое ж; дудзець. *Цэ́лу ноч дудзе́ла варажбітка пра дзе́вак, пра каро́ў, мне абы́ хво́сцік, а малака́ бу́дзіць.* Міцюкова.

**ДУДЗЯНЫ́** *прым.* Дудкаваты, з пустым сцяблом. *Дудзяна́я медуніца. Як пера-сто́іць* [медуніца], *абсыпа́ецца, дудзяно́е, то́лстае, абы́ паднялá́ся, хо́дзім ірво́м, пака́ ўстарэ́іць рвом, пака́ бу́бышкі не з'явіліся.* Каралі.

**ДУ́ДКА, ДУ́ТКА** *ж.* 1. Дудка, пустая сцябліна. *Кле́вір абсы́піцца, адны́ ду́дкі аста́нуцца, паку́ль вы́сушыш.* Запруддзе. *Усю бу́льбу з'е́лі жукі, то́лькі ду́ткі стъя́ць.* Вялікі Азярэцк. 2. Сцябліна. *Ду́дкі ў бу́льбі згарэ́лі ад дзікла́фо́су, цве́ту бу́льба не дала́, але́ бу́льба была́.* Партызаны. 3. Стрэмка. *У ру́кі пазага́нялі ду́ткі.* Закур'е.

**ДУ́ЖА** *прысл.* Вельмі, надта, надзвычай. *Ён, вуш, ду́жа хало́нны.* Алексінічы. *Рунь ні ду́жа вялікъя, ніб́ольшая.* Гарадзец. *Ста́лі страля́ць, ду́жа стра́шна ста́ла.* Леснікова. *Чэ́рві жо́ўтыя ку́ры ду́жа яду́ць.* Рулёўшчына. *Я ду́жа любіла сырадо́й.* Нямойта. *А лю́дзям ду́жа пъсля вайны́ на́да было́.* Ульянавічы. *Ла́сьцік цяпе́р сацін называ́юць, ла́сьцікавае пла́цце – э́та харо́шае ду́жа.* Фасаўшчына, Багданава, Вялікі Азярэцк, Каралі, Латыгаль, Савінічы, Станюкі, Цясішча. *Біцца ду́жа не біліся, таму́ што п'я́ных не было́. Ён яе́ ду́жа біў у гаълаву́, яна́ і чо́кнулася.* Закур'е.

**ДУ́ЖА-ТКА** *прысл.* Вельмі, надта, шмат. *А ў нас лісічак ду́жа-тка нет.* Дуброўкі.

**ДУ́ЖЫ** *прым.* Дужы, моцны. Запруддзе.

**ДУ́ЙКА** *ж.* Мяцеліца, завея. *Сяго́ння яка́я ду́йка на двара́.* Неўгадава.

**ДУ́ЙНЫ** *прым.* Завейны, ветраны. *Дзень які ду́йны.* Неўгадава.

**ДУ́ЛІНА** *ж.* Груша дуля (дрэва). *Тут залезлі, во, дзе гэ́та ду́ліна стаіць.* Запруддзе.

**ДУ́ЛЬКУ** *прысл.* Ні ў якім выпадку, нізашто. – *Бу́дуць памага́ць нам?* – *Ду́льку!* Марозаўка.

**ДУ́ЛЯ** *ж.* 1. Груша і яе плод. *У нас ду́ля каза́лі, а гру́ша – па-ру́ску.* Пожанькі. 2. Кукіш, фіга. Запруддзе. ◊ ДУ́ЛЮ (КУ́КІШ) ТАБЕ́. Катэгарычнае адмаўленне ў нечым ці нязгода з нечым. *А ду́лю табе́. А ду́лю ня хо́чыш?* Запруддзе, Гарадзец.

**ДУ́МА** *ж.* Дума, думка. *Ад дум гало́ўка баліць.* Заазер'е.

**ДУ́МАЦЬ** *незак.* Думаць. *Вы ду́мыйця: бырывікі раслі адзін кала днаго́.* Алексінічы. *Ён ду́мыйіць купіць ха́ту.* Нямойта. *Ты ду́маеш, ма́мка, што я ўсё тут ска́чу, / Прыдзі пъглядзі, ма́мка, як я тут пла́чу* (з песні). Каралевічы. *Каб то́е табе́ ста́лась, што я аб табе́ ду́маю!* Запруддзе, Гарадок, Сянно. ◊ ДУ́МАЦЬ НА́ДА. Так, напэўна, менавіта. *Дась ма́тка, што ўва ржу задзе́луў шта́ны.* – *Ду́мъць на́да.* Гарадок. ◊ НІМА́ ЧАГО́ І ДУ́МАЦЬ. Пра поўную немагчымасць зрабіць што-н. *Учо́ра і сянні і ду́маць німа́ чаго́ пра рабо́ту.* Нямойта.

**ДУ́МКА** *ж.* Думка, спадзяванне. *Ду́мка на Лёньку.* Каралевічы.

**ДУНУ́ЦЬ** *зак.* Дунуць. *Як вецяро́к дуне́ць, дык такі за́пах!* Запруддзе.

**ДУПЛЁНКА** *ж.* Дупло. *У дуплёнку ўле́зуць і сідзя́ць пчо́лы.* Каралевічы.

**ДУПЛІНА́ТЫ, ДУПЛІВА́ТЫ** *прым.* Дуплісты, дуплаваты. *Дупліна́тая бру́чка ніскія міста́ ня лю́біць, больш на пішча́ных ме́стах. Дуплівáтая бру́чка ніскія міста́ ня лю́біць, сільна жы́рнай зямлі ня лю́біць.* Розмыслава.

**ДУПЛО́, ДУПЛЁ** *н.* Дупло. *Дзя́цел у дупле́ дзяце́й выво́дзіць, дзе старо́е дрэ́ва.* Леснікова. *У дупло́ да́йжа і е́тыя мо́гуць ляце́ць – пчо́лы.* Вялікі Азярэцк.

*Ні дуплá ў бýльбіне, нічóга.* Нямойта. *У стýпе вы́дзеўбаная дуплё і туўкáч.* Жохава. *Дуплё ў дýбі дзéці патпалілі.* Фасаўшчына.

**ДУР** *ж.* Дур, зацямненне свядомасці. *У Лéплі тры разы́ ляжáла, дур у галавé стáла, павéсілася.* Закур'е.

**ДУР** *м.* Дурасць. *Якéй гэ́та дур зайшóў?* Нямойта.

**ДУРÁК** *м.* Дурань. *Éслі адзін дурáк укініць кáмінь у вóзіра, сем разýмных не нáйдзіць кáмінь.* Сянно. *У яé шэсь дзяцéй і ўсі дуракі, бóжа!* Чуцькі. *Дарý мех буракóў, каб ня быў* [муж, жонка] *дуракóм* (вясельнае пажаданне). Каралевічы. *Кáжыць, што німá дуруká, сядзіць і сваю душý ў гóсці прыглашáйіць.* Дуброўкі. ◊ САТВАРЫ́ЦЬ ДУРУКÁ. Учыніць глупства. *Дурукá сатвары́ў тады́, што прэ́мію ні ўзяў.* Сянно.

□ *П'яны праспіцца, а дурáк нікóлі.* Багданава.

**ДУРАТÁ** *ж.* Дурнота, глупства. *Бывáіць і свая дуратá, а бывáіць і судзьбá.* Каралевічы.

**ДУРАЧЧÓ** *н. зб.* Дурні. *Во дураччó былі людзі!* Запруддзе.

**ДУРМÁН** *м.* 1. Блёкат (?), дурнап'ян (?; расліна). *Дурмáн цвіціць бéлым, кóрань як хрэн.* Парэчча. 2. Дурман (пра алкаголь). *П'янка – дурмáн такі.* Баравікі.

**ДЎРНА** *прысл.* Кепска. *Нéяк у галавé дýрна стáнець.* Нямойта.

**ДУРНАП'ЯН** *м.* Каласоўнік (?; расліна). *Дурнап'ян у пшаніцы. Ён як касцéр, тóлькі буйнéй.* Фасаўшчына. *Дурнап'ян – такáя травá, расцéць званóчкамі, чóрнае зёрнышка, як мак усё рóўна.* Каралі.

**ДУРНАТÁ** *ж.* Глупства, дурасць. *Той спакóйны мáлец, дурнаты́ ня дзéлаіць.* Нямойта.

**ДУРНÉЙ** *прысл.* Дурнейшы. *Я ні дурнéй каго-нібýць.* Каралевічы.

**ДУРНÉЙШЫ** *прым.* Менш разумны, непісьменны. *Рáньшы людзі былі дурнéйшыя, нігрáмътныя.* Гарадзец.

**ДУРНÉЦ** *м.* Дурань, дурыла. *Во дурнéц які чълавéк.* Буй. *Дурнéц ты, – кáжа.* Серкуці.

**ДУРНÉЦЬ** *незак.* 1. Узбуджана рэагаваць на з'яўленне (пра курэй). *Тхор курáціну любіць, кýры дурнéюць, дáвіць па днэй, пакá ня кóнчыць.* Міцюкова. 2. Дурачыцца, дурэць, сваволіць. *Што ты перад усімі дурнéеш?* Нямойта.

**ДУРНІНА** *агульн.* Дурань, дурніца. *Во дурніна, учýпіўся і б'юцца, во вэ́рхал паднялі.* Запруддзе.

**ДУРНІЦА** *агульн. Інá бáба як дурніца.* Чуцькі.

**ДУРНІЦЦА** *незак.* 1. Займацца глупствам, дурачыцца. *Старáя бáба дурніцца: гадáя на Калядьı.* Каралевічы. *Во што мы дурніліся!* Запруддзе. 2. Скандаліць, бясчынстваваць. *Бясіцца бýдзіць, дурніцца, б'éцца* [п'яны муж]. Багданава. 3. Страчваць розум, развагу. *Дурняцца людзі: не мóгуць, каб ні піць.* Баравікі.

**ДУРНІЦЬ** *незак.* ◊ ДУРНІЦЬ ГАЛАВЎ. Надакучаць, назаляць. *Ні дурні ты галавы́.* Запруддзе.

**ДУРНІЦЫ** *мн.*, **ДУРНІКА** *ж.* Дурніцы, буякі. *Дурніцы такія сінія.* Заазер'е. *Дурніцы ё, як чарніцы. Сок з дурніц смáшны. Рвóты былі ад дурніц ці ад баганý. Дык ў канóплі клáлі, як пóйдзіш ў лес ці ў ягады, ці у дурніцы.* Багданава. *Я́гъды брусніцы, дурніцы, чарніцы растýць.* Баравікі. *Дурніцы растýць, а гълавá баліць ад багънá.* Вялікі Азярэцк. *Дурніцы растýць у бáгну. Галавá разбаліцца, бéгалі ў канóплі, каб галавá ні балéла. Тамý і дурніцы звáлі. Дурніцы завём, а хто галубіка.*

Нямойта. *Баган расцеўць, і там дурніцы.* Кляпчэва. *У нас выпалілі мшок гэты, і дурніц німа.* Кішуроўшчына. *Сёлета было троху многа дурніц. Дурніка большы трошку, як чарніцы.* Міцюкова.

**ДУРНІШНІК** *м.* Дурнічнік, буячнік. *Дзе дурнішнік, там дурніка, у бару, у Харані. Дурнішнік ё у бару, горкі, як палын.* Запруддзе.

**ДУРНЫ** *прым.* 1. Дурны, неразумны. *Раньшы людзі дурнэя былі.* Гарадзец. 2. Адурманены. *Толькі адно: піва, водка, а тады дурная гълъва і дурная глотка.* Каралевічы. *Чълавек, калі глухі, як дурны.* Багданава. 3. *н.* Глупства. *Баба ні дурная, а дурное гаворыць.* Каралевічы.

**ДУРНЯЧЧО** *н. зб.* Дуракі. *Дурняччо гэта, бабы.* Савінічы.

**ДУРОНЫ** *прым.* Свавольны, балаваны (пра дзіця). *Ай, ты дуронъя, Каця, балуісся і балуісся.* Партызаны.

**ДУРУЧОК** *м.* ◊ У ДУРУЧКА. Назва карцёжнай гульні. *Гулялі вечар у дуручка.* Ульянавічы.

**ДУРУША** *ж.* Дурніца. *Пасодзюць мяне, дурушу, на куце, я й пяю.* Вялікі Азярэцк. *Лажылі ў бальніцу, я ні лігла, дуруша.* Партызаны.

**ДУРШЛЯК, ДРУСЛЯК** *м.* Друшляк. *Аттаплю малако і на дуршляк.* Станюкі. *Увечыры дъстаніш чугун з печы і ны друсляк вывірніш і ў дзежычку складыйіш.* Сяргейкі.

**ДУРЫЛА** *агульн. экспр.* Дурань. *Дурыла ты! Аддаў грошы біс квітанцыі.* Сянно. *Дурыла ты аблавухі. Як яна харошая, яе любяць, а ты дурыла аблавухая. Адзін дурыла нашоўся і кажа: «Я лягу, а ты загаласі».* Дольдзева. *Дурыла гэты разве возьміць вады?* Партызаны.

**ДУРЫЦЦА** *незак.* Надакучаць, сваволіць, дурэць. *Ідзі, ні дурыся.* Станюкі.

**ДУРЫЦЬ** *незак.* Дурыць, падманваць. *А-ёй, бросьця дурыць.* Міцюкова, Сянно.

**ДУРЭЦ** *м.* Чалавек, які дурыць (тлуміць) галаву. *Дурэц бурчыць і бурчыць.* Багданава.

**ДУРЭЦЬ** *незак.* Дурэць, дурачыцца, балавацца. *Сядзем аддыхаць, а мушчыны ш былі, дурэлі: адзін мушчына мяне ўзяў ды й пакаціў.* Заазер'е. *Ні дурэйце, дзетачкі.* Нямойта.

**ДУСТ** *м.* Атрутнае рэчыва; дуст. *Травілі блошку дустам.* Буй.

**ДУХ** *м.* 1. Паветра. *Дух ідзець з печы. І на шастку над духам* [калбасы], *яны тады такія красніенькія, харошынькія.* Багданава. *Зачыні дзверы, кап дух ні ішоў с хаты.* Гарадзец. 2. Пара, гарачае паветра (у лазні). *Натопюць* [лазню], *каб духу было многа, каб вада закіпела.* Вялікі Азярэцк. *Духу паддаюць.* Дольдзева. *Духу ўсім хвътала у бані.* Нямойта. *Вады ўззалеш, і дух* [у лазні]. Партызаны, Багданава, Марозаўка. 3. Цяпло. *Як на дух трапіш, то сціхне рука, нага, што баліць.* Багданава. 4. Стан, настрой. *Як на дух патрапіш, а так не ўсякі загавор памагаець.* Апечкі. 5. Жыццёвая сіла, здольнасць. *Кап с цябе дух вон!* (праклён). Міцюкова. 6. Асаблівы тып матэрыі, энергіі (?). *Выходзіць фосфар із магілы – то нейкі дух.* Ракаў Засценак. 7. Пах. *Хларафос паліў, дух сышоў – апяць ліцяць.* Запруддзе. *Кот у мяне, мышы баяцца яго духу.*

□ *Пакуль дзеткі с пуху, мамка – з духу.* Міцюкова.

**ДУХ** *м.* Свята Сёмуха, Тройца. *На Духа ламалі май.* Самсоны. *На Духа траву сабіралі. На Раданіцу Дзяды і Духа. І тады Дзяды бываюць церас сем нядзель послі Пасхі.* Нямойта. *На Духа вутрачкам ідзём у лес. Замаразкі на траве, разнае цвяты*

*рвеш, свéцім. Сахранялі іх ад гразы́, у хлéве вéшалі.* Цясішча. *На Ду́ха хадзілі на крынічку.* Багданава. *Дзяды́ у субóту, у васкрасéнне* – [святкуюць] *Ду́ха.* Самсоны, Гарадзец.

**ДУХАВІ́ЧЛІВЫ, ДУХАВІ́СЛІВЫ** *прым.* Дыхавічны, задышлівы; які пакутуе на задышку. *Духавíчлівы ён, уду́шша ў ягó, цяпéр áстма кáжуць.* Вялікі Азярэцк. *Сам ты духавíчлівы, а ня конь. Авёс давáй.* Пожанькі. *Духавíслівы конь бывáіць. Ён упацéіць, а ягó напóюць, і задышка станóвіцца.* Запруддзе.

**ДУХАВІ́ЧНЫ** *прым.* Тое ж. *Духавíчны конь, ён упацéіць, напóюць ягó, задышка станóвіцца.* Запруддзе.

**ДУХАВЫ́** *прым.* ○ ДУХАВЫ́ УЦЮ́Г. Прас, які разаграваўся вуголлем. *Былí уцюгі духавы́я, туды́ накладзéш жáру, ён нагрэ́іцца і глáдзіш.* Станюкі.

**ДУХ-ДУХ** *выкл.* Перадача гукаў тупату, руху. *Чу́ю: дух-дух, ажнó тры пáрні ў суседкі ў чарэ́шню залéзлі.* Нямойта.

**ДУХІ́** *толькі мн.* Унутраныя органы, органы дыхання. *Духí адбíла, дышáць нéчым.* Багданава. ◊ НІ ДУ́ХІ. Ні ў якім выпадку, нізашто. *Інá – ні ду́хі ў бальніцу.* Запруддзе.

**ДУХЛЯ́НЫ** *прым.* Які не замярзае. *Ё на вóзіры духля́нья мéста, дзе вадá ні зъмірзáя зімóй.* Гарадок.

**ДУХМЯ́НЫ** *прым.* Духмяны. *Лéтнія антóнуўка духмя́нья, як нылíўная.* Пожанькі. *Духмя́ны хлеп.* Рулёўшчына.

**ДУХО́ЎКА** *ж.* Душнік, адтуліна ў падмурку. *Духóўку нá зіму затыркáім чым са трáпак.* Заазер'е.

**ДУЦЬ, ДМУЦЬ** *незак.* 1. Дзьмуць. *Паткры́лля – кап снех не ду́ў.* Гарадзец. *Вéцер дмець, і пыл.* Запруддзе. *Ну, завáліна, насыпáюць абы́чна, кап ні дулó пат сцяну́. Ні сьнех ня ду́ў, ні халóдны вéцір, штоп цяплéй былó.* Нямойта. *Прáма ва ўсе шчэ́лкі дмець.* Каралевічы. 2. Надзімаць. *Мех дмець, і вугáлля гары́ць.* Запруддзе.

**ДУША́** *ж.* 1. Душа, жыццёвая энергія чалавека. *Душá абізáцільна прысаідзініцца, анá ніўміру́шчая. Мóжыць мы фтарóй íлі трэ́цій раз жывём. Да шасцíн душá блуждáіць. Душá пічáліцца, што інá астáвіла цéла. Душá памёршага прысаідзініцца к другóму, дзіцёнак які рóдзіцца, мóжа мы жывём трэ́ці рас, а душá ня пóмніць.* Гарадзец. *Душу́ нáда былó спасáць, а ні жэръбят купляць.* Чуцькі. 2. Чалавек як жывая адзінка. *Дзівітнáццъць душ булó ў йіх, і зъ нядзéлю тры пуды́ хлéба з'йідáлі. Крупы́, будзь дóбры, адзін кілагрáм на чалавéка.* Партызаны. *Чаты́ры душы́ сям'я́.* Дольдзева. *На мушску́ю душу́ выдзіляўся надзéл.* Марозаўка. *Скóлькі душ хóчыць, стóлькі прыглашáіць.* Міцюкова. *Табé хвáціць на адну́ душу́.* Нямойта. ◊ АД (ДА) ДУШЫ́. Вельмі многа. *У прóшлым гаду́ я́блык былó ад душы́ ва ўсіх.* Каралевічы. *Ой, мíлыйі майí, нарабóтълься да душы́!* Сянно. ◊ ДА ДУШЫ́. Праўда, на самай справе. *Да душы́, прáўда, што я ні брáла* [бажба]. Міцюкова. ◊ БЕЗ ДУШЫ́. У стане непрытомнасці. *Ляжы́ць без душы́, вы́піў націрáнне.* Партызаны. ◊ ЧЫ́СТЫ НА ДУШУ́. Праўдзівы, чэсны. *Ня чы́сты ты на душу́.* Нямойта. ◊ НІ ПАПО́ВА ДУША́. Сквапны, прагны. *Вес – ні папóва душá* [што ўсё мала]. Каралевічы.

**ДУША́ЦЦА** *незак.* Клясціся. *Душáюся, што нічóга ня дзéлала, ні брáла і рук ні прыклъдáла!* Багданава.

**ДУ́ШКА** *ж.* Дужка, ручка ў форме невялікай дугі. *Пад нíзам такíя, як ду́шкі, і кычáіш* [калыску]. Запруддзе. *Збóку ду́шкі ў карзíне, і замóк ёсь.* Багданава.

**ДУШМА́НЕЦ** *м.* Той, хто душыцца за гарэлкай, п'яніца, асабліва малады. *Паку́ль душма́нцы ні нъбяру́цца, стары́ ня во́зьміць.* Савінічы.

**ДУ́ШНА** *прысл.* 1. Душна, горача. *Пячэ́ць, жа́рка ду́жа, хто ка́жыць ду́шна.* Вялікі Азярэцк. *Ста́ла цёпла, ду́шна.* Серкуці. 2. Млосна. *Ай-е́, ду́шна мне.* Галашчакіна.

**ДУШЫ́ЦЦА** *незак.* 1. Штурхацца, гнесціся ў натоўпе. *Да́ўка, ду́шуцца за гэ́тым дабро́м* [гарэлкай]. Заазер'е. 2. Цяжка працаваць, высільвацца. *На ге́тых фе́рмах душы́ся.* Партызаны.

**ДУШЫ́ЦЬ** *незак.* Душыць, давіць. *Да́жа ста́рых курэ́й ду́шуць тхары́, ста́ду цэ́лую пірадавілі.* Кляпчэва. *Курэ́й ду́шыць тхор.* Серкуці. *Клешч пшчол ду́шыць.* Закур'е.

**ДУШЭ́ЎНАСЬ** *ж.* Душэўнасць, шчырасць. *Душэ́ўнась у яе́ к чалаве́ку.* Нямойта.

**ДУ́Я** *ж.* Завея, мяцеліца. *А зіма́ была́ плаха́я, суро́вая. Былі́ ду́і, мяце́ліцы, ве́тры рва́лі. Ду́я – ну, э́та мяце́ліца ішла́, ве́цер узніме́цца сільны і дмець, перадува́іць даро́гу.* Запруддзе. *Ду́я была́, ве́цер, закла́ла мне пле́чы, гру́дзі.* Багданава. *Тъка́я ду́я была́, завіру́ха. Была́ ду́я, мяце́ль така́я, двоя су́так была́, пра́ма ва ўсе шчэ́лкі дмець.* Каралевічы. *Ду́я гэ́ткая, я закрыва́лася. Паго́да пы зімé: у хіўрале́ была́ то ду́я, то маро́с.* Міцюкова.

**ДЫ** *злучн.* 1. Але. *На сваі́м гаро́дзе пасе́іла, ды ні взышло́, пръпа́ла.* Багданава. 2. І. *Хо́дзіць ды плёткі пляце́ць.* Заазер'е. *Прыснакі пячэ́ш, со́ллю пасы́піш, ды яшчэ́ по́ліўкі зва́рыш,* [потым] *ясі лу́ччы за катле́т.* Вялікі Азярэцк.

**ДЫ** *часц.* Ды, і. *Ды бу́дуць каза́ць: дачу́шка мыя́, як жа так?* Каралевічы. *Ды не́йік мяшо́к прыве́ёс гуркоў.* Сянно.

**ДЫ́БА, ДУ́БА** *прысл.* На заднія ногі (станавіцца, узнімацца); дыбка. *Конь стаў ды́ба.* Вялікі Азярэцк. *Спужа́ўся, аш ша́пка ды́ба ста́ла.* Партызаны. *Ду́ба стаў конь, як спужа́ецца чаго́, тады́ не ві́дзелі тра́ктараў, машы́н.* Гарадзец, Мянюцева.

**ДЫБЫ́** *мн.* ◊ НА ДЫБЫ́. На заднія ногі (стаць, падняцца і да т. п.). *На дыбы́ конь стаў.* Мянюцева.

**ДЫК** *часц.* 1. Так, вось. *Дык гэ́ты дзет по́мніў, як ішо́ў тут францу́з.* Алексінічы. 2. І. *Дык як лъману́ў шар ўва гне.* Вялікі Азярэцк. 3. *злучн.* То, дык. *Куды́ ні пашо́ў, дык грыбо́ў пално́.* Латыгаль.

**ДЫЛЯВЭ́Й** *прым.* Тоўсты (пра дошкі), дошкі-дылёўкі. *Дылявэ́й до́скі, то ко́йка свя́зывълься.* Гарадзец.

**ДЫМ** *м.* Дым. *Лазо́выя дро́вы гара́ць без ды́ма.* Дольдзева. *Дым заве́рніць, і све́ту ні віда́ць.* Запруддзе. *Сасе́д ідзе́ць: ба́ба, ці гэ́та тума́н ці дым?* Нямойта. *Каб дым праз руба́шку рабёнку прайшо́ў і каб кашляну́ла, тады́ пале́пшаіць.* Партызаны.

**ДЫМАКУ́Р** *м.* Прылада для акурвання пчол дымам; дымар. *Дымаку́р жале́зны, адзі́н у яго́ ўстаўля́ецца ў срадзі́ну стака́нчык, у стака́нчык – карчу́шкі і запа́ліваюць.* Запруддзе.

**ДЫМАКУ́РКА** *ж.* Курная хата. *Дымаку́ркі былі́, ко́міна ні было́, дым выхо́дзіў пра́ма на ха́ту. Дъмаку́рка – ку́рнъя ха́та называ́лась так, былі́ такія, дым выхо́дзіў на ха́ту, я ня по́мню.* Гарадзец.

**ДЫМА́Р** *м.* 1. Прылада для акурвання пчол дымам; дымар. *Дыма́р пчол падку́рваць.* Вялікі Азярэцк. *На́да дыма́р узя́ць для пчол.* Багданава. 2. Кавалак

дрэва для акурвання пчол дымам. *Дымáр – запáльваюць з вярбы́ кусóчкі шчапáныя і дымя́ць.* Закур'е.

**ДЫМІ́НА** *ж.* Дым. *Ці дымíна ў пéчы, ці галавéшка, то суп лепш на гáзе* [гатавац]. Баравікі. ◊ У ДЫМІ́НУ. Вельмі моцна. *П'я́ны у дымíну быў.* Латыгаль.

**ДЫМКІ́** *мн.* ○ ПРАСТЫ́Я ДЫМКІ́. Узор у форме квадратаў на саматканцы, вытканай у два ніты. *А гэ́та прасты́я дымкí: прóста, прóста ткáлася ў два ніты́, прóста квадрáты.* Фасаўшчына. ○ КАСЫ́Я ДЫМКІ́. Узор на саматканцы, вытканай у чатыры ніты. *У касы́я дымкí – э́та у чаты́ры ніты́ ткáлі.* Фасаўшчына.

**ДЫ́МНЫ** *прым.* ○ ДЫ́МНАЯ БА́НЯ. Курная лазня; лазня, у якой печка не мела дымахода. *Бáня ды́мная у нас, дык пацямнéла так.* Багданава.

**ДЫ́НДЫ** *мн.* Складчына, вечарынка. *Пайдзём на ды́нды. Бáбы ужó збірáюцца, выпівáюць, скáчуць. Пайдзём гуля́ць ды́нды, складáліся, склáшчына. Дзе былá? – На ды́ндах.* Нямойта.

**ДЫ́ХАВІЦА, ДУ́ХАВІЦА** *ж.* Дыхавіца, задышка. *Ды́хавіца, як кън́я перагóніш.* Мянюцева. *Дýхавіца у кън́я, як перагóніць сільна кън́я.* Запруддзе.

**ДЫ́ХАЦЬ** *незак.* Дыхаць. *Трóхі ды́хаіць мы́шка.* Міцюкова.

**ДЫ́ХЛЫ** *прым.* Няякасны, зроблены з нізкаякасных (мясцовых) прадуктаў. *Кылбасá ды́хлая, сдóхлая, сéнненская.*

**ДЫХНУ́ЦЬ** *зак.* Дыхнуць, перавесці дух. *Гéтаму нéкалі дыхнýць.* Дольдзева. *Тóлькі дыхнéць і німá яé.* Неўгадава.

**ДЫ́ШАЛЬ** *м.* Жэрдка, прымацаваная да сярэдзіны пярэдняй восі калёс пры парнай запрэжцы; дышаль. *Ды́шаль у павóзках, у фунгóнце, дзе пáра кóній зъпрагáлісі.* Манголія.

**ДЫ́ШЛА** *н.* 1. Жэрдка, прымацаваная да сярэдзіны пярэдняй восі калёс пры парнай запрэжцы; дышаль. *Два канí зыпрагáлі з ды́шлам.* Карпавічы. 2. Жалезная выцягнутая пласціна ў плузе, да пярэдняга канца якой прымацоўваецца ворчык. Гарадок.

**ДЭ́НКА** *ж.* Дашчэчка, кружок для кухонных патрэб. *Дэ́нка – сáла пакрышы́ць.* Партызаны. *Хацéлі нысалíць варýшык. Нынасíў цэ́лую вы́варку, соль даў, дэ́нку пылажы́ў. Прáўду кызáлі, што ні стыя́ць. Стáлі, як гной, вы́вірнуў.* Міцюкова. ДЭ́НАЧКА *памянш. Дэ́начка – такáя дашчýрачка. Дэ́начка для сырóў, на дэ́начку камушóк клáлі.* Вялікі Азярэцк. *Дэ́начка для сáла рэ́заць, сквáркі звáліся.* Каралі. *На дэ́начку вы́ставіш крывáвую каўбáсу.* Міцюкова, Багданава.

**ЕДЗІНАЛІ́ЧНА** *прысл.* Аднаасобна. *Як едзіналíчна жылí, гэ́тае былó.* Заазер'е.

**Е́ЖА** *ж.* Ежа. *Ні адзéжы, ні éжы.* Каралевічы.

**ЕЖА́** *ж.* Сорт травы; трава, падобная на цімафееўку. *Травý ежý сéялі. Éту éжу, як стáрая, і карóвы ні ядýць, як два ўкóсы, а тóлькі тры ўкóсы, тады́ ядýць.* Сукрэмна.

**Е́ЗДЗІЦЬ** *незак.* Ездзіць. *Ранéй зъ гваздóм к Лéніну éздзілі.* Фасаўшчына. *Éздзіў áжны ў Лéпля – хлеп прывазíў.* Ульянавічы, Гарадок, Нямойта, Закур'е. *Рáншы лю́дзі ў кóні éздзілі.* Фасаўшчыны. *У падвóды éздзюць – дзéвак праважáць.* Партызаны. *Éздзілі пасля вайны́ на кóнях сéна ўбірáць.* Багданава.

**ЕЙ-ЖА БО́ГУ** *выкл.* Бажба. *Ей-жа бóгу, прáўда.* Міцюкова.

**ЕЙНЫ** *займ.* Яе. *Трóху нізкі ў бацькóў гарóд, дык бацькі пáшуць гарóд éйны. Éйны пáпа быў Высілéўскі Флор.* Алексінічы, Багданава, Запруддзе, Каралі, Латыгаль, Нямойта, Розмыслава, Рубежніца.

**ЕКАТÁЦЬ** *незак.* 1. Екатаць, скавытаць. *Якóчыць на дварэ́* [сабака], *кап с сабóй узяў прóсіцца.* 2. Галасіць, плакаць, енчыць. *Стагнáла, екатáла пра любóў.* Міцюкова.

**ÉЛЬНІК** *м.* 1. Ельнік. *Éльнік мълады́, ён такі жуўтлевáты. Смаршкі і страчкі – рáннія вясéннія грыбы́, грыбы́ с-пат снéгу, па éльніку растýць.* Серкуці, Багданава, Запруддзе. 2. *зб.* Яловыя лапкі. *Éльніку прывязлі дóчкі да навалілі на лёткі лáпак, пчóлы мóгуць задушы́цца.* Вялікі Азярэцк.

**ÉМЯ, ÉМА** *н.* 1. Ежа, прадукты харчавання. *Бýльбы нямá ні на сéмя, ні на éмя.* Серкуці. 2. Спажыванне. *Бýльба – гéта на сéма, а гэ́та на éма.* Кішуроўшчына.

**ÉНЧЫЦЬ** *незак.* Енчыць, стагнаць, крычаць ад болю. *Сусéт з рукóй éнчыць.* Каралі.

**ЕРУНДЗÍЦЬ** *незак.* Гаварыць глупства, бязглуздзіцу. *Шчэ каб у вас ерундзíла.* Багданава.

**ЕРУНДÓВЫ** *прым.* Кепскі, дрэнны. *Жы́зня ерундóвая маЯ.* Розмыслава.

**ЕРУНДÓЎСКІ** *прым.* Кепскі, дробны, неўрадлівы. *Ерундóўская бýльба былá.* Вялікі Азярэцк.

**ÉСЦІ** *незак.* Есці. *Касцерý éла. Бліны́ éла з éстья травы́.* Станюкі. *Яш, Я́куў? – Ем, дзя́куй. – А чъгó, Я́куў, ні ясі? – А чъгó лóшкі ні дасі?* (прыгаворка). Каралевічы. *На, бáцюшка, еш, кóлькі гэ́тъга дабрá* [іранічна] *– пóўна* (з анекдота). Ульянавічы, Багданава, Буй, Гарадзец, Запруддзе, Кавалі, Нямойта, Неўгадава.

**ÉТУЛЬ** *прысл.* Пагэтуль. *Снег быў пу ву йéтуль!* Дольдзева.

**ÉХАЦЬ** *незак.* Ехаць. *Éдзьця, я вас прывязý.* Жохава, Нямойта.

**ÉШЧЫ** *прым.* Непераборлівы ў ядзе, з добрым апетытам. *Ешчая свіння́, тóлькі макры́цу і éла.* Ракаў Засценак. *Інá ня дýжа éшчая* [малое дзіця не хоча есці]. Манголія.

**Ё** *выкл.* Вокліч для перадачы здзіўлення, неадабрэння. *А ё, брóсьце вы гавары́ць.* Міцюкова.

**ЁЛАЧКА** *ж.* Хвошч палявы (расліна). *Зімлянэ́й арэ́х, а ны вярхý ёлычка тыкáя расцé.* Нямойта.

**ЁЛКА, ÉЛКА** *ж.* 1. Елка. *Ёлкі і тэ́я павы́сахлі.* Кляпчэва. *Я дзве нóчы нучувáў на éлкі, зублудзíўся.* Пожанькі. *Éлка лю́біць цень, но с аткры́тый гылавóй.* Канева, Гарадок, Рассвет. ЁЛАЧКА, ÉЛАЧКА. 1. *ж. памянш.-ласк. Ры́жыкі пад ёлачкай і óльхуй растýць.* Багданава, Дуброўкі. *Сóнца, сóнца с тарэ́лачку, зъкацíся за éлачку, сóнца, сóнца з арашóк, зъкацíся за лясóк* (прыгаворка). Нямойта. 2. *прысл.* Пра форму расліны, прадмета і інш., у якіх бакавыя часткі адыходзяць ад асноўнай пад вуглом. *У каласкý* [жыта] *ёлачкай на ўсе стóраны семенá.* Міцюкова, Сянно.

**ЁЛКІ, ÉЛКІ** *прым.* Ёлкі, з непрыемным рэзкім пахам. *Мáсла пóрціце, ёлкая.* Багданава[1]. *Як не бярýць вадý ў калóдзезі, éлкая въдá, вóздух цяжóлы.* Партызаны. *Дáўнае сáла éлкое.* Вялікі Азярэцк.

**ЁЛКУВÁТЫ** *прым.* Елкаваты, крыху ёлкі. *Ёлкувáты жыр.* Багданава.

**ЁМКІ** *прым.* Зручны. *Ня дýжа ёмкія іх* [дамы] *стрóяць.* Запруддзе.

**ЁН** *займ.* Ён. *Мáльчык увéсь па ім.* Багданава, Дуброўкі.

**ЁРЗАЦЬ** *незак. перан.* Хвалявацца, непакоіцца. *Душá ёрзаіць цэлы дзень: што там дóма, што там дóма?* Ульянавічы.

**ЁРК** *выкл.* Перадача гуку, які выдае карова пры адрыгванні змесціва страўніка. *Карóва аднó праглынéць, ёрк – і другóе, ей усё нáда с трыбухá атрыгнýць.* Гарадзец.

**ЁРШ** *м.* Ёрш (рыба). *Ёрш, як óкунь, ён сáма ўкýсныя рыба. Лавілі ны кручóк, ёрш хітры, адзінóчна жывéць, у нóрых, ні сямéйствінная рыба.* Багданава, Сянно, Фасаўшчына.

**ЁСЦЕКА, ЁСЕЦЬКА, ЁСІТКА, ЁСІКА** *незак.* Ёсць, маецца. *Скóлькі прысказак ёсьцека.* Ульянавічы. *Насіць ёсецька: дóчкі дóруць* [сваё адзенне]. Неўгадава. *Такія грыбы ёсітка, мы йіх завём мышакі.* Вялікі Азярэцк, Партызаны, Ульянавічы. *Ёсітка канфéты.* Вялікі Азярэцк, Дольдзева, Заазер'е, Малы Азярэцк, Міцюкова, Партызаны, Ульянавічы. *Калі ёсіка пастрóйка, вазілі, у ёўні вазілі лён.* Карпавічы.

**ЁСЦІ, Ё, ЁСЬ, ЕСЬ** *незак.* Тое ж. *Гарэлка ёсці, настáйівый мухамóры.* Багданава, Запруддзе, Рассвет. *Варýшкі на пні ё.* Багданава, Буй, Жохава, Кавалі, Кішуроўшчына, Партызаны, Рудніца. *Баравік ёсь, лісічкі ёсь.* Закур'е. *У рыбы есь пузыр, кішкі, жоўць, зябры кылá шчок.* Багданава.

**ЁЎНЯ, ЁЎНЯ** *ж.* Будынак для сушкі снапоў, лёну; ёўня. *Ёўня сымшыныя, застóліныя былá.* Запруддзе *Траслі кулі, ёўню насóдзім, а тады цъпáмі.* Каралі, Багданава, Баравікі, Буй, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Дольдзева, Карпавічы, Мангол ія, Міцюкова, Нямойта, Партызаны, Рэчкі, Савінічы, Ульянавічы, Чуцькі, Закур'е. *Там ёўня у такý.* Серкуці. *У ёўні сушылі лён.* Дуброўкі.

**Ж, ЖА, Ш** *часц. ж, жа. Дык што ж мы з дзéдъм пъпръцъвáлі тады, пакýль дрóвы събрáлі.* Гарадзец. *Каб эта ж я съвлгáў, так ёсітка ж дакумéнты, што так былó.* Ульянавічы. *Папрыгаіш па спіне́, кап ні балéла, жаць жа нáда.* Багданава. *Усё ш сваё былó, саматкáльная*[е]. Буй. *Ну, роў ета ш* [завецца ля возера]. Гарадок, Ракаў Засценак.

**ЖÁБА** *ж.* Жаба. *Éслі жáбу заб'еш – дож бýдзіць* (павер'е). *Жáба аддзéльна, а лягýшка аддзéльна, не тóе сáмае. Жáбы, гавóруць, бы чараўнікі, урóдзі бы карóву сасéць, за сóску ўчэпіцца.* Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Запруддзе, Карпавічы, Міцюкова, Партызаны. ◊ набрáцца ЯК ЖÁБА ГРАЗІ. Быць моцна п'яным, залішне напіцца. Ульянавічы, Серкуці. ◊ лéзці ЯК ЖÁБА НА КОРЧ. Пра чалавека, які некуды моцна імкнецца. Вялікі Азярэцк.

**ЖÁБІЦА** *ж.* Памылка пры тканні. *Жáбіца палýчыцца, калі аннý прапýсціш трасцінý, тады й пълатнó хоць цырýй.* Закур'е.

**ЖÁБІЦА** *ж.* Рэгулятар камянёў у жорнах. *А як апýсціш жáбіцай кáмінь, тады змалóць нéік.* Запруддзе.

**ЖАБРÁК** *м.* Жабрак, старац. *Былі жабракі – з мýзыкай хóдзюць.* Рассвет.

**ЖÁБРЫ, ЗЯ́БРЫ** *мн.* Жабры. *У рыбы ёсь жáбры, жоўць, кішкі, пузыр.* Сянно. *У рыбы есь пузыр, кішкі, жоўць, зябры кыла шчок.* Багданава.

**ЖÁВАРАНАК, ЖÁЎРАНАК, ЖÁЎНАРАК** *м.* Жаваранак. *Жáвъранкі пяюць.* Багданава. *Жáўранкі далжны на Саракі прыляцéць. Жáўранкі шэранькія – пяюць красіва, як верабéйка.* Багданава, Запруддзе, Карпавічы, Латыгаль, Леснікова, Міцюкова, Нямойта, Сукрэмна. *На Саракі жáўнаркі, кнігаўкі налітáюць.* Дольдзева. ЖÁЎВАРАНАЧАК *памянш.-ласк. Жáўваранáчкі прыляцéлі.* Багданава.

**ЖАВІ́НЫ** *мн.* Ажыны. *Жавіны ў гаро́дзе свае́.* Багданава, Каралевічы, Леснікова, Міцюкова, Цясішча, Дуброўкі.

**ЖАГА́ЛА** *н.* Джала. *Пчала́ жага́лам жгнёць, распо́хніць ліцо́.* Каралі.

**ЖА́ДЗІНА** *агульн.* Прагны, скупы чалавек. *Жа́дзіна ты!* Гарадзец.

**ЖА́ДНАСЦЬ** *ж.* Прагнасць, скупасць. *Э́та ш ад жа́днасці бярэ́ць.* Багданава.

**ЖА́ДНЫ** *прым.* Прагны, скупы. Гарадзец.

**ЖАК** *м.* Рыбалоўная прылада: нерат з двума крыламі. *Жак такі́ здзе́ланы з ні́так, ры́бу лавіць.* Сукрэмна, Алексінічы.

**ЖАКЕ́ТКА** *ж.* Мужчынская і жаночая кароткая вопратка; жакетка. *Жаке́ткі іс сукна́ на паткла́тке шы́лі.* Каралі.

**ЖА́ЛА** *н.* Джала. *Жа́ла з пчо́лы, пшчалы́ выхо́дзіць з нутра́.* Закур'е.

**ЖА́ЛА** *н.* Лязо. *Жа́ла тъпара́ то́чаць, як тупы́й тапо́р.* Вялікі Азярэцк.

**ЖАЛАБО́К** *м.* Пра выгляд, які мае ўкладка бярвёнаў у *дра́чку. Засе́кі ў дра́чку дзе́лалі, жълапко́м такі́м дзе́лалі.* Гарадзец.

**ЖА́ЛАСЛІВЫ** *прым.* Схільны да жаласці, спачування, спагадлівы, чуллівы. *Душо́й жале́іць, жа́лъслівы.* Багданава.

**ЖА́ЛАСНА** *прысл.* Прачула, выклікаючы жаласць, спачуванне. *Гэ́та бува́ла мая́ ма́тка ай як пяе́ць, а жа́ласна!* Буй.

**ЖА́ЛАСНЫ** *прым.* Жаласны, спагадлівы, чуллівы. *Жа́ласны, цалу́іць мяне́.* Багданава.

**ЖА́ЛАСЦЬ** *ж.* Жаласць, спагада, спачуванне. *Німа́ дзяце́й і жа́ласці німа́: а то ка́ждага на́да пірад́умаць.* Запруддзе.

**ЖАЛА́ЦЬ** *незак.* Жадаць. *Буць шчасьлі́ва ўсігда́ і жъла́й мне, што я табе́.* Баравікі, Каралевічы, Латыгаль, Нямойта.

**ЖАЛЕ́ЗЗЕ** *н.* 1. Жалеза. *Там жале́ззе рэ́заў, бълва́нкі рэ́заў.* Багданава. 2. *зб.* Жалезныя рэчы, жалезны лом. *Жале́ззе ло́жыш* [у бакі]. Нямойта.

**ЖАЛЕ́ЗІНА, ЗЯЛЕ́ЗІНА** *н.* Жалезіна, жалезны прадмет. *Жале́зін наста́вілі ўся́кіх.* Гарадзец, Каралевічы, Партызаны, Фасаўшчына, Неўгадава. *Зяле́зіну атвярну́лі і бу́льбы даста́лі.* Леснікова.

**ЖАЛЕ́ЗЫ** *мн.* Жалезны капкан. *Дзет пласкагу́пцамі чуць ръзня́ў ты́я жале́зы.* Ульянавічы.

**ЖАЛЕ́ТКА** *ж.* Камізэлька. *Надзе́ла жале́тку – і къшалёк у къарма́н.* Багданава, Гарадзец, Леснікі, Нямойта, Неўгадава.

**ЖАЛЕ́ЦЬ** *незак.* Шкадаваць, адчуваць жаласць да каго-н. *Жале́ць – е́та късда́ пажале́іш рабёнка. Жале́ў жо́нку і не ўжале́ў.* Багданава, Леснікова, Партызаны, Рэчкі, Сукрэмна.

**ЖА́ЛІЦЦА** *незак.* Наракаць, скардзіцца на боль. *Куды́ жа́ліцца? А ён се́рцам ні жа́ліўся, раптоўна памёр.* Багданава, Леснікова, Партызаны, Рэчкі, Сукрэмна.

**ЖА́ЛІЦЬ** *незак.* Джаліць. *Жа́ліць пчъла́.* Запруддзе.

**ЖА́ЛКА** *прысл.* Шкада. *Мне ўсіх жа́лка.* Багданава, Рэчкі, Цясішча.

**ЖАЛО́БА** *ж.* Смутак з прычыны чыёй-н. смерці. *Гот у жало́бі.* Фасаўшчына.

**ЖАЛО́БНЫ** *прым.* ○ ЖАЛО́БНЫ СТОЛ. Памінкі пасля пахавання. *Куццю ядуць, як жало́бны стол. У нас гэ́дак. Як кынча́йіцца жало́бны стол, то ста́вюць нъ кане́ц сто́лу ваду́ ў стыка́ні, то ўсе зна́юць і выхо́дзюць* [з-за стала]. *Жало́бны стол ні ўбіра́юць да за́ўтра. На за́ўтра схо́дзяць на кла́дбішча, тады́ паабе́даюць на гэ́тых стала́х, а тады́ ўжо разбіра́юць. Зако́н такі. Так ро́бяць хоць шасці́ны, хоць уго́дкі.* Закур'е.

**ЖАЛЎДАК** *м.* Страўнік. *Дзівясіл жоўтым цвіціць, большы-большы куст быў, ат жалўтка. Дзівясіл ат каросты.* Чуцькі.

**ЖАЛЬ** *ж.* Жаль, засмучэнне, туга. *Нейкая абіда і жаль узілá.* Леснікова.

**ЖАЛЬЧЭЕ** *прысл.* Больш шкада. *А сыночка свайгó жальчэе.* Леснікова.

**ЖАЛЯЗЯКА** *ж.* Жалезны прадмет. *Мяне так не жалеіш, як жалязяку.* Партызаны. ЖАЛЯЗЯЦІНКА *памянш. Там жалязяцінка ўстаўляецца.* Марозаўка.

**ЖАМАНЎЦЬ, ЖМАНЎЦЬ** *зак.* Ціскануць. *Яшчэ жаманўць нагу, паламаюць.* Апечкі. *Узяў руку, жманўў, а дачка па макушцы пашлёпала.* Нямойта.

**ЖАМЯРА, ЖАМІРА** *ж.* Сухая абалонка льнянога альбо канаплянага семя. *Жаміра с канапель. Жаміра ат лёну. Семя патсўшыш, аж жамяра ідзеиь са льна, спаруць бульбу, на рэшата прасеюць, сала – і елі, соліне было.* Запруддзе, Розмыслава.

**ЖАНАТЫ** *прым.* Жанаты. *Тата ўжо жанаты быў.* Самсоны.

**ЖАНІЦЦА** *незак.* Жаніцца. *Лапці надзенуць, і во – мъладзён, паехаў жаніцца.* Багданава.

**ЖАНІЦЬ** *незак.* Жаніць. *Патом жэнюць ягó.* Закур'е.

**ЖАНІШКА** *ж.* Нявеста. *Што ты, з глўзду з'ехаў, якая яна жанішка?* Партызаны.

**ЖАНЧЫНА, ЖЭНШЧЫНА** *ж.* Жанчына. *Я худзенькая жанчына.* Буй, Марозаўка. *Еслі жэншчына голая прысніцца – плоха.* Каралевічы, Цясішча, Закур'е.

**ЖАПЁНКА** *ж.* Зад, азадак. *Гляджу, варона ны лясе квасоль выламыйіць, аж жапёнка пыдлятыйіць.* Сукрэмна.

**ЖАР** *м.* Жар, гарачае вуголле. *Жар клалі ў уцюгі.* Станюкі. *Жар – наперад, хлеб на лапату – і ў печ, спераду закінець, каб запекаўся.* Багданава, Гарадзец, Запруддзе, Партызаны, Ульянавічы.

**ЖАРА** *ж.* Гарачыня, спёка. *Бярозъвы сок* [кіслы] *у жару піць хърашó.* Дольдзева. *Ён далёка дўжа, там жъра бъльшая.* Заазер'е, Розмыслава, Серкуці, Фасаўшчына.

**ЖАРАБЕЦ** *м.* Жарабок. *Жърабец называюць непакладанага.* Рассвет, Рулёўшчына. *У нас быў жърабец Лысы, Васька, Рыжы, Шэры.* Леснікова.

**ЖАРАБЁНАК** *м.*, **ЖАРАБЯТЫ** *мн.* Жарабя. *Жарабёнак лысы.* Дольдзева, Сукрэмна. *Думал – мъладыя лошадзі ці жърабяты, а то – ласі.* Вялікі Азярэцк. ЖАРАБ'ЁНАЧАК *памянш.-ласк. Жараб'ёначка схваціў за ноздры воўк, і прапаў жараб'ёначак.* Багданава, Партызаны.

**ЖАРАБОК** *м.* Жарабок. *Тры браты жъръпка дзіржалі.* Марозаўка, Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Запруддзе, Рассвет.

**ЖАРАЛО** *н.* Круглая адтуліна для ўваходу. *Выкъпалі яму бальшую, жъраló ні дзелылі, а так травой закрылі.* Леснікова. *Сак пахожы на тъптуна, у сірадзіне жъраló.* Фасаўшчына, Леснікова.

**ЖАРДЗЁ, ЖЭРДЗЯ** *н. зб.* Жэрдзе. *Жардзём вымъсьціна, каб ні гніло дабро* [у гумне, на таку]. Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Серкуці, Фасаўшчына. *Прывязуць жэрдзя.* Запруддзе, Дольдзева, Нямойта.

**ЖАРДЗІНА, ЖЭРДЗІНА** *ж.* 1. Жэрдка. *Сцелюцца доскі прымерна шырына шэсць санціметраў і набіваюцца на жардзіну планкі, эта называіцца прасла.* Нямойта, Леснікова, Фасаўшчына. *Жэрдзіна тъкая прычэплена, гэта крусодня.* Каралевічы. 2. Пра вельмі высокага чалавека. *Вырас, як жэрдзіна.* Запруддзе, Алексінічы, Багданава, Гарадзец, Гарадок, Кляпчэва, Розмыслава.

**ЖАРДЗІНКА** *ж.* Жэрдка ў ёўні. *Ёўня булá, у ёўні – жардзінкі, цапкі звалісі.* Вялікі Азярэцк.

**ЖА́РКА** *прысл.* Горача, душна. *Хто ка́жыць жа́рка, а хто ду́шна.* Багданава, Вялікі Азярэцк.

**ЖА́РКІ, ЖАРКІ́** *прым.* 1. Спякотны. *Ой, як жарко́е ле́та – страх іх, гадзю́к.* 2. Цёплы, гарачы. *Тады́ жа́ркай вадо́й памо́чыш хлеп.* Вялікі Азярэцк. *Пяклі́ пръсна́к, пасо́дзіш на жа́ркую скаваро́ду. Праснак на скаваро́дзе жа́ркай пяклі́.* Каралі. *Не еж жа́ркі хлеб, хай прасты́ніць. Бярэ́ш жа́ркі хлеб, кача́еш па це́лцу, як крыкуны́ загаво́рваць.* Вялікі Азярэцк, Дольдзева, Каралевічы, Леснікова, Міцюкова, Парэчча, Ульянавічы. 3. Які дае многа цяпла. *З я́сеню дро́вы жа́ркія.* Нямойта. 4. Хворы з высокай тэмпературай (?). *Быў і гало́дны, быў і хало́дны, быў і жа́ркі.* Ульянавічы.

**ЖАРНАСЕ́К** *м.* Майстар, спецыяліст, які робіць жорны. *Жърнасе́к дзе́лаў жо́рны – выця́саў, пръбіва́ў то́нінькую дзі́рычку у ні́жнім ка́мені, куды́ устуўля́лі вірцяно́, а ў ве́рхнім прыбіва́ў йіча́йку – бо́льшую сту́пку.* Заазер'е.

**ЖАРО́БКА** *ж.* Жаробка. *Жаро́пку і Гры́шку пяру́н забі́ў.* Ракаў Засценак. ЖАРО́БАЧКА *памянш.-ласк.* *Жаро́бачка стрыжэ́ць вушмі́.* Гарадзец.

**ЖАРО́БЧЫК, ЖАРЭ́ПЧЫК** *м.* Непакладаны жарабок. *Пі́рышка – ма́лінькій, а тады́ жаро́бчык.* Багданава. *Жарэ́пчык – е́та нялёхчаны жарабо́к, е́слі малады́.* Нямойта, Сукрэмна.

**ЖАРСТВА́** *ж.* Буйны пясок, дробныя каменьчыкі. *Была́ рэ́чка, аж жарства́ віда́ць.* Багданава, Ульянавічы.

**ЖАРТ** *м.* Жарт. *Каро́ў на Купа́лу папрывя́звалі, павы́велі з хлявоў, які́ ж гэ́та жарт, гэ́та дур.* Нямойта, Партызаны.

**ЖАРЧЭ́Й** *прысл.* Гарачэй. *Хто хо́ча жарчэ́й, ле́зе вышэ́й нъ цапкі́.* Вялікі Азярэцк, Леснікі.

**ЖАРЧЭ́ЙШЫ** *прым.* Больш гарачы. *Два часы́ хлеб пъсядзі́ць у пе́чы, като́рая бу́лка на жарчэ́йшым, като́рая на халадне́йшым – сарту́ем.* Міцюкова.

**ЖАРЫ́ШЧА** *ж.* Спёка, гарачыня. *Така́я цеплата́, жары́шча.* Цясішча.

**ЖАРЭ́НЦЫ** *толькі мн.* Жорны, ручны млын малога памеру. *Забы́ліся ўзяць жарэ́нцы* (з казкі). Вялікі Азярэцк.

**ЖАСМІ́Н, ЖЭ́СМІН** *м.* Язмін. *Куст жъсмі́ну пад вакно́м, па́хнець так.* Багданава. *Жэ́смін цвіці́ць красі́ва.* Леснікова.

**ЖАСЦІ́НА** *ж.* Кавалак бляхі. *Дзе йіка́я жасці́на, то ён прынясе́ і пызыкла́дыйіць.* Запруддзе.

**ЖАСЦЯ́НКА** *ж.* Рэч, зробленая з жэсці. *Ва́зу, жыъсця́нку, здзе́лана з глі́ны нашлі́ там.* Жохава.

**ЖАСЦЯ́ННІК** *м.* Бляхар. *Бля́хір пае́хаў, жасця́ннік, каму́ кру́шку здзе́лаіць, каму́ што.* Манголія.

**ЖАЎЛА́К** *м.* Жаўлак, гузак, нарост. *Жа́ўлакі́ гры́зці на́да. Абразува́ўся не́йкі жъўла́к, і ў бальні́цу пълажы́лі.* Багданава. ЖАЎЛАЧО́К *памянш.* *Уда́рыў руку́, і не́йкі жъўлачо́к пъяві́ўся.* Рэчкі.

**ЖАЎНА́** *ж.* Жаўна, чорны дзяцел. *Жъўна́ – красі́выя пту́шка, як грак ро́сту.* Сянно.

**ЖА́ЎНАРАЧКА** *ж.* Жаваранак. *Жа́ўнарачку паслу́хаць – вясно́й не паслу́хаеш, іх усё менш і менш.* Дуброўкі, Нямойта.

**ЖАЎТУ́ХА** *ж.* Жаўтуха (хвароба). *Жаўту́ха – пе́чань балі́ць.* Баравікі, Гарадзец, Каралі, Леснікі, Леснікова.

**ЖАЎЦЕ́ЦЬ** *незак.* Жаўцець, набываць жоўты колер. *Жаўце́іць і ва́ліцца ліст, пъдмяту́, ён зноў ва́ліцца.* Багданава, Буй.

**ЖАЎЦІЗНА́** *ж.* Жаўтлявасць. *Бе́лый конь урыждáйiцца бéлый, у ягó й капы́т бéлый, у йім* [белым капыце каня] *аццéнык жаўцізны́ ёсь.* Сянно.

**ЖАЎЦІ́ЦЬ** *незак.* Фарбаваць у жоўты колер. *Э́та сукнó ды жаўцíла.* Багданава.

**ЖАЎЦЯ́НКА** *ж.* Жаўтабрушка (птушка). Дуброўкі.

**ЖАХ** *выкл.* Імгненна зашчапіць. *Дзвéры жах на кручóк – і закры́ла.* Латыгаль.

**ЖАЦЬ** *незак.* Жаць. *Звéрху калóссе жні, а там касí.* Каралевічы. *Сніцца жы́та жаць – хърашó.* Ракаў Засценак. *Я с чатырнáццацi гадóў і жну і арý.* Багданава. *Жáлі кóнімі.* Каралі, Вялікі Азярэцк, Заазер'е, Кляпчэва, Цясішча.

**ЖБАНО́К** *м.* Збанок. *Жбанóк, што малакó цадзíлі.* Савінічы.

**ЖВА́КА** *ж.* Жвачка. *Калí карóва ня жвець жвáку, лы́ка звяжуць і сáла ў лы́ка, і йна тады́ жвеиць.* Чуцькі.

**ЖВАЦЬ** *незак.* 1. Жаваць. *Прышлá с пóля карóва, жвáчку ня жвеиць.* Гарадзец. *Жвеиць, у рот бярэ́ць кірпічыну́ рабёнак.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец. 2. *перан.* Балець, круціць. *Рýкі во бъляць, жвуць.* Партызаны.

**ЖВА́ЧКА** *ж.* Жвачка. *Карóва жвáчку жвеиць.* Гарадзец.

**ЖВЫ́ГНУЦЬ** *зак.* Скакануць. *А трýска як жвы́гнеиць са шчытá.* Багданава.

**ЖҐА́ЛА** *н.* Джала. *Кусáіць жґáлам éтым – жґáла у пóпі.* Вялікі Азярэцк.

**ЖГУ́ЧКА, ЖҐУ́ЧКА** *ж.* Пякучая крапіва з дробным лісцем; жыгучка. *Жгýчку крапíву не ядýць. Жгýчка стрыкýчая, у бáні як напáруцца, труць як нóгі баля́ць.* Багданава, Буй, Запруддзе, Каралі.

**ЖДАЦЬ** *незак.* Чакаць. *Маé гады́ сваё ўзялí, жджы, зялёны гаёчак.* Багданава, Каралевічы, Леснікова, Рэчкі.

**ЖЖЫ́ЦЦА** *зак.* Зжыць, пражыць (жыццё). *Усé лю́дзі жжылíся.* Фасаўшчына.

**ЖМЕ́НЬКА** *ж.* 1. Мера, колькасць чаго-н., што змяшчаецца ў далоні. *Зажынáлі, бувáла, такí мáлінькі снапóк, там са жмéнькі са тры.* Дольдзева, Заазер'е, Самсоны. 2. *прысл.* Няшмат, мала. *Там жа людзéй тых жмéнька.* Каралі, Нямойта, Чуцькі.

**ЖМЕ́НЯ** *ж.* 1. Жменя. *У жмéні сціснеш пáлец с крóўю і лáнна.* Міцюкова. 2. Мера, колькасць чаго-н., што змяшчаецца ў далоні. *Дарý жмéню мéдзі, каб жылí, як мядзвéдзі.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Гарадзец, Нямойта, Закур'е.

**ЖМУ́РА** *агульн.* Той, хто часта прыжмурваецца. *Жмýра – якíя плю́скаюць вачáмі.* Дольдзева.

**ЖМУ́РЫЦЬ** *незак.* Жмурыцца, прыжмурвацца. *Жмýруць глазáмі.* Багданава, Розмыслава.

**ЖМУТ** *м.* Жмут, пук. *Жмут шýму вы́нілі з цілівíзара.* Неўгадава.

**ЖМУХА́, ЖМАХА́** *ж.* Адходы пасля адціскання соку, алею альбо іншага прадукту; жамерыны. *Жмухá, кагдá пóснае мáсла дзéлалі.* Багданава. *Алéй цёк, астаéцца жмъхá, скот пъідáў.* Кляпчэва.

**ЖМЫХ** *м.*, **ЖМЫ́ХІ, ЖМЫ́КІ** *мн.* Тое ж. *Жмых вывазíлі скатý.* Латыгаль. *С кънаплянага* [семя] *дзягнó. Пасýшуць* [семя], *расцярýць, цэ́дзюць на сíтца, жмых вы́кінуць, вáрылі.* Вялікі Азярэцк. *Жмыхí вы́кініце – кісéль аб'ядзéнне.* Дольдзева, Ракаў Засценак, Неўгадава. *Дзя́цька жмы́кі з бýльбы прывёс.* Кляпчэва.

**ЖМЫХ** *выкл.* Імгненна выкаціцца і знікнуць. *Жмых, як шáрык, і пыкацíўся гром* [пра шаравую маланку]. Ракаў Засценак.

**ЖНЕ́ЙКА** *ж.* Жняярка, жатная машына. *Жнéйка кóнная былá, а мы рукáмі вязáлі.* Гарадзец.

**ЖНЕЯ́РЫЦЬ** *незак.* Жаць. *Бывáла, хто-нéбудзь жнеярыць.* Запруддзе.

**ЖНІВАВЫ́** *прым.* Жнівеньскі. *Жнівавэ́я апéнькі ніхтó не брау̌.* Каралі.

**ЖНІВÓ** *н.* 1. Жніво. Вялікі Азярэцк, 2. Жніу̌ныя песні. *Пяю́ць пéсні у̌ жнівó, жнівó пéлі.* Апечкі, Багданава, Буй, Гарадзец, Каралі, Леснікі, Марозау̌ка, Нямойта.

**ЖНІВÓЧЫ** *прым.* Жніу̌ны. *Въйнá змірылася, а мы пяём жнівóчые пéсні.* Баравікі.

**ЖНІ́Я** *ж.* Жняя, жнейка. *Тóе палучáець, што і харóшая жні́я.* Нямойта.

**ЖНЯЯ́РКА** *ж.* Тое ж. *Бувáла, як жнеш жыта, ідýць жняяркі, скáжуць: «Пъмагáй бог». Скáжаш: «Спасíба».* Запруддзе.

**ЖÓНКА, ЖЫ́НКА** *ж.* Жонка. *Шчэ жывáя жóнка бýдзіць – пъбяжыць к другéй.* Нямойта. *Жы́нка у̌мéрла.* Баравікі.

□ *Събáку выбірáюць пъ псярні, а жóнку пъ радні.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Леснікі, Леснікова, Закур'е. □ *Пакýль жóнка снідáнне звáрыць, сем раз мýжа абмáніць.* Каралевічы.

**ЖÓПА** *ж.* 1. Зад. *І мáмачка, й пáпачка, і бáбачка – і у̌ ж... я́мачка* [гавораць, як дзіця енчыць]. Багданава. 2. Ніжняя частка ступы. *У стýпі ж..., с... ш у чълавéка.* Фасау̌шчына.

**ЖÓПКА** *ж.* Патоу̌шчаная частка яйка. *Жóпка у̌ яйцá і дзю́бъчка, нóсік, бялóк і жау̌тóк.* Вялікі Азярэцк, Розмыслава.

**ЖÓРАЎ** *м.* Жорау̌. *Журавы́ прыляцéлі, дзéу̌кі зáмуж зъхацéлі.* Каралевічы.

**ЖÓРНЫ** *толькі мн.* Жорны, ручны млын. *У жóрнах два камяні. Жóрны есць дзеравя́нныя, чыгунóм набíтыя.* Міцюкова, Багданава, Гарадзец, Запруддзе, Каралі, Марозау̌ка, Цясішча, Дуброу̌кі, Неу̌гадава.

**ЖÓРТКА** *ж.* Жэрдка. *Éта во рýчкі, éта во жóртка.* Замошша.

**ЖÓСТКІ** *прым.* 1. Цвёрды. *Сьпíнка, сядзéнне* [у вазку] *у кагó мя́кка, у кагó жóсткае.* Нямойта. 2. Кастлявы. *Жóсткая я, худýшчая.* Нямойта. 3. Жарсткаваты. *Жóсткая такáя бáба.* Гарадзец. *Цяжóлая карóва, жóсткая.* Каралевічы. 4. Натурысты. *Жóсткі конь, нізаштó не дасць сéсці мальчукáм, сця́гніць зубáмі.* Рэчкі.

**ЖÓСТКІ** *прым.* Рухавы, вёрткі, жвавы. *Жóсткі, дак і у̌ стýпі ня злóвіш.* Каралевічы, Багданава.

**ЖОЎ** *м.* Нажаваная маса у̌ роце. *Ныбівáйіцца жоу̌ зы шчакý у̌ кыня́, ён дáжа шчакý зыйідáіць.* Самсоны.

**ЖÓЎТА-РЫЖУВÁТЫ** *прым.* Жоу̌та-рыжаваты. *Бальшы́і ласí, жóу̌та-рыжувáтыя, рóгі дýжыя.* Багданава.

**ЖÓЎТЫ** *прым.* Жоу̌ты. *Капыты́ – жóу̌тыя грыбы́.* Баравікі, Запруддзе. ЖÓЎЦЕНЬКІ, ЖÓЎЧЫНЬКІ *ласк. Луг такí жóу̌ценькі ад адувáнчыкау̌.* Запруддзе, Багданава, Неу̌гадава. *Стаíць у пéчы мълакó, стóпіць – жóу̌чынькая.* Нямойта.

**ЖÓЎЦІНЬКА** *прысл. ласк.* Жоу̌та, жоу̌тага колеру. *Пудалéшкі крáсныя звéрху, а пад нíзам жóу̌цінька.* Галашчакіна.

**ЖОЎЦЬ, ЖОЎЧ** *ж.* Жоу̌ць. *Жоу̌ць па пячóнкі у курыцы.* Буй. *Чым ні націрáла нóгі, жоу̌ч брáла.* Нямойта.

**ЖОЎЦЬ** *м.* Жоу̌цевы пухір. *Зрáзу у̌далíлі жоу̌ць.* Івоні.

**ЖУДЗІ́ЦЬ** *незак.* Непакоіць, турбаваць. *Янá дáжа і жудзíць мáлым, мішáіць.* Заазер'е.

**ЖУГÝЧКА, ЖУГÝШКА, ЖАГÝЧКА** *ж.* Пякучая крапіва з дробным лісцем; жыгучка. *Крапíва тъкáя жагýчка, інá мéлінькая.* Савінічы. *Крапíва дзíкая –*

*завýць жугýшка.* Заазер'е, Багданава, Запруддзе, Міцюкова, Мянюцева, Нямойта, Ракаў Засценак, Партызаны, Чуцькі, Закур'е.

**ЖЎЖАЛЬ** *м.* Жыжа ад свіней. *Жýжаль – ат свінéй навóс, жыжа.* Фасаўшчына, Алексінічы, Галашчакіна, Нямойта.

**ЖУК** *м.* 1. Жук. Заазер'е. 2. Пра чалавека, які шчыра працуе на зямлі. *Земляныя жукі былі тыя людзі, каró атстранілі ад зямлі.* Вялікі Азярэцк. ○ КАЛАРА́ДСКІ (КАРАЛА́ЦКІ, КАЛАРА́ЦКІ, КАВАРА́ЦКІ) ЖУК. Жук, які аб'ядае лісце бульбы. *За кълърáдскъга жýча бýльбы німá.* Буй, Апечкі, Вялікі Азярэцк, Нямойта, Сянно. *Жукі каралáцкія ёсь.* Рулёўшчына. *Мáла каларáцкіх жукóў стáла ў гэтым гóдзе.* Партызаны. *Кънапля́ харашó ат каларáцкага жукá.* Жохава. *Як крáлі, вісяць каварáцкія жукі, хай на іх халéра! Ат жукóў каварáцкіх не атабрáцца былó.* Багданава. ○ ЖУК КРА́СНЫ. Чырванацелка. *Ай, ратýйце, дрэнна стáла ад жукóў крáсных.* Запруддзе. ○ ЖУК МА́ЙСКІ. Хрушч. *На кустáх, як хмель, вісяць пáчкамі жукі мáйскія. Мáйскія жукі – скóлькі іх відзіш – у вóчы, у ліцó стýкаюць. Мáйскія жукі, бувáла, на цябé садзя́цца.* Нямойта. *Бувáла мáйскія жукі ой як лётаюць, а цяпéр німá, не ўвідзіш мáйскага жукá.* Вялікі Азярэцк. *Мáйскі жук на къштáне, на каліні.* Жохава. ○ ЖУК МАЁВЫ. Тое ж. *Бувáло, жукóў маёвых што іх було́, ціпéр нідзé німá. Усё сілікáты гэтыя: маёвых жукóў не відáць.* Багданава. ○ ЖУК-НАВО́ЗНІК. Жук-гнаявік. *Жукі-навóзьнікі чóрныя, тóўстыя, пóўзаюць па навóзу, прáма сінія.* Запруддзе. ○ НАВО́ЗНЫ ЖУК. Тое ж. *Навóзны жук – чóрнасіні, рэдка дзе увідзіш.* Вялікі Азярэцк. ○ ГАЎНЯ́НЫ ЖУК. Тое ж. *Гаўняны жук éта.* Рулёўшчына.

**ЖУЛЕ́ЙКА** *ж.* Жалейка; народны музычны інструмент у выглядзе дудкі з раструбам. *Жулéйка йгрáць былá тыкáя.* Нямойта. *Жулéйка – глінянъя, длíннъя, і дырачкі дзéлалі.* Кляпчэва.

**ЖЎЛІК** *м.* Гаворыцца ў адносінах да малых дзяцей. *Жýлік віцепскі гэты мáлы.* Станюкі.

**ЖЎЛІК** *м.* Пра маленькую бутэлечку гарэлкі. *Жýлікі былі, éта малéнькія бутылачкі гарэлкі.* Леснікі.

**ЖУМСЦЕ́ЦЬ** *незак.* Хрумсцець. *Жумсціць жóрскае штось на зубáх.* Нямойта.

**ЖУРАВЕ́ЛЬ, ЖУРА́ЎЛЬ** *м.* Калодзеж з жураўлём. *Калóдзеш з жураўлём – гэта журавéль.* Кляпчэва. *Журáўль кала калóдзіжа ё.* Гарадзец.

**ЖУРАВІ́НЫ** *мн.* Журавіны. *У сóсніку журавіны раслі. На Узьвіжанне ў журавіны хóдзюць, ядýць ягады, каб галавá ні балéла.* Багданава, Гарадзец, Дольдзева, Заазер'е, Запруддзе, Каралевічы, Кішуроўшчына.

**ЖУРА́ЎЛЬ, ЖУРА́Ў** *м.* Жораў. *Жураўлі ляцяць высóка – зімá яшчэ далёка, а калі нізка – зімá блізка* (прыкмета). Гарадзец, Вялікі Азярэцк, Партызаны. *Жураўі былі, чáплі.* Гарадзец, Багданава.

**ЖУРБА́** *ж.* Журба. □ *Журбá бядзé ня пóмач.* Каралевічы.

**ЖУРЫ́** *толькі мн.* Вантробы, унутраныя органы. *Каб табé журы вышлі – з сярэдзіны папавышла!* (праклён). Запруддзе.

**ЖУТКІ́** *прым.* ◊ ЖУТКО́Ё ДЗЕ́ЛА. Надзвычай многа. *Машын – жуткóё дзéла.* Ульянавічы.

**ЖУЎТЛЯВА́ТЫ, ЖУЎТЛЮВА́ТЫ** *прым.* Жаўтаваты. *Éльнік мъладый, ён такі жуўтлявáты.* Багданава. *Жуўтлювáтыя пыдасінывікі растýць, дзе больш асíны.* Багданава.

**ЖУЎТЛЯ́ВЫ** *прым.* Тое ж. *Тэ́я грыбы́ жуўтля́выя такéя.* Алексінічы, Сянно. ЖУЎТЛЯ́ВІНЬКІ *памянш. У вару́шкі галóўка жуўтля́вінькыя.* Сукрэмна.

**ЖУЎТУВА́ТЫ** *прым.* Тое ж. *У нас пяскí жуўтува́тыя, на йíх расцéць.* Самсоны.

**ЖУЧÓК** *м.* Невялікі жук. *Як у кыня́ чэ́рві, то дува́лі жучкí са ўсом, яны́ такéя бліску́чыя, зылацíстыя.* Самсоны.

**ЖУШЧЭ́ЦЬ** *незак.* Скрыгатаць, хрусцець. *Буваíць, што ў хлéбу пясóк жушчы́ць на зуба́х.* Сукрэмна, Алексінічы, Фасаўшчына.

**ЖЫ́ВА** *прысл.* Хутка, паспешліва. *Жы́ва рабóтаць пайшóў.* Баравікі.

**ЖЫВÍЧНЫ** *прым.* ○ ЖЫВÍЧНАЯ СМАЛА́. Жывіца; вадкая празрыстая смала, што выцякае са ствалоў хвойных дрэў у месцах іх пашкоджання. *Мёду, ву́ксусу, смалы́ жывíчнай з сасны́ – і нацíра́нне такóе.* Вялікі Азярэцк.

**ЖЫВÓТ**, **ЖУВÓТ** *м.* Жывот. *Ваду́ загава́раюць ат зълатніка́, на жывацé зъгава́раюць. Каб ты éздзіў жыватóм!* (праклён). Запруддзе, Багданава, Партызаны. *Жувóт нéяк забалíць, нéшта вéрціцца, залатнíк зыгава́рваіць.* Заазер'е. ЖЫВАТÓК *памянш. Дай бóжа здарóўя ў ру́чкі, у нóжкі, у жыватóк трóшкі* (з замовы). Каралевічы.

**ЖЫВУ́ШЧЫ** *прым.* Жывучы. *Каты́ жыву́шчыя.* Багданава, Неўгадава.

**ЖЫВЫ́** *прым.* 1. Жывы. *Мóжа, яна́ і цяпéр жы́ва была́. Каб я так жы́ва была́.* Запруддзе, Алексінічы, Самсоны. *Алé я аста́лася жы́ва. У іх жывэ́і пчóлы?* Вялікі Азярэцк. 2. Жвавы, рухавы. *Яна́ така́ жыва́я ба́ба.* Каралевічы. ◊ ЖЫ́ВЫ-ЗДАРÓВЫ. У добрым здароўі. ◊ НА ЖЫВЫ́ БОХ. З цяжкасцю. Леснікова, Буй, Запруддзе, Латыгаль, Партызаны, Цясішча. ◊ НА ЖЫВÓЕ. Для жыцця. *Во шчэ на жывóе асталíся, а éлі і кра́скі, і шча́вель, і гнілу́шку.* Цясішча.

□ *Жывы́ ў я́му ні ля́жыш.* □ *Хоць жывóму ў я́му лезь.* Каралевічы.

**ЖЫГ** *выкл.* Хутка пабегчы. *Карóва жыг у лес.* Каралевічы, Гарадзец.

**ЖЫГА́ЛА**, **ЖЫ́ГАЛА**, **ЖЫГА́ЛО** *н.* Джала. *Жыга́ла ў пчалы́.* Запруддзе, Каралі. *А жыга́ла ў въдня́ во тут, як ужа́ліць жыга́лам!* Серкуці. *Жы́гала пчала́ упусцíла. Жыга́ло упусцíла пчала́ і памéрла.* Закур'е.

**ЖЫГА́ЛА** *н.* Лязо, вастрыё ў касе. *На вóструю ба́пку атбíў касу́, а на тупу́ю пупра́віў жыга́ла.* Леснікова.

**ЖЫГА́ЦЦА** *незак.* Жыгаць, апякаць (пра крапіву). *Жыгу́чка ду́жа жыга́іцца.* Савінічы.

**ЖЫ́ГАЦЬ** *незак.* Бліскаць. *Жы́гаіць мълъння́, жы́гаіць.* Дольдзева.

**ЖЫГ-ЖЫГ** *выкл.* Перадача гукаў шорхання, руху апалонікаў. *Жыг-жыг – (а)палóннікі у якóй вы́гарцы ці што.* Багданава, Каралевічы.

**ЖЫ́ГНУЦЬ**, **ЖЫ́ГНАЦЬ** *зак.* 1. Моцна ўдарыць. *Мала́ння мянé жы́гнула, ня пóмню, скóлькі ляжа́ла.* Вялікі Азярэцк. 2. Бліснуць. *Жы́гнала маланння́. Як маланння́ жы́гнець, пóтым ня бось, сту́ку не на́да бая́цца.* Вялікі Азярэцк.

**ЖЫГУ́Н** *м.* Той, хто вёрткі, гарэза, непаседа. *Во жыгу́н, тут ёсць, тут нíма́* [пра дзіця]. Фасаўшчына.

**ЖЫДЗÉЙ** *прысл.* Радзей. *Катóра гу́ста зва́рыцца, катóра – жыдзéй.* Вялікі Азярэцк.

**ЖЫДЗÉЙШЫ** *прым.* Драбнейшы. *Картóшка жыдзéйшая така́я.* Міцюкова.

**ЖЫ́ДКІ**, **ЖЫ́ТКІ** *прым.* Вадкі. *Гру́дзью як кóрміш, жы́дкім каб пíта́ўся.* Каралевічы, Міцюкова. *Жы́ткі суп нéйкі еў.* Міцюкова.

**ЖЫ́ЖА** *ж.* Жыжка, цякучая сумесь вадкіх і цвёрдых рэчываў. *Жы́жу навóзную зяць аткáтаець.* Буй, Станюкі, Цясішча.

**ЖЫ́ЖКА, ЖЫ́ШКА** *ж.* Жыжка, вадкая частка стравы. *Жы́жку пасёрбаў.* Кляпчэва. *Дава́лі жы́жку – атва́р з я́чных круп.* Гарадзец, Нямойта, Цясішча, Неўгадава.

**ЖЫ-ЖЫ-ЖЫ** *выкл.* Передача гукаў патрэсквання кастрыцы пры абпальванні. *Увóй на крук і смуры́жылі – жы-жы-жы, каб кастры́ ні быλó, і ўвой быў гла́дкі, мя́ккі.* Запруддзе.

**ЖЫ́ЗНЕННЫ** *прым.* Гаспадарлівы, руплівы, спрактыкаваны. *Хызя́ін быў харóшы, талкóвы, жы́зьненны, цяпе́р такóга ні найці́.* Савінічы.

**ЖЫ́ЗНЯ**, **ЖЫ́ЗІНЬ**, **ЖЫЗНЬ**, **ЖЫСЬ** *ж.* Жыццё. *У пе́сні жы́зня ўся.* Каралевічы, Вялікі Азярэцк, Розмыслава, Рэчкі, Неўгадава. *Жы́зінь мыя́ тыка́я, у мяне́ гóре ёсь, ёсці янó ў кóждыга.* Сянно. *А у нас сва́я жы́зінь: сядзі́м старыкі́ ды гару́ім.* Марозаўка, Мянюцева, Дуброўкі. *Там у Крыму́ жысь была́!* Кішуроўшчына, Буй, Нямойта, Ракаў Засценак. *Жызнь пражы́ць – ду́жа бальшóе дзе́ла.* Ульянавічы. *Усю́ жысь касі́ла і жа́ла.* Партызаны, Багданава, Запруддзе, Каралевічы, Нямойта, Міцюкова, Дуброўкі, Неўгадава.

□ *Жысь прайці́ – ня пóля перайці́.* Ульянавічы.

**ЖЫ́ЛА** *ж.* Жыла, крывяносны сасуд. *Жы́ла на рука́х. Кап табе́ жы́лы пацягну́ла!* (праклён). Запруддзе, Вялікі Азярэцк, Серкуці. *На рука́х жы́лы панабуха́лі.* ◊ НА ЎСЕ ЖЫ́ЛЫ. Як мага больш. *Бяры́ на ўсе жы́лы.* Закур'е.

**ЖЫ́ЛІСТЫ** *прым.* Моцны фізічна, дужы, вынослівы. *Такія жы́лістыя былі́* [хлопцы]. Дольдзева.

**ЖЫ́ЛІШЧА** *н.* Жыллё. *Прасі́ла, каб да́лі жы́лішча.* Гарадок.

**ЖЫ́ЛКА** *ж.* Крыніца. *Нівялі́кая жы́лка працікáіць, іна́ ні замірза́іць.* Латыгаль.

**ЖЫ́ЛЛЕ** *н. зб.* Жылы, крывяносныя сасуды. *Я перавя́зваю, жы́лле балі́ць усё.* Партызаны. ◊ ПАДЦЯГНУ́ЦЬ ЖЫ́ЛЛЕ. Аслабнуць здароўем. *Падцягну́ла жы́лле мне, хадзі́ць ні магу́.* Цясішча, Міцюкова, Серкуці.

**ЖЫЛЛЁ** *н.* Жыллё. *І хле́ба ні хвата́ла, і жылля́ ні хвата́ла.* Латыгаль.

**ЖЫ́ЛЫ** *прым.* Жылы́, прызначаны для пражывання. *Жы́лы дом ці хлеў – нізве́сна.* Савінічы, Фасаўшчына.

**ЖЫ́ЛЫ** *прым.* Карэнны жыхар, тубылец. *Гэ́та на́да, сынóк, кап тут хто жы́лы быў.* Буй.

**ЖЫР** *м.* Тук. *Жыр жóўценькі, у капу́сту ўкі́ніш, у суп.* Буй, Жохава.

**ЖЫ́РНЫ** *прым.* 1. Тоўсты. *Ён быў такі́ жы́рны, але́ не́дзе быў тры дні, стаў худы́.* Нямойта. 2. Тлусты. *Жы́рнаё са́ла.* Вялікі Азярэцк, Багданава.

**ЖЫ́РНЫ** *прым.* Чарназёмны. *На жы́рнай зямлі́ бу́льба ні распа́рваецца.* Запруддзе.

**ЖЫ́ТА** *н.* Жыта. *Зямля́ як ня́ўдóбраная, жы́та плахóе, зарадзі́ў касце́р.* Багданава. *Бóгу бараду́ дзе́лалі, як дажына́лі жы́та.* Багданава. *На Йва́на Купа́лу йдуць па жытóх.* Запруддзе. *Мітла́ расце́ць у жы́ці.* Розмыслава.

□ *Сабра́ўся уміра́ць, а жы́та сей.* Ульянавічы. □ *Ні ўважа́й на ўража́й, а жы́та сей.* Ульянавічы. □ *Сухі́ май – бу́дзе жы́та як гай.* Марозаўка, Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Дольдзева, Заазер'е, Каралі, Кішуроўшчына, Партызаны, Ракаў Засценак, Чуцькі, Закур'е.

**ЖЫ́ТНІ**, **ЖЫТНЫ́**, **ЖЫ́ТНЫ** *прым.* Жытні, з жыта. *З жы́тняй мукі́ пяклі́.* Карпавічы. *Жы́тная мука́.* Запруддзе. *Жытнэ́я была́ мука́.* Запруддзе. *Жытнóе збóжжа.* Міцюкова, Вялікі Азярэцк, Партызаны.

**ЖЫ́ТНІК** *м.* Апенька, якая расце ў час цвіцення жыта. *Ё ў нас апе́нькі-жы́тнікі, яны́ драбне́йшыя.* Цясішча, Запруддзе, Пожанькі, Сянно.

**ЖЫ́ТНІК** *м.* Сорт яблыкаў. *Жы́тнікі сало́ткія.* Пожанькі.

**ЖЫ́ТНІШЧА** *н.* Поле, дзе расло жыта; жытнішча. *На жы́тнішчы се́йілі бу́льбу і зярно́.* Гарадок.

**ЖЫ́ТЦА** *н.* Жыта (пра зерне). *Жы́тца зве́іць.* Баравікі.

**ЖЫХ** *выкл.* Імкліва, рэзка адскочыць убок. *Кот жых у сто́рану, а я ціс дзвяра́мі.* Багданава.

**ЖЫ́ХАР** *н.* 1. Жыхар, насельнік. *Стары́я жы́хары па піцісят со́тык агаро́ду ма́юць.* Каралевічы, Лытагаль, Партызаны, Ульянавічы. 2. Гаспадар. *Як не бу́дзеш скот мець, які ж ты жы́хар.* Дольдзева, Манголія.

**ЖЫХА́РКА, ЖЫ́ХАРКА** *ж.* 1. Жылец, жыхар. *А я ікая жы́харка – адна́.* Дольдзева, Вялікі Азярэцк. 2. Гаспадыня. *Ніякая жыха́рка я, с ко́йкі устаць ні магу́.* Розмыслава.

**ЖЫ́ЦВІК** *м.* Ліпеньская апенька (грыб). *Жы́цьвікі бу́дуць у ю́лі ме́сяцы. Жы́цьвікі для со́лкі ні гыдзя́цца.* Міцюкова.

**ЖЫ́ЦІЛКА** *ж.* Жыхарка. *Я тут ні ста́рыя жы́цілка.* Рулёўшчына.

**ЖЫ́ЦІНА, ЖЫЦІ́НА** *ж.* 1. Каліва жыта. *Дзе́вяць жы́цін, хле́ба кро́шачку скру́цяць у кружо́лачку і астаўля́юць на по́лі – як дажы́нкі.* Запруддзе, Багданава. 2. Адно зерне жыта. *Адну́ жы́ціну ўкіне́ш, а ко́лькі адро́сткаў іна́ дасць!* Самсоны.

**ЖЫ́ЦЦА** *незак.* Жыць, існаваць. *Як ге́та жыло́ся.* Багданава.

**ЖЫЦЦЁ, ЖЫ́ЦЦЕ** *н.* 1. Жыццё. *Я п ні пръдъла́ п на сваём жы́цці.* Кішуроўшчына. 2. Лад жыцця. *Уся́кія жы́цці папро́бавала.* Гарадзец.

**ЖЫЦЬ** *незак.* Жыць, існаваць. *Жыве́ш дзень да ве́чъра. Жыве́ць на све́ці, як у карэ́ці.* Гарадзец, Багданава, Вялікі Азярэцк, Дольдзева, Запруддзе, Кляпчэва, Леснікова, Нямойта, Партызаны, Ульянавічы, Цясішча. *На́да жыць, паку́ль жыве́цца.* Гарадок. ◊ НА́ДА ЯК ЖЫЦЬ. Пра пільную патрэбу. Кішуроўшчына, Багданава, Нямойта, Сянно. ◊ ЖЫЦЬ АБ АДНЫ́М ДНІ. Не клапаціцца пра будучыню. *Жылі́ аб адны́м дні.* Серкуці.

**ЖЭ́ГНУЦЬ** *зак.* Стукнуць, ляпнуць. *А ён як жэ́гнуў у разе́тку.* Кішуроўшчына.

**ЖЭ́МЕР** *м.* Адходы пасля адціскання соку, алею альбо іншага прадукту; жамерыны. *Цэт бе́лінькі, як мълачко́, жэ́мер выбра́сываць, у тра́пачкі астае́цца.* Багданава.

**ЖЭ́НСКІ** *прым.* Жаночы. Запруддзе.

**ЖЭ́РАБЯ, ЖЭРАБ'Я́** *н.* Жэрабя. *Цягну́ць жэ́рабя на́да была.* Запруддзе. *Пыцягну́ць жэ$^{а}$ръб'я́, так дзялі́лісі.* Заазер'е.

**ЖЭ́РДАЧКА** *ж.* Курасадня, насест. *На жэ́рдачках сядзе́лі ку́ры, зіму́юць у хле́ві.* Станюкі, Вялікі Азярэцк.

**ЖЭ́РТВА** *ж.* Міласціна. *Былі́ жабракі з му́зыкай, хо́дзюць, і выно́сілі жэ́ртву яку́ю.* Рассвет.

**ЖЭРЦЬ** *ж.* Жэрдка. *Ны таку́ вос ні абіра́чыйіш, катко́м ток вы́рыжыць, а жэрць пыт снапы́, і пайе́дзіш.* Міцюкова, Гарадзец.

**З, ІЗ, С, ІС** *прыназ.* 1. З. *Е́хуў я з Яно́ва.* Жохава. *У нас крупе́ню з грыба́мі ва́руць.* Нямойта. *Карэ́ц рабілі з кары́, чынілі калба́сы ім.* Буй. *Са́мі дзе́лалі ло́шкі, пало́нікі дзірвя́нныя – с я́блыні харо́шыя, крэ́пкія.* Каралі. *Я с бра́там, і яшчэ́ быў брат.* Міцюкова. *Карзі́ны са́мі плялі́ із лазы́, а цяпе́р с про́валкі плятуць.* *Се́ілка кру́глая іс сало́мы, палаце́нца на шы́ю – і се́юць.* Запруддзе. *Карэ́ц із лазі́ны здзе́лаіш і ў кішку́ ўто́ркніш і тады́ мя́са ці́скаіш, ці́скаіш, і яно́ ідзе́ць. У ру́кі карцо́м!* Багданава.

*Рэшата із сасны рабілі.* Жохава. *Дош іс грáдъм пъласóй прайшóў.* Гарадзец. *Іс съмалётаў нас бамбілі.* Серкуці. *Із жыта русáлкі, як красýюцца, выскáкываюць.* Багданава. 2. У час. *Мікóлы тры, во нéік з вóсіні бываіць.* Запруддзе. 3. Пасля. *З вайны астáлісі, нічавó ні былó.* Гарадзец, Багданава, Вялікі Азярэцк, Дольдзева, Нямойта, Партызаны. 4. Ад, з-за. *Із вады стáла мне* [хвароба]. Запруддзе. *Інá памірлá з гарэлкі.* Запруддзе, Пожанькі. *Мáтка з рóду памéрла.* Буй. 5. З ліку. *Цяпéр із восімдзісяці хат зъсталóся з дзéсяць хат.* Фасаўшчына.

**ЗА** *прыназ.* 1. За. *Зъ гарóдъмі выдá ёсь, а ён і калóдзіш нъ дварэ выкапаў. Дóбра жылá за ім.* Вялікі Азярэцк, Гарадок, Івоні, Каменшчына, Партызаны, Рассвет, Сянно, Неўгадава. *За цялёнка дзéсіць сóтык даюць.* Чуцькі, Заазер'е. 2. На. *Сéна за імі, дрóвы за імі, і бýльбу къпáюць дзéці. І скот за ёю, усё рóбіць хъзяйства зъ бáбъй.* Заазер'е, Партызаны. 3. Па, за. *Нáда вярóвачку ўзяць, хлéба кусóчак і пайду за карóвай.* Латыгаль, Міцюкова. 4. З-за, ад. *Я за слёзы і зрэньне пацірáла. За гэту хáту і гарýю.* Баравікі, Кішуроўшчына. *За гэта, што въдá стъяла, высóкія грáды.* Рассвет. *Знáіця, за што младзёш ні хацéла?* Фасаўшчына. 5. Дзякуючы. *Выстръйіўсі сын зъ мяне. Й кръсътá!* Неўгадава. 6. Замест. *Нам цёлку дáлі зъ кабылу.* Серкуці. 7. У час, на працягу. *Нас за вайну бамбілі вéрна рáза тры.* Івоні. 8. Праз, цераз (пры ўказанні на прамежак часу). *Зáўтра Пятрó, ат Івáна за пяць дней.* Вялікі Азярэцк. *Вы дні за тры аслéпніці, – сказáў дóктар.* Заазер'е. 9. У якасці. *За бáпку хадзіла. Мяне брáла атцóва сістрá за дóчку.* Нямойта, Заазер'е. 10. Да пэўнай мяжы. *Сак за калéна быў.* Багданава.

**ЗА ТÓЕ ШТО** *злучн.* Таму што, бо. *За тóе што старыкі былі, прывыклі дъ зямлі.* Гарадзец.

**ЗААЦЕХНІЦА** *ж.* Заатэхнік. *Заацехніцай тут рабóтала.* Міцюкова.

**ЗАБАБÓНІСТЫ** *прым.* Зморшчаны. *Смаршкі і страчкі ўсе, як кішкá ў кабанá, ўсе забабóністыя, ў забабóрушках, кыля зямлі, увáлістыя.* Серкуці.

**ЗАБАБÓНЫ** *толькі мн.* Забабоны, прымхі. *Я забабóнам гéтым ня вéрыла.* Жохава, Алексінічы.

**ЗАБАБÓРУШКА** *ж.* Звіліна, складка. *Смаршкі, як кішкá ў кабанá, ў забабóрушках, увáлістыя.* Серкуці.

**ЗАБАБРЎХІ** *мн.* Няроўнасць на лязе брытвы, касы. *Зъбабрýхі ў касé бувáюць ад пераклёпу кляўцóм пылытнá касы.* Леснікова, Заазер'е.

**ЗАБАБЎРЫ** *мн.*, **ЗАБАБЎР** *м.* 1. Няроўнасць на лязе брытвы, касы. *Стаў брыць, а там такія зъбабýры.* Ульянавічы. *Зъбабýр паълучáйіцца ны касé.* Заазер'е. 2. Зморшчыны. *У зыъбабýры рýкі бярýцца пóсьлі сьцірáння біллá.* Заазер'е.

**ЗАБАБЎРЫСТЫ** *прым.* Зморшчаны. *Страчóк бóлі такі зъбабýрысты, памóршчыный.* Баравікі.

**ЗАБАБЫРКІ** *мн.* Зморшчыны. *Забабыркі стáліся, кóжа сабрáлася.* Манголія.

**ЗАБÁВА** *ж.* Забаўлянне, гульня. *Мальчакі цэлы дзень у званы звóняць – забáва ім.* Нямойта.

**ЗАБÁВІЦЬ** *зак.* Закалыхаць. *Бáба зъбáвіла, спаць зъхацéла?* Галашчакіна.

**ЗАБÁВІЦЬ** *зак.* Затрымаць. *Мóжа, хто зъбáвіў бáпку.* Цясішча.

**ЗАБАЛЕВÁЦЬ, ЗАБÁЛІВАЦЬ** *незак.* 1. Захворваць. *Заъбалевáў дзяцёнак.* Цясішча, Нямойта. 2. Заражаць інфекцыяй. *Забáлівала дзіцёнка там.* Цясішча, Нямойта.

**ЗАБАЛÉЦЬ** *зак.* Захварэць. *Ні адзін мой ні забалéў дзіцёнък* [тыфам], *пубярý адзéжу, памыю.* Багданава, Пожанькі, Цясішча.

**ЗАБАЛТА́ЦЬ** *зак.* Закалаціць, размяшаць. *Забалтáіш кулéш і ў печ, кап скі-пéў, і жырам запраўляюць.* Нямойта.

**ЗАБАРАНІ́ЦЬ** *зак.* Абараніць. *Бóгу мóлімся, кап Бох засцярóх, забараніў.* Багданава, Леснікова, Мянюцева.

**ЗА́БАРСНІ** *мн.* Аборы. *Зáбарсні у лапцях засмáргаваеш.* Савінічы.

**ЗАБЕРАСТО́ЎКА** *ж.* Закрыванне запоўненых мёдам сотаў. Кляпчэва.

**ЗАБІВА́ЦЦА** *незак.* Біцца. *Кáждую вясну́ прыляціць адзін буцян і зъбівáйіцца да паўсмéрці, і дзюбкъмі, крыллім, і ня пу́сціць пáру буцянóў ні за што.* Нямойта.

**ЗАБІВА́ЦЬ** *незак.* 1. Вельмі зарастаць. *Травóй забіваець картóшку.* Івоні. 2. *перан.* Займаць многа часу. *Закóн Бóжы забівáў усё на свéце.* Станюкі.

**ЗАБІДУВА́ЦЬ** *зак.* Забедаваць, засмуціцца. *А інá забідувáла.* Нямойта.

**ЗАБІРАСТАВА́НЫ, ЗАБЯРЭ́СТАВАНЫ** *дзеепрым.* Запячатаны ў сотах мёд. *Калі мёт забірастава́ны, ён вады не імéіць. Кълá мёт зъбярэстъвъны, он імéіць трыццаць працэнтъў влáгі.* Кляпчэва.

**ЗАБІРА́ЦЬ** *незак. перан.* Разбіраць, апаноўваць. *Відáць было́, што яé забірáець.* Запруддзе.

**ЗАБІ́ТЫ** *дзеепрым.* Вымашчаны, утрамбаваны. *Ток глінай забіты.* Запруддзе.

**ЗАБІ́ТЫ** *дзеепрым.* Забіты (цвікамі). *Пéрвая хáта стаіць у Рэчках забітая.* Апечкі. ◊ спаць ЯК ЗАБІ́ТЫ. Вельмі моцна, не прачынаючыся. *Сёння спаў я як забіты.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАБІ́ЦЦА** *зак.* 1. Забіцца, разбіцца. *Ястръп забіўся тут, урэзаўся ў шчыкéт. Кап ты забіўся!* (праклён). Багданава, Гарадзец, Рэчкі. 2. Ударыцца. *Ішлá, во забілася тут нъ парóзе, пъвалілася.* Багданава. *Палéзу на печ, ды звалюсь, ды заб'юсь.* Рэчкі. ◊ ХОЦЬ ЗАБІ́СЯ. Пра безвыходнае становішча. Запруддзе.

**ЗАБІ́ЦЬ** *зак.* 1. Пазбавіць жыцця. *Гавóруць, дзвінáццаць грахóў с сябé скініш, як змяю заб'éш.* Запруддзе. *Нéміц палéс зъ курмі пат печ, аттýль лес, а йна* [мясцовая жанчына] *яму́ тъпарóм пъ главé і забіла на смерць.* Закур'е. *Як заб'éць лягу́шку, то дош бу́дзіць* (павер'е). Запруддзе. *Калі заб'éш лáстаўку – бу́дзіш шэры* (павер'е). Карпавічы, Багданава, Заазер'е, Нямойта, Рассвет, Серкуці, Цясішча. 2. Убіць, глыбока ўвагнаць. *Кóлікі заб'юць у зямлю.* Запруддзе. 3. Біць, трэсці (пра кашаль). *Кáшъль забіў, дык асіпла былá.* Кішуроўшчына. *Кáшыль заб'éць – ні было́ такóга іці ў бальніцу.* Запруддзе, Буй.

**ЗАБІЧАВА́ЦЦА** *зак.* Замардавацца, знясіліцца. *Я імі зъбічу́юсь, нáда пръдъвáць* [пра парасят]. Каралевічы.

**ЗАБЛЕ́ДУШ** *м.* Бледнатвары чалавек. *Заблéдуш – худы, блéдны чылавéк.* Заазер'е, Дольдзева, Запруддзе.

**ЗАБЛУДЗІ́ЦЦА** *зак.* Заблудзіцца. *Калі хто зъблудзіўсі, тады ўжо нáда гукáць.* Багданава.

**ЗАБЛУДЗІ́ЦЬ** *зак.* Выпадкова патрапіць. *Калі аднá і заблу́дзіць му́ха, то нічóга.* Ульянавічы.

**ЗАБО́Й** *м.* Прыстасаванне для выціскання алею. *Забóй – дзве пáлкі, мяшóк лóжыць, клінья сжымáюцца – і мáсла выжымáецца. Спецыяльнае прыспасаблéніе выдáўліваць мáсла.* Міцюкова.

**ЗАБО́ЙКА** *ж.* 1. Клінок для замацавання касы на касавільне. *Забóйка – клінóк такі у касé.* Фасаўшчына, Дольдзева. 2. Пятка ў кассі, дзе закладаецца забойка. Нямойта.

**ЗАБО́РАЧКА** *ж.* Складка. *У смъ*[ы]*рашках забо́ръчкі ёсь.* Багданава, Латыгаль, Ульянавічы, Закур'е.

**ЗАБО́РЦЫ** *мн.* Жыхары вёскі Забор'е. *То́лькі для забо́рцаў хлеб даю́ць.* Ракаў Засценак.

**ЗАБО́ТА** *ж.* Клопат. *Ад забо́т балі́ць гълъва́.* Запруддзе, Міцюкова, Партызаны.

**ЗАБРА́ДЖАНЫ** *дзеепрым.* Забраны, арыштаваны. *І раскула́чаны, і ба́цька зъбра́джаны, а ў палі́цыю ні пайшо́ў.* Рэчкі.

**ЗАБРА́НЫ** *дзеепрым.* Тое ж. *Цётка была́ зъбра́ныя.* Алексінічы.

**ЗАБРА́ТЫ** *дзеепрым.* Тое ж. *Раскула́чаныя і ба́цька былі́ зъбра́ты.* Рэчкі.

**ЗАБРА́ЦЬ** *зак.* 1. Забраць. *Ну, э́та ш не́міц забра́ў.* Леснікова, Партызаны. 2. Прызваць на вайсковую службу. *Бра́та майго́ забра́лі ў парціза́ны.* Цясішча. 3. Арыштаваць. *Дзя́цька быў пе́рвы камуні́ст, яго́ ў Яжо́ўшчыну забра́лі, ён апо́х, пры́шоў увесь як пампу́шка.* Чуцькі. *У нас дзе́сяць чалаве́к забра́лі, у адну́ ноч у тры́ццаць фтаро́м гаду́.* Станюкі. 4. Захапіць, залезці на суседнюю чужую паласу. *Зыбра́ла мой лён, зале́зла ў маю́ пыласу́.* Заазер'е.

**ЗАБРУСЕ́ЦЬ** *зак.* Зацвярдзець. *У каро́вы масты́к, яна́ забрусе́ла, ма*[ъ]*лака́ німа́ і цялёнку.* Каралі. *Як ві́ма забрусе́іць, атрэ́ж кусо́чак хле́ба, соль праз кля́мку тры разы́ вы́цягні – тры разы́ даць з'е́сці – і про́йдзець.* Парэчча.

**ЗАБРЫДЗЕ́ЦЬ** *зак.* Занудзіць. *Усё вы́піў, усю́ мікстýру адра́зу – і хоць бы забрыдзе́ла.* Ульянавічы.

**ЗАБРЫТА́ЦЬ, ЗАБРАТА́ЦЬ** *за́к.* 1. Надзець аброць на каня. *Абро́ць на́да нъ яго́ адзе́ць – на́да забрыта́ць кън́я.* Гарадзец. 2. Накінуць вяроўку на рогі. *Я забръта́ла каро́ўку, завіла́.* Баравікі.

**ЗАБРЫ́ТЫВАЦЬ** *незак.* Надзяваць аброць на каня. *Забры́тываць къ́ня, на́да броць нъ яго́ адзе́ць, забрыта́ць.* Гарадзец.

**ЗАБУРЫ́ЦЦА** *зак.* 1. Паваліцца. *Я ішла́ і забуры́лася.* Дольдзева. 2. Разбурыцца, разламацца. *Ле́тась узіла́, сыно́к, і пе́чка забуры́лъся.* Буй. 3. Абваліцца, абрушыцца. *Ха́та – гніллё, іна́ ско́ра забу́рыцца.* Нямойта, Багданава, Івоні, Кішуроўшчына, Міцюкова, Рулёўшчына, Рэчкі, Чуцькі.

**ЗАБУРЫ́ЦЬ** *зак.* Разбурыць, раскідаць. *Дзед, вы́йдзі, забу́руць на́шы дро́вы.* Гарадзец. *Усе́ забуры́лі трактара́мі па́нскія зда́нія.* Нямойта, Мянюцева.

**ЗАБЫРЛА́ЦЬ** *зак. экспр.* Дрэнна, з агрэхамі забаранаваць. *Забырла́ў ячме́нь. Забы́рлаў тро́хі і ла́дна.* Фасаўшчына.

**ЗАБЫ́ЦЦА** *зак.* Забыць, забыцца. *Як што забу́дзіцца на вясе́ллі, то ска́жуць, бу́дзіць ніўда́ча.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Заазер'е, Запруддзе, Машчоны, Ракаў Засценак, Серкуці, Неўгадава.

**ЗАБЯЛІ́ЦЬ** *зак.* Забяліць, прыправіць страву малаком. *Зъбялі́ла мълако́м.* Кляпчэва.

**ЗАБЯСПЕ́ЧЫЦЬ** *зак.* Забяспечыць. *Зра́зу забяспе́чуць сваю́ рэспу́бліку.* Ульянавічы.

**ЗАВАДНЫ́** *прым.* Запальчывы. *Завядзе́цца, заваднá́я така́я.* Гарадзец.

**ЗАВАЛА́ЦЬ** *зак.* Паклікаць, зазваць. *Тут адна́ пры́йдзіць пад каро́ву, я за*[ъ]*вала́ю яе́. Я завала́ю На́дзю сюды́, хай пяе́ць.* Міцюкова.

**ЗАВА́ЛЕНЫ** *дзеепрым.* Парослы, зарослы. *Хмызняко́м усё зава́лена.* Баравікі.

**ЗАВА́ЛІНА** *ж.* Прызба. *Зава́ліну та́та усігда́ абсыпа́ў.* Серкуці.

**ЗАВА́ЛІНКА** *ж.* Тое ж. *Ста́ла на зава́лінку кала ха́ты і стаю́.* Савінічы, Алексінічы, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Дольдзева, Ракаў Засценак.

**ЗАВА́ЛІННЯ** *н. зб.* Тое ж. *Късграá, мялінне къла хаты апсыпалі, на вільчык нъсілі, заваління рабілі.* Каралі.

**ЗАВАЛІ́ЎШЫ** *дзеепрысл.* Загрувасціўшы. *Каб на сталé ўсё стаяла стол заваліўшы.* Чуцькі.

**ЗАВАЛІ́ЦЦА** *зак.* Упасці, паваліцца. *Вéцір дунýў, і дзéрыва зъвалілыся.* Нямойта, Багданава. *А я ні магý так стъяць, каб ні зъваліцца, так нагнýлься на шчыкéт.* Дольдзева.

**ЗАВАЛІ́ЦЬ** *зак.* 1. Паваліць. *Ай ё, ты мяне заваліш.* Станюкі. 2. Забіць, зарэзаць. *У свінéй б'юць даўбéшкай, зачапілі, дзёрнулі, ён* [кабан] *– кулік – і завалілі.* Жохава, Партызаны.

**ЗАВАЛІ́ЦЬ** *зак.* 1. Забяспечыць звыш патрэбы. *У нас дзéсяць сваіх яблынь, як завалюць, то дзець нéкуда.* Баравікі. 2. Закласці (пра хваравітае адчуванне ў горле, звязанае з ускладненнем дыхання). *Заъваліла глóтку.* Гарадзец.

**ЗАВА́ЛКІ** *толькі мн.* Нарывы ў горле пры ангіне. *Завалкі пасéлі.* Гарадзец.

**ЗАВАЛО́ЧАНЫ** *дзеепрым.* Нанесены, нацягнуты. *Там стóлькі ёсь на бані, зъвалóчана.* Марозаўка.

**ЗАВАРА́ЧАЦЬ** *незак.* Заварочваць. *Яна па-свóйму заварачаець.* Івоні.

**ЗАВА́РЫВАЦЬ** *незак.* Заварваць, заліваючы кіпенем. *У пóпіл заварывалі і ў пóпіл клалі тыя скуты.* Багданава.

**ЗАВЕЗА́ЦЦА** *зак.* З'явіцца завязі. *На кустý врóдзе ягад мнóга завезалась.* Івоні.

**ЗА́ВЕРТ**, **ЗА́ВІРТ** *м.* Пятля для прымацавання аглабель. *Раньшы аглóблі нъ закрутах былі, дзéлалі з лазы, называлісь заверты, і дзіржалась аглабля.* Гарадзец, Нямойта. *Раньшы жалéза ні былó, дзéлалі з лат завірт, і дзіржалася так аглабля. Цяпéр нъзываюць пітля, крýчча.* Гарадзец.

**ЗА́ВЕРТКІ** *мн.* Аглоблі, прымацаваныя да саней. *Заверткі – éта ў нас кажуць.* Станюкі.

**ЗАВЕ́РЧАВАЦЬ** *незак.* Закручваць. *Ткалі хýсткі завéрчаваць на галавý.* Неўгадава.

**ЗАВЕ́СЦІ** *зак.* 1. Завесці, адвесці. *Бронь бох, завёў невядóма куды.* Партызаны. *Я галавý завядý, плюнула: ні пайдý бóлій.* Багданава. 2. Узрушыць, растрывожыць сябе думкамі. *Я гълавý зъвядý, дýмаю, а дзяцéй трэба гудуваць, ён ня вылізіць аттýль* [з магілы]. Багданава.

**ЗАВЕ́СЦІ**, **ЗАВЕ́СЦЬ** *зак.* 1. Завезці, адвезці. *Ідý каня папрасіць у бальніцу завéсьць.* Багданава. 2. Пасадзіць, развесці. *Я была завіла і півóню, і каштаны.* Самсоны.

**ЗАВЕ́СЦІСЯ** *зак.* 1. Развесціся, распладзіцца. *У цябé, братóк, трýтняў завялóся!* Неўгадава. 2. Утварыцца. *Кап кóрачка зъвілася на хлéбі, шчапаіш палачку і паліш.* Карпавічы. 3. Пачаць бойку. *Дзéвачкі завядýцца біцца, станyць курыць.* Запруддзе, Багданава. *Завядýцца біцца самі з сабóй.* Запруддзе.

**ЗАВЕ́СЫ** *мн.* Металічныя пласціны, створкавыя ці суцэльныя, якімі прымацоўваюць да вушака дзверы, аконныя рамы; завесы. *Скрыпяць дзвéры, я ўзіла і вады лінýла на гэтыя завéсы, і ні скрыпяць.* Багданава.

**ЗАВЕ́ЯЦЬ** *зак.* Засыпаць, занесці снегам. *Завéялі ў снігý і бýдзім ліжаць.* Кішуроўшчына, Неўгадава.

**ЗАВІ́ДЗЕЦЬ** *зак.* Убачыць. *Як завідзіць, што з сýмкай, баіцца дзяўчóнка.* Івоні.

**ЗАВІ́ДЛІВЫ** *прым.* Зайздросны. *Завідлівы ты, што ты завідуеш?* Гарадзец, Баравікі.

**ЗА́ВІДНА** *прысл.* Завідна, засветла. *Хоць бáбка зáвідна дамóй зáйдзець.* Нямойта.

**ЗАВІДО́ЎШЧЫЦА** *ж.* Загадчыца. *А нявéстка там завідóўшчыцай рабóтала.* Партызаны.

**ЗАВІЗА́ЦЦА** *зак.* Завязацца, утварыцца пасля цвіцення (пра плады). *Прóшлы гот зъвізáліся былі і пръпаъ̆лі.* Серкуці, Івоні.

**ЗА́ВІЗЬ** *ж.* Завязь. *Зáвізь абвáльваецца ў гуркáх.* Цясішча, Івоні.

**ЗАВІНА́ЦЦА** *незак.* Старацца. *Як завінáўся віцінáр, то кабáн падняўся.* Дольдзева.

**ЗАВІРУ́ХА** *ж.* Завіруха. *Тъкáя дýя былá, завірýха.* Каралевічы.

**ЗАВІРША́ЦЬ** *незак.* Завяршаць, рабіць верх у стозе, капе сена. *Зъвіршáлі капý плáсцікым.* Леснікова.

**ЗАВІ́СНУЦЬ** *зак.* Павіснуць зачапіўшыся. *У лес паéдзіць, завісніць дзéрава – на другóе павісне – ён гóцая, пакýль ні звáліць.* Жохава.

**ЗАВІХА́ЦЦА** *незак.* Завіхацца, рабіць вельмі старанна, рупліва. *А ён там зарабіўся, завіхáўся і зыбáвіўся.* Багданава.

**ЗАВІ́ЦЦА** *зак.* Закучаравіцца. *Біз шáпкі пахóдзіць, каб вы знáлі, як заўюцца валасы́.* Партызаны.

**ЗАВІШЧЭ́ЦЬ** *зак.* Заскавытаць. *Завішчэ́ў сабáка, ён ягó пýгаю.* Рэчкі.

**ЗАВО́ДЗІЦЬ** *незак.* Заводзіць. *Ён нас у кварціру завóдзіць і сóдзіць за стол.* Багданава.

**ЗАВО́ШТА** *займ.* Завошта, за што. *Такáя жысьць дрэ́нная ў чужóй сям'é, ні купіць завóшта.* Нямойта. *Німá завóшта, чым багáты, тым і рáды.* Чуцькі.

**ЗАВУ́ЖАВАЦЬ** *незак.* Ставіць вузейшыя васковыя пласціны. *Мóжна завýжаваць сóты, яны́* [пчолы] *атцягаюць сóты і налівáюць мёт.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАВУЧА́ЦЦА** *незак.* Вучыцца, асвойваць што-н. *Адзін ат аднагó і завучáліся.* Партызаны. *Завучáлісі ад чацвёртъга клáса танцъвáць.* Каралевічы.

**ЗАВУШНІ́ЦЫ** *мн.* Завушніцы. *Ні чапáй ні завушніц, ні калéц éтых, а то прападзéш.* Нямойта, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Каралі.

**ЗАВУЮВА́ЦЬ** *зак.* Заваяваць. *Кап устáлі і ўвідзілі* [мужы], *што яны́ завуювáлі.* Нямойта.

**ЗАВЫ́ЦЬ** *зак.* Завыць. *Воўк завы́ў, і бáцька ў трубý завы́ў, ён тады́ і патхóдзіць.* Багданава.

**ЗАВЯДЗЁНКА** *ж.* 1. Звычай. *Завядзёнка былá такáя: на Купáла усé збірáюцца і ідýць у кусты́ ці ў жыта, гуляюць.* Партызаны, Багданава, Гарадзец, Запруддзе, Нямойта. 2. Звычка. *Тъкáя завядзёнка былá, кап крапчэ́й бэ́лькі трымáлісі, трáму клáлі.* Гарадзец.

**ЗАВЯ́ЗАНЫ** *дзеепрым.* Завязаны. *І тáя кýкла стаіць зъвязаная на пóлі, пакýль янá там ужé і пръпадзé.* Багданава.

**ЗАВЯЗА́ЦЦА** *зак.* Завязацца, пачацца (пра бой). *Нéмцы як прыéдуць, бой зъвяжыцца.* Гарадзец.

**ЗАВЯЗА́ЦЬ** *зак.* 1. Звязаць. *Тады́ выпылім там, хлеп палóжым і кýклу зъвяжам.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец. 2. Завязаць, змацаваўшы канцы вузлом. *Ідзéць у Сяннó, капéйкі у рох завяжыць, у рашкí завязаныя.* Запруддзе.

**ЗАВЯ́ЗАЧКА** *ж.* ◊ ПАД ЗАВЯ́ЗАЧКУ. Вельмі многа. *Во цяпéр ёй рабóты до, пъд завязачку.* Партызаны.

**ЗАВЯ́ЗВАЦЦА** *незак.* Завязвацца, утварацца пасля цвіцення (пра плады). *Як яблычкі завязвуюцца, мóжна сéяць.* Партызаны, Багданава.

**ЗАВЯ́ЗВАЦЬ** *незак.* Перавязваць. *У нітьі нітка ні пападзе́ць, а ідзе́ць наза́д, такó́й ніткай завя́звалі руку́ – і лягчэ́й.* Цясішча.

**ЗАВЯРНУ́ЦЦА** *зак.* 1. Адвярнуцца. *Зъвярну́ся я ў куто́к / І тры ча́рачкі ў рато́к* (з песні). Каралевічы. 2. Загнуцца. *Клёп прыъвіра́лі но́хцім, кап ні зывярну́ла жыга́ла.* Леснікова.

**ЗАВЯРНУ́ЦЬ** *зак.* Запоўніць прастору. *Дым заве́рніць – і све́ту не віда́ць.* Запруддзе.

**ЗАВЯРЦЕ́ЦЦА** *зак.* Павярнуцца. *Рука́ балі́ць – не завярчу́ся.* Чуцькі.

**ЗАВЯРЦЕ́ЦЦА** *зак.* Апрануцца. *Абы-як надзе́ніцца, заве́рціцца.* Мянюцева.

**ЗАВЯ́РЧЫВАЦЬ** *незак.* Паварочваць. *Завя́рчывалі, даку́ль міжа́.* Карпавічы.

**ЗАГАВА́РВАЦЬ, ЗАГАВА́РЫВАЦЬ** *незак.* Лячыць замовамі. *Пе́рвы ці расле́дні* [дзіцёнак] *у ма́ткі мо́жыць зъгъва́рваць.* Дольдзева, Рулёўшчына. *Ат ві́ху, ат ро́жы, ат вужа́кі зъгава́рваюць усё лю́дзі.* Запруддзе. *Зъгъва́рывала, мой ма́ліц сці́ша́еца, сці́х і заснуу́.* Партызаны, Багданава, Каралевічы, Закур'е.

**ЗАГАВА́РЫВАЦЦА** *незак.* Загаворвацца. *Іна́ зъгава́рыіцца ужо́, бо́лі дзевяно́ста гот.* Багданава.

**ЗАГАВАРЫ́ЦЬ** *зак.* Вылечыць замовай. *Ма́льчык стры́жаны, як трасе́цца, баі́цца людзе́й, зъгавары́ла ад галавы́.* Каралевічы.

**ЗАГАВЕ́ЦЬ** *зак.* Пачаць пасціцца. *Зъгаве́іш – то́лькі по́снае есць.* Запруддзе.

**ЗА́ГАВІНЫ, ЗА́ГВІНЫ** *толькі мн.* Апошні дзень перад пачаткам посту, калі дазвалялася есці скаромнае; загавіны. *За́гавіны, а калі́ яны́ быва́юць, ні зна́ю.* Міцюкова. *За́гвіны – пасці́м.* Самсоны, Запруддзе.

**ЗАГАВО́Р, ЗАГАВА́Р** *м.* Замова. *Зъгаво́р ат упу́ду ёсь.* Каралевічы, Міцюкова, Партызаны. *Загава́р не́йкі уме́іць дзе́лаць.* Запруддзе.

**ЗАГА́ДАВАЦЬ** *незак.* Загадваць. *Мая́ кінъла і не пайшла́ у шко́лу, ма́ма і зага́дъвала, і крыча́ла.* Багданава.

**ЗАГАДА́ЦЬ** *зак.* Загадаць, распарадзіцца. *Загада́ла вам парабо́таць.* Розмыслава. *Ба́цюшка зъгъда́ець мълады́м пъцълва́цца.* Партызаны, Гарадзец, Заазер'е.

**ЗАГАДА́ЦЬ** *зак.* Задумаць што-н., трымаючы ў памяці або варожачы. *Я зъгада́ла: пры́йдзіць Я́ша, сім'я́ бу́дзіць.* Каралевічы.

**ЗА́ГАДЗЕ** *прысл.* Загадзя. *За́гадзе ўзяла́ бяле́т.* Багданава.

**ЗАГАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Дагадзіць. *Ён мо́жа ні загадзі́ў?* Фасаўшчына.

**ЗАГАІ́ЦЦА** *зак.* Загаіцца. *Мой па́ліц быстрэ́й загаі́ўся.* Леснікова, Кішуроўшчына.

**ЗАГАІ́ЦЬ** *зак.* Вылечыць. *Ло́пнъла ге́так ве́на, пашла́ у бальні́цу, загаі́лі, цяпе́р каро́ў до́іць.* Запруддзе.

**ЗАГАЛАСІ́ЦЬ** *зак.* Загаласіць. *Сын як загало́сіць: па мне зязю́ля куку́іць, прызна́лі глісты́.* Нямойта.

**ЗАГА́НІЦЬ** *зак.* Зганіць, абразіць, аблаяць. *Ён сваю жо́нку га́дка зага́ніў, яна́ была́ така́ гразню́ха.* Самсоны.

**ЗАГАНЯ́ЦЦА** *незак.* Замацоўвацца. *Ён, ка́мень нажда́чны ў тачыле́, на валу́ зъганя́іцца, заклінó́ўваіцца.* Жохава.

**ЗАГАНЯ́ЦЬ** *незак.* Заганяць. *Заганя́й ку́рак у хлеў.* Багданава.

**ЗАГА́РАВАЦЦА** *незак.* Загарацца. *Лу́піць красівó́м, губа́ зага́раваецца.* Каралі.

**ЗАГАРАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Перагарадзіць, паставіць перашкоду. *На Купа́лле пашу́цяць, запру́ць каго-не́будзь, зъгаро́дзяць.* Нямойта.

**ЗАГАРА́ДЖВАЦЬ** *незак.* ◊ ЗАГАРА́ДЖВАЦЬ МАЛАДЫ́Х. Звычай перапыняць вясельны поезд, перагароджваючы дарогу. Сянно.

**ЗАГАРНУ́ЦЬ** *зак.* Згарнуць у адно месца, згрэбці. *Пе́чку нъта́пліюць, зъгарну́ць жар.* Буй.

**ЗАГАРО́ДДЗЕ** *н.* Агароджа, плот. *Цэ́лы гот къля загаро́ддзя хадзі́ў.* Запруддзе.

**ЗАГАРО́ДКА** *ж.* Абгароджанае месца для жывёлы. *Зъгна́лі каро́ў у зъгаро́дку.* Запруддзе.

**ЗАГАРЭ́ТЫ** *дзеепрым.* Загарэлы. *Ні загарэ́тыя дзе́ці, бе́лень.* Гарадзец.

**ЗАГАРЭ́ЦЦА** *зак.* Загарэцца. *І паку́ль я прыбе́х, ха́та, і хлявы́, і клець зъгарэ́лісі, а анба́р – не.* Міцюкова. *Зъгары́сь ты га́рам са сваёй палу́чкай!* Партызаны. *Кап яна́ зъгарэ́лься!* (праклён). *Макры́ца ўрэ́дная, кап іна́ зъгарэ́лься.* Кішуроўшчына.

**ЗАГА́ТКА** *ж.* Загадка. *Што йта е́та зы зыъга́тка, што пыъд я́йцамі гла́тка* [скаварада з яечняй – адгадка]. Каменшчына.

**ЗАГАТУЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* Нарыхтоўваць. *Смаржкі́ і страчкі́ зъгътуўля́юць* [нарыхтоўчыя пункты]. Серкуці.

**ЗАГА́ШУВАЦЬ** *незак.* Разводзіць вадой. *Лу́гу з по́пелу зъага́шуем.* Закур'е.

**ЗА́ГВАЗДКА** *ж.* Жалезны пруток, цвік для замацавання кола на восі; загваздка. Серкуці, Гарадзец, Станюкі.

**ЗАҐІМНЮ́ЗІЦЬ** *зак.* Загіпнатызаваць. *Цыга́нкі зыґімню́зілі адну́ ба́бу, то сама́ ста́ла кла́сці са́ла ў то́рбу.* Леснікова.

**ЗАГЛА́ДЖУВАЦЬ** *незак.* Прыгладжваць, паліваючы вадой. *Ба́ба хлеб кла́ла ны лупа́тку. А дзед хлеб зъгла́джувуў ба́бі вадо́й з ква́рты.* Заазер'е.

**ЗАГЛЯНУ́ЦЬ** *зак.* Убачыць, разгледзець. *Я ш до́бра ні заглянýла яе́* [адразу]. Багданава.

**ЗАГМУЗДА́ЦЬ** *зак. Ло́шадзь жа на́да загмузда́ць.* Закілзаць. Сукрэмна.

**ЗАГМУ́ЗДЫВАЦЬ** *незак.* Закілзваць. *Цу́ґлі – е́та што ло́шадзь загму́здываюць, яго́ ш на́да загмузда́ць, закілза́ць.* Сукрэмна.

**ЗАГНАЕ́ННЕ** *н.* Нарыў. *У яго́ ста́ла загнае́нне* [нагі]. Партызаны.

**ЗАГНА́ТЫ** *прым.* Занядбаны. *Яка́я-то Белару́сь загна́тая.* Кляпчэва.

**ЗАГНА́ЦЬ** *зак.* 1. Загнаць куды-н. *На́да й каро́ўку загна́ць, на́да й ма́мкі пасо́біць.* Заазер'е. *То каро́ву заго́нь, прыго́нь, ге́ктар бурако́ў на́да вы́палаць.* Нямойта, Заазер'е, Чуцькі. 2. Страціць. *Іна́ тро́хі сі́лу загна́ла.* Багданава.

**ЗАГНЕ́Т** *м.* Прыпечак. *Пашла́ то́лька к загне́ту. Гаршкі́ ста́вілі на загне́т і у печ су́нулі.* Алексінічы, Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Каралі, Карпавічы, Леснікова, Міцюкова, Нямойта, Фасаўшчына, Чуцькі, Неўгадава.

**ЗАГНЕ́ЦЦЕ** *н.* Тое ж. *Паста́віць чыгу́н на загне́цце.* Міцюкова.

**ЗАГНІ́ЛЫ** *дзеепрым.* Падгнілы. *Загні́лыя памідо́ры.* Міцюкова.

**ЗАГНУ́ТЫ** *дзеепрым.* Загнуты. *Къмя́га з дзе́рава, то́ўстая, і выбіва́ецца такёй сяке́рай загну́тай.* Запруддзе, Багданава.

**ЗАГНУ́ЦЦА** *зак. экспр.* Загнуцца, памерці. *Ніхто́ ні пры́дзіць у ха́ту і загне́сся тут.* Леснікова.

**ЗАГО́Н** *м.* 1. Загон, участак ворнай зямлі. *Гаро́т е́слі шыро́кі, ну на два заго́ны.* Фасаўшчына, Гарадзец, Гарадок. 2. Загарадзь, адгароджанае месца ў лесе, полі для жывёлы. *Па́сціла на заго́не каро́ву.* Партызаны.

**ЗАГРАБА́ЦЬ** *незак.* ◊ ЧУЖЫ́МІ РУКА́МІ ЖАР ЗАГРАБА́ЦЬ. Карыстацца вынікамі чужой працы ў карыслівых мэтах. *Ні дай бо́жа чужы́мі рука́мі жар заграба́ць.* Ульянавічы.

**ЗАГРА́ЗІЦЬ** *зак.* Забрудзіць, запэцкаць. *І пол ні зъгра́зюць.* Каралевічы.

**ЗАГРАЗНІ́ЦЦА** *зак.* Запэцкацца. *Загразні́цеся, ла́ўка гра́зная.* Гарадзец.

**ЗАГРАНІ́ЧНІК** *м.* Іншаземец. *Купля́юць адзе́жу ў заграні́чнікаў.* Савінічы.

**ЗАГРУЖА́ЦЦА** *незак.* Нагружаць. *Лі́шняга нільзя́ загружа́цца.* Івоні.

**ЗАГРЫЗА́ЦЬ** *незак.* Лячыць замовамі. *Загрыза́юць грыжу, загава́рваюць.* Партызаны.

**ЗАГРЫМЕ́ЦЬ** *зак.* Загрымець (пра гром). *Загрыме́ла: ле́та плахо́е бу́дзіць.* Гарадзец, Багданава, Вялікі Азярэцк.

**ЗАГРЭ́БЦІ** *зак.* Згрэбці. *Се́на загро́п, а тады́ спласціў.* Фасаўшчына.

**ЗАГУБІ́ЦЦА** *зак.* Перамяніцца (?). *Перапушчэ́нства не́йкае цяпе́р, уве́сь свет загубі́ўся.* Заазер'е.

**ЗАГУБІ́ЦЬ** *зак.* Забіць, пазбавіць жыцця. *Сту́ку-гру́ку па даро́жачцы, / А напа́лі разбо́йнічкі. / Купчуня́тку ўтапілі, / Пляме́ннічка загубі́лі* (з песні). Буй, Івоні.

**ЗАГУДУВА́ЦЬ** *зак.* Набыць, займець. *Во, гэ́тыя пенсіяне́ры сілы загудува́лі.* Нямойта.

**ЗАГУМЕ́ННЕ** *н.* Месца, прастора за гумнамі; загуменне. *Чаго́ ты пае́хаў, пашо́ў па загуме́нню, як укра́ў што.* Гарадзец.

**ЗАД** *м.* Задняя частка калёс. *Перадо́к – спе́радзі, зат ці задо́к – за́днія часць калёс.* Гарадзец. ЗАДО́К *памянш. Перадо́к спе́радзі, зат ці задо́к – за́днія часць калёс.* Гарадзец.

**ЗАДАВІ́ЦЬ** *зак.* Задавіць, задушыць. *Пашлі́ ны вічары́нку ў Кызадо́йі, а воўк прышо́ў, кыня́ зъдавіў.* Міцюкова. *У мяне́ ліса́ тры ку́рыцы зъдавіла.* Багданава. *Каб цябе́ хале́ра задаві́ла!* (праклён). Каралевічы, Фасаўшчына.

**ЗАДАЖДЖЫ́ЦЦА** *зак.* Ісці без перапынку доўгі час (пра дождж). *Як задаждждждждж*

**ЗАДАЖДЖЫ́ЦЬ** *зак.* Тое ж. *Не, ужо́ зъдаждджы́ла.* Запруддзе.

**ЗАДА́ННЕ** *н.* Заданне. *Тут баёў ні было́, у зада́нні е́здзілі.* Леснікова.

**ЗАДАРМА́** *прысл.* Дарма, бясплатна. *Ску́лу по́йдзіць нам хто дро́вы рэ́заць зъдарма́!* Ульянавічы.

**ЗАДА́ТАК** *м.* Сума, якая ўносіцца або бярэцца наперад; аванс. *Я даю́ зыда́тык зы каро́ву: ты семсо́т, а я восімсо́т. І я зыбіра́ю яе́, бо́лі даў.* Запруддзе, Сянно.

**ЗАДА́Х** *м.* Чаднае, удушлівае паветра. *Зада́х у пе́чы, я дзве́ры атчыніла.* Запруддзе.

**ЗАДА́ЦЦА** *зак.* Зрабіцца, стаць. *Ста́ршы сын зада́ўся рыбако́м: рукза́к ры́бы навя́ліць.* Багданава.

**ЗАДА́ЧНЫ** *прым.* Добры. *Ду́жа зада́чны матацы́кл.* Партызаны.

**ЗАДЗВІ́ЖКА** *ж.* Засаўка (?), юшка (?). *Задзві́жка ў пе́чы.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАДЗЕ́ЛАЦЬ** *зак.* Запэцкаць. *Во ба́ба, задзе́лыла падо́л!* Гарадок, Багданава.

**ЗАДЗЕ́РЖЫЦЦА** *зак.* 1. Затрымацца. *Ве́цер нідзе́ ні задзе́ржыцца, ні за чым.* Багданава. 2. Начапляцца. *Як кало́цюць, кълъ калато́ўкі мя́са задзе́ржыцца.* Дольдзева.

**ЗАДЗЕ́РЦІ** *зак.* Запяршыць. *Хало́днай вады́ вып'еш – і до, задзярэ́ць у го́рлі.* Нямойта, Каралевічы.

**ЗАДЗІВІ́ЦЦА** *зак.* Здзівіцца. *Анютка задзіві́лася, шо брыке́ту німа́.* Багданава.

**ЗАДМУ́ЦЬ** *зак.* Замесці снегам. *Надме́ць го́ры ве́цяр, задме́ць двары́.* Запруддзе.

**ЗА́ДНІ** *прым.* Задні. *За́днюю часць цялёнка мяса яўрэ́і ня е́лі – на ёй хрэст пулуча́уся.* Алексінічы, Марозаўка.

**ЗА́ДНІЦА** *ж.* Зад. *Па́па тады́ пры́йдзе ды віламі табе́ па за́дніцэ дасць.* Багданава.

**ЗАДРАМА́ЦЬ** *зак.* Задрамаць. *Задрэ́міш тро́хі, ускочыш.* Багданава.

**ЗАДРА́ЦЬ** *зак.* ◊ ЗАДРА́ЦЬ НО́ГІ. Страціць прытомнасць. *Не́міц но́гі зъдра́ў, не́мца вадо́й атліва́лі.* Пожанькі.

**ЗАДУ́МАЦЦА** *зак.* 1. Задумацца. *Е́хуў, заду́муўся, а тут бінзаво́с е́хуў, і палучы́лася ава́рыя.* Запруддзе. 2. Надумацца. *Заду́маўся сын жаніцца.* Савінічы.

**ЗАДУМА́ЦЬ** *зак.* Завейваць, заносіць снегам. *Кру́ціць, задума́іць даро́гу.* Кішуроўшчына. *Зъдума́лі сцёшкі.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАДУ́МАЦЬ** *зак.* Надумаць, вырашыць. *Сюды́ заду́мала вярну́цца, там усе́ чужы́я.* Апечкі, Вялікі Азярэцк, Самсоны.

**ЗАДУ́ТЫ** *дзеепрым.* Завеяны, занесены снегам. *Даро́га ду́жа заду́та.* Багданава.

**ЗАДУ́ЦЬ** *зак.* Завеяць. *Задуло́ даро́гу.* Кляпчэва.

**ЗАДУШЫ́ЦЦА** *зак.* Задушыцца. *Каб вы задушы́ліся!* (праклён). Запруддзе.

**ЗАДЫ́** *мн.* Канец поля. *Нъ зъда́х – у канцы́ по́ля кусо́к.* Свечы.

**ЗАДЫМІ́ЦЬ** *зак.* Задыміць. *Уве́сь свет задымя́ць, застуча́ць, ні зна́іш, куды́ пайсці пасці́сь.* Нямойта.

**ЗАДЫХА́ЦЦА** *незак.* Задыхацца. *Не́шта з се́рцам у каро́вы, ідзе́, задыха́іцца.* Запруддзе.

**ЗАДЫ́ШКА** *ж.* Задышка. *У мяне́ productрады́шка бальша́я, дъша́ць ціжало́.* Запруддзе, Заазер'е.

**ЗАДЫ́ШША** *н.* Тое ж. *Зады́шша ў ягоˊ.* Алексінічы.

**ЗАЕКАТА́ЦЬ** *зак.* Пачаць выдаваць характэрныя гукі. *А то сыч на бярэ́зіну сеў і як заяко́чэць – я-га-я-га.* Нямойта.

**ЗАЕ́СЦІ** *зак.* 1. Задушыць, задзерці. *Крыча́ць рату́начку, ажно́ стару́шку вязу́ць, воўк зае́ў.* Гарадзец, Вялікі Азярэцк, Фасаўшчына. 2. Скусаць. *Сляпні зае́лі каро́ў – нільга падаіць.* Запруддзе. 3. *перан.* Даймаць. *Яна́ мяне́ так зае́ла, што ай-яй.* Вялікі Азярэцк. *Хай цябе́ хваро́ба зае́сць!* (праклён). Партызаны.

**ЗАЕ́ХАЦЬ** *зак.* Заехаць куды-н. ненадоўга, па дарозе. *Зае́дзьця, мой сват!* Сяргейкі.

**ЗАЁВІННЕ** *н.* Месца, прастора за ёўняй. *У ёўні і ў заёвінні склада́лі снапы́.* Серкуці, Запруддзе.

**ЗАЁМ** *м.* Захоп сярпом. *Заём бальшы́ жы́та быў, ця́жка жаць.* Самсоны.

**ЗАЖА́ТЫ** *дзеепрым.* Заціснуты. *У мяне́ ао́рта зажа́та шчытаві́дкай.* Нямойта.

**ЗАЖА́ЦЬ** *зак.* 1. Зжаць першы сноп, пачынаючы жніво. *Сноп зажне́ць, прыняс́уць на кут, паста́вяць да са́мае во́сені. Бярэ́ш хлеб, соль к хле́бу – зажну́ць, зашумя́ць ба́бы, пяю́ць.* Кляпчэва, Марозаўка. 2. Захапіць, жнучы, жыта на суседняй чужой паласе. *Зъжа́ла, залёзла ў маю по́стысць.* Заазер'е.

**ЗАЖО́Н** *м.* Зажынкі, пачатак жніва. *Начына́ецца зажо́н, засціла́ець стол, адзін сноп прыно́сіць, ста́віць у кут, яду́, све́чку, памо́лімся.* Кляпчэва.

**ЗАЖЫНА́ЦЬ** *незак.* Пачынаць жніво. *Як зажына́юць жы́та, зажына́юць сноп – і на кут.* Запруддзе, Леснікова, Нямойта, Самсоны.

**ЗАЖЫ́НКІ** *толькі мн.* Зажынкі, пачатак жніва. *Як зажынáюць жыта – зажы́нкі.* Запруддзе.

**ЗАЖЫРЭ́ЦЬ** *зак.* Атлусцець. *Пірадóйка зажыры́ць.* Чуцькі. *Я зажырэ́ла, калí я пампý.* Нямойта.

**ЗАЖЫ́ТАЧНА** *прысл.* Заможна. *Зажы́тачна тут жылí.* Розмыслава, Міцюкова.

**ЗАЖЫ́ЦЦА** *зак.* Абжыцца, разбагацець. *І зажылáся, і сы́на адтýль прывязлá.* Кляпчэва.

**ЗАЖЫ́ЦЬ** *зак.* Загаіцца (?), пачаць жыць (?). *І ці знáіця: маме́нтам зажылá.* Самсоны.

**ЗАЗВА́НЫ** *дзеепрым.* Пакліканы, запрошаны. *А німá пърáтку ні ў чóму, / Ні гэ́тым гóсьцейкам прыслáным, / Нісусе́дзям зъзвáным* (з песні). Каралевічы.

**ЗАЗІ́МАК** *м.* Першы мароз. *Пе́рвы зазíмак увóсень.* Багданава.

**ЗАЗНІЯ́НІЦЬ** *зак.* Падрумяніцца. *Хлеп зазніянíць, пъдгарыць ве́рхняя кóрка, хъзя́йка нъпалíла ў пе́чы мнóга.* Каралі.

**ЗАЗО́ВА** *ж.* Паштоўка-запрашэнне на вяселле. *Е́то двáццаць былó зазóў на вясе́ле.* Неўгадава.

**ЗАІДА́ЦЬ** *незак.* Захопліваць лішняе пры касьбе. *Змірáйіш вярóвычкуй ат пяткі да нóсіка. Кап късá ні йшла шыршы і вýжы, ні зъйідáла лíшніга.* Леснікова.

**ЗАІ́КАВАТА** *прысл.* Заікаючыся. *Не́йкі ні па-нáшаму, заíкавата гаварыý.* Серкуці.

**ЗАІКА́ЦЦА** *незак.* Заікацца. *І заікáцца мóжа чалаве́к з воч.* Каралевічы.

**ЗАЙГРА́ЦЬ** *зак.* Зайграць (на музычным інструменце). *Як зайгрáіць, як запяе́ць.* Багданава, Марозаўка.

**ЗАЙЖДЖА́ЦЬ** *зак.* Заязджаць. *Зъ мълакóм ні зъйжджáў мълькавóс.* Міцюкова.

**ЗА́ЙЗДРАСЦЬ** *ж.* Зайздрасць. *Нае́лася ад зáйздрасці.* Серкуці.

**ЗАЙЗДРО́СЛІВЫ** *прым.* Зайздросны. *Зайздрóслівыя стáлі.* Дольдзева.

**ЗАЙМА́ЦЦА** *незак.* Пачаць што-н. рабіць, прыступіць да якога-н. занятку. *Яны́ займáюцца сваíм дзе́лам.* Нямойта.

**ЗАЙМА́ЦЬ** *незак.* Займаць месца ў чарзе. *Хай зы вáмі хтó зáйміць чаргý, а тады́ вы пóйдзеце.* Фасаўшчына.

**ЗАЙСЦІ́, ЗАЙЦІ́** *зак.* 1. Зайсці. *Бувáла зáйдзім, сабрáўшыся мальчы́шкі, дзяўчóнкі.* Самсоны, Заазер'е, Нямойта, Рэчкі. *Я зъйшлá ірвáць я́блычка.* Закур'е. *Снех, зайці не́як былó.* Багданава. 2. Выйсці замуж. *Вучы́ліся абы-я́к, але́ зáмуж зайшлí.* Запруддзе. *Цябе́ пасóдзюць, а жóнка зáмуж зáйдзець.* Гарадзец, Дольдзева, Каралевічы, Кішуроўшчына, Мянюцева, Сянно, Цясішча, Чуцькі, Дуброўкі, Закур'е, Неўгадава. *Я зъшлá зáмуш чъръз дарóгу.* Каралевічы. *Дъчкá зáмуш зъйшлá.* Каралевічы, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Нямойта. 3. Пайсці ў прымы. *Зайшóў к бáбе, а ў бáбі дóчкі былí, вóзьмуць грóшы, а вóтчым як хóчыш жыві.* Станюкі, Кішуроўшчына.

**ЗАЙСЦІ́СЯ** *зак.* З'явіцца. *Ат навýкі лы́сіна зъйшлáся.* Міцюкова.

**ЗАЙСЦІ́СЯ** *зак.* Забалець, сціснуцца. *Сэ́рца зáйдзецца, я кáжны дзень сме́рці прашý, дзень і ноч.* Закур'е.

**ЗА́ЙЦАЎ** *прым.* Заечы, з заечага футра. *Зáйцаву шáпку нóсіць.* Багданава. ○ ЗА́ЙЦАВА КАПУ́СТА. Кісліца. *Зáйцаву капýсту вáруць, янá кíсьленькая.* Запруддзе, Багданава, Каралі. ○ ЗА́ЙЦАЎ БАРАВІ́К. Махавік зялёны (грыб). Старая Беліца.

**ЗАЙЧО́НАК** *м.* Зайчаня. *Зайчы́ха з зайчънятамі ў ле́се схува́лісі, а адзі́н зайчо́нък пупа́лсі.* Багданава.

**ЗАЙЧЫ́ХА** *ж.* Зайчыха. *Зайчы́ха з зайчынятамі упе́рат ста́лі.* Багданава.

**ЗАЙШО́ЎШЫ** *дзеепрысл.* Замужам. *Мая́ дачка́ ў Ле́плі зайшо́ўшы.* Партызаны.

**ЗАКАБА́Й** *м.* Закутак. *Дзе пасы́пъла ў зъкъба́і.* Запруддзе.

**ЗАКАВА́ЦЬ** *зак. перан.* Закрыць крышкай у труне. *Стра́шна паме́рці: там цябе́ закую́ць і ў зямлю́.* Ульянавічы.

**ЗАКАВУ́СІНА** *ж.* Затока. *У во́зіры, у той закаву́сіні пянькý мачы́лі.* Турава.

**ЗАКАЛАЦІ́ЦЬ** *зак.* Затрэсці. *Аж мяне́ закалаціла, як я ўба́чыла несабра́ныя валасы́.* Нямойта.

**ЗАКАЛДАВА́ЦЬ** *зак.* Зачараваць. *Іна́ мне каро́ву закалду́іць.* Нямойта.

**ЗАКА́ЛЕЦ** *м.* 1. Сыры, непрапечаны слой у хлебе каля ніжняй скарынкі. *Зака́лец – у па́лец.* Леснікова, Заазер'е, Міцюкова. 2. Цвёрдая скарынка. *Хлеп з зака́льцам.* Серкуці.

**ЗАКА́ЛІВАЦЬ** *незак.* Закаляць. *Яно́* [жалеза] *зва́рыцца, салье́цца, пато́м зака́лііш.* Жохава.

**ЗАКАЛІ́ЦЦА** *зак.* Загарэць. *Зъкалілася – і со́нца не баялася.* Партызаны.

**ЗАКАЛО́ЦЬ** *зак.* Укалоць, застраміць (?). *Закало́ла па́лец.* Неўгадава.

**ЗАКАЛО́ЧАНЫ** *дзеепрым.* Зроблены, пастаўлены (пра брагу). *А ў ба́цькі к сва́дзьбі была́ зъкало́чънья гарэ́лка.* Міцюкова.

**ЗАКАЛЫХА́ЦЦА** *зак. экспр.* Заехаць. *За ноч і закалы́шэсся на по́ездзе.* Багданава.

**ЗАКАЛЫХА́ЦЬ** *зак.* Закалыхаць, прыспаць. *Я э́ту дзіўчо́нку закалышу́, іна́ і сьпі́ць.* Багданава.

**ЗАКАЛЯНЕ́ЦЬ** *зак.* Астыць, зацвярдзець. *Закаляне́лі бліны́, як бу́дзеш е́сьці?* Багданава.

**ЗАКАМЯНЕ́ЦЬ** *зак.* Здранцвець, моцна спалохацца. *Вінто́ўку сніма́іць, нацэ́ліць у меня́, я закамяне́ла.* Міцюкова, Вялікі Азярэцк. *Ка́жуць, гары́ць дзярэ́ўня, усе́ зъкымяне́лі і ніжа́лка было́.* Заазер'е.

**ЗАКАПА́НЫ** *дзеепрым.* Закапаны. *Ужо́ слядо́к відзелі туды́, дзе сунду́к зъкапа́ны.* Леснікова.

**ЗАКАПА́ЦЦА** *зак.* Закапацца, схавацца. *Зъкъпа́лісі ў стог і сідзя́ць ціцко́м.* Гарадок.

**ЗАКАПА́ЦЬ** *зак.* Закапаць. *Зъкапа́ю ў капе́ц, дык яна́* [бульба] *ляжы́ць, пака́ се́яць. Крапіву́ нарву́ць і ка́мінь гла́ткі ў нача́ла гра́ткі закапа́юць і прыхло́пнуць, каб ніякі ўрадзі́цель ні еў.* Запруддзе.

**ЗАКАПЦЕ́ЦЬ** *зак.* Закапцець. *Шурува́ла, мы́ла, каб не віда́ць было́, як зъкапце́ў къцяло́к.* Цясішча, Нямойта.

**ЗАКАРНЯ́ЎКАЦЬ** *зак.* Закурняўкаць. *Каты́ зъкърня́ўкълі, і Бох ні сашмаргну́ў увесь ко́лас* (павер'е). Ракаў Засценак.

**ЗАКАСА́ЦЬ** *зак.* Падкасаць. *Штаны́ ізрэ́бныя закаса́іш і бысяко́м пы расе́.* Дольдзева.

**ЗАКАСІ́ЦЬ** *зак.* Пры касьбе захапіць кавалак з суседняй чужой пожні. *Зъкасі́ў мне – адграбі травы́!* Заазер'е.

**ЗАКА́Т** *м.* Закот, франтон (з бярвёнаў). *Бро́ўнамі зака́тавалі, пато́м ста́вюць страпі́лы, а пато́м кро́юць, э́та зака́т называ́іцца.* Нямойта, Турава.

**ЗАКАТА́ЦЬ** *зак. эмац.-ацэн.* Набіць, налупцаваць. *Якуў, як ніпра́ўда, то зъкътайіць!* Пожанькі.

**ЗАКА́ТВАЦЬ** *незак.* Зграбаць у валок. *Се́на ў валы́ зака́тваць граблямі.* Нямойта.

**ЗАКАЦІ́ЦЦА** *зак.* Закаціцца, апусціцца за гарызонт (пра сонца). *Вечарко́м, яшчэ́ со́нца ні зъкацілася.* Серкуці.

**ЗАКАЦІ́ЦЬ** *зак.* Зрабіць падмурак. *С ка́міня, усё с каме́ння, с кірпіча́ на́да закаціць падму́рак.* Гарадзец.

**ЗАКАЧА́ЦЬ** *зак.* Замясіць. *Муку́ зъкача́юць ту́га, сдзе́лыіць мучаны́я клёцкі.* Нямойта.

**ЗАКА́ЧВАЦЬ** *незак.* Загінаць, рабіць паўкруг пры будаўніцтве. *Столь і сце́ны пъта́м і зъка́чвалі клець.* Гарадзец.

**ЗАКАШЛЯ́ЦЬ** *зак.* Пачаць кашляць. *Ай, зъкъшля́ла – бягу́ць к до́ктару, а ране́й нъпа́рыць травы́.* Запруддзе.

**ЗАКАШТАВА́ЦЬ** *зак.* Пакаштаваць. *Нясі кру́шку, ба́ба, ніха́й лю́дзі зъкашту́юць.* Ульянавічы.

**ЗАКВАКТА́ЦЬ** *зак.* Заквактаць (пра курыцу). *Зъквакта́юць, бу́ду садзіць ку-ры́цу.* Партызаны, Вялікі Азярэцк.

**ЗАКВА́СКА** *ж.* Рошчына. *Заква́ска на другі хлеб.* Гарадзец.

**ЗАКІ́ДАЦЬ** *зак.* Нанесці шкоду здароўю пры падкідванні альбо моцным трасенні. *Ду́малі, дзіцёнка закі́даіць, паку́ль прынясе́ць.* Нямойта.

**ЗАКЕ́ЛЗАЦЬ, ЗАКІЛЗА́ЦЬ** *зак.* Закілзаць. *Зakéлзаць къня́ на́да. Яго́ ш на́да загмузда́ць, закілза́ць.* Сукрэмна.

**ЗАКІ́НУЦЬ** *зак.* 1. Пакласці наверх. *Што, закі́нуць?* Нямойта. 2. Прыбудаваць. *З зямля́нкі закі́нацъ се́нкі к ха́ці, до́сак нарэ́залі і падло́гу пакла́лі.* Партызаны. 3. Забіць, зарэзаць. *Скъза́ла хъдзя́іну: вазьмі яе́ закі́нь, гэ́ту ку́рыцу.* Малы Азярэцк. 4. Занядбаць. *Белару́скі я́зык хаце́лі зусі́м закі́нуць.* Нямойта, Заазер'е, Запруддзе. ◊ СЛО́ВА ЗАКІ́НУЦЬ. Падтрымаць. *Ба́бушка сло́ва не закі́ніць.* Каралевічы.

**ЗАКІПЕ́ЎШЫ** *дзеепрым.* Які закіпеў, кіпіць. *Варго́лы – э́та кіпято́к, закіпе́ўшы кіпято́к варго́лы называ́лісі.* Марозаўка.

**ЗАКІПЕ́ЦЬ** *зак.* Закіпець. *Ну глядзі там, каб грыбы́ закіпе́лі.* Міцюкова. *Чыгуны́ нъліва́йім вады́, зъкіпіць выда́, і тады́ туды́ кладзе́м грыбы́.* Сяргейкі.

**ЗАКІРЗА́ЦЬ** *зак.* Залатаць плетучы. *Я карзіну съма́ зъкірза́ла, за сем гадо́ў пълъма́лісі ўсе.* Неўгадава.

**ЗАКІ́СНУЦЬ, ЗАКЕ́СНУЦЬ** *зак.* Закіснуць. *Тады́ на тво́рах здзе́лаюць мълако́, калі яно́ крэ́пка закі́сніць.* Багданава. *А то яны́ ні пірарабо́туюць, заке́сніць паткормка, пчо́лы пагі́бнуць.* Рэчкі.

**ЗАКІ́ЧАНЫ** *дзеепрым.* Замазаны кітам (замазкай). *Вакно́ закі́чъные было́, і сне́гу пънадуло́.* Каралевічы.

**ЗАКЛАДА́ЦЦА** *незак.* Закрывацца, замыкацца. *У кублу́ кры́шка надзіва́лася на рашкі і такім кіёчкам зъклъда́лься.* Гарадзец, Багданава, Міцюкова.

**ЗАКЛАДА́ЦЬ** *незак.* 1. Закладаць, закрываць. *Ю́шка – закладаю ко́мін, ні закры́ўшы, як пагара́ць галаве́шкі, так я і заклада́ю.* Багданава, Гарадзец, Нямойта. *Я і ко́мін ні заклада́ла.* Багданава. 2. Накладаць, змяшчаць для захавання. *У сікля́нку заклада́юць капу́сту, гуркі.* Багданава. 3. Высоўваць. *Воўк хвост заклада́іць у вакно́ і аве́чак пужа́іць.* Міцюкова. 4. Пра хваравітае адчуванне ў грудзях, вушах, носе. *Заклада́ла мне гру́дзі, пле́чы.* Багданава. *Ву́шы заклада́іць, як глуха́я*

*нейкая стáла.* Цясішча. ◊ ШТО (ХОЦЬ) КАСЎ ЗАКЛАДÁЙ. Вельмі многа, процьма. *Палынў што касў зъкладáй.* Баравікі. *Хоць вазьмі касў закладáй, касі* [пра грыбы]. Запруддзе.

**ЗАКЛÁДЫВАЦЬ** *незак.* Укладаць, аддаваць сілу, здароўе. *Усё аднó вы трудá ні заклáдывалі.* Ульянавічы.

**ЗАКЛАПАЦÍЦЦА** *зак.* Занепакоіцца. *Зъклапацілася я, ці абмяклі вы, ці абмёрзлі.* Нямойта.

**ЗАКЛÁТКА** *ж.* Кій у кубле для сала. Баравікі.

**ЗАКЛÉЙВАЦЬ** *незак.* Закрываць запоўненыя мёдам соты. *Заклéйваюць сóты.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАКЛІНÓЎВАЦЬ** *незак.* Вастрыць, надаючы клінападобную форму. *Ён* [камень наждачны ў тачыле] *на валў зганяіцца, заклінóўваіцца.* Жохава.

**ЗАКЛІНЯ́ЦЬ** *незак.* Тое ж. *Нь валў згъняіцца, закліняем.* Жохава.

**ЗАКЛЫ́ЧЫЦЬ** *зак.* Загарэзаваць. *Заклычъм, стáлі бáлавацца, дурэ́ць, éта шуцéйнае слóва.* Нямойта.

**ЗАКЛЫ́ЧЫЦЬ** *зак.* Задушыць (?). *Заклычыў ён мáльца.* Нямойта.

**ЗАКЛЯ́ТЫ** *прым.* Пракляты. *Цяпéр яны заклятыя, чарцéй тамў нямá, што малéнькія рыбя́та і жаншчыны ругáюцца, уся зямля закля́тая, і іх ня стáла.* Багданава.

**ЗАКÓН** *м.* Звычай. *Цялёнка атнімáйім і двáццыць дней, як закóн, пóйім мылакóм, вáрым куляшóк с сéчкі я́шныя і даём.* Чуцькі.

□ *Закóн што дышла: кудí павярнўў, тудí і вышла.* Запруддзе, Каралевічы.

**ЗАКÓННЫ** *прым.* Мясцовы жыхар, тубылец. *У Сіркуцях прыéзжых німá, усé закóнныя.* Серкуці.

**ЗАКÓТАНЫ** *дзеепрым.* З доўгімі залысінамі. *Як віскі закóтыныя, то разўмны чылавéк.* Нямойта.

**ЗАКРАВÁВІЦЬ** *зак.* Заліць крывёй. *Ужó закравáвіла усё лўжына.* Леснікова.

**ЗАКРÓЙШЧЫЦА** *ж.* Закройшчыца. *Я жылá ў сям'é бальшэ́й, былá закрóйшчыцай.* Каралевічы.

**ЗÁКРУТКА** *ж.* Закрутка, прыстасаванне для замыкання дзвярэй у выглядзе засаўкі, якое круціцца на восі. *Зáкруткай дзірвя́ннуй закрўчылі дзвéры ранéй.* Нямойта.

**ЗÁКРУТКІ** *мн.* Петлі для замацавання аглабель. *Рáньшы аглóблі нъ зáкрутках былí, дзéлалі з лазы, называ́лісь зáверты, і дзіржáлась аглъбля́.* Гарадзец.

**ЗАКРУЦÍЦЦА** *зак.* ◊ ЗАКРУЦÍЦЦА Ў ГАЛАВÉ. Пачаць адчуваць галавакружэнне. *Нéшта ў галавé закрўціцца ад стáрасці.* Багданава, Самсоны.

**ЗАКРУЦÍЦЬ** *зак.* 1. Скруціць. *Закруціць тўю лазінў.* Багданава, Запруддзе, Гарадзец, Кішуроўшчына. 2. Загнуць, паставіць накрыж. *Павышлі дзéўкі, нóгі закруцілі, папірóскі вынулі.* Запруддзе.

**ЗАКРЎЧЫСТЫ** *прым.* Які закручваецца, які з коркам-закруткай. *Былá буклáшка ат сълдáт закрўчыстыя.* Запруддзе.

**ЗАКРЫВÁЦЬ** *незак.* 1. Зачыняць. *Калі хóчуць аткрыюць, калі хóчуць – закрыюць.* Кляпчэва. 2. Закладаць. *І днó закрылі і бакі закрылі і тудí высыпалі чатыры мяшкі і тады дóскамі* [заклалі яму]. Леснікова. 3. Накрываць (з галавой). *Ні нáда, каб мінé гэ́тым мяшкóм* [саванам] *закрывáлі.* Карпавічы.

**ЗАКРЫ́СТА** *ж.* Спецыяльнае памяшканне ў храме для святароў і іх памочнікаў. *Ідзé бáцюшка, там закрыста былá.* Каралевічы.

**ЗАКРЫ́ЎШЫ** *дзеепрысл.* Закрыўшы. *Вазілі во́чы закры́ўшы.* Ульянавічы.

**ЗАКРЫ́ЦЦА** *зак.* Апусцець, абязлюдзець. *Тут дамы́ пустэ́я – закры́ліся дзярэ́ўні.* Латыгаль, Свечы.

**ЗАКРЫЧА́ЦЦА** *зак.* Крычаць доўгі час. *Піскля́та закрыча́ліся.* Ракаў Засценак.

**ЗАКРЫЧЭ́ЦЬ** *зак.* Закрычаць. *І як закрычэ́ла я!* Заазер'е, Малы Азярэцк.

**ЗАКУДА́КТАЦЬ** *зак.* Выдаваць характэрныя гукі. *Удо́т красівенькій зъкуда́ктыў: то-то-то.* Сянно.

**ЗАКУЛЬГА́ЦЬ** *зак.* Закульгаць. *Закульга́ла каро́ва, я яе́ блі́зка навя́звала.* Запруддзе.

**ЗАКУЛЯ́ЦЦА** *зак.* Спатыкацца. *Закуля́ешся, як ве́чарам ідзе́ш па дзярэ́ўні – я́мкі.* Партызаны.

**ЗАКУПЛЯ́ЦЬ** *незак. зак.* Закупляць. *Адзін год закупля́лі ціля́т.* Самсоны.

**ЗАКУПО́НКА** *ж.* Закупорка, закупорванне (сасудаў). *Закупо́нка сасу́даў была́.* Багданава, Нямойта.

**ЗАКУРА́ЖЫЦЦА** *зак.* Узрушыцца, моцна ўсхваляваецца. *Як закура́жыцца мальчанёнка, патрэ́ць яго́ по́далам.* Запруддзе.

**ЗАКУСА́ЦЬ** *зак.* Скусаць. *Як закуса́юць вадні́, яны́* [каровы] *хвасты́ як залу́пяць.* Рассвет.

**ЗАКУСІ́ЦЬ** *зак.* Закусіць. *Бара́нінай закушу́.* Буй.

**ЗАЛ** *м.* Зала. *Бува́ла, во́зьмеш во́сем тарэ́лак – і ідзе́ш па за́лу.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАЛА́** *ж.* 1. Попел. *Гаво́руць, як хто баіцца суро́цы, на той мамéнт залу́ ілі со́лі сыпаць.* Партызаны, Багданава, Запруддзе. 2. Луг, шчолак. *Дзе́лалі залу́, бяллё сціра́лі, гало́вы мы́лі, слі́ская така́я вада́.* Багданава.

**ЗАЛАВІ́ЦЬ** *зак.* Злавіць. *А там ужо́ нас залаві́лі каля по́граба.* Леснікова, Чуцькі.

**ЗАЛА́ДЗІЦЬ** *зак.* Паправіць. *А е́слі дзе во на ўзме́жак, плух там э́та цара́пнуў, то на́да абіза́цельна э́та зала́дзіць, здзе́лаць, ну, як было́.* Гарадзец.

**ЗАЛА́ЖА** *ж.* Частка памяшкання, дзе сушаць і труць лён, абмежаваная сцяной і сушыльняй. *Зала́жа – ге́та у таку́.* Серкуці.

**ЗАЛАЖА́ЦЬ** *незак.* Закладваць. *У жо́рну* [адзін камень верхні] *па́лычку, млён зълъжа́юць.* Запруддзе.

**ЗАЛА́ЖЫВАЦЬ** *незак.* Плаціць, аддаваць за некага грошы. *Ні зъла́жывъйіць зы мяне́ гро́шы.* Сянно.

**ЗАЛАЖЫ́ЦЬ** *зак.* Закрыць, закласці. *Ко́мін зало́жыш, і хлеп пячэ́цца.* Неўгадава.

**ЗАЛАЗА́** *ж.* Гнайнік пад ніжняй губой у каня; залоза. *Зълыза́ прыбіва́йіць пад ніжній ця́пкый, гной цячэ́ць, йіна́ зъра́зныя.* Самсоны.

**ЗАЛАЗАВА́ЦЬ** *незак.* Хварэць на залозу (пра каня). *Зълазу́йіць конь.* Самсоны.

**ЗАЛА́ЗІЦЬ** *незак.* Залазіць. *Доўш атніма́йіш, рукой зы$^{а}$ла́зіш і вървіза́йіш мёт у кало́дзе.* Фасаўшчына.

**ЗАЛАМІ́ЦЦА** *зак.* Заламацца. *Капы́т у каня́ за$^{ъ}$ламі́ўся.* Багданава, Гарадзец.

**ЗАЛА́ПІЦЬ** *зак.* Залапіць, залатаць. *Ла́пілі адзе́жу, зала́піць на́да.* Дольдзева, Жохава.

**ЗАЛАТНІ́К** *м.* Дзесяць капеек. *Залатні́к – дзе́сіць капе́ек.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАЛАТНІ́К** *м.* Разнастайныя захворванні маткі ў жанчын. *Ад за$^{ъ}$латніка́ за$^{ъ}$гаво́ры па$^{ъ}$мага́юць.* Багданава. *Як жыво́т апуска́ецца – залатні́к.* Вялікі Азярэцк.

*Зъ̀латнік – ета ат пад'ёму бываíць.* Заазер'е, Запруддзе, Каралевічы, Манголія, Партызаны, Савінічы. *Залатнік зълатьı́, тут табé ні бывáць, сырьı́х касцéй ні ламáць, іці табé, зълатнік, на чóрнае мóра, нъ зялёныя лістьı́, нъ жóўтыя пяскí* (з замовы). Багданава. ЗАЛАТНІЧÓК *памянш. Залатнічóк, кóцічак, змірьı́ся, на свaé мéсца станавíся* (з замовы). Міцюкова.

**ЗАЛАТУ́ХА** *ж.* Залатуха, дзіцячая хвароба. *Залату́ха ў вачáх, ня бу́дзіць глядзéць на свет.* Багданава. *Як заълату́ха на гълавé – мълакó таплёнку бяру́ць, пéнку сабірáюць,ператáплюъюць – і гаíла хаърашó. Ад залату́хі купáлі ў чарадзé дзяцéй.* Баравікі, Багданава, Буй, Партызаны.

**ЗАЛАТЬ́І** *прым.* Цудоўны, прыгожы, спрыяльны (пра час). *Рвíце цвятьı́, прайду́ць залатьı́я дні.* Каралевічы.

**ЗАЛАЧА́ЦЬ** *незак.* Брацца на золак. *Ай, зълачáіць ужó. Зълъчáіць, скóра сóнца ўсхóдзіць.* Гарадзец, Дольдзева, Запруддзе, Леснікова, Савінічы.

**ЗА́ЛЕЖ** *ж.* Заляжалы тавар. *Усякую зáлеж прывóзіць аўталáўка.* Чуцькі.

**ЗАЛЕЗНАДАРО́ЖНЫ** *прым.* Жалезнадарожны, чыгуначны. *Залезнадарóжны адна́ дачкá скóнчыла у Мíнску.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАЛЕ́ЗНЫ, ЗЯЛЕ́ЗНЫ** *прым.* Жалезны. *А́плік – ета залéзны, як кручóк.* Нямойта. *Грэ́бень зялéзны набíтых гваздзёў, астаéцца ку́жаль, а вярхóўе ззáдзі.* Карпавічы, Сукрэмна.

**ЗАЛЕ́ЗЦІ** *зак.* Залезці. *Тут залéзлі, во, дзе гэ́та ду́ліна.* Запруддзе.

**ЗАЛЕ́ТАСЬ** *прысл.* Залетась, два гады таму. *Залéтъсь вудурьı́ пашлí, то дълá жугу́шкі і прайшлó.* Каралевічы, Нямойта, Партызаны, Сукрэмна, Чуцькі.

**ЗАЛЕ́ТАШНІ** *прым.* Залеташні, двухгадовага тэрміну. *Марóз у хáту лез, залéтъшнія бу́льба памёрзла.* Ракаў Засценак.

**ЗАЛЕ́ЧЫЦЬ** *зак.* Вылечыць. *Тóлькі вóткуй залéчылі язву жалу́тка.* Баравікі.

**ЗА́ЛЕШ** *м.* Месца залягання карысных выкапняў; залежы. *Інá* [вохра] *любóга цвéта. Късáлі, што аткрьı́юць там дабьı́чу, ні аткрьı́лі. А мóжа, мальı́ зáлеш.* Фасаўшчына.

**ЗАЛЁТАЦЬ** *зак.* Забегаць, замітусіцца. *А там і залётaлі.* Баравікі.

**ЗАЛІВА́ЦЦА** *незак.* Залівіста спяваць. *У́тра, вéчар – салаўí залівáліся.* Латыгаль. ◊ ЗАЛІВА́ЦЦА СЛЯЗЬМІ́. Горка, няўцешна плакаць. *На тóе, як узду́маю, слязьмí залівáюсь.* Серкуці.

**ЗАЛІВА́ЦЬ** *незак.* Заліваць (чым-н.). *Грыбьı́ зълівáю кіпяткóм.* Сяргейкі.

**ЗАЛІВЕ́НЬ** *м.* Лівень, заліўны дождж. *Учóра такí ўжо залівéнь быў, што гóспадзі, як бы парвáлася нéба.* Міцюкова. *Чагó ж такія заліўні стáлі йці, іллéць, іллéць, і кънцá німá і крáю.* Ракаў Засценак.

**ЗАЛІПА́ЦЬ** *незак.* Прыліпаць. *Сну́лля тъкáя дóсачка: дзве дзірачкі, тудьı́ уцягваюцца нітачкі, нітка тадьı́ ні заліпáіць.* Фасаўшчына.

**ЗАЛІ́ТЫ** *дзеепрым.* Запячатаны ў сотах мёд. *Залíты мёд – гатóвы.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАЛІЎНО́Й** *прым.* Праліўны. *Заўчóра заліўнóй дóждж ліну́ў.* Цясішча, Багданава.

**ЗАЛІ́ЦЦА** *зак.* Захлынуцца, утапіцца. *Каб ты ў маíх слізáх задушьı́ўся, залíўся!* (праклён). Запруддзе.

**ЗАЛІ́ЦЬ, ЗАЛЛІ́ЦЬ** *зак.* 1. Пакрыць вадой, затапіць. *Во як даждждьı́ пóйдуць – усё заллéць, нічóга ні возьмéм, мъкрытá, ні трáктар, ні нъгá ні прóйдзіць.* Запруддзе,

Станюкі. 2. Уліць. *Прасі Кóлю, хай заллéць бензíну.* Партызаны. 3. Закапаць чым-н. *Тады́ ш ні залíць чым, кап пáліц гаíўся.* Леснікова. ◊ ЗАЛІ́ЦЬ ВО́ЧЫ. Быць моцна п'яным. Запруддзе. ◊ ЗАЛІ́ЦЬ БУ́ЛЫ. Тое ж. *Так стáлі піць, што льець, пакýль ні зальéць сваé бýлы.* Закур'е.

**ЗАЛО́БАК** *м.* 1. Залобак, франтон. *Франтóны рабілі ў хáтах, у хлівáх – залóбак.* Алексінічы, Гарадзец, Дольдзева, Запруддзе, Нямойта, Фасаўшчына. 2. Перапляценне ў кошыку, якое змацоўвае абручы, у яго ўстаўляюцца рэбры. *Залóбак у карзінцы заплёў.* Багданава.

**ЗАЛО́Г** *м.* Заклад. *Залóг застáвілі.* Ульянавічы.

**ЗАЛО́ЖНІК** *м.* Палічка з дзіркамі для лыжак. *Кала сцéнкі пóлачка, а ў ёй павыразаны дзірачкі, туды́ лóшкі ставілі, ета залóжнік.* Леснікі.

**ЗАЛО́М** *м.* Зламаныя і звязаныя ў пук сцяблы жыта, лёну з мэтай наклікаць бяду на гаспадара поля. *Э́та здзéлаюць залóм, чараўнік зачарýіць, як сажнéш, і рýкі бýдуць балéць і сам забалéіш.* Дольдзева, Гарадзец.

**ЗАЛО́ЎКА** *ж.* Сястра мужа. *Залóўка дачкінá дзень раждж́эння атмічáла.* Запруддзе.

□ *Залóўка – ета бунтóўка.* Запруддзе. □ *Залóўка – вярóўка.* Алексінічы, Багданава, Баравікі, Запруддзе, Каралевічы, Нямойта, Дуброўкі.

**ЗАЛУ́ЖАНЫ**, **ЗАЛУЖО́ННЫ** *дзеепрым.* 1. Засеяны травой участак. *У мянé гарóт залýжъны, там залужэ́ння сéйіш.* Запруддзе, Латыгаль. 2. Сеяны, не дзікарослы. *А ціпéр залужóнную травý цімафéеўку сéюць.* Багданава.

**ЗАЛУ́ДЖАЦЬ** *незак.* Залуджваць. *Пья́льнік з мéдзі, награвáлі ў гарнé, ягó залýджаіш, зачы́сціш.* Жохава.

**ЗАЛУЖЭ́ННЯ** *н.* Засеяны травой участак. *У мянé зълужэ́ння нъ гарóдзі ёсь.* Запруддзе.

**ЗАЛУПІ́ЦЬ** *зак.* Адлупцаваць. *Залýпіць мáтка, як дзéці на Бóга не так сказáлі ў рабінавую ноч.* Запруддзе.

**ЗАЛУПІ́ЦЬ** *зак.* Залупіць, задраць. *Як закусáюць вадні́, яны́* [каровы] *хвасты́ як залупя́ць.* Рассвет.

**ЗАЛЫ́СІНА** *ж.* Залысіна. *Éслі залы́сіна бъльшáя, то разýмны чълавéк.* Заазер'е.

**ЗАЛЮБІ́ЦЬ** *зак.* Упадабаць. *Знáю, што не залю́біць маíх слоў.* Каралевічы, Неўгадава.

**ЗАЛЯЛЮ́КАЦЬ** *зак.* Заспяваць без музыкі. *Інá, бувáла на язы́к як заляліокаіць.* Багданава.

**ЗАЛЯНІ́ЦЦА** *зак.* Заленавацца. *Калі заляніішся – меньш сажнéш.* Партызаны, Багданава.

**ЗАЛЯЦЕ́ЦЬ** *зак.* Патрапіць. *Éслі мы зъляці́м на фронт, мы вам жы́зню дадзі́м.* Партызаны.

**ЗАМАЖНЕ́ЙШЫ** *прым.* Больш заможны. *Былі зъмажнéйшыя і бéдныя.* Мянюцева.

**ЗАМА́ЗАЦЦА** *зак.* Запэцкацца (?). *Замáжацца, а глáзы сліпя́ць у яé.* Жохава.

**ЗАМА́ЗВАЦЬ**, **ЗАМА́ЗАВАЦЬ** *незак.* Замазваць, залепліваць. *Кіт – вóкны замáзвалі, ён як мы́ла, брусóчак, ягó трóшку пагрэ́іш, тады́ аплéпліім вóкна.* Багданава. *Канéчкам прышчэ́пліваецца, усё замáзыіць.* Нямойта.

**ЗА́МАЛАДА** *прысл.* У маладым узросце. *Вы жанілісі зáмълъда, а я жаніўся стары́, дык мне што зъсталóся.* Ульянавічы.

**ЗА́МАРАСКІ** *мн.* Замаразкі. *Як начну́ць за́мараскі, так і абвя́звалі дрэ́вы сало́май.* Карпавічы.

**ЗАМАРШЧЫ́НКА** *ж.* Маршчына. *Ні замаршчы́нкі, ніч́ога ні было́ на мне, паку́ль ні перахварэ́ла.* Заазер'е.

**ЗАМАРЫ́ЦЦА** *зак.* Стаміцца. *Замо́рыцца за дзень, як цэп.* Ульянавічы, Багданава, Гарадзец, Нямойта, Партызаны, Сянно, Цясішча.

**ЗАМАСО́ЛЕНЫ** *прым.* Замусолены, зашмальцаваны. *Дзе там, яна́ замасо́лена.* Савінічы.

**ЗАМАТА́ЦЦА** *зак. перан.* Стаміцца. *Калі замата́юся, павалю́ся ў хле́ве.* Цясішча.

**ЗАМАЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* Лячыць замовай. *Некато́рыя ўме́лі зъмаўля́ць кроў гэ́ту, я ні ўме́ю.* Заазер'е.

**ЗАМА́ЧАВАЦЬ** *незак.* Замочваць. *Пяньку́ на́да зъма́чъвъць.* Дольдзева.

**ЗАМАЧЫ́ЦЦА** *зак.* Намачыцца, вымакнуць. *Паехаў лес вазі́ць, замачы́ўся – памёр.* Багданава.

**ЗАМЕ́НІВАЦЬ** *незак.* Блытаць. *Нас заме́нівалі, што мы сёстры.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАМЕНЯ́ЦЕЛЬ** *м.* Замяняльнік. *Мне уліва́нне – заменя́целі крыві дзе́лалі.* Дольдзева.

**ЗАМЕ́РЦІ** *зак.* Застыць, перастаць рухацца. *Сра́зу ні шла кроў, ці яна́ замёрла кроў, ні гра́ма ні было́ крыві.* Леснікова.

**ЗАМЕ́РЦІ** *зак.* Памерці. *Як замру́, ба́цька дачке́ так гадзі́ць ня бу́дзя.* Станюкі.

**ЗАМЕ́С** *м.* Замес, колькасць цеста на выпечку хлеба. *С аднаго́ заме́су шэсь бу́лык хле́ба пяклі.* Гарадок, Партызаны.

**ЗАМЕ́ТКА** *ж.* Прыкмета. *Есь заме́тка, што ноч паме́ншаіць, але́ ма́ла.* Ракаў Засценак.

**ЗАМЕ́ШЫВАЦЬ** *незак.* Замешваць. *Была́ ў ко́ні каро́ста. Бра́лі сіні ка́мінь, таўклі на пыль, се́йілі. Бра́лі се́ру і ма́сла. Заме́шывълі.* Самсоны.

**ЗАМЁРЗНУЦЬ** *зак.* Замерзнуць, пакрыцца лёдам. *Замёрзлі во́кны.* Гарадзец.

**ЗАМЁТ** *м.* Плот з плашак ці бярвёнаў; замёт. *Замёт з бярвённяў, іх закіда́іш у шу́ла.* Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Марозаўка, Нямойта, Фасаўшчына.

**ЗАМІРЗА́ЦЬ, ЗАМЕРЗА́ЦЬ** *незак.* 1. Замярзаць, пакрывацца лёдам. *Замірза́іць во́зіра.* Латыгаль. *Крыніца на Кажа́ршчыне, по́ля тако́я, іна́ ні замірза́іць, там цэ́рква ўтану́ла, чу́лі ра́ньшы, як званы́ зво́нюць.* Заазер'е. 2. Прамярзаць. *Ёўню тапілі, каб не замерза́ла.* Закур'е.

**ЗАМІТУСІ́ЦЬ** *зак.* ◊ ЗАМІТУСІ́ЦЬ ГАЛАВУ́. Ачмурыць, пазбавіць здольнасці думаць, разважаць. *Замітусілі галаву́ ей цыганы́, а яна́ выно́сіць усе́.* Нямойта.

**ЗАМКНЁНЫ** *дзеепрым.* Замкнуты. *«Куды́ бяжы́ш, сіро́тачка, / Куды́ бяжы́ш, малё́нькая?» – «Бягу́, бо́жа, да ма́тачкі». / – «Ні бяжы́, сіро́тачка: / Твая́ ма́мка за тры вярсты́ завязёная / І ў тры замкі замкнёная»* (з песні). Буй.

**ЗАМКНУ́ТЫ** *дзеепрым.* Тое ж. *Ха́та ні за́мкнута.* Міцюкова, Неўгадава.

**ЗАМЛЕ́ЦЬ** *зак.* Самлець, здранцвець. *Замле́лі мае́ но́гі, я ні магу́ бе́хчы.* Галашчакіна.

**ЗАМО́ЖНА** *прысл.* Заможна, багата. *Ста́лі жыць ніч́ога, замо́жна.* Багданава.

**ЗАМО́ЖНАСЦЬ** *ж.* Заможнасць, багацце. *Як німа́ с чым дзе́лаць сва́дзьбу, так схадзіліся, як у каго́ замо́жнасць.* Хамінічы.

**ЗАМО́ЖНЫ** *прым.* Заможны, багаты. *У Даргейках жылі замо́жныя лю́дзі, іх раскула́чвалі, і са́мі яны́ паві́ехалі.* Заазер'е, Мянюцева, Ракаў Засценак.

**ЗАМÓК** *м.* 1. Замок. *Пéрвы замóк – зілiнá травá, / Другі замóк – жóўты пясóк, / А трэ́цці замóк – грабóвыя дóшкі* (з песні). Буй. 2. Перапляценне ў кошыку, якое змацоўвае абручы, у яго ўстаўляюцца рэбры. Гарадзец. 3. Верхняе бервяно ў зрубе. *Брóўны стóчваюцца, сквазнóе браўнó навéрх.* Гарадзец.

**ЗАМÓРАК** *м.* Яйка з мёртвым зародкам. *Бувáіць замóркі, éсьлі плóха сядзíць.* Каралевічы.

**ЗАМÓЧКА** *ж.* Выпіўка з нейкай нагоды. *Бáба, давáй замóчку!* Вялікі Азярэцк, Партызаны.

**ЗАМÓШЧАНЫ** *дзеепрым.* З пакладзенай падлогай. *Мост замóшчаны, ступéнькі – мяшкí ш трэ́ба насíць у прыклéтнік.* Серкуці.

**ЗÁМУЖАМ** *прысл.* Замужам. *Мълъдáя, дýмъла зáмужам бýдзіць, як і ранéй.* Гарадзец, Багданава.

**ЗАМÝЖЖА, ЗАМÝЖА** *н.* Замужжа, шлюб. *Праз гéтэ замýжжа і ні дýмалі гавары́ць.* Нямойта, Міцюкова, Савінічы. *Не павязлó мне з замýжам, так і нет жы́сьці, шчáсця.* Заазер'е.

**ЗАМÝЖНІЦА** *ж.* Замужняя жанчына. *Éткая замýжніца – дзéці абсéлі, ён усякі – ня бык, ня ў год рас.* Каралевічы.

**ЗАМУЗДÁЦЬ, ЗАНУЗДÁЦЬ** *зак.* Закілзаць. *Нáда замуздáць каня́, у рот ямý цýглі.* Багданава. *Нáда зануздáць къня́.* Гарадзец.

**ЗАМУРАВÁЦЬ** *зак.* Закрыць запоўненыя мёдам соты. *Не выкáчваю мёт, пакýль пчóлы не замурýюць.* Яхімаўшчына.

**ЗАМÝТАК** *м.* След, прыкмета вады. *Былá крынíчка, а цяпéр такóй вады́ замýтку нíмá.* Каралі.

**ЗАМУЦÉЦЦА** *зак.* Памутнець, страціць бляск. *Пáпава кальцó біражэ́ць і ціпéр, яны́ засівéліся, замуцéліся* [пярсцёнкі]. Міцюкова.

**ЗАМУЦÍЦЦА** *зак.* ◊ ЗАМУЦÍЦЦА Ў ГАЛАВÉ. Пачаць адчуваць галавакружэнне. *Скóлькі я вы́піў – і замуцíлася ў галавé.* Ульянавічы.

**ЗАМУЦÍЦЬ** *зак.* ◊ ВАДÓЙ <НІКАМÝ> НЕ ЗАМУЦÍЦЬ. Не зрабіць ніякай шкоды, нічога кепскага. *Нікамý вадóй не замуцíў.* Партызаны.

□ *Глыбóку вадý не замуцíш.* Гарадзец.

**ЗÁМУШ** *прысл.* Замуж. *Пóйця, дзéўкі, как паёцца, / Зáмуш вы́йдзіш – ня прыдзёцца, / Зáмуш вы́йдзіш, бáбъй бýдзеш, / І усé прыпéўкі забýдзіш* (прыпеўка). Нямойта. *Гъдáлі на Къляду́: падхóдзяць пад вóкны, слýхаюць, што дзéці гавóраць. Як пачýіш слóва «ідзí», то замýш пóйдзіш, а «сядзь», – не пóйдзіш.* Дольдзева, Багданава, Заазер'е, Запруддзе, Каралевічы, Партызаны, Рассвет, Ульянавічы.

□ *Ні кáйся рáна ўстáўшы і рáна вы́йці зáмуш.* Ульянавічы, Гарадзец, Запруддзе, Неўгадава.

**ЗАМЫКÁЦЬ** *незак.* Замыкаць. *Усé сваé, як я бýду шкап зъмыкáць?* Багданава.

**ЗАМЯ́КНУЦЬ** *зак.* Змокнуць, вымакнуць. *Да дож, да замя́кнець, дзéці ні ўсягдá прыéдуць.* Латыгаль, Буй.

**ЗАМЯНÍЦЬ** *зак.* Замяніць. *Бýльбу ні замéняць буракí.* Марозаўка.

**ЗАМЯРЦВÉЎШЫ** *дзеепрым.* Замярцвелы, адзервянелы. *Тры пáльцы на рукáх замярцвéўшы, шарýеш-шарýеш пáльцы, а яны́ мярцвéюць.* Нямойта.

**ЗАМЯРЦВÉЦЬ** *зак.* Амярцвець, адзеравянець. *Жáла, і рукá зъмярцвéла.* Запруддзе, Фасаўшчына.

**ЗАМЯСÍЦЬ** *зак.* Замясіць. *Замéсіць цéста, раскáчыюць тóнінька, а тады́ кры́шуць і завýць лапшá, прасýшыюць.* Фасаўшчына.

**ЗАМЯСЦІЦЦА** *зак.* Патрапіць на сваё месца. *А папробуй замясціцца.* Ульянавічы.

**ЗАМЯТА́ЦЬ** *зак.* ◊ ЗАМЯТА́ЦЬ СЛЯДЫ́. Знішчаць улікі. *Каб я вашы сляды́ замяла́, каб вы ні прыяжджа́лі бо́лей.* Чуцькі.

**ЗАНАВЕ́СКА** *ж.* Занавеска, фіранка. *Аўто́бусы з занаве́скамі іду́ць.* Баравікі.

**ЗАНА́ДТА** *прысл.* Вельмі многа. *Зъна́дта было́ арэ́хуў, а гадо́ў сем німа́ ні аднаго́ – мо́жа ръдзія́цыя?* Сяргейкі.

**ЗАНАСІ́ЦЦА** *зак.* Моцна захацець. *А ён калі занасі́ўся жаніцца, спасу німа́.* Партызаны.

**ЗАНАСІ́ЦЬ** *незак.* Замятаць снегам. *Даро́гу зънасі́ла сне́гым.* Самсоны.

**ЗАНЕ́ВАШТА** *прысл.* Без прычыны. *Былі гады́ стра́шныя: зане́вашта хвата́лі людзе́й, каза́лі паліці́ческіе і кулакі́.* Баравікі.

**ЗАНЕ́СЦІ** *зак.* 1. Аднесці. *Хлеба стару́сі занясе́ць, прынясе́ць чаго́.* Багданава. 2. Засыпаць, замесці (снегам). *Сне́гъм зънясло́ усё во́зіра.* Міцюкова. 3. *перан.* Паспець. *Зънясе́ш яшчэ́ гъладу́, успе́іш.* Багданава.

**ЗАНЕ́СЦІ** *зак.* Заліць. *Кро́ўю занясло́ ўсю руку́.* Каралевічы.

**ЗАНІМА́ЦЦА** *незак.* Займацца. *Мой хъзя́ін ду́жа ры́бай зъніма́ўся, лаві́ў, брэ́дзінь, пу́таніца была́.* Нямойта.

**ЗАНІМА́ЦЬ** *незак.* 1. Займаць. *Сваю ха́ту заніма́йце.* Ульянавічы. 2. Зацінаць. *Дыха́нне заніма́ець, не́льга вы́трымаць.* Нямойта, Парэчча. *Каб табе́ ды́хаць заняло́!* (праклён). Запруддзе.

**ЗАНУ́ДЗІЦЬ** *зак.* Прывесці да стану моташнасці. *На́да ш напіраме́нку е́сці, а то зану́дзіць.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАНУЧЧУВА́ЦЬ** *зак.* Заначаваць. *Пае́хылі і зънучува́лі ў яго́.* Пожанькі, Партызаны.

**ЗАНЫ́ЦЬ** *зак.* Пра пачуццё суму, гнятлівы стан. *Пяюць, як ня чу́цца, а цяпе́р усё заны́ла, як лю́дзі ста́лі бъгаце́йшыя.* Партызаны.

**ЗАНЯДУ́ЖЫЦЬ** *зак.* Занядужаць, захварэць. *Гаво́руць, зънядуж́ыў, здаро́ўя нет.* Багданава.

**ЗА́НЯТЫ** *дзеепрым.* Заняты. *Усе́ былі за́няты сваімі дзіла́мі, сваім хызя́йствамі, ка́жды дзе́лаў для сябе́.* Марозаўка.

**ЗАНЯ́ЦЦА** *зак.* Заняцца, пачаць рабіць што-н. *У дзярэ́ўні да чым-не́будзь займу́цца.* Багданава.

**ЗАНЯ́ЦЬ** *зак.* Пра пачуццё суму, гнятлівы стан. *І с пе́снямі жы́лі, а цяпе́р заняло́.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАНЯ́ЦЬ** *зак.* Захапіць. *Як ужо́ тут не́мцы нас заня́лі.* Серкуці. ◊ ЗАНЯ́ЦЬ АБАРО́НУ. Заняць абарончую пазіцыю. *Заня́лі абаро́ну ў Ві́цебску.* Гарадзец, Івоні, Нямойта, Сукрэмна.

**ЗАПАДЛЕ́ЦЬ** *зак.* Зніцець. *Кмініны западле́лі.* Ракаў Засценак.

**ЗАПАДЛІЦО́** *прысл.* Спосаб злучэння бярвёнаў у вугле. *Няме́цкі у́гал ру́біцца западліцо́, ча́шка ў ча́шку, а тут вы́ступ, э́та прасты́ ву́гал.* Дольдзева, Нямойта.

**ЗАПА́ДЛЫ** *прым.* Худы, слабы. *Ціпе́р ко́ні зъпа́длыя, дрэ́нныя, а ра́ньшы ко́ні крэ́пкія былі́.* Гарадзец.

**ЗАПА́ЗУХА** *ж.* Прастора паміж грудзямі і адзеннем; пазуха. *У мяне́ у запа́зусі по́ўна дра́ні ге́тай.* Івоні, Каралевічы, Партызаны.

**ЗАПАКО́ЦІЦЬ** *зак.* Забяспечыць. *Ну, тады́ ўжо запако́цілі дрэ́вамі, ізве́сна ш, у лясу́, на сабе́ цігалі.* Леснікова.

**ЗАПАЛА́ЦЬ** *зак.* Запалаць. *З малой іскры запъла́іць аго́нь.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАПАЛІ́ЦЬ** *зак.* Запаліць. *Запалі́ў су́чча. Зъпалі́ць аго́нь у ля́мпе.* Буй, Вялікі Азярэцк, Заазер'е, Запруддзе.

**ЗАПА́МІТЛІВАЦЬ** *незак.* Запамінаць. *Мы зъпа́мітлівыйім, куды́ ў ле́сі хадзі́ць і не блу́дзім.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАПАНО́СІЦЬ** *зак.* Захварэць на панос. *Запано́сілі дзе́ці, нарва́ла ко́нскага шчаўлюку́.* Багданава.

**ЗА́ПАР, ЗАПА́Р** *прысл.* Запар, без перапынку. *Тры выспале́нні за́пар у мяне́ было́.* Заазер'е. *Тры гады́ хадзі́ла ў запа́р.* Багданава.

**ЗАПА́РВАЦЦА** *незак.* Прэць. *У со́нцу кладу́, каб ні зъпа́рваліся се́мя.* Запруддзе.

**ЗАПА́РВАЦЬ, ЗАПА́РЫВАЦЬ, ЗАПЯ́РЫВАЦЬ** *незак.* Запарваць, заліваць кіпенем. *Запа́рвалі кро́сны.* Буй. *А пато́м іх запа́рываіш* [скуты], *пе́рыш, б'юць пра́ннікам, іх жа ні папяры́ўшы ні вы́тчаш.* Дольдзева, Гарадзец. *Па́лачкі малі́ніку зъпа́ру, дам папі́ць.* Запруддзе, Багданава. *Запя́рывалі кіпятко́м, а то ні́тачкі касма́ціліся.* Багданава.

**ЗАПАРО́ЦЦА** *зак. перан.* Засесці, замацавацца (пра думку). *Йіна́ ў яго́ гълаве́ зъпаро́лыся.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАПАРО́ЦЬ** *зак.* Закалоць. *Ла́ску ў гнаі́ віламі зъпаро́ла.* Чуцькі. ◊ ПА́ЛЬЦАМІ ЗАПАРО́ЦЬ. Засарамаціць, зганьбіць. *Ба́бы цябе́ па́льцамі запо́руць!* Партызаны.

**ЗАПА́С** *м.* Запас. *Мы ў запа́с узя́лі з ба́бай.* Дольдзева.

**ЗАПАСЦІ́СЯ** *зак.* Зрабіць запас. *Яны́ запаслі́сі, а мы – не.* Латыгаль, Каралевічы.

**ЗАПАТЫ́ЛАК** *м.* Патыліца. *Нъдае́ла ў зъпаты́лак стая́ць.* Сянно.

**ЗАПАЎЗЦІ́** *зак. перан.* Пакрыцца, зацягнуцца. *Во́зера запаўзло́ ці́най.* Міцюкова.

**ЗА́ПАХ** *м.* Пах. *Хлеп сядзі́ць у пе́чы, на усю́ дзярэ́ўню за́пъх.* Заазер'е, Запруддзе.

**ЗАПАХА́НЫ** *дзеепрым.* Забаранаваны. *Ці яно́ до́бра ўзъра́на, ці яно́ до́бра зъпъха́на, ніхто́ ні глядзі́ць цяпе́р!* Цясішча.

**ЗАПАХА́ЦЬ** *зак.* Узараць. *Паку́ль во́сім агаро́дыў зъпа́шым, то і дух вон.* Гарадзец, Жохава, Фасаўшчына.

**ЗАПАХА́ЦЬ** *незак.* Апухаць. *Уся́ во́ка запаха́ць ста́ла.* Нямойта.

**ЗАПА́ХНАЦЬ** *зак.* Пачаць пахнуць. *Вару́шкі для со́лкі ні гъдзя́цца, яны́ г... запа́хналі, смуро́т з іх пашо́ў.* Міцюкова.

**ЗАПЕ́КЧЫСЯ** *зак.* Запячыся. *Ну, то́пім кане́шна хараш́о, каб ён запё́кся.* Серкуці.

**ЗАПЕРАДЗЯ** *прысл.* За пярэднія ногі, лапы. *Як ву́ліцу като́м пірадра́ць? Узя́ць ката́ заперадзя і цягну́ць по́пірак ву́ліцы.* Партызаны.

**ЗАПЕ́РЦІ** *зак.* 1. Заперці, зачыніць. *Къта́ ў ба́ню запру́ць і сядзі́ць, бо стаў е́сці ціпля́т.* Вялікі Азярэцк, Партызаны. 2. Пра немагчымасць дыхаць, гаварыць і да т. п. *Каб табе́ запе́рла, як ты раве́ш.* Запруддзе. *А хто гарэ́лачку ня п'ець, / Хай таму́ запрэ́ць* (з песні). Каралевічы.

**ЗА́ПЕРЦЬ** *ж.* ◊ У ЗА́ПЕРЦІ. Запёрты, зачынены. *Цэ́ла ле́та ку́ры сядзе́лі ў за́перці.* Нямойта, Ракаў Засценак.

**ЗАПЕ́ЦЬ** *зак.* Заспяваць. *Як зайгра́іць, як запяе́ць.* Багданава.

**ЗАПЕ́Ч** *ж.* Месца паміж сцяной і печчу; запечак. *У запе́чы пасыпа́ю бу́льбу.* Партызаны.

**ЗАПЕ́ЧАК** *м.* 1. Месца паміж сцяной і печчу. *Прыхаджу́ у запе́чак – ма́тка паміра́іць.* Багданава, Дольдзева, Леснікова, Неўгадава. 2. Палаці, якія знаходзіліся ў запечку. *Дзірвя́нныя запе́чкі вы́шлі з мо́ды.* Міцюкова.

**ЗАПЕ́ЧЧА** *н.* Месца паміж сцяной і печчу; запечак. *У запе́ччы вуж вадзі́ўся.* Запруддзе, Леснікі, Міцюкова, Фасаўшчына.

**ЗАПЁРТЫ** *дзеепрым.* Зачынены. *Кот у ба́ні быў запёрты.* Партызаны. *На Купа́ла запёрлі ў ха́ці, драп – запёрта. Я ў вакно́ вы́лезла, ту́тацька аткры́ла, а знутры́ запёрта.* Чуцькі.

**ЗАПЁРШЫСЯ** *дзеепрысл.* Зачыніўшыся. *Я ш у ха́ці адна́ запёршыся.* Нямойта.

**ЗАПІНА́ЦЬ** *незак.* Завешваць. *Іко́ну запіна́ла занаве́скамі.* Партызаны, Закур'е.

**ЗАПІ́НАЧКА** *ж.* ◊ БІЗ ЗАПІ́НАЧКІ. Не спыняючыся, не запінаючыся. *Яна́ біз запі́начкі лу́піць адну́, другу́ю пе́сню.* Міцюкова.

**ЗАПІРАЧА́ЦЬ** *незак.* Забараняць. *А мы яму́ ні запіръча́лі, каго́ хо́чыш бяры́ жані́цца.* Серкуці.

**ЗАПІСА́ЦЦА** *зак.* Узяць шлюб. *Запіса́ўся з дзе́ўкай.* Запруддзе.

**ЗАПІХНУ́ЦЬ** *зак.* Сілай выдаць замуж. *Іна́ тады́ міне́ запіхну́ла зъ яго́, а ён памёр ху́тка.* Багданава.

**ЗАПІ́ЦЬ** *зак.* Пайсці ў запой. *Ма́нька то пайдзе́ць на фе́рму, то зап'е́ць.* Ракаў Засценак.

**ЗАПЛАЦІ́ЦЬ** *зак.* Заплаціць. *Хто запла́ця, а каму́ так зро́біш.* Гарадок, Закур'е.

**ЗАПЛЕ́СНІВАЦЬ** *незак.* Пакрывацца плесняй. *Ста́рыя вашчы́на запле́снівъйіць.* Сянно. *Зярно́ запле́снівала, там дзе сы́расць.* Фасаўшчына.

**ЗАПЛЕ́СЦІ** *зак. перан.* Пакрыць, зацягнуць. *Са́жалку ці́най зъпляло́.* Нямойта.

**ЗАПЛІТА́ЦЬ** *незак.* 1. Плесці. *Пляце́нь запліта́лі, каб каро́вы ні шлі на пасе́вы.* Нямойта. 2. Заплятаць, уплятаць. *Ле́нты запліта́лі у ко́сы.* Станюкі.

**ЗАПЛЮ́СНУЦЬ** *зак.* Заплюшчыць. *Во́чкі заплю́сніць.* Багданава. *Во́чы заплю́снець ма́лец і ігра́іць на гармо́ніку.* Запруддзе.

**ЗАПО́ІНЫ** *толькі мн.* Перадвясельны абрад, які адбываецца пасля сватаўства; заручыны. *Пато́м дзе́лаюць запо́іны.* Розмыслава, Вялікі Азярэцк, Дуброўкі.

**ЗАПО́Р** *м.* ◊ У ЗАПО́РЫ. Запёрты, зачынены. *Ку́ры у яе́ дзень у запо́ры сідзя́ць.* Латыгаль.

**ЗАПО́РЧАНЫ** *дзеепрым.* Сапсаваны, заляжалы. *Ці калбаса́ яка́я запо́рчаная, усе́ пруць.* Савінічы.

**ЗАПРА́ВА** *ж.* Закраса, прыправа. *Карто́шку спа́рыш, запра́вы ня́кай – часнаку́, лу́ку, ма́ку, канапе́ль патаўку́.* Цясішча, Заазер'е, Розмыслава.

**ЗАПРА́ВІЦЬ** *зак.* Закрасіць, прыправіць (страву). *Ка́шу зва́руць і зъпра́вяць.* Запруддзе. *Ну калі́ яка́я ко́стка ё – ко́стку укі́ніш, а ні́ма́ – так запра́віш які́м ту́кам ці што. Со́льлю запра́віць на́да бу́льбу.* Кляпчэва, Багданава, Заазер'е, Леснікова.

**ЗАПРАГА́ЦЬ, ЗАПРУГА́ЦЬ** *незак.* Запрагаць. *Каня́ запрагу́, мушчы́ну у лес завязу́.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Заазер'е, Нямойта, Фасаўшчына. *Я тады́ кыня́ запруга́ю.* Галашчакіна.

**ЗАПРА́ДАК** *м.* Нітка, якая пакідаецца на верацяне. *Запра́дак – гэ́та ні́тка, што астаўля́ецца на віръцяне́.* Закур'е.

**ЗАПРАСІ́ЦЬ** *зак.* Упусціць, пусціць у памяшканне. *Запрасі́лі като́ў, а яны́ не ло́вяць смалля́нак, бая́цца.* Буй.

**ЗАПРАСЦІ́ЦЬ** *зак.* Забараніць. *Запрасцілі цяпéр мнóга што вывазіць за граніцу. Ці я запрашчу́ зáмуш ісці.* Міцюкова. *А тады́ запрасцілі дзяцéй крысціць.* Івоні, Партызаны.

**ЗАПРАЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* Закрашваць, прыпраўляць (страву). *Пóліўка біз нічóга, мяса вáрыцца, у гэ́ту ваду́ прыцірáіш мукóй, смітáнку кладзéш, ну тады́, як ку́шаць, запраўляіш.* Заазер'е.

**ЗАПРО́ШЛЫ**, **ЗАПРО́ШЛЫЙ** *прым.* Пазамінулы. *Запрóшлую пятніцу чуць канцы́ не былó мне.* Гарадзец. *Запрóшлы гот я́блык былó – сукі лъмáлісі.* Гарадзец, Жохава, Каралі, Мянюцева, Нямойта. *Запрóшлый год к нам прыйшóў бабёр.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАПРУ́ДЗІЦЬ** *зак.* Перагарадзіць плацінай. *Стáвюць перагарóтку на рэ́чцы, усё запру́дзюць, пакідáюць дзірачкі – язы́.* Фасаўшчына.

**ЗАПРЭ́ЖАНЫ** *дзеепрым.* Запрэжаны. *С аграно́мам éздзілі ў калёсах запрэ́жаных.* Запруддзе, Гарадзец.

**ЗАПРЭ́ХЧЫ**, **ЗАПРЭ́ХЧ** *зак.* Запрэгчы. *Каня́ нáда запрэ́хчы.* Гарадзец, Нямойта. *Дапу́сцім, я къня́ запрягу́ да і вы б къня́ запряглі.* Багданава. *Ёсь кагó запрэ́хч, ёсь кóні.* Кляпчэва.

**ЗАПУ́ПКАЦЬ** *зак.* Забрадзіць. *Звары́ла варéня, сáхару мáла, дык закатáла ягó кры́шкамі, кап ні запу́пкала.* Партызаны.

**ЗАПУСКА́ЦЦА** *незак.* Запускацца, пераставаць даіцца. *На зіму́ карóва запускáецца.* Багданава, Жохава, Партызаны, Станюкі.

**ЗАПУСКА́ЦЬ** *незак.* Пакідаць без догляду, даць заплысці брудам. *Ён дзіржáў канáву, ні запускáў, уся цяга вады́ былá: на ву́ліцу, пад мост і ў рéку.* Самсоны.

**ЗАПУСЦІ́ЦЬ** *зак.* Адрасціць, адгадаваць. *Запусціў бараду́ і рóсту вышэ́й – мы завём Будулáй.* Нямойта.

**ЗАПУСЦІ́ЦЬ** *зак.* Напусціць. *Зълату́ха і кор жáркыга ня лю́бюць, каб ні зъпусціць пáры.* Заазер'е.

**ЗАПУ́ТАЦЦА** *зак.* Заблытацца. *Бальшáя* [рыба] *запутáіцца ў рэзь.* Багданава.

**ЗАПУ́ТНІК** *м.* Жыхар вёскі, якая знаходзіцца далёка ад шашы. *Ні на шляху́ запу́тнікі жывуць.* Заазер'е.

**ЗАПУ́ТНЫ** *прым.* 1. Далёкі, да якога цяжка дабрацца. *Такія запу́тныя дзярэ́ўні. Запу́тны быў магазін.* Баравікі, Партызаны, Ульянавічы. 2. Закінуты, які знікае. *Расхóдна: тъкáя запу́тная дзярэ́ўня, там мóжа пяць хъзяінаў жывéць.* Нямойта.

**ЗАПУ́ХНУЦЬ**, **ЗАПО́ХНУЦЬ** *зак.* Апухнуць. *Пакусáлі вадні – запу́хла ліцó.* Партызаны. *Як абступілі óсы, як укусілі, запóхла, зраўнувáла ліцó, уку́сы едавітые.* Партызаны, Гарадзец.

**ЗАПУ́ШЧАНЫ** *дзеепрым.* Запушчаны, завезены. *На э́ткае ўрэ́мя былі запу́шчаны каларáцкія жукі – чым іх не травілі тóлькі.* Партызаны.

**ЗАПУ́ШЧАНЫ**, **ЗАПУШЧО́НЫ** *дзеепрым.* Запушчаны (пра карову, якую перасталі даіць перад ацёлам). *Зімóй нарасцéць у карóвы луска́, запу́шчаная карóва.* Баравікі. *Як мая́ карóўка былá запушчóна, вазіў мне малакó.* Івоні.

**ЗАПЫЛІ́ЦЦА** *зак.* Запыліцца. *Запыліўся увéсь.* Дольдзева.

**ЗАПЯРШЫ́ЦЬ** *зак.* Запяршыць (у горле). *Я ш ні магу́ і лóшкі ат мёду палізáць, зъпяршы́ць у гóрлі.* Нямойта.

**ЗАПЯТЛІ́ЦЦА** *зак.* Трапіць у сіло. *Зáіц зъпятліўся, я ягó нагóю – і во прынёс. Ён запятліўся, зáіц.* Рэчкі.

**ЗАПЯЧА́ТАВАНЫ** *дзеепрым.* Запячатаны ў сотах мёд. *Запяча́таваная ра́мка мёду.* Закур'е.

**ЗАРА́** *ж.* Зара. *Зо́лак зълъі́ць, када́ зара́ падыма́еццa.* Запруддзе.

**ЗА́РАБАТАЧНА, ЗАРАБО́ТАЧНА** *прысл.* Магчымасць добра зарабіць. *Там было́ за́рабо́тъчна, зъръбля́лі гро́шы.* Запруддзе.

**ЗАРАБІ́ЦЬ, ЗАРО́БІЦЬ** *зак.* Зарабіць, атрымаць. *Лю́дзі га́люцца, кап зарабі́ць бо́лей.* Багданава. *Што здзе́лаў, то́е і заро́біў.* Багданава. *Заро́біла пе́нсію се́мдзісіт пяць рублёў.* Баравікі, Багданава, Вялікі Азярэцк, Галашчакіна, Марозаўка, Мянюцева, Нямойта, Закур'е.

**ЗАРАБЛЯ́ЦЬ** *незак.* Зарабляць, атрымліваць. *Хай грэ́ху зърабля́юць сабе́.* Багданава.

**ЗАРАБО́ТАК** *м.* Заробак. *А по́слі вайны́ які́ ш зърабо́так! Таму́ ш нам і пе́нсія ма́лая!* Леснікова, Нямойта, Ракаў Засценак, Чуцькі.

**ЗА́РАВА** *н.* Зара. *За́рава шчэ ні схава́еццa – у́тра начына́еццa – красі́вая пара́.* Партызаны.

**ЗАРАДЗІ́ЦЦА** *зак.* Укараніцца. *Зарадзі́ўся ка́сцер, як жы́та плахо́е.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Нямойта, Партызаны, Ракаў Засценак, Фасаўшчына.

**ЗАРАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Урадзіць. *У каго́ зърадзі́ла вось што, у каго́ нічо́га ні зарадзі́ла.* Ульянавічы. *Пасе́юць жы́та – адзі́н бур'я́н заро́дзіць, ні́якай по́льзы с таго́ бало́та.* Ракаў Засценак.

**ЗАРАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Устанавіць. *Мы паснува́лі на сцяну́ і зарадзі́лі кро́сны.* Карпавічы.

**ЗАРАДЖО́НЫ** *дзеепрым.* Забруджаны. *Дъжджъва́я въда́ зъраджо́нъя.* Каралевічы.

**ЗА́РАЗ** *прысл.* Зараз, цяпер. *Мы такі́х свіне́й ніко́лі ня бі́лі, як у іх за́ръз у хле́ві стья́ць.* Каралевічы. *Хадзі́ця ўжо абе́даць, а то зъ ва́мі за́рьс і прые́дуць.* Фасаўшчына.

**ЗАРА́ЗА** *м.* 1. Інфекцыя. *Хоць бы зара́за ні прычапі́лася.* Партызаны. 2. *лаянк.* Пра некага, хто выклікае незадавальненне, раздражненне, гнеў. *Кап на яго́ хале́ра, зъра́за дык зъра́за.* Нямойта, Чуцькі. 3. *эмац.-ацэн.* Гадзюкі, гады. *Зара́зы е́тай по́ўна – вужа́каў.* Партызаны.

**ЗАРАЗЗЁ** *н. зб. лаянк.* Пра некага, хто выклікае незадавальненне, раздражненне, гнеў. *Яно́ты зъста́вілі сабе́ ваду́ на рэ́ццы, во зараззё.* Марозаўка.

**ЗАРА́ЗНЫ** *прым.* Заразны. *Ціф, ён жа зара́зны.* Багданава.

**ЗАРА́НЕЙ, ЗАРАНЕ́Й, ЗАРА́НІ** *прысл.* 1. Раней. *Вару́шкі расту́ць зъра́ней, чым апе́нькі.* Партызаны. 2. Вельмі рана. *Во́ўча лы́ка зъра́ні цвіці́ць.* Дуброўкі. 3. Заўчасна. *Памёрла заране́й, у 53 гады́.* Буй.

**ЗАРА́ННЯ** *прысл.* Заўчасна. *Жо́нка яго́ зара́ння паме́рла, бале́ла.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Заазер'е, Леснікова, Міцюкова, Нямойта, Чуцькі, Неўгадава.

**ЗАРАСІ́ЦЦА** *зак.* Замачыцца расой. *Луна́цік уста́не но́ччы, по́йдзіць, зарасі́цца па расе́.* Багданава.

**ЗА́РАСЛЬ** *ж.* Зараснік, гушчар. Мянюцева.

**ЗАРАСТА́ЦЬ** *незак.* Зарастаць. *Во́кны на бало́ці, яны́ ні зъраста́лі, і въда́ стая́ла.* Заазер'е.

**ЗАРАСЦІ́** *зак.* Зарасці. *Зарасла́ бы́льнікам уся́ дзярэ́ўня.* Багданава, Сянно.

**ЗА́РАСЦІНЬ** *м.* Зараснік, хмызняк. *Ле́су німа́, а за́ръсцінь!* Галашчакіна.

**ЗАРАЎНАВА́ЦЬ** *зак.* Зараўняць. *Кап зараўнава́ць, кап было́ ро́ўная по́ля.* Запруддзе.

**ЗАРАШАЦІ́ЦЬ** *зак.* Закрыць рашоткай. *Я зарашаціла лёткі і дъмаро́м пчол увагна́ла.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАРВА́ЦЬ** *зак.* Узяць самавольна. *Ліха яны́ даду́ць, дзе зарву́, там маё.* Партызаны.

**ЗАРУБІ́ЦЬ** *зак.* Зрубіць, збудаваць. *На́да се́ні зарубі́ць.* Багданава.

**ЗАРУГА́ЦЦА** *зак.* Насварыцца. *Я заруга́ўся, дак пабе́глі ў другі́ кане́ц.* Гарадзец, Леснікова.

**ЗАРЫ́ЦА** *ж.* Зара. *Зара́-зары́ца, ро́дная сястры́ца, мой сыно́к, твая́ дачу́шка, хай ра́зам спяць* (з замовы). Заазер'е, Запруддзе.

**ЗАРЭ́З** *м.* Зарубка, выступ. *У мы́льніцы два зарэ́зы.* Леснікова.

**ЗАРЭ́ЗАЦЬ** *зак.* Зарэзаць. *На Па́ску ку́рыцу зарэ́жуць.* Каралі.

**ЗАСА́ДЖВАЦЬ** *незак.* Запаўняць снапамі. *Заса́джваць у ёўні снапы́, ёўню то́пюць, су́шуць.* Розмыслава.

**ЗАСАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Пасадзіць у турму. *Яжо́ўшчына была́, усíх пе́рвых камуні́стаў засадзíлі ў цюрму́.* Чуцькі.

**ЗАСА́ДКА** *ж.* Месца ў хляве для адкормных свіней. *А ко́рмныя свíнні сідзя́ць у заса́дцы.* Каралевічы.

**ЗАСАКАТА́ЦЬ** *зак. перан.* Загаварыць. *Засаката́ла, як саро́ка.* Багданава.

**ЗАСА́ЛІВАЦЬ** *незак.* Засольваць. *Быва́ла, ры́жыкаў было́, ма́тка зъса́лівъла іх.* Баравікі.

**ЗАСАЛІ́ЦЬ** *зак.* Засаліць. *Ці ты яе́ зъсалíць, ці ты яе́ пасушы́ць.* Нямойта. ◊ ЗАСАЛІ́ЦЬ НА ДУ́ШУ. Абяцаць, выклікаючы давер. *Насулíў, зъсалíў сíльна на ду́шу.* Запруддзе.

**ЗА́САЎКА** *ж.* Засаўка. *За́саўкі былí ў дзвіра́х. Ве́ка – ку́біл закрыва́ць, і за́съўка, яшчэ́ і замыка́лі.* Гарадзец, Багданава, Каралевічы, Каралі.

**ЗАСАХАРО́НЫ** *дзеепрым.* Зацукраваны. *Такí ўжо ён* [мёд] *засахаро́ны.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАСВАРЫ́ЦЦА** *зак.* Засварыцца. *Засва́рацца ні з таго́ ні з сяго́.* Запруддзе, Ульянавічы.

**ЗАСВЯРБЕ́ЦЬ** *зак.* Засвярбець. *А іна́ засвярбе́ла мне, засвярбе́ла* [рука], *і яе́ падра́ла.* Самсоны.

**ЗАСЕ́ДЗІЦЦА** *зак.* Заседзецца. *Прамне́цца хай іна́ тро́ху, а то засе́дзілася.* Багданава.

**ЗАСЕ́К, ЗАСІ́К** *м.* 1. Засек, адгароджаная частка гумна, клеці, дзе захоўваюць збожжа. *У засе́к яго́ чы́сценька, тады́ на ме́льніцу.* Вялікі Азярэцк, Гарадзец. *Зе́рне збіра́юць і ў засíк сы́пюць.* Фасаўшчына, Каралевічы, Манголія, Партызаны, Дуброўкі. 2. Адгароджаная прастора ў месцах зняволення. *Усе́ былí па за́секах, пле́ныя ка́ждага гасуда́рства.* Ульянавічы.

**ЗАСЕ́КА** *ж.* Месца ў хляве для адкормных свіней. *Хоць ты ў засе́ку садзí, ён худэ́й дык худэ́й.* Багданава.

**ЗАСЕ́КЧЫ** *зак.* Засячы. *Мужчы́на мужчы́ну засе́к.* Нямойта.

**ЗАСЕ́СЦІ** *зак.* 1. Засесці, надоўга размясціцца дзе-н. *Засе́ла з ва́мі і сяджу́.* Рэчкі. 2. Схавацца, скрытна размясціцца. *Мы ў кусты́, і засе́лі.* Фасаўшчына.

**ЗАСЕ́ТНІК**, **ЗАСЁТНІК** *м.* Месца за асеццю (ёуняй). *У таку́ къла ёуні засе́тнік, тут ссыпа́лі мякі́ну, во́трыну.* Гарадзец. *Засётнік – дзе сало́му склада́еш.* Партызаны.

**ЗАСЕ́ЎКІ** *толькі мн.* Пачатак сяўбы. *Перад засе́ўкамі, каб радзіла, ку́клу рабі́лі.*

**ЗАСЕ́ЎРАЦЬ** *зак.* Зашурпаціцца. *Бу́льба і засе́ўраець, пасіне́іць, як сра́зу ні закры́юць у цёмнае.* Партызаны.

**ЗАСЕ́ЦЬ** *ж.* Месца за асеццю (ёуняй). *Мякі́ну сыпылі ў засе́ць ско́ту.* Цясішча.

**ЗАСІВЕ́ЦЦА** *зак.* Страціць бляск. *Па́пава кальцо́ біраэ́жэць і ціпе́р, яны́ засіве́ліся, замуце́лі* [пярсцёнкі]. Міцюкова.

**ЗАСІДА́ЦЬ** *незак.* Сіпнуць, прападаць. *Засіда́іць го́лас.* Баравікі.

**ЗАСІ́ЛІЦЦА**, **ЗАСІЛІ́ЦЦА** *зак.* Павесіцца, задушыцца. *Засі́ліўся ў яе́ ўнук.* Ульянавічы, Гарадзец, Жохава, Партызаны. *Зъсілі́цца хто, то збо́ку кълы кла́дбішча хава́лі. За два гады́ тры быкі́ засілі́лісі.* Цясішча, Багданава, Баравікі, Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Латыгаль, Партызаны, Ракаў Засценак, Рулёўшчына.

**ЗАСІЛІ́ЦЬ** *зак.* Задушыць. *Вы мяне́ судзі́лі, сказа́лі, што засілі́ў.* Запруддзе.

**ЗАСІ́ЛЬНА** *прысл.* Празмерна. *Ён засі́льна то́ўсты.* Івоні.

**ЗАСІ́М** *м.* Дзень ушанавання Святога Засіма, які адзначаецца ў розныя дні народнага календара (2 кастрычніка, 30 красавіка па н. ст.); шанаваўся як заступнік пчол. *Засі́м – свя́та, ка́жуць, што бу́дуць пчо́лы вылята́ць.* Каралевічы.

**ЗАСІНЕ́ЎШЫ** *дзеепрым.* Пасінелы. *У вадзе́ зъсіне́ўшы зруп.* Кляпчэва.

**ЗАСІНЕ́ЦЦА** *зак.* Пасінець. *Засіне́ліся храсткі́.* Нямойта.

**ЗАСІНІ́ЦЬ** *зак.* Пабіць да сінякоў. *Засіні́ў яе́ ўсю, бі́ў – пло́ха з мужыко́м жыву́ць.* Запруддзе.

**ЗАСІПЕ́ЦЬ** *зак.* Зашыпець. *Засіпе́ла вужа́ка.* Багданава, Міцюкова. *Вуго́ль атва́ліцца ў ваду́ і засі́піць.* Гарадзец.

**ЗАСКАРАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Заскародзіць. *А тады́ дзёран наза́т палажы́ла, граблямі заскарадзі́ла.* Леснікова, Розмыслава.

**ЗАСКО́ЧЫЦЬ**, **ЗАСКАЧЫ́ЦЬ** *зак.* 1. Скочыўшы, апынуцца дзе-н. *Іна́ хаце́ла яго́ ўда́рыць, ён за стол заско́чыў.* Запруддзе. 2. Завітаць на кароткі час. *Як быў у Сянно́, заскачы́ў да радні́.* Партызаны.

**ЗАСКУГО́ЛІЦЬ** *зак.* Заскуголіць. *Чаго́-та скуго́ліш, заскуго́ліў ту́та.* Багданава.

**ЗАСЛАНІ́ЦЬ** *зак.* Засланіць, закрыць. *Засло́нкай засло́ніць печ.* Гарадзец, Вялікі Азярэцк, Каралевічы, Неўгадава.

**ЗАСЛАНЯ́ЦЬ** *незак.* Закладаць (пра хваравітае адчуванне ў грудзях, цяжкасць пры дыханні). *Дык у яе́ гру́дзі засланя́іць, ні дыхну́ць.* Буй.

**ЗАСЛА́ЦЬ** *зак.* 1. Заслаць, пакрыць чым-н. *Сту́лік засце́ліш, ну пълацэ́нцам хто, салфе́ткай.* Запруддзе. 2. Замошчваць. *Кла́дзі кладу́ць, а пато́м засціла́юць до́скамі.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАСЛО́Н** *м.* Засланка (у печы). *Зачы́неш засло́н, калі́ шэсць бу́лак, калі́ меньш.* Чуцькі.

**ЗАСЛО́НКА** *ж.* Тое ж. *Зачыні́ печ засло́нкай. Засло́нку засло́ніш, і хлеб упячэ́цца.* Фасаўшчына, Багданава, Каралі, Леснікова, Нямойта, Неўгадава.

**ЗАСМА́ЛІВАЦЬ** *незак.* Засмольваць, апрацоўваць расплаўленай смалой. *Тро́ху зъсма́лівалі ло́тку, забіва́лі.* Багданава.

**ЗАСМАЛІ́ЦЬ** *зак.* Апрацаваць расплаўленай смалой. *Смалы́ распушчу́ ды й засмалю́.* Алексінічы.

**ЗАСМЕ́РДНУЦЬ** *зак.* Засмярдзець (у выпадку смерці ў адзіноце). *Засме́рдну у сваёй ха́ты, а нікуда́ ні паёду.* Заазер'е.

**ЗАСМЕ́РНУЦЦА** *зак.* Засмярдзець, пачаць непрыемна пахнуць. *Вару́шкі засме́рліся, г... запа́хналі, з іх смуро́т пашоў.* Міцюкова.

**ЗАСМІЯ́ЦЦА** *зак.* Засмяяцца. *Ра́ншы увыжа́лі, гавары́лі: «Та́тка, ма́мка, вы», – папро́бый зъсміяцца, то палу́чыш ло́жку па лбу.* Заазер'е.

**ЗАСМЫЛЕ́ЦЬ** *зак.* Падгарэць. *Каб табе́ дзе засмыле́ла.* Неўгадава.

**ЗАСМЯРДЗЕ́ЦЬ** *зак.* Засмярдзець, пачаць непрыемна пахнуць. *Зъсмярдзе́ла мя́са.* Нямойта.

**ЗАСНАВА́ЦЦА** *зак.* Заснавацца, пачаць існаванне. *Літва́ ўладзе́ла Белару́ссю, дык у то вре́мя на́ша дзярэ́ўня зъснава́лася.* Нямойта.

**ЗАСНО́ВАНЫ** *дзеепрым.* Аснаваны (пра кросны). *Сынкі́, хоць засно́вана, але́ яшчэ́ ні вы́ткана.* Рэчкі.

**ЗАСНУ́ЦЬ** *зак.* Заснуць. *Пры́дзіш, то́лькі засне́ш і ўстае́ш.* Заазер'е.

**ЗАСО́ДЖАНЫ** *дзеепрым.* Засаджаны. *Быў папо́ў сат, усё было́ засо́джана къла цэ́рквы.* Нямойта.

**ЗАСО́РЫЦЬ** *зак.* Запарушыць (вока). *Во́ка засо́рыла, вадо́й прамыва́ю, німа́ спа́су.* Нямойта.

**ЗАСО́ХНУЦЦА** *зак.* Перасохнуць. *Ле́тась засо́хлася во́зера, і ўся вада́ вы́шла.* Закур'е.

**ЗАСО́ХНУЦЬ** *зак.* Засохнуць. *Засо́хніць і дзяржы́цца гъда́мі.* Багданава.

**ЗАСПА́ЦЬ** *зак.* Праспаць. *Сёння зъспа́ла каро́ву гнаць.* Нямойта.

**ЗАСПЕ́ЦЬ** *зак.* 1. Заспець, застаць. *Аўто́буса ні заспе́ю я ужо́.* Партызаны, Запруддзе, Міцюкова, Савінічы. 2. Паспець. *Кап кра́сныя ні заспе́лі, то яе́ убілі п.* Жохава, Багданава.

**ЗАСПІВА́ЦЬ** *зак.* Заспяваць. *Во яны́ заспіва́юць.* Багданава.

**ЗАСПО́РУВАЦЬ** *незак.* Спрачацца. *Быў вы́піўшы, заспо́рувъў з йім.* Жохава, Сянно.

**ЗАСПЯШЫ́ЦЦА** *зак.* Заспяшацца. *Як зъспяшу́ся – валю́ся, а паціху раблю́.* Нямойта.

**ЗАСТА́ВА** *ж.* Запруда, плаціна. *Заста́вы – што во́ду зъставля́лі.* Нямойта.

**ЗАСТАВА́ЦЦА** *незак.* Заставацца. *Усе́ дзе́ці зъстава́ліся з бъцька́мі.* Манголія. *Жы́та, пшані́ца – зъграні́ца, ячме́нь, авёс – МТС павёс, а касцёр з засе́ку смяе́цца: што калхо́зу зъстае́цца?* Кляпчэва.

**ЗАСТА́ВІЦЬ** *зак.* 1. Заставіць, перагарадзіць. *Яно́ты зъста́вілі сабе́ ваду́ на рэ́ццы, здзе́лалі зъста́ў.* Марозаўка. 2. Уставіць. *Ключы́ дзе́лалі, заста́вяць і атсува́юць за́саўку.* Багданава.

**ЗАСТАЛІ́ЦЬ** *зак.* Пакласці столь. *На́да засталі́ць – палажы́ць патало́к.* Марозаўка.

**ЗАСТАРО́НАК** *м.* Засек для мякіны. *Зъстаро́нкі былі́ за ёўнюй длі макі́ны.* Міцюкова.

**ЗАСТАРЭ́ЦЬ** *зак.* Моцна захацець. *Што табе́ застарэ́ла.* Запруддзе.

**ЗАСТА́Ў** *м.* Запруда, плаціна. *Яно́ты зъста́ў здзе́лылі на рэ́чцы.* Марозаўка.

**ЗАСТАЎЛЯ́ЦЬ** *зак.* Прымушаць. *Застаўлю́юць на фе́рме падво́дзіць, а ён ні хо́чэць.* Леснікова, Гарадок.

**ЗАСТА́ЦЦА** *зак.* Застацца. *Пае́халі, пънара́вілі і засталі́ся там.* Запруддзе.

**ЗАСТА́ЦЬ** *зак.* Мець удосталь, застацца. *Што зъста́ў, то не ўток!* [пажаданне жанчыне, якая снуе кросны, каб ёй засталося, хапіла ад снавання пражы выткаць кросны]. Партызаны, Жохава, Неўгадава.

**ЗАСТО́ЙНЫ** *прым.* Стаячы, не праточны (пра ваду). *Ціна е́ткыя ёсь, дзе засто́йнъя въда́.* Закур'е.

**ЗАСТО́ЛІНА** *ж.* Дошка са столі. *Трэ́бы было́ засто́ліну ўзадра́ць.* Заазер'е.

**ЗАСТО́ЛЛЕ** *н.* 1. Сумеснае ўжыванне стравы сям'ёй. *Ад засто́лля ды за ўго́лля!* (выслоўе) [кажуць пра таго, хто паводзіць сябе непрыстойна]. Заазер'е. 2. Бяседа. *Ко́ліць калі ру́мачку, калі дзве вып'ець – і выла́зіць з засто́лля.* Гарадзец, Багданава.

**ЗАСТРА́ЙВАЦЬ** *незак.* Забудоўваць. *Хай бы во застра́йвалі часцёй, вуго́л каля вугла́!* Нямойта.

**ЗАСТРАЛІ́ЦЬ** *зак.* Застрэліць. *Міліцыяне́р ка́жыць, што я вуўка́ зъстралю́.* Міцюкова, Нямойта.

**ЗАСТРА́ШВАЦЬ, ЗАСТРА́ШЫВАЦЬ** *незак.* Запалохваць. *Застра́швалі нас, што руса́лка пъйма́іць, калі ў жы́та по́йдзіце.* Дольдзева. *Застра́шывалі нас, кап ні хадзілі.* Дольдзева.

**ЗАСТРА́ШЫЦЬ** *зак.* Запалохаць. *Застра́шыць дзецёй руса́лкай.* Гарадзец.

**ЗАСТРО́ЙКА** *ж.* Пляц для будоўлі. *Пъжаніліся, ўзялі застро́йку, стро́іцца пъчалі.* Запруддзе.

**ЗАСТРУГА́ЦЬ** *зак.* Застругаць, завастрыць. *Як кърънда́ш застругаіш?* Фасаўшчына.

**ЗАСТРЫ́КНУЦЬ** *зак.* Пачаць стрыгчы вушамі (пра каня). *Конь застры́кнуў вуша́мі, байіцца, чу́йіць вуўка́, сыба́ку.* Самсоны.

**ЗАСТРЭ́ШША** *н.* Месца паміж навіслым краем страхі і сцяной; застрэшак. *Дзе застрэ́шша, ла́стаўкі мо́гуць сяліцца.* Запруддзе.

**ЗАСТУДЗІ́ЦЦА** *зак.* Загусцець. *Застудзіцца, як сту́дзінь, вада́ у салціс́оні.* Міцюкова.

**ЗАСТУДЗІ́ЦЬ** *зак.* Застудзіць. *Зъстудзіла но́гі.* Замошша, Багданава.

**ЗАСТУПА́ЦЬ** *незак.* Зацяняць, заступаць святло. *Кап ні заступа́лі ім.* Партызаны.

**ЗАСТУПІ́ЦЬ** *зак.* Заняць, захапіць. *Парціза́ны атступілі, не́мцы заступілі.* Нямойта.

**ЗАСТУПІ́ЦЬ** *зак.* Пачаць працаваць. *Я то́лькі заступіла рабо́таць.* Гарадзец.

**ЗАСТЫ́ЦЬ** *зак.* Застыць, загусцець. *Воск засты́ніць ны вадзе́ у та́зі.* Сянно.

**ЗАСУ́НУЦЬ** *зак.* Зачыніць на засаўку. *Дзве́ры засу́нула.* Каралевічы.

**ЗАСУПО́НІВАЦЬ** *незак.* Сцягваць клешчы хамута супоняй; засупоньваць. *Сперва́ галаву́ засупо́нівають.* Гарадзец, Леснікова.

**ЗАСУПО́НІЦЬ** *зак.* Сцягнуць клешчы хамута супоняй; засупоніць. *Засупо́ніць каня́ на́да і рассупо́ніць.* Гарадзец, Леснікова.

**ЗА́СУХА** *ж.* Засуха. *І за́сухі калі былі, ле́та сухо́я было́.* Савінічы.

**ЗАСУШЫ́ЦЬ** *зак.* Засушыць, высушыць. *Апе́нкі засушы́ць до́бра.* Пожанькі.

**ЗАСЦЕ́НАК** *м.* Хутар або невялікі населены пункт. *Я з засце́нку, там хат мо́жа тры́ццаць.* Буй.

**ЗАСЦЕ́НЧЫВЫ** *прым.* Баязлівы, забіты. *Яны́ былі засце́нчывыя, ні ра́звітыя, быя́цца ўсяго́.* Сянно.

**ЗАСЦЕ́НЧЫСТВА** *н.* Глуш, захалусце. *Засце́нчыства цяпе́р, цішына́ така́я* [пра жыццё ў вёсцы]. Нямойта.

**ЗАСЦЕРАГЧЫ́** *зак.* Уратаваць, абараніць. *Бо́гу мо́лімся, кап Бох засцяро́х, забараніў.* Багданава, Серкуці.

**ЗАСЦІ́ГНУЦЬ** *зак.* Заспець. *Вайна́ нас ту́тацькі засці́гла.* Розмыслава, Карпавічы, Рубежніца, Неўгадава.

**ЗАСЦІЛА́ЦЬ** *незак.* Рассцілаць. *Трэ́плены лён на таку́ засцілалі.* Багданава.

**ЗАСЦІРАГА́ЦЬ** *незак.* Абараняць, аберагаць. *Хай бох засціръга́іць мяне́!* Багданава, Серкуці.

**ЗАСЦЯГНУ́ЦЬ** *зак.* Зашпіліць. *Та́нечка, хадзі́, зъсьцягні пу́гавічку дзе́ду.* Ульянавічы.

**ЗАСЫ́ПАЦЦА** *зак.* Ускочыць, з'явіцца (пра высыпку). *Засы́піцца каро́ста, чэ́шуцца ру́кі, як сагрэ́ісся.* Гарадзец.

**ЗАСЯЧЫ́** *зак.* Пагрызці (пра мышэй), пашкодзіць. *Цяжа́рная жанчы́на што про́сіць, ёй аткажаш, мы́шы штось засяку́ць.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАТАНУ́ЦЬ** *зак.* Утапіцца. *У бало́це касілка затану́ла. Хай зато́ня го́ра.* Каралевічы, Заазер'е. *Каб ты затану́ў!* (праклён). Запруддзе. *Хай іна́ зато́ніць, гэ́тъя рабо́та!* Каралевічы. ◊ ЗАТО́НЬ ТЫ НІХА́Й! Выказванне моцнага раздражнення, злосці з прычыны чаго-н. *Зато́нь ты ніха́й! Нашто́ мне к до́ктару!* Ульянавічы.

**ЗАТАПІ́ЦЦА** *зак.* 1. Пакрыцца, заліцца вадой (у час паводкі). *Круго́м затапі́лася, круго́м.* Запруддзе. 2. Утапіцца. *Зътапілася ў во́зеры. А хто затапі́ўся, засіліўся, ці што яшчэ́ здзе́лаў – э́та ў пе́кла.* Каралевічы. *Не́хта спіхну́ў ло́тку ў во́зіра, іна́ і зътапі́лься, дзе́ці ве́рна.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Заазер'е, Запруддзе, Малы Азярэцк. *Каб ты затапі́ўся!* (праклён). Запруддзе.

**ЗАТАПІ́ЦЬ** *зак.* Запаліць. *У пе́чы зътапі́ць на́да.* Алексінічы, Багданава, Баравікі.

**ЗА́ТАЎКА, ЗА́ТУЎКА** *ж.* Прыправа са смажанага сала і цыбулі для якой-н. стравы; засквартка. *З за́таўкай суп. За́туўкі ні хвата́іць на ўсю сям'ю́.* Міцюкова. *На за́тыўку зъпраўля́ны е́та суп, ко́стычкай, сма́шны.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАТАЎКА́ЦЬ** *зак.* Закрасіць, прыправіць. *Супо́ў зва́рыш, зътъўка́іш, ды кап све́жъга.* Запруддзе.

**ЗАТАХА́ЦЦА** *незак.* Набываць спецыфічны непрыемны пах і смак. *Затаха́ецца въда́ ў кало́дзізі, як не браць.* Партызаны.

**ЗАТВАРЫ́ЦЬ** *зак.* Утварыць. *Замкну́ць, затво́руць то́е-сёе на Купа́ла.* Рэчкі.

**ЗА́ТКАЛА** *н.* Корак. *За́ткала ў бо́чцы было́.* Нямойта.

**ЗАТКНУ́ЦЬ** *зак.* Падперці. *Калідо́р дзе́ці заткну́ць на Іва́на Купа́лу, вы́лезці нямо́жна.* Партызаны.

**ЗАТЛУ́М** *м.* Памутненне розуму. *У яго́ ў галаве́ ўжо затлу́м.* Багданава.

**ЗАТЛУ́МІЦЦА** *зак.* Затлуміцца, заблытацца. *У гылаве́ затлу́міцца і ні зна́йіш, куды́ йціць.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАТО́ПАЦЬ** *зак.* Датупаць, дайсці. *Паку́ль зато́пала – замары́лася.* Партызаны.

**ЗАТО́РКНУТЫ, ЗАТО́РНУТЫ** *дзеепрым.* Заторкнуты, заткнуты. *Кля́мка была́ во па́лкай зато́ркнута.* Запруддзе. *Кало́сся вянко́м сплёцена, зато́рнута кала акна́* [на дажынкі]. Міцюкова.

**ЗАТО́РКНУЦЬ, ЗАТО́РНУЦЬ** *зак.* Заторкнуць, заткнуць. *На Купа́лу залёзуць на ха́ту, ко́мін зато́ркнуць. Адну́ дзі́рачку прапу́сціш, а другу́ю зато́ркніш.* Кляпчэва, Вялікі Азярэцк, Леснікова, Партызаны. *Зато́рніць ву́шы і туды́ яго́ акуне́ць* [дзіця ў час хрэсьбін]. Карпавічы.

**ЗАТО́ХНУЦЦА** *зак.* 1. Задыхнуцца. *Укруціліся ў адзіяла, ліглá за печ і заснýла, як йінá там ні затóхлыся?* Нямойта, Леснікова, Партызаны, Розмыслава, Ульянавічы, Закур'е. 2. Затхнуцца, стаць затхлым ад недахопу паветра. *Вашчы́на ў цылыхвáні затóхлыся.* Сянно.

**ЗАТРАВЕ́ЦЬ** *зак.* Утравець, зарасці травой. *Капýста зътравéла, нéкалі сядзéць з вáмі.* Кляпчэва, Багданава.

**ЗАТРАВІ́ЦЬ** *зак.* Атруціць. *Дýжа птýшак німá, затравілі.* Ракаў Засценак.

**ЗАТРАСЦІ́СЯ** *зак.* Запарушыцца. *У вóка затраслóся.* Нямойта.

**ЗАТРАШЧЭ́ЦЬ** *зак.* Затрашчаць, затрашчэць. *Съмалёты два ляцéлі, як затрашчэ́лі, лю́дзі дзівіліся.* Алексінічы.

**ЗАТРО́НУЦЬ** *зак.* Узяць. *Мáе дзéці нічóга не затрóнуць.* Нямойта.

**ЗАТРЎШЧЫЦЬ** *зак.* Раструшчыць, раздушыць. *Затрýшчыла мáтку, аграбáючы рой.* Неўгадава.

**ЗАТЫКА́ЛЬНІК** *м.* Доўгі кій, які ўтрымлівае задні навой з пражай ад раскручвання; затыкальнік. *Затыкáльнік быў, у бёрда затыкáеш.* Гарадзец, Дуброўкі.

**ЗАТЫ́ЛАК** *м.* Патыліца. *Ад зaты́лка дайшлá пáльцамі да трэ́цяга пазванкá.* Розмыслава.

**ЗАЎТРЫНА** *ж.* Ранішняя царкоўная служба. *На заўтрыне былá.* Каралевічы.

**ЗАЎДАВЕ́ЦЬ** *зак.* Аўдавець. *Як мáма заўдавéла, рабóтаць мнóга прышлóся.* Буй.

**ЗАЎСІГДА́, ЗАЎСЮГДА́** *прысл.* Заўсёды. *Веснóю заўсігдá ш вадá.* Партызаны. *У Чы́сты чэ́цвір заўсігдá мы́лі хлéбніцу.* Гарадзец. *Заўсюгдá вянóк прадсядáцелю нясéм, каб даў на замóчку.* Марозаўка.

**ЗА́ЎТРА, ЗА́ЎТРЫ, ЗА́ЎТРЭ** *прысл.* Заўтра. *Сягóння Дзяды́, зáўтра Маслінка.* Каралевічы. *Зáўтры паéдуць зярнó купляць у калгáс.* Леснікова. *Сянні вы ў пóлі, зáўтре – я.* Сянно.

**ЗА́ЎТРАВА** *прысл.* Тое ж. *Пакупáла, зáўтрава пашлá, дзяўчóнка ня спіць, усё шавóліцца.* Нямойта.

**ЗА́ЎТРАШНІ** *прым.* Заўтрашні. *А́жно баюся зáўтрашніга дня ждаць.* Малы Азярэцк.

**ЗАЎЦЕ́ХНІК** *м.* Заатэхнік. *Заўцéхнік быў з Дóльдзева, відзеў, як я рабóтала.* Партызаны, Нямойта, Сукрэмна.

**ЗАЎЧО́РА, ЗАЎЧАРА́** *прысл.* Заўчора, два дні таму. *Дъчкá мъя рóднъя прыéхъла заўчóра.* Каралевічы, Запруддзе, Міцюкова, Гарадзец. *Заўчарá пaмы́ла адну пасцілку.* Чуцькі. *І ўчóра, і зъўчарá пóўны чáйнік чарніц нясéць.* Ульянавічы, Нямойта.

**ЗАЎЧАРА́Х** *прысл.* Тое ж. *Заўчарáх хацéла аддыхáць, схадзіць у магазін.* Нямойта. *Заўчарáх я éздзіла ў бальніцу.* Манголія, Мянюцева, Партызаны, Чуцькі.

**ЗАЎЧЫ́ЦЬ** *зак.* Вывучыць. *Заўчы́ла той загавóр.* Жохава, Партызаны.

**ЗА́ЎШЫЦА** *ж.* Хвароба свіней, запаленне калявушной залозы; заўшніца. *Кала шы́і абклáдка – зáўшыца. Кабанá паціскаў, падавіў зáўшыцу, і кабáн вылечыўся.* Савінічы.

**ЗА́ХАД** *м.* Захад сонца. *На зáхъд сóнца ваду тýю вылівáць нáда.* Каралевічы, Міцюкова.

**ЗАХАДЗІ́ЦЦА** *зак.* Усхадзіцца (пра боль), абвастрыцца (пра хваробу). *Захадзілася, не маглá ды́хаць ад бóлі.* Баравікі.

**ЗАХАДЗІ́ЦЦА** *зак.* Нахадзіцца, стаміцца. *Захаджýся за дзень, чуць раскáтываюся.* Ракаў Засценак, Вялікі Азярэцк.

**ЗАХАДЗІ́ЦЬ** *незак.* Заходзіць. *Вы ка мне зъхадзі́ця.* Кляпчэва, Багданава.

**ЗАХАЛАДА́ЦЬ** *зак.* Застудзіць. *Захаладáў нóгі, карóў пáсціў.* Кавалі, Дуброўкі.

**ЗАХАЛУ́ССЕ, ЗАГАЛУ́ССЕ, ЗАХАЛУ́ЦЦЕ, ЗАХАЛУ́ЦЦЯ** *н.* Захалусце. *Цяпéр нічóга німá, загалýссе.* Нямойта. *Зъхалýцьця такóя, дзярэ́ўня, у кустáх.* Каралевічы. *Мáліш – ой-я-ё, зыхалýсся там!* Пожанькі. *Зъхалýцьце такóе – дзіравéнька ў лясý.* Каралевічы.

**ЗАХАЦЕ́ЦЬ** *зак.* Захацець. *Захацéў чалавéк пáлку адсéч на Узвіжанне. Там гóрка іх, вýжакаў бліскýчых, там ой-ёй, ён кýлем бег адтýль.* Каралевічы.

**ЗАХВАРЭ́ЦЬ** *зак.* Захварэць. *У нас къбáнчыкі зъхварэ́лі, і тóлькі гэ́ту травý дъвáлі.* Малы Азярэцк, Багданава.

**ЗАХВА́Т** *м.* Шырыня баразны, якая захопліваецца плугам; захват. *Рашóтка з дзялéннямі у плугі, кап шыры, ýжы захвáт барàздьі быў.* Нямойта.

**ЗАХВАТА́ЦЦА** *зак.* Спахапіцца. *Усё-ткі людзі зъхвътáлісі і паéхалі.* Неўгадава.

**ЗАХВО́РВАННЕ** *н.* Захворванне. *Мóжа захвóрванне якóе.* Малы Азярэцк.

**ЗАХВО́ЦІЦЦА** *зак.* Заахвоціцца, захапіцца. *Купілі ня нóвый гармóнік ямý, ён захвóціўся гармóнікам.* Нямойта.

**ЗАХІНУ́ЦЦА** *зак.* Схавацца. *Выйдзеш кудьі, захінéсся дзе-нібýдзь ад людзéй і абмыісся трóху.* Рэчкі. *Захінéсся ў куст, калі самалёты ляцяць.* Марозаўка, Неўгадава.

**ЗАХІРЭ́ЦЬ** *зак.* Засохнуць, прапасці. *Захірэ́ла з вайньі, засóхла клубнíка.* Гарадзец.

**ЗАХЛАМАЖДЖО́НЫ** *дзеепрым.* Захламлены. *Лес так зъхлъмажджóны, стóлькі пувáлу, ня мóжна прыйці.* Баравікі.

**ЗАХЛАМЛЁНЫ** *дзеепрым.* Тое ж. *Лес чысты быў, ні зъхламлёны быў, і бырывікóў буль мнóга.* Баравікі, Цясішча.

**ЗАХЛАМЛЯ́ЦЬ** *незак.* Захламляць, засмечваць. *Вадý захламляюць бабрьі, дóмікі дзéлаюць, лáзы падзéлаюць.* Нямойта.

**ЗАХЛІБНУ́ЦЬ** *зак.* Запіць. *Закýсім, захлібнýць нáда калі што.* Гарадзец.

**ЗАХЛІПНУ́ЦЦА** *зак.* Захлынуцца, захліпнуцца. *Ён там захліпнýўся, сýдъръга ўзілá.* Багданава.

**ЗАХЛУ́ДЗІЦЬ** *зак.* Закласці, закрыць галлём. *Хварóсцем захлýдзіць тýю дзірку.* Багданава, Савінічы.

**ЗАХЛЫНУ́ЦЦА, ЗАХЛЯНУ́ЦЦА** *зак.* Захлынуцца. *Захлынýлася – і затапілася.* Каралевічы, Гарадзец, Чуцькі. *Каб яньі захлянýліся гэ́тай гарэ́лкай.* Дуброўкі.

**ЗАХМЯЛЕ́ЦЬ** *зак.* Ахмялець. *Гаълавý атьіміць, і нóгі, захмялéіць ад хмéлю.* Запруддзе.

**ЗАХО́Д** *м.* Праход. *Адтýль німá захóду.* Марозаўка.

**ЗАХО́ДЗІЦЬ** *незак.* Заходзіць. *І ідзём, і ў хáту захóдзім, і там гарэ́лкай угашчáюць.* Самсоны, Сянно, Фасаўшчына.

**ЗАХРА́СНУЦЬ** *зак.* Зацвярдзець. *Тылакнó зъхрáсніць, стáніць кылянéйшыя, рэ́зыць мóжна.* Дольдзева.

**ЗАХРА́СНУЦЬ** *зак.* Здранцвець. *А мне здэ́цца захрáсла усё тут у грудзя́х, дýмала – заб'юць.* Нямойта.

**ЗАЦВІСЦІ́** *зак.* Зацвісці, заплеснець. *Прадýкты зацвілí.* Багданава.

**ЗАЦВІ́ТУВАЦЬ** *незак.* Зацвітаць. *І мая́ бýльба зацвíтуець.* Партызаны, Алексінічы.

**ЗАЦВІ́ЎШЫ** *дзеепрым.* Заплеснелы. *Сырóя, зацвíўшае бяллё былó.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАЦВІЦЕ́ЦЬ** *зак.* Зацвісці. *Калі́на ні зъцвіце́ла, бубы́шычкі йшчэ то́лькі.* Нямойта, Багданава, Гарадзец, Кляпчэва, Багданава.

**ЗАЦЕ́РЦІ** *зак.* Заперці, загнаць. *Як узялі́ся вадні́, я ў хлеў заце́рла каня́, ён чо́рны, садзя́цца.* Запруддзе.

**ЗАЦЕ́РЦІ, ЗАЦЁРЦІ** *зак.* Зацерці, знішчыць. *След твой затрэ́ць – ні адшука́еш яго́.* Нямойта. *Яны́ на́ша зацёрлі ўсё.* Фасаўшчына.

**ЗАЦЕ́РЦІСЯ** *зак.* Пачаць церціся. *Ко́шка лі мяне́ зацёрлъся* [ля ног]. Ракаў Засценак.

**ЗАЦЕ́ШАНЫ** *дзеепрым.* Абчэсаны. *До́шка заце́шаная.* Гарадзец.

**ЗАЦІГА́ЦЦА** *зак.* Замучыцца, стаміцца. *Заціга́ліся з вадо́й – і ўтрам, і ве́чарам.* Партызаны, Міцюкова.

**ЗАЦІРА́ЦЬ** *незак. перан.* Выганяць. *Што вам сціра́ць, калі́ за сто́лам сідзя́ць – гасце́й заціра́ць.* Міцюкова.

**ЗАЦІ́РКА** *ж.* Вадкая страва з мукі, яек і вады; зацірка. *І заці́рку дзе́лалі, і макаро́н вары́лі.* Вялікі Азярэцк. *Заці́рка – мукі́ кро́шачку, вады́ ка́пельку, і ў вар сы́пеш.* Багданава, Заазер'е.

**ЗАЦІ́СНУЦЬ** *зак.* Заціснуць. *На́да табе́ тужэ́й – заці́сніш наво́й.* Запруддзе, Алексінічы.

**ЗАЦІ́ШНА** *прысл.* Ціха, бязветрана. *Заці́шна ста́ла.* Нямойта. *У гэ́тым ле́се заці́шна.* Баравікі.

**ЗАЦІ́ШША** *н.* Зацішша, зацішак. *Дзе заці́шша, цяпле́й – я́блыкі бу́дуць.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАЦУГЛЯ́ЦЬ** *зак.* Зацугляць. *Зацугля́й каня́, а то завязе́ць абы-куды́.* Манголія.

**ЗАЦЫ́ГАЦЬ** *зак.* Запішчэць. *Цыпля́ты зацы́гаюць, а кот хо́ду.* Партызаны.

**ЗАЦЫ́РКАЦЬ** *зак.* Напырскаць цыркаючы. *Е́слі залату́ха, грудны́м малако́м зацы́ркаеш у гла́зы.* Партызаны.

**ЗАЦЯЖНЫ́** *прым.* Зацяжны. *У мяне́ было́ зацяжно́е васпале́ння.* Нямойта.

**ЗАЦЯКА́ЦЬ** *зак.* Працякаць. *Кры́ша заціка́ла і пагніла́.* Буй.

**ЗАЧАПІ́ЦЬ** *зак.* 1. Падчапіць. *І свіне́й б'юць даўбе́шкай, зачапі́лі, дзёрнулі, ён* [кабан] *– куліќ, і завалі́лі.* 2. Зачапіць, закрануць. *Ста́ры, ве́рна воўк быў – ні зачапі́ў ніко́га.* Жохава, Савінічы, Чуцькі.

**ЗАЧА́ПЛІВАЦЬ** *незак.* Чапляць за што-н., прымацоўваць. *Зача́плівалі вяро́ўкі ў плуг і цяга́лі.* Запруддзе.

**ЗАЧАПЛЯ́ЦЬ** *незак.* Тое ж. *Бува́ла, сабіра́ліся ба́бы, зачапля́ем вяро́ўкі за плуг, ця́гнем яго́, узаро́м, цёмна ўстава́лі.* Запруддзе.

**ЗАЧАРАВА́ЦЬ** *зак.* Наслаць хваробу з дапамогай чараўніцтва. *Каро́ву мне зачару́іць.* Нямойта.

**ЗАЧАРЫ́ЦЬ** *зак.* Запоўніць (лічынкамі пчол). *Ма́тка стара́ецца зачары́ць дзе́цьмі со́ты.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАЧАРЭ́ПНУЦЬ** *зак.* Зачэрпнуць. *Вады́ зачарэ́пнеш уле́тку, кало́дзесь бли́зка.* Мянюцева.

**ЗАЧАСА́ЦЬ, ЗАЦІСА́ЦЬ** *зак.* Зачасаць (сякерай). *Кълá ня ўме́йіць зъчъса́ць.* Закур'е. *Ён да́жа ні зна́іць, як ко́ліка заціса́ць.* Нямойта, Багданава.

**ЗАЧА́ТАК** *м.* Пачатак. *Зъча́тък зімы́ с Пакро́ва, пры́дзе Пакро́ў – тады́ зімá!* Дольдзева.

**ЗАЧА́ЦЬ** *зак.* Зачаць, пачаць. *Зачну́ць жаць.* Фасаўшчына, Гарадзец.

**ЗАЧМЫ́ХАЦЬ** *зак.* Зафыркаць. *Захрыпіць конь, зачмыхаіць.* Гарадзец.

**ЗАЧО́ХНУЦЬ** *зак.* Затхнуцца. *Ваду́ вы́ллеш, каб ні зачо́хла, з дзяжы́.* Чуцькі.

**ЗАЧУ́ЦЬ** *зак.* Пачуць. *Зачу́е анекдо́ты і запо́мніць.* Нямойта, Партызаны.

**ЗАЧЫ́НАК** *м.* Прыступка, выступ з цэглы ля печы, каб залазіць на чарэнь. *Ля пе́чы зачы́нак.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Каралі, Партызаны, Фасаўшчына, Закур'е, Неўгадава.

**ЗАЧЫНА́ЦЬ** *незак.* Зачынаць, пачынаць. *Лёну мно́га зачына́ю браць.* Запруддзе.

**ЗАЧЫНІ́ЦЬ** *зак.* 1. Зачыніць, замкнуць. *Зачыні ха́ту ту́ю.* Гарадзец, Партызаны, Самсоны. 2. Зачыніць, схаваць. *І адна́ была́, усё зачыні́ла, і спасці́лачкі, і ўсё.* Багданава.

**ЗАЧЫТА́ЦЦА** *незак.* Залічвацца. *Зачыта́ецца, што у Германіі яна́ чатыры гады́ перавóдчыкам рабóтала.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАЧЭ́ПЛЯЦЦА** *незак.* Чапляць за што-н., прымацоўваць. *За рашо́тку зачэ́пляецца ато́са.* Гарадзец.

**ЗАЧЭ́РАНЫ** *дзеепрым.* Зацемнены, зачэрнены з-за дрэннай якасці фотаздымка (?). *З сы́нам яна́* [на фота], *до́чка зачэ́рана.* Нямойта.

**ЗАЧЭ́РПНУЦЬ** *зак.* Зачэрпнуць. *Зачэ́рпнулі вады́ вядро́.* Неўгадава.

**ЗАШАРЫ́ЦЬ** *зак.* Пачаць паколваць. *Усё це́ла як іго́льчкамі зъшары́ла.* Запруддзе.

**ЗАШПІЛІ́ЦЬ** *зак.* Зашпіліць. *Ні магла́ ю́пку зашпілі́ць.* Леснікова.

**ЗАШУМІ́ЦЬ** *зак.* Засмеціць. *Дзе́ці ха́ту зашумі́лі.* Вялікі Азярэцк.

**ЗАШЧАПІ́ЦЬ** *зак.* Замкнуць. *Замо́к спо́рціўся, ні магу́ зъшчапі́ць.* Запруддзе.

**ЗАШЧО́ЎКВАЦЦА** *зак.* Зашчоўквацца. *Мушту́к зъшчо́ўкваецца на абро́ць.* Гарадзец.

**ЗАШЧЫПА́ЦЬ** *зак.* Зашчыпаць, замучыць шчыпкамі. *Ён ме* [мяне] *зашчы́піць за дзень.* Заазер'е.

**ЗАШЧЭ́ПКА** *ж.* Зашчапка. *У кало́дцы ё жардзі́нка і на ёй кручо́к з зашчэ́пкай, і вядро́ ня аччэ́піцца.* Міцюкова.

**ЗАШЧЭ́ПЛІВАЦЦА** *незак.* Зашчапляцца. *Зашчэ́пліваюцца ўсе ў ха́це.* Дольдзева.

**ЗАШЫ́ЦЬ** *зак.* Забіць дошкамі. Гарадзец.

**ЗАШЭ́ПТЫВАЦЬ** *незак.* Лячыць замовай. *Ят* [змяі] *выжсыма́юць і шэ́пчуць ба́бы, зашэ́птывалі.* Вялікі Азярэцк, Жохава.

**ЗАЮРЫ́ЦЦА** *зак.* Закарцець, моцна захацець. *І вот як заюры́ўся, спа́су німа́: жані́цца і жані́цца.* Партызаны, Рэчкі.

**ЗАЮРЫ́ЦЬ** *зак.* Тое ж. *Гады́ чаты́ры пажыла́ ў мі́не́, а тады́ заюры́ла дамо́ў.* Рэчкі.

**ЗАЮШЫ́ЎШЫСІ** *дзеепрысл.* Стомлены, стаміцца. *Я пра́ма заюшы́ўшысі.* Каралевічы.

**ЗАЯДА́ЦЦА** *незак.* Заядацца, сварыцца. *С усе́дзямі так заяда́ецца.* Багданава.

**ЗАЯ́ДЛЫ** *прым.* 1. Заўзяты, фанатычна адданы. *Я рыба́к зая́длы.* Нямойта, Багданава, Рубежніца. 2. Злосны. *Як ба́ба зая́длая, з таго́ све́ту дзяце́й памяне́ць!* Багданава.

**ЗА́ЯЦ, ЗА́ЕЦ, ЗА́ІЦ** *м.* Заяц. *За́йцаў э́тых ё да чо́рта!* Марозаўка. *Як за́яц бяжы́ць – гля́неш на дзяцёнка, паўліі́ць – на гла́зы ніхаро́шы бу́дзіць* (з назіранняў). Багданава, Рэчкі, Сянно, Цясішча.

**ЗБА́БІЦЬ, ІЗБА́БІЦЬ** *зак.* Прыняць роды. *Зба́біла адна́ дзіцё.* Міцюкова. *Адна́ радзі́ла і адна́ ізба́біла.* Гарадзец.

**ЗБА́ВІЦЦА** *зак.* Пазбавіцца. *Збáвілася ад авéц.* Латыгаль.

**ЗБАЙДА́ЦЬ** *зак.* Раздражніць, уцвяліць. *Нарóшне дзéці мóгуць сабáку збайдáць.* Вялікі Азярэцк.

**ЗБАЙДА́ШЫЦЬ** *зак.* Разбіць. *Не збайдáшце пасýду.* Партызаны, Вялікі Азярэцк.

**ЗБАЛЁЦЬ** *зак.* Забалець. *Усё збаліць, як на пéчы паляжý.* Партызаны.

**ЗБАЯ́ЦЦА** *зак.* Пабаяцца. *Ну й ні паслýхала – збаялася.* Леснікова.

**ЗБЁГЧЫ** *зак.* Ператапіцца. *У такóе надвор'е забіла къбанá, у харóшае, на тук збéгла сáла.* Багданава.

**ЗБЁГЧЫ** *зак.* Уцячы. *Янá узялá дзьве сваіх дзéўчані і збéгла.* Вялікі Азярэцк.

**ЗБЁГЧЫСЯ** *зак.* Збегчыся (у адно месца). *Збéгліся усé ў гэ́тыя я́мы і сядзíм.* Леснікова.

**ЗБЕРАГЧЫ́** *зак.* Зберагчы. *Трóшку здарóўя збярóх свайгó – пашóў на пéнсію.* Ульянавічы, Нямойта.

**ЗБІГА́ЦЬ** *незак.* Збягаць, збочваць. *Палісіянты збігáюць з дарóгі.* Каралевічы.

**ЗБІРА́НЫ** *дзеепрым.* Сабраны. *Трýбкі, пасцілкі, рубáшкі – усё збірáнае ў маладýхі.* Ракаў Засценак.

**ЗБІРА́ЦЦА** *незак.* Збірацца. *Збярýцца, пяюць, скáчуць, а цяпéр нічóга німáшыка.* Вялікі Азярэцк.

**ЗБІРА́ЦЬ** *незак.* Збіраць. *Я́гады хóдзіш збірáіш.* Вялікі Азярэцк, Жохава.

**ЗБІ́ТЫ** *дзеепрым.* Збіты, моцна пабіты. *А збíтыя былí, усё чы́ста цéла чóрнае.* Жохава, Партызаны.

**ЗБІ́ЦЦА** *зак.* 1. Сабрацца ў шчыльны гурт. *Кóні саб'юцца ў кýчу і зáдам адбівáюцца ад ваўкóў.* Партызаны. 2. Звіцца, утварыцца. *Збíўся калтýн.* Гарадзец, Багданава. ◊ ЗБІ́ЦЦА З ПАНТАЛЫ́КУ. Заблытацца. *Я ўжэ збілася з панталы́ку, пъчъкáйце, пашчытáю.* Нямойта, Гарадзец, Фасаўшчына.

**ЗБІЦЬ** *зак.* Моцна пабіць. *Збілі і вы́кінулі за забóр.* Фасаўшчына, Сукрэмна.

**ЗБЛУДЗІ́ЦЦА, ЗБЛУ́ДЗІЦЦА** *зак.* Заблудзіцца, збіцца з дарогі. *Я ні рáзу ні зблужýся, тýта лес знакóмый.* Цясішча. *Інá зблýдзілася і ліглá пад корч.* Фасаўшчына, Запруддзе.

**ЗБОЙ** *м.* Вялікі наплыў людзей. *Нізаштó гарэ́лкі не ўзяць, раз дáйжа павалілі, якáя вóчарадзь, які збой!* Нямойта, Закур'е.

**ЗБО́КУ** *прысл.* Збоку. *Прынясýць свéчы, патсмáлюць валаскі дзéцям, спéраду, збóку, чаты́ры рáза, каб ні баяліся грóму* [на Грамніцы]. Савінічы, Нямойта, Ульянавічы.

**ЗБО́ЛЬШАГА** *прысл.* Збольшага, у асноўным. *Зъмятý збóльшага ў хáце.* Вялікі Азярэцк.

**ЗБОР** *м. зб.* 1. Нетутэйшыя жыхары. *У нас тут усякі збор.* Багданава. 2. Вайсковыя зборы. *Да вайны́ ўзялі на збор.* Дольдзева.

**ЗБО́РАЦЦА** *зак.* Справіцца. *Я жа з імі не збóраюся.* Цясішча.

**ЗБО́РКА** *ж.* Зборка, складка. *У збóркі спадніца.* Каралі.

**ЗБО́РНІЦА** *ж.* Свята-кірмаш у апошнюю нядзелю перад Вялікаднем. *Пъръсят вязýць прыдъвáць на збóрніцу, інá пірат Вяліканнем бувáіць.* Міцюкова. *На збóрніцу паéхалі на бъзáр, вьдá разлілáся, даéхаць ня мох.* Міхнава.

**ЗБО́РНЫ** *м.* Зборшчык малака. *Збóрны рáна збірáйіць мълакó!* Чуцькі.

**ЗБО́РШЧЫК** *м.* Тое ж. *А ён мылакó зьбірáйіць, збóршчыкъм* [працуе]. Гарадок.

**ЗБО́РЫШЧА** *н.* Збор людзей. *Там усё збóрышча, усé-усé прыіжджáюць.* Багданава, Нямойта.

**ЗБРАДЛІ́ВЫ** *прым.* Збродлівы. *Збрадлі́вая каро́ва, як ты ні пілну́й, усё ро́ўна ўле́зіць у шко́ду!* Рассвет, Багданава, Манголія.

**ЗБРАСЦІ́** *зак.* ◊ НА УМ ЗБРАСЦІ́. Раптоўна, выпадкова з'явіцца ў свядомасці. *Што ў каго́ на ум збрадзёць.* Міцюкова.

**ЗБРАХА́ЦЬ** *зак.* Абгаварыць. *Як яго́ і скляну́ць і збрэ́шуць.* Вялікі Азярэцк.

**ЗБРО́ДАВАЦЬ** *незак.* Бадзяцца, валацужнічаць. *Лю́дзі не пілі́, ні збро́давалі.* Баравікі.

**ЗБРО́ДНІЧАЦЬ** *незак.* Лазіць. *Не ві́дзіла, каб* [ласка] *збро́днічала к каро́ві.* Міцюкова.

**ЗБРО́ДНЫ** *прым.* Збродлівы. *Ве́шылі звано́чкі збро́дным каро́вым, ужо́ чуць, йдзе йна скубе́ць.* Міцюкова, Каралі.

**ЗБРО́СІЦЬ** *зак.* Дачасна перапыніць (цяжарнасць). *Сама́ збро́сіла* [дзіця]. Кляпчэва.

**ЗБРОТ** *м. зб.* Збродлівая жывёла. *Ко́шкі бо́льшы пілну́юцца ха́ты, а каты́ – э́та зброт.* Дольдзева, Гарадзец.

**ЗБРО́Я** *ж.* Зброя. *Там лю́дзі пъхъва́ныя, там іхна збро́я.* Малы Азярэцк.

**ЗБРУ́Я** *ж.* Збруя, вупраж. *Збру́я – і хаму́т, і паду́зы, во́шкі, і абро́ць.* Гарадзец.

**ЗБУНТАВА́ЦЦА** *зак.* Заблытацца, збіцца. *Пяю́ць, а като́рыя збунту́юцца.* Каралевічы, Ракаў Засценак.

**ЗБУНТАВА́ЦЬ** *зак.* Узбунтаваць. *І то́лькі збунту́іць людзе́й.* Гарадзец.

**ЗБУРЫ́ЦЬ** *зак.* Разбурыць. *Як збуры́лі цэ́ркву, так я і не была́.* Чуцькі.

**ЗБУТНЕ́ЦЬ**, **ЗБУЦВЕ́ЦЬ** *зак.* 1. Спарахнець, згнісці. *Збуцьве́ла ўся, цячэ́ць* [хата], *як у рэ́шыці.* Чуцькі. 2. Зляжацца (пра адзенне). *Збутне́ла, като́рае до́ўга ляжы́ць у шка́пі, мо́жа збутне́ць.* Багданава.

**ЗБЫВА́ЦЬ** *незак.* Збываць, пазбаўляцца. *А што, я каро́ву бу́ду збыва́ць.* Чуцькі, Баравікі, Кішуроўшчына, Леснікова, Савінічы, Ульянавічы.

**ЗБЫЦЬ** *зак.* ◊ ЗБЫЦЬ З ГАЛАВЫ́. Вызваліцца, пазбавіцца. *А ма́ткі, каб з галавы́ збыць – на́да скарэ́й за́муш адда́ць.* Марозаўка.

**ЗБЯНТЭ́ЖЫЦЦА** *зак.* Збянтэжыцца, разгубіцца. *Стара́я ба́ба збянтэ́жылася, крычы́ць на усю ву́ліцу.* Партызаны.

**ЗВАДЗІ́ЦЦА** *незак.* Пераводзіцца, пераставаць існаваць. *Чъръўнікі і цяпе́р ня зво́дзюцца.* Запруддзе, Фасаўшчына.

**ЗВА́ЖАВАЦЬ**, **ЗВА́ЖЫВАЦЬ** *незак.* Звозіць у адно месца. *Атве́чаркам яны́ зва́жавалі траву́.* Баравікі. *Зва́жуім гэ́та се́на. Зва́жывалі ў дзярэ́ўню с хутаро́ў.* Каралевічы.

**ЗВАЖА́ЦЬ** *незак.* Саступаць. *Ён ні плахі́ быў, дураку́ зважа́ў, мне яшчэ́ дваццаці́ ні было́.* Нямойта, Багданава.

**ЗВАЗІ́ЦЦА** *незак.* Звозіць у адно месца. *Се́на зво́зіцца на сенава́л.* Розмыслава.

**ЗВАЗІ́ЦЬ** *незак.* Перасяляць. *Пъшла́ мо́да хутары́ звазі́ць.* Леснікова.

**ЗВАЛАЧЫ́** *зак.* Перацягнуць, прымусіць пераехаць. *Ён у Во́ршы быў, жані́ўся, іна́ яго́ туды́ звалакла́* [жонка]. Жохава.

**ЗВАЛАЧЫ́ЦЬ** *зак.* Занесці. *Звалачы́лі бутэ́лькі на пункт.* Нямойта.

**ЗВАЛІ́ЦЦА** *зак.* Збіцца, скруціцца, зваляцца. *Збяле́ла пе́р'е і звалі́лася, як хто жа́рам аблі́ў.* Багданава.

**ЗВАЛІ́ЦЦА**, **ЗВАЛЯ́ЦЦА** *зак.* 1. Нахіліцца. *Звалі́лася бу́льба і хай ва́ліцца.* 2. Прапасці. *Пасе́іш памідо́ры – зваля́юцца.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Баравікі, Гарадзец, Дольдзева, Нямойта, Ульянавічы, Чуцькі.

**ЗВАЛІ́ЦЬ** *зак.* Зваліць (пра валёнкі). *Ва́ленкі адзі́н год звалі́ла, і цяпе́р нашу́.* Латыгаль, Закур'е.

**ЗВАЛНАВА́ЦЦА** *зак.* Запячыся, загусцець (?). *Гарэ́лкі папі́ў, распа́рыўся ў ба́ні – і кроў звалнава́лася* [вужака яго пакусала перад тым]. Багданава.

**ЗВАЛЯ́ЦЦА** *зак.* Прапасці дарэмна. *У нас ніч́ога ні зваля́іцца: то свінёнку атдъдзі́м, то вуцёнку.* Малы Азярэцк.

**ЗВАНЕ́Ц** *м.* Расліна, падобная на званочкі, падчас працяглых дажджоў з'яўляецца ў пасевах збожжа. □ *Званéц – хлéбу канéц.* Вялікі Азярэцк.

**ЗВА́ННЕ** *н.* 1. Імя. *Аўдакéя – такóе звáнне.* Запруддзе. 2. Назва. *Кáждыму грыбý звáння ёсь. Звáнне ёсь вýліцы.* Карпавічы, Неўгадава.

**ЗВАНО́К** *м.* Званок. *Хлеў быў замкнýт, і званóк быў у хáту* [праведзены]. Заазер'е, Алексінічы, Івоні, Леснікова. ЗВАНО́ЧАК *памянш. Карóва атхóдзіцца ат карóў, то ёй званóчък чапляюць.* Гарадзец.

**ЗВА́РКІ** *мн.* Бразготкі. *Кóні пазапрагáюць, шóркі, звáркі, чухóнкі.* Закур'е.

**ЗВАРЦА́ЦЬ** *зак.* Званітаваць. *Зварцáў мáлый рабёнък.* Нямойта.

**ЗВАРЫ́ЦЦА** *зак.* Апарыцца. *Картóшка паатмікáла, зімля́ зварылася, дзе ніскія местá.* Баравікі.

**ЗВАРЫ́ЦЬ** *зак.* Зварыць. *Як ніткі імшáцца, трэ́ба зварыць сéмя, і, як ткýць, тады́ мáжуць крóсны.* Вялікі Азярэцк.

**ЗВА́ЦЦА** *незак.* Называцца. *Гэ́дак усё звáлься: Нóвы гот, Кълідá.* Ракаў Засценак. *Стýкалава рáньшы звáлася, там калéснікі жылí.* Жохава, Вялікі Азярэцк, Леснікі.

**ЗВАЦЬ** *незак.* Называць. *Завём гэ́дак: бáбачка і грыбóк.* Чуцькі. *Мацéй – старыкá завýць, Мацéйка.* Буй, Гарадзец, Міцюкова, Партызаны, Ульянавічы. *Сядзíць, гадáіць: прыйдзіць, ня прыйдзіць, у трубý ягó звáла.* Міцюкова.

**ЗВЕ́ЗЦІ** *зак.* 1. Звезці ў адно месца. *Звéсці сéна нáда.* Чуцькі, Латыгаль. *Пасёлак з хутарэ́й звязлí да вайны́.* Дуброўкі. 2. Вывезці, перасяліць. *Даргéйкі былá вёска – усё звéзлі, усё знясл́і.* Мянюцева, Апечкі, Запруддзе, Леснікова.

**ЗВЕ́КУ** *прысл.* Спрадвеку. *Бáні зьвéку былí ў нас.* Гарадок.

**ЗВЕННАВА́Я** *ж.* Звеннявая. *Я кóні пáсціла, звеннавóй былá.* Баравікі.

**ЗВЕР** *м.* Звер. *Цяпéр жа звярóў нет!* Міцюкова.

**ЗВЕРАБО́Й, СВЕРАБО́Й, СВІРАБО́Й** *м.* Зверабой (расліна). *Зверабóй лячэ́бная, як галавá ў кагó балíць.* Самсоны, Багданава, Буй, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Запруддзе, Каралі, Леснікі, Міцюкова, Нямойта, Цясішча, Чуцькі. *Сверабóй пáрылі ат усíх хварóб.* Рэчкі. *Свірабóй у юлі зьбірáюць.* Самсоны.

**ЗВЕРАВА́ТЫ** *прым.* Нелюдзімы. *Нявéста зверавáтая, адшыла ад усягó.* Партызаны.

**ЗВЕ́РХУ** *прысл.* Зверху. *Звéрху пячэ́, знíзу – цячэ́* [вясной]. Нямойта. *Сарвéць звéрху, а не вырывáіць с карнём.* Запруддзе, Леснікова, Партызаны, Дуброўкі.

**ЗВЕ́СЦІ** *зак.* 1. Знішчыць, пазбавіцца. *Рáншы мнóга кóней былó, а цяпéр звялí.* Заазер'е, Багданава, Нямойта. 2. Замучыць, загубіць. *Звялí дзéда, памёр.* Гарадзец.

**ЗВЕ́СЦІ** *зак.* Падвесці, падмануць. *Яé, дзéўку, звёў, а жóнку кінуў. Янá ягó звялá.* Івоні, Багданава. ◊ НЯ ЗВЕ́СЦІ ВО́ЧЫ. Аб чым-н. вельмі прыгожым, прываблівым. *Маладáя надзéнусь – ня звéсці вóчы.* Самсоны.

**ЗВЕСЦЬ** *ж.* Вестка, навіна. *Павучóк спускáецца – звесць бýдзе.* Запруддзе.

**ЗВЕ́ТРАЦЬ** *зак.* Зветрыць, звеяць. *Мак абаб'юць, звéтраюць.* Гарадзец.

**ЗВЕ́ЧАРА** *прысл.* Звечара. *Па шпу́льцы напраду́ць зве́чара і пяюць.* Нямойта.

**ЗВЁСКА** *ж.* Вапна. *З ма́ргылю звёску выпа́лююць.* Самсоны, Сукрэмна.

**ЗВІ́ДНАВАЦЬ** *незак.* Світаць, днець. *Ляжу́, зві́днаваіць, а я і не спа́ла.* Партызаны.

**ЗВІЗА́ЦЬ** *ж.* Звязаць. *Сама́ сабе́ звіза́ла спадні́цу.* Вялікі Азярэцк.

**ЗВІЗДАКО́ЛІНКА** *ж.* Белая пляма на мордзе жывёлы. *Звіздако́лінка радзі́лася – са звёздачкай жаро́бачка.* Вялікі Азярэцк.

**ЗВІЗНА́Я** *ж.* Сувязная. *Дык запёрлі ў сара́й і спалілі парцыза́нскую звізну́ю, Ка́цю са Смале́нска.* Жохава.

**ЗВІ́ЛІСТЫ** *прым.* Які мае звіліны. *Ша́пкі ў страчко́ў звілістыя такея.* Вялікі Азярэцк.

**ЗВІНЕ́ЦЬ** *незак.* 1. Звінець. *Шуме́йкі звіня́ць краcíва.* Гарадзец. 2. Выдаваць гукі, падобныя на звон. *Пчо́лы звіня́ць.* Вялікі Азярэцк. 3. *перан.* Шумна гуляць. *Ну, атпра́ва была́ – усё зьвіне́ла.* Нямойта.

**ЗВІСА́ЦЬ** *незак.* Звісаць. *Звіса́я страха́. Ста́вілі път страху́.* Карпавічы.

**ЗВІ́СНУЦЬ** *зак.* Звесіць, апусціць. *А ві́шанька к ві́шні гало́ванькі звіслі* (з песні). Мянюцева.

**ЗВІХ** *м.* Вывіх. *Іна́* [шаптуха], *выгъня́іць вълъсьня́, ад ро́жы, зьві́ху* [шэпча]. *Зві́хі былі, як зві́хі, на паро́г кладзе́шся, і па табе́ ступа́юць.* Рулёўшчына, Багданава, Запруддзе, Каралевічы, Міцюкова.

**ЗВІХНУ́ЦЬ** *зак.* Вывіхнуць. *Звіхне́ць нагу́, то загаво́руць.* Багданава, Гарадзец.

**ЗВІЦЬ** *зак.* Звіць. *Або́ры ўжо сваё саўе́ць.* Серкуці, Кавалі. *Пяю́ць, вяно́к саўю́ць, прыдсіда́целю паднясу́ць* [на дажынках]. Самсоны.

**ЗВО́ДЗІЦЬ** *незак.* ◊ ЗВО́ДЗІЦЬ СПЛЕ́ТНІ. Пляткарыць. *Сплетніца, то́лькі зво́дзіць сплетні.* Дольдзева.

**ЗВОН** *м.* Звон. *Зво́няць у званы́.* Нямойта, Багданава.

**ЗВУЧЭ́ННЯ** *н.* Гучанне. *У гармо́ні кіруу́скій рабо́ты харо́шыя звучэ́ння.* Сянно.

**ЗВЫ́РЫЦЬ** *незак.* Плакаць. *Я па ім звы́рыла, то цяпе́р гулува́ бaліць.* Турава.

**ЗВЯ́ГАЦЬ** *незак.* Назойліва прасіць, патрабаваць. *Што ты звя́гаіш, маўчы́ ціха.* Фасаўшчына.

**ЗВЯГЛІ́ВЫ** *прым.* Залішне гаваркі. *Звягліва чалаве́к, лю́біць пагавары́ць.* Леснікова.

**ЗВЯ́ЗАК** *м.* Вузел, клунак. *Звя́зкі звя́жъш і нъ гаро́т вы́кініш* [каб не згарэла]. Неўгадава.

**ЗВЯЗА́ЦЦА** *зак.* Мець агульныя справы. *Звяжы́ся з ва́мі, мёртвъй клятбо́й кліла́.* Нямойта, Серкуці.

**ЗВЯ́ЗВАЦЬ, ЗВЯ́ЗУВАЦЬ** *незак.* Звязваць. *Дрэ́вы звя́звалі нат калі́ткай на Іва́на, накладалі до́скі на ко́мін. То ні́ткі звя́зуюць, то праду́ць і пяюць на су́пратках.* Партызаны.

**ЗВЯ́ЛЫ** *прым.* Звялы, пасохлы. *Кукуру́за ляжы́ць та́я зьвя́лъя.* Запруддзе, Багданава.

**ЗВЯ́НУЦЬ** *зак.* Пра стан смутку, непакою, трывогі. *Се́рцэ яго́ звя́ла.* Жохава.

**ЗВЯРНУ́ЦЬ** *зак.* 1. Зрушыць з месца. *Хай ка́мень зве́рнуць і к сабе́ во́зьмуць.* Самсоны. 2. Збочыць. *Куды-ніб́у́ць зве́рніць.* Ульянавічы. ◊ ГАЛАВУ́ ЗВЯРНУ́ЦЬ. Загінуць. *Глядзі́, каб ты галаву́ ні звярну́ў.* Партызаны.

**ЗВЯРЧЫ́ЦЬ** *зак.* Закруціць, захутаць. *Кум куме́ атдаёць, а кума́ тады́ яго́ звярчы́ць.* Заазер'е.

**ЗВЯ́СКА** *ж.* Звязка, жмут. *Натрэ́пім лён, звяскі нъвя́жым, нъвя́жыш тъку́ю жму́тку.* Каралі.

**ЗВЯСЦІ́СЯ** *зак.* Звесціся, перастаць існаваць. *Пчо́лы, гляджу́, звяліся.* Малы Азярэцк. *Мя́та звяла́ся, не расцэ́ць.* Каралі.

**ЗВЯЦЬ** *зак.* Засохнуць, прапасці. *І цьвяты́ звя́лі, ссо́хлі, здо́хлі.* Запруддзе.

**ЗВЯШЧЭ́ННЕ** *н.* Паведамленне. *Звяшчэ́нне было́, што пагі́б муж 23 а́ўгуста.* Багданава, Леснікова.

**ЗГАВАРЫ́ЦЦА** *зак.* Дамовіцца. *Згъварылі́сі лаві́ць ры́бу ў во́зеры.* Запруддзе.

**ЗГАДАВА́ЦЬ, ЗГУДУВА́ЦЬ** *зак.* Выгадаваць. *Я сваé дзéці згъдъва́ла і ні ра́зу ў бальні́цы ні была́.* Каралевічы. *Пя́цера згудува́ла, а тро́е дзяцéй памёрлі.* Багданава.

**ЗГАДЖА́ЦЬ** *незак.* Згаджацца. *Мы ўжо згаджа́ім с э́тай цано́й.* Дольдзева.

**ЗГА́ЙСТАЦЬ** *зак.* Знішчыць. *А ле́су, ле́су тут было́ – і так усё зга́йстаць!* Чуцькі.

**ЗГАН** *м.* Ганьба. *Зга́ну німа́ ма́льцу, харо́шы ма́лец.* Запруддзе, Нямойта.

**ЗГАНІ́ЦЦА** *зак.* Загнаіцца. *Ні залі́ць чым, ні зама́заць чым, згані́ўся мой па́ліц.* Леснікова.

**ЗГАНЯ́ЦЬ** *зак.* 1. Выгнаць на пашу. *Згъня́ў рас каро́ву ў по́ля.* Самсоны. 2. Вяршыць. *Зго́нюць стох, усё вузéй і вузéй, каб не замъка́ла.* Гарадзец. ◊ ЗГАНЯ́ЦЬ АХО́ТУ. Задаволіць жаданне, здаволіцца. *Зганя́йце ахо́ту е́сці.* Міцюкова.

**ЗГАРАВА́НЫ** *прым.* Гаротны. *Згарава́ны чалавéк.* Закур'е.

**ЗГАРАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Загарадзіць. Гарадзец.

**ЗГАРБНЕ́ЦЬ** *зак.* Згорбіцца. *Згарбнéла я, стара́я ўжо.* Серкуці.

**ЗГАРО́Д** *м.* Плот, агароджа. *Стаі́ць парсю́к на згаро́дзі і пішчы́ць, мянé за плячо́ хватаі́ць.* Багданава.

**ЗГАРО́ДА, ІЗГАРО́ДА** *ж.* Тое ж. *Згаро́ду з жэ́рдак здзéлаў та́та.* Серкуці. *Іна́ ш ні віткъва́нъя гэ́тъя згаро́да, іна́ ш прыбі́та.* Партызаны, Багданава, Буй, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Гарадок, Заазер'е, Замошша, Запруддзе, Карпавічы, Леснікова, Марозаўка, Міцюкова, Нямойта, Ракаў Засценак, Рулёўшчына, Фасаўшчына, Цясішча. *Пайдзём ізгаро́ду пару́бім – дажджу́ німа́.* Карпавічы. *Дзе́луў ізгаро́ду, а іна́ съгніла́ ўжо.* Запруддзе. *Прывязе́ш воз пяску́, вы́сыпіш пъд ізгаро́ду, і яны́ тады́ къпа́юцца* [куры]. Міцюкова. *Ізгаро́ду дзе́ці парасця́гнуць.* Манголія.

**ЗГАРЭ́ТЫ** *дзеепрым.* Згарэлы. *Ха́та згарэ́та, жо́нка памёрла.* Дольдзева.

**ЗГАРЭ́ЦЬ** *зак.* Згарэць. *А, мі́лая, а згарэ́ла, а дзе́ткі былі́, вучэ́цца трэ́ба было́!* Заазер'е, Турава, Фасаўшчына. *Кап ты згарэ́ла!* (праклён). Багданава. *У мянé ха́та згарэ́ла і сын у той ха́ці – два́ццаць сем гадо́ў – згарэ́ў.* Чуцькі.

**ЗГІБА́ЦЦА** *незак.* Згінацца, гнуцца. *Выбіра́лі касу́ і так но́сікъм у зямлю́ і нъжыма́йіш нъ пя́тку... Калі́ ні згіба́йіцца, то късá хъръша́.* Леснікова.

**ЗГІ́НУЦЬ** *зак.* Прапасці. *Там усё згі́нула, усё разары́лась.* Буй.

**ЗГЛАЗ** *м.* Сурокі. *Зглаз вéрна, каро́ва закульга́ла ні з таго́ ні з сяго́.* Запруддзе.

**ЗГЛУМІ́ЦЬ** *зак.* Загубіць, звесці са свету. *Ён зглумі́ў гэ́тага чалавéка.* Каралевічы.

**ЗГНАІ́ЦЬ, СГНАІ́ЦЬ** *зак.* Згнаіць, сапсаваць. *Растраслі́ сéна, дош згнаі́ў.* Запруддзе. *Хто сгнаі́ў* [сена], *хай бы атвіча́ў.* Кляпчэва.

**ЗГНІ́ЦЬ** *зак.* Згнісці. *А яно́* [сучча] *згніе́ць так, патрэ́цца.* Заазер'е.

**ЗГОН** *м.* Заход пры апрацоўцы валакна лёну, пянькі. *Патрэ́п'я – як пéрвы згон.* Дольдзева.

**ЗГУБІ́ЦЬ** *зак.* 1. Загубіць, звесці са свету. *Ты ж німáла кагó згубі́ў.* Чуцькі. 2. Стаць прычынай няшчасця каго-н. *Дзéвачкі мянé згубілі.* Заазер'е.

**ЗГУБЛЮВА́ЦЬ** *зак.* Згабляваць. *Згублювáў шаршэ́ткуй кóркі, а тады фуґáнкым чы́сціў.* Рудніца.

**ЗГУРЦІ́ЦЬ** *зак.* Сабраць у адно месца. *Усё згурці́ла ў гэ́ты гарóт.* Серкуці.

**ЗГУШЧО́НАСЦЬ** *ж.* Скучанасць. *Згушчóнасць былá, дом вóзле дóма.* Манголія.

**ЗДАБЫ́ЧА** *ж.* Паляванне. *Кóшка на здабы́чу хадзíла.* Марозаўка.

**ЗДАВА́ЦЦА** *незак.* Здавацца, уяўляцца. *Здъвáлься, што памёршы прыхóдзіць і хóдзіць у хáця, і ён здъвáўся, ляжы́м на пéчы, чýім, аткры́лася хáта, ідзéць, сеў за стол, узя́ў буты́лку, напíўся, хáту атчыні́ў і пайшóў. І кап аднóй, а то двум здалóся.* Ракаў Засценак, Савінічы. *Самóй здáні здъвáліся.* Багданава.

**ЗДАВА́ЦЦА** *незак.* Спадзявацца. *Спаць кладýся, на Бóга здаю́ся.* Нямойта.

**ЗДАВА́ЦЬ, ІЗДАВА́ЦЬ** *незак.* Здаваць. *Здаём зъ калхóс мълакó.* Гарадзец, Буй, Латыгаль, Дуброўкі. *Мъкарóн ні забéлюць, булён ці суп вáруць, а малакó йна іздавáла.* Неўгадава.

**ЗДАЕ́ЦЦА**, **ЗДЭ́ЦЦЭ** *незак.* Здаецца, быццам бы, нібыта. *Здаéцца, ні жывý, ні гнію́.* Гарадзец, Багданава, Нямойта, Станюкі. *Здэ́ццэ, сóнца красíва свéціць, алé халóдна.* Багданава.

**ЗДА́ІВАЦЬ** *незак.* Здойваць. *Як кроў з вы́мя, здáіваюць і аддаюць сабáке чэраз парóг.* Запруддзе.

**ЗДА́ЛЕКУ**, **ЗДА́ЛІКУ**, **ЗДА́ЛІКА** *прысл.* Здалёк. *Здáлеку бáчыла вóўка.* Гарадзец, Запруддзе. *Здáлеку глядзíм.* Неўгадава. *Я яé здáліку ві́дзела.* Багданава, Нямойта. *Мы так стъя́лі здáліка.* Каралевічы.

**ЗДАЛЁЧКУ** *прысл.* У канец (печы). *Саладýху стáвілі здалёчку ў пéчку.* Багданава.

**ЗДАЛЯ́** *прысл.* Здалёк. *Ён здаля́ браў жóнку.* Кішуроўшчына.

**ЗДА́НКІ**, **ЗДА́НЬКІ** *мн.* Прывіды. *Памéрла маць, а рабёнак астáўся, нéйкія здáнкі здъвáліся. Тады́ пóпілу насы́палі, казáлі, сляды́ к калы́скі былí.* Нямойта. *Здáнькі мóгуць здáцца ў лéсе.* Запруддзе, Вялікі Азярэцк, Каралевічы, Фасаўшчына.

**ЗДАРАВЕ́Й** *прысл.* Лепш. *Чълавéку здаравéй, калí чълавéк дýмаіць, дзяцéй расціць, што-нéбудзь сóдзіць, скот гадýіць.* Каралевічы, Рэчкі.

**ЗДАРАВУ́ШЧЫ** *прым.* Вялізны, таўшчэзны. *Былá здъравýшчая, а нічóга німá, събáка і схуднéла.* Запруддзе.

**ЗДАРО́ВЫ** *прым.* 1. Здаровы. *Калí здарóў, усё багáцце ў рукáх.* Нямойта. 2. Шчаслівы. *Дзяцёнка ў хáту пускáлі нóвую, каб жысць здарóвая былá.* Баравікі, Багданава, Запруддзе, Ульянавічы, Чуцькі, Дуброўкі, Закур'е. *Кап ты здарóў быў!* (прыгаворка). Багданава. 3. Мажны. *А ён мáліц такí вісóкі, здарóвы.* Заазер'е. 4. Вялікі. *А ляшчы́ здарóвыя.* Багданава.

**ЗДАРО́Ў** *выкл.* Вітанне. *Здарóў, як жывéш?* Савінічы, Багданава, Каралевічы, Міцюкова, Чуцькі.

**ЗДАРО́ЎЕ** *н.* Здароўе. *Пасадзíў ён мне трóху здарóўе.* Ракаў Засценак. *С кíм ты йдзеш? – С хлéбам і с сóльлем, і з дóбрым здарóўем!* Запруддзе, Алексінічы, Каменшчына. ЗДАРО́ЎЕЙКА *ласк.* *Хай бох здарóўейка вам даéць, што вы мне памаглí ўчóра!* Багданава. ◊ НА ЗДАРО́ЎЕ! Пажаданне пры адказе на «дзякуй». Багданава, Сукрэмна.

**ЗДАЎНА́, ЗДУЎНА́, І́ЗДАЎНА** *прысл.* 1. Здаўна, спрадвеку. *Здъýнá рэ́чка былá, канáву пракъпáлі, пасушы́лі, паразрабóталі.* Багданава. *Я кажý, як гавóраць*

*старыя здуўна́.* Багданава, Гарадзец, Запруддзе, Фасаўшчына. 2. Даўно. *І́здаўна тут жывём.* Рэчкі.

**ЗДАХАТА́** *ж.* Страта, гібель чаго-, каго-н. *Курыца пяе́ць на здахату́, на убыткі, абіза́цельна на́да у́біць.* Жохава.

**ЗДАЦЬ** *зак.* 1. Здаць, перадаць для далейшага выкарыстання. *Я быка здъла́, пърасёнка здъла́.* Марозаўка, Самсонава. 2. Аддаць. *А ме́ншага ў ХЗУ сдаў.* Нямойта.

**ЗДВІГА́ЦЦА** *незак.* Рухацца, збірацца ў адно месца. *Гадзю́кі ўсе здвіга́юцца на Здві́жанне.* Алексінічы, Леснікова.

**ЗДЗЕК** *м.* Здзек. *Той пан усякія здзе́кі твары́ў.* Ульянавічы.

**ЗДЗЕКА́ЦЦА, ЗДЗІКА́ЦЦА** *незак.* Здзекавацца. *Не на́да здзека́цца з дзе́вак.* Запруддзе. *А ма́чыха здзіка́лася з яго́.* Вялікі Азярэцк, Буй, Заазер'е, Запруддзе, Кляпчэва, Ульянавічы.

**ЗДЗЕ́ЛАЦЦА** *зак.* 1. Здарыцца. *Ме́сяц нъза́д, як э́та зьдзе́лълься.* Гарадзец, Запруддзе. 2. Стацца, зрабіцца. *І ён што на каро́ву здзе́лаў, чурува́ў, со́скі, ві́мя – ўсё каро́й здзе́лалься.* Багданава.

**ЗДЗЕ́ЛАЦЬ, СДЗЕ́ЛАЦЬ** *зак.* 1. Зрабіць. *Гняздо́ здзе́лаіць пці́ца е́та.* Вялікі Азярэцк. *Ён так сдзе́лаіць, што і пту́шка зва́ліцца.* Заазер'е. 2. Наслаць хваробу. *Ёсць чараўні́цы, мне самэ́й сдзе́лалі, ужо́ пры сме́рці была́.* Заазер'е.

**ЗДЗЕ́ЛЬШЧЫНА** *ж.* Здзельная аплата. *Усё на здзе́льшчыну перавялі.* Закур'е.

**ЗДЗЕ́РЖАЦЬ** *зак.* Вытрымаць. *Зямля́ п ні здзе́ржала, кап усе́ жылі.* Партызаны.

**ЗДЗЕ́РЖЫЦЬ** *зак.* Стрымаць. *І скъза́лі: стары́ ты шафёр, с чаго́ ты ня здзе́ржыў машы́ну?* Савінічы.

**ЗДЗЕ́РЦІ** *зак.* 1. Падраць. *Ку́ры здзяру́ць усе́ буракі, тады́ ба́ба мяне́ заб'е́ць.* Чуцькі. 2. Надраць (пер'я). *Аднэ́й дачкі дзе́сяць паду́шак здзе́рла.* Ульянавічы.

**ЗДЗЕ́ЦЦА** *зак.* Раздзецца, распрануцца. *Здзе́ньцесь, у ха́ці ш цёпла.* Нямойта.

**ЗДЗЕЦЬ** *зак.* 1. Здзець, распрануць. *Куртку́ зьдзе́ньце, а то жа́рка.* Ульянавічы. *Здзень гэ́ты, што, німа́ больш піджако́ў?* Рэчкі, Міцюкова. 2. Садраць. *Бык цэ́пам здзеў яму́ ўсю ко́жу.* Кішуроўшчына.

**ЗДЗЕ́ШНІ, ЗДЗЕ́ШНЫ, ЗДЗЕ́ШНЫЙ, ЗДЗЕ́ЧНЫ** *прым.* Тутэйшы, мясцовы. *Іна́ здзе́шняя, тут радзі́ўшысі.* Нямойта. *Здзе́шная дзе́вушка, далёка адсю́ль паехала.* Партызаны. *Ён ня здзе́шны быў, я бра́ла пры́муша.* Нямойта. *Вы здзе́шный?* Рубежніца. *Яны́ ту́та ня здзе́чныя.* Вялікі Азярэцк.

**ЗДЗІВА́ЦЦА** *незак.* Здзекавацца. *Так з дзе́цьмі здзіва́лася.* Алексінічы. *Зьдзіва́іцца нът табо́й.* Савінічы.

**ЗДЗІРЖА́ЦЬ** *незак.* Стрымліваць. *Як бытта вяро́ўка здзіржа́ць бу́дзіць.* Дольдзева.

**ЗДО́БА, ЗДО́БІЯ** *ж. зб.* Здобнае печыва. *Пяклі здо́бу на Сараკі, у анну́ кла́лі капе́йку, каму́ мане́та ў сям'і пры́дзець, той са́мы шчаслі́вы* (звычай). Запруддзе. *І мо́жна здо́бію здзе́лаць.* Заазер'е.

**ЗДОР** *м.* Нутраны свіны тлушч; здор. *Здор салі́лі, напячэ́ць дзяро́нікаў, ма́залі і е́лі.* Гарадзец, Багданава, Дольдзева, Міцюкова, Партызаны. *Ма́залі дзяро́ннікі здо́рам.* Гарадзец. *Сядзі́ць і дзяро́нікі ма́жыць здо́ръм.* Сянно.

**ЗДО́ХЛАЕ** *н. зб.* Здыхляціна, падаль. *Я ні хадзі́ла па здо́хлае, ні е́ла.* Рэчкі.

**ЗДО́ХЛЯ, ЗДЫ́ХЛЯ** *ж.* 1. *зб.* Худая жывёла. *Заўце́хніць лю́біць сміі́цца: «Ба́пка, бяры́ гэ́ту здо́хлю, ты вы́гудуіш».* Нямойта. 2. *лаянк.* Пра слабага, худога, хваравітага чалавека. *Зды́хля ты! Худы́!* Сукрэмна. 3. Нешта, што мае пах здохлай жывёліны. *Гэ́ты грып зды́хляй смярдзі́ць.* Міцюкова.

**ЗДÓХНУЦЬ** *зак.* 1. *экспр.* Памерці. *А каб ты здох!* (праклён). Запруддзе. *Пад Каневам здох мядзвéдзь, нéшта ямý ні дахóдзіць.* Партызаны, Нямойта. 2. Засохнуць, прапасці. *І цьвяты́ звя́лі, ссóхлі, здóхлі.* Запруддзе.

**ЗДРÁСТУЙ** *выкл.* Вітанне. Нямойта.

**ЗДРÁХНУЦЬ** *зак.* Згнісці, струхнець. *Пáлка здрáхла, і на ёй апéнькі растýць.* Пожанькі, Сянно.

**ЗДРУЖЫ́ЦЦА, СДРУЖЫ́ЦЦА** *зак.* 1. Здружыцца, пасябравацъ. *Яны́ сьпéліся міжду сабóй, сдружы́ліся, у аднý лінію гнуць.* Запруддзе. 2. Злюбіцца. *А ён здружы́ўся з другóй, мужукá адбіў.* Багданава.

**ЗДРУТУВÁЦЬ** *зак.* Здратаваць, спляжыць. Фасаўшчына.

**ЗДРЫГАНУ́ЦЬ** *зак.* Зрушыць з месца. *А я забілася, здрыганýла пóчкі, мáтка мне і плáцце на смерць купіла.* Вялікі Азярэцк.

**ЗДРЫ́ЖНІК** *м.* Дрыжнік, слёзкі (расліна). *Нéйкъя тръвá ёсь здры́жнік.* Апечкі.

**ЗДРЭ́ХВІЦЬ** *зак.* Спалохацца. *Там дзéрава стаіць, як паглядзіш, на йім жывáя рысь шэ́рыя сядзіць – здрэ́хвіш.* Партызаны.

**ЗДУБАВÉЦЬ** *зак.* Высіліцца, знясіліцца. *Тут здубавéць мóжна: і тóя хóпіш, і тóя: мнóга рабóты.* Вялікі Азярэцк.

**ЗДУ́ЖАЦЬ** *зак.* Змагчы. *Дзед з бáбай ня здýжаюць éсці.* Запруддзе.

**ЗДУ́МАЦЬ** *зак.* Захацець, задумаць. *Хто як здýмаіць, так і лáдзіць цяпéр.* Партызаны. *Хто як здýмаў, той так і рабіў.* Цясішча. *Як хто здýмаў, так і называ́ў. Сам па сабé, як здýмаў, так і вучы́ўся.* Багданава, Гарадзец, Серкуці.

**ЗДУМÁЦЬ** *зак.* Здзьмуць. *С пóля здумéць снéх.* Каралевічы.

**ЗДУМЛЯ́ЦЬ** *незак.* Прыдумваць. *На Купáлу абы-штó здумлялі: калідóр запрýць, згарóду вы́вярнуць.* Патрызаны, Леснікова.

**ЗДУРЭ́ЦЬ** *зак.* Здурэць, зрабіць глупства. *Здурэ́іш, вучы́цца не бýдзіш, бýдзіш г... таптáць на фéрмі, як мáці.* Нямойта.

**ЗДУЦЬ** *зак.* Знішчыць. *Здýлі, зняслі дзярэ́ўню нéмцы.* Партызаны.

**ЗДЫ́БАЦЦА** *зак. экспр.* Памерці. *І зды́баўся ат п'я́нкі.* Чуцькі.

**ЗДЫХЛІ́НА** *ж.* Здыхляціна, здохлая жывёла, птушка. *Мóгуць здыхліны ў вóзіра ўпéрці.* Багданава. *Здыхліна валяецца, кóсткай патрэ́ш рукý, назáд ні варóчаешся, і рукá прахóдзіць.* Чуцькі.

**ЗÉЛЕНЬ** *ж. зб.* Няспелая садавіна, гародніна. *Як бы пагóда, зéлені хватáець.* Цясішча, Нямойта.

**ЗÉЛІЦЬ** *незак.* Гаварыць недарэчнае, балбатаць. *Абы-штó зéліш, ні дуры́ гълавы́, ні зялі.* Запруддзе.

**ЗÉЛЛЯ, ЗÉЛЬЯ** *н.* 1. Пустазелле. *Плахóя зéлля: лібідá, макры́ца, ˋасóт, пувіліка.* Леснікова. 2. Зёлкі (?). *Ё і зéлья дзеравéнскі.* Багданава.

**ЗЕЛЯНІ́НА** *ж. зб.* Зелень. *Лéтам хърашó, зеляніна, цвяты́.* Запруддзе. *Вянóк съўём, а там і жы́та, і цвет ідзé, які нáйдзем, і зеляніна, якý нáйдзем.* Багданава.

**ЗЕМЛЯНІ́КА** *ж.* Суніцы. *Як цвіцéць земляніка, нáда сабірáць, чай укýсны і палéзны.* Цясішча.

**ЗÉНКА** *н.* Вока. *Сагнýлася давáць мéшанку у сарáі, а кýрыца мне як дзібанýла ў зéнка.* Леснікова.

**ЗÉРКАЛА** *н.* Люстэрка. *Гадáлі на Каляды, у зéркала нéяк гаъдáлі, тýфлі брасáлі.* Буй, Багданава.

**ЗÉРНЕТЫ** *мн.* Зярняты. *Як якія зéрнеты мълацілі, нáда сціпнéна, акурáтна събрáць.* Гарадзец.

**ЗЕ́РНЕШКА** *ж.* Кропля лякарства (?). *Штук з дзе́сяць зе́рнешак дъста́ла – ка́плі ад даўле́ння.* Дольдзева.

**З'Е́ДЖАНЫ** *дзеепрым.* З'едзены. *Віцінáр скъзáў, віхá зьéджъна, карóва з'éла éту травíну.* Чуцькі.

**З'Е́ДНІК** *м.* Насякомае або чарвяк, якія шкодзяць расліне. *Нóвая сісцéма з'éднікаў бýльбы – чаървякí сівыя, аб'ядáюць усé карні.* Партызаны.

**З'Е́ЗДЗІЦЬ** *зак.* З'ездзіць, пабыць дзе-н. *У лес з'éздзіш за дрóўмі і ляжыш: так балíць усё.* Нямойта.

**З'Е́СЦІ** *зак.* 1. З'есці, ужыць у ежу. *Мáма з'éла парáдачна я́гад с ялéнцу, трóху сéрцам качáлася.* Партызаны, Багданава, Ульянавічы. *Блін зьеў і дó.* Гарадок. *Сынкá ў вайну ваўкí з'éлі.* Вялікі Азярэцк. 2. Пакусаць. *Мяне́ пчóлы з'ядýць глáтка.* Кішуроўшчына. 3. *перан.* Пазбавіць жыцця, здароўя. *Вот мяне́ сын і з'éў.* Запруддзе. *Вайнá мужукá з'éла.* Дольдзева. *Бадáй цябé ваўкí з'éлі!* (праклён). Партызаны.

**З'Е́СЦІСЯ** *зак.* Сцерціся ад жавання. *У дзе́да* [117 год] *кап табé адзíн зуп выбаліўся, тóлькі з'éліся, стáлі рóўна з дзя́снымі.* Алексінічы, Міцюкова.

**ЗЕЎ** *м.* Прастора паміж верхняй і ніжняй часткамі асновы пры тканні; зеў. *У зеў чаўначкóм кідáеш.* Багданава, Закур'е.

**З'Е́ХАЦЬ** *зак.* 1. Паехаць. *Ці ён кудыы з'éхаў? Ні знáю.* Самсоны. 2. *перан.* Асунуцца, пахудзець. *Я цяпéр пахудзéла крэ́пка, з'éхала.* Партызаны, Закур'е. ◊ З'Е́ХАЦЬ З ГЛУ́ЗДУ. Страціць розум, развагу. *З глýзду з'éхаў – якáя янá жанíшка!* Партызаны.

**ЗЁЛКІ** *мн.* Лекавыя травы. *Лячэ́бная травá – зёлкі.* Дольдзева.

**ЗЖАЎЦІ́ЦЬ** *зак.* Пафарбаваць у жоўты колер. *Зжаўцíць што? Хрантóн?* Запруддзе.

**ЗЖАЦЬ, ЖЖАЦЬ, СЖАЦЬ** *зак.* 1. Зжаць. *Жыта жжáлі, на пóлі стъя́ла ў снапáх.* Гарадок, Гарадзец. *Як прыйшлó то врэ́мя, што жаць нáда, і сжáла.* Багданава. 2. Сціснуць (пра хваравітае адчуванне ў грудзях). *Як зжáлі грýдзі.* Дольдзева.

**ЗЖЫВА́ЦЬ** *незак.* ◊ ЗЖЫВА́ЦЬ ДВА ВЯКІ́. Доўга жыць. Заазер'е.

**ЗЖЫ́ЦЦА** *зак.* Зрасціся. *Пáльцы зжылíся, нáда былó іх разразáць.* Запруддзе, Малы Азярэцк.

**ЗЖЫЦЬ, ІЗЖЫ́ЦЬ, ЖЖЫЦЬ, ІЖЖЫ́ЦЬ** *зак.* 1. Знішчыць, загубіць. *Янá за éта ягó зжылá.* Кляпчэва, Сянно. 2. Пазбавіцца, ліквідаваць. *Іх ужó іжжылі* [даўбешкі]. Дольдзева. 3. Пражыць. *Век свой у гóры, як я жжылá свой век.* Буй. *Ужó век іжжылí тут.* Серкуці. 4. Пераржыць, пражыць даўжэй за некага. *І тры мужукí зжылá бáба, і крэ́пкая былá.* Запруддзе, Баравікі.

**ЗЗА́ДУ, ІЗЗА́ДУ** *прысл.* Ззаду. *А воўк ззáду дзіцянё схапíў.* Партызаны. *Скрыню вязýць маладóй іззáду.* Дуброўкі.

**ЗЗАЛЕ́ТАСЬ** *прысл.* Тры гады таму. *Сёліта – ле́тъсь – зале́тъсь – ззале́тъсь.* Чуцькі.

**ЗІВА́ЛА** *н.* Ручка ў нахільнай аднашчылінная церніцы. *У нас такéя мя́лкі ёсь, а во зівáла.* Фасаўшчына.

**З'ІДА́ЦЬ** *незак.* Кусаць, заядаць. *Лю́ццы, пчóлы з'ідáюць мяне́.* Кішуроўшчына.

**ЗІ-ЗІ** *выкл.* Перадача гукаў гудзення насякомых (сляпнёў). *Сляпнí – зі-зі, яны, сляпнí, пад вóсень.* Багданава.

**ЗІК** *м.* Перыяд, калі каровы бегаюць, ратуючыся ад укусаў аваднёў; гіз. *Як вадні, зік у карóвы, хвасты падымуць і ліцяць дамóй.* Фасаўшчына, Гарадзец, Жохава.

**ЗІ́КАЎКА** *ж.* Здрок. Кішуроўшчына, Гарадзец, Міцюкова, Партызаны, Серкуці, Сукрэмна, Сянно.

**ЗІ́КАЦЦА** *незак.* Гізаваць. *Каро́ва зікаіцца, хвост на плечы і ляціць у хлеў.* Серкуці.

**ЗІКУ́Н** *м.* Здрок. *Зіку́н на пчалу́ пахо́жы, жыву́ць за ко́жай, як ста́нуць атжыва́ць і шавяліцца за ко́жай – каро́ва зіка́ецца.* Жохава.

**ЗІЛІНКУВА́ТЫ** *прым.* Зеленкаваты, з зялёным адценнем. *Мёт-вёрыс зілінкува́ты, цёмна-зілінкува́ты, ён, як і па́дзівый, амыла́жывыйіць.* Алексінічы, Сукрэмна, Сянно.

**ЗІМА́** *ж.* Зіма. *Къза́лі, што зіма́ бу́дзіць суро́вая, як тыя гады.* Гарадзец. *Сярдзітая зіма́, і крэ́пка сярдзітая.* Вялікі Азярэцк. *Дзе́лълі ло́ткі зімо́й, рабо́ты было́ ме́ній.* Дольдзева. *Мя́лінне засыпіш на ўсю зіму́, у карзінку насыпа́лі* [каля акна]. Фасаўшчына.

**ЗІМАВА́ЦЬ** *зак.* Зімаваць. *Я ні зіму́ю тут, к дацдэ́ е́ду.* Рэчкі, Пожанькі.

**ЗІМЛЯНЫ́** *прым.* ○ ЗІМЛЯНЫ́Я (ЗІМЛЯНЭ́Я) ПЧО́ЛЫ. Дзікія пчолы. *Зімлянэ́я пчо́лы нібыльшэ́я, мёт у іх ёсь. Зімляныя пчо́лы, як ко́сіш, гнязд́о іхныя і мёт ёсьці.* Багданава.

**ЗІ́МНІ** *прым.* Зімовы. *Німа́ зімнія адзе́жы.* Вялікі Азярэцк, Запруддзе.

**ЗІМО́ВЫ**, **ЗІМАВЫ́** *прым.* 1. Зімовы. Ракаў Засценак. 2. Азімы. *Дзе по́ле зімаво́е, уто́ркнуць ве́рбу.* Цясішча. *Пшаніца зімо́вая, жыта зімо́вае.* Гарадзец.

**ЗІМО́Й** *прысл.* Зімой. *Міко́ла то́жа быва́іць зімо́й, ня по́мню яко́га чысла́.* Самсоны.

**ЗІМО́ЎКА** *ж.* Зімовы час. *Грыбо́ў загато́віш харо́шых на зімо́ўку, мак быў, кано́плі.* Цясішча.

**ЗІМУВА́ЦЬ** *зак.* Зімаваць. *Жырало́ – э́та ве́рх я́мы сало́май зато́ркніш, і так карто́шка зімува́ла.* Леснікова, Нямойта, Партызаны.

**З'ІМШЫ́ЦЬ** *зак.* Сымшыць. *Зрубілі, з'імшылі, і кладу́ць ашлапнэ́я бро́ўны.* Вялікі Азярэцк.

**ЗІ́РКНУЦЬ** *зак.* Зірнуць, паглядзець. *І туды зіркніць, і туды.* Каралевічы.

**ЗІРНУ́ЦЬ** *зак.* Зірнуць. *Ён сра́зу зірне́ць і ска́жыць.* Фасаўшчына. *Па яко́й ву́ліцы ідзе́ш, зірне́ш, не заблу́дзішся.* Каралевічы, Запруддзе, Міцюкова. ЗІР, ЗЫРК. Зіркнуць. *Зір – а яна́ вісіць. Воўк ідзе́ць – зір в акно́!* Багданава, Дольдзева, Запруддзе, Партызаны. *Яна́ ўсё зір-зір, я заме́ціла, што гла́зы ніхаро́шыя.* Запруддзе. *Я зырк – шо там.* Каралевічы.

**ЗІЯ́ЦЬ** *незак.* Ззяць, блішчаць. *Бо́цікі – хром так і зія́іць.* Вялікі Азярэцк.

**ЗЛАВА́ЦЬ** *незак.* Злаваць, злавацца. *А ён даўно́ злуе́ць на мяне́.* Ульянавічы. *Бацька́м скажу́, дык яны злу́юць, мсцяць.* Запруддзе.

**ЗЛАВІ́ЦЬ** *зак.* Злавіць. *Ба́бы крыча́ць, што дзет злавіў вужа́ку, а ён крычыць, што гэ́та угро́ры.* Багданава.

**ЗЛАДЗЕ́ЙСКІ** *прым.* Зладзейскі. *Во зладзе́йская паро́да!* Леснікова.

**ЗЛА́ДЗІЦЬ** *зак.* Прыгатаваць. *Кра́скі сабіра́лі, гнілу́шкі, пръсна́к калі зла́джу.* Цясішча.

**ЗЛА́ЖАВАЦЬ** *незак.* Злазіць. *Яны па вяро́ўках зла́жавалі.* Закур'е.

**ЗЛА́ЖЫВАЦЬ** *незак.* Складаць. *Сянно́ – гаво́руць, там се́на зла́жывалі.* Чуцькі.

**ЗЛАЖЫ́ЦЬ** *зак.* Скласці, пабудаваць. *Ха́ту е́ту ба́цька сам злажыў.* Серкуці.

**ЗЛАЖЫ́ЦЬ** *зак.* Угнаіць, пакласці гной. *К бу́душчаму го́ду э́ту па́рыну бу́дуць ара́ць, наво́зам зло́жуць.* Самсоны.

**ЗЛАКАЦІЎШЫСЯ** *дзеепрысл.* Аблакаціўшыся. *І на палў і за сталóм злакаціўшыся сідзяць.* Багданава.

**ЗЛАМІЦЬ, ЗЛАМАЦЬ** *зак.* Паламаць. *Гразá ўдáрыла, éлку зламіла, дзяцéй пабіла.* Нямойта. ◊ ГАЛАВЎ ЗЛАМÁЦЬ. Скалечыцца, загінуць. *Там зáяц галавў злóміць, у тых кустáх.* Запруддзе.

**ЗЛАХ** *м.* Рэчы, якія доўга ляжаць. *Злах моль паéсь.* Запруддзе.

**ЗЛÉГЧЫ** *зак.* Загінуць. *І яны́ тут зьлягліі!* Цясішча, Запруддзе.

**ЗЛÉПЛІВАЦЬ** *незак.* Злепліваць. *Спаць не хóчацца, хоць ты злéплівай вóчы.* Партызаны.

**ЗЛÉХЧАНЫ** *прым.* Пакладаны, кастрыраваны. *Éта злéхчаны кьбáн.* Багданава.

**ЗЛÉЧВАЦЬ, ЗЛÉЧЫВАЦЬ** *незак.* Вылечваць. *Дўжа трўнна злéчваць. Такóе даўлéнне злéчываць дўжа трўдна.* Запруддзе.

**ЗЛЁТАМ** *прысл.* На ляту. *Пятўх злётам мне на плéчы.* Запруддзе.

**ЗЛІВÁЦЦА** *незак.* Зліваццa, станавіцца суцэльным. *Злівáіцца і карóй такóй рóбіцца.* Запруддзе, Багданава.

**ЗЛІВÁЦЬ** *незак.* Зліваць, выліваць. *Лахáнка – éта такі цэ́барчык вадў кўды́ злівáюць.* Фасаўшчына, Багданава, Заазер'е, Запруддзе, Неўгадава.

**ЗЛІЗÁЦЬ** *зак.* Злізаць. *Злізáла п, ды нямóжна.* Ульянавічы.

**ЗЛІЎКІ, ІЗЛІЎКІ, СЛІЎКІ** *толькі мн.* 1. Нятлустае малако. *Па дамáх б'юць мáсла са смітáны, а там* [у маслабойні] *– зліўкі.* Жохава, Міцюкова, Серкуці. 2. Вяршкі. *Прывёс мне ізлівак, пячэ́ння.* Буй. *Перагóніш мълакó – перагóн і сліўкі.* Багданава.

**ЗЛІХЧÁЦЬ** *зак.* Палягчаць, скастрываваць. *Зліхчáла – пяць рублёў атдалá.* Багданава, Гарадзец.

**ЗЛІЦЬ** *зак.* Заліць, намачыць. *Пасцілкі злілі, і анбáр ні зыгарэ́ўся.* Міцюкова.

**ЗЛІШКІ** *мн.* Лішкі. *Здаём злішкі мълькá.* Малы Азярэцк.

**ЗЛІЯННЕ** *н.* ○ ЗЛІЯННЕ КРÓВІ. Інсульт. *Былó б зліянне крóві, як бы ні кроў з нóсу.* Партызаны, Алексінічы.

**ЗЛО** *н.* Злосць. *Пятрóк, ты тóжа зла пакінуў.* Міцюкова, Чуцькі. *Ён ны нас зло ймеў.* Заазер'е.

**ЗЛÓДЗЕЙ, ЗЛÓДЗІМ** *м.* Злодзей. *Чый бáцька злóдзей, той дзвéры ні зачыняў.* Запруддзе. *Дрыжáць рўкі, як у злóдзея.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Сянно. *Крáдуць – знáчыць злóдзей.* Леснікова. *Ён пірыдáў другóму злóдзіму.* Запруддзе.

**ЗЛОСЦЬ, ЗЛОСЬ** *ж.* Злосць. *Стаў гаварыць пад злосць.* Запруддзе. *Як злось камў, то усé кáжуць.* Багданава.

□ *У злóсці нямá мілóсці.* Каралевічы, Нямойта, Партызаны, Рэчкі.

**ЗЛУПІЦЬ** *зак.* Злупіць, садраць. *А кап табé воўк шкўру злупіў!* (праклён). Партызаны, Запруддзе.

**ЗЛУЧÁЦЬ** *незак.* Злучаць, спараваць. *Кабы́лу злучáюць з жырапкóм, пяцьдзесят нядзéль нóсіць.* Багданава. *Пóзна злучы́лі карóву.* Фасаўшчына.

**ЗЛУЧЫЦЦА** *зак.* Сустрэцца, пазнаёміцца. *Такія людцы злучы́ліся ў маёй хáце.* Баравікі.

**ЗЛУЧЫЦЬ** *зак.* Аб'яднаць. *Нáда тры дамы́ злучы́ць.* Неўгадава.

**ЗЛЫ** *прым.* Злосны. *Нікóга ні злавілі, дык яны́ злы́я такéя, параскраснéліся.* Леснікова. *Събáкі злы́я, дзéўкі – чужы́я* (з песні). Чуцькі, Сянно. ○ ЗЛÁЯ РÓЖА. Від рожы (хваробы). *Злўю рóжу загавóрвалі, вылéчвалі.* Баравікі.

**ЗЛЫ́ДНЯ** *ж.* Злыдзень, злы чалавек. *Пъдвóдзіць збóку: «Гэ́та я – злы́дня твая́».* Запруддзе, Вялікі Азярэцк.

**ЗЛЮБІ́ЦЦА** *зак.* Пакахаць. *З не́йкай злюбі́ўся. Яна́ з ім злюбі́лася, вы́йшла зáмуж.* Леснікі, Багданава, Запруддзе, Каралевічы, Партызаны.

**ЗЛЮ́КА** *агульн.* Злосны. *Саъба́ка – злю́ка, у дом не пускáіць.* Запруддзе.

**ЗЛЯЖА́ЦЦА** *зак.* Зляжацца, паляжаць працяглы час. *Злéжыцца сыр – вы́сушым.* Багданава, Леснікова.

**ЗЛЯКА́ЦЦА** *зак.* Спужацца, спалохацца. *Злякáўся – як сабáка ці воўк, а то зняцéўку сам спужáісся.* Вялікі Азярэцк, Савінічы.

**ЗЛЯКНУ́ЦЦА** *зак.* Злякнуцца, захварэць са сполаху. *Ён не то спужáўся, а злякну́ўся.* Каралевічы.

**ЗЛЯПІ́ЦЬ** *зак.* 1. Зляпіць. *Стрыжы́, пахóш пад лáставък, на франтóне гнядзó злéпіць.* Вялікі Азярэцк. 2. *перан.* Пашыць неакуратна, хутка, на скорую руку. *Я самá трóху жалéтку зляпі́ла, як шы́ю, так і знашу́.* Чуцькі.

**ЗЛЯЦЕ́ЦЬ** *зак.* Упасці. *Зляцéла зóрка.* Савінічы.

**ЗЛЯЧЫ́ЦЬ**, **ІЗЛЯЧЫ́ЦЬ** *зак.* Вылечыць. *А́гірам я́зву злячы́ў.* Алексінічы. *Ізлячы́ў я́зву жалу́дка мой мужы́к.* Алексінічы.

**ЗМАГА́ЦЦА** *незак.* Паспяваць. *Я з ей ні змъгáюся іці́.* Савінічы.

**ЗМАГЧЫ́** *зак.* Змагчы. *Сам ня змóжъш, лю́дзі змóжуць.* Гарадзец.

**ЗМАГЧЫ́СЯ**, **СМАГЧЫ́СЯ** *зак.* Змагчыся, стаміцца, аслабець. *Я малакó вазі́ў гадóў дзéсіць-пітнáццаць, так ужó змóгся.* Рэчкі, Ульянавічы. *Смóжыцца – чуць жывы́.* Фасаўшчына.

**ЗМАЖНЕ́Й** *прысл.* Заможней. *Хто змажнéй жыў, той вéяў.* Багданава.

**ЗМА́ЗВАЦЬ** *незак.* Змазваць. Партызаны.

**ЗМА́ЗКА** *ж.* Мазь. *Карóву змáзваюць змáзкай ванючай, каб лáска не бéгала па ёй.* Партызаны.

**ЗМАЛАЦІ́ЦЬ** *зак.* Змалаціць. *За адну́ ноч змалóцім тры ёўні, і так усю́давъх.* Нямойта, Фасаўшчына.

**ЗМА́ЛІНКУ** *прысл.* Змалку, з маленства. *Я змáлінку яго́ гудувáла.* Багданава.

**ЗМА́ЛКУ, ІЗМА́ЛКУ** *прысл.* Тое ж. *Я змáлку гурувáла.* Дольдзева, Рассвет, Закур'е. *І так іх ізмáлку звáлі.* Партызаны.

**ЗМАЛО́ЦЬ** *зак.* Змалоць. *У жóрны змéліш, спячэ́ш, во і рáдась, во і хлеп.* Багданава, Нямойта.

**ЗМА́НІВАЦЬ** *незак.* Зводзіць. *Гэ́та пяту́х змáніваіць курэ́й.* Нямойта.

**ЗМА́СЛІЦЦА** *зак.* Пакрыцца тлушчам. *Змáсліцца мак, аж блішчы́ць у сту́пі.* Міцюкова, Ульянавічы.

**ЗМАЧЫ́ЦЬ** *зак.* Намачыць. *Кап ні змачы́ць кажу́х, навéрх армя́к нъдзявáлі.* Савінічы.

**ЗМЕ́НА**, **СМЕ́НА** *ж.* 1. Прамежак працоўнага часу. *На нну смéну бу́дзіць рабóтаць.* Запруддзе, Карпавічы. 2. Частка поля пры трохпольным севазвароце. *Былó тры пóлі, тры́ змéны: аднá – пáрына, а другáя – пад азі́мыя, а трэ́цція пыд йіравэ́я.* Мянюцева, Самсоны.

**ЗМЕ́СЦІСЯ** *зак.* Змесціся, сцерціся. *Вéнік змяцéцца – то галéнь ці драбу́ш.* Гарадзец.

**ЗМЕША́ЦЬ** *зак.* Паскародзіць (?). *Катóраму ўзарóм, катóраму змешáім дабрó.* Запруддзе.

**ЗМІКІ́ЦІЦЬ**, **СМІКІ́ЦІЦЬ** *зак.* Скеміць, змікіціць. *Я зрáзу змікíціла, што нáда баяцца.* Баравікі, Міцюкова. *Тóня смікíціла ажны тады, што ён дурáк такí.* Міцюкова.

**ЗМІРА́ЦЬ** *незак.* Змяраць. *Змірáў панізóўшы.* Заазер'е.

**ЗМІРО́НА** *прысл.* Ціха. *Штó-та сабáка змірóна ліжáў, ён злюка.* Запруддзе.

**ЗМІРО́ПАСЬ** *ж.* Сцішанасць. *Нéшта змірóпась – ляжыць сабáка.* Запруддзе.

**ЗМІРЫ́ЦЦА** *зак.* Супакоіцца, прымірыцца. *Я за гэ́ту пастрóйку ні магý змірыцца – зълътáя былá пастрóйка – разбурылі.* Баравікі, Міцюкова.

**ЗМІТА́ЦЬ** *незак.* Змятаць. *Пéчкі змітáлі да усхóда сóнца, шýмку збірáіш і вынясеш кyды захóчыш, а дзе сабáкі брэ́шуць, тады ў тýю стóрану зáмуш выйдзіш.* Заазер'е.

**ЗМІТА́ЦЬ** *незак.* Сшыць нямоцна, рэдкімі шыўкамі. *Змітáў мацер'ял, а патóм шый.* Каралі, Турава.

**ЗМІ́ЦЕР** *м.* Дзень ушанавання Святога Дзмітрыя (26 кастрычніка).

□ *Да Змíтра дзеўкі хíтры, а пасля Змíтры хоць ты імí ж... вытры.* Вялікі Азярэцк. □ *Да Змíтры – дзéўкі хíтры, а пóсле Змíтры – хоць ж... вытры, а пóслі Міхáйлы – дык папіхáйлы.* Каралевічы.

**ЗМІША́ЦЦА** *зак.* Змяніцца, страціць традыцыйны парадак. *Свет змішáўся, лю́дзі перърадзíлісі.* Ульянавічы.

**ЗМІЯ́** *ж.* Гадзюка. *Зьмíя як укýсіць, тады зъгавáрывалі, к шаптýхам хадзíлі.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Каралевічы. *Медуніцу нáда прыкладáць, éсьлі зьмíя ўкýсіць. Éслі зьмíя ўкусíць, кóрань мéдуніцы скóрынька грызí.* Партызаны.

**ЗМО́ВІЦЬ** *зак.* Прамовіць, сказаць. *Сістрá слóўца змóвіла: / «Ні касí, брáцец, па лугý травý»* (з песні). Баравікі.

**ЗМО́ГА** *ж.* Змога, магчымасць. *У кагó ёсць змóга, той пячэ́ць кърьвáй, хто не, а бальшынствó не пякýць.* Мянюцева.

**ЗМО́ЖНА** *прысл.* Заможна. *Змóжна як стáла ў калхóзе, стáлі ў калхóз перахóдзіць.* Партызаны.

**ЗМО́КНУЦЬ**, **ІЗМО́КНУЦЬ** *зак.* Вымакнуць. *Змóкла наскрóзь. Ізмóкла ўся.* Гарадзец.

**ЗМО́ЎЧАЦЬ** *зак.* Прамаўчаць. *А гэ́ты спакóйны, ці відзíў, ці ня відзíў – змóўчыць, нічóга худóга ні зрóбіць.* Вялікі Азярэцк, Запруддзе.

**ЗМУ́ЛЯЦЬ** *зак.* Змуляць, сцерці. *Змýляў каню́ плéчы, дрэ́нный хамýт.* Гарадзец.

**ЗМУРАВА́НЫ** *дзеепрым.* Змураваны. *Змуравáна ўручнýю, гэ́та пáнскі фундáмент.* Баравікі.

**ЗМУХЛЮВА́ЦЬ** *зак.* 1. Змахляваць, ашукаць. *Як хто змухлювáў, пра тагó і гаварылі.* Марозаўка. 2. Украсці і распрадаць. *Кóнімі гандлю́юць, зьмухлювáлі ўсіх кóні.* Багданава.

**ЗМУ́ЧАЦЦА** *зак.* Замучыцца. *Як лáска дзярэ́ць карóву па спінé, тáя змýчаецца, маълаъкá не даéць.* Партызаны, Багданава, Самсоны.

**ЗМУ́ЧАЦЬ** *зак.* Замучыць. *У нарóдзе гавóраць, лáскі тóжа карóву ссуць і пóверху пóўзаюць, ды так змýчаюць, што кърóва усÿ мóкрая стáнецца.* Вялікі Азярэцк.

**ЗМЫ́ЦЦА** *зак.* Змыцца. *Янó ўсё змылася.* Леснікова.

**ЗМЫЦЬ** *зак.* 1. Змыць, абмыць. *Дзяцёнка нáда змыць, папырскаць вадóй, тады абы-куды выліць.* Багданава, Партызаны. 2. *перан.* Украсці. *І не аглéдзеўся, як змыла дзéньгі.* Дольдзева.

**ЗМЯІ́НЫ**, **ЗМЯІ́ННЫ** *прым.* Змяіны. *Як змяіны укýс, загавóр памагáіць.* Партызаны. *Яд змяінны.* Вялікі Азярэцк.

**ЗМЯ́КНУЦЬ** *зак.* Сасмягнуць, перасохнуць. *У рóці ўсё змя́кніць.* Мянюцева.

**ЗМЯ́КНУЦЬ** *зак.* Змокнуць, вымакнуць. *У такі дош вы саўсём змя́кніця.* Нямойта, Цясішча.

**ЗМЯЛЬЧÓНЫ** *дзеепрым.* Здробнены. *Змяльчóная салóма, мéлкая.* Жохава.

**ЗМЯНІ́ЦЦА** *зак.* 1. Змяніцца з выгляду. *А мы ш пъдраслі, змянілісі.* Гарадзец. 2. Пераапрануцца. *Хоць ба змяніцца ўзяць што.* Партызаны.

**ЗМЯНІ́ЦЬ** *зак.* Памяняць. *Як гармóнік мáлец сціснуў, нáда змяніць дзéўку, уцячэш тады́.* Партызаны, Латыгаль, Неўгадава.

**ЗМЯРЦВÉЎШЫ** *дзеепрым.* Замярцвелы, адзервянелы. *Змярцвéўшы рукá, нічóга ня чýю.* Нямойта.

**ЗМЯРЦВÉЦЬ** *зак.* Замярцвець, адзервянець. *Пáльцы змярцвéюць, расціраю іх спіртам.* Нямойта.

**ЗМЯСІ́ЦЬ** *зак.* 1. Змясіць. *Змéсюць, змéсюць той сыр.* Запруддзе. 2. Стаптаць. *Кынáвы скот змясіў.* Баравікі.

**ЗМЯ́ЦЦА** *зак.* Змяць (пра лён). *Змя́лася* [жменя лёну] *– я набóк, і другýю бярý.* Фасаўшчына.

**ЗНАВÁЖВАЦЬ** *незак.* Угнойваць. *Знавáжваем гарóд карóўім удабрэннем.* Партызаны.

**ЗНАК** *м.* 1. Знак, след. *Як пыжáр, то дзе ты ня вóзьміся, пыглáдзісся і бýдзіць цёмны знак на цéле дзіцяці.* Чуцькі, Нямойта. 2. Прыкмета. *Па знáках карóву пъзнавáлі.* Фасаўшчына, Закур’е.

**ЗНАКАМÉЙ** *м.* Знаёмы. *Мóжа які бáцькаў знъкамéй.* Малы Азярэцк.

**ЗНАКÓМКА** *ж.* Знаёмая. *Зъйшлá к нам як знакóмка.* Нямойта.

**ЗНАКÓМСТВА** *н.* Знаёмства. *Ён сказáў: «На знакóмства пъвядý».* Багданава.

**ЗНАКÓМЫ** *м.* Знаёмы. *Лáдна, як знакóмы, зраблю́.* Партызаны.

**ЗНÁЛІЦА** *ж.* Адваротны бок тканіны, бялізны, адзення. *Гэ́та на ліцó, а гэ́та – знáліца.* Заазер’е, Кавалі.

**ЗНАНАМІ́ТЫ** *прым.* Знакаміты, вядомы. *Дóктър былá ў нас знънамітъя, залéтысь памёрла.* Чуцькі.

**ЗНАСІ́ЛІЦЬ**, **ЗНЯСІ́ЛІЦЬ** *зак.* Згвалтаваць. *Знасіліў яé тэй злóдзей.* Запруддзе. *Дзéўку тýю ён знясіліў.* Запруддзе.

**ЗНАСІ́ЛЬНІЦЬ** *зак.* Тое ж. *Знасільнілі дзéвачку – ім дáлі дванáццаць гадóў.* Запруддзе.

**ЗНАСІ́ЦЦА** *зак. перан.* Аслабець. *Знасілася я: і касíла самá, і ткáла – і ўсё.* Карпавічы, Багданава, Баравікі.

**ЗНАСІ́ЦЬ** *зак.* Знасіць (абутак, адзенне). *Ні адны́х бацінак ні знасіла.* Нямойта.

**ЗНÁТНЫ** *прым.* Кемлівы, разумны. *Ён знáтны!* Пожанькі.

**ЗНÁХАР** *м.* Знахар. *Паслéдні дзяцёнак у мáткі мóжа быць знáхарам.* Парэчча.

**ЗНАХÓДКА** *ж.* Знаходка. *Знахóдку дзялілі, калі знайшлі ўдвух.* Міцюкова.

**ЗНÁЦЦА** *незак.* Знацца, сябраваць, падтрымліваць адносіны. *Янá с паліцáямі знáлася.* Розмыслава.

**ЗНАЦЬ** *незак.* Ведаць. *Балéсць цябé знáіць.* Фасаўшчына, Багданава, Заазер’е, Запруддзе, Міцюкова, Нямойта, Пожанькі, Рэчкі, Неўгадава.

**ЗНÁШНА** *прысл.* Прыкметна. *У пáна зімля́ былá акóпына кынáвуй, штоб знáшна былá.* Баравікі.

**ЗНЕМАГЧЫ́** *зак.* Захварэць. *Ён знямо́г, не хадзі́ў, пот лі́ў з яго́, ста́лі каза́ць, мо́жа, спужа́ўшыся.* Партызаны.

**ЗНЕ́СЦІ** *зак.* Знесці яйка. *Э́та ш ка́ждая ку́рыца знясе́ць.* Вялікі Азярэцк.

**ЗНЕ́СЦІ, ЗНЯСЦІ́** *зак.* 1. Занесці, перанесці. *Дро́вы у са'рай зне́слі.* Багданава, Апечкі, Баравікі, Серкуці. *Знясслі́ яго́ на ко́йку.* Чуцькі. 2. Сагнаць, пазбавіцца. *Нъпаха́ць ста́ла нъга́, но́хаць зне́сла.* Нямойта.

**ЗНЕ́СЦІСЯ** *зак.* Знесці яйка. *Куры́ца зніс́ла́ся.* Нямойта.

**ЗНЕ́СЦІСЯ** *зак.* Перастаць існаваць. *Бы́ў кра́сны пасёлак, ціпе́р ён знёсся.* Запруддзе.

**ЗНІ́ЗУ** *прысл.* Знізу. *Зве́рху ён бе́лый-белый, а зні́зу жаўця́вый.* Карпавічы.

**ЗНІСТАЖА́ЦЬ** *незак.* Знішчажаць, знішчаць. *Зністажа́юць я́гады.* Пожанькі, Багданава.

**ЗНІСТО́ЖЫЦЦА** *зак.* Знішчожыцца, знішчыцца. *Бе́лых грыбо́ў, хрушчы́, лісі́чкі – усё зністо́жылася.* Цясішча.

**ЗНІЦЭ́ЦЬ** *зак.* Стаць тонкім і кволым. *Зніцэ́лі гуркі́, на́да, што́бы травы́ не было́ ні́якай, што́бы зямэ́лька не была́ ўбі́тай.* Розмыслава.

**ЗНІШЧА́ЦЬ** *незак.* Знішчаць, знішчажаць. *Кусты́ знішча́юць, дрэ́вы знішча́юць.* Запруддзе.

**ЗНО́БА** *ж.* Дрыжыкі. *Така́я зно́ба, што гато́ва ў пе́чку улéзць.* Партызаны.

**ЗНО́ЎДАЦЬ** *незак.* Сноўдаць. *Уро́члівы, врэ́дны чълаве́к, бу́дзе куня́ці і зно́ўдаць.* Манголія.

**ЗНО́ЎКУ** *прысл.* Спачатку, спярша. *Там як здзе́лана зно́ўку, так і наве́к.* Заазер'е.

**ЗНУРО́НЫ** *прым.* Знясілены. *Я ўжо ста́ръя, знуро́нъя.* Каралевічы.

**ЗНУТРЫ́** *прысл.* Знутры. *Выбіра́ю сцень, з рук с касце́й, знутры́, з ру́сых бро́ў, з ру́сых валасо́ў* (з замовы). Багданава.

**ЗНЫРКНУ́ЦЬ** *зак.* Нырнуць. *Навярху́ зныркну́, і як узныркне́ць наве́рх, плыве́ш к бе́рагу.* Багданава.

**ЗНЮ́ХАЦЦА** *зак. перан.* Знюхацца, зблізіцца, пасябраваць. *Зню́халіся на стро́йцы.* Багданава.

**ЗНЯЦЭ́ЎКУ, ЗНІЦЭ́ЙКУ** *прысл.* Знянацку. *А то зняцэ́ўку сам спужа́іся.* Вялікі Азярэцк. *Зніцэ́йку прыехалі, харашо́, а то я б ноч ні спа́ла, каб зна́ла.* Міцюкова.

**ЗНЯЦЬ, СНЯЦЬ** *зак.* 1. Зняць. *Усе́ дзе́ньгі сы́муць с кні́шкі.* Вялікі Азярэцк. 2. Вызваліць ад чаго-н. *Яго́ му́сіць сьня́лі с рабо́ты.* Запруддзе. 3. Скасіць. *Пе́рвы уко́с сні́муць се́на.* Багданава. 4. Паменшыць. *Два гады́ сня́лі, а тры атсе́дзеў.* Серкуці. 5. Адмяніць. *А я пра́хціку зніла́ ў Вы́баргу, ні магу́ жыць там.* Рэчкі. ◊ ЯК РУКО́Й СНЯЛО́. Поўнасцю прайсці (звычайна пра боль). Багданава.

**ЗО́БІК** *м.* Валлячок (пра пчалу). *У зо́біку у пчалы́ некта́р.* Запруддзе.

**ЗО́ЛАК** *м.* Золак, першыя пробліскі світання. *Зо́лак – э́та ра́ння.* Кляпчэва, Гарадзец, Дольдзева, Запруддзе, Савінічы, Фасаўшчына. ЗАЛАЧО́К *ласк.* *Рассвіта́іць, на зълачо́к пашло́.* Дольдзева.

**ЗО́ЛАТА** *н.* Гульня, пры якой выкарыстоўвалі прадмет з бляскам. *Гуля́лі ў зо́льта. Сідзя́ць мъладзёш. Я бяру́ мале́нькі угалёк, дзяржу́ ў рука́х. Ка́жды сядзі́ць і так ру́кі дзяржы́ць* [складзенымі]. *Я падыхо́джу да ко́жнага і каму́ аднаму́ угалёк упушчу́. Я гъвару́: «Зо́льта, ка мне!» Той, каму́ я ўпусці́ў зо́льта, выска́квъіць і но́сіць «зо́льта».* Вялікі Азярэцк.

□ *Зóлата і ў пóпілі відáць.* Сянно.

**ЗО́ЛКА** *прысл.* Холадна. *Вóсенню прóшлы гот зóлка быó, грыбóў ні быó ніякіх.* Жохава.

**ЗО́ЛКІ** *прым.* Сіберны, пранізлівы. *Зóлкі хóлът.* Кішуроўшчына.

**ЗОЛЬ** *ж.* Халоднае, дажджлівае надвор'е. *Золь тъкáя, зóлкі дош.* Кішуроўшчына, Партызаны.

**ЗО́РКА** *ж.* Зорка. *Зóрак мнóга – éта Мядзвéдзіца.* Буй, Багданава, Гарадок, Міцюкова, Ракаў Засценак, Турава.

**З-ПАД, С-ПАТ** *прыназ.* З-пад. *Я з Кастры́ц, з-пад Лéпля.* Закур'е. *Сáмыя рáннія грыбы́, яны́ с-пат снéгу растýць.* Кавалі, Кляпчэва.

**ЗРАБА́ТЫВАЦЦА** *незак.* Зношвацца. *Падбівáлісь падóскі, кап янó ні зръбáтывълась.* Гарадзец, Цясішча.

**ЗРАБІ́ЦЬ** *зак.* Зрабіць. *Трэ́ба пот зрабíць, кап хлеп упёкся.* Савінічы, Багданава.

**ЗРАБЯ́ЦІЦЦА** *зак.* Здзяцінець. *Тáя хазя́йка як зрабя́цілася, вы́гнала іх.* Багданава.

**ЗРАДКА́, ЗРАДКУ́** *прысл.* Зрэдку. *Я так зрадкá п'ю лякáрства.* Нямойта, Партызаны. *Зрадкý хто сéяў канóплі.* Багданава.

**ЗРАЖДЖА́ЦЦА** *незак.* Нараджацца. *Із ікры́ палóннікі зраждждáюцца.* Багданава.

**ЗРА́ЗУ** *прысл.* Спачатку. *Пятýх зрáзу дзіўбанéць, а тады́ крылáмі б'ець.* Мянюцева. *Зрáзу рублéй дванáццаць дáлі пéнсіі, а тады́ двáццаць.* Партызаны, Алексінічы, Запруддзе.

**ЗРАІ́ЦЦА** *зак.* Аслабець (пра пчол). *Зраíліся пчóлы, іх кармíць нáда.* Фасаўшчына.

**ЗРАНІ́ЦЬ** *зак.* Дачасна перапыніць (цяжарнасць). *Дзірвя́ныі вёдры пыцігáла – і зранíла дзіця́.* Багданава.

**ЗРА́ННЯ** *прысл.* Раніцай. *Зрáння пасéялі бýльбу.* Апечкі, Чуцькі.

**ЗРАСЦІ́СЯ** *зак.* Зрасціся. *Мóгуць пáльцы зрасцíся ў аднó мéсца.* Каралевічы.

**ЗРАЎНАВА́ЦЦА, ЗРАЎНЯВА́ЦЦА** *зак.* 1. Параўнацца, апынуцца побач. *Тóлькі зраўнавáлася з Гальвачáмі, а агóнь бліс у вóчы.* Розмыслава. 2. Стаць аднолькавымі. *Дзярэ́ўня і гóрад нікагдá ні зраўнýюцца.* Нямойта, Партызаны. 3. Паставіць нароўні, параўнацца. *Во, зраўня́ўся ты з старóй бáбай!* Нямойта.

**ЗРАЎНАВА́ЦЬ, СРУЎНУВА́ЦЬ** *зак.* 1. Зраўняць, зрабіць аднолькавым. *Нам сруўнувáлі пéнсію, нам абíдна.* Запруддзе. 2. Апухнуць, ацячы. *Усё зраўнавáла ліцó, як óсы пакусáлі.* Партызаны.

**ЗРУБ, ІЗРУ́Б, ЗРУП, ІЗРУ́П** *м.* Зруб. *Зруп у калóдзізі дзірвя́нны, асінъвы.* Каралевічы, Гарадзец, Заазер'е, Запруддзе, Нямойта. *Плáцім пут тамý чълавéку, што зруп рубíў.* Серкуці. *Дзет мой купíў ізрýп і пъстáвіў яé, гэ́ту хáту.* Гарадзец. *У нáшым калóдзізі ізрýп дзіръвя́ны.* Заазер'е. *Гарнó ў кýзні буó – ізрýп зямлёй насы́піцца, гърлавíна с кірпічá вы́хад мéла.* Запруддзе. *Астáўся ізрýп, яны́ здзéлълі кры́шу.* Гарадок.

**ЗРУБІ́ЦЬ** *зак.* Зрубіць, паставіць зруб. *Хóчаш, кап хáту зрубíлі?* Нямойта, Вялікі Азярэцк. *Пакýль зрýбюць, ён хундáмент палóжыць.* Заазер'е.

**ЗРУГА́ЦЬ** *зак.* Аблаяць. *Мянé ш так мáма зругáла, што нíчóга ні напрáла.* Нямойта, Вялікі Азярэцк, Цясішча.

**ЗРУ́ШЫЦЦА** *зак.* Зрушыцца. *Зрýшыліся дзіскі ў пазванóчніку – гот дáжа два кілаграма нільзя́ быó падымáць.* Розмыслава.

**ЗРЫЦЬ** *зак.* Перарыць. *Крот усё зры́іць.* Серкуці.

**ЗРЭ́Б'Е, ІЗРЭ́Б'Е, ЗРЭ́Б'Я** *н.* 1. Грубая кастрывая кудзеля. *Кудзе́ля – е́та валакно́. Хужэ́йшая – ізрэ́б'я.* Багданава. *Ізрэ́б'е і ку́жъль былі́, як трапа́лі лён.* 2. Палатно з такой кудзелі. *Пълатно́ с патръп'я – ізрэ́б'е называ́лася.* Вялікі Азярэцк. *Зрэ́б'е праду́ць на штаны́.* Дольдзева, Запруддзе, Каралі. *Зрэ́б'я* [ачоскі] *с кудзе́лі, на зрэ́б'і пальто́ пашы́лі.* Дольдзева, Гарадзец.

**ЗРЭ́БНІНА, ЗРЭ́БЛІНА** *ж.* 1. Ільновалакно з ачоскаў. *Што ва́ліцца – гэ́та зрэ́бніна, а што ў рука́х – ку́жаль.* Серкуці. 2. Зрэбная тканіна. *Гэ́та кужэ́лнае на раба́шкі, а зрэ́бніну – на штаны́, на пасці́лкі.* Буй, Багданава, Марозаўка, Парэчча. *Зрёбніну пра́ла на мяшкі́.* Серкуці. 3. Зрэбная сарочка. *Зрэ́бліны дра́ліся – саро́чкі.* Чуцькі.

**ЗРЭ́БНЫ, ІЗРЭ́БНЫ** *прым.* 1. Зроблены са зрэб'я. *Зрэ́бнае – э́та было́ таўсто́е палатно́.* Марозаўка, Багданава, Багданава[1], Манголія, Турава, Чуцькі. 2. Пашыты са зрэбнага палатна. *Штаны́ ізрэ́бныя закаса́іш і бъсяко́м пъ расе́.* Дольдзева. *А тут ужо́ ізрэ́бные шы́лі.* Буй.

**ЗРЭДЗЬ** *прысл.* Зрэдку. *Я яму́ зрэдзь дам гарэ́лкі.* Каралевічы.

**ЗРЭ́ЗАЦЦА** *зак.* Затупіцца. *Яшчэ́ клёп ні зрэ́заўся* [у касы]. Нямойта.

**ЗРЭ́ЗАЦЬ** *зак.* Спілаваць. *Зрэ́заў бярэ́зіну, а ў асінавай ро́шчы – нарэ́заў ясенніку.* Нямойта, Багданава.

**ЗРЭ́ННЯ** *н.* Зрок. *Далёка відзела, зрэ́ння нарма́льнае было́.* Багданава.

**ЗУБ** *м.*, **ЗУ́БЫ, ЗУБЫ́** *мн.* 1. Зуб. *Дзве бабу́лі без зубо́ў гавары́лі пра любо́ў* (жарт). Партызаны, Багданава, Нямойта, Самсоны, Сянно, Цясішча, Закур'е. 2. Насечка. *Ва́лікі такія з зуба́мі.* Фасаўшчына. 3. Хвароба злакавых раслін; спарынння. *Зубы́ быва́юць у жы́це.* Гарадзец, Розмыслава, Фасаўшчына. ЗУБО́К *памянш.* *Зупкі чо́рныя быва́юць у жы́ці.* ◊ ЗУБ НА ЗУБ НЕ ПАПАДА́ЕЦЬ (ТРАПЛЯ́ЕЦЬ). Пра дрыжыкі ад моцнага холаду ці страху. *Зуб на зуб не папада́ець. Зуб на зуб ні трапля́ець, я адчыні́ла дзве́ры.* Савінічы. ◊ ЗУ́БЫ НА ПАЛІ́ЦУ. Галадаць. *Сядзіць – зу́бы на палі́цу.* Партызаны.

**ЗУБІ́ЛА** *н.* Ручны інструмент для апрацоўкі металу і каменю; зубіла. *Зубі́ла – рубі́ць жале́за.* Мянюцева, Сукрэмна.

**ЗУБІ́ЦЬ** *зак.* Рабіць насечкі. *Зубі́лі серп зубі́лам.* Сукрэмна, Жохава.

**ЗУ́БНІК** *м.* Трава ад зубнога болю. *Траву́ зу́бнік па́руць, ныбіра́юць у ро́т, каб з зу́ба чырвячо́к вы́йшуў.* Нямойта.

**ЗУБУВА́ЦЦА** *незак.* Забывацца, пераставаць помніць. *Ужо́ зубува́іцца ба́ба.* Гарадзец.

**ЗУ́Б'Я** *н. зб.* 1. Зубы ў граблях. *Зу́б'я дзе́лалі дубо́выя, а лу́ччы дзе́лыць крапчэ́й з рабі́ны.* Леснікова. 2. Зазубрыны. *Зу́б'я нарабі́ў у касе́, узубі́ў касу́.* Розмыслава.

**ЗУ́ДЗІЦЬ** *незак.* Свярбець, турбаваць, непакоіць. *Зу́дзіць, як шо балі́ць.* Фасаўшчына.

**ЗУРУНДУВА́ЦЬ** *зак.* Узяць у арэнду. *Прые́хуў Васі́ль і зурундува́ў зямлю у Няме́йкуві.* Міцюкова.

**ЗЧАСА́ЦЬ** *зак.* Пачасаць. *Зчэ́шым во́ўну.* Каралевічы.

**ЗЫ́БАЎКА** *ж.* Люлька, якую падвешвалі на жардзіну, шост. *Зы́баўка тут вісе́ла на ге́тым шасту́, кап дзіцёнка зы́баць.* Заазер'е.

**ЗЫ́БАЦЦА** *незак.* Калыхацца, таптацца. *Сыбяру́цца ў адзін крух і зы́блюцца, пяю́ць рэ́ска.* Леснікова.

**ЗЫ́БЕЦЬ** *незак.* Калыхаць. *Зы́бець дзяце́й не́калі было́.* Заазер'е.

**ЗЫ́БІЦЦА** *незак.* Гойдацца. *У нас такія плавы́, зы́біцца, ідзе́ш – яно́ зы́біцца.* Заазер'е.

**ЗЫ́БНУЦЦА** *зак.* Падвярнуцца. *Зы́бнулася нъга́.* Вялікі Азярэцк.

**ЗЫГЗА́ГАМ** *прысл.* З паваротамі, зігзагам. *Зыгза́гамі рака́ была́, спрамілі.* Парэчча.

**ЗЫ-ЗЫ-ЗЫ** *выкл.* Перадача гукаў гудзення мухі ці камара. *Ці мушына́ ці камáр – зы-зы-зы – не да́сца злавіць яго́.* Нямойта.

**ЗЫ́КАЦЦА, ЗІКА́ЦЦА** *незак.* Гізаваць, бегаць, ратуючыся ад укусаў аваднёў (пра кароў). *Каро́ва зы́каецца.* Нямойта. *Каро́вы зіка́юцца і біга́ць дамо́ў; з дзісяці часо́ў і стыя́ць ды чытыро́х.* Міцюкова, Баравікі.

**ЗЭ́ДЛІК, ЗЭ́ЛЛІК** *м.* Зэдлік, невялікі ўслончык. *Зэ́длік – е́та перадо́чык ма́лінькі, кала пе́чы стая́ў, се́сьці карто́шкі пачы́сціць.* Марозаўка. *Зэ́длік – е́та тубарэ́тка.* Кляпчэва. *Ла́ўка дуўга́я, а зэ́длік не.* Гарадзец, Багданава, Леснікі, Нямойта. *Зэ́ллік – е́та стул, нясі зэ́ллік.* Нямойта.

**ЗЯ́БЕР** *м.* Зябер (расліна). *Зя́бер, бува́ла, лён бярэ́ш, у ва льне калю́чы.* Багданава, Алексінічы, Жохава, Запруддзе.

**ЗЯВА́ЦЬ** *незак.* Пазяхаць. *Стаў зява́ць – рот разі́нуў.* Каралевічы.

**З'Я́ВІШЧА** *н.* Незвычайная з'ява, падзея. *Што́-та за з'я́вішча, усе́ залягли́ – кор.* Нямойта.

**З'ЯДО́МЫ, С'ЯДО́МЫ** *прым.* Ядомы. *З'ядо́мыя грыбы́ пішчо́лкі нъ пяску́ расту́ць.* Вялікі Азярэцк. *Шымпіёны, яны́ с'ядо́мыя, іх яду́ць.* Баравікі.

**ЗЯЗЮ́ЛЯ** *ж.* Зязюля. *Чуў зязю́лю ў пра́вае ву́ха – до́бра, у ле́вае – до́бра, а калі упе́рат – пла́каць гот бу́дзеш, а калі ў пле́чы – памрэ́ш* (павер'е). *Зязю́ля, як брыса́іць кукава́ць, ператвара́ецца ў саву́.* Міцюкова, Багданава, Баравікі, Буй, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Запруддзе, Мянюцева, Нямойта, Ракаў Засценак, Сянно. ЗЯЗЮ́ЛЬКА *памянш.-ласк. На го́лы лес закукува́ла зязю́лька – э́та ні хърашо́.* (прыкмета). Партызаны, Буй.

**ЗЯЛЁНКА** *ж.* Зялёная маса, корм для жывёлы. *Зялёнку трэ́ба здаць па тры то́ны.* Малы Азярэцк, Дольдзева.

**ЗЯЛЁНКА** *ж.* Зялёная фарба. Неўгадава.

**ЗЯЛЁНКА, ЗЕЛЁНКА** *ж.* Радоўка шэрая (грыб). *Зялёнкі па со́сніку дро́бненькія расту́ць.* Каралі, Дуброўкі.

**ЗЯЛЁНЫ** *прым.* Зялёны. *Зялёны куле́ш з мылако́м зва́рыла.* Чуцькі.

**З'ЯЛЧА́ЦЬ, З'ЯЛЧЭ́ЦЬ** *зак.* Стаць ёлкім, прагорклым. *Таццяна учыніла, спякла́, да хлеб той го́ркі, мо́жа з'ялча́ла мука́ та́я.* Чуцькі. *Ні такі́ смак, са́ла з'ялчэ́ла.* Вялікі Азярэцк.

**ЗЯМЕ́Ц** *м.* Пчаляр. *Гнілу́шкі з ліп, грып з ду́ба і арэ́шніка кладу́ць у дыма́р зямцы́. Ён пры́ро́дны пчылаво́т – зяме́ц!* Сянно, Вялікі Азярэцк.

**ЗЯМЛЯ́, ЗІМЛЯ́** *ж.* Зямля. *Макры́ца ні́ская така́я, дзярэ́цца па зямлі́.* Жохава. *Сёлета каля́ная зямля́, німо́жна ўскапа́ць.* Нямойта. *Нашто́ нам зімля́ – мы са́мі ўжо зімля́.* Багданава. ЗЯМЕ́ЛЬКА *ласк. Зяме́лька мале́нька, успашы́ хърашэ́нька* (выслоўе). Каралевічы. ◊ ПУ́ХАМ ТАБЕ́ ЗІМЛЯ́! Словы нябожчыку як выказванне добрай памяці пра яго. *Пу́хам табе́ зімля́ – па пакойніку.* Нямойта.

□ *На бе́лую зямлю́ събакі хо́дзюць, а на чо́рнъй зямлі́ пшані́цу ро́дзюць.* Запруддзе, Багданава, Баравікі, Гарадзец, Каралевічы, Рэчкі, Ульянавічы, Фасаўшчына, Дуброўкі. □ *Зімля́ – ро́дная ма́ці.* Фасаўшчына, Партызаны.

**ЗЯМЛЯ́НКА, ЗІМЛЯ́НКА** *ж.* Зямлянка. *Зямлянку ма́лец разбуры́ў.* Партызаны. *Там зімля́нка была́, парціза́ны жылі́.* Партызаны, Алексінічы, Леснікова.

**ЗЯП** *м.* 1. Зябліва. *Зяп уво́сінь ара́лі.* Гарадзец. 2. Поле, на якім сеялі азімае жыта. *Аржано́е по́ле зяп называ́еццa.* Жохава.

**ЗЯРНІ́НА** *ж. зб.* Збожжа. *Усё ш зярні́на, сме́ліш – і хлеп быў.* Леснікова.

**ЗЯРНІ́НКА** *н.* Адно зерне. *Нъзаўтра пышла́ – кап табе́ адно́ зярні́нка, так вы́чысцілі, што да́йжа як бу́дта нічо́га ні было́ у тым сундуку́.* Леснікова.

**ЗЯРНО́** *н.* 1. Збожжа. *Насыпа́еш лу́пку зярна́ – ці жы́та, ці пшані́цы.* Багданава. 2. Збожжа ў снапах. *Зярно́ склыда́лыся ў ток.* Гарадок. 3. Збожжавыя культуры. *Пае́хылі міша́ць пыд зярно́ і пыт кано́плі.* Гарадок, Гарадзец.

**ЗЯ́ЦЕЛКА** *м. ласк.* Зяць. *Пупыта́ўся ў зя́целкі, ці ні п'я́ніца* (з песні). Партызаны.

**ЗЯЦЬ** *м.* Зяць. *Зяць бу́дзець пыта́ць: «Ці мно́га ў цябе́ дачо́к?»* Жохава.

□ *Зяць лю́біць узя́ць.* Багданава, Буй, Вялікі Азярэцк, Жохава, Запруддзе, Каралі, Міцюкова, Партызаны.

**І** *злучн.* І. *І ў касе́, і ў сярпе́ – усю́дых пърабо́тъла.* Мянюцева. *Як дажы́нкі, дзе́лълі бъраду́ на по́лі і хле́ба кіда́лі, пъска́чуць і пупя́юць.* Партызаны.

**І** *часц.* І. *І апя́ць гэ́дык дзярэ́ўню спалі́лі.* Гарадзец. *У нас яшчэ́ і цяпе́р ё вару́шкі, йіх ва́руць, пасо́люць.* Міцюкова.

**ІВА́Н** *м.* Купалле. *Траву́ све́цюць на Іва́на. Што здзе́лалі? Ка́жуць: Іва́н хадзі́ў – наклада́лі до́скі на ко́мін, ла́ўкі сцяга́лі далёка, калі́ткі зно́сілі.* Партызаны.

□ *На Іва́на ноч абарва́на.* Вялікі Азярэцк.

**ІВА́Н-ДА-МА́Р'Я**. Браткі (расліна). *На Іва́н збіра́лі тра́вы: іва́н-да-ма́р'я, па́параць, брат-і-сястра́.* Запруддзе.

**ІВА́Н-МА́Р'Я**. Курыца з прыкметамі пеўня; гермафрадыт. *Іва́н-ма́р'я – ні ку́рыца і ні пяту́х.* Нямойта.

**ІГЛА́** *ж.* Ігліца. *Игла́ сы́пеццa з е́льніку, з сасо́нніку.* Багданава.

**ІГЛІ́ЦА, ГЛІ́ЦА** *ж.* Папярочны драўляны брусок, якім замацоўваюцца дзвярныя дошкі. *Іглі́ца забіва́еццa ў дзве́ры, як дзве́ры дзе́лаюць, ко́нуснья тъка́я.* Гарадзец. *Глі́цай до́скі зажыма́юць.* Нямойта. *До́скі сыглі́чываюць і іх называ́юць іглі́цы.* Міцюкова.

**ІГО́ЛКА, ВЫГО́ЛКА, ГО́ЛКА** *ж.* Іголка (для шыцця). *Е́та го́лка, е́та ву́шка.* Турава. *І ў выго́лку біз ачко́ў укладзе́ць. Ко́ліць у нагу́, як іго́лкамі.* Багданава.

**ІГРА́ЦЬ** *незак.* 1. Іграць (на музычным інструменце). *Ігра́іць і пяе́ць быва́ла.* Багданава. *Вълачо́бнікі нъ Па́ску хадзі́лі, пяю́ць, йгра́юць.* Нямойта. *Ігра́й, іграчу́, / А я табе́ заплачу́ / Ці муко́й, ці крупо́й / Ці за па́зухай руко́й* (прыпеўка). *Стаў ігра́ць сва́дзьбу.* Каралевічы, Ракаў Засценак. 2. Зіхацець, блішчаць. *На Купа́ла і нъ Вялі́къдня со́нца ігра́ець, дзе́лаіцца вялі́каё, а по́тым сціска́еццa.* Гарадзец. *Со́нца ігра́ць бу́дзіць пірат Іва́нам.* Партызаны. *Ігра́іць со́нца на Па́ску і на Купа́ла, раніцо́й.* Каралевічы. *На Іва́на со́нца ігра́ла.* Дольдзева. *На Йва́на ра́на со́нца йгра́ла.* Запруддзе. *То́лькі раз со́нца ігра́іць.* Дуброўкі. ◊ ІГРА́ЦЬ У АДНУ́ ДУ́ДКУ. Дзейнічаць заадно. *У адну́ ду́дку ігра́юць.* Нямойта.

**ІГРА́Ч** *м.* Музыкант. Каралевічы.

**ІГРУ́ШЫНА** *ж.* Груша. *На ігру́шынах сёлета ёсь, а я́блачка ні аднаго́ німа́.* Запруддзе. *У мяне́ ма́ла, усяго́ дзве йгру́шыны ёсь.* Гарадок. ІГРУ́ШЫНКА *па-*

*мянш. Пасóджана йгрýшынка, і стáла радзíць цéраз пітнáццъць гадóў.* Вялікі Азярэцк.

**ІГРЫ́ШЧА, ГРЫ́ШЧА** *н.* Ігрышча, вечарынка. *Бувáла дзéўкай былá, на йгрышча хадзілі. Цяпéр вічарынка, а тады йгрышча былó. На ігрышча ідзём, пяём.* Запруддзе. *У кáждай дзярэўні ігрышча.* Вялікі Азярэцк. *Вéчарам сабрáліся спаць, а нас на ігрышча.* Ульянавічы. *Рáньшы на йгрышча так хадзілі: дзéўкі ў шлэ́пках.* Фасаўшчына. *Былó ігрышча на дзярэўні, прышлі парцізáны, тъняъвáлі.* Чуцькі. *І там пяюць, і там пяюць, як пайдзём на ігрышча.* Партызаны. *Цяпéр на йгрышчы выбірáюць* [жонку], *а рáньшы на ржышчы.* Міцюкова. *Там ужó ў святыя дні ігрышча.* Дольдзева. *Censtringó жаніцца – пасцéль паслáна, ці з рабóты, ці з ігрышча.* Ульянавічы. *Мáльцы на йгрышчъх білісі* [з-за дзевак]. Заазер'е. *Пайдзём на ігрышча, на грышча.* Леснікі, Багданава. *Перат Купáлам бáцька не давáў пеяць, не пускáў на ігрышча. На ігрышча ні пайдзéш, нікудá, грэх былó і пяяць.* Дуброўкі. *Ігрышча гулялі басякóм. Як прыйдуць з ігрышча пóзна, дык бáцька і адлýпіць.* Закур'е. ІГРЫ́ШЧАЙКА *памянш.-ласк. То на ігрышчайка, то с ігрышчайка.* Чуцькі.

**ІЖАВІ́КА** *ж.* Ажыны. *Йіжавíка, къгдá сазрэ́іць, чóрнъя.* Заазер'е.

**І́ЗВЕРГ** *м.* Кат, вылюдак. *Э́та ўжо ізьвергі, э́та ўжо нéлюдзі!* [што ў гарэлку дадаюць курыны кал]. Дольдзева.

**І́ЗВІСЬ** *ж.* Вапна. *І́звісь бяліць сады, дрэ́вы.* Каралі.

**ІЗВÓШЧЫК** *м.* Align Вознік, фурман. *Éдуць ізвóшчык і пъсажыр.* Гарадзец.

**І́ЗГАРАДЗЬ** *ж.* Агароджа. *І́згарадзі пъпълъмáлі.* Дольдзева.

**ІЗГÓННЫ** *м.* Наняты на дзень пастух. *Бувáла, ізгóннага* [пастуха] *наймáлі, хадзіў ён падзённа. Ну так, згóнны пастýх.* Самсоны.

**ІЗ-ЗА** *прыназ.* З-за. *Із-за вýха, із-за плічá бі вісялéй!* [пра малатабойца]. Запруддзе.

**ІЗРÁДНА** *прысл.* Шмат. *Як выпіў ізрáдна, тады бóлей і бóлей.* Ульянавічы.

**ІЗРÁНЕНЫ** *прым.* Паранены. *Весь брат ізрáнены, ён вýчаны.* Запруддзе.

**ІЗРАСІ́ЦЦА** *зак.* Абрасіцца. *Нóччу пóйдзе бáба ізрасíцца – лунáцік гаварылі.* Багданава.

**ІЗЮ́М, ЗЮМ** *м.* Разынкі. *У кагó быў ізюм – сыпалі.* Серкуці. *Усыпалі зюму у пірагí скарóмныйі.* Буй.

**ІК** *м.* ◊ ІК ЗАНЯЛÓ. Спынілася дыханне. *Нам ік занялó: пънялі, што яны прóданыя нéмцам.* Алексінічы.

**І́КАЎКА, І́КУЎКА, І́ЎКАЎКА** *ж.* Ікаўка. *І́каўка, во нáда спужáць ягó.* Гарадзец. *І́каўка напáла на чалавéка.* Партызаны. *Як íкуўка, то пумíнаіць нéхта* (павер'е). Запруддзе. *І́каўка напáла. І́ўкаўка.* Каралі.

**І́КАЦЬ** *незак.* Ікаць. *Як íкъіш, то нéхта пумíнáіць* (павер'е). Запруддзе.

**ІКÓНА** *ж.* Абраз, ікона. *На дрэ́ві ікóна.* Леснікі. *Ікóну відзіў – пъжáр. Ікóна сніцца – да пъжáру.* Ракаў Засценак. *Рушнік на ікóну.* Нямойта. ІКÓНКА *памянш. Ікóнка засталáся.* Партызаны.

**ІКÓТА** *ж.* Ікаўка. *Ікóта ішлá къль балóта* (прыгаворка). Запруддзе.

**ІКРÁ** *ж.* Ікра. *Ікрá ў сáмкі.* Фасаўшчына. *Мылі ікрóй, яны* [жабы] *нахаркáюць, слізка так, як крóпелькі мáлінькія, чóрнінькія, дык мы мылі* [твар], *каб загáру ні баяцца.* Багданава. *Мóшачкі мітáюць ікрý, як цыпкі на нъгáх, грась, пъўкарэ́юць нóгі, напускáюць у шáпку сліскае ікры і мáжуць нóгі.* Вялікі Азярэцк.

**ІКРÁ** *ж.* Мышца на задняй частцы нагі. *Нъгá забалéла, ня мóжыць ісці, ікры цягнуць.*

**ІКРА́НКА** *ж.* Рыбіна з ікрой; ікранка. *Като́ра шчу́ка ікра́нка, ікры́ цэ́лу міску набяжьіць.* Багданава.

**ІЛГА́ЦЬ, ЛГАЦЬ** *незак.* Ілгаць, выдумляць. *Ні зна́ю, ба́бы гэ́тыя ілгу́ць.* Малы Азярэцк. *Прыхадзі́ў дзет ілга́ў пра чо́рта.* Сянно. *Я, дзе́ткі, нікъгда́ ні лгу!* Рэчкі. *Лю́цци, я лгаць ні хачу́.* Кішуроўшчына.

**ІЛГУ́Н** *м.* Хлус. *Ілгу́н, врэш ты, ма́ніш.* Багданава. *Ілгуно́ў цярпе́ць ні магу́.* Івоні.

**ІЛЛЯ́, ЛЛЯ** *м., ж.* Ілья; прысвятак у народна-царкоўным календары, прыпадае на жнівень. *Ілля́ кініць гніллля́ – ка́жуць, е́та Ілля́ втаро́га а́ўгуста.* Фасаўшчына. *Ілля́ кінула ў во́ду лідня́ – э́та ўжо Ілля́ прыйшла́, то купа́цца нільзя́.* Самсоны. *Ужэ́ Лля, і тады́ жы́та жнуць. Дваццáтъга ю́ля – Лля.* Багданава. ○ ІЛЛЯ́-ПРАРО́К. Святы Ілья. *Ілля́-праро́к па не́бу ката́еццa, але́ чым яго́ там конь піта́еццa.* Запруддзе.

□ *Ілля́ кініць лідня́.* Савінічы. □ *Ілля́* (*Илья́*) *ўкінуў* (*ўкінъла*) <*у во́зіра*> *лідня́* (*льда*) [ад гэтага часу ўжо холадна]. Ульянавічы, Багданава, Запруддзе, Чуцькі. □ *Ілля́ надзе́лаў* (*накіда́еуь*) *гніллля́* (*гнілья́*). Гарадзец, Вялікі Азярэцк, Кляпчэва.

**ІЛЛЯНАВО́Д, ЛЬНАВО́Д** *м.* Ільнавод. *Пе́рва да вайны́ я была́ іллянаво́дам, пе́рвая была́ льнаво́дам.* Кляпчэва.

**ІЛЛЯ́НІШЧА, ЛЬНЯ́НІШЧА, ЛЛЯ́НІШЧА, ЛЯНІ́ШЧА** *н.* Поле, дзе рос лён; ільнішча, ільнянішча. *Дзе рос лён, то іллянішча.* Рэчкі. *Ішла́ ба́ба па лля́нішчу, вужа́ка ўкусіла, сіняя нъга́ да клу́ба была́, як чарні́ламі аблі́тая.* Вялікі Азярэцк. *Льня́нішча.* Старая Беліца. *На ляні́шчэ ні сла́лі, там рос лён.* Рэчкі.

**ІЛЧА́ЦЬ** *незак.* Ялчаць. *Пле́сніць, ко́стачкі ілча́юць.* Багданава.

**ІЛЬНІ́ШЧА, ЛЬНІ́ШЧА** *н.* Поле, дзе рос лён; ільнішча, ільнянішча. *На по́жнях сла́лі – ільні́шча, як пъдъма́лі, на по́жаньках сла́лі.* Карпавічы. *Чъмпіёны расту́ць па льні́шчы. Па е́тым льні́шчу ай-ё ско́лькі іх.* Алексінічы.

**ІЛЬЯНЫ́, АЛЛЯНЫ́, ІЛЛЯНЫ́, ЛЬНЯНЫ́, ЛЛЯНЫ́** *прым.* Ільняны. *Ма́сла ціснулі с се́мя ільяно́га, але́й зва́лі.* Каралі. *Прастэ́е, льняно́е тка́ла, куж́э́льнае.* Апечкі. *Ільліна́я мякі́на сьвіння́м. Ільлянэ́я мякі́на.* Каралевічы. *Се́мя лляно́е таўклі і ў бу́льбу ва́раную ўліва́лі.* Гарадзец. *Ллянáя мякі́на сьвіння́м, каро́вам і ко́ням нільзя́, то́ка сьвіння́м.* Фасаўшчына. *Лляно́е се́мя паджа́рыць, у сту́пе пъта́ўчы́ – і мъка́ць.* Багданава. *З аллянóга се́мя бі́лі але́й.* Дольдзева, Каралі.

**ІМА́ЦЬ** *незак.* Біць. *А кыш, я цябе́ ко́лам іму́, лю́дзі мо́люцца, а ты пяе́ш.* Ульянавічы.

**ІМЕ́ННЕ, І́МЯННЕ** *н.* Імя. *І ў сля́до́к яго́ ўступі́ла, па іме́нню яго́ назва́ла.* Міцюкова. *Ат ягóнага і́мяння пашла́ на́ша дзярэ́ўня.* Івоні.

**ІМЖА́, МЖА** *ж.* Імжа, дробны дождж. *Мжыць мжа.* Багданава. *Імжа́.* Кішуроўшчына.

**ІМЖА́ЧКА** *ж.* Тое ж. *Імжа́чка імжыць.* Заазер’е.

**ІМЖЛІ́ВЫ** *прым.* Імжысты, з імжой. *Імжлі́вы дош, імжа́. Такі́ дош хало́нны, імжлі́вы.* Кішуроўшчына.

**ІМШЫ́ЦЦА** *незак.* Касмаціцца (пра ніткі, пражу). *Як ні́ткі ні даб’е́ш, яны́ імша́цца. Як ні даб’е́ш кро́сны, то мша́цца, а як пераб’е́ш, то рэу́цца.* Вялікі Азярэцк.

**ІМШЫ́ЦЬ, МШЫЦЬ** *незак.* Закладваць мох між бярвёнаў; імшыць. *Кладу́ць бярно́ і начына́юць імшы́ць зруб.* Леснікова. *Пато́м імша́ць зруп, ста́вюць стра-пілы, мо́жна імшы́ць мо́хам ілі па́клей.* Нямойта. *Пъзаве́ш то́га, друго́га імшы́ць* [хату]. *Амба́р ня мшы́лі.* Фасаўшчына. *Ха́ту на́да імшы́ць.* Гарадзец. *Ён стаў*

*мшыць ету хату. У Роспышы купілі хату, мшылі хату, і тутыцька въйна.* Турава. *Толькі мшыць* [хату] *плімяннік пъмъгаў.* Жохава, Дольдзева.

**ІМЯ́** *н.* Імя. *Пъставілі камінь на магілі і напісалі імя.* Мянюцева.

**ІНА́ЧАЙ, І́НАЧЭ, НА́ЧЫЙ** *прысл.* Інакш. *Вот па-гетаму так і міняли: штогот аруць, то иначай. Адзін гот наускіт аруць, а другі – уразор.* Гарадзец. *Глядзіць іначэ.* Баравікі. *Начый завецца тэй грыб.* Дольдзева.

**ІНВАЛІ́Д** *м.* Інвалід. *Сяло горад не накорміць – тры інваліда цігаюцца.* Буй.

**ІНДЗЕ́Й** *м.* Индык. *Індзей падыміцца ўлёт і пъляціць. Тры індычкі і індзей чацвёрты.* Каралевічы.

**ІНДЗЕ́ЙКА** *ж.* Індычка. *Тры індзейкі ажно выівілісі.* Каралевічы.

**ІНДЗЮ́К, АНДЫ́К** *м.* Індык. *Індзюкі за канаву зайшлі, лісіца пяць штук задавіла, усіх палажыла, разагнала.* Латыгаль. *Індзюкі дзяржаць некаторыя.* Розмыслава. *Індзюкам, вуткам жгучка даецца, каб не укрывелі.* Буй, Каралевічы. *Йна глытала тэя галушкі, як андык.* Заазер'е.

**ІНДЗЮ́ЧКА, ІНДЫ́ЧКА** *ж.* Індычка. *Індзючкі самі выводзюць, сідзяць дужа шчыра.* Латыгаль. *С хлева выцянулі індзюка і індзючку.* Леснікова. *Чътыры індычкі ў мяне.* Каралевічы.

**ІНДЗЮЧЫНЯ́** *н.* Індычаня. Латыгаль.

**І́НЕЙ, ІНЬ** *ж.* Напасць, насланнё. *Іней така бальшая – на скот бываець падзеж. Інь бальшая ў аўгусце – цяжка людзям, падзеж скота.* Каралевічы.

**І́НЕЯ** *ж.* Тое ж. *Інея – ці да Міколы – цяжасць людзям.* Каралевічы.

**ІННЕ́Й** *прысл.* Інакш. *Там трошкі іннеи гаворуць пад Полацък.* Багданава.

**І́ННЫ, І́ННЫЙ** *займ.* Іншы. *Ні праўда, што як пъглядзіш нъ грыбы, то ня будуць расці, а вот інны* [будзе гаварыць], *кап ні глядзеў нъ бъръвікі.* Пожанькі. *А таблеткі на інны рас ні пъмъгаюць.* Запруддзе. *А інный* [сын] *ні гаворыць з маткуй.* Дольдзева.

**ІНЦІРЭ́С** *м.* Цікавасць. *Ні было інцірэсу эта спрашываць.* Буй.

**ІНЦЯРЭ́СНЫ** *прым.* Цікавы. *Чълавек ня п'ець, ня курыць, у яго ўрэмя ёсь інцярэснае.* Каралевічы.

**І́РАД** *м. лаянк.* Мучыцель, кат. *Ірады ў яе, а не дзеці.* Запруддзе.

**ІРВА́ЦЦА, РВА́ЦЦА** *незак.* 1. Рвацца, разрывацца. *А кап вашы кішкі рваліся!* (праклён). Серкуці. *Чаго ты будзіш дзяліцца, рвацца з імі? Хадзі за мяне! Ды я й пашла.* Кішуроўшчына. 2. Ісці ў рукі (пра работу). *Работа сама ў рукі ірвецца.* Нямойта.

**ІРВА́ЦЬ, РВА́ЦЬ** *незак.* 1. Рваць, збіраць. *Чабор ірвалі ат прастуды.* Рэчкі. *Людзі шчавіль рвалі і елі.* Багданава. *І морква, ды густая – нада рваць.* Заазер'е. *Брат-сястру рвалі каровым, як кроўю мачылісі.* Ракаў Засценак. *Віджу, Дунька траву рвець на гародзі.* Фасаўшчына. 2. Расхадзіцца, разбушавацца (пра з'явы прыроды). *Вы ш кап знали, як ірвець* [вецер] *крэпка. А зіма была плахая, суровая, былі дуі, мяцеліцы, вятры рвалі.* Запруддзе. 3. Успухаць, нарываць. *Пакусалі осы – ірвала гълава і вочы.* Партызаны.

**ІРВА́ЦЬ, РВАЦЬ** *незак.* Ванітаваць. *Ванітуіць яго, ірвець.* Вялікі Азярэцк. *Мяне рваць.* Марозаўка.

**ІРДА́НСКІ** *прым.* Іарданскі. *Поснъ кълідá, йірданскъя въдá, спасі нас, господзі, ўсех на каждъя месце* (з замовы). Каралевічы.

**ІРЖА́** *ж.* Іржа (на балоце). *Паложаш палатно, іржой нацягніць у балоце.* Чуцькі.

**ІРЖАВІННЯ** *н.* Балоцістае, зарослае месца. *Я б іх у іржавіння выкінула.* Івоні.

**ІРЖЭЎНІК, РЖЭЎНІК** *м.* Зжатае поле; іржышча. *Зжалі жыта, авёс – тады іржэўнік. Касілі каровам іржэўнік з травой. Іржэўнік, бувала сена ні было, іржэўнік касілі.* Гарадзец. *Што ні сажнуць, то ржэўнік, жытны, пшанічны ржэўнік.* Гарадзец. *На пожні слалі, на ржэўніку скот хадзіў.* Вялікі Азярэцк. *Яр сейілі так па ржэўніку* [без гною]. Гарадок. *У ржэўніку брат-сястра расцець.* Запруддзе. *Сінія знакі? Жала, дзёрнула аб ржэўніку вену, разбалелася, у бальніцы ляжала.* Нямойта. РЖЭЎНІЧАК *памянш. На ржэўнічак палòжыць сярпы, палòжыць і къчайся, кажуць.* Багданава.

**ІСК** *м.* Пчаліная разведка, пошукавы палёт пчол. *Іск, кагда яны* [пчолы] *шукаюць месца атыйці.* Закур'е. *Іск атходзіць, яны находзяць сабе места, дзе дупло ў лясу.* Кляпчэва. *Іск за дваццаць пяць кілометраў ляціць.* Вялікі Азярэцк. *Сёліта ні аднэй пчалы ні було іску.* Фасаўшчына.

**ІСКОВЫ** *прым.* Пошукавы (пра пчол). *Іскòвая пчъла ляціць на іск, ішчыць, гдзе ўзяткі браць, прылітаець і вядзець пчол.* Запруддзе.

**ІСКОЎКА** *ж.* Пчала-разведчыца. *Іскоўкі места найдуць* [для роя]. Сянно.

**ІСКРА** *ж.* Яркі зіхатлівы водбліск; іскра. *Асіннік трэскаіць, разлятаюцца іскры.* Заазер'е.

**ІСКУСНЫ** *прым.* Штучны. *Жалетка іскусная, не цёплая.* Нямойта.

**ІСПАРАЦЦА** *незак.* Выпарацца. *Балота наша іспараіцца, во тут і стукаіць.* Міцюкова.

**ІСТРЫЦЬ, СТРЫЦЬ** *незак.* Вастрыць. *Істрылі косы бруском.* Гарадзец. *Ён істрыць касу бруском.* Запруддзе. *Брусок – што косы істрыць.* Кішуроўшчына. *Малатком клiпалі касу, істрылі бруском.* Гарадзец. *Лъпаткай стрылі касу.* Дольдзева.

**ІСТУШКА** *ж.* Палоска каляровай тканіны, якая ўпляталася ў касу; істужка. *Істушкі ў косы ўплятaлі.* Каралі. *Істушку якую ў косы ўпляцеш.* Гарадзец.

**ІСЦІ, ІЦІ** *незак.* 1. Рухацца, крочыць. *На перадавэй ішоў ат Масквы да Каўкаса.* Станюкі. *І скачуць, і пяюць, музыка йдзець, іграець. Ідзіця вы к столу, убіліся ў шчыт.* Багданава. *Кот к рукам ідзець, я яго ўлаўлю і заб'ю.* Партызаны. *Хацелі ў альховыя шышкі йці.* Гарадок. *І ў ночы йду, і ў дзень робіць.* Дуброўкі. 2. Расці (пра расліны). *Ня йдзець у рост.* Малы Азярэцк. 3. Цячы. *Въда вясной ішла, як паваткі.* Серкуці. *Ръка Крывіна аттуль выцікаіць і ідзець у Дзвіну, у Дзвіну ўпадаіць.* Багданава. 4. Праходзіць (пра час). *Врэмя як няскора ідзець.* Нямойта. 5. Выходзіць замуж. *Маладуха шла с кублам замуш, трупкі нісла.* Багданава. 6. Прападаць, гнісці. *Усё ў зёмлю ідзець, а топчыцца скoлькі! Тъкая ўборка поля.* Фасаўшчына. 7. Паўзці, робячы шкоду. *Адзін гот чэрві ішлі і з'ідалі ўсё на свеці.* Ульянавічы. 8. Успрымаць арганізмам. *Салоткае мне ні йдзець.* Вялікі Азярэцк. ◊ ІЦІ ДАМОЎ. Паміраць. *Нада ўжо іці домоў.* Нямойта.

**ІСЦІКАЦЬ** *незак.* Знікаць. *Ісцікаіць усё с завода.* Багданава.

**ІХНІ, ІХНЫ** *займ.* Іхні. *Іхні поп жывець.* Закур'е. *Іхнъя цешча къзашка.* Кішуроўшчына. *Іхныя дзеці хлеб наш з'ядуць.* Партызаны. *Іхну часць атправілі на БАМ.* Сукрэмна. *Баба іхная ці ходзіць, ці ляжыць.* Багданава. *Іхныя вешчы пръвіралі ў Сянно.* Буй.

**ІЦВІНА** *ж.* Сплеценае з лазы прыстасаванне ў выглядзе васьмёркі, пры дапамозе якога прывязвалі аглоблю да саней; закрутка, заварацень. *Іцьвіна ісяновыя*

*зъгібáйіцца нъ капыл і нъ галóўку ў санёх, у парні дзéлълі. Аглóблі ўстуўлялісі ў іцьвіны, якéя дзéлъліся з лазы, спáруць і скрýцюць.* Гарадзец.

**ІЧА́Й** *м.* Адтуліна ў верхнім камені жорнаў, куды засыпаюць збожжа. *Ты пóўна ічáйі ні насыпáй, а то крýпна змéліш.* Вялікі Азярэцк.

**ІША́ЧЫЦЬ** *незак.* Ішачыць, выконваць цяжкую працу. *Ішáчыць, як вóлік у мяне́.* Міцюкова.

**ІШО́** *часц.* Што. *Тады прыхаджý – ішó...* Нямойта.

**ІШО́ЎШЫ** *дзеепрысл.* Ісці. *С карóвай мéсяц ішóўшы сюды.* Івоні.

**К** *прыназ.* Да. *Усé мы бъяліся к ім хадзіць.* Рулёўшчына. *Бáцька к вянцý пашыў нóвыя баціні.* Нямойта. *У павéці к гэтаму бóку ляжыць. Пъстáвіць кап к сóнцу.* Запруддзе. *Апéнькі салілі ґ зімé.* Каралі, Багданава, Гарадок.

**КА** *прыназ.* Да. *Чагó ты ка мне прыстáла.* Гарадок. *Ка мне сын прыéхаў.* Запруддзе. *Вы ш ка мнé ня рóўны.* Міцюкова.

**КАБ, КАП** *злучн.* Каб. *Алé кажýх пасцéлюць, у хáту як ідзéць на тым кужухý, каб багáтыя былí* [на вяселлі]. Запруддзе. *Гляджý, каб стóйка не павалілася.* Цясішча. *Ні даюць мне, кап я гаварыла.* Запруддзе. *Ён прыцягнýў кáмінь і пъклáў лі хáты, кап ня éздзілі.* Дуброўкі.

**КАБА́Н** *м.* 1. Самец свінні. *Клыкі бальшэя ў кабанá, ек кінецца на чалавéка, то мóжа разарвáць.* Алексінічы. *Мяне́ сёлета кабáн хацéў з'éсці, ён бальшы, зімавы.* Партызаны. *Карóву, къбанá, авéц дзіржáла.* Вялікі Азярэцк, Нямойта, Рассвет. 2. Кастрыраваны самец свойскай свінні. *Къбáн – тóжа кнур, алі кастыравъны.* Каралевічы. КАБА́НЧЫК *памянш. Пърасіла сем къбáнчыкаў і пяць свінък.* Каралевічы. *І цяпéр ё къбáнчык.* Міцюкова.

**КАБАНЁНАК** *м.* Невялікі кабан. *Я прышлá сюдá, тры авéчкі прынясла і кабанёнка.* Леснікова. *Карóўку дзіржáлі, кабанёнка заб'ём.* Алексінічы. *Нéйкага къбанёнка выкармім – і дóбра.* Вялікі Азярэцк.

**КАБАНЯ́ТНІК** *м.* Браканьер, які адстрэльвае дзікоў. *Къбънятнікі мéлі сваю грýпу.* Пожанькі.

**КАБАЧО́К** *м.* 1. Кабачок (расліна). *Кабъчкі завýцца, у гарóдзі растýць.* Багданава. 2. Страва, прыгатаваная з гэтай расліны. *На скаварадзé жáруць кабачкі.* Запруддзе.

**КАБЕ́ТА** *ж.* Сталая жанчына, звычайна замужняя; кабета. *Звáлі і кабéта і маладзіца.* Леснікі.

**КАБЫ́ЛА** *ж.* Кабыла, самка каня. *Ну й у нас кабыла былá такáя, Пралётка.* Запруддзе. *На трох былá дна кабыла, пъзабрáлі ш кóней, мáла была.* Леснікова. *Разýмна кабыла – ары съмá* [не падабаецца гэтак, сам зрабі лепш]. Каралевічы. КАБЫ́ЛКА *ласк. Кабылку дáлі нъ дваéх* [у вайну]. Заазер'е.

**КАБЫЛЁНА** *ж.* Кабылка. *Кабылёну замкнéць, а съмá пръз вакнó вылізіць і нъ чърдакý сядзіць.* Заазер'е.

**КАБЫЛІ́ЦЦА** *ж.* Маладая рослая кабыла; жаробка. *Кабыліцца ў нас плімінная, харóшая былá, усё аддáлі.* Савінічы.

**КАБЫ́ЛКА** *ж.* Пятля ў ніце. *Кабылка първаълся, вяжы нітъчкуй.* Заазер'е, Закур'е.

**КАБЫ́ЛЛІ** *прым.* ○ КАБЫ́ЛЛІЯ СІ́СКІ. Асеннія смаржкі. Пожанькі.

**КАВАЛА́** *ж.* Самаробная палка для апоры пры хадзьбе; кавяла. *На двух къвъла́х хадзі́ў.* Багданава.

**КАВАЛІ́** *мн.* Чыстыя грыбы. *Бальшэ́е, цвярдэ́е, къвалі́ – чы́сты грыб, чэ́рві іх не яду́ць.* Жохава.

**КАВА́ЛЬ** *м.* Каваль. *Къва́ль куе́ць у ку́зні, са́ні ако́ўвъйіць прыме́рна.* Запруддзе.

**КА́ВЕЛ** *м.* Адзінка вымярэння зямельнага надзелу. *Як два надзе́лы – сем ка́вел.* Вялікі Азярэцк.

**КАВЁР** *м.* Дыван. *Харо́шы кавёр, цёмна-зялёны цвет.* Запруддзе. *Прыбе́глі, са сцяны́ сарва́лі кавёр паліца́і.* Баравікі.

**КАВІ́ЛКА, КАВЫ́ЛАКА** *ж.* Папярочная планка, якая прымацоўвалася на версе дзяржання лапаты. *Каві́лка ў лъпа́ці. Кавы́лька ў рытаўё дзе́лълься.* Заазер'е. КАВІ́ЛАЧКА *памянш. А каві́лачка ў рътаўе́.* Заазер'е.

**КАВІЛЫ́** *мн.* Кастылі, мыліцы. *Тады́ нъ къвіла́х со́ўваліся. Хадзілі яшчэ́ нъ кавіла́х.* Нямойта, Багданава.

**КАВІЛЯ́ЦЬ** *незак.* Ісці кульгаючы. *Як па ро́ўнаму, тро́ха кавіля́ю.* Марозаўка.

**КАВЫЛІ́НА** *ж.* Каліва кавылю. *Вазмём тры къвылі́ны, тры жыці́ны, тры къласы́* (з замовы). Багданава.

**КАВЫ́ЛЬ** *м.* Кавыль (расліна). Багданава.

**КАВЯРКО́Т** *м.* Назва мясціны. *Къвярко́т – назы́вішча было́* [месца]. Нямойта.

**КАГА́Л** *м.* 1. Родзічы па ўсіх лініях. *Вот яны́ ўсе ръдня́, къга́л быў бальшы́. Кага́л е́ты папрапіса́лі.* Запруддзе. 2. Група людзей. *Къга́л стъя́ў там, і сълда́та ўхапілі, а на трэ́ці дзень прывялі на то́е са́мае ме́ста.* Запруддзе. 3. Гурт дзяцей. *Во кага́л дзяцэ́й.* Гарадзец.

**КАГА́ЛАМ** *прысл.* Гуртам. *Жа́лі къга́лам, па тры, па чаты́ры по́стаці.* Гарадзец. *І ба́бы е́тыя стая́ць къга́лам і пе́сьні пяю́ць* [на вяселлі]. Самсоны. *Сабра́лісі ўсе кага́лам.* Партызаны. *Як кунпа́нія, то ска́жуць: «Што вы тут къга́лам пасубра́лісі?»* Міцюкова.

**КАДЗІ́ДЛА** *н.* Кадзіла. *Ба́цюшка пасве́ціць кадзі́длам.* Каралевічы.

**КА́ДКА, КА́ТКА** *ж.* Драўляная пасудзіна з клёпак для захоўвання прадуктаў; кадка, кадзь. *Ка́тка вады́ ў ха́ці была́* [каб гатаваць гаспадыні]. Нямойта. КА́ДАЧКА *памянш. Ка́дачка – муку́ дзяржа́лі.* Багданава.

**КАДРЫ́ЛЯ, КАДРЭ́ЛЯ** *ж.* Кадрыля (танец). *І кадры́лю гуля́ла, і ляво́ніху.* Цясішча. *Кадрэ́лю ў па́ры танцава́лі, сабіра́юцца ў чаты́ры, шэсць, во́сім пар.* Самсоны. *Вічары́нка ў нядзе́лю, гуля́лі кадрэ́лю, і вінге́рку, каке́тку, і хо́йру.* Кавалі, Багданава, Заазер'е, Запруддзе, Закур'е.

**КАДРЫ́ЛЬ** *ж.* Тое ж. *Кадры́ль, а по́тым лінцяя́ танцу́юць.* Марозаўка.

**КАДУ́К** *м.* Чорт, д'ябал. *Кап на цібе́ каду́к нъвалі́ўся.* Запруддзе. ◊ КАДУ́К ЯГО́ (ЯЕ́) ЗНА́ІЦЬ. Невядома. *Каду́к яе́ зна́іць, ба́цька гъвары́ў.* Рэчкі. *Каду́к яго́ зна́іць.* Запруддзе.

**КА́ДУЎБ** *м.* Драўляная бочка. *Ка́дуўб і даўбёка – адно́.* Фасаўшчына.

**КА́ДУЎБА, КА́ДАЎБА** *ж.* 1. Драўляная бочка. *Ка́дуўба.* Вялікі Азярэцк. КА́ДАЎБАЧКА *памянш. У ка́даўбачку вы́сыпіш муку́.* Багданава. 2. Глыбокая яма з вадой, у якую ўстаўлялася драўляная бочка. *Пан вы́късаў ка́дъўбу, і бо́чку ўста́віў, дзе крыні́ца.* Вялікі Азярэцк.

**КАДУ́ШКА** *ж.* Невялікая драўляная або саламяная бочка; кадушка, кадка. *Каду́шка для зірна́, мукі́, іна́ съльмя́нъя, лазо́й перапле́ценъя, і кры́шка ёсь.* Кляпчэва. *Така́я каду́шка – вады́ нагрэ́ю і дзяцэ́й абмыва́ю.* Цясішча, Гарадзец.

**КАЖА́Н** *м.* Кажан. *Хто ка́жыць къжа́н, хто – лятучъя мыш.* Дольдзева. *Кажа́н ня лю́біць то́ргання.* Галашчакіна. *Кажаны́ лята́лі ў пу́нях, дзе се́на.* Багданава.

**КАЖНАРА́ННЯ** *прысл.* Штораніцы. *Кажнара́ння пляме́ннік захо́дзіць.* Вялікі Азярэцк.

**КА́ЖНЫ, КО́ЖДЫ, КА́ЖЫН, КА́ЖДЫЙ** 1. *займ.* Кожны. *Ка́жны пра́знік пра́знавалі.* Міцюкова. *У ка́жнъга хъзя́іна была́ ёўня.* Серкуці. *У ка́жную сало́мінку цячэ́ць сок.* Багданава. *Ка́жны дзень, мо́жа, так не рабо́таюць?* Закур'е. *Ко́жды гот у мяне́ былі́ квъціра́нты.* Чуцькі. *Ко́жды дзень мъсквіча́ піў і зале́чыў я́зву.* Баравікі. *Ні ка́жын гот быва́юць я́блыкі.* Серкуці, Багданава. *Ка́ждый кусо́к зямлі́ называ́лі.* Хамінічы. *Ка́ждый хъзя́ін нъд сабо́й ба́рын.* Каралевічы. 2. *м.* Кожны. *На ўзно́сы ка́жны і даў.* Буй. *Ка́жны сам сабе́ сто́іць.* Кляпчэва. *Ко́ждъму* [на вяселлі] *была́ ча́рка съмаго́нкі. У ка́жынага вада́ патхо́дзіць* [пад падлогай]. Неўгадава.

**КАЖО́К** *м.* Невялікі кажух. *Кажо́к падсце́люць, і малады́я перад іко́най мо́люцца.* Партызаны.

**КАЖУ́Х, КУЖУ́Х** *м.* Кажух. *Кажухі́ шы́лі, по́льты.* Каралі. *Кажу́х сні́цца – цяжэсць* (павер'е). Ракаў Засценак. *Але́ кажу́х пасце́люць, у ха́ту як ідзе́ць на тым кужуху́, каб бага́тыя былі́* [на вяселлі]. Запруддзе. КУЖУШО́К *памянш. Кужушо́к быў у нас, с аве́чък.* Багданава.

**КАЖЭ́ЎНІК** *м.* Той, хто займаецца апрацоўкай шкуры; гарбар. *Наве́рна, кажэ́ўнік ко́жы абраба́тываў.* Нямойта.

**КАЗА́, КО́ЗА** *ж.* 1. Каза, самка казла. *Каза́ аказі́ла ко́зачкаў і казло́ў.* Запруддзе. *С ко́зы, с казі́нъга мълъка́ смітана ні атбіра́ецца.* Ракаў Засценак. *Коз дзяржа́ла, а цяпе́р карміць не магу́.* Закур'е. *Мая́ тут ко́за атвя́зана.* Багданава. КО́ЗАЧКА *памянш.* Запруддзе. 2. Двухметровая драўляная прылада для абмервання зямельных участкаў; каза, сажань. *Къза́ – два ме́тры, на трох па́лках.* Серкуці. *Брыгадзі́р во́зьміць казу́ і паме́рыіць.* Фасаўшчына. *Калі́ жнец атстае́ць, то ска́жуць: на казе́ е́дзіць.* Дольдзева. 3. Дзіцячыя саначкі-палазы з дроту. *Дзе́ці з гары́ на казе́ къта́юцца, с про́въракі рабі́лі.* Міцюкова. ◊ НАКЛА́СЦІ КАЗУ́. Зрабіць памылку пры снаванні красён. *Къза́ – е́та як по́перак паклaдзе́ш ні́тку ні туды́.* Багданава. *Як снава́лі на сцяну́ гу́бак пяць-двана́ццаць, ні́тку не сняць, а там ні́тка ідзе́ць, пераблы́таецца – казу́ накла́ў, адны́м сло́вам.* Багданава.

□ *Зъдърма́ і воўк казе́ ні пля́шыць.* Сянно.

**КАЗАРЭ́З** *м.* Забойца (чалавека). *Къзарэ́з зва́лі, што зарэ́зуў чълаве́ка.* Заазер'е.

**КАЗА́ЦЦА** *незак.* Здавацца. *Лес, ка́ацца* [*ка́жацца*], *бальшы́.* Ульянавічы.

**КАЗА́ЦЬ** *незак.* Казаць. *Я яшчэ́, як той къза́ў, што магу́, усё дзе́лаю.* Чуцькі. *Жыць цяпе́р хърашо́, ні на́да къза́ць.* Гарадзец. *Ма́ма къза́ла, што атніла́ мяне́, а я прасі́ла сі́ські хоць раз.* Партызаны, Алексінічы, Багданава, Гарадок, Дольдзева, Запруддзе, Каралевічы, Ульянавічы, Неўгадава. *Ка́іць* [кажа], *ён паме́ршы. Дай ты, ка́ець, вады́ ад пу́ду, крыча́ць дзе́ці.* Запруддзе. *А ён кець* [кажа] *мне.* Ульянавічы. *Мы ка́аць* [кажа] *ня по́мнім! Іна́ ста́ла каць, што бу́льба зъражо́на.* Міцюкова. *Я ш ку* [кажу]*: пъмагчы́ ніхто́ ня хо́чыць.* Малы Азярэцк. *Ва́шы ру́кі крэ́пкія, я ку. У мяне́, ку, свае́ дзялы́. Я ку, у каго́ я бу́ду браць малако́?* Запруддзе. *Я ку, чалаве́к гарава́ў – сі́льна харо́шы.* Закур'е.

**КАЗАЧЫ́Н** *м.* Кажух, пашыты са шкуры казы. *Ён і партны́ быў харо́шы, кужухі́, а тыя къзачы́ны такі́я шыў, атрызны́ такі́ зза́дзі.* Леснікова.

**КАЗЕ́ЛЕЦ** *м.* Дробная плотка. *Казе́лец – са́ма мале́нькъя пло́тъчка, яна́ пяць гадо́ў бу́дзіць расці і во́тъчкая. Яна́ ма́ліпькъя ўжо с ыкро́й.* Багданава.

**КАЗЕ́ЛЕЦ** *м.* Казялец (расліна). *Казе́лец го́ркі, каро́вы ні яду́ць. Мно́га нарву́ць, нато́пюць і ра́ну прыклада́лі, казе́лец мя́са выяда́е.* Каралевічы. *Казе́лец па луга́х, скот ня есць, ду́жа го́ркі.* Каралі. *Казе́льцам націра́лі ра́ну, як ране́й у а́рмію не хаце́лі ісці́.* Чуцькі, Алексінічы, Буй, Ракаў Засценак.

**КАЗЕ́ЛЬКІ, КАЗЁЛЬКІ, КАЗЮ́ЛЬКІ** *мн.* Тое ж. *Казе́лькі жо́ўценькія, но́гі націра́лі, распъха́ла нъга́, балі́ць. Казе́лькі жо́ўценькага цве́ту. По́сле вайны́ націра́лі но́гу, і нага́ распаха́ла і ў а́рмію ні бра́лі.* Запруддзе. *Жо́ўтыя казёлькі ду́жа го́ркія, бува́ла клапы́, бло́хі, і той вадо́й абліва́лі – я́дкая така́я трава́.* Багданава, Закур'е. *Жо́ўтая была́, зва́лі казю́лькі, го́ркая ду́жа, вары́лі і той вадо́й клапо́ў абліва́лі, яна́ я́ткая, раз'яда́ла.* Багданава. КАЗЕ́ЛЬЧЫКІ *ласк. Казе́льчыкі жо́ўтыя па лугу́, ду́жа го́ркія, як у во́чы – е́сца, апа́рвалі клапо́ў, бува́ла клапы́ былі́.* Багданава.

**КАЗЁЛ** *м.* Казёл, самец казы. *Два казлы́ аказі́ла каза́ ра́бая.* Запруддзе. *Казёл прышо́ў і ру́кі ёй дава́й лізаць.* Багданава. КО́ЗЛІК *памянш.-ласк. Два ко́злікі каза́ аказі́ла, папатніла́* [адняла, адлучыла] *сра́зу.* Запруддзе.

**КАЗЁЛ** *м.* Казляк, масляк (грыб). *Казлы́ слі́зенькія, пад асо́нкамі.* Багданава, Сянно.

**КАЗЁННЫ** *прым.* Казённы, дзяржаўны. *Казённы лес быў чы́сты, як пол.* Цясішча. *Не казённы дом, свой.* Запруддзе.

**КАЗІ́ННЫ** *прым.* 1. Казіны. *Казі́ннае малако́ на́да раб'ёнку дава́ць.* Запруддзе. *Казі́ннае малако́ п'ю.* Багданава. 2. Травяны (чай). *Казі́нны чай зраблю́ – гэ́та з травы́ чай.* Нямойта.

**КАЗІ́ЦЦА** *незак.* Кацішца, нараджаць дзіцянят. *Яны́* [козы] *казі́ліся ле́тъм.* Міцюкова.

**КАЗІ́ЦЬ** *зак.* Акаціць. *Та́я двое́ казі́ла.* Запруддзе.

**КАЗЛЫ́** *мн.* Казялец (расліна). *Казлы́ былі́: жо́ўцінькім цвіту́ць, высо́кія такі́я, го́ркія-го́ркія, наста́івалі і абліва́лі* [ад клапоў]. Багданава, Партызаны.

**КАЗЛЫ́** *мн.* Вочкі на клубнях бульбы. *У бу́льбі паку́ль казлы́ е́тыя павы́калупаіш.* Марозаўка. *Тады́ яе́* [бульбу] *лу́пюць, каб ні было́ къзла́ і таўку́ць.* Запруддзе. *Казлы́ ў бу́льбі ня вы́кълупъіць на́ша нявестка.* Пожанькі.

**КАЗЛЫ́** *мн.*, **КАЗЁЛ** *м.* 1. Прыстасаванне для пілавання дроў; козлы. *До́скі пілі́лі, казлы́ былі́.* Манголія. *Нъ казлы́ ўло́жуць бярно́ і пі́люць.* Серкуці. *Ста́віоцца казлы́, браўно́ ло́жыцца і тако́й прадо́льнай піло́й рэ́жыцца.* Нямойта. *Э́та казёл, на ём драва́ пі́люць.* Нямойта. 2. Кроквы ў будынку. *Два казлы́ ста́вяць: адзі́н къла шчыта́, другі́ къля сце́нкі, і прыбіва́юцца до́скі.* Багданава. *Цяпе́р казлы́ не стано́вяць, а страпі́лы.* Гарадзец. *На пасле́дні вяне́ц казлы́.* Гарадзец. *Казёл ста́віцца, ло́жыцца піраво́дзіна на яго́ ў хле́ве, сара́і, ра́ньшы і па ха́тах.* Вялікі Азярэцк. 3. Прыстасаванне для падвешвання калыскі ў полі. *Лубя́начку-люля́чку бяру́, тры казлы́ – і на по́ле жаць жы́та. Гляджу́, каб сто́йка не павалі́лася.* Цясішча. КАЗЕ́ЛЬКІ *мн. памянш.* Драўляная падстаўка на трох ножках; трыножак. *Ліжакі́ на казе́лькі паста́ўлены.* Вялікі Азярэцк. *Яны́ лу́пюць аве́ц, кьча́юць пъ зямле́, а мы здзе́лалі казе́лькі і лупі́лі, і на́шых прынялі́ ў стало́вую, пътаму́, што яны́ чы́стыя.* Міцюкова.

**КАЗЛЯ́К** *м.* Казляк, масляк (грыб). *Казлякі́ па даро́гах расту́ць, з пяска́ выляза́юць.* Каралі.

**КАЗЛЯНЁНАК** *м.* Казляня. *Закруціўся казлянёнак – і засіліўся.* Запруддзе.

**КАЗЛЯНЯ́** *н.* Тое ж. *Къзлянят паю чатыры разы.* Багданава, Каралі.

**КАЗНА́** *ж.* 1. Дзяржаўная ўстанова, прадпрыемства; казна. *Яны ў казну мълако здаюць, дзешавей.* Ракаў Засценак. 2. Дзяржава. *Казна плаціла на дзеўку.* Карпавічы.

**КА́ЗНІЧАЦЬ** *незак.* Караць, мучыць. *І пувялі яго казнічаць, а на Паску ён у двіннаццаць часоў ночы аджыў.* Буй.

**КАЗЫМА́ТКА** *ж.* Гараж (?), пабудова для матацыкла. *Мы тут казыматку сыну паструоілі на мытацыкл.* Багданава.

**КАЗЫРА́ЦЬ** *незак. перан.* 1. Казырацъ, выхваляцца. *Так казырала, што ад загавораў плячо ў суседа палучшала.* Міцюкова. 2. Радавацца. *Проска, ты далжна казыраць, што людзі да цябе прыходзяць.* Нямойта.

**КАЗЬБА́** *ж.* 1. Касавіца. *С казьбы прыдзеш, вып'еш сок – харашо!* Дольдзева. *Пашоў с казьбы віцінар.* Нямойта. 2. Кашэнне. *Памагаіць іс казьбой, касіць во некаму.* Марозаўка. *Нінажорлівы ні тольні ў ядзе: у рабоце, у казьбе.* Дольдзева.

**КАЗЯ́ЎКА** *ж.* Казяўка, кузурка. *Къзяўкі, яны чорныя.* Сукрэмна.

**КАЙБА́ЙН** *м.* Камбайн. *На кайбайне работаў, на трактары.* Запруддзе.

**КАКЕ́ТКА** *ж.* Какетка (танец). *Была какетка, то што ў вочы глядзець нада. За рукі возьмуцца, адна ззаду, красівая гульня, рас-рас-рас.* Багданава. *Какетку ўдваіх танцавалі, пад рукой мальца дзеўка круціцца.* Самсоны. *Какетку гулялі так: бяруцца за рукі, барышня паперады і аглядаіцца.* Кавалі, Вялікі Азярэцк, Заазер'е.

**КАКО́ШНІК** *м.* Капытнік (расліна). *Какошнік цвіціць белым цветам па балотах. Какошнік – трава белым цветам, як цюльпаны, цвіціць.* Каралі. *Какошнікам з вясны свінней кармілі, шыроканькае лісце.* Багданава. *Какошнік расце ў балоці дзе вада, свінням даём, на вадзе расце, лісткі на карні.* Леснікі, Запруддзе, Міцюкова, Фасаўшчына, Чуцькі.

**КАЛАВУ́Р** *м.* Начлег, пасьба коней уначы. *Нъ кълавур і я ездзіла, на ўсю ноч. І бальшэя і малэя ездзілі. Нъ кълавур коні вадзілі.* Кішуроўшчына.

**КАЛАКО́ЛЬЧЫК** *м.* Званочак (кветка). *І калакольчыкі цвітуць, і рамашкі.* Буй.

**КАЛАНУ́ЦЬ** *зак.* Страсянуць, скалануць. *Кълънула куст каліны, а ат яе пачкамі мятлікі.* Малы Азярэцк.

**КАЛАРА́Д** *м.* Каларадскі жук. *Жукі – каларад – усюдых на бульбі.* Партызаны. *Каларадаў наслалі.* Буй.

**КАЛАСАВА́ЦЦА** *незак.* Каласіцца. *Каласуецца жыта, тады можна гуркі сеяць.* Гарадзец.

**КАЛАСАВІКІ́** *мн.* Баравікі, якія растуць у час каласавання жыта. Запруддзе.

**КАЛАСІ́ЦЦА** *незак.* Каласіцца. *Жыта кълaсіцца, красуецца, патом налі-ваецца, спеіць.* Розмыслава.

**КАЛАСНІКІ́** *мн.* Баравікі, якія растуць у час каласавання жыта. *Кълъснікі бываюць, як жыта кълaсуіць.* Пожанькі.

**КАЛАТО́ЎКА** *ж.* Прылада ў выглядзе палачкі з сучкамі на ніжнім канцы для размешвання стравы; калатоўка. *Кълатоўка пяцізубовъя іс сасны.* Кляпчэва. *Кълатоўка дзірьвянъя, і такія ръгачыкі.* Дольдзева. *Кълатоўкі з зубчыкамі з елкі дзелаюць, кулеш мішалі.* Ракаў Засценак. *Як дождж у свадзьбу, тады кажуць: мъладуха кълатоўкі лізала, а ні пенкі ела.* Багданава, Гарадзец, Запруддзе, Кішуроўшчына, Кляпчэва, Рэчкі. КАЛАТО́ВАЧКА *памянш.* *Во калатовачка камы таўкці.* Багданава.

**КАЛАТУ́ШКА** *ж.* 1. Прылада для глушэння рыбы па першым лёдзе. *Кълатýшкъй стýкні, íна́ і гатóва* [рыбіна]. Заазер'е. 2. Прылада ў бойцы для збівання масла. *Бóйка дзірвя́нная былá мáсла біць, і калатýшка.* Жохава.

**КАЛАЎРО́Т** *м.* 1. Прылада для ручнога прадзення кудзелі, якая прыводзіцца ў рух панажом; калаўрот. *З кълаўрóта снувáлі крóсны. Напрáлі, шпýльку зматáлі на кълаврóт.* Вялікі Азярэцк. 2. Свердзел. *Калаўрóт – дзіркі пракрýчваць, свярдліць.* Міцюкова. *Кълаўрóт быў, дзéрава свярліць.* Жохава. 3. Вал з ручкай, на які намотваецца канат, ланцуг. *Нéйкім калаўрóтам кóней вадзілі, рыбу даставáлі.* Закур'е. 4. Рухавік з колам, якое прыводзіць у бег санкі на лёдзе. *Дзéці ўбівáюць жалéзну ось, а рáншы дзірвя́нную вось, у зямлю ці нъ сáжълцы, кладýць на ось кълясó, прывя́жуць жардзіну і дъ яé прывя́зыюць сáнъчкі, жардзіну крýцюць. Гэ́та звáўся кълаўрóт.* Міцюкова. *Кол убівáюць у зямлю, кълясó надзяюць, прывя́зваюць жэрць к сáнкам і кълясý, і адзін кълясó крýціць кругóм, астальны́я сідзя́ць на сáначках і іх ганя́юць ўкругавýю. Э́та кълаўрóт.* Запруддзе, Нямойта.

**КАЛАЦІ́ЦЬ** *незак.* 1. Гатаваць якую-н. страву, размешваючы калатоўкай. *Кълатóўка кълаціць кулéш былá.* Нямойта, Гарадзец. *Як калóцюць, кълъ калатóўкі мя́са задзéржыцца.* Дольдзева. 2. Абшукваць. *Аднý ноч калацілі нéмцы, усю хáту парóлі.* Серкуці.

**КАЛБАСІ́НА** *ж.* Каўбаса. *Калбасіна – сем рублéй пяцьдзеся́т капéек, а два рублі ў дзень зарóбіш.* Буй.

**КАЛДА́ШКА** *ж.* Невялікая палка з патаўшчэннем на канцы; булавешка. *Тады́, як кълдáшкай пабіла Гібачкіных курэ́й, паклíкала Мáрва.* Нямойта.

**КАЛДА́ШКА** *ж.* Чараўніца. *Янá кълдáшка, а атéц яé калдýн буў.* Нямойта.

**КАЛДО́БІНА, КАЛДУ́БІНА** *ж.* Калдобіна, выбоіна, ямка на дарозе. *У калдóбіну ўдáрылася машы́на.* Запруддзе. *Калдýбіна былá нéйка ля дарóгі.* Запруддзе. *Калдýбіна з вадóй.* Партызаны, Гарадок. КАЛДО́БІНКА *памянш.* *Калдóбінка там былá, руль у бярэ́зіну ўдарáў.* Запруддзе.

**КАЛДО́ПКА** *ж.* Пасудзіна для сыпучых і іншых прадуктаў. *Калдóпка для яек спецыя́льна, мóжна ўсыпáць што.* Серкуці.

**КАЛДО́ЎНЯ** *ж.* Чараўніцтва. *Калдóўню знáлі нікатóрыя.* Закур'е.

**КАЛДУ́ЖЫНА** *ж.* Нізкае месца, залітае вадой. *Калдýжыны – нізкія мястá, вьдá стаіць.* Партызаны.

**КАЛДУ́Н** *м.* Чараўнік. *Калдуны́ былí, зачарýіць карóву.* Нямойта.

**КАЛЕ́ЙНЫ** *прым.* Калійны. *Калéйнаю соль брáлі, салілі ў вайнý.* Баравікі.

**КАЛЕ́КА** *агульн.* Чалавек, які мае які-н. фізічны недахоп. *Мáтка – калéка, і рýкі трасýцца. А людзі ўсякіе калéкі раждáюцца. Вóка вы́нялі, калéка ён.* Запруддзе.

□ *Умá нет – шчытáй калéка.* Каралевічы.

**КАЛЕ́КА** *ж.* Мянтуз. *Калéка – тъкáя, як змія́, кóсці тóлькі, ні ўгар, ён пахóжы, бывáіць таўстáя, у нóрах жывýць.* Фасаўшчына. *Калéка і цяпéр ёсь у вóзіры. Калéка бярэ́цца нъ чървікá хърашó. Дзет кініць у вóзера рызінъвыя бóты, то калéка ў бот залéзіць, а дзет éздзіць і глядзіць, дзе бóты ліжáць, то ён йіх пъдымáіць. Калéкі ўкýсныя сільна.* Багданава, Алексінічы, Марозаўка.

**КАЛЕ́КІ** *прым.* Пакалечаны, з фізічнымі недахопамі. *Калéкі сын с маладóсці.* Дуброўкі.

**КАЛЕ́НА** *н.*, **КАЛЕ́НІ** *мн.* 1. Калена, каленны сустаў. *Баліць нагá ў калéнях.* Багданава. *Хадзі ка мне, на калéнях пасядзі.* Багданава. КАЛЕ́НЬКІ *памянш.*

*Я і на калéньках слáла лён.* Міцюкова. 2. Патаўшчэнне, каленца ў сцябліне. *Саломіна ў жыці калéны іме́іць, каб не паваліласся.* Міцюкова. 3. Асобная частка, закончаны матыў у музычным творы. *Ён* [музыкант] *аднó калéна сыгрáіць, патóм другóя.* Багданава. 4. Фігура ў танцы, скоках. *Нéскалькі калéн былó ў лінцыі* [танец]. Багданава. 5. Пра вялікі памер чаго-н. *У калéна цугýн навáрыш бурукóў, капýсты.* Чуцькі. 6. Вельмі многа (па калена). *У калéна гразі.* Закур'е.

**КАЛЕ́СНІК** *м.* Майстар, які вырабляе колы, калёсы; калеснік. *Там калéснікі жылі, каткі* (колы) *дзéлъні. Стýкалава рáньшы звáлася, там калéснікі жылі.* Жохава.

**КАЛЕ́ЦЬ** *незак.* Калець, зябнуць, мерзнуць. *Нáда ш свінню пакрыць: ноч сядзіш, калéіш.* Вялікі Азярэцк. *Каб янó калéла, каб я тудзы пайшлá.* Міцюкова.

**КАЛЁСНЫ** *прым.* Калёсны, прызначаны для калёс. *Яўрэі брáлі бірачкі* [палачкі] *за мазь калёсную, пóтым прыяжджáў і рашчытвалі.* Леснікова.

**КАЛЁСЫ** *толькі мн.* Воз, павозка. *Рáньшы былі на дзіръвяным хадý калёсы.* Гарадзец. *Дзяцéй на калёсы сваіх, у мяне́ сын быў і свякрóў былá, і пъдаліся ў лес.* Леснікова. КАЛЁСКІ *памянш. Стары у калёсках прывёс сéна.* Багданава, Неўгадава. ◊ НІ КАЛЁС НІ АТÓС. Пра адсутнасць усяго. *Ні калёс ні атóс.* Чуцькі.

□ *Рыхтýй калёсы зімóй, а сáні – лéтам.* Запруддзе. □ *Берагýць сáні лéтам, а зімóй – калёсы.* Міцюкова, Буй, Каралевічы, Нямойта.

**КАЛЁЎНІК** *м.* Спецыяльны рубанак для выстругання дошак і планак з фігурнымі краямі; калёўка. *Калёўнік – éта карнізы выбірáіш.* Нямойта.

**КАЛІ́** *злучн.* 1. Калі. *Кóлісь, калі рýмачку, калі дзве вып'ецъ, і вылáзіць з застóлля.* Гарадзец. *Алéшыны, бярэзіны, калі éлка дзе. Як калі, калі нічóга ні кіпячý, тóлькі éсці варý, тады надóўга* [балон газу]. Багданава. *А сын калі прыéдзіць, прывязéць што.* Рэчкі. *Дактóрка кáжыць, што, калі што з бáбушкай, прывядзі.* Рулёўшчына. 2. *прысл.* Час ад часу, рэдка. *Мой дзет смяéцца калі.* Гарадзец.

**КАЛІ́БР** *м.* Аднолькавы спосаб, фігура (у танцах). *Кап жа éты тáніц ды гулялі адным калібрам.* Вялікі Азярэцк.

**КА́ЛІВА** *н.* 1. Зерне з адной расліны (збожжа, маку і інш.). *Як патрэш кóлас, глядзіш, во якóе кáліва.* Нямойта. *Прыгаршча жыта – дзéвяць кáліў – пакідалі скаціне, каб скот гудувáўся дóбра.* Запруддзе. 2. *прысл.* Трошкі, крыху. *Кáліва – эта нямнóшка мáсла ці сáла там ускініш.* Серкуці. *Тýтай і кáліва сáхару німá.* Вялікі Азярэцк. *Птýшка тáя дзе кáліва цілікніць.* Міцюкова. *На Варвáры кáліва начы ўварвáюць тóлькі.* Ракаў Засценак, Гарадзец, Запруддзе, Кішуроўшчына, Леснікова. КА́ЛІЎКА *памянш. Кáліўка бýльбы засталóся. Кáліўка – нямнóшка.* Кішуроўшчына. ◊ ДА КА́ЛІВА. Абсалютна ўсё, цалкам. *Хáта, усё згарэла да кáліва.* Мянюцева. ◊ НІ КА́ЛІВА. Зусім, ніколькі, ані. *У хáці ні кáліва пумідóр.* Леснікова. ◊ ПА КА́ЛІВУ. Вельмі мала, пакрысе. *Па кáліву раздзялілі ўсім камбікóрм.* Буй. *Е травá, як жыцьвік, як цімафéяўка, спячэш праснáк і адзін аднамý даéш па кáліву.* Ракаў Засценак. ◊ ПА КА́ЛІЎКУ. Тое ж. *Па кáліўку вып'ем.* Парэчча. *Па кáліўку сéна – і ў пукі.* Запруддзе.

**КАЛІДО́Р** *м.* Калідор. *А гэта лінóлій, на лéта вынісу ў калідóр.* Леснікова.

**КАЛІ́НА** *ж.* 1. Каліна (дрэва). *У Курдзюкóвым лéсі каліны мнóга.* Манголія, Кавалі, Дубоўкі. *Як каліна начынáець у кругý цвісці, то сей зярнó на ўсю рукý* (прыкмета). Партызаны. *Éслі каліна ў кругý, то сей ячмéнь ва ўсю рукý* (прыкмета). Нямойта. 2. Ягады каліны. *Ат даўлéня каліна памагáіць.* Нямойта. *Каліну тушылі с сáхарам.* Гарадзец. *Каліны мнóга буlо, птýшкі аб'éлі.* Гарадок.

**КАЛІ-НЕ́БУДЗЬ** *прысл.* Калі-небудзь. *Чарніцы калі-нéбудзь зарóдзюць.* Багданава.

**КАЛІ́СЬ-ТО** *прысл.* Некалі, калісьці. *Былó мнóга калíсь-то.* Леснікова.

**КАЛІ́СЬЦІ** *прысл.* Тое ж. *Я калíсьці былá мълъдá, а цяпéр стáры грып.* Дуброўкі.

**КАЛІ́-ТА** *прысл.* Тое ж. *Калí-та пъсяліўся Рáкуў, і стáлі зваць Рáкуў Засцéнък.* Ракаў Засценак.

**КАЛІ́ТКА** *ж.* Невялікія дзверы для праходу ў варотах; калітка. *А ў вътатáх – эта калíтка.* Нямойта.

**КАЛІ́ЎЯ, КА́ЛІЎЕ, КА́ЛІЎЯ** *н. зб.* Сцёблы раслін (пра бульбу); каліўе. *Кáліўе ў бýльбе, сажнéш ягó, пасýшыш, пъвяжъш у снапóчкі, карóвам дъвáлі, карóвы хърашó ядýць. Кáліўе – гéта цяцíўе ў бýльбе. Во кáліўе пасóхла. Калíўя гэ́та сушылі.* Кішуроўшчына.

**КАЛМА́К** *м.* Дрэва з густым, няроўным веццем. *Стаíць калмáк сярóд лéса.* Баравікі.

**КАЛМЫ́ЖКА** *ж.* Сухая груда зямлі. *Нáда пабíць калмы́жкі зя́млі бъранáмі.* Баравікі.

**КАЛМЫ́НКА** *ж.* Металічная пасудзіна з ручкай для піцця; конаўка. *Калмы́нкі былí такія нізінькія з жэ́сці, з рýчкай, пілí гарэ́лку.* Манголія.

**КАЛО́ДА** *ж.* 1. Калода. *Таўстáя ты, як калóда.* Вялікі Азярэцк. *Цяжóлы, як калóда.* Серкуці. *Ай, як калóды, нóгі* [сталі]. Вялікі Азярэцк. КАЛО́ДАЧКА *памянш. Утóркніш у калóдачку лучы́ну – і свéтуш.* Фасаўшчына. 2. Вулей, зроблены з камля дуплістага дрэва. *У Івáна асталáся калóда пчол.* Гарадзец. *Чаты́ры калóды пчол былó.* Неўгадава. 3. Навой у кроснах. *На калóду намáтваеш, полмéсяца ткеш.* Дуброўкі.

**КАЛО́ДЗЕЖ, КАЛО́ДЗЕЗЬ, КАЛО́ДЗІЖ, КАЛО́ДЗІЗЬ, КАЛО́ДЗІСЬ, КАЛО́ДЗЯСЬ** *м.* Калодзеж, студня. *Калóдзеж на ўсё сялó быў. Калóдзеж перасóх, зусíм вады́ не былó.* Закур'е. *На Каля́ды свéцяць калóдзезь.* Алексінічы. *Мак сы́палі ў калóдзіж, штоп дошч пашóў. Пасéялі гарóт, ні днагó дóжжу ні былó.* Гарадзец, Каралі. *Бывáла калóдзісі чы́сцілі два разы́ ў гот.* Вялікі Азярэцк. *У іх, у мъскалéй, с калóдзіся нанóсяць вады́ і туды́ дзяцёнка, калí хры́сцяць.* Карпавічы. *І вады́ ў калóдзізі не былó.* Партызаны, Станюкі. *Дзе калóдзясь які – усё знáлі.* Ульянавічы. *У калóдзісь мак сы́палі, кап дажджы́ пашлí.* Запруддзе. ◊ ЯК У КАЛО́ДЗІЖЫ. Пра хмурнае надвор'е. *Пагóда як у калóдзіжы, нет сóнца, нéба зацягнена.* Фасаўшчына.

**КАЛО́ДЗІЦ, КАЛО́ДЗЕЦЬ** *м.* Тое ж. *Калóдзіц къпáлі, стáры быў, къпáлі, вады́ ні стáла, марóс.* Багданава. *Вады́ с калóцца éле вы́цягну.* Запруддзе. *На аснóве кры́ніцы вы́капалі калóдзець.* Закур'е.

**КАЛО́ДКА, КАЛО́ТКА** *ж.* 1. Кароткі адрэзак тоўстага бервяна, на якім сякуць што-н. *Éта калóтка дрóвы рубíць.* Фасаўшчына. 2. Апорны слуп. *Калóтка дубóвая, а на ёй гроп* [быў у склепе]. Вялікі Азярэцк. КАЛО́ДАЧКА *памянш. Там на ýліцы дрóві кóлім, калóдачка.* Леснікі.

**КАЛО́ЦЦА** *незак.* Калоцца, бадацца. *Цёлку к бы́ку звадзíлі, а янá давáй калóцца. Кóлюцца карóвы, аднá калóлася і другáя, мушчы́ну павалíла, нéяк дзве карóвы калóліся.* Гарадзец. *Калóўся той бык.* Запруддзе.

**КАЛО́ЦЬ** *незак.* 1. Выклікаць вострыя, калючы боль. *Нéяк былó на нагý стаць, кóліць і кóліць.* Багданава. *Сéрца і кóліць, і балíць.* Заазер'е. КОЛЬ. Кальнуць.

*У па́лец коль – ме́тачка, як ма́кава зярно́ ста́ла.* Нямойта. 2. Забіваць чым-н. вострым (свіней). *Яны́ ко́люць сваі́х кабано́ў і до́бра жыву́ць.* Баравікі. ◊ ХОЦЬ У ВО́КА КАЛІ́. Зусім нічога не відаць з-за цемры. *Цёмна хоць у во́ка калі́.* Багданава.

**КАЛО́ЦЬ** *незак.* Калоць, разбіваць, рассякаць. *Там на у́ліцы дро́ві ко́лім, кало́дачка* [там стаіць]. Леснікі. *Я іх рэ́зала, кало́ла й скла́дывала ў граду́.* Заазер'е.

**КАЛПА́К** *м.* Накрыўка акруглай або конусападобнай формы над чым-н. *На канцы́ во́сі надзяе́цца, е́та называ́ецца кълпа́к.* Гарадзец.

**КАЛТУ́Н, КАЛДУ́Н, КУЛТУ́Н** *м.* Каўтун. *Калту́н – вълaсы́ саб'ю́цца, расчаса́ць не́як. Калту́н – чу́ла, ге́дак зва́лі, як вълaсы́ саўю́цца.* Багданава. *Калту́н збі́ўся, яго́ выстрыга́лі.* Гарадзец. *Калту́н саўе́цца, бале́зьнь калту́н.* Баравікі. *Култуны́ былі́, іх расча́сываць нільзя́.* Нямойта. *Калду́н у въласа́х бува́іць.* Сукрэмна.

**КАЛТЫХА́ЦЬ** *незак.* Ісці павольна, з цяжкасцю. *Пе́шкі калтыха́іш да До́льдзева, а каб аўто́бус хадзі́ў, зае́хъла п.* Партызаны.

**КАЛУ́Н** *м.* Цяжкая сякера з клінападобным лязом для колкі дроў; калун. *Калу́н – што дро́вы б'ець.* Вялікі Азярэцк. *Калу́н то́ўсты.* Запруддзе. *Калу́н і про́сты тапо́р.* Фасаўшчына.

**КАЛУПА́ЦЬ** *незак.* Калупацца, корпацца. *Пасля цiля́т і калупа́ла гэ́та, кап ні засну́ць, вышыва́ла.* Запруддзе.

**КАЛХО́ЗАВЫ** *прым.* Калгасны. *Я прые́хала сюды́ ў калхо́заву ха́ту.* Кляпчэва.

**КАЛХО́ЗНІК** *м.* Калгаснік. *Жы́та, пшані́цу – за грані́цу, ячме́нь, авёс МТС (ЭМТЭЭС) павёс, а касце́р у за́секу смяе́цца: што калхо́зніку дъстае́цца.* Кляпчэва.

**КАЛЫ́М** *м.* Пабочны заробак; калым. *Пае́дзець на калы́м – і прывязе́ць гро́шай.* Каралевічы.

**КАЛЫ́МІЦЬ** *незак.* Падзарабляць грошы незаконным шляхам; калыміць. *Ты ж калы́міш, а над грашы́ма трасе́сся.* Нямойта. *Е́здзюць на се́вер, калы́мюць.* Ракаў Засценак.

**КАЛЫ́СКА** *ж.* Калыска, дзіцячы ложак. *На́да ў калы́ску кла́сці й калыха́ць, каб яны́ сма́шна спа́лі.* Заазер'е. *А тады́ ўжо былі́ калы́скі, такі́я стъя́лі на палу́, мо́жна было́ кънча́ць.* Запруддзе, Манголія. *Пасрадзі ха́ты зачапі́лі калы́ску.* Закур'е.

**КАЛЫХА́ЦЦА** *незак.* 1. Зыбацца, вагацца. *Драгбу́чая ме́ста, як ідзе́ш, яно́ калы́шыцца.* Фасаўшчына. *Там про́рва, там твань калы́шыцца, там дна не даста́лі жардзі́намі.* Серкуці. 2. Хістацца, шатацца. *Зу́бы есь, але́ яны́, як арэ́лі, калы́шуцца.* КАЛЫ́Х-КАЛЫ́Х. Калыхнуцца, гушкнуцца. *Калы́х-калы́х, бярэ́зінка, / Балі́ць мая́ й сярэ́дзінка. / Кап у мяне́ было́ й куга́ка(ла), / А я п яго́ ўскалэхну́ла, / Сярэ́дзінка аддыхну́ла* (з песні). Міцюкова. 3. Гушкацца. *Вяро́ўку чапа́лі ў пу́ні і калыха́ліся. Да вайны́ былі́ і качэ́лі.* Леснікова, Нямойта.

**КАЛЫХА́ЦЬ** *незак.* 1. Зыбаць, вагаць. *Бу́ра калы́шыць.* Каралевічы. 2. Гойдаючы калыску, усыпляць дзіця. *На́да ў калы́ску кла́сці й калыха́ць, каб яны́ сма́шна спа́лі.* Заазер'е. *Кълыха́лі і пе́лі пе́сню.* Багданава.

**КАЛЬНУ́ЦЬ** *зак.* Кальнуць. *Ажно́ ў пле́чы кальну́ла.* Багданава.

**КАЛЬЦО́** *н.* Кальцо. *Як у мълацы́ кроў – скрось кальцо́ даіць на́да* (прыкмета). Леснікова. *Ко́льцы, тут у нас пяць кале́ц, чаты́ры ў зямлі́, а пя́ты – навярху́* [у калодзежы]. Багданава. *У сільсаве́ці далі́ мне чаты́ры кальцы́. Зруб стаў гніць ў кало́дзежы, тады́ ко́льцы. Яшчэ́ кальцо́ купі́ў.* Кляпчэва.

**КАЛЮ́КІ** *мн.* Печыва з пшанічнай мукі. *Калю́кі пяклі́ з мукі́ пшані́чнай.* Дольдзева.

**КАЛЮ́ЧЫ** *прым.* Калючы, колкі. *Зя́бір калю́чы ў гаро́дзі то́жа.* Жохава. *Шчыпчы́ннік над во́зерам, калю́чы. Ко́шка ня есь ёршыка, ён калю́чы.* Багданава, Запруддзе. КАЛЮ́ЧЫНЬКІ *памянш. Калю́чынькая трава́ была́ – асо́т.* Самсоны.

**КАЛЯ́, КАЛА́** *прыназ.* Каля. *А тут во раво́к касілі каля свайго́ гаро́ду.* Міцюкова. *Ра́ньшы жылі старыкі къла дзяцэ́й.* Марозаўка. *Ле́тась къла нас была́ віга.* Гарадзец. *Къла мяне́ ніхто́ ні зърабіў, акрамя сцікла́ ўсё сам рабіў.* Жохава. *Къла нас са́жълку вы́къпъў, і скот по́ім.* Каралі, Дольдзева, Запруддзе, Кішуроўшчына, Міцюкова, Сукрэмна.

**КАЛЯДА́, КАЛІДА́** *ж.* 1. Каляды. *Варо́жуць на Каляду́, куды́ шу́му панясе́ць, туды́ за́муш по́йдзіш. Усю шу́му с пе́чы, с ха́ты.* Чуцкі. *На Къляду́ мно́га зо́рак – мно́га арэ́хаў, мно́га грыбо́ў* (прыкмета). Багданава. *Тры каляды́ было́: за дзве нядзе́лі пе́рвая каліда́, пірад Но́вым го́дам – втара́я. На пе́рвую каляду́ вазілі ваду́ свянцо́ную с цэ́ркві, вады́ паспыта́юць і тады́ ядўць. Кало́тку цяга́лі на Къляду́, па́лку зацэ́піць і вълаку́ць.* Гарадзец, Дольдзева, Ракаў Засценак. *Каліда́ была́ – бліно́ў напяку́ць, блін на галаву́ кла́лі, ска́жаш: «Ідзі»* [дзяўчына замуж ідзе, сядзі – не пойдзе]. Дуброўкі. 2. Апошні дзень перад Калядамі. *Каліда́ – ве́чър перат Кълядамі.* Дольдзева. *Каліда́ сёння, нъза́ўтра Къля́ды.* Дольдзева. ○ ПРАСТА́Я КАЛЯДА́. Абрадавая вячэра перад першым днём свята. *Каліда́ пе́рвая – пръста́я, ва́руць куццю́, пат ска́церку се́на, заву́ць маро́с.* ○ БАГА́ТАЯ КАЛЯДА́. Абрадавая вячэра перад Новым годам (па старым стылі). *Трына́ццатага – бъга́тая къліда́, пірад Но́вым го́дам.* Багданава. *Жы́та, што ста́вяць на кут, аббіва́юць на бага́тую каляду́, аддаю́ць скаціні, каб скот гудува́ўся.* Запруддзе, Гарадзец. *Другая каліда́ – бъга́тъя, перат Но́вым го́дам.* Ракаў Засценак. ○ ТО́НІНЬКАЯ КАЛІДА́. Абрадавая вячэра перад Вадохрышчам. *Восімна́ццътъга январа́ – то́ніньк ъя каліда́, куццю́ с са́хъръм ядўць.* ○ БЕ́ДНАЯ КАЛЯДА́. Дзень напярэдадні Вадохрышча. *Калі на бе́дную къляду́ зо́ркі, то грыбы́ бу́дуць* (прыкмета). Вялікі Азярэцк, Багданава. ◊ Е́ЗДЗІЦЬ ПА КАЛЯДЗЕ́. Атрымліваць пачастунак за віншаванне з Калядой. *Е́здзілі па калядзе́* [поп], *дава́лі яму́ кілбасу́.* Дольдзева.

**КАЛЯ́ДНІЦА** *ж.* Каляды. *У Каля́дніцу маро́с.* Неўгадава.

**КАЛЯ́ДНЫ** *прым.* Калядны. *На́да къля́дным по́пілам пасыпа́ць па капу́сці, тады́ ня бу́дзіць чарве́й па капу́сці* (з назіранняў). Партызаны. *І каля́дныя* [песні] *былі, і Вялі́кадня былі, і валачэ́бныя.* Багданава, Апечкі.

**КАЛЯ́ДЫ, КО́ЛЯДЫ, КАЛЁДЫ** *мн.* Каляды. *У Къля́ды нільзя́ чъса́ць, забіва́ць гво́здзі, зашыва́ць ста́рае.* Партызаны. *Бярно́ прыцягну́лі ба́бе на Каля́ды. Кало́дку цяга́юць, па́лку зачэ́пяць.* Запруддзе. *На Каля́ды гада́лі дзе́ўкі: ту́флі брасалі, у зе́ркала свайго́ жаніха́ відзелі.* Буй. *У Каля́ды сбіра́юцца ваўкі – у іх ваўчы́ная сва́дзьба. Ко́ляды былі, праз нядзе́лю Раждзіство́.* Багданава. *Да́жа к Къля́дъм пяклі бліны́ гаро́хъвъя.* Каралевічы. *У Къля́ды са́мы каўба́сы.* Марозаўка, Нямойта. *Калі ў Калёды зо́рък мно́га, то грыбы́ бу́дуць* (прыкмета). Леснікова. КАЛЯ́ДКІ, КАЛЯ́ДАЧКІ *памянш. Прыйшлі Каля́ткі – бліны́ ды ла́ткі.* Партызаны, Вялікі Азярэцк. *Каля́дачкі – бліны́, ла́дачкі, / Прыхадзіце к нам, накарміце нас* (з песні). Запруддзе.

**КАЛЯ́НДРА** *ж.* Каляндра (спецыя, прыправа). *Кмін, часно́к, каля́ндру, пе́рац кла́лі ў каўба́сы. Нато́ркала часнаку́, каля́ндру.* Міцюкова.

**КАЛЯ́НЫ** *прым.* 1. Каляны, цвёрды. *Бу́льба была́ каля́ная, не́льга пацэ́рці.* Нямойта. *Да Пітра́ на́да ве́нікі віза́ць, ён мя́ккі, а по́слі Пітра́ ён къля́ны.* Ракаў

Засценак. *Бяру́ць каля́ныя мяшкі, з го́ркі ўніз – і паехаў.* Міцюкова. КАЛЯ́НЕНЬКІ *памянш. Як недабітае* [кросны], *касма́тае, дрэ́нна тка́ласе, се́мям лля́ным аблівáлі, се́мям пама́жуць, каля́ненькае.* Багданава. 2. Загусцелы. *Яно́* [талакно з вадой] *ста́ніць каля́нае, бярэ́ш у ру́ку і ясі, і вады́ папіва́еш.* Багданава, Дольдзева, Міцюкова. 3. Пазбаўлены мілагучнасці. *Гру́бае, каля́нае фамíлье.* Нямойта.

**КАЛЯСКО́** *н.* Маленькае кола. *Нъ кълянско́ б'еш, і сукáла сукáіць.* Закур'е, Багданава.

**КАЛЯСО́** *н.*, **КАЛЯСЫ́** *мн.* 1. Кола. *Запа́люць калясо́, по́йдуць у жы́та, вясёла было́.* Алексінічы. *Кълясо́м табе́ даро́га, кап ты там пíръвярну́ўся – гэ́та ўжо дрэ́нна* [пажаданне няўдачы ў дарозе]. Нямойта. *Калясы́ тра́ктара палíлі на Купа́ла.* Багданава. *Кірмашы́ былí. На кірма́ш вязу́ць са́ні, кълясы́, бо́чкі.* Рубежніца. *Калясо́ў занясе́ць, пакрышак – і пыла́ець з мазу́тай.* Гарадзец. 2. Невялікае кола ў калаўротку. *Шнуры́ на рэ́пку і на калясо́, і кру́ціцца калясо́ і рэ́пка.* Каралі. 3. Крываногі. *Ён кълясо́ – но́гі крывэ́я.* Сянно. ◊ КАЛЯСО́М ДАРО́ГА. Пажаданне добрай дарогі. *Ат'яжджа́юць – калясо́м даро́га.* Каралевічы, Парэчча, Неўгадава.

**КАЛЯЯ́** *ж.* Каляя, каляіна. *Яна́ ў каляе́ найдзе́ць пад пу́няй, як п'я́ны.* Кляпчэва.

**КАМАВА́СТЫ** *прым.* Нягладкі, выпуклы. *А бальшэ́я чо́рныя гало́вы, кълмава́стыя грыбы́. Бървікі, бывáла, къмъва́стыя, чо́рныя гало́вы.* Запруддзе.

**КАМА́НДАВАЦЬ** *незак.* Быць галоўным (пра пчаліную сям'ю). *Ма́тка ў пчол кама́ндаваіць.* Неўгадава.

**КАМАНДЗІ́ЦЬ** *незак.* Верхаводзіць, кіраваць. *Ге́та, як прые́дуць да маладо́га, камандзя́ць.* Дуброўкі.

**КАМА́Р** *м.* Камар. *Цiпля́та траву́ яду́ць, къмаро́ў хвата́юць.* Партызаны. *Камары́ мак таўку́ць, то цёпла бу́дзіць* (прыкмета). Гарадзец. *Ну і сíлы ш, як у таго́ къмара́!* Вялікі Азярэцк, Багданава, Сукрэмна.

**КАМА́РНЫ** *прым.* Час, у які бывае шмат камароў. *Кама́рны год, і авадне́й мно́га – мало́чны год* (прыкмета). *Сядзе́ць невазмо́жна, къма́рны год.* Партызаны.

**КАМБІКО́РМ** *м.* Камбікорм. *Камбіко́рму даў і вады́ да́йжа даў.* Міцюкова. *Камбіко́рм і той раздзе́люць.* Буй, Запруддзе, Партызаны.

**КАМЕ́ЛЬ** *м.* 1. Ніжняя частка ствала дрэва. *Каме́ль дзе́рава ляжы́ць на лісíцах, а маку́шка ця́нецца.* Міцюкова. *Як у камлí, так і ў маку́шкі ро́ўненькі лес.* Баравікі. *Каме́ль ёсь каме́ль, а пя́тка пя́ткай называ́еццa.* Нямойта. 2. Частка снапа ніжэй перавясла. *Каме́ль – ні́жы вíзьма́.* Гарадзец. *У снапу́ каме́ль, верхняя ча́стка – маку́шка.* Розмыслава. КАМЯЛЁК, КАМЁЛАК *памянш. Къмялькí ро́ўнінькія* [у снапе]. Серкуці. *Яго́ як во́зьміш* [дзіця], *дык ён ця́шкі, як снапо́к, як къмялёк.* Запруддзе. *Уну́чка была́, што камёлак, а ця́пер накармíць – не́шта ня есць.* Жохава.

**КАМЕ́ННЕ** *н. зб.* Камяні. *Накача́юць каме́ння, во і падму́рак.* Фасаўшчына.

**КА́МЕНЬ, КА́МІНЬ** *м.* 1. Прыродны камень. *Дом стаíць на ка́мні.* Леснікова. *На по́лі нільзя́ път ка́мень садзíцца, калí пяру́н.* Запруддзе. 2. Абточаны камень у жорнах. *У жо́рнах ёсь ве́рхні ка́мінь і ні́жні ка́мінь.* Неўгадава. *На жо́рны бра́лі ка́мні жърсвя́ныя, по́лжърсвяныя, каб быў во́йстрый.* Заазер'е. 3. Надмагільны камень. *На кла́дбішчы кла́лі ка́мні къля магíлкі. Дзе́ўка памёрла перат тэй вайно́й, радзíцелі пъста́вілі ка́мінь і напíса́лі імя́.* Мянюцева. 4. Крэмень. *Ка́мінь, як сцікля́нны, крэ́пкі.* Багданава. КАМЯНЁК *памянш. Пъткладу́ць къмянькí, такíя плíстъчкі.* Каралевічы. ◊ КА́МІНЕМ ТАБЕ́ ЗІМЛЯ́! Як праклён дрэннаму чалавеку. *Кап табе́ ка́мінем зімля́.* Нямойта.

□ *На адны́м ме́сці і ка́мень абраста́іць.* Ульянавічы, Багданава, Гарадзец, Серкуці.

**КА́МІНКА** *м.* Від воза для перавозкі бярвення. *Ка́мінка вазі́ць лес, там былі́ вілкі ззя́ду, вяро́ўкай увя́звалася* [бервяно]. Нямойта.

**КА́МІННЫ, КАМЯНЫ́** *прым.* Каменны. *Ра́ньшы дзе́лалі ка́мінныя паграбні́.* Леснікова. *Камяны́я жо́рны былі́ – жме́ньку, дзве ўсы́піш – і кру́ціш.* Цясішча.

**КАМКА́ЦЬ, КАМЧЫ́ЦЬ** *незак.* 1. Рабіць камякі, ляпіць. *Як ра́ньшы талакно́ мало́лі, зме́люць, на вадзе́ хало́днай заме́сіш, камка́іш яго́ ў кулаку́ і ядзі́ш с кулака́.* Багданава. 2. Мяць. *Ні скру́чывай паўшу́бак і ні камчы́.* Жохава.

**КАМО́РКА** *ж.* 1. Кладоўка. *Была́ камо́рка для са́ла.* Нямойта. *Камо́рка ў ха́ці адгаро́джана дъска́мі, ра́ньшы так было́.* Заазер'е. 2. Асобны невялікі пакой. *Ха́та пабі́тая на камо́ркі.* Запруддзе. *У ха́це камо́рку здзе́лаіць.* Гарадзец, Нямойта. 3. Крама, лаўка. *Камо́ркі ў Сянне́ былі́, ла́ўкі.* Багданава.

**КАМО́РНІК** *м.* Каморнік, землямер. *Камо́рнік събра́нія дзе́луў у нас.* Гарадок.

**КАМО́ХАЦЦА** *незак.* Марудна рабіць, ледзь варушыцца. *Ён камо́хъіцца, а ту́та дош пачына́іць. Скарэ́й!* Сянно. *У каго́ сіла ёсь* [у старых], *тэй ко́е-как камо́хъіцца.* Галашчакіна.

**КАМСА́** *ж.* Дробная рачная рыба. *Камсу́ лавілі ў во́зеры, сушы́лі і вары́лі, укі́неш у по́ліўку, і ла́нна.* Партызаны.

**КАМУВА́СТЫ** *прым.* Камлісты. *Камува́стае дзе́рава, мно́га су́ччаў на ём.* Запруддзе.

**КАМУ́НА** *ж.* 1. Група людзей, аб'яднаная для супольнага жыцця пры абагульненні працы і сродкаў вытворчасці. *У тры́ццаць трэ́цюм каму́ны былі́ ў нас, пато́м калхо́зы. Там была́ канто́ра каму́ны.* Нямойта. 2. *мн.* Назва мясціны. *Каро́вы пашлі́ нъ Каму́ны.* Нямойта.

**КАМУШО́К, КУМУШО́К** *м.* Каменьчык. *Мълако́ аттопіцца, вы́ніш, сцэ́дзіш сы́раватку, пало́жыш пад камушо́к.* Міцюкова. *Грыбы́ з друсліка́ ў дзе́жъчку пълажу́, бяру́ ма́рлічку і ў по́сныя ма́сла пумачу́, пу вярху́ пасы́плю со́лі, пълажу́ дэ́нъчка, кумушо́к на верх і год стаіць.* Сяргейкі. *Цвёрдзенькія, як камушкі* [пра грыбы]. Запруддзе.

**КАМЫ́** *толькі мн.* 1. Бульбяная каша. *Бу́льбы атва́руць і патаўку́ць і камы́ яду́ць.* Турава. *Каб ты мне капу́сты по́снай з апе́нькамі ды камо́ў бульбя́ных нагатава́ла, я б еў. Камы́ запраўля́лі здо́рам, з па́раным бо́бам е́лі.* Міцюкова. *Камы́ таўклі́, з ма́кам е́лі.* Запруддзе. *Камы́ бу́дзем дзе́лаць с тушо́нкай.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Кляпчэва, Леснікова, Дуброўкі. 2. Каша з бобу ці гароху. *Камы́ з бо́бу дзе́лаюць, ні квасо́ль, а боп па́руць, тады́ таўку́ць у сту́пе ці чугуне́, дабаўля́юць со́лі, цыбу́лю, у каго́ ёсь жыр, і таўку́ць, і называ́юць камы́. З бо́бу камы́, боп ва́руць, тады́ таўку́ць у сту́пі, дъбъўля́лі муку́, со́лі.* Кішуроўшчына. 3. Каша з бобу і бульбы. *З бо́бу дзе́лалі камы́: напа́руць бо́бу, і напа́руць карто́шкі, і ў сту́пу со́лі нымно́шка пасо́люць і таўкачо́м патаўку́ць.* Марозаўка. *Бо́бу нъпа́руць, бу́льбу – стаўку́ць, намі́ша́юць камо́ў гэ́тых.* Багданава.

**КАМЯ́ГА** *ж.* Лодка, выдзеўбаная з тоўстага дрэва для лоўлі рыбы. *Къмя́га – ло́тка тъка́я. Къмя́га з дзе́ръва, то́ўстая, і выбіва́ецца такé́й сякé́рай загну́тай.* Запруддзе. *У нас къмя́га заве́цца, во́йстры но́сік, на ёй ры́бу ло́вяць; па біра́га́х пла́нкі прыбі́ты.* Баравікі. *І на камя́зі ні магу́ плы́сці, браўно́ таўсто́я, як абня́ць, тады́ апцёшуць, здзе́лаюць во́йстры, як лыч.* Багданава.

**КАМЯ́К** *м.* Крупінка (пра нерассасанае рэчыва). *Налавіла вужа́каў, насто́яла, камякі не разышліся саўсім, я буты́лкі так і закапа́ла.* Марозаўка. КАМО́ЧАК *памянш.* Невялікі камок. *Камо́чък це́ста ў дзе́шцы астъу́ляю.* Заазер'е.

**КАМЯНІ́ЦА** *ж.* Брукаванка. *Ра́ньшы тут даро́га была́ камяні́ца, не асфа́льт.* Каралі.

**КАМЯ́ШКА** *ж.* Выдзеўбаная з тоўстага дрэва лодка для лоўлі рыбы. *Камя́шка ў яго́ была́ вы́даўблінья.* Багданава. *Ло́тка называ́іцца къмя́шка.* Заазер'е.

**КАНА́ВА** *ж.* Канава. *З мужуко́м на къна́вах былі.* Багданава.

**КАНАВА́Л** *м.* Канавал. *Късьва́л вымаў я́дры ў жъръбца́.* Заазер'е. *Адамёнък Ко́ля кънъва́лъм быў.* Пожанькі.

**КАНА́ПА** *ж.* Канапа. *Э́та кана́па, сто́ляр здзе́лаў.* Фасаўшчына.

**КАНАПА́ТКА** *ж.* Самаробная лямпа без шкла; газоўка, газнічка. *Кънъпа́тка – ла́мпъчка тъка́я гарэ́ла біс сціклá. Вічару́шка была́ пры кънъпа́тцы.* Дольдзева.

**КАНАПА́ЦЕННЫ** *прым.* Надзвычай плямісты, пакрыты плямкамі. *У нас раслі се́рыя я́блыкі, яны́ мя́ккія, кънъпа́ценныя, с се́рымі кро́пінкъмі, ра́ннія я́блыкі.* Сянно.

**КАНАПЕ́ЛЬКІ** *мн.* Кураслеп (расліна). *Канапе́лькі на по́лі, о́чань харашо́, кагда́ мача́ ня йдзець.* Каралевічы. *Шы́шкі ста́лі е́сці, кънапе́лькі на по́лі, таўклі, пръснакі пяклі* [пасля вайны адразу]. *Канапе́лькі шэ́ранькія, як баліць сэ́рца настáйваюць.* Партызаны. *Канапе́лькі – ліка́рственная трава́ ад мачаво́га пузыра́, лячэ́бны, то́пюць і п'юць.* Каралі. *На по́жнях канапе́лькі, дрыжа́ць, як кано́плі, падо́бныя.* Багданава, Алексінічы, Запруддзе, Каралевічы.

**КАНАПЛІ́НА** *ж.* 1. Каліва канапель. *Бува́іць канаплі́на, а бува́іць пуста́я вісіць, німа́ на ёй канапе́ль. Е́та тады́ звалі пасканні іх.* Самсоны. 2. Пра нешта вельмі маленькае, памерам з зерне канапель. *Мо́жа з канаплі́ну ко́рань аста́ўся.* Нямойта.

**КАНАПЛЯ́НКА** *ж.* Канаплянка (птушка). *Кънъпля́нка – яна́ ціпа въръб'я́, жо́ўціңкъя гало́ўка ў куста́рнікъх. Кано́плі сільна любілі.* Сянно.

**КАНАПЛЯ́НКА** *ж.* Пуга, звітая з пянькі, з вузельчыкамі. *Ня ві ты е́тыя канапля́нкі!* Сянно.

**КАНАПЛЯ́СТЫ** *прым.* Плямісты. *Кънъпля́сты конь у сусе́да быў.* Запруддзе.

**КАНА́ЎНЫ** *прым.* Які расце ў канаве. *Дзе ты́я къна́ўныя грыбы́?* Вялікі Азярэцк.

**КАНА́ЦЬ** *незак.* Мучыцца. *Як тру́дна, дык і кана́ець чалаве́к.* Багданава.

**КАНБА́Й, КАНБА́ЙН** *м.* Камбайн. *Кънба́і ста́лі, і ле́хчы ста́ла мълаціць.* Дуброўкі. *Сярпа́мі жа́лі, не зна́лі які́ канба́йн.* Закур'е.

**КАНБАНЁР** *м.* Камбайнер. *Канбанёры ўбіра́юць і атво́зяць.* Гарадзец.

**КАНВА́** *ж.* Рэдкая сятчатая тканіна для вышывання крыжам; канва. *Па канве́ хрэ́сцікам вышыва́ла.* Запруддзе.

**КАНВУ́ЛЬСІЯ, КУНВУ́ЛЬСІЯ** *ж.* Сутаргі ва ўсім целе; канвульсія. *Як канву́льсія, кіпяціць піво́нь, даюць піць.* Каралі. *Канву́льсія была́, кі́нець у так* [вось так]. Апечкі. *Як канву́льсія выкі́двалася, праліла́ ваду́* [праз дзірку]. Багданава. *Кунву́льсія ці прыпа́дак у нас зва́лі.* Вялікі Азярэцк.

**КАНГРЭ́НА** *ж.* Гангрэна. *Кангрэ́ну патхапіў, кап сра́зу атняў нагу́, а то бъя́ўся.* Багданава.

**КАНДАЛЫ́** *мн.* Абутак на драўлянай падэшве. *На вечары́нку ў кандала́х пры́йдзеш, басяко́м танцава́лі.* Цясішча.

**КАНДА́ЛЬНІЦА** *ж. эмац.-ацэн.* Пра сварлівую жанчыну. *З жо́нкай як съсва́рыцца, дык ён на яе́: къндáльніца ты, ланцу́жніца.* Ульянавічы.

**КАНЕ́ЎНІК** *м.* Знаўца коней. *Я канéўнік бóлі цыгана.* Сянно.

**КАНЕ́Ц** *м.* Ускраіна. *Хáта былá на сáмум канцы́.* Запруддзе. *Купілі на канцы́ дáчу з Ленінгрáда людзі.* Закур'е. *Нъ канцу́ жывéць дзет, ён уну́тры гадавáў.* Багданава. *У канцы́ пóля кусты́. Яны́ мішáюць пъхáць.* Фасаўшчына. КО́НЧЫК *памянш.* *У сáмым кóнчыку лéсу клáдбішча.* Латыгаль. *Пасóдзіцца, дзе кóнчык, ранéйшай бу́льбы.* Нямойта.

**КАНЕ́ШНА, КАНЕ́ШНІ** *прысл.* Канешне. *Ну, тóпім, канéшна, харашó, каб ён запёкся.* Серкуці. *Канéшні, гэ́ты дзет вайны́ ня нюхаў.* Неўгадава, Сянно.

**КАНЁК** *м.* Канёк, вільчык страхі. *На крышу з дасóк ці з жэ́сці канёк дзéлаіцца.* Гарадзец. *Пóсле кры́шы канёк стáвілі, кап снех ні забівáў.* Міцюкова. *Канёк, як кары́цца, збівáюць, усцягуюць і прыбівáюць.* Вялікі Азярэцк. *Вільчык у канцы́, а канёк пъвярху́ хáты, як кары́цца.* Фасаўшчына, Мянюцева.

**КАНІ́КУЛЫ** *толькі мн.* Канікулы. *Мáльцы цяпéр у канікулах.* Кляпчэва. *Дзяўчы́не канікалы бу́дуць, прыéдзець сюды́.* Багданава.

**КАНО́ПЛІ, КАНАПЛІ́** *мн.,* **КАНАПЛЯ́** *ж.* Каноплі. *Нъ Кълідý канóплі пад вакнóм сéілі, пакідъюць пад вакнóм, а тады́ хто ёй сасніцца.* Гарадзец. *Ціпéр канапéль німá, рэ́дка хто кала я́блань ягó сéіць. Ад рвóты, ад дурніц ці ад бáзану, дык ў канóпліх клáлісі.* Багданава, Гарадок, Заазер'е, Каралі, Закур'е. *Кънапля́ ад даўлéння.* Дольдзева. *Канаплі сéялі, цяпéр звялíся.* Дуброўкі.

**КАНСЕ́РВІНА** *ж.* Кансервы. *Кансéрвіну, ры́біну прывязéць, тушóнку запраўля́ць.* Леснікова.

**КАНТ** *м.* Рабро ў дошцы або брусе; кант. *Цéшуць на квадрáт, на чаты́ры кáнта і ўкóпаіцца ў зямлю́* [браўно]. Нямойта.

**КА́НТАР, КАНТА́Р** *м.* Від бязмена; вагі. *Кáнтар і пут быў і паўпу́да быў. Тут хлеп, а тут кáнтар гэ́ты.* Фасаўшчына. *Кáнтар – вясы́, дзéсяць кілагрáм, бóлей. Як цялёнка здавáла, вáжуць на кáнтары.* Сукрэмна. *Кáнтар тóжа быў пудóвы і на паўпу́да, як карóмысіл. На адзін бок гіру éту – кáнтар.* Вялікі Азярэцк, Багданава. *Кънтáр быў, гіра такáя, груз, калі рóўна – тады́ пут.* Гарадзец.

**КАНТУ́ЖАНЫ** *дзеепрым.* Кантужаны. *Вайнá ягó з'éла: канту́жаны і рáнены.* Запруддзе. *Два разы́ канту́жана перунóм былá.* Нямойта.

**КАНТУ́ЖЫЦЬ** *зак.* Кантузіць. *Ягó жóнку канту́жылі.* Кішуроўшчына.

**КАНУ́РКА** *ж.* 1. Карункі. *А гэ́та прышывáлася кану́рка. Сáмі візáлі.* Фасаўшчына. 2. Элемент узору ў карунках. *Кружъвá візáлі, кану́ркі такія ў кружэвáх.* Дольдзева.

**КА́НУЦЬ** *зак.* ◊ ЯК У ВАДУ́ КА́НУЎ. Бясследна прапасці, знікнуць. *Прапáў як у вадý кáнуў.* Вялікі Азярэцк.

**КАНФЕ́ЦІНА** *ж.* Цукерка. *Бывáла канфéціны ня з'еў нівóдзін і не відзіў яé.* Мянюцева.

**КАНЦАВЫ́** *прым.* Канцавы. *З канцавэ́й хáты мужыкі прыхóдзяць у бáню.* Партызаны.

**КАНЦЫ́** *толькі мн.* Канцы асновы, якія адразаюць пасля датыкання красён. *Канцы́ атрэ́жаш і што-нéбудзь шы́еш.* Рэчкі. *Канцы́ – дáльшэ нéкуды ткаць.* Леснікова. *Увя́знік дзéлалі с канцóў крóсін.* Гарадзец.

**КАНЧА́ЦЦА** *незак.* Паміраць, вельмі дрэнна сябе адчуваць. *Ста́ла мне пло́ха, канча́юся.* Вялікі Азярэцк. *Дык ён жа до́ма саўсі́м канча́ўся ў чацве́р.* Буй. *Ма́мка мъя́, я ду́мала канчу́ся: ноч і дзень ні спа́ла.* Запруддзе, Нямойта.

**КА́НЬКАЛА** *агульн.* Хто настойліва, назойліва просіць. *Ка́нькала ты!* Запруддзе.

**КА́НЬКАЦЬ** *незак.* Канькаць (пра птушку каню). *Ваду́ про́сіць, ка́нькаіць ка́ня.* Мянюцева.

**КАНЮ́Х, КУНЮ́Х** *м.* Конюх. *Я каню́х, я пасу́, ня тронь къня́.* Чуцькі. *Ра́ньша е́здзілі на начле́х, німа́ каню́ха цяпе́р.* Нямойта. *Кунюхо́м быў дзень і ноч.* Багданава.

**КАНЮХО́ЎСТВА** *н.* Догляд коней. *У яго́ кънюхо́ўства: ужо́ къла ко́ней два́ццъць во́сім гадо́ў.* Жохава.

**КАНЮШЫ́НА** *ж.* Канюшына. *На канюшы́не гато́вы мёд бяро́ць пчъла́.* Вялікі Азярэцк, Багданава.

**КА́НЯ** *ж.* Каня (птушка). *Ка́ня до́жджу про́сіць.* Буй.

**КАПА́** *ж.* 1. Невялікі стажок сена, саломы і інш. *Я пайду́ жаць, пяць коп нажну́.* Чуцькі. *Шэ́сцьдзесят коп нажне́м жы́та.* Закур'е. *Шэсь коп нажа́ла ячме́ню.* Гарадок. *Тры капы́ лёну скі́неш.* Міцюкова. 2. Мера ў шэсцьдзясят адзінак, штук. *У капе́ шэйся́т снапо́ў.* Чуцькі. *Капа́ – шэ́здзісят снапо́ў, яе́ц, гурко́ў. Гуркі́ шчыта́лі къпа́мі.* Вялікі Азярэцк. 3. Стажок лёну на чатыры бапкі. *У капу́ склада́юць чаты́ры ба́пкі.* Вялікі Азярэцк.

**КА́ПА** *ж.* Скураное пакрыццё хамута. *А зве́рху хамуці́ну пакрыва́юць – ка́па называ́ецца. Сядзёлка – рэ́бры, ка́па зве́рху, зні́зу патні́к.* Гарадзец.

**КАПА́НІКІ, КО́ПАНІКІ** *мн.* Санкі, палазы якіх не гнутыя, а зробленыя з дрэва, выкапанага з коранем. *Капа́нікі – е́та са́нкі с карне́й называ́лісі.* Нямойта. *Гну́лі пълазы́ ці ко́панікі шука́лі ў лясу́. Іл́і ко́панікі, ко́рні такі́я ў лясу́, выка́пывълі. Зва́лі са́ні ко́пънікі з бяро́зы, калі́ пълазы́ къпа́ныі.* Гарадзец.

**КАПАНУ́ЦЬ** *зак.* Капануць, капнуць. *На гаро́дзе вуш, яна́ къпану́ла, ён – у траву́.* Леснікова.

**КАПАЦІ́ЦЬ** *незак.* Хутка бегчы, імчацца. *Къпъці́ця зъ ба́нкімі* [каб здаць бутэлькі, слоікі]! Фасаўшчына.

**КАПА́ЦЦА** *незак.* 1. Капаючы, разграбаючы, рыцца ў чым-н. *У гэ́тым шу́мі віраб'і́ къпа́ліся.* Багданава. *Я ішла́ жы́та жаць, гляжу́, там къпа́юцца лю́дзі.* Самсоны. 2. Корпацца,важдацца. *Хазя́йства е́та: капа́йся і капа́йся.* Фасаўшчына.

**КАПА́ЦЬ** *незак.* 1. Выкопваць. *Къпа́ла карто́шку і ў бъразне́ радзіла́.* Вялікі Азярэцк. *Саўсі́м бу́льбы ні капа́лі, прапа́ў гаро́д.* Чуцькі. 2. Ускопваць. *Адны́ ба́бы ў брыга́дзі, къпа́лі лъпа́тамі зямлю́.* Сукрэмна, Запруддзе. 3. Разграбаць (пра курэй). *Ку́ры капа́юць, німа́ спа́су.* Латыгаль.

**КА́ПАЦЬ** *незак.* 1. Капаць, крапаць. *А ён* [сок] *па сало́мцы ка́паець, ка́паець.* Багданава. 2. Дадаваць пакрысе. *Зра́зу рубле́й двъна́ццъць пе́нсіі далі́, а тады́ два́ццъць, а тады́ со́рак, а про́шлы гот ужо́ се́мдзісят – ка́палі пе́нсію.* Партызаны.

**КАПА́Ч** *м.* 1. Прылада для капання зямлі; капаніца. *Къпъча́мі къпа́юць бу́льбу, а тады́ рука́мі.* Неўгадава. 2. Прылада, якой скідаюць гной з воза. *Къпа́ч – сця́гваюць гной.* Чуцькі.

**КАПА́ЧКА** *ж.* Прылада для капання зямлі; капаніца. *Капа́чка така́я: накапа́й, накапа́й – і палі́.* Запруддзе.

**КА́ПАЧКА** *ж.* Зусім, ніколькі. *Ка́пачкі ні по́мачы нет ат е́тых уко́лаў.* Міцюкова.

**КАПАШНУ́ЦЬ** *зак.* Нарабіць шкоды. *Дзетвара́ гэ́та тро́шку капашну́ла ў цэ́нтры* [на Купалле]. Нямойта.

**КАПАШЫ́ЦЦА** *незак.* Корпацца. *Во так капэ́шуцца.* Міцюкова.

**КАПЕ́ЙКА** *ж.* 1. Грашовая адзінка. *На́йдзіш капе́йкі, е́слі ляжы́ць но́мерам уве́рх, тады́ бяры́, то бу́дзіць пры́быль, а як уніс но́мерам, то не падыма́й* (прыкмета). *Ляжы́ць две капе́йкі па два́ццаць капе́ек, ма́ліц узя́ў, а дзет ка́жыць: во, бяры́, ты яшчэ́ со́рак гадо́ў пражыве́ш* (прыкмета). Ракаў Засценак, Гарадок. 2. *зб.* Грошы, грашовыя сродкі. *Сёстры памага́лі капе́йкай, а я ім трудо́м.* Савінічы.

**КАПЕ́ЙЧЫНА** *ж.* Пра невялікія грошы. *Як яка́я капе́йчына – усё яму́ аддае́ць.* Міцюкова.

**КАПЕ́ЛАК, КАПЁЛАК** *м.* Невялікі выступ у печы. *Капе́лак каля пе́чы ро́бяць. На капе́лак ста́ну і на печ, а так віс́о́ка.* Багданава. *На капёлку сядзь!* Запруддзе.

**КАПЕ́ЛЬ** *ж.* Вада з дажджу або талага снегу, што сцякае са страхі; капеж. *Цячэ́ць капе́ль.* Буй.

**КАПЕ́Ц** *м.* Капец (бульбы). *На се́мя зака́пываем у капе́ц бу́льбу.* Каралі. *Бу́льба памёрзла ў къпца́х.* Партызаны. *Капе́ц, дзе карто́шку зъка́пываюць.* Марозаўка. *Было́ мно́га бу́льбы, дык я зака́пывала ў капе́ц.* Запруддзе. *Мой хъзя́ін късна́ў яму, ніко́лі на го́лай зямлі́ капе́ц ні дзе́лаў ні для бу́льбы, ні для гаро́дніны.* Дольдзева, Каралевічы, Розмыслава, Самсоны, Фасаўшчына, Закур'е.

**КАПЕ́ШКА** *ж.* Невялікая капа (сена, саломы і інш.); капешка. *Пашлі́ се́на варо́чаць, капе́шкі дзве скла́лі.* Заазер'е. *Ці ты накры́ла сва́е капе́шкі тро́ху?* Запруддзе. *І се́на ціга́лі на сабе́, капе́шкі, у стох скі́дывалі.* Леснікова. *Два вазы́ асакі́ накасі́лі, у капе́шку скла́лі.* Каралевічы, Гарадзец, Дольдзева, Кляпчэва, Розмыслава, Фасаўшчына. КАПЕ́ШАЧКА *памянш.* 1. Невялічкая капа (сена, саломы і інш.). *Кле́вер сушы́лі так. За касцо́м ба́бы ідў́ць і кле́вір за маку́шъчку і ў капе́шъчку ста́вюць. Пасо́хніць, а тады́ ба́ба падо́йдзіць і дзірвя́нными вільчкімі піраве́рніць і пышла́.* Міцюкова. *Адну́ капе́шачку перасушы́ла травы́.* Латыгаль. *Капе́шачкі се́на склада́лі. Капе́шачка ў по́лі нібальша́я.* Багданава. 2. Горка зямлі, вырытая кратом. *Крот ры́іць но́ру, у яго́ капе́шъчка нібъльша́я* [атрымліваецца зверху].

**КАПІ́РЫШЧА** *н.* Вельмі стары маленькі дом. *Капі́рышча тако́е за дом не шчыта́ю.* Нямойта.

**КАПІ́ЦЬ** *незак.* Запасіць, збіраць. *Капя́ць гэ́тыя гро́шы.* Багданава.

**КА́ПКА** *ж.* Невялікая дзіцячая капа. *Пялёнкі няслі́, распашо́нкі, ка́пку, адзія́лца – ну, хто што змо́жыць, той няслі́.* Запруддзе.

**КАПЛІ́ЦА** *ж.* Капліца. *І царква́, і капліца ў нас была́, усё расціра́білі.* Серкуці. *Там капліца стъя́ла, крыніца была́.* Вялікі Азярэцк. *Туды́ ш смяро́тніка вазі́лі, ён там нъчува́ў у капліцы.* Серкуці. КАПЛІ́ЧКА *памянш.* *Каплі́чка стъя́ла там, там, дзе крыні́чкі свянцо́ныя.* Багданава.

**КАПЛУ́Н** *м.* 1. Пакладаны певень, якога адкормліваюць на мяса. *Каплу́н такі́ быва́іць – ні пяе́ць, так хо́дзіць, і ні нясе́цца – нічо́га.* Запруддзе. 2. Гермафрадыт. *Каплу́н – ні ку́рыца, ні пяту́х. Ён с курмі́ ні гуля́іць.* Багданава. *Каплу́н у нас заве́цца: ён ні пяту́х, ні ку́рыца. І ў людзе́й быва́іць: ні ма́лец, ні дзе́ўка.* Гарадзец. 3. Пакладаны кабан. *Каплу́н – е́слі адно́ яйцо́. Ад яго́ ні пакрыва́юцца свінні.* Гарадзец.

**КА́ПЛЯ** *ж.* Трошкі, крыху. *Вазьмі́ там ка́плю со́лі.* Сукрэмна.

**КАПНА́** *ж.* 1. Капа (сена, лёну і інш.) *Ко́пны се́на растраса́ім.* Розмыслава, Дольдзева. 2. Мера лёну ў дзесяць снапоў. *Лён ста́вілі ў ко́пны, па дзе́сіць снапо́ў.* Закур'е.

**КАПНІ́ЦА** *ж.* Пастка. *Ціцірукоў лавілі ў капніцы такея.* Нямойта.

**КАПРЫ́ЗЛІВЫ** *прым.* Капрызны. *Як два разы сіську даюць, то капрызлівы будзіць дзяцёнак* (з назіранняў). Запруддзе.

**КАПРЫ́ЗНЫ** *прым.* Тое ж. *Ён дужа есць дрэнна, дужа капрызны.* Кляпчэва. *Баба капрызная дужа.* Нямойта.

**КАПТУ́Р** *м.* Невялікі выступ каля нізу коміна. *Каптур, з каптура комін. Ён каля коміна, шырэйшы.* Фасаўшчына. *Каптур во, у нас тры каптуры* [у печы]. *Ета каптур, і ета, што хочаш палож̌ыш: пер'я, яблыкі, абуванне.* Багданава. *Каптур каля коміна ў печы.* Рулёўшчына, Алексінічы.

**КАПТУ́ШКА** *ж.* Самаробная лямпа без шкла; газоўка, капцілка. *Каптушка – бутыльчка, ссучъна кудзелі, у кърасін абмочъна і гарыць.* Фасаўшчына.

**КАПУ́СНІК** *м. зб.* Капуснае лісце. *Лісце морквы – маркоўнік, буракоў – бурачнік, капусты – капуснік. Хлеб на капусніку пякуць.* Гарадзец. *Капуснік, бурашнік, маркоўнік – усё паядуць.* Самсоны. *Капуснік паткладалі, каб хлеб слез з лапаты.* Дуброўкі.

**КАПУ́СНІК** *м.* 1. Бялян-капуснік. *Мятлік, капуснік аткладуць яечкі на капусці.* Гарадзец. 2. Капусны вусень. *Мятыль лётъіць, а тады нъ капусці чървяк станіць, есь капусту тэй чървяк – капуснік.* Вялікі Азярэцк.

**КАПУ́СНІЦА** *ж.* Бялян-капуснік. *Капусніца* [мятлік] – *жоўценькая, беленькая.* Вялікі Азярэцк.

**КАПУ́СНЫ** *прым.* Капусны. *Хто кляновы ліст клаў пад хлеб, хто капусны, мукой падсыпалі.* Чуцькі. *Хлеб пяклі на аіры, на капусным лісце.* Міцюкова. *Клалі ліст капусны, тады хлеп харошы.* Станюкі. *Капуснъя лісціна на ранку, і зъжыла.* Партызаны, Гарадок, Цясішча.

**КАПУ́СТА** *ж.* 1. Капуста. *У які дзень перны снех выпадзіць, тады садзі капусту* (прыкмета). *Лягушкі заквокчуць, тады садзі капусту* (прыкмета). Гарадзец. *Як капусту садзяць, то зразу камінь кладуць, гавоpуць: расці каляна, як гэты камінь* (прыкмета). Ракаў Засценак. *Капусту содзюць на Дзяды* [напярэдадні Сёмухі]. Турава. *Капусту нада садзіць у той дзень, як зазімак быў* (прыкмета). Багданава. *Капусту ў Вяліку суботу содзюць* (прыкмета). Чуцькі, Гарадок. 2. Квашаная капуста. *Кміну туды, сахъру, маркоўкі – сырая капуста.* Багданава. 3. Кіслы боршч з капусты. *Капусту стаўлю варыць з мясъм.* Неўгадава. *Наеўся капусты, наеўся крупніку* [больш страў на абед не варылі]. Гарадок. КАПУ́СТКА *памянш. Капусткі мае ні спыталі?* Міцюкова.

**КАПУ́СЦІНА** *ж.* 1. Кіслы боршч з капусты. *На Прачысту елі гурок ці капусціну.* Самсоны. 2. Адно каліва капусты. *На гратку кладзі зразу камінь, а тады капусціну, садзі і скажы: расці кълянъя, як еты камінь* (павер'е). Ракаў Засценак.

**КАПЦІ́ЛКА, КАПЦЕ́ЛКА, КАПЦЁЛКА, КАПАЦЕ́ЛКА** *ж.* Самаробная лямпа без шкла; газоўка, капцілка. *Капцілка раньшы была.* Багданава. *Капцелка бес сцякла, бляшаная, кнатоk. Капцелка называлася, усё капціла. Карасіны нальеш, кноцік уцягнеш і гарыць. Гасі сваю капцелку.* Савінічы, Вялікі Азярэцк. *Капцёлкі былі, сала налі, кнот устаў і гарыць.* Фасаўшчына. *Капцёлка была, лучынкі, фіцялёк.* Дольдзева. *А я ўрокі вучыла пры къпацелцы.* Багданава. КАПЦЁЛАЧКА, КАПЦЕ́ЛАЧКА *памянш. Досвіту ўстанеш, капцёлачку возьмеш і лён абаб'еш.* Міцюкова. *У капцёльцы трубъчка і кънацік. Яе ставілі на доішчъццы ў ёўні і тръпалі лён.* Заазер'е. *Бувала с къпцелачкай сядзім, прядзём.* Самсоны. *Малінькая капцелачка там блішчыць, а мама сядзіць і прадзе.* Багданава, Заазер'е.

**КАПЦІ́ЦЬ** *незак.* Капціць, вэндзіць. *Б'ець къбана́, къпця́ць – і руле́т.* Буй. *Къпця́ць, кап чэ́рві ні зъвялі́сь. Спецыя́льна капця́ць у Сянне́ што хо́чаш: о́карак, са́ла.* Багданава.

**КАПЦЮ́ШКА, КАПТУ́ШКА** *ж.* Самаробная лямпа без шкла; газоўка, капцілка. *Ве́чар прадзе́ш пры капцю́шцы.* Апечкі. *Капту́шка – е́та ра́ньшы карасі́ны ні было́, кна́цік саўём іс кудзе́лі ў бля́ху, по́снае ма́сла ўваллём і гары́ць.* Фасаўшчына. КАПТУ́ШАЧКА, КАПАТУ́ШАЧКА *памянш. Жыр налі́ва́лі, фі́цель устаўля́лі і палі́лі, і свяці́лі – гэ́та капту́шачкі.* Алексінічы. *Къпату́шачка – у жале́зіньку кудзе́лі уця́гнуць, кіра́сіны налью́ць і запа́люць.* Запруддзе.

**КАПЧО́НКА** *ж.* Тое ж. *Капчо́нку паста́вяць, цёмна гары́ць, а мы на па́мяць прадзе́м.* Баравікі.

**КАПЫ́Л** *м.* 1. Драўляны брусок у полазе саней. *Нъ чаты́ры вя́зы во́сем капыло́ў. Капылы́ стънаві́ліся ў по́лас. На два капылы́ дзе́лалі, нъзыва́ліся пътса́нкі. Чаты́ры къпылы́ на дным пълазу́, а як са́ні дління́й, то й пяць.* Гарадзец. 2. Кавалак дрэва ў форме ступні, на якім рабілі абутак; калодка. *Капы́л жа на́да нъ ла́пці.* Каралевічы. *Асную́ на капы́л і спляту́ ла́пці.* Мянюцева. *Капы́л на ла́пці з дрэ́ва, плялі́ ла́пці.* Гарадзец. *Дра́лі лазу́ із лі́пніку і на капы́л плялі́ з вяро́вачак.* Дольдзева, Багданава, Міцюкова, Нямойта.

□ *Нъ харо́шым къпылу́ і сапо́х харо́шый.* Пожанькі.

**КАПЫ́Л** *м.* Матыка. *Капы́л ці капы́лка – апка́пываць ле́хі.* Жохава.

**КАПЫ́ЛКА** *ж.* Тое ж. *Капу́сту капы́лкамі апка́пыюць, карто́шку.* Заазер'е.

**КАПЫ́ЛЛЕ** *н. зб.* Капылы ў санях. Запруддзе.

**КАПЫЛЯ́ЦЬ** *незак.* Матычыць. *Капы́лка – зямлю́ капыля́ць.* Заазер'е. КАПЫ́ЛЬ. Капануць, падматычыць. *Зімля́ пад цыбу́ляй ды́хаіць, ды́хаіць, я капы́ль, капы́ль, а жа́ба кара́вая уця́гніць у зямлю́, цыбу́лю есць.* Нямойта.

**КАПЫ́Т** *м.* 1. Капыт. *Капы́т у каро́вы і къня́ зъламі́ўся.* Багданава. *Капыты́ ў каро́вы ле́там заломяцца, абраза́юць.* Гарадзец. *Капыты́ раздва́іваны ў каро́вы.* Міцюкова. *І за капыты́ ніхто́ ні схво́ціць – паляці́ш.* Нямойта. 2. След, ямачка з-пад капыта. *З капыта́ вады́ нъпіла́ся.* Закур'е.

**КАПЫ́Т** *м.* Свінушка тонкая (грыб). Старая Беліца.

**КАПЫ́ЦІК** *м.* Капытнік (расліна). *Капы́цікі ірва́лі, гарла́чыкі па́рылі, каб вяршо́к лу́чшы бы́ў.* Багданава.

**КАПЫ́ЦІК** *н.* Кабылка (грыб). *Капы́цікі расту́ць па по́лю. Бе́ленькія, а пад ні́зам кары́чневыя.* Каралі. *Капы́цікі цямне́юць.* Багданава.

**КАПЫ́ЦЦЕ** *н. зб.* ◊ С КАПЫ́ЦЦЯ. Памерці. *На другі́ ве́чар іна́ с капы́цця* [звалілася]. Івоні.

**КАПЭ́ЛА** *ж.* Кампанія, група блізка знаёмых людзей. *Нас заву́ць капэ́ла, бо мы дру́жна жывём.* Заазер'е.

**КАПЯ́К** *м.* Малая ўкладка сена, саломы на полі (?); капа. *Там чэ́разь па гэ́тых гъра́х стъя́лі къпякі́.* Малы Азярэцк. КАПЯЧО́К *памянш.* Стажок дроў. *Къпячо́к дро́ў.* Серкуці.

**КА́РА** *ж.* Пакаранне. *Така́я ка́ра ад Бо́га ў се́лятнім го́дзе.* Цясішча. *Ка́ру даду́ць ей за ге́та.* Багданава.

**КАРА́** *ж.* Кара. *Ду́баву кару́ даюць, як пано́с, і ско́ту то́пюць. Тады́ дубо́ваю кару́ і смаро́днік кі́даюць туды́, і сок такі́ уку́сны. Кару́ но́жычкъм як сця́гнеш, тады́ мязгу́ з клёна ссуць ці смо́кчуць.* Багданава. *Кару́ і цвет нъ гарэ́лцы нъста́іваюць.* Дуброўкі. *Ру́кі ста́лі, як кара́.* Каралевічы.

**КАРАБЕ́Ц** *м.* Кораб, каробка. *Вынесла бабка карабец яец.* Чуцькі. *Даець бапка къpабец яец* (з песні). Багданава.

**КАРАБО́К** *м.* Запалкавы карабок. *Палучыш къpабок късцяру.* Галашчакіна.

**КАРАВА́Й** *м.* Каравай. *Раньшы пяклі къръвай на вяселле, круглыя такія. На къpавай ці канхвет налепяць, ці выкручывалі с цеста што, цвяточкі дзелалі, хто якую вутачку пасодзіць.* Ракаў Засценак. *Як мъладуху пъвязуць, дзелюць къръвай.* Гарадзец.

**КАРАВА́ТЫ, КУРУВА́ТЫ** *прым.* 1. Пакрыўлены, вузлаваты, з нарасцямі. *Къравáты які дуб, не расцеець. Каравáтые дубы рэдка дзе.* Партызаны. 2. Карычняваты; такі, як кара. *Старэйшы соснік такі, як куруваты, буры такі.* Багданава.

**КАРАВЁНА** *ж.* Карова. *Къравёну дзіржалі, пърасёнка.* Станюкі.

**КАРАВЁНАК** *м.* Цяля. *Дзяржаў і пърасёнка, і къравёнка.* Марозаўка.

**КАРА́ВЫ** *прым.* Брудны. *Каравы такі чалавек.* Каралевічы. *Так жа ён* [крухмал] *къравы, а змыюць – чысты крухмал.* Буй. *Троху каравая хустка.* Леснікова.

**КАРАВЯ́К** *м.* Каравяк. *Каторыя хадзяйкі харошыя, вымасцяць з каравяком і глінай пол.* Вялікі Азярэцк.

**КАРАГО́Д, КАРАГО́Т** *м.* 1. Карагод. *Вадзілі, пелі къpагот, у къpагодзе.* Багданава. 2. Гурт людзей. *Къpагод бап стаіць.* Нямойта.

**КА́РАК** *м.* 1. Карак. *Ні магла хадзіць, сытая ляжыць, карак во такі. Каб табе вошы жаніліся за каркам!* (праклён). Запруддзе. *Сала тоўстыя ў свіннёй нъ карку.* Багданава, Гарадзец, Парэчча. 2. Адзенне, якое прылягае да карка. *І ён яго за карак – і дамоў.* Фасаўшчына.

**КАРА́ЛІ, КРА́ЛІ** *толькі мн.* 1. Пацеркі. *І къралі павесіць, і брошкі, і завушніцы.* Каралевічы. *Каралі на шыі насілі.* Гарадзец. *Каралі былі, як мъладая была.* Каралі. *Насілі ў дзеўках каралі.* Буй, Багданава. *Кралі насілі, купленыя, красніенькія, разныя. Кралі насілі дзеўкі.* Дольдзева. *Кралі насілі, я іх ня рабіла, іх купляли.* Заазер'е. КРА́ЛЬКІ *памянш.* *Дзівасіл кала рэчкі рос, пучочкі, як кралькі.* Буй. 2. Блінчыкі (у курэй). *У курыцы пад дзюпкай къралі.* Буй. *Кралі ў пятуха, блін.* Багданава. *У пятуха кралі.* Карпавічы, Сукрэмна.

**КАРАНДАВА́ЦЬ** *незак.* Ганарыцца, задавацца. *А сват сваццi ды сплёў лапці / З тоўстых лык, / А сам ходзіць карандуіць, як індык!* Чуцькі.

**КАРАНІ́СТЫ** *прым.* Караністы. *І трава спарыш дужа каранiстая, выпалаць яе дык гора. Мята къранiстая.* Гарадзец. *Каранiстая такая бяроска* [трава]. Багданава.

**КАРАННЫ́** *прым.* Конь, які запрагаецца ў аглоблі. *Адзін конь каранны, другі – прысцяжны – парка коней.* Гарадзец.

**КАРАСІ́Н, КРАСІ́Н** *м.* Газа. *Карасін змішала з залой – і дзесінфекцыя такая.* Партызаны. *Карасіну не было.* Неўгадава. *Красін.* Каралі.

**КАРАСІ́НА** *ж.* Тое ж. *Карасіны наллёш у бліщанку.* Багданава.

**КАРАСІ́НКА** *ж.* Керагаз. *Як з карасінкі – каструля загразнецца.* Вялікі Азярэцк.

**КАРА́СЬ** *м.* Карась. *Карасі і шчукі ёсь у возеры.* Міцюкова. *Карась, на ім шулупа ёсь жоўтъя і бельъя. Къpасі сталі ў рэдкъсці.* Багданава. *Серабрысты къpась на вудучку бярэцца. Зъладісты къpась у Въдапоіві* [вёска] *ёсь, ён блішчыць, як старынныя дзеньгі* [як пачысціш]. Сянно.

**КАРА́ЎШЧЫК** *м.* Скупшчык старога адзення; анучнік, каравачнік. *Търан, сялётку якую караўшчык вазіў.* Закур'е.

**КАРАХВА́ШКА** *ж.* Брычка, вазок на рысорах. *Бургóмістр пъсадзіў яé ў кърьхвáшку і завёз у цюрмý.* Заазер'е. *Бувáла éдзіць на кърьхвáсцы ў Сéнна.* Сукрэмна.

**КАРАЦЕ́Й** *прысл.* Карацейшы. *Мне кап карацéй андарáк.* Неўгадава.

**КАРА́ЦЬ** *незак.* 1. Караць. *Мянé бáцька кърáў за лáпці, бо нáда нъ бъзáры лык купíць.* 2. Прасіць, угаворваць. *Бáцька карáіць, каб я ні курыý.* Ульянавічы.

**КАРВА́ЦЬ, КАРАВА́ЦЬ** *ж.* Ложак. *Кървáці былí рáньшы дзірвя́ныя.* Рэчкі. *I кървáці ні былó, тóлькі пол.* Чуцькі. *Гэ́та кървáці для дзяцéй.* Баравікі.

**КАРГА́** *ж. эмац.-ацэн.* Пра старую, злую, нямоглую жанчыну. *Каргá стáрая, пападзéсся мне! Бяззýбая я, каргá стáрая.* Дольдзева.

**КАРГАЧО́К** *м.* Хлопчык невысокага росту. *Навéрна, бýдзіць каргачóк, мáленькі, за вýшы цягнýлі.* Партызаны.

**КАРДО́НА** *ж.* Тоўстая цвёрдая папера; кардон. *Бярý бальшýю кардóну і на печ яé кладý, а на яé грыбы́ дасýшываць кладý.* Сяргейкі. КАРДО́НІНКА *памянш. Адзíн мушчы́на ўзяў кардóнінку, палажыý маю рукý с аднагó бóку і з другóга і ўвярцéў.* Леснікова.

**КАРДО́ННЫ** *прым.* Кардонны, зроблены з кардону. *Нясýць два кардóнных я́шчыкаў і кáжуць: «У нас чарапы́».* Вялікі Азярэцк.

**КАР'Е́Р** *м.* Кар'ер. *Кар'éр загарнýлі, ягó ўжэ німá.* Жохава.

**КАРЗІ́НА** *ж.* Кашолка. *Карзíны сáмі плялí із лазы́, а цяпéр с прóвалкі плятýць.* Запруддзе. *Карзíна крýглая, з лазы́ сплéціная.* Каралі. *Плялí, éта тъкáя лазá расцéць, лазóвая карзíна.* Багданава. *Я карзíну на рукý, да ўрóдзе бýльбу ідý капáць.* Савінічы. *А тады́ ўжо пад вóсінь карзíны пляцéць у пóлі.* Партызаны. КАРЗІ́НКА *памянш. Карзíнку пъчáў плéсці для бýльбы. Карзíнка – картóшку насíць, выбірáць буракí, сéялі і выбірáлі с карзíны.* Багданава. *Із лазы́ карзíнкі плялí.* Рулёўшчына, Серкуці. КАРЗІ́НАЧКА *памянш. Хто карзíначкі мáлінькія браў, рáньшы с карзíначкамі хадзíлі ў я́гады.* Багданава. *Карзíначка сплéціна для бýльбы.* Карпавічы.

**КАРКАВЯ́К**, **КАРКАЛЯ́К** *м.* Кракавяк (танец). *Кърkавя́к танцавáлі, падыспáн. Кърkъля́к гуля́ла дóбра.* Багданава. *Каркъля́к гуля́лі, падыспáн, пóльку.* Марозаўка.

**КАРКАЗІ́ННЕ** *н.* Жабурынне. *Карказíнне пускáіць лягýшка, дзéўкі мы́ліся, кап шэ́рак* [вяснушак] *на ліцэ́ ні былó.* Багданава.

**КА́РКАЦЬ** *незак.* Каркаць. *Вісóка кáркаюць варóны – на пагóду, нíзу сцéлюцца – на дош* (прыкмета). Нямойта. *Рас варóны кáркаюць, бýдзя дождж* (прыкмета). Вялікі Азярэцк.

**КАРМІ́ЦЦА** *незак.* Здабываць сродкі для пражыцця. *Дзе жылí там і кармíліся, а нáда ш былó жыць.* Леснікова.

**КАРМІ́ЦЬ** *незак.* 1. Даваць корм, ежу. *Я паўмéсіца цілят кармíў.* Партызаны. *Кабанóў, ласéў кóрмюць.* Закур'е. 2. Выкормліваць дзіця сваім малаком. *Катóрая сíськай кóрміць, то мáтка, а калí не – то мáчаха.* Багданава. 3. Служыць сродкам для пражывання. *Зімля́ кармíла.* Марозаўка.

**КАРМО́ТА** *ж.* Кармленне. *Кармóта йкáя: спáру бýльбу і я́блык мёрзлых, пъсякý і къмбікóрму трóху.* Гарадок.

**КАРМУ́ШКА** *ж.* Кармушка. *Карóві кармýшка тъкáя, а каню́ – я́сьлі.* Каралевічы. *Къня́ кармíлі с кармýшкі.* Запруддзе.

**КАРНАТЫ́Ш** *м.* Прысадзісты, нізкарослы чалавек; каратыш. *Карнаты́ш такí, а во, плячы́сты.* Багданава.

**КАРНАХВО́СТЫ** *прым.* З кароткім хвастом. *Кърнахво́стая съба́ка.* Фасаўшчына. *Кабы́ла была́ карнахво́стая.* Савінічы.

**КАРНА́ЧЫК, КАРНА́ЧАК** *м.* Каратыш, чалавек невысокага росту. *Усётку ні па ма́ткі пайшо́ў, наве́рно, карна́чык бу́дзе. Кърна́чак не́йкі, ня вы́рас.* Партызаны.

**КАРНЯ́СТЫ** *прым.* Караністы. *Трава́ карня́стая. Гуся́тнік карня́сты, нібальшэ́нькі.* Каралі.

**КАРО́БАЧКА** *ж.* Каробачка (танец). *Та́нцы? – Цяпе́р такі́е ні танцу́юць: вальс, падіспа́н, падіка́тър, каке́тку, каро́бачку, я́блычка, вінге́рку. Танцава́лі хло́пяц і дзяўчы́на.* Заазер'е. *І каркавя́к танцу́еш, і я́блычка, і каро́бачку, а наза́ўтра ду́маеш, як дзень пераж́ыць, так натанцу́іся.* Багданава. *І каро́бачку гуля́лі, і падыспа́нь.* Самсоны, Марозаўка, Міцюкова, Закур'е.

**КАРО́ВА** *ж.* Карова. *Калі́ каро́ва бу́рая, то яё клі́чуць Бурэ́ня, калі́ раба́я – Рама́шка, чо́рная з бе́лай лы́сінай – Ча́йка.* Вялікі Азярэцк. *Наўчы́лі каро́ву ара́ць, у плугу́ хадзі́ла.* Міцюкова. *У на́шым канцы́ тры хъдзя́іны па дзве каро́вы дзіржа́ць.* Гарадзец. *Як выганя́лі каро́ву, касу́ ці серп кла́лі на паро́г.* Цясішча. *Саро́ку* [забітую] *ве́шъюць у хляве́, як ла́ска пъ каро́ві бе́гъіць.* Партызаны. *Каро́ва гълаво́й мох-мох.* Багданава, Карпавічы. КАРО́ВУШКА *ласк. Я каро́вушку даі́ла, / Кальцо́ ўпа́ла ў малако́. / Каго́ крэ́пка я любі́ла, / Той уе́хаў далянко́* (з песні). Вялікі Азярэцк. КАРО́ЎКА *ласк. Каро́ўка ацялі́лася, цяпе́р мълако́ ё.* Заазер'е. *А два гады́ – то каро́ўка.* Багданава. ◊ КАРО́ВА БЫКО́Ў. Бегаць, знаходзіцца ў стане цечкі (пра карову). *Каро́ва быко́ў, а цепе́р у вахо́ці ска́жуць.* Нямойта. *Каро́ву быко́ў на́да ве́сці.* Алексінічы. ◊ ПАД (ПАТ) КАРО́ВУ. Даіць. *Каро́ва дзе́-та раве́ць, ідзі́ пад каро́ву.* Запруддзе. *Ідзі́ пат каро́ву.* Сянно. ◊ ЯК КАРО́ВА ЯЗЫКО́М ЗЛІЗА́ЛА. Бясследна знікнуць. *Як каро́ва злізáла языко́м – нічо́га німа́.* Партызаны.

**КАРО́ВІНА** *ж.* Ялавічына. *Каро́віны нава́руць і яду́ць.* Фасаўшчына.

**КАРО́ЛЬ** *м.* ◊ ЖЫЦЬ КАРАЛЯ́МІ. Пра добрае, заможнае жыццё. *А людзі бу́дуць жыць кърълямі.* Заазер'е.

**КАРО́ЛЬКА** *м.* Галоўны начальнік. *У Мъгълёві губірна́търъ быў ба́рын, каро́лька быў ру́скій.* Алексінічы.

**КАРО́МІСЕЛ, КАРО́МЫСІЛ** *м.* 1. Каромысел. *Каро́місел – што ваду́ но́сюць.* Гарадзец. 2. Вагі. *Ва́жылі* [хлеб], *каро́місіл такі́ быў: на адзі́н бок вы́вешаны пут быў, ка́мінь, а сюды́ ве́шалі.* Гарадзец. *Ра́ньшы каро́місел называ́ўся: на адны́м канцы́ жы́та, а на другі́м ка́нтър.* Фасаўшчына. 3. Ворчык. *Пастро́мкі ў аралёвым хамуту́, а што к плу́гу, называ́еццa каро́місел, некато́рыі заву́ць во́рчык. Што к плу́гу така́я па́лка, называе́цца каро́мысел.* Гарадзец.

**КАРО́МІСЕЛ** *м.* Малая Мядзведзіца (сузор'е). *Каро́місел – так во тры шту́чкі ра́дышкам.* Нямойта.

**КАРО́МЫСЛА, КАРАМІ́СЛА** *н.* Каромысел. *Каро́мысла во́зьмеш, за апе́нькамі, сто́лькі іх было́.* Нямойта, Багданава. *Пайду́ быва́ла вады́ с кърамі́слам біз вядзёр, сусі́м ні по́мніла нічо́га.* Запруддзе.

**КАРО́ПКА** *ж.* Каркас акна. *Каро́пка, у яё ра́му ўстаўля́юць.* Багданава.

**КАРО́СЛІВЫ** *прым.* Карослівы. *Каро́слівыя ру́кі, между па́льцамі каро́ста.* Гарадзец. *Ну, яй бо́гу, у чацве́р як пасо́дзіш, каро́слівая бу́льба, ну, абы-іка́я бу́дзіць.* Запруддзе. *Каро́слівая бу́льба ў мяне́.* Сукрэмна. *Ко́ні як каро́слівыя, шэрсць пааблёзіць, мы́лі іх, карэ́нне ко́ньскага шчаўлюка́ дра́лі.* Баравікі.

**КАРО́СТА** *ж.* Кароста (хвароба). *Ат нужды́, бань ні было́, ня мы́ліся, дык было́ і каро́сты, і блох было́.* Марозаўка. *Каро́ста – ру́кі сальюцца баля́чкамі.*

*Карэнне драͅлі, коньскі шчаўлюк, надзяруць на драчку жоўтае карэнне – і прыкладалі.* Баравікі. *Кароста ў вайну была, серай намажысся – і ўсё.* Багданава. *Кароста была, траву прыдумвалі, мазалі.* Гарадзец. *Кароста была ў вайну, ні мыўшысі і ні пірадзяваўшы, ад нуды.* Жохава. *Кап цябе стачыла кароста!* (праклён). Вялікі Азярэцк. *Кап цябе кароста абсела!* (праклён). Запруддзе.

**КАРОТКА** *прысл.* Мала. *Бываіць хлеба каротка, калі прывязуць, а так возюць.* Станюкі.

**КАРОЎЕ** *н. зб.* Каровы. *Дваццаць галоў кароўя прыгналі.* Неўгадава.

**КАРОЎНІК** *м.* Кароўнік. *Цялёнък з Віцебску прышоў к кароўніку сам.* Самсоны.

**КАРОЎСКІ** *прым.* Каровін. *Згарода пувалілься, і кароўскія сляды, і кароў сьгнала нь кілометьр у лес.* Міцюкова. *Палезлі на чардак, ажны там нашлі сала кароўскае.* Леснікова.

**КАРОЧЫ** *прым.* Карацейшы. *Паёк карочы за бочку.* Вялікі Азярэцк.

**КАРП** *м.* Карп. *Карпа многа магло быць у нас.* Сянно.

**КАРТА** *ж.* Карта. *Іна дужа хърашо пьнімала нь карты.* Міцюкова.

**КАРТАВІЦЬ** *незак.* Картавіць. *Троху картавіў-картавіў і загаварыў.* Міцюкова.

**КАРТАВЫ** *прым.* Картавы. *Малая была дужа картавая я.* Нямойта. *Кьртавы – як нядужа гаворыць.* Гарадзец. КАРТАВЕНЬКІ *эмац.-ацэн.* *Кьртавенькі быў, немцуў упаіў, пайехьлі, ні спалілі дзярэўню.* Пожанькі.

**КАРТАФЛЯНЫ** *прым.* Ураджайны на бульбу. *Бываіць картафляны год, а бываіць ураджайны поўнасцю. На воблакі нада глядзець, звёзды, напрамкі ветру.* Партызаны.

**КАРТОШЫНА** *ж.* Бульбіна. *І ў прошлым годзі ні адной картошыны ні было.* Запруддзе.

**КАРТЭЖНІК, КАРТЫЖНІК** *м.* Карцёжнік. *Калі ш картэжнік, прыгуляіць дачку...* (з песні). Партызаны. *Картыжнікі ў Малішы ні дай бог былі.* Пожанькі.

**КАРЦЕЦЬ** *незак.* Карцець. *Мне карціць прьглынуць лікарства.* Партызаны.

**КАРЦІНА** *ж.* Апісанне чаго-н. *Я вам січас раскажу гэту (ету) карціну.* Багданава.

**КАРЦІНКА** *ж.* Пра прыгожага хлопца ці дзяўчыну. *Хвалюць, што наша* [дзеўка] *карцінка, а тыя, што малец – карцінка.* Дуброўкі.

**КАРЧАЧКОМ** *прысл.* Сядзець сагнуўшыся, скурчыўшыся ад болю. *Счарнеіць грэбінь у куры, яна карчачком уся* [хворая]. Партызаны.

**КАРЧМА, КАРШМА** *ж.* Карчма. *Кърчма пры бъльшаку была даўно.* Савінічы. *Дзе выпівалі, тоя карчма.* Алексінічы. *Карчму дзіржала Сорка.* Ульянавічы. *У нас жылі яўрэі, кършма была.* Каралевічы.

**КАРЧУШКА** *ж.* Кавалак дрэва для акурвання пчол дымам. *Карчушкі дыміць пчол, луччая з ліпы.* Запруддзе.

**КАРЧЭЦЬ** *незак.* Гібець, марнець. *Я шчэ сяджу, карчэю, а ён памёр дзесяць гадоў.* Чуцькі.

**КАРШУН, КОРШУН** *м.* Каршун. *Каршуны хваталі ціплят і курыцу схвоцяць, калі падужаюць. Кап табе вочы кършун так выдраў!* (праклён). Багданава. *Каршун патхваціў курыцу і нясець над рэчкай, яна з кагцей – і ў рэчку ўтапілася.* Нямойта. *Гавораць: кукушкі ўвосень перадзелываюцца каршунамі, на дварэ ўхвоцюць курыцу – і нясуць.* Розмыслава. *У каршуна кіпці дзяручыя, бальшыя.* Закур'е. *Каб цябе каршун задзёр!* (праклён). Запруддзе. *Ці каршун, ці сарока схапіла аднаго цаплёнка.* Івоні. *Коршун лётаіць, ухопіць піскляня́т.* Апечкі.

**КАРШЭ́НЬ, КАРШЭ́ЛЬ** *м.* 1. Карак. *Ну прывядуць, атлупяць яму ў каршэль.* Запруддзе. *У каршэнь як дам!* Багданава. 2. Адзенне, якое прылягае да карка. *Зъ каршэнь і вон!* Жохава.

**КАРЫДО́Р** *м.* Калідор. *З дасок карыдор.* Гарадзец.

**КА́РЫЙ** *прым.* Кары, карычневы. *Жърабёнъчък буваіць карый, цёмна-карый, светла-карый, аж піръліваіцца.* Сянно.

**КАРЫ́ТА** *н.* 1. Пасудзіна для кармлення жывёлы. *Карыты бальшыя! З досък.* Каралевічы, Леснікова. 2. Начоўкі, балея. *Раньшы ж карыта было ні такоя, як січас, раньшы такія палачныя дзелалі, шырокія такія, начоўкі.* Запруддзе. *Я купала ў яе трое дзяцей. Дзеньгі кідалі ў ваду, пад карыта нож падкладаюць, на захад сонца.большай часці выліваді ваду* (звычай). Цясішча. *У карыта нальюць вады, пасцілкай закрыюць, баба залезець у ваду – хлёп – тады смяюцца: баба напілася, абасцалася.* Нямойта. КАРЫ́ЦЦА, КАРЫ́ТЦЭ *памянш.* *У карыцца дліньнінькъ увальлеш.* Каралевічы. *Па тым лътачку і цячэць у карытцэ.* Багданава. *Карытцэ мамент здзелаў пат хлявок.* Міцюкова.

**КАРЫ́ЦЬ** *незак.* Абчышчаць дрэва ад кары; карыць. *Яны стойкі карылі, чысцілі.* Станюкі.

**КАРЫ́ЧЛІВЫ, КАРЫ́ШЛІВЫ** *прым.* Карычневы. *Надзерыш альховыя кары, зъкіпяціш яе, пъкладзеш туды лайно, пълучаіцца карычлівъя плаццікa.* Закур'е. *Карычлівае такоя балота, зарасло ўсё.* Івоні. *Карышлівъя шапъчка ў пъдарэхавіка.* Дуброўкі. *Карычлівы цвет у яго такі.* Заазер'е.

**КАРЭ́ЛЫ** *прым.* Каравы, брудны. *Рукі карэлыя.* Вялікі Азярэцк. *Я ні надзівалася, сяжу, як подмаска карэлая.* Багданава.

**КАРЭ́ННЕ, КАРАННЕ́** *н. зб.* 1. Карэнне, карані. *Карэння там паўно.* Рэчкі. *Пъ гародзі вырвем тоўстаё карэнне.* Серкуці. *Выцягніць дзічкі* [бародаўкі] *з карэннем – і дзярэць.* Баравікі. *Гэтага карання садрала.* Партызаны. 2. Карані (зубоў). *Каранне асталося ат зубоў і баліць.* Багданава.

**КАРЭ́Ц** *м.* Драўляны або металічны кубак; конаўка. Заазер'е.

**КАРЭ́Ц** *м.* Зробленае з кары прыстасаванне ў выглядзе вузкай трубкі, якое ўстаўлялася ў кішку. *Карэц – у кішку ставіць, мяса піхаць. У кішку ўложыш карэц, і ён дзяржыцца. Чыніць калбасы – карэц звалі, з ліпы, ён с карой быў, закручвалі ў круцёлку.* Буй. *Карэц быў з лыка кілбасы чыніць, сагнуць дужку і чынілі. З лыка здзелаюць карэц – сагнуць дужку – і чынілі каўбасы, у кішку ўторкнуць – і мяса кідаюць.* Гарадзец.

**КАРЭ́ШКА** *ж. эмац.-ацэн.* Пра старую, сагнутую, нямоглую жанчыну. *Карэшка, карэшка, ужо сагнутъя баба.* Чуцькі.

**КАСА́** *ж.* 1. Каса (у жанчыны). *Каса, а не, кукла, закручаіш.* Багданава. 2. Узор у выглядзе касы на ручніку. *У накладаных рушніках і косы, і грэбяні.* Дольдзева.

**КАСА́** *ж.* Каса, прылада для кашэння. *Сена касілі касамі. Ён мяне і касу научыў клепаць.* Багданава. *Еслі къса ні пъддаецца клёпу, то къса харошъя, ні мяккъя. Сухую касу нъ кляпу, пъзнаіш.* Леснікова. *Косы і цяпер ёсць.* Вялікі Азярэцк. ◊ ПУПА́ЛА КАСА́ НА КА́МЕНЬ. Сутыкнуліся розныя непрымірымыя погляды, характары. *Пупала късa на камень – як абадва сярдзітыя.* Серкуці.

□ *Касі къса, пакуль ръса, ръса далоў – касец дамоў.* Запруддзе, Леснікова.

**КАСА́** *ж.* Селязёнка. *Каса, печань і трыбух у цяляці.* Багданава. *Еслі каса длінная ў свінні, то зіма длінная, а калі пад канец таўстая – снегу будзе многа* (прыкмета). Міцюкова.

**КАСАВЎРЫЦЦА** *незак.* Касавурыцца, касіцца. *Касаву́рыцца – гэ́та як злуе́цца конь.* Рассвет.

**КАСАГЛА́ЗЫ** *прым.* Касавокі. *Касагла́зая наста́ўніца была́, у двар́э век ні жа́ла. Адзін быў касагла́зы, прэ́цца на Казімера.* Нямойта.

**КАСАГО́Р** *м.* Схіл гары, пагорка; касагор. *Акра́с край ле́су късаго́р быў.* Гарадок.

**КАСАГО́РЫСТА** *прысл.* Паката, няроўна. *Мо́жа дзе късаго́рыста, няро́ўна.* Каралевічы.

**КАСАГО́РЫЦА** *ж.* Касагор. *Ключува́я крыніца нъ късаго́рыцы.* Закур'е.

**КАСАНЎЦЬ** *зак.* Адзін раз махануць касой. *Ніхто́ ра́зу ні касану́ў, усё я.* Ульянавічы.

**КАСА́Р** *м.* Касец. *Къса́р ко́сіць касо́й усё ле́та* [на няўдобіцы]. *Як къса́р пъкіда́іць гры́ву пъ кале́на, то ка́жуць ба́бы, што кіну ў гры́ву, то прывяжы́ яго́ зъ я́йцы* [да грывы]. Лесніково.

**КАСА́ТАР** *м.* Гандляр. *Прыяжджа́юць з Масквы́ каса́тары, прыво́зяць касме́ціку з Масквы́.* Нямойта.

**КАСА́Ч** *м.* Касач (кветка). *Късачы́ цвіту́ць пад вакно́м.* Каралі.

**КАСЕ́Ц** *м.* Касец. *Ту́тацька касілі касцы́.* Партызаны. *Со́рак касцо́ў выхадзіла с каса́мі.* Сукрэмна.

**КАСЁК-КАСЁК-КАСЁК** *выкл.* Выгукі, якімі падзываюць каня. *Касёк-касёк, пайма́ю, бу́дзіш знаць.* Дольдзева.

**КАСІ́ЦЬ** *незак.* Касіць. *Касі пъ къна́вах, касі па куста́х, а я ж ні магу́ хадзіць.* Цясішча. *Як то́лькі ста́нем касіць, як ста́не дош ліць. Сваё ўча́сткі ко́самі ко́сюць.* Нямойта, Гарадзец, Гарадок. *Касіў с пълавіны* [дня?] *у па́на мужы́к.* Сянно. *Ба́бы ў нас дъ вайны́ ні касілі, а то́лькі мушчы́ны.* Закур'е. *Адзін ко́сіць, сем ляжы́ць, а як со́нца прыпячэ́ць, і пасле́дні ўцячэ́ць* (загадка). Запруддзе. ◊ ХОЦЬ КАСІ́ КАСО́Й. Вельмі многа, процьма. *Лісічкі ў тым го́дзе касо́й касі.* Вялікі Азярэцк.

**КАСМА́НЫ** *прым.* Касматы. *Валасы́ късма́ныя, хо́дзюць.* Савінічы.

**КАСМА́ТЫ** *прым.* 1. Касматы, валасаты. *Кудла́ты, касма́ты, заро́с ужо́* [хлопец]. Багданава, Савінічы. 2. Аброслы поўсцю. *Быў кот такі късма́ты.* Вялікі Азярэцк. 3. Пакрыты мяккім пухам, варсісты. *Вуўня́нка, у іх біряжкі късма́тыя, яе́ лу́піш.* Партызаны. КАСМА́ЦЕНЬКІ, КУСМА́ЦЕНЬКІ *эмац.-ацэн.* 1. Пушысты. *Такія харо́шыя късма́ценькія ко́цікі* [кацяняты]. Гарадзец. 2. Махнаты. *Трава́ кусма́ценькая, на другі яе́ бок як валачо́чкі па ёй, як валасе́нь прыкладаю́ць.* Леснікі. 3. Наварысты, густаваты. *Ма́ма ліла́ жы́дкъга це́ста ў по́ліўку, каб была́ касма́цінька, ні хълъста́я.* Партызаны.

**КАСМА́ЦІЦЦА** *незак.* Касмаціцца. *Ні късма́цілісі кро́сны, як вы́перыш пра́нікъмі.* Закур'е.

**КАСМАЦЦЁ** *н. зб.* Касматы бок аўчыны. *Аўчы́ны касмаццём кла́лі ў дзе́шку, а мяздро́й уве́рх.* Неўгадава.

**КАСМЫ́ЛЬ** *м.* 1. Касматы, валасаты. *Які ты касмы́ль, късма́ты.* Савінічы. 2. Аброслы поўсцю. *Касмы́ль ты!* [на ката]. Багданава.

**КАСНІ́К**, **КІСНІ́К** *м.* Істужка. *Първа́лі ўсё пла́цце на каснікі, парвём во – на ле́нты! Пла́цце, дзірка ў каго́ ё, шчас парвём на кіснікі. Ю́лькі нябо́шчыцы първа́лі ўсё пла́цце нъ късныкі.* Запруддзе. КАСНІЧО́К *памянш.-ласк.* *Каснічо́к якёй і зъвя́жуць, кап цяпле́й было́.* Гарадзец.

**КАССЁ** *н.* Ручка (дзяржанне) у касе; касільна. *Там късá біс късся́, прасі́ў, кап ты пъклі́па́ў.* Запруддзе. *Кассё – е́та ў касы́.* Фасаўшчына. *Кассё з е́лкі дзе́лълі.* Леснікова, Манголія, Міцюкова.

**КАСТАЛО́М** *м.* Касталом (трава). *Касталóм – высóкая травá, лі́сце шырóкае, расцéць і дзе ссóўваюць што, на шумéтніках.* Вялікі Азярэцк.

**КАСТАПРА́Ў** *м.* Кастапраў. *Кастапрáў тáя бáбушка.* Розмыслава.

**КАСТРА́, КАЙСТРА́** *ж.* Кастрыца. *Лён мя́лі – къстрá высыпáіцца. Къстрá ўні́з пáдала, калі́ мя́лі лён.* Рэчкі. *Нъ пъталóк нъця́гвалі кастру́, бумáгай засцілáлі. Кастрá ляці́ць са льна, астае́цца кýжаль. Кастры́ даду́ць, так інá ў Сі́бір дыляці́ць* [лёгкая, ветрам знясе]. Багданава. *Лён трапáць, і кастрá атлятáе, ляцéла, хлáчкам атвáльвалася.* Партызаны. *Лі́сця, апі́лкі, кастру́ сы́палі на столь.* Леснікова. *Тады́ ўбірáць стáлі, калі́ кастрá булá з ільну́.* Вялікі Азярэцк. *Вы́трапіш лён, кастры́ не бу́дзе.* Гарадзец. *Зъгътъу́ляюць лёд і кастрóй засы́пюць.* Нямойта. *Кайстру́ выкі́двалі, калі́-нéбудзь на хáту ўсы́плець.* Чуцькі. *Кайстрóй пътсцілáйім карóві.* Гарадок. КАСТРЫ́НКА *памянш. Пóслі дрáчкі шчóткамі шчóсывалі, нідзé ні кастры́нкі, блі́сціць, э́та кýжаль.* Дольдзева.

**КАСТРЫ́ЦА** *ж.* Тое ж. *Кастры́ца з лёну, лі́сцё, кап не сухóе навéрх насцілáлі* [як крышу рабілі]. Леснікова. *Кастры́цу на хáту ўсы́пюць.* Чуцькі.

**КАСТЫЛІ́** *мн.*, **КАКТЫ́ЛЬ** *м.* 1. Апора для чалавека пры хадзьбе; мыліца. *На кастылях ідзéць, атня́лі нагу́.* Гарадзец. *У той хáці і цяпéр стаі́ць какты́ль.* Закур'е. 2. Папярочныя планкі, якія забіваюцца ў сцяну пры снаванні. *Кастылі́ ў сце́ну, гвóздзі, і снуéм на сцяну́.* Апечкі.

**КАСУ́ЛЯ** *ж.* Казуля. *У нас вяду́цца зáйцы, бéлкі, ваўкі́, харкі́, лáскі, гърнъстáі, лі́сы, ры́сі, мядзвéдзі, ласі́, касу́лі, кънаны́.* Сянно.

**КАСЦЕ́Р, КАСЦЁР, КАСЦЯ́Р** *м.* Брыца, курынае проса (расліна). *Касцéр расцéць у жы́ці, калі́ зімля́ няўдóбраная. Касцёр – плóскі.* Багданава. *На пóлі касцéр радзі́ў, жы́та дрэ́нная.* Баравікі. *Касцéр радзі́ў, дзе ні́зкія мясцá.* Чуцькі. *Былі́ такі́я ні́скія палі́, тады́ касцéр пърасцéць.* Каралі, Гарадок, Станюкі.

**КАСЦЕ́Р, КАСЦЯ́Р** *м.* Амеці, адходы пры малацьбе. *Мы палучáлі жмéню касцéру. Завéцца касцéр – ху́тшае дабрó!* Нямойта. *Касцéру гóлага даду́ць, на вéчер пусці́. Е́сці нічóга ні былó, палу́чыш касцяру́. А хлеп ачы́шчаны, агу́льны касцéр, ніякая зірнá ні пъпъдáла, тóлькі касцéр.* Фасаўшчына. *Касця́р – ты́я атхóды, як ціпéр кóням аддаю́ць, што ў жóрнаў ня лéзе.* Багданава. *Касця́ру дзвéсце грам давáлі. Касця́ру давáлі, картóшкі на трудадзéнь. Касцéр адлітáець, крáска адлітáець, жы́та лóжыцца кругóм.* Дольдзева. *Хоць бы якóга касцяру́ далі́.* Цясішча. *Даду́ць касцяру́, намéлеш, хлéба напячэ́ш і е́лі.* Запруддзе. КАСЦЯРО́К *памянш. Харóшае далёка ляці́ць, блі́жэй касцярóк.* Гарадзец.

□ *Касцéр – хлéбу падмасцéр.* Розмыслава, Каралі.

**КАСЦЁР, КАЙСЦЁР** *м.* Вогнішча. *І Купáла былó: кастры́ палі́лі.* Самсоны. *На пóле хадзі́лі, палі́лі кастры́ тут.* Гарадзец. *Кайстры́ ръсклáдъвалі.* Кішуроўшчына.

**КАСЦЯ́НКІ** *мн.* Касцяніцы (ягады). *У нас ё чарні́цы, суні́цы, брусні́цы, малі́ны, късця́нкі, журавí́ны, дурні́цы, жаві́ны.* Кавалі, Заазер'е, Сяргейкі.

**КАСЦЯНЫ́** *прым.* 1. Моцны, крэпкі. *Бáіньку, ні лажы́ся с крáіньку, / А лажы́ся лі сцяны́, / Бу́дзе зу́бік касцяны́* (з дзіцячай калыханкі). Багданава. 2. Прыгатаваны з касцей жывёлы. *Як ёсць касцянáя мукá, сы́пюць у дабрó, не стáне ку́рыца лі́цца* [выліўкі несці]. Запруддзе.

**КАСЦЯРА́** *ж.* Адходы пры малацьбе; амеці. *На́да ш і с казно́й расшчыта́цца, а тады́ табе́ ці касцяры́ ці шу́мы якéй даду́ць.* Заазер'е.

**КАСЫ́** *прым.* Касы, касавокі. *Каса́я яна́, касэ́я во́чы.* Багданава. *Быў касы́ мушчы́на Дубіне́ц, калду́н.* Закур'е. *У пълажэ́нні, як глядзіш у шчэ́лъчку, то бу́дуць дзе́ці касы́я* (павер'е). Чуцькі.

**КАСЯ́К** *м.* Касяк, вушак. *Ста́віцца късяк у вакно́ і ў дзве́ры таксáма. Касякі сам ба́цька ста́віў.* Серкуці.

**КАТА́ННЕ** *н.* Катанне. *Э́та дзе́ці цяпе́р тако́я ката́нне дзе́лаюць зімо́й.* Фасаўшчына.

**КА́ТАР** *м.* Гастрыт. *Баяўся гара́чы хлеб е́сці – ка́тар, гаварыў, бу́дзіць.* Чуцькі. КАТАРО́К *памянш. Катаро́к прызнава́лі.* Партызаны.

**КАТА́ЦЦА** *незак.* Ездзіць. *Ілья́-праро́к па не́бу ката́еца, а чым яго́ там конь піта́еца.* Запруддзе.

**КАТА́ЦЬ** *незак.* 1. Вазіць. *Іна́ ўжэ зна́іць, ён яе́ ча́ста къта́іць.* Буй. 2. Закатваць слоікі пры кансерваванні. *Сі́зыя* [калібію абутую] *ва́рым і къта́ім* [на зіму ў слоікі]. Сяргейкі.

**КАТЛЯ́К** *м.* Тоўстае кароткае палена; кругляк. *Рэ́залі дро́вы, насі́ла катлякі. Таўсты́, таўсты́ късляк, як пабі́ць яго́?* Багданава. *Катлякоў ма́шыну ле́тась прывёз.* Нямойта. КАТЛЯЧО́К *памянш.-ласк.* Пра тоўсценькае, паўнаватае дзіця. *Як катлячо́к быў ма́лец, круглаві́дзенькі быў, усé чы́ста цяга́лі на рука́х.* Партызаны.

**КАТО́ВЫ** *прым.* Каціны. *Така́я яго́ до́ля като́ва: на пе́чцы ляжа́ць.* Фасаўшчына.

**КАТО́К** *м.* Кола (у возе). *Там кале́снікі жылі́, каткі́ дзе́лъли.* Жохава. *Каткі́ былі́, як і цяпе́р калёсы.* Карпавічы. *Для буцяна́ спецыя́льна като́к, бърану́ нано́сяць.* Леснікова. *Мой і каткі́ нацягваў, і плугі́ рабі́ў.* Цясішча, Багданава, Міцюкова.

**КАТО́РЫ** *займ.* 1. Каторы, які. *Бяры́, като́рую хо́чъш.* Заазер'е. 2. Некаторы. *Ста́рыя като́рыя пъстал і́сі.* Серкуці.

**КАТО́РЫ-НІБУ́ДЗЬ** *займ.* Нехта, хтосьці. *І вянкі плялі́ като́рыя-ніб у́дзь.* Гарадзец.

**КАТУ́ЛЬ, КУТУ́Н** *м.* Кругляк, калода. *Атрэ́заў кату́ль таўсты́, як пабі́ць яго́?* Багданава. *Браўно́ рэ́жуць на кутуны́.* Нямойта. КУТУЛЁК *памянш. Атрэ́жыш кутулёк і даўбе́шку зро́біш.* Багданава.

**КАТУ́Х** *м.* Цёмны, малы пакой або хата. *Мой кату́х тро́шачку лу́чшы, як яе́, а ніхто́ не по́йдзець. Мой кату́х тро́шачку лу́тша за твайго́ до́ма.* Нямойта. КУТУШО́К *памянш.* Адгароджанае месца ў гаспадарчым будынку. *У кутушо́к атсо́дзюць, тады́ по́юць* [цяля]. Вялікі Азярэцк. *Яна́ ўро́члівая: у кутушо́к гля́нула* [мы гной вазілі], *цялёнка наза́ўтрава прырэ́залі.* Нямойта. *У кутушо́к іх падкі́нула.* Запруддзе.

**КАТУ́ШАШНЫ** *прым.* Шпулечны. *Кату́шышныя ні́ткі.* Багданава.

**КАТУ́ШКА** *ж.* Дэталь калаўрота, на якую намотваюцца ніткі; шпулька. *Хто заве́ шпу́лька, хто – кату́шка.* Каралі.

**КАТЭ́З** *м.* Катэдж. *Катэ́зы пастро́ілі, яны́ там жывýць.* Міцюкова.

**КАЎБАСА́, КІЛБАСА́, КЕЛБАСА́** *ж.* Каўбаса, кілбаса. *Каўба́сы – пярло́выя, грэ́чневыя крупы́, бу́льбы атці́снеш.* Марозаўка. *Ра́ньшы но́жым крышы́лі кілбасу́, на лы́ка кі́шку надзе́ніш і па́льцам то́ркаіш, піха́іш.* Вялікі Азярэцк. *Пърасёнка дзяржы́ш, то й кілбасу́ здзе́лъіш.* Неўгадава. *Кілбасы́, кура́ціны з магазі́на я ня ем,*

*а рыбіну з'ем.* Чуцькі. *Кілбасы даставайце і ешчэ.* Багданава, Галашчакіна. *Кілбас сваіх было, мяса. Даець дзеду пару келбас.* Закур'е.

**КАЎБЫР** *м.* Гарлач. *Ці каўбыр ці гърлач – тое самъе.* Багданава.

**КАЎКАЦЬ** *незак.* 1. Мяўкаць (пра ката). *Кот каўкаіць, як есьці захочыць, у хату просіцца.* Станюкі, Гарадзец. 2. Ціўкаць (пра куранят). *Будуць цыпляты каўкаць, пішчэць і пішчэць.* Запруддзе.

**КАЎКНУЦЬ** *зак.* Пікнуць, падаць голас. *І жыць харашо, і багатыя, здаецца, людзі, і каб ідзе хто каўкнуў!* Самсоны. *Пелі многа, а ціпер ніхто ні каўкніць. Пяюць бабы жніво, а цяпер ніхто ні каўкніць.* Каралі. *Чаго ж ён на тваю матку дажа не каўкнець.* Вялікі Азярэцк.

**КАЎНЕР, КУЎНЕР** *м.* 1. Каўнер. *Што ты, кажуць, каўнер ні зашпіліш? Цяпер варатнік завуць.* Галашчакіна. *С куўняром шылі мушчынам рубашкі.* Заазер'е. *Раньшы каўнер зваўся ў рубашкі.* Нямойта. *Каўнер такі стаючы, і планку вышывалі мушчынам, пылаценцы вышывалі.* Леснікі, Каралі. 2. Пояс (у адзенні). *У штаны нада каўнер ушыць. Каўнер і ў рубашкі.* Жохава. *Каўнер нада прышыць у штаны.* Багданава.

**КАФЛЯ, КАХЛЯ** *ж.* Кафля. *Кафля, печ апкладаіцца кафляй. Іна дорага стоіць.* Сукрэмна. *Шчыты с кафлі, кафля беліенькъя, слізіенькъя.* Запруддзе, Станюкі. *Акрашалі кахляй печ, кахля ёсць, хто змажнейшы.* Нямойта. *Кахлі выкапывалі, старынныя, гліняныя, беліенькія, паръньня с кірпіча.* Багданава.

**КАХАНАЧКА** *ж.* Танец. *Каханачка – удваёх танцуем, ударалі рукамі.* Самсоны.

**КАХАЦЦА** *незак.* Кахацца. *На ігрышчы ръзваджваюцца, къхаюцца.* Вялікі Азярэцк.

**КАХВАЙЧОНКА** *ж.* Фуфайка. *Нада ш було купіць къхвайчонку.* Мянюцева.

**КАХ-КАХ-КАХ** *выкл.* Перадача гукаў гудзення, зумкання пчалінай маткі. *Адна матка –ках-ках-ках, другая – вох-вох-вох.* Кляпчэва.

**КАЦЕЛКА, КАЦЮЛКА** *ж.* 1. Прыстасаванне ў калодзежы, на якое накручваецца ланцуг; вал. *У калодзісі ставюць вочып, а ў нас тут здзельна нъ кацелку.* Міцюкова. 2. Сувой (пра палатно). *Пакатаюць у кацелкі палатно.* Карпавічы. *Пакатаюць у кацелкі і ў трупкі палатно.* Карпавічы. 3. Вязка круглай формы. *Цёрлі ў кацюлкі лён.* Нямойта.

**КАЦЕЛКІ** *мн.*, **КАЦЕЛАК** *м.* Бруск з колцамі, на якія падвешваюць ніты ў кроснах. *Кацелкі, што зачапляеш ніты, увярху палкі, а за кацелкі палкі.* Багданава. *У краснах кацелкі былі. Як на понаш уступіш, кацелак – круць.* Гарадзец. *Ніты да кацелак прывязваліся.* Рэчкі. *Кацелкі – ніты пъдвязываць.* Заазер'е, Сукрэмна. КАЦЕЛАЧКІ *памянш. Кацелачкі вешаеш, як тчэш.* Гарадзец.

**КАЦЁЛ** *м.* Чыгун. *У кацёл курыцу паложыш, жыру наверх і ў печ, будзе тушъньня курыца.* Буй. *Вадзічка кіпячоная, кацёл стаіць.* Савінічы.

**КАЦІК** *м.* Кругляк, калода. *Кацік мятровы атразаіш, убіваіш сэрцавіну, і тады пъткладаіш, нажом рас, рас.* Жохава.

**КАЦІННЫ** *прым.* Каціны. *Мы нъ каціннъй долі жывём.* Ракаў Засценак.

**КАЦІЦЦА** *незак.* Каціцца. *Нарэжуць калясоў і качаюць палкамі, яно коцяцца, ты яго адбіваеш* [гульня]. Дольдзева.

**КАЦІЦЦА** *незак.* Акочвацца (пра авечак). *У хадзяйстве так учудзіць* [Іван Купала]*: авечкі коцяцца – неразвітых нараджаюць.* Дольдзева. *Авечкі дъвай каціцца – двое, трое.* Жохава.

**КАЦІ́ЦЬ** *незак.* 1. Перамяшчаць коцячы. *Каціла з гаро́ду да ха́ты, і хто б яе́ тушы́ў.* Цясішча. 2. Скручваць у трубку (пра палатно). *У тру́пкі не каціла палатно́.* Нямойта.

**КАЦУБА́ТЫ** *прым.* Даўганогі. *А, кацуба́ты тэй уцёк.* Дольдзева.

**КАЦЮ́Х** *м.* 1. Кругляк, калода. *Кацю́х – кусо́к дзе́рьва атрэ́жуць, ацёшуць, во зътарану́ць дзве́ры.* Гарадзец. КУЦЮ́ШКА *ж. памянш. Куцюшкамі прывёс* [дровы], *пабіць на́да то́лькі.* Багданава. 2. Рулон (пра сена). *Кацюхі ёты дзень цяга́лі.* Партызаны.

**КАЦЯЛО́К** *м.* Кацялок. *Такі́ къцяло́к надзе́лі на трубу́, штоп красівёй было́.* Марозаўка. *Дава́й кацяло́к со́ллі.* Міцюкова.

**КАЦЯНЁНАК** *м. памянш.-ласк.* Кацяня. *А ці ні Лізін къцянёнак ёты?* Багданава. *Кацянёнак быў малы́, дак кры́сы з'е́лі.* Ульянавічы.

**КАЦЯ́ЦІНЫ** *прым.* Каціны. *Ка́жуць, што там шкуры́нку къця́ціну дъ нагі́* [прывязваюць, і гэта абараняе ад змей – у Сібіры]. Леснікова.

**КАЧА́ЛКІ** *мн.* Прылады для разгладжвання, качання бялізны; качалкі. *У кача́лкі кача́лі бяллё, я іх і ні выкіда́ю. Ёй ужо́ ду́жа мно́га гадо́ў, ётай кача́лкі.* Каралі. *У кача́лкі кача́лі, кру́глая така́я і пло́ская з зуба́мі.* Багданава. *Къча́лкъмі пъкъча́іш сваё, то мя́кінька, бліщчы́ць* [пра тое, што лепш імі палатно качаць]. Галашчакіна. *На кача́лкі такія дзірвя́нныя кача́іш, кача́іш* [скуты]. Багданава. *А гэ́ту кача́лку дзе́ці не́дзе знеслі́.* Вялікі Азярэцк.

**КАЧА́Н** *м.* 1. Галоўка капусты. *Къчаны́ ра́дам на ніз у бо́чку нъкладаем.* Вялікі Азярэцк. 2. Нешта, звітае ў шарападобную форму. *Як па́сціла каро́ў, нашлі́ къча́н звіты о́саў. О́сы ў ды́рачку ўла́зіюць.* Партызаны. ◊ СТРЫ́ГЧЫСЯ НА КАЧАНА́. Налыса. *Хоць ты на къчъна́ стрыжсы́ся.* Нямойта.

**КАЧА́ННЕ** *н. зб.* Качаны. *Кача́нне кладу́ць: рад капу́сты, рад кача́ння.* Запруддзе. *Насячэ́ш кары́та кача́ння і з'яда́лі каро́вы.* Закур'е. *Ве́йся, раса́да, у кача́нне, / Дачня́ до́лечка – з венча́ння* (з песні). Чуцькі.

**КАЧАРГА́** *ж.* 1. Качарга. *Качарго́й зачапі́ў бу́лку і вы́цяг.* Чуцькі. *Узяла́ качаргу́ і пор у вужа́ку. Къчарга́ на качарэ́жніку. А ба́ба за ім – з качаргой.* Багданава. *Купі́ла ба́ба къчаргу́ жар выга́рнъвъць.* Заазер'е. *С таптуно́м стаіш, а зза́ду йдзеш і б'еш, і б'еш къчаргою і ў тапту́н зъганя́іш.* Фасаўшчына, Дольдзева, Турава, Дуброўкі, Закур'е. 2. *эмац.-ацэн.* Пра старую нязграбную жанчыну. *Съста́рылісі дзве къчаргі і ніка́му ні на́да. Кьчърга́ ты ста́ръя!* Чуцькі, Заазер'е. 3. *экспр.* Вінтоўка. *А ма́ма нъ яго́ гаво́рыць: на што ты гэ́ту къчаргу́ вълачэ́ш на печ?* Серкуці.

**КАЧАРЫ́ГА** *ж.* Храпка. *Качары́га адна́, а лісту не́ту* [на капусце]. Карпавічы.

**КАЧАРЫ́ЖКА** *ж.* Тое ж. *Як зрэ́жуць кача́н – качары́жка на по́лі.* Розмыслава.

**КАЧАРЭ́ЖНІК, КАЧЭ́РЖНІК** *м.* Качарэжнік. *Къчарэ́жнік – дзе къчарга́, чъпяла́, вілкі.* Багданава. *У качэ́ржніку – вілкі.* Леснікова. *Навя́жыш на па́лку* [памяло], *яно́ стаіць у качарэ́жніку.* Каралі. *Къчарэ́жнік тады́ звя́жуць вяро́ўкай ці палацёнцам, кап вы́свутуў дзе́ўку* (прыкмета). Вялікі Азярэцк. *У къчарэ́жніку стъя́ла чъпілá з бяро́завым чъпяльні́шчам, і гром даў пу бяро́зъвъму чъпяльні́шчу і ў дзве́ры вы́каціўся.* Ракаў Засценак. *Качарэ́жнік кала пе́чы, там і качарга́, там і вілкі.* Алексінічы, Дольдзева, Рэчкі, Сукрэмна, Фасаўшчына, Неўгадава.

**КАЧА́ЦЦА** *незак.* 1. Пераварочвацца з боку на бок (пра чалавека, жывёлу). *Кача́юся, кача́юся – і засну́.* Партызаны. *На ўсю сцяну́ пол сдзе́лаюць, і ўсе къча́юцца.*

*Дажынкі былі, вянкі вілі, а па іх къчáлісі.* Багданава. *Тры дні пад стóгам качáўся, дамóў не прыхадзіў, так напаіла ягó самагóнкай.* Нямойта. *Кот къчáіцца нъ ціплатý* (прыкмета). Чуцькі. 2. Хварэць. *Трóху с сэрцам качáлася, хадзіла на ўкóлы.* Партызаны. 3. Гадаваць (пра жывёлу). *Нáда былó больш узяць свінёнкаў, хай ба качáлісь, дзéцям нáда.* Запруддзе.

**КАЧÁЦЬ** *незак.* 1. Качаць. *Нарэжуць калясóў і качáюць пáлкамі, янó кóціцца, ты ягó адбіваеш.* Дольдзева. 2. Калыхаць, усыпляць дзіця. *Аднóй нагóй качáеш* [дзіця], *другóй прáсніцу крýціш.* Багданава. *А тады ўжо былі калыскі такія, стъялі на палý, мóжна былó къчáць.* Запруддзе. 3. Скручваць. *І высушыш, і тады ўжо ў трýбку качáлі* [скуты]. Багданава.

**КАЧÝЛКА, КАЧÓЛКА** *ж.* 1. Драўляны кругляк, якім трамбуюць зямлю, гліну; каток. *Трамбóўкі такія, качýлкі дзéлалі, трамбувáлі гліну рóўнінька.* Нямойта. *Качýлкі былі тры ў Эдзі.* Фасаўшчына. 2. Прыстасаванне ў калодзежы, на якое накручваецца ланцуг; вал. *Дзéлаюць крышу* [у калодзежы], *дзвéрку, рýчку, качóлку, цэп, вядрó.* Багданава. КАЧÝЛАЧКА *памянш. Качýлачкі дзірвянныя стáвіў, у мурлыгу гулялі.* Дольдзева.

**КÁША** *ж.* Каша. *Упярóт кáшу варылі, кáшу сабірáлі с трох калёд і дъвáлі скатý.* Багданава. *Бýльбу патаўкýць, мáку ўсыпюць і ў печ – кáша з мáкам.* Гарадзец. ○ БУЛЬБЯНАЯ КÁША. Страва з тоўчанай варанай бульбы; пюрэ. *Дасць кáшы бульбянай, янá падхóдзіць, як дрóжжы.* Дольдзева.

□ *Кáшу мáслам не спóрціш.* Вялікі Азярэцк. □ *Кулéш і кáша – гэта не вáша, а рабóта вáша.* Запруддзе.

**КАШАЛÁПЫ** *прым.* Касалапы. *І чълавéк жа бывáіць късшъляпы, калі нóгі так у кýчу.* Буй. *Къшълáпый, калі наскі ўнутр, нóгі крывэя трóшку. У такóга чълавéка ступні біс пад'ёма.* Сянно. *Къшълáпыя пяткі ўрозь, а наскі ўкýчу.* Самсоны.

**КАШАЛЁК** *м.* Кашалёк. *За тýю гармóнь аддáў усі грóшы з къшалькóм.* Сянно.

**КÁШАЛЬ** *м.* Кашаль. *Кáшаль, ну, забівáў на нет.* Буй. *Кáшаль, халéра, задрáла. Каб табé кáшаль грýдзі адбіў!* (праклён). Запруддзе. *Маць-і-мáчаха ат кáшлю.* Леснікова. *Кáшъль быў і с крóўю, ажны чóрныя кроў.* Галашчакіна.

**КАШЛЯНÝЦЬ** *зак.* Кашлянуць. *Каб дым праз рубáшку рабёнку прайшóў і каб кашлянýў, тады палéпшаіць.* Партызаны.

**КÁШЛЯЦЬ, КАШЛЯЦЬ** *незак.* Кашляць. *Як устаéць, дык ён къшляіць, къшляіць. Прастыў ды кáшляіць.* Багданава. *Хвóры, кашляець, мёд усё п'ець.* Вялікі Азярэцк. *Я ж ужэ стáрэя, трэба і кашляць.* Чуцькі. *Къшляіць пърасёнак.* Нямойта.

**КАШНÉ** *н. нескл.* Кашнэ. *Кашнé з мацір'яла шылі куплёнага.* Буй.

**КАШÓЛКА** *ж.* Кашолка. *Плéціная кашóлка з шырóкага лыка для ягат. Для бýльбы – з лазы.* Запруддзе. *Ягъды бярýць у кашóлкі.* Дольдзева, Савінічы.

**КАШТÁН** *м.* Каштан (дрэва). *Пат гэтым къштанóм пъсядзім. Каштáны ні даюць ягадам спець.* Марозаўка. *Къштáны растýць у дзярэўні.* Кішуроўшчына.

**КАШÝЛЬКА** *ж.* Кашуля. *Кашýльку даéць – крэпка клянéць: / Каб ты гэту ні знасіла, / Каб ты бóлі ні прасіла* (з песні). Буй.

**КАШЭЛЬ** *м.* Кашалёк. *У старых людзéй – гэта кашэль.* Савінічы.

**КВÁКАЦЬ** *незак.* Кракаць. *Вýткі квáкаюць.* Багданава.

**КВАКТÁЦЬ** *незак.* Квактаць (пра курэй). *У мянé аднá квактáла, прапáла. Квактáла аднá кýрыца, ці не ашалéла* [так рана]. Партызаны. *Інá квóкчыць, сядзіць, ні нясéцца, хóдзіць, яйца ні нясéць.* Станюкі. *Квóкчуць кýры, а цыплят не хóчуць высéджваць.* Чуцькі, Апечкі.

**КВАКТА́ЦЬ, КВАКЧА́ЦЬ** *незак.* Квакаць. *Квакча́ць лягу́шкі – не мо́жна засну́ць. Як растáнець снех, квакча́ць лягу́шкі, ноч ня мо́жна засну́ць, паку́ль ву́ткі ні паднíмуцца.* Каралі. *Лягу́шкі квóкчуць.* Гарадзец.

**КВАКУ́ШКА** *ж.* Жаба. *Там пачу́іш і сълъу́я, і квакýшку, і гулубá ляснóга.* Запруддзе.

**КВА́РТА** *ж.* 1. Даўнейшая мера вадкіх і сыпкіх рэчываў. *Квáрта чэцьвяртóвая. Пяць кварт налілá.* Фасаўшчына. *Квáрту сёння мóжна вы́піць.* Вялікі Азярэцк. 2. Кубак, конаўка, кружка. *Квáрта – крýшка такáя.* Дольдзева. *Квáртачкі мéдныя былí, квáрты.* Каралі. *Квáрты рáньшы былí, вадý пілí.* Багданава. *Тáта і мы кýбак вадý піць называ́ім квáртай.* Серкуці. КВА́РТАЧКА *памянш. Квáртачкі мéдныя былí, квáрты.* Каралі.

**КВАС** *м.* Квас. *Атхóды ат мукí замéшываюць, пякýць праснакí, каб сухí быў. У дзéжку вады́ залівáюць, цалікóм праснáк, як ні бальшы́ і кíсніць. Чáраз дні тры пілí хлéбны квас.* Манголія. *Хлеб сушы́лі аш патпáліцца, вады́ налíеш, смарóдніку ўкíнеш і хлеб укíнеш, і кíснець усé рáзам – і квас.* Вялікі Азярэцк. *Квас у бóчкі злівáлі.* Цясішча.

**КВАСАЛЁЎНІК** *м. зб.* Сцябліны фасолі. *Рэ́ска – і квасалёўнік, і бабóўнік, рэ́залі і карóвам давáлі.* Гарадзец.

**КВА́СІЦЬ** *незак.* 1. Квасіць, дабаўляць кіслаты ў страву. *Квáсілі мукý ржанýю, як хлеб пяклí.* Партызаны, Марозаўка. *Як на бяллí* [менструацыя], *квáсіць нéльга капýсту* (прыкмета). Запруддзе. *Квáсілі бóчкі квáсу ў пост.* Цясішча. 2. Паставіць кіснуць. *Ні хачý малакó квáсіць, як сквáсім – вяршóк ня дýжа бальшы́.* Марозаўка.

**КВАСО́ЛЬ, ФАСО́ЛЬ** *м.* 1. Фасоля (расліна). *Боп с квáсолем бъльшáя рáзніца. Квасóль бéленькі стърáесся садзíць.* Гарадзец. *Хто цыбýлю, хто квасóль сáдзіць.* Багданава. *Квасóль не ўзышóў.* Кавалі. *Тэ́я гады́ я квасóль садзíла.* Ракаў Засценак. *Квасóль мóжа хто і сáдзіць, а я не саджý.* Закур’е. *Фасóль ёсь, ён рóдзіць у нас.* Гарадзец. *Фасóль садзíла, бурачкí і боп.* Запруддзе. 2. Зерне фасолі. *Суп с квасóлям варý.* Запруддзе. *Квасóль ты нéшта вы́нісла.* Вялікі Азярэцк.

**КВАСО́ЛЬНІК** *м.* Суп з фасолі. *Квасóльнік с квасóлі.* Савінічы.

**КВАСО́ЛЬНІКАВЫ** *прым.* Які мае адносіны да фасолі. *Квасóльнікавае мéста.* Жохава.

**КВАСО́ЛЯ, ФАСО́ЛЯ** *ж.* Фасоля (расліна). *Квасóля, гуркí – усё счарнéла.* Партызаны. *Квасóля на лясé расцéць.* Жохава. *Квасóлю не саджý, абрабáтываць усé нáда.* Закур’е. *Фасóлі пасадзíла, памідóраў лéшку.* Партызаны.

**КВАСЬ** *ж.* Кіслата, закваска. *Называ́лася цéста, там квась былá ў хлéбі, ён такí патхóдзіць, ры́хлы дзéлаіцца.* Вялікі Азярэцк. *Ці харóшая квась у хлéбі? Рашчы́ну астаўля́лі, штóбы квась былá. Ці харóшъя квась у цябé ў хлеб? У аднэ́й ходзя́йкі тъкáя квась, у другéй – другáя.* Дольдзева. *Каб квась былá* [у дзежцы], *вы́параш, вы́маеш, прасýшыш, цыбýляй пратрóш клéпкі.* Міцюкова. *Квась рэ́ская* [у саладухі], *з бýльбай ем.* Багданава.

**КВАСЬ** *м.* Тое ж. *Скары́нак падпáліш – квась жóўценькі.* Міцюкова.

**КВАЦЕ́РА, КВАРЦЕ́РА, КВАРЦІ́РА** *ж.* Кватэра. *Ці скóра тáя квацéра?* Запруддзе. *Кварцéра ў яго́ казённая.* Партызаны. *Ён нас у кварцíру завóдзіць.* Багданава.

**КВАЧ** *м.* Квач, скрутак. *Квач с трáпкі здзéлаіць, шарýіць сцéны.* Запруддзе.

**КВА́ШАНІНА** *ж.* Халадзец, студзень. *Квáшаніну вары́лі з ног, разальéць у міску, засты́ніць. Квáшаніну вары́лі з касцéй і ног.* Гарадзец.

**КВА́ШАНЫ, КВА́ШЭНЫ** *прым.* 1. Кіслы. *Ква́шэная капу́ста.* Міцюкова. 2. Які прызначаны для квашання. *Дзе́шка ква́шаная, учы́ніш на́нач, ме́сіш, перакі́даеш на лапа́ту – і ў печ.* Сукрэмна.

**КВЕ́ТКА** *ж.* Кветка. *То́ркаюць кве́ткі като́ры, а я ні сажу́.* Серкуці.

**КВІРКНУ́ЦЦА** *зак.* Паклапаціцца, падбаць пра сябе. *А іна́ сем ме́сіцаў у пълажэ́нні, а ні квіркну́лася.* Нямойта.

**КВІТ** *м.* Канец. *Як се́рца слабо́е, тады́ квіт чалаве́ку.* Заазер'е.

**КВІТО́К** *м.* 1. Талон. *Далі́ мне квіто́к на рангéн.* Ульянавічы. 2. Квітанцыя. *Бра́лі квіткі́, по́йдзіш к па́ну, запло́ціш за яго́, тады́ по́йдзіш у я́гады.* Мянюцева.

**КВО́ЛЫ** *прым.* 1. Слабы. *Кво́лыя індзюкі́, не́як э́та ўрэ́мя лісы не хо́дзюць, не хвата́юць іх.* Латыгаль. *Булі́ гу́сі-ле́бядзі, пъбаялісі гэ́ты гот хо́ладу і кво́лыя.* Вялікі Азярэцк. КВО́ЛЕНЬКІ *памянш.* Хваравіты. *Дзе́вачка кво́ленькая.* Манголія. 2. Ломкі, крохкі. *Сураве́жы, яны́ кво́лыі* [ламаюцца]. Карпавічы.

**КВО́ХАЦЬ** *незак.* Квактаць. *Ку́рыца кво́хъіць.* Каралевічы.

**КВО́ЧКА** *ж.* Пра жанчыну, якая куляецца з адной нагі на другую. *Бе́гла, як кво́чка та́я.* Чуцькі.

**КЕ́ЛІХ** *м.* Чарка. *Е́та ш ке́ліх, ча́рка на но́шках і біз но́жак.* Алексінічы. *Ке́ліх на но́шках.* Нямойта. *А ке́ліхі ге́та куплёные былі́.* Буй. КЕ́ЛІШАК *памянш.* *Ке́лішак – э́та мале́нькі, грам шэсьдзеся́т. Ке́лішак ма́ленькі, на но́шкі.* Дольдзева.

**КЕ́ЛЬМА, КЕ́ЛЬНЯ** *ж.* Прылада ў выглядзе трохвугольнай лапаткі для набірання і нанясення раствору на мур; кельма. *Яго́ныя ке́льмы ў іх.* Савінічы. *Ке́льня ў мъляра́, като́ры шчыкату́рыць дъма́, пе́чкі.* Запруддзе.

**КЕ́ПІКІ** *толькі мн.* Кпіны. *Ке́пікі – гэ́та сьмяяцца нът табо́й.* Савінічы.

**КЕ́ПСКІ** *прым.* Дрэнны. *Сама́ хоць ке́пская, але́ даб'ю́ся чаго́ на́да.* Партызаны, Савінічы.

**КІ́БІС, КІ́БУС, ЧЫ́БІС** *м.* 1. Кнігаўка. *Кі́біс называ́лі, на зямле́ ку́пінка, я́мачку вы́капаіць, сдзе́лаіць, яны́ крыча́ць.* Леснікова. *Прылiта́юць буця́н, скварцы́, жа́вървньк, кі́бісы – кніга́ўкі называ́юцца.* Вялікі Азярэцк. *Кі́бусуў ня чу́тна цяпе́р. Кі́бусы ёсці, і так ма́ла.* Багданава. *Кі́бус па по́лю ёсь, кігі́-кігі́* [крычыць]. Сянно. 2. Пра цыбатага чалавека. *Як цыба́ты чалаве́к, ка́жуць: кі́біс і чы́біс ён.* Нямойта.

**КІВА́ЦЦА** *незак.* Хістацца (пра падлогу). *Ужо́ і пол сеў, уніз ківа́ецца.* Рэчкі.

**КІ́ГАЎКА, КІГО́ЎКА** *ж.* Кнігаўка. *Кі́гаўка скверці́ся ста́не.* Буй. *Кі́гаўкі на по́лі выво́дзяцца.* Латыгаль. *Кіго́ўкі, курупа́ткі былі́.* Цясішча.

**КІГІ́КАЎКА, КІГІ́КУЎКА** *ж.* Тое ж. *Кігі́каўка па бало́тах бо́льшу часць, а чалаве́ка як увідзіць, бу́дзе над чалаве́кам круці́цца і крыча́ць.* Ракаў Засценак. *Кігі́каўка ма́лінькая: піць-піць-так.* Нямойта. *Кігі́куўка чуба́тъя ска́чыць і ўсё кігі, кі-гі.* Сукрэмна.

**КІ-ГІ́, КНІ-ГІ́** *выкл.* Перадача гукаў спеву (кігікання) кнігаўкі. *Кігі́чкі ўсе кі-гі́, кні-гі́ ў бало́це.* Розмыслава.

**КІГІ́ЧКА** *ж.* Кнігаўка. *Кігі́чка па по́лю, пабл́ізу ат бало́та. Ідзе́ш, яны праважа́юць кіло́метра два, зна́еш, што гняздо́ там.* Розмыслава. *Кігі́чка на по́лі на зямле́ гняздо́ дзе́лаіць, сабярэ́ць нямно́жачка карэ́ння.* Міцюкова. *Кігі́чкі ня лю́бяць, калі лю́дзі, крыча́ць. Лі́сы за і́мі ахо́цілiся.* Леснікова.

**КІ́ДАЦЦА, КІДА́ЦЦА** *незак.* 1. Нападаць, накідвацца на каго-н. *Свіні* [дзікія] *ні на ко́га ня кі́далісі.* Багданава. 2. Аддаваць, калоць (пра боль). *Ні так мне боль кі́даецца, спакайне́й засну́.* Нямойта.

**КІДАЦЬ, КІДА́ЦЬ** *незак.* 1. Кідаць, шпурляць што-н. *І мы кіда́лі вянкі, кано́плі віза́лі.* Нямойта. *Ні кіда́йця ў вадý!* Сянно. 2. Пакідаць. *Яшчэ́ по́йдзіць* [на работу], *дзяцэ́й гэ́тых кінець.* Заазер'е. *А тýю кýклу кіда́ем на по́ле, кап к налéццю ўжэ ўража́й быў.* Багданава. *Кінулі ко́ній, а са́мі ў дзярэ́ўню. Кіньла іх кýрыца і пьшла́.* Запруддзе. КІДЗЕ́ЛЬ. Хутка кінуць. *Звя́жуць снап лёну і кідзе́ль у машы́ну.* Чуцькі. 3. Уводзіць аснову ў бёрда, ніт. *У бёрда кіда́еш вéчар.* Апечкі. ◊ КІДА́ЦЬ У ДЭ́СІКІ (ПАЎДЭ́СІКІ). Уводзіць 10 пасмаў (і іншую колькасць) у бёрда. *Кідаюць у дэ́сікі, паўдэ́сікі* [як ткуць]. Гарадзец. ◊ КІ́ДАЦЬ НА КА́РТЫ. Варажыць. *Я кідала ў іх* [цыганак] *на ка́рты.* Заазер'е.

**КІЁК** *м.* Кіёк. *Вон с кійко́м пашла́.* Марозаўка. *Кійка́ вазьмý, лазіну якýю вазьмý і за ім.* Партызаны. *Мне сты́дна, я ш так ні магý іці, мне кіёк на́да. Яны́ падбягýць, а я с кійко́м сяжý.* Гарадзец. *Яна́ паглядзе́ла, што я на кійкý, не хацéла ў гéтую пьла́ту кла́сці. На кійка́ апіра́юся.* Нямойта. *Дубéц то́ўсты, як кіёк.* Галашчакіна, Запруддзе, Кішуроўшчына. КІЁЧАК *памянш.* *Пада́сць ямý* [дзеду] *кіёчак, такі́ до́бры мальчанёнак.* Запруддзе. *А тады́ ўкýсны э́ты кіёчак ссаць* [з муравейніка]. Савінічы. *Іна́ с кіёчкам хо́дзіць.* Нямойта. КІЁЧАЧАК *памянш.* *Ой, вісна́, красна́, што ты нам прынісла́? / Малады́м дзе́вачкам – па вяно́чачку, / Малады́м жо́начкам – па сыно́чачку, / Стары́м ба́бачкам – па кіёчачку* (з песні). Чуцькі.

**КІЁСАК** *м.* Кіёск. *Ці рабо́тыіць там кіёськ?* Сянно.

**КІЙ** *м.* Кій. *Што ты ў ста́рца кія адбіра́еш?* Багданава.

**КІЛА́** *ж.* Нарасць на капусце. *Дзе капýста на мо́крым мéсце сядзіць, яна́ с кіло́й.* Розмыслава.

**КІЛІ́ШАК** *м.* Чарка. *Кілі́шкі былі́ сьмаго́нку піць.* Леснікова. *Кілі́шкі, кілі́шачкі былі́. Налі́ мне там кілі́шычьк адзі́н.* Запруддзе. *Былі́ кілі́шкі, біз но́шкі.* Вялікі Азярэцк. *Гэ́ташкія кілі́шкі былі́.* Закур'е. КІЛІ́ШАЧАК *памянш.* *Бува́лышныя лю́дзі кілі́шьчьк вып'я і до.* Цясішча.

**КІЛО́МЕТР** *м.* Кіламетр. *А мы ш за тры кіло́метры хадзілі на рабо́ту.* Заазер'е.

**КІЛУ́Н** *м.* Кныр. *З я́йцьмі – е́та свіння́-кілу́н.* Багданава.

**КІ́ЛЬЯ** *н. зб.* Нарасць на капусце. *Капýста пайшла́ ў кі́лья.* Розмыслава.

**КІНДЗЮ́К** *м.* 1. Страўнік. *Кіндзю́к у жыватý.* Фасаўшчына. 2. Падрыхтаваны для начынкі і начынены мясам свіны страўнік. *Кіндзю́к – с са́ла, мя́са, на́да тро́шачкі падвары́ць і ў ма́рлю палажý, звяжý і днýшкай націска́ю і пат ка́мень. Пажа́раем у чугункý, кіндзю́к накладáем.* Жохава. *Мя́са кладýць у кіндзю́к і падвéшваюць.* Парэчча. *Яго́ ш абрэ́жыш, кілбасý здзе́лаіш, кіндзю́к здзе́лаіш. Кіндзю́к – мя́са, прыпра́ва, к лéту яго́ блюдýць.* Багданава. *Трабýх начы́неш – гэ́та ўжо кіндзю́к.* Савінічы. *Кіндзю́к набіва́ем мя́сам.* Мянюцева, Леснікова. 3. Начынены мясам мачавы пузыр. *Кіндзю́к – мя́са кладýць у мачавы́ пузы́р, дзі́рачку со́лем засы́плю і зашы́ю.* Парэчча. *Кіндзю́к – гэ́та сцуля́ начы́нюць і надума́юць яго́.* Алексінічы.

**КІ́НУЦЦА, КІ́НАЦЦА** *зак.* 1. Спусціцца. *Павýк, як нь плахо́я, то кініцца ўніс* [калі да яго звяртаюцца ў час спускання на павуціне і хочуць даведацца аб якой навіне, ён дае знаць (павер'е)]. Сукрэмна. 2. Разысціся. *Мы с сястро́й кінуліся, разбе́гліся ў ро́зныя бакі́.* Запруддзе. 3. Раптоўна ахапіць. *У плячо́ боль кінулася.* Нямойта. 4. Пайсці. *Кудá ні кінься – халасцякі́, разлýчнікі. Кýды кінацца? І там, і там пяюць.* Партызаны.

**КІ́НУЦЬ** *зак.* 1. Шпурнуць. *Во й кінулі пат са́мы нос.* Запруддзе. 2. Пакінуць, аставіць. *Ма́тка мька́ нам кініць* [паставіць у місцы на падлозе]. Алексінічы.

*Галéнь кíніш* [паставіш ля хаты], *а сьбáкі сцягнуць і нь сусéдуў двор зьцягнуць.* 3. Пакінуць без нагляду. *Кíньла дзіцяя́ і пьшлá ў ягъды.* Міцюкова. *Як жа дзіцёнка свайгó кíнаць.* Ульянавічы. *Інá мянé кíнула ў хáце.* Міцюкова. 4. Перастаць займацца чым-н. *Кíньла рабíць, то грыбóў ні стáла. Глéдзя на мянé і другíя бáбы кíналі пáрыцца.* Нямойта. 5. Раскінуць. *Пьд бярóзамі кíнуў пьлáтку.* Заазер'е. 6. Перадаць у спадчыну. *Камý ш інá кíніць усё.* Багданава. ◊ КÍНУЦЬ НА КÁРТЫ. Паваражыць. *Цётычка, кíньця нь кáрты, укрáлі кьня́.* Міцюкова. ◊ НІ КÍНУЦЬ У ГРАЗЬ ЛІЦÓМ. Апраўдаць надзеі, спадзяванні. *І гéты дзéвер у гразь ні кíнець ліцóм.* Партызаны.

□ *Ззáду кінь – знóйдзеш напéраду* (*папéраду*). Запруддзе. □ *Напéрат* (*напярóд*) *кíнеш* (*кінь*), *а ззáду* (*ззáдзі* ) *нáйдзеш.* Багданава, Запруддзе, Івоні, Фасаўшчына.

**КÍПЦІ** *мн.* Кіпцюры. *Кíпці вялíкія ў каршунá.* Закур'е.

**КІПЦЮРЫ́, КУПЦЮ́РЫ, КАПЦЮРЫ́** *мн.* 1. Кіпцюры. *Карóва малакá ні дась, лáска яé кіпцюрáмі дзярэ́ць.* Партызаны. *Купцюры́ – дык яны́ ш у кáжнай.* Вялікі Азярэцк. *Дзярýць купцюрáмі лéхі.* Розмыслава. *Лáска купцюрáмі дзярэ́ць карóве па спінé.* Партызаны, Чуцькі. *Купцюры́ бальшэ́я ў мядзьвéдзя.* Вялікі Азярэцк. *Капцюры́ на нагáх у кýрыцы.* Буй. *Сядзíць, капцюрáмі дзярэ́ць.* Гарадзец, Багданава. 2. Ногці. *Купцюры́ абрэ́ж!* Запруддзе.

**КІПЯЧÓНЫ** *прым.* Кіпячоны. *Кіпячóная вадá шчытáецца ні жывáя.* Каралевічы.

**КІРАВÁЦЬ** *незак.* Кіраваць, упраўляць кім-, чым-н. *Кірьвáць канём нáда.* Гарадзец. *Кірýе* [плытом], *упéрадзе стаíць.* Фасаўшчына.

**КІРМÁШ** *м.* 1. Прастольнае свята пры царкве, касцёле. *Нéяк хадзілі на кірмáш, у цэ́ркву. На Узнясéння тады́ сабірáліся на кірмáш. На кáждам прáзніку éздзілі на кірмáш, на Пятрó, на Трóіца.* Карпавічы. *Кірмашы́ былí каля цэ́рkваў. Пьньвязýць усягó на кірмáш.* Вялікі Азярэцк. *У Уллянъвічы на кірмáш хадзілі на Вьзнясéння.* Мянюцева. *Крáсна пятніца ў Вялікóдную нядзéлю. Тады́ кірмáш у Смыллянах.* Міцюкова. *У кáждуй цэ́ркві былí сваé кірмáшы.* Ульянавічы. *Як у нас у Машчóнах былá цэ́рква, так кірмáш быў, на Прачы́сту на э́ту.* Самсоны. *На кірмáш хадзілі, дзе цэ́рквы былí.* Цясішча. *Кірмáш звáлі, усё былó, як свя́та – Трóіца, Прачы́стая.* Заазер'е. *Паéдзім, кáжыць, на кірмáш, на Трóіцу éта булó.* Манголія. *І кірмáш быў у Машчóнах і царквá, называ́ліся не Машчóны, а Кішкі.* Машчоны. *На Ю́р'я быў кірмáш у Буí, на Уздзвíжання: бýлкі, барáнкі, канфéты былí, тáнцы – усягó былó.* Парэчча. *Ну во сабірáюцца лю́дзі, пасля абéдні – ну во гэ́та і кірмáш.* Запруддзе. 2. Вялікі святочны базар. *Усé прадавáлі на кірмашы́.* Чуцькі. *Кірмáш рáньшы быў, цяпéр базáр. Нашы́ дзяды́ на прáзьнік éздзілі на кірмáш.* Гарадзец. *Кірмашы́ былí стары́нныя, як увóсінь, на стары́нныя свя́ты.* Дольдзева. *Ю́пкі насілі, куды́ на кірмáш ішлí.* Нямойта, Багданава, Пустынкі. *На кірмáш хадзілі ў Пачáевічы.* Закур'е. 3. Шмат народу. *Людзéй, як на кірмашы́.* Вялікі Азярэцк. *Як назбірáецца кірмáш – мьладзёш папрыхóдзіць.* Партызаны.

**КІРМАШÓВЫ** *прым.* Пярэдні (пра зубы). *Тóлькі кірмашóвыя зýбы ў мянé.* Партызаны.

**КІРПІЧЫ́НА, КІРПÍЧЫНА** *ж.* Цагліна. *Ніхтó кірпічы́ны ня мóжыць вы́драць* [з фундамента старой пабудовы]. Заазер'е. *Кірпíчына ўпáла.* Каралі.

**КІСÉЛЬ** *м.* Аўсяны кісель. *Кісéль з аўсá: авёс змéліць, укíсніць, працэ́дзіць, цэд астаéцца, пастáвяць здáлеку, кіпíць, сáла паджáраць з цыбýлькай – і éлі.*

Гарадзец. *Кісе́ль вары́лі с аўса́. Кісе́ль вы́сушыш, аптаўчэ́ш, сі́там пасе́іш, а тады́ ў жо́рны – мука́, учыня́лі як бліны́, ён скі́сне, вары́лі, пра́вілі але́ім.* Каралі. *Кісе́ль з аўса́ е́лі, як пост.* Буй. *Кісе́ль аўся́ны вары́лі.* Багданава.

**КІ́СЕЛЬ** *ж.* Закваска. *Кісель ні та́я, што ў дзе́рыві* [у драўлянай бочцы, а не ў эмаліраванай выварцы]. Запруддзе.

**КІ́СЛА** *прысл.* Кісла. *Кі́сла, аж Масква́ віда́ць.* Запруддзе.

**КІСЛАТА́** *ж.* 1. Закваска. *Кіслаты́ німа́, кінь рашчы́ны ў дзе́жцы!* Цясішча. 2. Нешта вельмі кіслае. *Кіслаты́ – Масква́ віда́ць.* Запруддзе. 3. Кіслотнасць. *Бува́ла і кісло́ты ў людзе́й былі́ харо́шыя.* Партызаны.

**КІСЛІ́ЦЬ** *незак.* Ставіць квасіцца. *Як на бялі́ – капу́сту не кісля́ць* (прыкмета). Чуцькі.

**КІ́СЛЫ, КІСЛЫ́Й** *прым.* 1. Пракіслы. *Смiта́на кісла́я, пра́ма што бра́га.* Запруддзе. *Такі́ кіслы́й хлеб.* Партызаны. 2. *перан.* Які выяўляе незадаволенасць, змрочнасць. *Кі́слае настрае́нне было́.* Нямойта.

**КІСЛЯЦЦЁ** *н.* Нешта вельмі кіслае. *Кісляццё э́та* [парэчкі], *са́хару на́да мно́га.* Кляпчэва.

**КІ́СНУЦЬ** *незак.* Кіснуць. *Сырадо́й стаі́ць кісніць і сырыква́ша.* Заазер'е. *Тады́ яе́ ў пе́чы ва́руць* [саладуху] *і ў дзяжы́ кісніць.* Фасаўшчына. *Тады́ ў дзе́жачку, у хле́бнічку і іна́* [саладуха] *кісніць.* Багданава. *Цяпе́р паро́нкі пасяку́, і яны́ ня кіснуць, цяпе́р хало́нна.* Неўгадава.

**КІ́СЦІКІ** *мн.* Кутасы. *Кі́сцікі ў салфе́тцы.* Нямойта.

**КІСЬ** *ж.* 1. Кісля. *Часнако́м цёрлі, кмі́нам, кісь каб перамяні́лася. Так лячы́лі дзе́жку.* Гарадзец. 2. Закваска. *У дубо́вуй бо́чкі лу́ччы кісь дзе́ржыць.* Алексінічы. 3. Кіслая прыправа. *У по́ліўку льюць сы́рвіткі, ці ча́рычку со́вусу, ці хле́бны квас для кі́сі.* Дольдзева.

**КІТ** *м.* Кіт, замазка для акон. *Кіт во́кны зама́звалі, ён як мы́ла, брусо́чак, яго́ тро́шку пагрэ́іш, тады́ абле́пліім во́кна.* Багданава.

**КІТА́** *ж.* Снапок бобу. *Кіта́ бо́бу.* Розмыслава.

**КІТО́ЎНІК** *м.* Цяслярскі інструмент для выбаркі паза ў раме. *Кіто́ўнік – такі́ шпіро́к адбіра́еццa, дзе сцякло́ ўстаўля́ідца. Кіто́ўнікъм шпары́ выбіра́ць у ра́мі для сцяко́л.* Гарадзец.

**КІ́ШКА** *ж.* Кішка. *Лы́ка на кі́шку надзе́неш і па́льцам то́ркаеш, піха́еш. Кі́шкі вон, пуп, се́рца, пячо́нку ва́рым.* Буй. *Кі́шкі чы́сцілі, я дык но́жам чы́шчу.* Багданава.

**КІШЭ́НЬ** *ж.* Кішэня. *Спі́чкі ў кіша́ні.* Гарадзец.

**КІШЭ́ЦЬ** *незак.* ◊ АШ КІШЫ́ЦЬ. Вельмі многа. *Апыле́нне здзе́лалі, а ў калхо́зніках аш кішы́ць* [пра каларадскіх жукоў]. Жохава. *Віраб'ёў у гнязьдзе́ аж кі-ша́ць.* Рэчкі.

**КЛА́ДБІШЧА** *н.* Могілкі. *Ішлі́ з За́пъднай, вялі́ каро́вы, купі́лі там, і нъ кла́дбішчы нъчъва́лі, і ні стра́шна было́, ло́жымся сяро́т магі́лак. Варо́ны крыча́лі на кла́дбішчы, не́хта памрэ́ць* (прыкмета). *Усе́ на Па́ску на кла́дбішча.* Гарадзец. *Кла́дбішча перайшо́ў, ста́ла пло́ха, павалі́ўся і ляжа́ў – спужа́ўся. Ну, вот на Па́ску хо́дзяць у нас на кла́дбішча.* Запруддзе. *Там каля кла́дбішча была́ цэ́рква.* Буй. *На кла́дбішчы чабо́р расце́ць.* Нямойта. *Тут у нас кла́дбішча было́ ніда́лёчка. Тады́ яны́ адно́ кла́дбішча знасі́лі с аднаго́ ме́сца на другое́.* Леснікова. *Там стары́ннае да́ўняе кла́дбішча.* Латыгаль. *За кла́дбішчам мі́на ўзурва́лася.* Савінічы. *На Ра́даніцу на кла́дбішча хадзі́лі ўсі.* Самсоны. *Кла́дзішча дзярэ́ўня была́, і кла́дбішча там.* Серкуці, Партызаны. *Во кла́дбішча за дзярэ́ўняй.* Закур'е.

**КЛА́ДЗІНА** *ж.* Падваліна. *Чатыры кла́дзі тут на каме́нні, пад кла́дзіну каме́нне кладзе́цца.* Дольдзева.

**КЛАДЗЬ** *ж.* Тое ж. *Кла́дзі кладу́ць, а пато́м засцiла́юць до́скамі.* Вялікі Азярэцк. *Дзе́лалі кладзь ілі падмо́снікі, на іх кла́лі падло́гу. Пат по́лъм кла́дзі. На́да пълъжы́ць кла́дзі пат пол. На кла́дзі до́скі ло́жым.* Гарадзец.

**КЛА́ДКА, КЛА́ТКА** *ж.* 1. Перакладзіна праз раку, балота, гразкае месца. *Пабіжа́лі пъ кла́тках, іна́ ўпа́ла ў ваду́. Кла́дка была́ рэ́чку перайці́.* Запруддзе. *Масці́ кла́дку, / Заві́ ў ха́тку. / Сыр на тарэ́лку, / Ча́рку гарэ́лкі, / Па́ру й каўба́с / По́йдзем да вас* (з песні). Баравікі. *Кла́ткі пълажы́лі церас кънаву.* Фасаўшчына. *Кла́дкі памо́шчаныя.* Закур'е. КЛА́ДАЧКА *памянш. Прапу́сціць учы́цельніцу, кла́дачку пало́жыць, кап мы прайшлі́.* Фасаўшчына. 2. Невялікі драўляны памост на возеры, рэчцы і пад. для чэрпання вады і паласкання бялізны. *Пайду́ нъ кла́тку, памы́ю пла́цця, там намо́шчына.* Гарадок.

**КЛАДО́ВАЯ** *ж.* Кладоўка. *Тады́ яго́* [мяса] *паве́сіш на ха́ці ці ў кладо́вай – ну і вісі́ць зіму́.* Багданава.

**КЛАДО́ЎКА** *ж.* Тое ж. *Кладо́ўка, там са́ла ў я́шчыках.* Марозаўка. *Кладо́ўка, во́кны бальшы́я ў калідо́ры.* Вялікі Азярэцк. *Павы́нісла кру́шкі ў кладо́ўку.* Багданава, Нямойта.

**КЛА-КЛА-КЛА** *выкл.* Перадача гукаў хлопання крыламі. *Буця́н быў, ён кла-кла-кла, цэ́лае ле́та быў, як бы сво́йскі. Буця́н кла-кла-кла кры́ламі на ба́шні.* Багданава.

**КЛАНІ́ЦЦА** *незак.* Кланяцца. *До́жджык, до́жджык, пераста́нь, / Я паеду на Ярда́нь / Бо́гу малі́цца, крэ́сту кланіцца* (з дзіцячай песенькі). Багданава.

**КЛАПАЦІ́ЦЦА** *незак.* Клапаціцца, турбавацца, даглядаць. *Іна́ за дзе́дам клапо́ціцца.* Нямойта. *Ну, клапаці́цца – е́та забо́ціцца.* Багданава.

**КЛАПО́ЎНІК** *м.* Клапоўнік (расліна). *Не́йкую траву́ заву́ць клапо́ўнік.* Нямойта.

**КЛА́СЦІ** *незак.* 1. Складваць. *Калі хто дро́вы кладзе́ць, каб яны́ ні забуры́ліся, то кладзе́ць кле́тку.* Нямойта. *На под дро́вы кладзе́ш.* Багданава. *Валкава́тая се́на на ноч трэ́ба кла́сці ў капе́шку, кап ні сагрэ́лася.* Леснікова. 2. Хаваць (пакойнікаў). *Е́тых ві́сельнікаў ні хува́лі, ну а ціпе́р усіх ра́зам кладу́ць.* Багданава. 3. Рабіць дах. *Ла́ты – як кры́шу кладу́ць, це́шуць такія па́лкі, ла́ты ла́цяць.* Фасаўшчына. 4. Перакладаць (мохам). *Кла́лі мо́хам, імшы́лі.* Багданава. 5. Прыкладваць. *Ша́пътнік кладу́ нъ гълаву́ і нъ ка́рък – жару́ аццягъіць.* Міцюкова. 6. Уцягваць. *І ў выго́лку біз ачко́ў укладзе́ць. І я яшчэ́ не́як кладу́, кладу́ і ўкладу́.* Багданава. 7. Несці (яйкі). *У другі раз яны́ вадзіліся* [ластаўкі] *і другі раз кла́лі яі́чкі.* Фасаўшчына.

**КЛА́СЦІСЯ** *незак.* 1. Укладвацца спаць. *Кладзі́ся спаць!* Турава. *Пайду́ кла́сціся, а бо́льшы ча́сці лажы́цца* [скажуць]. *У саўхо́зі, дзе бо́льшыя хазя́йства, то ку́ры кла́сціся* [скажуць]. Нямойта. *На дзіва́н кладу́ся і сплю.* Партызаны. *І хо́дзіць, ні кладзе́цца.* Серкуці. 2. Прыгінацца сцяблом да зямлі. *У са́дзі і цімахве́ўка кладзе́цца.* Турава. 3. Класціся на лячэнне. *У Ра́сні кла́сціся хаце́ла ў бальні́цу.* Чуцькі.

**КЛЕ́ВЕР, КЛЕ́ВІР** *м.* Канюшына (расліна). *На кра́сным кле́веры не даста́юць мёд пчо́лы.* Вялікі Азярэцк. *Па кле́веру пчо́лы садзя́цца: і бе́лы есць, і ро́завы.* Запруддзе. *Кле́вір сушы́лі, таўклі́, праснакі́ пяклі́.* Алексінічы. *Кле́вер дзікі, бе́ленькі, паху́чы, небальшэ́нечкі.* Багданава. *Кле́вяры пакасілі.* Баравікі. *І тут во кле́вір пасе́ілі на зіму́?* Міцюкова. *Каро́ва як ідзе́ць, то на кле́вер.* Ракаў Засценак. *Пчо́лы на лі́пу ляця́ць, як цвіці́ць, на кле́вір.* Закур'е.

**КЛЕ́ЙКАСЦЬ** *ж.* Клейкасць. *Для клейкасці жменю мукі ўсыпіш і праснакі пяклі са шчаўлюка́.* Багданава.

**КЛЕ́НЧЫЦЬ** *незак.* Кленчыць, ныць. *Кле́нчыць хто, е́слі каму́ што цяшка. Кле́нчыць і хто жа́дны. Ня кле́нчы, жыва ты бу́дзіш!* Нямойта.

**КЛЕ́ТКА** *ж.* 1. Клетка. *Кле́тка на пту́шак. Ла́вюць і ў кле́тку пту́шак пуска́юць.* Заазер'е. 2. Спосаб складвання колатых дроў. *У кле́ткі ро́ўнінькія дро́вы на́да. Калі́ хто дро́вы кладзе́ць, каб яны́ ні забуры́ліся, кладзе́ць кле́тку.* Нямойта. *Кле́ткай дро́вы склада́юць.* Фасаўшчына. КЛЕ́ТАЧКА *памянш.* Невялікі чатырохвугольнік. *Вырысуюць кле́тачкі і вышыва́юць.* Запруддзе.

**КЛЕЦЬ** *ж.* Свіран. *Клець – пастро́йка. У ту́ю клець склада́юць дабро́. За́сікі, сьвіран зва́лі і клець – э́та адно́.* Заазер'е. *У кле́цы ў дзьвіра́х дзірка, каты́ ла́зюць.* Каралевічы. *У кле́цы хлеп дзіржа́лі.* Серкуці. *Згонюць каласкі́, сало́міну, касцяро́к но́сюць у кле́цы, у ме́льніцу вазілі мало́ць насе́нне. Во тут стъяла клець на́ша.* Гарадзец. *Кле́цы ў ко́жнага былі. Разьбі́та на за́секі клець. Дабро́ ў за́сікі сыпалі ў кле́цых, кле́цы былі.* Вялікі Азярэцк. *Адна́ аддала́ клець, здзе́лалі з яе́ зімля́нку.* Мянюцева. *Пака́ за стол садзі́цца – у клець вяду́ць, маладзён вёў* (звычай). Леснікі, Манголія, Мянюцева, Фасаўшчына.

**КЛЕ́ЧАСТЫ** *прым.* Клятчасты. *Ён у кле́чъстай руба́сцы.* Гарадзец.

**КЛЕШЧ** *м.* Клешч. *Клешч увап'е́цца, ма́лінькі, мо́жыць упі́цца, кроў п'юць і сам разадме́цца.* Жохава. *Клешч ат'е́ў пчол. Ці ёсць клешч – па пяць пчол бра́лі з до́мікаў, вазілі ў Сянно́, правяра́лі.* Вялікі Азярэцк. *Кляшчы́ на пчол нава́льваліся.* Багданава. *Клешч завёўся, пчо́лы прапа́лі.* Латыгаль. *Клешч садзі́цца пад крылышкі* [пчалы] *і ду́шыць, пахо́жы на лляно́е се́мя, сам мале́нькі, а як бы́стра хо́дзіць. Клешч аканча́цельна заеў пшчол.* Закур'е.

**КЛЕ́ШЧЫ** *толькі мн.* 1. Металічны інструмент у выглядзе шчыпцоў для захопу і трымання гарачага металу. *У ку́зні кле́шчы, малато́к, зубі́ла.* Мянюцева. 2. Драўляная частка хамута. *Кле́шчы з дзе́ръва, бальшынство́ з бяро́зы дзе́лаюць, с чачо́ткі.* Гарадзец. 3. Прылада для выціскання алею. *Але́й ці́снулі, кле́шчы дзе́лалі.* Марозаўка.

**КЛЕ́ШЧЫ** *мн.* Клюшні. *Рак кліўча́мі ўзяўся сваі́мі і дзяржы́ць. У ра́ка кле́шчы.* Багданава.

**КЛЕ́ЯНЫ** *дзеепрым.* Заклеены. *Гало́шы кле́яныя, раскле́іліся.* Запруддзе.

**КЛЁН** *м.* 1. Клён. *Мязгу́ з клёна ссуць ці смо́кчуць.* Багданава. 2. Кляновы ліст. *На кляну́ пяклі хлеб, ду́жа харо́шы.* Сукрэмна.

**КЛЁП** *м.* 1. Адцягнутае ў час кляпання вастрыё касы. *Ву́зенькі, ціраз усю касу́ до́лжан быць ад пя́ткі да но́сіка клёп. На во́страй* [бабцы] *лу́чша клёп атцяга́іцца.* Нямойта. *Кле́піць на ба́бцы, клёп адця́гваіць – і наво́дзіць.* Партызаны. *Глядзе́ць трэ́ба па клёпу, штоп клёп ішо́ў ат пя́ткі да наска́ ро́ўнінька* [тады каса лічыцца добра пакляпанай]. Леснікова, Фасаўшчына. 2. Лязо касы пасля кляпання. *Клёп у касы́ харо́шы.* Нямойта.

**КЛЁПКА, КЛЕ́ПКА** *ж.* Клёпка. *Клёпка – до́сачка, што састаўля́ецца бо́чка ці дзе́шка.* Багданава. *Ку́біл – е́та ра́ньшы быў, што адзе́жу склада́лі, во с такі́х во клёпак.* Нямойта. *У пайку́ клёпкі і дно.* Вялікі Азярэцк. *Фугано́м клёпкі дзе́лалі.* Міцюкова.

**КЛЁЦ, КЛЯЦ** *м.* 1. Зуб у баране. *Клёц – е́та ра́ньшы быў у бара́не. Дзірвя́ныя былі́ баро́ны, хто з ду́бу наце́шыць кляцо́ў, а тады́ скако́рдзіць.* Нямойта. *Кляцы́*

*ў бърънáх пъсаб'юцца.* Жохава. *Дзервянныʹе барóны дзéлалі, кляцыʹ дзервя́нныя.* Леснікова. 2. Металічны штыр, на які навязвалі кароў. *Клёц – карóў нъвя́зываць. Затóчаны, кальцó загнýтая і ў зямлю́ зъгъня́юць.* Жохава.

**КЛЁЦ** *м.* Удзельнік аднайменнай гульні. *Э́нікі, бэ́нікі, éлі варэ́нікі, клёц* (з дзіцячай лічылкі). *Хто клёц, той выхóдзіць.* Гарадзец.

**КЛЁЦКІ** *мн.* 1. Клёцкі. *Клёцкі, хто надзярэ́ць, надзéлаіць бýльбянэ́я, а хто мучанэ́я. Пываʹруцца, малакóм навядзéць і кáжыць: «Я варыʹла ся́нні клёцкі».* Нямойта. *Клёцкі варыʹлі і с картóшкі, і с мукí мóжна быʹла.* Заазер'е. *Дрáлі картóшку, атцэ́жывалі, выʹмесіш, выʹмесіш і пакачáіш клёцкі.* Багданава. *Кусóчкі цéста такéя, як клёцкі.* Кішуроўшчына. *Пéрва дзéлаюць клёцкі, хто з мукí, як хто задýмаў. Клёцкі дзярóныя накатáіць.* Вялікі Азярэцк. *На Саракí сóрак клёцак з бýльбы нáда зрабíць* (прыкмета). Міцюкова, Савінічы. 2. Абрадавая страва на памінках. *Як памрэ́ць чълавéк, клёцкі дзéлълі з мукí.* Савінічы. 3. Абрадавая страва на памінках, якая ўжывалася замест мучных клёцак. *Размачыʹ бýблікі ў малацé, вот табé гатóвые клёцкі.* Заазер'е.

**КЛÍКАЦЬ** *незак.* Клікаць. *Клíкаць – гэ́та гукáць, дзе далёка ў лéсі – клíкай.* Багданава.

**КЛІН** *м.* 1. Клін. *Клін во йдзе нáда забíць, зацісáў клінóк і забíў у тапарыʹшча і ні звáліваецца.* Нямойта. *Бярэ́ш жалéза, абгінáеш на клін, кусóк жалéза лóжыш і ўвáрыіш у гарнé, кап жыʹткае, як вадá.* Жохава. 2. Спосаб крою, фасон пашыву. *Дзвінóста лет нъзáт у маéй мáмы шыʹлі спадніцы ў кліныʹ і кóсткі ўстаўля́лі ў кáжды клін.* Фасаўшчына. КЛІНÓЧАК *памянш. З клінóчкаў – тáпачкі. Пугуля́й вечарыʹнку – разлéзуцца.* Кляпчэва. ◊ НА КЛІН. Звузіцца. Серкуці.

**КЛІНÓК** *м.* Мяшочак трохвугольнай формы, у які зліваюць адтопленае малако. *Клінóк быў са свайгó пълатнá.* Леснікова.

**КЛОК** *м.* 1. Жмуток сена. *Сéна клок на мóрду скíнуў.* Галашчакіна. 2. *прысл.* Няшмат, невялікая колькасць. *Сéна клок сушыʹлі.* Манголія. *І сéна клок ніхтó ні прывязéць, пакýль бутыʹлкі ні пъстáвіш.* Малы Азярэцк.

**КЛОП** *м.* Клоп. *Калí клапыʹ ёсь, я ні заснý, любыʹ сон разарáць.* Нямойта. *Клапыʹ, блóхі – нéйкая нудá, чалавéччое цéла ядýць.* Вялікі Азярэцк. *Клапыʹ рáньша былí.* Багданава. *Цíсьнісся, як клоп у шчэ́лку.* Партызаны.

**КЛÓПАТ** *м.* 1. Клопат, турбота. *Чалавéк дóлжан клóпат прад'яўля́ць.* Нямойта. *Бáчыць ўва сьне грóшы – клыпатыʹ бýдуць.* Ракаў Засценак, Чуцькі. *Тут клóпат – у бальніцы я ліжáць ня бýду.* Вялікі Азярэцк. *Клóпат вялíкі быў тут.* Партызаны. 2. *часц.* Няхай сабе. *Вы ні ўжывіцё, клóпат такí, а ты ні мішáйся, ні ўкáзывайся. Клóпат такí, памірáць скóра.* Багданава. *Клóпат такí, што мужукá німá, жывí сáбе ды і ўсё.* Каралевічы. *Ай, клóпът, жывіця́ ў тэй хáці.* Гарадок. *Ай, клóпат, гультáй сам сабé.* Гарадзец. *Клóпат, я вам цяпéр не нáда.* Нямойта.

**КЛÓЧЧА** *н. зб.* Лахманы. *Во чагó навя́жуць якóга клóчча – во й хатýль. Клóчча во павéсіла.* Багданава. *Дзе якóе клóчча, усё пабрáлі.* Запруддзе.

**КЛУБ** *м.* Культурна-асветніцкая ўстанова. *Клуб у нас ёсць, а хто ў ім бывáіць?* Леснікова.

**КЛУБ, КЛУП** *м.* Клуб (у чалавека, жывёлы). *У клýбе балíць лéвая нагá, як кальнéць, прáма дзет вáліцца.* Ульянавічы. *У карóвы клуп, і ў чалавéка клуп.* Нямойта. *У клубáх сасýды зъстудзíў, хóчуць нóгі атнімáць.* Чуцькі. *Нагý ў клýбі пулумáў сын.* Запруддзе. *Уся́ нагá ў клуб балíць.* Багданава.

**КЛЎБАМ** *прысл.* Клубком. *Клўбам рой.* Запруддзе.

**КЛУБКО́М** *прысл.* Тое ж. *Клубко́м ляціць рой, што ша́пка.* Запруддзе.

**КЛУБНІ́К** *м.* 1. Клубніцы (расліна). *У нас у гаро́дзе клубні́к зацвіў, і маро́з – яму́ вось што здзе́лалася* [паказвае]. Вялікі Азярэцк. 2. Клубніцы (ягады). *У сы́на ёсць клубні́к, заката́ець.* Запруддзе, Каралевічы. 3. Месца, дзе растуць клубніцы. *Дзе клубні́к, лісці́нкі хрэ́ну.* Багданава.

**КЛУБНІ́КІ** *мн.* Пералівы на целе ўкормленага каня. *Клубні́кі пірaліва́юцца. О́чань жы́рны конь, у клубні́кі.* Замошша.

**КЛУБНІ́ЦЫ, КЛУБНІ́КА** *ж.* 1. Клубніцы (расліна). *Насадзі́лі клубні́ц, атмя́клі.* Баравікі. 2. Клубніцы (ягады). *Пайшла́ клубні́кі атшчапа́ць – вуж ляжы́ць.* Нямойта. *Цвіце́ла клубні́ка.* Ракаў Засценак.

**КЛУБО́К** *м.* 1. Зматаныя ніткі ў форме шара. *Хоць ні ско́ра – па ні́тацы клубо́к на́йдзіш.* Каралевічы. *Клубо́к што пабо́льшы, то лу́ччы.* Закур'е. 2. Пра тое, што нагадвае форму шара. *Рой къла я́блыны, клубо́к такі́ за дзе́ръва дзяржы́цца.* Неўгадава.

**КЛЎМАК, КЛУМА́К, ХЛУМА́К** *м.* Клунак, ношка. *Клу́мак узіла́, но́шачку таку́ю і пъшла́ вучы́цца ў Сянно́.* Заазер'е. *Яны́* [немцы] *клу́мкі апшыва́лі, кандалы́.* Карпавічы. *Клу́мак ускі́нуў.* Вялікі Азярэцк. *Сыбо́та прыхо́дзіць, дае́ш клума́к* [сыну]. Нямойта. *Клума́к зірна́ во́зьмуць, забаро́ўваюць і атсіва́лі* [голыя мясціны]. Дольдзева. *Мы то́лькі з ма́ткай хлума́кі збіра́ем, а тут не́мцы.* Багданава.

**КЛЎМБАЧКА** *ж.* Невялікая клумба. *Клу́мбачкі каб хто стаптаў.* Партызаны.

**КЛУМЁШНІК** *м.* Той, хто нясе клунак. *Клуме́шнікі іду́ць.* Вялікі Азярэцк.

**КЛЎМКА** *ж.* Клунак, ношка. *На́да ўзяць сваю́ клу́мку, клу́мачку.* Нямойта. *Е́та клу́мка, а се́на насі́лі ў ро́звіны.* Каралі. КЛЎМАЧКА *памянш. Карто́шкі вазьмёць яку́ю клу́мачку.* Івоні.

**КЛЎНЯ** *ж.* Пуня. *Да клу́ні снапы́ насі́лі.* Баравікі.

**КЛЫ́ГАЎКА** *ж.* Кнігаўка. *Клы́гаўка ўсё клы́гаіць на дошч.* Багданава.

**КЛЫ́ГАЦЬ** *незак.* Кігікаць (пра кнігаўку). *Клы́гаіць клы́гаўка ў бало́ці.* Багданава.

**КЛЫГЎКА** *ж.* Кнігаўка. *Клыгу́ка клыгы́кае на дош.* Багданава.

**КЛЫГЫ́КАЦЬ** *незак.* Кігікаць (пра кнігаўку). Багданава.

**КЛЫК** *м.* Ікол. *У къбана́ ё клыкі́ чо́рныя, е́сьці ня мо́жыць, выла́мываюцца.* Багданава. *Клыкі́ ў свінні́.* Парэчча. *У къбана́ клыкі́.* Алексінічы.

**КЛЫКУВА́ТЫЙ** *прым.* З выступаючымі бакавымі зубамі (пра чалавека). *Клыкува́тый чълаве́к, калі́ збо́ку расце́ць зуб.* Нямойта.

**КЛЫЧКІ́** *мн.* Хвароба злакавых раслін; спарыння. *Клычкі́ ў жы́ці зьбіра́лі на не́йкъя ліка́рства.* Савінічы.

**КЛЫЧО́К** *м.* Светлы ражок на курынай скуры. *Так у ей* [куры] *начына́юць мало́дзенькія пёрышкі пуска́цца, такі́я клычкі́, клычкі́ па це́лу.* Самсоны.

**КЛЫ́ЧЫЦЬ** *незак.* 1. Камячыць, шкуматаць, блытаць. *Ты ш ня клыч яе́, трасі́ хараш́о, а то клы́чыш кудзе́лю!* Багданава. 2. Ціскаць. *Ня клыч дзяцёнка. Во́зьміш на ру́кі ды ці́скаеш.* Заазер'е.

**КЛЮВА́ЦЬ** *незак.* 1. Кляваць, дзяўбаць (пра птушак). *Ку́раца клюе́ць зярно́.* Розмыслава. *Крук у во́ка ні клю́нець.* Нямойта. 2. Кляваць (пра рыбу). *Харашо́ клюе́ць ры́ба. Пло́ха клюва́ла.* Багданава.

**КЛЮКА́** *ж.* Качарга. *Як дам клюко́й* [качаргой]. Дуброўкі.

**КЛЮ́НУЦЬ** *зак.* 1. Клюнуць, дзеўбануць (пра птушак). *А як клю́ніць* [курыца зерне] *і по́йдзіць ваду́ піць, гаво́рыць* [дзяўчына]: *«Мой муш бу́дзіць п'я́ніца»* [гадалі на Каляды]. Дольдзева. 2. Клюнуць (пра рыбу). *Ці клю́нець ры́ба, ці не.* Багданава.

**КЛЮЧ** *м.* Металічная прылада для адсоўвання і засоўвання засаўкі ў дзвярах. *Ключы́ дзе́лалі, заста́вяць і атсува́юць* [засаўку]. Багданава.

**КЛЮЧ** *м.* Крыніца. *Ключы́ былі́, і вада́ ла́дная была́.* Буй. *Там крыні́ца была́, ключ рабо́туў.* Міцюкова.

**КЛЮЧУВЫ́** *прым.* Крынічны. *Ключува́я въда́ з крініцы ў во́зіра цячэ́ць.* Гарадок.

**КЛЮШНЯ́** *ж.* 1. Бядровая частка тушы (свіной); кумпяк. *Клюшня́ – е́та заву́ць, як заб'ю́ць парасё́нка. Хто лапа́тка, хто кумпя́к.* Нямойта. 2. Лапатка (у чалавека, жывёлы). *Клюшня́ ў чълаве́ка, а ў каро́вы, у свінні́ – за́днія клюшня́, пярэ́днія клюшня́.* Багданава. *У кьня́ нь дзівя́тым гаду́ то́лькі я́блычкі бу́дуць бальшэ́я нь за́дніх і пярэ́дніх клюшня́х, а бакі́ бу́дуць бе́лыя, белава́тыя.* Сянно.

**КЛЯВА́ЦЬ** *незак.* Кляваць, дзяўбаць (пра птушак). *Ку́раца клюе́ць зярно́.* Розмыслава.

**КЛЯВЕ́Ц** *м.* Малаток для кляпання кос. *Кляве́ц – ім кліпа́лі, на ба́пку касу́ лажы́лі і кліпа́лі.* Дольдзева. *Кляве́ц нібальшэ́нькі, спры́тненькі.* Багданава. *Гэ́та бува́ла зва́лі клявец, цяпе́р мълато́к.* Заазер'е.

**КЛЯВЯРЫ́ШЧА** *н.* Канюшынішча. *На клявяры́шчы хо́дзюць каро́вы.* Жохава.

**КЛЯ́МАР** *м.* Скаба, жалезны прут для ўмацавання сцяны, плыта і інш. *Кля́мары на́да зжыма́ць.* Жохава. *Кля́мър зъбіва́іцца ў брау́но́* [і за яго замацоўваюць першыя віткі пры вязанні плыта]. Алексінічы.

**КЛЯ́МАР** *м.* Піла для наразання дошак. *Кля́мар – е́та прадо́льная піла́ рэ́заць до́скі.* Нямойта.

**КЛЯ́МКА** *ж.* Клямка. *Кля́мкі ў ку́зьні дзе́лалі.* Багданава. *На кля́мке вісі́ць на дзвяра́х, уро́дзі галава́ была́ прабі́та.* Латыгаль. *Кля́мка, слісачо́к у дзьвё́рах, э́та ё́сьці.* Запруддзе. *Кля́мка была́ во па́лкай зато́ркнута.* Запруддзе. *За кля́мку і дзве́ры аткрыва́іць сам* [кот]. Кляпчэва. *Кля́мкай заля́паў.* Каралі. *Чэраз рэ́шата, чэраз кля́мку прагава́рваюць* (павер'е). Міцюкова. *Прас кля́мку ва́ды прылілі́, дъчка́ паліжа́ла – і пале́пшала* (павер'е). Запруддзе.

**КЛЯНІ́НА** *ж.* 1. Клён. *Кляні́на есь, а сусе́дка ні разраша́іць сок браць.* Партызаны. 2. Драўніна клёну. *Тапары́шча мо́жна з бярэ́зіны, кляні́ны дзе́лаць.* Жохава. 3. Кляновы сок. *Кляні́ну спушча́юць – гэ́та кляно́вік, сок с клё́ну.* Нямойта.

**КЛЯНО́ВІК** *м.* Кляновы сок. *Кляно́вік – е́та сок кляно́вы.* Нямойта. *Кляно́вік – сок с клё́ну ў ра́шку кла́лі* [лілі]. Жохава.

**КЛЯНО́ВЫ** *прым.* 1. Які мае адносіны да клёна. *Прапуска́лі с клё́на сок кляно́вы.* Багданава. *Хто кляно́вы ліст клаў, хто капу́сны, хто муко́й пасыпа́ў, як хлеб пяклі́.* Чуцькі. *У ма́рце ме́сяцы сок кляно́вы шоў, Ю́ра пачапі́ў дзве шкля́начкі.* Партызаны. *Хлеп пяклі́ нъ кляно́вым лі́сці.* Гарадок. 2. Зроблены з клёну. *Кляно́выі гну́лі пълазы́.* Гарадзец.

**КЛЯПА́ЦЬ, КЛІПА́ЦЬ, КЛЕПА́ЦЬ** *незак.* Кляпаць, вастрыць лязо касы. *На ба́пку пакладзё́ш і кле́піш касу́. Ба́пку уваб'ё́ш і касу́ пало́жыш і кле́піш.* Багданава. *Што кле́пюць – ба́пка, адна́ кру́глая, а друга́я во́йстрая.* Нямойта. *Кле́піць ён касу́, атбіва́іць малатко́м.* Запруддзе. *Касу́ кле́плюць на ба́пцы, кле́плюць малатко́м.* Розмыслава. *На тупу́ю ба́пку кліпа́ць, то па́льцам дзяржы́ш і кле́піш.* Леснікова, Міцюкова, Партызаны. *Кле́пюць касу́. Касу́ клепа́лі на ба́пке. Кліпа́ць*

*касу́ на́да. Е́та ба́пка зва́лася, касу́ кла́лі, а тады́ кліпа́лі.* Нямойта. *Касу́ кле́плюць.* Сукрэмна, Манголія.

**КЛЯСЦІ́, КЛЯ́СЦІ, КЛЯСЦЬ, КЛЯ́ЦІ** *незак.* Праклінаць. *Астала́ся ў дзяўко́х, усё кляне́ць, як хто да мяне́ прые́дзіць з дзяцей.* Алексінічы. *Клянецъ, мёртвъй клятбо́й кліла́. Бо́жа мой, як кляну́ць! Іна́ ле́там кліла́, я ні чу́ла.* Нямойта. *Хай клянецъ, сабе́ ў гру́дзі бярэ́ць. Мы ні ра́зу ні руга́ліся, ні клялі. Клянецъ, мя́ртвільнымі сло́вамі гаво́рыць.* Багданава. *Як у вас крэ́пка кляну́ць.* Сукрэмна. *Ма́ццы нільзя́ клясць свайго́ ро́днъга рабёнка, грэх спу́тъіць.* Запруддзе. *Не хачу́ кля́ці каго́-не́будзь.* Гарадзец.

□ *Кляні́, ды на сябе́ бяры́!* Вялікі Азярэцк.

**КЛЯТБА́, КЛІ́ТБА** *ж.* Кляцьба, праклён. *Мёртвъй клятбо́й кліла́.* Нямойта. *Гэ́та харо́шая клятба́.* Міцюкова. *Каб ты со́нца не ві́дзела – клі́тба така́я.* Запруддзе.

**КЛЯ́ТЫ** *толькі мн.* Праклёны. *Гэ́та дрэ́нныя кля́ты!* Вялікі Азярэцк.

**КЛЯ́ЎЗА** *ж.* 1. Паклёп. *Кля́ўза – нагаво́рыць абы-што́.* Багданава. 2. Ілжэц, нагаворшчык. *Кля́ўза ты, кля́ўзаіш.* Багданава.

**КЛЯ́ЎЗАЦЬ** *незак.* Паклёпнічаць. *Кля́ўзаіць і кля́ўзаіць, які́ разгаво́р на́йдзіць.* Заазер'е. *Кля́ўзаіць, пусто́я гаво́рыць, кля́ўза ты, кля́ўзаіш.* Багданава.

**КЛЯ́ЎШЫЦЬ** *незак.* Пагрозліва махаць кулаком. *Ну, во кулако́м кля́ўшыць, аткля́ўшыў.* Багданава.

**КЛЯ́ЧА** *ж.* Пра худога заезджанага каня. *Хо́дзіць та́я кля́ча.* Рассвет.

**КМІН, ЦМІН** *м.* 1. Кмен (расліна). *Кмін паху́чы ў гаро́дзі, не́як у капу́сту ўжо не кладу́ць.* Багданава. *Кмін то́лькі рва́ла, па́хніць.* Запруддзе. 2. *зб.* Насенне расліны. *Мя́са парэ́жыш яго́, прыпра́вы прыдасі́, там і со́лі, кмі́ну, і цыбу́лі, часнаку́. Капу́сту кры́шым, кмі́ну туды́, марко́ўкі.* Багданава. *У нас хто кмін, а хто цмін ска́жыць.* Нямойта. *Кмін у супы́ сы́пюць.* Запруддзе. *Хъзя́ін ко́ні па́сціў, дык прывёс кмі́ну.* Малы Азярэцк. *Ма́ма пало́жыць кмін, як кіпі́ць по́ліўка.* Партызаны. *А ўпе́рат кмі́ну ўсы́піш і до́бра.* Манголія. *Кмі́ну нато́ркала.* Міцюкова. *Кмі́ну дабаўля́лі ў хлеб.* Дуброўкі. КМІНО́К *памянш. У хлеп кмінку́ тро́шку сы́палі.* Неўгадава.

**КМІНІ́НА, КМІ́НІНА** *ж.* 1. Каліва кмену. *То́лькі рва́ла кміні́ну.* 2. Насенне расліны. *Кмі́ніну ва ўсё сы́пюць.* Запруддзе.

**КНІ́ГАЎКА** *ж.* Кнігаўка. *Кні́гаўка абы́чна. І ча́йка іх называ́юць.* Багданава. *Кні́гаўкі бы́вала, ско́лькі іх было́, лётаюць па по́лі.* Дольдзева. *Кні́гаўкі па по́лю ёсь, пяе́ць кігі-кігі.* Сянно. *Кні́гаўкі па бало́тах ле́таюць.* Закур'е. *Кні́гаўкі па бало́тах, па зямлі́ вяду́цца. Дзе курга́нок, кні́гаўка кла́ла я́йца.* Дуброўкі.

**КНО́ПКА** *ж.* Кнопка. *Пу́гавак не ́прышыва́лі, на кно́пках усё было́.* Каралі.

**КНО́РАЗ, КНЫ́РАЗ, КНО́РАС** *м.* Кныр. *Кно́рас – нялёхчаны къба́н, като́ры пакрыва́іць свінама́так. Ён жа кно́разъм, ён ніліхча́ны.* Нямойта. *Свіння́ кныразо́ў хо́ча.* Парэчча. *Кно́рас – къба́н нікастры́равъны, карміі́лі на са́ла.* Станюкі.

**КНОТ** *м.* Кнот. *Кнот – фіці́ль е́та цяпе́р. На́да купі́ць кнот.* Нямойта. КНАТО́К, КНА́ЦІК *памянш. Кнато́к у капце́лцы мале́нькі стаў.* Багданава. *Кна́цік із ільна́, у бу́льбіну ўвядзе́ць і гары́ць.* Фасаўшчына.

**КНУР** *м.* Кныр. *Як ні кастры́ръвъны, то кнур.* Каралевічы. *Кнур непаклада́ны, а так къба́н.* Міцюкова. *Нявы́лехчаны – кнур.* Рассвет.

**КНУРЫ́ЦЬ** *незак.* Спароўвацца. *Свіння́ кнуры́ць.* Латыгаль.

**КНУТ** *м.* Пуга. *Кнут – ета пу́шка, дзірвя́ннае пугаве́йца і пугаўё.* Нямойта.

**КНЯГІ́НЯ** *ж.* Паненка. *Княгіня – ета пра пане́нку, во княгіня, – ка́жуць. Во задае́ссі, княгіня!* Нямойта.

**КНЯ́ЖАСТВА** *н.* У складзе княства. *Пат кня́жаствам на́ша Белару́сь была́.* Фасаўшчына.

**КО́ГЦІ, КО́ХЦІ** *мн.* Кіпцюры. *Ко́гці такі́е во́стрые, што іго́лкі.* Ульянавічы. *Ко́гцямі апусці́ўся кот. Я́стръп къхця́мі хвъта́іць.* Багданава. *Ко́гці, яны́ ва ўсі́х ё.* Леснікова.

**КО́ДЛА** *н.* Сям'я, род. *А, гэ́та гаво́раць, Ю́ркава ко́дла.* Леснікова. *Усё ко́дла яго́ тут, там фамі́лія Гарбачы́.* Фасаўшчына.

**КО́ЖА** *ж.* 1. Скура. *Ко́жа – ета як ся́тая.* Фасаўшчына. *Така́я худа́я была́, то́лькі зу́бы ды ко́жа.* Алексінічы. *Такі́ во ко́жы кусо́к вісі́ць і мя́са* [у каровы]. Багданава. *Ко́жы въля́ліся, каро́ў рэ́зълі.* Каралевічы. 2. Верхняе покрыва грыба. *У свінне́й чо́рнъя ко́жа, а ў хрушчо́ў бе́лъя ко́жа* [пра грыбы грузды]. Рассвет.

**КО́ЖАНЫ** *прым.* Скураны. *Ла́пці ў вайну́ былі́ ко́жъныя* [са скуры валоў ці кароў]. Запруддзе. *Хамуці́на ко́жънъя.* Гарадзец.

**КО́ЗЛІК** *м.* Падстаўныя ножкі ў выглядзе козлаў пад лаву, памост. *Ко́злік до́лжън ста́віцца пат галаву́ ліжака́.* Фасаўшчына.

**КО́ЗНАЯ** *прым.* Котная (пра казу). *Ко́зная каза́.* Багданава.

**КО́ЗНЫ** *прым.* Які добра косіць (пра касу). *Кап купі́ў касу́, ды ко́зную.* Леснікова.

**КО́ЙКА** *ж.* Ложак. *А раска́зывалі дъмаві́к быў. Ко́йку падама́іць. Ні́які́х ні было́ ко́ік даўне́й.* Багданава. *Дзірвя́нныя ко́йкі былі́, у ко́йкі дълявы́я до́скі, ко́йка звя́зывалъся, даўне́й кръва́ць называ́лася.* Гарадзец. *Такі́ маро́з, а я на ко́йцы.* Закур'е.

**КОЙ-ХТО** *займ.* Хтосьці, хто-небудзь. *Ён ко́я-каго́ ўбіва́ў: лі́са, за́йца заб'е́ць і тады́ пъ дзярэ́ўні но́сіць, пака́звае.* Сянно.

**КО́КА** *н. дзіц.* Яйка. *Не дасі́ мне ко́ка, вы́рвуць табе́ во́ка, – так пе́лі валачо́бнікі.* Міцюкова.

**КО́КЛІШ, КО́КЛІЧ** *м.* Коклюш. *Ко́кліч быў, ра́ньшэ дзе́ці бале́лі. Ко́кліш – дзе́ці бале́лі. Са́хар па́лены дава́лі, кераси́н ка́палі на са́хар, паку́ль свае́ не вы́кашляець.* Гарадзец.

**КОЛ** *м.* 1. Кол. *Кало́м табе́ зямля́!* (праклён). *Чаго́ ты стаі́ш? Кап цябе́ ко́лам паста́віла!* (праклён). Вялікі Азярэцк. КО́ЛІК *памянш.* 1. Невялікі калок. *На́да браць які́ ко́лік і збіва́ць я́блыкі.* Савінічы. *Ён да́жа ні зна́іць, як ко́ліка зацеса́ць.* Багданава. *Ко́лікі ў згаро́дзе.* Дольдзева. *Стъя́ў ко́лік бяро́завы.* Ракаў Засценак. 2. Невялікія калкі, убітыя ў сцяну, для снавання красён. *Ко́лікаў наб'е́ш і бе́гаіш, і бе́гаіш* [пры снаванні красён]. Каралі. КО́ЛІЧАК *памянш.* *На сцяну́ б'ю́ць ко́лічкі.* Дольдзева. 2. Кій. *Іна́ с ко́лікам паку́ль дапаўзе́.* Міцюкова. ◊ НІ КАЛА́ НІ ДВАРА́. Нічога не мець. *Асталі́ся пъд аткры́тым не́бам – ні кълá ні двъра́.* Леснікова. *Ні кала́ ні двара́ і адзі́н шыне́ль у мяне́ быў.* Леснікова.

**КО́ЛАКІ** *мн.* Рэзкі, востры боль у жываце або ў баку. *Ко́лъкі ў баку́, ко́лъкі ко́люць.* Дольдзева.

**КО́ЛАС** *м.* Колас. *Чо́рныя каласы́ ў пшані́цы ад мо́лніі.* Розмыслава. *Вазьмём тры къвы́ліны, тры жы́ціны, тры къласы́.* Багданава. *Жы́та ў рад пасце́люць, ко́лъс у ко́лъс і білі цъпа́мі.* Цясішча. *Быў ко́лъс у жы́ці, што ня мо́жна було́ суўлъда́ць* (з падання). Ракаў Засценак. КАЛАСО́К *памянш.* *Рвуць къла́скі тры разы́ па тры і вады́ прылівá́юць, як валасе́нь на па́льцы* (з замовы). Багданава.

**КО́ЛІСЬ** *прысл.* Некалі, даўней. *Ко́лісь палілі калясо́. Сапру́ць, на жардзінку падьімуць, сабяру́цца той ве́чыр атме́цюць.* Гарадзец.

**КО́ЛКІ** *прым.* 1. Калючы, які колецца (барадой, вусамі). *Уй, дзя́дзька ко́лкі бу́ську даў* [вусы колюцца]. Партызаны. 2. Колкі, усыпаны чым-н. вострым. *Даро́га ш ні така́я ко́лкая була́.* Багданава.

**КО́ЛЛЕ, КО́ЛЛЯ, КО́ЛЬЕ** *н. зб.* 1. Калы. *У нас плялі пляце́нь, ко́лля ўбіва́лі і заклада́лі.* Нямойта. *Ко́льем па гулува́х біліся.* Фасаўшчына. 2. Убітыя ў сцяну колікі для снавання красён. *На сцяне́ ко́лле ўваб'е́ш і снуе́ш.* Заазер'е.

**КОМ** *м.* Ком, камяк. *Раскълацї це́ста так, кап камо́ў ні было́.* Заазер'е. *Гной трэ́ба рука́мі растрэ́сці, каб ні былі камы́.* Багданава. *Ма́сла кама́мі, каб і нам дава́лі* [пажаданне, калі б'юць масла]. Каралевічы. *Ком глісто́ў малю́сенькіх вышла. Ком агню́ вы́скачыў у разе́тку – аглушыла.* Нямойта. *Такія камы́ ва́люць* [пра град]. *Ку́жъль дале́жыцца шо́ўку. Што больш ляжы́ць, то аж блішчы́ць. А во́ўна дале́жыць г.... Што больш ляжы́ць, то саб'е́цца ў камы́.* Закур'е.

**КО́МІН, КАМІ́Н** *м.* 1. Комін. *На ко́мін паста́віш, іна́ там пракіса́іць і пракіса́іць дні тры-чатыры* [саладуха]. *Чараз ко́мін глядзе́ла, што за маладу́ха е́дзець. А ў нас каля ко́міна, як рой, звіліся* [тараканы]. Багданава. *На ко́міне, кладзі на ко́мін сушы́ць. Цяпе́р у ба́ні печ с къмяно́м.* Нямойта. *На пе́чы на ко́міне свет.* Міцюкова. *Как так? Два ко́міна ў ха́ці і пабе́ліныя. Кула́к!* Дольдзева. *Къмяно́ў ні было́, ха́ты былі ку́рныя.* Фасаўшчына, Леснікова. *У тэй ха́це ко́мін развалі́ўся.* Закур'е. 2. Адтуліна ў коміне, праз якую выходзіць дым; дымаход. *Ко́мін на крышы, на страсе́.* Нямойта. *Ко́мін у пе́чы, што дым ідзе́ць.* Партызаны. *Ко́мін нізакры́ты, печ тапіла свякро́ўка. А тады́ пашчыкату́рылі* [печ], *і ні ста́ла ніку́ды ды́му ісці, акрамя ў ко́мін.* Багданава. *На Купа́лу заткну́ць ко́мін.* Партызаны. *Гняздо́ звілі ў ко́міне.* Закур'е. *На трубу́ ў нас камін ка́жуць.* Серкуці.

**КО́НІК** *м.* Жарабец, малады конь. *Жърапка́ зліхча́юць – і ко́нік.* Багданава.

**КО́ННА** *прысл.* Вярхом, на кані. *Е́здзілі ко́нна, то зъ Нямо́йтую, кьла Цімірa̋зева па по́лю я відзіў мно́га курга́нуў.* Алексінічы. *Калёсы до́скамі забі́ў, е́хаць цяжка, ко́нна.* Жохава. *Е́халі далёка ко́нна.* Неўгадава.

**КО́НСКІ, КО́НЬСКІ** *прым.* Конскі. *Ко́нскі капы́т, ко́нскі во́лъс.* Серкуці. *Там касце́й по́ўненька, і ко́нскія чэрэ́п'я, і аве́ча.* Багданава. *Ко́ньскія вадні зва́лісі, іх бо́лі було́.* Нямойта. *Там ко́ньська кла́дбішча.* Чуцькі. ○ КО́НЬСКІ ШЧА́ВЕЛЬ. Конскае шчаўе. *Ко́ньскі шча́вель ніядо́мы, яго́ ні яду́ць.* Дольдзева. ○ КО́НЬСКІ (КО́НЬСЬКІ) ШЧАЎЛЮ́К. Тое ж. *Кра́сны ко́ньскі шчаўлю́к лу́ччы ат пано́су, ат каро́сты ён.* Чуцькі. *Ко́ньські шчаўлю́к ат пано́су.* Багданава. *Карэ́нне ко́ньскага шчаўлюка́ ат каро́сты.* Баравікі. *Яго́ ніхто́ ня есць, той шчаўлю́к ко́ньскі. Шчаўлю́к ко́ньскі кіпяця́ць, гълаву́ мы́юць, свярбе́ць не бу́дзець.* Запруддзе.

**КО́НТРА** *ж.* Нацягнутыя адносіны, незадаволенасць; контра. *У ко́нтры са мной дъчка́, паве́ў чорт, па во́сені гро́шы свіснала. З ге́стымі ў ко́нтрах была́.* Нямойта.

**КО́НУС** *м.* Зрэз, скос. *Зубо́к* [у граблях] *зъръза́іш ззя́дзі – ко́нус, к сабе́ штоп граблі.* Леснікова.

**КО́НЧЫЦЦА, КАНЧЫ́ЦЦА** *зак.* 1. Скончыцца, закончыцца. *Бу́льба канчылъся, дъва́й крапіву свіння́м.* Чуцькі. *Ну, два ме́сяцы пабу́дзіш з касця́мі, ко́сці канчылісі, ну тады́ адно́ са́ла.* Багданава. *Вайна́ канчылася, і мой сын вярну́ўшысі.* Неўгадава. 2. *экспр.* Памерці. *Пака́ за ўко́лам пабе́гла, ён ко́нчыўся, то́ка а́йкнуў: ай-ай.* Буй. *Я ду́мала ко́нчусь.* Запруддзе, Нямойта.

**КОНЧЫ́ЦЬ, КАНЧЫ́ЦЬ** *зак.* Скончыць, закончыць. *Як ко́нчуць жы́та жаць, сплату́ць вяно́чак.* Запруддзе. *Калі ўзя́ўся, то кап канчы́ў.* Вялікі Азярэцк. *Я два кла́сы канчы́ла.* Неўгадава. *Сын канчы́ў ку́рсы нъ міха́ніка.* Пожанькі.

**КОНЬ** *м.* Конь. *Тры гады́ ўжэ конь, яго́ запрага́юць, у баро́ны бяру́ць. У нас конь быў Во́рлік кра́сінькій, Пърсла́ўка, Пуп, Ду́ндър. Я ўсігда́ с кънямі рабо́таў.* Запруддзе. *Каня́мі пазвязу́ць усё у такі.* Вялікі Азярэцк. *У ка́жнъга конь быў. На кънях прыво́зілі гаршкі. Як то́лькі нъ бало́та мо́жна в'ежджа́ць ко́німі.* Багданава. *Конь сні́цца – абма́н* (павер'е). Ракаў Засценак. *На кла́дбішча з'е́дуць, як пако́йніка вязу́ць, конь заржэ́ць – уся́ сім'я́ вы́мрэць* (прыкмета). *Конь бяжы́ць на не́йку бяду́* (прыкмета). *Вязу́ць пако́йніка, з двара́, конь заржэ́ць, біда́ бу́дзіць* (прыкмета). Каралевічы. *Я мно́га ко́ні глядзе́ў. Я быў мълады́. Я ко́ні ні бъя́ўся.* Гарадзец. *Дзяце́й на каня́х вязе́м. Сваімі ко́нямі е́халі.* Неўгадава. *Дзет гавары́ў: «Бу́дуць пту́шкі літа́ць, у гало́вы дзіўба́ць, на жале́зных ко́ніх ара́ць».* Багданава. ◊ БЫЦЬ НА КАНІ І ПАТ КАНЁМ. Жыць добра і блага, быць у розных сітуацыях. *Мы былі і на кані, і пат канём.* Нямойта, Дуброўкі.

□ *Стары́ конь баразны́ ня по́рціць.* Дольдзева, Гарадзец. □ *Хто ко́ні міня́іць, у таго́ хаму́т гуля́іць.* Ульянавічы. □ *На ле́чаным кані далёка ні прае́дзіш.* Ульянавічы.

**КО́ПАНІ** *мн.* Сані, палазы якіх не гнутыя, а зроблены з дрэва, выкапанага з коранем. *З я́сені гну́тыя ко́пані, з я́блыні, клёну.* Леснікова.

**КО́ПАНКА** *ж.* Сажалка. *У ко́пънцы лён мачы́лі.* Гарадок.

**КО́ПАНКА** *ж.* Выкапанае ў лесе сагнутае, зручнае для пабудовы калёс дрэва. *С ко́панкі яго́ дзе́лаў, каляс́о.* Станюкі.

**КО́ПАНЫ, КАПА́НЫ** *дзеепрым.* Выкапаны. *У ко́пънъй са́жълцы мачы́лі лён.* Гарадок. *Тут къпа́ныя рэ́чка.* Рэчкі.

**КО́ПАНЬ** *ж.* Сажалка. *Ко́пьні такія къпа́лі, дзе мачы́лі лён.* Савінічы. *Йдзе вәда́ стаіць, там ко́пънь.* Самсоны.

**КО́ПАЦЬ** *ж.* Копаць. *Ко́паці було́, лучы́ну палілі.* Багданава.

**КОР** *ж.* Адзёр. *У вайну́ ўсю сям'ю кор пакаціла. Кор до́лжна ў ка́ждага пера-бы́ць.* Нямойта. *Зълату́ха і кор жа́ркъга ня лю́бюць, ня лю́бюць па́ры.* Заазер'е.

**КОР** *м.* Тое ж. *У яе́ кор быў, тро́шкі вы́сыпаў, і памёрла – аслажне́нне на сэ́рца.* Багданава. *Кор хадзіў у дзяце́й.* Неўгадава.

**КО́РАБ, КО́РАП** *м.* Кораб. *У ба́бы ёсь ко́рап съламя́ны. І бальшы́я карабы́ былі, што бо́чка, плялі с сало́мы.* Фасаўшчына.

**КО́РАНЬ, КАРО́НЬ** *м.* 1. Корань. *Аір рва́лі, за карані пъ рублю пло́цюць.* Закур'е. *Як смъргану́ў ат кърня́ да маку́шкі.* Ракаў Засценак. *У гры́ба каро́нь ёсь і шля́пка.* Вялікі Азярэцк. 2. Частка зуба. *Зу́бы са́мі сабо́й вы́пълі, а ко́рънь сам сабо́й вы́йдзіць, бо́лі ня чу́ю. З канаплінага зірна́ таго́ карня́ асталя́ся – шчака́ напо́хніць.* Нямойта. *Ма́тка са́ла е́ла карэ́ннем.* Міцюкова. *На смех, німа́ да́жа і караня́, упяро́т усе́ павыкры́шваліся зу́бы.* Закур'е. 3. Пачатак роду, бацькаўшчына. *Бальшынство́ ме́ншаму застае́цца сяліба, ко́рань е́ты.* Вялікі Азярэцк. КАРАНЁК памянш. *Каранёк тро́шку дзяржы́цца, ацёкі ў мяне́ ад яго́.* Нямойта. *У свінне́й кърanёк ла́дный.* Сукрэмна.

**КОРМ, КО́РАМ** *м.* Корм. *І авёс, і віка та нъ зялёны корм се́ілі.* Багданава. *Сабра́ла карма́, падка́рмліваць на́да.* Цясішча. *Жы́та касілі на ко́ръм.* Леснікова. *Дъя́ркъм на́да было́ і ко́рым прывёзьць каро́въм.* Дуброўкі.

**КО́РМНЫ** *прым.* Кормны, якога кормяць на забой. *Ко́рмнаму късбану́ ўсы́пюць по́спы. Ко́рмныя свіньні і надво́рныя, ко́рмныя сідзя́ць у зъса́дкі.* Каралевічы.

**КОРХ** *м.* Мера, роўная шырыні далоні ці кулака. *Корх – чаты́ры па́льцы.* Фасаўшчына. *Корх ілі пя́дзя называ́лася.* Дольдзева.

**КОРЧ** *м.* Пень, вывернуты з зямлі з карэннем. *Апе́нкі нъ кърча́х расту́ць.* Фасаўшчына. *Ён кърча́мі то́піць. Пъд карча́мі ў яго́ мярло́га. Там і апе́нкі былі́ ў кърча́х.* Багданава. *Корч у бало́це.* Сукрэмна. ◊ СЯДЗЕ́ЦЬ КАРЧЭ́М. Застацца адзінокім. *А я шчэ сяджу́ карчэ́м* [бо іншыя памерлі]. Чуцькі.

**КО́СКА** *ж.* Каса (для касьбы). *Ко́скай сваёй касі́ў.* Латыгаль.

**КО́СТА** *ж.* Косць. *Насу́шыць, сыр, як ко́ста, угры́зці нямо́жна.* Міцюкова.

**КО́СТАЧКІ** *мн.* Суставы пальцаў рукі, нагі. *Пабі́ла ко́стачкі на рука́х.* Запруддзе. *Ко́стачкі на па́льцах.* Багданава. *Ко́стачкі баля́ць.* Гарадзец.

**КО́СТКА** *ж.* Косць. *Ну, калі́ яка́я ко́стка ё, ко́стку ўкі́неш, а німа́, так запра́віш, які́м ту́кам ці што.* Багданава. *Ма́мачка мая́ мі́лая, у мяне́, ве́рна, ко́сткі вы́валіліся і пла́чу.* Запруддзе. КО́СТАЧКА *памянш. Ні нашлі́ ні ко́стачкі, ні кро́шачкі.* Партызаны. *Атшчапі́ў ко́стъчку* [ад клуба ў час аварыі]. Запруддзе.

**КОСЦЬ, КОСЬ** *ж.* 1. Косць. *Баля́ць усе́ ко́сці, я ж ба́ба шчэ ні стара́я.* Партызаны. *Бале́лі ко́сці – нъга́мі не́як стаць.* Партызаны. *Съба́кам ко́сці выкіда́лі. Па грыба́х пайшлі́, а там ло́гава во́ўчыя касце́й по́ўненька.* Багданава. *У мяне́ ня кось балі́ць.* Гарадзец. *Пра́ма кось балі́ць.* Партызаны. *Кось буйна́я, ні ду́жа сы́тая.* Нямойта. 2. *толькі мн.* Астанкі, прах. *Паўмі́ралі да вайны́, касце́й іх няма́.* Закур'е.

□ *На жыво́й касце́ мяса нарасце́.* Ульянавічы.

**КО́СЫ** *мн.* 1. Валасы. *Істу́шкі ў ко́сы, цяпе́р павы́лезлі.* Каралі. *Ужо ко́сы так ко́сы былі́, бальшэ́я, густэ́я.* Багданава. *Ко́сы бальшэ́і былі́.* Партызаны. 2. Доўгія заплеценыя валасы. *У ко́сы істу́шку ўпляце́ш.* Гарадзец. 3. Ніткападобныя атожылкі ў некаторых раслін. *Гуркі́ ўжо ко́сы папуска́лі.* Кішуроўшчына.

**КОСЬ-КОСЬ-КОСЬ** *выкл.* Выгукі, якімі падзываюць коней. *Кось-кось-кось, так заву́ць да сябе́ къня́.* Вялікі Азярэцк.

**КОТ** *м.* Кот. *Каты́ смъллянак ні яду́ць, пъду́шаць і пъло́жаць.* Багданава. *Кот да дзі́ўча́т* [да кошак] *хо́дзіць.* Ульянавічы. *Пі́рат Іва́нам като́м на́да ву́ліцу піра-дра́ць, за перат узя́цца, там пасы́паць сало́май, ме́лешам, кастро́й, дзе кот падра́ў. Бу́дуць ісці́ каро́вы, а каро́ва чараўні́ка́ далёй не по́йдзіць, ста́ніць, бу́дзіць раўці́* (прыкмета). Партызаны. *Кот мо́жыць пагі́бнуць ат мухамо́ра.* Латыгаль. *Каты́ ні шкадлі́выя, нічаво́ ні бяру́ць.* Каралі. *Прыві́к ла́зіць як кот у са́ла.* Серкуці. *Як кот мы́ецца – го́сці бу́дуць* (прыкмета). Леснікова, Міцюкова. КО́ЦІК *памянш. Пашо́ў ко́цік на таржо́к, / Прынёс (А́ні) піражо́к* (з дзіцячай калыханкі). Багданава. ◊ ЯК КОТ НАПЛА́КАЎ. Вельмі мала, у невялікай колькасці. *Во з'еў як кот напла́каў.* Багданава. ◊ ла́зіць ЯК КОТ У СА́ЛА. Пра чалавека, які пасягае на чужое. *Прыві́к ла́зіць як кот у са́ла.* Серкуці. ◊ ціга́ць ЯК КАТА́ ЗА ХВОСТ. Пра валакіту, наўмыснае марнаванне часу. *Ціга́юць як ката́ за хвост.* Серкуці.

□ *І кот ня лю́біць ла́зіць у адну́ і ту́ю ж дзі́рку ў загаро́дзі.* Партызаны.

**КО́ТАМ** *прысл.* 1. Коцячыся. *Пакаці́лася ко́тъм ат снара́даў.* Дуброўкі. 2. Коцячы. *Мо́жна ко́там закаці́ць гроб, кла́дбішча бlíзка.* Савінічы.

**КО́ТКАЦЬ** *незак.* Качаць. *Нъ кача́лку ко́ткаю ручнікі́, сы́ранькіе намъта́ю і кача́ю, як уцю́жу.* Багданава.

**КО́ТКІ** *прым.* Які лёгка качаецца. Багданава.

**КО́ТЛАВІНА** *ж.* Паглыбленне, упадзіна. *Дзе якáя кóтлавіна – памéраюць, вы́касяць.* Ульянавічы.

**КО́ТНАЯ** *прым.* Цяжарная (пра некаторых жывёл). *Кóтнья авéчка. Тáя лісá кóтная булá.* Багданава.

**КО́ТНЫ** *прым.* Які лёгка коціцца. *Гарóх кóтный, як удáрыш па лýбцы* [то далёка апынецца]. Багданава.

**КО́ЎДРА** *ж.* Коўдра. *Кóўдру захóчъш, то рóбіш дзве пасцілкі, а паміж патрэ́п'я кладзéш і ніткамі сасцябнéш. Кóўдру ня мы́лі.* Неўгадава.

**КО́ЎЗАЦЦА, КУЎЗА́ЦЦА** *незак.* 1. Коўзацца, ёрзаць. *Кóўзаецца на стýле.* Нямойта. 2. Катацца (па лёдзе). *Кóўзаюцца і кóўзаюцца з гóркі дзéці.* Фасаўшчына. *Вы́гарка ідзé, лýжа замíршая, мы ў шкóлу як ідзём, разгóнімся і кóўзаліся.* Дольдзева. *Марóс жа, куўзáцца хóчыцца, на рэ́чцы* [коўзаемся] *куракі гэ́тыя пъатвáліваюцца.* Заазер'е.

**КО́ЎКА** *ж.* Доўгі шост з патаўшчэннем на канцы. *Кóўка – пáлка тъкáя, як мълатóк.* Заазер'е.

**КОЎШ** *м.* Вялікая драўляная лыжка, апалонік. *Коўш вы́дзеўбаны, мукý брáлі.* Каралевічы. *Былі дзірвя́нныя каўшы́.* Дольдзева. КО́ЎШЫК *памянш. Коўш вы́дзіўбъны такі, кóўшык, чарэ́пыць хърашó.* Каралевічы.

**КО́ФТА, КО́ХТА** *ж.* Кофта. *Былі кóфты з рýшыкам у забóр, з абóрычкъмі.* Нямойта. *Кóфту ў гарóшыкі насілі, палукéцікі, жалéткі, сяткі візáлі.* Запруддзе. *Кóхты шылі, кýрту, юпку пашы́іш.* Турава. *А мáме нáда былó адзéць éту кóхту.* Нямойта. КО́ФТАЧКА *памянш. Пашы́ць нáда кóфтачку сукóнную.* Багданава.

**КО́ХАЦЬ** *незак.* 1. Кашляць. *Кóхаіць, а пець ды пéла. Вы́йдзі, Вóлечка, паслýхай, дзéлаць ні мóжэць, кóхаіць.* Чуцькі. 2. Падзываць куранят (пра пеўня). *Пятýх кóхъіць, завéць цыплíнят.* Каралевічы.

**КО́ХЛІК** *м.* Коклюш. Гарадзец.

**КО́ЦІКІ** *мн.* Раллёвая канюшына. *Цвіця́ць кóцікі. Кóцікі касмáценькія ў гуркі кідáюць, каб гуркі завязвались.* Багданава.

**КО́ЧКА** *ж.* Купіна. *Кóчкі нъ балóнні, касíць нямóжна, адны́ кóчкі.* Фасаўшчына.

**КО́ЧЧА** *н. зб.* Куп'ё. *Дзе цімахвéіўка расцéць, там пóля, як ток, як арэ́ш, то кóччы такéя* [з воз натрусіш карчоў гэтай травы]. Жохава.

**КОШ** *м.* Скрыня ў млыне, куды засыпаюць збожжа. *У кош сы́пълі зярнó.* Заазер'е.

**КО́ШКА** *ж.* Кошка. *Стáрая кóшка, трóху лóвіць крыс.* Буй. *Кóшка ды й усё, нічы́м ні завём.* Гарадзец. КО́ШАЧКА *памянш.-ласк. Бýдзе кóшачка плáкаць пад чужы́м вуглóм, éсці хóчэць.* Нямойта.

□ *Сáла <мáла> кóшка ўкрáла.* Запруддзе, Партызаны.

**КРАВА́ЎКІ** *мн.* Крывянкі. *Кравáўкі з круп, кроў льéцца ў кішкі.* Гарадзец.

**КРАВА́ЦЬ** *ж.* Ложак. *Кръвáць дзіръвя́ная.* Рэчкі.

**КРАВЕ́Ц** *м.* Кравец. *Краўцы́ шылі варатнік.* Буй. *Тут і краўцы́, і шаўцы́ былі, усё дзéлалі.* Багданава.

**КРА́ВЫ** *прым.* Крэпкі, здаровы, з чырвоным тварам. *Крáвы такі мужчы́на, нівялікі.* Каралевічы.

**КРАВЯ́НІКІ, КРАВЯ́ВІКІ** *мн.* Крывянкі. *Кравя́нікі – кроў, круп насы́піш.* Гарадзец. *Кравя́вікі дзéлалі з круп і крóўю.* Марозаўка.

**КРАДЗЁЖ** *ж.* Раскраданне. *Сільнъя крадзёж стála, піrastрóйка нáда.* Гарадзец.

**КРАÍНА** *ж.* Краіна. *У нас мнóга чагó нет, а ў якíх краíнах ёсь.* Каралевічы.

**КРАЙ** *м.* 1. Краіна. *Мóжа ў краí якíм інáчъй.* Кляпчэва. 2. Мясцовасць. *Дзе які край – усé па-сваéму.* Баравікі. *У кáжным крáі па-рóзнаму. Што край, то абычáй.* Нямойта. 3. Ускраіна. *Вы́йшла на край лéсу.* Гарадок. *Я тóжа на край жылá.* Багданава. *Тэй мáліц жывéць нъ краю́ ў Мангóліі* [вёска]. Манголія. КРАЁК *памянш.* *Во с крáйку дом стаíць. Во с крáйку мой сынóчак.* Леснікова. 4. *прысл.* Надзвычай, вельмі. *Другóму крáем якія кáплі нáда, а лікáрства німá.* Гарадзец.

□ *Які (дзе які) край, такí <і> абычáй.* □ *Што край, то абычáй.* Алексінічы.

**КРÁЙНІ** *прым.* Які знаходзіцца з краю. *Крáйняя ягó хáта з гэ́тага канцá.* Івоні.

**КРАКАВЯ́К**, **КРУКУВЯ́К** *м.* Кракавяк (танец). *Тáнцы ўсякія былí: і пóлічкі, кадры́лі, мазу́ркі былí, крукувя́к, усаду́лі* [назва танца па радку з рускай песні «Во саду ли...»], *лінцáй, карóбачка.* Багданава. *Кракавя́к і падыспáн танцавáлі.* Міцюкова, Вялікі Азярэцк.

**КРÁКАЦЬ** *незак.* Кракаць (пра качак). *Ву́ткі крáкаюць.* Вялікі Азярэцк.

**КРÁКВА** *ж.* Лягушка. *Крáква – па-мóему лягу́шкі. Яны́ крáкаюць.* Дольдзева.

**КРÁКНУЦЬ** *зак.* Квакнуць. *А цяпéр німá лягу́шкі, ні крáкне.* Партызаны.

**КРАКТÁЦЬ** *незак.* Крактаць (пра дзіця). *Крэ́кчыць, шавéліцца дзяцёнак – у ягó крыктуны́. Пакупáеш у залé, і дзяцёнак як дзяцёнак.* Партызаны. *Ня мóжыць нóжку падня́ць, крэ́кчыць, крэ́кчыць, не пузáты* [сын]. *Дóбра выглядáець.* Жохава. *Крэ́кчыць дзіцёнак.* Багданава.

**КРАКТУНЫ́**, **КРЫКТУНЫ́**, **КРЭКТУНЫ́** *толькі мн.* Дзіцячая немач, у час якой дзіця круціцца, крэкча; крыкуны [прычынай дзіцячага неспакою, паводле павер'я, з'яўляюцца хваробатворныя валаскі на спіне]. *Бу́дуць у рабёнка кръктуны́, спаць ня бу́дзіць, крэ́кчэ і крэ́кчэ.* Багданава. *Як у пълажэ́нні жэ́ншчына хóдзіць і ўдáрыць нагóй пърасёнка, кътá ці праміж ног прабяжы́ць кот, събáка – у дзяцёнка бывáюць крыктуны́. Крыктуны́ – крэ́кчыць, шавéліцца дзяцёнак, купáюць: вóзьмець мáма залы́, на чаты́ры бяражкі залу́ сы́пала, а патóм у пóлачку ўвёртуець і пад галóўку, купáець і прагавáрваець: «Начніцы-цямніцы, дáйце спакóю майму́ сыніцы»* (з замовы). *Тры разы́ лíну́ць вады́ і прагаварыць. Éслі аджáць залу́, разварáчваць, скóлькі ёсць валасóў – усякая шэрсць, усякая шарсціна – сабáчча, авéчча.* Партызаны. *Свой хлеп пяклі, свéжым хлéбам цёрлі плéчы ў дзяцёнка, крэ́кчыць, крэ́кчыць, въласы́, крэктуны́ сціpáлі, разламáеш хлеп – і въласы́ знóйдзеш.* Багданава. *Як крэктуны́, кълядны пóпел пакладу́ на бéраг кары́та, размы́лію дачку́ – спінку, усё скрось пóпілам, абмы́ю, працэ́джваю ваду́, выціскáю залу́, а там свіня́чая, каця́чая шарсціна. А-яй, нагóй біла свінню́, кътá. Дачкá спіць, не крэ́кчыць.* Нямойта. *Крыктуны́.* Партызаны.

**КРАЛÍХА** *ж.* Самка труса. Латыгаль.

**КРÁМА** *ж.* Магазін. *Крáма ілі лáўка късáлі.* Фасаўшчына. *А куды́ мы пóйдзім? – У крáму. А рáньшы быў мъгазін на даму́.* Запруддзе. *Крáма былá. Нáда ў крáму схадзíць.* Алексінічы. *У крáму хадзíлі ўсе.* Сукрэмна. *У крáму скáжыць пайшóў.* Манголія.

**КРÁМАШНІК** *м.* Прадавец. *Крáма былá ў Дóльдзіві, крáмашнік там быў, звáлі так ягó.* Партызаны.

**КРÁМНІЦА** *ж.* Прадаўшчыца. *Інá крáмніца тъкáя.* Падворыца.

**КРА́МНЫ** *прым.* 1. Куплены ў магазіне, фабрычны. *Панчо́хі сваé рабо́ты, а цяпéр чулкі кра́мныя.* Партызаны. *Éта кра́мнъя мацéрыя, éта съматка́нъя. У вас насо́чкі кра́мныя.* Запруддзе. *Кра́мнае насілі, сіцца, як ку́піш.* Фасаўшчына. *Была́ кра́мная про́стынь, ма́тка хава́ла, як во́ка берагла́.* Вялікі Азярэцк. *Цяпéр па́скі кра́мныя.* Мянюцева. 2. *н.* Купленае ў магазіне, фабрычнае. *К Па́скі кра́мнае надзяéш.* Нямойта. *Кра́мнае мы́лі мы́лъм.* Неўгадава. *Кра́мнае ўсё.* Закур'е. КРА́МНЕНЬКІ *памянш. Цяпéр жа вы́гада, цяпéр жа харашо́, цяпéр жа ўсё кра́мненькае.* Багданава.

**КРАНТ** *м.* Кран. *У ба́йні крант такі́ зро́білі.* Неўгадава. *Ціскане́ць там крант.* Заазер'е.

**КРАНУ́ЦЬ** *зак.* 1. Даткнуцца да чаго-н. *Крані́ глубо́ка бяро́зку – атарва́ецца.* Буй. *Як кранéш пухо́ўку, то дым ідзé.* Каралі. *Кап табé хоць што крану́лі, усé стаі́ць.* Неўгадава. 2. Чапаць. *Маі́х авéчък воўк ні кранéць.* Закур'е.

**КРАПІ́ВА** *ж.* Крапіва. *Крапі́ва расцéць, яна́ ні баі́цца нічо́га, верх сох, а ко́рань аста́ўся жывы́.* Буй. *Крапі́ву п'юць, мне раз адна́ нара́іла, я як вы́піла, страка́ць ста́ла ў сярэ́дзіне. Гэ́та для ско́ту крапі́ва, ско́ту даём, свіня́м.* Багданава. *На крапі́ве на́расцей жо́ўтых німа́, то гурко́ў ні бу́дзець* (прыкмета). Партызаны. *Крапі́ва скрозь па куста́х расцéць. Мо́жна і вары́ць.* Каралі. *І крапі́ву, і лебяду́ – цугу́н навару́ бальшы́.* Цясішча. *А гэ́та крапі́ва, стрыка́іцца.* Заазер'е.

□ *Бу́дзець і нъ тваю́ крапі́ву маро́с.* Ульянавічы. □ *На жгу́чую крапі́ву маро́с ні пячэ́ць.* Ульянавічы.

**КРАПІ́ВІНА** *ж.* Вазон. *Крапі́віна зача́хла* [кветка на акне]. Мянюцева.

**КРАПІ́ЎНІК** *м. эмац.-ацэн.* Пазашлюбнае дзіця. *Крапі́ўнік – хто без ба́цькі ро́жджаны.* Гарадзец. *Крапі́ўнік – дзіця́ без ба́цькі.* Дольдзева.

**КРАПІ́ЎНІЦА** *ж.* Хвароба, якая суправаджаецца свербам і паяўленнем на скуры пухіркоў; крапіўніца. *Крапі́ўніца ў дзяцéй быва́іць.* Нямойта.

**КРАПІ́ЦЦА** *незак.* Набірацца сілы. *Але́ дзет яшчэ́ чу́лы бы́ў, крапі́ўся.* Багданава.

**КРАПУ́ЧЫ** *прым.* Крэпкі, дужы. *Крапу́чыя стары́я, ху́жжые цяпéр малады́е.* Заазер'е. *Я ста́ну каза́ць дзяцём пра ўсё, то ка́жуць: ты ду́жа крапу́чая, ма́мачка.* Неўгадава.

**КРАПЦІ́НКА, КРАНЦІ́НКА** *ж.* Плеценая сетка для рыбалоўнай снасці. *Чуп то́жа с кранці́нкі. Éта таптýн, када́ крапці́нка наця́нута з ніта́к.* Дольдзева.

**КРАПЧЭ́Й** *прысл.* 1. Крапчэйшы, мацнейшы. *Траснік крапчэ́й сало́мы.* Багданава. 2. Больш плённа. *На́да рабо́таць крапчэ́й.* Станюкі. 3. Гучней. *Кап ты мне крапчэ́й прачыта́ў.* Неўгадава.

**КРАПЧЭ́ЙШЫ** *прым.* 1. Дужэйшы, здаравейшы. *Гляджу́, ра́ньшы былі́ лю́дзі крапчэ́йшыя.* Нямойта. *Ба́ба крапчэ́йша тро́хі.* Баравікі. *І крапчэ́йшая была́.* Заазер'е. 2. Цвярдзейшы, не вялы. *Крапчэ́йшую бу́льбу вазьму́ ў пасці́лку і к даро́зе паднясу́.* Партызаны. 3. Навейшы, не стары. *Запро́х крапчэ́йшыя калёсы.* Каралевічы.

**КРАСАВА́ЦЦА** *незак.* 1. Цвісці (пра злакавыя расліны). *Каласы́ красу́юцца, тады́ налі́ваецца зéрне.* Гарадзец. *Як жы́та красу́іцца, тады́ і вадні́, а сляпні́ по́сьлі, і каро́вы зіка́юцца і біга́ць дамо́ў.* Міцюкова. *Жы́та красу́іцца, тады́ й руса́лкі ёсь* (павер'е). Ракаў Засценак, Гарадзец. *Як жы́та красу́ецца, тады́ ват* [авадні]. Кішуроўшчына, Партызаны, Розмыслава. 2. Знаходзіцца на відным месцы. *Стары́ннае зда́ніе стаі́ць, красу́ецца.* Вялікі Азярэцк. 3. Быць у росквіце, прыцягваць увагу. *Кръсъва́цца ў жы́зні – мы ні пъкръсъва́ліся.* Івоні.

**КРАСАВА́ЦЬ** *незак.* Красаваць, цвісці (пра злакавыя расліны). *Дзве нядзе́лі красу́іць жы́та, як красу́іць, – лісі́чкі, сырае́жкі выхо́дзяць.* Вялікі Азярэцк.

**КРАСАВІКІ** *мн.* Баравікі, якія растуць у час красавання жыта. *Кръсъвікі́ ста́лі, як жы́та ста́ла крусува́цца.* Дольдзева.

**КРАСА́ЛА, КРЫСА́ЛА** *н.* Крэсіва. *Кръса́ла, то́лькі з кръса́лъў і жылі́* [красаламі карысталіся]. Багданава. *Крыса́ла дзе́лълі, гу́бу вары́лі.* Нямойта.

**КРАСАТА́** *ж.* Прыгажосць. *Ня ві́дзіла, кап тако́й краса́ты было́. Я яшчэ́ на ўсім све́це ня ві́дзіла, кап была́ тъка́я кръсата́.* Нямойта. *Як цвілі́ сады́, ой, кътка́я кръсата́!* Фасаўшчына.

**КРАСІВЕ́ЙШЫ** *прым.* Больш прыгожы. *Бува́ло кръсіве́йшая сва́дзьба была́, на ко́нях.* Багданава.

**КРАСІВО́** *н.* Крэсіва. *Красіво́ было́ жале́зная.* Каралі. *Ка́мінь і красіво́ жале́знаё.* Жохава. *Гу́бу вары́лі не́як, сушы́лі, тако́е красіво́ было́. Гу́бу на па́лачку пало́жыць, яна́ вы́сахніць – тады́ зага́рваецца.* Каралі.

**КРАСІ́ВЫ** *прым.* Прыгожы. *Га́нна красі́въя, як мъладу́ха. Красі́въя, як ля́лька. Красі́въя, як бяро́ска вясе́ннія.* Сянно. *Яна́ перад ім красі́вая.* Жохава.

□ *Хай пъд ла́ўкъй сядзе́ць, абы́ на красі́въга глядзе́ць.* Забор'е.

**КРА́СІЦЬ** *незак.* Фарбаваць. *Кра́сілі су́кна ра́зными кра́скамі.* Фасаўшчына. *Ко́жу кра́сюць лазо́й.* Запруддзе. *Кра́сілі дубо́въй каро́й.* Дольдзева.

**КРА́СКА** *ж.* Кветка. *Кра́скі сабіра́лі, праснакі́ пяклі́ з іх.* Цясішча. *Сабо́й ара́лі, къпа́лі, ўся́кія кра́скі е́лі. Кра́скі ўся́кія збіра́лі, сушы́лі, таўклі́, праснакі́ пяклі́. Кра́скі дай жа е́лі ад галаду́хі.* Алексінічы. *На дажы́нкі с кра́сак плялі́ вянок, с жы́та, з лёну.* Партызаны. *Ра́ньшы ўрачы́ ні прызнъва́лі нія́кіх кра́сак. І стрэнь цвіла́, і кра́скі ўся́кія цвілі́.* Рэчкі. *Ёсь кра́скі сі́нія йва́нува гулува́, пу лугу́ расту́ць, рвём іх нъ Йва́на Купа́ла.* Гарадок. *Вяно́к не пато́ніць с кра́сак.* Каралевічы. *Бе́лыя кра́скі бальшы́я на лека́рства.* Закур'е. КРА́САЧКА *памянш.-ласк.* *Кра́сачкі раслі́, а цяпе́р пазаплыло́ рава́мі.* Фасаўшчына.

**КРА́СНА** *прысл.* Чырвона, вельмі многа. *Жуко́ў на бу́льбі аж кра́сна, так йіх нъляце́ла.* Нямойта.

**КРАСНАБО́КІ** *прым.* З чырвоным бокам. *Я́блыкі лясо́ўкі краснабо́кія, як на зіму́ – пераме́рзнуць. Краснабо́кія ёсь я́гыды.* Нямойта.

**КРАСНАПЁРКА** *ж.* Краснапёрка. *У во́зеры о́кунь, плаці́чка, карп, краснапёрка.* Карпавічы. *Кръснапёрка – э́та ры́ба хі́тръя. Кръснапёрка ёсь у во́зеры.* Багданава. *У кръснапёркі пёрушкі і гла́скі кра́сніҥкія, йна о́чынь красі́въя, о́чынь свёйлівыя, ісчыза́ючыя ры́біна.* Сянно.

**КРА́СНІК** *м.* Мох чырвонага колеру. *Мох зва́ўся кра́снік.* Гарадзец.

**КРАСНУВА́ТЫ** *прым.* Чырванаваты. *Цвято́к с краснува́тымі цвята́мі.* Багданава.

**КРА́СНЫ** *прым.* Чырвоны. *Кра́сны, як бура́к. Кра́сны, як памідо́р. Кра́сны, як аго́нь.* Серкуці. *Кра́сны флаг до́ўга ві́сеў.* Запруддзе. КРА́СНЕНЬКІ *ласк.* *Кра́сненькія дзе́ткі ста́лі, по́ўненькія ад се́м'я льняно́га.* Алексінічы. ○ КРА́СНЫ ХОД. Абход царквы тры разы пры асвячэнні. *Тры-чаты́ры ба́цюшкі хо́дзюць з кра́сным хо́дам* [як царкву асвячалі]. Каралевічы.

□ *Не радзі́ся кра́снай, а радзі́ся шча́снай.* Жохава.

**КРА́СЦІ** *незак.* Употай браць, прысвойваць сабе чужое. *Ба́цька твой ко́ні краў і то дзве́ры зачыня́ў.* Марозаўка. *Ма́ма ні любі́ла, кап кра́сці.* Нямойта. *Во скраў,*

*раньшы астаўлялі, ніхто нічога ні браў, ні краў: людзі былі надзейныя.* Запруддзе. *У нас трапкі* [адзенне] *ні крадуць, усё цэла.* Неўгадава.

**КРАТАВІННЕ** *н. зб.* Кучкі зямлі, наточаныя кратамі. *Крътавіння надзелуў крот.* Гарадок.

**КРАТАЛОЎКА** *ж.* Пастка для лоўлі кратоў. *Кръталоўку пъставілі, дык краціха і кращёнък пыпалісі.* Багданава.

**КРАТАЦЬ** *незак.* Чапаць. *Немцы нас не краталі.* Закур'е.

**КРАТОЎНІЦА** *ж.* Пастка для лоўлі кратоў. *Што кратоў ловюць – кратоўніца.* Багданава.

**КРАТОЎНЯ** *ж.* Тое ж. *Кратоўня, што кратоў ловюць.* Багданава.

**КРАХА** *ж.* Невялікая колькасць чаго-н. *За эту краху ня быць у граху* [угаворванне дзяўчыны трошкі выпіць]. Каралевічы.

**КРАЦЁНАК** *м.* Крацяня, дзіця крата. Багданава.

**КРАЦІХА** *ж.* Самка крата. *Кръталоўку пъставілі, дык краціха і краценък пыпалісі.* Багданава.

**КРАШАНЫ** *дзеепрым.* Пафарбаваны. *Масты ні крашъныя былі* [а з натуральных дошак]. Карпавічы.

**КРАЯНУЦЬ** *зак.* ◊ КРАЯНУЦЬ МАТАМ. Аблаяць нецэнзурнымі словамі. *Ён на мяне: «Дарагуша, красотка», а калі і матам краянёт.* Каралевічы.

**КРОВАДАЎЛЕННЕ** *н.* Крывяны ціск. *Кровадаўленне прычапіласе.* Карпавічы.

**КРОВАМОЧКА** *ж.* Хвароба ў кароў; цыстыт. *Кароўка кроўю мочыцца – кровамочка.* Гарадзец.

**КРОВІЦЯЧЭННЕ** *н.* Крывацёк. *У яе кровіцячэнне было, і іна памёрла.* Вялікі Азярэцк.

**КРОКАЦЕНЬ** *м.* Жабурынне. *Крокаценю ад лягушак у сажалках многа було. Мылісі ім, кап румяными быць. Гэта жаб'я ікра, як студзень.* Багданава.

**КРОКВІНА** *ж.* Кроква. *Паставіў пояс, кроквіну прыбіў.* Вялікі Азярэцк.

**КРОКВЫ, КРОКЛЫ** *толькі мн.* Кроквы. *Кроквы – тое, што і страпілы, але гэта ўжэ старынушка. Пат страпілы бурлаты ставюць.* Вялікі Азярэцк. *Па кроквах лацюць.* Міцюкова. *Паследні вянец, на вянец казлы, на казлы палка, а на палку кроквы. Раньшы кроквы стънавілі, а цяпер – страпілы.* Гарадзец. *Кроквы ставюць у хаце.* Алексінічы. *Кроклы паставюць і лацюць.* Багданава.

**КРОЛ** *м.* Трус. *Да нас к кролу прыносілі кралíху.* Латыгаль.

**КРОПІЛЬКА, КРУПЕЛЬКА** *ж. памянш.* Кропелька, крапінка. *Кароўка-багоўка, што лётаіць, с кропількамі.* Сукрэмна. *У возеры цёмныя бы крупелькі.* Багданава.

**КРОПКА** *ж.* Крапінка. *У сарокі яйцы гулубэя і чорныя кропкі ў яе.* Сянно. КРОПАЧКА *памянш. У пітушкоў розавы верх, ніз жэлтлявы, кропачкі белаватыя.* Пожанькі. *Мъхамор з кропъчкъмі.* Вялікі Азярэцк.

**КРОСНЫ** *толькі мн.* 1. Ткацкі станок. *Браў дрэва і дзелаў кросны.* Фасаўшчына. *Стаялі кросны ў мяне.* Карпавічы. *Паламалі кросны.* Вялікі Азярэцк. 2. Аснова палатна. *Многа красён, нада і на мяхі, нада і на матрасы прасці, нада і на рубашкі. Як кросна снавалі, як жалі. Пъмагай божа!* Багданава. *Кросны снувалі, трубка на пяць губак, хто скольки напрадзець, і сукно ткалі.* Леснікі. *Пражу сушылі, разматвалі, снъвалі кросны.* Вялікі Азярэцк. *Снуеш з клубкоў кросны, на сцяну снавалі.* Дуброўкі, Закур'е. 3. Вытканае палатно, тканіна. *Кросны білі праннікам.* Буй.

**КРОТ** *м.* Крот. *Краты чорныя, хуваюцца ў нару. Краты ў лесе, у норах.* Багданава. *Крот зямлю рыець.* Гарадзец. *Во як унадзіцца крот у ліхах, рыіць і рыіць.*

Заазер'е. *Крот – гэта зъраза, іх дачорта ёсь.* Марозаўка. *Краты рыюць сат і гарот.* Кішуроўшчына.

**КРОЎ** *ж.* Кроў. *Бярэш кроў, звáрыш рысу, сéчкі, паджáрыш, пірамішáіш і ў тóўстыя кішкі пачыніш і калбáскі крывáвыя.* Багданава. *Кроў сышлá – і памéрла.* Цясішча. *Стаў крóўю мачыцца.* Каралевічы. *Чалавéчая кроў ня авéччая – увідзела, прáўда.* Запруддзе. ◊ КРОЎ ЗА КРОЎ. Помсціць забойствам за забойства. *Ён* [партызан] *гъварыў паліцэйскім: «Мáльцы, кроў за кроў заплáціце».* Нямойта. ◊ МЫЦЬ РУ́КІ КРÓЎЮ. Злачынстваваць, забіваць самавольна. *Сваé рýкі крóўю мыць.* Жохава.

□ *Дзе крыві ні лóшкі, там жáласці ні крóшкі.* Івоні.

**КРÓХКІ, КРÓХКІЙ** *прым.* Крохкі, ломкі. *З алéшыны ні сагнéш* [дугі], *янá крóхкая.* Кляпчэва. *Удáр па ім, сліжý, дык ён крóхкій, пулумáіцца нъ чáсці.* Алексінічы.

**КРÓШКА** *ж.* 1. Кавалачак, маленькі кусочак. *Сáла зжáрыш па гéткай крóшцы. Ні дадýць крóшкі сáла спытáць у пост.* Чуцькі. *Вазьмём сóлі, хлéба, крóшку сáла, калі ў кагó ёсць.* Багданава. 2. Невялікі ўчастак зямлі. *Я éтую крóшку пасаджý. Хоць малéнькую крóшку, ды вы́дзеліў мне бáцька зямлí.* Нямойта. *Я дзенібýдзь паўтóркала буракі там, капýсты там крóшку.* Запруддзе. 3. *прысл.* Трошкі, крышку. *Я хлéба крóшку ні даéў. Ну, дъвáй па крóшкі зьядзім.* Багданава. *Прывязéш дзіцям па аднóй крóшцы хлéба.* Чуцькі. *Там вады́ крóшка, хай дзяўчáты памы́юцца.* Міцюкова. *Мы там вóзьмем што па крóшкі.* Баравікі. *Прышлю пасы́лку, па крóшкі ўсё разбярýць.* Партызаны. *Дажыдáюць с цэ́рквы, свянцóнае па крóшцы рэ́жуць, пéрва яйцó ядýць, рэ́жуць і ядýць.* Карпавічы. *Крóшку пасадзіла пад лапáту бýльбу.* Нямойта. 4. Зусім, ані. *Хлéба крóшкі пóслі вайны́ ні былó.* Чуцькі. КРÓШАЧКА *памянш. Прынёс кáждаму па крóшачкі, падзяліў* [пасылку]. Партызаны. *Мóжа крóшачку вы́піла.* Неўгадава. *Ні крóшачкі нільзя́ выкідáць, сабярэ́ць і мне прывязýць* [хлеб]. Леснікі. *Мукі крóшычку, вады́, і ў вар сы́піш.* Вялікі Азярэцк. ◊ НІ КРÓШКІ. Нікольkі. *Ні крóшкі зямлí німá.* Неўгадава, Закур'е.

**КРУГ, КРУХ** *м.* 1. Круг, кола. *Крýга лю́дзі дзéлалі.* Партызаны. 2. Лішай. *Кругí былí, вы́лез круг, як лáпік аблéзіць.* Баравікі. *Кругí звáлі, на гълавé, выстрыгáлі, мáзалі.* Гарадзец. *Крух – крýглы такí, нарывачкі такíя, мя́кніць, і вóгнік называўся. Кругí на рукáх, як вядрó стаíць, па дну вóдзяць, акнó як атпатнéіць, па акнý, па кругý вадзілі, зганя́лі.* Багданава. *Круг і шóлудзі – гэ́та ні аднó і тóя.* Заазер'е. *Круг на шчакé.* Закур'е. 3. Суквецце каліны, якое мае форму круга. Замошша. 4. Узор на тканні ў выглядзе круга. *Пълавікí ткáлі ў палóску, мътрáсы ці ў кругí ткáлі.* Кляпчэва. 5. *прысл.* Наўкола. *У нас тут у кругý ні былó мéльніц, малóць вазілі ў Сяннó.* Вялікі Азярэцк.

**КРУГАВЫ́** *прым.* Двухбаковы (пра запаленне). *Як хвацíла кругавóе васпалéнне.* Неўгадава.

**КРУГЛАВÍДЗЕНЬКІ** *прым.* Круглатвары. *Мой мáлец круглавідзенькі, як дзéвачка.* Партызаны.

**КРУГЛÉЦ** *м.* Асака (расліна). *Круглéц карóвы éлі, касілі па балóтах. Разáчку лýччы éлі карóвы, як круглéц.* Багданава.

**КРУГЛÓВІНА** *ж.* Кругляк. *Во, такáя круглóвіна път сцянý.* Серкуці.

**КРУ́ГЛЫ** *прым.* 1. Круглы. *Кургáны булí крýглыя высóкія – мéтраў два, пъразрылі іх тръктарáмі.* Вялікі Азярэцк. 2. Увесь, цэлы (год). *Цяпéр свіння́ крýглы гот з хлéва ні выхóдзіць* [а раней пасвілі]. Міцюкова. ○ КРУ́ГЛЫ ДВОР. Двор з тыпо-

вым для сядзібы комплексам пабудоў. *Такі шчытны быў двор: стаяў анбар, клець, сарай і яшчэ сарай – ета круглы двор.* Леснікова.

**КРУГЛЯ́К** *м. зб.* Бярвенне круглай формы. *У нас с круглякý дзéлаюць* [хаты]. Гарадзец.

**КРУГÓМ** *прысл.* Кругом, з усіх бакоў. *А тады лóжым сéна кругóм* [на стозе], *кругóм апхóдзім плáсцікъм.* Леснікова. *Гърá, як кýмпъл, то яé арáлі кругóм.* Самсоны.

**КРУ́ЖАВА** *н.*, **КРУЖАВА́** *мн.* Карункі. *Крýжава плялі з нітак лляных. Ґафт такóя, як крýжава.* Багданава. *Кружавá чапляліся самадзéлкавыя.* Леснікі. *Кручкáмі візáлі крýжъва.* Турава. *Ніжняю юпку – кужэўная былá – к ёй крýжава прышывáлі.* Буй, Закур'е.

**КРУ́ЖКА**, **КРУ́ШКА** *ж.* Конаўка, кубак. *Крýжкамі пераліваем праз качарэжнік* [як урок]. Запруддзе. *Крýшка вадý піць.* Дольдзева. *На стол і вадý крýшку пъстанóвяць.* Багданава. *У стараверáў крýшка аддзéльно стаяла.* Закур'е. КРУ́ШАЧКА *памянш. Я ёй крýшачку мълакá і ў місачку.* Запруддзе.

**КРУЖНІ́К** *м.* Скрутак круглай формы. *Кружнік – скрýчанае лыка. Із лыка, із вярóвак, лыккі – у пучóк.* Вялікі Азярэцк. КРУЖНІЧÓК *памянш. Дзярэцца яснóй лазá, пакрýцяць іх у кружнічкі, мóчуць іх у цёплай вадзіцы і плятýць лáпці.* Дольдзева.

**КРУЖНЯКÓМ** *прысл.* Кружком. *Скрýціцца вужáка кружнякóм – і ў гълавý.* Ракаў Засценак.

**КРУЖÓЛКА**, **КРУЖÓЎКА**, **КРУЖА́ЛКА** *ж.* 1. Прыстасаванне, на якім малолі зерне. *А пóслі вайны жóрны панадзéлалі з дрэва: адрэжуць такýю кружóўку, як кáмінь, а тады білі чугуны такія чугýнныя на чарапкі малéнькія і ў гэту калóтку набівáлі і малóлі.* Серкуці. КРУЖÓЛАЧКА *памянш. Шчытáюць дзéвяць жыцін і палóжуць у кружóлачку.* Запруддзе. 2. Прыстасаванне круглай формы ў зброі. *Падняў арýжыя с кружáлкай і стрэліў.* Багданава. *Тáя бáба кáжыць: «Якóя там арýжые, я ні панімáю, а кагó ня ўвіжу, то ўсё с кружóўкамі, с кружóўкамі».* Партызаны. 3. Лапічак круглай формы. *Махамóр крáсны, а па вéрху бéлыя кружóлкі, бéлыя лáпікі.* Неўгадава.

**КРУЖÓЎНІК** *м.* Агрэст (ягады). *Скóра кружóўнік бýдзіць, паспéіць.* Буй.

**КРУЖЫ́ЦЦА** *незак.* Кружыцца. *Самалёты крýжуцца і крýжуцца над нáмі.* Неўгадава.

**КРУЖЭ́ННЕ** *н.* Галавакружэнне. *Нéйкае кружэнне стáнець, ні магла ў лóдку садзіцца. Кружэнне ў гълавé, як ідý над вадóй, па мóсце.* Нямойта. *У мянé чáста кружэнне ў гълавé.* Дольдзева. *Кружэнне ў мянé дзéлаіцца і пáдаю. Я ціфам балéла, і цяпéр кружэнне такóе.* Багданава.

**КРУЖЭ́ЎНЫ** *прым.* Зроблены з кружава. *А ў мянé, вы не знáеце, рубáшкі кружэўныя былі.* Заазер'е.

**КРУК** *м.* 1. Драўляны калок з загнутым тупым канцом. *Крук, вярóўкі вілі рáньшы. Крук убівáлі і ў сцéнку.* Фасаўшчына. *Дзірвяны крук атрэжуць с кустá і крýцяць вырóўкі.* Гарадзец. *Рáньшы аглóблі былі нъ зáвертах, дзіржáлься аглóбля, а цяпéр крýчча, пéтлі, пéтля прыкрэпляецца к пълазý, а крук к аглаблé.* Гарадзец. 2. Металічная частка каромысла. Багданава. ◊ САГНУ́ЦЦА Ў КРУК. Моцна выгнуцца, цяжка працуючы. *Высах, сагнýўся ў крук.* Партызаны.

**КРУК** *м.* Крумкач. *Чагó крук у нас крычэў, ажнó ў цябé цялёнак падóх. Крукі крычáлі на клáдбішчы – нéхта памрэць* (прыкмета). Гарадзец.

□ *Крук крýку <у> вóка не клюé(юць).* Нямойта, Каралевічы.

**КРУ́КАМ** *прысл.* Крукам, у сагнутым стане, нагадваючы крук. *Згарбе́ўшы, стаіш кру́кам.* Жохава.

**КРУМКА́Ч** *м.* Крумкач. *Хто я́стрып, а хто крумка́ч ка́жыць, дзю́пка крута́я.* Багданава.

**КРУПАДЗЁРКА** *ж.* Машына для вырабу круп, мукі; крупадзёрка. *Крупадзёрка ў ме́льніцы. Крупадзёрка – муку́ дра́лі.* Багданава. *Крупадзёрка была́, кру́пы дра́лі.* Серкуці. *Крупадзёрка была́, як дра́чка, цяпе́р та́рка.* Нямойта.

**КРУ́ПАЧКА** *ж.* Крупінка. *Кру́пачка ма́сла пла́вае.* Вялікі Азярэцк.

**КРУПЕ́НІК** *м.* Крупяны суп; крупнік. *Крупе́нік – кру́пы таўклі́, аптаўка́лі ў сту́пі, вары́лі.* Фасаўшчына.

**КРУПЕ́НЬ** *м.* Тое ж. *У нас вары́лі крупе́нь, а ў Ча́шніках – суп.* Закур'е.

**КРУПЕ́НЯ, КРУПЕ́ННЯ** *ж.* Тое ж. *Цяпе́р суп, тады́ зва́лі крупе́ня і быў сма́шны.* Каралі. *Гаро́х се́ілі, крупе́ню вары́лі з гаро́хам.* Гарадзец. *Крупе́ня бува́ла, а цяпе́р суп. Іс бо́бам крупе́ня.* Дольдзева. *Крупе́ня – бу́льба, кру́пы буйны́я – усе́ е́лі бува́ла. Ма́ма, ты ўсё ва́рыш крупе́ню, а вун Въсіліна суп ва́рыць* (жарт) [так гавораць, калі расказваюць, як засвойвалася назва суп]. Партызаны. *Дзет, бу́дзім е́сці крупе́ню.* Фасаўшчына. *Крупе́ня з грыба́мі.* Дольдзева. *Е́жсце, паку́ль крупе́ння не акале́ла.* Міцюкова.

**КРУ́ПІНА, КРУПІ́НА** *ж.* Невялікая колькасць круп, крупіна. *Яка́я кру́піна, то ме́ліш на куле́ш, ці на прасна́к які́.* Цясішча. *Ну пра́ма смыль смалі: ніčо́га німа́, ні се́чкі, ні крупі́ны.* Запруддзе. *Ані́ хле́ба, ні крупі́ны, пъццягну́цца пуп да спі́ны* (жарт). Леснікі.

**КРУ́ПНІК** *м.* Каша з ячных круп. *Кру́пнік – ка́ша с пярло́ўкі. Крупе́ня – суп.* Багданава, Вялікі Азярэцк.

**КРУ́ПНЫ** *прым.* Вялікі, мажны. *Як чълаве́к, ё кру́пны, ё ме́лкі.* Вялікі Азярэцк.

**КРУПЧА́ТАЧКА** *ж. зб.* Здробненае, ачышчанае ад шалупіння зерне. *На́да штоп была́ крупча́тачка.* Дольдзева.

**КРУ́ПЫ** *толькі мн.* Крупы. *А ці кру́пы яшчэ́ ё ці ръзъбра́лі?* Багданава. *Ці по́йдзеш ты за крупмі́?* Сукрэмна. *Узяла́ мех круп учо́ра.* Запруддзе. *Кру́пы бра́лі і мало́лі.* Дуброўкі.

**КРУ́ТА** *прысл.* Туга скручана. *Як кру́та су́чыш, палуча́юцца су́кры.* Леснікова.

**КРУТАНУ́ЦЦА** *зак.* Павярнуцца. *Каро́ва крутану́лъся, і ў по́ле.* Цясішча.

**КРУТАНУ́ЦЬ** *зак.* Хутка з'есці. *Крутані́це гэ́ты мёт* [прапанова пакаштаваць, з'есці]. Кляпчэва.

**КРУТАРО́ШКА** *ж.* З крутымі рагамі (пра карову). *Крутаро́шка – ро́гі кру́цянькія.* Міцюкова.

**КРУТЫ́** *прым.* 1. Пакручасты (пра дровы). *Крутэ́я дро́вы ніхто́ ня хо́чыць браць.* Чуцькі. 2. З закругленай дзюбай. *Крумка́ч – дзю́пка крута́я.* Багданава. 3. Густа замешаны. *Крутó́я це́ста, каб чуць-чуць раскаці́ць.* Фасаўшчына.

**КРУХМА́Л, КРАХМА́Л** *м.* Крухмал. *Крухма́лу развядзе́ш, зма́жаш бу́лкі хле́ба, яны́ бліша́ць.* Каралі. *Кръхма́л е́та надзярэ́ш, перамыва́іш, цэ́дзіш, ваду́ злі́ваеш, вады́ тры. Мъкаро́наў з крухма́лу нъва́раць.* Багданава. *Кръхма́л і ра́ньшы гавары́лі і цяпе́р.* Алексінічы.

**КРУЦЁЛКА** *ж.* 1. Дзвярная зашчапка. *У така́х ёўні былі́, і дзе́лалася ў ёўнях ні зашчэ́пка, а круцёлкі з дзе́рава.* Заазер'е. 2. Вітая, авальная каробка. *Ра́кушкі*

*складзеныя круцёлкамі, як мяса ўсярэдзіне.* Вялікі Азярэцк. 3. Вітушка. *Закручвалі ў круцёлку* [лазу]. Буй. 4. Легкадумная, ветраная жанчына; гуляшчая. *Яна была круцёлка, мушчына быў, і ўсё роўна круцілася. Яна была круцёлка, а ён ціхі. Нейкая прыехъла круцёлка, дъяркай стала, а даіць не ўмеіць. Круцёлка была, круцілася з ім.* Запруддзе.

**КРУЦІЦЦА** *незак.* 1. Вярцецца. *Шворан саедзіняе пірадок с калёсамі, на ім пірадок круціцца.* Кляпчэва. *Ольга, ні круціся перат перадам.* Фасаўшчына. 2. Беспарадкава рухацца. *Круціцца, халодна, места няма.* Багданава. 3. Варочацца з боку на бок. *Як забалеў, на ногі не падняць, пішчыць, круціцца і падаець.* Партызаны. 4. Віраваць. *Вір, дзе круціцца вада.* Гарадок. 5. Быць у пастаянным клопаце. *Круціцца бедненькі, што вужака.* Ульянавічы.

**КРУЦІЦЬ** *зак.* 1. Прыводзіць у кругавы рух, вярцець. *Круцілі самі, змелюць у жорнах.* Дольдзева. *Адной нагой качаеш* [дзіця], *а другой праснiцу круціш.* Багданава. 2. Паварочваць з боку ў бок. *Сяджу праду, а яны* [дзеці] *гълъвамі круцюць.* Багданава. 3. Скручваць (пра лён). *У рукі круцілі лён.* Запруддзе. 4. *перан.* Махляваць, ашукваць. *Круціць іна круціць, возьміць грошы і ні аддасць, махлюіць.* Заазер'е.

**КРУЧОК** *м.* 1. Кручок для вязання, шыдэлак. *Кручком вязалі кружава.* Леснікі. *Кручком шчэ троху вяжу.* Цясішча. 2. Прылада з загібам на адным канцы для віцця вяровак. *На кручок дзеравянны лапці плялá. На кручок дзелалі лапці.* Багданава.

**КРУЧЧА** *н. зб.* 1. Кроквы ў гаспадарчым будынку, да якіх прымацоўваліся латы. *На балку ставілі казлы, і піраводзіна наверх ложыцца крučча чапаць.* Фасаўшчына. *Казёл ставіцца, ложыцца піраводзіна на яго, на гэту піраводзіна – кручча, і тады лацюць і кроюць у сараі і хлеві, раньшы і па хатах.* Вялікі Азярэцк. *На казёл ложыцца кручча, а на гэта кручча – латы.* Гарадзец. 2. Вяроўка, дрот і пад.; заверцень. *Пітля пръкрапляецца к пълазу, кручча – к аглаблé.* Гарадзец.

**КРУШ** *м.* Глеба, верхні слой якой – чарназём, а ніжні – гліністая глеба. *Круш – зімля чорнъя зьверху, а там суглей білуватый.* Сянно. *Тамъцька на гародзі круш, бліска гліна краснъя, бульба атмякла, а боп ні атмяк.* Кавалі.

**КРУШАК** *м.* Тое ж. Сянно.

**КРУШАНЫ** *прым.* Крохкі. *Крушаныя пласцінкавыя грыбы пълъмаюцца.* Неўгадава.

**КРУШКОМ** *прысл.* Невялікім кругам. *Път страхой крушком злажыў.* Багданава.

**КРУШНІК** *м.* Урадлівая зямля. *Крушнік – лёгкъя зімля, бълыпынство шэрънкъя зімля, урадлівъя.* Міцюкова.

**КРУШЫНА** *ж.* Крушына. *Крушына, іна сладкая, ягады ваўчовыя.* Багданава.

**КРУШЫННІК** *м.* 1. Крушыннік. *Ля возіра крушынніку ёсь.* Гарадок. 2. Настой з крушыны. *З крушынніку ставілі чарніла* [пасля вайны]. Багданава. *Крушыннік ат жывата.* Багданава.

**КРУШЭЦ** *м.* Урадлівая зямля. *Крушэц – ета чорнъя зімля, іна харошъя зімля, на ёй ўсё расцець* [і каноплі, і агародніна]. Запруддзе.

**КРЫВАВІК** *м.* Блін, прыгатаваны з крыві. *Кръвавікі – ета бліны. Кроў расколюцюць, на жырную скъвараду льеш і пячэш.* Багданава. *Бліны пячом з крыві – крывавікі.* Марозаўка. *Крывавікі – бліны з кроўю.* Гарадзец.

**КРЫВАВЫ** *прым.* 1. Прыгатаваны з крыві. *Крывавая каўбаса – крупы, кроў.* Парэчча. *Крывавыя кілбасы: круп насыпюць, сала кусочкі, жыру, кроў.* Гарадзец.

2. Напоўнены кроўю, з прымессю крыві. *Крывáвы мазóль лóпнуў.* Багданава. ○ КРЫВÁВЫ (КРЫВÁВЫЙ) ПАНÓС. Крываўка, дызентэрыя. *Як панóс крывáвый быў, траву завáрвалі – палын, зверабóй.* Гарадзец. *Крывáвы панóс у карóвы.* Міцюкова. *Крывáвы панóс у дачкі быў, у бальніцы ліжáла.* Нямойта.

**КРЫВАМÓЧКА** *ж.* Цыстыт. *Крывамóчка ў карóў, крóўю мóчацца.* Латыгаль. *А як крывамóчка ў карóвы, то дувáлі свінтъянкі піць.* Заазер'е.

**КРЫВАНДЖÁ** *агульн. экспр.* Кульгавы. *Крывъндждá накýльгъіць на дну нагý.* Сянно.

**КРЫВАНÓГІ** *прым.* Крываногі. *Крыванóгіе, калі нóгі крывые.* Гарадзец.

**КРЫВАРÓТ** *м.* Суджаны. □ *Мой крыварóт ні мінéць маіх варóт.* Каралевічы.

**КРЫВАРÓТЫ** *прым.* Тое ж. □ *Твой крыварóты ні мінéць тваé варóты.* Каралевічы.

**КРЫВÁЎКА** *ж.* 1. Цыстыт. *Карóва крывáўкую балéіць.* Дуброўкі. *Кап цябé крывáўка ўзілá!* (праклён). Вялікі Азярэцк. 2. Крывянка. *Пяклі крывáўку, дъбаўлялі пéрыц, круп, соль, цыбýльку.* Вялікі Азярэцк. *Крывáўкі рабілі так: кроў, картóшка дзёртая, пшóнная мукá, жыр, сáла, часнóк – і ў кішку, а пóтым у вар і ў пéчку.* Міцюкова. *С аднóй крыві чынілі с рукáмі – э́та крывáўка.* Савінічы. *Крывáўка, дзéлалі калбасý крывáўку.* Заазер'е.

**КРЫВÁЎКА** *ж.* Крываўнік (расліна). *Былá трувá крывáўка, яé дувáлі карóві, як крóўю карóва мóчыцца. Інá расцéць нъ гарóдзі.* Кішуроўшчына.

**КРЫВÁЎНІК** *м.* Тое ж. *Крывáўнік ё такáя травá, алé ні знáю.* Багданава. *Крывáўнік на пóлі расцéць, нізенькі, сцéліцца, як маркóўнік, як парэ́жаш рукý сéрпам.* Каралевічы. *Крывáўнік, як карóва крóўю мóчыцца, тóпюць у пéчы і даюць.* Чуцькі.

**КРЫВÉЦЬ** *незак.* Станавіцца крывым. *Кáчкі крывéюць, калі не даюць жгýчкі.* Буй.

**КРЫВІ́НА** *ж.* Крывізна (?). *У варóтъх былá шýла, а тут дылатóм дзірку здзéлъіць, крывíну нáйдзіць і зъчыняіць к другéй шýле, зáсуўку здзéлъіць.* Алексінічы.

**КРЫВІ́НАЧКА** *ж.* Пра роднага па крыві. *Крывінаочка мъя!* [на дзіця]. Міцюкова.

**КРЫВІ́ЦЬ** *незак.* ◊ КРЫВІ́ЦЬ ДУШÓЙ. Быць няшчырым, наўмысна не гаварыць праўды. *І чагó там душóй крывіць: што былó, то былó.* Савінічы.

**КРЫВЫ́, КРЫВЫ́Й** *прым.* 1. Кульгавы. *Такáя крывáя я ні хаджý за малінай.* Марозаўка. *Сóня крывáя, яé Сóрка празвáлі. А крывáя, што пъмъгáіць бáбі, палучáіць трынáццаць рублéй.* Вялікі Азярэцк. *Крывы́, пакýльгъіць на дну нагý.* Сянно. *Крывы́ чълавéк. Крывы́, у раскідку ідзéць.* Багданава. 2. Пакалечаны. *Пáлец крывы́й, сярпóм парэ́зала.* Багданава. 3. Пашкоджаны. *Йна былá бáба худувáя, а ён быў ціхій. Вíдзіш, Сцíпáн паéхаў, а ў ягó крывóя кълясó* [было ў возе]. Багданава. ○ КРЫВЫ́Я ВЕЧАРЫ́. 1. Святочныя вечары на Каляды (вечары ад Нараджэння Хрыста (Раства) да Вадохрышча), у якія забаранялася любая праца, акрамя хатняй. *У крывы́я вечары́ дзве нядзéлі нічавó нільзя́ дзéлыць: для скóту* [кепска]. Ракаў Засценак. *На крывы́я вечары́ цісáць мужукáм ні даюць, гвоздзь зъгнáць. Крывы́я вечары́ – на Кълáды, дзве нядзéлі, с сядзьмóга да двáццъць пéрвага.* Ракаў Засценак. *У крывэ́я вічары́ нільзя́ рабóтъць, у кагó скацíна цéльнъя, то ýръды бýдуць.* Дуброўкі. 2. Вячэрняя пара пасля заходу сонца. *Сóнца зáйдзець – назывáецца крывы́я вечары́.* Дуброўкі. ○ КРЫВÁЯ НЯДЗÉЛЯ. Першы тыдзень пасля Тройцы. *Крывáя нядзéля с пънядзéлка пъсля Трóйцы, русáленя нядзéля, палóць нільзя́, шыць нільзя́.* Ракаў Засценак.

**КРЫВЯ́НКА** *ж.* Крывянка, крывяная каўбаса. *Крывя́нка с крыві, круп, жы́ру, кусóчкаў сáла.* Багданава.

**КРЫВЯ́ННІК** *м.* Тое ж. *Кроў збіра́юць, кілба́сы дзе́лаюць – крывя́ннікі.* Гарадзец.

**КРЫВЯ́НЫ** *прым.* Крывяны, прыгатаваны з крыві. *Крывя́ную калбасу́ так ро́бім: жы́ру, кусо́чкаў са́ла, круп даба́вім, кроў.* Багданава.

**КРЫ́ГА** *ж.* Крыга, ільдзіна. *Кры́гі, як лёт ло́паіцца, вясно́й кры́гі.* Леснікова.

**КРЫ́ГА** *ж.* Рыбалоўная снасць з драўлянай асновай – палазамі. *Кры́га – е́та се́тка к двум па́лкам уме́ста таптуна́.* Дольдзева. *У кры́гі два пълазы́ сагну́тых. Кры́га сплеціна, і сагну́ты два паласы́. Кры́га бъльша́я. Ры́бу лаві́лі кры́гімі.* Алексінічы. *Кры́га – два пълаза́ дзірвя́нных, сецъ свя́жуць.* Турава. *Кры́га, як палазы́, пе́люсці там, зае́дзіш на ло́ткі, яе́ упу́сціш і ця́гніш.* Сукрэмна.

**КРЫЖ** *м.* Ніжняя частка хрыбетніка; крыж. *Балі́ць крыж.* Багданава. ◊ ПАКЛА́СЦІ КРЫЖ. Зарачыся. *Пакла́ла крыж: ні пайду́ за́муж у вайну́.* Кляпчэва.

**КРЫЖАВУ́ХА** *ж.* Скрыжаванне дарог. *Крыжаву́ха пъсяро́д дзярэ́ўні – туды́ даро́га і туды́.* Нямойта.

**КРЫЖ-НА́КРЫШ** *прысл.* Крыж-накрыж, крыжападобна. *Крыж-на́крыш удара́ць, ве́рбінкай на Ве́рбніцу дзяце́й, а то і каро́ву.* Каралевічы. *Крыш-на́крыш мъла́ння дала́.* Багданава.

**КРЫЖО́ЎКА** *ж.* Скрыжаванне дарог. *Хо́дзім вады́ сабе́ піць нъ кружо́ўку, дзе даро́гі перасяка́юцца.* Гарадзец. *Крыжо́ўка – як даро́гі крыжу́юцца.* Партызаны.

**КРЫК** *м.* Крык. *Тут іна́ крык пъдніла́.* Запруддзе. *Бу́лку са́лам нама́залі – спра́віў крык.* Ульянавічы. *Прые́халі – крык спра́вілі.* Неўгадава.

**КРЫКЛІ́ВЫ** *прым.* Крыклівы, плаксівы. *Пе́рвы ма́лец крыклі́вы быў.* Багданава.

**КРЫ́КНУЦЬ** *зак.* Моцна закрычаць. *Ба́цька кры́кнуў: «Заві́ця людзе́й!»* Запруддзе. *Ба́цька кры́кнець: «Лю́біш гуля́ць – любі́ і працава́ць».* Багданава. *Сваé прыпа́ткі ў не́мцъў служы́лі, ба́чыць, што мяне́ стръля́ць бу́дуць, кры́кнуў, што ў яе́ хъдзя́ін нъ вайне́, а ні ў пърціза́нъх.* Неўгадава.

**КРЫКСУНЫ́** *толькі мн.* Дзіцячая немач, у час якой дзіця круціцца, крэкча; крыкуны [прычынай дзіцячага неспакою, паводле павер'я, з'яўляюцца хваробатворныя валаскі на спіне]. *Ката́ ці свінню́ нага́мі падкі́дваеш, по́тым у дзяцёнка крыксуны́. Крэ́кчыць дзяцёнак, крыксуны́, купа́юць, на адзі́н пе́люсень сы́пеш по́пел – туды́-сюды́, на плі́чках по́пел, каб шэрсць скаці́лася. Па плёчках кача́еш хле́бам дзіцёнку, каб крыксуно́ў ні было́.* Запруддзе.

**КРЫ́КСЫ** *толькі мн.* Тое ж. *Купа́лі яго́ ў рама́шках. Кры́ксы ў яго́ былі́, ба́бушка хле́бам па це́лу пъкача́ець, нъкача́лася вало́ссе.* Алексінічы.

**КРЫКУНЫ́** *толькі мн.* Тое ж. *Крыкуны́ – узя́ць жа́ркі хлеб, кача́ць па це́лцу, кача́ць хле́бам, разарва́ць, а там по́ўна валасо́ў. Другі́ спо́саб загаво́рваць крыкуны́: по́пелу – з пе́чы, прасе́іць на сі́та, стаць, за́дам на газе́ту прасе́іць, тры разы́ крэ́сцік-накрэ́сцік перасы́паць, вы́нуць, ваду́ на тра́пачку сцадзі́ць, ста́неш разарва́ць – валасы́.* Парэчча.

**КРЫ́ЛЛЕ, КРЫ́ЛЛЯ, КРЫ́ЛЬЯ** *н.* 1. *зб.* Крылы. *Пяту́х кры́ллем б'ець. Кры́лля пра́ма жале́знае у цвыркуна́.* Запруддзе. *Зязю́ля пъкладзе́ць яйцо́ ў вълься́нкіна гняздо́. У вълься́нкіным гняздзе́ птушъня́т кры́ллім вы́суніць, а іна́ тады́ ко́рміць аднаго́.* Сянно. 2. *мн.* Бакавыя часткі рыбалоўнай снасці. *А пато́м прыбіва́лі кры́лля к къмя́шцы.* Заазер'е. 3. *мн.* Акладня (у плузе). *Кры́лья ў аку́шніку і насо́к во́стры.* Нямойта.

**КРЫ́ЛЫ** *мн.* Крылы. *Пяту́х кры́ламі б'ець.* Мянюцева.

**КРЫЛЬЦÓ** *н.* Ганак. *Гáнак – прóста ступéні. Крыльцо – крытая. Крыльцó – éта пъд нъвéсам.* Нямойта.

**КРЫНІ́ЦА** *ж.* Крыніца. *Там былá крыніца, ікóнка былá, поп хадзіў, і там въдá бéгла. Цяпéр зъплылá.* Міцюкова. *Пайдзём піць у Грышкіну крыніцу.* Кляпчэва. *У нас нъ лугý крыніцы ёсь.* Заазер'е. *Там крыніца, лясóк, бълацявінка.* Каралі. КРЫНІ́ЧКА *памянш.-ласк. І ён крынічку сабé там выкапаў, і такáя въдá былá ўкýсная.* Буй. *Крынічкі свянцóныя былі.* Багданава, Каралі.

**КРЫНІ́ЧЛІВЫ** *прым.* Крынічны. *Тут крынічлівае мéсца.* Партызаны.

**КРЫНІ́ЧНЫ, КРЫНІ́ШНЫ** *прым.* Тое ж. *Крынічнае мéсца там.* Вялікі Азярэцк. *Крынішнъя мéста пъд гарýшъчкуй.* Самсоны.

**КРЫПЖЫЖЭ́Т** *м.* Крэп-жаржэт. *Плáцце насіла с крыпжыжэ́ту.* Розмыслава.

**КРЫ́СА** *ж.* Пацук. *Землянáя крыса ўнáдзілася вяснóй шчэ, цвяты з'éла. Нóччы крыса хóдзіць.* Нямойта.

**КРЫСЦЁЦ** *м.* Крыж. *У мяне крысцёц баліць тут.* Запруддзе.

**КРЫХЦЁЦЬ, КРЫШЧЭ́ЦЬ** *незак. перан.* Трашчаць. *Марóз аж крыхчыць, чалавéку здарóвей. Бывáла, марóс аж крышчыць.* Багданава.

**КРЫЦЬ** *незак.* Крыць. *Крылі хáту салóмай жытнай.* Леснікова. *Ранéй крылі хáту салóмай, драніцай крылі, салóмай крылі. І шыферам крóюць зруп.* Нямойта. *Звáліся кулі крышу крыць.* Ульянавічы. ◊ крыць ПАТ КÓЛАС. Саломай каласамі ўніз (крыць). *Пат кóлас крылі – макýшкамі ўніз, а як пат шчóтку – камлямі ўніз.* Леснікова. *Пат кóлас крылі хáты салóмай, расцэ́піць іх.* Фасаўшчына. ◊ крыць ПАТ (ПОД) ШЧÓТКУ. Саломай камлямі ўніз (крыць). *Пат шчóтку крыць – камлямі, кулі ўніз, дóшчачкі пъдбівáлі, крапчэ́й, красівéй.* Леснікова, Фасаўшчына. *Крыем под шчóтку хáту.* Закур'е.

**КРЫЧÁЦЬ, КРЫЧЭ́ЦЬ** *незак.* 1. Крычаць. *Сістрá на мяне крычэ́ла, што дзéшава пръдалá казý. Казá прывязана былá, закруцілася, я крычэ́ла, прыбéг сын, узяў нож, адрэ́заў.* Запруддзе. *Крычэ́ў мáльчык у зубáх вóўка.* Фасаўшчына. *Стáла інá крычэ́ць, так крычэ́ла інá.* Партызаны. *Крычыш ты як рэ́заны.* Вялікі Азярэцк. *Мáма ні давáла, крычэ́ла.* Багданава. *Янá на сваіх дзяцéй крычэ́ла. Ён жа крычэ́ў, а вы ўсё ішлі і ішлі.* Дуброўкі. *Яны крычэ́лі, як іх білі нéмцы лі Чáшнік у равý.* Закур'е. 2. Пець моцна, пераходзячы ў крык. *Рáньшы куляшý пъясі і крычыш* [пяеш]. Дольдзева. 3. Падтрымліваць. *Крычэ́лі, і я крычэ́ў зъ Стáліна.* Дольдзева. ◊ КРЫЧÁЦЬ РАТÝНКУ. Прасіць аб дапамозе. *Іван сёння крычэ́ў ратýнку. Кот крычыць ратýнку.* Ульянавічы. *Я давáй крычáць ратýнку: мужык памёр.* Партызаны, Неўгадава. ◊ КРЫЧÁЦЬ ГВÁЛТУ. Тое ж. *Не магý не шавяльнýцца, крычý гвáлту.* Закур'е.

**КРЫ́ША** *ж.* Страха, дах. *Усё съльмяннъя крыша. Крыша таўсцéйшая, як бъгáты.* Манголія. *Пасцілкай закрываю крышу, каб мая хáта ні згарэ́ла.* Сукрэмна. *Нъ хáці крыша, а звісáя стръхá.* Карпавічы. *Крыша былá съльмяная.* Нямойта. *Тапóр у рýкі і на крышу.* Партызаны. *Пярýн удáрыў, і ўся крыша стáла гарэ́ць.* Міцюкова. *Лáты – як крышу кладýць, цéшуць такія пáлкі.* Фасаўшчына. ◊ КРЫ́ША НА КРЫ́ШЫ. Упрытык, шчыльна. *Крыша на крышы – такáя густáя дзярэ́ўня.* Савінічы.

**КРЫШАНЫ́** *мн.* Булён. *Э́та суп такі, нéкатарыя звáлі крышаны.* Нямойта.

**КРЫ́ШКА** *ж.* Накрыўка. *Кýбел пахóж на бóчку, звéрху крышка.* Гарадзец. *Крышка ў стълá.* Фасаўшчына. *У пшчаліным дóміку крышка.* Закур'е. КРЫ́ШАЧКА *памянш. На крышачку вылажыш крывáвую каўбасý.* Міцюкова.

**КРЫШТА́ЛЬНЫ** *прым.* Вельмі чысты. *У крыніцы вада́ была́ крыні́чнья, крышта́льнъя.* Запруддзе.

**КРЫШЫ́ЦЬ** *незак.* 1. Наразаць. *Усё крышы́лі на дэ́начка но́жыкам. Крышы́лі* [шчаўе], *сы́рваткай зальеш ілі́ ква́сам.* Вялікі Азярэцк. *Кры́шыш бу́льбу адра́зу каро́ві.* Нямойта. *Жыгу́чку ву́ткъм кры́шуць, ва́руць я́йцы і мъкаро́н* [каб хутчэй раслі]. *Заме́сіць це́ста, раска́чыюць то́нінька, а тады́ кры́шуць, заву́ць лапша́, прасу́шыюць.* Фасаўшчына. 2. Крышыць, здрабняць. *Бу́дзем пъпо́ўнае біць къбана́, крышы́ць капу́сту.* Вялікі Азярэцк. 3. Выклікаць боль у касцях, ламаць, круціць. *Пубыла́ ў вадзе́ і ста́ла крышы́ць усе́ но́гі.* Запруддзе.

**КРЭ́ЙСЕР** *м.* Крэйсер. *Вясно́ю забра́лі ўну́ка, слу́жыць у крэ́йсеры ў Баку́.* Міцюкова.

**КРЭ́ЛІ** *толькі мн.* ◊ У КРЭ́ЛІ. Дзіцячая гульня, падобная на гарадкі. *У крэ́лі гуля́лі, цяпе́р у гараткі́.* Багданава.

**КРЭ́НКАЦЬ** *незак.* Ледзь ліпець. *Парабо́таў за век, то цяпе́р чуць крэ́нкаю.* Ульянавічы.

**КРЭ́ПАСЦЬ** *ж.* Добрая пабудова. *Хазя́ін дзе́лаў, каб крэ́пасць была́.* Чуцькі.

**КРЭ́ПКА** *прысл.* 1. Вельмі, надта, моцна. *Нъга́ балі́ць так, што ступі́ць ні магу́, балі́ць крэ́пка.* Ульянавічы. *Храпі́ць крэ́пка, аж у другей ха́це чуць.* Партызаны. *Мяне́ крэ́пка пъра́ніла.* Фасаўшчына. *Тады́ на тво́рах здзе́лаюць мълако́, калі́ яно́ крэ́пка закі́сніць.* Багданава. *Въйна́ мне крэ́пка дала́.* Нямойта. *Ры́жыкі чы́сцінька пі́ръбра́ць і ў судно́, крэ́пка салі́ць. Яны́ лі́шніга ні бяру́ць.* Сукрэмна. *Крэ́пка со́ленная са́ла есь ні хачу́.* Станюкі. *Зъмары́ўся крэ́пка.* Заазер'е. *Ні крэ́пка то́пка там було́, але́ ідзе́ш.* Багданава. 2. Многа, шмат. *Хто ні рабо́таў, а хто і крэ́пка рабо́таў. Мы рабо́талі крэ́пка.* Гарадзец. *Кажу́, не бяры́ крэ́пка* [з маладосці]. Партызаны. 3. Добра. *Ду́жа крэ́пка ячме́нь не ро́дзіць.* Ракаў Засценак. 4. Ахвотна. *Ці́ну ў во́зіры гу́сі крэ́пка яду́ць.* Закур'е. 5. Громка, гучна. *Глухі́. Крэ́пка на́да крычэ́ць. А ён крэ́пка ня чу́іць. Крэ́пка ръзгава́руюць.* Багданава. 6. Зусім. *У міне́ хъзя́йства, хъця́ яго́ крэ́пка мо́жна ні дзі́ржа́ць.* Багданава.

**КРЭ́ПКАСЬ** *ж.* Моц, трываласць. *Крэ́пкась бальша́я ў дубо́вых дзе́жках.* Манголія.

**КРЭ́ПКІ** *прым.* 1. Моцны. *Крэ́пкі лёд быў.* Нямойта. *Нап'ю́ся такі́х таблётак крэ́пкіх.* Серкуці. *Бі́рага́* [у возеры] *крэ́пкія, нъла́ўлю ско́лькі на́да яджгуро́ў.* Сянно. *Там было́ ўсё крэ́пкая тако́я.* Нямойта. 2. Здаровы. *Ра́ньшы лю́дзі крэ́пкія былі́.* Заазер'е. *Наш стары́ крэ́пкі.* Запруддзе. *Ра́ньшы ко́ні крэ́пкія былі́.* Гарадзец. 3. Заможны, багаты. *Са́мых крэ́пкіх хъзя́інаў, са́мых до́брых, като́рыя харашо́ рабо́талі, харашо́ трудзі́лісі – высыла́лі.* Буй.

**КРЭПСАТЭ́Н** *м.* Сацін (?). *Крэпсатэ́н – мацер'я́л быў, бліску́чы, цяжо́лы.* Розмыслава.

**КРЭ́ПЧЫ** *прысл.* Дужэйшы. *Ён крэ́пчы міня́.* Івоні.

**КРЭСІВО́** *н.* Крэсіва. *Гу́бу атвары́лі ў зале́, і рас крэсіво́ ап ска́лку – гары́ць.* Пожанькі. *Крэсіво́ было́ высіка́ць аго́нь на гу́бу.* Вялікі Азярэцк.

**КРЭ́СЛА** *н.* Крэсла. *Цяпе́р стул, а даўне́й крэ́сла.* Дольдзева. *Вазьмі́ крэ́сла, сяць.* Гарадзец.

**КРЭ́СЦІК-НАКРЭ́СЦІК** *прысл.* Крыж-накрыж. *Крэ́сцік-накрэ́сцік перасыпа́ць по́пелам.* Парэчча.

**КРЭ́ЎНЫ** *прым.* 1. Родны. *Рэ́жыць хто-ніб́удзь у во́ сне і кроў, то крэ́ўны прырэ́жацца.* Каралевічы. 2. Мясцовы, карэнны. *Я тут жы́цель крэ́ўны.* Марозаўка.

**КСЦІЦЬ**, **ХСЦІЦЬ** *незак.* Хрысціць. *У нас ксцілі дзяцей, вазілі к папу.* Міцюкова. *Ходзюць дзяцей ксціць.* Цясішча. *Ня ксьціла я сваіх дзяцей.* Нямойта. *А іны ня хсцілі дзяцей, баяліся.* Буй.

**КУ́БАВЫ** *прым.* Сіні, з яркім густым адценнем. *Ку́бавы цвет – гэ́та як васількóвы.* Багданава.

**КУ́БАК** *м.* 1. Кубак. *Малакó мы ку́бкам п'ём, а ваду́ квáртай.* Серкуці. 2. Пра форму грыбоў, падобную на кубак. *Шпіёны, як ку́пкі, такéя тóўстъя.* Вялікі Азярэцк.

**КУБАМЕ́ТР** *м.* Кубічны метр. *Кубамéтр – éта сто не сто, што ізмерáліся брóўны, дóскі, дрóвы, лес.* Фасаўшчына.

**КУБА́Р** *м.* Гладыш, гарлач. *Кубáр гліняны запáрвалі чáмбарам, каб пах.* Запруддзе. *Нáда кубáр дастáць, як гарлáч кубары́.* Каралі. *Кубáр гліняны, былі паліваные пад малакó.* Дольдзева. КУБА́РАК, КУБАРÓК *памянш.-ласк.* *У кубáркі мълъкá нъцадзіла. Кубарóк – éта катóры малакó цэ́дзяць.* Багданава. *Цадзілі ў кубаркі. Хто кáжыць гарлáчык, хто кубарóк.* Вялікі Азярэцк.

**КУБАРКА** *ж.* Панікніца (кветка). *Хто завéць анюціны ту́фелькі, а хто – кубаркі* [кветкі]. Заазер'е.

**КУБА́ТАРСКІ** *прым.* Інкубатарны. *Кубáтарскія ціплята яду́ць жыгу́шку.* Ракаў Засценак.

**КУБА́ТАРЫ** *мн.* Куры-інкубатары. *Што вы, чэ́рці гарэ́лыя, кубáтары праклятыя* [на куранят]. Нямойта. *Ку́ры-кубáтары дзéржым, бóлеры.* Закур'е.

**КУ́БАЧКАМ** *прысл.* У форме кубка. *Сураéжкі ку́бъчкъм расту́ць з зямлі.* Дольдзева. *Суравéшкі ку́бачкам, малóдзінькія бярóм у крупéню і сéчку пярлóвую.* Пожанькі.

**КУ́БЕЛ**, **КУ́БІЛ** *м.* Вялікая пасудзіна з клёпак або з саломы для захоўвання палатна, адзення і збожжа; кубел. *Ку́бел пахóж на бóчку, звéрху кры́шка і два рашкі, на гéтыя рашкі надзівáлъся кры́шка і такім кіёчкъм зъклъдáлъся. Ку́блы рáньшы былі, адзéжу клáлі, сы́палі патóм зярнó. Бальшэ́й, кру́глый, і звéрху кры́шка надзівáлася нъ рашкі. Былі ку́блы.* Гарадзец. *Ку́блы былі, сундукі такія. Зáмуш ішлі іс ку́бламі.* Каралі. *Ку́бел – зярнó ссыпáлі, ву́шы і засóўка былá.* Жохава. *Ку́блы дзірвя́нныя, адзéжу склъдáлі.* Фасаўшчына. *Ку́біл во такі вісóкі, ху́шую адзéжду ў ку́біл клáлі.* Буй. *Скуты́ качáюць у тру́пкі і складáюць у ку́блы.* Вялікі Азярэцк. *Ку́біл не скры́ня, аддзéльна.* Рулёўшчына. *Ку́біл быў, бóчка, плéціны с салóмы.* Леснікі. *Ці закры́ла ты ку́біл? Ку́блы – э́та для адзёжы.* Дольдзева.

**КУБЛЕ́Т** *м.* Куплет. *Два кублéты іспóўнілі, і ўсе маладых паднімáлі.* Партызаны.

**КУ́БЛІШЧА** *м.* Памяшканне для сена. *Ку́блішча – éта быў нéйкі склат сянны́.* Буй.

**КУВА́ДЛА** *ж.* Кавальскі молат. *Мóлат ілі кувáдла: адзін бальшы́, а другі малы́, адзінóчны, кілаграмóвы, а бальшы́ – пяць кілагрáм.* Жохава. *Намётачку нясéць без мóлата, без кувáдла. Кувáдла зьдзéлаў нам дзіця́ лáдна.* Чуцькі. *Біз малаткá, біз кувáдла / Паглядзім, якóе дзіця́ лáдна* [з песні]. Леснікова, Запруддзе.

**КУВА́ЦЬ** *незак.* 1. Выкоўваць з жалеза розныя прылады. *Яўрэ́і кувáлі ў ку́зні.* Дольдзева. 2. Падкоўваць, акоўваць. *Цяпéр не кую́ць къня́, далёка нікуды ня éдуць.* Міцюкова. *Кувáць каня́, як закóн быў, на чатыры нагі.* Ульянавічы.

**КУДА́КТАЦЬ** *незак.* Кудахтаць. *Кудáктаюць ку́ры пасьля яйцá.* Багданава. *Ку́рыца сакóчыць як з яйцóм, як знясéцца – кудáкчыць. Інá* [курыца] *кáжын дзень*

*сакóчыць, кудáкчыць, зьнеслáся і кудáкчыць.* Вялікі Азярэцк. *Кадá яічкі кýры зьнясýць, кудáкчуць.* Багданава.

**КУДЗЁЛІЦА** *ж.* Кудзеля, валакно для прадзіва. *Чыкі-чыкі, матéра на прыпечку сядзéла, кудзéліцу вярцéла, кудзéліца упáла – матéра прыпáла* (з прыпеўкі). Багданава.

**КУДЗЁЛЯ** *ж.* Тое ж. *Былí дрáчкі: дасóчка, набíта гваздзéй, апшліфóваны харашó, і апчóсываіш лён, пасканню, і называлася кудзéля.* Дольдзева. *Íншы прыдзіць, запáліць кудзéлю* [на супрадках]. Запруддзе, Гарадзец, Каралі. КУДЗЁЛЬКА *памянш.-ласк. Кýжель – гэ́та сáмы чы́сты лён, тады́ кудзéлькі дзéлаюць.* Вялікі Азярэцк. *Тóлькі мне грóшы, што кудзéльку спрадзéш да прадасí.* Ракаў Засценак, Буй.

**КУДЛÁТЫ** *прым.* 1. З доўгай поўсцю. *Бáчу йдзець кудлáты бабёр і пашóў у калдóбінку.* Багданава. 2. Валасаты. *Кудлáты, ужó і валасы́ ні прычасáў, хóдзіць, як кучмá. Кудлáты, касмáты, зарóс ужó* [хлопец]. Багданава.

**КУДЛУВÁТЫ** *прым.* Касматы, лахматы, апушаны. *Вуўнянкі кудлувáтыя ізрыткá ёсь.* Галашчакіна.

**КÝДЛЫ** *толькі мн.* Доўгія непрычэсаныя валасы. *Другí ідзéць аж кýдлы нъ върaтнíк, а бъдáй ты!* Алексінічы.

**КУДРÁВЫ** *прым.* Пра густаватую, наварыстую страву. *Суп кудрáвы, ну, такí смáчны, гýсценькі.* Багданава. КУДРÁВЕНЬКІ *эмац.-ацэн. Цéста кълатóукай з пяцí ражкóў разбівáюць, і пóліўка станóвіцца кудрáвінькъя.* Дольдзева.

**КУДЫ́** *прысл.* Куды. *А кyды́ ты ідзéш?* Запруддзе. *А гімóрнічаюць дзéўчынкі, скóлькі трэ́ба кóждуй пóльтуў, а мне кyды́ іх?* Нямойта. *Хóчуць уткнýць ягó хоць кyды́, у мъсцярскéя.* Запруддзе.

**КÝЖАЛЬ** *м.* 1. Ачышчанае валакно лёну. *Кýжаль – гэ́та сáмы чы́сты лён.* Вялікі Азярэцк. *Кýжаль – éта з лёну, а што вычашуць – зрэ́б'я.* Заазер'е. *А кýжаль мóжна былó тóнка спрáсці.* Марозаўка. *Пóслі дрáчкі – шчóткамі шчóсывалі, нідзé ні кастры́нкі, блісціць, э́та кýжаль. Сначáла атрэ́п'я, патóм зрэ́б'я і кýжаль.* Дольдзева. *Кáстра ляціць са льна, астаéцца кýжаль.* Багданава. *Кýжаль быў, а зрэ́б'я аддзéльна.* Запруддзе. 2. Прадзіва. *Кýжаляў нáда напрáсці.* Багданава. *Ды я нъпрáла кýжалю.* Нямойта. *Мáма напрáла дзéвяць гýбак зрэ́б'я і дванáццаць кýжалю.* Запруддзе. *Кýжаль – éта на рубáшкі ткáлі, а с ізрэ́б'я – пасцілкі.* Каралі. 3. Палатно (з часанага лёну). *С кýжалю рубáшкі, пасцілкі былí.* Дуброўкі.

□ *Кýжаль далéжыцца шóўку, а вóўна далéжыцць г....* Закур'е.

**КУЖЭ́ЛЬНЫ, КУЖЭ́ЛНЫ, КУЖЭ́ЎНЫ** *прым.* Кужэльны, зроблены з кужалю. *Рубáшкі кужэ́льные шылі. Кужэ́ўные дзéўкі рубáшкі насíлі.* Буй. *Дзвінáццъць гýбъчък, чатыры скутý кужэ́лных.* Чуцькі. *Кужэ́лная палатнó, ягó спрадзéш, патчэ́ш, тóнінькая.* Заазер'е. *Кужэ́лныя лýгъм мылі, паркалёвага мáла былó.* Неўгадава. *Кужэ́лная, сваёй рабóты* [рубашка], *сáмая лýччая.* Багданава.

**КÝЗІЛ** *м.* Гуз. *А-я-яй, кýзіл які быў!* Багданава.

**КУЗНЁЦ** *м.* Каваль. *Кузняцы́ дзéлалі фаэтóны.* Дуброўкі.

**КÝЗНЯ** *ж.* Кузня. *Вот, кáіць* [кажа], *кýзня стъя́ла, тóя мéста.* Запруддзе. *У кýзню цігáўся, распóхніць рукá, нядзéлю, дзве – ня йдзець.* Каралі. *Кълясó акóўваецца ў кýзні.* Гарадзец.

**КÝКА** *ж.* Вялікі драўляны молат для глушэння рыбы. *Кýкі ры́бу глушы́ць.* Багданава.

**КУКАВÁЦЬ, КУКУВÁЦЬ** *незак.* Кукаваць (пра зязюлю). *Бывáла, а-я-яй, як зязю́лі кукъвáлі, а цяпéр рэ́тка.* Партызаны. *Як дóўга і блíска кала дзярэ́ўні кукýіць*

*кукушка, будзіць пакойнік* (прыкмета). Розмыслава. *Зязюля да Пітрá кукýіць.* Малы Азярэцк. *Хоць кукýй, ні кукýй, зязюля, / Нямнóшка цябé кукувáць, / З Вялікадня да Пятрá, / З пятрóвай нóчанькі – ні аднагó дня* (з песні). Вялікі Азярэцк, Запруддзе. *Да Пятрá зязюля кукýіць, а пóслі Пятрá ні дня* (з назіранняў). Міцюкова. *А як тóлькі пачынáіць кукувáць зізюля, то красíва.* Гарадзец. *Зязюля дýжа ні кукувáла.* Ракаў Засценак. *Ці чуў кукýшку? Кукýець, тадьí грóшы нáда насíць у кармáні* (прыкмета). Міцюкова.

**КУ́КАЛЬ** *ж.* Куколь (расліна). *Кýкаль і гýгаль – э́та аднó і тóя, як хто скáжыць.* Фасаўшчына.

**КУ́КІШ** *м.* 1. Фіга. *Кýкіш – э́та хвíгу даў.* Фасаўшчына. *Мне сóдзіць кýкіш пад нос.* Дольдзева. *Кýкіш крýціць.* Багданава. 2. Пра нешта, памерам з кулак. *С кýкіш.* Дольдзева.

**КУ́КЛА** *ж.* 1. Жаночая прычоска. *Кýклы дзéлалі – въласьí сціснуць, закрýцюць і шпілек натóркаюць. Істýшку ў касý, кýклы круцілі.* Гарадзец. 2. Звязаны пучок нязжатых каласоў, што пакідалі ў час дажынак жыта. *Скрýціш кýклу і астаéцца на пóлі.* Гарадзец. *Кýклу астуўлялі на пóлі на Купáлу, па ёй тудьí бáбу якýю здарóваю къчáюць, кап жьíта на лéта былó.* Вялікі Азярэцк. 3. Звязаны пучок жыта, які аддзяляе адну постаць жыта ад другой. *Як апхóдзіць пóстаць, зъвя́зваеш кýклу.* Гарадзец. 4. Скрутак, хатулёк. *Вазмём у кýклу сóлі, хлéба, крóшку сáла і тры къвылíны, тры жыцíны, тры къласьí.* Багданава.

**КУ́КНУЦЬ** *зак.* Пракукаваць адзін раз. *Мóжа яшчэ́ кýкніць рас зязюля.* Ракаў Засценак.

**КУ́КСА** *ж.* Кукса, астатак пакалечанай рукі. *Кýкса – éслі нямá ладóні.* Фасаўшчына. *Аднарýкі – кýкса ў сусéда.* Багданава.

**КУКУ́ЛЬКА** *ж. ласк.* Зязюля. *Кукýлька так ні кукýіць.* Багданава.

**КУКУРА́ЧКІ** *мн.* ◊ НА КУКУРА́ЧКІ. Сагнуўшы ногі ў каленях. *На кукурáчкі сеў.* Дольдзева.

**КУКУ́ШКА** *ж.* Зязюля. *Як не з пустьíм кармáнам кукýшку пачýеш – век бýдуць грóшы* (прыкмета). Нямойта, Розмыслава. *Шла кукýшка міма лéса, / А за нéю два балбéса, / Кук-мак, убірáй адзíн кулáк* (з дзіцячай лічылкі). Станюкі.

**КУКУ́ШКА** *ж.* Плямістая зязюлька (расліна). *Кукýшка сíненькім цвіцéць, астáнецца таўкáчык. Íнá па пóжнях расцéць.* Нямойта.

**КУКШЫ́Н** *м.* Збан. *Цэ́лы кукшьíн яéц назбірáла.* Рассвет.

**КУЛА́ГА** *ж.* 1. Салодкая страва з густазаваранай жытняй мукі; саладуха. *Кулáга – гэ́та ржанýю мукý гýста размéшваюць, лёд лóжаць і памéшваецца, пастáвяць на загнéцце і саладжáіць, прыкíснець, вíдна, слáдкая, варьíлі ў пéчы.* Міцюкова. *Аржаная мукá і лёду, кулáга ўсаладжáець, укíснець і вáруць.* Марозаўка. 2. Густазвараная і падкалочаная страва з ячменных круп, бульбы і мяса. *Бýльбы начьíсцюць, ячмéнныя крýпы ўсьíпюць, мя́са крóшку і ў печ. Янó там увáрыцца, калатóўкай пакалóцяць, кулáга густáя стáнець, і смáшна.* Гарадзец.

**КУЛА́К** *м.* Багаты селянін-уласнік; кулак. *Вóсім гіктáраў зямлí былó, які ён кулáк.* Буй. *У багáтых кулакóў служьíла.* Самсоны. *У нас кулакі якія былí: хадзíлі ў лáпцях, у бéлых штанях.* Заазер'е. *Кулáк крэ́пкій, жывéць дóбра – так къзáлі.* Запруддзе.

**КУЛА́К** *м.* Кісць рукі з прыгнутымі да далоні пальцамі; кулак. ◊ КУЛАКО́Ў НАДАВА́ЦЬ. Наштурхаць пад бок. *Кулакóў нъдъвáў – э́та пад бок.* Фасаўшчына.

**КУЛАМЕ́С, КУЛАМЕ́Х** *м.* Неразбярыха, беспарадак. *Ай, здзе́лалі такі́ куламе́с, ніразбяру́ха.* Нямойта. *Во здзе́лалі куламе́с, лю́дзі куламе́сяцца* [аб вялікай чарзе]. Заазер'е. *Лю́дзі, быва́юць, у ку́чу сыйдуцца, як куламе́с здзе́лаюць, скуламе́сяцца.* Багданава. *Гуля́лі кадры́лю, куламе́с такі́.* Чуцькі. *Куламе́х тут быў цэ́лы.* Багданава.

**КУЛАМЕ́СІЦЦА** *незак.* Штурхацца ў натоўпе. Заазер'е.

**КУЛДЫ́ЧЫЦЬ** *незак.* Кракаць (пра качак). *Кулды́чуць – е́сці хо́чуць.* Запруддзе.

**КУ́ЛЕМ** *прысл.* Вельмі хутка, мігам. *Наллю́ дзя́дзьку вады́, а сам ку́лем з ку́зні. Лю́дзі ку́лем ад яе́. Сама́ ку́лем к собе́ на двор, к свіня́м.* Каралевічы.

**КУЛЕ́ЎЕ, КУЛЕ́ЎЯ** *н. зб.* Кулі (пра снапы). *Куле́ўя цалі́ком палі́лі, усто́ркнуць на кол куль і па́люць* [на Купалле]. Каралевічы. *Бува́ла, мълако́ було́ па рэ́зі і баб́оўніку. Куле́ўя пъсяку́ць, а тады́ зъпа́руць жа́ркуй вадо́й і пасо́люць, жме́ню со́лі туды́. Мълако́ хаце́лі* [так кароў кармілі]. Чуцькі.

**КУЛЕ́Ш** *м.* 1. Посная мучная страва. *Закалаці́лі харо́шы куле́ш с харо́шай мукі́: прыме́рна чыгуно́чак вады́ і прыго́ршч мукі́.* Нямойта. *Ра́ньшы куляшу́ пъясі і крычы́ш* [пяеш]. Дольдзева. 2. Звараная і падкалочаная мучная страва, у якую дабаўлялася закраса (бульба, сала, каўбаса і інш.). *Куле́ш вары́лі с пшо́ннай мукі́: карто́шкі пакрышы́ць, зва́рыцца, пакалаці́ць карто́шку, раскалаці́ць і нямно́га туда́ мукі́ пшо́ннай усы́паць і пакалаці́ць, зва́рыцца, і пато́м туды́ са́ла, калбасы́.* Жохава. *Въда́ кіпі́ць, муку́ сы́піш, кало́ціш кълато́ўкъй, пато́м зъпра́віш – вот куле́ш.* Кішуроўшчына. 3. Страва, прыгатаваная з маладога жыта. *Жы́та храп-храп гало́вак і ў кішэ́ню, куле́ш зва́рыш зелёны.* Запруддзе, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Заазер'е, Цясішча. 4. Корм для свойскай жывёлы. *Куляшу́ звару́ парася́там, на два дні мярку́ю.* Партызаны. *Хле́ба размо́чыш, куляшу́ навару́, тро́ху бу́льбы, тро́ху мукі́ парасёнку.* Багданава. КУЛЯШО́К *ласк. У Каля́ды куляшо́к вары́лі.* Багданава.

**КУЛЁК** *м.* Кароткі пінжак з даматканага матэрыялу. *Кулькі́ с кърма́намі, карма́ны прамэ́я, то́лькі суко́нны варатні́к.* Каралі. *Кулёк быў ране́й, пінжа́к цяпе́р.* Фасаўшчына. *Кулёк, пінджа́к – каро́ткія, а дліны – армя́к.* Гарадзец. *Я й сама́ насі́ла кулёк, ткалі, а партны́ тады́ шыў. Кулёк надзе́ніш наве́рх, біс паткла́ткі.* Багданава.

**КУ́ЛІК, КУЛІ́К** *м.* Кулік (птушка). *Ку́лікі на бало́ці жыву́ць, нібальшы́я, ме́ньшы гулуба́.* Нямойта. *Кулíко́ў, жураве́й бы́ла, ву́тък.* Багданава.

□ *Ка́жны кулі́к сваё́ бало́та зна́іць.* Вялікі Азярэцк. □ *Кулі́к куліка́ ві́дзіць здаліка́.* Вялікі Азярэцк.

**КУ́ЛІКІ, КУЛЮКІ́** *мн.* Круглыя маленькія булачкі, якія пяклі на Сарокі. *Нъ Съракі́ ку́лікі пяклі́, і дзе́ці е́лі.* Партызаны. *Кулюкі́ пяклі́ сваё рабо́ты з мукі́ пшані́чнае.* Дольдзева.

**КУЛІНАРЭ́Я** *ж.* Кулінарыя. *У кулінарэ́ю прыве́злі ку́ры.* Нямойта.

**КУЛЛЯ́ВЫ** *прым.* Кульгавы. *Та́я кулля́вая Со́нька, крыва́я нага́ ў яе́.* Вялікі Азярэцк.

**КУЛУПА́ЦЦА** *незак.* Корпацца. *Прые́дзіць ён і бу́дзіць кулупа́цца і кулупа́цца.* Багданава.

**КУЛУПА́ЦЬ** *незак.* Марудна вышываць. *Тро́ху кулупа́ла хрэ́сцікам па канве́.* Запруддзе.

**КУЛЬ** *м.* 1. Сноп адборнай саломы. *Сало́му трасу́ць нъ кулі́, кулі́ трасу́ць.* Каралевічы. *Куля́мі кры́лі, і стая́ла крэ́пка ха́та.* Запруддзе. *Малаці́лі цэпа́мі,*

*кульмі траслі. Пóслі вайны́ пластáмі саламя́нымі кры́лі, кулёў ні было́.* Леснікова. 2. Вялікі сноп трасты лёну. *Куль лёну як падымáіш яго́, а ён яшчэ́ ня вы́ліжыцца. Як пъдъмáюць лён, то вя́жуць у пърáдъшныя кулі.* Вялікі Азярэцк. *Вя́жам у кулі лён.* Карпавічы. *Назбірáю, звяжу́ кулі і скіну.* Партызаны, Серкуці. *Бáбачкі вя́жам у кулі. Рукáмі кулі вытрасáлі, тады́ кры́юць пад шчóтку.* Закур'е.

**КУЛЬГА́ВЫ** *прым.* Кульгавы. *Кульгáвы, прыхрáмваець.* Гарадзец. *Кульгáвы, а бóлій-мéній і прóйдзіць скóлькі там нáда.* Багданава.

**КУЛЬГА́ЦЬ** *незак.* Кульгаць. *Іду́, кульгáю, ну, тады́ нéміц кáжыць: варóчайся. Інá шла, усё кульгáла.* Леснікова. *Кульгáіць з нагóй, усі нóгі чóрныя.* Запруддзе. *Тáя бáба кульгáіць.* Гарадзец. *Нагá баліць, кульгáю.* Фасаўшчына, Багданава.

**КУЛЬГІ́К-КУЛЬГІ́К** *выкл.* Ісці кульгаючы. *Самá, дрáжнючы яго́, кульгік-кульгік.* Нямойта.

**КУЛЬДА́ЦЦА** *незак.* Кульгаць. *Ён жа малéнькі кульдáецца, нъгá яго́ прáвъя шлóпъіць. У яго́ пілъй парэ́ззъна жы́ліна, падрэ́ззъна «Дру́жбъй»* [бензапілой]. Запруддзе.

**КУЛЬДА́ЦЦА** *незак.* Куляцца, перакульвацца. *Як пéршы гром, кульдáюцца тры разы́. Кульдáцца нáда іці на лух.* Запруддзе.

**КУЛЬДЫ́К-КУЛЬДЫ́К** *выкл.* Вагацца. *Кульды́к-кульды́к бля́ха, а кры́са блясь з бля́хі. Смалля́нкі бля́ху кульды́к-кульды́к – і брэсь.* Парэчча.

**КУЛЬКО́М** *прысл.* Кулём. *Ён кулькóм з пéчы зваліўся.* Нямойта.

**КУЛЬ-КУЛЬ-КУЛЬ** *выкл.* Выгукі, якімі падзываюць індыкоў. *Куль-куль-куль дамóй. Бальшэ́я растýць індзюкі.* Жохава.

**КУЛЬМАНЫ́, КУЛЬМА́НЫ** *толькі мн.* Гулянне, складчына. *Кульманы́ абó склáтчына звáлі.* Дольдзева. *Як дажынáюць жы́та, кульманы́ дзéлаюць* [гулянне], *баранá вáруць, гарэ́лку п'юць. А днём як прыду́маім, кульмáны здзéлаць.* Запруддзе.

**КУЛЬНУ́ЦЦА** *зак.* Упасці, паваліцца. *Кульнýўся гълавóй.* Фасаўшчына. *Конь атпрóгсі – малады́ туды́ кульнýўсі, а янá туды́, дык скóра ён і памёр.* Багданава. КУЛІ́К. Імгненна перакуліцца, паваліцца. *І свінéй білі даўбéшкай. Зачапілі, дзёрнулі, ён* [кабан] *– кулік, і завалілі.* Жохава.

**КУЛЬНУ́ЦЬ** *зак.* Кульнуць, перавярнуць. *Вілкамі кульнýла вóжыка.* Міцюкова.

**КУЛЬТУ́РА** *ж.* Расліна, якая разводзіцца, вырошчваецца. *Зáсікі ў клéці. На кóжную культýру сваё.* Фасаўшчына.

**КУ́ЛЯ** *ж.* 1. Куля. *Ку́ля пáлец рассéкла, раздрабіла косць.* Леснікова. 2. Шар, прадмет круглай формы для гульні. *Ку́лю късчáлі старыкі на прáзнікі. С пáлкамі, davручкáмі гóнюць аш у другýю дзярэ́ўню. Ку́ля былá, як мяч. Патóм ігры́шча, мýзыка.* Дольдзева. *Кулі качáлі, шары́ такія на далóню. Нас грýпа, чалавéк дзéсяць-пітнáццаць, і другáя грýпа стóлькі. Аднá грýпа – мы за лішка, а другáя – мы за цы́та. Вы́круціць пятóй я́мку мéтраў на дзéсяць, і кóжная грýпа качáіць свой шар. Як адзін пападзéць, то лішка, а ек два – то цы́та.* [У гульні ўдзельнічаюць дзве групы мужчын, што гоняць мячык, зроблены з дрэва, у бок праціўніка. Гоняць на доўгую адлегласць. Кулю качалі старыя мужчыны на святы]. Вялікі Азярэцк.

**КУЛЯВЫ́, КУЛЮВЫ́, КУЛІВЫ́, КУЛЕВЫ́** *прым.* Кулявы (пра салому). *Кры́шу кры́лі салóмай кулявóй, аржанóй.* Міцюкова. *Плялі с салóмы кулявэ́й лýпкі.* Нямойта. *Лýпкі плялі з лазы́ і кулявэ́я салóмы* [круглыя]. Запруддзе. *Салóма кулювáя дýжа тóўста, нямóжна крыць хáту.* Дольдзева. *Кулівáя салóма былá. Кулівáя салóма – з кулéй брáлі. Жы́та нáда аббіць, тады́ вы́трасці – і з яé плялі.* Багданава. *Кулевáя салóма кры́шы крыць.* Дольдзева.

**КУЛЯ́ЦЦА** *незак.* 1. Перакульвацца праз галаву. *Як тóлькі пéрвы гром пачýюць, то куля́ліся дзéці, сем рас нáда былó.* Карпавічы. *Як пабегýць карóвы, ня мóжна ўпрáвіцца, бяжыш за імі: і куля́іся, і валя́іся.* Партызаны. *Дзéці куля́лісі абы-калі. Куля́ліся, як гром ціръс гълавý, я съмá куля́лъся.* Гарадзец. *Занавéску к бóку – яны́* [смалянкі, пацукі] *куля́юцца на шнюркý.* Нямойта, Розмыслава. 2. Хадзіць з цяжкасцю, перавальваючыся з нагі на нагу. *Куля́іцца трóху, хóдзіць. Апóхлі нóгі і жавóт, нóгі, як калóды, ідý – куля́юся.* Запруддзе. *Куля́іцца, як вýтка, ідзéць, нагá за нагý піракýльваецца.* Вялікі Азярэцк. *Куля́ецца, як вýтка, – віх-віх.* Міцюкова.

**КУЛЯ́ЦЬ** *незак.* Пераварочваць, перакульваць. *Куля́юць кýрыцу ат кýту да парóгу: мéруць, на што пяéць, пападáець гълавá на парóг – атсякáюць гълавý, а калі хвост – то хвост.* Латыгаль. *Куля́юць кýру ат кýту, пападзéцца хвост – хвост атсікáюць, гълавá – гълавý атсікáюць.* Партызаны. *Цяпéр казóй мéруць, куля́юць яé і мéруць.* Фасаўшчына.

**КУМА́** *ж.* Хросная маці; кума. *Пайшлá ў Прывéтак да кумы́, сéялі бýльбу.* Партызаны. *Кумá мая́ ляжáла ў бальніцы.* Нямойта.

□ *Галóднай кумé хлеб на ўме.* Вялікі Азярэцк.

**КУМКУВА́СЦЕНЬКІ, КУМКУВА́СЦІНЬКІ** *прым. памянш.-ласк.* 1. Суквецісты. *Крáскі івáна гулувá нъ лугý* [растуць], *у іх кумкувáсцінькъя гулувá.* Гарадок. 2. З сукаленцамі. *Кумкувáсценькая лъзá.* Каралевічы.

**КУМПА́НІЯ, КУНПА́НІЯ** *ж.* Кампанія. *Кумпáнія піць ёсць.* Каралевічы. *Дзе кумпáнія, ён ня ідзéць.* Дольдзева. *Катóры ў кунпáніі харóшы, ямý ш усё ідзёць, ямý прáма цаны́ німá.* Вялікі Азярэцк. *Сніць бýльбу къпáць – кунпáнія бýдзіць* (павер'е). Ракаў Засценак.

**КУМПЯ́К, КУМПЮ́К, КУНПЯ́К** *м.* Кумпяк. *Зáдні – кумпя́к, а пярэ́дняя – лъпáтка.* Фасаўшчына. *У кагó óкаракі, а ў нас кумпякí.* Дольдзева. *Хто лóжыць на дно дзéшкі адны́ кумпякí, засы́паныя сóллю.* Міцюкова. *Сóллю сы́пюць і падвéшваюць кумпякí. Кунпякí салілі, падвéшывалі, на двор правéтрываюць.* Вялікі Азярэцк. *Біс касцéй мя́са вары́лі, ат кумпюкá адрэ́жуць мякóць для цэ́рквы* [на Вялікдзень]. Карпавічы. *Ат кумпюкá крóшачэк нарэ́жэць і кідалі ў пóліўку.* Партызаны. *Кунпя́к – што палýччы мя́са.* Запруддзе. *І кунпякí, і кілбáсы – усé забрáлі, асталáся глáдка з дзяцьмí.* Цясішча. КУМПЯЧО́К *памянш. Кумпячóк аднамý, другóму – усé пааддаю́.* Запруддзе.

**КУМЧА́СТЫ** *прым.* Бугрысты. *Смаршкí кумчáстыя, караватыя, а страчкí ні ядýць.* Нямойта.

**КУНІ́ЦА, АКУНІ́ЦА** *ж.* Куніца. *Кунíца тóжа мáленькая, такóга цвéта, як вавёрка, шэ́рая. Акунíца ў лéсі вóдзіцца.* Багданава.

**КУНЯ́ЦЬ** *незак.* Бубнець, буркатаць. *Урóчлівы, врэ́дны ён, бýдзе куня́ць і знóўдаць.* Манголія.

**КУ́ПА** *ж.* Купіна. *Па кýпах чóнбар рос.* Багданава.

**КУ́ПАЛ, КУ́МПАЛ, КУ́МПАН** *м.* Купал. *Кýмпан* [з царквы] *лез знімáць чалавéк з Галавачóў. Усё с кýмпаламі цэ́ркві. На пяць этажóў кýмпал. Срáзу шыры, кругóм свéчкі гърáць, патóм вýжай, кругóм свéчкі гърáць, патóм яшчэ́ вýжай, там свéчкі. А патóм навéрсі бълышáя свічá гары́ць і зъляты́ кýпал. Ну ці ён зъляты́ ці пъзълáчываны, я ні знáю.* Нямойта.

**КУПА́ЛА** *н.* Купалле. *На Купáлу русáлку вадзíлі, палíлі агні ўсякія, і мазýты, і калёсы. Як Купáла, бáба тáя лягýшкай прыкíнецца, учэ́піцца за нагý, насмóк-*

*чыцца мълака́, як ша́пкай здзе́лаецца, кру́глая, як ша́пка, і каро́ва здзе́лаецца нягóднай. На Купа́ла малако́ адбіра́юць у каро́ў.* Партызаны. *Па́люць на Купа́лу кълясó, мазёнкі, нъ жардзі́ну тро́хі пады́муць. На Купа́ла ръса́дзінку вы́рві, ко́рънь атламі́ і біс ко́раня пъсадзі́, і калі́ іна́ бу́дзіць расці́, то за́муш вы́йдзіш* (павер'е). Гарадзец. *Іду́ць, пяю́ць, вянкі́ ўю́ць на Купа́лу, запа́ляць кълясó, ў жы́та по́йдуць, пяю́ць.* Алексінічы. *На Купа́ла пе́сні пе́лі, а перад Купа́ла варажы́лі.* Парэчча. *На Купа́ла запёрлі ў ха́ці, драп – запёрта. Я ў вакно́ вы́лезла, ту́тацька аткры́ла, а з нутры́ запёрта.* Чуцькі. *А Купа́ла бу́дзіць сядзьмо́га ю́ля.* Багданава. *На Купа́ла на́да пъдваро́тніцу атърва́ць, мазёнку ўкрыць, бяро́сты туды́ нъкладу́ць, кап гарэ́ла до́ўга.* Запруддзе. *На Купа́ла бо́чкі смаляны́я палі́лі.* Леснікова. ○ ІВА́Н КУПА́ЛА. Купалле. *На Іва́на Купа́лу ўсё тако́е дзе́лаюць, ка́жуць: купа́ла набі-даку́рыла.* Міцюкова.

□ *На Купа́ла* (*Іва́на Купа́ла*) *ўсё <што здзе́лаў> прапа́ла.* Багданава, Алексінічы, Вялікі Азярэцк, Міцюкова, Мянюцева, Партызаны, Розмыслава, Рэчкі, Самсоны, Чуцькі. □ *У нас сяго́ння* (*за́ўтра*) *Купа́ла, <хто што здзе́лаў>, – усё прапа́ла.* Багданава, Алексінічы, Вялікі Азярэцк, Міцюкова, Партызаны.

**КУПА́ЛА** *ж.* Купальнік (расліна). *Тъка́я тръва́ купа́ла, рвём яе́, кве́тка такі́мі бубе́нчыкамі, на ім пяць ліпясткóў, іна́ тъка́я късма́цінькъя, такі́я кру́чаныя лісто́чкі то́ркалі ў ха́ту, пат столь і варо́жуць: калі́ бу́ду жыць, то распу́сціцца, а памру́ – то ні распу́сціцца.* Ракаў Засценак.

**КУПА́ЛА** *н.* Тое ж. *Купа́ла расло́, і яго́ рва́лі лячы́ць каро́ў, які́я мачы́лісі кро́ўю.* Ракаў Засценак.

**КУПА́ЛІНЫ** *прым.* Купальскі. *Купа́ліна ноч прашла́.* Ульянавічы.

**КУПА́ЛІЦЬ** *незак.* Адзначаць Купалле. *Цэ́лу ноч бу́дзе маладзёш купа́ліць.* Розмыслава. *Купа́ліла ноч, цяпе́р спаць хо́чаш.* Ульянавічы. *На Купа́лля мы хо́дзім купа́лім.* Станюкі, Баравікі.

**КУПА́ЛКА** *ж.* Купальнік (расліна). *Ці вы купа́лкі век не віда́лі, ці вы купа́ла век ні гъня́лі.* Запруддзе.

**КУПА́ЛЛЕ** *н.* Купалле. *На Купа́лле жы́та абніма́лі, ко́лькі ў жме́ню набярэ́ш, счыта́еш: у па́ру ці не ў па́ру. Частако́л абніма́еш.* Міцюкова, Ракаў Засценак.

**КУПА́ЛЬНЫ, КУПА́ЛНЫ** *прым.* Купальскі. *Купа́льную траву́ сабіра́лі, свяці́лі.* Мянюцева. *Ба́бы пяю́ць купа́лныя пе́сні.* Неўгадава. ○ КУПА́ЛЬНЫ (КУПА́ЛНЫ) ІВА́Н. Купалле. *На Купа́льнага Іва́на каму́ згаро́дзіну раскі́неш, каму́ дзве́ры падапрэ́ш, каб ня вы́ляз, пато́м вянкі́ в'юць і кіда́юць на ваду́ – куды́ за́муш по́й-дзеш, а лягу́шка ўско́чыць і пато́піць.* Міцюкова. *На Купа́лнага Іва́на хадзі́лі пе́лі. Ко́мін закрыва́лі, бо́чкі смаляны́я палі́лі.* Леснікова.

**КУПА́ЦЦА** *незак.* 1. Купацца (у вадзе). *Ілля́ ўці́снула ў во́зіра лідня́, тады́ ўжо ні купа́юцца.* Запруддзе. *Ілля́ (Лля) укі́нець лідня́ – ніхто́ ні далжо́н купа́цца. Му́сіць, два́ццъць шо́стъга ма́я піраплáўніца – пачына́юць купа́цца.* Малы Азярэцк. *Як про́йдзіць свя́та піраплáўніца, – мо́жна купа́цца, гэ́та, къза́лі, Бох піраплыве́ць.* Дольдзева. *Да Ллі мо́жна купа́цца.* Ракаў Засценак. *У жысь ні купа́юсь у во́зіры заку́рскім* [бо тапілася і баюся]. Закур'е. 2. Грэбціся ў пяску (пра курэй). *Купа́юцца ў пяску́ ку́ры – дождж бу́дзіць* (прыкмета). Гарадзец. *Калі́ ку́ры ў пяску́ купа́юцца – цёпла, паго́да* (прыкмета). Дольдзева. *Яны́* [куры] *лю́бяць у пяску́ купа́цца.* Фасаўшчына. 3. *перан.* Часта плакаць. *Што дзе́ці – ра́дуюся, а так у слізах купа́юся.* Баравікі.

**КУПА́ЦЬ** *незак.* Купаць, мыць. *А купала іна́ іх* [дзяцей] *два разы́ па дні, ра́на й ве́чар, каб спа́лі.* Заазер'е.

**КУ́ПАЦЬКА** *ж.* Невялікая колькасць, крыху, трошкі. *Не́йка ку́пацька са́хару была́.* Запруддзе.

**КУ́П'Е, КУ́П'Я** *н. зб.* Купіны. *Ку́п'я на бало́це по́ўна. Ку́п'я там, чо́нбар паху́чы.* Багданава. *Ку́п'я, кусты́, ву́ткі вылята́юць.* Ульянавічы. *На ку́п'і, у ку́п'і рваў.* Гарадзец. *Ку́піны, ку́п'е – асака́ расла́ там.* Заазер'е. *Ку́п'я стаіць у бало́ці.* Гарадок.

**КУ́ПЕНКА** *ж.* Купіна. *У со́сніку, які мо́хам зва́лся, ку́пенкі такія былі, жураві́ны раслі.* Багданава.

**КУПЕ́Ц** *м.* Купец. *Купцо́ў німа́ на ха́ту, цяпе́р казённыя.* Вялікі Азярэцк. *Купе́ц – ён пръдае́ць.* Нямойта.

**КУ́ПІНА** *ж.* 1. Купіна. *Ку́піны па бало́це, па іх журавіны.* Багданава. *Пасяро́д вады́ ку́піна высо́кая.* Ульянавічы. *На ку́пінах чабо́р.* Нямойта. 2. Няроўнасць, бугор. *Ку́піны пілачкай зрэ́жам.* Баравікі.

**КУ́ПІЦЦА** *зак.* Будзе купленым. *Ко́лькі іх яе́ц тых на́да – дзіся́так ку́пічча.* Нямойта.

**КУПІ́ЦЬ** *зак.* Купіць. *Тры нні наза́т купіла чаты́ры парасёнкі, ды яны́ до́рагі.* Турава. *Пърасёнъчка купіла, ву́тъчак, піскліня́тък.* Кішуроўшчына. *Купі́ў ръсса́ды і нъсадзі́ў капу́сты.* Жохава. *Ма́ліц купі́ў у О́ршы за тры́ццъць пяць рублёй аўча́рку.* Міцюкова.

**КУ́ПКА** *ж.* Група людзей. *Пірасы́паліся лю́дзі на гру́пкі, так і сідзя́ць ку́пкамі.* Серкуці.

**КУПКУВА́СЦІНЬКІ** *прым. памянш.* Які мае акруглую форму. *Ма́льчыкавъя трава́ ат нашні́ц, сінінькая, нападо́біі васількоў, цвет бо́льшы, така́я купя́нінькая, цвяты́ цвіту́ць, як юргіні, купкува́сцінькія.* Багданава.

**КУПЛЁНЫ, КУ́ПЛІНЫ** *дзеепрым.* 1. Куплёны. *Куплёны въратнік прышыва́юць.* Буй. *Любу́ю вы́разку ці этажэ́рачку для кні́жък здзе́лае, лу́чша куплёнай.* Багданава. *Ку́пліная ге́та зімля́.* Серкуці. *Дзівяці́ хъзя́йнуў ку́пліный лес Саро́ка.* Міцюкова. 2. *н.* Крамнае, не сваё. *Ра́ньшы ні куплёное у́сё было́, самадзе́льно.* Гарадзец. *Куплёнага не зна́лі – усё сваё было́.* Закур'е.

**КУПЛЯ́ЦЬ** *незак.* Купляць. *Дык на́шы зямлю́ купля́лі ў па́на.* Рэчкі. *Я у́сё с пе́нсіі сабе́ купля́ю.* Багданава.

**КУПО́Н** *м.* Устаўка з тканіны са спецыяльнай аддзелкай. *Купо́н называ́лі* [для кофты], *вы́шытыя на грудзя́х, у рукува́х.* Фасаўшчына.

**КУПЯ́НЫ** *прым.* Які расце купкай, мае форму купіны. *Бу́льба была́ купя́ная, красі́вая, а счарне́ла – маро́з даў.* Партызаны. КУПЯ́НІНЬКІ *памянш. Іна́* [кветка] *тъка́я купя́нінькая, як юргі́н.* Багданава.

**КУ́РА** *ж.*, **КУ́РЫ** *мн.* Курыца, куры. *Ку́ра пяе́ць – на яку́ю бяду́.* Латыгаль. *Было́ хо́ладна, пане́сла куро́м.* Вялікі Азярэцк. *Калі нагу́ падня́лі ку́ры – хало́дна* (прыкмета). Дольдзева. *Ку́ры ва сне – забо́та, яі́чкі бі́тые – убы́ткі, харо́шые – пры́быль* (павер'е). Каралевічы. *Сня́цца ку́ры – кло́пъты бу́дуць, я́йцы цэ́лыя – хърашо́, а бі́тыя я́йцы, то у́шчэрп* (павер'е). Ракаў Засценак. *Не́мец пале́с зъ курмі́ пат печ.* Закур'е. КУ́РКА *памянш.-ласк. Ты на адну́ ду́шу со́рак ку́рак дзержы́ш.* Каралевічы. *Хоць ку́рку яку́ю сваю́ ма́еш.* Цясішча. *Заганя́й ку́рак у хлеў. Ат сваі́х ку́рак яі́ц лю́біць.* Багданава. *Чо́рненькіе купіла ку́ркі, як галаве́шкі.* Чуцькі. КУ́РАЧКА *памянш.-ласк. Ку́ръчък заву́ць пыль-пыль-пыль.* Запруддзе. *Пяць ку́рачак, а то у́сё*

*петухі.* Партызаны. *Ку́рачкі ў нас ёсь, мясістыя, то́ўсценькія.* Старая Беліца. ◊ КУРА́М НА СМЕХ. Зрабіць што-н. недарэчна, дрэнна. *Што ні зро́біць – кура́м на смех.* Запруддзе. ◊ КУ́РЫ КАЛО́ДЗЕШ АБЯРНУ́ЛІ. Пра адсутнасць вады ў калодзежы. *Ку́ры кало́дзеш абярну́лі – няма́ вады́ ў кало́дзежы.* Вялікі Азярэцк.

**КУРА́ЖЫЦЦА** *незак.* Жаліцца. *Кура́жыўся дні тры, што не́шта яму́ балі́ць.* Партызаны.

**КУРА́К, КУРА́Ч, КУ́РАЧ** *м.*, **КУРАКІ́** *мн.* Пятля ў лапцях, куды зацягваліся аборы. *Глухі́ кура́к есь у ла́пцёх, я яго́ ні закладу́.* Кляпчэва. *У ла́пцях адзіна́ццъць куракоў.* Нямойта. *У ла́пцях з лазы́ такія плятуць куракі́.* Заазер'е. *Яно́ ўця́гвалася ў куракі́, кругом, хрэст-на́хрэст і пашо́л.* Багданава, Алексінічы. *Куракі́, каб дзяржа́ліся ла́пці.* Дуброўкі. *У ла́пці ку́рач, за ку́рач цъпля́юцца.* Багданава.

**КУРАПА́ТА, КАРПА́ТА** *ж.* Курапатка. *Курапа́ты, цецерукі́, ву́ткі вадзі́ліся, лес быў бальшо́й, усё раскарчава́лі. Курапа́таў шэ́рых ма́ла ста́ла.* Дуброўкі. *Дъ вайны́ ў За́пъднюй былі́ къльра́дзкія жукі́, а кърпа́ты іх зьністо́жылі.* Сянно.

**КУРАПА́ТКА, КУРУПА́ТКА, КУРПА́ТКА** *ж.* Тое ж. *Курапа́ткі я́йцы е́лі. Курпа́тка жукоў* [каларадскіх] *есь.* Ульянавічы. *Курапа́ткі ёсь і цяпе́р. Курупа́тку ма́ла сустрэ́ніш.* Багданава. *На ахо́ту хо́дзюць за курапа́ткамі.* Розмыслава, Дуброўкі. *Курупа́ткі пайіда́юць жукоў.* Апечкі. *Курупа́ткі ло́вюць, яны́ пале́зные, ёсь цяпе́р, але́ рэ́дка.* Цясішча. *Нъ курпа́тък ахо́цілісі паны́ кру́глый гот* [у Белавежскай пушчы]. Сянно.

**КУРА́ПАЎКА** *ж.* Вялікая жаба. *У кура́паўкі во́чы бальшы́я, яны́ нъ людзе́й бръса́лісі.* Нямойта. *Кура́паўка за мной галёпам-галёпам, а я яе́ сярпо́м пърну́ла.* Вялікі Азярэцк.

**КУРАСЛЕ́П** *м.* Кураслеп (расліна). *Курасле́п бе́лым цвіці́ць.* Гарадзец. *Курасле́п бе́лы, зялёнае лісце ла́пачкамі, на́да знаць, што с ім дзе́лаць.* Каралі.

**КУРАСПЕ́ЛКА, КУРУСПЕ́ЛКА, КУРАСПЕ́ЙКА** *ж.* 1. Ранні сорт бульбы, скараспелка. *У нас ёсь «кураспе́лка», «сне́шка», «старт» – бу́льба.* Баравікі, Жохава. *Плаха́я бу́льба куруспе́лка, зва́рыш – ні разва́рваецца.* Запруддзе. *Кураспе́йка была́, а бе́лая прапа́ла.* Неўгадава. 2. Ранні сорт любой агародніны. *Кураспе́лка не́йкая плаха́я. Ра́нняя капу́ста, кураспе́лка, расце́ць і раска́пліваецца, здзе́лаецца як дру́злая, во́сеньская – харо́шая. Кураспе́лкі паса́дзіш* [раннія гуркі]. Запруддзе. *Больш ча́сці кураспе́лка была́ ў мяне́, лу́ччы ро́дзіць.* Ракаў Засценак. *Кураспе́лка вы́шы пъдніла́ся* [а астатняя яшчэ малая ростам]. Вялікі Азярэцк.

**КУРА́ТНІК** *м.* 1. Куратнік. *Кура́тнік – дзе ку́ры сідзя́ць.* Нямойта. *Кура́тнік у людзе́й лу́ччы, чым я жыву́.* Буй. КУРА́ТНІЧАК *памянш.* *Кура́тнічак на́да сдзе́лаць. Шо́сцікі ў кура́тнічку называ́юцца.* Дольдзева, Заазер'е. 2. *экспр.* Невялікая непрыглядная хатка. *Ба́ню перацягну́ў, ма́тку ў кура́тнік пасадзі́ў.* Розмыслава.

**КУРА́ТНЯ** *ж.* Куратнік. *Ку́ры пайшлі́ на куро́сання ў кура́тню.* Івоні.

**КУРА́ЧЧА** *н. зб.* Петлі ў лапцях, куды зацягваліся аборы. *Кура́чча ў лапця́х, або́ры ўця́гваюць.* Алексінічы. *Кура́чча – або́ры ў лапця́х.* Савінічы.

**КУРА́ШКА** *ж.* Кавалак дрэва, сухія гнілушкі для акурвання пчол дымам. *Кура́шкі, гніллё тако́я сухо́я. Ён з вірбало́сіны драў кура́шкі, іна́ агнём ні гары́ць, а куры́цца.* Кішуроўшчына. *Кура́шкі – лі́па ідзе́ гніла́я, дупло́ ідзе́. Лі́пу лю́бляць.* Вялікі Азярэцк.

**КУРГА́Н** *м.* 1. Узгорак, узвышша. *На канцы́ ні́вы курга́н.* Фасаўшчына. *Курга́н у пра́ваўй стъране́.* Каралі. КУРГАНО́К *памянш.* *На курганок кніга́ўка кла́ла я́йца.*

Дуброўкі. 2. Месца пахавання ў форме старажытнага магільнага насыпу. *Тут тры ці два курганы, тых французаў тут пъхъранілі, звёзлі і пъхъранілі.* Чуцькі. *Ёсь два вісокія, круглыя, французскія курганы лі Нямойты.* Нямойта. *Курганаў было многа французскіх у дзярэўні Спіцы.* Вялікі Азярэцк, Алексінічы. 3. Кучка, горка. *Апенькі па днэй ні растуць, кургунамі.* Гарадок. КАРГАНОК *памянш. Ён сее, як пасоджано, а ў міне къргънкамі.* Багданава.

**КУРДЗЮК** *м.* Выступ у ніжнім бервяне, у замку вугла [нямецкага]. *Курдзюк высікаіцца ў чыстым вуглé.* Баравікі.

**КУР'Ё** *н. зб.* Кураняты. *Кур'ё малоя гэта глядзі, каб ні выпаўзлі на дарогу.* Запруддзе.

**КУРКІ** *мн.* Гаварушкі (грыбы). *Куркі дробныя, жоўцінькія пъд нізом, растуць пу памёту, за мшком.* Партызаны, Сяргейкі. *Куркі нъ гнілым дрэві растуць, мы іх ня бéрым. Яны дробнінькія, жоўцінькія, забоpъчкі къла вершыка звéрху.* Закур'е.

**КУРКУЛЬ** *м.* Заможны, багаты чалавек. *Куркулі зажытачныя, дом у іх, сад, грошы.* Жохава.

**КУР-КУР-КУР** *выкл.* Перадача гукаў квакання жаб. *Там лужына, раншы скуты насіла бяліць, а там лягушкі кур-кур-кур* [я іх баялася]. Запруддзе.

**КУРКУРУЗА** *ж.* Кукуруза. *Каровы харашо ядуць куркурузу.* Запруддзе. *Во ікая куркуруза!* Марозаўка. *Куркурузу садзілі.* Сукрэмна.

**КУРМЕЛЬ** *м.* Пячкур (рыба). *Курмялі бальшыя ні растуць, яны толькі пъ пяску па мелкім.* Нямойта. *Курмель круглінькі, укусны, мяккі.* Багданава. *Жырны, як курмель.* Фасаўшчына. КУРМЯЛЁК *памянш.-ласк. Алé налавіў курмялькоў.* Нямойта. *Курмялёк мякінькі, сыцінькі, па чэцьвірці* [даўжыні]. Багданава.

**КУРНАЦЬ** *незак.* Акунаць. *Дзіця бяруць, вушкі і за носік заціскаюць і ў ваду курнаюць* [стараверы]. Закур'е. КУРНУК. Хутка акунуць. *Дзіця ў ваду курнук* [так хрысцяць дзіця стараверы]. Закур'е.

**КУРНІЦА** *ж.* Вяндлярня. *Гэта была курніца* [дзе капцілі кумпякі]. Баравікі.

**КУРНОСЫ** *прым.* Кірпаты. *Курносы малец.* Багданава. КУРНОСЯНЬКІ *памянш. На шутку з даўгім носам завуць курносянькім.* Нямойта.

**КУРНЫ** *прым.* Курны (пра хату). *Курная хата была, затопіць, коміна ні было, дзвéры атчынеты, усё чорнае: і столь, і печ, і сцены. Іскры ляцяць.* Багданава. *Курныя хаты, дымныя, коміна ні было.* Марозаўка. *Хаты даўнéй з дымам – курныя.* Фасаўшчына. *У гънчара пéчка здаровая, хата курная.* Леснікова, Дольдзева.

**КУРНЯЎКАЦЬ** *незак.* Мяўкаць. *Кот курняўкаіць – каў-каў.* Фасаўшчына.

**КУРОСАДНЯ, КУРУСАДНЯ, КРУСОДНЯ, КРУСАДНЯ, КУРУСОННЯ, КУРОСАННЕ, КУРСОДНЯ, КУРСАДНЯ, КУРСУДНЯ** *ж.* Курасадня, седала. *У хлéві куросадня, я ўсе павымела, павынесла ў гарод.* Леснікова. *Квактуха на курусадні сядзіць.* Запруддзе. *Крусодня – жэрдзіна тъкая, дзе куры сідзяць. І крусадня.* Каралевічы. *А там падзéланы жэрдачкі, тъляцéлі на курсодню куры.* Вялікі Азярэцк. *Як содзюш ціплят, то курсодня. Курусоння – дзе куры садзяцца.* Розмыслава. *Стануць малаціць, яны зажырэўшыя, на куросанне не ўзляціць* [курыца], *унізе сядзе.* Нямойта. *Зарання на курсодня садзіцца курыца. З начы, дзе куры, у курсадні бéла, начынаюць лінаць.* Самсоны. *Як содзіш куру на яічкі утрам, ціпляты заранне на курсудню будуць садзіцца.* Багданава.

**КУРОЧЫЦЬ** *незак.* 1. Правяраць. *Курочуць яé* [бальніцу] *нупувал, знялі глаўуръча.* Сянно. 2. Пераварочваць, калашмаціць. *Прыйшоў паліцай і стаў курочыць, усё браў, што ні пападзéць у рукі.* Нямойта.

**КУ́РТА** *ж.* Кофта. *Ку́рту надзе́ніць і без руба́хі.* Багданава. *Ку́рта адна́ і спаднік адзін быў.* Запруддзе. *Ку́рта свято́шная ў мяне́ была́, сваé рабо́ты.* Буй. *Здзень ку́рту.* Міцюкова.

**КУРТА́ТЫ** *прым.* Бясхвосты. *Курта́тъя събáка.* Фасаўшчына.

**КУ́РТКА** *ж.* Кофта. *Ку́рткі, спадні́цы – усё дзе́лалі са́мі.* Серкуці. *Не́ктрыя гъвары́лі ко́хта, не́ктрыя – ку́ртка.* Леснікова. *Яны́ пъпарэ́залі ма́ткіну ку́ртку, а ку́клу ні далí.* Нямойта.

**КУРУЯ́** *ж.* Курыца з прыкметамі пеўня; гермафрадыт. *Ні пяту́х, ні ку́рыца ў мяне́ адзін раз была́ – куруя́.* Партызаны.

**КУРЧА́ВЫ** *прым.* Кучаравы. *Такéя курча́выя въласы́ ў яé, аж лю́ба гля́нуць.* Партызаны.

**КУРЧО́НАК** *м.* Кураня. *Ні курчо́нка – нічаво́ ні было́, згарэ́ла.* Цясішча. *Прые́хъла – ні курчо́нка, ні пърасёнка!* [была зіму ў дачкі]. Кішуроўшчына, Баравікі. КУРЧО́НАЧАК *памянш.-ласк. Іна́ ні курчо́начка ні дзяржы́ць, ні пърасёнъчка.* Багданава.

**КУ́РЫВА, КУ́РАВА** *н.* Курыва. *А чаго́ мне ку́ръва ні пълажы́лі?* [сказаў у сне нябожчык]. *Кап яко́га ку́рыва пълажы́ць у магілу, кап не здъва́лъся, што хо́дзіць.* Ракаў Засценак.

**КУРЫ́ННЫ** *прым.* Курыны. *Куры́ннъя мя́са прыкла́дъюць ат змей* [у Сібіры]. Леснікова. *Гнязд́о куры́ннае.* Багданава.

**КУ́РЫЦА, КУРЫ́ЦА** *ж.*, **КУ́РЫ** *мн.* Курыца, куры. *Калі́ пяéць ку́рыца, то ста́рые лю́дзі ме́руць ат ку́ту да паро́гу, на што яна́ пяéць. Калі́ пападзéць галаво́й, то атсяка́юць галаву́, калі́ хвасто́м, то атсяка́юць хвост і пуска́юць* (прыкмета). Латыгаль. *На Па́ску, калі́ ку́рыца знясé яйцо́ – няпе́ўнае.* Каралевічы. *Éслі ку́рыца запяéць, то на бяду́, мо́жа і пажа́р быць.* Сукрэмна. *Трэ́ба курэ́й вы́пусціць пъпа́свіць.* Багданава. *Як ку́рыца пяéць, то скаці́на здо́хнець, то сам забалéеш.* Ракаў Засценак, Алексінічы, Буй, Кляпчэва, Нямойта, Фасаўшчына. *У мяне́ адна́ куры́ца, падо́хлі не́шта.* Ульянавічы, Нямойта. *У печ куры́цу ста́рую і мя́са паста́ўлю, то ўсё мя́са аб'éдзіць ат касці́.* Неўгадава. *Панясла́ куро́м, а юшку ні атчыні́ла, і ды́му по́ўна ха́та.* Вялікі Азярэцк. *Тхор есь курэ́й.* Багданава.

□ *Ку́рыца на сваю́ гълаву́, на прычы́ну пяéць.* Запруддзе. □ *На прычы́ну й ку́рыца пе́рніць.* Каралевічы. □ *Цяплёнак ку́рыцу ву́чыць.* Багданава.

**КУРЫ́ЦЦА** *незак.* 1. Курыцца, тлець. *Кура́шка агнём ні гары́ць, а ку́рыцца.* Кішуроўшчына. 2. Удыхаць дым, абкурвацца. *І сядзя́ць у дыму́ і ку́рацца, і здаро́выя ба́бы былí, крэ́пкія.* Багданава.

**КУРЫ́ЦЬ, КУ́РЫЦЬ** *незак.* 1. Курыць. *У нас і сын ня ку́рыць.* Заазер'е. *Ку́руць цяпе́р дзе́ўкі – халéры.* Запруддзе. *Крапі́вы насу́шыш, у лісто́ўку закру́ціш, і куры́лі ў парці́зáнах.* Багданава. *Малады́я ра́ньшы ду́жа і не куры́лі.* Закур'е. 2. Абкурваць дымам. *Ку́рылі дзіця́ траво́й свянцо́най, што свяці́лі на Тро́йцу. На Буі́шчы ёсць ба́бка, з іспу́гу куры́ць і вады́ даéць.* Апечкі. *У ха́це ку́руць свянцо́най траво́й.* Багданава. *Сваі́мі я́блынямі, як падгніюць, баю́ся куры́ць.* Вялікі Азярэцк. 3. Падпальваць, апальваць. *Ку́рылі шэрсць на паро́гі, як спуга́іцца* [дзіцё сабакі] *хто, кап паню́хаць.* Леснікі. *Ро́бюць то́е, што събáку хто апстрыжэ́ць, а тады́ ку́руць шэрсць яго́* [ад пуду]. Запруддзе.

**КУРЭ́МШАЦЬ** *незак.* Замешваць без рошчыны, без дражджэй (?). *І бяз хлéба, і бяз дражжэ́й – курэ́мшаш.* Міцюкова.

**КУРЭ́НДА** *ж.* Размова. *І павёў сваі курэнды паліцáй: твой мужы́к мяне́ рáніў.* Нямойта.

**КУСА́Н** *м.* Недаедзены кавалак хлеба. *Суджóны-рóджаны, прыхадзі ка мне начувáць, памажы́ кусáн даядáць* [пры варажбе]. Каралевічы.

**КУСА́НАК** *м.* Тое ж. *Кусáнък хлéба, ясі ды ні дъясі.* Савінічы. *Дóбра варажы́ць, калі пéрвы раз у хáце і каб там éла, кусáнак вазьмі і каб там начувáць.* Каралевічы. *Кусáнък хлéба ні кідáй, пáміць ціráіш* (павер'е). Нямойта.

**КУСАНУ́ЦЬ** *зак.* Укусіць, уджаліць. *Яны́* [пчолы] *мóгуць кусанýць.* Нямойта.

**КУСА́ЦЦА** *незак.* Кусацца, джаліцца. *Пчóлы кусáюцца на дош* (прыкмета). Запруддзе. *Сляпні да вóсені кусáюцца.* Гарадзец, Нямойта.

**КУСА́ЦЬ** *незак.* Кусаць. *Як яны́ бýдуць хазя́іна кусáць?* Нямойта. *Карóва гікаецца, як кусáюць вадні, сляпні.* Гарадзец.

**КУСА́ЧЫК** *м.* Пярэдні зуб, разец. *Пярэ́днія зýбы – кусáчыкі.* Нямойта.

**КУСЛІ́ВЫ** *прым.* Куслівы. *Вадні днём літáюць і кусáюцца, а сляпні пад вéчар такія куслівыя.* Жохава. КУСЛІ́ВЕНЬКІ *эмац.-ацэн. Вадні, сляпні кусьліввенькіе.* Партызаны.

**КУСНУ́ЦЬ** *зак.* Укусіць. *Я два разы́ куснýла я́блыка.* Каралевічы.

**КУСО́К** *м.* Кусок, луста. *Атрэ́ш хлéба кусóк.* Заазер'е. *Хоць кусóк хлéба нáда даць.* Івоні. КУСО́ЧАК *памянш. Кусóчак сáхару.* Фасаўшчына. *Бýльбы кусóчак, лёну кусóчак, усё там сéюць.* Запруддзе.

**КУСТ** *м.* 1. Куст. *І кусты́ былі – лес.* Запруддзе. *Адзéшка ляжы́ць у кустóх.* Партызаны. *Ідзём нізам да па кустóм.* Алексінічы. *Алéнец у лéсе такімі кустáмі, як смарóдзіна, расцéць. Куст крýглый рос, а там* [у ім] *буль лóгува* [пра ваўкоў]. Багданава. *Ідзéць мужы́к с кустóў.* Міцюкова. *Пат кýстам кýчай сабярýцца і п'юць.* Нямойта. *Кустáмі зъръстáіць бéрiх.* Гарадок. 2. Ягаднік. *У Калóдзісі* [урочышча] *кусты́ дурніц ёсць, а я́гът німá.* Сукрэмна. 3. Корч бульбы з націнай. *Вы́рвала куст бýльбы, а там – нічóга.* Сукрэмна. 4. Кучка. *Апéнькі растýць кустáмі.* Вялікі Азярэцк. *Варýшак куст нашлá.* Неўгадава.

**КУСТАНЫ́** *мн.* Кусты, зараснік. *Былі кустаны́, цяпéр пáшуць там, раскурчувáлі.* Латыгаль.

**КУСТА́РНІК** *м.* Тое ж. *Быў лес, а цяпéр кустáрнікі, я́сені мнóга былó.* Нямойта. *Усё там гóла стаіць, ні кустáрнікаў, нічавó німá.* Запруддзе.

**КУСУГО́Р** *м.* Касагор. *Къла вóзіра кусугóр.* Багданава.

**КУСУ́ЧЫ** *прым.* Кусlівы, кусачы. *Кусýчы такі сьляпéнь.* Гарадзец.

**КУТ** *м.* 1. Покуць. *У хáту нясýць жмéні дзве дабрá і на кýце стáвюць.* Запруддзе. *У хáту няслі пéрвы сноп, на кут стáвілі.* Гарадзец. *Вéшаў вянóк у кýце брыгадзір.* Карпавічы. *Як мы́лі аттýль іс кýта* [падлогу]. *Трэ́ба ў кут мыць палы́, каб ня вы́мыў людзéй* [пакойнік] (павер'е). Вялікі Азярэцк. *Настóлькі пяюць на парóзе бóлей, чым на кýце.* Марозаўка. *Мáма мая́ ляжы́ць на кýце – памёрла.* Галашчакіна. *Як сядзіцé на куцé – пачынáйце* [піць гарэлку]. Ульянавічы. *Прóста на куцé абразы́ вісéлі.* Алексінічы. *Я ні рáзу пад кутóм ні начавáла, харашó пражылá.* Самсоны, Багданава, Кляпчэва, Нямойта, Цясішча. *Дзяцёнка здарóвага брáлі і пускáлі: ідзі, каб жысьць здарóвая былá* (павер'е). *У нóвую хáту ікóну ўнóсілі, клубóчак брасáлі на кут, каб жысьць вілася, як клубóк.* Дуброўкі. 2. Вуглавая частка пашы. *У сáмъй кут зъгнáў карóў!* Гарадок.

**КУТАСЫ́** *мн.* Кутасы. *Хўстка з кутасáмі.* Гарадзец. *Кутасы́ папрышывáла да хўсткі.* Каралі. *Сучы́ла кутасы́.* Вялікі Азярэцк. КУТÁСІКІ *памянш. Паясы́ плялі с шэ́рсці, кутáсікі дзе́лалі.* Заазер'е.

**КЎТНІК** *м.* Кутнік, кутні зуб. *Кўтнікі сáмі вы́палі.* Нямойта.

**КУТО́К** *м.* 1. Куток, вугал. *Зъвярнўся я ў кутóк / І тры чáрачкі ў ратóк* (з песні). Каралевічы. *Въражбітка скъзáла, што конь у дзярэ́ўні, у цёмным куткў* [яго схавалі зладзеі]. Міцюкова. *Усé пу куткáх сідзя́ць* [пра спецыялістаў]. Багданава. 2. Уласная хата. *Мужы́к памёр, дык інá хадзіла, кап ёй далі кутóк.* Мянюцева. *Я са свайгó куткá нікудá.* Дуброўкі.

**КУТУВЫ́** *прым.* Кутні. *Кутувáя, на куцé кладзе́цца манéта.* Багданава.

**КЎТЫ** *прым.* Абабіты палосамі жалеза. *Каткі былі кўтыя.* Серкуці.

**КУЎЗЕ́ЛЬ** *м.* Каток на лёдзе. *За дзень лáпці саб'ю куўзялём.* Алексінічы.

**КУЎТУНУВÁТЫ** *прым.* Хворы на каўтун. *Куўтунувáты быў, абстры́глі, то умá лішы́ўся* [нельга абстрыгаць каўтун]. Нямойта.

**КУФÁЙКА, КУХÁЙКА** *ж.* Фуфайка. *Шчўка вялікая ў куфáйцы ляжы́ць.* Багданава. *У куфáйцы грóшы нóсіць.* Нямойта. *Сáмі панадзе́лі кухáйкі.* Серкуці.

**КЎФІЛЬ** *м.* Куфель. *Кўфіль – éта крўшка с гліны.* Манголія.

**КУФЭ́РАК** *м. памянш.* Невялічкі куфар, куфэрак. *Куфэ́рак нібальшэ́нькі для йгóлак, нітак.* Багданава.

**КЎХАН** *м.* Здобнае печыва. *Кўхън звáўся, як пячэ́нне, інá мне далá адзін. Інá ўзялá два кўхъны.* Нямойта. *Пря́ннік кўкалкъй, кўхъны звáлі, салóткія, рассыпáюцца.* Фасаўшчына. *Вязўць канфéты, кўханы, бърáнкі с Сіннá ў Уллянавічы.* Заазер'е. *Сьпяклі, кáжуць, кўхан.* Буй.

**КУХÁРКА** *ж.* Кухарка. □ *Пакá хазя́йкі ў гўпкі, дак у кухáркі ў дўпкі.* Міцюкова.

**КУХÁРНІЧАЦЬ** *незак.* Кухарыць, гатаваць стравы. *Кухáрка кухáрнічала, ядў вары́ла.* Запруддзе.

**КЎХЛІК** *м.* Гарлач. *Кўхлік – éта такі гърлáчык, хто мълакó, хто на пóля вадў браў, як жаць хадзіў.* Алексінічы.

**КУЦЎПАЛКА** *ж.* Кукса, астатак пакалечанай рукі. *Куцўпалка вісіць у ягó.* Гарадзец.

**КУЦЦЯ́** *ж.* 1. Любая крупяная каша ці каша з бобам. *Куццю вары́лі с крупы́.* Дольдзева. *Рáньшы ні кáша, а куцця́ звáлі. Куцця́ былá з бóбам.* Вялікі Азярэцк. *Куц'я́ ў іх, кáша, пóліўка, крупéня.* Карпавічы. 2. Назва абрадавай стравы, прыгатаванай з ячных круп. *Бáба вары́ла куццю з ячмянны́х круп, на Кълядў куццю вары́лі.* Дольдзева. 3. Адвараная пшаніца з мёдам. *Куцця́ – чы́ста выбірáюць пшаніцу, кіпіця́ць яé, ні да гатóўнасці, із мёдам развóдзюць.* Карпавічы. 4. Абрадавая ежа на памінках. *Куцця́ нъ памінкъх.* Савінічы. *Хто з бърáнкі дзе́лъіць ці з мукі куццю.* Малы Азярэцк. *Куццю ядўць, як жалóбны стол. У нас гэ́дак.* Закур'е.

**КЎЧА** *ж.* 1. Крушня, куча камення. *Кáмні зьбірáлі і ў кўчы ськідáлі.* Кішуроўшчына. КЎЧКА *памянш.* 1. Невялікая колькасць чаго-н. *Жмéню рóўненька складáюць у кўчку і зьвя́зываюць.* Вялікі Азярэцк. *Пъкъчáім гарóх у кўчкі.* Каралі. *Варўшкі кўчкамі растўць, мáлінькія, жóўцінькія.* Нямойта. 2. Невялікая група людзей. *Паліцáі ідўць такімі кўчкамі, ацэ́пюць дзярэ́ўню.* Чуцькі. 2. Пра асаблівасць трымання ног касалапым чалавекам: калені знаходзяцца побач. *У ягó нóгі ў кўчу, кашалáпы ён.* Буй.

**КУ́ЧАР** *м.* Фурман. *Мой дзет рабо́таў у па́на ку́чърам.* Рэчкі.

**КУ́ЧАЧКА** *ж.* Малая ўкладка з пяці снапоў; бабка. *У ку́чачку ста́вілі снапо́ў пяць.* Рэчкі.

**КУЧУРА́ВЫ**, **КУЧУРА́ВЫЙ** *прым.* Кучаравы. *Такі́ кучура́вы, бальшэ́й.* Алексінічы. *О, Со́нін ма́ліц кучура́вый.* Закур'е.

**КУШМЭ́Р** *м.* Плецены кош для гаспадарчых патрэб. *Кушмэ́р быў цэ́лы ры́бы, мно́га, аш кішы́ць.* Нямойта.

**КУШУМІ́РКА** *ж.* Кашаміравая хустка. *Дзьве ху́сткі кушумі́ркі на сьмерць астаўля́ю.* Леснікова.

**КУШЫ́Н** *м.* Збан. *Зьдзе́ланы з глі́ны кушы́ны.* Буй.

**КХЫ-КХЫ-КХЫ** *выкл.* Перадача гукаў кашляння. *Ляжы́м. Аткры́лъся ха́та і кхы-кхы, сеў за стол, узя́ў буты́лку, сядзі́м за сто́лъм, паеў і пашо́ў* [апавяданне пра здань, як прыходзіў памерлы бацька]. Ракаў Засценак.

**КЫР-КЫР-КЫР** *выкл.* Перадача гукаў хады чорта. *Сплю на се́ні. Чу́ю па бэ́лькі кыр-кыр. Я тады́ крэ́пък быў. Як хваціў яго́* [чорта] *за хвост і ап шу́лу дубо́вую! І забіў* (з казкі). Сянно.

**КЫР-КЫР-КЫР** *выкл.* Перадача гукаў паколвання пры болях у плячы. *Кыр-кыр – рука́ балі́ць у плячы́.* Леснікова.

**ЛАБА́ТКА** *ж.* Бязрогая карова. *Лаба́тка – е́та каро́ва біз рох. Лаба́тка – без рог каро́ва.* Парэчча. *Лъба́тка бязро́гъя.* Запруддзе, Міцюкова.

**ЛАБАТРА́С** *м.* Гультай, лодар. *Лабатра́с, рабо́таць ні хо́чыць.* Багданава.

**ЛАБА́ТЫ** *прым.* Бязрогі. *Іна́* [карова] *без рох, іна́ лъба́тъя.* Рассвет. *Лъба́тая каро́ва – без рагоў. Быва́іць каро́ва лъба́тыя, нет рох.* Фасаўшчына. *Цялу́шачку радзіла лаба́тую каро́ва.* Гарадзец.

**ЛАБЯ́ЦІНА** *ж.* Лабаціна. *Калі́ дась вусва́ ў лъбя́ціну, і ґузёл там.* Багданава.

**ЛА́ВА** *ж.* Шырокая дошка на ножках для сядзення; лава. *Ла́ва ў ха́ці длі́нная стаі́ць.* Запруддзе. ЛА́ВАЧКА *памянш. Паста́віць пасу́ду на ла́вачку.* Рэчкі.

**ЛА́ВАЧНЫ**, **ЛА́ВАШНЫ** *прым.* Крамны, не свайго вырабу. *Ла́вачнага ні было́ нічаво́.* Цясішча. *Усё ручно́е: і ніз, і верх, ні було́ ла́вашнага.* Багданава.

**ЛАВІ́ЦЬ** *незак.* Лавіць, браць сілай, затрымліваць. *Хадзілі па по́лю лаві́лі, адну́ жанчы́ну забілі.* Леснікова. *Хто бу́дзіць лаві́ць?* Запруддзе.

**ЛА́ГА** *ж.* Брус, на які насцілаецца падлога, памост; падваліна. *Пол кладзе́цца на ла́гі.* Запруддзе.

**ЛА́ГА** *ж.* Лагчына, нізкае месца, нізіна. *Ла́га така́я: грэ́чку се́ялі, пчала́м было́ дзе е́сьці.* Нямойта.

**ЛАГО́ДНАСЦЬ** *ж.* ◊ НЕ Ў ЛАГО́ДНАСЦІ. У дрэнных, нацягнутых адносінах. *З нявесткай ду́жа не ў лаго́днасці жыла́.* Нямойта.

**ЛАГО́ЖЫ**, **ЛАҐО́ЖЫ** *толькі мн.* 1. Сані-развалкі, прызначаныя для перавозкі грузаў. *Не́ік даўно́-даўно́, с аднаасо́бнага хъзя́йства лаго́жы для се́на былі́.* Карпавічы. *Лаго́жы – калі́ се́на вазі́лі, е́та распо́ркі. Лаґо́жы – е́та са́нкі, што́бы раско́шный е́хаць, здзе́ланы такі́я лаґо́жы, вяро́ўкай пірабарта́юць.* Сукрэмна. 2. Рама для саней, воза. *Лаго́жы к са́нкам: са́нкі, а наве́рх такі́я па́лкі, кап шы́ры. Лаго́жы нъ са́нках, на лаго́жы кладу́ць, лаго́жы раскладны́я, кап шырэ́й было́.* Нямойта. *Лаго́жы ў са́нках дзе́лалі, кап шырэ́й былі́.* Алексінічы, Міцюкова.

**ЛАГУНЕ́Ц** *м.* Ястрабок парасоністы, манец (расліна). *Лагунéц – кькáя-та травá есь.* Багданава.

**ЛАД, ЛАТ** *м.* 1. Лад, згода. *Той, дзе не лад камý ў дóму, прыяжджáюць сюды́, засяляюць пусты́я дамы́.* Леснікова. 2. Спосаб, манера. *Кап лат такі быў, білі так, ужó здáліку чýем, як малóцяць.* Нямойта. *На мъладзьбé я ўзілá і лат спóрціла, а мълацілі ў чаты́ры цапы́* [то бацька цэпам па спіне ўдарыў]. Багданава. ◊ ЛАТ У ЛАТ. Зладжана, у такт. *Лат у лат цапáмі выхадзіла. Хто сабé цяшка мълацíць нáда ў лат.* Фасаўшчына. ◊ ЛАД ВЕ́СЦІ. Задаваць тон, рытм пры ручной малацьбе. *Тáта, а-ё, я што табé вы́б'ю? – Ты хоць лад вядзí, лéхчы малацíць.* Розмыслава. *Лат маглá вéсці ў чаты́ры цапы́, у тры. Лат маглá вéсьці, як малацíць.* Серкуці. *Кувáль мълатóчкъм лат вядзéць, а той мъльтабóіц лýпіць су ўсіх парóў.* Запруддзе. ◊ НІ ЛА́ДУ НІ СКЛА́ДУ. Бесталкова, бязладна (гаварыць). *Ні лáду ні склáду гавóрка.* Запруддзе. ◊ НА СВОЙ ЛАТ. На свой манер. *Я ішóў, а ён з панталы́ку зьбіў, на свой лат зьбіў.* Гарадзец.

□ *Ні склáду ні лáду – цалýй събáку ззáду.* Каралевічы.

**ЛА́ДЗІЦЦА** *незак.* 1. Рыхтавацца, збірацца. *Лáдзься, мáма, на свáдзьбу.* Каралевічы. *Свякрóў памёрла, як к святу лáдзілыся.* Гарадок. *Чълавéк к вясéллю лáдзіўся.* Запруддзе. *Я папамы́ла ўсё, лáджуся к смéрці.* Вялікі Азярэцк. *К ёлкі лáдзіліся – ямý лáпці трэ́ба былí.* Нямойта. 2. Наважвацца што-н. зрабіць, прымервацца. *Перадóк пастáўлю, на кравáць лáджуся, лáджуся – чуць узлéзу.* Гарадзец. *Лáджуся папрóбаваць навýшнік на адбалéлъя вýха.* Закур'е.

**ЛА́ДЗІЦЬ** *незак.* 1. Рамантаваць. *Дзень éздзіць, два – лáдзіць éту машы́ну.* Малы Азярэцк. *Шóрнік – éта што хамуты́ пачынялі, сядзёлкі лáдзілі.* Леснікова. *І хамуты́ лáдзіць і шы́іць.* Сукрэмна. *Пячкýр лáдзіць, кап печ ні дымíла.* Міцюкова. *Мне нéкалі лáдзіць што-нéбудзь.* Марозаўка. 2. Жыць у згодзе. *Я лáджу з ім.* Жохава. *Мы лáдзілі з ім, вéрна* [з дамавіком]. Багданава. 3. Наравіць, дагаджаць. *Скóлька ні ладзь, нявéстка плахáя.* Каралевічы. *Я адзінóкая і ўсім лáдзіла.* Карпавічы. *Лáдзіш ямý, а ён худы́, дык худы́.* Запруддзе. 4. Рыхтаваць есці. *Пайдý абéд лáдзіць. Бýльбы свіннёнку пастáвім, сабé што лáдзім.* Леснікова. *Лáдзіць паéсці.* Дольдзева. *Ну лаць цёлцы, я зьнясý.* Серкуці.

**ЛА́ДКА, ЛА́ТКА** *ж.* Аладка. *Бувáла з мáкъм нъпячэ́ш лáдак.* Нямойта. *Лáдак намакáець у дзягнó.* Буй. *З мáкам лáдкі дýжа смáшныя.* Чуцькі. *Як у атвéдкі пры́дуць, лáдку сáхарам абсы́пюць і мáльцу даю́ць, каб гавары́ў скарэ́й.* Запруддзе. *Дзéўкі блíны кідáюць на Калядьі і глідзяць: чыю лáтку сабáка з'есь і кудьі панясéць.* Фасаўшчына. *Дзярóннікі надзярóм, на рэ́шата адцэ́дзім і лáдкамі пяклí.* Леснікова. *Лáдкі люблю́ дзіцям печ.* Івоні. *Лáдак напякýць і ўкýсна са смятáнай.* Алексінічы, Багданава, Дольдзева, Партызаны.

**ЛА́ДНА, ЛА́ННА** *прысл.* 1. Добра. *Глядзéлі, што лáдна рабóтаіць і брáлі* [замуж]. *Я лáдна рабóтала, ён і замéціў, прышóў з бáцькай і дагавары́ліся.* Міцюкова. *Цяпéр жыць лáдна.* Алексінічы. *Хоць бы лáдна былó, алé дзе што дзéлася.* Івоні. *І тады́ лáдна былó, як асталóся, былó што есць.* Леснікова. *Учы́цца стáла лáдна. Лáдна мóжна напукувáць трýбак палатнá. Алé тóжа мы жы́лі лáнна.* Нямойта. *І лáнна былó, і смáшна, і па стары́нушкі.* Вялікі Азярэцк, Цясішча. *Ай лáнна, я січáс зайдý.* Неўгадава, Закур'е. 2. Даволі многа, шмат. *Інá аднá, і ў яé курэ́й лáнна.* Кляпчэва. *Лáнна іх былó.* Заазер'е. 3. *часц.* Нічога, няхай сабе. *Лáдна, што трóху пяскóм вы́сыпала* [дарогу]. Партызаны.

**ЛА́ДНАГА** *прысл.* Досыць многа. *Ла́днага адту́ль спірту мне на но́гі пературыла.* Нямойта.

**ЛА́ДНЫ, ЛА́ННЫ** *прым.* 1. Добры. *Нічо́га, ла́дная была́, жале́ла людзе́й пане́нка. Адзін зяць ла́дны, а другі́ вы́піць лю́біць.* Вялікі Азярэцк. *І до́чкі і сыны́ павыбіралі са́мі. Вам ла́дныя – і бяры́ця. Сва́дзьбу ла́дную здзе́лалі.* Багданава. *Дзе́ці на́шы ла́дныя, ні кіда́юць нас.* Алексінічы. *Той ня піў, той сын ла́дны ма́лец.* Марозаўка. *Ла́дную дра́чку жале́зную зрабіў.* Леснікі, Чуцькі. 2. Прыгожы, зграбны. *Яна́ сама́ ла́дная была́.* 3. Прыветны, паслухмяны, ласкавы. *Няве́стка ла́дна бу́дзець, як дачу́шка.* Каралевічы. 4. Моцны, вялікі. *Ішоў ла́дны дош.* Леснікова. 5. Багаты. *Ураджа́і былі нічо́га, ла́дныя.* 6. Значнага памеру. *Пат плух се́ілі боп, пасе́юць ла́нны кусо́к, ціпе́р между карто́шкі.* Вялікі Азярэцк. *Чыгу́н ла́дны зва́раць.* Запруддзе. *Такіх ла́дных рып дала́ яму́.* Багданава. *Бра́лі камянькі́ не́йкія ла́дные.* Партызаны. 7. Значны па колькасці. *Ста́да ла́днае прыгна́ла нъза́д.* Цясішча. *Ла́нноё хъзя́йства.* Малы Азярэцк. 8. Пра сталы ўзрост. *Гады́ ўжо ла́нныя ў мяне́.* Заазер'е. 9. Падрослы, пасталелы. *Я тады́ ла́дная была́ – дзевяці гадо́ў пайшла́ служы́ць на багаце́йшых.* Самсоны. *Дъчка́ ла́дная ста́ла.* Нямойта. *Я быў ужо́ ла́дны.* Ульянавічы, Багданава. 10. Рослы. *Ла́дны бычо́к, цяліўся сла́бы, хіста́іцца йшчэ.* Нямойта. *Ла́днага купіла парасё́нка, хай расце́ць.* Леснікова. 11. Пра высокі пост. *Вы, віда́ць, ла́дныя нъча́льнікі.* Рэчкі.

**ЛАДО́НЬ** *ж.* На шырыню далоні (пра сала). *Во са́ла, у ладо́нь.* Буй.

**ЛАДО́НЯ** *ж.* Далонь. *Ладо́ня – э́та па-белару́скі. Дай мне на ладо́ню.* Заазер'е.

**ЛАЖЫ́ЦЦА** *незак.* 1. Укладвацца (пра падлогу). *Пол ло́жыцца двайны́: чо́рны і чысты.* Вялікі Азярэцк. 2. Рассцілаць (пра лён). *Нъ бульбо́ўніку лажы́цца лён, згніе́ць, жы́рна* [бо тлустая зямля]. Гарадок. 3. Запаўняць паверхню. *Е́слі мёт лажы́цца ле́нтъчкай, то зрэ́лый.* Сянно. 4. *перан.* Страчваць (пра здароўе). *Здаро́ўе ло́жыцца ад е́тых мужыко́ў.* Каралевічы.

**ЛАЖЫ́ЦЬ** *незак.* 1. Складаць. *У граду́ дро́вы ло́жуць.* Нямойта. 2. Складваць, укладаць у што- ці куды-н. *Се́на ў сташкі ло́жуць.* Нямойта. *Пае́дуць, стагі ло́жуць ко́німі.* Чуцькі. *Тут, у трысце́ні, лажы́лі се́на.* Гарадзец. 3. Раскладаць агонь. *Ло́жым аго́нь і ка́мні кладзё́м* [у агонь]. Сянно. 4. Класці спаць. *На́да лажы́ць спаць яе́, за дзень набе́гаіцца.* Буй.

**ЛАЗА́** *ж.* Лаза. *Лъза́ гніла́я, ні тако́й едавіты дым, а з ліпы мя́ккі.* Запруддзе. *Дзярэ́цца вясно́й лаза́, пакру́цяць іх у кружнічкі, мо́чуць іх у цё́плай вадзіцы і плятуць ла́пці. Лазу́ дра́лі, лазо́й кра́сілі.* Дольдзева. *Бе́лья бальшынство́ лъза́, но іна́ бывáіць і кра́снъя.* Багданава, Алексінічы, Міцюкова, Нямойта. ○ НІЦАВАЯ ЛАЗА́. Лаза з доўгімі звіслымі галінкамі. *Як не́йкія баля́ўкі, то купа́юць у вадзе́ з ніцава́й лазо́й дзяце́й, дро́бнінькія.* Міцюкова. ○ ГАЛУБА́Я ЛАЗА́. Від лазы. *Лъза́ ўсякая. Галуба́я лъза́ есь.* Нямойта.

**ЛАЗҐУ́Н** *м.* Арэх, якія сам вылушчыўся; лузан. *Арахі, арэ́х като́ры лу́шчыцца, лъзґу́н.* Каралевічы. *А пърся́ты былі, как лъзґуны́.* Каралевічы.

**ЛАЗІНА, ЛАЗІНА́** *ж.* Лазіна, сцябло або галінка лазовага куста. *Карэ́ц із лазіны здзе́лаіш і ў кішку́ ўто́ркніш, і тады́ мя́са ціскаіш, ціскаіш, і яно́ ідзе́ць.* Багданава. *Каló́дзіц къпа́ў, а вады́ німа́. Кажу́: схадзі-ка Кірыл пъзаві. Ён узяў атсе́к лазіну с па́ліц туўшчыны́ і з вілкуй. Дзяржы́ць у руцэ́. Дзе къпа́ў каló́дзіц, там нічо́га, прайшо́ў тро́ху і лазіна з вілкуй у рука́х кру́ціцца. Тут бліска въдзіна́я жы́ла. Браў лъзіну́ ў руку́ і апрідзіля́ў.* Пожанькі. *Ну й э́та жэ́рдзя к згаро́дзі прыло́жаць*

*і тады лазінай піравяжуць, піравяжуць і ўсё.* Запруддзе. *Кійка, дубец, лазіну якую магу даць.* Партызаны. *Кала лазы прывязала, і яна лазіну есь.* Дольдзева. *Лазіну пат лапці* [падплятаді]. Неўгадава.

**ЛА́ЗІЦЬ** *незак.* Лазіць. *Лазюць козы па дварам. Ні дзяржаць тожа плоха.* Цясішча.

**ЛА́ЗНЯ** *ж.* Лазня. *Пайдзём у лазню мыцца, венікам так нахвошчымся.* Серкуці. *Там лазня, там кладовая, хлеў, куратнік, пуня.* Нямойта. *Баня. У горадзе лазня, ета пра гарацкую.* Багданава. *У нас раньшы адна лазьня была на ўсю дзярэўню.* Дольдзева.

**ЛАЗО́ВІК, ЛАЗАВІ́К** *м.* Майскі жук. *Хто гаворыць майскія жукі, а хто – лазовікі. Вясной, у маі месяцы, во толькі лісьцяйка мелінькае пъяўляіцца, во лазовікі пъяўляюцца. Набегаісся зъ лъзавікамі, аш гудзяць, стольки было.* Дольдзева. *Як лес раскідуецца, то лазовікі па дрэвах паўвечары лётаюць і гудзяць.* Гарадзец. *Даўней лазовікі былі, а цяпер німа.* Партызаны.

**ЛАЗО́ВІК** *м.* Неядомы грыб. *Лазовікі лі лазы, лі балот растуць.* Неўгадава.

**ЛАЗО́ВЫЙ** *прым.* Лазовы. *Лазовый куст нахінуўшыся быў.* Багданава. *Лапці лазовыя плялі.* Дольдзева.

**ЛА́ЙБА** *ж.* 1. Параход. *Къгда-та лайбы па ёй хадзілі, а цяпер пъзърасло.* Міхнава. 2. *агульн. эмац.-ацэн.* Пра гультаяватага, лянівага чалавека, абібока. *Ходзіць, як лайба!* [ляніцца працаваць]. Чуцькі.

**ЛАЙДА́К** *м.* Гультай, абібок, лайдак. *Лайдак адзін быў, дык яго лайдудам і звалі.* Жохава. *Лъйдак такі, гуляка.* Заазер'е.

**ЛА́ЙКА** *ж.* Зневажальная назва сварлівай жанчыны. *Калі баба брэшэцца, лайкай яе завуць.* Багданава.

**ЛАЙНО́** *н. зб.* 1. Адзенне. *Лайно – гэта адзёжа. Во памыла лайно. Каб лайно скінуў, то путушыў бы* [агонь на льнотрасце ў ёўні, дзе трапалі лён]. Заазер'е. *Лайно – ета штаны, рубашка.* Дольдзева. *Сын къля фабрыкі жывець, ні павесіш ні аднаго лайна, шчарнеіць.* Нямойта. *Мы пранікым лайно пярылі, скуты.* Галашчакіна. *Лайно пасцеліш, накрыіш крышкай* [дзежку]. Карпавічы. *Траву свянцонаю паложыш у лайно якоя.* Партызаны. 2. Бялізна. *Адно лайно пярылі пранікам; лойны пёрылі; пяць лаён пупярылі.* Кавалі. *У лугу лайно пъляжыць і станіць белым.* Запруддзе. *Наберыш гразі у чугун і туды кладзеш лайно, пылучайіцца чорныя плаццiка.* Закур'е. 3. Матэрыял. *Даюць якое лайно – матэрыял.* Запруддзе.

**ЛАЙТРУ́ГА** *м.* Гультай, лянівец. *Лайтруга ты, ні ляжы, ідзі, лянівы.* Карпавічы.

**ЛАКО́МСТВА** *н.* Ласунак, смачная страва. *На скаварадзе клёцкі папячэш – такое лакомства было на Саракі.* Міцюкова.

**ЛАКО́МЫ** *прым.* Смачны. *Гэта дзела лакомае – каробка канфет.* Нямойта.

**ЛАКЧЫ́ЦЬ** *незак.* Шмат піць, спажываць (пра лекі). *Толькі сёлетні гот парашкі локчу.* Баравікі.

**ЛАМАНУ́ЦЬ** *зак.* Гучна выбухнуць. *Пъклалі круглы шар у агонь, дык ён як лъмануў.* Вялікі Азярэцк.

**ЛАМА́НЫ** *прым.* Немясцовы, неэтнічны. *Вы чысты беларус – мы ўсе ламаныя.* Ульянавічы.

**ЛАМА́ТЫ** *прым.* Паламаны, няспраўны, сапсаваны. *Далі ламатыя машыны, усе параз'ехаліся.* Серкуці.

**ЛАМА́ЦЦА, ЛАМІ́ЦЦА** *незак.* Ламацца, адломвацца. *Ламáлісі галíны.* Каралевічы. *Мнóга я́блък, прáма сукí лóмяцца. Лéтась прáма сукí лъмáлісь – я́блък былó.* Гарадзец.

**ЛАМА́ЦЬ, ЛАМІ́ЦЬ** *незак.* 1. Разбіваць, разбураць, псаваць. *Ламáець, кідáець, як нап'éцца.* Запруддзе. *Былó ікóны лъмáлі, палíлі.* Рэчкі. *Цэ́рквы былí. На што іх былó лъмáць.* Малы Азярэцк. *Дзве с пълавíнай нядзéлі лъмáлі пáнскую пастрóйку, а наштó былó лъмáць? Ламáюць вýліцы, гарóды на Івáна Купáлнага.* Баравікі. 2. Выклікаць востры боль. *У мянé во баля́ць калéнькі, лóмюць, дык хто нарáіць, тым і мáжу.* Заазер'е. *Лóміць нóгі, бъля́ць.* Серкуці. 3. Быць у хваравітым стане. *Ламáіць дзяцёнка: то спíць, то не спíць – упýдзіўся.* Запруддзе. 4. Асушваць. *Лóмяць балóта гэ́та.* Вялікі Азярэцк. ◊ ЛАМА́ЦЬ ГАЛАВУ́. Біцца над вырашэннем якой-н. задачы. *Нéчага гаълавý ламáць – дзéўку з хáтай бяры́.* Партызаны.

**ЛАМА́Ч** *м.* Прылада церці лён; церніца. *Ламáч быў, ламачы́ дзéлалі і лён мя́лі.* Рэчкі.

**ЛАМА́ЧЧА** *н. зб.* 1. Ламачча. *Ламáчча былá мнóга ў лéсе. Гэ́та ўсё пъламáтая, ламáчча.* Запруддзе. *Наскідáлі грут ламáчча, спаліць нáда.* Багданава. 2. *перан.* Хлам, непатрэбшчына. *Смъллянка ў хáце, чы́ста ламáчча, усё вы́брасіла і дóскі ўбрáла.* Багданава.

**ЛАМО́ТА** *ж.* Ламота; тупыя працяглыя болі ў суставах, мышцах. *А éта мы завём бýкавіца, а па кнíге – васілёк лугавы́, ат ламóты касьцéй.* Серкуці. *Прáма апóхніць рукá, ламóты.* Фасаўшчына. *Лíповы цвет ад ламóтаў, прастýды. Бруснíшнік ад ламóты касцí харашó.* Каралевічы.

**ЛАМО́ТКА** *ж.* Луста. *Ламóтку хлéба с сóллюй з'еў і вады́ напíўся.* Цясішча.

**ЛА́МПА** *ж.* Лямпа. *К лáмпе крóсны ткáлі.* Галашчакіна. *Во лáмпа вісíць.* Багданава.

**ЛАМПАСЕ́** *н.* Манпансье, ледзянец (цукеркі). *Лампасé пáчачку купíла, калí к чáю.* Багданава.

**ЛА́НДЗЯ** *ж. эмац.-ацэн.* Пра тоўстую жанчыну. *Лянíвая, як лáндзя раздзéлалася.* Вялікі Азярэцк.

**ЛА́НДЫШ** *м.* Ландыш. *Лáндыш пахýчы, у мáі, як цвітýць, цвятóчкі трэ́ба завáрваць.* Багданава. *Лáндыш ат сéрца збірáюць.* Леснікова.

**ЛАНПА́С** *м.* Пра паласу ад укусу. *Ланпáсы сíнія па цéле пайшлí, як вужáка ўкусíла.* Багданава.

**ЛАНЦУ́Г, ЛАНЦУ́Х** *м.* Ланцуг. *Éта ланцýг, на ланцугý* [сабака] *гавóраць, кала шы́і брóшка, ашэ́йнік.* Партызаны. *Ланцýх – éта цэп, на цапý събáка.* Запруддзе. *Ланцýг, рáньшы ланцýх звáлі, а шóрка къля шы́і. Цяпéр цэп, пірамінячылася мнóга.* Нямойта, Багданава.

**ЛАНЦУ́ЖНІЦА** *ж. эмац.-ацэн.* Валацуга. *Ён на жóнку: къндáльніца ты, ланцýжніца.* Ульянавічы.

**ЛАП** *выкл.* Лапнуць. *Лап – нíмá кашалькá, капéйкі рассы́паныя.* Нямойта.

**ЛА́ПА** *ж.* 1. Лапа (у жывёлы). *Лáпы ў къта́, нóгі ў птýшак.* Вялікі Азярэцк. 2. Шырокі вялікі ліст. *Дзéдзіль, алé ні знáю для чагó, свінéй кóрмяць, лáпы* [у яго], *лíсты, бальшэ́я.* Леснікі. *Лáпы* [лісты дзедзвелю] *бальшэ́я, прудуýгавáтыя і ў рýпчыкі.* Леснікова. ЛА́ПКА *памянш.* Сплеценыя жытнія каласы ў форме лапкі, якія прымацоўваюць брыгадзіру на грудзі пасля заканчэння жніва. *А брыгадзíру лáпку сплякцём на грудзь, як дажы́нкі, а прыдсідáцілю – вянóк.* Запруддзе.

**ЛАПАНУ́ЦЬ** *зак. перан.* Ляпнуць, сказаць што-н. грубае, часам недарэчнае. *Ма́тка мая́ мо́жыць лапану́ць, ска́жыць што.* Багданава.

**ЛАПА́ТА** *ж.* 1. Лапата, рыдлёўка. *І лъпа́тай къпа́лі і ві́лкамі* [бульбу]. Дольдзева. *Як дош мо́цны ідзе́ць, то кіда́юць скарэ́й лъпа́ту, кі́нець во на траву́ ці на двор, і ад гра́ду, і ад до́жджу* (павер'е). Ракаў Засценак. *Як грат ішо́ў, тады́ ўжо выкі́дъвълі лъпа́ту на двор* (павер'е). Нямойта. 2. Драўляная лапата для саджання хлеба ў печ. *Вымята́лі печ, чы́сцілі і хлеб на лапа́ту ста́вілі.* Чуцькі. *Лъпа́та дзеръвя́нная, хлеп кладу́ць на лъпа́ту і ў печ.* Гарадзец. *Заме́сіш, на лапа́ту дзеравя́нную паса́дзіш це́ста – і ў печ.* Дуброўкі. ЛАПА́ТАЧКА *памянш.-ласк.* 1. Невялікая лапатка. *Лапа́тачкай ўсе къпа́ла.* Багданава. 2. Драўляная прылада для мяшання цеста і інш. Багданава. 3. Драўляная прылада для снавання красён. *Як кро́сна снуе́ш, два клубкі́ ляжа́ць, на́да слядзі́ць, бяру́ць лапа́тачку, дзве дзі́рачкі, ні́ткі – і бе́гала ад сцяны́ да сцяны́.* Буй. *Лъпа́тъчка́, у яе́ дзве дзі́рычкі, ёй снува́ць кро́сны.* Закур'е. 4. Мянташка. *Лъпа́тачку смалі́лі смало́й і пъсыпа́лі ме́лкім пяско́м.* Леснікова. *Лъпа́тачка вайстры́ць касу́.* Фасаўшчына.

**ЛАПАТА́ЦЬ** *незак.* Балбатаць, балабоніць, лапатаць. *І бу́дзіць дзень ба́лавацца, дзень лъпата́ць. Прыдумля́я се́дзя, абы-што́ лапо́чыць.* Запруддзе. *Языко́м лапачу́ і ўсе забу́ду.* Жохава.

**ЛАПА́ТКА, ЛУПА́ТКА** *ж.* 1. Лапатка, рыдлёўка. *Пад лапа́тку садзі́лі по́сле вайны́ бурачкі́.* Каралі. *Пъсадзі́ла бу́льбу път лъпа́тку* [капаючы лапаткай], *ужо́ цвіту́ць.* Кішуроўшчына. *Лъпа́ткамі капа́лі зямлю́.* Рэчкі. *Узя́ў лъпа́тку і ўсі́х тхаро́ў пъзабіва́ў.* Партызаны. *Набе́глі, засе́клі лапа́ткай чалаве́ка.* Ульянавічы. 2. Драўляная лапатка для саджання хлеба ў печ. *Хлеб муко́й пътсыпа́лі, каб з лупа́ткі злез у печку.* Цясішча. *На лупа́тку – і ў печ хлеп.* Рулёўшчына. 3. Косць (у чалавека, жывёлы). Вялікі Азярэцк.

**ЛАПАТУ́ХА** *ж.* Балбатуха, лапатуха. *Лъпату́ха, траско́чыць. Яе́ празва́лі пулямёччыца. Лъпату́ха – хто бы́стра гаво́рыць.* Нямойта.

**ЛАПЕ́ГА, ЛАПЕ́ЗА** *ж.* Нясклады, непаваротлівы (пра чалавека). *Чълаве́к не́йкі, як лапе́га, – ніскла́дны.* Заазер'е. *Сядзі́ць, як лапе́за, – тъка́я ніда́лу́жная жанчы́на.* Фасаўшчына.

**ЛА́ПІК** *м.* 1. Невялікі ўчастак лесу, сенажаці. *Ла́пік ле́су ёсь.* Вялікі Азярэцк. ЛА́ПІЧАК *памянш.* *Ла́пічкамі дзе-ні́бу́дзь нако́сіць дзет.* Ульянавічы. *Нідзе́ ла́пічка ні было́ по́жні, глухі́ лес.* Баравікі. 2. Прагаліна. *Дзе́лай пра́вільна, каб ня бы́ў ла́пік пусты́.* Багданава. 3. Кусочак шкуры. *Абадра́ла с каро́вы ла́пік другая́ каро́ва.* Гарадзец. 4. Латка. *Ла́пік на ла́пік, сты́дна дзіцёнка ў бальні́цу звадзі́ць.* Запруддзе. *Там былі́ баці́нкі по́рваныя, там і ла́пікі, і ўсё. Як ды́рка – пад ніз большы́ ла́пік прышы́юць, а тады́ апкі́двалі круго́м.* Фасаўшчына. ЛА́ПІЧАК *памянш.* *Дво́е штанёнкаў прыняслá ла́пічкамі пачыні́ць. Пало́жыць ла́пічкі на пла́цце.* Каралевічы. 5. Пляма іншага колеру, лапіна. *Ла́ска, як тхор, ву́шкі мале́нькія, ла́пічкамі пятні́стая, бе́ленькімі па ней.* Вялікі Азярэцк. *Не́йкія ў ла́піках падзе́лаліся я́блыкі.* Неўгадава.

**ЛА́ПІНА** *ж.* Невялікі кавалак зямлі, лапіна. *Была́ ла́піна такая́, век нічо́га не радзі́ла.* Запруддзе.

**ЛА́ПІЦЬ** *незак.* Латаць, лапіць. *Ла́пілі адзе́жу, зала́піць на́да.* Дольдзева. *Ла́плю штаны́, а наза́ўтрага надзяю́.* Сукрэмна. *Ён ла́піў сабе́ штаны́, то цялёнык цялі́ўся біз зъдка́* [і здох]. Чуцькі.

**ЛА́ПЛЕНЫ**, **ЛА́ПЛІНЫ** *прым.* Латаны, залатаны. *Прыéхаў жанíх у ла́пленым, ска́жуць.* Савінічы. *А то і хадзілі мушчы́ны ў ла́пліных штана́х.* Дольдзева.

**ЛА́ПНІК** *м. зб.* Яловыя галіны. *Асéнні брунéт апкла́дылі салóмуй, ла́пнікъм і закáпвалі ў капéц.* Пожанькі. *Мы рóзы пóлім цяпéра, а на́ зіму торх сыплім, ла́пнікъм зъкла́дъім.* Забор'е. ЛА́ПНІЧАК *памянш. Аганёк палілі, сухóга ла́пнічку, кап ды́му ні былó. Зъгатóвім ла́пніку ялóвъга для къстра́.* Багданава.

**ЛАПТА́** *ж.* ◊ У ЛАПТУ́. Дзіцячая гульня. *Пóйдзім у лапту́ гуляць.* Нямойта.

**ЛАПУ́ТА** *агульн.* Нядбайла, няўклюда. *Лапу́та, ты куды́ пайшла́? Вярнісь, табé гавару́, лапу́та!* Запруддзе.

**ЛАПУША́НЫ** *прым.* Лапушысты. *Дзéдзіль – шырóкае лісця на ім, высóкі, лапуша́ны.* Багданава.

**ЛАПУ́ШКА** *ж.* Хлапушка. *Як з лапу́шак, як лóпнулі сасéдцы тэй пад нóгі.* Запруддзе.

**ЛАПУШЫ́СТЫ** *прым.* Шыракалісты, лапушысты. *Лапушы́стая шніць, ла́памі, у лéсе расцéць, кóрні капа́юць, суп ва́руць.* Самсоны.

**ЛА́ПЦІ** *мн.*, **ЛА́ПАЦЬ** *м.* Лапці (від абутку). *Ла́пці з вярóвачак, з лык рабілі. Ла́пці абу́еш і ідзéш на балóта.* Багданава. *Каб не ла́пці – бóсая б была́. Лы́кі дра́лі, ла́пці плялі, пянькóй пътплята́лі і лы́камі.* Нямойта. *У ла́паць чълавéчъга ка́лу і правéсьць карóві пъ храпту́ ад рог да хвъста́ і ла́ска пакінець карóву* (павер'е). Партызаны. *У лапцёх хадзілі, плялі із лык, здаравéйшыя былі.* Вялікі Азярэцк. *Ён хадзіў у лапцёх, у армяку́.* Дольдзева. *Танцу́й, Мацвéй, не жалéй лапцéй, / Сын у гóрадзе жывéць, / Бóты нóвыя прышлéць* (прыпеўка). Каралевічы. *К Каля́дам наплятý вам нóвых лапцéй.* Алексінічы. *У лапця́х на та́нцы хадзілі.* Буй, Запруддзе, Каралі, Леснікова, Партызаны, Ульянавічы. ЛА́ПАТКІ *памянш.-ласк. Ла́пці, ла́паткі ліпóвыя плялі.* Багданава. ◊ ДВА ЛА́ПЦІ – ПА́РА. Абсалютна аднолькавыя, адзін не лепшы за другога. Сянно. ◊ АБУ́ЦЬ У ЛА́ПЦІ. Абхітрыць, абмануць. *Ты мянé ў ла́пці абу́іш!* [калі страты ў гаспадарцы]. Гарадок.

**ЛАПША́** *ж.* Локшына. *Замéсіць цéста, раска́чыюць тóнінька, а тады́ кры́шуць, заву́ць лапша́, прасу́шыюць.* Фасаўшчына.

**ЛАПША́ЦЕНЬКІ** *прым. эмац.-ацэн.* Плоскі, выцягнуты. *Чарапа́шка такі ваню́чы, ма́лінькі, лапша́ценькі, як я́гады сабіра́еш, ня кру́гленькі, як му́ха, а як чарапа́шка.* Запруддзе.

**ЛА́САЕ** *н.* Ласункі, прысмакі. *Ла́сага хóчыш?* Фасаўшчына.

**ЛАСІ́ЦА** *ж.* Ласіха. *Ласіца з ласёначкъм вы́шла у авёс, пъстая́ла, паску́бла і пайшла́.* Вялікі Азярэцк. *Ласі з ласіцамі та́ма бéгалі.* Багданава.

**ЛА́СКА** *ж.* Ласка (звярок). *Ла́ска малéнькая, падóбіе мы́шыны. Як пóтная карóва, гавары́лі: ла́ска дзярэ́ць карóву. Тóнкая, дліновáтая, мóжа і пуджарува́тые ёсь.* Міцюкова. *Ка́жаць, нéйкая ла́ска хóдзіць, бéлая няўрэ́дная, а жóўтая ўрэ́дная. Ла́скі бува́юць бéленькія і ры́жанькія, вéрна, ра́зный сорт, вяду́цца па хлéвах.* Багданава. *У нарóдзе гавóраць:* [што] *ла́скі тóжа карóву ссуць і пóверху пóўзаюць ды так змýчаюць, што кърóва ўся мóкрая ста́нецца.* Вялікі Азярэцк. *Ла́ска карóву ўласкóчыць, аж ка́паіць з яé, храбёт ка́лам сваім вы́мазаць трэ́ба. Ла́ска карóў шчакóчыць, мóкрая хóдзіць па хлявé карóва.* Гарадзец. *Ла́ска быва́іць бéлая, быва́іць паласа́ценькая, карóву ганя́іць дýжа. Ла́ска ўскóчыць карóве на храбéт, бéгаіць. Ла́ска ні даéць карóві спаць.* Партызаны. *Ла́ска пачына́іць гняздó віць, з авéчак, карóў вóўну дзярэ́ць. Карóва як ўста́нець, аш па́ра ідзéць.* Леснікова. *Была́ карóва*

*з начы́ мо́края, гэ́та, ка́жуць, ла́ска па ей хадзі́ла.* Ракаў Засценак. *Ла́ска пабе́гла па по́лі. Ла́скі ё бе́лінькія, сі́вінькія, а ву́шкі, як у мы́шыны.* Чуцькі. *Ла́ска шчако́чыць, бе́гаіць па каро́ве.* Буй. *Гарнъста́і, яны́ і бе́ленькія, і пълъса́стыя – гэ́та са́мая ла́ска.* Марозаўка. *Як пад ла́ску, то прынясе́ць малака́ лі́тру.* Нямойта. ЛА́САЧКА *памянш.* Каралевічы.

**ЛА́СКА** *ж.* 1. Ласка, пяшчота. *С пага́нымі людзьмі́ не на́да ла́скай абхадзі́цца, тады́ ўрэт іх ні мяша́іць.* Нямойта. *Скацí́на ла́ску панімá́іць.* Кішуроўшчына. *Ка́плю ла́скі прыні́му́.* Ульянавічы. 2. Міласць, спагада. *Іна́ ўжо ла́ску іме́іць, хо́чыць зайсці ка мне.* Каралевічы.

**ЛА́СКАВЫ** *прым.* Ласкавы, пяшчотны. *Дачка́ харо́шая, ла́скавая така́я.* Багданава. *Ла́скавы чълаве́к і ду́шу вымá́іць. Ла́скъвы кот да чужы́х ідзе́ць.* Гарадзец. *З бацька́мі будзь ла́скавай.* Запруддзе.

**ЛАСКАТА́ЦЬ** *незак.* Балбатаць, лапатаць. *Язык бяс касці, што хо́ча, то́е ласко́ча.* Багданава.

**ЛАСКА́ЦЦА** *незак.* Лашчыцца. *Ласка́іцца, як што-ні́будзь хо́чыць дзіцёнак.* Фасаўшчына. *Во́ сне відзела: прыляце́ла дзве пту́шачкі, дзве ро́ўненькія, шэ́ранькія, я адну́ – на руку́ – сама́ пту́шачка ласка́еацца.* Каралевічы.

**ЛАСКА́ЦЬ** *незак.* Шкадаваць, лашчыць. *Ласка́ць – е́та жале́ць.* Фасаўшчына.

**ЛАСКУ́Т** *м.* Кавалак тканіны. *На хрэ́сьбінах баб абвя́зваюць ласкуто́м – пъда́рак даю́ць – ру́кі абціра́ць.* Нямойта. *Ласку́т які хто ку́піць ці што пашы́тае.* Карпавічы.

**ЛА́СТАЎКА** *ж.* Ластаўка. *Ла́стаўкі рабілі гняздо́ път кры́шамі, път страхо́й з гра́зі кру́глую, як мі́сачка.* Міцюкова. *Ла́стаўкі ні́зка лёта́юць на дош* (прыкмета). Багданава, Гарадзец. *Е́слі ла́стаўкі сце́люцца ні́ска, дошч бу́дзіць* (прыкмета). Розмыслава. *У ха́ці во́дзяцца ла́стаўкі.* Фасаўшчына. *Пазбіра́ў, як ла́стъўка мо́шак.* Серкуці. *Ла́стаўка прыляце́ла – ху́тка пяру́н загрымі́ць* (прыкмета). *Як ла́стаўкі ні́зка літа́юць – дошч бу́дзіць. Чаго́ яны́ спуска́юцца – усе́ мо́шкі ўні́с спуска́юцца – і літа́юць.* Запруддзе. ЛА́СТАВАЧКА *памянш. Ла́ставачак ма́ло за́раз.* Закур'е.

**ЛА́СТАЎКА** *ж.* Клін у мужчынскіх штанах. *У штаны́ мушчы́нскія ўстаўля́лася ла́стаўка, а кліны́ ў ко́фце.* Каралі. *Ла́стаўка ў штано́х ушыва́лься.* Запруддзе.

**ЛА́СТАЎКІН** *прым.* Ластаўчын. *Ла́стаўкіна гняздо́.* Гарадзец.

**ЛА́СТАЧКА** *ж.* Ластаўка. *Е́слі ла́стачкі сце́люцца ні́зка, зна́чыць дош бу́дзіць* (прыкмета). Розмыслава. *Е́слі памі́ш нох ці пат пу́за ў каро́вы праляці́ць ла́стачка, то ў малацэ́ кроў, трэ́ба скрозь кальца́ даі́ць* (павер'е). Леснікова. *Ла́стачак німа́ саўсі́м.* Латыгаль.

**ЛА́СТАЧКІН** *прым.* Ластаўчын. *О, гняздо́ ла́стачкіна разары́ў, бу́дуць табе́ шэ́ркі.* Фасаўшчына.

**ЛА́СЦІК** *м.* Тканіна з гладкім бліскучым верхам; сацін. *Ла́сьцік, цяпе́р саці́н называ́юць.* Фасаўшчына.

**ЛА́СЦІКАВЫ** *прым.* Сацінавы. *Ла́сьцікавае пла́цце – э́та харо́шае ду́жа.* Фасаўшчына.

**ЛА́СЫ** *прым.* Ласы; той, хто любіць прысмакі, смачна паесці. *Ла́сы чалаве́к, прысма́кі лю́біць.* Багданава. *Ла́сы – уку́сна лю́біць е́сьці.* Фасаўшчына. *Калі́ дзе́ці* [старэйшыя] *памёрлі, другі́м* [меншым] *дзяцём на Спа́са я́блыкаў не дава́лі, ка́жуць: твая́ ма́ці была́ ла́сая да я́блыкаў.* Багданава. *Абы-што́ ня бу́дзіць е́сьці, ла́сы.* Дольдзева.

**ЛАСЯНЁНАК** *м.* Ласяня. *У ласіцы адзін ласянёнак бываець.* Багданава.

**ЛАСЯ́ТНІК** *м.* Чалавек, які палюе на ласёў. *Лъсятнікі йме́лі сваю гру́пу.* Пожанькі.

**ЛА́ТАЦЦА** *незак.* Харчавацца. *У мяне́ ду́жа ла́тацца німа́ чым.* Нямойта.

**ЛА́ТАЦЬ** *незак.* Латаць. *Што парве́цца, то ла́талі, то на ло́кцях, то на каленях на́да ла́таць.* Фасаўшчына.

**ЛАТАШЫ́ЦЬ** *незак.* Лупцаваць, біць. *Дзе́ці вужа́ку як ста́лі па́лкъмі лъташы́ць і забілі.* Запруддзе.

**ЛАТО́К** *м.* Латок, жалабок, па якім сцякае вада. *С калідо́ра вада́ па латку́ сцікла́.* Каралі. ЛАТАЧО́К *памянш. Такі лътачо́к сдзе́лаюць дзервяны.* Багданава.

**ЛАТО́К** *м.* Драўлянае прыстасаванне для хлеба. *Сем латко́ў прывязу́ць хле́ба на дзве дзярэ́ўні.* Апечкі.

**ЛАТО́ЧЫНА** *ж.* Паглыбленае месца з вадой, лужа. *Там лато́чына, і въда́ стаіць.* Самсоны.

**ЛАТРУ́ГА** *м.* Лодар, гультай. *Латру́га то́жа ліньцяй.* Багданава.

**ЛАТУ́ШКА** *ж.* 1. Гліняная або драўляная міска. *Лату́шка – тъка́я як міска, з гліны. Лату́шкі вумуро́ўвълі з гліны.* Багданава. *Лату́шка гліня́ная была́, ме́ленькая с кры́шачкай, блінчыкі скла́дывалі.* Дольдзева. *І лату́шкі, і гърла́чыкі былі́ выпаліныя. Былі́ ра́ньшы лату́шкі цёмныя з гліны, пъліва́ныя. Гънчары́ вазілі гърлачы́, міскі, лату́шкі, гаршкі.* Нямойта. *У лату́шках яешню пяклі́, гліня́ныя місачкі былі́, бе́ліінькія.* Каралі. *Лату́шка – э́та міска бальша́я.* Марозаўка. *Лату́шка звалі гліня́ную міску, са́ла кладу́ць, глыбо́кія. У лату́шцы са́ла.* Фасаўшчына, Савінічы. ЛАТУ́ШАЧКА *памянш. Лату́шачка – міска гліня́ная, калі са́ла ту́шыцца.* Вялікі Азярэцк. 2. Драўляная міска для збівання масла. *Такія бальшэ́я лату́шкі былі́, ма́сла білі.* Каралі.

**ЛА́ТЫ** *мн.* Жэрдкі, дошкі і пад., якія прыбіваюць на кроквы; латы. *Ла́ты, як кры́шу кладу́ць, це́шуць такія па́лкі, ла́ты ла́цяць. Пъла́цюць дзе́вяць ла́таў на адзін бок, дзе́вяць – на другі.* Фасаўшчына. *На ла́ты прывя́зъвалі вяро́вачкай само́му.* Серкуці. *Кро́квы, а на кро́квы – ла́ты, рэ́йкі прыбіва́лі. Па ла́тых – шы́фір.* Сукрэмна. *Кро́квы паста́вюць і ла́цюць, ла́ты называ́ліся.* Багданава, Алексінічы, Гарадзец, Леснікова.

**ЛАТЫ́ШЫЦЬ** *незак. экспр.* Аббіраць, грабіць. *Калі ты тут латы́шыш, то я туды́ не пайду́ зъ мълако́м.* Нямойта.

**ЛА́ЎКА** *ж.* Лава для сядзення. *Ла́ўка даўне́й къла сцяны́ скрось, а каля другóй пол.* Алексінічы. *Ла́ўка абы́чна стая́ла каля сцяны́.* Леснікі. *Ла́ўка ў ха́ці кругóм, а стол кала ла́вак.* Фасаўшчына. *Ла́ўкі з нъга́мі дзе́лалі, дзве до́скі склёены.* Гарадзец. *Кала ву́ліцы ла́ўка стаіць, ду́маю вы́рвуць на Купа́лле, знялá верх.* Запруддзе. *Ператкі былі́ ме́ншыя, а ла́ўкі скразны́я. Ла́ўка была́ ў дзярэ́ўні і даўне́й.* Дольдзева. *Ла́ўкі длінные ў ха́ці стая́лі.* Марозаўка. *Ла́ўкі сдзе́лалі са спінкай.* Рэчкі.

□ *На сваёй ла́ўцы і паме́рці ня грэх.* Ульянавічы.

**ЛА́ЎКА** *ж.* 1. Магазін. *Схадзі ў ла́ўку, купі што.* Гарадзец. 2. Аўтамагазін. *Ла́ўка ні прышла́ з хле́бам.* Каралевічы. *Мъгазіна німа́, ла́ўка прыво́зіць.* Кішуроўшчына.

**ЛАХА́НКА** *ж.* 1. Гліняная міска. *Лъха́нка нъ вядро́, туды́ сьміта́ну събіра́лі. Гліня́ныі былі́ лъха́нкі, бліны́ лажы́лі.* Кляпчэва. 2. Драўляная пасудзіна для вады. *Лаха́нка – ета такі цэ́барчык, ваду́ куды́ злівáюць.* Фасаўшчына.

**ЛА́ХАРДЗІК, ЛАКА́РДЗІК** *м.* 1. Прысмакі, ласункі. *Ла́хардзік – то канфе́ты, ці што уку́снае, угасцілі ла́хардзікам.* Фасаўшчына. *А цяпе́р дзе́ці сыты ла́хардзікамі е́тымі.* Марозаўка. 2. Мучныя прысмакі. *Ну яму́ там лака́рдзікі на́да выпіка́ць.* Запруддзе.

**ЛАХАРУ́ТКІ** *мн.* Старое, паношанае адзенне, лахманы. *Пазьбіра́лі свае́ лъхару́ткі – і ў лес.* Серкуці.

**ЛАХАТУ́РЗЕ** *н. зб.* Тое ж. *Лъхату́рзя тако́е старэ́йшая ў шка́пе ляжыць.* Заазер'е.

**ЛА́ХАЎКА** *ж. эмац.-ацэн.* Неахайная жанчына, валацуга. *Як ла́хаўка яка́я но́сіцца пъ дзярэ́ўні* [пра цыганку]. Самсоны.

**ЛАХДАРЫ́** *мн. экспр.* Адзенне. *Скарэ́й накінула лъхдары́ і пъшла́.* Ульянавічы.

**ЛАХМАНЫ́** *мн.* Старое, паношанае адзенне, лахманы. *Лахманы́ – парва́тая адзёжа, плаха́я.* Фасаўшчына.

**ЛАХМА́ТЫ** *прым.* Касматы, калматы, лахматы. *Мядзве́ць такі таўсты́, лъхма́ты.* Марозаўка.

**ЛАХМО́ЦЬЯ** *н. зб.* Лахмоцце. *Што лахмо́цья ў іх ляжыць, я пазабіра́ю.* Запруддзе.

**ЛАХМО́ЧЧЫНА** *ж.* Лахманіна, старая паношаная адзежына. *А дзе тых тра́пак? – Німа́, калі лахмо́ччына німа́ адзе́ць.* Запруддзе.

**ЛАХУ́ДРА** *ж. эмац.-ацэн.* Растропа, жанчына з растрапанымі, непрычэсанымі валасамі. *Ласу́дра, расчашыся, што ты хо́дзіш абы-яка́я, лъхма́тая.* Запруддзе. *Не́кая, як лаху́дра.* Савінічы. *Тъка́я ёсь лаху́дра, для яе́ ўсе грыбы́ аднэ́й ма́мы.* Пожанькі.

**ЛАЦВЕ́Й, ЛА́ЦВІ** *прысл.* 1. Лепш. *Цяпе́р жыць лацьве́й: каро́ву до́яць машынамі, гной къпа́юць машынамі, усё ро́бяць машынамі.* Ульянавічы. *Лацве́й цяпе́р жыць, а ране́й па́лачку за рабо́ту ста́вілі.* Запруддзе. *Лацве́й цяпе́р ба́бай быць: ране́й і пуп атрэ́заць, і рабёнка купа́ць.* Нямойта. *Цяпе́р у калхо́зі харашо́, лацьве́й, то́лькі лю́дзі ні хо́чуць рабо́таць. Лацьве́й, като́рые пе́ньсіі заро́бюць.* Заазер'е. *Лацве́й с такімі людзьмі гаварыць.* Багданава. *Лацве́й з гасця́мі: і двор падмяту́ць, і са́мі сабе́ здзе́лаюць.* Малы Азярэцк. *Лацьве́й цяпе́р. І па дным і пъ два ў сям'і, і зімля́ ні на́да.* Самсоны. *Цяпе́р лацьве́й вучыцца.* Станюкі. *Во, лацве́й, іна́ адна́.* Леснікова, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Мянюцева, Партызаны, Савінічы, Фасаўшчына, Чуцькі. *Ла́цьві цяпе́р ім ро́біць за гро́шы, а мы зъ па́лку ро́білі.* Закур'е. 2. Зручней. *Лацьве́й ігра́ць, калі ка́рту ўсю пъка́зваеш.* Ульянавічы.

**ЛА́ЦІНА** *ж.* Жэрдка, дошка і пад., якая прыбіваецца на кроквы; лата, лаціна. *Ла́ціна – гэ́та па́лка то́нкая, на ха́ту, на хлеў, на крышу ла́ціну на́да класць.* Фасаўшчына, Дольдзева. ЛА́ЦІНКА *памянш.* *По́слі вайны́ ла́цінкі пашо́ў сеч.* Алексінічы.

**ЛА́ЦІЦЬ** *незак.* Прыбіваць жэрдку, дошку і пад. да крокваў; лаціць. *Ла́ціць на́да мно́га жардзя́.* Сукрэмна. *А тады́ бу́дзім ла́ціць, на кро́квах до́скі прыбіва́ць, і шыфір, толь лажыць.* Вялікі Азярэцк. *Ла́ты, як крышу кладу́ць, це́шуць такія па́лкі, ла́ты ла́цяць.* Фасаўшчына. *Ха́ту ш на́да ла́ціць. Астро́ўскі ла́ціў адну́ сто́ръну і другу́ю.* Запруддзе. *Па кро́квах ла́цюць.* Міцюкова, Багданава, Гарадзец.

**ЛАШЧЫ́НА, ЛАХЧЫ́НА** *ж.* Лагчына, нізіна; нізкае месца сярод адхонных схілаў. *Там лашчына бох зна́іць іка́я, і рачу́шка там.* Буй. *Уся́ лашчына там, бало́та прапада́ець.* Цясішча. *Лашчына – у каго́ ні́ска.* Гарадзец. *У лашчыне ду́жа гра́зко.* Баравікі. *Дзе лахчына, салаве́й пяе́ць.* Дуброўкі.

**ЛА́ШЧЫЦЦА, ЛА́СЦІЦЦА** *незак.* Лашчыцца. *Ты ласцісся к яму?* Нямойта. *Чълавек такі, ла́шчыцца к ка́ждаму.* Марозаўка.

**ЛА́ЯЦЬ** *незак.* Лаяць. *Ла́яць – дык э́та руга́цца.* Марозаўка.

**ЛЕ́БЕДЗЬ, ЛЕ́БІДЗЬ** *м.* Лебедзь. *Ле́бідзі там къла рэ́чкі ні цігалісі, на во́зіры цігалісі.* Багданава. *Булі гу́сі-ле́бедзі па во́сем кіло́, пъбаялісі гэ́ты гот хо́ладу Эі кво́лыя.* Вялікі Азярэцк.

**ЛЕБЯДА́, ЛІБЯДА́, ЛІБІДА́** *ж.* Лебяда. *Упе́рад лебяда́ расла́ харо́шая, а цяпе́р – макры́ца.* Запруддзе. *Лібяда́ вы́расцець, хот ты яе́ тапаро́м ссіка́й, мале́нькую свінні яду́ць.* Каралі. *І макры́ца расце́ць, і асо́т, і лібіда́, дрост, курува́ты, така́я ліпу́чая.* Багданава. *Лібіду́ свіння́м дава́лі і вары́лі.* Гарадзец. *Лібяды́ во німа́.* Рассвет, Леснікова. *Лібіда́ ў бъразне́ вы́ръсла.* Закур'е.

**ЛЕВАСЭ́РАЎШЧЫНА** *ж.* Час, калі пры ўладзе былі левыя эсэры. *Не́йкая левасэ́раўшчына была́. Ба́цьку зъбра́лі, бо ў во́ласці служы́ў.* Фасаўшчына.

**ЛЕ́ГЧЫ, ЛЕ́ХЧЫ** *зак.* Легчы. *Гу́скі ле́глі лі вады́.* Малы Азярэцк. *Кінеш баці́нък це́рас замёт і куды́ но́сам ля́жыць, туды́ за́муш* (павер'е). Гарадзец. *По́зна ле́хчы.* Каралевічы. ◊ ЛЕ́ГЧЫ ЛО́ГАМ. Ляжаць доўгі час. *Як лёг ло́гам, ста́лі дава́ць ваду́, біспале́зна въда́.* Партызаны.

**ЛЕ́ЖАЦЦА** *незак.* Вылежвацца (пра лён). *Ляжы́ць лён, ле́жыцца на харо́шых по́жнях.* Каралі.

**ЛЕ́ЖАННЕ** *н.* Вылежванне (пра лён). *Заме́ста ле́жъньня ён выма́чывъўся.* Савінічы.

**ЛЕ́ЖМА** *м.* Гультай, абібок. *Ах ты ло́дыр, ляжы́ш як ле́жма.* Марозаўка. ◊ ЛЕ́ЖМА ЛЯЖА́ЦЬ. Ляжаць не ўстаючы. *Ле́жма ляжы́ць, як нап'е́цца.* Запруддзе.

**ЛЕ́ЖЫЦЦА** *незак.* Улежвацца, рабіцца мяккім (пра грушу). *Йгру́шы вы́ръстуць і ле́жуцца на йгру́шыні.* Сянно.

**ЛЕ́ЗЦІ** *незак.* 1. Лезці. *Калі́ кот ле́зіць у печ, то бу́дзіць хо́ладна* (прыкмета). Галашчакіна. *Міжа́ ту́та і ня лезь зъ мяжу́!* Цясішча. *Наве́рх ле́зеш у ва сне – павышэ́нне.* Каралевічы. *Ле́зе вышэ́й на цапкі.* Малы Азярэцк. *Чаго́ ты ле́зла?* Нямойта. 2. *перан.* Прыставаць, дакучаць. *Ужо́ ш такі́ дурны́. К людзя́м ле́зіць.* Івоні. *Я яму́ гъвару́ сваё, а ён ле́зіць, ні атчапі́цца.* Гарадзец. 3. Не мець жадання есці. *Мне нічо́га ня ле́зіць. Усё ро́ўна я яго́ е́сці ні бу́ду.* Заазер'е. ◊ ЛЕ́ЗЦІ НА РАЖО́Н. Рызыкаваць, задзірацца; рабіць што-н. рызыкоўнае. *Ле́зіш нъ ражо́н.* Дольдзева.

□ *Ня пі, ня еш і с ха́ты ні лезь.* Малы Азярэцк.

**ЛЕ́ЙСТРЫ** *мн.* Рэчы. *Сваё ле́йстры прыма́йця.* Нямойта.

**ЛЕ́ЙЦЫ** *мн.* Лейцы. *Ле́йцы – е́та далікатней, а хто во́шкі заве́ць, късня като́рыя кіру́юць.* Манголія. *Выязны́я ле́йцы заву́ць, ко́жанныя, харо́шыя, і во́шкі* [з пянькі]. Гарадзец. *Ле́йцы – е́та во́шкі.* Дольдзева.

**ЛЕ́КАР, ЛЯКА́Р** *м.* Лекар, доктар. *Ду́жа ш ле́кар харо́шы. Такі́ ляка́р.* Савінічы.

**ЛЕ́МЕГ, ЛЕ́МЕХ** *м.* Дошка, якая прыбіваецца да краю даху. *Ле́мех адзі́н ні спра́вішся прыбі́ць, калі́ лімяга́ ні прыб'е́ш, бу́дзе кры́ша валі́цца. Лемягі́ – до́шкі па бака́х, дзе край кры́шы. Лемягі́ забі́лі, кры́ша не ўзарве́цца.* Дольдзева.

**ЛЕ́НТА** *ж.* Лента. *Ле́нтамі абвя́звалі і ўбіва́лі.* Багданава. ЛЕ́НТАЧКА *памянш. Ле́нтачкі такія заплята́лі.* Багданава.

**ЛЕ́ПШЫЦЬ** *незак.* Папраўляцца, выздараўліваць. *Ну, ле́пшый, здърав́ей, будзь здаро́вы!* Чуцкі.

**ЛЕС** *м.* 1. Лес, дрэвастой. *Дзе бóльшыя лясы́, то вóлкі хадзілі.* Багданава. *Було́ грыбóў па лісáм.* Баравікі. *Пашлі ў лéсі па грыбáх.* Міцюкова. *Бывáла, лясы́ былí чы́стые.* Цясішча. *Не было́ гэ́ткага лéсу па дзярэ́ўні.* Чуцькі. *Усé было́ пат лéсам.* Свечы. *Абы́ тóлькі ў лес – усядно́ вужáку ўвíдзіш.* Ракаў Засценак. *С уллянуўскіх лясóў мóжна пупáсць у Білавéжыскую пу́шчу.* Пожанькі. *Лес сърасéйскі быў, тáмъцькі бярóза ръслá.* Турава, Вялікі Азярэцк. 2. Лесаматэрыял. *У нас было́ плóха з лéсам.* Малы Азярэцк.

□ *Бóльшэ відáць за лясóм, чым пад насóм.* Дуброўкі. □ *Біца па лясу́ ні хóдзіць.* Каралевічы. □ *У лес дроў ня вóзяць.* Ракаў Засценак.

**ЛЕ́СВІЦА, ЛЕ́СНІЦА** *ж.* Лесвіца, прыстаўныя драбіны. *Лéсвіца нъ хáту лáзіць.* Фасаўшчына. *Лéсніцу падстаўляла і па вішнях лáзіла.* Савінічы. *Лéсніцу схваціў і ўзлез на чардáк.* Нямойта. *Лéсніца нъ хáту лéсці.* Багданава. *Лéсьвіцы нъ чърдáк стáвюць.* Кляпчэва.

**ЛЕ́СВІЧКІ** *мн.* Прыступкі. *Мáмкі, іду́-іду́ па лéсвічках.* Запруддзе.

**ЛЕ́СКА** *ж.* Лёска. *Лéска для падмáну ры́бы.* Дольдзева.

**ЛЕ́ТА** *н.* 1. Лета. *Жду лéта, як бóга, бяру́ лёну гéктара два, мъльчаня́ты хадзілі на лён, сéна са мной.* Запруддзе. *Па такíм лéту што дзéлаць?* Нямойта. 2. Год. *Былá два лéты ў дачкí.* Вялікі Азярэцк. *Тры лéты хадзíла на рабóту.* Мянюцева. ◊ НА ЛЕ́ТА. На будучы год. *На Купáлу па кýкле бáбу якýю здарóваю качáюць, кап жы́та на лéта было́.* Вялікі Азярэцк. *На лéта янá і дáўчыцца.* Партызаны. ◊ БА́БІНА (БА́Б'Е) ЛЕ́ТА. Цёплая сонечная пара ранняй восені. *Бáбіна лéта карóткае.* Вялікі Азярэцк. *Бáб'е лéта пóсле Пакрóва.* Гарадзец.

□ *Лéтам нóшкай коп, а зімóй рýчкай хоп.* Вялікі Азярэцк. □ *Зімá на лéта рóбіць (рабóтаець), а лéта на зíму́.* Леснікова, Алексінічы, Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Запруддзе, Міцюкова, Партызаны, Дуброўкі. □ *Зімóй к лéту лáдзісся.* Вялікі Азярэцк. □ *Лéта на зíму́ лáдзішся, зімóй – на лéта.* Малы Азярэцк. □ *Лéта збірáіць, а зімá паядáіць.* Запруддзе.

**ЛЕ́ТАСЬ** *прысл.* У мінулым годзе, летась. *Лéтась жылá, прóшлы гот і сёлітні гот жыву́ тут.* Серкуці. *Я лéтась рýку злъмáла на Пятрó.* Малы Азярэцк. *Лéтась шчо хадзíла, на нагáх былá. Лéтась буцяны́ прыляцéлі па снягý.* Нямойта, Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Запруддзе. *Лéтась і грыбóў не было́.* Закур'е, Неўгадава.

**ЛЕ́ТАШНІ** *прым.* 1. Мінулагодні, леташні. *Павíдла лéташнее, залéташнее стаíць.* Вялікі Азярэцк. *Дзядóўнік цэ́нкі такí, стары́, лéташні.* Фасаўшчына. 2. Які наведваўся мінулым летам. *Éта ты́я лéташнія дзéўкі.* Багданава.

**ЛЕ́ТАШНІК** *м.* Пярэзімак, мінулагодняе цяля. *Лéташнік – у прóшлае лéта радзíўся цялёнък, прашлагóдні.* Рассвет. *Лéташнік, інá пакрывáцца павінна.* Нямойта. *Пéршъга гóду жърабёнък, пералéтаваў, а на лéта вяснóй ён ужó лéтъшнік.* Сянно. *У нас у аднóй хъзя́йкі былá карóва і цёлъчка, лéтъшнік памéшчыцкага завóду.* Міцюкова, Карпавічы.

**ЛЕ́ТНІ** *прым.* Цеплаваты, крыху падагрэты, летні. *Стáніць лéтнія, тады́ дрóжджы.* Дольдзева.

**ЛЕ́ТНІК** *м.* Летняя дарога праз балота. *Наўпрамку́ лéтнікам у Замóшша ня прóйдзіш.* Ульянавічы.

**ЛЕ́ЧАННЕ, ЛЯЧЭ́ННЕ** *н.* Лячэнне. *Лéчыння ні пумъгáя маймý зя́цю.* Гарадок. *Раз сáмі знáяце лячэ́нне, мóжаце éхаць дамóй.* Гарадзец.

**ЛЕ́ЧЫЦЦА** *незак.* Лячыцца. *У Маскву́ е́здзіла, ле́чылася. Усю́ды ле́чылася, ніч́ога ні памага́ець.* Буй. *І ле́чылісі лю́дзі так, ле́чылісі.* Запруддзе. *У Багушэ́ўску ле́чыўся.* Леснікова. *Ён ле́чыўся, у яго́ аско́лкі сядзе́лі.* Апечкі.

**ЛЕ́ЧЫЦЬ** *незак.* 1. Лячыць. *Ба́цька на плічáх вы́нес, до́ктар ле́чыў.* Фасаўшчына. *Яку́ю хваро́бу ле́чылі яму́? Мо́жа ў раёні лепш бы ле́чылі?* Малы Азярэцк. *Стары́х не хо́чуць і ле́чыць.* Цясішча. *Яе́ ле́чылі, ле́чылі і не памагло́.* Партызаны. *Ско́лькі яго́* [бок] *ле́чу, тру, грэ́ю!* Гарадзец. *Я для наро́да рабо́таю, я людзе́й ле́чу.* Нямойта. *Ле́чалі прафесара́ ма́льчыка.* Міцюкова. *Сама́ ле́чу нагу́, а яна́ прыкіда́іцца.* Запруддзе. *Я пае́хъла но́гі лячы́ць, а яны́ ле́чуць жалу́дак.* Ульянавічы. 2. *перан.* Рабіць прыгодным для замешвання хлеба (пра дзежку). *Ле́чуць дзе́жку: кладу́ць каме́нь, чабо́р, кіпятко́м аблíва́юць.* Вялікі Азярэцк.

**ЛЕ́ШКА** *ж.* Градка. *Бурако́ў ле́шку со́дзім.* Леснікова. *Две ле́шкі цыбу́лі* [дзве грады], *іна́ ў пука́х уся́.* Галашчакіна. *Палíва́лі ле́шкі ў ма́і, а цяпе́р атліва́ла з баразны́.* Баравікі. *Ле́шку памідо́раў пасадзіла. У мяне́ тры ле́шкі каро́ду, там боп сядзіць і квасо́ля.* Партызаны. *Пайду́ памале́ньку ле́шку прапалю́.* Закур'е.

**ЛЕШЧ** *м.* Клешч (насякомае). *У аве́чак ляшчы́ бува́юць, стрыжэ́ш, а ён воп'е́цца чо́рненькі.* Багданава.

**ЛЕШЧ** *м.* Лешч. *Лешч – шыро́кая, кру́пнъя ры́ба. Па сем кілъгра́м бува́іць, а чаты́ры рагуля́рна.* Сянно. *Лешч есь у во́зіры, вядзе́цца.* Багданава.

**ЛЁГКА, ЛЁХКА** *прысл.* Лёгка. *Кор лёгка прахо́дзіць, як усё ў но́рму да́ўшы.* Нямойта. *Тут ска́чуць лёгка.* Каралевічы. ЛЁГАНЬКА *памянш. Ду́жа лёганька хадзіць у лапця́х.* Багданава.

**ЛЁГКІ, ЛЁХКІ** *прым.* 1. Імклівы, хуткі. *Я кажу́, што ся́ду нъ кыня́, а конь быў лёгкі* [мог зайца дагнаць]. Міцюкова. 2. Рухавы, увішны. *Я гурува́ла, але́ лёхкъя была́, усё ўспіва́ла.* Нямойта. 3. Успрымальны да захворвання. *А я была́ яшчэ́ і тро́ху лёхкъя да гэ́тага гры́пу.* Чуцькі. 4. Посны (пра ежу). *Лёхкъя іда́.* Буй. 5. Просты пры вымаўленні. *Та́ня, Мі́ша, Ве́ра – лёхкія імёны, а Хадо́ска, Зо́ся – ні так.* Буй. ЛЁГАНЬКІ, ЛЁГЕНЬКІ *памянш.* 1. Вельмі лёгкі, бязважкі. *Уну́к у ло́дкі е́здзіць, іна́ лёгънькъя.* Багданава. 2. Звычайны, тыповы. *Я к лёгънікъму прыме́ру скажу́, што ніхто́ пі́ліць* [дровы] *ня хо́чыць.* Запруддзе. ◊ ЛЁГЕНЬКІ НА ЯЗЫ́К. Гаваркі. *О, лёгенькая на язы́к: хо́дзіць і буруздзіць абы-што́.* Дольдзева. ◊ ЛЁХКАЯ СМЕРЦЬ. Раптоўная смерць. *Лёх і ні ўстаў – лёхкъя сьмерць.* Чуцькі.

**ЛЁД, ЛЁТ** *м.* Лёд. *Ільду́ кі́дъюць кусо́чък у дзяжу́* [як саладуха засаладжваецца]. Кішуроўшчына. *А лёт шчэ вясно́й лъма́іш, ідзёш, аш кроў сцыць з ног. Трыцца́тъга* [сакавіка] *Ляксе́і – шчу́ка хвасто́м лёт б'ець* [павінен рушыцца лёд] (павер'е). Багданава. ◊ ЯК ЛЁДУ. Роўна, не менш і не больш. *Мне шэсцьдзеся́т дзе́вяць, як лёду.* Савінічы.

**ЛЁН** *м.* 1. Лён. *Лён цвіце́ сі́ненькім, як жо́ўценькім ста́не, так і браць мо́жна.* Вялікі Азярэцк. *Лёну кусо́чак пасе́ілі.* Запруддзе. *Звазі́лі лён на ток і бі́лі пра́ннікам.* Буй. *Лён се́ялі ра́ньшы, по́слі ўсіх, як ране́й жылі́.* Чуцькі. *У ба́ні лён мя́лі на цёрку.* Партызаны. *Вот ільны́ ста́лі плахе́я, ні́ткі гнілэ́я.* Савінічы. *Лён мя́лі, трапа́лі, спуска́лі ды ўсё ў ха́це – гэ́та ціпе́р, каб у ха́це ні пылі́ны.* Багданава. *Лён сабо́й насі́лі.* Цясішча. *Бра́лі лён рука́мі.* Закур'е. 2. Ільновалакно, ільняныя ніткі. *С ільну́ вяро́ўкі ві́лі, вос уціска́ць.* Леснікі. *У нас або́ркі то́лькі з лёну ві́лі.* Багданава.

**ЛЁСТАЧКІ** *мн.* Папярочныя планкі паміж аглабінамі і ўзгалоўем у драбінах; лёстачкі. *Лёстачкі дзе́лаліся із ёлкі, гне́цца харашо́, як распа́рыш і ні так гніёць.* Дольдзева. *Як са́ні, вазо́к красіве́йшыя – ззаду зро́блены лёстачкі.* Фасаўшчына.

**ЛЁТАЦЬ**, **ЛЯТА́ЦЬ** *незак.* 1. Лятаць. *Ды ні віда́ць нідзе́ яе́, ня лётаіць* [моль]. Заазер'е. *Калі сніцца, што лётаіш, калі ляце́ць, то хърашо́.* Ракаў Засценак. *Пчо́лы лётъюць у сучо́к і перазімава́лі* [перазімавалі за абшаляваннем хаты]. *Буцянок лётуў. Вы́къмріў яго́ чълаве́к* [а яго выкінуў з гнязда буцян малы]. Сянно. *Варо́ны, саро́кі лётъюць; саро́кі ху́дшыя, яны́ ціпля́т хъпа́юць.* Нямойта. *Каро́ўка-баго́ўка, што лётаіць.* Сукрэмна. *Кажаны́ ліята́лі ў пу́нях, дзе се́на.* Багданава. *Карала́цкія жукі́, му́сіць, ня лётаюць?* Рулёўшчына. 2. Хутка хадзіць, бегаць. *Лётаіш, як ку́раца з яйцо́м.* Вялікі Азярэцк. 3. Заляцацца. *К дзе́вачкам лётаіць і лётаіць.* Заазер'е. 4. Вадзіць самалёты. *Пліма́ннік мой лётъіць* [лётчык]. Пожанькі.

**ЛЁТКА**, **ЛЕ́ТКА** *ж.* Адтуліна ў вулеі для вылету пчол; ляток. *Лётка – куды́ пчо́лы ўліта́юць.* Міцюкова. *Перад дажджо́м гудзя́ць пчо́лы, ляця́ць, усе́ лёткі ўкры́юць. Пчо́лы ляця́ць ды па́даюць на лётку.* Вялікі Азярэцк. *Праз лётку вылята́юць пчо́лы на іск.* Запруддзе. *Садзі́цца пчала́ на лётку.* Міцюкова. *Лёткі – што ўліта́юць пчо́лы.* Кішуроўшчына. *У лётку ляту́ць пчо́лы к ма́цы.* Неўгадава. *У вуле́і ле́тка.* Закур'е.

**ЛЁХКІЕ**, **ЛЁХКІ** *мн.* Лёгкія. *Лёхкіе ў мяне́ харо́шые.* Ульянавічы. *У лёхкі быў ра́нены, быў канту́жаны.* Запруддзе. *Лёхкага атва́ранага ў каўбасу́ даба́вюць.* Міцюкова.

**ЛІ́ВЕНЬ** *м.* Лівень. *Лівень ліў, бу́льба паатмя́кла.* Багданава. *Бу́льба цвіце́ла, лівень як даў, ста́ла со́хнуць.* Вялікі Азярэцк. *Лівень быў заўчо́ра, але́ ніч́ога шчэ.* Партызаны, Міцюкова.

**ЛІГО́ТА**, **ЛЯГО́ТА** *ж.* Ільгота. *Е́слі ў каго́ двоя дзяцей, то ліго́ты німа́.* Дольдзева. *Ляго́та мне пенсіяне́рцы ёсь.* Нямойта.

**ЛІДА́ІК** *м.* Моташнасць. *Ліда́ік гаво́раць ад яды́, ні то́е з'еў, ташні́ць.* Вялікі Азярэцк. *Пло́ха пад грудзьмі́, ліда́ік.* Алексінічы.

**ЛІДА́ШНА** *прысл.* Дрэнна, кепска. *Пло́ха, ху́да, ліда́шна мне.* Савінічы.

**ЛІДЗЯ́К** *м.* Лядзяк, невялікі кавалак лёду. *Муку́ ржану́ю на загне́ці съладзілі, размі́ша́юць хало́днай вадо́й, туды́ лідзякі́, ста́ніць сало́ткай.* Фасаўшчына. *Схваціла вады́ з лідзяка́мі і на мяне́. Вады́ з лідзяка́мі – лік, усё і па́мяць пацяра́ла* [учадзела ў лазні]. Нямойта.

**ЛІЖА́К** *м.* Ляжачы калодачны вулей, які ўстанаўліваецца на козлах. *Ра́ньшы ліжакі былі вы́дзеўбаныя.* Нямойта. *Ліжакі былі – ліпо́выя кало́ды, на казе́лькі паста́ўлены, ме́тра паўтара́, вы́дзеўбаныя, як калясо́ закры́та, здзе́лана лётка.* Вялікі Азярэцк. *З дзе́рава дупло́ бярэ́цца – і ліжа́к.* Міцюкова. *Ліжакі ра́ньшы былі, выда́ўбываюць з дзе́рава.* Запруддзе. *Ні ра́машнікі, а ліжакі былі.* Кляпчэва. *Ліжакі дува́лі харо́шы збор.* Фасаўшчына, Кішуроўшчына. *Ліжакі прадаўгава́тыя.* Закур'е. ЛІЖАЧО́К *памянш.* *Купіў пчол кало́ду, зьплаціў тады́ ты́сячу васімсо́т рубле́й за ліжачо́к.* Кляпчэва.

**ЛІЖА́НКА** *ж.* Ляжанка. *Ліжа́нка нъвярху́.* Гарадзец. *Ліжа́нку зро́білі пры гру́пкі і таплю.* Неўгадава.

**ЛІ́ЖБА-ЯКІ́** *займ.* Абы-які. *Лі́жба-які грып нашла́ і ра́да.* Сукрэмна.

**ЛІЖНЯ́К** *м.* Гарызантальная частка дымахода, ляжак. *У пе́чы прасты́ ко́мін, а ліжня́к у гру́пку ўхо́дзіць.* Неўгадава.

**ЛІ́ЗАЎКА** *ж.* Прыстасаванне для ручнога прадзення кудзелі. *Дай мне лі́заўкі!* Фасаўшчына.

**ЛІЗА́ЦЬ** *незак.* Лізаць. *Ла́ска ліжыць пот у каро́вы. Прышо́ў казёл і дава́й ёй ру́кі ліза́ць.* Багданава. *Ня плюй, а то на тым свеце́і бу́дзіш гъра́чую скъваро́ду ліза́ць* (павер'е). Запруддзе.

**ЛІЗГІ́НКА** *ж.* Лізгінка (танец). Багданава.

**ЛІЗНУ́ЦЬ** *зак.* 1. Лізнуць, дакрануцца губамі, языком. *Ру́ку як лізне́ш, го́ркі дрост, як пе́рац* [рвала рукой дрост]. Запруддзе. 2. З'есці чаго-н. зусім нямнога, паспытаць. *Лізне́ць чаго́-не́будзь і ўсё. Лізне́ць чуць-чуць і ня есць.* Міцюкова. *Калі ж тро́ху лізну́ў, яшчэ́ хо́чацца лізну́ць.* Вялікі Азярэцк.

**ЛІЗУ́Н** *м.* Ліслівец. *Лізу́н, як ла́скаў ду́жа, лісліві.* Міцюкова.

**ЛІК** *м.* Падлік. *Лік на́да, патычы́тъвъіш мълако́* [колькі літраў]. Неўгадава.

**ЛІКПУ́НКТ** *м. устар.* Пункт па ліквідацыі непісьменнасці; лікпункт. *На лікпу́нкт хадзілі, наўчы́лыся чыта́ць і піса́ць, гро́шы лічы́ць.* Чуцькі. *Як ста́лі лікпу́нкты, хадзілі. А ў лікпу́нкце ўжо не павучы́лася.* Рассвет.

**ЛІ́ЛІЯ** *ж.* Лілія (расліна). *Ліліі раслі гэ́тыі бе́лыі на во́зірі.* Нямойта.

**ЛІМАНА́Т** *м.* Ліманад. *Дай мне яшчэ́ лімъна́ту.* Партызаны.

**ЛІМІ́Т** *м.* Дэфіцыт. *Там на ліміт да́ўка, за лімітам во́чарадзь.* Нямойта.

**ЛІМО́Н** *н.* Лімон. *Лімо́ны кі́слыя, глаза́ выла́зяць на лоб, а яна́ есць.* Жохава.

□ *Каму́ лімо́н, а каму́ скры́пка с-пат лімо́на.* Савінічы.

**ЛІМО́НІЦЬ** *незак.* Ухіляцца ад працы, лодарнічаць, гультайнічаць. *Той лімо́ніць – два вякі жыць не бу́дзеш.* Каралевічы.

**ЛІН** *м.* Лінь. *Лін бо́льшы, а лінок ма́ліны.* Багданава. *Лі́на ўлавіла.* Міцюкова. *Лі́ны ёсць у нас.* Фасаўшчына. ЛІНО́К *памянш.* Багданава.

**ЛІНА́ЦЬ** *незак.* Ліняць (пра птушак). *Уво́сень ку́ры начына́юць ліна́ць, пе́р'я ўсё з іх высыпа́іцца.* Самсоны.

**ЛІ́НІЯ** *ж.* ◊ ГНУЦЬ У АДНУ́ ЛІ́НІЮ. Разам настойліва дабівацца чаго-н. *Яны́ сьпе́ліся міжду сабо́й, сдружы́ліся, у адну́ лі́нію гнуць.* Запруддзе.

**ЛІНКФА́РТ** *м.* Інфаркт. *Іна́ сказа́ла, што лінкфа́рт се́рца быў.* Буй.

**ЛІНО́ЛІЙ** *м.* Лінолеум. *А гэ́та ліно́лій, на ле́та вы́нісу ў калідо́р.* Леснікова.

**ЛІНУ́ЦЬ, ЛІ́НУЦЬ, ЛІЎНУ́ЦЬ** *зак.* 1. Лінуць, хлынуць. *Тры разы́ лінуць вады́.* Партызаны. *Ліну́лі на яго́ ваду́.* Ракаў Засценак. *Дош як ліну́ў – бу́льба ў вадзе́ ўся.* Ульянавічы. *Кроў ліну́ла ў пяць часо́ў.* Манголія. *Як лі́нула кроў з но́су.* Алексінічы. 2. Выступіць. *Не́шта мне пот хало́нны ліну́ў.* Каралевічы. ЛІК. Плюхнуць. *Вады́ з лідзяка́мі – лік на мяне́ – і па́мяць вярну́лася.* Нямойта.

**ЛІ́ПА** *ж.* 1. Ліпа. *С лі́пы са́ма лу́ччы мёд лячэ́бны.* Запруддзе. 2. Ліпавы цвет. *І з цвято́ў лі́пы ва́руць варэ́нне.* Багданава. 3. Палоска ліпавага лыка, кары. *З лі́пы ла́пці плялі.* Буй.

**ЛІ́ПІНА** *ж.* 1. Асобнае дрэва ліпы, ліпіна. *Бальша́я лі́піна стая́ла. Лі́піна цвіці́ць праз даро́гу.* Багданава. 2. Драўніна гэтага дрэва. *Лі́піну рашчэ́пяць, каляско́м зро́бяць – рэшато́, ліпо́вае пълатно́ нацягнуць.* Запруддзе. *З лі́піны крэ́слы.* Каралевічы.

**ЛІ́ПНІК** *м.* 1. Ліпняк. *Ла́зня там стъя́ла ў лі́пніку.* Баравікі. *Лі́пнік, клён у нас расце́ць. У лі́пніку сцень. Лі́пнік яшчэ́ ні цвіці́ць.* Партызаны. *Лі́пніку мно́га ля О́былі і так лі Сінна́.* Сянно. *Лі́пніку расце́ць мно́га.* Гарадок. *С лі́пніку лы́кі дра́лі.* Дуброўкі. 2. Ліпавы цвет. *З лі́пніку – ліпо́вы цвет, ад прасту́ды.* Партызаны. *Лі́пнік сушы́лі, пяклі праснакі.* Алексінічы. 3. Палоскі ліпавага лыка. *Стары́ мой плёў з лі́пніка* [карзіну], *лі́піну ссячэ́ць, лы́кі надзярэ́, пляце́ карзі́нкі.* Багданава. *Плялі з лі́пніку ла́пці.* Дуброўкі.

**ЛІПО́ВЫ** *прым.* Ліпавы. *Ла́пці, ла́патні ліпо́выя плялі.* Багданава. *Ла́пці спляцёць такія ліпо́выя.* Заазер'е. *Ліпо́вые дро́вы са́мые ху́дшые: гара́ць і ту́хнуць.* Партызаны. *Ліпавы мёд па́хнець. Больш ліпо́вы мёт сма́шны, грачнёвы – нісма́шны.* Міцюкова. *Ліпо́вы цвет ад прасту́ды.* Каралевічы. *Ліпо́вы цвет – ліпа цвіце́ла.* Запруддзе. *Ліпо́вы цвет – чай уку́сны, кра́сненькі такі.* Партызаны.

**ЛІПУ́ЦІК** *м.* Ліліпуцік. *Ліпу́цікі мале́нькія дзве.* Гарадзец.

**ЛІПУ́ЧЫ** *прым.* Ліпкі, клейкі. *Павіліца така́я ўе́цца, ліпу́чая.* Заазер'е. *Смо́лкі ліпу́чыя. Ліпу́ча, як мёт.* Багданава.

**ЛІС** *м.* Ліс. *Муж у лісіцы ліс заве́цца.* Багданава.

**ЛІСА́** *ж.* Ліса. *Ліса́ бе́гаіць за плуга́мі, мышэ́й ло́віць. Ліса́, віда́ць, што вы́скъчыць з ле́су і пъшла́ ў лес* [а я ўсё бачу, кароў пасучы]. Міцюкова. *Ліса́ спіць, ва сне курэ́й відзіць.* Гарадзец. *У мяне́ ліса́ тры ку́рыцы зъдавіла.* Багданава. *Лісы за кібісамі ахо́ціліся, цэ́лу ноч бу́дуць крыча́ць.* Леснікова, Нямойта.

**ЛІСАМІ́НКА** *ж.* Бальзамін (пакаёвая кветка). *Лісамі́нка – цвет на акне́ – кра́сненькім цвіціць.* Мянюцева.

**ЛІСАПЕ́Т** *м.* Веласіпед. *З лісапе́тамі кру́жацца, на двор прыязджа́юць.* Ракаў Засценак. *Ты на лісапе́це е́здзіш?* Чуцькі, Багданава.

**ЛІСЁНАК** *м.* Лісяня. Багданава.

**ЛІСІ́ЦА** *ж.* Лісіца, ліса. *Лісі́ца з лісіня́тамі схува́ласі, а адзін лісёнък аста́лсі.* Багданава.

**ЛІСІ́ЦА** *ж.* Лісічка (грыб). *Расцёць у нас лісі́ца, сураве́жа...* Алексінічы.

**ЛІСІ́ЦА** *ж.*, **ЛІСІ́ЦЫ** *мн.* Маленькія санкі, падсанкі. *На лісі́цах вазілі браўно́.* Міцюкова. *На э́ту лісі́цу дро́ва во́зяць. Лісі́цы – са́ні, къпылы́ вы́шай.* Леснікова.

**ЛІСІ́ЧКА** *ж.* Лісічка (грыб). *У нас ё сураве́шкі, лісі́чкі, ба́пкі, бъравікі.* Запруддзе. *Лісі́чкі ат атлажэ́ння салёй, ка́жаць.* Багданава. *Лісі́чкі ў тым го́дзе – касо́й касі.* Вялікі Азярэцк, Старая Беліца. *Лісі́чкі збіра́лі, падарэ́хавікі.* Дуброўкі. ЛІСІ́ЧЫНКА *памянш. Адну́ лісі́чынку відзіў с пу́гавінку.* Баравікі.

**ЛІСІ́ЧЧЫ** *прым.* Лісіны. *Лісі́ччыя го́ры – там но́ры былі.* Запруддзе.

**ЛІСЛІ́ВЫ** *прым.* Ласкавы, пяшчотны. *Такі лісліўы, хоць і малы́.* Запруддзе.

**ЛІСТ** *м. зб.* Лісце. *Як жа стаў ліст з я́блачак па́даць!* Ульянавічы. *Лі́сту ў нас ні было́, адны́ я́блыкі.* Івоні. ЛІСТО́К *памянш.* Гарадзец, Міцюкова.

**ЛІ́СЦЕ** *н. зб.* Тое ж. *Лісце клянo̍выя, на іх хлеп пяклі.* Рулёўшчына. *Чарвяк з'еў усё лісця капу́сты.* Фасаўшчына. *Мало́шнік свінні ядуць хараш́о, жо́ўтым цвіціць, лісця шыро́кія.* Жохава. ЛІ́СЦЕЙКА *памянш. У ма́і лісцейка ма́лінькае пъяўля́іцца.* Дольдзева. *У бярэ́зіны лісцейка дро́бненькае, на Тро́йцу не рва́лі з бярэ́зіны ве́ткі.* Міцюкова. *Лісцейка дро́бнае ў жгу́чкі.* Каралі.

**ЛІСЦІ́НА** *ж.* Адзін ліст. *Лісці́ну* [аеру] *аддзярэ́ш, скары́начка жо́ўценькая ў хле́бе, і хлеб ні прыгара́ець.* Гарадзец. *Лісці́ну лаўро́вую ў грыбы́ ўкіну, калі ёсь.* Сяргейкі. ЛІСЦІ́НКА *памянш. Па лісці́нцы ліст капу́сты кла́лі на лапа́ту, по́тым хлеб – экано́мілі муку́.* Міцюкова.

**ЛІСЦІ́ЦЬ** *незак.* Нанізваць. *Гэ́ты лісто́к лісцілі.* Вялікі Азярэцк.

**ЛІСЯНЁНАК** *м.* Лісяня. *Лісянёнък адзін пъпа́лсі.* Багданава.

**ЛІ́ТАР** *м.* Літр. *Га́рніц – тры лі́тара.* Пожанькі. *Калі на лі́тър – чугункі, а бальшэ́і чугуны́ заву́цца.* Багданава.

**ЛІТО́К** *м.* Адтуліна ў вулеі для вылету пчол; ляток. *Э́та прылётная даска́, а э́та літо́к называ́іцца.* Нямойта.

**ЛІТО́ЎКА** *ж.* Від касы. *У мяне́ літо́ўка была́ і* [таксама] *сямёрка.* Леснікова.

**ЛІТО́ЎСКІ** *прым.* Літоўскі. *Шаду́йкіс – літо́ўская сям'я́.* Івоні.

**ЛІЎША́** *агульн.* Ляўша. *Ліўша́ ці вой, дро́вы като́ры сячэ́ць ле́вай руко́й.* Багданава.

**ЛІ́ФІК** *м.* Станік, ліфчык. *Лі́фік зашпі́ліваўся на баку́.* Гарадзец.

**ЛІ́ФЦІК** *м.* Тое ж. *Лі́фцікі кужэ́льные на руба́шку надзіва́лі.* Буй.

**ЛІ́ХА** *н.*, **ЛІ́ХІ** *мн.* Ліха, гора, зло, няшчасце. *Каб на цябе́ лі́ха яко́е ста́ла!* (праклён). *Каб на цябе́ ўсе лі́ха ўзвалі́лася!* (праклён). Запруддзе. *Ня бу́дзе лі́ха, калі́ яно́ ці́ха спіць.* Ульянавічы. * Craсіяліхі быва́юць. Бу́ры быва́юць на Пятро́, такі́я лі́хі.* Малы Азярэцк. ◊ ЛІ́ХА ЛІХО́Е. Бяда, зло, няшчасце. *Яны́ там твъра́ць лі́ха лiхо́е.* Ульянавічы. ◊ НА ЛІ́ХА. На што, на якую патрэбу. Рулёўшчына. ◊ ЛІ́ХА ЯГО́ ВЕ́ДАЕЦЬ. Невядома. *А лі́ха яго́ ве́даіць.* Каралі.

**ЛІЦВЯ́К** *м.* Літовец. *У Іво́ні былі́ ліцьвякі́ ды мъскалі́. У Ке́ръсах у ліцвяко́ў была́ пра́лка-ліжа́к* [а ў нас не]. Рассвет.

**ЛІЦЕ́ЙШЧЫК** *м.* Ліцейшчык. *Сын быў ліце́йшчыкам, во Ле́ніна вы́ліў, Пу́шкіна вы́ліў.* Ульянавічы.

**ЛІЦО́** *н.* Твар, аблічча. *Ні на́да бра́цца за ліцо́, як пажа́р, радзі́мка бу́дзе* (павер'е). Міцюкова. *Пасто́й, пасто́й, мі́ленькі, / Ско́ра прыбяру́ся, / З бе́лым лі́цам, / З чы́стым се́рцам / К табе́ прыгарну́ся* (з песні). Каралевічы.

**ЛІЦЬ, ЛЛІЦЬ** *незак.* 1. Ліць. *Ліць ціріз паро́г нільзя́ – сліна́ бу́дзець цячы́ з дзіця́* (павер'е). Запруддзе. *Як суро́цы, як суро́чыў хто, – лі ў рэ́шъта ваду́, ці це́ръс кля́мку, ці це́ръс ду́шку ў замку́, – йдзе дзі́рка ёсь* (павер'е). Ракаў Засценак. *Хало́дную ллюць на ка́мні, там* [у лазні] *стаі́ць бо́чачка.* Багданава. *Чырыс гэ́ты по́піл льлюць ваду́.* Нямойта. 2. Выліваць, здаючы дзяржаве. *Усе́ льюць у бак, ні ку́піш ні ў ко́га мълъка́.* Багданава. 3. Ісці, падаць (пра вялікі дождж). *Калі́ дошч іллець, ілле́ць і ка́жуць: цяпе́р вызыва́й чарце́й і выдзіра́й той мак.* Запруддзе. 4. Цячы. *Жа́рка і так пот ілле́ць.* Міцюкова. *Сядзі́ць, а з яго́ пот ллець.* Партызаны.

**ЛІЧЫ́НКА** *ж.* Лічынка. *Ба́бачкі адклада́юць лічы́нкі.* Партызаны.

**ЛІЧЫ́ЦЦА** *незак.* Лічыцца, расцэньвацца. *Як яно́ там лічы́лася, а зва́лі каму́най.* Малы Азярэцк.

**ЛІША́Й** *м.* Лішай (хвароба скуры). *Набіра́ліся ат ско́ту, ат цілят ліша́я е́тага.* Багданава.

**ЛІ́ШАК** *м.* Лішак. *Ша́хір-ма́хір дзе́луў, лі́шък браў сабе́ і ў цюрьму́ пупа́ў.* Баравікі.

**ЛІ́ШНІ** *прым.* Лішні. *Кусо́к аста́ўся лі́шні, то́рбу пашы́іш.* Турава.

**ЛОБ, ЛОП** *м.* Лоб. *Па лбу́ ўлу́піць ба́цька* [калі за сталом зашумяць дзеці]. *Кап яму́ во́чы на лоп пъвыла́зілі!* (праклён). Багданава. ◊ ЛОБ У ЛОБ. 1. Тварам у твар. *Пяць штук дзе́вък сідзя́ць, лоп у лоп.* Заазер'е. 2. Аднолькавага росту. *Ідуць ма́льцы, лоп у лоп. Было́ ма́льцъў лоп у лоп.* Запруддзе.

**ЛОГ, ЛОХ** *м.* Шырокі і доўгі яр з адхоннымі схіламі; лог. *Тут лох, а там гъра́.* Гарадок. *У лагé там я не́як спужа́лася.* Гарадзец. *Лох там ідзе́ць, і валер'я́наўка расце́ць.* Апечкі.

**ЛО́ГАВІШЧА** *н.* Логава. *Во́ўча мало́жа – там я́гады. Называ́ецца таму́, што там ло́гавішча ваўко́вае.* Запруддзе.

**ЛО́ГАМ** *прысл.* ◊ ЛЯЖА́ЦЬ ЛО́ГАМ. Ляжаць нерухома, не маючы сіл падняцца. *Лёг саўсі́м ло́гам, год пракача́ўся і памёр.* Партызаны. *Ма́тка пръжыла́*

*во́семдзесят чаты́ры гады́ і дзве нядзе́лькі то́лькі, і то ло́гам ні ляжа́ла, усе́ па каро́ве вълнава́ласі.* Багданава.

**ЛО́ГУВА, ЛО́ГАВА** *н.* Логава. *У нас кълы са́мъя ха́ты было́ і́хнъя ло́гува* [пра ваўкоў]. *Па грыба́х пайшлі́, а там ло́гава во́ўчыя, касце́й по́ўненька.* Багданава.

**ЛОГУВЫ́** *прым.* Трава з логу. *Логува́я трава́, дзе лох.* Жохава.

**ЛО́ДЫР** *м.* Гультай, лодар, лежань. *Ло́дыр, не хаце́ла рабо́тацъ.* Самсоны. *Ах ты ло́дыр, ляжы́ш як ле́жма.* Марозаўка. *Такі́ ж ло́дыр, што у во́сім часо́ў падня́ўся.* Міцюкова. *Ло́дыраў ра́ньшы ні было; на́да ш было́ рабо́тацъ.* Дольдзева.

**ЛО́ЖАЧКА** *ж.* Сонечнае спляценне. *Пад ло́жачкай забале́ла.* Гарадзец.

**ЛО́ЖКА, ЛО́ШКА** *ж.* Лыжка. *Пръдъва́лі ло́шкі я́блынъвыя.* Каралі. *Расцо́м ло́шкі выръза́лі.* Фасаўшчына. ЛО́ЖАЧКА *памянш. Такі́ і дава́лі* [яду] *ле́жучы па ло́жачцы.* Заазер'е.

□ *Кърав́ая ло́шка ўсігда́ рот дзярэ́* [пра крыклівага чалавека]. Нямойта.

**ЛОЙ** *м.* Топлены нутраны тлушч (авечы, ялавічны); лой. *Аве́ччы лой, каро́ўскі жыр.* Фасаўшчына. *Лой зва́лі с каро́вы.* Самсоны.

**ЛО́КШЫНА** *ж.* Локшына. *Ло́кшына – цяпе́рашняя лапша́ заве́цца.* Серкуці.

**ЛОМ** *м.* Лом, металічная палка. *Ён з ім быў у канто́ры, а по́тым забі́ў ло́мам.* Дольдзева.

**ЛОМ** *м.* 1. Ламачча, абламаныя галіны дрэў. *Тут то́лькі лом пасе́клі і нагрузі́лі на магі́лку.* 2. Карчы. *Тут той лом то́лькі павы́ціра́білі.* Буй. 3. *эмац.-ацэн.* Пра старых хворых людзей. *У дзярэ́ўні астае́цца адзі́н лом.* Запруддзе. *У бальні́цы адны́ старэ́я, адзі́н лом, там быў Йван, Та́ня, Хадо́ра Ме́ншъя, Анто́ніха, Марэ́я Арка́дзіўна.* Чуцькі.

**ЛО́МКА** *прысл.* Нязручна. *Гру́да, такі́ маро́с. Ло́мка е́хаць гэ́та па гру́дзі, пъ ралі́.* Фасаўшчына.

**ЛО́ПАЎКА** *ж.* Зазубень, зазуб, зазубіна. *Ло́паўкі на кассе́, е́слі пло́хо паклі-па́ў, іна́ ло́пніць і пло́ха рэ́жыць.* Дольдзева. *Ло́пъвак наго́ніць, тады́ къса́ рвець, ня го́ніць.* Жохава. *Наганю́ ло́павак на касе́, ні магу́ касі́ць ніяк.* Партызаны. *Ло́паўка на касе́, вална́мі падзе́лаіцца.* Мянюцева. *Другія наго́няць ло́павак на касе́ – здзе́лаюць касу́ няро́ўную, няўме́кі.* Запруддзе. *Ло́павак наго́нюць, як хто не ўме́іць кляпа́ць касу́.* Нямойта, Заазер'е, Партызаны, Фасаўшчына.

**ЛО́ПАЦЕНЬ** *м.* Планка з адтулінай, у якую ўстаўляецца верхні канец млёна (дзяржання ў жорнах). *У жо́рнах ло́пацень ёсць, у які́ ўстаўля́ецца ме́лянь. У ло́пацень праліва́юць ваду́ ат суро́цы. Ме́лянь то́ркаецца ў ло́пацень* [у жорнах]. Вялікі Азярэцк.

**ЛО́ПАЦЦА** *незак.* 1. Лопацца, трэскацца. *Ко́жа ло́паецца на кале́ні, нямо́жна пераде́зці.* Багданава. *У яе́ ўсе но́гі чо́рные, ве́ны ло́паюцца, ду́жа стра́шная нага́. Ве́на ні так зжыла́ся, як не то́е – ло́паецца.* Запруддзе. *Лі́павая сту́па ня ло́палась.* Міцюкова. 2. Разрывацца. *Сэ́рца крэ́пкае і ня ло́паіцца.* Нямойта.

**ЛО́ПАЦЬ** *незак.* 1. Лопаць, трэскаць. *Рабро́ ло́паець, рука́ ло́паець.* Запруддзе. 2. Пляскаць. *Іду́ць папе́раду пъ вадзе́ ло́паюць бо́йткай, ну зъганя́юць, а ён с чарпако́м стаі́ць і ло́віць.* Заазер'е. 3. Трашчаць. *Асі́навыя* [лучынкі] *ло́паюць і трэсь-трэсь-трэсь, такія і́скры дро́бненькія сы́пюцца.* Багданава. ЛОП-ЛОП 1. Лапатаць крыламі. *Пяту́х лоп-лоп кры́ламі.* Ульянавічы. 2. Заміргаць павекамі. *Лоп-лоп – дъчка́ запла́кала.* Каралевічы.

**ЛО́ПНУЦЬ, ЛО́ПНАЦЬ** *зак.* 1. Лопнуць, разарвацца (пра сэрца, крывяносныя сасуды і да т. п.) *Калі́-та была́ сагну́ўшыся, ды ў гла́зу сасу́т ло́пнуў.* Нямойта.

*Лóпнала гéтая вéна, стáла цеч.* Запруддзе. *Лóпныла язва.* Кішуроўшчына. 2. Лопнуць, трэснуць. *Лóпніць – залілася ўся жырам.* Багданава. *Мальцы папірóсу сунуць у рот* [жабе], *яна цігáіць, аш лóпніць.* Вялікі Азярэцк. *Ён рóбіў жóрны, а кáмінь лóпнуў.* Дуброўкі. 3. Адлегчы. *Марóз бальшы, то нáда лысых шчытáць, каб було ўлішку* [3, 5, 7... няцотны лік], *то марóз лóпніць* (павер'е). Нямойта.

**ЛÓПУХ** *м.* Лопух (расліна). *Лóпух, ён вяснóй пéрва на дварэ жóўтым цвіціць.* Фасаўшчына.

**ЛÓПУХА, ЛАПУХÁ, ЛАПÝХА** *ж.* Тое ж. *Сáмай рáнняй вяснóй лóпуха зацвітáіць на балóці.* Запруддзе. *Лóпуха – сáмая пéрвая ў лéсе, жóўценькім цвéтам цвіціць, ранéй кóзам давáлі.* Чуцькі. *Лóпуха па балóтах расцéць.* Каралі. *Лóпух ці лапýха завýць, ён з вясны начынáіць па мóкрым мястáм.* Фасаўшчына. *Лапухá ў балóтах рáна, бы снех сóйдзе.* Багданава. *Лапухá зялёная, жóўценькім цвéцікам цвіціць.* Чуцькі. *Лъпухá вяснóю распускáіцца. Кóзы лъпухý ядýць.* Багданава. *Лапýха жóўтум цвéтам цвіціць, лісты шырóкія.* Самсоны, Буй, Леснікова.

**ЛÓПУШКА** *ж.* Прыстасаванне ў выглядзе акраўка гумы і пад. на ручцы для знішчэння мух; хлапушка. *Лóпушку вазьмý, ляп-ляп – крысы баяцца, ні йдуць.* Нямойта.

**ЛОСЬ** *м.* Лось. *Аднó врэм'е тут ласі хадзілі.* Латыгаль. *Ё і ласі, хто мóжыць, хто суméіць – ахóціцца. У нас у барý ё і ласі. Ласі з ласіцамі тáма бéгалі.* Багданава.

**ЛУБ'Ё** *н. зб. эмац.-ацэн.* Старыя людзі. *Адны пінсіянéры, луб'ё старóя сядзіць у нас.* Запруддзе. *Луб'ё аднó пъастáлъся, мъладых німá.* Чуцькі.

**ЛÝБКА, ЛÝПКА** *ж.* Ручны кораб з лубу, бярosты; лубянка. *З лýбкаю ў пóле выйдзеш, сéіш.* Партызаны. *Начáла, хлéба атразáіць, у лýбкі красівыя, сóлі ў трáпачку – і ідзéць сéяць.* Каралевічы. *Даéць дзед жыта лýбку.* Закур'е. *Лýпка – éта сéялі жыта, з лýбак. Ну такія лýпкі звáлісі былі, такія плéціныя.* Гарадзец. *Лýпка із лык, сéялі, з лýпкою ішлі па пóлі. Лýпкі такія с салóмы, сéялі з лýбък.* Вялікі Азярэцк. *Плялі с салóмы кулявэй лýпкі.* Нямойта. *Съламяная сівáлка, сéюць што дабрó, лýпка завéцца.* Каралі. *Сусéт павéсіць лýпку на шыю і сéіць у дзве рукі.* Гарадок. *Лýпкі іс салóмай аржанэй. Карзінка крýглая і рýчка, я сам яé пляў.* Жохава, Багданава, Запруддзе, Савінічы, Фасаўшчына, Чуцькі.

**ЛУБÓК** *м.* Жалабок для катання яек. *Лубóк быў з дрэва, на Пáску късчáлі яйцы.* Манголія.

**ЛУБУДÁ** *ж.* Старое або падранае адзенне; лахманы. *Раз ніхарóшае – лубудá* [тут распораны світар]. *Чужóе éта – лубудá.* Савінічы, Каралевічы.

**ЛУБЯНКА** *ж.* Ручны кораб з лубу, бяросты; лубянка. *Лубянкі застáўлены, парасёнка абжáрыць, пасвéцяць, шалухý ад яек хранілі, свянцóнае.* Цясішча.

**ЛУБЯНЫ** *прым.* Цвёрды, нягнуткі, лубяны. *Змóршанаё, сухóё, лубянóё, як пакачáіш, то рóўненькае.* Багданава.

**ЛУГ** *м.* Заліўны луг. *Сéна на лугý. Луг нізка, сéна нехарóшае.* Гарадзец. *А лугі былі óбычыя.* Ульянавічы. *Калакóльчыкі цвітýць і рамáшкі на лугáх.* Буй. *Ні съхранілі нáшы гранóмы лугі.* Сянно. ЛУЖÓК *памянш. Лушкі малыя былі, ашэіны такéя.* Баравікі.

**ЛУГ, ЛУХ** *м.* Шчолак, луг. *С пóпілу дзéлълі луг, éтым лýгъм бяллё мылі.* Серкуці. *Шчóлак, лух звáўся, пóпілам мылі, лáвашнага ні былó, бяллё простóя, сваё.* Каралі. *Сліская въдá ад лýгу, скуты бялілі. Сóды ні былó, лух грэлі.* Багданава. *Навáруць залы, лýгу, тады лýгу саллéш, слізенькае.* Гарадзец. *Вадá сліская-сліская, лух звáлася, і кіпяцілі, і мылі ў ёй. Із пóпела, кап бяліць, дзéлалі вадý, лух*

*называ́лася.* Вялікі Азярэцк. *Лух шче шчо́лак называ́юць.* Заазер'е. *Лу́гу з по́пелу нава́рым.* Закур'е, Нямойта. ЛУЖО́К *памянш. У лужо́к пъкладзёш пълатно́, каб выіда́ла су́ръвісь.* Запруддзе.

**ЛУГО́ВІШЧА** *н.* Логавішча, лежня. *Луго́вішча – ме́сца тако́е распра́вяць ласі́ – і ліжа́ць.* Жохава.

**ЛУДА́** *ж.* Адходы пры веянні зерня, пазаддзе. *У зярне́ луда́ – тра́ва, уся́къя чмура́. Гаро́шак астае́цца, мякі́на, асе́ўкі – уся́къя луда́.* Каралевічы. *Луда́ – уся́къе зе́лле, сме́цце, уся́къя чмура́* [у збожжы]. Марозаўка.

**ЛУ́ЖА** *ж.* Лужына, лужа. Багданава.

**ЛУ́ЖЫНА** *ж.* Тое ж. *Дош прайшо́ў, во ка́жуць, лу́міны ці лу́жыны есь.* Гарадзец. *З лу́жыны вады́ бра́лі.* Нямойта.

**ЛУЙ** *м. эмац.-ацэн.* Гультай, абібок. *Сядзі́ш, як луй, дзень і ноч. Луй ты!* Фасаўшчына.

**ЛУКА́, ЛУ́КА** *ж.* Глыбокая мясціна на рацэ. *Лу́кі былі́, глыбо́ка на рэ́чцы.* Буй, Баравікі. *Там лу́ка, утапі́лася сястро́нка.* Каралевічы.

**ЛУ́КВІНА** *ж.* Цыбуліна. *Хай лу́квіну з'есць і спаць.* Сянно.

**ЛУ́МІНА, ЛУ́НІНА** *ж.* 1. Яма, паглыбленне, залітае вадой. *Лу́міна тъка́я ста́ніць, упа́дзіна.* Савінічы. *Дзе была́ яка́я лу́міна, тарфа́ панаво́зілі. Па лу́мінъх въда́ стаі́ць.* Леснікова. *Глідзя́ць, там лу́міна, а там яшчэ́ што, выдзіля́юць заго́н.* Фасаўшчына. *Лу́міна зуплула́, там торх къпа́лі.* Чуцькі. *Тут ёсь лу́міна глыбо́късь, упа́дзіна ме́труў пітна́ццъць.* Самсоны. *Лу́міна лі даро́гі, там і ба́бу нашлі́, пъды льдо́м ліжа́ла.* Кавалі, Гарадзец. 2. Невялікае балотца. *Лу́міна – тако́я бало́тца.* Запруддзе. 3. Лужына. *Вады́ мно́га, лу́міны стая́ць. Во на ву́ліцы лу́міны, дош налі́ў.* Заазер'е. 4. Палонка, лунка. *Гу́сі пла́ваюць цэ́лы дзень і ў ряке́ і ў лу́ніне, і э́та пе́р'я – бе́ла ўсю́ды.* Самсоны.

**ЛУ́МКА, ЛУ́НКА** *ж.* Палонка. *Лу́нка – дзе вада́, прабіва́юць лу́міну.* Фасаўшчына. *Лу́мкі прабіва́лі ў во́зеры. Лу́мку прарубі́лі і яе́ туды́* [акунулі]. Закур'е. *Зімо́й лу́нку праб'ю́, каб ры́ба не зато́хнулася, хле́ба, камбіко́рму кі́ну.* Партызаны. *Лу́нку прабіва́юць на во́зеры.* Багданава.

**ЛУНА́ЦІК** *м.* Лунацік. *Луна́цік – што па луне́ но́ччы хо́дзіць, па во́зіры мо́жыць іцці́ луна́цік.* Вялікі Азярэцк. *Пры луне́ хо́дзіць луна́цік.* Багданава.

**ЛУ́НУЦЬ** *зак.* 1. Памерці, згінуць. *Уве́сь наро́т лу́ніць, і кане́ц све́ту.* Запруддзе. *Кап ты лу́нуў, кап ты паме́р!* (праклён). Багданава. *Ужо́ чълаве́кі тры лу́нулі* [з-за даўкі ў чарзе за гарэлкай]. Фасаўшчына. 2. Прапасці, згнісці. *Ні́скі агаро́т, бу́льба мо́жыць лу́нуць.* Латыгаль.

**ЛУПАНУ́ЦЬ** *зак.* Лупянуць, моцна лінуць (пра дождж). *До́жджык, до́жджык, лупані́, / Ба́бу з по́ля прагані́* (з дзіцячай песенькі). Каралевічы.

**ЛУПА́ТЫ** *прым.* Губасты, губаты. *Лупа́тые гу́бы, лу́пы вялі́кіе.* Гарадзец. *Лупа́ты, о лу́пы так лу́пы.* Нямойта. *Лупа́ты чалаве́к – лу́пы* [губы] *бальшы́я.* Багданава, Фасаўшчына.

**ЛУПА́ТЫ** *прым.* Вірлавокі, лупаты. *Лупа́тыя во́чы – лу́пы е́та.* Гарадзец.

**ЛУ́ПАЦЬ** *незак.* Лыпаць. *Ты ні глядзі́, вачмі́ ні лу́пай.* Гарадзец. ЛЫП. Лыпнуць. *Вачы́ма лып – і абудзі́лася.* Каралевічы.

**ЛУПІ́ЦЦА** *незак.* Лупіцца. *А сьві́ньнёнък жа ня лу́піцца!* Гарадзец. *Казлы́ лу́пюцца, а мъхъві́кі не.* Алексінічы.

**ЛУПІ́ЦЬ** *незак.* 1. Ачышчаць ад лупін; абіраць. *Як ста́ну лупі́ць* [бульбу], *ды нідзе́ растко́ў німа́.* Серкуці. *Яны́ аблу́пюць* [яйкі], *у соль памо́чаць.* Запруддзе.

*Сураве́шкі трэ́ба лупі́ць, а то го́ркія.* Нямойта. *Казёл трэ́ба ша́пъчку лупі́ць.* Дольдзева. 2. Знімаць скуру з забітай жывёлы, бяліць. *Як лу́піш аве́чку, то ко́жу зніма́лі.* Нямойта. *Ко́жу ўпяро́т лу́піш са свінне́й.* Багданава. *Ста́лі ту́ю цёлку лупі́ць, бялі́ць.* Каралевічы. *Я прыеха́ў лупі́ць аве́ц* [якіх забіў пярун]. Міцюкова. 3. Лупцаваць, моцна біць. *Усяго́ было́, і па рука́х лупі́ў. Прут узя́ў і па назе́ лупі́ па́длі.* Запруддзе. 4. Спяваць не спыняючыся. *Лу́піць і лу́піць пе́сні, то адну́, то другу́ю.* Міцюкова. 5. Хутка ісці, бегчы. *А куды́ ш ты ўжо лу́піш?* Чуцькі. 6. Танцаваць з запалам. *Ма́льцы лу́пяць ба́рыню з дзіўча́тамі.* Партызаны. 7. Бесперапынна страляць. *Парцізаны лупі́лі ў цэ́ркву.* Дуброўкі.

**ЛУПНУ́ЦЬ** *зак.* Моцна лінуць (пра дождж). *Дошч як лупну́ў, лі́вень каро́ткі.* Нямойта.

**ЛУ́ПЫ** *мн.* 1. Вялікія губы. *Лу́пы быва́юць то́нкія і то́ўстыя.* Фасаўшчына. *О, лу́пы дык лу́пы!* Нямойта. 2. Лупатыя вочы. *Лупа́ты чалаве́к – лу́пы бальшэ́я.* Багданава. *Лу́памі як павядзе́ць.* Гарадзец.

**ЛУПЯНУ́ЦЬ** *зак.* Моцна выцяць, ударыць. *Лупяні́ яго́!* [сабаку]. Багданава.

**ЛУСКА́** *ж.* 1. Перхаць; лускавіны на скуры чалавека. *Луска́ – пе́рхаць у галаве́, асо́бінна як ма́ленькі ро́дзіцца, пе́рхаці мно́га.* Заазер'е. *Луска́ не́кая ста́ніць, свярбу́чая.* Багданава. *Луска́ сыпецца бе́ленькая, як бума́га.* Баравікі. 2. Луска (рыб). *Луска́ на ры́бі была́, э́та луска́.* Заазер'е.

**ЛУСКАНО́К** *м.* Пра сытае, дагледжанае парася. *Во якія харо́шыя пъръся́ткі, як лусканкі!* Леснікі.

**ЛУСКА́ЦЦА** *незак.* Пераліквацца, блішчаць. *Каро́ва аш луску́еццa* [такая сытая, тлустая]. Чуцькі.

**ЛУ́СТА** *ж.* Плоскі вялікі кавалак хлеба, сала і інш.; луста. *Атрэ́ш хле́ба кусо́к. Як лу́сту – тады́ бальшы́ кусо́к.* Заазер'е. *Лу́сту хле́ба атрэ́заў.* Гарадзец. *Атрэ́жыш скі́бу ці лу́сту і еш* [здор; тлушч нутраны]. Міцюкова.

**ЛУ́ТКА** *ж.*, **ЛУ́ТКІ, ЛУТКІ́** *мн.* Вушакі, бакавыя стаякі асады дзвярэй і акон. *Лу́тка з бако́ў вако́н.* Багданава. *Абса́да ў во́кнах ці лу́ткі.* Міцюкова. *Лу́ткі ў во́кнах, у дзвяра́х.* Леснікова. *Ша́пка над вакно́м, а е́та лу́ткі, е́та падаке́ннік. Лу́ткі ў вакне́. У дзвяра́х апса́да, ці дзвярна́я лу́тка.* Гарадзец. *Лу́ткі ў во́кнах развалі́ліся.* Буй. *Ша́пка на лу́ткі надзяе́цца ў дзвяра́х.* Каралі. *Лу́тка і падаке́нка ў вакне́.* Розмыслава. *Лу́ткі з бо́ку вако́н, зве́рху – ша́пка.* Дольдзева. *Лу́ткі ў вакна́х.* Вялікі Азярэцк, Мянюцева, Партызаны, Серкуці. *Э́та луткі́, а э́та ша́пка ў дзвяра́х.* Фасаўшчына.

**ЛУ́ЧЧЫ**, **ЛУ́ЧЧА** *прысл.* 1. Лепш. *Лу́ччы з расо́й касі́ць сіве́ц.* Багданава. *Кры́га – е́та се́тка, уме́ста таптуна́, таптуно́м лу́ччы.* Дольдзева. *Лу́ччы гълаве́ ста́ніць, каро́ву вазьму́.* Вялікі Азярэцк. *По́слі вайны́ мы лу́ччы жылі́.* Чуцькі. *Лу́ччы німа́ яло́вый* [дубец] *прыці́ць бро́ўны.* Алексінічы. 2. Найлепш. *Са́ма лу́чча се́іць цімахве́йку.* Жохава.

**ЛУ́ЧЧЫ**, **ЛУ́ЧЧЭ**, **ЛУ́ЧШЫ** *прым.* 1. Найлепшы. *Лу́ччых грыбо́ў німа́, як ваҏу́шкі* [вясной] *і апе́нькі* [увосень]. Міцюкова. *Што лу́ччэ – пахава́ла.* Ульянавічы. *Лу́чшэй жы́зьні ні было́ і ня бу́дзіць, як цяпе́р.* Гарадзец. 2. Самы добры. *Пръсна́к – са́ма лу́ччэя яда́.* Каралі. *Са́ма лу́ччу нясі се́тку!* Сянно.

**ЛУ́ЧЧЭЙШЫ** *прым.* Лепшы. *На́да накапа́ць луччэ́йшага* [хрэну]. Фасаўшчына.

**ЛУЧЫ́НА** *ж.* Лучына. *Па́лкі з бяро́зы павы́сушуць, і лучы́ну палілі.* Запруддзе. *Нато́ркніш у яе́* [у светач] *лучы́ну. Лучы́ну дзе́лалі, сасо́начку зрэ́жыш, слая́мі*

*падзярэцца, на печ пасушыш і паліш. Лучына палілася, капцела.* Багданава. *С сасны сама харошъя лучына.* Гарадзец. *Лучына дагараець.* Ульянавічы, Каралі. *Лучына была па метру з ёлкі і сосны.* Неўгадава. ЛУЧЫНКА *памянш. Тады лучынка гарэла, я троху помню.* Запруддзе. *Лучынку палілі, у светъч торкалі.* Багданава. *Лучынкай свеціш у шкаф.* Ульянавічы.

**ЛУЧЫНА** *ж.* Цыбуліна. *Крышы адну лучыну!* Карпавічы.

**ЛУШЧАНЫ** *прым.* Лузаны, ачышчаны. *Сагнеш арэшыну і нашчыпіш ня лушчъных арахоў.* Партызаны.

**ЛУШЧЫЦЦА** *незак.* Пераліваццa, блішчаць. *Адзежа была, прама аш лушчылася.* Багданава.

**ЛУШЧЭЦЬ** *незак.* Шамацець (пра грошы). *Ці лушчыць у бабы ў кашальку – палядзяць і пойдуць.* Нямойта.

**ЛЫБІЦЦА** *незак.* Усміхацца. *Глядзіць, лыбіцца: «Ці спазнала мяне, кума?»* Партызаны.

**ЛЫБКІ** *прым.* Усмешлівы. *Лыбкі, прыятны мушчына.* Баравікі.

**ЛЫКА** *н.* Доўгія палоскі кары, з якіх плялі лапці; лыка. *Лапці плялі з лык ліповых.* Каралі. *З лазы – лыкі, з лыкаў – лапці.* Багданава. *Лыка купіць нада, усё нада было.* Серкуці. *Лыкі дралі, лапці плялі, пянькой, лыкамі патплятялі.* Нямойта.

**ЛЫНДАЦЬ** *незак.* Гультаяваць, бадзяцца. *Гультай, так ён лындаець.* Фасаўшчына. *Лындыіць гультай.* Заазер’е.

**ЛЫНДЫ** *мн.* ◊ БІЦЬ ЛЫНДЫ. Бадзяцца без працы. *Гультай, так ён лындаіць, лынды б’ець.* Фасаўшчына.

**ЛЫСІНА** *ж.* Лысіна. *Лысіна ўжо зышлася.* Міцюкова.

**ЛЫСЫ** *прым.* 1. Лысы. *Лысы, у зеркала можна глядзецца.* Багданава. *Лыскі нъзвалі, што дзет пъсяліўся лысы, во й Лыскі.* Закур’е. 2. *перан.* Голы, пусты. *Што ў цябе за гарод, будзе зусім лысы.* Партызаны.

**ЛЫТКІ** *мн.* 1. Лыткі. *Як схваціў парсючок за ногі, за лыткі, як удараў мордай, як падцягнуў мяне парсючок, каб ты здох!* Партызаны. *Цячэць па лыткъх.* Багданава. 2. Ногі. *Умарылася з ранняя, ні шавелюць ужо мае лыткі.* Станюкі.

**ЛЫЧ** *м.* Рыла ў свінні, лыч. *Лыч у свінні.* Запруддзе. *Свіння лычом рыець зямлю.* Жохава. *А цяперка свінны лыч атрэш, высуш, ат суроцы спасаіць.* Партызаны. *Што ты рыеш тут, як свіння лычам? Свінні дзікіе ў нас ё, у іх лычы такія длінныя.* Вялікі Азярэцк.

**ЛЫЧАКІ** *мн.* Палазы ў санях з ляшчыны. *На лычаках ездзілі, ні было жалеза аковываць.* Міцюкова.

**ЛЫЧНЫ** *прым.* Зроблены з лыку. *Лычнае сіта дзелалі.* Жохава.

**ЛЫШНІК** *м.* Палоскі з лыку. *Лышнікъм зъпляцеш карзіну, паска първаліся, другоя зъпляцеш.* Багданава.

**ЛЭСНУЦЬ** *зак.* Ляпнуць, моцна стукнуць. *Як лэсніць нагою – ні падаіць, а калі ж нічога.* Запруддзе. ЛЭСЬ. Трэснуць, лопнуць. *Абкацілася мазалём рабро, а чуць што, яно лэсь, хроп.* Запруддзе.

**ЛЮБА** *прысл.* Міла, люба. *А нічога мне ня люба, ня дорага – так ногі бъляць.* Нямойта. *Ня люба нічога.* Дольдзева. *Скушна, ня люба сійчас.* Вялікі Азярэцк.

**ЛЮБАПЫТНЫ** *прым.* Цікаўны. *Ён такі любапытны быў.* Сукрэмна.

**ЛЮБІМСТВА** *н.* Прыхільнасць, сімпатыя. *Пъ любімству тут падбіраліся* [у гульню ў лапту і г. д.]. Запруддзе.

**ЛЮБІ́ЦІЛКА** *ж.* Любіцельніца. *Кіно́ любіцілка глядзе́ць.* Закур'е.

**ЛЮБІ́ЦЦА** *незак.* Любіцца, кахацца, кахаць адзін аднаго. *Ма́лец з дзе́ўкай лю́бяцца, і ён бярэ́ць.* Запруддзе.

**ЛЮБІ́ЦЬ** *незак.* 1. Любіць. *А лю́дзі лю́бюць скот гудува́ць.* Гарадзец. *Ра́ншы ку́ры пат пе́ччым жылі́, паме́т быў сухі́, а лук лю́біць паме́т.* Алексінічы. *Ёрш лю́біць кра́сныя, лю́біць мътыля́.* Багданава. *Грыбы́ ня лю́бюць, як хо́дзіць хто.* Пожанькі. 2. Кахаць. *Дружы́ць мо́жна са ўся́кім, а любі́ць аднаго́.* Канева.

**ЛЮБО́ВІНА** *ж.* Нятлустае мяса. *Я́лавічыны, любо́віны зварыла.* Баравікі.

**ЛЮБО́ВЫ** *прым.* 1. Нятлусты. *Любо́вое мя́са палямбі́цы.* Вялікі Азярэцк. *Адно́ любо́вае, о́карак за 50 рублёў.* Нямойта. *Любо́вае мя́са с къбана́.* Багданава. 2. *н.* Нятлустае сала, мяса. *Прадава́лі адно́е любо́вое: о́карак, мя́са ў ларку́.* Нямойта.

**ЛЮБО́Ў** *ж.* Каханне. *Мяне́ мі́лы ізмяні́л, / А я ду́ра пла́къла. / Палюбі́ла я друго́га, / Любо́ў адзіна́къва* (з песні). Каралевічы. *Нъ любо́ў гэ́та нъ ръма́шку зъга́дъвълі.* Савінічы.

**ЛЮБУТА́** *ж.* Дабрыня, выгода. *Любута́ цяпе́р, сядзя́ць, ціліві́зар.* Багданава.

**ЛЮ́БЫ** *прым.* Любы. *Дзе́ткі мае́ лю́быя.* Багданава. *Хадзі́, лю́бая, сюды́.* Ульянавічы. ЛЮ́БЕНЬКІ *ласк. Усё ўну́кі лю́бенькія, харо́шыя.* Баравікі. *Та́нечка, хадзі́, мъя́ лю́бенька.* Ульянавічы.

**ЛЮБЫ́** *прым.* Усякі. *Пясо́к* [у печ, як робіш] *насыпа́іцца любы́, а пра соль у нас і пъня́ція німа́.* Міцюкова.

**ЛЮ́ДЗІ** *толькі мн.* Людзі. *А лю́дзі здаро́выя былі́, а лю́дзі пе́лі, а цяпе́р, як ваўкі́. Пірамі́шалі людзе́й, здзе́лалі на свіне́й. У людзе́й тры дні пра́знуюць Купа́лу.* Запруддзе. *Я з людзьмі́ люблю́, хай лю́дзі бу́дуць заўсёды са мной. Ге́та пісьмо́ хадзі́ла па людзя́х.* Каралевічы. *Сяджу́ з людзя́мі, хоць атдыхну́.* Ракаў Засценак. *Ну, а лю́дзі ш людзя́м – і пашло́.* Леснікова. *Лю́дзям за кро́шачку хле́ба рабо́тала.* Кляпчэва. *Лю́дзі да яе́ хіну́цца. Па людзя́х хадзі́лі.* Дуброўкі. *І сваё зро́біш і людзя́м.* Закур'е.

□ *Свет ні бяз до́брых людзе́й.* Гарадзец. □ *Што блюдзём, то ўсё людзём.* Забор'е. □ *Гара́ з гаро́й ні схо́дзяцца, а лю́дзі схо́дзяцца.* Запруддзе.

**ЛЮДНЫ́** *прым.* Добры, чалавечны. □ *Адна́ – і та́я ні людна́.* Каралевічы.

**ЛЮДСКІ́, ЛЮ́ЦКІ** *прым.* Людскі, чалавечы. *А хто там лю́цкі – на́льля събра́лься.* Запруддзе. *Люцке́я дзе́ці събяру́цца.* Міцюкова. ◊ ЛЮДСКІ́ ПАРА́ДАК. Прыстойнасць, належнасць, чалавечнасць. *Кап быў людскі́ пъра́дък.* Запруддзе.

**ЛЮ́ДЦЫ, ЛЮ́ЦЦЫ, ЛЮ́ТЦЫ** *мн.* Зварот да людзей. *Лю́дцы, пчо́лы зъіда́лі мяне́.* Кішуроўшчына. *А лю́ццы мае́, я сто́лькі прарóбіла.* Запруддзе. *Лю́тцы, хоць яку́ю пасцілёну да́йця ўкры́цца.* Дуброўкі.

**ЛЮ́ЛЬКА** *ж.* Вісячая калыска, люлька. *Лю́лька дзе́лалася із дасо́к, па вуха́х вяро́ўкі працягваліся і падве́швалі.* Манголія. *Падвісна́я лю́лька была́ патчэ́пліна на вяро́ўках.* Запруддзе. *Лю́лька на падве́се.* Баравікі. *Два сыны́ ажана́тых, і дзве лю́лькі ў ха́ці вісі́ць: і жылі́, і ні даві́ліся.* Самсоны. *Лю́льку з сабо́ю за пле́чы, дзяцёнка ў лю́льку і іду́ ў по́ле.* Цясішча. *Лю́лькі ш ра́ньшы бы́лі, аппі́саіцца і ў мо́крым ляжы́ць.* Заазер'е. *Лю́лькі дзервя́нныя, начо́ўкі рабі́лі.* Міцюкова. *Ба́бы лю́льку нясьлі́ ў по́ля.* Серкуці.

**ЛЮПІ́Н** *м.* Лубін. *Люпі́н ідзе́ць для каро́ў, труць на ко́рам.* Розмыслава.

**ЛЮ́СТРА** *н.* Люстэрка. *Хто зе́ркъла, хто лю́стра ска́жыць.* Рэчкі.

**ЛЮСТЭ́РАК** *м.* Тое ж. *Люстэрак звáлі, зéркала звáлі, усяк звáлі. Люстэрък кáжуць, а хто – зéркала. Даунéй – люстэрак.* Гарадзец.

**ЛЮСТЭ́РЫКА** *н.* Тое ж. *Люстэрыка – гэта бувáлашнія слóва.* Гарадзец.

**ЛЮХТ** *м.* Уваход у акоп. *Я падбéгла, аткрыла люхт éты, дзе тáйны акóп быў.* Леснікова.

**ЛЮ́ХТА** *ж.* Дымавы праход у печы, грубцы. Міцюкова.

**ЛЮ́ЦКА** *прысл.* Добра, прыстойна. *Цяпéр жа люцка, харашó: і ні прадзём, і ні тчом.* Багданава.

**ЛЯ, ЛІ** *прыназ.* Ля, каля. *Балóння ля вóзіра.* Гарадок. *Я съмá былá ля тэй лýміны.* Кавалі. *Гэта лі нас, гэта ля іх.* Алексінічы. *Ля вéчык харóшъя сéна буló.* Каралі. *Лі нáшъй бáні ліпіна* [ёсць]. *Хай лі згарóды бýду сядзéць – нічóга, абы ніц ні лягла.* Запруддзе. *Рабóтала лі свінéй, лі хéрмы, а да вайны ў завóдзі. Што інá сдзéлъла лі ягó? Чагó ён плáчыць?* Манголія. *Казлы лі балóтуў растýць.* Неўгадава.

**ЛЯБЁДКА** *ж.* Самка лебедзя, лябёдка. *А гэта во лябёдка.* Заазер'е.

**ЛЯВО́НІХА** *ж.* Лявоніха (танец). *Лявóніху гулялі, вéсела бувáла* [было]. Багданава.

**ЛЯГУ́ШАЧНЫ** *прым.* Жабін. *У калéкі лягýшъчнъя гълъвá.* Багданава.

**ЛЯГУ́ШКА, ЛЮГА́ШКА** *ж.* Жаба. *Лягýшкі і шэрыя, і зялёныя.* Дольдзева, Каралі. *Лягýшка зялёная. Інá там, дзе мóкра.* Карпавічы. *У хáці лягýшкі-халёпы, янá скáча так халёп-халёп. Пéрвы раз увідзіш лягýшку нежывýю – нéхта памрэць* (павер'е). Багданава. *Вяснá настáнець, лягýшкі залівáюцца, аж ня чýцца.* Нямойта. *А цяпéр німá лягýшкі, ні крáкне. Лягýшку заб'éш і кініш, кап дош быў* (прыкмета). Партызаны, Гарадзец, Запруддзе. *На Купáлле вянóк кінуць у рэчку, балóта – лягýшка ўскóчыць, прыцісніць, бýдзіць вянóк стаяць на мéсці – і ў дзéўках бýдзіць тáя, што вянóк кідала* (павер'е). Міцюкова. *Ні люгáшак німá цяпéр, жукóў ніякіх.* Партызаны. *Цяпéра німá ні люгáшък, ні мáйскіх жукóў, ні кóнікуў німá, як сéна* [грабеш]. Нямойта. *Гавóраць: уб'éш люгáшку – дошч пóйдзіць* (прыкмета). Вялікі Азярэцк.

**ЛЯГЧЭ́Й, ЛЯХЧЭ́Й, ЛЕ́ГЧА, ЛЕ́ХЧЭ** *прысл.* Лягчэй. *Трóшачку лягчэй стáла.* Партызаны. *Зімóй ужó ляхчэй.* Запруддзе. *Ішчэ як сухáя пагóда, лéгча, а як мóкра, дахáнне займáе.* Розмыслава. *Цяпéр людзі мнóга лéхчэ рабóтаюць, бо міханізáцыя.* Гарадзец.

**ЛЯГЧЭ́ЙШЫ** *прым.* Лягчэйшы. *Лягчэйшае зéрне астаéцца, як абівóіш, харóшая ляціць упрóт.* Фасаўшчына. *Шчэ лягчэйшая былá.* Каралевічы. *Дýмала, лягчэйшае сасцірнý, пагóда дрэнная.* Нямойта.

**ЛЯ́ДА** *н.* 1. Дзялянка высечанага лесу, хмызняку. *Ляды церабілі, кустáрнікі высякáлі, каб пóжня былá.* Цясішча. *Там жа выкарчóўвалі ў лéсі, і ляда завýць.* Парэчча. 2. Зарослае месца ў агародзе. *Зъръслá ляда ў гарóдзі. Тръвá, як ляда, зърaслі грáды.* Гарадзец.

**ЛЯДЗІ́НА** *ж.* Халадэча, халадзіна. *Лядзіны былі, усé нóгі абмéрзлі. Вóзьмеш патрэш нóгі і дáлей пайшóў.* Кляпчэва.

**ЛЯДО́ЎКА** *ж.* Буйная плотка. *Крупнéйшъя плóтка завéцца лядóўка. Інá ідзéць у бéрíх, як лёд згъняіць з вóзіра, інá пасьлі льда ідзéць, а тады атхóдзіць і рыскъіць па вóзіру.* Багданава.

**ЛЯЖА́ЦЬ, ЛІЖА́ЦЬ** *незак.* 1. Ляжаць. *Так яны і ляжáць акалéўшы.* Нямойта. *Нап'éцца і бýдзіць тры дні ліжáць.* Багданава. *Во як, кáаць* [кажа], *пу прáўдзі скъзáць,*

*ідýў, а тут ляжыць бальшыйй воўк, сьпіць.* Міцюкова. 2. Затаіцца, ляжаць нерухома. *Рыба хітръ, прыдзіць к сéтцы, ляжыць і ляжыць.* Багданава. 3. Праходзіць, пралягаць. *Як асфáль* [асфальт] *ляжыць, скрось былá дзярэýня.* Жохава. 4. Быць хворым. *Па дзéсяць гадóў ляжáлі у пасцéлі.* Неўгадава.

**ЛЯЖЭ́ЙКА** *ж.* Верхняя і ніжняя планкі. *А э́та ляжэ́йка вéрхняя, а ёсць ляжэ́йка ніжняя* [у матах – саламяных пляцёнках, якімі завешвалі вокны і інш.]. Кляпчэва.

**ЛЯКА́РСТВА**, **ЛІКА́РСТВА** *н.* Лекі. *Самá сваімі лякáрствамі лéчыла.* Каралі. *Кап ты на лікáрства тэ́е грóшы аддáў!* Багданава.

**ЛЯКАТА́ЦЬ** *незак.* Клекатаць (пра бусла). *Буцян во прыляцéў, лякóчуць áісты.* Запруддзе.

**ЛЯКСЕ́Й** *м.*, **ЛЯКСЕ́І** *мн.* Аляксей; прысвятак у народна-царкоўным календары. *Трэ́ба каб на Ляксéя рыбіна хвастóм лёд разьбіла* (павер'е). *А тады Ляксéі, сімнáццътъга мáрта, éта. Кáжуць, рыбіна лёт разаб'éць. Éта рыбъкáм.* Багданава. *На Ляксéя ўжо рыбы разбівáюць лёд хвастóм. На Ляксéя жóнкі ні рабóталі, каб муж ні ўтанýў лóвячы рыбу.* Запруддзе. *Бýдзіць Ляксéй, свя́та. На Ляксéя шчýка хвастóм разбівáла лёд.* Самсоны, Вялікі Азярэцк, Партызаны.

□ *На Ляксéя* (*Аляксéя*) *шчýка* <*хвастóм*> *лёт разаб'éць.* Запруддзе, Партызаны, Самсоны. □ *Рыбіна лёд хвастóм разбівáіць на Ляксéя.* Вялікі Азярэцк.

**ЛЯ́ЛЬКА** *ж.* Цацка, забаўка. *Я к сасéду: «Ці мóжа на ля́лькі часы аддавáць ці пачыніў?»* Нямойта.

**ЛЯМЕ́НТЫ** *толькі мн.* Аліменты. *Янá на лямéнты падалá.* Розмыслава.

**ЛЯ́МЕЦ**, **ЛЯ́МІЦ** *м.* Лямец. *Ля́мец, хамуціна – вýпраш.* Міцюкова. *Німá хамутóў, німá лямцаў. С чагó ля́міц?* Нямойта. *Ля́мцы нъ хамýт, нъ сядзёлкі.* Фасаўшчына. *Ля́мцуў ні хъпáла нъ хумуты.* Алексінічы, Гарадзец.

**ЛЯМЕ́Ш**, **ЛЕ́МЕХ** *м.* Частка плуга, якая падразае пласт зямлі знізу; лямеш. *Плугі былі дзеравя́нныя, лéмех жалéзны.* Каралі. *Лéмех адзін ні спрáвішся прыбіць, калі лімягá ні прыб'éш, бýдзе крыша валіцца.* Дольдзева. *Два лімяшы* [у сасе]. Гарадзец, Вялікі Азярэцк.

**ЛЯНІ́ВЫ** *прым.* Лянівы. *Лянівъму каню хоць ты вáру падлі.* Заазер'е.

**ЛЯНІ́ЦЦА** *незак.* Ленавацца. *Шчыт не тапіла, лянюсю.* Запруддзе. *А ціпéр бáбы ліня́цца* [пячы булкі]. Манголія.

**ЛЯ́НПА** *ж.* Лямпа. *Ля́нпу запалі.* Алексінічы.

**ЛЯНЦЯ́Й**, **ЛІНЦЯ́Й**, **ЛЕНЦЯ́Й** *м.* Від кадрылі (танец). *Пóслі кадрылі ленцяя́ гуля́лі, шэсь пар нáда і па чатыры, як пазваля́ець хáта.* Марозаўка. *Ленцяя́ гуля́юць у дванáццаць пар, хоць выкрýчвай усю адзéжу.* Партызаны. *Лянцяя́ ранéй гуля́лі – танцавáлі.* Вялікі Азярэцк. *Лінцяя́ ў Сéркуцях танцавáлі.* Міцюкова. *Ліньця́й гуля́лі, двънáццаць калéн. Лінця́й у шэсць пар танцавáлі. Мéдленны ён, не замóрыссі. Тры тýтацькі, тры напрóціў, нéскалькі калéн былó, як хто здýмае.* Багданава. *Лінця́й – тáніц такі быў, чатыры-шэсь пар, па тры насýпраць, і пірахóд быў напрóціў. Начынáецца як кадрыля, патóм пáра за пáрай кругóм і на сваé мéсцы, тады хлóпцы стая́ць, дзéвушкі хóдзяць кáждаму з рукóй здарóваюцца, патóм апя́ць як кадрыля, і хлóпцы здарóваюцца, былó мнóга калéн, но паслéдняе былó: ідýць пáра за пáрай, я падхаджý, аддаю дзéвушку, музыкáнт іграіць бáрыню, у трох па дзве дзéвушкі, а ты далжóн выручáць, выбівáць бáрыню, малá выбіў – прывядýць, пакáжуць і назáт.* Леснікі, Самсоны. *І вальс, і пóльку, і лінція́ тънцъвáлі.* Запруддзе.

**ЛЯ́ПА** *ж.* Пыса. *Конь разбіў печ і вырвуў стъя́к, і парэ́зуў сабе́ ля́пу.* Міцюкова.

**ЛЯ́ПАЎКА** *ж.* Кругленькі званочак у выглядзе шарыка; балабон. *Ля́пъўкі ве́шълі каню́ на па́стві.* Гарадзец.

**ЛЯ́ПАЦЬ** *незак.* 1. Моцна стукаць, ляпаць. *Дъмавік е́та, як ля́жым спаць, ко́йку падыма́іць і бу́дзіць ля́паць, ля́паць.* Багданава. *Палатня́ныя шы́лі ту́флі, вяро́вачкі ві́лі, патшыва́лі падашву́ і смало́й пътсма́лівалі, кап ля́палі, сту́калі.* Фасаўшчына. *Но́ччы ля́палі б.* Леснікова. *Та́я там ля́паець у ха́це.* Нямойта. 2. Ляскаць (пра бусла). *Чо́рны буця́н дзю́пкъй ля́пъіць.* Сянно. ◊ ЛЯ́ПАЦЬ ЗУБА́МІ. Дрыжаць ад перапуду, калаціцца. *Я спужа́лася, не магу́ гавары́ць, зуба́мі ля́паю.* Багданава.

**ЛЯПЁШКА** *ж.* Праснак. *У вайну́ яку́ю ляпёшку хле́ба спычэ́ш.* Манголія.

**ЛЯПІ́ЦЬ** *незак.* 1. Ляпіць. *Ні ва́жна, кім бы ня быў, абы́ ні пръвъля́ў, хоць глі́ну ляпі́, уся́късь рабо́та ва́жнъя.* Каралевічы. *Тро́ху што-ні́будзь ляпі́ў дзед.* Нямойта. 2. Рабіць гняздо. *Ле́пюць гняздо́ з гра́зі, і бы́стра, і дні за тры.* Фасаўшчына.

**ЛЯ́ПНУЦЬ** *зак.* 1. Моцна стукнуць, ударыць. *Калі́ ўзяў рэ́мінь і як ля́пніць па сту́лу.* Запруддзе. *Во я между дзьвярэ́й ля́пнула па но́хцю.* Заазер'е. *Чу́ю не́хта ля́пнуў.* Галашчакіна. ЛЁП. Плюхнуць. *Ба́бу* [на хрэсьбінах] *вазі́лі ў мъгазі́н. Узя́лі калёсы бальшэ́і, кары́та, налі́лі вады́, пасці́лкай закры́лі, ба́ба ўзле́зла – лёп у ваду́.* Нямойта. 2. Жахнуць, бліснуць. *Мълыння́ як ля́пніць.* Багданава. 3. *перан.* Сказаць не да месца, неабдумана. *Зъ капе́йку* [што яму недаплацілі] *ля́пнуў пъ цілі́хво́ну.* Чуцькі.

**ЛЯ́СКА** *ж.* 1. Кій з загнутым дзяржаннем. *Я хаджу́ сь кіёчкъм, а гэ́та ля́ска, што з ру́чкъй. Ля́ска закру́чаная, а кіёчак праме́нькі. Дзе мая́ ля́ска? – дзет ска́жыць.* Кішуроўшчына. ЛЯ́САЧКА *памянш. З ля́сачкай хадзі́лі.* Кішуроўшчына. 2. Драўляная планка ў коле самапрадкі. *У ко́лі пра́лкі ля́ска, жыля́ска, кале́нчътый вал* [устаўлены]. Заазер'е.

**ЛЯСКАТА́ЦЬ** *незак.* 1. Трашчаць, поўніцца шумам, гудам. *А чаты́ры цапы́, пра́ма ляско́чъць усё.* Серкуці. 2. *перан.* Бясконца гаварыць. *Ляската́ць бу́дзе, чаму́ хле́ба не ўзяла́.* Каралі.

**ЛЯСКО́ВЫ** *прым.* Ляшчынавы. *На цэ́бър нъгъня́лі абручы́ ляско́выя.* Фасаўшчына.

**ЛЯ́СНУЦЬ** *зак.* Пляснуць, ударыць. *Як ля́снуў ёй пъ шчацэ́, дык у яе́ тры па́льцы так і астало́ся.* Вялікі Азярэцк.

**ЛЯСНЫ́** *прым.* ○ ЛЯСНЫ́Я ПЧО́ЛЫ. Дзікія пчолы. *Лясны́я пчо́лы – ідзе́ як ко́сіш, разры́еш у ку́піне.* Вялікі Азярэцк.

**ЛЯСО́ЎКА** *ж.* 1. Дзікая яблыня. *Каля по́граба лясо́ўка, сарве́ць, про́баець.* Нямойта. *У лясо́ўкі я́блыкі кі́слыя, аж го́ркія.* Запруддзе. 2. Яблыкі лясоўкі. *Гэ́та дро́бнъя лясо́ўка, я і сушы́ла, і здъва́ла тэ́я дро́бныя я́блычкі.* Рулёўшчына. *Кампо́т з лясо́вак сма́шны, паху́чы.* Запруддзе.

**ЛЯСЬ-ЛЯСЬ** *выкл.* Перадача гукаў ляскатання абутку. *Лясь-лясь – хадзі́лі па ву́ліцы.* Вялікі Азярэцк.

**ЛЯТУ́ЧЫ** *прым.* Лётны, які ўмее лётаць. *Пту́шкі ляту́чыя, ня зло́віш.* Сукрэмна. ○ ЛЯТУ́ЧАЯ МЫШ. Кажан. *Кажаны́ – гэ́тыя мы́шы ляту́чыя.* Багданава.

**ЛЯЎШЭ́ЎНЯ** *ж.* Алешына. *Ляўшэ́ўня – то́нкая дрэ́ва, кап мо́жна было́ абру́ч увагна́ць.* Багданава.

**ЛЯХА́, ЛЕ́ХА** *ж.* Града, ляха. *У нас ле́хі до́ўгія, ме́труў дзе́сіць. Я пъсадзі́ла цыбу́лі ляху́, квасо́лі ляху́, капу́сты ляху́, пумі́до́р ляху́.* Гарадок. *На ляху́ нъпа́лі*

*агурэ́чную – і пано́с.* Нямойта. *У нас ле́хі завём, ляху́ цыбу́лі, гурцо́ў са́дзім. Кўча́н капу́сты нъ лясе́. Па лясе́ растка́мі садзі́ла.* Запруддзе. *Мае́ ле́хі каля зімля́нкі на Піліпаўшчыне. Ле́хі мае́ на нага́х знясу́ць, ту́та ў грыбы́ хо́дзюць.* Партызаны. *Ле́хі такія шыро́кія.* Заазер'е, Івоні, Розмыслава, Фасаўшчына, Чуцькі. *На ле́хах памідо́ры, агурцы́, цыбу́ля.* Дуброўкі, Неўгадава.

**ЛЯХЧА́НЫ, ЛІХЧА́НЫ** *прым.* Пакладаны. *Жарэ́пчыку два гады́ – нялёхчаны, а ліхча́ны – ко́нік.* Нямойта. *Бъра́н ляхча́ны.* Гарадзец.

**ЛЯХЧА́ЦЬ, ЛІХЧА́ЦЬ** *незак.* Пакладаць. *Ляхча́юць къбана́, а то са́ла няўку́снае, не разажва́ць ніяк.* Алексінічы. *Къбана́ ні ліхча́лі, э́та кно́рас.* Станюкі.

**ЛЯХЧЭ́ЦЬ** *незак.* Паляпшацца, лягчэць. *Мне ста́ла ляхчэ́ць тро́ху.* Карпавічы.

**ЛЯЦЕ́ЦЬ** *незак.* 1. Ляцець. *Пчала́ на любы́ цвет ляці́ць.* Гарадзец. *На ляту́ ляці́ць буця́н.* Нямойта. *Ляце́ць сіні́чка, / Нясе́ць спадні́чку* (з песні). Партызаны. 2. Адлятаць. *Харо́шае* [зерне] *ляці́ць упе́рат.* Фасаўшчына. *Мякі́на, пыл ляці́ць.* Серкуці. 3. Падаць (пра чалавека). *Мушчы́ны як дъўляну́ць, аш ба́бы ліця́ць.* Заазер'е.

**ЛЯЧЫ́МЫ** *прым.* Вылечны. *Лячы́мая бале́зьнь, а паме́р чалаве́к.* Дольдзева.

**ЛЯЧЭ́БНЫ, ЛЯЧО́БНЫ** *прым.* Лячэбны. *Чо́рную рэ́дзьку со́дзюць, іна́ лячэ́бная.* Парэчча. *Кіпятко́м залі́ць бяро́завы ве́нік, насто́іцца, це́ла хърашо́ абдава́ць лячо́бным лі́стам.* Цясішча.

**ЛЯШЧЫ́НА** *ж.* Арэшына, ляшчына. *Нъ ляшчы́ні арэ́хі расту́ць.* Гарадок.

**ЛЯШЧЭ́ЎНІК** *м.* Арэшнік. *Схо́дзіць у лес, ссячэ́ць ляшчэ́ўніку і зро́біць ро́звіны.* Гарадзец, Багданава.

**ЛЯШЫ́ЦЬ** *незак.* Ставіць вешкі; ляшыць. *Ляшы́ць – е́та кагда́ се́юць урушну́ю з лу́пкі, а другі́ ідзе́ць сле́дам і то́ркаіць, кап пляшо́ў ні было́.* Дольдзева. *Ляшы́ць жы́тнъй сало́мъй.* Гарадок.

**МАГАЗІ́Н, МАГА́ЗІН, МАГАЗЫ́Н** *м.* 1. Магазін. *У магазі́не рабо́таіць няве́стка, у сасе́дняй дзярэ́ўні.* Багданава. *Магазі́н быў, а няго́ш.* Леснікі. *Мага́зін цяпе́р пусты́, даю́ць нам па́йкі то́лькі.* Станюкі. *Схадзі́ ў мъга́зін, купі́.* Гарадзец. 2. Запасное месца ў вулеі для мёду на выпадак багатага медазбору (частка вулея, куды ўстаўляюцца рамкі). *Паста́віў вярхі́, магазі́ны – така́я во каро́пка збіва́ецца і рама́чкі* [у вулеях]. Нямойта. 3. Будынак для захоўвання збожжа; свіран. *Магазы́н быў у Улля́навічах, жы́та, ячме́нь, пшані́цу там бра́лі.* Багданава.

**МАГАЗІ́НШЧЫЦА** *ж.* Прадаўшчыца. *Мъгазі́ншчыца і́хняя, з іх дзярэ́ўні, другі́ раз за́муж выхо́дзіць.* Нямойта.

**МАҐЕ́РА** *ж.* Магера (танец). *Маґе́ру скака́лі ўпры́сяткі. Хто маґе́ру выскачыць, / Той сто рубле́й выхваці́ць. / Чы́кі-чы́кі маґе́ра / На пры́печку сядзе́ла. / Кудзе́ліцу вярце́ла, / Кудзе́ліца ўпа́ла, / Маґе́ра прыпа́ла* (з прыпеўкі). Багданава.

**МАГІ́ЛЬНІК** *м.* Могілкі. *За магі́льнікам въда́ стаю́чая, кі́нуць вянкі́ на Купа́лле.* Нямойта. *Тут магі́льнік, ту́ркі былі́, памёрзлі і іх зъкъпа́лі ў буграны́.* Рассвет. *Паку́ль со́нца ўзо́йдзіць, каб ты на магі́льнік схадзі́ла, мо́жа ён* [сын] *ака́жацца.* Запруддзе. *Ад чаго́ «Гры́шкіна гара́», дзе ў нас цяпе́р магі́льнік?* Забор'е. *Нъ магі́льніку со́снік расьце́ць.* Гарадок, Чуцькі. *У Дубра́ўках харо́нюць нъ васьмі́ магі́льнікъх.* Закур'е, Дуброўкі.

**МАГУ́ТАНЬКА** *ж.* Моц, сіла. *Ахо́тънькі ёсь, а магу́танькі німа́.* Сянно.

**МАГУ́ТНЫ** *прым.* Дужы, здаровы, магутны. *А ён магу́тны, здаро́вы.* Багданава.

**МАГЧЫ́, МАХЧЫ́** *незак.* Магчы, мець дастаткова сілы. *Ста́рые ба́бы пе́лі, като́рые мо́гуць.* Дольдзева. *Дзе́ці лю́бяць, як мо́жаш.* Баравікі. *Ні стаў махчы́, то зъбра́ла к сабе́* [бацьку]. Міцюкова. *Мо́йіць гавары́ць усю ноч.* Неўгадава. *Сурае́шкі мо́гуць расці па бярэ́зніку.* Дуброўкі.

**МАГЧЫ́МАСЦЬ** *ж.* Магчымасць. *То́лькі шэсь кла́саў ко́нчыла: ні было́ магчы́масці.* Запруддзе.

**МАДЗЕ́ЦЬ** *незак.* Мадзець, жыць, існаваць. *Ёй се́мдзесят тры го́да было́, а я во яшчэ́ мадзе́ю. А я ста́ры во шчэ мадзе́ю.* Кавалі. *Купі́ў хацёнку і мадзе́ў у ёй, а цяпе́р памёр.* Ульянавічы.

**МАЁВІК** *м.* Хрушч (насякомае). *Як лес раскі́дуецца, то маёвікі па дрэ́вах паўве́чары лётаюць і гудзя́ць.* Гарадзец. *Лазо́вікі былі́, ве́чарам нало́віш, маёвікі гэ́та.* Партызаны.

**МАЁМАСЦЬ** *ж.* Маёмасць. *Усю пастро́йку спалі́лі, усю маёмъсць спалі́лі.* Сукрэмна. *Гэ́та майго́ ба́цькі маёмасць.* Запруддзе. *Уяжджа́іць, сасе́ду забіра́іць усю маёмъсць.* Вялікі Азярэцк.

**МАЁНТАК** *м.* Маёнтак, панскі двор, сядзіба. *Там жа па́нскіе маёнткі стая́ць.* Запруддзе. *У Паршня́х маёнтак быў.* Самсоны. *Маёнткі тут стъя́лі, во лі́памі апса́джъна.* Баравікі.

**МАЖА́ЕВА** *н.* Назва лугу. *Мъжа́ева – лух такі́.* Серкуці.

**МАЖДЖА́Р, МАЖДЖЭ́Р** *м.* Медная або гліняная ступка. *Мажджа́ры – мак це́рлі, гліня́ны і ме́дны. Мажджэ́р гліня́ны.* Кляпчэва.

**МА́ЖЫ** *толькі мн.* Спецыяльныя калёсы з высокімі драбінамі для перавозкі сена, саломы; мажары. *Ма́жы – бальшы́я такі́я калёсы, се́на во́зюць, жо́рткі такі́я бальшы́я дзе́лаюць, разва́лістыя такі́я.* Гарадзец. *Ма́жы – што се́на вазі́ць. Ма́жы бальшы́я, раскі́нуць іх.* Вялікі Азярэцк. *Без лаго́ж ма́жы называ́ліся.* Міцюкова. *Калёсы – э́та гная́ўкі, а ма́жы – э́та фурго́н, се́на, сало́му вазі́ць.* Нямойта, Багданава, Дольдзева, Запруддзе, Каралевічы, Фасаўшчына. *Ма́жы – се́на праваза́ць, сало́му, высо́кія, шыро́кія, каб больш уле́зла.* Дуброўкі.

**МА́ЖЫНЫ** *толькі мн.* Тое ж. *Е́дзім у ма́жах, у ма́жыны пася́дзім, тады́ набго́нкі як пае́дзім.* Запруддзе.

**МАЗА́К** *м.* Пасудзіна для калёснай мазі; мазніца. *Маза́к зро́біць – скрыпі́ць. Перад Іва́нам* [Купаллем] *хава́й мазакі́.* Партызаны.

**МА́ЗАНЫ** *дзеепрым.* ◊ ЯК ПА МА́ЗАНЫХ КАЛЁСАХ. Вельмі лёгка, добра, без перашкод. *Ідзе́ць як па ма́зъных калёсах.* Серкуці.

**МА́ЗАЦЬ** *незак.* Мазаць. *Е́слі бу́дзіць мась гаі́ць, то ма́шча ўсю ра́ну.* Запруддзе. *Ма́жу ліцо́, кап ні зъбра́лі* [у Германію]. *Каро́ву г... ма́жуць, кап ла́ска пот ні ліза́ла* (павер'е). Багданава.

**МАЗГАВА́ЦЬ** *незак.* Мазгаваць, думаць, меркаваць. *Мазгъва́ць – гэ́та ду́маць.* Фасаўшчына.

**МАЗЁНКА, МАЗЁЛКА** *ж.* 1. Пасудзіна для калёснай мазі; мазніца. *Кълясо́ і мазёлкі такі́я былі́.* Гарадзец. *Мазёнкі палі́лі нъ Купа́лу, зъпа́люць ту́ю мазёнку на дрэ́ві.* Запруддзе. *Мазёнку ўкі́нуў у аго́нь, гары́ць як све́чка.* Заазер'е. *Скъза́ў зъпалі́ мазёнку на вы́гъні.* Міцюкова. *Во́зьмуць мазёнку на жэ́рдзіну і зъпа́люць* [на Івана Купалу]. Алексінічы, Багданава, Партызаны. 2. Квач для змазвання восі, на якую насаджвалася кола. *Ма́ззю ма́зълі во́сі ў калёсах, была́ мазёнка тъка́я, квач такі́.* Гарадзец.

**МАЗНІ́ЦА** *ж.* 1. Пасудзіна для калёснай мазі; мазніца. *Ён астáўся чысты, як мазні́ца.* Партызаны. 2. Квач для змазвання восі, на якую насаджвалася кола. *Маладзёш сабéрыцца, мазні́цы* [калёсы падмазваюць] *запáляць.* Дуброўкі.

**МАЗО́ЛІЦЬ** *незак.* Назаляць, дакучаць. *І бýдзіць мне мазóліць тýтыцька.* Нямойта. ◊ МАЗО́ЛІЦЬ ВО́ЧЫ. Дакучаць, назаляць пастаяннай прысутнасцю, наяўнасцю. *Вот ужэ́ мазóліў вóчы, спаць людзя́м ні давáў.* Ульянавічы.

**МАЗО́ЛЬ** *м.* Мазоль. *Мазóль балíць, ні адзéць на нóгі нічóга.* Фасаўшчына. *Мазóль нагнáў грáблямі.* Багданава. ○ СУХІ́ (СУХЕ́Й) МАЗО́ЛЬ. Цвёрды мазоль. *Есь сухéй мазóль і прастэ́й.* Гарадзец. *Сухéя мазалí нагнáла.* Багданава. *Сухí мазóль і як въдзя́нка мазóль.* Дольдзева. *Мазóль сухí быў пат пáльцам, рóжа прыкíнулася.* Манголія. *Мазóль сухí нарóс, не ступíць.* Баравікі. *Сухée мазалí бывáюць.* Гарадзец. ◊ БА́ЦЬКІН МАЗО́ЛЬ. Грошы, заробленыя бацькам. *Гéта бáцькін мазóль – грóшы.* Кляпчэва. ◊ З МАЗАЛЯ́. За грошы, заробленыя цяжкай працай. *Хáту купíла з мазаля́.* Партызаны.

**МАЗУ́РКА** *ж.* Мазурка (польскі народны танец). *О, мазýрка йшла ў тáнцы, быў такí дзед, як вы́йдзіць, то накрýціць, накрýціць.* Багданава.

**МАЗЬ**, **МАСЬ** *ж.* Густое рэчыва для змазвання восі, на якую насаджвалася кола; мазь. *Мáззю мáзълі вóсі, а цяпéр салідóлъм. Мась, квач, умазёнка спецыя́льнъя, мáзалі мáззю* [калёсы]. Гарадзец. *Мась пръдъвáлі жыды́ длі калёс.* Гарадок.

**МА́ІНКА** *ж.* Галінка з зелені лісцевых дрэў, якой упрыгожвалі хату на Тройцу (Сёмуху). *Тэй мáінкай выгъня́юць карóву ў пóле.* Запруддзе.

**МАЙ** *м.* 1. Май (пяты месяц каляндарнага года). Запруддзе. 2. Галінкі клёна, ліпы, бярозы і інш. лісцевых дрэў для ўпрыгожвання хаты на Тройцу (Сёмуху). *Бывáла свецíлі май, дзяцéй паткýрвалі, клáлі ў сéна.* Ракаў Засценак. *Май ламáлі, тóркалі на дварэ́, у хáце.* Чуцькі. *На двор май прынóсяць. Май – э́та клён, дуп, рабíна. Э́та назывáецца ў май пóйдзім.* Запруддзе. *Нълъмáім мáю і пад бáлькі* [наторкаем] *на Дýха.* Кавалі. *Ламáлі май.* Самсоны.

□ *Май – каню́ сéна дай, а сам на печ уцякáй.* □ *Май – къню́ сéна дай, а сам кажýх надзівáй.* Запруддзе, Буй, Гарадзец, Каралевічы, Неўгадава. □ *Май халóдны – ня бýдзіш галóдны.* Вялікі Азярэцк. □ *Май – кажýх адзівáй.* Нямойта, Багданава.

**МАЙДА́НЬ** *ж.* Смалакурня. *Мась, спікідáр гнáлі ў мъйдáні, там пéчы былí.* Вялікі Азярэцк.

**МА́ЙСКІ** *прым.* Майскі. *Мáйскі мёд с цвятóў.* Вялікі Азярэцк. *У маí мéсіцы растýць цвёрдыя, салóдкія мáйскія грыбы́, іх атвáрываюць.* Сяргейкі.

**МА́ЙСЦЕР**, **МА́ЙСЦЯР**, **МА́СЦІР** *м.* Майстар. *Майсцерá былí, паліўнік дзéлаў, гаршкí.* Гарадзец. *А дзя́дзька мой быў мáйсцяр. Éта шост, мáсцір дзéлаў. Мáсцір пънашы́іць брáку, нáда ръсшывáць* [аб партным]. Нямойта. *Мáсцір, во хърашó дзéлаіць.* Сукрэмна. *Былí масцірá, сáмі дзéлалі і цяпéр ёсь.* Леснікі. *Іграць нет мъсцярэ́й.* Пожанькі.

**МАК** *м.* Мак (пра насенне). *Ат мáку дýжа спаць хóчацца. Як дзяцёнак плáчэць, мáку ў малакó – тады́ нáтта спіць.* Багданава. *Сы́палі ў калóдзіц мак, каб дошч пайшóў* (павер'е). Дольдзева. *Сы́палі мак у тры калóдзязі – тады́ бýдзе дош* (павер'е). Запруддзе. *У малакó мáку галóўку ўкíніць, каб дзéці спáлі, паíлі, мнóга ні кладзéць, трóшку.* Заазер'е. *А цяпéр мак ні даюць сéіць.* Гарадзец, Жохава, Карпавічы, Партызаны, Чуцькі. МАЧО́К *ласк.* *Мак сы́палі ў калóдзец, каб дошч пашóў: «Бóжачка, каб так дошч пасы́паў, як мачóк», – прыгавóрвалі.* Баравікі.

○ МАК-ЦЯКУ́Н, МАК-ЦІКУ́Н. Самасей. *Мак-цякýн, ён праз дзірачкі выцікáіць.* Каралевічы. *Я ёй усыпъла мáку-цікунý ў бумáжыну, і йна ўсыпала ў тры калóдзішы* [каб выклікаць дождж]. Ракаў Засценак. *Цякýн нáда, мак, ну катóры расцéць сам. Каб быў дошч, сыпалі мак у тры калóдзісі – мак-цякýн. Жэ́ншчыны раздзявáліся і гóлымі цягнýлі плуг – пераарáць нáда вýліцы* (павер'е). Запруддзе. *Мак-цікýн сам насівáецца.* Леснікі, Баравікі.

**МАКАВУ́ШКА** *ж.* Кропелька, невялікая колькасць. *Пасля вайны́ не відзела ні мъкавýшкі мълакá.* Розмыслава.

**МАКА́НКА** *ж.* Мачанка. *Мъкáнка сягóння ў мянé.* Вялікі Азярэцк.

**МАКАРО́НЫ** *мн.* Макароны. *Раскацí, кáжа, макарóн.* Чуцькі. *Мъкарóнаў з крухмáлу нъвáраць.* Багданава.

**МАКАЦЁРЛА** *ж.* Макацёр. *У макацёрлы скрýціш лóжкай дзеравя́ннай. Макацёрла – мáсла тапілі.* Каралевічы.

**МАКА́ЦЦА** *незак.* Мачыць, прамочваць, насычаць вадкасцю. *Дъ вайны́ былí тачы́лы малы́я. Янó мъкáіцца ў вадý.* Жохава.

**МАКА́ЦЬ** *незак.* 1. Мачаць. *Нъпячэ́ш блінóў мъкáць у дзягнó.* Дольдзева. *Малакó, я́йкі ўзаб'éш і сáла туды́, кълбасы́ – і пры́цірка, і мъкáлі бліны́. Сéмя льлянóе таўклí, макáлі і бýльбу, хоць што.* Заазер'е. 2. Апускаць у ваду. *Скуты́ мъкáюць у сáжълцы.* Каралі. *Як кýжъль прáлі, то мъкáлі пáльцы ў вадý.* Закур'е.

**МАКО́ЎКА** *ж.* Макаўка, галоўка маку. *Макóўка ў мáку.* Кішуроўшчына.

**МАКРАТА́** *ж.* Макрата. *Ад макраты́ ў авéц макрэ́ц, крэалін у апілкі – і авéчкі станавíліся капытáмі. Ці мóжа ад мъкраты́ бýльба збялéла. Мъкрътá – ні трáктар, ні нъгá ні прóйдзіць.* Запруддзе. *Макратá, усё павы́мякніць.* Леснікова. *Макратá – снéгу ні былó.* Нямойта. *Яны́* [грыбы] *растýць там, дзе мыкратá.* Вялікі Азярэцк, Каралевічы.

**МАКРА́ЎКА** *ж.* Сараканожка. *Макрáўкі сівыя, чапáюцца на пасцілку, у сырасці яны́.* Багданава.

**МАКРЫ́ЦА** *ж.* Макрыца. *У макры́цы дрóбненькія лісцікі, прыкладáюць, як калéні баля́ць.* Багданава. *Свінка тóлькі макры́цу і éла, карзінку прынясý, пасякý, янá і так паéсь.* Ракаў Засценак. *Макры́цу свінні харашó ядýць, янá ця́гнецца.* Сукрэмна. *Макры́цай карзінку наб'éш свіння́м, вýтак дзяржý – і вýткам.* Каралі. *Усю макры́цу аппалóлі індзéйкі.* Каралевічы. *Макры́цы надзярý, а свінёнак ня хóчэць éсці макры́цу.* Партызаны. *Макры́цу рáілі прыкладáць.* Буй. *Парасцéць макры́ца ўсюдых па бýльбі.* Леснікі. *Макры́ца ў гарóдзі, кап інá зъгарэ́лъся!* Кішуроўшчына, Апечкі, Запруддзе, Леснікова, Самсоны. *Ліхá нъ гарóдзі макры́цуй зърэслá.* Закур'е.

**МАКРЭ́Й** *прысл.* Больш мокра, вільготна. *Як стáла макрэ́й, батвá стáла расці.* Вялікі Азярэцк.

**МАКРЭ́Ц** *м.* Мокры лішай на нагах у коней і авечак; макрэц. *Макрэ́ц у кьня́, трóху лéчылі, у вецінáра парашóк брáлі, сýшыць ягó. Макрэ́ц у авéц, храмáюць авéчкі.* Дольдзева. *Макрэ́ц у кьня́, у карóвы, капы́т мя́кніць, як гніéць, мóкра, гной бяжы́ць, вьдá.* Гарадзец. *Макрэ́ц у рáны нóгі б'éць.* Запруддзе. *Макрэ́ц бывáіць у канéй, карóў.* Мянюцева. *Макрэ́ц – мóкра дзéлаіцца пат шчóткай, капы́т гніéць* [у каня]. Міцюкова. *Макрэ́ц бувáіць пъд къпьтóм у кьня́, як у мóкрым пъстаіць, сухáя трэ́ба падсцілка.* Самсоны, Багданава.

**МАКУ́ШКА** *ж.* 1. Галоўкі лёну. *Малóцяць макýшкі* [у льне]. Галашчакіна. 2. Верхняя частка снапа. *У снапý макýшка, ніжняя чáстка – камéль.* Розмыслава.

3. Верхняя частка галавы, макаўка. *Паглáдзіў па макýшцы.* Нямойта. 4. Падушачкі пальцаў. *Макýшкі пáльцаў на рукáх як стáнуць калóць – невынасíма.* Нямойта.

**МÁЛА** *прысл.* 1. Мала, няшмат, нямнога. *А мой жыватóк, мáла чáрьчак пятóк* (з песні). Каралевічы. *Хто мáла даéць* [на хрэсьбінах], *ня хóчыць даць – «мыюць» аўсóм. Авёс бярýць і мóгуць пашурувáць мóрду: нічóга ні далá, ты бáба грáзная!* Савінічы. *Не мáла такíх нáйдзеш.* Партызаны. *Мáла-мáла ўжо старыя ёсьці.* Багданава. *Хат мáла асталóся.* Закур'е. МАЛЕ́НЬКА, МАНЕ́НЬКА *памянш.* Зусім нямнога. *Сáхару дабаўлялі малéнька, ён тады харóшы* [сок]. Дольдзева. *Хоць трóшкі, манéнька ўнімáнія.* Чуцькі. 2. Рэдка, нядоўга. *Мáла калí пасля Ллі бывáіць цёпла.* Малы Азярэцк. ◊ МÁЛА-МÁЛЕНЬКА. Вельмі рэдка. *Мáла-мáленька ў цэ́ркаў вадзíлі.* Парэчча.

**МАЛАДАЖÓНЫ** *мн.* Маладыя, маладажоны. *Маладажóны тут жывýць па сусéцтву.* Леснікі.

**МАЛАДÁЯ** *ж.* 1. Нявеста, маладая. *А там у маладэ́я тры дні гулялі свáдзьбу.* Партызаны. *За мъладóй ад'язджáюць.* Баравікі. *Малóдая, ліцó – цвéту нет.* Карпавічы. 2. Жанчына, якая не дасягнула сталага ўзросту. *Бáба, якáя мъладáя, с пéснямі, умéець пець, спéраду яé атпрáвім, янá ідзéць, пяéць.* Багданава. *Мълъдáя хадзіла ў малíны.* Дуброўкі, Неўгадава.

**МАЛАДЖÁН** *м.* Маладажон, малады. *Льюць* [гарэлку] *мъладóй і мълъджáну.* Запруддзе.

**МАЛАДЗÉЙ, МАЛÓЖЫ** *прысл.* Маладзейшы. *Янá мъладзéй за мянé.* Багданава. *Ён гадóў на пяць за яé малóжы.* Чуцькі.

**МАЛАДЗÉЙШЫ** *прым.* Маладзейшы. *Я, як мъладзéйшая былá, то гъдувáлі* [авечак]. Заазер'е. *Кап маладзéйшы быў.* Багданава.

**МАЛАДЗÉНЕЦ** *м.* Птушаня. *Мъладзéнцы пагíблі ў курпáтък.* Сянно.

**МАЛАДЗÉНІЦ** *м.* Маладажон, малады. *Вязéць маладзéніц маладýю* [дадому]. Партызаны.

**МАЛАДЗÉЦ** *м.* Маладзец. *Во мъладзéц бáба, кап ёй бох даў здарóўя.* Ульянавічы.

**МАЛАДЗЁЖ, МАЛАДЗЁШ, МÓЛАДЗЕЖ, МÓЛАДЗЕШ, МАЛАДЗÉЖ, МАЛАДЗÉШ** *ж. зб.* Моладзь. *Мъладзёж ёсь мъладзёж!* Гарадзец. *Мъладзёш гэ́та даéць.* Савінічы. *Ціпéр мъладзёш распýшчаная.* Вялікі Азярэцк. *Мóладзежы нет, а мы бяссíльныя стáлі.* Фасаўшчына. *Мóладзеш ня хóчыць жыць у дзярэ́ўні.* Розмыслава. *Маладзéж ні аднá ні жывéт, маладыя ўсе у гóрад паéхаўшы. І на рабóту і так нямá, нямá маладзёжы.* Закур'е. *Маладзéш сабéрыцца – і на ігрышча.* Дуброўкі.

**МАЛАДЗЁН, МАЛАДЗЯ́Н** *м.* 1. Жаніх у час вяселля. *Прыхадзілі прыданье каб узяць маладзён ад маладýхі. Маладзён і маладýха звáлі на свáдзьбу.* Леснікі. *Шóркі каню надзéнуць – далёка чуць, што маладзён éдзіць.* Дольдзева. *Ат мъладýхі і да мъладзёна éхалі. Маладзён сам укáзваў, што да кагó.* Партызаны. *Маладзёна* [радня] *– маладзёну дóрыць, а мъладýхіна – мъладýхе.* Гарадзец, Марозаўка. 2. Кавалер, жаніх. *Мълъдзян у Віцебску рабóтаіць.* Міцюкова. *Янá і цяпéр хоць стóгніць, а маладзяна ўсё жджэць.* Міцюкова. *Маладзян бáцьку за грýдзі.* Багданава. *Як на гэ́тага маладзёна скáжаш?* Партызаны.

**МАЛАДЗЁНАЎ** *прым.* Які мае адносіны да жаніха. *Ръдня мъладзёнъва дóрыць мъладзёну, а мъладýхіна – нявéсту.* Гарадзец.

**МАЛАДЗÍК** *м.* Маладзік; месяц у першай квадры. *Схот вітахá, а тады мъладзік. Во мъладзік узышóў.* Заазер'е. *У мъладзікý сéюць гуркí.* Запруддзе. *Рáданіца*

*абізáцільна, кап былá мъладзікóм.* Нямойта. *З маладзіка што бýдзіць, маладзік – пірамéна пагóды.* Вялікі Азярэцк. *Маладзікóм нічóга ні дзéлаюць.* Карпавічы. МАЛАДЗІЧÓК *памянш. Мъладзічкóм нáда біць свінню ўрóдзі, а пóўным – нільзя.* Запруддзе. *Мальдзічкóм трэ́ба валасы́ рэ́заць, то расці дóбра бýдуць* (з назіраннять). *Настаéць маладзічóк.* Багданава.

**МАЛАДЗІ́ЦА** *ж.* Маладзіца, зварот да маладзіцы. *Такáя маладзіца здарóвая, красівая!* Багданава. *Уязджáла маладзіца, я купіла хáту.* Закур'е. *А мъя́ ты мъладзіца!* Запруддзе. *Наштó табé, маладзіца, лес?* Неўгадава. МАЛАДЗІ́ЧКА *памянш. Ай, маладзічка, аддáй папéру.* Заазер'е.

**МАЛАДНЯ́, МАЛÁННЯ, МАЛАННЯ́, МÓЛАННЯ** *ж.* Маланка. *Удáрала мъладнёй і зъпаліла.* Галашчакіна. *Малáння жы́гнала, скóлькі ляжáла – ня пóмню.* Вялікі Азярэцк. *Жы́та жáлі нъ жъравіцы. А там тýчы, тýчы. Крыш-накры́ш мълáння далá.* Багданава. *Ат мóланні чóрныя арэ́хі.* Станюкі. *Дзяцёнак такі лáдны, ён, як маладня́, жых – і паслýхаець, паслухмя́ны.* Багданава. ◊ ЯК МАЛАННЁЙ. Хутка. *Ягó як мъланнёй зъбрáлі ў Віцебск. На скóрую і павéзлі.* Багданава.

**МАЛАДНЯ́К** *м. зб.* Маладняк, малады лес. *Дзіля́нкі мъладнякóм пъзарастáлі.* Баравікі.

**МАЛАДÓСЦЬ, МÓЛАДАСЦЬ, МÓЛАДАСЬ** *ж.* Маладосць, маладыя гады. *З маладóсці – не, не хацéла зáмуш.* Заазер'е. *Скóлькі мы спáлі ў мъладóсці – чатыры часы́ ўсягó.* Гарадзец. *Ка мне прыяжджáла падрýга з маладóсці.* Парэчча. *Сядзéла на пáру* [удваіх] *тут у мъладóсьці.* Буй. *Другýю мóладасць жыць хацéла, а цяпéр смéрці не дажы́ць.* Жохава. *У маладóсці вянкі плялі, як гусéй пáсьвілі.* Неўгадава. *Мóладась – гуля́юць да ранняя дзіўчáты з мáльцамі.* Партызаны.

**МАЛАДÝХА** *ж.* Маладуха, маладая, нявеста. *Як бярýць маладýху, то éдуць такія дзяўчáты з éю, і éта завýцца снідáнкі. Прывязýць мъладýху, ідзéць мъладýха, а я ў яé матýся, і я пякý къравáй.* Гарадзец. *Лю́дзі пътáлкъюцца, пъглядзя́ць у скры́ню, што мъладýха прывізлá.* Нямойта. *Красівая, як мъладýха.* Багданава. *Я як запéла, маладýха заплáкала.* Каралевічы. *Цвяты́ былі красівые ў маладýсі.* Фасаўшчына. *Давáлі ш і каня́ і карóву, як былó што ў маладýхі даць. Яны́ гуля́лі там і тады́ éдуць за маладýхай.* Леснікі. *Мъладýху схувáюць, а мълыдзя́н шукáіць.* Міцюкова. *Як мъладýха захóдзіць у хáту, інá зярнó сы́пала.* Дольдзева. *Як мъладýху вязýць, вязýць і скры́ню.* Рулёўшчына. *Мъладýху ў клець вадзілі.* Вялікі Азярэцк. *Ну нáда ш мъладýху пъглядзéць.* Самсоны. *За маладýхай сундýк вязýць.* Розмыслава. *Якáя ж янá маладýха – ёй вучы́цца нáда.* Партызаны. *Тады́ капéйкі нéйкіе давáлі маладýсе, сундýк такі із дóшчак давáлі, пасцёлкі, рушнікі, трýбкі, мяшкі са два чы́стых палóжуць. Мълады́ за мъладýхай éдзіць, на шы́і ў канёў шурхуны́.* Ракаў Засценак.

**МАЛАДÝХІН** *прым.* 1. Які мае адносіны да маладой. *Мъладýхіна ръдня́.* Гарадзец. *Маладýхіны бацькі.* Сянно. *Маладýхін брат.* Неўгадава. 2. Які належыць маладой. *Маладýхіна прыдáннае.* Багданава.

**МАЛАДЫ́, МАЛÓДЫ, МАЛАДЭ́Я** *прым.* 1. Малады. *Тэй купіў малóдъга кър
ня́, а ён хóчыць укрáсць, а ён злóдзій харóшы! Віраб'і малóды ячмéнь рэ́зълі!* Сянно. *Кагдá я былá мóлада, я не пілá.* Нямойта. *Малóдыя шънпіёны éшча, хъдзя́йка, ня бось.* Гарадок. МАЛАДЗÉНЬКІ *ласк. Маладзéнькіх кóній éсь.* Гарадзец. МАЛÓДЗЕНЕЧКІ *ласк.* Маленькі. *Такія малóдзенечкія, як капéечкі, варýшачкі.* Міцюкова. 2. *м.* Малады, жаніх. *Прыéдуць да маладóга і камáндзяць.* Дуброўкі.

3. *мн.* Маладыя людзі. *Хай мъладэ́я жывýць. Як харашó людзя́м – мъладэ́е, і з'éсці ўсё мóгуць, і надзéць. Маладэ́я ядзя́ць і балéюць.* Партызаны. *Сем хат і чаты́рнаццаць чалавéк, і малады́х німá.* Фасаўшчына. *Вы маладэ́я, не павідна, кап змёрзлі.* Каралі. *І ядýць мъладэ́я.* Багданава.

□ *Не кáйся рáна ўставáючы, а мълады́ (пóзна) жэ́нючыся (жъня́ся).* Вялікі Азярэцк, Багданава, Запруддзе, Каралевічы.

**МАЛАКÓ** *н.* 1. Малако. *Як лáстъўка праляціць пад жыватóм у карóвы і бýдзіць кроў у мъланэ́, падóіш з лéвай цы́цкі на прáвую нагý, а с прáвъй цы́цкі на лéвую нагý.* Каралевічы. *Гадóў пітнáццъць хварэ́ю, а мълакó – тады́ мне ляхчэ́й* (з назіранняў). Кішуроўшчына. *Паміж нох ці пат пýза лáстачка – плóха, у мъланцы́ кроў* (з назіранняў). Леснікова. *За мълакó сéмдзісіт дзве сóткі даю́ць пóжні.* Чуцькі, Запруддзе. *Скíснецца казíнае малакó, як смятáна.* Багданава, Жохава, Фасаўшчына. МАЛАЧКÓ *памянш.* *Я тóлькі жывý з éстым малачкóм.* Цясішча. 2. Канапляная смятанка. *Мълакó з канóпляў здзéлаеш, забéліш суп.* Закур'е. 3. Белаваты сок некаторых грыбоў. *У мъслякóў свéтла-сíвых мълъкá мнóга.* Пожанькі. 4. Пчалінае малачко. *Дзéлаюць пчóлы мълакó іс пяргí і мёду і кóрмяць мáтку гэ́тым мълакóм.* Кляпчэва. ○ ПЧАЛІ́НАЕ МАЛАЧКÓ. Выдзяленне ў рабочых пчол для кармлення лічынак. *Малачкó ёсь пчалíнае бéлінькае.* Нямойта. ○ ВЕРАБ'ЁВА МАЛАКÓ *перан.* Канапляная смятанка. Партызаны. ◊ ВЕРАБ'І́НАЕ МАЛАКÓ. Дастатак, заможнасць. *Ямý ні хватáіць вераб'інага малакá.* Запруддзе.

□ *Па мълакý ног не пъвалакý.* Вялікі Азярэцк.

**МАЛАЛÉНСТВА** *н.* Маленства. *Із малалéнства я тут. З мълалéнства пашлí на хéрму даіць карóў.* Багданава.

**МАЛÁНКА** *ж.* Маланка. *Мълáнка і гром.* Кішуроўшчына. *Малáнка як блíсне.* Гарадзец. *Кап цябé малáнка спаліла!* (праклён). Партызаны. МАЛÁНУШКА *памянш.* *Блíснець як мълáнушка, і след свой затрэ́ць.* Нямойта.

**МАЛАЦІ́ЦЬ** *незак.* Малаціць. *Вы́тапюць ёўню і малóцюць у тры-чаты́ры цапы́ ў такт.* Гарадзец. *А малацíць жа нáда ўставáць дабрó. Пóйдзіш, змалóціш.* Заазер'е. *А цяпéр ні мълацíць, ні кълацíць ні нáда. Дзень малацíла, а ўвéчары мáльчыка радзíла.* Багданава. *У чаты́ры цапы́ хърашó мълацíць.* Вялікі Азярэцк.

**МАЛАЦЬБІ́Т** *м.* Малацьбіт. *Малацьбітóў скóлькі былó.* Гарадзец.

**МАЛÉБІН** *м.* Малебен. *Малéбіны тýтэцька поп устрóіў.* Ульянавічы.

**МАЛÉНСТВА** *н.* Маленства. *Я пóмню з малéнства ўсё.* Цясішча. *З малéнства гарýеш.* Багданава.

**МÁЛЕЦ, МÁЛІЦ** *м.* Хлопец. *Тры мáльцы гудувáла пóсьлі вайны́ ягó бáба. Мáльца аднагó нажылí. Ён і ні п'ець, мáліц харóшый, усё дзéлаіць.* Багданава. *Мáльцы дóбрыя і нам, калі нáда, памóгуць.* Гарадок. *Мáлец здарóвы буў, еў áбышто і цяпéр усё есць. Ранéй мнóга мáльцаў булó і мнóга дзяўчáт.* Вялікі Азярэцк. *Мáльцы, хоць бы вы што з'éлі.* Міцюкова, Заазер'е, Савінічы. *Мáльцаў сёлета не магý наняць, каб дрóвы парэ́заць: пабагацéлі і рэ́заць не хóчуць.* Закур'е. *Мáлец удáўся ў яé.* Дуброўкі.

**МАЛІВÁЦЬ** *незак.* Маляваць. *Малівáць, намалю́іць красíва. Марóс намулювáў.* Запруддзе.

**МАЛІ́НА** *ж.* Ягады маліны. *Малíна былá ў пéрвых кýсціках.* Латыгаль, Дуброўкі. *Сёлета я́гад булó і малíны, і чарнíцы.* Багданава. *Малíны есь па кустáх.* Закур'е.

**МАЛІ́НАВЫ** *прым.* Колеру спелых ягад маліны. *Малінавуга цвéту плáцце.* Запруддзе.

**МАЛІ́ННІК** *м.* 1. Зараснік маліны. *І воўк увъгнáў карóву ў малíннік зъ Къзадóі* [вёска]. Міцюкова. *Малíннік, як цвіцíць у мáі мéсяцы, ат прастýды.* Каралі. 2. *зб.* Галінкі маліны. *Ёсць у мяне малíннік, ат прастýды харашó.* Багданава. *Малíннік, пáлкі гэ́тыя пáрылі.* Запруддзе. *Малíннік ат кáшлю пілí.* Гарадзец.

**МАЛІРО́ВАНЫ** *прым.* Эмаліраваны. *Рáньшы ні былó малірóванай пасýды.* Нямойта.

**МАЛІ́ТВА** *ж.* Малітва. *А як гром, гразá – то хто, як умée, малíтву.* Карпавічы.

**МАЛІ́ЦЦА** *незак.* Маліцца. *На калéнках Бóгу малíліся.* Багданава.

**МАЛО́ЖА** *ж.* 1. Малады лес; гай. *Ялóвыя малóжы стаялí, гéктар на пяць.* Ульянавічы. *Тáмачка малóжа тъкáя, лес.* Запруддзе. *Малóжа – густы́, высóкі малады́ бярэ́знік – бярóзавая малóжа.* Гарадок. 2. Нядаўна распрацаванае поле. *Лес малóжа і пóле малóжа.* Жохава.

**МАЛО́ЗІВА** *н.* Малодзіва. *Малóзіва спячэ́цца.* Малы Азярэцк.

**МАЛО́ЦЬ** *незак.* 1. Малоць. *Нóсюць дабрó ў клéці, вóзюць у мéльніцу, мéлюць.* Гарадзец. *Малóлі ў жóрны, малóлі на млы́не.* Карпавічы. *У мéльніцы малóлі пшаніцу, а нéхта пъткъзáў нéмцъм, што мялю пърцізáнъм, і мянé зъбрáлі.* Заазер'е. *Ён там мéліць карóвам.* Міцюкова. *Я мялю ў мéльніцы.* Нямойта. *Чълавéк малóў на жóрны* [у сенях]. Ракаў Засценак. *Былá ш мéльніца, вадóй тут малóлі.* Нямойта. 2. *перан.* Балбатаць, балабоніць. *Язы́к мéліць, як мітлá. Язы́к мéліць без касцéй.* Запруддзе. 3. *перан.* Біць, каваць. *Жалéза нъ кувáдла і мéліць!* Запруддзе.

**МАЛО́ЧНІК** *м.* Ахвотнік да малака. *Мéншы сын малóчнік – мълакó любíў.* Карпавічы.

**МАЛО́ЧНІК** *м.* Малочныя залозы (?). *Пъкá мáтку ссець цялёнък, там пузурóк, ён вéльмі дóрага цэ́ніцца – малóчнік.* Фасаўшчына. *Нéйкі ёсь малóчнік у цілят.* Рассвет.

**МАЛО́ЧНІК, МАЛО́ШНІК** *м.* Малачай (расліна). *Малóчнік на гарóдзі, на бýльбі расцéць.* Вялікі Азярэцк. *Малóчнік гóркі, свінні ягó лю́бяць.* Запруддзе. *Малóшнік па нівах расцéць.* Багданава. *Малóшнік свіннях даюць, па гарóдах расцéць. Як малóшнік свінням рвем, рýкі чóрныя.* Каралі. *Малóшнік свінні ядýць харашó, жóўтым цвіцíць, лісця ширóкія.* Жохава. *Лібідá, малóшнік, макры́ца, крапіва – кóрмяць свіннéй.* Леснікі. *Малóшнік па ячмéню, па бýльбі расцéць.* Сукрэмна. *Събрáла малóчнік і насéкла свінням.* Дольдзева, Кішуроўшчына. *Асóт, малóчнік нъ сялíбі парóс.* Закур'е.

**МАЛО́ЧНЫ, МАЛО́ШНЫ** *прым.* 1. Малочны, удойны. *Éсьлі йдзець карóва і късыты́ ръздвáйíюцца, тады́ бýдзіць малóшнъя карóва, а як сьціпліньна капы́т, тады́ ні малóшнъя* (з назіранняў). Чуцкі. 2. Звязаны з вытворчасцю малака. *У Дóльдзеве малóчнъя фéрма, а ў нас цілятнъя.* Кішуроўшчына. 3. Багаты на малако. *Камáрны малóчны год; авадні, мýхі літáюць.* Партызаны. 4. Прыгатаваны на малаку. *На малóшным сýпчыку жывý, з'ем кáшкі якóй.* Цясішча.

**МАЛО́ШНАЯ** *ж.* Памяшканне для прыёму малака; малочная. *Малóшная ў нас былá ў дзярэ́ўні. У Гарадцы́ малóшная былá, нíслá дзéсяць літраў пірагóну.* Багданава.

**МАЛО́ШНЯ** *ж.* Тое ж. *У нас тут малóшня былá.* Нямойта.

**МА́ЛПА** *ж.* 1. *груб.* Пра наданне чалавеку вельмі непрыгожага выгляду. *А што ш вы з мяне́ ма́лпу сдзе́лълі.* Запруддзе. 2. Пра міфічную істоту. *Ма́лпы, ка́жуць, пужа́лі булі, як вы́скачуць із жы́та.* Багданава.

**МА́ЛЫ** *прым.* 1. Нядоўгі, кароткі. *Калі валасы́ ма́лыя, э́та като́рыя пастры́жаны, рэ́ткія, рэ́ткія – друго́я.* Багданава. *Уво́сінь дзень мал.* Дуброўкі. *Я вам ма́лым клі́нам завіза́ла* [хустку]. Міцюкова. 2. Меншы. *Ма́лы, ме́ньшы ма́лец пашо́ў на рабо́ту.* Запруддзе.

**МА́ЛЫ** *прым.* Малалетні. *Я ш тады́ шчэ ма́лая была́.* Заазер'е. *Ма́лы жърабёнъчък.* Багданава. *Канёк мал бы́ў, алі шчы́рый, ряці́вый, пло́тный!* Самсоны. ◊ МА́ЛА-МА́ЛЫ. Вельмі малы. *Кътá, пърасёнка, вуўка́ ма́ла-ма́лага ўкі́нулі ў ха́ту, каб вадзі́лася ўсё.* Запруддзе.

**МАЛЫ́ШКА** *ж.* Малышка, малая дзяўчынка. *Малы́шка ідзе́ць.* Буй.

**МА́ЛЬВА** *ж.* Мальва (кветка). *Ма́льва ў бу́бышках.* Багданава. *Ма́льва пат слі́вай у мяне́, не цвіці́ць яшчэ́.* Партызаны.

**МАЛЬГА́** *ж.* Дробная рыбка; драбяза, малеча. *Астъла́ся мъльга́ ў во́зіры, зло́віш во тако́га кърáсіка.* Багданава. *Ры́бы ікру́ пуска́юць, і яны́ пыражда́юцца, мала́я мъльга́, камсу́ дзе́лаюць.* Фасаўшчына.

**МАЛЬЧА́К** *м.* Хлопец, падлетак. *З Мі́нску мъльча́к прышо́ў з а́рміі. Мъльча́к – э́та няжне́й. Кап ні зъблудзі́цца ў ле́се, мъльчакі́ к шапту́хам хадзі́лі, ва́ды бра́лі.* Багданава. *Я ні мальча́к ужэ́ бы́ў.* Фасаўшчына. *Ла́дныя тро́хі мъльчакі́ ўжо. Ажны́ мъльча́к мяне́ бу́дзіць.* Запруддзе. *Тут стаі́м і хо́дзяць патшыва́нцы такі́я, мальчакі́.* Ульянавічы. *Е́та мо́луць, мъльчакі́ папрыхо́дзілі. Мальча́к у скле́пі, пат ха́тай жы́ў.* Партызаны, Баравікі, Гарадзец.

**МАЛЬЧУГА́Н, МУЛЬЧУГА́Н** *м.* Падлетак. *Мальчуга́ны каме́нне кі́далі на Тро́йцу.* Багданава. *Зня́лі мальчуга́ны адну́ ґле́йніну і ці́різ даро́гу ў кърна́ву кі́нулі.* Алексінічы. *Ён нъніма́ў рабо́тъць мульчуга́на.* Міцюкова. *Но́ччу хо́дзюць мальчуга́ны які́я.* Леснікова, Багданава.

**МА́ЛЬЧЫК** *м.*, **МАЛЬЧАНЯ́ТЫ** *мн.* Хлопчык, хлопчыкі. *Бы́ў ма́льчык із ей, пліма́ннік Ю́ра.* Жохава. *Мальчъня́ты са мно́ю хадзі́лі на лён.* Запруддзе.

**МАЛЬЧЭ́НАК** *м.* Тое ж. *І хоць мальчэ́нак у іх ёсць, – развялі́ся. Мальчэ́нак, му́сіць, з вядро́ нарва́ў ві́шань.* Дольдзева. МАЛЬЧАНЁНАК *памянш.-ласк. Свякро́ў бу́дзець з мальчанёнкам. Мъльчанёнък ка́жыць: дзвярмі́, ка́жыць, ля́пнула.* Запруддзе. *Мальчанёнак яе́ насі́ўся.* Багданава.

**МАЛЮПА́ЦЕНЬКІ** *прым.* Вельмі маленькі. *Малюпа́ценькі такі́ кацёнък.* Запруддзе.

**МАЛЮ́СЕНЕЧКІ** *прым.* Тое ж. *Узя́ў атвёртачкі малю́сенечкія, і ідýць часы́.* Нямойта.

**МАЛЮ́ХЕНЬКІ** *прым.* Тое ж. *Ко́цік малю́хенькі такі́ бы́ў, няґе́глы.* Ульянавічы.

**МАЛЯ́Р** *м.* Маляр. *Маля́р – той хто кра́сіў.* Леснікова.

**МАЛЯРЭ́Я** *ж.* Малярыя. *Малярэ́я – ста́нець ей хало́нна, трасе́ць.* Леснікова. *На Украі́ну е́здзіла, малярэ́я ста́ла бі́ць.* Баравікі. *Малярэ́я была́ ў маёй Со́нькі. Сваю́ моч* [выкарыстоўваюць], *як малярэ́я.* Партызаны. *Малярэ́я была́, трасе́ць.* Гарадзец.

**МА́МА** *выкл.* Вокліч для перадачы здзіўлення, узбуджэння. *Што тако́я, ма́ма лю́бъя! Апёнък мно́га, рэш!* Пожанькі.

**МА́МАЧКА** *выкл.* Тое ж. *А ма́мачка мая́, наро́ду сто́лькі набі́лася – што век не віда́ць.* Багданава. *А ма́мъчка мъя ро́днъя!* Міцюкова.

**МА́МАЧКІ** *выкл.* Тое ж. *Ма́мачкі любыя, па 700 с лішнім буты́лак папрыво́зіла, адку́ль бяру́ць, не прадаюць нідзе́.* Нямойта.

**МАМЕ́НТАМ**, **АМЕ́НТАМ** *прысл.* Умомант, хутка. *І ці зна́іця: маме́нтам зажыла́.* Самсоны. *Ён прада́ў маме́нтам.* Івоні. *З васьмо́га кла́са маме́нтам вы́цягнуўся* [хлопец]. Партызаны. *Аме́нтам прэ́іць ку́рыца ў пе́чы.* Неўгадава.

**МА́МКА** *ж. ласк.* Маці, мама. *Мъя́ ма́мка гъвары́ла.* Нямойта. *У мае́ ма́мкі йшчэ было́.* Міцюкова. *Прыдзі́, паглядзі́, ма́мка, як я слёзы лью.* Каралевічы. *Цёшча памрэ́ць – гарэ́лкі нап'юся. / Жо́нка памрэ́ць – яшчэ́ ажанюся. / Ма́мка памрэ́ць – слёзкамі залью́ся* (з песні). Леснікова. МА́МАЧКА, МАМО́НЬКА *ласк. Во, мая́ ма́мачка, так і жыву́.* Сукрэмна. *Мъя́ мамо́нька. У го́сьційкі к мамо́ньцы* [ходзім]. Каралевічы.

**МА́МКІ** *выкл.* Вокліч для перадачы сполаху, здзіўлення. *Ма́мкі, іду́ па тых ле́свічках, но́гі баля́ць.* Запруддзе. *Ажны́, ма́мкі мае́, чэраз даро́гу бальша́я шэ́рая вужа́ка, як не заб'ю яе́, пады́мецца на гълаву́.* Ракаў Засценак.

**МАМУ́ЛЬКА** *ж. ласк.* Матуля. *О, маму́лька, як ты жыве́ш? Маму́лька, у цябе́ яшчэ́ ум ёсь.* Каралевічы.

**МАНА́ТКІ** *толькі мн. экспр.* Манаткі. *Ры́ззе адзе́ну, сабяру́ свае́ мана́ткі і пайду́ начава́ць.* Серкуці.

**МАНІ́ЦЬ** *незак.* 1. Падклікаць. *Мані́ла, мані́ла – саба́ка не хо́чыць на пры́вязь.* Багданава. *Пю́рышка – мо́нюць жърабёнка.* Нямойта. *Кох, кох – мо́ніць ужо́, сі́льна гра́мътны пяту́х. Во на́йдзіць му́ху і мо́ніць цыпляня́т. Пяту́х мо́ніць пісклíня́т, кап збіга́лі з даро́гі.* Каралевічы. *Як мо́нюць мале́нькага жърабёнъчка – туро́к, тпру́сінька. Во хадзі́ла з і́мі, ма́ніць, кво́кчыць.* Запруддзе, Кавалі. 2. Хлусіць. *Врэш, ма́ніш ты.* Багданава.

**МАНТА́ЖНІК** *м.* Мантажнік. *Ён у Лу́камлі мънта́жнікам.* Багданава.

**МАНУФАКТУ́РА** *ж.* Тканіна для ручной працы. *Дадзі́м ей мануфакту́ру дзе́лаць.* Карпавічы. *Ме́тар мануфакту́ры сто́іла со́рак яе́ц.* Кляпчэва.

**МАРАСІ́ЦЬ** *незак.* Імгліць, церушыць. *Дошч мърасі́ць.* Дольдзева.

**МА́РАЦ** *м.* Сакавік. □ *Ма́рац па пу́нях шма́раць* [ці сена няма]. Вялікі Азярэцк.

**МАРА́ЦЦА** *незак.* 1. Брудзіцца, пэцкацца. *Каб ні ма́ркае, а то бе́лае палатно́ бы́стра мара́ецца.* Цясішча. 2. *перан.* Займацца. *Я но́рму наллю́, а бо́лей ні мара́юся* [з мужчынамі]. Міцюкова.

**МА́РҐАЛЬ** *м.* Асадкавая горная парода; мергель. *Ма́рґъль у нас плі́тъмі лума́лі* [як капалі канаву]. Самсоны.

**МАРГАНЦО́ЎКА** *ж.* Марганцоўка. *Каб му́хі не завялі́ся, ста́ла прамува́ць марганцо́ўкай къбана́, як яго́ скастры́равалі.* Партызаны.

**МА́РКІ** *прым.* Які лёгка робіцца брудным. *Каб ні ма́ркае, а то бе́лае палатно́ бы́стра мара́ецца.* Цясішча.

**МАРКО́ЎНІК** *м. зб.* Маркоўнік, націнне морквы. *Лі́сце мо́рквы – марко́ўнік, бурако́ў – бура́чнік, капу́сты – капу́снік.* Гарадзец. *Марко́ўнік ляжы́ць, дош улі́ў і дагніва́іць.* Латыгаль. *Марко́ўнік бе́лы ні для чаго́.* Мянюцева. *Марко́ўнік ад мо́рквы.* Кішуроўшчына.

**МА́РЛІНА** *ж.* Марля. *Ці так ды́хаць, ці цераз ма́рліну?* Нямойта. МА́РЛІНКА *памянш. Праз ма́рлінку вы́ціснеш і картафля́ныя клёцкі. Працадзі́ праз ма́рлінку малако́.* Багданава.

**МАРМЫТА́ЦЬ**, **МАРМАТА́ЦЬ** *незак.* Мармытаць, бубніць. *Стары́ чалаве́к мармо́чыць, слава́ ні выгава́рваіць.* Каралевічы. *Па ха́це хо́дзіць, мармо́чаць.* Баравікі.

**МАРМЫ́ШКА** *ж.* Металічная штучная прынада для зімовай лоўлі рыбы; мармышка. *Зімо́й мармы́шку бяру́ць ры́бу лаві́ць. На мармы́шку ніяк нельзя́ бяз рукаві́ц* [пры зімняй лоўлі рыбы]. Багданава.

**МАРО́З, МАРО́С** *м.* Мароз. *Такія маразы́, сады́ павы́мерзлі.* Багданава. *На про́стую каляду́ заву́ць маро́с: маро́с, маро́с, хадзі куццю́ е́сці, цяпе́р хадзі, а ле́там пат кало́дай сядзі* [пад карчом дзе-н.]. Ракаў Засценак. *На къляду́ зва́лі маро́с: маро́с, маро́с, хадзі куццю́ е́сці. Зімо́й гуля́й і бува́й, а ле́там ляжы́ і гнілу́ю кало́ду грызі.* Дольдзева. *Маро́з бальшы́, то на́да лы́сых шчыта́ць, каб було́ у́лішку* [3, 5, 7...], *то маро́з ло́пніць* (павер'е). Нямойта. *Як ста́лі мъразы́ бальшэ́я.* Турава. ◊ МАРО́З ПА СКУ́РЫ. Пра адчуванне холаду ад моцнага хвалявання. *Паслу́хаю, як у людзе́й, дык маро́з па ску́ры.* Дуброўкі.

**МАРО́З** *м.* Марознік (расліна). *Маро́з – не́йкія дро́бненькія цвяты́, цвіця́ць уво́сень.* Багданава.

**МАРО́ЗІЦЬ** *незак.* Марозіць. *Зве́рху пячэ́ць – зні́зу маро́зіць* [вясной]. Вялікі Азярэцк.

**МАРТО́К** *м.* Сакавік. □ *Марто́к – не скіда́й парто́к.* Багданава.

**МАРЦО́ВЫ** *прым.* ○ МАРЦО́ВЫ ВЕ́ЦЕР. Вецер у сакавіку. *Марцо́вы ве́цір пірыіда́ў кро́сны* [іх не сушылі на паветры да Дабравешчання (Благавешчання)]. Заазер'е. *Къза́лі: марцо́вы ве́цір піраесць кро́сны.* Чуцькі.

**МАРШ** *м.* 1. Марш. *Маршы́ гра́юць не так, як у нас.* Партызаны. 2. *мн.* Грошы, якія аддаюць маладым пасля платнага вясельнага марша. *Марш ігра́юць, а маршы́ малады́м аддаю́ць.* Партызаны.

**МАРША́ЛАК** *м.* Той, хто кіруе вясельнай цырымоніяй; маршалак. *Як сва́дзьба, за сто́лам сядзя́ць, тады́ марша́лкі піражка́мі сту́каюць.* Партызаны.

**МАРШЧА́К** *м.* Маршчына. *На́да ржано́е мукі і мёду зміша́ць, каб ва́дка было́, каб маршчако́ў не было́. Цераз два́ццаць міну́т цёпленькай вадо́й змыць.* Запруддзе. *У смаржку́ мършчакі ёсь, у ім смаўжы́* [там]. Міцюкова.

**МАРШЧЫ́НА** *ж.* Маршчына. *Саста́рацца, усё ліцо́ ў маршчы́нах.* Гарадзец, Багданава. МАРШЧЫ́НАЧКА *памянш. Німа́ нідзе́ ні маршчы́начкі, мо́жа і паткра́шываіць.* Міцюкова.

**МАСКА́ЛЬ** *м.* Старавер. *У мъскалёў і ръзгаво́р не такі, як наш.* Івоні. *Нас, ру́скіх, тут сямёй тры, астальны́я мъскалі.* Карпавічы. *У мъскале́й служы́ў, яны́ здзіка́ліся.* Кляпчэва. *Маскаля́мі заву́ць іх за то́е, што Пётра вы́гнуў з Масквы́.* Закур'е.

**МАСКО́ЎСКІ** *прым.* Стараверскі, маскоўскі. *Маско́ўскі* [стараверы] *і ру́скія тут.* Карпавічы.

**МА́СЛА** *н.* Масла. *Як до́бры чалаве́к, як б'еш ма́сла, ады́йдзець убо́к.* Каралевічы. ◊ Ідзе́ць ЯК ПА МА́СЛУ. Вельмі лёгка, добра, без перашкод і ўскладненняў. *Ідзе́ць як па ма́слу.* Серкуці.

**МАСЛАБО́ЙНЯ** *ж.* Маслабойня. Жохава.

**МАСЛА́К** *м.* Сцегнавая косць, маслак. *Маслакі баля́ць* [на задніцы], *не ся́дзеш.* Партызаны.

**МА́СЛЕНКА, МАСЛЕ́НКА, МА́СЛІНКА** *ж.* Масленіца. *На Ма́сленку кало́дкі цяга́юць, гуля́юць, на качэ́лях кача́юцца, пе́сні пяю́ць.* Парэчча. *На Ма́сленку сабіра́лі тваро́х, заліва́лі ма́слам; або́ даста́нець сыр з я́йцамі – і есць. Гу́таліся на арэ́лях у чацве́рг. Ма́сленка, Ма́сленка, / Вы́лецела з куста́ ла́стаўка, / А ляціць*

*яна́ высо́ка, / А глядзíць яна́ далёка* (з песні). Міцюкова. *На Ма́сленку е́здзілі, быў ро́звальнік э́цім са́нкам.* Леснікова. *На Ма́сленку калаха́ліся на арэ́лях, пе́лі.* Цясішча, Жохава. *Ма́сленка зімо́й быва́іць.* Дуброўкі. *І Ма́слінка мясаві́й.* Нямойта. *Як Масле́нка, калыха́ліся на арэ́лях.* Багданава. *Кап нъ Ма́слінку вол вады́ напíўся пъд угло́м, тады́ бу́дзе цёпла* (прыкмета). *У нас была́ Ма́слінка, як я ў дзе́цтві была́.* Самсоны.

**МА́СЛЕННІЦА, МА́СЛЯНІЦА** *ж.* Тое ж. *Ма́сленніца, а тады́ пост начына́ецца.* Багданава. *Калаха́ліся на Ма́сляніцу.* Дольдзева.

**МА́СЛЕНЫ** *прым.* Масленічны. *Як Ма́сленіца, ма́сленыя пе́сні пе́лі.* Партызаны.

**МАСЛЁНКА** *ж.* Канапляная макуха. *Маслёнка была́ с канапе́ль, блíны́ мъка́лі.* Партызаны. *Натаўка́лі кано́плі, зва́лі маслёнка.* Багданава.

**МА́СЛІЦЬ** *незак.* Таўчы. *Ма́слілі кано́плі ў сту́пі, а пато́м заціска́лі клíна́мі.* Міцюкова.

**МАСЛЯ́НКА** *ж.* 1. Маслёнка. *Мъсля́нка – е́та пыхта́, у нас мъсля́нка* [гэта як білі масла]. Жохава. *Ма́сла скало́ціш, а мъсля́нку з бу́льбуй.* Турава. *Саб'е́ш ма́сла, мъсля́нка палучы́лася.* Багданава. *Мъсля́нку і самíм мо́жна есь, калí дзе́лаць ма́сла с пірато́пленай смíта́ны.* Станюкі, Вялікі Азярэцк, Турава. 2. Тварог з маслам. *Тваро́х с ма́слам – масля́нка зва́лася, як жаць хадзíлі с сабо́й бяру́ць.* Жохава. 3. Страва, прыгатаваная з ільнянога семя і цыбулі. *А мъсля́нку дзе́лъіш сама́ так: таўчэ́ш цыбу́лі, се́мя й со́лі.* Дольдзева.

**МАСЛЯ́НКА** *ж.* Масляк, казляк (грыб). Алексінічы.

**МАСНІ́ЧЫНА, МАСЦІ́ЧЫНА** *ж.* Масніца. *У палу́ дъска́, а хто ска́жыць – маснíчына. Масцíчына – мъстава́я до́ска.* Рэчкі. *Пад маснíчынай ба́лькі такíя падыспо́дам.* Сукрэмна. *Па аднэ́й маснíчыне про́йдзіць. Ну й тады́ іна́ падняла масцíчыну гэ́ту, у калідо́ры стая́ў я́шчык, як усе́ як расхва́цілі і забра́лі гэ́та са́ла.* Леснікова. *На аднэ́й масцíчыне прайду́, другу́ю ні зачаплю́.* Міцюкова. МАСЦІ́ЧЫНКА *памянш. Па аднэ́й масцíчынцы ішо́ў і не зачапíў.* Міцюкова.

**МАСО́Л** *м.* Маслак, косць. *Маслы́ аста́лісі, на́да ўжэ сабаку. Ко́стку абгрызí – масо́л.* Багданава.

**МАСТО́ЎКА** *ж.* Дошка для машчэння падлогі. *Што пол мо́сцюць – масто́ўка, масто́ўка то́лшчы, а сталёўка – то́ншы.* Вялікі Азярэцк.

**МАСТЫ́К, МАСЦІ́К** *м.* Мастыт. *Масты́к у яе́, ніхто́ не памо́жыць.* Каралі. *Масцíк бува́іць у каро́ў.* Партызаны.

**МАСЦІРАВЫ́** *прым.* Масцеравы. *Дзет мой так масьціравы́.* Марозаўка.

**МАСЦІ́Т** *м.* Мастыт. *Масцíт у каро́вы завёўся.* Партызаны. *З воч масцíт.* Каралевічы.

**МАСЦІ́ЦЦА** *незак.* Уладкоўвацца. *Са́мі масьціцеся, са́мі.* Ульянавічы.

**МАСЦІ́ЦЬ** *незак.* Рабіць насціл з дошак, бярвёнаў; масціць. *Рыбакí кла́ткі мо́сцяць, берагí як атмы́іць, узле́сці не́як.* Багданава. *Са́мі масцілі, а то бы конь патапíўся.* Запруддзе. *Кладзí таўстэ́і шчэ́сувъюцца, а нъ кла́дзі масця́ць падло́гу.* Неўгадава.

**МАСЦЬ** *ж.* Масць, колер. *Палка́й шэ́рай ма́сці, запражэ́ш, паедзем на ро́дзіну.* Запруддзе.

**МАСЦЬ** *ж.* Лекавая мазь. *Каб ма́сці якíя даста́ў нагу́ ма́заць.* Запруддзе. *Ну і масць на́нач закла́дываеш.* Заазер'е.

**МАСЦЯ́РСКАЯ** *ж.* Майстэрня. *Ён мъсця́рскую сабе́ ро́біць, до́скі чы́сціць бу́дзіць, ра́мы рабíць – усё.* Нямойта.

**МАТ** *м.* Грубая, брыдкая лаянка. *На мяне́ ма́тъм, піръма́тъм ска́жыць, а я ёй пръшча́ла.* Нямойта.

**МА́ТА** *ж.* Пляцёнка з саломы, травы, якой завешвалі вокны, уцяплялі дзверы і якую слалі на падлогу; мата. *Ма́ту спляцёш і паве́сіш з жытно́й куляво́й сало́мы і закрыва́іш на нач* [акно]. Фасаўшчына. *А плялі́ с сало́мы ма́ты і закрыва́лі ўсё акно́.* Серкуці. *Ма́ты на во́кны плёў дзяцька і атту́ль зацяга́ваюць.* Неўгадава. *Ма́ту плялі с сало́мы і спа́лі.* Дуброўкі.

**МАТАВІ́ЛА** *н.* Матавіла. *Былі́ матавілы, што на клубо́к мата́ць.* Багданава. *На верцяно́ мата́лі, матавілы называ́ліся.* Цясішча. *Ёсь мътавіла пра́жу мъта́ць і ёсь мътавіла маткі́ мъта́ць.* Закур'е. *Напрадзёш шпу́льку – і на матавілы.* Чуцькі. *З матавіла вілі́ на клубо́к.* Гарадзец. *Матавіла накру́ціш, напрадзёш шпу́льку.* Фасаўшчына. *З мътавіла, што разма́тываець маткі́, снава́ць с чаго́, і нъма́тваецца.* Вялікі Азярэцк, Апечкі. *Ніткі з матавіла на клубо́к.* Дуброўкі.

**МАТАНУ́ЦЬ** *зак.* Махнуць. *Ён дава́ў е́сці – наго́й мътану́ла, хоць пад яе́ кладзі́ся.* Запруддзе.

**МАТАФО́Н** *м.* Магнітафон. Чуцькі.

**МАТА́ЦЦА** *незак.* Праводзіць час у раз'ездах. *Во так ле́та мата́исся.* Заазер'е.

**МАТАЦЫ́КЛ** *м.* Матацыкл. *Матацы́кл вы́маў, змо́заў, хро́сны сын залі́ў бензі́н, стаі́ць у ха́це акалёўшы матацы́кл.* Партызаны. *Вы́гыда цяпе́р: во на віласіпе́дах, на матацы́клах* [ездзяць]. Багданава.

**МАТА́ЦЬ** *незак.* Матаць, намотваць. *На шпу́лькі мата́лі ні́ткі.* Апечкі. *Юрко́м мъта́лі клупкі́.* Вялікі Азярэцк. ◊ НА УС МАТА́ЦЬ. Цвёрда запамінаць, улічваць на будучае. *Я на ус мата́ла, як вы пе́лі.* Каралевічы.

**МА́ТАШНІК** *м.* Вялікая ячэя ў сотах, у якой выводзіцца пчаліная матка; матачнік. *У ма́ташніку ма́тка выво́дзіцца.* Вялікі Азярэцк. *Ма́ташнік зало́жаны з чэ́р'ю.* Закур'е.

**МА́ТАШНЫ** *прым.* Які належыць пчалінай матцы; матачны. *Ма́ташнае малако́ ёсьць, цэ́ннае о́чынь, збіра́ць тру́дна.* Нямойта.

**МА́ТКА** *ж.* 1. Маці, матка. *Ідзі́, ма́тка, сама́ вазьмі́. Ско́лькі ў ма́ткі ні рабо́тай, / Ні заслу́жыш зълаты́ дом, / Пры́дзіць ўрэ́мічка тако́я, / Ска́жыць ма́тка: ідзі́ вон* (прыпеўка). Каралевічы. *Ма́тка стъра́я, глуха́я была́.* Багданава. *Ба́цька й ма́тка і тро́е дзяцёй.* Баравікі. *Ма́тка ўжо прые́хала с крупмі́ с Сінна́.* Сукрэмна. *Со́нца цёплае, і ма́тка грэ́іцца цёпла.* Запруддзе. *Латы́гала – так мая́ ма́тка къза́ла.* Латыгаль. *Аўра́м, устува́й, ма́тка памёрла.* Гарадок. *Ці старэ́й ма́тка за ціб́е?* Дуброўкі. *На́дзі ма́тка жыве́ць.* Закур'е. МА́ТАЧКА *ласк. Дык што ты, ма́тачка, хо́чыш – табе́ во́сімдзісят гот.* Каралевічы. 2. Самка пчалы, матка. *Мълъда́я ма́тка стъра́іцца аббе́хчы ўвесь до́мік* [вулей]. Кляпчэва. *Штоб не ўцякла́ ма́тка, рашо́тку к лёткам, пчо́лы пралёзуць, а ма́тка не пралёзіць і тру́тні застаю́цца. До́ўжэнькая ма́тка го́нка бе́гаіць.* Вялікі Азярэцк. *Развіва́юцца пчо́лы сла́бінькія, мо́жа, ма́тка сла́бінькая.* Вялікі Азярэцк.

□ *Свая́ ха́тка як ро́дная ма́тка.* Серкуці. □ *У каго́ ма́тка, у таго́ гало́ўка гла́тка.* Сянно, Вялікі Азярэцк. □ *Дату́ль ма́тка, як калы́шаш у лю́льцы.* Запруддзе.

**МАТО́К** *м.* 1. Маток. *Са́мае бо́льшае – шэсьць па́сем – бальшы́ мато́к.* Вялікі Азярэцк. *Нъ адзі́н мато́к ідзе́ць шэсь-сем кілъгра́м пра́жы.* Закур'е. МАТО́ШАЧКА *ж. памянш. Мато́шачкамі муліна́ шаўко́вае.* Запруддзе. 2. Вянок цыбулі. *На́да сплёсці ў мато́к цыбу́лю.* Гарадзец. *Маткі́ цыбу́лі.* Закур'е. 3. Вязка грыбоў і інш. *Грыбо́ў*

*маток насушыла, сыну адвезла. Лук чапаеш на маток, звязваеш уместа.* Багданава. *Маткоў лык ліповых накруцяць, навяжуць.* Каралі. МАТОЧАК *памянш. Маточак грыбоў, лук – на вяроўку, маток ці маточак.* Вялікі Азярэцк.

**МАТОШКА, МАТУШКА** *ж.* 1. Пасма нітак у клубку. *Матошка ссыпалася.* Багданава. 2. Сухія хвосцікі цыбулі. *Матушку, як вяжыш цыбулю, сухея хвосцікі тапіла й дувала карові ад крывамочкі.* Заазер'е.

**МАТРАС** *м.* Матрац. *Матрас усцягнем і на печ.* Фасаўшчына. *Многа красён, нада і на мяхі, нада і на матрасы прасці, нада і на рубашкі.* Багданава.

**МАТРАСЁНАК** *м. памянш.* Дзіця, народжанае ад матроса. *Радзіўся ў яе матрасёнак, а марак у караблі з другою смяёцца.* Каралевічы.

**МАТУЗ, МУТУЗ** *м.* Матуз. *Мътузы былі, плеціныя ў тры мутузы.* Гарадзец.

**МАТУЛЯ** *ж. ласк.* 1. Матуля. *Ты, матуля, прыдзі.* Каралевічы. 2. Хросная маці. Ракаў Засценак.

**МАТУСЯ** *ж. ласк.* 1. Маці. *Як уходзіць мъладуха ў хату, дык матуся ці цётка засцілаюць скацерці самадзельныя, ручнікі вешаюць.* Ракаў Засценак. *Матуся была жэншчына харошая.* Партызаны. *А потым патходзяць матуся і татусь* [віншаваць маладых]. Запруддзе. 2. Хросная маці. *Прыйшла матуся хросная да хрэснічка. Матка і бацька праздраўлялі, а потым патходзіць матуся, татусь.* Запруддзе. *Іна зъ матусю была.* Рэчкі. *Матуся – ета хросная матка.* Каралі. *Матуся бабіла.* Мянюцева. *Я матуся – я кърывай пяку.* Гарадзец. *Матуся хросная сто рублей дала.* Партызаны.

**МАТЫҐА** *ж.* Матыка. *Усё зънясі: і косы, і матыгу.* Багданава.

**МАТЫЖЫЦЬ** *незак.* Матычыць. *Бульбу матыжыла, а яна ўся вымякла.* Запруддзе. *Усё раўно зямлю матыжыць нада.* Міцюкова.

**МАЎДУЦЬ** *м.* Маўчун, маўклівы чалавек. *Маўдуць – неразгаворчавы чъла-век. Надзьмецца і сядзіць як маўдуць.* Фасаўшчына. *Маўдуць кажуць, што маўчыш, сядзіш, нічога не скажаш.* Гарадзец. *Сідзіць як маўдуць, маўчыць, ні разгаварываець. Пыльным мяшком удараты, маўчыць як маўдуць.* Багданава. *Сядзіць як маўдуць!* Нямойта.

**МАЎКЛІВЫ** *прым.* Маўклівы. *Нейкі маўклівы ты!* Дуброўкі.

**МАЎЧАЦЬ, МОЎЧАЦЬ** *незак.* Маўчаць. *Маўчыць ён, ці худое, ці добрае, ці яму добра, ці худа.* Вялікі Азярэцк. *За сваё і маўчы.* Цясішча. *Хто ўмеў, той пеў, а хто ні ўмеў, той моўчаў.* Чуцькі.

**МАХАВІК** *м.* Махавік (грыб). *Мъхавікі, дзе мох, па лясу.* Каралі. *У нас – гэта мъхавік.* Міцюкова, Старая Беліца.

**МАХАМОР** *м.* Мухамор (грыб). *Дзе мъхаморы, там і грыбы растуць.* Гарадзец. *Мъхаморы растварала ў спірту – і мазала ногі.* Нямойта. *Махамораў сабярэш, паджарыш, здалечку сахарку ўсыпеш і мухі ўсе падыхаюць.* Цясішча. *Махаморы – іх многа ніс'ядобных.* Марозаўка. *Махамор – краснъя гълъва, а па ім белыя меткі.* Алексінічы. *Гэта махаморы, вот ягоныя шапъчкі.* Дуброўкі.

**МАХАНУЦЬ** *зак.* Махнуць. *Як махануў* [рукой па коласе] *Бох, так кольс, так трошкі асталося, бо каты зъгырчалі, каты зъкырняўкълі* [і Бог спыніў сашморгванне коласа] (павер'е). Ракаў Засценак. МАХ. Кінуцца, пабегчы. *Мах – у хлеў, наліла брагу ў цэбар.* Міцюкова.

**МАХАЦЬ** *незак.* Махаць. *Воўк ідзець і гълавой мох, мох, махаіць* [відаць, быў стары]. Багданава.

**МА́ХЕР** *м.* Ашуканец. *Прыла́дзіўся ма́хір і прыстро́іў сына* [ёй]. Сянно.

**МАХЛА́К** *м.* Бядро, тазасцегнавы сустаў. *Мъхлакі ў ж... баляць, го́нка не́льга сесць.* Партызаны.

**МАХЛЯВА́ЦЬ** *незак.* Махляваць. *Кру́ціць іна́, кру́ціць, во́зьміць гро́шы і ні аддасць, махлю́іць.* Заазер'е. *До табе́ каля нас махлява́ць, мъхля́р.* Запруддзе.

**МАХЛЯ́Р, МА́ХЛІР** *м.* Махляр. *Махля́р – гэ́та махлю́іць.* Заазер'е. *Ма́хлір, хто махлю́я, змухлюва́ў.* Багданава.

**МАХНА́ТЫ** *прым.* Махнаты. *Во кот які мъхна́ты.* Савінічы.

**МАХО́РЦЫ** *мн.* Махры, кутасы. *Махо́рцы ў салфе́тцы, ска́церці.* Нямойта. МАХО́РЧЫКІ *памянш. Махо́рчыкі ў плеціным по́ісі, а ў вітым – махо́рчыкі кру́глінькія.* Турава. *Спадніцы такія, тут* [злева] *прышыты адзін махо́рчык, тут* [справа]. Баравікі.

**МАЦЕ́РЫЯ** *ж.* Матэрыя, тканіна. *Ду́жа было́ пло́ха з маце́рыяй дъ вайны́.* Леснікова.

**МА́ЦІ-МА́ЧАХА, МАЦЬ-І-МА́ЧАХА, МАЦЬ-МА́ЧАХА, МАЧ-МА́ЧАХА** *ж.* Падбел (расліна). *Ма́ці-ма́чаха і ад прасту́ды. Маць-і-ма́чаха – лісце шоро́кае, ба́рхатам – цёплая, ма́ці, хало́дная – ма́чаха.* Буй. *Маць-ма́чъха: маць – мякінькі бок, дзе късма́цінька, а бліску́чы бок ліста́ – ма́чъха.* Ракаў Засценак. *Маць-і-ма́чаху, ліпавы цвет п'юць ат ка́шлю, прасту́ды.* Розмыслава. *Трава́ была́ маць-ма́чаха: на адзін бок хало́дная, на другі бок цёпленькая.* Леснікова. *Маць-ма́чаха ат ка́шлю.* Міцюкова. *Мач-ма́чаха – калі прасты́неш, у грудзя́х цяжка.* Багданава.

**МАЦІ́Ф** *м.* Матыў. *Я маціф такі вывесці ні магу́, я стара́я, у мяне́ зубо́ў не́ту.* Каралевічы.

**МАЦІ́Ф** *м.* Форма, выгляд. *Уся́кага маці́фу надзе́лаў* [карзінак]. Багданава. *Сураёжкі ні днаго́ маці́фу* [аднолькавага выгляду] *бува́юць.* Дольдзева.

**МАЦЮ́К** *м.* Брыдкае, лаянкавае слова. *Така́я хъзя́йка і мацюка́ пало́жыць.* Міцюкова.

**МАЦЯРЫ́К** *м.* Тое ж. *Не, мацерыка́, як п'я́ны і так, не руга́ўся.* Жохава.

**МАЧА́** *ж.* Мача. *Мача́ не дзяржыцца. Спіртам з мачо́й но́гі націра́ла.* Партызаны.

**МАЧАВЫ́** *прым.* Мачавы. *Мача́ ні дзяржыцца, мачавы́ пузыр баліць.* Партызаны.

**МАЧАГО́НКА** *ж.* Пра расліну, якая валодае мачагоннымі ўласцівасцямі. *Брусніка ад мъчаво́га пузыра́ – мъчаго́нка.* Парэчча.

**МАЧАГО́ННЫ** *прым.* Мачагонны. *Маць-і-ма́чаха ад прасту́ды, мачаго́нны.* Буй.

**МАЧА́ЛКА** *ж.* Мачалка. *Мыла, мача́лку бра́лі.* Багданава.

**МА́ЧАХА, МА́ЧЫХА** *ж.* Мачаха. *Жылі з ма́чъхай, я была́ вазро́слая, рабо́тала. Като́рая сіськай ко́рміць – ма́тка, а так – ма́чъха.* Багданава. *Ма́чыха мяне́ сільна пабіла, во тако́й скаме́йкай.* Запруддзе. *Ні атчыню́ я, / Бо́га баю́ся / Бяжы, дзіця́, да ма́чыхі, / Бяжы, дзіця́, да ро́днае. / Ніха́й цябе́ бе́ла ўмыіць, / Ніха́й цябе́ гла́тка ўчэшыць* (з песні). Буй.

**МАЧЛІ́ВЫ** *прым.* 1. Дажджлівы. *Када́ бу́сел яйцо́ выкідываіць – ле́та мачлівая* (зназіраннямў). Запруддзе. *Е́слі год мачлівы – аве́чкі храма́юць, а е́слі сухі – ні адна́ аве́чка храма́ць ні бу́дзіць* (з назіранняў). *Былі гада́ мачлівыя.* Дольдзева. *Сёльта во́сінь бу́дзіць мачлівая.* Серкуці. *Было́ тады мачлівае ле́та, як я каро́ў па́свіла.* Заазер'е. 2. Нізкае, топкае месца. *Мачлівыя места́, не́ік прае́хаць.* Гарадок.

**МА́ЧЫНА, МАЧЫ́НА** *ж.* 1. Макавіна, зерне маку. *Жвір – о́чынь дро́бныя каме́ння, прамытыя, пу ма́чыні.* Самсоны. 2. Макавіна, каліва маку. *А тады, калі*

*ўжо дош іллéць-іллéць, тады́ кáжуць: цяпéр вызывáй чарцéй і выдзірáй той мак, да нной мачы́ны, каб дош сціх* (павер'е). Запруддзе. МА́ЧЫНКА *памянш. Вазьмі нъ вядзёрка адну́ мáчынку кідáй, а як скóрміш, – конь бýдзіць спрáўный.* Баравікі.

**МАЧЫ́ЦЬ** *незак.* Мачыць. *Мóчуць лён, кап пълатнó бéлаё былó.* Фасаўшчына. *Чóрныя свінні* [грыбы] *мачý сыры́мі.* Партызаны. *Там у вóзіры мачы́лі пянькý.* Турава. *Катóры мóчыць, а катóры не мóчыць* [лён]. Дуброўкі.

**МАШКА́** *ж. зб.* Машкара. *Пісклáты лéзуць за машкóй éтай усю́ды.* Мянюцева. *Машкá былá тъкáя, усякъя, літáла.* Рулёўшчына.

**МАШО́НКА** *ж.* Мяшочак для тытуню, махоркі, які сцягваецца шнурком; капшук. *У машóнку насы́піш тъбáкі.* Фасаўшчына.

**МЕДАГО́НКА, МІДАГОНКА** *ж.* Медагонка. *У медагóнках як выкáтваюць – мёд нячы́сты.* Вялікі Азярэцк. *Мідагóнкі ръзъбрáлі, а былі!* Сянно. *Мідагóнка – стáвіш рáмкі і крýціш, калаўрóт такí, ганяíш вéцер – і вéцер ягó выдувáіць – мёд.* Запруддзе.

**МЕДЗЬ** *ж. зб.* Медныя грошы. *Дарý жмéню мéдзі, каб жылí як мядзьвéдзі* (вясельнае пажаданне). Багданава, Міцюкова.

**МЕДЗЯ́НЫ** *прым.* Медны. *Крýжку медзяну пастáвіла і ўкінула галéнь* [як загаворвала карову]. Савінічы, Каралевічы.

**МЕ́ДЛЕННА** *прысл.* Павольна. *Мéдленна éхалі з цэ́рквы.* Каралевічы.

**МЕ́ДЛІЦЬ** *незак.* Рабіць якую-н. справу павольна; марудзіць. *Ня мéдлі, а купля́й карóву.* Савінічы.

**МЕДУНІ́ЦА, МІДУНІ́ЦА** *ж.* Медуніца (расліна). *Медунíца пáхне, крáсненькім цвіціць.* Буй. *Медунíца лáпкамі рабінавымі, высóкая, шáпкай, як рашóтка, цвіціць, зáпах нічóга.* Запруддзе. *Медунíца лáпкамі, бéлая, высóкая, на рабíну пахóжая.* Міцюкова. *Медунíца па балóту, высóка расцéць, бéлым цвéтам цвіціць, ад глістóў. Як перастóіць, абсыпáецца, дудзянóе, тóлстае, абы́ паднялáся, хóдзім ірвóм, пакá ўстарэ́іць рвом, пакá бýбышкі не з'явіліся.* Каралі. *Медунíца – цвяткí дрóбныя, пáхнець.* Гарадзец. *Мідунíца па лéшніку расьцéць.* Галашчакіна. *Медунíцу свіннáм даюць, пахýчая, пасячэ́ш і ядýць.* Багданава. *Мідунíца – э́та такáя жоўтая, пахýчая цвіціць, з éстыя пяклí, апілкі з дроў і пяклí, нáда былó ш éсці.* Серкуці. *Мідунíца расцéць, бéлым цвіціць, янá цвёрдая і гаркáвая.* Марозаўка. *Мідунíца ёсь, крáсненькім цвіціць.* Леснікова.

**МЕДУНІ́ШНІК** *м.* Тое ж. *Медунíшнік у лясý расцéць, пу балóтах.* Самсоны.

**МЕ́ЖДУ, МЕ́ЖДЫ, МІ́ЖДЫ** *прыназ.* Паміж. *А между гэ́тых быў у іх мáльчык.* Гарадок. *Межды сабóй пъгъвары́лі. Межды плáнак дъстаéць* [карова корм]. Каралевічы. *Зъвалíўся гвост межды сцяны́ і пéчы. Міжды Кърал́ямі і Бъгдáнува ім здалóся.* Багданава.

**МЕ́ЗІНЕЦ** *м.* Мезенец. *А гэ́ты мéзінец мáлінькі.* Нямойта.

**МЕ́ЗЯНЫ, МІ́ЗЕНЫ, МЕ́ДЗЯНЫ, МІ́ЗІНЫ** *прым.* ○ МЕ́ЗЯНЫ (МЕ́ДЗЯНЫ) ПА́ЛЕЦ. Мезенец. *Адзін пáлец мéзяны астáўся, а тут усé атарвáта.* Багданава. *Дзе вядрó стáіць, тады́ мéзіным пáльцам мáжуць па э́тамy крýгу і гавóруць нéшта* [каб вогнік прайшоў]. Багданава. *Пáлец мíзены атарвáлі.* Запруддзе. *Забълéла нагá пад мéдзяным пáльцам, аткры́ліся рáны.* Манголія. *Мíзіны пáліц éта.* Серкуці.

**МЕЛ** *м.* 1. Мел. *Мел і алíфу мішáюць і абмáзуюць вóкны. А цяпéр пласцілінам.* Багданава. 2. Крэйда, мел. *Мел – э́та ў шкóлі пісáлі мéлам.* Станюкі.

**МЕ́ЛЕН, МЕ́ЛІНЬ, МЕ́ЛІН, МЕ́ЛЯН, МЕ́ЛЯНЬ** *м.* Ручка (дзяржанне) у жорнах; млён. *Бярэ́сся за ме́лен, і жо́рны кру́цяцца. Ме́лян – па́лка ў жарна́х, бярэ́сся за яго́ і кру́ціш, і мучы́ца сыпіца і аграба́еш.* Багданава. *Ме́лен – па́лка ў сцяну́ ўбі́та і ме́лен кру́ціць.* Жохава. *Ме́лен у жо́рнах.* Міцюкова. *Ме́лін, за які́ дзіржа́цца* [у жорнах]. Фасаўшчына. *Е́та ме́лін у жо́рнах як па́лка, е́та парплі́ца ўсярэ́дзіне з мета́лу.* Алексінічы. *Ме́лін – такі́ до́ўгі кіёк быў* [у жорнах]. *Ме́лінь у дзірку ўстаўля́ецца* [у лопацень] – *у жо́рнах. Ме́лянь у жо́рнах, ло́пацень.* Вялікі Азярэцк. *К сто́лі пъдбіва́лі* [вуха] *і ме́лін устуўля́лі, і ў дзі́рьчку на жо́рнъх.* Заазер'е, Марозаўка. *Ме́лян быў у жо́рнах, па́лка така́я, круці́лі.* Дуброўкі. *Што ты ме́леш, як ме́лен.* Міцюкова.

**МЕ́ЛЕШ** *ж.* Мятая, цёртая салома. *Пірат Іва́нам като́м на́да ву́ліцу піра-дра́ць, там пасы́паць ме́лешам.* Партызаны.

**МЕЛІ́ССА, МЕЛІ́ЦА** *ж.* Меліса (расліна). *У мяне́ мелісса насо́джана, лю́бюць пчо́лы.* Вялікі Азярэцк. *Трьва́ мелі́ца расцё́ць, лю́бюць пчо́лы, за́пах лю́бюць.* Запруддзе.

**МЕ́ЛКІ** *прым.* 1. Дробны. *Да ме́лкай ча́стачкі ўсе разабра́ў.* Партызаны. МЕ́ЛЬЧАНЬКІ *памянш. Сяку́ць ме́льчанькае ко́лля.* Нямойта. 2. Невялікі па колькасці. *Са́ма ме́лка* [гаспадарка] – *два пърасё́нка, дзве каро́вы, два кані́.* Фасаўшчына.

**МЕ́ЛЬНІК** *м.* Мельнік. *І ме́льнік бу́дзіць спра́шываць: «Што хъзя́іна твайго́ ўжо німа́?»* Леснікова. *Ме́льнікам быў Сірадзе́нка Іва́н.* Нямойта. *У панядзе́лак – Са́ўка ме́льнік. У аўто́рак – Са́ўка шо́рнік. С серады́ да чэцьвяргá – Са́ўка ў ко́мнацi слуга́. С пя́тніцы да субо́ты сядзіць Са́ўка без рабо́ты. А ў нядзе́лю – у пасце́лю* (лічылка). Запруддзе.

**МЕ́ЛЬНІЦА** *ж.* Млын. *У вайну́ ўсё разбуры́лі, ні было́ ме́льніцы.* Гарадзец. *Въдзяна́я ме́льніца, ён быў ме́льнікам. Была́ ішчэ́ пърьва́я. Там ме́льніца стая́ла вадзяна́я – пане́нкі ме́льніца.* Нямойта. *У Ням́ойце ад рэ́чкі Брус ме́льніца стая́ла.* Буй. *Віджу во́ сне: хаджу́ каля ме́льніцы.* Каралевічы. *Ме́льніца была́ за крыні́цай.* Фасаўшчына. *Павёс у прут, усякíе былí ме́льніцы.* Багданава. *У засе́к яго́* [зерне] *чы́сценькае, тады́ на ме́льніцу мужчы́ны вазі́лі.* Вялікі Азярэцк, Леснікова, Дуброўкі.

**МЕ́НЕЙ, МЕ́НІ, МЕ́НІЙ** *прысл.* Менш, меней. *Малады́х ме́ней, а луб'я́ бо́льшы.* Серкуці. *Было́ два́ццъць гра́дусъў маро́за, а ціпе́р ме́ні. Як хто адзі́н – бо́лій, а як з сям'ёй – ме́ній.* Багданава. *Ме́ні васьмі́ нікаму́ ні было́.* Леснікова. *Ме́ні ме́сіца стъя́лі мае́ ры́жыкі* [прасольваліся]. Сукрэмна. *Ме́ні нъ вълáх ара́лі, а тады́ ўжо тра́ктър да́лі.* Міцюкова. *Было́ сплъшна́я пілiна́ мъхъвікóў, пъдасі́нувікóў, сураéж, а бърьвікóў ме́ні.* Пожанькі. *Ме́ній прьдаю́ць ліка́рства.* Гарадзец.

**МЕ́НШЫ, МЕ́НЬШЫ** *прысл.* Менш. *Анны́м чо́ртъм ме́ншы бу́дзіць.* Заазер'е. *У каго́ ме́ньшы было́ зямлі́, це ахо́тна шлі ў калхо́зы.* Нямойта.

**МЕ́НШЫ, МЕ́НЬШЫ** *прым.* 1. Непрацяглы, малы па часе. *А калі́ мя́савіт ме́ньшы, тады́ Пятро́ўка бо́льшая.* Самсоны. 2. Маладзейшы, якому менш гадоў. *Я тры́цаць трэ́цяга го́да, а тэ́я ш яшчэ́ ме́ншыя былі́.* Міцюкова. *Брат быў ме́ньшы за мяне́.* Багданава. *Ме́ншая зако́нчыла інстыту́т.* Фасаўшчына. *Ме́ншъй то́жа зъхаце́ласі ў залезнадаро́жны.* Вялікі Азярэцк.

**МЕ́НШЫЦЬ, МЕ́НЬШАЦЬ** *незак.* Меншаць, змяншацца. *У мяне́ ня ме́н-шыіць дъ бо́льшаіць даўле́нне.* Нямойта. *Варва́ры – но́чы ме́ньшаюць.* Партызаны.

**МЕНЬШАЧО́К** *м.* Малодшы сын. *Ге́та меньшачо́к – друго́га сы́на – пабыва́ў у мяне́.* Дольдзева.

**МЕ́РА** *ж.* Мера. *Па ста́рай ме́ры дзесяці́на шчыта́лася дзве ты́сячы чаты́рыста квадра́тных сажане́й, э́та ўжо дзісяці́на.* Марозаўка. ◊ ДА МЕ́РЫ. Дастаткова. *Ну вы́піла, ну да ме́ры вы́піла – ну й хва́ціць.* Багданава. ◊ е́хаць ПА МЕ́РЫ. Не спяшаючыся, паціху. *На́да па ме́ры е́хаць, конь ні бу́дзіць пацэ́ць.* Дольдзева.

**МЕ́РАЦЬ** *незак.* Мераць. *Сра́зу ме́ралі ме́ркамі – два пуды́ ме́рка тъка́я, скры́нка ці дзе́шка ілі́ цэ́брам.* Вялікі Азярэцк. *Іна́ пъшла́ ваду́ ме́рыць. Іна́ кало́тцы ме́рыць.* Багданава.

**МЕ́РЗНУЦЬ** *зак.* Мерзнуць. Рэчкі.

**МЕ́РКА** *ж.* Пасудзіна для мерання чаго-н.; мерка. *Ме́рылі ме́ркамі – два пуды́ скры́нка ці дзе́шка.* Вялікі Азярэцк.

**МЕРКАВА́ЦЬ** *незак.* Меркаваць. *Мярку́ю, што хо́піць ко́рму на два дні.* Партызаны.

**МЕРЛУВА́ТЫ, МІРЛУВА́ТЫ** *прым.* Тоўсты, рахманы (пра курэй). *Мерлува́тые не́йкія ку́ры, іх піха́іш, а яны́ сядзя́ць. Такія мірлува́тыя* [куры], *яе́ шту́рхаіш, яна́ сядзі́ць.* Нямойта.

**МЕ́РЦІ, МЁРЦІ** *незак.* 1. Паміраць. *Пъд гады́, то ніч́ога, а то мълады́я мруць.* Вялікі Азярэцк. *Дзярэ́ўня бальша́я, жыць німа́ каму́, мужчы́ны як ста́лі мёрці.* Гарадзец. *Ста́лі лю́дзі ме́рці.* Неўгадава. 2. *перан.* Доўга смяяцца. *А мы хахо́чам, мром со́ смеху.* Запруддзе.

**МЕ́СНАСЦЬ** *ж.* 1. Мясціна, пляцоўка. *Там дзярэ́ўня Ме́ліхава есць, а е́та ўжо ме́снасць, дзе бува́ла събіра́ліся.* Самсоны. 2. Мясцовасць, край. *У яке́й ме́снасці так і называ́іцца.* Манголія.

**МЕ́СТА, МЕ́СЦА** *н.* 1. Месца. *Німа́ мяста́ў у са́дзіку. Німа́ място́ў спаць. Ах, кап ты сабе́, ме́сца не знахо́дзіў!* (праклён). Партызаны. МЕ́СТАЧКА *памянш. Каб ты сабе́ нідзе́ ме́стачка ні найшо́ў!* (праклён). Запруддзе. 2. Мясціна. *Там гліня́на ме́ста.* Багданава. *Там ме́ста высо́кае было́.* Леснікова. *Място́ў тых німа́, там тры хъзя́іны былі́, там была́ даро́га на Лух* [вёска]. Алексінічы. *Нъ грыбы́ на́да знаць, дзе мясты́ на іх.* Цясішча. 3. Паслед, плацэнта. *Ме́ста вы́шла ў каро́вы, трэ́ба пільнава́ць, каб ні з’е́ла. Як з’есь ме́ста каро́ва, то два дні малако́ пе́ніцца* (з назіранняў). Гарадзец. *Каро́ва на́ша цялі́лься, а ме́ста не выхо́дзіць.* Фасаўшчына. *Ме́ста – ка́іць* [кажа], *вы́шла, пуп абраза́лі.* Запруддзе. *Ме́ста ў яе́ бы́ла прыжы́ўшыся.* Цясішча. *Ме́ста выхо́дзіць, дзе рабёнак нахадзі́ўся.* Партызаны.

**МЕ́СТВА** *н.* Месіва. *Кроў збе́руць, карто́шкі здзярэ́ць, пшо́нную муку́, жыр, са́ла, часнаку́ – ме́ства тако́е здзе́лаеш, кі́шку падгату́еш – і туды́, по́тым у вар.* Міцюкова.

**МЕ́СЦІ, МЕСЦЬ, МЕ́ХЧЫ** *незак.* Месці. *Во́зьміць мятлу́ і мяцэ́ць жуко́ў.* Заазер’е. *Шчо́ткай я ні ўме́ю месць.* Гарадзец. *Як пе́чку мялі́, пе́чку ме́хчы на́да, то бра́лі памяло́ з ёлачък.* Каралі.

**МЕ́СЯНЫ** *прым.* Патоўчаны, памолаты. *У каўба́сы сы́палі душы́сты пе́рац, ме́сяны чо́рны, каля́ндру, кмін, кла́лі часно́к.* Міцюкова.

**МЕ́СЯЦ, МЕ́СІЦ** *м.* Месяц. *Як ме́сяцы ра́ньшы нъзыва́ліся? А тэ́я, дык ме́сяцы я ні зна́ю.* Багданава. *Два ме́сяцы до́жджу не было́.* Малы Азярэцк.

**МЕ́ТКА** *ж.* Метка, знак, плямка. *У мухамо́ра кра́снъя гулува́, а па ёй бе́лыя ме́ткі.* Алексінічы. *У саро́кі я́йцы гулубэ́я і чо́рныя ме́ткі па ёй.* Сянно. *Мухамо́р, а па ім ме́тъчкі бе́лінькія.* Дуброўкі. МЕ́ТАЧКА *памянш. Не́шта коль у па́лец, гляджу́ – ме́тачка, я скарэ́й к сястры́: на, шапчы́.* Нямойта.

**МЕТР, МЕ́ТАР** *м.* 1. Адзінка даўжыні, метр. *Лёд на во́зеры ў метр таўшчыно́м.* Запруддзе. *Высіка́йіць рыга́ціну з ме́тр.* Сянно. 2. Лінейка. *Я яму́ ме́тар дъва́ла, а ён ме́рыў.* Заазер'е.

**МЕХ** *м.* 1. Мех. *Дъбра́ німа́, то мо́жна й мяхі́ ні ла́піць.* Турава. *Мех на пле́чы і пашла́.* Гарадзец. *Мех той зь дзіньга́мі ні пъкладу́ць у труну́.* Івоні. *У мяшо́к уярце́ла ба́пка* [народжанае дзіця] *гэ́та. У мяшо́к, кап спако́йная была́, як мех.* Заазер'е. *Мно́га красён, на́да і на мяхі́, на́да і на матра́сы пра́сці, на́да і на руба́шкі.* Багданава, Запруддзе. 2. Прыстасаванне для нагнятання паветра (у кузні), мех. *Уручну́ю рабо́талі, у ку́зні мех, рыча́г уверху́ прычапля́еш, ці́скаеш, падыма́еш.* Мянюцева. *Мех дзе́лъіцца с ко́жы: дзве кры́шкі саб'е́цца і абаб'е́цца ме́хъм, а ўнізу́ дзве́рцы.* Запруддзе. ◊ МЕХ І ТО́РБУ нагавары́ць. Вельмі многа і абы-чаго. *Я нагавары́ла мех і то́рбу.* Неўгадава, Закур'е. *Нагавары́ла мех і то́рбу.* Багданава.

**МЕ́ЦЦА, ІМЕ́ЦЦА** *незак.* 1. Адчуваць сябе. *Як ты ма́ісся, мая́ сва́цейка?* Заазер'е. 2. Мець намер. *Іме́ўся ўчо́ра прые́хаць.* Партызаны.

**МЕЦЬ** *незак.* Мець. *Го́ласа ня ме́ю, ня бу́ду пець.* Чуцькі. *Ён і зъпа́с меў бі́льзіну.* Савінічы. *І до́брыя мы́слі ма́іць, / Хто па по́ўнай выпіва́іць* (з песні). Каралевічы. *Ну, хто со́вісь ме́іць, то дась гарэ́лкі.* Партызаны. *Перапі́скі з мужыко́м ня ме́ла.* Неўгадава. *Іме́ў чэ́цьвіра кане́й і во́сім каро́ў.* Заазер'е.

**МЕ́ШАНКА** *ж.* Мешанка. *Сагну́лася дава́ць ме́шанку ў сара́і, а ку́рыца мне як дзібану́ла ў зе́нка.* Леснікова.

**МЕ́ШАНЫ, МІША́НЫ, МЕ́ШАНЫЙ** *прым.* 1. Змешаны. *У нас ме́шаны язык.* Багданава. *Наш язы́к цяжо́лый, ме́шаный.* Міцюкова. 2. Рознай нацыянальнасці (пра змешаны шлюб). *Про́ста ў нас міша́ны яны́.* Марозаўка.

**МЕ́ШАНЬ** *ж.* Поле, узаранае вясною (другі раз) перад сяўбой збожжа; мешань. *Ме́шънь узъра́лі път кано́плі.* Гарадок.

**МЁД, МЁТ** *м.* Мёд. *За су́ткі пчо́лы зна́юць, што дошч, пірад дажджо́м не ліця́ць за мёдам.* Запруддзе. *Я з ва́мі пъгъвары́ў, як мёду наліза́ўся.* Рэчкі. *Ліжакі́ ўсігда́ дува́лі мёду бо́лі.* Фасаўшчына. *Пацягне́ш з кле́вера, то ка́жуць мёд.* Закур'е. ○ ПА́ДЗІВЫЙ МЁТ. Мёд з мядовай расы. *Мёт па́дзівый, о́чынь цяжо́лый, ат яго́ пчо́лы гі́нуць, ён ні пірыва́рыйіцца, крыштылізу́йіцца.* Сянно.

□ *Быў на мяду́, аблі́ў бъраду́, у рот ні пъпа́ла.* Марозаўка.

**МЁРЗЛЫ** *прым.* Мёрзлы. *Я́блык мёрзлых пъсяку́ свіння́м* [хай ядуць]. Гарадок.

**МЖА́КА** *ж.* Імгла, дробны дождж. *Сёння мжа́ка вялі́кая.* Міцюкова. *Як мжа́ка, дож мжыць.* Багданава.

**МЖЫЦЬ** *незак.* Імжыць, церушыць. *Мжыць дошч.* Багданава.

**МІГАЦЕ́ЦЬ** *незак.* Мігцець, пераліваецца колерамі. *Мігаці́ць со́нца, як усхо́дзіць нъ Купа́лу.* Каралевічы.

**МІГО́М** *прысл.* Мігам. *По́піл называ́ецца за́ла, зава́рыш, і ён* [лён] *бе́ліцца міго́м.* Партызаны.

**МІГРЭ́НЬ** *ж.* Пра стан, калі чалавек прыкідваецца хворым. *Мігрэ́нь – есць ахо́та, рабо́таць – лень.* Кляпчэва.

**МІДАЗБО́Р, МІДАСБО́Р** *м.* Час збірання мёду. *Ва врэ́мя мідазбо́ра сагрова́юць дзятву́, но́сяць ваду́* [трутні]. Нямойта. *А як ста́ніць мідасбо́р, мёт но́сяць пчо́лы.* Леснікова.

**МІДАНО́СНЫ** *прым.* Меданосны. *Мідано́сныя пчо́лы, што лёта́юць, но́сюць мёт.* Вялікі Азярэцк.

**МІДЗЯ́НКА** *ж.* Мядзянка, неядавітая змяя. *Мідзя́нкі – жо́ўцінькія, да вайны́ было́ по́ўна.* Багданава.

**МІДУНІ́ЧКА** *ж. памянш.* Салодкі духмяны яблык. *Мідуні́чка – я́блыкі былі́.* Пожанькі.

**МІЖ** *прыназ.* Сярод. *Між ро́шчы ні́ва была́ бъльша́я.* Фасаўшчына.

**МІЖУВА́ЦЦА** *незак.* Межавацца. *Адзі́н старучо́к тут жыў, мы з ім міжува́лісі.* Багданава.

**МІЗДРАНУ́ЦЬ** *зак.* З сілай стукнуць. *Яна́ міздрану́ла яму́ буты́лкай у гълаву́.* Латыгаль.

**МІЗЕ́РНЫ** *прым.* Мізэрны, несамавіты. *Зяць мізе́рны.* Жохава.

**МІКО́ЛА** *м.* Мікола; старадаўняе каляндарна-абрадавае свята, якое двойчы адзначаецца на год. *Міко́лаў тры! Аднэ́ не́йка з во́сені бува́іць, і цяпе́р ве́рна ско́ра бу́дзіць Міко́ла е́та,* [вясной у сакавіку была], *а тады́ – сяро́т ле́та. Дзівітна́ццатага дзікабра́ – Міко́ла.* Багданава. *У Або́льцы на Ю́р'я, на Міко́лу мужы́к е́здзіў, дзе́жкі, са́нкі, калёсы прадава́ў.* Чуцькі, Буй, Дольдзева, Жохава, Міцюкова, Партызаны.

□ *На Міко́лу з лу́пкаю ў по́ле.* Вялікі Азярэцк. □ *Ідзе́ць Святы́ Міко́ла – з сяўбо́й у по́ле.* Каралевічы. □ *Світа́я Міко́ла – з сіва́лкай* (*з лу́бкаю*) *у по́лі.* Чуцькі, Баравікі, Дольдзева, Ракаў Засценак. □ *Да Міко́лы зімы́ німа́ ніко́лі.* Гарадзец, Запруддзе, Нямойта. □ *Ды Міко́лы німа́ ле́та ніко́лі і зімы́ ніко́лі.* Каралевічы, Закур'е.

**МІКО́ЛЬШЧЫНА** *ж.* 1. Яда для пастуха, якую давалі яму на Міколу. *Міко́льшчыну пастуха́м сабіра́лі.* Цясішча. 2. Складчына на Міколу. *Міко́льшчына – Міко́лу гуля́лі, дзе́шавая гарэ́лка была́.* Чуцькі, Цясішча.

**МІЛІРА́ТАР** *м.* Меліяратар. *Гэ́та, ве́рна, мілірá́тары.* Малы Азярэцк.

**МІЛІРА́ЦЫЯ** *ж.* Меліярацыя. *Сын – інжыне́р па мілірá́цыі.* Партызаны.

**МІ́ЛЫ** *прым.* Мілы, любы, дарагі. *Што ты мі́лы, што ты, мы нъда́йівълі па тры лі́тры за дзень.* Чуцькі.

□ *Сі́лай ня бу́дзіш мі́лы!* Багданава.

**МІЛЬГА́ЦЬ** *незак.* Мільгаць, ззяць, пераліваецца. *Со́нца ў чы́сты чэ́цьвір ігра́іць, мільга́іць.* Ракаў Засценак.

**МІНАВА́ЦЬ** *незак.* Прапусціць. *Мы то́я пры́звішча мінува́лі.* Рассвет.

**МІНАВІ́ТА** *часц.* Менавіта. *Ат чаго́ мінаві́та згарэ́ў двор, ня ве́даю.* Чуцькі.

**МІ́НДРА** *ж. зб.* Зневажальная назва малых дзяцей. *А тады́ што з ні́мі дзе́лаць, з мі́ндрай е́тай.* Алексінічы.

**МІНІРА́Л** *м.* Мінерал. *Ім мініра́лы на́да.* Вялікі Азярэцк.

**МІНУВА́ЦЬ** *зак.* Абысці, абмінуць. *Не́як было́ мінува́ць.* Савінічы.

**МІНУ́ТА** *ж.* Вельмі хутка. *А тут сабшчы́лі міну́тай – і не́мцы прышлі́.* Багданава.

**МІНУ́ЦЦА** *зак.* Адысці ў мінулае, прайсці. *Не́як міну́лася, ціпе́р грыбо́ў німа́ ў ле́сі.* Каралі.

**МІНЦЕ́ЖЫЦЦА** *незак.* Хваляваца, непакоіцца. *Паны́ мінце́жуцца, бо пры-ка́з быў людзя́м нарэ́ску даць.* Вялікі Азярэцк.

**МІНЯ́ЦЬ** *незак.* Мяняць. *Я да́жы намётку дава́ла, піро́х міня́ла і намётку міня́лі с свякро́ўкай.* Багданава. *Вот па-ге́таму так і міня́лі: штого́т ару́ць, то іна́чый, другі́ гот наўскі́т ару́ць, а другі́ – уразо́р.* Гарадзец. *На́да ш зямлю́ міня́ць. Ра́ньшы было́ тры по́лі.* Савінічы.

**МІР** *м.* 1. Згода. *С нявéсткай хърашó, а с сы́нам міру ні былó.* Партызаны. *Удваíх ваюющь* [дзеці], *німá міру.* Партызаны. 2. Адсутнасць вайны, мір. *Дай бох, каб мір быў, свéтлае нéба.* Багданава.

**МІРВÁ** *ж.* 1. Мязга, жамерыны. *Мірвá – гéта ад усягó, што вы́ціснеш у мяшкý, па 60 капéек за кілагрáм.* Вялікі Азярэцк. 2. Жамерыны, адходы пры тапленні воску. *У печ стáвіш кацёл з вашчы́нуй. Вашчы́на растóпіцца, а тады́ ўсё у мяшóк ці ў въскапрэ́с, аджымáюць воск нъ вадý ў тас, а ў мяшкý астаюцца вы́тъпкі ці мірвá. Яé ў цёплую печ, вы́сышыць і здаюць* [у магазін]. Сянно.

**МІРГАВÁЦЬ** *незак.* Меркаваць. *Во міргýй, куды́ іх, пéнсія сóрак рублéй.* Багданава.

**МІРГАНЎЦЬ** *зак.* Глянуць. *Мірганýла: вуж ляжы́ць.* Нямойта.

**МІРГÁЦЬ, МÍРГАЦЬ** *незак.* Маргаць, падморгваць. *Міргáіць мне, што нет, ні падавáй гармóні.* Каралевічы. *Міргáіць, што не чапáй яé.* Дольдзева. *Мальчакí міргáюць, гукáюць ягó.* Нямойта. *Жмýруць глазáмі, ці мíргаюць.* Багданава.

**МІРКІЗÉТ, МЭРКІЗÉТ** *м.* Маркізет. *Кóфту з міркізéту пашы́ла пасля вайны́.* Розмыслава. *Мэркізéт рэ́дзенькі.* Каралі.

**МІРЫ́МА** *прысл.* Цярпіма, нічога. *Ну ў нас йшчэ міры́ма* [з радыяцыяй]. Запруддзе.

**МÍСАЧКА** *ж.* Ячэйка, чарачка ў сотах. *Пчóлы начынáюць дзéлаць мíсачкі, фóрма, як у жалудá* [на рамцы]. Кляпчэва.

**МÍСКА** *ж.* Міска. *Míску пастáвяць на стол, с аднэ́й éлі.* Каралі. МÍСАЧКА *памянш. У тýю мíсачку шчэ апят наллём.* Міцюкова.

**МІТАМÍН** *м.* Вітамін. *Дъвáць крапíвы ці бýльбы, то адзінáкъвъй мітамíн* [казала доктар]. Чуцькі.

**МІТРЭ́НГА, МІТРЭ́ГА** *ж.* Хваляванне, непакой, сумятня. *Тут булá нéйкая мітрэ́нга, і яны́ вы́ехалі ў Сібір, а там радзíлі і Гарбачóва.* Фасаўшчына. *Ай, вы чýлі, якáя сёння булá мітрэ́га. Як якія там ніпърáткі.* Запруддзе.

**МІТУСÍЦЦА** *незак.* 1. Мітуслівa рухацца. *Мітуся́цца лю́дзі, стыдзя́цца захóдзіць.* Нямойта. *Чагó гэ́та маé карóвы мітуся́цца, а гэ́та ж воўк.* Баравікі. 2. Мільгацець. *Мітусíцца ўваччý.* Алексінічы.

**МІТУСÍЦЬ** *незак.* Мільгацець. *Мітусíць, шары́ць, як прас пълатнó, зацягáіць мне* [аб слабым зроку]. Багданава. *Стáла мітусíць у вачáх.* Розмыслава.

**МІТЭ́РКА** *н.* 1. Драўляны блок, колцы, якія прыводзяць у рух катушку ў калаўроце. *У прáлцы вíлачкі, шпýлька і мітэ́ркі, пънажóк, кълясó, спíцы. Мітэ́ркі стаяць на шпýльцы.* Вялікі Азярэцк. *Шпýльку зъкрывáіць мітэ́рка з пáзъм.* Заазер'е, Гарадзец. 2. Драўлянае кольца для замацавання шпулькі. *Гэ́та мітэ́рка, дзéржыць катýшку.* Багданава.

**МІХІНÁЦЫЯ** *ж.* Механізацыя. *А цяпéр усё міхінáцыя, усё машы́намі.* Савінічы.

**МІЧÁЦЬ** *незак.* Мыкаць. *Мічы́ць карóва.* Гарадзец.

**МІШÁЛКА** *ж.* Мяшалка (прылада). *Мішáлка свіння́м мішáць. Мішáлка во свіння́м мішáць бýльбу* [вараную]. Багданава.

**МІШÁНЕЦ** *м.* Пра людзей рознай веры. *Чаты́ры сям'í і мішáнцы: жóнка рýская, муш – маскáль.* Карпавічы. *У нас у дзярэ́ўні мішáнцы жывýць: і мъскалí, і мужукí.* Дуброўкі.

**МІШÁНКА** *ж.* Кармавая сумесь для жывёлы; мешанка. *Мішáнка – свіння́м, занясý, хай не равýць.* Гарадзец. *Пайдý мішáнку дам свіння́м.* Цясішча.

**МІША́ЦЦА** *незак.* 1. Браць шлюб з чалавекам другой нацыянальнасці. *Літо́ўцы ра́ньшы на сваíх жанíлісі, а по́тым міша́ліся.* Вялікі Азярэцк. 2. Умешвацца. *Ты ні міша́йся, ні ўка́зывайся.* Багданава.

**МІША́ЦЬ** *незак.* 1. Перашкаджаць. *Яны́ ж бу́дуць міша́ць нам дажыва́ць жызнь.* Дольдзева. *Дзе́ці ні міша́юць бацька́м, усíм зямлí хва́ціць.* Баравікі. 2. Умешвацца. *Я б нічо́га ні міша́ла, ні ўка́сывалася.* Багданава.

**МІШЧЫ́ХА** *ж.* Свінушка (грыб). *Мішчы́хі здаро́выя расту́ць. Ста́лі гувары́ць, што іх есь нілізя́. Мы ядзíм.* Міцюкова.

**МІЯНЕ́Р** *м.* Мільянер. *Там бы мы міяне́рамі былí.* Кішуроўшчына.

**МЛЕЦЬ** *незак.* Млець. *Мле́ла яна́ на судзе́.* Розмыслава. *Ма́ткі мле́юць, хоць бы туды́* [у Афганістан] *ні папа́ў.* Запруддзе. *Шука́лі яго́, ма́тка мле́ла.* Каралевічы. *Но́гі мле́юць, ня йдуць, паго́да мяня́ецца.* Дуброўкі.

**МЛЫН** *м.* Млын. *Млын – е́та ме́льніца, а каза́лі: паве́с у прут мало́ць.* Багданава. *Млын быў, у ме́льніцу пае́ду.* Запруддзе. *На млын на́да свазíць, у ка́ждага млын быў.* Алексінічы. *Мало́лі ў жо́рны, мало́лі на млы́не. З жы́тняй мукí пяклí, мало́лі на млы́ні.* Карпавічы.

**МНО́ГА** *прысл.* Многа, шмат. *Ды мушчы́н было́ мно́га.* Багданава. *Апе́нькі расту́ць ісключы́цільна мно́га.* Цясішча. *Е́слі ў пе́рвую къляду́ звёст мно́га, то і грыбо́ў, арэ́хаў мно́га* [будзе] (прыкмета). Кавалі.

**МО́ВА** *ж.* Здольнасць гаварыць. *Улякну́цца – да́жа мо́ву аднíміць.* Каралевічы. ◊ УНЯ́ЦЬ МО́ВУ. Страціць здольнасць гаварыць. *Яму́ аж мо́ву ўняло́!* Заазер'е.

**МО́ГІЛКІ** *толькі мн.* Могілкі. *Гэ́ты гаёк, а там мо́гілкі.* Рэчкі. *У нас мо́гілкі заву́ць, а стары́я зва́лі і гай.* Нямойта.

**МО́ДА** *ж.* 1. Мода. *Вы́шла так із мо́ды: ужо́ і не хо́дзім.* Самсоны. *Нъдае́ла мо́ды ім* [жанчынам] *дъвадзíць. Стаў шыць то́лькі мушчы́нскъя.* Багданава. 2. Манера, звычка. *Мо́ду таку́ю іме́іць, во свіньня́.* Заазер'е. *Да́жа й у мо́дзі ні было́ – стака́намі піць.* Дольдзева. *Цяпе́р у мо́ду зайшло́: калí сем разо́ў дзе́ўка ні ръзвіла́ся, ня ку́рыць, то й ня дзе́ўка; калí хло́піц ня п'ець, ня ку́рыць, то й ня хло́піц.* Цясішча. 3. Загад, прадпісанне. *Пъшла́ мо́да хутары́ звазíць.* Леснікова.

**МО́ЖА, МО** *часц.* 1. Можа. *Мо Палане́я зна́іць?* Забор'е. *Мо по́зна?* Міцюкова. 2. Напэўна, магчыма. *Мо́жа я ні дазна́ю, лу́ччы змо́ўчу.* Запруддзе. □ *Мо́жа – гэ́та на двоя́ варо́жа.* Запруддзе.

**МО́ЖНА** *прысл.* Можна. *Радо́ўкі мо́жна есь, яны́ ня ду́жа так, а е́сці мо́жна, сла́ткія.* Латыгаль. *Каро́вы зіка́юцца, удзе́ржыць ня мо́жна, і ба́бы бува́ла йдуць у па́нскі кле́вір і даю́ць каро́въм.* Міцюкова.

**МОЗГ** *м.* Мозг. *Кроў к мазга́м падышла́.* Запруддзе.

**МОЙ** *займ.* Мой. *Усе́ мо́ды мае́, усё ўме́ла ткаць.* Кішуроўшчына.

**МО́ЙКА** *ж.* Мыццё. *Іка́я там мо́йка! Нъ пяць, на шэсь хат ба́ня.* Серкуці.

**МО́КНУЦЬ** *незак.* Мокнуць, размякаць. *У мяне́ была́ ро́жа въдзіна́я, з вады́, ні бале́ла, мо́кніць ра́нка й мо́кніць.* Партызаны.

**МО́КРА** *прысл.* Вільготна, сыра, мокра. *Даўне́й, на по́лі яшчэ́ мо́кра – выхо́дзіш жаць.* Самсоны. *А е́та вясно́й было́, мо́кра было́, мае́ но́гі акале́лі.* Леснікова.

**МО́КРЫ** *прым.* Мокры, вільготны, сыры. *А ле́та бу́дзіць мо́кра.* Гарадзец. ◊ ЯК МО́КРАЕ ГАРЫ́ЦЬ. Вельмі павольна, марудна. *Дзе́лаеш як мо́крае гары́ць.* Багданава.

**МО́ЛАНЫ** *прым.* Молаты. *Мо́лънъя се́мя нъ але́й.* Кляпчэва.

**МО́ЛАНЬ**, **МО́ЛНІЯ** *ж.* Маланка. *Дзе́душку мо́лань спалі́ла.* Рулёўшчына. *Траву́ мо́лнію све́цюць.* Каралевічы.

**МО́ЛАТ** *м.* Молат. *Мо́лат і́лі кува́дла: адзін бальшы́, а другі́ малы́, адзіно́чны, кілаграмо́вы, а бальшы́ – пяць кілагра́м.* Жохава.

**МОЛЬ** *ж.* Моль. *Моль рука́ў пае́ла.* Багданава. *Ба́гън кла́лі ат мо́лі, і тъба́ку кла́лі.* Ракаў Засценак.

**МОРГ**, **МОРҐ** *м.* Старая зямельная мера (0,71 га). *Маргі́ – падда́ткі. Як дзесяці́на, так надзе́л, а як дъба́віць – маргі́. Нъ мърга́х къпа́лі.* Серкуці.

**МО́РДА** *ж.* 1. Морда, пыса (у жывёлы). *Мо́рда ў каро́вы.* Гарадзец. *Загнае́нне ста́ла на мо́рдзе ў жарабёначка.* Партызаны, Багданава. 2. *груб.* Твар. *Аве́с бяру́ць і мо́гуць пашурува́ць мо́рду: нічо́га ні дала́* [на хрэсьбінах], *ты, ба́ба, гра́зная!* Савінічы, Міцюкова.

**МО́РДА** *ж.* Сетка для лоўлі рыбы. *Мо́рда для рыб* [сетка такая]. Марозаўка.

**МОРК** *м.* Морг, трупярня. *У марку́ пало́жаць бальны́х* [памерлых], *кры́сы нос абгры́злі аднаму́.* Нямойта.

**МО́РКВА** *ж.* Морква. *Мо́ркву се́іла, ні ўзышла́.* Ракаў Засценак. *Мо́ркву дзярём* [на тарцы] *бу́йненькім.* Вялікі Азярэцк.

**МО́РШЧАТЫ** *прым. перан.* Маршчыністы, які мае зморшчаную паверхню (пра грыбы). *Смаржо́к мо́ршчыты, а страчо́к гла́дкі такі́ спъд ні́за.* Міцюкова.

**МОСТ** *м.* 1. Мост. *Дзе шко́ла ў Сянне́, была́ цэ́рква, дале́й за мост – Пакро́ўская цэ́рква.* Запруддзе. *Кла́дбішча перад мо́сту.* Каралевічы. *Ажны́ не́мцы па масту́ ішлі́.* Неўгадава. 2. Падлога, памост. *Мост быў цёплы, абува́ць было́ не́чага, бо́сыя бе́галі.* Серкуці. *Мост памы́ю, аве́чак пакармлю́.* Дольдзева. *Мост памы́ла, чы́сты.* Міцюкова. *Мост быў у ха́це.* Гарадзец, Каралі.

**МОТ** *м.* Чалавек, які ўхіляецца ад работы; мот. *Мо́ты таке́я ў дзярэ́ўні, со́весці німа́, вып'ець – і пашо́ў, а дзе́лаць што – не хо́чыць.* Ракаў Засценак.

**МО́ЎЧКІ** *прысл.* Моўчкі. *Цяпе́р се́на вязу́ць мо́ўчкі, а ра́ньшэ грабём – пяём, вязём – пяём.* Буй. МО́ЎЧАНЬКІ *памянш.* *Мо́ўчанькі пашла́, атве́ту ні дала́.* Нямойта.

**МОХ** *м.* 1. Мох. *На мху дурні́цы растуць.* Кавалі. *Мъхъвікі́ ў мху растуць на ку́пніку.* Карпавічы. *Рашо́ткі растуць па мху.* Вялікі Азярэцк. *Бало́та, а мо́ху німа́.* Неўгадава. МАШО́К *памянш.* *На тэй гару́шъццы то́лькі машо́к ні́цый рос.* Самсоны. 2. Мяккія валаскі (пушок) на ножцы грыба. *У апе́нкі ёсь мох на но́шкі, а ў вару́шкі чы́ста.* Латыгаль. МАШО́К *памянш.* *Ваўне́нкі късма́ціньківя, па іх машо́к ро́зъвъй.* Алексінічы. 3. Пра мяккія валаскі на твары хворага чалавека. *Ліцо́ мо́хам парасло́, чуць не паме́рла ў вайну́ з гъладу́хі.* Партызаны. 4. Назва ўчастка лесу. *У нас каля ху́тара бор быў, і мох – такі́ ні́зкі лес, со́снічак. У тым імху́ знайшлі́ ма́лых ваўча́т і ўзя́лі.* Багданава. *Ласі́ дзікі́я ў маху́ былі́.* Жохава. *Я́нкаў мох* (урочышча). Гарадок. *Мох* (урочышча). Багданава.

**МОЧ** *ж.* 1. Мача. *Зна́іш што, ба́ба, у мяне́ моч ніка́гда так ні шла.* Фасаўшчына. *Моч любу́ю ра́ну зъліва́юць.* Заазер'е. *Моч не хадзі́ла.* Запруддзе. 2. Макрата, вільгаць, сырасць. *Гуркі́ нічо́га, а цыбу́ля ат мо́чы жаўце́іць.* Партызаны. *Моч убіра́іць* [сырасць паміж вокнамі], *ні цячэ́ць вакно́, пъдаке́нка суха́я.* Карпавічы.

**МО́ШКА** *ж. зб.* Машкара. *Мо́шкі ёсь, чаго́ до́бръга! Мо́шка пъ ляну́ бува́іць.* Сукрэмна.

**МРА** *ж.* Туман, морась, імжа. *У Ленінгра́дзе я ні магу́ быць. Там мра і мра.* Нямойта.

**МРО́Я** *ж.* Тое ж. *Там мро́я і мро́я ў Ленінгра́дзе.* Фасаўшчына.

**МСЦІ́ЦЬ** *незак.* Помсціць. *Бацька́м скажы́, дык яны́ злую́ць, мсцяць.* Запруддзе.

**МУ́ДЗІ** *мн.* Канюшына раллявая. *Нъ гуркі му́дзі кладу́ць* [каб ураджайнымі быць, апыляцца]. Сянно.

**МУДО́ХАЦЦА** *незак.* Важдацца, поркацца. *Дзень мудо́хаешся, а но́ччу прадзе́ш.* Апечкі.

**МУДРАВА́ТЫ** *прым.* Мудрагелісты. *Такі́ мудрава́ты.* Ульянавічы.

**МУДРА́НЫ** *прым.* Звычайны, невялікі. *Ні мудра́на хацёначка была́.* Савінічы.

**МУЖ**, **МУШ** *м.* Муж. *Хоць які́ недапе́шны муш.* Каралевічы. *Ня муж, ня дзе́ці, съма́ на све́ці* [як зраблю, так і добра]. Вялікі Азярэцк. ◊ МУЖ НАЕ́ЎСЯ ГРУШ. Той, які пакінуў жанчыну. *Яе́ муж нае́ўся груш.* Каралевічы.

□ *Муш* (*мужы́к*) *і жъна́ – адна́ сътъна́.* Нямойта, Запруддзе, Партызаны. □ *За до́брым* (*харо́шым*) *му́жам і Хо́ўра жана́.* Міцюкова, Вялікі Азярэцк, Ульянавічы. □ *Хоць муж варо́на, а жо́нцы зъбаро́на, хоць муж разіня, за ім дро́вы і лучы́на.* Багданава. □ *Ніха́й муж як* (*хош*) *ла́пъць, абы́* (*але́*) *жыць ды не* (*ні*) *пла́къць.* Дуброўкі, Багданава.

**МУЖЧЫ́НА**, **МУШЧЫ́НА** *м.* Мужчына. *Ён мяне́ ўсе научы́л рабі́ць, харо́шый быў мужчы́на.* Багданава. *У Самсо́нъх сем мужчы́н, а тры рабо́тъюць.* Самсоны. *Заку́рскі мушчы́на сілна ло́ўка ко́ліць дро́вы.* Закур'е.

**МУЖЫ́К**, **МУЖУ́К** *м.* 1. Муж. *А мужы́к яе́ рабо́таіць. Які́ ні мужы́к, але́ ш мужы́к. Мужы́к баяўся суро́цы.* Багданава. *Мужы́к у пърціза́ны пашо́ў.* Неўгадава. 2. Мужчына. *Былі мужыкі па два ме́тра, во мужыкі́.* Ульянавічы. *Там тры мужука́ нучува́лі ў дзяр́э́ўні.* Партызаны. *Такі́х мужуко́ў, што ня п'юць, і не зна́ю.* Каралевічы. *Ну тут мужукі́ ў слёзы: што дзяцéй пагна́лі, жо́нак пагна́лі.* Леснікова. *А хто-ніб́удзь со́дзіць у сыбо́ту* [агуркі], *як мы́юцца мужукі́ ў ба́ні, ка́жуць: «Во бу́дзіць гурко́ў!»* Запруддзе, Алексінічы.

□ *За харо́шым мужуко́м, трасе́ць ба́ба кумпяко́м.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Гарадзец, Нямойта, Закур'е. □ *У харо́шага мужыка́ і Хо́ўра жо́нка.* Запруддзе.

**МУЗУКА́НТ** *м.* Музыкант. *Як музука́нт ігра́іць, так і танцу́юць. Зайгра́ў музука́нт, і пайшлі. А музука́нт* [пяе]*: «Ні страда́йця, дзе́ўкі, ду́жа, / Прыйдзіць урэ́мя – даду́ць му́жа»* (прыпеўка). Багданава. *Адзі́н музука́нт на скры́пку, а мой на гармо́шку, ка́жацца, мёртвага падыма́юць.* Цясішча. *Музука́нт пъігра́ў.* Рулёўшчына.

**МУЗЫ́КА** *м.* Музыкант. *Як гра́іць музы́ка, як по́йдуць дратава́ць, як ха́та ні ръзва́ліцца.* Вялікі Азярэцк. *Ігра́й, музы́ка, ні пішчы́ / Ужо́ табе́ пла́та адда́та: кача́н капу́сты па лясе́, / І стары́ верабе́й па страсе́, / Кърча́н капу́сты парсю́к з'еў, / То́лькі наш музы́ка пъглядзе́ў* (з песні).

**МУ́ЗЫКА** *м. перан.* Скрып колаў. *А му́зыка ігра́іць, калёсы харо́шыя.* Самсоны.

**МУЗЫ́КІ** *мн.* Вечарынка з музыкай. *На музы́ках я на мно́гіх ігра́ў.* Савінічы. *Яны́ і ціпе́р музы́кі ёсць.* Вялікі Азярэцк.

**МУЙСТРУВА́ЦЬ** *незак.* Майстраваць. *Я муйструва́ў ста́ўні, то ўда́рыў пу па́льцу во.* Багданава.

**МУКА́** *ж.* Мука. *Мука́ ў стано́к сы́пецца, кала ка́мня ні́жняга ў жо́рнах.* Міцюкова. *Яна́ і мукі́ тэ́е ні ўзяла́.* Запруддзе.

**МУ́КА** *ж.* Пакута. *Кап така́я му́ка, то жыць мо́жна.* Алексінічы. *Пусці́ла ба́ба на сваё ру́кі му́кі: быка́ гаду́ю.* Партызаны. *Лянівыя каты́, як на му́ку брацъ кът́а.* Нямойта. *Хоч набра́лась му́кі, / Падме́ніць ма́мкі ру́кі* (з песні). Дуброўкі.

**МУЛІНЭ́, МАЛІНЭ́** *н.* Мулінэ. *Мулінэ́ рóзнае: і чырвóнае, і зялёнае, і фіялéтавае.* Запруддзе. *Мулінэ́ вышывáлі.* Розмыслава. *Малінэ́ вышывáюць.* Багданава.

**МУ́ЛКА** *прысл.* Мулка. *Сядзéць на стýлу мýлка.* Нямойта.

**МУЛУВА́ТА** *прысл.* Малавата. *Мулувáта іх, пітушкóў.* Пожанькі.

**МУЛЮПА́СЕНЬКІ** *прым.* Вельмі вузкі. *Міжда пастрóйкі сýтычкі, там мулюпáсінькі прыміжýтьчък.* Запруддзе.

**МУ́ЛЯР, МУ́ЛІР** *м.* 1. Муляр. *Мýляр, знáю, гаварылі. Нáда мýляра пазвáць.* Гарадзец. 2. Пячнік. *Печнікі былí, мýляр называлí, пéчы складáлі.* Манголія. *Нáда мýляра папрасíць печ здзéлъць.* Гарадзец. *Мýліры клáлі пéчкі, наймáлі мýляра і клáлі.* Станюкі. *Мýляр мулювáў, пéчку аммáзаіць.* Нямойта. *Мýлір – гéта аддзéльна, мýлір і пячнíк. Мýлір печ кíсцю апраўляіць, пабіляіць, памóчнік. Стáрыя людзі гавóраць мýлір.* Сукрэмна.

**МУР** *м.* 1. Мураваны будынак, камяніца. *Мур – éта пастрóйка, мур двухатáжны быў, кірпíшны быў.* Нямойта. 2. Сцяна, агароджа з камянёў, цэглы. *Мур – мéтра паўтарá, змуравáна ўручнýю.* Баравікі.

**МУРАВА́** *ж.* Зялёная густая дробная трава. *Муравá – э́то пóжнічка, травá мéлкая.* Савінічы. МУРА́ЎКА, МУРУ́ЎКА *памянш.-ласк. Дзе ня éздзюць – трóшку мурáўка расцéць.* Каралі. *Мурýўка засéла пъ лясé, лібідá, асóт, макрыца.* Сукрэмна. МУРО́ВАЧКА *памянш. У мянé скрозь кала хáты мурóвачка.* Цясішча.

**МУРАВЕ́Й** *м.* Мурашнік. *Я кінуў ягó* [вужа] *у муравéй.* Алексінічы.

**МУРАВЕ́ЙНІК, МУРАВЕ́ННІК** *м.* Тое ж. *Муравéннік у лéсі на кýпіне.* Багданава. *Муравéйнік – гарýшка здзéлаецца.* Вялікі Азярэцк. *У муравéннік усýнуў рукý, каб не балéла.* Гарадок.

**МУРАВІ́НЫ** *мн.* Тое ж. *Муравíны – э́та муравéйнік. Яны пáлачку выстрыгаюць, на муравíны пакладýць, а тады ссуць.* Багданава.

**МУРАЎІ́НЫ, МУРАВІ́ННЫ** *прым.* Мурашыны. *Мураўíным спíртам прóбуваў націрáць нагý – ляхчэ́й.* Ульянавічы. *На паталóк сыпалі муравíнную іглý.* Міцюкова.

**МУРА́Ў-МУРА́Ў, МРАЎ-МРАЎ** *выкл.* Перадача гукаў мурлыкання ката. *Мурчыць кот: мурáў, мурáў – март мéсяц. Кот мраў-мраў на ўсю дзярэ́ўню.* Гарадзец.

**МУРА́ШКА** *ж.* Мурашка. *Гéдак як нóгі баляць, у бутылку сáхар кінуць, нъпаўзáюць мурáшкі, настáіваюць на гарэ́лцы і націрáюць нóгі.* Вялікі Азярэцк.

**МУРЗА́ТЫ** *прым.* Мурзаты, брудны. *Мурзáтая я ўся, за сéна занялáся.* Міцюкова.

**МУРЛУВА́ТЫ** *прым.* Мурлаты, круглатвары. *Мурлувáты – ліцó крýглае.* Багданава.

**МУРЛЫ́ҐА** *ж.* ◊ У МУРЛЫ́ГУ. Гульня ў гарадкі. *У мурлыґу гулялі, цяпéр называюцца гарадкі.* Дольдзева.

**МУРО́ЖНЫ** *прым.* Мурожны, сухадольны (пра сена). *Мурóжнаё* [сена] *па сухíх лугáх, на высóкай зямлí.* Фасаўшчына. *Мурóжнаё сéна, а на балóце дык гéта – балóтняя!* Гарадзец.

**МУРО́ЎКА** *ж.* 1. Мурава. *І як сядуць там на мурóўцы, і скáчуць, і пяюць.* Багданава. 2. Макрыца (пустазелле). *Макрыца абы мурóўка, вырваць нéльга.* Запруддзе. *На дарóзе мурóўка расцéць.* Ракаў Засценак.

**МУРО́ЎКА** *ж.* Самагонка. *Мурóўку гóніць.* Запруддзе.

**МУРО́Х** *м.* Дробнае сена. *Мурóх – сéна мéлкъя.* Гарадок.

**МУРУВА́НЫ, МУРВА́НЫ** *прым.* Мураваны. *Мурувáныя склéпы былí, там хъранілі сваíх.* Алексінічы. *Тóжа дом стаяў, такі бальшэ́й, мурвáны.* Самсоны.

**МУРУВА́ЦЬ** *незак.* Мураваць. *Мурува́ць – е́та ш ка́мінщыкі, пічкуры́ муру́юць.* Сукрэмна.

**МУРЦО́ЎКА** *ж.* Цура. *Вады́ рассо́люць, хле́ба туды́ накры́шуць – ну вот і мурцо́ўка.* Марозаўка.

**МУРЧА́ЦЬ, МУРЧЭ́ЦЬ** *незак.* Муркаць. *Ста́ніць мурчэ́ць* [кот]. Рулёўшчына. *Мурчы́ць ко́шка.* Гарадзец.

**МУ́САР, МУСА́Р** *м.* 1. Смецце. *Муса́р і кроў, як даяркі до́яць.* Запруддзе. 2. Слізістыя выдзяленні. *Усё ўрэ́мя му́сар ішо́ў з гэ́тай наздры́ны.* Станюкі. *Пляўры́т быў мо́кры, тры літры му́сару вы́качылі.* Багданава.

**МУ́СІТКА, МУ́СІТКУ** *прысл.* Мусіць. *Алі мёд му́сітка два літры ёсь.* Неўгадава. *Чыпіёны* [шампіньёны] *му́сітку ні г душэ́, ні магла́ е́сці.* Дольдзева.

**МУ́СІЦЬ** *незак.* 1. Мусіць, быць вымушаным, абавязаным зрабіць. *Ну ма́ма са мной му́сіла іці!* Леснікова. 2. Мабыць, напэўна, відаць. *У яго́, му́сіць, рак быў ці што.* Кішуроўшчына. *Ну, му́сіць, я чыта́ў* [пра беларусаў-доўгажыхароў]. Алексінічы.

**МУ́ТАРНА** *прысл.* Моташна. *Як ташніць чълаве́ка, то му́тарна.* Марозаўка.

**МУ́ТНЫ** *прым.* Мутны. *Па му́тнэй вадзе́ е́дзеш, плыве́ш – пло́ха, па чы́стай – хараш́о* [сон]. Каралевічы.

**МУ́ХА** *ж.* Муха. *Пад ле́та, хваро́ба іх, – мух по́ўна.* Багданава. *Муха́м на́да другá́я* [атрута]. Кавалі. *А му́хі, што ле́таюць, – карто́шка бу́дзіць харо́шая* (прыкмета). Партызаны. ◊ мруць ЯК МУ́ХІ. У вельмі вялікай колькасці (пра людзей). *Мруць як му́хі. Чалаве́к як му́ха.* Серкуці. ◊ ЯК МУ́ХІ НА МЁД. З вялікай ахвотай, неадчэпна. *Напалі як му́хі на мёд.* Вялікі Азярэцк.

**МУХАЛО́ЎКА** *ж.* Мухалоўка. *Мухало́ўка, як вераб́ей, жыве́ць у ку́сціку.* Сянно.

**МУХАМО́Р** *м.* Мухамор. *Мухамо́ръмі ра́ншы мух тра́вілі.* Алексінічы, Старая Беліца.

**МУЦЬ** *ж.* Каламуць. *У вадзе́* [асвячонай] *му́ці ні було́.* Самсоны.

**МУ́ЧАЛЬНІК** *м.* Печыва на Саракі. *На Со́ръкі* [9 ці 21 сакавіка па н. ст.] *пяку́ць со́рък пампу́шък – со́рък му́чъльнікуў вы́ліпіць.* Ракаў Засценак.

**МУ́ЧАНІЦА** *ж.* Мучаніца. *Съракі – со́рак му́чаніцаў, со́рак пціц прыляціць.* Карпавічы.

**МУЧА́НЫ, МУЧАНЫ́** *прым.* Мучны. *Клёцкі, хто надзе́лаіць, надзярэ́ць з бу́льбы – бульбянэ́я, а хто – мучанэ́я.* Нямойта. *Муча́ныя клёцкі.* Савінічы.

**МУЧЫ́НА** *ж.* Мука, мучыца. *Яку́ю мучы́ну раздабу́дзіш, раскало́ціш, спячэ́ш.* Чуцькі. *Ці крупіна, ці мучы́на якá́я ў бáначцы.* Нямойта.

**МУЧЫ́ЦА** *ж.* Тое ж. *Зме́леш зярно́, мучы́ца сы́піцца. Мучы́ца сы́плецца з жо́рнаў. Пыло́к у дзеразы́, як мучы́ца.* Багданава.

**МУ́ЧЫЦЦА** *незак.* Пакутаваць. *Не́шта хо́дзіць па жывату́, дней пяць му́чылася. Нъга́мі му́чылася, радзікулі́т атні́міць но́гі і ру́кі.* Партызаны. *Бу́дзіш му́чыцца ў ду́ху такім, па цапка́х, па на́рах бу́дуць кача́цца* [у лазні]. Нямойта. *Ня му́чыўся, хъдзя́ памёр.* Турава.

**МУЧЭ́ННЕ** *н.* Пакута. *Мучэ́нне адно́, на рабо́ту ніяк не ўцеса́цца.* Партызаны.

**МУШКА́Т, МУШКЕ́Т** *м.* Пеларгонія духмяная (кветка). *Мушка́ты на́ вера́ндзе, ім тро́ху бо́лей со́нца.* Латыгаль. *Мушка́т ісо́х у ха́це.* Вялікі Азярэцк. *Гэ́та стуле́тнік, а гэ́та – мушке́т, ён цвіціць такім ро́завым.* Міцюкова.

**МУШТРУВА́ЦЬ** *незак.* Муштраваць. *Муштрува́лі, муштрува́лі, а по́тым пусці́лі.* Савінічы. *Ста́ла дзе́да муштрува́ць.* Самсоны. *У вайну́ муштрува́лі, і растрэ́ліваць ста́вілі.* Гарадзец. *Так муштрува́лі, да́лі не́куды.* Малы Азярэцк.

**МУШТУ́К** *м.* 1. Муштук. *Мушту́к – што папіро́сіну кладу́ць і цу́глі зва́лі так.* Манголія. 2. Від цугляў. *Муштукі́ ў во́шках жале́зныя. Мушту́к зашча́ўкваецца на абро́ць.* Гарадзец. *Як ра́ньшы жырапцы́ былі́, то на муштукі́ яго́ гмузда́лі, штоп ле́хчы было́ ўдзе́ржыць.* Сукрэмна.

**МУ́ШЫНА** *ж.* Муха. *Што такая му́шына, выкінуў і усё. Му́шына ў ха́ту ўляце́ла!* [яна дзіцяці не дасць пакою]. Міцюкова. *Му́шыны ў ха́ці няма́, не зазі́му́ець. Му́шына не зашумі́ць.* Закур'е.

**МША́НЫ** *прым.* Імшаны. *Пу мша́ных ліса́х тэ́я грыбы́ расту́ць.* Ракаў Засценак.

**МША́РА** *ж.* Амшара. *Мша́ра – баlо́та тако́я, ні ле́су німа́, ні дрэ́ва.* Запруддзе. *Па мша́рах асака́ расце́ць.* Багданава. *Вядзі́ каня́ на мша́ру.* Баравікі.

**МЫДЛО́ЎКА, МУДЛО́ЎКА** *ж.* Прылада для вымярэння таўшчыні цёсу; мыдлёўка. *Мыдло́ўка – ме́ралі бро́ўны.* Марозаўка. *Мост дзе́лъюць пад мудло́ўку, пад каранда́ш.* Баравікі, Савінічы.

**МЫ́ЛА** *н.* Мыла. *Касце́й у чугу́н насы́пацъ, у печ уста́віць, ко́сці распа́руцца, у начо́ўкі вы́ллеш, яно́ засты́нецъ, куска́мі нарэ́жаш і мы́ла свае́.* Гарадзец.

**МЫ́ЛЬНІЦА** *ж.* Ручка ў выглядзе выгнутай вілачкі на кассі. *Мы́льніца ў касе́, палю́х – е́та ў Азярэ́цку ка́жуць.* Леснікі. *Мы́льніца ў касы́, што бяру́цца.* Нямойта. *Палю́х, а хто называ́іць мы́льніца.* Фасаўшчына. *Мы́льніца была́ з лазы́, рабі́ны. Са́мъя лу́ччъя была́ з рабі́ны.* Леснікова.

**МЫ́ЦЦА** *незак.* 1. Мыць сябе. *Хаджу́ к сасе́ду мы́цца* [у лазню]. Цясішча. *Ба́ня, прымы́льнік, а там ба́ня па́рыцца, мы́цца.* Багданава. 2. Мыць што-н. *Яны́ мы́юцца хъраш́о* [ручнікі]. Фасаўшчына.

**МЫЦЦЁ** *н. зб.* Рэчы, якія трэба мыць. *Назбіра́ла мыцця́.* Багданава.

**МЫЦЬ** *незак.* Мыць. *Даўне́й тры разы́ мы́лі ха́ту ў гаду́. Гра́знае бял'ё бярэ́ш і мы́іш.* Багданава. *Я яшчэ́ не памёр – нас мыць не на́да.* Нямойта.

**МЫ́ЧКА** *ж.* Абчасаная на грэбені і згорнутая ў скрутак жменька льновалакна, падрыхтаваная да прадзення. *Два ху́нты да́лі мы́чкі. Мы́чкі – грубе́й пра́лі, тка́лі на сці́ркі.* Вялікі Азярэцк.

**МЫШ** *ж.* Мыш. *У нас у самы́х паяду́ць мы́шы або́і.* Чуцькі. *Німа́ мышэ́й у ха́ці, ня чуць.* Леснікова. *Глядзі́ць як кот на мыш.* Серкуці. *Як бярэ́менная, мышэ́й нільзя́ глядзе́ць, абхадзі́ць жэ́рдку на́да* (павер'е). Цясішча, Латыгаль. **МЫ́ШКА** *памянш.-ласк.* *Мы́шка, мы́шка, на табе́ жысця́ный, а дай мне кысця́ный* (прыгавор) [карыстаюцца такімі словамі, калі закідваюць выпаўшы зуб праз сябе пад печ – калі верхні зуб, ці на печ – калі ніжні зуб]. Нямойта.

**МЫША́К, МЫШША́К** *м.* Неядомы грыб. *Мыша́к – ніз'ядо́мыя грыбы́, іх наго́й* [б'еш]. Серкуці. *Гэ́та мыша́к, яго́ ніхто́ ні бярэ́ць.* Пожанькі. *Гэ́та ўсё мышакі́ мы завём.* Вялікі Азярэцк. *Мышакі́ ні ядуць, яны́ ні з'ядо́мыя грыбы́.* Нямойта. *Мышакі́ расту́ць у ле́се, іх не бяру́ць.* Баравікі. *Мо́жа які́ мыша́к, дзе́ці збіра́лі грыбы́. У нас зялёнкі ні бяру́ць, ка́жуць гэ́та мышшакі́.* Запруддзе.

**МЫШАНЯ́ТЫ** *мн.* Мышаняты. *Пъпадзе́ш на гняздо́, а там мъшаня́ты.* Багданава.

**МЫША́СТЫ** *прым.* Шэры, мышасты. *Мыша́сты конь аднама́сны, сівы́, як мы́шына.* Розмыслава. *Ёсь конь вараны́, гне́ды, пляснівы, мыша́сты.* Леснікова.

**МЫША́ТЫ** *прым.* Тое ж. *У нас у брыга́дзі былі ко́ні чо́рныя ці въранэ́я, гне́дыя* [чырвоныя], *ры́жсыя* [светла-чырвоныя], *се́рыя, мыша́тыя.* Самсоны. *Мыша́ты конь такі сівы, як мыш.* Сянно.

**МЫШНЯ́К** *м.* Мыш'як. *Мышня́к ад мышэ́й.* Багданава.

**МЫ́ШЫНА, МЫШЫ́НА** *ж.* 1. Мыш. *Я пале́зла ў я́му, там мы́шына, я – порк, а мы́шына – хоп пад спадні́цу. Каб мы́шына нідзе́ там ні зале́зла.* Багданава. *Смярдзі́ць, мы́шына дзе́-та здо́хла. Каб мы́шыну кот з'еў, дак ла́зіць.* Запруддзе. *Кі́нулі мы́шыну, яна́ была́ бярэ́менна, і ў дзяцёнка пра́ма мы́шына на ліцэ́.* Міцюкова. *Што кот за або́ямі ўло́віць мы́шыну?* Чуцькі. *Ні даў мы́шыну забі́ць, ніха́й жыве́ць.* Каралі. *Кот ла́пкі скру́ціць і пільну́ець мы́шыну.* Вялікі Азярэцк. *Каро́ва, як мы́шына шэ́рая і заву́ць Мыша́тка.* Гарадзец. *Мы́шыне ўгашчэ́нне паста́віла.* Нямойта. 2. Пацук. *Мы́шына – гэ́та ў нас бальшэ́ю крысу́ заву́ць.* Багданава. МЫ́ШЫНКА *памянш.* Нямойта. ○ ПАЛЯВА́Я МЫ́ШЫНКА. Палёўка. Багданава.

**МЫШЫ́НА, МЫ́ШЫНА** *ж.* Кажан (?). *Як мышы́на гняздо́ віс́ока ўець, бу́дзіць бальшы́ снех, а як нізенька, то снех малы́ бу́дзіць* (з назіранняў). *Кап мы́шыну ўба́чыў, мы ў по́грап тры каме́нчыкі бе́лыя кладзём, ста́рую о́буў но́шъную, съба́чую мя́ту, іна́ тады́ ўжо з насе́ннім* (з назіранняў). Ракаў Засценак.

**МЫШЫ́НЫ** *прым.* Такі, як у мышы. *І з мышы́нае во́ка гары́ць ля́мпачка, капце́лачка.* Багданава. ○ МЫШЫ́НЫЯ ШАМПІЁНЫ. Неядомыя грыбы, падобныя на шампіньёны. Дуброўкі.

**МЭ́БАЛЬ** *м.* Мэбля. *Мэ́быль якей быў? Ла́ва, пол, стол.* Запруддзе.

**МЭ́ТА** *ж.* Мэта. *С такей мэ́тай прые́хаў на выхадны́я.* Івоні.

**МЭ́ТЛА** *м.* Махляр. *Тут у Ле́плі адзі́н мэ́тла есць.* Дуброўкі.

**МЭ́ТРЫКІ** *мн.* Метрыка. *Мэ́трыкі ў мяне́ сы́нувы былі́, а тады́ забра́ў.* Кавалі.

**МЭЦ** *м.* Умелец. *Ну мой хъзя́ін быў на ры́бу мэц.* Нямойта.

**МЯЗГА́, МІЗГРА́, МІЗГА́** *ж.* 1. Мяккая частка дрэва паміж карой і драўнінай. *Кару́ но́жыкъм як сця́гжешь, тады́ мязгу́ ссуць ці смо́кчуць.* Багданава. *З бярэ́зіны, і с сасо́нніку бываі́ць мізгра́, і с е́льніку – но то́лька в атсо́к, вясно́ю густува́тая, бе́лая.* Марозаўка. 2. Мякаць пладовага цела грыба. *Ба́бъчкі, у іх пат ні́зъм мізгра́ сі́тавата.* Серкуці. 3. Мякаць у гарбузе, дзе знаходзіцца насенне. *Мізга́ – што-ні́бу́ць мя́ккъя. У гарбузе́ мізга́. Се́мічкі выбіра́ем, астае́цца мізга́ ат се́мічак.* Кляпчэва.

**МЯЗДРА́, МІЗДРА́** *ж.* 1. Мякаць у гарбузе, дзе знаходзіцца насенне; мязга. *Міздра́ – мя́каць у гарбузе́.* Розмыслава. 2. Слой падскурнай клятчаткі на нявырабленай шкуры. *Нъ мяздру́ ло́жым рэ́ткая це́ста, кап аттава́ла.* Неўгадава.

**МЯДЗВЕ́ДЗІЦА** *ж.* Вялікая ці Малая Мядзведзіца (сузор'е). *Мядзве́дзіца – ку́чка звёздъчък у адно́м ме́сці.* Нямойта.

**МЯДЗВЕ́ДЗЬ, ВЯДЗМЕ́ДЗЬ, МЯДЗВЕ́ЦЬ** *м.*, **МІДЗВІДЗІ́** *мн.* Мядзведзь. *Тут няма́ мядзьве́дзяў.* Багданава. *Вядзьме́дзяў не чуць.* Дуброўкі. *Я брыгадзі́рам быў, дык прыхо́дзіў мядзьве́ць.* Марозаўка. *І мідзьвідзі́ былі́ ў нас.* Савінічы.

**МЯДО́ВІК** *м.* Пчаляр. *Мядо́вік у нас у Пірабро́дъх быў, у яго́ пат со́ркъ кало́т було́ пчол.* Запруддзе.

**МЯДУ́НКА** *ж.* Медуніца (расліна). *Мяду́нкі сушы́лі, таўклі і пяклі ляпёшкі.* Дуброўкі.

**МЯЖА́** *ж.* Мяжа. *У гаро́дзі като́ры мяжу́ ні мо́жэць абрэ́заць до́бра.* Нямойта. *А рібя́та ш як по́йдуць па мяжэ́, па е́тай, і паблу́таюць.* Самсоны. *Къл̆ы мяжы́*

*сцёшка былá.* Гарадок. *Лýбкі насыпюць, нóсяць, каля аднóй мяжы, каля другóй і пасярэдзіне.* Закур'е.

**МЯЖАВÁЦЬ** *незак.* Межаваць. *Мы мяжýем Сéнецкі раён, Чáшняцкі.* Заазер'е.

**МЯКÍНА** *ж.* Мякіна. *Мякíна астаéцца, як вéюць.* Каралевічы. *Мякíна, як канбáйн жнець.* Гарадзец. *Тады мякíну свінні éлі, éта цяпéр свінні пъдурэлі.* Каралі. *Мякíну сабірáлі скóту.* Рэчкі. *Са ллянэя мякíны éлі пръснакí.* Серкуці. *Нільзя льнянýю мякíну карóвам і кóнім дъвáць. Сабірáлі ўсё: ллянýю мякíну, тады асакý, шышкі такія.* Фасаўшчына. *Хлеб пяклі, намéсюць мякíны.* Ульянавічы. МЯКÍНКА *памянш. Далёка харóшае зярнó ляціць, мякінка – бліска.* Розмыслава.

**МЯКÍНІНА** *ж.* Тое ж. *Завóшта рабілі – дадýць мякініну.* Чуцькі.

**МЯ́ККІ** *прым.* 1. Мяккі, шаўкавісты (пра валасы). *Мяккія въласы – въдá мяккая.* Партызаны. 2. Мяккі, без солей (пра ваду). Партызаны. МЯ́КАНЬКІ *памянш. Адзін мушчына хваць мяне за рукý. Во, гавóрыць, мяканькая рýчка.* Запруддзе. ○ МЯ́ККІ КУТÓК. Мяккая мэбля. *Заказáлі сцéнку і мяккі кутóк.* Запруддзе.

**МЯ́КНУЦЬ** *незак.* Мякчэць гніючы. *Каб янá мякла, дык не* [рана на назе]. Запруддзе. *Мякніць капыт, гніéць, як макрэц у кънá.* Гарадзец. *Як зълатýха, то бóлькі чэшуцца, мякнуць.* Нямойта. *У дзéда лóпнъла язва, ён мяк і ръсплътáўся.* Кішуроўшчына. *Крух – крýглы такí, нарывачкі такія, мякніць, і вóгнік называўся.* Багданава.

**МЯ́КНУЦЬ** *зак.* Моцна ўдарыць. *Як мякнула мне жалéзіна па назé – гъласíла да абéда.* Буй. *Як мякну табé, так ты і завáлісся.* Фасаўшчына.

**МЯКÓЦЬ** *ж.* Мякаць, мяса без касцей. *Атрэжуць мякóці ат кумпюкá. Біс касцéй мяса варылі, ат кумпюкá адрэжуць мякóць для цэрквы* [на Пасху]. Карпавічы.

**МЯКЧЫ́ЦЬ** *незак.* Рабіць мяккім. *Білі, мякчылі губý, зьдзéлъіцца губá мяккъя.* Багданава.

**МЯ́ЛА** *н.* Ручка ў церніцы. *Бéрыш зъ мяла і трэш лён нъ мяліцы.* Закур'е.

**МЯ́ЛІННЕ** *н.* Адходы пры першаснай апрацоўцы лёну; мяленне. *Късстрá, мялінне късла хаты апсыпáлі, на вільчык нъсілі, завáлiння рабілі.* Каралі. *Кайстрá, мялінне ўніс пáдала.* Вялікі Азярэцк. *Кастры, мяління насыпеш на хáту і прыціснеш.* Дольдзева. *Мяліннем трéба вýліцу пірасыпаць.* Партызаны. *Пайдý, а йдзé Míша, а ён увéсь у мялінні; ягó пъдняло на крышу, а крышу скінъла.* Міцюкова.

**МЯ́ЛІЦА** *ж.* Церніца, мялка. *Мяліцы былí ручныя, уручнýю цяў-цяў – мялі канóплі.* Гарадзец. *Уручнýю – гéта мяліца называлі, вытруць лён чыста. Мяліца былá, лён мялі, трапóшъчка такáя, дóшчъчка, прáма тъкáя дъскá.* Каралі. *У мяліцы перад на двух нъгáх, біла ёсь, кънáўка, дзірвянный гвозд.* Заазер'е. *Насóдзюць на ёўню лён і мнуць у мяліцу.* Чуцькі. *Мяліца і трапло былí.* Вялікі Азярэцк. *Лён мялі нъ дзірвянную мяліцу.* Закур'е.

**МЯ́ЛКА** *ж.* Тое ж. *Вылежыцца ён* [лён], *а тады на ёўню сóдзюць, а тады мнуць у мялку.* Багданава. *Лён у мялкі мялі, прáлі, ткáлі.* Карпавічы. *А былá кругавáя мялка, у дзве жмéні пъдаéш, удваём крýціш і крýціш, пакá самнéцца. Вáлікі такія з зубáмі: два ўнізý, два навярхý.* Фасаўшчына. *Мялкі былí з дзвюмя рýчкумі.* Вялікі Азярэцк. *І áрфа згарэла, і мялка згарэла, што сабóй круцілі, і тáя згарэла.* Заазер'е. *Мялкі дзервяныя былí, уручнýю мялі.* Запруддзе, Апечкі, Баравікі, Буй.

**МЯ́ЛЛЯ** *н.* Адходы пры першаснай апрацоўцы лёну; мяленне. *С път мяліцы мяльля.* Дольдзева.

**МЯНУ́ШКА, ІМЯНУ́ШКА, МІНУ́ШКА** *ж.* Мянушка. *Мяну́шку шчас даду́ць. Міну́шкі – е́та прыду́мають на чълаве́ка і бу́дуць гавары́ць.* Запруддзе. *Да́лі імяну́шку такую.* Вялікі Азярэцк.

**МЯРГУВА́ЦЬ** *незак.* Разлічваць, размяркоўваць. *Парася́там куляшу́ звару́ і на два дні мяргу́ю ім.* Партызаны.

**МЯРЛО́ГА** *ж.* 1. Бярлога. *За́йцы мярло́гу сдэ́лають, у дзікіх свінне́й то́жа мярло́га. Пъд карча́мі ў яго́ мярло́га.* Багданава. 2. Пра беспарадак; незасланыя ложкі. *Ся́ння як спа́лі, шчэ мярло́га ў ха́ці.* Дольдзева.

**МЯРЛО́ШКА** *ж.* Дробная салома, якая ідзе на подсціл. *Сало́ма для лёжні свіння́м. Я ўжо сьвіньне́* [пароснай] *мярло́шкі, сало́мкі кіну.* Каралевічы.

**МЯРО́ЖА, МІРО́ЖА** *ж.* Сетка для лоўлі рыбы, нацягнутая на абручы; мярэжа. *Міро́жа – два чупы́ саядзінены́ се́ткай.* Дольдзева. *Ён дзе́лаіць мяро́жы, а я пянькý праду́. Мяро́жа – се́ткі такія.* Заазер'е. *Мяро́жы ста́вюцца с се́ткі, но́рат у нас быў.* Турава. *Міро́жы стъя́ць, по́йдзеш, ху́да-ру́да, а кілагра́м рыбы нясе́ш.* Пожанькі.

**МЯРТВІ́ЛЬНЫ** *прым.* Лаянкавы, брыдкі, непрыстойны. *Кляне́ць, мяртвільнымі сло́вамі гаво́рыць.* Багданава.

**МЯРЦВЕ́ННЕ** *н.* Амярцвенне. *Мярцве́нне ста́нець у галаве́, тады́ аж на ташно́ту.* Кляпчэва.

**МЯРЦВЕ́ЦЬ** *незак.* Мярцвець, дранцвець. *Ру́кі мярцве́юць і баля́ць іншы рас.* Запруддзе. *Мярцве́юць ру́кі, тры па́льцы замярцве́ўшы.* Нямойта. *Мярцве́лі ру́кі ад рабо́ты.* Чуцькі.

**МЯРЦВЯ́К** *м.* Мярцвяк. *Мерцвяко́м па́хнець чабо́р.* Нямойта.

**МЯРЫ́ЛА** *н.* Пасудзіна прыкладна на два пуды для мерання чаго-н. сыпучага; мерка. *Паёк – мяры́ла тако́е, пу́ды два зірна́ ўла́зіць.* Вялікі Азярэцк.

**МЯРЭ́ЧА** *ж.* Цяжкапраходнае багністае балота. *Мярэ́ча – дзе бало́та, драгва́, зарасло́ асако́й, лазо́й ніцуй.* Гарадок.

**МЯРЭ́ШЧЫЦЦА** *незак.* Мроіцца, здавацца. *Усё мярэ́шчацца, перажыва́еща.* Міцюкова.

**МЯ́СА** *н.* 1. Мяса. *К Па́скі пірагі пяклі, мя́са вары́лі і свяцілі.* Гарадок. *Аве́чку пръдае́ш мя́съм* [так выгадна]. Міцюкова. 2. Мякаць гарбуза. *Мя́са ў гарбуза́х спецыя́льна для свіне́й, це́ла свіні набіра́юць.* Партызаны. *У гарбуза́х мя́са не́йкае.* Запруддзе. 3. Мякаць пладовага цела грыба. *Мя́са ў кързла́х жо́ўціњкъя.* Міцюкова.

**МЯСАЕ́Д, МЯ́САЕД, МЯ́САВЕД, МІСАЕ́Т, МЯ́САВІТ** *м.* Перыяд паміж пачаткам Каляд і Масленіцай, калі праваслаўнай царквой дазваляецца есці мяса. *Мясае́д пасля Каля́д.* Дольдзева. *Мя́савіт ра́ньшы, піра́т каля́дамі бува́іць. Мя́савіт сёліта такі бальшы́. Як пост бо́льшы за мясаед, яна́ ране́й* [Масленка]. Міцюкова. *Ба́цька другі раз ажаніўся ў мясае́д – і памёр сам.* Багданава. *Сёлета мя́савіт бальшы́, рас Па́ска по́зна. Сем нядзе́ль на́да на пост. А так усё мя́савіт, і Ма́слінка мя́савіт.* Нямойта. *Мясаве́д ад Къля́д начына́ецца, як калі, калі шэсць нядзе́ль, калі дзе́сяць.* Вялікі Азярэцк. *А е́та мя́савіт, про́йдзіць шэсць нядзе́ль Пілі́паўкі е́тай по́снай, а тады́ ўжо мя́савіт. А тады́ быва́іць пост, мя́савіт, э́та быва́іць дзе́вяць нядзе́ль, сем нядзе́ль, тады́ е́лі з малако́м.* Самсоны. *Мя́савід пато́м бу́дзіт. Ажаніўся ў мя́савет і перат Па́скаю памёр.* Багданава. *Мя́съвіт ат Къля́т дъ Ма́сленіцы.* Серкуці.

**МЯСІ́СТЫ** *прым.* Мясісты. *Къпыты́ звары́ – чо́рныя, мясістыя грыбы́.* Алексінічы. *Мъхъвікі мясістъя, ва мху расту́ць.* Вялікі Азярэцк.

**МЯСІ́ЦЬ** *незак.* 1. Мясіць, замешваць. *Блін так жа раскалаціў і пячы, а цацэнь нада мясіць і раскатываць.* Жохава. *Мясілі цеста і каб пъдышло ў замесі.* Цясішча. 2. *перан.* Біць. *Усіх мясіла баба.* Заазер'е. *Тутацькі мясілі, бамбілі, кулеш такі быў.* Розмыслава. 3. *перан.* Моцна стукаць. *Мълатком месіш, ён дзелаіцца, як вата.* Жохава.

**МЯСНО́Е** *н.* Ежа з мяса, з мясам; мясное. *Раньшы мясн́ога ні было на памін.* Карпавічы.

**МЯСТО́К** *м.* Добрае месца. *Ён трошку ачунеў, склалі сена ў мясток харошы.* Каралевічы.

**МЯСЦЕ́ЧКА** *н.* Мястэчка. *Звалася мясцечка.* Закур'е.

**МЯСЦІ́НА** *ж.* Мясціна. *Ёсь мясціны камяністыя.* Мянюцева.

**МЯСЮ́ГА** *ж. груб.* Мяса. *Мясюга свая, картошка была свая.* Баравікі.

**МЯ́ТА** *ж.* Мята. *Мята ё нъ гародзі, яе рас пъсадзіў і будзіць расці.* Гарадзец. *Мята гародняя, пахучая.* Міцюкова. *Мята харашо, яна пахніць, цяпер звялася ў мяне.* Каралі. *Мята ад прастуды харашо, ад печані.* Парэчча. *Дожджам вымякла мята.* Ракаў Засценак. *Мята пахнець.* Буй. *Мята пахучая, чай смачны. Мята ад жывата бывала. Мята ат серца харашо.* Багданава. ○ САБА́ЧАЯ (САБА́ЧЧАЯ, САБА́ЧЧА) МЯ́ТА. Дзікая мята. *Сабачая мята ванючая.* Багданава. *Мята ета събаччъя, на ёй во бубышачкі растуць, як цвіціць.* Заазер'е. *Мята сабачча расцець.* Запруддзе.

**МЯТЛА́, МІТЛА́** *ж.* Венік. *Піраб'юць* [цапамі], *змятуць мятлой* [з зерня каласкі] *і веюць нъ калодкі* [седзячы]. Цясішча. *Я ўзяла мятлу да мятлой яго.* Вялікі Азярэцк. *Ідзі, мятлу прынясі.* Багданава. *У Сукрэмна да рэвалюцыі візалі мётлы і прадавалі.* Сянно. *Мятлой зганяюць къласкі.* Розмыслава. *Новая мітла чыста хату мяцець.* Вялікі Азярэцк. *Была мітла замітаць.* Гарадзец.

**МЯТЛА́, МІТЛА́** *ж.* 1. Мятліца (расліна). *Як дрэнае жыта, мятла ў жыці расцець.* Багданава. 2. Суквецце аўса і інш. *У жыце – кольс, у аўса – мітла.* Гарадзец. МЯЦЁЛАЧКА *памянш.* *Жыта расцець, къласок як мяцёлачка.* Міцюкова. *Трыснік ўверх мяцёлачкай расцець.* Запруддзе.

**МЯ́ТЛІК** *м.* Матылёк. *Мятлікі етые белые лётаюць, і яны ложуць капусныя чэрві.* Рулёўшчына. *Мятлікі ёсьць беленькія, аткладваюць чарвей.* Вялікі Азярэцк. *Мятлік атлажыіць яйцы, і пулучаюцца вусіні нъ капусці.* Сянно. *Мятлік па капусці лётаіць.* Манголія. *Мятлікі панасядуць на капусту, чэрві стануць.* Гарадзец. *Мятлікаў многа, ліш бы капуста паявілася.* Дуброўкі.

**МЯТЛІ́ШКА, МЯТЛЮ́ШКА** *ж.* Тое ж. *Мятлішкі на капусту як сядуць, яец як налoжуць, січас чэрві паядуць. Мятлюшка пъляцела, урэдная, на капусту сядзіць, яец налoжыць, січас чэрві пъядуць лісце.* Ракаў Засценак. МЕТЛЮ́ШАЧКА *памянш.* *Метлюшачкі лётаюць.* Ракаў Засценак.

**МЯ́ТЛУХ** *м.* Тое ж. *Бélінькія мятлухі выпускаюць чарвей нъ капусту, нът капустуй лётъюць.* Сукрэмна.

**МЯТЛЮГА́, МІТЛЮГА́** *ж.* 1. Хвароба печані і лёгкіх у свойскай жывёлы. *Хворъя карова. Мітлюга ў печані. Авечкам лук, рэцьку даюць, тады мятлюга праходзіць.* Багданава. *Метлюгі ёсь на печані, тады карова панoсіць, як з дуды з яе прэць.* Гарадзец. *Мятлюгі ў авечкі піраелі ўсё.* Манголія. 2. Мышачная хвароба жывёлы. *Мітлюга ў каровы, мышашная балезнь, на нагах не можа ўдзержыцца, на ногі хварэюць.* Багданава.

**МЯЦЕ́ЛІЦА** *ж.* Мяцеліца (танец). *За ру́кі бра́ліся ў кружо́к – мяце́ліца была́.* Багданава.

**МЯЦЕ́ЛІЦЬ** *незак. экспр.* Біць, лупцаваць. *Мяце́ліць стаў, а яны́ рату́нку крыча́ць.* Пожанькі.

**МЯЦЁЛКА** *ж.* Мацыёла (кветка). *Мяцёлка паху́чая, уве́чары цвіці́ць.* Багданава.

**МЯ́ЦІНА** *ж.* Каліва мяты. *Пайду́ я вам прынясу́ мя́ціны, у мяне́ ў ха́ці ёсь, яна́ ж ду́жа паху́чая, маладая, мо́жа до́ждж̌ам вы́мякла.* Ракаў Засценак.

**МЯЦЬ** *незак.* Мяць. *Лён събра́лі, мя́лі, трапа́лі – усё рабілі. Лён мя́лі, трапа́лі, спуска́лі, ды ўсё ў ха́це.* Багданава. *Лён мнуць і трэ́плюць.* Буй. *Мя́лі лён, сушы́лі на ёўні.* Заазер'е. *Лён сушы́лі і мя́лі.* Карпавічы.

**МЯ́ЦЬВА** *ж.* Кармавая травяная сумесь для жывёлы. *Кры́шыць гэ́йта мя́цьва. Се́кла мя́цьва на той до́сцы: бура́шнік, бацві́нне, макры́цу.* Каралевічы. *Мя́цьву мя́кінькыю свіння́м зварыла. Насе́кла свіння́м мя́цьвы. Там зя́бра, лібіда́, сот, крапі́ва, мало́чнік, макры́ца, тръва́ гуся́тнік, спары́ш.* Дольдзева.

**МЯЧЭ́ЎНІК** *м.* Рагоз (расліна). *Мячэ́ўнік расце́ць у кана́ве, шты́ле ў іх такія.* Запруддзе. *Мячэ́ўнік расце́ць у бало́ці, такі́ віcо́кі, як аір. Хамуці́на, іна́ ко́жынная, ра́ньшы плялі з мячэ́ўніку, расце́ць высо́кі ў бало́ці, як аір.* Гарадзец. *З мячэ́ўніку плялі хъмуці́ну.* Савінічы. *Мячэ́ўнік нъ бало́ці ёсь, зь яго́ паду́шкі дзе́лълі, яго́ ў хумуці́ну бе́рылі.* Закур'е.

**МЯША́ЦЬ, МІША́ЦЬ** *незак.* 1. Араць, пераворваць паўторна. *На́да ж дабро́ міша́ць, каб ураджа́й быў до́бры.* Дуброўкі. 2. Замешваць корм жывёле, птушкам. *Пасе́ўкі кура́м мяша́лі з бу́льбай – паяду́ць.* Гарадзец. *Свіня́м ідзе́ш міша́ць.* Багданава.

**МЯШО́К, МІШО́К** *м.* Мех. *А мы то́жа ў лес зъкапа́лі: два мяшкі́ ячме́ню, два пшані́цы.* Леснікова. *На мяшка́х на гару́ е́здзяць і ні зва́лішся.* Міцюкова. *Пъ мяшку́ даду́ць мукі́ на ха́ту.* Неўгадава. *І тады́ ко́ні во́зюць зъ на́мі э́тыя мішкі́.* Багданава.

**НА** *прыназ.* 1. На (паверхня), па. *І дабро́ ў ёўні сушы́лі, на таку́ малаці́лі.* Баравікі. *Уся́кім ві́дам быў сня́ўшыся нъ па́мітніку.* Нямойта. *На скаварадзе́ жа́руць кабачкі́.* Запруддзе. *Дзі́чы на рука́х быва́юць.* Гарадзец. 2. На (прастора, месца), у. *Мы на по́лі ў дзя́дзькі былі́.* Алексінічы. *Уве́чары дъбяро́м* [бульбу], *на по́лі събяру́цца і пяю́ць.* Гарадзец. *Дзе́ўчыну ўві́дзеў на ля́се́, к ёй панёсся.* Партызаны. *Гаро́т быў на два бакі́ – там то́лькі по́жня.* Серкуці. 3. На (кірунак), у, да. *Старшыні́ вяно́к сав'ём і нясём к яму́ на дом.* Багданава. *За ба́нку мълъка́ по́йдзіця нъ дзярэ́ўню.* Запруддзе. *Лубя́начку-люля́чку бяру́, тры казлы́ – і на по́ле жаць жы́та.* Цясішча. 4. На, каля, пры. *Пастро́ілі дамы́ на даро́гі на тэй.* Мянюцева. 5. На (час), пад, падчас, за, у. *Дзеразы́ на Тро́йцу нарву́ць, вянкі́ паўю́ць, вісяць цэ́лы год.* Запруддзе. *Варо́жуць на Каляду́, куды́ шуму́ панясе́ць, туды́ за́муш по́йдзіш.* Чуцькі. *На хрэ́сьбінах не до́руць.* Каралевічы. *Нъ дабі́ркі пъска́чуць і пупяю́ць.* Партызаны. *Тры разы́ на гаду́ пърасі́лься.* Каралевічы. *Я на гэ́тым гаду́ тры разы́ ліжа́ла.* Нямойта. 6. На (замяшчэнне), за. *Казна́ плаці́ла на дзе́ўку.* Карпавічы. 7. На (прызначэнне), для. *На жо́рны бра́лі ка́мні жърсвя́ныя, полжърсвя́ныя, каб быў во́стрый.* Заазер'е. *Мы тут казыма́тку сы́ну пастро́ілі на мытацы́кл.* Багданава. 8. На (мэта). *На ўзно́сы ка́жны і даў.* Буй. *Нъ кълаву́р і я е́здзіла, на ўсю ноч.* Кішуроўшчына. 9. На (указанне на адрасата). *А ма́ма на яго́ гаво́рыць: «Нашто́ ты*

*гэту кънаргў вълачэш?»* Серкуці. *Кап на цібé кадýк нъваліўся.* Запруддзе. *Што нъ карóву сдзéлыў.* Багданава. 10. На (аб'ект), пра. *Саўсім на ядў і ні дýмала.* Нямойта. 11. На, у якасці. *Дваіх мáльчыкаў-двайняшóў на нéчага вýчацца.* Запруддзе. 12. На (размеркаванне). *Двóйні – дліныя вілкі на чатыры зубы.* Гарадзец. *Дзéвір мой быў, і шчэ Сáўчыха тут такáя былá, і на траіх нам дáлі кабылу.* Леснікова. *У нас па дзéвіць дзісяцін на мушскýю гълавý.* Марозаўка. 13. На (прылада, сродак). *На данкрáтах паъднялі хáту.* Савінічы. *Дзéці з гары на казé кътáюцца, с прóвълакі рабілі.* Міцюкова. *Брат на кавілáх хадзіў.* Багданава. 14. На (хвароба). *Зъбалéіць чълавéк, пъпáў нъ падвéй.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Гарадок, Заазер'е, Запруддзе, Каралевічы, Нямойта, Серкуці, Станюкі, Фасаўшчына, Закур'е, Неўгадава.

**НА, НÁЦІ** *часц.* Вазьмі(це), бяры(це). *На, напіся вады.* Запруддзе, Партызаны, Сянно. *Нáці вядрó зачэрпнуць вады.* Неўгадава.

**НААБГÓНКІ** *прысл.* Наперагонкі, навыперадкі. *Тады наабгóнкі як паéдзім!* Запруддзе.

**НААБДЗІРÁЦЬ** *зак.* Наабдзіраць. *Наабдзірáеш зярнó, мукі былó увóлю.* Самсоны.

**НÁБАК** *злучн.* Так, як і. *Укусняціна фіялéтувыъя радóўка, што нáбыък і рыжык!* Пожанькі.

**НАБАРЦÁЦЬ** *зак.* Забарсаць, зашнураваць, зацягнуць аборы. *Абóрку ўлапцях набарцáць.* Дуброўкі.

**НАБÁЯЦЬ** *зак.* Набаяць, нагаварыць, нарасказваць. *Во мы вам бáсен набáялі пóўны мех.* Дольдзева.

**НАБÉГАЦЬ** *зак.* Наснаваць бегаючы. *Нáда набéгаць на дванáццаць гýбак.* Багданава.

**НАБÉГЧЫ** *зак.* 1. Збегчыся. *Набéглі, засéклі лапáтамі.* Ульянавічы. 2. Нацячы. *Патразáлі клён, набéгла дзве сцякляначкі сóку.* Багданава, Партызаны.

**НАБЕДАКÝРЫЦЬ** *зак.* Натварыць, насвавольнічаць. *Што-нéбудзь набедакýр на Купáлле, хай гавóруць людзі.* Чуцькі.

**НАБІВÁНЫ** *дзеепрым.* Набіўны, з набіўным узорам. *Набівáныя скáцірці – эта калі вырысаваныя ўзóры і тады крáскай набівáюць.* Запруддзе.

**НАБІВÁЦЬ** *незак.* 1. Напіхваць, начыняць. *Мáма набівáла кіндзюкá, туды пéчань, сéрца, лёхкія – пічанёўку дзéлалі.* Дольдзева. 2. Наносіць узоры на тканіну. *Вырысаваныя ўзóры, і тады крáскай набівáюць.* Запруддзе.

**НАБІДАВÁЦЦА** *зак.* Перажыць, зазнаць многа гора. *Набідавáлася за жысь.* Запруддзе.

**НАБÍЛІЦЫ, НÁБІЛІЦЫ** *толькі мн.* У кроснах – драўляныя планкі, у якія ўстаўляецца бёрда; набіліцы. *Набіліцы чапáюць, кап ткаць.* Гарадзец. *Набіліцы цягáеш, ччэш.* Вялікі Азярэцк, Леснікова, Рэчкі. *Нáбіліцы вéрхнія і ніжнія* [у кроснах]. Закур'е.

**НАБІРÁЦЬ** *незак.* Вытыкаць узоры. *Вышывáлі, набірáлі, як ткáлі, дáжа нъ пълатнé.* Алексінічы.

**НАБІРÁЦЬ** *незак.* Паўнець, набіраць вагу. *Сóхнець чълавéк, ні набірáіць цéла, як сухóты.* Заазер'е.

**НАБІЎКА** *ж.* Форма для набівання ўзору на тканіну. *Набіўка – фóрмачка тъкáя, набівáлі рушнікі.* Дольдзева.

**НАБІЦЦА** *зак.* 1. Сабрацца ў вялікай колькасці. *Наб'éцца пóўна хáта.* Партызаны. 2. Напрасіцца. *Я самá набілася.* Нямойта.

**НАБІ́ЦЬ** *зак.* Набіць, намуляць. *Набіў хо́лку каню́ хамуто́м.* Гарадзец.

**НАБЛЫ́ШЫЦЬ** *зак.* Раззлаваць, моцна раздражніць. *Што ты яго́ наблы́шыў?* Запруддзе.

**НАБО́ЖНІК** *м.* Спецыяльны ручнік, які вешаецца на абразы. *Набо́жнік – э́та рушні́к, надзе́ты на іко́ну.* Дольдзева, Запруддзе, Ракаў Засценак.

**НАБО́ЖНЫ** *прым.* Набожны. *Набо́жны чълаве́к, ве́рыць у Бо́га.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Неўгадава.

**НАБО́Р** *м.* Каменны верх печы ў лазні. *Нъ набо́р ваду́ лілі́ для ду́ху.* Серкуці.

**НАБРАХА́ЦЬ** *зак.* Нагаварыць многа ўсялякай лухты. ◊ НАБРАХА́ЦЬ НА СВОЙ ХВОСТ. Нагаварыць сабе на бяду. *Набръха́ла на свой хвост.* Ульянавічы.

**НАБРА́ЦЦА** *зак.* 1. Нечакана з'явіцца. *Яна́ бра́ла чарні́цы, а ад кусто́ў набра́ўся воўк.* Вялікі Азярэцк. 2. Празмерна напіцца. *Во, набра́ўся, у бакі́ хіста́іць.* Багданава. ◊ НАБРА́ЦЦА РО́ЗУМУ. Стаць разумным, паразумнець. *Ро́зуму набра́ўся, самастая́цельны стаў. Ні набра́ўшы ро́зума за́муж пусці́ла.* Каралевічы, Партызаны.

**НАБРА́ЦЬ** *зак.* 1. Напоўніць чым-н. *Набе́рыш гра́зі у чугу́н і туды́ кладзе́ш лайно́, пълуча́йіцца чо́рнъя пла́ццІка.* Закур'е. 2. Назбіраць, набраць. *Паўлі́тра набра́ла суні́ц і чуць вы́бръласяа.* Дольдзева, Серкуці. 3. Накупляць. *Гарэ́лкі набярэ́ць, і нас со́дзіць, часту́іць.* Багданава.

**НАБУ́БНІЦЬ** *зак.* Набрыняць, набракнуць. *Дабро́ нъмачы́ць, яно́ набу́бніць.* Дольдзева.

**НАБУ́ГАНКІ** *прысл.* Наперагонкі, навыперадкі. *Набу́ганкі са мной бе́гала.* Галашчакіна.

**НАБУ́ЦЬ** *зак.* Абуць. *Ла́пці набу́іць, се́на, суко́нку, парця́нку праст́ую.* Закур'е.

**НАБУХТО́РЫЦЦА** *зак. экспр.* Наесціся. *Як каро́ва нае́лъся, мно́га напіха́лася – набухто́рылася.* Багданава.

**НАБУХЦЕ́ЦЬ** *зак.* Набухнуць. *Як то́лькі ко́цікі набухця́ць – пчо́лы вылята́юць на лазу́.* Вялікі Азярэцк.

**НАБЯРУ́ШЧЫ** *прым.* Заразны. *Грып* [хвароба] *набяру́шчы.* Багданава.

**НАВА́ЖЫЦЬ** *зак.* Наважыць з лішкам. *Нъва́жылі мне спа́рна.* Фасаўшчына.

**НАВА́Л** *м.* ◊ ПАД НАВА́Л. Навалам, шмат. *Грыбо́ў ле́тысь було́ пад нъва́л.* Вялікі Азярэцк.

**НАВА́ЛАМ** *прысл.* 1. Кучай, без парадку. *Нава́лам нъвалі́лі ку́чу.* Запруддзе. 2. Шмат, удосталь. *А гарэ́лкі тады́ было́ нъва́лам, дзіша́вая, люба́я.* Запруддзе, Чуцькі.

**НА́ВАЛКА** *ж.* Навалачка. *Даў гром у ха́ту, на́вълка, на́сыпка шчарне́ла, а паду́шка ні шчарне́ла, і ха́ту ні зъпалі́ла.* Нямойта, Ракаў Засценак.

**НАВАДЗІ́ЦЬ** *незак.* Наладжваць, рамантаваць. *Вы е́халі трубі́лі, а сын мне навадзі́ў кры́шу.* Багданава, Буй, Запруддзе, Леснікова.

**НАВАЗІ́ЦЬ** *зак.* Прывезці за некалькі разоў вялікую колькасць чаго-н. *Каме́ння наво́зюць і лу́жы засыпа́юць.* Нямойта.

**НАВАЛІ́ЦЦА** *зак.* Наваліцца, напасці. *Кап на яго́ каро́ста навалі́лася!* (праклён). Партызаны.

**НАВАЛІ́ЦЬ** *зак.* Накідаць у беспарадку. *Нъвалі́лі нъ ла́ўку, ні се́сці, німа́ дзе се́сці.* Фасаўшчына.

**НАВА́ЛЬВАЦЦА** *незак.* Навальвацца, нападаць. *Кляшчы́ на пчол нава́льваліся.* Багданава.

**НАВАЛЬНІЦА** *ж.* Навальніца. *Навальніца, мълъння.* Дольдзева.

**НАВАРЫЦЬ** *зак.* Наварыць. *Наваруць, нажаруць і наядуцца, грыбы гэтыя шапіёны.* Запруддзе, Жохава.

**НАВАТ** *часц.* Нават. *Навът ні ойкнуў.* Запруддзе.

**НАВЕРХ** *прысл.* Наверх. *Буран быў скінуў гняздо, сабраліся мужыкі, ўсцягнулі наверх.* Гарадзец, Запруддзе, Леснікова.

**НАВЕС** *м.* Пабудова для сушкі сена; навес. *Дзелалі вешалы, казлы, палкі прывязывалі лазой, навес дзелалі і сушылі сена.* Дольдзева.

**НАВЕСІЦЬ** *зак.* ◊ ХОЦЬ ЗАМОК НА ЯЗЫК НАВЕСЬ. Прымусіць сябе маўчаць, не гаварыць. Заазер'е.

**НАВЕСЦІ** *зак.* 1. Адрамантаваць, паправіць. *Сын прыедзіць і нъвядзець вароты. К нам сюды, верна, студэнтаў пасэлюць, хату хоць навядуць.* Багданава. *Я ні знаю, ці навялі дарогу ў Расні.* Чуцькі. *Не навеў тэлевізар.* Багданава, Каралевічы. 2. Падрыхтаваць для работы. *Плух нъвядзі, бърану нъвядзі. Дзед касу навядзець, я і касіла.* Вялікі Азярэцк, Каралевічы, Ракаў Засценак, Серкуці, Ульянавічы. 3. Пабудаваць. *Там далей навялі хлявок.* Багданава, Буй, Ракаў Засценак, Самсоны, Чуцькі. 4. Давесці да ладу, да належнага стану. *Прыедзім, усё хърашо нъвядзём.* Багданава, Буй. 5. Распусціць, распаўсюдзіць. *Ці матка каму сплетні навяла?* Каралевічы.

**НАВЕСЦІСЯ** *зак.* Паправіцца. *Навеўся цялёнак, восімдзесят кілаграм важыў.* Партызаны.

**НАВЕЯЦЬ** *зак.* Навеяць (снегу). *Навеіць многа снегу – ета сумёт.* Леснікова.

**НАВІВАЦЬ** *зак.* Навіваць. *На бальшы навой ніткі навіваць.* Гарадзец, Леснікова.

**НАВІНА** *ж.* Навіна. *Навіна – гэта новась, навінка – нешта новае.* Запруддзе.

**НАВІНКА** *ж.* Нешта новае. Запруддзе.

**НАВІСНУЦЬ** *зак.* Абняць, павіснуць (на шыі). *Навісніць нявестка, цалуіць.* Каралевічы.

**НАВІЦЬ** *зак.* Завіць. *Вълaсы навіла, як шапку.* Партызаны.

**НАВОД** *м.* Завод (пра механізм). *Цяпер часы с таго наводу ідуць.* Нямойта.

**НАВОДЗІЦЬ** *незак.* Замешваць (пра цеста). *Як бліны наводзіш, цеста нада вадзістае.* Заазер'е, Запруддзе, Нямойта.

**НАВОЖАНЫ** *дзеепрым.* Навезены. *Дроў навожана ўволю.* Нямойта.

**НАВОЗ, НАВОС** *м.* Гной. *Хіміі ніякай ні было, адзін тока навос. Коні двоя было, навозу хватала.* Буй. *Калі зямлю складзеш навозам, тады зародзіць.* Багданава. *Навос выкідывалі і развозюць на гароды.* Станюкі, Самсоны. *На зіму паложым навоз пад гарод.* Чуцькі, Закур'е.

**НАВОЗНІКІ** *мн.* Шампіньёны (грыбы). *Навознікаў набрала.* Партызаны.

**НАВОЗНІКІ** *толькі мн.* Калёсы для перавозкі гною. *Навозьнікі – калёса навос вазіць.* Запруддзе, Партызаны.

**НАВОЙ** *м.*, **НАВАІ** *мн.* Пярэдні і задні валікі ў кроснах; навой. *Навой быў задні і пярэдні.* Апечкі. *На навоі ніткі навітыя.* Карпавічы. *Палатно накручвалася на ніжні навой.* Рэчкі. *Німа ні ставоў, нічога, толькі навъі ліжаць яшчэ.* Запруддзе, Багданава, Вялікі Азярэцк, Кляпчэва, Леснікова, Нямойта, Сукрэмна, Закур'е.

**НАВОТМАШ** *прысл.* Наводмаш, з размаху. *Ён як дасць навотмаш!* Каралевічы.

**НАВО́ШТА** *прысл.* Навошта, нашто. *Наво́шта табе́ насе́ння?* Міцюкова.

**НАВУДУВА́ЦЬ** *зак.* Выдзьмуць, выдаляючы з чаго-н. *Навудува́ем се́мя льняно́га і ў кърма́н.* Алексінічы.

**НАВУ́РЗАЦЦА** *зак. экспр.* Наесціся ўволю (пра дзіця). *Наву́рзаўся – э́та нае́ўся, рабёнку так ска́жуць.* Запруддзе, Гарадзец, Савінічы.

**НАВУ́СЬКАЦЬ** *зак.* Наплявузгаць, нагаварыць глупства. *Во, наву́ськаў! Наплёў, нъгъвары́ў глу́пасцей.* Запруддзе.

**НАВУЧА́ЦЬ** *незак.* Навучаць, падвучваць. *Усё навуча́лі, каб расказа́ла.* Нямойта.

**НАВУЧЫ́ЦЬ, НАЎЧЫ́ЦЬ** *зак.* Навучыць. *Ат пу́ду дзе́вір навучы́ў лячы́ць.* Багданава. *Во так пісалі папяро́к газе́ты – папро́буй праве́р, папро́буй наўчы́.* Партызаны, Фасаўшчына.

**НАВЫ́ВАРАТ** *прысл.* Навыварат, унутраным бокам. *Навы́варат надзе́ла пла́цця.* Багданава, Гарадзец, Запруддзе.

**НАВЫ́ВАРАЦІК** *м.* Чалавек, які ўсё робіць наадварот. *Навы́варацікі! Што вы навы́варат дзе́лыйіця!* Сянно.

**НАВЫЛЁТ, НАВЫ́ЛІТ** *прысл.* Наскрозь. *Рука́ была́ навылёт прастрэ́лена.* Вялікі Азярэцк. *Навы́літ пу́ля пръшла́.* Гарадзец.

**НАВЫ́СКАЧ** *м.* Выскачка. *Навы́скач – нъпяро́т выска́ківаіць, яго́ ні вызыва́юць, а ён ужо́ выска́кываіць.* Гарадзец.

**НАВЫ́СКАЧКІ** *прысл.* Наперагонкі, навыперадкі. *Навы́скачкі пабе́глі.* Запруддзе.

**НАВЯЗА́ЦЬ** *зак.* Навязаць, звязаць. *Во чаго́ навя́жуць, яко́га кло́чча – во й хату́ль.* Багданава.

**НАВЯ́ЗВАЦЬ** *незак.* 1. Пускаць пасвіцца на прывязі. *Ідзі у свой гаро́д і навя́звай ко́зачку.* Вялікі Азярэцк. *Ужо́ на ва́шым цэ́пе каро́ву нъвя́зыіць.* Рулёўшчына. 2. Прымацоўваць. *Скру́чанае лы́ка навя́звалі на вяро́вачку.* Цясішча, Чуцькі.

**НАВЯ́ЛІЦЬ** *зак.* Навяліць. *Сын навя́ліць ры́бы.* Багданава.

**НАВЯРНУ́ЦЬ** *зак.* Навярнуць, палажыць. *І ка́мінь навярну́лі, і ка́мінь той распа́ў, і ён* [Хрыстос] *уста́ў.* Буй.

**НАГА́** *ж.* 1. Нага. *Къза́лі, усягды́ надзіва́й насо́к з ле́вай нагі́, тады́ бу́дзіць уда́ча* (павер'е). Запруддзе. *Дзядо́ўнік, як атлажэ́нне салей, к нага́м прыкладаюць.* Гарадзец. *У мяне́ ныъ назе́ была́ дзі́чка, піра́цыю здзе́лалі.* Сукрэмна. *Каб табе́ но́гі атсо́хлі!* (праклён). Багданава, Міцюкова, Нямойта, Ракаў Засценак, Цясішча, Ульянавічы, Неўгадава. 2. Апора (ножка) у калаўроце і інш. механізмах. *Нъга́ ў пра́лцы выі́жджа́я.* Каралі. *Ажны́ вязе́ць но́гі ад шве́йнай машы́ны.* Нямойта, Багданава. НО́ЖКА *ласк.* *На́шы но́жкі не баля́ць, / Хо́чуць но́жкі пагуля́ць* (прыпеўка). Каралевічы. ◊ ЯК САБА́КУ ПЯ́ТАЯ НАГА́. Зусім не, ніколькі не (патрэбны каму-н.). *На́да ты мне як саба́ку пя́тая нъга́.* Вялікі Азярэцк. ◊ НАГІ́ НЕ ЎКЛА́СЦІ. Пагроза не хадзіць, не паказвацца дзе-н. *Кап то́лькі пайсці́ мне на пе́нсію, нагі́ не ўкладу́ на фе́рму.* Парэчча. ◊ спаць БЕЗ ЗА́ДНІХ НОГ. Вельмі моцна, не прачынаючыся. Партызаны.

**НАГАВА́РВАЦЬ** *незак.* Нагаворваць, узводзіць паклёп. *Плёткі разво́дзіць, абы-што́ нъгава́рваіць.* Фасаўшчына.

**НАГАВАРЫ́ЦЬ** *зак.* Нагаварыць, нарасказваць. *А ты нъгаво́рыш абы-што́ людзя́м.* Закур'е, Багданава.

**НАГАДА́ЦЬ** *зак.* Прыпомніць, напомніць. *Што ён табе́ нъгъда́ў?* Запруддзе.

**НА́ГАЛА** *прысл.* Дагала. *Раздзе́ўся на́гъла і сядзі́ць – ду́шна.* Вялікі Азярэцк, Жохава.

**НАГАМАНІЦЦА** *зак.* Нагаманіцца, нагаварыцца. *Нъгъманілісь дósыта.* Запруддзе.

**НАГАНЯЙЛА** *н.* Наганяй. *Далі наганяйла усім.* Вялікі Азярэцк, Нямойта.

**НАГАНЯЦЬ** *незак.* Наганяць, атрымліваць перагонкай. *Нъгъняю чатыры-пяць фляг съмагóнкі* [на вяселле]. Марозаўка, Фасаўшчына.

**НАГАНЯЦЬ** *незак.* Заганяць, забіваць (пра цвікі). *Гвóззя нъганялі у дóшку і лён абдзірáлі.* Запруддзе.

**НАГАРАВАЦЬ** *незак.* Нагарваць, моцна награвацца. *На апéчкі кладýць соль, кап дóбра нагáравала у пéчы* [хлеб пячы]. Неўгадава.

**НАГАРЧЫЦЬ** *зак.* Набалець на душы. *Нагарчыць, тады лéгчэ, як раскажý.* Багданава.

**НАГБАЦЬ** *зак.* Нагнуць. Серкуці.

**НАГБОМ** *прысл.* 1. Нагбом, нахіліўшы вядро. *Нагбóм з вiдрá піў. Нагбóм мóжна піць, калі крýшкі німá.* Гарадзец, Дольдзева, Запруддзе. 2. Залпам. *Нагбóм пóліўку выпіў адзін мушчына на вясéллі.* Партызаны.

**НАГДА** *прысл.* Часам, іншы раз. *Нагдá слáдкага, нагдá гóркага хóчацца.* Каралевічы. *Нъгдá каню гарэлкі у рот улівáлі* [на вяселлі]. Гарадок, Каралі, Самсоны.

**НАГЛЕДЗІЦЦА** *зак.* Нагледзецца, многа пабачыць. *Стрáху ў вайнý наглéдзілъся.* Чуцькі.

**НАГЛУХА** *прысл.* 1. Суцэльна, без адтулін. *Адна стóръна нáглуха дзéлылася, а другáя аткідáлася.* Карпавічы. 2. Вельмі моцна. *Нáглуха, сыбáччым узлóм, зывізáла ўзёл, ні рызвяжыцца. Вéрхнія супóня нáглуха зъвязваіцца.* Гарадзец, Запруддзе.

**НАГЛЫ** *прым.* Нахабны. *Нáглы такі, ні атстáніць.* Гарадзец.

**НАГНАЦЬ** *зак.* 1. Нагнаць, нанесці. *Нагóніць пóграп зямлёй.* Жохава. 2. Нарабіць зазубрын. *Лóпаўкі нагóнюць нъ касé.* Нямойта, Партызаны, Фасаўшчына. 3. *перан.* Узбудзіць моцнае пачуццё, жаданне. *Ем суп з укрóпам, лýкам – і нъганю і ямý апецiт.* Партызаны.

**НАГРАШЫЦЬ** *зак.* Награшыць. *Цяпéр нéшта ўсё брóсіла радзіць, нъграшылі людзі пірад Бóгъм.* Вялікі Азярэцк, Малы Азярэцк.

**НАГРУДНІК** *м.* Манішка. *Рáньшы шылі нагрýднікі, пъсрадзі вáты, яшчэ якóга матэрыялу, каснічóк якéй і зьвяжуць, кап цяплéй былó – дзет мой насіў.* Гарадзец.

**НАГРУЗІЦЬ** *зак.* Нагрузіць. *Нагрузілі яны мнóга падвóт, вывезлі.* Леснікова.

**НАҐУЛДУЕЧЫЦЬ** *зак.* Нагаварыць неразборліва, незразумела. *А ён брысцяніц, па-свóйму гавóрыць: наґулдуéчыць, наґулдуéчыць і пашóў.* Запруддзе.

**НАГУЛУДУВАЦЦА** *зак.* Нагаладацца. *Тады ўжо нагулудувáлъсь, аж нóгі апóхлі.* Цясішча.

**НАГУРУВАЦЬ** *зак.* Нагаравацца, перажыць шмат гора. *Нагурувáла, як падýмаю.* Нямойта.

**НАД** *прыназ.* Над. *Жылі над сáмым мóръм.* Карпавічы. *Дом над дарóгай стаіць.* Кішуроўшчына, Рэчкі.

**НАДА** *прысл.* Трэба. *Нáда ўсё пърабіць.* Алексінічы, Багданава, Гарадок, Запруддзе, Савінічы.

**НАДАБІЦЦА** *незак.* Неабходна, патрэбна. *Як ужó нáдабіцца табé, то йдзеш.* Фасаўшчына.

**НАДАБНЫ** *прым.* Патрэбны. *Ці ня быў нáдабным чълавéкам.* Леснікова, Пожанькі.

**НАДАЕ́ДНЫ** *прым.* Надакучлівы. *Саро́ка – птýшка нъдае́днъя, ха́тняя, ха́тняя.* Каралевічы.

**НА́ДАЛБЫ** *мн.* Бакавыя планкі, што набіваюцца на капылы ў санях; намарзні. *На́далбы стая́лі.* Вялікі Азярэцк.

**НА́ДАЎБІНЬ** *м. экспр.* Неразумны чалавек, дурань. *Ся́дзі, як на́даўбінь!* Запруддзе.

**НА́ДАЎБІНЬ** *ж. экспр.* Тое ж (пра жанчыну). *Камý на́да на́даўбінь – на рýбаль дзве!* Запруддзе.

**НАДВО́Р** *прысл.* Вонкі, на вуліцу. *Дактары́ скъза́лі ні хадзі́ць надво́р.* Неўгадава.

**НАДВО́Р'Е** *н.* Надвор'е. *Кап надво́р'е было́ харо́шая, тады́ падзе́луў што п ніб́удзь.* Запруддзе.

**НАДВО́РНЫ** *прым.* Някормны, пакінуты на гадаванне (пра свіней). *Надво́рны, які́ няко́рмны, астаўля́юць да друго́га го́да.* Гарадзец.

**НАДДА́ТКІ** *мн.* Зямля, якая дадавалася да асноўнага надзелу; наддаткі. *По́ля Пя́ткіна – там булі́ навдда́ткі, нараза́лі зямлю́, хутары́.* Серкуці. *У Мар'я́нава* [вёска] *зва́лі нъдда́ткі, а ў Гарадкý – прыда́ткі.* Гарадзец.

**НАД'Е́ХАЦЬ** *зак.* Прыехаць. *Пакýль каро́ву падаю́, ён якра́з над'е́дзець сырадо́ю папі́ць.* Міцюкова.

**НАДЖЫДА́ЦЬ** *незак.* Чакаць. *Наджыда́ю яго́, а ён не е́дзіць.* Савінічы.

**НАДЗЕ́ЖНІК** *м.* Кавалак палатна для накрывання хлебнай дзяжы. *Упе́рат пяклі́ хлеп, кусо́к пъльтна́ – надзе́жнік – нікýды яго́ ні дзіва́лі, а то́лькі хлеп – дзе́шку э́ту накрыва́лі.* Гарадзец.

**НАДЗЕ́ЙНЫ** *прым.* Надзейны, сумленны. *Ра́ньшы астаўля́лі, ніхто́ нічо́га ні браў, ні краў, лю́дзі былі́ надзе́йныя.* Запруддзе, Чуцькі.

**НАДЗЕ́Л** *м.* Мера зямельнай плошчы; надзел. *Надзе́л – э́та чаты́ры дзісяці́ны.* Фасаўшчына. *Надзе́л – е́та зімля́ ме́рылася надзе́ламі.* Гарадзец. *Надзе́л – шэсць са́жа[э]ней.* Багданава. *У надзе́лі было́ во́сім дзесяці́н.* Каралевічы. *Надзе́л называ́ўся во́сімдзісят со́так, ме́ньшы гекта́ра – надзе́л называ́ўся.* Вялікі Азярэцк, Дольдзева, Марозаўка, Міцюкова, Нямойта, Самсоны, Серкуці, Сукрэмна, Фасаўшчына, Ульянавічы, Чуцькі, Закур'е. НАДЗЕ́ЛЬЧЫК *памянш. Дзвіна́ццаць дзяцёнкаў была, і адзі́н надзе́льчык зямлі́.* Дуброўкі.

**НАДЗЕ́ЛАЦЬ** *зак.* Зрабіць, наладзіць. *Дзя́куй то́му кавалю́, / Што надзе́лаў нам гульню́, / І малато́чкам ня стýкаў, / І ў рýчачкі ня хýкаў, / І надзе́лаў такýю вясёлую бясе́ду нам* (з песні). Запруддзе.

**НАДЗЕ́РЦІ** *зак.* Надзерці, надраць (на тарцы). *Нъдзярэ́ш буракóў, надзе́ла[ы]іш паві́дла.* Нямойта, Самсоны, Закур'е.

**НАДЗЕ́ТЫ** *дзеепрым.* Добра апрануты. *І ў нас надзе́тыя і гла́ткія мо́рды быва́юць.* Буй, Дуброўкі.

**НАДЗЕ́ЎШЫ** *дзеепрым.* Апрануты, адзеты. *Ды Са́шка надзе́ўшы.* Запруддзе.

**НАДЗЕ́ЦЦА** *зак.* Апрануцца. *А надзе́цца то́жа нічо́га тако́га ні было́.* Вялікі Азярэцк, Заазер'е, Запруддзе, Нямойта.

**НАДЗЕ́ЦЬ** *зак.* 1. Апрануць. *Ра́ньшы надзе́ць нічаго́ ні было́.* Станюкі. 2. Уздзець, начапіць. *Прысні́ла: мужýк прыйшо́ў, яна́ надзе́ла цвяты́, се́лі ў ло́дку, даво́льная, што з мужуко́м, Андрэ́ем, у ло́дцы – і ўтапі́лася та́я жэ́ншчына.* Алексінічы,

Каралевічы, Кляпчэва, Мянюцева. *Надзéніць шáпачку, надзéніць пальтó сваё, бацінкі дась, дык гырацкáя ты, гавóрыць.* Заазер'е, Цясішча.

**НАДЗЁЖНЫ** *прым.* Надзейны, верны. *Ён быў надзёжны.* Буй.

**НАДЗЁР** *м.* Прыпёк. *Ні надзёру на ніжняй скарынцы, як ацéслівы хлеб.* Міцюкова.

**НАДЗІВÁЦЦА** *незак.* 1. Апранацца. *Ідзі, Тáня, надзівáйся.* Запруддзе. 2. Апранацца ў святочнае адзенне. *Я ні надзівáлася, сяжý, як пóдмаска карэ́лая.* Багданава. 3. Насаджвацца. *У кáмні прабівáлася дырка, пáлка ўстаўля́лася, кáмень другі надзівáўся* [у жорнах]. Гарадзец. 4. Нанізваць. *Грыбы надзівáліся на прóвалаку.* Вялікі Азярэцк, Марозаўка. 5. Прыладжвацца, начэплівацца. *Шóркі надзівáліся на канéй.* Багданава.

**НАДЗÓР** *м.* Нагляд. *За мáльцам надзóр быў.* Партызаны.

**НАДЗЯВÁННЕ** *н.* Вопратка, адзенне. *І абувáння ямý і надзявáння.* Гарадзец.

**НАДЗЯВÁЦЬ, НАДЗІВÁЦЬ** *незак.* Надзяваць, уздзяваць. *Хамýт надзяюць на кънá.* Карпавічы. *Брыгадзіру вянóк надзівáлі на дажынках.* Гарадзец.

**НАДЗЯЛÍЦЬ** *зак.* Надзяліць, даць частку нечага. *Пан бътрыкá ньдзяліў зямлёю.* Запруддзе, Івоні.

**НАДÓЗЫР** *прысл.* Назіркам. *Ідý надóзыр – тóлькі пьдгля́дываю трóхі, ты нéдзі далёка, чуць бáчу.* Гарадзец.

**НАДРÁЦЬ** *зак.* 1. Надраць, нарваць. *Мóху надрáла, мох укрáлі, дъвáй ішчэ́ драць.* Багданава, Партызаны, Ульянавічы. 2. Нацерці (на тарцы). *Кръхмáл éта надзярэ́ш, перамывáіш, цэ́дзіш, вадý злівáіш, вады тры.* Багданава.

**НАДУБЫ́РЫЦЬ** *зак.* Натапырыць, наставіць. *Ласі вýшы надубырылі, стыъяць, а я дýмала карóвы, маню йіх.* Нямойта, Вялікі Азярэцк.

**НАДЎМАЦЦА** *зак.* 1. Задумаць, захацець. *Надýмуюся – зъхачý пъплáкаць.* Серкуці. *Дай мне тóе здзéлаць, што я надýмалася.* Каралевічы, Міцюкова, Нямойта. 2. Вырашыць, захацець. *Як надýмаіцца сказáць поп, так і назавýць.* Заазер'е.

**НАДЎЦЬ** *зак.* Надзьмуць, нанесці ветрам. *Намёрзла гóры, надýла снéгу.* Кішуроўшчына.

**НАДЫ́БАЦЬ** *зак.* Набыць, купіць. *Пайдý ў мъгазін у Бъгдáнава, мóжа што надыбаю, куплю.* Чуцькі.

**НАÉДАК** *м.* Наедак, пажыва. *Крушáныя грыбы пъламáюцца, ля йіх больш рабóты, чым наéтку.* Неўгадава.

**НАÉЖДЖЫ** *прым.* Наезджы, прыезджы. *І дамóў шыснáццаць былó, алé наéжджыя.* Рэчкі, Вялікі Азярэцк, Каралі, Міцюкова, Нямойта, Фасаўшчына.

**НАÉСЦІСЯ** *зак.* Наесціся. *Ні рáзу ён ні наéсца, усё ямý мáла.* Дольдзева. ◊ наéуся ЯК ДУРНЫ́ ПРАСНАКÁ. Празмерна многа (наесціся). *Наéуся ты як дурны пръснакá.* Вялікі Азярэцк.

**НАÉЎШЫСЯ** *дзеепрым.* Пад'еўшы, сыты. *Цяпéр дзéці наéўшыся, сон ні бярэ́ць.* Запруддзе.

**НАÉХАЦЬ** *зак.* Наехаць, прыехаць. *Наéхалі нéмцы.* Фасаўшчына.

**НАЁМНЫ** *прым.* Наёмны. *Пастухá наймáлі, наёмны быў пастýх.* Чуцькі.

**НАЖÁЦЬ** *зак.* Нажаць, зжаць. *Кóпку нажнéць, пыстáвіць. Жыта радзіла, шэйдзісят коп нажнóм.* Багданава, Чуцькі, Закур'е.

**НАЖВÁЦЬ, НАЖМÁЦЬ** *зак.* Нажаваць. *Хлéба нажвéць, сáхару – і сóску дзéлалі дзяцёнку.* Багданава, Запруддзе, Чуцькі. *Нажмéш хлéба з сáхарам у бінт і ссі* [дзіцяці]. Чуцькі.

**НАЖМА́ЦЬ** *зак.* Націснуць. *Дабíся купíць гарэлкі, шчэ нажму́ць бакí.* Серкуці.

**НАЖО́РЦІСЯ, НАЖРА́ЦЦА** *зак.* Нажэрціся. *От, нажóрся крупéні!* Запруддзе. *Hінажóрлівы, ні рáзу ён ні наéсца, ніяк ні нажрэцца.* Дольдзева.

**НАЖО́ЎКА** *ж.* Невялікая ручная піла; нажоўка. *Нажóўка – выразáць што. Іна́ прамáя, есць нажóўка-лучóўка.* Жохава.

**НАЖЫ́ВА** *ж.* Нажыва, спажытак. *Нажы́ва сабé тóлькі.* Запруддзе, Савінічы.

**НАЖЫ́М** *м.* Нізкае забалочанае месца. *Там нажы́м, балóта.* Цясішча.

**НАЖЫМА́ЦЬ** *незак.* Націскаць. *Слісáк у дзвірáх нажымáіш і аткрываíш дзвéры.* Запруддзе. ◊ НАЖЫМА́ЦЬ НА ЎСЕ ПУ́ГАВІЦЫ. Загуляць, празмерна захапіцца гулянкай, папойкамі. *Рабóтаець крэпка, а тады́ нажымáець на ўсе пу́гавіцы, тры дні п'ець.* Нямойта.

**НАЖЫ́ЦЦА** *зак.* Нажыцца, доўга пражыць. *Я з двыццаці двух гадóў нъжылáся зáмужым й до!* Багданава.

**НАЖЫ́ЦЬ** *зак.* Нажыць, займець. *Паку́ль што нажывéш, а рабёнка скарэй нажывéш.* Багданава. *Я й курэй нажылá і парасёнка.* Кішуроўшчына. *Ну, так рабóталі людзя́м, у кагó конь, пъкá нажылí сабé каня́.* Гарадзец, Запруддзе, Ульянавічы.

**НАЖЭ́НЬКІ** *толькі мн.* Нажніцы. *Укрáла нажэ́нькі ў яé.* Нямойта.

**НАЗА́Д** *прысл.* Пэўны час таму. *Мéсіц нъзáд, як э́та зьдзéлълъся.* Гарадзец.

**НАЗАЛЯ́ЦЬ** *незак.* Назаляць, надакучаць. *Што вы мне нъзаляíце!* Дольдзева.

**НАЗАПА́СІЦЬ** *зак.* Нарыхтаваць у запас. *Я нъзапáсіла ўжо мы́ла.* Дольдзева.

**НАЗА́ЎТРА** *прысл.* Назаўтра. *Тады́ ужэ назáўтра пячэць лáткі, пóіс дзéлаіць, шáпачкі шыíць, распашóначкі – ідзéць у атвéткі.* Заазер'е, Запруддзе, Леснікова.

**НАЗА́ЎТРАГА, НАЗА́ЎТРАВА** *прысл.* Тое ж. *Назáўтрага мне прынéслі – пей.* Багданава. *Назáўтрага пабяжы́м у Кішу́раўшчыну.* Ульянавічы, Фасаўшчына. *Нъзáўтръга ягó пъхъранілі, стол сдзéлълі.* Нямойта. *Штó-та патскáзывала мяне́ пайсці ў хáту, алé тóлькі назáўтрава аглéдзела, што грóшай німá.* Нямойта.

**НАЗБІРА́ЦЦА** *зак.* Сабрацца. *Назьбірáлъся тры, а тады́ паміж сабóю свáруцца.* Партызаны.

**НАЗБІРА́ЦЬ** *зак.* Назбіраць. *Назьбірáюць яéц пóўну карзíну.* Неўгадава.

**НАЗВА́ННЕ, НАЗВА́НІЯ** *н.* Назва, найменне. *Былí назвáнні Чóрныя гырá, Хрысты́нка.* Вялікі Азярэцк, Фасаўшчына. *Кáждъе мéста сваё назвáнія імéіць.* Мянюцева, Сукрэмна.

**НА́ЗВІШЧА, НАЗЫ́ВІШЧА, НА́ЗАВІШЧА** *н.* Назва. *Дзе якóе тут нáзвішча ў нас.* Вялікі Азярэцк. *Сак пашы́ты ў тáлію, як ку́ртка, тóлькі назы́вішча, што сак, у бъгáтых і съматкáныя і шэрсныя былí.* Дольдзева, Манголія, Нямойта. *Нáзавішча ета я ні знáю.* Каралі.

**НАЗДРА́СТЫ** *прым.* Наздраваты, пульхны, мяккі. *Хлеп такí наздрáсты, харóшы быў.* Нямойта.

**НАЗДРЫНА́** *ж.* Ноздра. *Нос залéгшы, гэта наздрынá залéгла.* Багданава, Самсоны, Станюкі.

**НАЗЛО́** *прысл.* Назло. *Яму́ дзéлъюць усё назлó.* Савінічы.

**НАЗНА́ЧЫЦЬ** *зак.* 1. Наканаваць. *Бу́дзем жыць, скóлькі нам Бог нъзнáчыў!* Гарадзец. 2. Прысудзіць. *Бурмíстр плёткі назнáчыць.* Фасаўшчына.

**НАЗО́ЛА** *агульн.* Назола, надакучлівы чалавек. *Назóла – надаéдлівы такí.* Гарадзец, Дольдзева.

**НАЗЫВА́ЦЦА** *незак.* Называцца. *Іва́н, у нас такі пра́знік, па-ме́снаму называ́ецца.* Фасаўшчына.

**НАЗЯ́БНУЦЦА** *зак.* Назябнуцца, намерзнуцца. *Назя́бніцеся – і хо́лад бярэ́ць до́ўга.* Багданава.

**НАЗЯЛІ́ЦЬ** *зак.* ◊ НАЗЯЛІ́ЦЬ ГАЛАВУ́. Надакучыць, абрыднуць. *Прые́дзіць сын, то ныъзялі́ць гыълаву́ му́зыка* [сын многа грае на баяне]. Пожанькі.

**НАІЖДЖА́ЦЬ** *незак.* Прыязджаць. *У гэ́тым гаду́ машы́намі наіжджа́лі зъ я́гъдамі.* Марозаўка.

**НАІСКА́ЦЬ** *зак.* Знайсці месца для пасялення рою (пра пчол). *Пчо́лы нъйіску́юць і захо́дзюць са́мі ў лаву́шку.* Фасаўшчына.

**НАІСКУВА́ЦЬ** *зак.* Тое ж. *Дзе наіскува́лі ме́ста, паляця́ць.* Вялікі Азярэцк.

**НАІСЛЕ́ДАВАЦЬ** *зак.* Выкарыстаць розныя спосабы, эксперыментаваць. *Уся́к наісле́давала: і ае́равым карэ́ннем націрáла, і про́ста спі́ртам расцірáла – балі́ць рукá.* Нямойта.

**НАІ́ЎНЫ** *прым.* Наіўны, прастакаваты. *Наі́ўная, ду́мала, што яе́ кашалёк ніхто́ ні во́зьміць.* Латыгаль.

**НАЙБАЛЕ́Й** *прысл.* Найчасцей, часцей. *Найбале́й гаво́раць: як два разы́ рабёнка атыма́еш ат грудзі́ – бу́дзіць уро́члівы.* Нямойта.

**НА́ЙМ** *м.* 1. Наёмная праца, батрацтва. *У на́йм і служы́лі, на́йміткі, не́йдзі було́ дзе́цца.* Запруддзе. 2. Арэнда. *Тут яны́ былі па на́йм і на кварці́ры. Па на́йму быў.* Міцюкова.

**НАЙМА́ЦЬ** *незак.* Наймаць. *Ну, пра́ўда, найма́лі, ну, гэ́та жаць найма́лі, касі́ць найма́лі людзе́й, а так і са́мі рабо́талі крэ́пка.* Буй, Партызаны, Неўгадава.

**НАЙМЕНАВА́ННЕ, НАЎМЮНАВА́ННЕ** *н.* Назва, найменне. *По́йдзем у Гра́йкі – найменава́нне тако́я. Наўмюнава́нне тако́я зна́еш?* Багданава.

**НА́ЙМІТКА** *ж.* 1. Наймічка, наёмная работніца ў пана. *Паны́ бра́лі на́ймітык, яны́ у па́на рабо́тылі, жа́лі, лён трапа́лі.* Запруддзе. 2. Служанка. *На́ймітка – служа́нка ў бъга́тъга чълаве́ка.* Дольдзева, Закур'е.

**НА́ЙМІХА** *ж.* Наёмная праца, працаваць наёмным рабочым. *Па на́ймісі хадзі́ў наш сусе́д.* Запруддзе.

**НАЙСКО́ВАНЫ** *дзеепрым.* Разведаны (пра пчол). *Ме́ста нъйско́въна, і рой ні саўе́цца, а сра́зу ляці́ць.* Падворыца.

**НАЙСТРЫ́ЦЬ** *зак.* Навастрыць. *Найстры́ў касу́, то й ба́ба ко́сіць.* Нямойта. *Найстры́ касу́, паеду аткашу́.* Буй.

**НАЙСЦІ́, НАЙЦІ́** *зак.* 1. Прыйсці, зайсці. *Я пъгліда́ў на яго́. Спаў дзіцёнык, нічо́га, а тады́ ръспла́куўся, до́бра, што ён* [Мішка] *найшо́ў у ха́ту.* Міцюкова. 2. Знайсці. *У я́гады по́йдуць, заблу́дзецца – на́йдуць.* Багданава. *У дзярэ́ўні ня ў го́радзі, што-ні́будзь ды найдзём.* Вялікі Азярэцк. 3. Насунуцца. *Граза́ – найшла́ ту́ча.* Міцюкова. *Ма́ленькъя во́блъчка найшла́.* Ракаў Засценак. 4. Насыпаць, нападаць (пра снег). *То на́йдзіць снех, то раста́ніць.* Багданава, Нямойта, Ракаў Засценак. 5. Нарадзіць. *У нас адзі́н сын – нашлі́ з ба́бай.* Гарадок, Міцюкова. 6. Выявіць. *Ну, агле́дзілі, нашлі́ хваро́бу нъ глъазáх.* Станюкі. 7. Набрацца, набіцца. *Як пяску́ на́йдзіць, так ажно́ жушчы́ць на зуба́х.* Алексінічы. ◊ НАЙСЦІ́ НА ГЛАЗА́. Прыйсці ў галаву, надумаць. *Найдзёць нъ глъза́ каму́, яны́ і патсу́нуць, што кула́к.* Івоні.

**НАЙСЦІ́СЯ** *зак.* 1. Знайсціся, з'явіцца. *На́йдзіцца, хто ку́піць ха́ту.* Неўгадава. *З Сянна́ найшо́ўся чалаве́к, на ўсё ба́ба зго́дна, як ба́ба бе́дна жыве́ць.* Нямойта, Сукрэмна. 2. Нарадзіцца. *Рабо́тъла ў Віцінскі, нашо́ўся рабё́нък.* Гарадок.

**НАКАВА́ЛЬНЯ** *ж.* Накавальня. *Жале́за гато́ва і на накава́льню.* Жохава, Запруддзе.

**НАКАЗА́ЦЬ** *зак.* Пакараць. *Наказа́ў скот крэ́пка: сем дзянькo̓ў аста́лася да паро́са – і па́ла на но́гі свіння́.* Дольдзева.

**НАКАЗА́ЦЬ** *зак.* Наказаць, паведаміць праз каго-н. *Сістра́ наказа́ла, каб я прыйшла́.* Галашчакіна, Дольдзева, Партызаны.

**НАКА́ЗЫВАЦЬ** *незак.* Прасіць, угаворваць. *Нака́зывалі узя́ць дзяцёнка з дзетдо́ма – ён не ўзя́ў.* Цясішча.

**НАКАЛЕ́ЦЦА** *зак.* Намерзнуцца. *Ён накале́ўся, на печ зале́з.* Багданава.

**НАКАМШЫ́ЦЬ** *зак.* Накруціць, навярцець. *Акра́з сто́лькі бума́гі, ско́лькі ма́сла, нъкамша́іць* [прадавец]. Закур'е.

**НАКАНАВА́НА** *прысл.* Наканавана, суджана. *Ско́лькі табе́ нъканава́на дажы́ць – дату́ль на́да дажы́ць, пло́ха ілі хара́шо, але́ трэ́ба дабы́ць.* Запруддзе, Дольдзева, Рубежніца.

**НАКАНАВА́ЦЬ** *зак.* Спланаваць. *Я ўжо нъкънава́ў: дваі́х бу́дзім біць.* Рэчкі.

**НАКАПА́НЫЙ** *дзеепрым.* Накапаны, насыпаны. *Курга́н нъкъпа́ный, ён прудуўгува́тый, ны Віту́льцы* [урочышча]. Самсоны.

**НАКАРАСІ́НІЦЦА** *зак. экспр.* Празмерна напіцца. *Накарасі́ніцца – і до́бра яму́.* Міцюкова.

**НАКАРЭ́ЦЬ** *зак.* Намерзнуць. *Зімо́й лёду нъкарэ́іць* [ля калодзежа]. Каралевічы.

**НАКА́Т** *м.* След ад транспартнага сродку. *Ба́чу свё́жы нъка́т нъ даро́зі.* Закур'е.

**НАКА́ТЫВАЦЬ** *незак.* 1. Навіваць. *Нъваі́ – што ні́ткі нъка́тываць і пълатно́.* Кляпчэва. *На наво́й нъка́тывалі, тады́ ве́шалі набі́ліцы, у набі́ліцы ўстаўля́ліся бё́рда, дэ́сачкі, ў гэ́тым бё́рдзі ні́тачкі, былі́ панажы́, ніты́ каля бё́рда аддзе́льна.* Леснікі. 2. Напампоўваць, накачваць. *Памё́р, стаў нъка́тываць като́к* [гумавае кола] *ды і пъвалі́ўся.* Заазер'е.

**НАКАЧА́ЦЦА** *зак.* Накачацца. *Ба́бушка па це́лу пъкача́е, нъкача́лася вало́ссе!* Алексінічы.

**НАКА́ШЫВАЦЬ** *незак.* Накошваць. *Атпа́сываць і нака́шываць на́да на каро́ву.* Запруддзе.

**НАКВА́ШАНЫ** *дзеепрым.* Наквашаны, з дастатковай колькасцю закваскі. *Не наква́шаная дзе́шка, ня кі́сла.* Багданава.

**НАКЕ́Л** *прысл.* Навошта. *Наке́л ты яго́ ўзя́ў? Наке́л ты гэ́та здзе́лаў?* Савінічы.

**НАКІПЕ́ЦЬ** *зак.* Заплыць кроўю. *Во́ка кро́ўю накіпе́ла.* Запруддзе.

**НАКІ́СНУЦЬ** *зак.* Закіснуць, заквасіцца. *На шчытку́ накі́сніць* [рошчына]. Закур'е.

**НАКЛАДА́НЫ** *дзеепрым.* Вытканы ў тэхніцы пераборнага ткацтва. *Наклада́ныя рушнікі́ даста́ла – там і грэ́бні, і ко́сы, як у пятуха́.* Дольдзева.

**НАКЛАДА́ЦЬ** *незак.* 1. Накладваць. *Наклада́й, ба́бка, бу́ду насі́ць дро́вы.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Нямойта. 2. Абкладаць (абкласці) падаткам. *Нало́гі наклада́лі – мя́са, накладу́ць лён – здава́лі.* Гарадзец. *Накладу́ць на цябе́ ко́жу свінну́ю – здаць на́да.* Багданава, Запруддзе. 3. Вытыкаць рознымі ўзорамі.

*Рукáмі ткáлі, накладáлі так і пятухí, і грабяні.* Багданава, Запруддзе, Леснікова. 4. Даваць (пра імя). *Поп імя накладáў двайнятам: Пятрó і Пáўла.* Міцюкова. ◊ НАКЛАДÁЦЬ НА СЯБÉ РÝКІ. Скончыць жыццё самагубствам. *Ён сам на сябé рýкі накладáў, так нільзя, нáда дажыць да сваёй сóпствіннай судзьбы.* Запруддзе, Нямойта.

**НАКЛÁСЦІ** *зак.* Нагрузіць, накласці. *Лагóжы ў сáнках дзéлалі, кап шырэй былі, кап бóлій наклáсці.* Алексінічы, Заазер'е.

**НАКЛÉЙВАЦЬ** *незак.* Наклейваць. *Рáмку наклéйваем.* Вялікі Азярэцк.

**НАКЛІПÁЦЬ** *зак.* Накляпаць, ударамі малатка навастрыць касу. *Я съмá кашý, тóлькі касы ня ўмéю кліпáць, як хто наклéпіць – кашý.* Чуцькі.

**НАКЛÓНІСТЫ** *прым.* Нахілены. *Бярэзіна гнілувáтая, наклóністыя над рэчкай былá.* Пожанькі, Сянно, Фасаўшчына.

**НАКЛЮ́НУЦЦА** *зак.* Наклюнуцца (пра птушанят, якія будуць вылупліваццa). *Наклю́нъліcь, бýдуць вывадзіцца цыплíняты.* Каралевічы.

**НАКÓЛЬНІК** *м.* Верхалаз, гарэза. *Ты, Міша, накóльнік.* Дольдзева.

**НАКРАПÍЦЦА** *зак.* Мацавацца, мець здароўе. *Ужó слáба нъкраплю́ся я – стáръя.* Гарадзец.

**НАКРУЦÍЦЬ** *зак.* Наляпіць, прыдаўшы шарападобную форму. [На Саракі] *надзярэш, накрýціш клёцак, на скаварóду, папячэш, сóрак клёцак – сóрак выраяў.* Міцюкова.

**НАКРУЦÍЦЬ** *зак.* Станцаваць з выкрутасамі. *Быў такí дзед, як выйдзіць, то накрýціць, накрýціць* [пра танец]. Багданава.

**НАКРЫВÁЦЦА** *зак.* Накрывацца. *Ні былó чым накрывáцца, тык тымі хъхлáткамі накрывáліся, хоць цяшкія.* Запруддзе.

**НÁКРЫЖ** *прысл.* Накрыж. *Вярóўкі нáкрыж чапáюць і дрóва вазілі.* Баравікі, Леснікова.

**НАКРЫЧЭ́ЦЬ** *зак.* Накрычаць, насварыцца. *Бацькі на іх накрычэлі, на тых мáльцаў.* Запруддзе.

**НАКРЫ́ШКА** *ж.* Звязаныя і распасцёртыя над бабкай снапы. *Накрышку так дзéлалі: два снапы звя́жуць, разлóмяць, на бáпку пъстáвяць.* Вялікі Азярэцк.

**НАКРЫШЫ́ЦЬ** *зак.* Накрышыць, дробна парэзаць. *Накрышуць капýсты і ядзя́ць.* Запруддзе, Парэчча, Закур'е.

**НАКÝЛЬГАЦЬ** *незак.* Накульгаваць. *Крывы накýльгъйіць на дну нагý.* Сянно.

**НАКУПÍЦЬ** *зак.* Накупляць. *Я ужó цяпéр абдýмалася і накупіла уця́так.* Багданава.

**НАКУРÁПАЦЬ** *зак.* Накрэмзаць, надрапаць. *Нáдзя далá дарóгу сыну, накурá-пала запіску, што мяне ня бýдзіць.* Нямойта.

**НАЛАВÍЦЬ** *зак.* Налавіць. *Пóўныя калёса нълавіў рыбы.* Заазер'е.

**НАЛАГАВÉЯ** *мн.* Падатковыя квітанцыі. *Узяў ён налагавéя яé тáмашніе, бяллё, і іх папéрлі, тады хапýн быў.* Партызаны.

**НАЛÁДЗІЦЬ** *зак.* Паправіць, адрамантаваць. *Напішыце, каб нам дарóгу нала́дзілі ў дзярэўні.* Закур'е.

**НАЛÁЖЫВАЦЬ** *незак.* Накладаць. *Уцюх гéты налáжывалі, гéтых угалькóў, і глáдзілі так.* Запруддзе.

**НАЛАЖЫ́ЦЦА** *зак.* Зарачыся. *Налажылася так гаварыць бóлій.* Заазер'е.

**НАЛГÁЦЬ** *зак.* Налгаць, наплесці. *Я табé абы-штó налгý, нъплятý.* Заазер'е.

**НАЛÉВА** *прысл.* ◊ ІЦÍ ЯГÓ НАЛÉВА. Лаянка. *Іці ягó налéва, што такóя там?* Забор'е.

**НАЛЕ́ЦЦЕ** *н.* Будучы год. *Жыла́ю табе́ зо́льта бо́чку, а каб к нале́ццю сы́на і до́чку!* (вясельнае пажаданне). *А ту́ю ку́клу кіда́ем на по́ле, каб к нале́ццю ужэ́ уража́й быў.* Багданава. *Хай ігру́шкі стая́ць да нале́цця.* Нямойта.

**НАЛЁТАМ** *прысл.* Раптоўна, нечакана. *Налётъм сыпане́ць дошч.* Запруддзе.

**НАЛІВА́ЦЦА** *незак.* Наліваца, спець. *Наліва́ецца зе́рне, тады́ паспіва́іць.* Гарадзец, Багданава, Заазер'е, Партызаны.

**НАЛІВА́ЦЬ** *незак.* Тое ж. *Налів́аіць жы́та.* Вялікі Азярэцк. *Як высыпа́ець ячме́нь, так і наліва́іць.* Партызаны, Гарадзец.

**НАЛІ́ЦЬ, НАЛЛІ́ЦЬ** *зак.* 1. Наліць. *Лу́міна, дош налі́ў.* Запруддзе. *Што ш ты ўжо ні нальеш мёду, што ш ты зъ пчълаво́т.* Заазер'е. 2. Уліць. *Наллю́ць вады́ у кары́та, пасці́лкай закры́юць, ба́ба не зна́ець – і ў вадў ся́дзіць* [на хрэсьбінах робяць так]. Багданава, Нямойта.

**НАЛЛЯ́** *ж. зб.* Плойма (пра жывых істот). *Ой, налля́ събра́лъся ма́лья – на дзяце́й ска́жуць!* Запруддзе. *Ой, гэ́та налля́ наляце́ла* [пра дзяцей ці мух]. Дольдзева.

**НАЛО́Г, НАЛО́Х** *м.* Падатак. *Нало́гі наклада́лі: ма́сла, я́йца, мя́са.* Запруддзе. *Нало́х, зда́ча хле́ба – э́та займа́ўся пі́сар.* Парэчча, Каралевічы,

**НАЛО́ЖАНЫ** *дзеепрым.* Устаноўлены (пра цану). *А тут усё – цана́ нало́жана, хо́чаш бяры́, хо́чаш не бяры́.* Савінічы.

**НАЛУПІ́ЦЬ** *зак.* Назбіраць вялікую колькасць. *Ма́ліц налу́піць карзі́ну грыбо́ў.* Сукрэмна.

**НАЛЯЦЕ́ЦЬ** *зак.* Наляцець, знянацку пачацца. *Віхо́р наляце́ў.* Багданава.

**НАМАГА́ЦЬ** *незак.* 1. Старацца забяспечваць (нечым). *Траво́й намага́еш, і там і там се́іш.* Латыгаль. 2. *перан.* Налягаць; энергічна есці. *Мы бо́льшы нъмъга́лі на цыбу́лю.* Манголія. *Намага́йце мя́сам і жы́дкасцю* [на вяселлі]. Партызаны.

**НАМА́ЗАЦЬ** *зак.* Намазаць. *Скі́бку хле́ба нама́шчэ мёдам і з хле́бам.* Багданава. *Смі́та́най на́да нама́заць і прыклада́йце.* Вялікі Азярэцк.

**НАМАКА́ЦЦА** *зак.* Намачацца. *Намака́ліся бліна́мі у смі́та́ну.* Міцюкова.

**НАМАКА́ЦЬ** *зак.* Намачаць. *Ла́дак намака́ець у дзягно́.* Багданава. *Нъдзярэ́ш е́тых ла́дък, нъмъка́іш у ма́сла.* Заазер'е, Буй, Гарадзец.

**НАМАЛО́ЦЬ** *зак.* Намалоць. *Наме́ліш, аграбе́ш* [у жорнах]. Вялікі Азярэцк, Марозаўка.

**НАМАЛЯ́ЦЬ** *зак.* ◊ НАМАЛЯ́ЦЬ ХО́ЛКУ. Моцна прабраць, строга выгаварыць. *Дзет е́ты мне хо́лку намаля́іць.* Багданава.

**НА́МАРЗНІ, НА́МАРАЗНІ, НА́МАРЖНІ, НА́МАРАЖНІ** *мн.* Бакавыя планкі, што набіваюцца на капылы ў санях; намарзні. *У са́нках дзве на́марзні, а чаты́ры вязы́.* Марозаўка. *На́мъразьні – што пъвярху́ ў са́нках.* Гарадзец. *На́маражні ў саня́х. На́мържні наганя́юць на капылы́.* Міцюкова.

**НАМАСЦІ́ЦЬ** *зак.* Старанна раскласці. *Я намасці́ла во́ўны, сабра́ла во́ўну, ба́бы ішлі́, пасмя́яліся – я і заъбале́ла.* Нямойта.

**НАМАТНІ́К** *м.* Прыстасаванне для намотвання нітак. *Каб нама́тваць, быў наматні́к.* Багданава.

**НАМА́ТЫВАЦЬ** *незак.* Намотваць. *Як ра́ншы тка́лі кро́сны, дзе́лалі цэ́ўкі, а на цэ́ўкі нама́тывалі ні́ткі.* Леснікова.

**НАМАХА́ЦЬ** *зак.* Памахаць пагражаючы. *Падыйшо́ў пасту́х, намаха́ў: сматры́, ба́ба!* Цясішча.

**НА́НАЧ** *прысл.* Нанач. *Со́дзюць на́нач куры́ц, то́лька на́нач.* Каралевічы.

**НА́НАЧКІ** *толькі мн.* Зборы вясковых дзяўчат на попрадкі ўвечары; вячоркі. *Ве́чарам – так э́та ужо́ на́начкі зва́лісі, а днём – су́праткі.* Гарадзец. *Хадзілі ў су́прадкі, на́начкі.* Заазер'е. *На су́пратках кудзе́лькі прадзе́м, і на́начкі астаёмся пра́сці.* Багданава, Нямойта, Рассвет.

**НАМА́ЧЫВАЦЬ** *незак.* Намочваць, замочваць. *Нъма́чыіць пълатно́ ў по́пялу.* Заазер'е.

**НАМА́ЧЫЦЬ** *зак.* Намачыць. *Намо́чыш яго́* [гарох], *тады́ нъ скъваро́ду: спра́жыш.* Каралі.

**НАМЕ́РАЦЬ** *зак.* Наважыць. *Хай наме́руць хоць і пяць тон се́на.* Манголія.

**НА́МЕРТВА** *прысл.* Вельмі моцна. *Драбіны на́мертва прыкрэпля́юцца.* Гарадзец.

**НАМЕ́РЫЦЦА** *зак.* Прыцэліцца. *Ба́бы вінто́ўку схапілі, стыя́ла лі ўшука́, і наме́рылісі нъ яго́ і ка́жуць: «Ня лесь, уб'ём!»* Закур'е.

**НАМЁТКА** *ж.* Доўгі вузкі кусок кужэльнага палатна, звычайна з каймой ці вышыўкай; намітка. *А цяпе́р лацьве́й, ні на́да тру́пкі, намёткі свякро́ўкі дава́ць. Я да́жы намётку дава́ла, піро́х міня́лі на намётку, міня́лі с свякро́ўкай. Намётку атдае́ш с хле́бам, тады́ атчыня́лі ку́біл, ці по́ўна ці няпо́ўна.* Багданава. *Ра́ньшы намёткі дава́лі, саматка́ныя, а цяпе́р купля́юць.* Савінічы. *Намётка – як выхо́дзіць мълъда́я за́муш, пъда́ркі да́рыць.* Кляпчэва. *Намётку даю́ць і шчэ́ што-не́будзь, калі́ ба́бяць* [бабе-павітусе]. Багданава.

**НАМІРГУВА́ЦЬ** *зак.* Вымеркаваць, выкраіць. *На́да з гэ́тых гро́шай наміргува́ць і на то́е, каб пасе́яць бу́льбу.* Багданава.

**НАМІ́ТУСЬ** *прысл.* У розныя бакі (галавамі, камлямі і да т. п.). *Намі́тусь спяць.* Кляпчэва. *Намі́тусь так сло́жана, скла́дывалі так ячме́нь і авёс, штоб прасо́хла.* Дольдзева.

**НАМО́РДНІК** *м.* Наморднік. *Здзе́лі яму́ намо́рднік і чуць прывяза́лі.* Запруддзе.

**НАМУЛЮВА́ЦЬ** *зак.* Намаляваць. *Глядзі, які́ дом намулюва́ла.* Фасаўшчына.

**НАМУ́ЧЫЦЬ** *зак.* Натаміць, натрудзіць. *Нахадзілася, наму́чыла нагу́.* Нямойта.

**НАНАСІКА́ЦЬ** *зак.* Панасякаць, насекчы вялікую колькасць. *Нанасіка́ў дроў сын.* Фасаўшчына.

**НАНАСІ́ЦЬ** *зак.* Прынесці ў пэўнай колькасці за некалькі разоў. *Нанасілі дро́вы, усё заъгарадзілі. Дроў насячэ́ць, каро́ве нано́сіць.* Багданава. *Зяць ка́жную вясну́ нано́сіць бачкі́ два со́ку.* Багданава, Карпавічы, Нямойта, Чуцькі, Закур'е.

**НАНА́ШЫВАЦЬ** *незак.* Наношваць, прыносіць у пэўнай колькасці за некалькі разоў. *Пчо́лы нъна́шывалі мёду с свірэ́піцы сабе́ на зіму́.* Сянно.

**НАНЕ́ВАШТА** *прысл.* Навошта. *Так вот нане́въшта іх браць, е́тыя чъмпіёны?* Багданава.

**НАНЕ́СЦІ** *зак.* Знесці яйкі. *Нане́сла ку́рыца і бу́дзіць сядзе́ць.* Вялікі Азярэцк.

**НАНІ́ЗУ** *прысл.* Унізе. *Ку́ры ня лю́бяць наніз́у.* Нямойта.

**НАНІМА́ЦЦА** *незак.* Наймацца (на працу). *Мая́ ма́ма за бу́лачку хле́ба наніма́лася.* Манголія.

**НАНІМА́ЦЬ** *незак.* Наймаць (на працу). *Як ско́ту мно́га, наніма́лі пастуха́.* Заазер'е, Сукрэмна.

**НАНО́С** *м.* Пласт нанесенага пяску; нанос. *Нано́с пяску́ с по́ля к во́зіру быў.* Гарадок.

**НА́НЯТЫ** *дзеепрым.* Наняты. *На́нятых не было́ людзе́й.* Самсоны.

**НАНЯ́ЦЬ** *зак.* Наняць (на працу). *Папро́буй, наймі́ гаро́т паха́ць, ніхто́ ня хо́чыць ісці́.* Заазер'е, Міцюкова. *То́лькі касцо́ў найме́ць, кап скарэ́й пакасі́ць.* Станюкі.

**НАПАВЕ́ДЗІЦЬ** *зак.* Распавесці, расказаць. *О, вы нъпаве́дзілі на харо́шэе.* Партызаны.

**НАПА́ДАЦЬ** *зак.* Напа́даць, насыпацца. *Я́блык нъпа́ла.* Рэчкі.

**НАПАДА́ЦЬ** 1. *незак.* Нападаць, з'яўляцца. *Ву́сень шчэ ні напада́ець на капу́сту.* Партызаны. *На кукуру́зу нъпъда́лі гракі́.* Багданава, Гарадзец, Дольдзева. 2. *зак.* Накінуцца. *Як ідзе́ш, нъпаду́ць съба́кі.* Вялікі Азярэцк, Каралевічы, Нямойта. 3. *зак.* Абрынуцца, насыпацца. *Каб на цябе́ чо́рная зямля́ напа́ла!* (праклён). Запруддзе.

**НАПАДЗЕ́ННЯ** *н.* Няўдача. *У пынядзе́льнік ня мо́жна пачына́ць дзе́лаць, то бу́дзіць нъпадзе́ння.* Вялікі Азярэцк.

**НАПАДОБНІ, НАПАДО́БІІ** *прыназ.* Накшталт, падобна да нечага. *Прусянкі супавэ́я, як суравеу́шкі, нъпадо́бні зялёнык, шэ́рынькыя гало́ўка.* Пожанькі. *Яны́ то́жа нападо́біі як грузды́, кро́хкінькія.* Замошша. *Нападо́біі жы́та цімафе́еўка.* Багданава.

**НАПАДО́ЙМУ** *прысл.* Цяжкі; як падняць. *Нападо́йму куры́ца была́, не́хта спёр куры́цу, на нядзе́лю хваці́ла б.* Нямойта.

**НА́ПАЛ** *прысл.* Напалам; у дзве столкі. *Пълатно́ у тру́пкі ска́тывалі, як бялі́лі, на́пъл скла́дывалі.* Заазер'е.

**НАПАЛЕО́НАЎЦЫ** *мн.* Салдаты войска Напалеона. *Напълео́наўцы не́йкія пахаро́нены ў гэ́тых курга́нъх.* Чуцькі.

**НАПАМІНА́ЦЦА** *незак.* Прыпамінацца. *Напаміна́ецца: Купа́ла, тады́ Пятро́.* Нямойта.

**НАПАМЯНУ́ЦЬ** *зак.* Напамянуць, нагадаць. *Вы мне нъпъмяну́лі старо́я.* Рулёўшчына.

**НАПАПАЛА́М** *прысл.* Напалам, пароўну. *Со́вісь уваб'е́ць, на́да нъпапала́м нахо́дку дзялі́ць. У тру́бкі круці́лі, напапала́м складзе́ш па тры гу́бкі – скут.* Запруддзе, Каралі.

**НАПАПРО́БУ** *прысл.* На спробу, для спробы. *Яна́ напапро́бу зрабіла суп з жыгу́чкі.* Міцюкова.

**НА́ПАРСК** *м.* Раствор для апырсквання. *Дзет дзе́лаў на́парск: малі́навых цвятко́ў патрэ́ць, гарэ́лкі нале́ць – папы́рскаець ге́тым.* Вялікі Азярэцк.

**НАПА́РЫЦЦА** *зак.* Напарыцца (у лазні). *Напа́рыўся, быў до́бры пар.* Багданава.

**НАПА́РЫЦЬ** *зак.* 1. Наварыць. *Бу́льбы напа́рым, абальём са́лам.* Каралі. 2. Стушыць страву. *Ма́ма бо́бу напа́рыць, капу́сты.* Запруддзе. *Бо́бу нъпа́руць, бу́льбу стаўку́ць.* Багданава, Гарадзец, Ракаў Засценак.

**НАПАЎЗЦІ́** *зак.* Напасці, раптоўна з'явіцца. *Напо́ўз рак на яго́ – і не ста́ла.* Нямойта.

**НАПАЎСКО́М** *прысл.* Паўзком, на карачках. *Я напаўско́м з гэ́тай гары́.* Багданава.

**НАПА́ЎШЫ** *дзеепрысл.* Напасці, раптоўна з'явіцца. *Рак напа́ўшы, памёрла старшына́.* Нямойта.

**НАПАХА́ЦЬ** *зак.* Сабраць ураджай. *Зямлю па́шъш, хле́ба нъпа́шъш, хлеб ё, а дзе́нег німа́.* Гарадзец.

**НАПЕРАГÓНКІ** *прысл.* Наперагонкі, навыперадкі. *Наперагóнкі паплылí.* Багданава, Савінічы.

**НАПÉРАДЗЕ, НАПÉРАДУ** *прысл.* 1. Спераду. *Выяздная аброць с крэсьцікам якім напéрадзе.* Гарадзец. *А бéгла свіння з дзяцьмі свайімі – янá напéраду, а яны шнуркóм за ёй.* Багданава. 2. Загадзя. *Каб я тóлькі знáла напéраду.* Вялікі Азярэцк.

**НАПЕРАМÉЖКУ** *прысл.* Чаргуючы адно з адным. *Ем бýльбу напераме́жку з макарóнамі.* Нямойта.

**НАПЕРАМÉШКУ** *прысл.* Уперамешку. *Трóшку лýку, трóшку часнакý – мікрóбы убіваеш, як напераме́шку.* Цясішча.

**НАПÉРЦІ** *зак.* Распухнуць, расперці. *Напрэць нагý за дзень, а унóчы худáя.* Багданава.

**НАПÉРЦІ** *зак.* Намесці, нападаць у вялікай колькасці. *Гóры напрэць снéгу. Напёрла снéгу.* Кішуроўшчына.

**НАПІВÁЦЦА** *незак.* Піць да моцнага ап'янення. *Напівáўся дýжа у бясéдзе, што гаспóдзь!* Ульянавічы.

**НАПÍЛЬНІК** *м.* Напільнік. *Напíльнік тачыць пілý.* Вялікі Азярэцк, Запруддзе.

**НАПІРАМÉНКУ** *прысл.* 1. Чаргуючы адно з адным. *Нáда ш напірамéнку éсці, атó занýдзіць.* Баравікі. 2. Па чарзе. *Пóмню, як напірамéнку ў стýпі ячмéнь таўклі.* Вялікі Азярэцк.

**НАПІХÁЦЬ** *зак.* Напхаць. *Пяхцéль – сéна касíць, з вярóвак тóлькі, дарóжны, напіхáіш сéна.* Савінічы.

**НАПÍЦЦА** *зак.* 1. Выпіць, папіць. *Смáга, вады напíцца нáда.* Багданава. 2. Прыняць лекі. *Вы ш нап'іцёся* [лекаў] *– з нох звáліціся.* Запруддзе.

**НАПЛАДЗÍЦЦА** *зак.* Напладзіцца, наразводзіцца ў вялікай колькасці. *А яны ўсяднó сёліта нъпладзíлісі* [каларадскія жукі]. Малы Азярэцк.

**НАПЛÁКАЦЦА** *зак.* Наплакацца. *Інá нъплáкалася.* Буй, Манголія.

**НАПЛÉСЦІ** *зак. перан.* Нагаварыць, напляткарыць. *Я табé абы-штó налгý, нъплятý.* Заазер'е.

**НАПНÝЦЬ** *зак.* Напяць, нацягнуць. *Як бувáла, дóшкі пілілі, адзін навярхý, а другі – ніжэй, намáзвалі вугалём вярóвачку, рóўненька напнýць, падымуць, атпечáтаюць – і пілюць па шнуркý, не саб'éсся с прáвіла.* Вялікі Азярэцк.

**НАПÓРНА** *прысл.* Мэтанакіравана, напорыста, смела. *Ні быясь, напóрна йдзём, прáма ў кантóру.* Запруддзе.

**НАПÓРЫСТЫ** *прым.* ◊ НАПÓРЫСТЫЯ ВРЫМІНÁ. Гарачая пара, пільніца. *У такія напóрыстыя врымінá біз выхадных рабóталі.* Дольдзева.

**НАПÓХНУЦЬ** *зак.* Апухнуць. *Брáлі лён, дзе зімлá засóхшая, рýкі напóхнуць.* Багданава.

**НАПÓХШЫ** *дзеепрым.* Апухлы. *Напóхшы нагá, дáжа вéны напрýжаны так. Напóхшы кóрань зýба.* Нямойта.

**НАПРАВÁЦЬ** *незак.* Увільгатняцца, ушчыльняцца. *Ляжыць і нъпръвáіць гéта глíна.* Кляпчэва.

**НАПРÁМАК** *м.* Кірунак. *Вяснóй нáда глядзéць на нéба, якія звёзды, вóблакі, якí напрáмак вéтра.* Партызаны.

**НАПРАМКÍ, НАЎПРАМКÍ, НУПРАМКÍ** *прысл.* Напрамкі, напрасткі. *Нъпрамкí пашóў.* Дольдзева. *Éслі нупрамкí йці, пу балóту, то блíска.* Запруддзе, Партызаны. *Нъўпрамкí прайдý ці не? Ці зъблуджý ці не?* Багданава.

**НАПРАМУ́Ю, НАЎПРАМУ́Ю** *прысл.* Тое ж. *Часы́ два е́хаць напраму́ю.* Серкуці. *Нейк наўпраму́ю е́дуць.* Багданава.

**НАПРАСІЦЦА** *зак.* Выпрасіць. *Ня мо́жна напрасі́цца кьня́ ў пастуха́.* Запруддзе.

**НАПРА́СНА** *прысл.* Дарма, марна. *А е́та прі́каска такая была́: ве́рба бе́ла б'е́ць за дзе́ла, ве́рба кра́сна – б'е́ць напра́сна.* Заазер'е, Самсоны.

**НАПРА́СНІЦА** *ж.* Нагавор, паклёп. *Сні́цца: ва́лісся з гары́ – нъпра́сніца бу́дзіць.* Ракаў Засценак.

**НАПРА́СЦІ, НАПРА́СЦЬ** *зак.* Напрасці. *Лёну напрадзём, і чулкі́ вяза́лі са́мі.* Гарадзец. *Ні́ткі напраду́ць, накра́сюць і вы́йдзець тако́я пълатно́, дрылі́шкі, чо́рнае с кра́сным.* Апечкі, Нямойта. *Там жа на́да напра́сць, там не́калі ду́жа рассасу́ліваць.* Гарадзец.

**НАПРУ́ЖАНЫ** *прым.* Напяты, напружаны. *Напо́хшы, да́йжа ве́ны напо́хшы, напру́жаныя.* Нямойта.

**НАПУЖА́ЦЦА** *зак.* Напалохацца. *Конь упу́дзіўся, чълаве́к напужа́ўся.* Кляпчэва.

**НАПУЖА́ЦЬ** *зак.* Напалохаць. *Ой, як нъпужа́ў!* Гарадзец.

**НАПУКУВА́ЦЬ** *зак.* Напакаваць, налажыць. *Ла́дна мо́жна напукува́ць тру́бак палатна́ ў сунду́к. Шка́пы напукува́ла.* Нямойта.

**НАПУМУГА́ЦЦА** *зак.* Стаміцца дапамагаючы. *Са́ша бы́стра нъпумуга́ўсь.* Закур'е.

**НАПУ́ЧАЦЦА** *незак.* Набухаць, быць гатовым распусціцца. *Напу́чъіцца калі́на, йшчэ то́лькі бубы́шычкі.* Нямойта.

**НАПХА́ЦЬ** *зак.* Напхаць, начыніць. *Трыбу́х напхну́ць лёхкімі і пе́чанню.* Марозаўка.

**НАПЫ́ТВАЦЦА** *незак.* Распытваць з мэтай куплі. *Напы́тваўся пчол – куплю́, хай дагляда́ець.* Нямойта.

**НАПЫ́ТВАЦЬ** *незак.* Тое ж. *На́да напы́тваць у людзе́й, мо́жа бу́льбу хто прада́сь.* Леснікова.

**НАПЯРО́Д** *прысл.* Наперад, пра будучае. *Мой прадзе́д напяро́д усё раска́зваў.* Нямойта.

**НАПЯ́ТЫ** *прым.* Напяты, напружаны. *Не магу́ нагу́ на бок павярну́ць – ве́на напя́тая пад калёнам. Боль ду́жа бальшэ́я і цяпе́р.* Нямойта.

**НАПЯЧЫ́** *зак.* Напячы. *Нъпяку́ць таўчо́нікаў.* Сянно, Фасаўшчына.

**НАРА́** *ж.* Нара. *Краты́ у ле́се у но́рах.* Багданава.

**НАРАБО́ТАЦЦА** *зак.* Нарабіцца, напрацавацца. *Я съма́ нърабо́тълася людзём.* Кляпчэва.

**НАРАВІ́СТЫ** *прым.* Наравісты, натурысты. *Нараві́сты – э́та капры́зны конь.* Дольдзева.

**НАРА́ВІЦЦА** *незак.* Падабацца. *Мне ні нъра́віцца на со́нцы сушы́ць я́блъкі.* Гарадзец.

**НАРА́ВІЦЬ** *незак.* Падабацца, любіць. *Е́слі ў каго́ не́ік убіра́ць, то нъйма́й за сваé гро́шы, я нъра́віў гэ́та. Я так не нара́ўлю у чо́рнай ба́ні – ці тэй мо́гуць ду́ху нада́ць, ці тэй.* Кляпчэва, Нямойта.

**НАРА́Д** *м.* Святочнае адзенне, убор. *Танцу́юць, і ты танцу́еш, е́слі ў харо́шых нара́дах – нехарашо́* [у сне]. Каралевічы.

**НАРАДЖА́ЦЦА** *незак.* З'яўляцца, пачынацца. *Так нъръджа́іцца мъладзі́к.* Савінічы.

**НАРАДЖА́ЦЬ** *незак.* Нараджаць. *Я бап ні бра́ла, біз бап наръджа́ла.* Чуцькі.

**НАРАДЗІ́ЦЦА** *зак.* Нарадзіцца. *Мы ў такí дзень нарадзіліся, што нішчаслівыя.* Багданава, Запруддзе.

**НАРА́ДНА** *прысл.* Прыгожа, святочна. *У ха́ці было́ красíва, нара́дна.* Запруддзе.

**НАРА́ІЦЬ** *зак.* Параіць. *Нара́іла адна́ ба́ба, ста́ла ту́ю траву́ піць.* Запруддзе. *Нъра́йілі сюды́ ў пры́мы.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Каралі, Нямойта, Партызаны.

**НАРАКА́ЦЬ** *незак.* Меркаваць, падазраваць. *Я нарака́ю – е́та сасе́д прыхо́дзіў.* Багданава.

**НАРАСКІ́Д** *прысл.* Араць уроскідку – спосаб ворыва ад краёў да сярэдзіны загона, пры якім пласты зямлі адвальваюцца ў супрацьлеглыя бакі. *На зіму́ – нараскíд, бу́льбу садзíць – нау́скíд.* Дольдзева, Сукрэмна.

**НАРАСПА́ШКУ** *прысл.* Шырока раскрыты. □ *Рот нараспа́шку, язы́к на пляčо́.* Партызаны.

**НА́РАСЦЕНЬ, НА́РАСЦІНЬ** *м.* 1. Нарасць, нараст. *У яго́ жо́нкі быў не́йкі на́расцень і разашо́ўся: смíта́най на́да нама́заць і прыкладáць.* Багданава. 2. Барадаўка. *На́расцень ці дзíчка, і барада́ўка заву́ць.* Фасаўшчына. 3. Грыб у форме капыта, які паразітуе на дрэвах; гу́ба, чага. *Нъ бяро́зі на́ръсцінь ёсь ава́льнай фо́рмы.* Вялікі Азярэцк, Пожанькі.

**НАРАСЦІ́ЦЬ** *зак.* Нарасціць, зрабіць даўжэйшым. *Ні нарасціш цяпе́рыцька нагу́.* Манголія.

**НА́РАСЬ, НА́РАСНЬ** *ж.* Нарасць, нараст. *На ко́стке наро́с на́рась – кра́сняньков.* Манголія. *Як на крапíве жо́ўтых на́расняў няма́, то і гурко́ў няма́* (прыкмета). Партызаны. НАРАСЦЕ́НЬКІ *мн. памянш. Ско́лькі каро́ве – пъ ръга́х* [пазнаеш], *на іх бе́лыя пало́сачкі, ко́льцы, як абру́чыкі, нарасце́нькі.* Парэчча.

**НА́РАЧНА** *прысл.* Знарок. *На́рачна гаво́раць так.* Фасаўшчына.

**НАРАЧЫ́ТА** *прысл.* Назнарок, наўмысна, спецыяльна. *Нарачы́та кладу́ць ка́мні.* Чуцькі.

**НАРАШПІ́ЛЬКУ** *прысл.* Які расшпіляецца. *Ко́хты нарашпíльку ду́жа не дзе́лалі.* Леснікова.

**НАРВА́ТЫ** *дзеепрым.* Нарваны, апухлы, з нагнаеннем. *Нага́ у мяне́ ні нарва́та.* Запруддзе.

**НАРВА́ТЫ** *дзеепрым.* Нарваны, назбіраны. *Ко́нскага шча́ўлюку́ было́ мно́га нарва́та.* Багданава.

**НАРВА́ЦЬ** *зак.* 1. Нарваць, сарваць. *Нарву́ць цвято́ў і вянкí сплату́ць.* Багданава, Гарадзец. 2. Вырваць. *Нарву́ мухамо́ра, пълажу́ ны вакно́, мылыка́ тро́шку паллю́, і му́хі до́хнуць.* Гарадзец, Міцюкова. 3. Нагнаць (пра вецер). *Е́ты ве́цір нарве́ць до́жджу.* Сукрэмна.

**НАРВА́ЦЬ** *зак.* Апухнуць і нагнаіцца. *Нарва́ў па́лец.* Неўгадава.

**НАРКАМА́НІК** *м.* Наркаман. *У сту́пі кру́пы таўклí, бува́ла, ма́ку, кънапе́ль, цяпе́р бы наркама́нікам быў.* Вялікі Азярэцк.

**НАРО́Д** *м.* Вялікая колькасць людзей. *Наро́ду! Ску́лькі та́нцаў, ску́лькі пе́сень, гаспо́дзь мой пра́ведны!* Самсоны.

**НАРО́ДНІК** *м.* Паліцэйскі. *Чаты́ры наро́днікі асталóся, ат ухажо́рак, яны́ бра́лі, гра́білі ў людзе́й.* Гарадзец, Багданава, Дуброўкі.

**НАРО́Т, НО́РЫТ** *м.* Нерат; рыбалоўная снасць. *Наро́т – рэ́чку застаўля́іш і ста́віш чуп.* Багданава, Дольдзева. *Но́рыт ста́вілі.* Турава.

**НАРО́ШНА** *прысл.* Знарок. *Наро́шна не біла, не!* Вялікі Азярэцк, Леснікова.

**НАРУБІ́ЦЬ** *зак.* Зрабіць соты. *Пчо́лы са́мі, бува́ла, нару́бюць ра́мку, тру́тні там адны́.* Вялікі Азярэцк.

**НАРУ́ЖНЫ** *прым.* Непаслухмяны. *Ай, які дзіцёнак нару́жны, ня слу́хаіць ні ба́цьку, ні ма́тку.* Савінічы.

**НАРУ́ЛІВАЦЬ** *незак.* Нацэльвацца. *Ён на яго́ ру́лім нару́ліваў і забіў яго́.* Фасаўшчына.

**НАРУ́ШЫЦЬ** *зак.* 1. Паварушыць. *От пъсядзіце, я як нару́шу куст, і по́йдуць ат яе́ мя́тлікі.* Малы Азярэцк. 2. Пашкодзіць. *Жы́лы нару́шылі у бальніцы.* Манголія. *Нару́шыў шэ́йны пазвано́к – і асле́п.* Розмыслава.

**НА́РЫ** *толькі мн.* Жэрдкі для сушкі снапоў у ёўні. *На́ры падзе́лаюць і снапы́ ста́вілі.* Нямойта.

**НАРЫ́Ў** *м.* Нарыў. *Як нары́ў які, так трыпу́тнік кла́лі.* Багданава. НАРЫ́ВАЧКА *ж. памянш. Крух кру́глы такі, нары́вачкі такія, мя́кніць, во́гнік называ́ўся.* Багданава.

**НАРЫ́ЦА** *ж.* Нарыў, свішч (у каня). *Нары́ца быва́іць ны са́мым храбту́, ны са́муй хо́лцы, ныбіва́йіцца, праб'е́ць і гна́йіцца.* Самсоны.

**НАРЫ́ШЛІВЫ** *прым.* Хворы на нарыцу. *Было́ два нары́шлівыя кані і ў мяне́.* Пожанькі.

**НАРЭ́ЗАЦЬ** *зак.* 1. Нарэзаць. *Як цяпе́р гэ́тэя лазы́ і нарэ́заць німа́ дзе, с про́валкі плятуць.* Запруддзе, Пожанькі. 2. Напілаваць. *Зрэ́заў бярэ́зіну, а ў сінавай ро́шчы нарэ́заў я́сенніку.* Нямойта.

**НАРЭ́СКА** *ж.* Зямля, якая дадавалася да асноўнага надзелу. *Паны́ мінцэ́жуцца, бо прыка́з быў людзя́м нарэ́ску даць.* Вялікі Азярэцк.

**НАРЭ́ТКА** *ж.* Сорт яблыкаў. *Нарэ́тка – сало́дкія я́блыкі, сорт таке́й.* Запруддзе.

**НАРЭ́ЧАНЬКА** *ж.* Танец; вядомы ў розных рэгіёнах Беларусі пад назвай «На рэчаньку». *Нарэ́чанька: вы́йду-вы́йду я на рэ́чаньку, увіжу міло́га прэ́жняга, сярдзе́шнага.* Багданава, Марозаўка.

**НАСАВЕ́ТАВАЦЬ** *зак.* Параіць. *Насаве́тавалі мне бяро́завага мёду, ста́ла націра́ць, но́гі ста́лі атхадзі́ць.* Цясішча.

**НАСА́ДЖВАЦЬ, НАСА́ЖЫВАЦЬ** *незак.* Запаўняць снапамі. *Снапы́ наса́жывалі на ёўню.* Нямойта. *Ёўню наса́джвалі, тапілі, сушы́лі снапы́.* Вялікі Азярэцк, Дольдзева.

**НАСА́ДЖУВАЦЬ** *незак.* Насаджваць, надзяваць на што-н. *Абручы́ гэ́тыя чапа́юць, наса́джуюць.* Заазер'е.

**НАСАДЗІ́ЦЦА** *зак.* Моцна напіцца, ап'янець. *Като́рыя п'юць гарэ́лку, насо́дзюцца і пяю́ць.* Багданава. *Насадзі́ўся гарэ́лкі.* Дольдзева.

**НАСАДЗІ́ЦЬ** *зак.* 1. Набіць, назабіваць. *Шчо́тка, лён часа́ць – насо́дзюць гвоздзя.* Буй. 2. Пакласці. *У карма́ны насадзіла жуко́ў.* Нямойта.

**НАСАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Насадзіць, надзець на што-н. *На́да было́ два тапары́ насадзі́ць, навайстры́ць.*

**НАСАЛІ́ЦЬ** *зак.* Насаліць. *Са́ла насо́люць і гаво́раць: во насалі́ў саланіны.* Багданава, Партызаны.

**НАСЕ́ДЗЕЦЦА** *зак.* Наседзецца, насядзецца. *Насе́джуся яшчэ́, пастаю!* Нямойта.

**НАСЕ́ІЦЦА** *зак.* Насеяцца. *Бярэ́знік насе́іўся сам.* Неўгадава. *Мо́жа, яка́я трава́, што насе́іцца сама́, то сымасе́йка.* Міцюкова. *Атку́ль яго́ насе́ілься.* Запруддзе.

**НАСЕ́ННЕ** *н.* Насенне. *І насе́нне мо́жа снег змыць.* Ульянавічы.

**НАСЕ́ЧАНЫ** *дзеепрым.* Насечаны, наколаты. *Насе́чаныя дро́вы ёсь.* Неўгадава.

**НАСЕ́ЯЦЬ** *зак.* Нарасці ў вялікай колькасці. *Адзін год апёнак сто́лькі было́, мішка́мі насілі, як усе́яна па траве́, па крапіве, як хто іх насе́яў.* Латыгаль.

**НАСЁМЫ** *прым.* Паношаны, будзённы. *Адзе́жа, якая-нібу́дзь насёмая.* Буй.

**НАСІДА́ЦЬ** *незак.* Насядаць, настойваць. *Ён і не насіда́ў ду́жа: а ці бу́дзіць у нас сва́дзьба?* Савінічы.

**НАСІ́ЛКІ** *толькі мн.* Насілкі. *Насілкі насіць нябо́жчыкаў.* Гарадок.

**НАСІ́ЛЬНІЧАЦЬ** *незак.* Гвалтаваць. *Баб насільнічаў, людзе́й убіва́ў.* Жохава.

**НАСІ́НІЦЬ** *зак.* Пафарбаваць у сіні колер. *Насініш, нъкра́сіш пълатна́.* Гарадзец.

**НАСІ́ЦЦА** *незак.* 1. Бегаць. *Уну́к тут но́сіцца, каро́ва нівыхо́дна.* Багданава. 2. Няньчыцца. *А дзіцёнык пла́чыць-пла́чыць, а насіцца з ім не́каму.* Гарадзец.

**НАСІ́ЦЬ** *незак.* 1. Насіць. *Дзяцёнка на по́ля насілі.* Міцюкова. *У ба́йню на́да насіць дзе́сіць судо́ў вады́.* Неўгадава, Партызаны, Турава, Закур'е. 2. Хадзіць, рухацца. *Упа́дак сіл, ні магу́ сама́ сябе́ насіць, пот гра́дам. Кап цябе́ но́гі не насілі!* (праклён). Багданава. 3. Быць цяжарнай. *Аднаго́ нашу́ – другі́ за ю́пку цягніць.* Фасаўшчына. 4. Надзяваць, апранаць. *Армя́к насілі ад до́жджу.* Вялікі Азярэцк. ◊ НАСІ́ЦЬ ЗАЖЫ́НКІ (ДАЖЫ́НКІ). Дарыць гаспадару поля першы (апошні) сноп. *А даўне́й па́ні дажы́нкі і зажы́нкі насілі.* Нямойта.

**НАСКАМУТА́ЦЬ** *зак.* Набіць. *Ён бы цябе́ наскамута́ў, набі́ў.* Вялікі Азярэцк.

**НАСКАСУ́Ю, НАЎКАСУ́Ю** *прысл.* Наўскасяк, наўскос. *Даълато́м наъскасу́ю прабіва́лі дзіркі.* Гарадзец. *Во так во нъўкасу́ю пало́жыць.* Серкуці.

**НАСКІПА́НЫ** *дзеепрым.* Нашчапаны. *Лучы́на наскіпа́ная і све́тач, у піпку лучы́ну ўстаўля́еш.* Ульянавічы.

**НАСКІПА́ЦЬ** *зак.* Нашчапаць. *У вайну́ наскіпа́іш лучы́ны, парціза́нам све́ціш.* Запруддзе, Каралі, Нямойта.

**НАСКО́ЧЫЦЬ** *зак.* 1. Абсыпаць, выскачыць. *Прышчы́ наско́чаць, разарве́ш, цячэ́ць.* Гарадзец. 2. *перан.* Раптоўна ўзнікнуць. *Пат тэй маме́нт міну́та дрэ́нная наско́чыць і асуро́чыць.* Запруддзе.

**НАСКРО́ЗЬ, НА́СКРАСЬ** *прысл.* Наскрозь. *Змо́кла наскро́зь.* Гарадзец. *Не́мцы во́чарадзь пусцілі – на́скрась тэй дзе́ўцы кішкі паъпасе́клі.* Вялікі Азярэцк.

**НАСКЯЛЮ́БІЦЬ** *зак.* Зняць (аддзяліць) з дрэва паверхневы слой. *Сасну́ нъскялю́біш і дзярэ́ш дра́нку.* Фасаўшчына.

**НАСЛАННЁ** *н.* Напасць, бяда. *Што гэ́та за насланнё – смаля́нкі сіга́юць па скры́ні.* Партызаны.

**НАСЛА́НЫ** *дзеепрым.* Прысланы. *Э́та не́йкія насла́ныя нам.* Серкуці.

**НАСЛА́ЦЬ** *зак.* Наслаць, напусціць (з дапамогай варажбы, чараў). *Іна́ ёй лягу́шку насла́ла ў хлеў.* Запруддзе.

**НАСЛЕДАВА́ЦЬ** *зак.* Наслядзіць, натаптаць. *Ой, мушчы́ны лъпця́мі нъсьлядуюць.* Ракаў Засценак.

**НАСЛЫ́ШКІ** *мн.* Чуткі. *Я наслы́шкамі то́лькі чу́ла* [пра каўтун]. Нямойта.

**НАСМА́ЖЫЦЬ** *зак.* Насмажыць, напрэгчы. *Нъсма́жыць мяса і карто́шкі нъжа́рыць, грыбы́.* Кляпчэва.

**НАСМАКТА́ЦЦА** *зак.* Насмактацца, нассацца. *Насмо́кчыцца мълака́ чараўніца-лягу́шка – і каро́ва нягоднaя.* Партызаны.

**НАСМЯЯ́ЦЦА, НАСМІЯ́ЦЦА** *зак.* Насмяяцца. *Кіно́ каля іх, насмяе́сся!* Ульянавічы. *Ге́ты насміяўся кала яе́.* Алексінічы.

**НАСНУВА́ЦЬ** *зак.* Наснаваць. *Мы наснувáлі тры гýбкі, зарадзілі прастóй мацер'ял, вярхóўе.* Карпавічы.

**НАСО́ДЖАНЫ** *дзеепрым.* Насаджаны, змешчаны. *У траншэ́ю людзéй насóджана.* Міцюкова.

**НАСО́С** *м.* Хвароба дзясен (у коней). *Насóс – калі конь аўсóм нъбівáйіць дзя́сны, бярýць сукóнку і соль, націрáюць разы́ тры – і сыхóдзіць.* Самсоны.

**НАСО́ЎВАЦЦА** *незак.* Насоўвацца, набліжацца (пра хмару). *Дошч насóўваецца, а трáнспарту німá.* Латыгаль.

**НАСО́ЎКА** *ж.* Насоўка. *Вазьмі насóўку, вытры дзіцёнка.* Кляпчэва.

**НАСПРАМКІ́** *прысл.* Напрамкі, напрасткі. *Пайдý наспрамкí дамóй.* Баравікі.

**НАСТА́ЙВАЦЬ, НАСТА́ІВАЦЬ** *незак.* Рабіць настой. *Дзівасіл настáйваю на кіпячóнай вадзé дня два-тры і п'ю ат пéчані.* Партызаны. *Мухамóры ёсь, хто балéйіць біркульъёзам, нъ^ы^стáйівыйіць.* Рассвет.

**НАСТАНАЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* Настаўляць, прыстаўляць. *Нож настанаўля́іць, я качáлку як схвацíла, аб стол як грáкнула – вон!* Дольдзева.

**НАСТА́ЎКА** *ж.* 1. Вулей-лавушка. *Хтó-то пъстáвіў нъстáўку, туды́ пчóлы ліця́ць.* Кляпчэва. 2. Магазін, які ставяць дадаткова ў рамачны вулей для атрымання мёду. *Бывáла, пъ два разы́ снімáў нъстáўкі.* Кляпчэва.

**НАСТАЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* Рабіць настой. *Дзіразý* [расліна] *ны гарэ́лкі нъстаўля́юць.* Партызаны.

**НАСТАЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* Ставіць, запаўняць. *Цапкі у ёўні – нъстаўля́лі туды́ снапóў.* Гарадзец.

**НАСТА́ЎНІК** *м.* Настаўнік. *Адзін мой сын нъстáўнікам рабóтаіць.* Мянюцева, Ульянавічы.

**НАСТА́ЎНІЦА** *ж.* Настаўніца. *Нъстáўніца сóдзіць мнóга цвятóў.* Гарадзец.

**НАСТА́ЦЬ** *зак.* Настаць, пачацца. *Гóра настáла.* Запруддзе. *Ноч настáніць, сяджý і галашý.* Нямойта.

**НАСТАЮ́ШЧЫ** *прым.* Вялікі. *Дзеравýшка былá настаюшчая.* Партызаны.

**НАСТАЯ́ЦЬ** *зак.* Настаяць, пераканаць. *Свой настая́ў, каб растраля́лі.* Нямойта.

**НАСТАЯ́ШЧА** *прысл.* Сапраўды. *Настая́шча засéіць гарóд канóплямі, пылі ў іх, як вéцер.* Дуброўкі.

**НАСТО́ЙКА** *ж.* Настойка. *Мы завём падбéла, тысячалíснік, п'юць настóйку ат грудзéй, як у грудзя́х якія бóлі.* Нямойта, Серкуці.

**НАСТО́ЛЬКІ** *прысл.* Настолькі, вельмі. *Настóлькі харóшая, настóлькі душэ́ўная.* Івоні.

**НАСТО́ЯЦЬ** *зак.* Зрабіць настой. *Налавíце мне вужáк, і я настóю на трайнóм адзікалóне. Калíны настóяла, калíна есь.* Марозаўка, Нямойта.

**НАСТРАЕ́НІЯ** *н.* Настрой. *Бывáіць сýмна, настраéнія ніякае.* Запруддзе.

**НАСТРЫ́ГЧЫ** *зак.* Нарэзаць. *Настрыжэ́ць, настрыжэ́ць травы́.* Партызаны.

**НАСТУПІ́ЦЬ** *зак.* ◊ НАСТУПІ́ЦЬ НА КРОЎ. Закрануць самалюбства, пачуццё годнасці. ◊ НАСТУПІ́ЦЬ НА ВО́ЧЫ. Тое ж. *Во, відзіш, што пашлó так, пупáл, ямý на кроў, на вóчы наступíла, што так сказáла.* Заазер'е.

**НАСТУ́РЦЫЯ** *ж.* Настурка, настурцыя (кветка). *Настýрцыя жóўценькім цвіціць, пáхнець.* Партызаны.

**НАСУКА́ЦЬ** *зак.* Насукаць. *Цэ́ўку насукáеш і ў той чаўнóк.* Леснікова.

**НАСУ́КРЫЦЬ** *зак.* Завіць. *Въласы́ насу́крылі дзяцёнку.* Чуцькі.

**НАСУЛІ́ЦЬ** *зак.* Наабяцаць. *Так насулі́ў, што німо́жна забы́ць.* Запруддзе.

**НАСУ́НУТЫ** *дзеепрым.* Насунуты, набліжаны. *Хма́ра насу́нута.* Запруддзе.

**НАСУ́НУЦЬ** *зак.* Насадзіць, надзець на што-н. *Вілкі насу́ніць, мятлы́ звя́жыць.* Алексінічы.

**НАСУ́ЧУВАЦЬ** *незак.* Насукваць. *На цэ́ўкі насу́чувълі ніткі ны пра́лку, а хто ны*[а] *сука́ла.* Заазер'е.

**НАСЦЕ́ННЕ** *н.* Зруб, сцены. *Зрабілі гэ́ты зруп, насце́нне.* Серкуці.

**НАСЦІ́Л** *м.* Насланыя дошкі альбо іншы матэрыял; насціл. *Ра́ншы ако́пы къпа́лі, то гъварылі: «На́да здзе́лаць насці́л».* Гарадзец.

**НАСЦІЛА́ЦЬ** *незак.* Насцілаць. *Када́ кро́іш кры́шу, насціла́іш рат сало́мы, по́верху ло́жыш паплёціну, прыжыма́іш паплёціну, уёш вітку і прыжыма́іш, штоп сало́ма ні падыма́лася.* Нямойта.

**НА́СЫП** *ж.* Насып. *На́сып здзе́лалі таку́ю.* Забор'е, Міцюкова.

**НАСЫ́ПАНЫ** *дзеепрым.* Нападаны. *Ле́тысь я́блык як гразі было́ насы́пана.* Ульянавічы.

**НАСЫ́ПАТЫ** *дзеепрым.* Насыпаны. *У нас у пе́чы мно́га каме́ння дро́бнъга насы́пъта.* Міцюкова.

**НАСЫПА́ЦЬ** *незак.* Насыпаць. *Іх кавале́ры пашлі ў та́нцы, а дзе́ніх не было́, яны́ ў кърма́ны гваздо́ў насыпа́лі і звіне́лі імі.* Дольдзева, Міцюкова, Фасаўшчына.

**НАСЫ́ПАЦЬ** *зак.* Насыпаць, нападаць (пра снег). *С Пакро́ва снех насы́піць, і зіма́ ўжо.* Дольдзева.

**НА́СЬКІ** *займ.* 1. Звычайны, вядомы. *Не́йкі ні на́ські грып.* Алексінічы. 2. Мясцовы, тутэйшы. *Не, гэ́та ні на́ськія лю́дзі прые́халі.* Галашчакіна, Партызаны, Неўгадава.

**НАСЯВА́ЦЬ** *незак.* Насяваць. *Йідзе́ць тума́н і нъсіва́йіць там грыбы́.* Пожанькі, Сянно.

**НАСЯЛЕ́ННЕ** *н.* Насельніцтва, жыхары. *Ці ёсь тут яко́я насяле́нне?* Алексінічы.

**НАСЯЧЫ́, НАСЕ́Ч** *зак.* Насекчы, накалоць. *Дроў насячэ́ць, каро́ву нако́рміць.* Багданава. *Дроў насе́ч, пе́чку тапіць – дъва́й гарэ́лку.* Заазер'е.

**НАТА́ЛКІВАЦЦА** *незак.* Набівацца, напіхвацца. *Лю́дзі нъта́лківаюцца пъглядзе́ць у скры́ню, што мъладу́ха прывізла́.* Нямойта.

**НАТАПІ́ЦЬ** *зак.* Заварыць. *Як дзяцёнак дрэ́нны, плаксі́вы, дык нато́пяць і дава́лі* [сон-траву]. Гарадзец.

**НАТАПІ́ЦЬ** *зак.* Напаліць, нагрэць. *Ско́ра натаплю́ – на шчыт заляза́ю – і цёпла.* Закур'е.

**НАТАПЛЯ́ЦЬ** *незак.* Напальваць, награваць. *Пе́чку то́піш, натапля́іш, адгарна́іш углі напе́рат.* Карпавічы.

**НАТАРАРА́ХАЦЬ** *зак. перан.* Натарахцець, набалбатаць. *Яна́ пры́дзіць і натарара́хаіць, во балаго́лка.* Заазер'е.

**НАТАРГО́ЎВАЦЬ** *незак.* Гандляваць. *Я съма́ нътарго́ўвыла пірышка́мі.* Сянно.

**НАТА́РКІВАЦЬ** *незак.* Напіхваць. *Мя́са для каўба́с ната́рківалі ў сцякло́ – на верх ат ла́мпы кішэчку надзе́ніш – і напіха́еш.* Міцюкова.

**НАТА́РКАЦЬ** *незак.* Напіхаць, набіваць. *Ра́ньшы нъта́ркъіш мътра́с сало́май.* Запруддзе.

**НАТА́ЎКАНЫ** *дзеепрым.* Напханы, набіты. *Ната́ўкънья мътра́сы былі.* Запруддзе.

**НАТА́ЎКАЦЬ** *незак.* Натаўчы. *Ната́ўкалі кано́плі, зва́лі маслёнка.* Багданава.

**НАТАЎЧЫ́** *зак.* Натаўчы. *Ці які́х там ба́ба кармо́ў натаўкла́?* Запруддзе. *Натаўчэ́ш у сту́пі, нава́рыш, звёрху сабіра́еш, як сміта́на, дзягно́ – і е́лі гёдак.* Гарадзец, Чуцькі.

**НАТА́ЦЫЯ** *ж.* Настаўленне, павучанне. *Я дзе́цям ната́цыю даю́, кап гро́шы ні бра́лі.* Нямойта.

**НАТАЧЫ́ЦЬ** *зак.* Навастрыць. *Яе́ нато́чыш, то бу́дзіш брыцца нъ кръсату́!* Запруддзе.

**НАТКА́НЫ** *дзеепрым.* Натканы. *Ручнікі́ нъткáныя і вышыва́ныя.* Ракаў Засценак.

**НАТКА́ЦЬ** *зак.* Наткаць. *К Кълядъм на́да мушчы́нам нъткáць нъ штаны́.* Багданава, Партызаны.

**НАТО́П** *м.* Слой нанесенай абуткам і ўтаптанай гразі. *У ха́ці нато́пы павы́ражыш, гэ́та гра́зь, сто́лькі нано́сілі, што здыма́ць трэ́ба.* Багданава.

**НАТО́РГАЦЬ** *зак.* Набіць. *Наблыша́ніў ягó, нато́ргаў, набі́ў.* Запруддзе.

**НАТО́РКАЦЬ** *зак.* 1. Наторкаць, уваткнуць. *У Ду́ха, на Тро́йцу ўся́ку зе́лень ста́вілі, усе́ бэ́лькі нато́ркаеш – клён, рабі́на, лі́па, дуб, каб ліст бо́льшы быў.* Міцюкова, Неўгадава. 2. Напхаць, накласці. *Ба́ба клёвіру ў мяшо́к нато́ркъйіць і пъшла́.* Багданава, Міцюкова. 3. Пасадзіць, пасеяць. *Нато́ркаю бурачко́ў.* Міцюкова. *Нато́ркала часнаку́.* Вялікі Азярэцк, Самсоны.

**НАТРА́ПІЦЬ** *зак.* Натрапіць, выпадкова ўбачыць. *Як нътра́піш на тако́е – страх.* Дольдзева.

**НАТРЭ́СЦІ** *зак.* Натрэсці. *Вядро́ натрасе́ць ма́ку, з ма́кам ла́дкі ду́жа сма́чныя.* Чуцькі.

**НА́ТТА** *прысл.* Надта, вельмі. *На́тта хі́тры, пра́ма ў ягó усё маме́нтам стро́іцца.* Вялікі Азярэцк.

**НАТТА́ЧЫВАЦЬ** *незак.* Надточваць, рабіць даўжэйшым. *Ні на́да было́ до́шку натта́чываць.* Нямойта.

**НАТУ́ГА** *ж.* Натуга, празмернае напружанне. *Ці ат нату́гі, ці ат чаго́ забале́ла спіна́.* Міцюкова.

**НАТУ́ЗАЦЬ** *зак.* Наракаць. □ *Прагуля́ў ле́та – нату́зай нъ вале́та.* Заазер'е.

**НАТУ́РА** *ж.* 1. Характар. *Ну, хай на ме́сяцы застрэ́ляць, ну ні зда́мся ш, во така́я нату́ра была́!* Леснікова, Міцюкова. 2. Прывычка. *І цяпе́р вы́рабатаная нату́ра у чаты́ры часы́ паднíма́цца.* Апечкі.

**НАТУ́РЛІВЫ, НАТУ́РЛІВЫЙ** *прым.* 1. Натурысты, наравісты. *Нату́рлівый конь, а той лянíвый, ня йдзець.* Рассвет. 2. Упірысты, упарты. *Нату́рлівы ма́ліц, ня слу́хаіцца.* Фасаўшчына.

**НАТУШЫ́ЦЬ** *зак.* Натушыць. *У ма́сла зайца́ нату́шыць – хараш́о!* Багданава.

**НАУГО́ЛЬНІК** *м.* Вугольнік; лінейка ў форме трохвугольніка (?). *А ге́та наугo´льнік.* Марозаўка.

**НАЎДО́БІЯ** *н. зб.* Старыя, хворыя людзі. *Е́хылі ды ба́бы лячы́цца, на́ша наўдо́бія, стар'ё!* Заазер'е.

**НАЎКЛІ́Н** *прысл.* Клінам, наўскос. *Наўклі́н атрэ́жуць сукна́, адзі́н загну́ць, другі́ клін – вастрано́сы.* Нямойта.

**НАЎМІЦЬ** *зак.* Навесці на думку, навучыць. *Жэ́нשчына трасе́цца: як цябе́ Бог наўмі́ў.* Каралевічы.

**НАЎПРАМІ́К** *прысл.* Напрамкі, напрасткі. *Наўпрамі́к іду́, ні пъ даро́зі.* Гарадзец.

**НАЎПРАМКУ́** *прысл.* Тое ж. *Наўпрамку́ ле́тнікам у Замо́шша ня про́йдзіш.* Ульянавічы.

**НАЎПРО́ЦІ, НАЎПРО́ЦЬ, НАПРО́ЦЬ, НАЎПРО́ЦІЎ** *прысл.* 1. Насупраць. *Яны́ наўпро́ці жыву́ць.* Апечкі. *Есць ніба́льшая сро́тственніца, наўпро́ць жыве́ць.* Багданава, Рулёўшчына. 2. Супраць. *Мы наўпро́ціў пірастро́йкі.* Гарадзец. 3. *прыназ.* Напярэдадні. *А на Па́ску ён* [Хрыстос] *у двіна́ццаць часо́ў но́чы аджы́ў, у сыбо́ту, наўпро́ць нядзе́лі.* Буй. *Наўпро́ціў субо́ты як схваці́ла* [жывот], *с пятніцы на субо́ту.* Леснікова. 4. *прыназ.* Насупраць. *А тут, напро́ць пе́чы, як схапі́ла.* Леснікова. *Дачка́ напро́ць мъгазі́на жыве́ць.* Багданава.

**НАЎРА́Д** *часц.* Наўрад. *Врач тады́ ка́жыць: «Наўра́д што бу́дзіт».* Багданава, Міцюкова.

**НАЎРО́ДЗЕ, НАЎРО́ДЗІ, НАЙРО́ДЗІ** *злучн.* 1. Што, нібы. *Чу́ла, наўро́дзі ву́галь бяру́ць.* Леснікова, Нямойта. *Я чу́ла, найро́дзі бу́льбу адсю́да бяру́ць.* Нямойта. 2. *часц.* Нібы, быццам. *Наўро́дзе у яе́ быў рак – паме́рла.* Вялікі Азярэцк.

**НА́ЎРЫШЧА** *н.* Напасць, навала; неспрыяльны момант. *На́ўрышча тако́я на во́чы на́йдзіць* [і чалавек сурочыць]. Запруддзе.

**НАЎРЭ́Д** *прысл.* Назло. *Наўрэ́д дзе́лаіць, вя́каіць і вя́каіць, што парціза́нская сям'я́.* Нямойта.

**НАЎСКАПЫТА́** *прысл.* Наўскач, галопам, вельмі хутка. *Быстра ляці́ць конь галёпам, наўскапыта́.* Фасаўшчына.

**НАЎСКАСЯ́К** *прысл.* Наўскасяк, наўскос. *Дзе́лаліся зало́пкі, нъўскъся́к, у страсе́.* Гарадзец.

**НАЎСКІ́Д** *прысл.* Араць наўскід – спосаб ворыва ад сярэдзіны да краёў загона, пры якім пласты зямлі складваюцца адзін да аднаго. *Агаро́д у мяне́ ні́зкі – усё наўскі́д ара́ць на́да.* Дольдзева. *Наўскі́д і раскі́д, наўскі́д, як пасяро́д гъня́юць баро́зны.* Гарадзец, Міцюкова, Мянюцева, Сукрэмна, Цясішча, Закур'е.

**НАЎСКО́СЬ** *прысл.* Наўскос, наўскасяк. *Для таго́, штоп кыса́ чы́ста бры́ла, на́да наўско́сь зрэ́заць кане́ц кася́.* Гарадзец, Леснікова.

**НАЎСЦЯ́М** *прысл.* Усляпую, навобмацак. *Я наўсця́м, пра́ма йду, зна́ю хаду́, зна́ю, што кънча́йіцца тут стол* [дзед страціў зрок]. Міцюкова.

**НАЎЦЁКІ** *прысл.* Наўцёкі. *Усмалі́лі мужыку́ – і наўцёкі, па той раз бі́цца не стаў.* Алексінічы, Вялікі Азярэцк, Дольдзева.

**НАЎЧЫ́ЦЕЛЬ** *м.* Настаўнік. *Наўчы́цель, і ні́чо́га вам ні гаво́рыць?* Дольдзева.

**НАЎЧЫ́ЦЦА** *зак.* Навучыцца. *І я ні нъўчу́ся нічо́га. Я ш наўчы́лася ўжо так, ён мне расказа́ў, і я пъняла́.* Багданава.

**НАФУФЫ́РЫЦЦА** *зак.* Прыбрацца, прыфранціцца. *Малады́я жанчы́ны нафуфы́рацца, як дзе́ўкі.* Партызаны.

**НАХА́БА** *агульн.* Нахаба, нахабны чалавек. *Наха́ба, гра́зная іна́.* Марозаўка.

**НАХАДЗІ́ЦЦА** *незак.* Знаходзіцца, трапляць. *Нъхадзі́ўся ёй адзі́н, алі́ іна́ ні зъхаце́ла зъ яго́ ісці́. Адзі́н нахадзі́ўся, сагласі́ўся паъкасі́ць, ды гарэ́лкі ўзяць дзе.* Заазер'е, Партызаны.

**НАХАДЗІ́ЦЦА** *зак. іран.* Нахадзіць. *Як далёка пастро́йіціся, то я нъхажу́сь* [глядзець дзяцей]. Гарадок.

**НАХАДЗІ́ЦЬ** *незак.* Нацякаць, набягаць. *Ско́льки ні вылiва́лі ваду́, услёт вьда́ нахо́дзіць.* Мянюцева.

**НАХАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Натаптаць, нанесці бруд абуткам. *Як ціпе́р, дык у лапця́х бы і ў ха́ту ні пусцілі: і нахлёпаюць, і нахо́дзяць.* Багданава.

**НАХА́ЛЬСТВА** *н.* Нахабства, непрыстойнасць. *Нікако́га наха́льства ні было́!* Станюкі.

**НАХАПА́ЦЬ** *зак. перан.* Наха́паць, атрымаць у вялікай колькасці. *Маладу́ха гро́шай нахапа́ла.* Каралевічы.

**НАХАПУ́** *прысл.* 1. Похапкам, вельмі хутка. *Нахапу́ лiтры тры насабiра́ла я́гад.* Гарадзец. 2. На ходу. *Нахапу́ ры́бу чы́сціла.* Міцюкова. *Нахапу́, мо́жа, кампо́т с пара́чак вы́п'еце.*

**НАХА́РКАЦЬ** *зак.* Адкласці жабурынне. *Мы́лі ікро́й, яны́* [жабы] *ікро́й наха́ркаюць, слізка так, як кро́пелькі ма́лінькія, чо́рнінькія, дык мы мы́лі твар, каб зага́ру ні бая́цца.* Багданава.

**НАХВАСТА́ЦЦА** *зак.* Нахвастацца (венікам). *Напа́рымся, нахво́шчымся, у раку́ хадзілі абмыва́цца.* Серкуці.

**НАХІ́Л** *м.* Нахіл, пакатая паверхня. *На сцяну́ ло́жыцца даска́ і патпіра́цца упо́рам, штоб ні было́ нахі́ла.* Нямойта.

**НАХІЛІ́ЦЦА** *зак.* Нахіліцца, пакасіцца. *Стаўбы́ нахіліліся, адзі́н нахіснуўся, ве́цір мо́жа дуне́ць, ён пьва́ліцца.* Фасаўшчына.

**НАХІНУ́ЎШЫСЯ, НАХІНУ́ЎШЫЙСЯ** *дзеепрым.* Нахілены. *У рэ́чкі быў куст ньхінуўшыся. Лазо́вый куст нахіну́ўшыйся быў.* Багданава.

**НАХЛЁПАЦЬ** *зак.* Натаптаць. *Як ціпе́р, дак у лапця́х бы ў ха́ту ні пусцілі, і нахлёпаюць, і нахо́дзюць.* Багданава.

**НАХЛІБА́ЦЦА** *зак.* 1. Насёрбацца, нахлябтацца. *Во, ка́іць* [кажа], *юшкі нахліба́ўся.* 2. Напіцца, быць моцна п'яным. *Сьбра́ўся, у бакі́ шьта́іцца, нахліба́ўся.* Багданава.

**НАХМЫ́ЛІЦЦА** *зак.* Нахмурыцца, скрывіцца. *Нахмы́ліўся, нідаво́льны: сы́на радзіла.* Ульянавічы.

**НАХО́Д, НАХО́Т** *м.* Дзіцячая хвароба. *У дзяцёнка ру́кі як кара́ сталі́, на калёнях – ге́та нахо́д, купа́еш, жэ́ншчына пры́йдзець нячы́стая з урэ́менным – о́чэнь урэ́дна. Хто-не́будзь папі́саець, ру́кі не памы́ець, ма́ламу пастрача́ецца на паро́зе, за ручо́нку во́зьмець – нахо́д. Як нахо́д на дзяцёнка – су́чак, частацёл, кара́, шулупы́ ад яе́чак, што піскля́т выво́дзіць, жалезіну хто ло́жыць, накры́ць, не аткрыва́ць, пака́ не асты́нець, купа́ць.* Каралевічы. *Як нахо́т, свірбата́ тады́ бува́іць: нільзя́ было́ стая́ць на паро́зі, а кап хто хадзі́ў.* Дольдзева.

**НАХО́ДЗІЦЬ, НАХАДЗІ́ЦЬ** *незак.* 1. Надыходзіць, набліжацца. *Вісна́ нахо́дзіць, цёпла.* Дольдзева, Запруддзе. 2. Находзіць, насоўвацца. *Тут як на падра́дзе, во́блака нахо́дзіць, бу́дзіць се́на ўбіра́ць.* Фасаўшчына.

**НА́ХРЭСЬ** *прысл.* Накрыж. *У льпця́х вяро́вачкі здзе́лаюць, тут на́хрэсь, кап ні скіда́ўся.* Гарадзец.

**НАХУВА́ЦЬ** *зак.* Скласці, схаваць. *Накасі́ў ужо́ пьраво́га се́на і нахува́ў.* Запруддзе.

**НАЦАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Нацадзіць. *У кубаркі мьлька́ ньцадзіла.* Багданава.

**НАЦЕГА́ЦЦА** *зак.* Нацягаць, нанасіць. *На ўсё ваду́ ні нацега́іся.* Вялікі Азярэцк.

**НАЦЕ́РЦІ** *зак.* Нацерці. *Хварэ́лі, гълаву́ цыбу́лінай натрэ́ш.* Багданава.

**НАЦІ́НА** *ж.* 1. Сцяблы агародніны. *Каро́ві даюць бура́к і націну.* Багданава, Кляпчэва, Леснікова, Чуцькі. 2. Водарасці. *У во́зеры сіняя наці́на бува́іць.* Багданава.

**НАЦІРА́ННЕ, НАЦІРА́ННЯ** *н.* Націранне. *Націра́нне з бэ́зу.* Сукрэмна. *З мыхамо́ра дзе́лыюць нъцірання ат рымаці́зму.* Багданава.

**НАЦІРА́ЦЦА** *незак.* Націрацца. *Хварэ́лі біз дахтаро́ў, рэ́цькай націра́ліся.* Багданава.

**НАЦІРА́ЦЬ** *незак.* Націраць. *Пало́ву змята́лі, мятло́й націра́лі, мятло́й на́да націра́ць.* Дольдзева. *А чым ні націра́ла, ніч́ога по́мачы німа́.* Галашчакіна, Заазер'е, Нямойта, Фасаўшчына.

**НАЦІ́СНУЦЬ, НАЦІ́СНАЦЬ** *зак.* 1. Націснуць. *Ка́менем наці́сні. Як у сы́рны мяшо́к дзе́лылася, пячо́нку туды́, і націска́юць.* Нямойта. 2. Выціснуць. *Тры́ццаць лі́траў со́ку наці́снала.* Нямойта. 3. Узмацніцца. *Шчэ маразы́ наці́снуць.* Нямойта.

**НАЦУМБІ́РЫЦЦА** *зак. экспр.* Напхацца, наесціся ўволю. *Нацумбі́рылася, сы́тая, нае́лася да тва́ла.* Фасаўшчына.

**НАЦЭ́ЛІЦЬ** *зак.* Прыцэльвацца. *Вінто́ўку сніма́іць* [немец], *нацэ́ліць у меня́, я закамяне́лася.* Міцюкова.

**НАЦЯ́ГАВІЧ** *м.* Клінок у палатняным навоі. *Нацягавіч – з дзі́рачкай, вяро́вачкай.* Гарадзец. *Нацягавіч ма́ліньки, наво́йчык нацягваў.* Вялікі Азярэцк. *Нъ*[ы] *наво́йі* [палатняным] *збо́ку, як зу́бы, і нъця́гъвіч быў.* Заазер'е.

**НАЦЯ́ГВАЦЬ** *незак.* Насычацца. *Хларафо́с нацягваіць у бу́льбіну, уся́кая трава́ нъця́гваіць усю гэ́ту атра́ву.* Вялікі Азярэцк.

**НАЦЯ́ГВАЦЬ** *незак.* Усцягваць. *Нъ пътало́к нъця́гвалі кастру́.* Багданава, Партызаны.

**НАЦЯГНУ́ЦЬ** *зак.* Зрабіць вышкі (насціл у хляве). *На́да нъцягну́ць хлеў: на бэ́лькі – апо́лкі, до́скі, жэ́рдзі.* Гарадзец.

**НАЦЯЖО́К** *м.* Прылада для нацягвання шын на кола. *У ку́зні быў нъцяжо́к нъця́гыць шы́ну ны кылясо́.* Фасаўшчына.

**НАЦЯЖЭ́ННЕ** *н.* Прадмет для нацяжэння палатна ў пілцы. *У пілцы пълатно́, распо́рка* [драўляная частка], *нъцяжэ́ння* [вяровачка] *пълатна́.* Фасаўшчына.

**НАЦЯНЬКІ́** *прысл.* Нацянькі, напрасткі. *Нацянькі́ пашо́ў.* Дольдзева.

**НАЦЯРПЕ́ЦЦА** *зак.* Нацярпецца. *До, уся́кага нацярпе́лася.* Савінічы, Серкуці.

**НАЦЯСА́ЦЬ** *зак.* Начасаць. *Дзірвя́ныя былі баро́ны, хто з ду́бу наце́шыць кляцо́ў, а тады́ скаро́дзіць.* Нямойта.

**НАЦЯ́ЦЦА** *зак.* Настояць. *Націла́ся жо́нка, кап там разабра́ць шчыт.* Багданава, Партызаны, Рэчкі.

**НАЦЯЧЫ́** *зак.* Успухнуць. *Ба́цька па лбу ўлупі́ў, і нъцяклі́ гузакі́.* Багданава.

**НАЧАВА́ЦЬ, НУЧУВА́ЦЬ** *незак.* Начаваць. *А цяпе́р ма́тка до́ма начу́іць.* Ракаў Засценак, Савінічы. *Быў суд: я, ку* [кажу], *не нучува́ў ён тут.* Запруддзе, Багданава, Вялікі Азярэцк.

**НАЧА́ЛЬНІК** *м.* Начальнік. *Ён нача́льнікам нат ахо́тнікамі.* Заазер'е.

**НАЧА́ЛЬСТВА** *н. зб.* Начальства. *Нъча́льства – што ў су́чкі блох!* Пустынкі, Леснікова.

**НАЧАПА́ЦЦА** *зак.* Начапляцца. *Су́чкі нъчапа́юцца.* Буй, Міцюкова.

**НАЧАПЛЯ́ЦЬ** *незак.* Чапляць, навешваць. *Як пяру́н, мълъння́, на рызе́тку нача́плюю гало́шы.* Запруддзе.

**НАЧАРАВА́ЦЬ** *зак.* Начараваць. *Начару́іць чараўніца, вужа́ку ў хлеў напра́віць.* Ракаў Засценак.

**НАЧА́ЦЦА** *зак.* Пачацца. *Паку́ль дзед правёў нас, дзянёк нача́ўся.* Алексінічы.

**НАЧА́ЦЬ** *зак.* Пачаць. *Начну́ць жаць.* Міцюкова. *Стох начне́ць, пъка́ ні ко́нчыць, дзе́лаіць.* Нямойта.

**НАЧНА́Я** *ж.* Начная змена. *І ў начну́ю хадзілі, каб бо́лее трудадне́й заро́біць.* Багданава.

**НАЧНІ́К** *м.* Чалавек, які не спіць уначы. *Не мужы́к у яе́, а начні́к.* Каралевічы.

**НАЧНІ́ЦА** *ж.* Тое ж. *Начні́ца ты, чаго́ пъ нъча́м хо́дзіш.* Дольдзева.

**НАЧНІ́ЦЫ, НАШНІ́ЦЫ** *толькі мн.* Дзіцячая хвароба, калі дзіця не спіць і крычыць па начах. *Птушы́ныя я́йцы нільзя́ ўспаміна́ць пъсля за́хъда со́нца, бо начні́цы пъяду́ць* (павер'е). Дольдзева. *Бывáла, ста́ръя ба́пка бярэ́ць дзіцёнка ў падо́л і нясе́ць, дзе ку́ры съдзя́цца, дзе крусо́дня, і там пъла́юць яго́ ў по́дале, начні́цы выгъня́юць.* Заазер'е. *Начні́цы – бале́сь да двіна́ццаці нядзе́ль: ня сьпіць дзіця́, крэ́кчыць. І тръва́ ат начні́ц быва́іць.* Партызаны. *Нашні́цы – е́та у рабёначка, як хо́дзіць* [маці] *у палажэ́нні і сабáку наго́й, то чэ́шацца тады́ рабёнку.* Запруддзе. *Начні́цы у дзяцёнка – го́лку то́ркаеш, нажні́цы пад гало́ўку, по́ліш у падо́лі: Палю́ начні́цы, начні́цы пала́ю. Палі́ бо́лей, каб не было́ ніко́лі* (з замовы). Багданава. *Начні́цы – дзяцёнак не спіць, і у фартуха́х паъла́юць перад за́хадам со́нца, каб спа́лі спако́йна: «Начні́цы-цямні́цы, да́йце спако́ю майму́ сыні́цы»* (з замовы). Фасаўшчына.

**НАЧНІ́ЦЫ** *мн.* Трава. *Начні́цы – адна́ жэ́нская, друга́я мужчы́нская, нападо́біе румáшкі, адна́ травіна́ све́тла-сіняя, друга́я разаве́йшая.* Багданава, Каралевічы.

**НАЧО́САВЫ** *прым.* Начосны, з начосам. *Узіла́ начо́савыя штаны́, яны́ це́сныя.* Нямойта.

**НАЧО́СКА** *ж.* Адзёр, кароста. *Начо́ска по́сля вайны́ ў дзяце́й была́.* Партызаны.

**НАЧО́ЎКІ** *толькі мн.* Начоўкі, ночвы. *Як уну́чка радзілася, начо́ўкі здзе́лаў.* Вялікі Азярэцк. *Каб уго́лле ні валі́лася, ста́вілі каля све́таша начо́ўкі.* Багданава, Дольдзева, Заазер'е, Каралі, Кляпчэва, Манголія, Міцюкова, Фасаўшчына, Закур'е, Неўгадава. НАЧО́ВАЧКІ *памянш. Прапала́ець абто́ўчаныя кру́пы* [ячмень] *у начо́вачках.* Гарадзец.

**НАЧУВА́ЦЬ** *зак.* Начаваць. *Начува́лі рыбакі́, на ву́ду лаві́лі.* Багданава.

**НАЧУДЗІ́ЦЬ** *зак.* Пажартаваць. *Нач́удзіць абы-чаго́.* Савінічы.

**НАЧЫКУ́** *прысл.* Напагатове. *Усі́х начыку́* [трэба] *дажыда́ць, калі́ каніку́лы.* Карпавічы.

**НАЧЫНА́ЦЦА** *незак.* 1. Арганізоўвацца. *Як калхо́с стаў начына́цца.* 2. Распачынацца. *Начына́ецца кадры́ля, вальс, стэп, падзіка́тр, падзіспа́нь, васаду́лі, і так пяю́ць!* Заазер'е, Нямойта.

**НАЧЫНА́ЦЬ** *незак.* Пачынаць. *С Ільі́ бу́льбу начына́й къпа́ць.* Малы Азярэцк.

**НАЧЫНІ́ЦЬ** *зак.* Начыніць, нафаршыраваць. *Начы́ніш кішку́, у лату́шычку і ў печ.* Вялікі Азярэцк.

**НАЧЫНЯ́ТЫ** *дзеепрым.* Начынены, нафаршыраваны. *Блі́нчыкі-тваро́жнікі начыня́тыя.* Жохава.

**НАЧЫ́СЦІЦЬ** *зак.* Начысціць. *Начы́сціць бу́льбы і нъ скъваро́ду, і пі́рід агнём ста́вім, жо́ўцінькая ста́ніць.* Гарадок, Нямойта.

**НАШ** *займ.* Наш. *На́шы лясы́ – За́грыда, Гайі́шча, Саро́ка.* Міцюкова.

**НАШАПТÁЦЬ** *зак.* Нагаварыць, напляткарыць. *Абó ці табé хто нашаптáў?* Нямойта.

**НÁШАСТ** *м.* Курасадня, седала. *Нáшасты для курэ́й у курáтніку.* Марозаўка.

**НАШАТКАВÁЦЬ** *зак.* Нашаткаваць, дробна пакрышыць. *Дзéжку нашаткавáлі капýсты.* Закур'е.

**НАШЛЁГ, НАШЛЁХ** *м.* Начная пасьба коней; начное. *Ішóў стары́к ат кóней, йішóў ён з нашлёга, і чэ́рці ягó пъдлавілі.* Багданава *Пáсьцілі сáмі, на нашлёх ёздзілі – кóні вадзілі пáсьціць.* Алексінічы, Баравікі, Буй, Вялікі Азярэцк, Нямойта, Партызаны, Ракаў Засценак.

**НАШЛЁЖНІК** *м.* Той, хто часова начуе. *Пілнýй нашлёжнікуў, кап што ні ўкрáлі.* Неўгадава.

**НАШЛЁПКАЦЬ** *зак.* Нашлёпаць. *Па макýшцы нашлёпкала.* Нямойта.

**НАШМÓРГАЦЬ, НАСМÓРГАЦЬ** *зак.* Нашморгаць, нарваць. *Бранéц – чóрнінькія ягъ$^{ы}$ды, вядрó нашмóргаем тагó бранцá і ядзім, і сýшым йго, і вадóй запівáлі.* Багданава. *Лебядý, клéвер насмóргаець, галóвачкі.* Кляпчэва, Партызаны.

**НАШТÓ** *прысл.* Навошта. *А ты с кóжы выскáкваіш наштó?* Каралевічы.

**НÁШЧА** *прысл.* Нашча. *Нáшча прыдзі – загаварý жывóт.* Багданава. *Нáшча павілá спавідáць.* Каралевічы.

**НАШЧЫПÁЦЬ** *зак.* Нашчыпаць, нарваць. *Цыбýлі нъшчыпáла, пéр'я нашчы́піш, таўкýць.* Гарадзец. *Вішні нашчыпáў.* Кляпчэва, Чуцькі.

**НАЯВЎ** *прысл.* Наяве. *Вось і убáчыла лáску жывýю наявý.* Міцюкова.

**НЕ** *часц.* Не. *Ці ты бýдзіш, ці ты не? Ну, трóшку пабýду і спаць, а не, прыхóдзіш ужó зълагáіць.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Карпавічы.

**НÉА** *часц.* Не. *Сушы́ць – нéа, ні сушы́лі сураéжкі.* Дольдзева, Запруддзе, Партызаны.

**НЕАПАРÁДЧАНЫ, НЕАПАРÁТЧАНЫ** *дзеепрым.* 1. Непрыбраны, не прыведзены ў парадак. *Хáта неапарáтчаная.* Вялікі Азярэцк. 2. Неапрацаваны. *За вóзерам – Вялíкая нíва, янá былá неапарáдчаная.* Багданава.

**НÉАТКУЛЬ** *прысл.* 1. Неадкуль. *Нéаткуль бýльбы прывéзці.* 2. Невядома адкуль. *Кóні нéаткуль штýкі чаты́ры прывязлí.* Вялікі Азярэцк, Гарадзец.

**НÉБА** *н.* Неба. *Такі ўжо залівéнь быў, кáжъм: «Ну, пръврáлься нéба».* Міцюкова.

**НЕБАЛЬШЫ́, НІБАЛЬШЭ́Й** *прым.* Невялікі. *Там небальшэ́я кусты́.* Гарадзец, Леснікі. *Нібальшэ́й дом.* Гарадзец. НЕБАЛЬШЭ́НЬКІ, НІБАЛЬШЭ́НЬКІ, НІБУЛЬШЭ́НЬКІ, НЕБАЛЬШЭ́НЕЧКІ *памянш. Тут небальшэ́нькі лес.* Багданава. *Небальшэ́нькі сабáчка, а дóбры.* Запруддзе. *Мáліц нібальшэ́нькі, ёй па плéчы.* Рэчкі. *Быў красíвенькі сабáчка і нібульшэ́нькі.* Запруддзе. *Хáтка ў яé небальшэ́нечкая.* Партызаны.

**НÉВАД** *м.* Вялікая рыбалоўная сетка; невад. *Нéвад зімóй стáвілі.* Самсоны, Закур'е.

**НÉВАШТА** *займ.* Нешта. *На нéвашта равуць лóпуху.* Чуцькі.

**НЕВЫВÓДНЫ** *прым.* Пастаянны, які не пераводзіцца. *Невывóдны ён быў, карвалóл.* Нямойта, Партызаны.

**НЕВЫГÓДА** *ж.* Невыгода. *То дошч, непагóда, а ўсё невыгóда.* Гарадзец.

**НЕДАВІ́ДЗЕЦЬ** *незак.* 1. Недабачваць, мець слабы зрок. *Нямнóга недавідзіць ён.* Апечкі. *Янá ўжо недавідзець.* Вялікі Азярэцк. 2. Нічога не бачыць. *Недавідзець нічóга.* Закур'е.

**НЕДАВО́ЛЬСТВІЕ** *н.* Незадавальненне. *Што ні рабі – усё раўно́ недаво́льствіе ёсць.* Карпавічы.

**НЕДАЕ́ДКІ** *мн.* Рэшткі зерня. *Недае́дкі былі, у жо́рнах мало́лі.* Каралевічы.

**НЕДАКІ́СЛЫ, НІДАКІ́СЛЫ** *прым.* Недастаткова заквашаны, ацесліві. *Недакіслы хлеб, ко́рачка атста́ла.* Гарадзец. *Збяру́цца ба́бы: сённі мой хлеб ні ўда́ўся, нідакіслы.* Вялікі Азярэцк.

**НЕДАКІ́ШШЫ** *дзеепрым.* Тое ж. *Недакішшы хлеб, абсе́ў, аце́сліві.* Міцюкова.

**НЕДАЛЁЧКА, НЕДАЛЕ́ЧКА, НІДАЛЁЧКА, НІДАЛЕ́ЧКА** *прысл.* Недалёчка, зусім побач. *У нас тут недалёчка рэ́чка.* Розмыслава. *Там недале́чка і се́на касіў.* Кішуроўшчына. *Нідалёчка лес, малі́ны хоць грабі́, бе́ла цвіце́ла.* Баравікі, Багданава, Гарадзец, Запруддзе, Леснікова. *Нідале́чка быў лес.* Мянюцева.

**НЕДАПЕ́ШНЫ** *прым.* Нікудышны, недарэка. *Хоць які недапе́шны муш.* Каралевічы.

**НЕДАСЛЫ́ШАЦЬ** *зак.* Недачуць. *Стара́я ўжо, і недаслы́шыш калі.* Вялікі Азярэцк.

**НЕДЗВІЖЫ́МЫ** *прым.* Нерухомы. *Як пяру́н б'ець, лу́ччы, каб недзвіжы́мы быў.* Вялікі Азярэцк.

**НЕЖЫВЫ́, НІЖЫВЫ́** *прым.* 1. Нежывы, мёртвы. *Пашла́ ў сад, але́ ўсе ш пчо́лкі мае́ нежывы́я.* Леснікова. *Ма́льчыка ніжыво́га радзі́ла.* Заазер'е. 2. Пазбаўлены карысных рэчываў. *Кіпячо́ная вада́ – нежыва́я.* Каралевічы. ◊ ЯК НЕЖЫВЫ́. Вельмі марудна, павольна. *Ідзе́ як нежывы́.* Серкуці.

**НЕЗАГАРЭ́ТЫ** *дзеепрым.* Незагарэлы. *Дзе́ці гарадскія бе́ленькія, незагарэ́тыя.* Гарадзец.

**НЕЗАРАЖО́НЫ** *дзеепрым.* Не падвергнуты радыеактыўнаму забруджванню. *Зна́еш, што свае́ я́йцы незаражо́ныя, ад сваі́х курэ́й.* Цясішча.

**НЕЗАПІЧА́ТАНЫ** *дзеепрым.* Незапячатаны (пра мёд). *Незапіча́таны мёт негато́вы.* Вялікі Азярэцк.

**НЕ́ЗАШТА** *займ.* Няма за што. *І не́зъшта, і не́гдзі было́ купі́ць.* Серкуці.

**НЕЗЛОЎМЫ́СЛЕННА** *прысл.* Ненаўмысна. *Незлоўмы́сленна я здзе́лала.* Вялікі Азярэцк.

**НЕ́ЙДЗІ** *прысл.* 1. Недзе, дзесьці. *Пірынучува́лі не́йдзі у Каране́ўскім ле́сі.* Жохава. 2. Няма дзе. *Жыць не́йдзі, куда́ дзе́цца?* Запруддзе. *Не́йдзі ш ле́гчы, ніхаця́ пълажы́лі ў бальні́цу.* Леснікі. *Узя́ць не́йдзі камбіко́рму.* Багданава. *Спалі́лі дзярэ́ўню, жыць не́йдзі.* Гарадок. *Тут с канём не́йдзі развярну́цца.* Кішуроўшчына. *Дзе́цца не́йдзі той каро́ві.* Міцюкова, Нямойта.

**НЕ́ЙКІ** *займ.* Нейкі. *Да не́йкей е́здзіць. Чу́да не́йкаё.* Партызаны, Ульянавічы.

**НЕ́КАЛІ** *прысл.* 1. Калісьці. *Я не́калі къпа́ла бу́льбу.* Вялікі Азярэцк, Алексінічы. 2. Няма калі. *На́ват памя́рці не́калі.* Запруддзе, Каралі, Леснікова, Нямойта, Партызаны, Сукрэмна, Сянно, Турава, Закур'е, Неўгадава. 3. Калі-н. у будучым. *Ры́бу бу́дзім не́калі лаві́ць, ву́дзіць.* Серкуці.

**НЕКАТО́РЫ, НЕ́КАТАРЫ, НЕ́ЎКАТАРЫ, НЕ́КТРЫ** *займ.* Некаторы. *Некато́рыя сабе́ й ка́жуць: дай бох урыжа́й!* Гарадок. *Не́кътарыя ёсь у нас, па дзве каро́вы дзіржа́лі.* Багданава, Запруддзе, Гарадзец, Серкуці. *У не́ўкатарых на бе́лым налі́ве саўсе́м нямá.* Нямойта, Вялікі Азярэцк, Дуброўкі. *Смаршкі́ не́ктрыя ш ша́пку сядзі́ць, нъбяру́, нъжа́ру їіх.* Багданава.

**НЕ́КУДЫ, НЕ́КАДЫ** *прысл.* 1. Кудысьці. *Не́куды на гот узя́лі яго́, зя́ця на́шъга.* Гарадзец, Партызаны. 2. Некуды, няма куды. *Ра́ньшы мно́га чаго́ ні са-*

*дзілі, некады было.* Каралі. ◊ ДАЛІ НЕКУДЫ. Лепш не можа быць. *Піскун водзіцца ў балоцістых містах, у Сукрэмінскім, Рубуўскім, Замышанскім азёрах. А ўкусныя далі некуды.* Сянно.

**НЕЛЬГА** *прысл.* Нельга, немагчыма. *Сляпні заелі, кароў нельга падаіць.* Запруддзе, Розмыслава, Сянно.

**НЕЛЮДЗІМЫ** *прым.* Нелюдзімы, непрыветны, нетаварыскі. *Нелюдзімыя, цяпер усі па хатах, у той канец ніхто не ходзіць.* Багданава.

**НЕЛЮДЗЬ** *м.* Нелюдзь, нелюдзімы чалавек. *Ну што ты маўчыш, як нелюдзь?* Фасаўшчына.

**НЕМА** *прысл.* Нема, гучна, з усіх сіл. *Карова нема равець, як дойдзе да хаты.* Каралевічы. *Равеш ты нема, як бык.* Вялікі Азярэцк, Міцюкова.

**НЕМАЧ** *ж.* Немач, знямога, хвароба. *Кап табе век не было немачы! Каб на вас немач напала!* (праклён). Дольдзева, Фасаўшчына.

**НЕМІЦ** *м. зб.* Немцы. *Як неміц прыйшоў, тады ўжо дзялілі зямлю.* Леснікова.

**НЕМКА** *ж.* Нямая. *Гэтая баба немка, трох дзяцей мела.* Гарадзец.

**НЕМОЖНА** *прысл.* Немагчыма, нельга. *Иеможна пралесці – тькая гусцеча.* Кішуроўшчына.

**НЕМУДРАНЫ** *прым.* Немудрагелісты, просты. *Немудраная была у яе хатка.* Савінічы.

**НЕМУДРАШЧЫ** *прым.* Неразумны, псіхічна хворы. *Ё немудрашчы сын адзін.* Кавалі.

**НЕНАДЗЕЙНА, НІНАДЗЕЙНА** *прысл.* Знянацку, нечакана. *Ненадзейна яны* [немцы] *наляцелі, дзяцей пабілі, бабу ранілі.* Буй. *Нінадзейна немцы панаехалі.* Леснікова.

**НЕНАЛІТЫ** *дзеепрым.* Неналіты, пусты. *Стаяць чарачкі неналітыя, / Некаму іх налівацi* (з песні). Каралевічы.

**НЕПАВАРОТЛІВЫ** *прым.* Марудны, непаваротлівы, няўклюдны чалавек. *Цяльпук, каторы непаваротлівы.* Багданава.

**НЕПАВІДНА** *прысл.* Не відаць. *Непавідна, кап вы змёрзлі – маладзэя.* Каралі.

**НЕПАДПЁРТЫ** *дзеепрым.* Без падпорак. *Стаяць яблыні непадпёртыя, / Некаму падпіраці* (з песні). Каралевічы.

**НЕПІСЬМЕННЫ** *прым.* Непісьменны, бязграматны. *Нікога німа непісьменнага, усе пісьменныя.* Гарадзец.

**НЕПРЫТОМНАСЦЬ** *ж.* Непрытомнасць. *Зваліўся у непрытомньсці, як палез за савянятамі, бо напалі блохі.* Сянно.

**НЕПРЫЯЦЕЛЬ** *м.* Вораг. *Хужа непрыяцеля стаў!* Жохава.

**НЕПУЦЁВЫ** *прым.* Шалапутны, распусны, бесталковы. *Усе непуцёвыя жывуць у тых новых дамах.* Латыгаль.

**НЕРАСТ, НАРАСТ** *м.* Нераст. *У нерьст не лавілі рыбу – грэх!* Пожанькі. *Зімой нарьст іхны* [ментузоў]. Багданава.

**НЕРВ, НЕРФ** *м.* 1. Нерв. *Баліць нерв, застужываць нільзя нерв. У мяне нерф баліць.* Багданава, Нямойта. 2. *перан.* Жыццёвыя сілы. *Буду жыць, пака глаўны нерв ні перагарыць.* Жохава.

**НЕРВЕННЫ** *прым.* Нервовы, раздаражнёны. *Ён такей нервенны!* Багданава, Запруддзе, Розмыслава, Сянно.

**НЕРВЕНЫ** *прым.* Нервовае захворванне. *Німа доктара, каторы па нервеным.* Запруддзе.

**НЕ́РВНАСЦЬ** *ж.* Нервовы стан. *У нервнасці і плачу.* Каралевічы. *На нервнасці рот перакрывіла.* Апечкі.

**НЕ́РВНЫ** *прым.* Нервовы. *Можыць быць, гета ўсё на нервнуй почве атразілася.* Жохава.

**НЕ́СКУЛЬ** *прысл.* Неадкуль. *Нескуль бульбы было ўзяць, прапаўшы.* Запруддзе.

**НЕ́СКУЛЬКІ, НЕ́СКАЛЬКА** *ліч.* 1. Некалькі. *Нескулькі гадоў дзірэктара вазіў.* Багданава. *Нескулькі яблык засталося.* Запруддзе, Нямойта, Закур'е. 2. Некаторы. *Праз нескалька ўрэмя памерла.* Латыгаль, Каралевічы.

**НЕ́СЛУХ** *м.* Неслух, непаслухмяны. *Неслухі такія, етыя дзеці.* Дольдзева.

**НЕ́СЛУШ** *ж.* Тое ж. *От неслуш прыклятая, ня слухаіць нікаго!* Нямойта.

**НЕСЛЯЧЫ́МЫ** *прым.* Невылечны. *Каіць* [кажа], *што неслячымы.* Запруддзе.

**НЕ́СЦІ** *незак.* 1. Несці. *Трап'я несці трэба здаваць.* Багданава, Гарадок, Нямойта. 2. Перадаваць. *Большы прывет там нясіця.* Заазер'е.

**НЕ́СЦІСЯ** *незак.* Несціся (пра птушак). *Катора нясецца харашо, то нясушка завуць.* Вялікі Азярэцк. *Ці нясуцца куры ў цябе?* Нямойта.

**НЕТ** *часц.* ◊ НЕТ-НЕТ І. Зрэдку, час ад часу. *Пойдзеш палоць – нет-нет і трапіцца вужака на вока.* Партызаны.

**НЕЎВАРО́ТЛІВЫ, НІЎВАРО́ТЛІВЫ** *прым.* Марудны, непаваротлівы, няўклюдны. *Ох ты, пяхцель стары, неўваротлівы. Калі стары ніўваротлівы – пяхцель скажуць.* Савінічы.

**НЕЎВО́ДНЫ** *прым.* Кросны, на якія не навіта аснова. *У мяне кросны неўводныя былі.* Карпавічы.

**НЕЎМАЛО́ТНЫ** *прым.* Неўрадлівы, які дае малую колькасць. *Неўмалотная бульба, ня родзіць.* Багданава, Розмыслава.

**НЕЎМЕ́ТА** *ж.* ◊ НА НЕЎМЕ́ЦІ. На ўвазе. *У мяне ёсць на неўмеці.* Каралевічы.

**НЕХАЦЯ́, НІХАЦЯ́** *прысл.* 1. Нехаця, неахвотна. *Завязлі і нехаця палажылі.* Леснікова, Марозаўка, Турава. 2. Незалежна ад жадання. *Там ніхацяя будзем тры часы сядзець.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Нямойта. *Ніхацяя кашаль, я старая.* Чуцькі. ◊ ХАЦЯ́ НІ ХАЦІ. Незалежна ад жадання. *Знасілі мълако, хъця ні хъці, а дасі.* Гарадок.

**НЕ́ЦЕЛЬ, НЕ́ЦІЛЬ** *ж.* Цялушка, якая пакрылася і будзе цяліцца першы раз. *Неціль – эта каторая пакрылася, не цялілася, цельная, перваацёлка.* Дольдзева. *Тры гады нецелей раздаівала.* Нямойта, Партызаны.

**НЕ́ЧАГА, НЕ́ЧА** *займ.* Няма чаго, нечага. *Работалі дърма, а есці нечага.* Буй. *Неча табе сьмешачкі строіць нада мной.* Запруддзе.

**НЕЧАСТАВА́НЫ** *дзеепрым.* Нечаставаны, без пачастунку. *Сідзяць госцейкі нечаставаныя, / Некаму іх частаваці* (з песні). Каралевічы.

**НЕ́ЧЫМ** *прысл.* Нeяк, няма з чым. *Жыць тут нечым было.* Івоні.

**НЕ́ШПАР** *м.* Касцёльная служба. *Нешпар – служэнне было.* Нямойта.

**НЕ́ШТА** *займ.* Чагосьці, чамусьці, невядома чаму. *Нешта йна ні хацела ат яе браць.* Дольдзева. ◊ НЕ́ШТА НЕ́ЙКАЕ. Выключны выпадак. *Гета нешта нейкае – ня п'ець.* Ульянавічы.

**НЕШЧАСЛІ́ВЫ** *прым.* Неспрыяльны. *У канцы месяца нешчаслівыя дні.* Вялікі Азярэцк.

**НЕЯДО́МЫ, НІС'ЯДО́МЫ** *прым.* Неядомы, атрутны (пра грыбы). *У мяне неядомага німа.* Закур'е. *Гэта ніс'ядомыя грыбы.* Заазер'е.

**НЕ́ЯК, НЕ́ЕК, НЕ́ІК, НЕЙК, НЕК** *прысл.* 1. Няма як, немагчыма. *Стъра́я я, хадзіць не́як. Не́як було́ браць мне то́я са́ла.* Багданава, Гарадзец, Запруддзе, Кішуроўшчына, Машчоны, Сянно, Закур'е. *Не́ек зусім на двар́э быць.* Запруддзе. *Не́ік іці наге́, сасу́дзіна ло́пнала.* Запруддзе, Каралевічы. *І нейк вярну́ць къня́. І нъза́т з йім прые́дзіць.* Гарадок. 2. Нейкім чынам. *Нейк у гаᵛлаве́ ду́рна ста́нець.* Нямойта, Пожанькі, Сянно. *Цяпе́р нек ні так.* Багданава, Запруддзе.

**НІ** *часц.* Ні. *Ні аднае́ ха́ты ні было́, усё пагар́эла.* Алексінічы, Гарадок, Дольдзева, Запруддзе, Кішуроўшчына, Мянюцева, Нямойта, Сянно. ◊ НІ-АНІ́. Зусім. *Стра́ху ні ста́ла ні-ані́.* Нямойта.

**НІАБХАДЗІ́МАЕ** *н.* Неабходнае. *Была́ кра́ма ма́лінькая да вайны́, там то́жа было́ ніабхадзі́мае.* Леснікова.

**НІАДНАВЕ́РЧЫ** *прым.* Неспагадлівы. *Іна́ тъка́я ніаднаве́рчая – ні съзнае́ць.* Багданава.

**НІБАРА́КА** *агульн.* Небарака. *Жыве́ць пло́ха, бале́іць мно́га, нібара́ка, нага́мі бале́іць.* Савінічы, Фасаўшчына.

**НІБЫ́** *злучн.* Нібы, быццам. *Я ста́ну нъ бъразне́, нібы́ гляджу́ людзе́й.* Галашчакіна.

**НІ́ВА** *ж.* 1. Засеянае поле; надзел. *Йду я на ні́ву ці къпа́ць, ці лён браць, а та́та па́сціў.* Багданава. *Пълаві́ну ні́вы з'е́лі варо́ны, як нападу́ць, аш чо́рна.* Алексінічы, Гарадзец, Гарадок, Заазер'е, Запруддзе, Леснікова, Марозаўка, Міцюкова, Нямойта, Свечы, Серкуці, Сянно, Фасаўшчына. НІ́ЎКА *памянш. За ку́сцікамі ні́ўка – пълаві́ну ні́ўкі скасі́ла. Я ж шасна́ццаці гадо́ў пайшла́ па чужы́х ні́ўках.* Партызаны, Чуцькі. НІ́ВАЧКА *памянш. Ні́вачку аб'е́здзіць кружко́м, кусто́чкі вы́церабіць.* Баравікі. 2. Плошча памерам у шэсць гектараў. *Ні́ва бува́іць шэсь гакта́р.* Гарадок.

□ *На дЛі́ннай ні́ве ўсяк быва́іць.* Дуброўкі.

**НІВАЗМО́ЖНАСЦЬ** *ж.* Немагчымасць. *У мяне́ ніва́змо́жнасць у шырсьцяны́м хадзі́ць.* Малы Азярэцк.

**НІВІДО́ЧНЫ** *прым.* Нябачны. *Ноч наста́ніць, хваро́ба му́чыць нівідо́чная – пілітры́т.* Нямойта.

**НІВО́ДЗІН** *займ.* Ніводны. *Ніво́дзін сын ні жана́ты.* Запруддзе, Каралі.

**НІВЫХО́ДНЫ** *прым.* Які не можа выйсці. *Уну́к тут но́сіцца, каро́ва нівыхо́дна* [у садзе]. Багданава.

**НІГАНЯ́ТЫ** *дзеепрым.* Неакучаны, неабагнаны. *Бу́льба ніганя́тая, укі́сла ўся́.* Запруддзе.

**НІДАВО́ЛЬСТВІЯ** *н.* Незадавальненне, прыкрасць, непрыемнасць. *І здзе́лалі нідаво́льствія.* Фасаўшчына.

**НІДАЕ́ТКІ** *мн.* Недаяданне. *Усяго́ было́, і нідае́ткі былі́.* Вялікі Азярэцк.

**НІДАЗО́Р** *м.* Частка зямлі ў канцы загона, якая арэцца ўпоперак. *Нідазо́р ар́эш пъпяро́к.* Закур'е.

**НІДАЛЁЧКА, НЕДАЛЕ́ЧКА, НІДАЛЕ́ЧКА** *прысл.* Недалёчка, побач. *Нідалёчка лес, малі́ны хоць грабі́, бе́ла цвіце́ла.* Баравікі, Багданава, Гарадзец, Запруддзе, Леснікова. *Там недале́чка і се́на касі́ў.* Кішуроўшчына. *Нідале́чка бы́ў лес.* Мянюцева.

**НІДАЛУ́ЖНІК** *м.* Недалуга, недарэка. *Ну во ѓэтакі нідалу́жнік.* Запруддзе.

**НІДАЛУ́ЖНЫ** *прым.* 1. Недалужны, слабы, бяссільны. *Нідалу́жны, слаб́эй, забле́дыш мой Анто́н.* Самсоны. *Нідалу́жны калі-не́будзь гаво́раць, калі́ ўжо*

*хто сла́бы. Ніда́лу́жны ён, сла́бы, ста́рый.* Міцюкова, Нямойта, Фасаўшчына. 2. Няскладны, недарэка. *Ён таўсты́, як лось, а такі ніда́лу́жны: сказа́ць сло́ва ня ўме́іць, здзе́лаць нічо́га ня ўме́іць. Ніда́лу́жны, ай, не́йкі нідапёка.* Савінічы.

**НІДАМАГА́ЦЬ** *незак.* Недамагаць, нездаровіцца. *Нідамага́ю і спаць хачу́, я спужа́лася.* Партызаны.

**НІДАНО́САК** *м.* Недаsuccessfulношанае дзіця. *Дво́йню гудува́ла, ніданóскі былі́.* Івоні.

**НІДАПЕ́ЧАНЫ** *дзеепрым.* Недапечаны (пра хлеб). *Нідапе́чаны хлеб – е́та сыры́.* Нямойта.

**НІДАПЁКА** *агульн.* Недалуга, недарэка. *Ніда́лу́жны, ай, не́йкі нідапёка.* Савінічы.

**НІДАРЭ́ЧА** *ж.* Недарэчнасць, здарэнне. *У вас яка́я нідарэ́ча, туды́ абрашча́іцісь.* Фасаўшчына.

**НІДАСО́Л** *м.* □ *Нідасо́л на сталé – перасо́л на спіне́ (гълаве́).* Багданава. □ *Нідасо́л на сталé – перасо́л пад сталóм.* Ульянавічы.

**НІДАСТА́ТКІ** *мн.* Нястача, недастача. *У шко́лу хадзіла – нідаста́ткі былі́, кане́чна, у адзёжы, ва ўсім.* Багданава, Заазер'е, Запруддзе.

**НІДАСТО́ЙНЫ** *прым.* Не варты ўвагі, добрых адносін. *А ён гаво́рыць: нідасто́йна іна́.* Леснікова.

**НІДАТРО́ГА** *агульн.* Недатыка. *Нідатро́га така́я, капры́зная.* Савінічы.

**НІДАЎЗДАК** *м.* Вуздэчка без цугляў для прывязвання каня; кантар. *На абрыці мо́жыць атарва́цца конь, а на ніда́ўздку не.* Гарадзец.

**НІДА́ЎНА** *прысл.* Нядаўна. *І дом ніда́ўна стро́йны згарэ́ў.* Чуцькі, Закур'е.

**НІДЗВІ́ЖЫМЫ** *прым.* Нерухомы. *Быў тры ме́сіцы нідзьві́жымы.* Рэчкі.

**НІДЗЕ́** *прысл.* Нідзе. *Німа́ цэ́рквяў тут нідзе́.* Заазер'е, Нямойта, Малы Азярэцк, Партызаны.

**НІДО́ІНЫ** *дзеепрым.* Нядоены. *Каро́ва шчэ нідо́іна.* Кляпчэва.

**НІДРА́НЫ** *дзеепрым.* Нядраны, нераскублены (пра пер'е). *Нідра́ную паду́шку здзе́лаіць і сьпіць на пі́льшчыках.* Багданава.

**НІДУЎГАВЕ́ШНЫ** *прым.* Недаўгавечны, які мала пражыў. *Между гэ́тых быў ма́льчык, паме́р, нідуўгаве́шны.* Гарадок.

**НІЕ́ЎШЫ** *дзеепрым.* Непад'еўшы, галодны. *Хоць ніе́ўшы, але́ ж весялéй было́.* Буй.

**НІЖА́РКІ** *прым.* Цёплы, негарачы. *Ніжа́ркі чай, то́лькі вы́несла.* Вялікі Азярэцк.

**НІЖДА́НА** *прысл.* Нечакана, знянацку. *Хто-хто нінадзе́йна, ніажы́данна я́віцца, ніжда́на.* Леснікова.

**НІ́ЖНІ** *прым.* Ніжні, які знаходзіцца ўнізе. *Ні́жні ка́мень у жо́рнах, ве́рхні.* Міцюкова. *Як ні́жні зуб вы́падзіць, то кі́даюць на пе́чку.* Нямойта, Фасаўшчына.

**НІЖЭ́Й, НІ́ЖЫ** *прысл.* Ніжэй. *У каго́ гаро́ды ніжэ́й, там хъладне́й, там ні так жуко́ў.* Нямойта. *Вязьмо́, а ні́жы каме́ль. Каме́ль ні́жы візьма́.* Гарадзец.

**НІЗ** *м.* 1. Сподняе адзенне. *Усё ручно́е: і ніз і верх, ні було́ ла́вашнага.* Багданава. 2. Нізіннае месца. *Во зальéць, так мо́жыць на ніза́х пагні́ць.* Запруддзе. *На нізу́ у нас рэ́чка Брус была́.* Буй.

**НІЗАВО́ШТА** *прысл.* Дарма. *Нізаво́шта, за дарма́ рабо́талі.* Ульянавічы.

**НІ́ЗАМ** *прысл.* Нізам, па нізкіх месцах. *Ні́зам за́йцава капу́ста ў ле́се.* Багданава.

**НІЗАСЕ́ДЛІВЫ** *прым.* Жвавы, рухавы. *Такі́ дзед нізасе́длівы, крэ́пка рабі́ў, усё дзе́лаў.* Багданава.

**НІЗАШТО́** *прысл.* Ніколі. *Нізаштó не сядзіць на къня.* Гарадзец.

**НІЗДАРО́ВЫ** *прым.* Нездаровы, хворы. *Я ш ніздарóвъя, і таблéткі дъстáла.* Галашчакіна.

**НІЗІ́НА** *ж.* Нізіна, нізкае месца. *У нізíне бýльба гніéць.* Гарадзец, Нямойта, Самсоны, Фасаўшчына, Чуцькі. НІЗІ́НКА *памянш.* *Нізінка тькáя, гóръчка тады́.* Вялікі Азярэцк.

**НІЗІ́ННЫ** *прым.* Нізінны. *Бяссмéртнік лю́біць, пяшчáныя і саснóвыя лясы́, а здзесь нізíнныя.* Міцюкова.

**НІ́ЗКА, НІ́СКА** *прысл.* Нізка. *Як лáстаўкі нізка лётаюць, то дождж бýдзіць* (прыкмета). Гарадзец. *Птýшкі ніска лётаюць – дождж бýдзіць* (прыкмета). Каралевічы.

**НІ́ЗКІ, НІ́СКІ** *прым.* Нізкі. *Такóя нізкае мéста, тръвá, з алéшнікам.* Гарадок. *Гарóт у мянé ніскі.* Запруддзе.

**НІЗНА́ЧНА** *прысл.* Непрыкметна, незаўважна. *У вас-та ўжэ нізнáчна* [незаўважна хвароба]. Нямойта.

**НІЗНІЦЕ́ЎКУ** *прысл.* Знянацку. *Нізніцéўку спугáў мянé.* Нямойта.

**НІЗЬ** *ж.* Нізіна. *Гарóдъм дзе ў нас нізь, там мéней жукóў.* Малы Азярэцк.

**НІК, НЫК** *выкл.* 1. Зірнуць. *Нік у акнó – ці ня йдзéць ён.* Запруддзе. 2. Выглянуць і схавацца. *З дроў – нык лáска, а мы стаім, янá назáд.* Міцюкова.

**НІКАГДА́** *прысл.* Ніколі. *Нікагдá ні сабірáю трáвы.* Запруддзе, Леснікова.

**НІКАГУ́ТКА** *займ.* Зусім нікога. *Нікагýтка ў мянé тут.* Вялікі Азярэцк.

**НІКО́ГАСЬ** *займ.* Тое ж. *Нікóгась ні быллó: ні аўтóбуса, ні трáхтара, нóшкі на плéчы і пайшлí ў Чáшнікі прадáць што.* Закур’е.

**НІКО́ГАЧКІ** *займ.* Зусім нікога. *Нікóгачкі ў мянé німá, ні бáцькі, ні мáці.* Багданава.

**НІКРАСІ́ВА** *прысл.* Нядобра. *Так нікрасíва палучáіцца ат жызні, атраўляюцца лю́дзі, німá гарэлкі, купляюць атрáву.* Чуцькі.

**НІКУ́ДЫ** *прысл.* Нікуды. *Нікýды не даéдзеш.* Закур’е.

**НІКУДЫ́ШНЫ, НІКУДЫ́ЧНЫ** *прым.* 1. Топкі, багністы. *Лес у нас нікуды́шны, ня вы́лізьці.* Баравікі. 2. Неўрадлівы. *Там жа зямля нікуды́чная.* Багданава.

**НІЛЬЗЯ́, НІЛІЗЯ́** *прысл.* 1. Нельга. *Шулупý з бýльбы нільзя́ лéтым дувáць карóві: панóсіць бýдзіць.* Чуцькі. *Кала кустóў нільзя́ цубýлю садзíць.* Запруддзе, Самсоны. 2. Забаронена, не дазваляецца. *Нілізя́ – я й ні ганю́ гарэлкі.* Багданава, Заазер’е, Міцюкова.

**НІМА́** *незак.* Няма, нямашака. *Німá камý рабóтаць, арэнду эту браць.* Буй. *Гэтыга слóва німá.* Гарадок.

**НІМА́Ш, НІМА́ШАЦЬКА, НІМА́ШАТКА** *незак.* Тое ж. *Сóвісці німáш!* Цясішча. *Кáжыць, німáшъцька сéна, быў бальнэй, то дълá і сéна.* Неўгадава. *У мянé німáшатка штук вóсім зубóў.* Апечкі, Вялікі Азярэцк, Дольдзева, Манголія, Міцюкова, Партызаны, Ульянавічы.

**НІМІРЫ́МЫ** *прым.* Непрымірымы, злы. *Былí глýпыя німіры́мыя лю́дзі: яны́ пóйдуць нъжáлуюць на цябé.* Чуцькі.

**НІМНО́ШКА** *прысл.* Крыху, мала. *Дзéрава сьцяблíстае, алé вы́сокае, гóлае уверхý, тóлькі лісьцікаў німнóшка.* Запруддзе.

**НІНА́ВІСЬ** *ж.* Нянавісць. *Нінáвісь нъ чълавéка.* Савінічы. *Чагó ў людзéй такáя нінáвісь?* Буй.

**НІНАЖО́РЛІВЫ** *прым.* Прагны. *Нінажо́рлівы ні то́лька ў ядзе́: у рабо́ці, у казьбе́.* Дольдзева.

**НІНА́СНЫ** *прым.* Пахмурны. *Ніна́сная, ня ду́жа я́ркая паго́да, мо́жа і дош бу́дзіць.* Вялікі Азярэцк.

**НІНАЧЫНА́ТЫ** *прым.* Непачаты, цэлы. *Буты́лка ма́сла ніначына́тъя стаіць.* Ульянавічы.

**НІПАЛА́ТКІ** *мн.* Непаладкі, складанасці. *На́да мушчы́нскімі штана́мі каро́вы вы́траць, калі́ ніпала́ткі.* Багданава.

**НІПА́МЯТЛІВЫ** *прым.* Са слабай памяццю. *О́лька і Кла́ўка з двъйнякоў, да вучо́бы ні ду́жа былі́, ніпа́мятлівыя.* Запруддзе.

**НІПАСЛУ́ШНІК** *м.* Неслух. *Ніпаслу́шнікі ма́льцы.* Багданава.

**НІПАТСІ́ЛЬНА** *прысл.* Непасільна, празмерна цяжка. *Дзе́ду ніпатсільна падыма́ць, дык ён пумуга́іць.* Івоні.

**НІПАЧО́М** *прысл.* Нізашто, нізавошта. *Ат каго́ Га́лка дзе́ўку знайшла́, ніпачо́м ні гаво́рыць.* Заазер'е.

**НІПІРАЛІ́ЎКІ** *мн.* Непрыемнасці, складанасці (?). *Ай, там бальшы́я ніпіралі́ўкі, наплута́лі.* Нямойта.

**НІПРА́ЎДА** *ж.* Няпраўда. *Вы́п'еш кампо́ту – як бы й ніпра́ўда, як бы й ня піў.* Галашчакіна, Кішуроўшчына, Нямойта.

**НІПУТНЫ́** *прым.* Распусны, бесталковы. *То́жа ніпутна́я дачка́.* Нямойта.

**НІРАСТАВА́ЦЬ, НАРАСТАВА́ЦЬ** *незак.* Адкладаць і апладняць ікру (пра рыб). *У Саро́* [возера на мяжы Сенненскага і Бешанковіцкага раёнаў] *выда́ хало́дныя, там ры́ба ні нірасту́йіць.* Пожанькі. *Укле́йка тры разы́ нърасту́іць.* Багданава.

**НІРА́ХЛІВЫ** *прым.* Неахайны, неакуратны. *Ніра́хлівы такі́ ты! Ну тъка́я ніра́хлівая, ні агле́дзіць съма́ сябе́ хърашо́.* Савінічы.

**НІСКЛА́ДЗІЦА** *ж.* Непаразуменне, нелады. *Як у сям'і́ йіка́я ніскла́дзіца, то ця́жка жыць.* Запруддзе.

**НІСКО́ЛЬКІ** *прысл.* Ніколькі, зусім. *У сваёй дзярэ́ўні ніско́лькі ні жыла́.* Нямойта.

**НІСМІРЫ́МАСЦЬ** *ж.* Варожасць. *Въйна́ была́, нісьміры́масць на вайне́.* Чуцькі.

**НІСПАДЗЕ́ЙНА** *прысл.* Неспадзеўкі, нечакана. *Ніспадзе́йна э́та зда́рылася.* Нямойта.

**НІСПРАВЯДЛІ́ВАСЦЬ** *ж.* Несправядлівасць. *Ні любі́ў ніспръвядлі́васці.* Кляпчэва.

**НІСХАДЗІ́МЫ** *прым.* 1. Непраходны. *Там бало́та нісхадзі́мае, а атпра́вілі дро́вы вазі́ць.* Запруддзе. 2. Несуцішны, вялікі. *Нісхадзі́мае го́ра старо́му чалаве́ку.* Дольдзева. 3. Багаты. *Нісхадзі́мы ўръджа́й, харо́шы.* Малы Азярэцк.

**НІСЯДЗЮ́ЧЫ** *прым.* Жвавы, рухавы. *Нісядзю́чыя ба́ба – чэ́цьвіра дзяце́й вы́гадавала.* Чуцькі.

**НІТАВА́ЦЬ** *незак.* Ванітаваць. *Бро́сіла яго́ нітава́ць, і жыво́т пірьста́ў.* Партызаны.

**НІ́ТКА** *ж.* 1. Нітка. *Вывя́зывалі дзі́чкі ні́ткай шурпа́тай, суравой. Ні́тка ў канца́х, у става́х, пато́м яе́ пат паро́х кла́лі.* Міцюкова. *То́нкі, як ні́тка.* Багданава, Міцюкова, Серкуці. НІ́ТАЧКА *памянш. Перавяза́ць руку́ ні́тачкай ат гале́ня, і расцяжэ́нне про́йдзя.* Фасаўшчына.

□ *Хоць ніско́ра – па ні́таццa клубо́к на́йдзіш.* Каралевічы.

**НІТУ́ТАШНІ** *прым.* Нетутэйшы. *Ён чълавек часьняцкі, нітутошні.* Партызаны.

**НІТЫ́, НІ́ЦІ** *мн.* 1. Прыстасаванне ў кроснах для падымання нітак асновы; ніт. *Кабылкі, палачкі усё ўмесца – ніт.* Вялікі Азярэцк. *Сразу ніты, патом бёрда.* Карпавічы. *Пад ніці чапаюцца пънажы.* Леснікова. 2. Ніткі. *З таго навая ніты круцяцца.* Багданава. ◊ У ВО́СЕМ НІТО́Ў [а таксама: у два, тры і г. д.; колькасць нітоў вагалася ад 2 да 16 і больш]. Спосаб ткання. *У восем нітоў ткалі.* Вялікі Азярэцк. *У пяць нітоў салфеткі ткалі.* Багданава. ◊ У НІТЫ́ (НІТ) КІ́ДАЦЬ (КІДА́ЦЬ). Працягваць ніткі асновы праз ніт. *У ніты кідаеш і ччэш.* Цясішча. *У ніт кідыць селі бабы* [кросны]. Заазер’е, Самсоны, Закур’е.

**НІЎГАМО́ННЫ** *прым.* Балбатлівы. *Такая ніўгамоннъя, можа абы-што гъварыць.* Рэчкі.

**НІЎДА́ЛЫ** *прым.* Хворы, слабы. *Такі мальчык ніўдалы радзіўся.* Алексінічы.

**НІ́ЎЕ** *н. зб.* Поле, ніва. *Ніўе, нівы – дзе пахатная зімля.* Мянюцева. *Гані, кажыць, на ніўе.* Багданава.

**НІЎЗНАЦЕ́ЙКУ** *прысл.* Непрыкметна. *А ён ніўзнацейку ныблюдаў за іймі.* Запруддзе.

**НІЎМІРУ́ШЧЫ, НЯЎМІРУ́ШЧЫ** *прым.* 1. Бессмяротны. *Душа ніўмірушчая.* Гарадзец, Ульянавічы. 2. Спрыяльны для жыцця. *Цяпер жысць няўмірушчая.* Ульянавічы.

**НІХАДЗЯ́ЧЫ** *прым.* Месца, дзе не ходзяць. *Ваду тую выліць на ніхъдзячае – што дзе ні ходзюць.* Міцюкова.

**НІХА́Й** *часц.* Няхай. *Ніхай нікому так ня будзіць, нікому ні пусулю.* Запруддзе. *Ніхай пъглідзяць нас, старых грыбоў.* Дуброўкі.

**НІХТО́** *займ.* Ніхто. *Там ніхто не жывець, памёрла баба.* Багданава, Забор’е, Запруддзе, Марозаўка, Пожанькі.

**НІЦ** *прысл.* 1. Ніц, тварам уніз. *Еслі я тока лягу ніц, назаўтра баліць спіначка, трымаць ні магу.* Запруддзе. 2. Верхняй часткай уніз. *Скавараду абярнуць ніц, будзіць раъса, каъпай, там ваъда будзіць, дзе капаюць калодзісь.* Запруддзе, Розмыслава, Фасаўшчына, Неўгадава.

**НІЦАНЁННЫ** *прым.* Вельмі паслухмяны, ласкавы. *Еслі ні спорціцца, ніцанённы дзяцёнак.* Івоні.

**НІ́ЦІКІ** *мн.* Прыстасаванне ў кроснах для падымання нітак асновы; ніты. *Нада ззаду чалавек, каб паднімаў ніцікі.* Запруддзе. *Падбіралі кросны на ніцікі розные.* Запруддзе. ◊ У НІ́ЦІКІ. Спосаб ткання. *А гэта ў ніцікі, у дваццаць пяць ніцікаў, каждый узорчык ён падвешываіць ніцікі.* Фасаўшчына.

**НІЦІ́НА** *ж.* ◊ У ВО́СЕМ НІЦІ́Н [а таксама: у дзве, тры і г. д.; колькасць *ніцін* вагалася ад 2 да 16 і больш]. Спосаб ткання. *У восем ніцін, у дзесяць ніцін ляжыць сваё.* Самсоны.

**НІЦІХАТА́** *ж.* Неспакой. *Як ікая ніціхъта ды дрэннъя служба пъпадзецца, то гора.* Запруддзе.

**НІ́ЦЫ** *прым.* Ніцы (пра лазу). *Ніцая лъза.* Каралевічы.

**НІЧАГУ́ТАЧКІ** *займ.* Нічагусенькі. *Нічагутачкі ні зрабіў, ні скрабануў, ні цісануў.* Ульянавічы.

**НІЧО́ГА, НІЧАВО́, НІЧЧАВО́** *займ.* Нічога. *Нічога нідзе ня піў.* Жохава, Кляпчэва, Партызаны. *Нічога ня чуць, нічаво.* Партызаны. *А дзед кызаў ніччаво ні дуваць.* Міцюкова, Нямойта.

**НІЧО́ГА** *прысл.* Нядрэнна, даволі добра. *Я, дзя́куй бо́гу, нічо́га.* Партызаны. *Мне нічо́га, мне пале́гчыла.* Гарадок.

**НІЧО́ГАНЬКА** *займ.* Нічагусенькі. *Нічо́гънька німа́.* Нямойта.

**НІЧО́ГАЧКА** *займ.* Тое ж. *Нічо́гачка німа́ ў магазі́не, а-ё – до́рага ўсё.* Буй.

**НІЧО́ГІ** *прым.* Прыемны, прыгожы. *Ма́тка нічо́гая, высо́кая.* Нямойта, Цясішча.

**НІЧЫ́Й** *займ.* Нічый. *Як я дажыву́ свой век, нічыё не дзе́ла.* Партызаны.

**НІШЧА́СНЫ** *прым.* Няшчасны, гаротны. *До́ля нішча́сная.* Заазер'е.

**НІШЧА́СЦЕ** *н.* Няшчасце. □ *Свайго́ нішча́сця ні канём ні аб'е́дзіш, ні пе́шкам ні абы́йдзіш.* Багданава.

**НІ́ШЧЫ** *прым.* Жабрак, старац. *Я б ні́шчъга нікъгда́ ні дары́ў, але́ ба́юся сам пайсці ні́шчым.* Каралевічы. *Ні́шчыя, ста́рцы, у ха́ту за́йдуць.* Заазер'е.

**НІШЧЫ́МНЫ** *прым.* Нішчымны, посны. *Нішчы́мны е́та суп, німа́ запра́вы у ім.* Міцюкова.

**НІЯДО́МЫ** *прым.* Неядомы, нястраўны. *Ко́ньскі шча́вель ніядо́мы, яго́ ні яду́ць.* Дольдзева.

**НІЯ́КАСНЫ** *прым.* Пахмурны. *Паго́да сянні нія́късньа – хма́ра.* Запруддзе.

**НІЯ́КІ, НІЯ́КІЙ** *займ.* 1. Ніякі, які б ні быў. *У Маскве́ ніякій грып ні прыпыда́йіць.* Латыгаль, Нямойта. 2. *прым.* Дрэнны, няўкосны. *Трава́ ў мяне́ ў са́дзе ніякая.* Дольдзева. 3. Неістотны, малы. *По́мач табе́ ат іх ніякая.* Вялікі Азярэцк, Заазер'е, Запруддзе, Каралевічы, Партызаны, Розмыслава, Ульянавічы, Фасаўшчына. 4. Слабы, хворы. *Здаро́ўе ніяко́е, ду́маю ля́гу.* Багданава. *Я ўжо ніякая.* Багданава, Гарадзец, Запруддзе, Каралевічы, Партызаны.

**НОВАМО́ДНЫ** *прым.* Новага гатунку. *Се́юць не́йкую новамо́дную бу́льбу.* Нямойта.

**НО́ВАСЦЬ, НО́ВАСЬ** *ж.* Навіна. *Е́слі до́брую но́васць – ляці́ яшчо́, а е́слі плаху́ю – адлята́й* (прыгаворка). Каралевічы. *Ці відзі́ў ты но́въсь?* Пожанькі, Сянно.

**НО́ГАЦЬ, НО́ХАЦЬ** *м.* Ногаць, пазногаць. *Як у ста́рыга но́гці зъцвіту́ць, то жджы якой-не́будзь прычы́ны* (павер'е). Нямойта. *Но́хаць ста́ла зганя́ць. Е́слі шчэ́пка пападзе́ць, то пат но́хаць.* Вялікі Азярэцк, Заазер'е, Нямойта. ◊ КАБ ДЗЕ ШТО НО́ГЦЕМ. Пра сумленнага чалавека. *Во мой, каб дзе што но́гцем – выпраўля́юць е́здзіць, сюды́ прыво́зіць, што на́да калхо́зу.* Леснікова.

**НОЖ** *м.* Нож. *Нож падлажы́ць пад ва́нку, як купа́еш дзяцёнка* (звычай) [ад сурокаў]. Багданава, Запруддзе, Каралевічы, Ракаў Засценак, Сянно. *Ат Падво́рыцы ды Рубіжа́ ні біз ныжа́!* Гарадзец. НО́ЖЫЧАК *памянш.* *Кару́ но́жычкъм з клёна як сцяѓнеш, тады́ мязгу́ гэ́тую есць ці смо́кчуць.* Багданава.

**НО́ЖНІ** *толькі мн.* Нажніцы. *Но́жні ма́хінькія ёсь, няго́ш!* Турава.

**НО́ЗДРЫ** *мн.*, **НАЗДРА́** *ж.* 1. Ноздры. *Раз воўк ухваціў жарабёначка за но́здры, той прапа́ў.* Багданава, Міцюкова, Партызаны. *Абы́ прасты́ну, то з наздры́ аннэ́й кроў пальє́цца.* Неўгадава. 2. Пра поры ў хлебе. *Як падо́йдзіць хлеб, бу́льбы спа́рыш, патаўчэ́ш, здзе́лаецца наздра́мі.* Запруддзе.

**НО́РМА** *ж.* Норма. *Но́рмаў ні было́.* Нямойта.

**НОС** *м.* 1. Нос. *Нос кра́сны, як папо́ўскыя куўбыса́.* Гарадзец. 2. Закруглены патоўшчаны канец якой-н. прылады. *Спіцакі́ такія с тупы́м насо́м.* Нямойта. НО́СІК *памянш.* Завостраны кончык. *Но́сік і жо́пка ў яйцы́.* Багданава, Гарадзец,

Розмыслава. ◊ ѐсці АЖ НОС УПЛІТА́ЕЦЦА. З вялікім апетытам, задавальненнем (есці). *Ядзім апе́нкі аж нос уплітáецца.* Міцюкова. ◊ АЖ НОС УПРЫСЯ́ТКІ СКА́ЧЫЦЬ. Тое ж. *Такія праснакі смáшныя ясі аш нос упрыся́ткі скáчыць.* Серкуці. ◊ п'ець АЖ НОС УГІБА́ЕЦЦА. Тое ж. *А сам п'ець аж нос угібáецца.* Ульянавічы. ◊ НІ ТВАЙГО́ НО́СА ПАЛО́СА. Не твая справа, не для цябе. Серкуці. ◊ БЫЦЬ З НО́САМ. Мець чуццё, прадчуваць. *Каб вы з нóсам былі, не дайшлі.* Кляпчэва. ◊ НОС У НОС. Вельмі блізка адзін да аднаго. *Я радóўку пáсцівыў і нос у нос найшóў, як змія апарáшылася.* Алексінічы.

□ *Берагі нос у вялікі марóс.* Кляпчэва. □ *Твой нос чорт тром нёс, а ты адзін ухваціў.* Нямойта, Серкуці, Сянно, Ульянавічы.

**НО́ТНА** *прысл.* Нудна, запаволена. *Зяць нóтна гавóрыць, чалавéк, як бы сілы нет.* Жохава.

**НО́ТНЫ** *прым.* 1. Капрызны, з характарам. *Янá дýжа нóтная бáба.* Запруддзе. 2. Балаўны, распусны. *Яé дачкá такá нóтная, бáльваная.* Вялікі Азярэцк.

**НОЎ** *ж.* 1. Новы ўраджай. *Рáна пякý бліны́ – прыбéгла: «Дай карзінку бýльбы да нóві».* Міцюкова. 2. Новы матэрыял. *Куплялі з нáві, як нóвыя былá* [хата]. Чуцькі.

**НОЧ** *ж.* Ноч. *Начы́ длінныя, усё пірадýмаеш. Як пóйдзіш, з начы́ інá вадóй заліта.* Гарадзец. *Куды́ ноч, туды сон проч* [3 разы] *і плюнуць на шчэ́лку. Як шчэ́лкі не зрасціся, так дурнóму сну не спрáўдзіцца* (з замовы). Заазер'е, Каралевічы, Міцюкова, Чуцькі. НО́ЧКА *ласк.* Міцюкова, Гарадзец.

□ *Зімняя нóчка – дзéткам сарóчка.* Гарадзец.

**НО́ЧЧЫ** *прысл.* Ноччу, уначы. *Нóччы пакóрміць дзіця́, і тóе спіць.* Закур'е, Багданава, Буй, Леснікова, Машчоны, Нямойта, Цясішча.

**НО́ШКА** *ж.* Ноша, абярэмак. *Насілі на плячáх нóшкі па пýду і бóлей. Нóшкамі вынóсюць сéна на сухóе: такóе балóта былó.* Гарадзец, Заазер'е, Кішуроўшчына, Леснікі, Савінічы, Сукрэмна, Партызаны, Чуцькі. НО́ШАЧКА *памянш.* *І бярэ́ш так, ні абы́ нóшачка, а каб больш.* Леснікова.

**НРА́ВІЦЦА** *незак.* Падабацца. *Мне нрáвіцца гóлас мой.* Кляпчэва.

**НРАЎ** *м.* ◊ ПА НРАВУ. Да душы, даспадобы. *Не па нрáву нявéста.* Партызаны.

**НУ** 1. *часц.* Ну. *Мáма, ну, я цябé ня кіну.* Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Дольдзева, Каралевічы, Сукрэмна. 2. *злучн.* Але. *Пуддобóвік ядóмый грыб, ну нікáчыствінный.* Дольдзева. *Кóзы ёсь, ну мáла.* Марозаўка.

**НУДА́** *ж.* Галеча, безвыходнае становішча. *Карóста былá, у вайнý і ні мы́ўшыся, і ні пірадзявáўшы, ад нуды́.* Жохава.

**НУДЗІ́ЦЦА** *незак.* Нудзіцца, сумаваць. *Я нуджýся, калі што ня рóблю.* Вялікі Азярэцк, Заазер'е.

**НУДО́ТА** *ж.* Нуда, маркота. *Мóжэць мая́ нудóта мянé шукáець далёка.* Парэчча.

**НУ́ЖГАЦЬ** *незак.* Прымушаць. *А каб так нýжгалі, нýжгалі, а мáткапакóйніца ні пусціла у шкóлу.* Багданава.

**НУЖДА́** *ж.* 1. Патрэба, неабходнасць. *Хьця́ бы па нуждзé калі зьéзьдзіць.* Малы Азярэцк. 2. Галеча, безвыходнае становішча. *Ат нужды́ – бáнькі ні былó – ня мы́ліся, дык былó і карóсты, і блох былó.* Марозаўка.

**НУЖДА́** *ж.* Дробныя цвёрдыя часткі пяра. *А у ім, у пéр'і, нужды́ éтай, пільшчыкаў, цубукі éтыя.* Багданава.

**НУЖДА́** *агульн.* Крыўдлівы чалавек. *А як хто нъ каго́ се́рдзіцца, ска́жуць: «Во, нужда́ ты, нужда́!»* Багданава.

**НУЖДЖО́НЫ** *прым.* Змучаны, змарнелы. *Ён такі нуждждо́ны, західлы къцянёнак.* Багданава.

**НУЖУВА́ЦЬ** *незак.* Нажываць, набываць. *Ха́ту купілі і ста́лі нужува́ць усё.* Цясішча.

**НУТРА́** *ж.* Нутро, унутраныя органы. *Мая́ нутра́ здаро́вая, як конь.* Нямойта, Канева, Чуцькі. *Маі нутра́ здаро́вые, крэ́пкія.* Вялікі Азярэцк, Нямойта, Закур'е.

**НУТРАНЫ́** *прым.* Тое ж. *Па нутраны́м маё здаро́ўе до́брае.* Нямойта, Турава.

**НЫ́РКНУЦЬ** *зак.* 1. Нырнуць. *Ма́ма! Бабра́ відзелі, ны́ркнуў і ўсё.* Нямойта. 2. Паказацца і зноў знікнуць. *Пірьбіга́ла ла́ска ву́ліцу, паглядзіць, наза́т ны́ркнець.* Міцюкова. НЫРК. Хуценька нырнуць. *Хло́пец нырк пад яго́, мой уну́к і спу́жаўся.* Багданава.

**НЫЦЬ** *незак.* Ныць. *Ны́іць, вы́шла, арці́стка* [на капрызнае дзіця]. Запруддзе.

**НЮ́ХАЦЬ** *незак.* Нюхаць, удыхаць. *Не куры́ў, а то́лькі ню́хаў.* Каралевічы. НЮХ. Прынюхвацца. *Бало́та, кaʼна́ў мно́га, паъста́ўлю жаʼраʼбка́, ён хо́дзіць, як німа́ мяне́ – нюх, нюх.* Запруддзе.

**НЮ́ХАЧКА, НЮ́ШАЧКА** *ж.* Каціная мордачка. *Ко́шка сбро́сіла каця́т, я адно́ падабра́ла, ню́хачкай к малаку́, так і вы́хадзіла яго́.* Станюкі. *На фе́рме акаці́лася ко́шка. Гэ́ты ко́цік радзі́ўся і аста́ўся адзін. Я карміла: па́ліц пьмакну́ і к ню́шачцы, ён ліжыць.* Станюкі.

**НЮ́ШКА** *ж.* Мыса, пыса. *Ню́шка ў каро́вы.* Парэчча.

**НЮШО́К** *м.* Панюшка, драбок. *Нюшо́к тьбаку́ – тро́хі так у па́льцах.* Фасаўшчына.

**НЯБІ́ТЫ** *дзеепрым.* Няколаты, нясечаны. *Ге́тыя дро́вы нябі́тыя – вазёнак бяро́зы прывёз.* Нямойта.

**НЯБО́СЬ** *часц.* Нябось, відаць. *Нябо́сь пало́ла ў гаро́дзе.* Партызаны.

**НЯБО́ШЧЫК** *м.* Нябожчык. *Нябо́шчык сні́цца, като́ры – дрэ́нна, а като́ры прыя́іць, а бальшынство́ – да паго́ды.* Ракаў Засценак.

**НЯБО́ШЧЫЦА** *ж.* Нябожчыца. *І Мілля́ніха нябо́шчыца, ужо́ памёрла, рай ім там све́тлы.* Запруддзе.

**НЯВЕ́ДАМА** *прысл.* Невядома. *Снех вы́пъдзіць, а тады́ няве́дъма дзе дзе́ніцца.* Кішуроўшчына.

**НЯВЕ́СТКА, НІВЕ́СТКА** *ж.* 1. Жонка сына. *Ну, гэ́та мяне́ няве́стка вадзі́ла.* Каралевічы. 2. Жонка брата. *Я залбу́ка ей, а іна́ ніве́стка.* Міцюкова.

□ *Матра́с (сянні́к) не паду́шка, няве́стка не дачу́шка.* Каралевічы, Гарадзец, Дольдзева, Заазер'е, Запруддзе, Нямойта, Савінічы. □ *Сын – свой рабёнак, а няве́стка – чужа́я ко́стка.* Партызаны.

**НЯВО́ЛЬНАЯ** *прым.* Цяжарная. *Ой, няво́льная, бярэ́мінная, у палажэ́нні – гавары́лі на жэ́ншчыну.* Савінічы.

**НЯГЕ́ГЛІЦА** *агульн. эмац.-ацэн.* Слабы, хілы чалавек. *Во нягеглі́ца!* Манголія.

**НЯҐЕ́ҐЛЫ** *прым.* Тое ж. *Цяпе́р ужо́ няґе́ґлыя ста́лі лю́дзі, сла́быя.* Манголія, Савінічы, Ульянавічы.

**НЯГО́Д** *м.* Нягода, непагадзь. *Як нягбд – не заро́дзяць гуркі.* Вялікі Азярэцк.

**НЯГО́ДНІК** *м.* Нягоднік. *Нягóднік ты!* Савінічы.

**НЯГО́ДНЫ, НІГО́ДНЫ** *прым.* 1. Няздатны, няўмелы. *Нікýды нягóдны: ні к чóрту, ні к бóгу.* Партызаны, Карпавічы, Дуброўкі, Неўгадава. 2. Непрыдатны, непрыгодны. *Зацвілá крапíва, янá ужó нігóдная.* Заазер'е.

**НЯГО́Ж, НЯГО́** *часц.* 1. Няўжо, хіба. *Нягó ты рабóты ні нáйдзіш?* Чуцькі. 2. Так. *А нягóж, па я́гады хóдзюць.* Багданава, Заазер'е, Закур'е.

**НЯГО́ЖЫ** *прым.* Слабы, нямоглы. *Мы ўжо нягóжыя лю́дзі, стáръя.* Чуцькі.

**НЯГО́ЖЫЦЬКА** *часц.* Так, сапраўды. *А нягóжыцька, мы тыптáлісі дóўга там.* Вялікі Азярэцк.

**НЯДЗЕ́ЛЯ** *ж.* Нядзеля; сёмы дзень тыдня. *Калí ўвíдзіш сон у нядзéлю, то да абéда спрáвіцца, скóра спóлніцца* (павер'е). Багданава, Дольдзева, Івоні, Сукрэмна, Сянно.

**НЯДЗЕ́ЛЯ** *ж.* Тыдзень. *Ён бáню тапíў разы́ тры на нядзéлі.* Багданава, Кішуроўшчына.

**НЯДУ́ЖЫ** *прым.* Нядужы, слабы. *Нядýжы ўжо, здарóўя нет.* Багданава.

**НЯЖЫ́ЛЫ** *прым.* Нежылы, пусты. *Тут хат мнóга стаíць няжы́лых, няжы́лыя стая́ць.* Запруддзе.

**НЯКО́ЗНАЯ** *прым.* Някотная. *Лéтась не кацíлася късá, былá някóзная.* Багданава.

**НЯКО́РМНЫ** *прым.* Той, якога пакідаюць на адкорм (пра свіней). *Надвóрны – які някóрмны, астаўля́юць да другóга гóда.* Гарадзец.

**НЯКРЭ́ПКА** *прысл.* Нямоцна, слаба. *Ну, éта някрéпка, прóста так, прімéрна, б'юць вярбóй.* Самсоны.

**НЯКШЧО́НЫ** *дзеепрым.* Няхрышчаны. *Някшчóных дзяцéй хъранілі нъ крáйчыку, на бірагý клáдзбішч.* Партызаны. *Як някшчóнае дзіця́, так кáжыцца плахíм дýхам пáхніць.* Гарадзец.

**НЯЛЕ́ХЧАНЫ, НІЛІХЧА́НЫ** *дзеепрым.* Непакладаны, некастрыраваны. *Жарэ́пчыку два гады́ – нялéхчаны, а ліхчáны – кóнік. Ён жа кнóразъм, ён ніліхчáны.* Нямойта.

**НЯЛЮ́БА** *прысл.* 1. Не даспадобы. *Нялю́ба мне, як ён так гавóрыць.* Чуцькі. 2. Непрыемна, непрыгожа; агідна. *Дýжа нялю́ба, як бáба вы́п'ець.* Багданава.

**НЯЛЮ́ЦКІ** *прым.* Непрыгожы. *Малы́я нялю́цкія, а як вы́растуць, мáльцы што нáда.* Партызаны. ◊ СЕМ РАС НЯЛЮ́ЦКІ. Вельмі непрыгожы. *Ён быў сем рас нялю́цкі, нікрасíвы, а йна к ямý пъткацíлыся.* Баравікі.

**НЯМЕ́ЦКІ** *прым.* Нямецкі. *Быў гарнізóн нямéцкі.* Гарадзец.

**НЯМНО́ЖКА** *прысл.* Трошкі, крышку. *Шэ́йсят кіламéтраў ат нас – нямнóжка разгавóр атлічáецца.* Закур'е.

**НЯМО́ГЛЫ** *прым.* Нямоглы, хворы. *Нямóглая ў ягó жóнка.* Партызаны.

**НЯМО́ЖНА** *прысл.* Нельга, немагчыма. *Дрóвы нямóжна былó рэ́заць.* Буй, Багданава, Гарадзец, Заазер'е, Манголія, Мянюцева, Нямойта, Фасаўшчына.

**НЯМТУ́Р** *м.* Нямы, нямко. *Як нямтýр скáжуць на тагó, хто саўсíм ні гавóрыць.* Фасаўшчына.

**НЯМЫ́, НЕ́МЫЙ** *прым.* Тое ж. *У мянé цёця былá німáя.* Нямойта. *Быў чалавéк нéмый і глухéй, глуханямэ́й.* Самсоны.

**НЯ́НЬЧЫЦЬ** *незак.* Няньчыць. *Дзяцéй у іх ня́ньчыла гады́ чаты́ры.* Нямойта.

**НЯПА́МЯТЛІВЫ** *прым.* Забыўчывы. *Ці яны́ няпáмятлівыя?* Запруддзе.

**НЯПЕ́ЎНЫ** *прым.* 1. Неаплоднены. *Няпе́ўныя я́йцы, пасо́дзіш на ціпля́т, а яно́, ка́жуць, свежакі́. Калі́ пяту́х куре́й не пато́пчыць, я́йцы бу́дуць няпе́ўныя.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Каралевічы. 2. Пусты ўнутры. *Няпе́ўны ячме́нь, як змыва́еш – па ве́рху, пе́ўны – па дне.* Чуцькі.

**НЯПЛО́ДНЫ** *прым.* Няплодны, які не дае патомства. *У раі́ няпло́дная ма́тка.* Запруддзе.

**НЯПО́ЎНА** *прысл.* Незапоўнена да краёў. *І намётку атдае́ш с хле́бам, тады́ атчыня́іш ку́біл, ці по́ўна ці няпо́ўна.* Багданава.

**НЯП'Ю́ШЧЫ** *прым.* Непітушчы, які не п'е. *Хто няп'ю́шчы, той ня йдзецъ на вясе́лле.* Партызаны.

**НЯРО́ДНЫ** *прым.* Няродны, які не знаходзіцца ў кроўным сваяцтве. *Ба́цька няро́днай быў.* Сукрэмна.

**НЯРО́ЎНА** *прысл.* 1. Непадобна, адрозна. *Э́та ш няро́ўна, што ра́ньшы было́, што ціпе́р.* Каралі. 2. Неаднолькава, па-рознаму. *Няро́ўна гаво́руць.* Дольдзева, Рэчкі.

**НЯРЭ́ТКА** *прысл.* Густа. *Заме́шваць на́да нярэ́тка.* Карпавічы.

**НЯСУ́ШКА** *ж.* Курыца-нясушка. *Като́ра нясе́цца харашо́, то нясу́шка заву́ць.* Вялікі Азярэцк.

**НЯЎГО́ДНАСЦЬ** *ж.* Нязгода, разлад. *З няве́сткай ду́жа ў няўго́днасці жыла́.* Нямойта.

**НЯЎДО́Б'Е, НЯЎДО́БІЕ** *н.* Няворная зямля, няўдобіца. *Тут няўдо́б'і ў нас.* Багданава. *У яго́ было́ пяць дзесяці́н зямлі́ і сем няўдо́бій.* Багданава, Кляпчэва, Парэчча, Неўгадава.

**НЯЎДО́БІЦА** *ж.* Няўдобіца. *Няўдо́біца была́ зімля́, пустава́ла.* Манголія.

**НЯЎДО́БКА** *прысл.* Нязручна. *Няўдо́бка так піса́ць, там тро́шкі прыпе́рціся – і то до́бра.* Вялікі Азярэцк.

**НЯЎЖЫ́ЎЧЫВАСЦЬ** *ж.* Немагчымасць сумеснага жыцця. *Палучы́лася няўжы́ўчывасць уме́сце.* Нямойта.

**НЯЎКУ́СНЫ** *прым.* Нясмачны. *Барбары́с няўку́сны кампо́ты ста́віць.* Апечкі.

**НЯЎМЕ́КА** *агульн.* Няўмека. *Няўме́ка ён, э́та ня ўме́іць, ня зна́іць.* Заазер'е, Савінічы.

□ *Як із дзяжы́ пацячэ́ць, і няўме́ка спячэ́ць.* Вялікі Азярэцк.

**НЯЎМЫ́СЛЯ** *прысл.* Ненаўмысна, выпадкова. *Маё ружжо́ і я няўмы́сля вы́страліў.* Запруддзе.

**НЯЎРО́ДНЫ** *прым.* Неўрадлівы. *Там была́ ў Чарто́ўшчыні няўро́дныя зімля́.* Рассвет.

**НЯЎРО́КАМ, НІЎРО́КАМ** *прысл.* Каб не сурочыць. *Цэ́лая па́сіка тут, няўро́кам сказа́ць.* Нямойта. *Каб ніўро́кам сказа́ць, смаля́нак сёлета німа́.* Партызаны.

**НЯЎСЕ́ТЧЫВЫ** *прым.* Няўседлівы, жвавы, рухавы. *Хто няўсе́тчывы, на адны́м ме́сці ні сядзі́ць.* Ульянавічы.

**НЯЎСТО́ЙЧЫВЫ** *прым.* Падатлівы, які лёгка паддаецца ўздзеянню. *Маладзёш няўсто́йчыва.* Жохава.

**НЯХІ́ТРЫ** *прым.* Бясхітрасны. *Няхі́тры, душо́ю каля цябе́.* Вялікі Азярэцк.

**НЯХЛЮ́ЙДА** *агульн.* Няўклюда, мурза, неахайны чалавек. *Гразну́ха, няхлю́йда ска́жуць.* Багданава.

**НЯХО́ТА** *прысл.* Неахвота, не хочацца. *Няхо́та надзява́ць шэ́рстную ху́стку.* Нямойта.

# О

**О́ГЛУМ** *м.* Стан авечкі пасля ўкусу авадня. *О́глум у аве́чкі.* Сянно.

**ОГО́** *выкл.* Вокліч для перадачы захаплення, здзіўлення; ого. *Аго́, там лясы́ бальшэ́я!* Сукрэмна.

**О-Ё** *выкл.* Вокліч для перадачы болю, смутку, здзіўлення. *О-ё, пла́чу іду́.* Серкуці.

**ОЙ** *выкл.* Вокліч для перадачы захаплення, радасці, адабрэння; вой. *Ой, сабіра́ліся ўдзень і ба́бы. Сабіра́юцца ў адну́ ха́ту. Ой, пяю́ць! Ой, Ду́нька, ты до́бра сдзе́лъла.* Нямойта.

**ОЙ-Ё** *выкл.* Вокліч для перадачы болю, смутку, здзіўлення. *Ой-ё, На́дзя накла́ла ру́кі на сябе́.* Нямойта, Багданава.

**О́ЙКНУЦЬ** *зак.* Войкнуць. *Ай, о́йкнуў ноч ся́нні.* Запруддзе.

**О́КАЛ** *прысл.* Навокал. *Каб зямлю́ о́кал капа́ла.* Дольдзева.

**О́КАРАК** *м.* Кумпяк. *О́кърък – е́та кунпя́к за́дні.* Багданава. *О́карак капця́ць са́мі ў сваёй ба́ні.* Вялікі Азярэцк.

**О́ЛЬХА** *ж.* Вольха. *Пад о́льхай не бу́дзе гры́ба.* Парэчча.

**О́ПІСЬ** *м.* Вопіс. *Па́ўла о́пісі здзе́лаў на нало́х у Беля́ева, а сын вы́рас і атамсціў.* Серкуці.

**О́ПУХ** *м.* Пухліна. *О́пух сы́йдзіць.* Багданава.

**ОХ-ОХ-ОХ** *выкл.* Перадача гукаў гудзення, зумкання пчалінай маткі. *Адна́ ма́тка – ках-ках-ках, друга́я – ох-ох-ох.* Кляпчэва.

**О́ХРА** *ж.* Вохра (прыродная фарба). *На по́лі о́хра ёсь. Мы тэй зямлёй бялі́лі, іна́ любо́га цве́та.* Фасаўшчына. *Шкапы́ о́храй кра́сілі.* Фасаўшчына.

**О́ХТЫ МНЕ** *выкл.* Авохці, вохці. *О́хты мне – як замо́рыцца!* Нямойта.

